ЛЕТАПІСЕЦ НАРОДНАГА ЛЁСУ

Уладзімір Караткевіч — адна з самых яркіх постацяў беларускай літаратуры XX стагоддзя. Ён плённа працаваў як паэт, празаік, драматург, публіцыст, літаратурны крытык, перакладчык і кінасцэнарыст.

Асаблівая заслуга У. Караткевіча перад беларускай літаратурай у распрацоўцы гістарычнай тэматыкі. Пісьменнік узняў шырокія пласты нацыянальнай гісторыі, перадаў дух мінулых эпох, стварыў адметныя характары, раскрыў багаты духоўны свет сваіх герояў і звязаў іх асабісты лёс з лёсам народным. У Беларусі ён выканаў тую гістарычную місію, што В. Скот у Англіі, Г. Сянкевіч у Польшчы, А. Ірасек у Чэхіі.

У. Караткевіч шмат зрабіў для развіцця адраджэнцкіх ідэй, для абуджэння нацыянальнай свядомасці беларусаў. Яго творчасць вызначаецца рамантычнай акрыленасцю, высокай мастацкай культурай, патрыятычным пафасам, значнай пазнавальнасцю і гуманістычным гучаннем.

Нарадзіўся Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч 26 лістапада 1930 года ў Оршы. Бацька Сямён Цімафеевіч працаваў інспектарам па бюджэце ў Аршанскім фінансавым аддзеле. Маці Надзея Васільеўна скончыла Марыінскую гімназію ў Магілёве, некаторы час працавала вясковай настаўніцай каля Рагачова. Бацька цудоўна спяваў, маці добра ведала сусветную культуру. Людзьмі спявучымі, вельмі музычнымі, з апавядальным талентам былі многія сваякі. Яго продкі — шляхецкага роду, паходзяць з беларускага Прыдняпроўя.

Чытаць навучыўся ў тры з паловаю гады, а пісаць трохі пазней. Ствараць вершы пачаў гадоў у шэсць. Потым спрабаваў пісаць апавяданні, якія сам жа ілюстраваў. Быў ад прыроды адораны, добра маляваў, меў абсалютны музычны слых.

У маленстве моцнае ўздзеянне на хлопчыка зрабіў дзед, матчын бацька Васіль Юллянавіч Грынкевіч. Ад дзеда ён палюбіў прыроду, гісторыю і вандраванні,быў зачараваны пачутымі ад яго легендамі пра Крычаўскае паўстанне 1743 – 1744 гадоў, пра вужыную каралеву, пра Яна Прыгожага і князя Ладымера, пра лебядзіны скіт, пра явар і каліну — мужа і жонку, пра звон, які патануў, пра горад на дне возера

і шмат пра што іншае. Гэтыя апавяданні сталі крыніцай для многіх твораў пісьменніка.

Падчас вайны знаходзіўся ў Маскве, на Разаншчыне, у наваколлі Кунгура на Урале, у Арэнбургу і Кіеве. Пасля вайны вярнуўся ў Оршу, змясціў на старонках школьнага рукапіснага часопіса «Званочак» некаторыя свае вершы, а таксама прыгодніцкую аповесць «Загадка Неферціці», напісаў шэраг апавяданняў і артыкулаў.

Важным этапам у жыцці У. Караткевіча стала вучоба ў 1949–1954 гады на філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта. Для яго гэта быў час пошукаў і станаўлення як асобы і творцы. Летам 1950 года напісаў у Оршы першы варыянт аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». 29 ліпеня 1951 года ў аршанскай раённай газеце «Ленінскі прызыў» былі надрукаваны яго вершы «Здесь будет канал» і «Якубу Коласу» (адпаведна на рускай і беларускай мовах). Ужо на пачатку творчага шляху У. Караткевіч звярнуўся да мінуўшчыны і фальклору, што выявілася ў казках «Лебядзіны скіт», «Вужыная каралева», «Казка пра Пятра-разбойніка», «Надзвычайная котка» (пазнейшая назва «Чортаў скарб»), вершах «Машэка», «Якуб Ваўкалака», апавяданні «Паляшук», якія пад назвай «Казкі і легенды маёй Радзімы» даслаў летам 1952 года на ацэнку Якубу Коласу. Тады ж напісаў некалькі цікавых навуковых даследаванняў, збіраўся стаць літаратуразнаўцам.

У 1954–1956 гады працаваў настаўнікам у вёсцы Лесавічы Таращанскага раёна Кіеўскай вобласці. Вясной 1955 года здаў экзамены кандыдацкага мінімуму і, як згадаў пазней у аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў» (1964), «пачаў быў пісаць дысертацыю пра паўстанне 1863 г. ва ўсходнеславянскіх і польскай літаратурах, але прыйшлі іншыя інтарэсы: з'явілася задумка аб рамане на тую самую тэму».

Пераломны для У. Караткевіча стаў 1955 год, калі ў часопісе «Полымя» (№ 7) быў надрукаваны яго верш «Машэка», а ў кнізе «Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта» змешчаны нарыс «Вязынка».

Гэтыя публікацыі акрылілі маладога творцу. Яго заўважылі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. У верасні 1955 года ўдзельнічаў у Шостай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у Мінску, дзе высока ацанілі яго вершы. У. Караткевіч выношваў значныя творчыя задумы. Марыў напісаць творы, якія склалі б сто тамоў. Сярод іх павінны былі быць і цыкл невялікіх аповесцяў пра гісторыю беларускай шляхты, і эпапея «Век» з пятнаццаці раманаў, якая павінна была ахапіць гісторыю Беларусі з 1860 года да сучасных яму дзён. І многае, што задумаў у юнацкія гады, пісьменнік здзейсніў.

Натхнёна і плённа працаваў У. Караткевіч у другой палове 50-х гадоў. Знаходзіў час для творчасці ў 1956–1958 гады, калі настаўнічаў у 8-й школе Оршы. У сакавіку 1957 года закончыў п'есу «Млын на Сініх Вірах» (пастаўлена на Беларускім тэлебачанні у 1959 годзе), у канцы мая — аповесць «У снягах драмае вясна», надрукаваў у перыёдыцы

шматлікія вершы. У 1958 годзе выдаў зборнік вершаў «Матчына душа», закончыў аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Цыганскі кароль», напісаў шмат вершаў і апавяданняў.

У 1958–1960 гады, падчас вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, напісаў кнігу паэзіі «Вячэрнія ветразі» (1960), некалькі апавяданняў і аповесць «Сівая легенда». Разам з напісанай раней аповесцю «Цыганскі кароль» гэтыя празаічныя творы склалі трэцюю яго кнігу «Блакіт і золата дня» (1961). У Маскве быў задуманы раман «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»). На Вышэйшых літаратурных курсах захапіўся кіно. Пачаў працаваць над сцэнарыямі. У 1960–1962 гады вучыўся ў Маскве на Вышэйшых сцэнарных курсах. Масква, як і Кіеў, істотна паўплывала на фармаванне У. Караткевіча як асобы і мастака. У 1963 годзе пераязджае на сталае жыхарства ў Мінск.

У. Караткевіч прыйшоў у літаратуру ў другой палове 50-х — пачатку 60-х гадоў, у спрыяльны час, на хвалі грамадскага абнаўлення, выкліканага так званай хрушчоўскай адлігай. Ён арганічна засвоіў вопыт беларускай і сусветнай культур. І змог сказаць сваё, адметнае слова, істотна ўзбагаціў беларускую літаратуру ў ідэйна-тэматычных і жанрава-стылёвых адносінах, напоўніў яе інтэлектуальным і філасофскім зместам. Меў энцыклапедычныя веды, быў таленавітым мастаком, цудоўным спеваком, выдатным апавядальнікам, здольным артыстам, нястомным вандроўнікам. Моцна любіў Беларусь.

Першыя друкаваныя вершы У. Караткевіча заўважыла і высока ацаніла крытыка. Былі, праўда, і нападкі. Напрыклад, у шэрагу матэрыялаў, змешчаных у 1957 годзе ў аршанскай газеце «Ленінскі прызыў», яго вершы асуджаліся, асабліва за гістарычную тэму.

Як значную падзею ў тагачасным літаратурным жыцці крытыка ацаніла выхад зборніка «Матчына душа», адзначыла талент, самабытнасць і арыгінальнасць паэта, непаўторнасць яго стылю. Праўда, дакарала за кніжнасць, ускладненасць, захапленне гістарычнай тэматыкай і недастатковую ўвагу да сучаснасці.

Раннія вершы У. Караткевіча вызначаліся моцным патрыятычным пафасам, сувяззю з народнай творчасцю і гісторыяй, спалучэннем эпічнасці, баладнасці з эмацыянальнасцю і лірызмам («Машэка», «Балада пра паўстанца Ваўкалаку», «Заяц варыць піва», «Калумбы зямлі нязнаемай», «Матчына душа», «Паўлюк Багрым»). Паэт жыў думкай пра непарыўную повязь уласнага лёсу з лёсам Беларусі. Для яго, ужо на пачатку творчага шляху, характэрнымі былі такія вызначэнні, як «мой чароўны беларускі край, Бацькаўшчына светлая мая!», такія сцвярджэнні, як «ўсе шляхі прыводзяць не да Рыма, а да родных вербаў і бяроз». Найвышэйшае прызначэнне і абавязак чалавека і мастака ён бачыў у служэнні роднай зямлі. У вершы «Матчына душа» сцвярджаў, што праз казкі, легенды і паданні павінен перадаць «барацьбу і пакуты народа, неўміручую душу яго». У вершы «Паўлюк Багрым» развагі пра

трагічны лёс паэта напаўняў эмацыянальнымі зваротамі да Беларусі, думкамі пра яе гістарычныя шляхі, заклікам да яе абуджэння і волі.

Паэзія У. Караткевіча 50-х гадоў гучала па-маладому шчыра і эмацыянальна. Яна вызначалася эпічным спакоем і ўнутранай напружанасцю. Журботныя і трагічныя матывы яго лірыкі ўраўнаважваліся светлымі і чыстымі пачуццямі, выклiканымі любоўю да Бацькаўшчыны, захапленнем яе прыгажосцю, верай у яе лепшую будучыню. Аптымістычны, жыццесцвярджальны пафас надаваў асаблівую чароўнасць яго вершам. У творчасці паэта спалучаліся баладнасць, жартоўнасць, дакладнасць, яскравасць малюнкаў навакольнага свету і казачнасць, умоўна-фантастычная вобразнасць. Ён перадаваў самыя тонкія адценні душэўнага стану лірычнага героя, поўніўся пантэістычнай еднасцю з прыродай, абапіраўся на літаратурны вопыт, звяртаўся да набыткаў фальклору і міфалогіі, пісаў вершы заглыблена-філасафічныя, патрыятычныя, інтымныя.

У. Караткевіч часта звяртаўся ў паэзіі да сусветна вядомых твораў жывапісу, музыкі, дойлідства, да біблейскіх і антычных сюжэтаў, вобразаў і матываў («Дзіва на Нерлі», «Прарок Геронім Босх», «Самсон»). Праецыруючы іх на беларускі культурна-духоўны фон («Трызненне мужыцкага Брэйгеля»), выяўляў уласныя глыбока патрыятычныя і гуманістычныя пачуцці.

У 1969 годзе У. Караткевіч выдаў арыгінальны зборнік паэзіі «Мая Іліяда». Прыкметнай з’явай у беларускай літаратуры стала і апошняя кніга паэта «Быў. Ёсць. Буду», якая выйшла ў 1986 годзе пасля яго смерці (памёр 25 ліпеня 1984 года). У. Караткевіч — яркі і таленавіты беларускі паэт. Яго паэзіі 60–70-х і апошніх гадоў жыцця ўласцівы рамантычная ўзнёсласць і грамадзянская страснасць, асацыятыўная вобразнасць і глыбіня зместу, пранікнёны лірызм і філасафічнасць, патрыятычнае гучанне і гуманістычная скіраванасць.

Патрыятычным пафасам прасякнуты вершы «Скарына пакідае радзіму», «Нявесце Каліноўскага», «Багдановічу». Канкрэтныя гістарычныя асобы ў Караткевіча — змагары і пакутнікі за народнае шчасце, асобы выключныя і незвычайныя. Яны мужныя, любяць свабоду, непрымірымыя да зла, прыгнёту і дэспатызму. У вершы «Багдановічу» паэт сцвярджаў:

Бо як ёсць у народа такія —
Не загіне давеку народ.

Арыгінальна асэнсаваў біблейскі вобраз у «Баладзе аб трыццаць першым сярэбраніку». Высокую культуру мыслення, арыгінальны падыход паэта да твора мастацтва, яго ўменне засяродзіцца на ўсеагульным і адначасова зямным, натуральным, чалавечным у чалавеку выявіў верш «Безгаловая Венера». У вершы «Таўры» ён як «паэт з беларускіх узгоркаў сініх» задумаўся над уласным лёсам, над будучыняй свайго народа і ўвогуле над будучыняй чалавецтва.

Патэтычна і ўрачыста выявіў паэт гонар за сваю зямлю і яе людзей у вершы «Беларуская песня»:

> Дзе мой край?
> Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
> Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
> Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
> А мужчыны, як скалы,— ударыш, і зломіцца меч.

Непаўторна раскрыўся У. Караткевіч у інтымнай лірыцы. Паэт пісаў пра неўміручасць, веліч, таямніцу і загадку кахання. Лірычны герой вершаў У. Караткевіча — маральны максіміліст, асоба інтэлектуальна і духоўна багатая. Калі ён кахае, то шчыра, адкрыта і ўсёй душою. У выніку часта страчваецца гармонія паміж думкай і пачуццём, паміж рэальным светам і светам яго фантазіі. Рамантычны характар мыслення ўзмацняў драматычнае гучанне многіх вершаў.

У. Караткевіч звяртаўся да рамантычнай паэтыкі з яе павышанай экспрэсіўнасцю, напружанасцю, яркасцю і кантрастнасцю вобразаў, выкарыстоўваў сілаба-танічныя і танічныя памеры. З гадамі яго верш набываў філасофскі характар.

Маральна-філасофскі роздум паэта пра сэнс людскога існавання, пра сваё месца ў сусвеце раскрыўся ў вершы «Дэман». У даверлівай гутарцы з дэманам, які выступае як яго двайнік і міфічны дух, аўтар спрабуе знайсці адказы на балючыя пытанні, якія яго хвалююць. Паэт разумее, што шлях да ісціны цярністы. Праз пакуты, змаганне і любоў можна наблізіцца да ідэалу, зведаць хвіліны духоўнага ачышчэння, адчуць боль і радасць жыцця.

У вершы «Бекеш, або Ода Ерасі» паэт прамаўляў:

> Ерась, вялікая маці ўсіх народаў вялікіх,
> Выратуй сына свайго, што не будзе быдлець спакваля.

Такое выказванне было характэрнае для У. Караткевіча, які выступаў супраць панылага прагматызму і дагматыкі, крытыкаваў агульнапрызнаныя ісціны, адстойваў жывы і неспакойны людскі дух, які знаходзіўся ў няспынных пошуках, з'яўляўся рухавіком прагрэсу і абнаўлення.

Паэзія У. Караткевіча магла быць элегічна-лірычнай, драматычнай і нават трагічнай. Але яна ніколі не была эмпірычнай і халоднай. Шмат у ёй святла і радасці. Дасканалым гімнам дружбе і жыццю з'яўляецца малая паэма «Віно дажджоў», твор лёгкі, свабодны, іскрысты і разам з тым цэласны і гарманічны.

Сцвярджэннем уласнай велічы, магутнасці і несмяротнасці, далучанасці да лёсу людскога прасякнуты верш «Быў. Ёсць. Буду»:

> Быў, Ёсць. Буду.
> Таму, што заўжды, як пракляты,
> Жыву бяздоннай трывогай,

Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.
..............................................
За ўсіх, хто крывёю піша
Ў нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

Верш вызначаецца тыранаборствам, праметэізмам. Ад любові да асобнага чалавека, ад святой любові да роднай зямлі паэт уздымаўся да ўсясветнай любові да ўсяго чалавецтва. І гэта была не дэкларацыя, а глыбока выпакутаваная думка, заснаваная на ўласным жыццёвым і творчым вопыце.

Плённа распрацоўваў паэт гераічны эпас у «Паэме пра явар і каліну», дзе выкарыстаў фальклорны сюжэт пра свякроў, якая атруціла нялюбую нявестку, і пра закаханых, якіх не разлучыла нават смерць. Да гэтага сюжэта ён падышоў па-свойму, асэнсаваў яго не толькі ў псіхалагічна-бытавым, але і ў нацыянальна-гераічным плане. Яе можна суаднесці з французскім рыцарскім раманам «Трыстан і Ізольда» і яго вядомымі варыянтамі на асноўных заходнееўрапейскіх мовах.

У. Караткевіч славіў свой народ, верыў у яго неўміручасць: «Будзе давеку наш мужны і мудры, вялікі народ». Ён жыў трывогамі і радасцямі роднай зямлі. З любоўю пісаў:

«На Беларусі Бог жыве»,—
І няхай давеку жыве.

У першай палове 80-х гадоў умудроны жыццёвым вопытам паэт прамовіў:

Ёсць замест прыватнай неўміручасці —
Бессмяротнасць нацыі тваёй.

Пранікнёнасцю і глыбінёй думкі вызначаецца апошні верш У.Караткевіча, напісаны 19 чэрвеня 1984 года да 60-годдзя В. Быкава:

Час стагоддзі, як касой, сцінае:
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў...
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленнем.

Калі сонца выб’ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, святых і зраненых,
Рыцараў сумлення і свабоды.

Гэтыя словы, адрасаваныя В. Быкаву, добра выявілі сутнасць пастаці У. Караткевіча, які і ў жыцці, і ў літаратуры быў рыцарам сумлення і свабоды, рыцарам роднай Беларусі.

Шырокае прызнанне як на Беларусі, так і далёка за яе межамі прынесла У. Караткевічу яго проза. У канцы 50-х — першай палове і сярэдзіне 60-х гадоў талент пісьменніка выявіўся з незвычайнай сілай. У той час ён стварыў свае значныя празаічныя творы. Многія з іх, як, напрыклад, раманы «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», легенда «Ладдзя Роспачы», аповесць «Чазенія», пісаліся ці былі напісаны ў Рагачове, у дзедавай хаце, дзе жыў з сям'ёй дзядзька Ігар Васільевіч Грынкевіч. Рагачоў быў для У.Караткевіча тым, чым былі Міхайлаўскае для А. Пушкіна, Ясная Паляна для Л. Талстога, Акопы для Янкі Купалы.

Як сталы пісьменнік з адметным лірычна-рамантычным талентам раскрыўся У. Караткевіч у апавяданнях і аповесцях «Цыганскі кароль» і «Сівая легенда», якія склалі першы яго зборнік прозы «Блакіт і золата дня». Проста і натуральна апісаў празаік у апавяданні «Блакіт і золата дня» веснавую паводку на Палессі, нараджэнне кахання ў Натальві і Юркі, непаўторнасць і прыгажосць жыцця. Сімвалічным з'яўляецца час дзеяння ў творы. Гэта вясна, калі ажывае прырода, і Вялікдзень, — уваскрэсенне Хрыстова. Не выпадковым уяўляецца і месца дзеяння — любімае У. Караткевічам Палессе.

У пачатковым варыянце апавяданне мела назву «Каўчэг». І хоць каўчэг-кірмаш крыху затрымаўся на шляху да свайго ўваскрэсення і выратавання, ён даплыве ў прызначаны час да храма, да лепшай і шчаслівай будучыні. Аўтар уславіў у апавяданні родную зямлю і яе людзей. І паказаў гэтых людзей не этнаграфічна-лубачнымі і экзатычнымі, а рэальнымі і паўнакроўнымі.

Пісьменнік дасканала ведаў і па-мастацку адлюстроўваў падзеі далёкай мінуўшчыны. Ён абгрунтоўваў ідэю пра непарыўную повязь часоў: «У падзеях мінулага — нашы карані. А дрэва без каранёў не можа ні існаваць, ні, тым больш, прыносіць плады». Гісторыя была арганічнай часткай духоўнага жыцця У. Караткевіча. Яго цікавіла гісторыя шмат у чым як прытча, легенда, паданне. Ён шырока абапіраўся на творчую фантазію, не капіраваў з навуковай дакладнасцю гістарычныя падзеі і факты, а ствараў мастацкі летапіс роднай зямлі. Для пісьменніка важна было ўзнавіць дух мінулых эпох, зразумець сэнс гісторыі.

У. Караткевічу ўласціва рамантычнае, фальклорна-легендарнае, міфалагічнае і адначасова канкрэтна гістарычнае, па-мастацку дакладнае і дасканалае асэнсаванне мінуўшчыны. Паэтызуючы гісторыю, ён уздымаў пытанні, актуальныя для сучаснасці.

У гумарыстычна-сатырычнай аповесці «Цыганскі кароль» закрануў факт існавання ў канцы XVIII стагоддзя на Гродзеншчыне цыганскага «каралеўства». Пісьменнік не толькі з'едліва характарызаваў гэта «каралеўства», выкрываў недарэчную сістэму дзяржаўнага кіравання, але

і разважаў пра гістарычны лёс Беларусі. Выказванні медыкуса, што выступае як alter ego аўтара, прасякнуты трывогай і болем за родны край, верай у яго вызваленне.

У рамантычнай аповесці «Сівая легенда» апісана сялянскае паўстанне на Магілёўшчыне ў пачатку 30-х гадоў XVII стагоддзя пад кіраўніцтвам двараніна Рамана Ракутовіча. Падзеі і галоўныя героі твора народжаны фантазіяй мастака. Выключэнне складае Леў Сапега, які эпізадычна прысутнічае ў канцы твора.

Аўтар перадаў атмасферу таго часу. Паказаў, што не толькі асабістая крыўда прымусіла Рамана Ракутовіча ўзначаліць паўстанне, але і пратэст як супраць сацыяльнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту, так і рэнегацтва беларускай шляхты.

Аповед у творы ідзе ад імя наёмнага салдата, швейцарца Канрада Цхакена. Яго вуснамі аўтар выказвае захапленне беларусамі, кажа пра іх цяжкую долю, асаблівасці нацыянальнага характару.

У аповесці дасканала пададзены батальныя сцэны штурму, абароны і захопу замка, яскрава намаляваны хваляванні натоўпу ў Магілёве. Твор насычаны патрыятычнай сімволікай. Раман Ракутовіч выступае нібы герой народнага эпасу, нібы язычніцкі Ярыла ці хрысціянскі Георгій-пераможца. У яго апісанні як вершніка на белым кані, апранутага ў барвяны плашч, са старадаўнім двухручным мячом, увасобіліся таксама герб Пагоня і спалучэнне гістарычных беларускіх белага і чырвонага колераў. Потым, калі паўстанне было разгромлена, на гэтай, як піша У. Караткевіч, «Богам праклятай, лютай, грэшнай зямлі» ганьбаваліся, былі пакараны і сам вершнік, змагар і абаронца людзей, і яго меч і шчыт, і яго каханая, якая ўспрымаецца як канкрэтная дзяўчына і як сімвал Беларусі.

Аповесць «Сівая легенда» прасякнута пратэстам супраць дэспатызму, жорсткасці, здрады радзіме. Ракутовічу адсеклі кісці рук, а Ірыну, яго каханую, асляпілі. Але яны не здрадзілі свайму пачуццю. У іх будуць дзеці, якія прадоўжаць справу сваіх бацькоў. Глыбокім трагізмам напоўнены заключныя словы, прамоўленыя Цхакенам: «Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей». Аслепленая і абязручаная Беларусь — такі вобраз мог стварыць толькі сапраўдны талент.

Як выдатны майстар дэтэктыўнага жанру раскрыўся У. Караткевіч у аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» (упершыню апублікавана ў часопісе «Маладосць» у 1964 годзе). Цікава і займальна, нібы ў лепшых творах сусветнай літаратуры, пісьменнік распавядае пра сутыкненне Андрэя Беларэцкага з варожай і злой сілай, якой з’яўляецца дзікае паляванне, пра разгадку галоўным героем таямніцы Малога Чалавека і Блакітнай Жанчыны. Захапляе і тая глыбіня, з якой пісьменнік асэнсоўвае нацыянальную гісторыю і народнае жыццё, што асабліва прыкметна ў разважаннях станоўчых герояў.

Аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» — займальны і дынамічны твор. Галоўны герой трапляе ў самыя нечаканыя, заблытаныя сітуа-

цыі і выходзіць пераможцам з іх. У аповесці адчуваюцца сляды ўплыву шырокавядомага апавядання А. Конан-Дойла «Сабака Баскервіляў». Аднак пра незвычайныя здарэнні ў Балотных Ялінах У. Караткеіч расказаў па-свойму. У адрозненне ад «чыстага» дэтэктыва пісьменнік паказаў беларускае грамадства 80-х гадоў XIX стагоддзя не толькі ў яго супярэчнасцях, але і ў яго нацыянальнай, культурнай і гістарычнай адметнасці. Для У. Караткевіча важна было выявіць каларыт, атмасферу мінулай эпохі. У аповесці шмат гістарычных апісанняў, этнаграфічных і побытавых падрабязнасцяў (танцы ў палацы Яноўскай; стравы, напіткі і рэчы ў доме Дубатоўка; дрыкганты як рэдкая парода коней на Беларусі ў далёкія часы).

Зварот У. Караткевіча да легенды пра караля Стаха Горскага, вытокі якой сягаюць да пачатку XVII стагоддзя, быў абумоўлены марай пра вольны і незалежны край, імкненнем абудзіць у беларусаў нацыянальны гонар. Аднак жыццё надзвычай складанае і таямнічае. У. Караткевіч зрабіў цікавы сюжэтны ход. Ён паказаў, што пазней легенду ва ўласных мэтах выкарысталі злыя і хцівыя людзі. Пісьменнік асудзіў у аповесці сацыяльны прыгнёт, тыранію, уціск і дэспатызм, увасабленнем якіх з'яўляецца дзікае паляванне. Адначасова паставіў пытанні аб прызначэнні чалавека, аб сутнасці жыцця і любові да радзімы, паказаў вялікае, прыгожае і чыстае каханне.

Андрэй Беларэцкі не проста выкрывае таямнічыя злыя сілы, а змагаецца і перамагае іх разам з сялянамі, з тым народам, вусна-паэтычную творчасць якога ён як вучоны-фалькларыст даследуе і з якім цесна звязаны. Сімвалічна гучаць словы Рыгора, сказаныя на развітанне Андрэю Беларэцкаму: «Зброя ў руках. Вось яна. Няхай возьмуць! Не паеду. Маё царства — лясы. І гэтае царства павінна быць шчаслівым».

У. Караткевіч выказваў вялікую цікавасць да паўстання 1863–1864 гадоў на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы, пра што сведчаць яго апавяданні «Паляшук», «Сіняя-сіняя», раман «Каласы пад сярпом тваім», драма «Кастусь Каліноўскі», паэтычныя і публіцыстычныя творы. Выключная ўвага мастака да падзей таго часу абумоўлена іх значнасцю ў гісторыі Беларусі, а таксама тым, што ў сям'і пісьменніка захавалася памяць пра сваяка з матчынага боку і яе радні, аднаго з кіраўнікоў паўстанцамі на Магілёўшчыне Тамаша Грыневіча, які быў расстраляны ў Рагачове. Пазней даследчыкі знайшлі ў архівах матэрыялы, якія пацвердзілі тое сямейнае паданне.

Гэты факт пакладзены у аснову пралога рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі») (1960–1962). Згаданы пралог друкаваўся і як апавяданне «Паром на бурнай рацэ». Атрымаўся пралог да рамана псіхалагічна насычаным і дынамічным. У ім паказаны той час, калі паўстанне ўжо затухала. Тым не менш паром на Дняпры ахоўваўся ротай царскіх салдат. Тут, у бурлівую жнівеньскую ноч 1863 года, і разгортваюцца трагічныя падзеі.

Пры раскрыцці трагізму таго часу пісьменнік мог выкарыстаць народнае павер’е, што бытуе на Рагачоўшчыне. Паводле яго ў канцы лета чэрці выходзяць з пекла, каб адзначыць нейкае важнае сваё свята, а Ілля-прарок, даведаўшыся пра гэта, паліць іх перунамі. Шматлікія народныя календары тлумачаць таксама, што ў такую ноч нібыта з’ядноўваюцца сілы прыроды, каб даць адпор «нячыстай сіле».

У гэтым пралогу створаны глыбокі і змястоўны вобраз Пора-Леановіча, беларуса па паходжанні, афіцэра царскай армііі. Пора-Леановіч выступае як фігура трагічная, складаная і супярэчлівая. Усведамленне віны перад народам, якому ён здрадзіў, пякучы боль за зняважаную і прыгнечаную родную зямлю нараджалі ў яго пакалечанай і спустошанай душы гнеў і пагарду да сябе і да ўсяго свету. Вось чаму ў яго прызнаннях і выказваннях так многа з’едлівага сарказму, горкай іроніі і цынізму: «Ідзі па трупах, і добра табе будзе. З людзьмі ўсякія сродкі добрыя... Галоўнае — стаць на той бок, які выйграе». Падчас двубою з высакародным, крыху летуценным Горавым, саслужыўцам, рускім па паходжанні, Пора-Леановіч зведаў хвіліны духоўнага ачышчэння і адначасова адчуў наканаванасць сваёй смерці.

У сюжэтна-кампазіцыйных адносінах раман «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі») мае падабенства з «Паўночнай аповесцю» К. Паўстоўскага. У беларускага пісьменніка, як і ў яго папярэдніка, праз сто гадоў сустракаюцца нашчадкі удзельнікаў трагічных падзей, і жыццё іх дзівосным чынам пераплятаецца. У творы, асноўныя падзеі якога адбываюцца ў 50-я гады пераважна ў Маскве, пры ўсёй шматпланавасці, галоўная ўвага засяроджана на духоўных пошуках творчай інтэлігенцыі, на каханні Андрэя Грынкевіча і Ірыны Горавай. Пісьменнік тонка перадаў душэўныя парывы і моцныя сардэчныя страсці галоўнага героя. У хвіліны яго найвышэйшага ўзрушэння аўтар уводзіць у твор вершаваныя тэксты. Напрыклад, велічна, трагічна і ўрачыста гучыць у фінале легенда пра Рагнарадзі. У звароце да вобраза зорак Леанідаў, да легеды пра Рагнарадзі выявілася мара пісьменніка пра шчаслівае, гарманічнае і дасканалае грамадства.

Значным творам беларускай літаратуры ХХ стагоддзя з’яўляецца раман «Каласы пад сярпом тваім» (1962–1964). У ім створана шырокая панарама народнага жыцця, перададзена грамадская атмасфера напярэдадні паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі, Літве і Польшчы. Па сутнасці, гэты твор паклаў пачатак беларускай гістарычнай раманістыкі.

Асноўныя падзеі рамана адбываюцца у 1850–1861 гады. Аднак пісьменнік, ствараючы хронікі родаў Загорскіх і Кагутоў, прыводзячы ўласныя разважанні і выказванні герояў пра свой народ, далёкую мінуўшчыну, ахапіў у ім падзеі амаль цэлага стагоддзя і ўвогуле асэнсаваў лёс Беларусі ў кантэксце гісторыі.

Хоць дзеянне рамана завяршаецца апісаннем адмены прыгону і расстрэлам дэманстрантаў у Варшаве, тым не менш аўтар здолеў вызначыць прычыны, якія выклікалі паўстанне, і яго асаблівасці. Пісь-

меннік паказаў, што паўстанне 1863–1864 гадоў было шляхецкім і сялянскім, што яно мела нацыянальна-вызваленчы і сацыяльны характар.

Раман «Каласы пад сярпом тваім» — твор шматпланавы і маштабны. Сімвалічная назва яго. Праз біблейскі вобраз каласоў і сярпа пісьменнік імкнуўся зразумець усеагульныя праблемы быцця, задумацца над сутнасцю жыцця і смерці, часовасцю і вечнасцю, наканаванасцю і неабходнасцю абнаўлення. Падзеі адбываюцца ў ім пераважна на Магілёўшчыне, а таксама ў мястэчку Свіслач на Гродзеншчыне, у Вільні, Пецярбургу, Маскве, Варшаве — у сялянскім асяроддзі і ў дваранскіх палацах, на студэнцкіх сходках і ў навучальных установах, у салонах вышэйшых чыноўнікаў і на вуліцах шматлюдных гарадоў. У кнізе дзейнічаюць як літаратурныя персанажы, народжаныя мастацкай фантазіяй пісьменніка,— дваране Алесь Загорскі, яго бацька Юры і дзед Даніла Загорскі-Вежа, Яраш Раўбіч, Надзея Клейна, Хаданскія, Кроер, Басак-Яроцкі, сялянская сям’я Кагутоў, мужыцкі заступнік Корчак, ліберальна настроены віцэ-губернатар Ісленьеў, жандар Мусатаў, Чорны Война, які не склаў зброю пасля паўстання 1830–1831 гадоў і працягвае змагацца адзін, так і рэальныя гістарычныя асобы — Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Станіслаў Манюшка, Тарас Шаўчэнка.

Адметным для беларускай літаратуры стаў вобраз галоўнага героя Алеся Загорскага. Гэта не традыцыйны селянін, а патомны дваранін. Ён малады, прыгожы, радавіты, багаты, дзейсны, высакародны, шчыры патрыёт свайго краю і перакананы шляхецкі рэвалюцыянер-дэмакрат.

Пісьменнік узвялічыў, апаэтызаваў Беларусь і яе людзей. Рамантычная ідэалізацыя ў абмалёўцы персанажаў і рэчаіснасці, выкарыстанне кніжных і фальклорна-міфалагічных традыцый былі абумоўлены жаданнем аўтара абудзіць у чытачоў патрыятычныя пачуцці, выклікаць цікавасць да гісторыі, паказаць ідэальнае і прыгожае ў жыцці.

Адгалінаваннем рамана стала аповесць «Зброя» (1964), сатыра на самадзяржаўна-прыгонніцкую Расію 1860-х гадоў.

Трагедыю беларускага народа ў 80-я гады XIX стагоддзя паказаў у апавяданнях «Кніганошы» (1962) і «Сіняя-сіняя» (1964). Гэтыя творы напоўнены водарам гісторыі, высокім рамантызмам, жывымі людскімі страсцямі і філасафічнасцю.

Адметным атрымаўся ў апавяданні «Кніганошы» фальклорна-рамантызаваны зачын: «...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д’яблу прадаваць». Далей пісьменнік адзначыў, што гэты лес быў яловы, і адразу увёў у атмасферу таямнічых і трагічных падзей, калі згадаў, што і мухаморы ў гэтым лесе былі крывавыя, і з рыжыкаў, калі іх збіць нагою, «тачылася рудая кроў», і чырвоныя ягады журавін нагадвалі кроплі крыві. Гэта пейзажнае апісанне, насычанае трапнымі мастацкімі дэталямі, з’яўляецца не проста фонам, а стварае напружаную эмацыянальна-псіхалагічную атмасферу для далейшага апавядання.

Чароўны і сімвалічны вобраз роднай зямлі стварыў пісьменнік у апавяданні «Сіняя-сіняя». Глыбокім трагедыйна-філасофскім зместам, роздумам пра сваю радзіму і яе лёс у кантэксце грамадскіх і сацыяльных катаклізмаў, што адбыліся на зямлі, напоўнены думкі былога удзельніка паўстання 1863 года Петрука Ясюкевіча, што аднойчы ўзніклі ў яго каля егіпецкіх пірамідаў: «Усё адно людзі гінуць і народы гінуць, і працэс гэты няўхільны, а на зямлі не застаецца нічога, акрамя магіл». Праз усмешку сфінкса, які шмат пабачыў на сваім вяку, вартымі жалю і марнымі здаліся Петраку высілкі і спробы людзей нешта змяніць у жыцці. І тым не менш як выклік сфінксу ў героя абуджаецца прага жыць і захаваць сярод пякучых пяскоў Сахары для будучыні кволую дзяўчынку, што вярнула яму радзіму, якую нельга страціць і да якой трэба вярнуцца, каб прадоўжыць пачатую справу.

У прозе У. Караткевіча выразна выяўляюцца прыкметы рамантычнай паэтыкі асабліва тады, калі спакойнае, аб’ектывізаванае апавяданне змяняецца пранікнёным пачуццём, калі на ўсю моц раскрываецца лірычны талент мастака. А лірычнае, асабістае найчасцей увасабляецца ў выключным, значным, рамантычным. Пафасам захаплення, радасцю жыцця прасякнута апавяданне «Дрэва вечнасці» (1966), асабліва старонкі, прысвечаныя Палессю і палешукам: «Палессе! Ты ўсё — бясконцая і вечная паэма. Кожная лясная рэчка твая — драмлівы рэчытатыў ліры. Кожнае тваё ўрочышча — урачысты хор магутных галасоў. Кожнае дрэва тваё — Песня Песняў. Кожная галіна пад ветрам — неўміручы радок. І кожны свепет на дзічках тваіх — ода гэтаму вялікаму небу, на якім зараз ласкавыя і чыстыя адценні вечара».

У «Легендзе аб бедным д'ябле і аб адвакатах Сатаны» (1961) і рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» (1965–1966), звяртаючыся да гратэскавых, умоўна-фантастычных прыёмаў пісьма, У. Караткевіч па-свойму асэнсаваў беларускую рэчаіснасць XVI стагоддзя, закрануў значныя праблемы, стварыў непаўторныя і яркія характары.

У першым з гэтых двух твораў прасачыў, як Рогач, бедны д'ябал, захоўваючы ў сэрцы дабрыню і любоў, прайшоў пакутлівы шлях духоўнага ачышчэння, пазбавіўся д'ябальскага наслання і стаў чалавекам.

Раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — гэта філасофска-гістарычны твор, раман-прытча, раман-легенда пра жыццё на Беларусі ў XVI стагоддзі. Твор напоўнены горкай іроніяй, драматызмам і адначасова гумарам, весялосцю, аптымізмам.

Штуршком для напісання рамана стаў запіс з «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага аб тым, што «на пачатку панавання таго Жыкгімонта Першога быў нейкій... который з лёгкості якой умысліў або рачэй з роспачы імя із зверхность Хрыста гопода собе прыпісаў і прівлашчаў». Гэты запіс пад пяром пісьменніка трасфармаваўся ў гісторыю прыгод і вандраванняў колішняга школяра, воляй лёсу названага Хрыстом, — Юрася Братчыка, які спачатку вымушаны быў рабіць «цуды», а потым узначаліў паўстанне супраць царквы і караля. Расказана гэта гісторыя з вялікай фантазіяй. Дзеян-

не твора адбываецца на працягу адносна невялікага прамежку часу. Аднак пісьменнік глянуў на падзеі мінуўшчыны шырэй. Ён свядома пераставіў гістарычныя факты і даты, што характэрна для многіх класічных гістарычных раманаў. Гэта дазволіла яму глыбей перадаць дух беларускага сярэдневякоўя.

Па мастацкіх асаблівасцях раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» можна суаднесці з такімі творамі сусветнай літаратуры, як «Гарганцюа і Пантагруэль» Ф. Рабле, «Легенда пра Уленшпігеля» Ш. дэ Кастэра, «Кала Бруньён» Р. Ралана, «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава, «Імя ружы» У. Эка. Пісьменнік развіў у творы традыцыі «карнавальнай літаратуры», плённа выкарыстаў гратэск. Твор увабраў у сябе і традыцыі фальклорнай смехавой культуры.

У. Караткевіч арыгінальна глянуў на падзеі гістарычнай даўніны. Прыгодніцкі сюжэт напоўніў сацыяльна-філасофскім зместам, багата выкарыстаў матэрыялы хронік і летапісаў, біблейскія тэксты і вытрымкі з мастацкіх твораў, народныя выслоўі.

Юрась Братчык увасабляе сярэдневяковага чалавека, прадстаўніка тагачаснага беларускага народа, актыўнага, неспакойнага, вясёлага і гарэзлівага, які вызваляўся з путаў царкоўных догмаў і засвойваў эстэтычныя і духоўныя набыткі, што неслі новыя часы. Пісьменнік з любоўю і цеплынёй піша пра свайго героя. Хрыстос кемлівы, знаходлівы, вясёлы, гарэзлівы, махляр і прытворшчык. Але адначасова гэта мысляр і пакутнік, праўдашукальнік, народны абаронца і змагар. Страты, цяжкасці і няўдачы загартоўваюць яго. Нягледзячы на ўсе нягоды, герой застаецца аптымістам. Ён здольны здзіўляцца і захапляцца жыццём, радавацца і смяяцца. І смех гэты надзвычай разнастайны. Ён не столькі пацяшае, колькі ачышчае душу, выкрывае і асуджае злыя і варожыя грамадству сілы, бунтуе супраць гвалту і здзеку з чалавека. Часцей за ўсё ён сведчыць пра здароўе чалавечай натуры і здароўе народа.

Героі твора выглядаюць жывымі, а падзеі, апісаныя ў ім, — пераканаўчымі і праўдзівымі. Тут, як і ў класічным гістарычным рамане, узноўлены каларыт і атмасфера далёкай эпохі, засяроджана ўвага на лёсе народным, выяўлены маштабны канфлікт.

У рамане сцвярджаюцца высокія гуманістычныя ідэалы праўды, дабра і справядлівасці. Яго змест не вычэрпваецца толькі апісаннем прыгодаў Братчыка і яго апосталаў, ён значна глыбейшы. Пісьменнік адзначыў, што гэта «не камедыя і не трагедыя, а трагікамедыя, смех праз слёзы, народная драма, калі хочаце».

Па мастацкіх прыкметах блізкая да рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» легенда «Ладдзя Роспачы» (1964). У лісце да Янкі Брыля за 26 ліпеня 1964 года У. Караткевіч заўважыў, што піша навелу «Ладдзя Роспачы» «аб адным сярэдневяковым беларускім «зламірозе», які любіў жыццё», што атрымліваецца «дзікая, але своеасаблівая мешаніна з «Дэкамерона», Рабле, французскіх фаблё і беларускіх не вельмі прыстойных казак».

У адным інтэрв'ю сцвярджаў, што «Ладдзя Роспачы» — гэта «найбольш удалая спроба даць абагульнены характар беларуса, якому і чорт не брат, якога і смерць не палохае, які больш за ўсё любіць Радзіму, жыццё і весялосць і ні пры якіх абставінах не ўступіць у барацьбе за іх». У легендзе «Ладдзя Роспачы» пісьменнік стварыў яркі і непаўторны вобраз жыццялюба і патрыёта Гервасія Вылівахі, выявіў істотныя грані нацыянальнага характару, глыбока асэнсаваў лёс роднага краю.

У вобразе Гервасія Вылівахі ўвасобіўся жывы народны дух, непакорлівы, насмешлівы, невынішчальны і стойкі ў любых нягодах, нават у апраметнай. Пісьменнік пераканаўча паказаў, што і на беларускай нацыянальнай глебе ёсць постаці тыпу Пантагруэля, Тыля Уленшпігеля ці Кала Бруньёна.

Твор вызначаецца раскаванай, лёгкай і гарэзлівай манерай апавядання. Ён прасякнуты глыбокім роздумам над сутнасцю жыцця і лёсам роднай зямлі. Ладдзя Роспачы — гэта Беларусь, якая, пераадольваючы змрок забыцця, бяспамяцтва і жахі апраметнай, уваскрасае і адраджаецца. Ад смерці і знікнення яе ратуе Гервасій Вылівaха — жыццялюб, мастак (не расстаецца герой з лютняй і ў царстве Смерці), абаронца людзей, бунтар і шчыры патрыёт роднай зямлі. У. Караткевіч сцвярждае, што любоў, цярпенне, смех і жартаўлівасць дазволілі беларускаму народу выстаяць у самых неспрыяльных умовах.

Станоўчыя героі У. Караткевіча ўнутрана падобныя. Іх духоўнае багацце і хараство, маральная чысціня і беззаганнасць, вернасць перадавым грамадскім і эстэтычным ідэалам прываблiваюць, хвалююць. Яны шмат разважаюць, думаюць, перажываюць, але ў той жа час і дзейнічаюць, змагаюцца. Гэта натуры мэтанакіраваныя, душэўна адкрытыя, шчырыя, неспакойныя, сумленныя, высакародныя, інтэлектуальныя. Надзвычай прагныя да жыцця, яны шукаюць гармоніі ў тыпова рамантычных сферах — у каханні і ў прыродзе, часта уцякаюць самі ад сябе, што можна сказаць пра Івара з апавядання «Барвяны шчыт», Валерыя Палецкага з апавядання «Залаты Бог» і Севярына Будрыса з аповесці «Чазенія» (1966).

У сваіх творах пісьменнік паказаў, што рэчаіснасць увогуле рамантычная. Незвычайнае, прыгожае ў жыцці трэба проста ўбачыць і адчуць. Дзеля красы, шчасця і дасканаласці неабходна ісці праз пакуты і страты, як сталася з галоўнымі героямі аповесці «Чазенія». У гэтым творы У.Караткевіч паказаў веліч і красу кахання і прыроды, задумаўся над сутнасцю навуковых і тэхнічных адкрыццяў. Аповесці ўласцівы эмацыянальная ўсхваляванасць, вытанчанасць стылю, інтэлектуальнасць і глыбокая духоўнасць. Па мастацкіх асаблівасцях яна тыпалагічна блізкая з творамі М. Прышвіна, К. Паўстоўскага, І. Сакалова-Мікітова, У. Арсеннева, А. Грына.

Сёння, пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, асаблівую актуальнасць набываюць думкі У. Караткевіча пра чулае, беражлівае і разумнае стаўленне да прыроды. Пісьменнік не толькі паэтызаваў прыроду, але і папярэджваў пра магчымыя трагічныя вынікі, абумоўленыя неразумны-

мі адносінамі чалавека да навакольнага асяроддзя, што выявілася таксама у нарысе «Званы ў прадоннях азёр» (1969), артыкуле «Абдуванчык на кромцы вады» (1980). Прырода была адной са стыхій У. Караткевіча.

Антываенным пафасам прасякнута аповесць «Лісце каштанаў» (1972), адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка, дзе ён усхвалявана і журботна згадаў уласны лёс і лёс свайго пакалення, чыё дзяцінства было апаленае вайной.

У дэтэктыўным рамане «Чорны замак Альшанскі» (1979) У. Караткевіч дасягнуў асаблівай свабоды самавыяўлення, здолеў паказаць багацце і разнастайнасць жыцця, стварыць характары не толькі рамантычна яркія, але і рэалістычна праўдзівыя, тыповыя, шматгранныя. Пісьменнік выступіў супраць духоўнага спусташэння чалавека. Ён імкнуўся расказаць не прыватную і займальную гісторыю, што здарылася з галоўным героем Антонам Космічам, а паспрабаваў выявіць повязь паміж мінуўшчынай і сучаснасцю, раскрыць жыццё ў яго складанасцях і супярэчнасцях, сцвердзіць думку пра неперамножнасць і ўсемагутнасць дабра і чалавечнасці.

У 70-я гады прыйшла да У. Караткевіча і слава драматурга. 29 жніўня 1974 года на сцэне Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа была пастаўлена п’еса «Званы Віцебска» (рэжысёр Валеры Мазынскі), у якой аўтар звярнуўся да падзей Віцебскага паўстання 1623 года.

Гэта манументальная гераічная трагедыя рамантычнага плана, у якой гістарычна дакладна ўзноўлены падзеі далёкай мінуўшчыны. Аўтар адзначыў, што Іасафата Кунцэвіча за фанатычны дэспатызм і жорсткасць у народзе празвалі «душахватам». Ён гвалтоўнымі сродкамі насаджваў унію. Таму адчуў моцны адпор праваслаўных у Вільні, Магілёве, Оршы, Полацку. У. Караткевіч паказаў Кунцэвіча не толькі як рэлігійнага фанатыка і забойцу, але і як ахвяру свайго часу, пэўных абставін і той догмы, якой ён служыў. Біскуп адчуў трагізм свайго становішча, стаў духоўна відушчым, але было позна. Гараджане забіваюць Кунцэвіча. Ён гіне ганебнай смерцю.

Ніхто не выдае ўладам забойцу Кунцэвіча. Караюць паўстанцаў, хвошчуць гнойнымі бізунамі званы. Красамоўна гучаць словы, сказаныя на эшафоце Ропатам: «Ніхто не вырве нас з іхніх кіпцюроў, калі не вырвемся самі... Ніякім розумам, ніякім гвалтам нельга дасягнуць таго, каб у Віцебску не было Віцебска, каб на нашай зямлі не было нашай зямлі».

У 1978 годзе з поспехам была пастаўлена ў Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа п’еса «Кастусь Каліноўскі» (першы варыянт быў напісаны ў 1963 годзе, рэжысёр Валеры Мазынскі). Гэта твор гераічна-рамантычны. У ім Каліноўскі выступае як непрымірымы вораг самадзяржаўя і патрыёт роднага краю, чалавек вялікай сілы волі, цвёрдага характару і адначасова чысты і ўзвышаны па сваіх ідэалах.

Да стагоддзя з дня нараджэння Янкі Купалы была прымеркавана п’еса «Калыска чатырох чараўніц» (1981, пастаўлена ў 1982 годзе ў

Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача, рэжысёр У. А. Караткевіч), сацыяльна-філасофскі твор пра дзіцячыя і юнацкія гады будучага песняра.

Да падзей Крычаўскага паўстання 1743–1744 гадоў звярнуўся У.Караткевіч у трагедыі «Маці ўрагану» (1982, упершыню пастаўлена ў 1988 годзе мінскім аматарскім тэатрам «Золак», рэжысёр Галіна Прыма). Трагедыя «Маці ўрагану» стала адной з вяршынных набыткаў драматургіі У. Караткевіча. Яна вызначаецца рамантычнай прыўзнятасцю і панарамнасцю. Дзеянне твора адбываецца ў сялянскім двары, пячоры, карчме, магнацкім палацы, на гарадской плошчы і на полі бітвы. Багатая і разнастайная мова персанажаў.

У. Караткевіч дасканала перадаў у п’есе дух той эпохі, напоўніў яе актуальным сучасным гучаннем. Многія ўдзельнікі Крычаўскага паўстання загінулі ў бітве, былі павешаны на шыбеніцах, пасаджаны на палі, разарваны, зашытыя ў мядзведжыя скуры, сабакамі. Але ў народнай памяці засталіся іх мужнасць і гераізм.

У фінале п’есы прыгнечаная горам Агна Вецер цалуе ворагаў і заражае іх праказай. Велічна і аптымістычна гучыць народны голас: «Чорта лысага яны ўзялі і возьмуць нас!» Тым самым сцвярджаецца не толькі маральная перамога паўстанцаў, але і праводзіцца думка пра няскоранасць і неўміручасць беларускага народа.

У 70-я — пачатку 80-х гадоў пісьменнік напісаў шэраг цікавых казак («Верабей, сава і птушыны суд», «Кацёл з каменьчыкамі», «Нямоглы бацька», «Вясна ўвосень»).

У. Караткевіч стварыў мастацкі летапіс жыцця Беларусі на працягу XVI–XX стагоддзяў. Ён выказваў цікавасць да ключавых перыядаў беларускай гісторыі. У рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і легендзе «Ладдзя Роспачы» звярнуўся да падзей і характараў XVI стагоддзя, у аповесці «Сівая легенда» і драме «Званы Віцебска» — да першай трэці XVII стагоддзя, у драме «Маці ўрагану» і аповесці «Цыганскі кароль» — да XVIII стагоддзя, у рамане «Каласы пад сярпом тваім», драме «Кастусь Каліноўскі», аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» — да XIX стагоддзя. Гістарычны аспект прысутнічае ў творах пра сучаснасць: аповесцях «У снягах драмае вясна», «Лісце каштанаў», рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»).

Непаўторна раскрыўся талент пісьменніка ў публіцыстыцы, літаратурнай крытыцы і мастацкім перакладзе. З любоўю і па-майстэрску расказаў ён пра Беларусь у нарысе «Зямля пад белымі крыламі» (1971, 1976), які можна лічыць своеасаблівай мастацкай энцыклапедыяй Беларусі, візітоўкай беларускага краю. Сімвалічным і паэтычным стала караткевічаўскае вызначэнне Беларусі як зямлі пад белымі крыламі.

Пісьменнік ахапіў у кнізе беларускую гісторыю ад старажытных часоў да 70-х гадоў XX стагоддзя, успомніў многія гістарычныя падзеі і факты, помнікі гісторыі і культуры беларускага народа, згадаў

пра славутых грамадскіх і культурных дзеячаў айчыннага мінулага, напісаў пра прыроду свайго краю і нацыянальны характар беларуса.

У гэтай кнізе няма голай рэгістрацыі лічбаў і фактаў. У ёй выяўлена душа народа, які прайшоў праз шматлікія выпрабаванні і які жыве багатым паўнакроўным жыццём. Аўтар цікава, для таго часу смела і па-новаму глянуў на гісторыю роднай зямлі і яе народ, узвялічыў і апаэтызаваў Беларусь.

Пісьменнік стварыў пранікнёныя і глыбокія нарысы і эсэ пра беларускае Палессе («Званы ў прадоннях азёр», 1969), пра Віцебск («Тысячу стагоддзяў табе!», 1974), Тураў («Сцюдзёная вясна, або 1000 год і сем дзён», 1980), пра Украіну («Абраная»), Кіеў («Мой се градок!»), Мсціслаў («Дыяментавы горад» — усе 1982), пра Кастуся Каліноўскага («Гэта было 10 сакавіка 1864 года»), пра старажытныя помнікі беларускай архітэктуры («Балады каменя»), пра неабходнасць стварэння на Беларусі музея народнай архітэктуры і побыту («Наш агульны клопат»), пра зберажэнне роднай мовы («Родная мова»).

Багацце і невычэрпнасць таленту У. Караткевіча раскрылася таксама ў натхнёных і па-мастацку дасканалых эсэ і артыкулах пра Ф. Скарыну, Т. Шаўчэнку, Лесю Украінку, М. Агінскага, Я. Купалу. М. Багдановіча, Я.Брыля, У. Калесніка.

Вызначаюцца адметнасцю і змястоўнасцю яго крытычныя артыкулы пра паэзію А. Наўроцкага, В. Зуёнка, Р. Барадуліна, Я. Сіпакова, пра пераклад на беларускую мову паэмы І. В. Гётэ «Фаўст», зроблены В. Сёмухам. Ён аўтар цікавых тэкстаў для фотаальбомаў «Краявіды Беларусі» (1968), «Белавежская пушча» (1973, 1975) і «Памяць зямлі беларускай» (1979).

Яшчэ ў сярэдзіне 50-х гадоў У. Караткевіч звярнуўся да перакладаў, якія з’яўляліся для яго арганічнай часткай творчага самавыяўлення. Пераклаў на беларускую мову паэтычныя творы В. Катула, Дж. Байрана, А. Міцкевіча, І. Франка, Я. Судрабкална, п’есы «Цар Фёдар Іаанавіч» А. К. Талстога (1970), М. Карыма «У ноч зацьмення Месяца» (пастаўлена тэатрам імя Янкі Купалы ў 1972 годзе), празаічныя творы А. Іаселіяні, А. Знаменскага, Я. Гушчы, Э.Гашпаровай, асобныя ўласныя творы на рускую мову.

Уладзімір Караткевіч — аўтар сцэнарыяў мастацкіх і дакументальных фільмаў: «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» («Жыціе і ўзнясенне Юрася Братчыка», 1967), «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979), «Чорны замак Альшанскі» (1983), «Сведкі вечнасці» (1964), «Памяць» (1966), «Будзь шчаслівай, рака» (1967). Напісаў лібрэта балета «Кастусь Каліноўскі» (1973).

Па яго творах пастаўлены оперы «Сівая легенда» (1978, кампазітар Дз.Смольскі), «Дзікае паляванне караля Стаха» (1979, кампазітар У. Солтан), мастацкія фільмы, тэле- і радыёспектаклі.

У. Караткевіч знаходзіўся ў цэнтры беларускага культурнага і навуковага жыцця, выступаў у абарону беларускай мовы, культуры,

помнікаў архітэктуры і прыроды. Творчасць пісьменніка прыкметна ўплывае на сучасны літаратурны працэс. Дзякуючы яму назіраецца павышаная зацікаўленасць беларускіх літаратараў мінулым роднага краю.

У. Караткевіч — гонар і сумленне беларускай літаратуры. Ён быў сапраўдным апосталам духоўнасці, прадвесцем новага беларускага Адраджэння. Пісьменнік здолеў дасканала раскрыць душу народа і яго нацыянальны характар.

Творы У. Караткевіча вучаць любіць Радзіму, берагчы чалавечнае ў чалавеку, паглыбляюць веды пра зямлю, на якой мы жывём, выклікаюць радасць мастацкага адкрыцця, абуджаюць, хвалююць, трывожаць фантазію і розум. Творчасць У. Караткевіча — гэта мастацкі летапіс жыцця беларускага народа, напісаны шчыра і таленавіта.

*Анатоль Верабей*

## МАШЭКА

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан.
Стогнуць пад дажджом старчакі альхі,
І ў будан з дрыгвы плыве золь-зіма, —
Ў ім карэнні — столь, ложак — ліст сухі,
Ні агню няма, ні святла няма.
Ад усіх я ўцёк, ад усіх я збег,
Буйным воласам да калень зарос.
Годы стаялі, быццам белы снег.
Горы панскіх цел мой Дняпро панёс.
Нішчу я паноў, замкі іх палю,
Я ламаю іх векавы бізун,
Помшчу за маю бедную зямлю,
За яе жальбу, за яе слязу,
За тваю красу, за маю любоў,
Што ў пакоях іх кветкай адцвіла...
Дзікі вецер гне раць сівых дубоў.
Ночка нас з нажом, як братоў, звяла...
Я стаю, як корч, ў воўчай скуры ўвесь,
Зліўся з дрэвамі і гляджу на шлях,
Цёмны я увесь, цёмны голы лес,
Толькі два агні свецяцца ў вачах.
Конскі тупат... Там... Бегма ў гушчыню...
Затрашчаць у ноч пад нагой лаўжы.
З дзікім свістам я коні супыню,
І спячэцца пан на маім нажы.
Ранкам на абрыў выцягну яго

І скажу рацэ, што бушуе тут:
«Ты прымі, Дняпро, ворага майго,
Змый з маёй зямлі гэты панскі бруд».
Лісце алае засыпае роў.
Пушчу чорную апавіў туман,
Атачон з усіх чатырох бакоў
Золкай восенню мой лясны будан.

*1952*

## МАТЧЫНА ДУША

Ноч прыйшла да зямлі на спатканне,
Захад скончыў агнём палаць,
І дубы ў малочным тумане
Веліканамі ціха стаяць.
Бач, агеньчыкі вёскі далёкай,
Бач, на ростані ўзняўся курган.
Явар сумны і адзінокі
Пахіліў задумёны стан.
Кветка тут уначы расцвітае,
Водар мяккі пялёсткі льюць...
І яе па роднаму краю
«Кветкай матчынай» людзі завуць.
Я крануў яе ціха рукою —
І пялёсткі спеў завялі,
І паўсталі вакол чарадою
Ўсе паданні роднай зямлі.
Вось карона ў рацэ заблішчэла,
Хтось плыве, як туман, на вадзе,
Па дарозе, ад месяца белай,
Цар змяіны кудысьці паўзе.
Цені ў лесе бягуць. Цямнее.
І ў чароўнай лясной гушчыні
Праімчаўся кудысь, як завея,
Ян Прыгожы на белым кані.
Нехта зблытаў на росных палянках
Сцежкі ўсе ў недасяжны край.
Як далёка, далёка каханка!
Сто гадоў шукай ды шукай.

Недзе лье яна чыстыя слёзы,
Спавівае ўвесь замак сон,
І Буран на сухой бярозе
Сцеражэ яе ля акон.
Над зямлёю зарніцы мільгаюць,
І здаецца, што гэта не гром,
А нячыстую раць пабівае,
Пакаціла цудоўным мячом.
І не вецер раве-нарастае
І ламае галлё на дубах,
А асілкі дубы змятаюць,
Каб да сонца расчысціць шлях.
І пялёсткі гучаць трывожна,
Бо мінуўся спеў забыцця.
Казкі новыя, казкі грозныя,
Небывалыя казкі жыцця.
Ўспамінаю косы, і вілы,
І над замкамі жаркі агонь,
Безымянныя ў лесе магілы,
І няволі цяжкі палон,
Волі нашай крывавыя роды,
Катаванні і здзек варагоў,
Барацьбу і пакуты народа,
Неўміручую душу яго,
І паўстанні, паўстанні бясконцыя,
І замучаных кроў на раллі,
І, нарэшце, шчасце і сонца,
Што сышло на нашы палі.
Вы, што маці душу забылі,
Без яе пажадалі пражыць,
Што вы варты без гэтай магілы,
Без каліны на роднай мяжы?
Без дубоў, што ў тумане млеюць,
Без расы на роднай траве?
Павяртайцеся! Вецер мацнее!
Маці кліча, кветка заве!
Для яе я павінен, я мушу
Неўміручыя гукі схапіць,
Ўзяць у рукі «матчыну душу»
І на вершы яе пераліць.
Запісаць старыя паданні,
Усё, што думаў і што жадаў,

І легенды, што на кургане
Сумны явар мне праспяваў.
Цяжкі крыж, але вельмі пачэсны,
Пераліць на свае аркушы
Казку мудрую, простую песню,
Кветку матчынай чыстай душы.

*1954–1955*

## ОРША

Яна не блішчыць красою,
А ў сэрца навек запала
З паркам сваім змарнелым,
З сваёй Кабыляцкай гарой,
З лянівай сястрой Аршыцай,
Што летам бруіцца памалу
Ў шырокі, як песня наша,
Магутны, сівы Дняпро.

Хаткі, што да абрыву,
Як ластавак гнёзды, туляцца —
Родныя і дарагія,
Як поціск сяброўскай рукі;
Брук, размыты дажджамі,
Пыльныя ўскраін вуліцы,
Куродым на сценах будынкаў,
Дальнія цягнікі.

Далёка яна ад мяне,
Адзіная і дарагая,
Ў чорных істужках чыгунак,
Што ўсю яе абвілі,
З народам сваім, што у бітвах
Ніколі не памірае:
Заслонава слава звоніць
На ўсіх перагонах зямлі.

Калісьці... Было і такое...
Хацелі пазбавіць крылляў...
Быдлам нас называлі,
А ўсё ж такі мы былі

Нязломнымі ў чорнай бядоце,
Гордымі і ў бяссіллі,
Бо род наш быў пралетарскі,
А рукі — у чорным вуглі.

Мы паціскалі плячыма,
Калі нам з пагардай казалі,
Жадаючы ў час вясёлы
Рабочы наш род абсмяяць:
«Знаёмяцца ў вас на вапне,
На вапне вы нараджаліся,
Вапна усіх вас карміла,
У вапне вам і ляжаць».

Паслухайце: наш ён, наш горад,
Няхай і суровы часам, —
Працоўнае гордае права
Здабыў у цяжкой барацьбе,
Гэта наш родны горад,
Яму не патрэбны прыкрасы,
Ён сам для сябе прыкраса
І гордасць — сам для сябе.

Мы цягнікі вадзілі,
Палотны на фабрыках ткалі,
Лес магутны валілі
І ўмелі плавіць метал,
У цёмных каменяломнях
Белы вапняк ламалі,
Гліну і торф здабывалі, —
Гарачы у нас запал!

Як толькі цёмнаю ноччу
Вочы свае закрываю,
Адразу я Оршу бачу
З яе няяркай красой,
З бярозамі над Аршыцай,
З вясёлым сонейкам мая,
З блакітам першых пралесак
У косах каханай маёй.

Тут нарадзіліся думкі,
Воля, імкненні, жаданні,

Тут стаў я сынам краіны,
Абпален яе агнём...
Таму і люблю я Оршу
Першым вялікім каханнем,
Якое не знікне, пэўна,
Нават з маім жыццём.

*1954—1956*

## ЗАЯЦ ВАРЫЦЬ ПІВА

Туман плыве з нізіны сівы
Над нівай голай і пустой.
«Глядзіце, заяц варыць піва», —
Жартуюць людзі між сабой.
А я відушчым бачу зрокам,
Як ён прысеў каля агню,
Трыгубы, шэры, касавокі,
І піва варыць з ячмяню.
Яліна іскрамі страляе,
А ён прыладзіў кацялок
І трэскай варыва мяшае,
Каштуе, сплёўвае набок.
І піва заяц зварыць густа,
А на закуску — бурачок,
Трава, заечая капуста,
Галін асінавых пучок.
З зайчыхай вып’юць па маленькай
І дзеткам трошкі паднясуць,
Пужлівым галаском таненькім
«Цвіцела морква» завядуць.
Пабачыш — не гані з абсады,
Дай хоць на гэты дзень спакой,
Павінна ж быць і ў зайца радасць
Перад халоднаю зімой.

*1955*

# БАЛАДА
# ПРА ПАЎСТАНЦА ВАЎКАЛАКУ

Апошняя ноч над зямлёю.
Каля мяне, як цень,
Праходзіць да вадапою
Вольны лясны алень.

Заўтра нічога не будзе.
Ляжу ў яры ля ракі.
Куляю срэбнаю ў грудзі
Звалілі мяне паюкі.
У полі абшар шырокі,
А тут і вільгаць, і цень.
Няма прасторы для вока...

Лісце аб’еш, алень!

Біўся з панамі нямала,
На ўсіх наганяючы жах,
Часамі — і без кінжала,
З адною злосцю ў руках.
Дабрацца б да родных межаў,
Пабачыць бы новы дзень...
Дай глянуць на свет бязмежны,

Лісце аб’еш, алень!

Мне ж не зламаць рукамі,
Я ж не магу стаяць,
А там на гары, за кустамі,
Родная хата мая...
Сястра сядзіць пад калінай,
Абляпілі «маскалікі» пень...
Зрабі прасвет у галінах,

Лісце аб’еш, алень!

Каб хату пабачыць бедную
І неба, дзе бусел ляціць,
Каб могілкі мог я ўгледзець,
Дзе маці мая ляжыць.
Пад мядовыя гівала гукі,
Патаемны крык леляка

Склала каравыя рукі,
Чакаючы з пушчы сынка.
Апоўдзень над тымі капцамі
Сыта бубніць авадзень...
Зламай крушыну рагамі!

Лісце аб'еш, алень!

Знімі мяккімі губамі
Пярсцёнак з рукі маёй.
Там, пад старымі дубамі,
Хата пад новай страхой...
Ад пана адбіў дзяўчыну,
Ад пана на белым кані...
Схавалі мяне яліны,
Хмыз, лесавыя пні.
А ў сэрца другі ёй убіўся,
Пакорлівы, добры, святы.
Я бачыў і адступіўся, —
Што возьмеш з авечак ты?
Зрабіў я, што пан у іх новы
(Й таго «Кабыздохам» завуць),
Дапамог канём і каровай,
Няхай сабе ў міры жывуць...
Пярсцёнак жанчыне ў маністах
Аддай і пра смерць не крычы.
Хай будзе сумленне чыстым!
Хай спіць спакойна ўначы!
Цяпер і маніць не трэба,
Як слабасць да сэрца дайшла:
Больш солі,
                больш хлеба, больш неба
Патрэбна яна была.
І толькі волі вялікай
Я б за яе не аддаў...
Зацкаваны... Магутны... Дзікі...
Як я яе кахаў!
Пабачыць бы любыя вочы,
Пакуль не пакрыў мяне цень.
Не абмінай!
Варочай!
Лісце...

Аб’еш...
Алень!

*1956*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Дагарэў за брамай небакрай,
Месяц паміж воблачкаў плыве.
Выйду зноў, як у мінулы май,
Басанож прайдуся па траве.
Дымная, сцюдзёная раса,
Цёмныя ў траве ад ног сляды.
А такога рослага аўса
Я не бачыў доўгія гады.
Бач, хмызы сплялiся, як павець,
Светлякі мігцяць, гараць святлей.
Перад тым як звонка ў лозах пець,
Прачышчае горла салавей.
Лашчыцца трава да босых ног.
З дальніх паплавоў плыве ракой
Ледзь прыкметны сумны халадок —
Подых юні ўходзячай маёй.
Паімчаць за ёю наўздагон? —
Хоць і схопіш — усё адно падман.
Дзе каханне тых мінулых дзён —
Вясніх паркаў бэзавы туман?
Нават шкадаванне — дзе яно?
Зноў вясна, і жаль знікае зноў.
(Так губляюць пах перад вясной
Ссохлыя сцяблiны палыноў.)
Ціха цмокае у сне рака.
О, як добра, як прыгожа жыць!
Раска, як русалчына луска,
На вадзе ад месяца гарыць.
А вакол травіцы роснай рай
І бярозак белая сям’я.
Мой чароўны беларускі край,
Бацькаўшчына светлая мая!

*[1956]*

* * *

У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы,
Разгайдалася хмурынак бель,
І спявае пад тугім вятрыскам
Лугавы вясёлы жаўтазель.
Ўсе шляхі прыводзяць не да Рыма,
А да родных вербаў і бяроз.
Любая, ў барах сівых радзіма,
Сын твой нарадзіўся тут і ўзрос.

*1956*

## СЫРЦОВЫЯ ЦАГЛІНЫ

Гарадзішча старое на зліве рэк.
Больш як дзесяць стагоддзяў назад
Першы зруб паставіў тут чалавек
І дубовы ўзвёў палісад.
Ўсё даўно прамінула, і толькі вясной,
Калі повень схлыне далоў,
Аддае неахвотна абрыў над ракой
След даўно прамінуўшых гадоў.
Дагарае сонца на весняй рацэ,
Я прыйшоў на знаёмы плёс
І стаю са звычайнай цаглінай ў руцэ,
Усхваляваны амаль што да слёз.
На паверхні счарнелай цагліны старой,
Што адмыла рака на свет,
Бачу я адбітак лапэткі малой,
След дзіцёнка, забыты след.
Дзевяцьсот разоў май ішоў па зямлі,
Разліваючы ў рэках сінь,
З тых часоў як на замчышчы вежы ўзвялі
З гэтых самых адменных цаглін.
Быў спякотны дзень. Пад ценем бяроз
Цэгла сохнула на траве.
Дойлід еў, а сын, што ежу прынёс,
З белым пухам на галаве,
Без штаноў, хадзіў на крывых нагах,
Еў груднічнік і розную дрэнь,

На жабінае племя наводзіў жах,
Даганяў свой уласны цень.
Калі б бацька на сына вочы узняў,
Ён бы мог пабачыць, што сын
З асалодаю босай нагою ступаў
На паверхні вільготных цаглін.
І адбітак малой дзіцячай нагі
У аснову крэпасці лёг.
Шмат разоў прыходзілі варагі
На краіны лясной парог,
Шмат разоў стагнала зямля ад тугі
І ўзрастаў на руінах палын...
Але быў непарушны адбітак нагі
На паверхні сырцовых цаглін.

***1957***

## ЯК РАЗМАЎЛЯЮЦЬ ЗВЯРЫ І ПТУШКІ

Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку,
Я іду каля хат і росных садоў.
І са мной размаўляюць звяры і птушкі
На дзесятках і тысячах розных моў.
Ў валасы мае вішні свой снег завеялі,
Мне на вуха шэпчуць абшары ніў;
Маўляў, каго любіш, таго заўжды зразумееш,
У якой бы скуры ён ні хадзіў.
Галубы ў ліловых і сініх барвах,
На мяне паглядзеўшы, вуркочуць так:
— «Пр-роста вар-рвар, варвар, стр-рашэнны варвар.
Крыл не мае, а кр-рочыць, крочыць, дзівак».
Певень, палкай падбіты, скача, як конік,
І здзіўленым курам, як зрынуты бог,
Утрапёна крычыць ад болю і гонару:
— «Не па-паў! Не па-паў! Міма ног! Мі-ма ног!»
Калі ж ноч паплыве над зямлёю мілаю,
Размаўляюць дзве жабы ля соннай ракі:
— «Ку-ума, кума, а што ты вячэраць варыла?»
— «Боршч, боршч, буракі, бура-кі-кі-кі-кі».
Я, напэўна, таксама здаюся ім зверам,

І яны разважаюць у засені траў:
— «Вось ідзе двухногая птушка без пер’яў
Ці мядзведзь, што шубу ў ламбард заклаў».

*1957*

## ПРАМЕНЬЧЫК

Мокры водар белага бэзу,
Кветкі-гроны, як вінаград,
Ветрык весні, ветрык-гарэза
Ўсё трасе і тузае сад.
Ў гушчары аканіцы сінія,
Ты ўсё спіш, а дзень на нагах.
Сонца хітрае праз галіны
Да цябе адшукала шлях.
І праменьчык малы, пяшчотны,
Што праз лісце ў шчыліну ўпаў,
Руку голую цёплым ротам,
Крадучыся, пацалаваў.
Спі.
Прачнешся, і ў гэтым садзе
Шчасце будзе блукаць між траў.
Так мне радасна,
Радасна,
Радасна,
Што падскочыў і сонца б сарваў,
Каб не шкода было мне дзетак,
І бязмежнага шчасця, і сноў,
І дрыжачых спрасонку кветак,
І вільготных бэзу кустоў.
І садоў, цеплынёю настоеных,
І вясёлкавых хваль на рацэ,
І праменьчыка, што спакойна
На тваёй спачывае руцэ.

*1957*

## ЛІСЦЕ

Восень прайшла пералескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
Ў паветра ўзнімаючы лісце.
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.

*1957*

## ГІСТОРЫЯ З ПЕРШЫМ КАХАННЕМ

Шчасце былое ўяўляю
Дзяўчынкаю па вясне.
Загарэлая, кемная, злая,
Дражніла яна мяне.
Памятаю, год у шаснаццаць,
Дурны ад кахання і мук,
Цераз плот я глядзеў на шчасце,
Рамантычны, цыбаты хлапчук.
А шчасце гуляла ў садзе,
Апранутае ў паркаль,
Сабе і птушкам на радасць,
А мне на смутак і жаль.
Разявіўшы рот, як варона,
Гляджу я ў дзівосным сне
На шчасце, што садам зялёным
Ідзе бліжэй да мяне.

Уважна за мною сочыць,
І соладка, як салавей,
Просіць заплюшчыць вочы,
І гладзіць па галаве.
Раскошы цэлыя рэкі
Ў сэрца маё плывуць,
Моцна сціскаю павекі,
Чакаю... Нельга ўздыхнуць...
А дзяўчына з вачыма блакітнымі
Суседу, дурному, як бот,
Адуванчык тыцнула спрытна
Ў шырокі, як ступа, рот.

*1957*

## НА ПАЧАТКУ ДАРОГ

Жанчыны сечкамі таўкуць бадзёра,
Як быццам спора выбіваюць такт
Для нейкай небывала хуткай полькі.
Ў распараныя глоткі цёмных бочак
Плыве капуста белаю гарой.
Яе засыплюць соллю з чорным кмінам
І зоркамі чырвонай смачнай морквы,
Там-сям антонаўку для духу кінуць
І зноўку пачынаюць дружна стукаць.
Пачатак лістапада.
Ноч глухая
Ляжыць за вокнамі самотнай хаты,
І плачацца на горкую нядолю
За мокрым шклом раздзеты чорны сад.
Бязмежная пустэча за акном.
Халодныя ад дожджыкаў вяргіні,
Халоднае ад кропляў дажджавых
Сумуе яблыка на голым дрэве:
Забылі.
А ў хаце добра, цёпла,
Ля комінка прыжмурылася котка,
Газніца цьмяна свеціць на шынкоўні:
Жанчыны тут сышліся «талакою»
Дапамагчы нашаткаваць капусты,

А каб казаць па праўдзе, паспяваць,
Пажартаваць, забыўшы ноч і цемру,
Гарэлкі выпіць пасля працы лёгкай
І пачасаць нязлосна языкі.
Якая ноч!
Як непрытульна тым,
Хто ў гэту ноч ідзе у шлях далёкі
Пад зімны дождж, на лужыны рабыя,
Ад залатых агеньчыкаў прытульных...
О, як спяваюць! Вуха у дзіцёнка,
Які на зэдліку сядзіць ля печкі,
Упершыню жадобна ловіць гукі,
Упершыню ў жыцці. Чатыры леты
Прабеглі над бяляваю галоўкай,
Якая, быццам спелы адуванчык,
Качаецца пад ветрам вольных песень.
Ён шмат чаго яшчэ не разумее:
Чаму жаўнер паслаў дзяўчыне хустку,
Чаму не поўна рэчанька, чаму
Андрэеўна нажом сябе забіла,
Калі магла яна забіць султана?
Чаму плакун-трава зямлю ўкрывае?
Але нічога, гукі гэтых песень
Навекі застануцца жыць у сэрцы,
Як словы першых кніжак дарагіх.
Ён можа ўжо чытаць; занадта рана.
Вось кніжкі гэтыя ля тоўстых ножак:
«Савось-распуснік», «Пра сабаку Бума»,
«Пра пана-жываглота», «Вярнідуб»,
Старая чытанка ў пажоўклых корках
І казкі, казкі, казкі Беларусі,
Трапёткія, як першыя пралескі,
Пякучыя, як гнеўная маланка,
Загадкавыя, як агонь у лесе,
Багатыя, як жнівень залаты.
Калі ж ад літар адарвуцца вочы,
Ён бачыць белазубы рот Паўліны,
Вясёлай цёткі. Як яна жартуе!
Дарослым будзе ён чытаць Купалу,
І замест юнай, з’едлівай Паўлінкі
Паўстане гэты сталы добры твар:
Падобныя яны з іх весялосцю,

З іх голасам, з іх прыгажосцю яснай,
З іх шчырай беларускаю душой...
Але хутчэй, хутчэй ізноў да кніжак,
Бо доўга на дзяўчат глядзець няможна,
Яны дзівачкі: ледзь спаймаюць позірк —
Адразу падбягуць, ў ахапак возьмуць
І пачынаюць ціскаць да грудзей.
(О, каб дзіцяці год на дваццаць болей!
Наўрад ці асабліва б ён цураўся!)
А так ён тоўсты, пульхны, апетытны,
Яго цалуюць, ціскаюць, кусаюць,
Смяюцца неяк дзіўна, чырванеюць.
Авой! Якія моцныя абдоймы,
Як цёпла дыхаюць тугія грудзі!
Нядобра гэта ўсё! І асабліва
Настырная чарнявая Анежка.
Ну так і лезе. А ў вачах такое,
Што сумна робіцца і неспакойна,
Чаго цалуе?! Хлапчуку здаецца,
Што хлопец той, цыбаты і няўдалы,
Васіль, што у кутку сядзіць маўкліва,
Ахвотна б з ім на месца памяняўся.
Аднойчы ў прастаце сваёй душэўнай
Ён гэта Васілю прапанаваў
І быў здзіўлёны, што вакол рагочуць.
Як добра Васілю! Яго не носяць,
Ён можа ля дзвярэй сядзець спакойна
І хрумстаць белыя тугія храпкі.
Ах, храпкі, храпкі! Ах, салодкі сок!
Як будзе ён дарослым — неадменна
Заўсёды будзе іх дасхочу хрумстаць,
А так чамусьці многа не даюць.
Глухая ноч слязіцца за акенцам.
Газніца. Ў печцы жоўтыя салдаты
Страляюць гулка і заўзята лезуць
На штурм драўлянай крэпасці. Утульна.
Вуркоча котка. Казкі набягаюць.
І зноў цячэ, цячэ, як рэчка, песня,
Плыве ў душу, у сэрца хлапчука,
І ён яе ніколі не забудзе.
Хто будзе ён? Кім стане у жыцці?
Не ведаю яшчэ, бо гэты хлопчык, —

То быў я сам.
І ветразем надзейным
На ўсё жыццё мне засталася песня.
Дапамажы мне, песня, ў лютых хвалях,
Ў затоцы ціхай, дзе вада цвіце,
Нясі мяне у мора. Я чакаю.

*[1957]*

* * *

У векавечнай бацькаўшчыне клёны
Нячутна пачынаюць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць.
Зямля глядзіць азёрамі-вачыма
На ясны свет, што стыне у красе.
Як чыста, бы святло абшары вымыла,
Як ціха — быццам зніклі людзі ўсе.
Адвечная мая! Ў сцюдзёных росах,
Як летась, як мільёны год таму...
Ляцяць на ветры косы рыжай восені,
І кліча лісцяў жоўты сум зіму.
На вуснах стыне горкі смак рабіны,
Цалую іх, халодныя як лёд.
О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай
Пад тымі ж клёнамі праз сотню год,
Ці зразумееце, што мы кахалі,
Што зніклі так, як знікнеце і вы,
Што векавечны толькі край, і далеч,
І жоўты ліст на зелені травы,
Што ў векавечнай бацькаўшчыне клёны
Тысячагоддзі будуць аблятаць
На рыжую траву, на мох зялёны,
На весніцы, на ціхі стаў, на гаць,
Што нездарма яна з асінак рудых,
Калі ідзеш увосень па зямлі,
Раняе золата пад ногі людзям,
Каб мы яе любілі й берaглі.

*[1957]*

## ПАЎЛЮК БАГРЫМ*

На гасцінцах бярозы
Зусім пачарнелі ад ветру.
Дзіч і глуш безнадзейная,
Бураломныя хвояў кражы,
На лясным раздарожжы
Капліца прыткнулася ў нетрах,
І Хрыстос сем стагоддзяў
Вісіць на пахілым крыжы.

Праз акенца сляпое
Шэры дождж глядзіцца у хату,
У якой дагарае,
Бы ў небе асеннім зара,
Непатрэбная старасць
Адстаўнога паўстанца-салдата,
Невядомага генія,
Беларускага песняра.

Дагарае жыццё.
Хто на ўлонне старому прытуліцца?
Ні дзяцей, ні нашчадкаў,
Даўно праляцела вясна,
Прагрымела паўстаннем,
Прайшла праз зялёную вуліцу,
Згасла ў цяжкай салдатчыне...
Мусіць у рабстве сканаць.

Мог бы славай грымець
Сярод годных паэтаў Еўропы, —
Гвалтам спуталі ногі,
Трымалі ўвесь час за руку.
Што пакіне ён?
Вершык у памяці хлопаў,
Кандэлябру ў касцёле
Ды кроў на гаручым пяску.

* Славуты беларускі пясняр XIX стагоддзя, які ўдзельнічаў у Крошынскім паўстанні 1828 г., правёў дваццаць пяць год у салдатчыне і дажываў свой век у адзіноце.

А ў краіне так цяжка
(Асіны ад ганьбы палаюць),
І над ёй фанабэрыцца
П'яны, разбэшчаны гун.
Як пры князю Ўсяславе —
Дзень вялікі, а луста малая.
Як пры князю Ягайле —
На кожную спіну бізун.

Абжыраюць удоў,
П'юць з гарэлкай сірочыя слёзы,
Тлустым задам расселіся
На паднявольнай зямлі,
На шлагбаумы мёртвыя
Пассякалі жывыя бярозы,
На шпіцрутэны гнуткія
Запаветныя вербы звялі.

Беларусь мая, сонца,
Дарагая і родная маці!
На якіх раздарожжах
Згубіла ты шчасце сваё?
Ці удасца хоць дзецям
Шчаслівага дня дачакаці
Пасля мужнасці гэткай,
Пасля столькіх крывавых баёў?

Цень паўстання народнага,
Дзень светлай волі Крашына!
Я таксама пакутваў
За гэту зямную юдоль...
О, чаму ты, кажан,
Не крануў мяне ў годы дзяцінства,
Каб не вырасла сэрца,
Каб вочы не бачылі боль?

Мы чакалі свабоды,
І касілі нас кулямі роты,
Ў ланцугі нас кавалі,
Каб пад палкай нам быў карачун.
Узялі мае вершы,
Ўзялі маіх дзетак гаротных.

Вершы, бедныя вершы
Пад чырванню сургучу!

Край сагнуўся ў спіне,
Край баіцца размовы пра волю,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў...
Нельга верыць у Бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сцярпеў.

І няўжо не ўваскрэсне
Забытая родная мова
Не на тое, каб енчыць,
А каб крыкнуць да ўсіх на зямлі:
«Ўстаньце, хлопы, да зброі!
Ліце кроў для вялікай любові,
Каб на гэтай крыві
Небывалыя кветкі ўзраслі!»

Не учуем адказу,
Усё больш нахіляюцца хаты,
Ўсе маўчаць ад пялёнак:
Мужыкі, дзецюкі і дзяды...
Пройдзе некалькі месяцаў —
Прах самотны старога салдата
Хапатліва знясуць
На глухія, старыя клады.
О, як хочацца волі!
Жаданая воля, ты чуеш?
Асвяці мне усмешкай
Апошнія дні у жыцці.
Ты маўчыш?
Ты не чуеш?
Можа, ў дзень, калі ты запануеш,
Верас будзе стагоддзі
З разбітага сэрца расці.

Беларусь,
                прачынайся!
Я цябе абуджаю!
Ты павінна прачнуцца,

Не праспі сваё шчасце ўначы,
Я гукаю цябе,
Дарагая, святая!
Адкажы ж, мая родная,
Не маўчы!..

Паміраю і веру:
Калісьці над светлымі водамі,
Над свабоднай зямлёю
І над Белаю Руссю маёй
Шчасце сонцам заззяе,
І слова нашчадка свабоднага
Мае раны загоіць
Гаючай жывою вадой.

*2 ліпеня 57 г.*

## ВЯЧЭРНІЯ ВЕТРАЗІ

Яны абвісаюць, як спеў недапеты.
Пад кілем вада заціхае, звініць.
О вецер, дыхні над вячэрняй планетай,
Рыбацкія мачты рукою крані.
Пагладзь спрацаваныя нашы далоні,
Ўчыні на паверхні вясёлы баль,
Каб зноў паляцелі грывастыя коні,
Блакітныя коні азёрных хваль.
Каб ветразь ружовы, тугі, нібы грудзі,
Прынёс нас да хаты над беражком,
Каб позняй парою ўсе добрыя людзі
Сядзелі над смажаным шчупаком.
Каб клікала нас адрына старая,
І мірна агеньчыкі ззялі ў дубах,
І ўстала з-пад мачты мая дарагая
І стому рукою абцерла з ілба.

*1959*

* * *

Гусі-лебедзі ў лугах зялёных,
Гладзяць крылы белыя блакіт.
Сокал, прагнучы крыві салёнай,
Рвецца у сакольніка з рукі.
Ногі коней грэбуюць зямлёю.
Ярасная сіла ў скакуне...
Адбылося гэта ўсё са мною,
Або гэта сон і яблынь снег.
Але ў сне не вып'еш столькі гора.
Ведаю, што я званіў у шчыт,
Я граміў татар пад Крутагор'ем,
Я крышыў крыжацкія мячы.
Кроў далі мне паплавы і пожні,
Голас — бор дрымучы і чарот.
Я з табою да крыві апошняй,
Мужны мой, адвечны мой народ.
Ты мне даў асеннія світанні,
Ты мне даў ружовы твар вясны,
Падарыў мне цяжкае каханне
Да жанчыны з дальняй стараны.
Роднымі зрабі чужыя вочы,
Шэрыя, як неба над табой,
А пасля пакліч, калі захочаш,
За цябе на самы страшны бой.
І калі ў тваё глыбіні лягу, —
Дай мне ціхі спеў тваіх бяроз
За любоў, за веру, за адвагу
Сціплых песняў, што табе прынёс.

*[1959]*

* * *

За старым, закінутым млынам,
Дзе зараслы заліў ракі,
Скачуць жоравы на лугавіне —
Танканогія шляхцюкі.
У цыбатых усё ў парадку:
Ежа ёсць, прайшлі халады,

Ім асіна пляскае ў ладкі
На касе ля балотнай вады.
Толькі я перапоўнены сумам.
Зросся я з гэтай весняй зямлёй
Не птушыным сэрцам бяздумным,
А трывожнай людской душой.
Мне лягчэй бы стала, напэўна,
Каб забыла мінулае ты,
Каб страла мая ўпала гнеўная
І ўваткнулася перад царэўнай
У гарлачыка ліст залаты.
Ты прыходзь, далёкая, любая,
Ты развей усмешкай тугу.
Пакладзі мне далонь на губы.
Не магу без цябе. Не магу.

*[1959]*

## ДЗІВА НА НЕРЛІ

*Н. М. Молевай*[1]

Белая песня ў лугах залацістых,
Кліч адзвінеўшых стагоддзяў зямлі,
Кволая-кволая, чыстая-чыстая,
Быццам дзяўчына, царква на Нерлі*.
Кроў і забойствы ў агні і дыме,
Подласць і жорсткасць у лютым баю, —
Нават яны праходзілі міма,
Пашкадаваўшы нявіннасць тваю.
Ўсім, хто навек адыходзіў к ценям,
Снілася ты на райскіх лугах
З яснай журбою па убіенных,
З ценем усмешкі ў мокрых вачах.
Любы твой брат загінуў на ловах.
Вочы твае для нас збераглі
Літасць, і слёзы, і цёплыя словы,
Што не заб’еш на грэшнай зямлі.

---

* Царква Пакрава на Нерлі — геніяльны помнік старажытнарускага дойлідства на тэрыторыі Уладзіміра-Суздальскага княства.

З дальніх стагоддзяў праз цёплыя губы
Чую прызыўны твой галасок:
«Братка мой мілы, братка мой любы,
Выйдзь да мяне на круты беражок».

*[1959]*

## ТРЫЗНЕННЕ
## МУЖЫЦКАГА БРЭЙГЕЛЯ*

*Н. М. Молевай*

Ў кірмашным радзе горада пры моры
Прыжыўся ціхі і спакойны поўдзень.
На вулках не відаць ані сабакі:
Краіна ўся, нагандляваўшы грошай,
Да хрыпу накрычаўшыся на біржы,
Набегаўшыся па усіх прычалах,
Абед пafратраўляе, як пітон.
Абліты сонечным салёным сяйвам,
Ідзе кірмашным радам чалавек
І кіем грукае па белых плітах.
У чалавека вочы мудраца
І з’едлівая сумная усмешка,
І, каб схаваць яе ад крамароў,
Ён нізка капялюх на твар насунуў.
Ён ходзіць цэлы дзень. Ідзе ў трушчобы,
Ў багатыя кварталы, ў крамы, ў гавань.
Адценні фарбаў, твары і усмешкі —
Ўсё застаецца ў памяці яго.
І толькі часам ля багатай крамы,
Ў шынку на бочцы, на гулянцы шумнай
Ён дазваляе веям апусціцца,
Ён дазваляе адпачыць вачам.
Не трэба. Не чапайце. Пачакайце.
Ён трызніць. І калі адкрые вочы, —
Мільгне такое цяжкае у зрэнках,

* Пітэр Брэйгель Старэйшы, празваны «Мужыцкім» (памёр у 1569 г.), — славуты нідэрландскі мастак XVI ст., аўтар карцін «Падзенне Ікара», «Сляпыя»,«Сялянскі танец», «Краіна гультаёў» і інш.

Што ворагу свайму не пажадаў бы.
Мужыцкі Брэйгель трызніць родным краем
На вуліцы паміж абжорных крам.
О крамы, крамы! Вы душа радзімы.
Вісяць на прэнгах заржавелых тушы.
Барвянец мяса смачна адцяняюць
Янтарны тлушч і цукарная косць.
Індычкі ў папяровых панталонах,
Цяляты, ўзрошчаныя без вады,
На цёплым малацэ. Ігрушы шынкаў,
Што пахнуць горка елянцовым дымам
І часнаком. А ў ваннах ледзяных
Блажэнна парсюкі адпачываюць.
Для студзіны.
І ўся твая радзіма
Нагадвае такога парсюка.
На рыбных лавах волка пахне морам.
На сонцы тае вэнджаны вугор.
Чырвоныя вялізныя амары
Гурманаў з нецярплівасцю чакаюць.
І льюцца ртутным срэбрам у варэйкі
Трапёткія жывыя селядцы.
А там жаўцее свежым маслам рэпа,
Ляжаць гуркі, брусельская капуста,
Радыс ружовы з беласнежнай дупкай
І з кроплямі на лісцях сітаватых.
А памідоры з вільгаццю гарачай
З-пад дзяснаў сонцам пырскаюць у глоткі.
І гэта ўсё, наваленае купай,
Апырсканае сонцам і вадою,
Спявае, радуецца і звініць,
Край цяжка сыты, як пастух на Юр’я:
З усіх краін прыносяць караблі
Карыцу з пахам выспаў акіянскіх,
Гваздзіку, чорны і духмяны перац,
Што сутаргава страўнік скарачае.
Іначай мяса, рыбы і дзічыны
Краіна не магла б пераправіць.
Мужыцкі Брэйгель ля шынка на плошчы
Сядае і ў руцэ альбом сціскае.
Ён бачыць тоўстых бюргераў за півам,
Сляпога, што пяшчотна гладзіць скрыпку,

Сталы, што цяжка крэкчуць ад жратвы,
Настаўленай на іх.
На нізкім ганку
Стаіць шынкарка і глядзіць на плошчу,
На цяжкія сталы і на гуляк.
Аддайся ёй. Ды толькі памаліся,
Каб хоць душу жывой на свет пусціла
З абдымкаў страшных беласнежных рук.
Стаіць яна, узяўшы рукі ў бокі.
Здаецца, не на ганку — на дзяржаве
Ўцвярдзіла ногі, тоўстыя, як шынкі.
А зрэштаю, такіх жанчын тут любяць.
І вось млынар з натоўпу выплывае.
Перад шынкаркаю нагою дрыгнуў
І запрасіў яе з сабой на танец.
І вось ляцяць яны. Трасуцца грудзі.
Дол гнецца пад слановаю хадою.
Варочаюць магутнымі мяса́мі
І задам дрыгаюць. І сыты пот
Сцякае з твараў у піўныя куфлі.
Павекі Брэйгеля прыкрылі зрэнкі.
Ён думае, што млынару з шынкаркай
Цудоўна будзе спаць на сенавале,
А там усё на свеце хоць бы што.
За сытасцю яны не заўважаюць,
Што шашаль есць іх дом, што іх абкрадуць,
І назву самую «край Нідэрландаў»
Забудуць спячыя. Пракляты край!
Ніхто не хоча ведаць пра свабоду,
Пра пошукі, гарэнне і мастацтва.
Не, — ён схлусіў, — мастацтва дазваляюць.
Яно павінна лашчыць вочы сытых,
Высакароднымі рабіць іх твары,
І мышцамі рабіць на шыях тлушч,
І апяваць іх цёплыя пакоі,
Іх коўдры, начнікі і іхніх жонак,
Спакойных, як галандскія каровы,
І пераконваць іх, што быццам людзі,
Лаўцы амараў і ткачы шаўкоў
Не кашляюць крывёй і ў шторм не тонуць.
Што выведзе іх з сытай асалоды?!

Сам кожны за сябе. Нішто не ўзрушыць.
Ікар загіне — і ніхто не кіне
Нат позірку на ўспененыя хвалі,
Дзе жаласна, пакутліва і горда
Мільгнула паламанае крыло.
Што ім да ўзлётаў і да летуценняў,
Да гожай мужнасці ў імя свабоды?
Яны валлё наб'юць — і пад пярыну.
Краіна гультаёў!
                    Пад тлустым дрэвам,
Якое замест яблык, поўных сокам,
Ўзрасціла на галінах каўбасу,
Што капае з канцоў празрыстым тлушчам,
Ўзрасціла з трыбухою піражкі, —
Спяць людзі мёртвым сном і ў вус не дуюць.
Спіць воін, галаву на меч паклаўшы,
Чыноўнік спіць, адкрыўшы рот слінявы,
Спіць селянін, забыўшы пра цапільна.
Аднекуль з-пад хмызоў да гультаёў
Ідзе яешня на танюткіх ножках.
Ад чорнай і распаленай патэльні
Добранамерны курыцца парок,
І застаецца толькі ротам чамкаць.
А што ж яшчэ рабіць?
                              Яешню есці
Закон нікому не забараняе,
Як грошы ёсць.
                    Мужыцкі Брэйгель трызніць.
Хто вы такія? Як назваць вас, людзі?
Куды краіна з вамі забрыдзе?
Сляпыя! Мёртвыя! Яны ідуць,
Паклаўшы рукі на плячо пярэдніх,
І іх вядзе сляпы. І проста ў яму
Ён падае.
А заднія не бачаць,
І, як раней, застыў на іхніх тварах
Самаздаволены па-свінску гонар.
Што ж ты пракінуўся, мужыцкі Брэйгель?
Шпурляй у твар ім горкія палотны,
Дражні, як бугая чырвонай хусткай,
Паказвай ім, сляпым, канец Ікара, —

Яны ж усё адно не зразумеюць.
Хіба нашчадкі, можа?

*[1959]*

## НЯВЕСЦЕ КАЛІНОЎСКАГА

Недзе поруч ляжалі дарогі,
Кліч кахання ляцеў ад ніў,
Але ён не кахаў нікога,
Бо занадта радзіму любіў.
Варты лепшага ў свеце кахання,
Рана скончыўшы мужны палёт,
Русы хлопец золкім світаннем
На высокі ўзышоў эшафот.
Плач людскі барабаны крыюць,
І ад пошчаку глухне зямля.
На высокую гордую шыю
Успаўзае змяёю пятля.
З плачам жоравы пралятаюць.
Курганы і магільны жвір,
Непалітая ніва святая,
Плач жанчын, эшафот і Сібір.
Нікні гожаю галавою,
Па нязнанай страце ўздыхай.
Дарагая, ты стала ўдавою,
Не пабачыўшы жаніха.
Вашы кветкі ў лугах завялі,
Месяц марна згарэў над ракой,
Ты чакала яго, а стала
І нявестай і жонкай чужой.
І чамусьці ў сэрцы, як рану,
Я нясу твой нязбыты лёс,
Не даруючы ўсім тыранам
Непралітых табою слёз.

*[1960–1961]*

## БЕЗГАЛОВАЯ ВЕНЕРА

Стаю ля яе ў задуменні
І голас пяшчотны чую:
«Прыйдзіце, мужчыны, ад зброі, —
Улонне маё сумуе.
Прыйдзіце, мужчыны, ад сечаў,
Ад турмаў, ад страт на світанні.
Адзінае ёсць на свеце:
Сумленне, братэрства, каханне».
І думаю я неадчэпна:
За што ж ты бяду спаткала?
За што галаву ты згубіла?
Якую праўду сказала?

*16.XII.61*

## ДЭМАН

Позняю ноччу з бяссілымі зорамі стылымі,
Калі ў глыбокіх дварах паміраюць вятры, —
Сеў на акно чалавек з кажановымі крыламі,
Месяц і зоры гусцеючым ценем закрыў.
Складваў і знову выпростваў ён крылы маўклівыя,
З іх вандраванняў міжзорных сцышчаючы пыл.
Крылы як веер былі, як паніклыя косы алівы
І як пагаслых ад стомы камет пацьмянелых снапы.
— Хто ты? — спытаў у яго.
— А нашто табе ведаць аб гэтым?
— Што ты?
— Я кветка і зорка. Пагоня і бег.
— Зараз адкуль?
— Я... забыўся на тыя планеты.
Дзе абпякаў мае крылы агонь, дзе завейваў іх снег.
— Што ты пабачыў?
— Тупых катаклізмаў раскаты,
Зло і пяшчоту, пажар і спакойны заліў. —
Ўсё гэта можна пабачыць на гэтай праклятай,
На блаславёнай, на сонечна-змрочнай зямлі.
— Што ты запомніў найбольш?
— Ледзяныя абшары свабоды,

Дзе сумнявацца даводзіцца ў сэнсе самога быцця,
І каля Альфы Цэнтаўры грыбы вадародныя,
А ў Магеланавай Хмары няпэўныя іскры жыцця.
Ёсць там планета, што Антызямлёй называюць,
Чорная прорва за ёю. І там, у здрадлівай імгле,
На двайніка твайго вораг з кінжалам чакае,
І з антыкуляй, што дрэмле у антыствале.
— Дэман мой, што ж не сабраў ты апошнія сілы,
Каб двайніку майму сніліся вершы, каханне, спакой?
— Але ж цябе на зямлі гэтай, дружа, таксама забілі
Слабай жаночай рукою, каханай рукой.
— Дух дасканалы занадта, ўсю горыч ты зведаў.
Што ж уратуе жыццё? Ратуй мяне, дружа, або
Вырві з мяне ледзяную самоту ўсяведання,
Дай мне няведанне простых і простых любоў.
Ўсё асляпленне кахання, эльбрусы яго і галгофы,
Люд, што гібее ў агні, сэрца, што гіне ў агні, —
На іх, вазьмі іх сабе разам з гэтымі строфамі,
Што разумеюць усё і нічога не могуць змяніць.
У чалавека ўначы ўсміхнуліся змрочныя вочы:
— Просіш аб чым? Пагасіць твой апошні маяк?
Хлусіш нашто? Ты ж не хочаш збавення, не хочаш.
Лепшаю песняй тваёй стала пакута твая.
Мужна ў цемру глядзі і трызні аб вечнай радзіме,
Трызні аб шары зямным і пакутуй далей і далей,
Пакуль не згасла зямля, пакуль чыстае неба ад дыму.
І пакуль гібель твая дрэмле ў нейчым ствале.

*13.III.62, 2 г. ночы*

* * *

О вясна! Таполі! Свеце мілы!
Сонца німб! Аблокі! Сад! Рака!
Залатая падаплёка крылаў
Маладога звонкага шпака!

Вечар зацяпліў бярозак свечы.
Я адзін. Ты не памёрла, не.
Мой забыты, мой апошні светач,
Ты ў чужым акне, а не ў труне.

Як магла застацца ты ў кайданах?
Як магла адмовіцца пайсці
Да палян, дзе месяц закаханы
Песні «сноў» блакітныя ўзрасціў?
Пэўна, я турму не здолеў тую
Гнеўнаю пагардай скалануць,
Дзе цябе цалуюць, як катуюць,
І ўладарна лашчаць, быццам б'юць.

Вей тваіх, плячэй тваіх пахілых
Болей не кране мая рука...
Над сусветам залатыя крылы
Маладога звонкага шпака.

Клічуць лебедзі ў начы вясенняй,
Кідаючы поўдзень салаўям,
І разліў шырокі, як натхненне,
Як любоў забытая мая.
І няма ў душы маёй праклёнаў,
І няма на веях цяжкіх слёз..
Заставайся ў клетцы залачонай —
Ты сама абрала гэты лёс.

Над кахання нашага магілай,
Што загубіцца ў былых вяках,
Залатая падаплёка крылаў
Маладога звонкага шпака.

*8 мая 62, Рагачоў*

## РАМАНС МАРЫЛІ

Сонца паліць над шатамі парку,
Ў вочы людзям дзідамі б’е,
Людзі-кветкі нясуць на карках
Пчол назойлівых — думы свае.
Кветкі сінія, вогненна-чорныя,
Хмель хістаецца ўгору і ўніз,
Ружы алай нешта гаворыць
Самаўпэўнена — тонкі нарцыс.
Сярод гэтага кветніка п’янага
(Мо было ўжо такое калісь?)
Ты праходзіш адна ля фантана,
Найпрасцейшая кветка зямлі.
Нібы ціхая сумная музыка,
Ты праходзіш з пакорай сваёй,
Адуванчык на ярасным лузе,
Кветка з жоўтаю галавой.
І з фантана, раскрыліўшы крылы,
Праз вясёлак халодны звон
Ўсімі рэшткамі бронзавай сілы
Лебедзь рвецца табе наўздагон.
Марна рвецца, бо ў звоне і граі,
У мільёнах вясёлкавых слёз
Хлопчык лебедзю шыю сціскае,
Як адвечны няўмольны лёс.
І гляджу я змрочна на тое,
Як, абернуты ў шумнай вадзе,
Цень Міцкевіча нада мною
Лебядзіную песню вядзе.

*5.IV.63*

# ВІНО ДАЖДЖОЎ
*(Малая паэма)*

*Рыгору Барадуліну*

Хмары цягнуцца ляніва, дзень пры дні —
чацвёрты дзень,
Гарадок паныла мокне на адхоне над Дняпром.
Хочаш — паблукай па вулках,
толькі зведай — варта дзе?
Каб з зарослае канавы не чарпнуць чаравіком.
На адхонах ліпы мокнуць, за ракой дажджы вісяць,
Нібы гэта і не жнівень, а кастрычнік на палях.
Бурбалкі плывуць па плынях, ад мянёў віры кіпяць.
Што, зямелька дарагая, нарабіў Ілля гнілля?
Добра, калі пройдзе скора, калі сонца раніцой,
Ледзь прабіўшы выпарэнні на старыцах і тарпах,
Сотняй радасных вясёлак загуляе над зямлёй
І ў падобных на вясёлкі, зыркіх, радасных сярпах.
Наламаныя з праменняў,
стануць копы на палях,
Сотні ветразяў паставяць і абсушаць іх буслы,
І тады не толькі ў птушак будзе цвёрдае валлё,
І тады не толькі ў быдла будуць гладкія маслы.
Добры дух зямлі дняпроўскай, пасіні рачны свінец,
Каб сплылі на мора хмары і, — як можна нарыхлей,
Дрэнна стала паляўнічым, а, сярод усіх, і мне,
Добра стала ўсім астатнім, чый надзённы гіне хлеб.
Паглядзі, пад бізунамі ледзь стаіць у люстрах сад,
Яблыкі, як лёд вільготны,
агрэст змрочны, нібы гном,
Сотняй мокрых парасонаў правісае вінаград,
За заплаканым, як доля, за пакрэсленым акном.
Мокрыя стагоў шаломы, бітая, як *я,* рака,
Ломкая дажджоў салома не стамляецца звінець.
І ад любай сто стагоддзяў ні адзінага радка:
Пэўна, ногі паламалі на ухабах да мяне.
Будзем верыць:
заўтра сонца абагрэе свет ізноў,
Заўтра Янка [1] ліст напіша, Грышка [2], Ладысь [3] і яна.
Бог, урэшце, з ёю. Пэўна, зноўку недзе п’е віно.
То давай і мы адкажам яснай зліваю віна.

Што яшчэ рабіць іначай, калі плачуць берагі?
Чым яшчэ цяпер заняцца, калі ў гневе мокры бог?
Ну, — Сяргей [4], Юрась [5] і дзядзька [6]! —
заўтра пойдзем на лугі,
А сягоння досыць кіснуць. Выпіць хочацца, дальбог.
Будзем верыць:
сонца ўстане.
І ў чаканні на яго
Прабяжым дваром і ў спіны бізуноў палучым воз,
І адкрыем рот адрыны, і пасцелем ля стагоў
Пару посцілак суровых, як паэтаў добрых лёс.
Пяць «гармат» ля іх паставім пад высокі асярод.
Толькі ў гэтым ты прыдатны, золкі дождж,
праклён зямлі:
З-пад цябе яны — ў каралях,
з-пад цябе яны — як лёд.
Як, сцюдзёныя ў крыніцах, дуба чорнага камлі.
Ну, Сяргей, бяжы ў гародчык, памідораў набяры.
Патапчы бульбоўнік золкі — раз малодшы сярод нас.
Прыйдуць, будзем спадзявацца, і такія вечары,
Калі хлеб ты будзеш кроіць і з адрыны — ні на час.
Дзядзьку — баннік ад «гарматы», як зямны прагрэс,
крывы.
Аддамо яму пашану: больш за ўсіх ён пастраляў,
Хай кіруе ён паважна разліццём зямной крыві,
Каб ніхто не лёг пад стогам і ніхто не крыўдаваў.
Ты, Галіна [7], дай, тым часам, сала мяккага сябрам.
Што мы, ўрэшце, не славяне?
Што мы, зломкі на хаду?
І паколькі продкі нашы елі з травамі зубра, —
«Зверабою» і «Зуброўкі» для гуляк не пашкадуй.
Я — раздзелаю качыну на талерку для кагось,
І яна растане ў роце — што там нейкі ананас?!
Ты ж, Георгій, як далёкі, але вечна блізкі госць,
Пасядзі пакуль султанам і натхняй ідэйна нас.
Вось урэшце ўсё гатова.
Стол цвіце, як майскі луг.
Але што з пяццю жняцамі значыць жніўная пара?
Ёсць сусед у нас харошы, і паколькі ён наш друг,
І паколькі ён вясёлы — запрасі, Сяргей, Змітра...
Мы сядзім, і перад намі быццам восенню гарод,
Ўвесь спакойны і раскошны і аддадзены такі,

Быццам лепшы грэх смяротны, забаронены стакрот, —
Пахнуць кменам і парэчкай маласольныя гуркі.
Кроп, нібы галіны славы над бульбянай галавой,
Лаўр на ёй ляжыць, здабыты ў палымянай барацьбе,
І, як лёд, стаяць вяргіні, ўсе абвітыя ў павой, —
Нібы ты і ўсе дзяўчаты, што тужылі па табе.
Ад гусцёрак на патэльні —
да нябёсаў пах пайшоў,
Аж багоў на сёмым небе рэжуць зайздрасць і нудзьга,
Кучы ракаў вагнедышных, жоўтых паркіх кіяшоў, —
Патрабуюць вінных плыняў, каб пажар у глотцы згас.
Гэй вы, хлопцы-памідорцы, рэжуць вас, а вам — дарма!
І таму ў падзяцы палкай будзем з вас мы пачынаць,
З вас, жаўцюткіх, нібы сонца, сонечных, нібы хурма,
І чырвоных, нібы шчокі у вясковых дзеўчанят.
На, трымай, вось гэты зараз лопне, як чырвоны шар,
Ёю ўпушчаны ў вышыні ў той апошні, горкі дзень...
Д'ябал з ёю!..
Як палае баравінкавы пажар!
Гэта, брат, такое дзіва: як няма, то украдзеш.
Лі віно! Мы не з цвярозых ад калыскі карасёў.
Нічыёй высокай ласкі мы не маем на стале.
Самі ўсё мы тут злавілі, і ўзрасцілі самі ўсё,
І не ўдзячныя нікому да маленняў і кален.
Вып'ем, хлопцы, за нянасце, за ружовыя агні,
Што абудзяць немінуча заўтра новую зару.
За Балгарыю, за ружы, за баянскіх тэмпер зніч,
І за сінія валошкі, за Дняпро, за Беларусь.
Хай жывуць яны давеку сярод рэк, азёр і гор,
З іхняй боскай дабрынёю, з гонарам прыгожых вей,
З іхняй мовай першароднай, з песнямі, як райскі хор,
З ярым сонцам вечнай славы, што і ў хмарах пражыве.
За Рыгора і за Янку, за сяброў вясёлых — мех,
За пасеў, пачаты імі на святой сваёй раллі,
І яшчэ за Аляксандра[8], за яго знішчальны смех,
За працяг яго легенды аб раздзетым каралі.
Спусцім каралёў у прорву — і нядрэнных і благіх,
Разам з гвалтам і вайною кінем іх да сатаны,
І адзетых, і раздзетых, і ў каронах і без іх.
І за гэта, братка, вып'ем. Не кажы, што ты хмяльны.
Вось віно, як кроў дракона, вось з рабінаю каньяк,
А не хочаш — «беларускай» ад душы у глотку ўлі.

П’ецца ў дождж, дык пі, Георгій, пі, балгарскі ты лайдак,
Ні Кірыл і ні Мяфодзій гэтак, дурні, не жылі.
Што з таго, што гэтай песні літары далі яны, —
Мы далі для гэтай песні тое, чым звініць яна:
Азбуку любві да праўды, і агіды да хлусні,
Азбуку радзімы мілай, і кахання, і віна.
І закусвайце: ўсё роўна поўная грахоў карма.
Дык давай на ўцеху д’яблам мы пакінем гэты дом
Тлустыя, як карт калода ці апошні мой раман,
Гладкія, як друг мой Мальдзіс, і лянотныя, як сом.
Закусі, каб нас мядзведзем Хмель Хмялевіч не задраў:
Вось кіпіць у масле рыба, вось кіёўкі, як ламы,
Качкі смажаныя мараць пра зялёны рай Дняпра,
Як калісьці будзем марыць аб Дняпры у пекле мы.
Мы не крыўдзілі суседзяў, але крыўдзілі багоў,
І з катлоў смалы ніякі нас не выведзе Арфей.
Пекла будзе.
                    І калісьці вып’ем мы і за яго...
А цяпер, на тост наступны,
                                        выйдзі, брат, пад дождж, Сяргей.
За жанчын, што нас кахалі ў светлы дзень і ў ночы час,
Што сваёй пяшчотай рэдка нас міналі на зямлі, —
На каленях, хлопцы, вып’ем: і за тых, што грэлі нас,
І за тых, што нас калісьці, небаракі, абышлі.
Ім жа горш, што абмінулі, не прыйшлі ў наш цёплы кут,
Што навекі застануцца без сапраўднага святла...
А пакуты?.. Што пакуты?.. Без настройкі трох пакут
Песень сапраўды вялікіх наша ліра не дала б.
...Дождж лапоча па драніне, і праз завесі вады
У адрыну павявае ветрам волкім і прамым,
І ўстаюць у мокрых далях з хмар і зліваў гарады,
У якія не траплялі і павек не трапім мы.
І няхай пад бізунамі ледзь стаіць у люстрах сад,
І скрабецца у адрыну агрэст, змрочны, нібы гном, —
Мы жывем і п’ем за сонца, мы, сцюдзёная раса,
Што прарочыць дзень пагодны і знікае з гэтым днём.

*5 жніўня 64 г., Рагачоў*

## НАШЫ БЯРОЗЫ

Танкі з крыжам ляцелі на лес празрысты.
Дым мяшаўся з зямлёю. Сцяліўся пажар.
Палала бярозка, танюткая, чыстая,
Без стогну,
Як Жанна д'Арк.
У дрэўцы, кволенькім, як мімоза,
Цякла зямлі маёй мужная кроў...
Я знаю, як гінуць нашы бярозы:
Без плачу.
Шапкі далоў!

*[1965]*

## МАЛЕННЕ АБ ЧАШЫ

*М. Прашковічу*[1]

Паплавок то спачне, то адплыне,
Свіцязь дрэмле ў зялёных гаях,
Нібы поўная чаша сіняя,
Малахітавая па краях.
Сонца нізкага спляснуты персік,
Пад вадою — строгнаў палі...
Чаша ўнізе і чаша ўверсе.
І — як мошка — я ў крышталі.
У чаўне на каленях тулюся.
Скача воддаль падзёнак сям'я
І канае з сонцам. І ў скрусе
З сонцам гасне душа мая,
І любоў да цябе, як мора,
Расцякаецца ў ціхай журбе
Ад Адама, што даў табе корань,
Да Адама, што ўславіў цябе.
Ад падзёнак у сінім дыме,
Ад апошняй былкі гарбоў —
Да пагодкаў тваіх, радзіма,
Дзесяцівяковых дубоў.
Беларусь мая, ты адзіная,
Перад кім на каленях стаю:

Мне, слузе твайму, цяжка загінуць,
Лёгка — жыць у славу тваю.
Лёгка з песняй глядзець у вочы,
Цяжка — кроўю расіць чараты...
Ўрэшце, як сабе ты захочаш,
Ўрэшце, як сабе вызначыш ты.
Калі прыйдзе на нівы нашы
Смерць з касою сваёй крывой —
Не мінай мяне гэтай вось чашай,
Што барвее заходняй крывёй.
Як магу я не йсці на пакуты
За цябе, за спакойны твой дым,
Я
Ўсяго толькі мошка,
Закутая
Ў светаносным бурштыне тваім?!.

***22 крас., 65, Шагол***

## БАГДАНОВІЧУ

Сцюжны час, бязмежна-суровы.
Спіць народ, нібы зерне ў раллі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты прыйшоў
І гарачым словам
Рунь узняў на роднай зямлі.
Ты сказаў нам:
«Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсць і ў вас, як у іншых, святыня.
Не давайце святыні псам!
Не давайце з яе глуміцца,
Бо праспіць яна ясну зару,
Бо святы ізумруд заімгліцца
У пярсцёнку тваім, Беларусь».
Ты устаў на лютую сечу,
Бітву вечную сонца і хмар,
Узваліўшы на юныя плечы
Святагораў народны цяжар.
І не вынеслі жылы напругі:

Знік ты, лебедзь, у хвалях сівых,
Сплыў крывёю, загінуў «за другі»,
За мяне, за вас і за ўсіх.
І застаўся ты ў нашых душах,
Хоць навекі знік у палях,
Вечна светлы і вечна дужы,
Вечна юны, як наша зямля.
Мы табой ганарымся — і плачам.
Мы нясём цябе ў сэрцы праз дым.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Нізка галаў схіляю, юнача,
Перад вечным глаголам тваім.
Смела крочу цяпер у пяскі я
Перад светлай заветнай гарой,
Бо як ёсць у народа такія —
Не загіне давеку народ.

***9 снежня 66 г., Мінск***

## СКАРЫНА ПАКІДАЕ РАДЗІМУ

Ў сялянскіх крывулях-хатах
Зноў сушылі кару.
Знову конік пузаты
Месіць нагамі бруд.
У доктарскай шапцы дзіўнай —
Адзінай на гэтай зямлі —
Коннік мокне пад ліўнем,
Што зноў як з сіта паліў.
Выгнанне. Выгнанне. Выгнанне.
Па волі зямных багоў
Спалілі браты-хрысціяне
Кнігі пра Бога свайго.
З адчаем упартым, пахмурым
Людзі ў жорсткіх баях
За цемру сваю і дурасць
Знішчаюць друзі свая,
Зрабілі з Сіная малпоўню,
Й не хочуць бачыць яны,
Што справу іхнюю кроўную

Хаўтурна адплачуць званы.
Яны не даждуць, што Скарына
Зямлю сваю пракляне:
Страціў не я Афіны,
Хутчэй Афіны — мяне.
І горш за пакуты крывавыя,
Што будуць думаць рабы,
Нібыта ў шчасці і славе
Я разам з моцнымі быў.

*[1959–1966]*

## КАЛОЖА [1]

*Дануце Бічэль[2]*

О Каложа, туга мая светлая!..
Ў чорны Нёман па чорным шкле
Сіняй кропляй спадае ракета,
Быццам зорка ў ціхі Бетлем.
Ў вокны цёмныя заглядае,
Ззяннем бледным шукае кутка,
Дзе хваіна ў грубцы страляе,
Дзе ў жанчыны дзіцё на руках.
Глянь, абраная. Гэта не ў Нёман,
Не ў цямноцце, не ў сон, не ў драму́ —
Ў веліч падае зорка бяздомная,
Ў снег і ў сэрца сыну твайму.
І ў няпэўным хвілінным блакіце,
Ўся адзіная, ўся са святла,
З небам, з Нёмнам, з зямлёю злітая,
З сэрцам нашым — Каложа ўзрасла.
Трохі ў зелень, як пер’е качынае,
Трохі ў бэз і трохі ў гранат,
Уся — крышталь невыказна сіні,
Ўся — як край наш, як сон, як вясна.
Ўскінь далоні тонкія ўгору,
Сыну неба акрэслі шлях,
Каб навекі адбіліся зоры
У тваіх і дзіцячых вачах,
Каб ніколі перуны чужынныя

Не асмеліліся скасіць
Ні цябе, ні Каложы,
дзяўчыны
З ніў і пушчаў Беларусі.
І калі ўзнясе вас над светамі —
Прыгадайце ў вечным святле,
Як самотная зорка — ракета
Ціха падала ў цёмны Бетлем.

*1965–1967*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа,
Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў,
Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць
суровыя вежы
І вішнёвыя хаты глядзяцца ў шырокі Дняпро.
Ты ляжыш там, дзе сіняя Прыпяць ласкава віецца,
Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...
Там, дзе сэрца маё з першым крокам,
як молат, заб’ецца,
Калі б нават сляпым і глухім я прыйшоў да цябе.
Што сляпым? Нават мёртвым успомню высокія зоры,
Над ракою чырвонай і цьмянай палёт кажаноў,
Белы ветразь на сініх, на гордых, як мора, азёрах,
І бары-акіяны, і неба — разлівы ільноў.
Дзе мой край?
Там, дзе людзі ніколі не будуць рабамі,
Што за поліўку носяць ярмо ў безнадзейнай турме,
Дзе асілкі-хлапцы маладымі ўзрастаюць дубамі,
А мужчыны, як скалы, — ударыш, і зломіцца меч.
Дзе мой край?
Там, дзе мудрыя продкі у хвоях паснулі,
Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары,
А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі,
Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары.
Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.

Ты — наш край.
Ты — чырвоная груша над дзедаўскім домам,
Лістападаўскіх знічак густых фасфарычная раць,
Ты — наш сцяг, што нікому, нікому на свеце, нікому
Не дамо абсмяяць, апаганіць,
забыць ці мячом зваяваць.
Мы клянёмся табе баразной сваёй першай на полі
І апошняй раллёй, на якую ўпадзём у журбе.
Мы клянёмся табе, што ніколі,
Ніколі,
Ніколі,
Так,
Ніколі не кінем,
Не кінем,
Не кінем цябе.

*16 красавіка 68 г., Брэст*

## ТАЎРЫ

*В. Б. В-ч*[1]

Таўры жылі, як і ўсе народы:
Ваявалі,
Кахалі,
Гарэлку пілі.
Мудравалі,
Зліваліся з маці-прыродай...
Насваволілі,
Навершавалі,
Пайшлі.
Але так,
Без слядоў,
Нішто не знікае.
І дасюль,
Па абшарах сваёй стараны,
Між людзей,
Непазнаныя, таўры блукаюць
І не ведаюць самі,
А хто яны?
На муры, што нязнанымі продкамі ўзведзены,

Пазіраюць, як козы на новы плот:
«Ані д’ябла пра вас мы, браточкі, не ведаем.
Што вас несла у горы?
Унізе ж — цяпло!»
Дрэмле Кошка-гара,
Дрэмлюць таўраў руіны.
Я стаю і ўяўляю,
Што я не ізгой,
Не паэт з беларускіх узгоркаў сініх,
А апошні таўр
Народа свайго.
О, якая ганебнасць у гэтых згадках!
О, які атрутны бяспамяцтва дым!..
Крый нас Божа, калі і на нас
Нашчадкі
Паглядзяць,
Як мы
На таўраў
Глядзім.

*[1968]*

## ФАНТАЗІЯ

Знову блукаю па вуліцах сініх.
Сэрца кудысьці мяне завяло.
Шыльда над вокнамі: «Клуб адрынутых».
З вокнаў на снег — скупое святло.
Ноччу ў таемныя гэтыя сховы
З блытанай сеці завулкаў глухіх
Часта прыходзіць Людвіг Бетховен,
Здраджаны дбаннем кабет зямных.
Лермантаў тут. І таго не кахалі,
Хто ж тады варты гэтага больш?
Вось ён сядзіць ля каміна ў зале
І ўспамінае свой першы боль.
Геній, каханне, сэрца свабоднае,
Вершы алмазныя з-пад пяра —
Усё прамяняла яна на злодзея,
Слаўнага тым, што каштоўнасці краў.
І не рука, што «Мцыры» стварыла,

А пяцярня, што рубіны ўзяла,
Песціла рукі адзінай і мілай,
Доўгія косы яе распляла...
Грукаюць дзверы, і госці новыя
Йдуць у пакой праз халодны туман:
Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч...
Столькі гасцей, што й ліку няма.
Проста да зорак халодных упарта
З комінаў выбіваецца дым,
Сумныя цені Джульеты Гвічардзі,
Лоты і Лесбіі рэюць над ім.
Іскры лятуць і лятуць да світання
Ў цемру і снег, як жывыя чмялі.
Тыя, што варты стакрот кахання, —
Тыя не маюць яго на зямлі.
Потым, як пойдуць ў зямлю сырую,
Сотні прыгожых дзяўчат і дам
Статуям іхнім рукі цалуюць,
Быццам лягчэй ад таго касцям.

*[1964–1969]*

## ВОРЫВА НА ВАЛАХ

Я гэта бачыў сам, хоць адышло:
Ў апошні, мажа, раз на белым свеце
Ішлі быкі і ворыва плыло,
А зверху — хмары, чырвань, сінь і вецер...

Ідуць па ўзгорках, круглых і цяжкіх,
За імі йльсняныя ў адвалах межы...
Як старажытныя князі, быкі
Маю радзіму на кавалкі рэжуць.

З нябачнае лагчыны йдуць яны
Да сонца, ветру, хмараў і разлогаў,
На ўзгорак, велічны, як шар зямны,
Бы два паўмесяцы, ўсплываюць рогі.

Заплюшчу вочы — і перада мной
Два цені йдуць пад крумкачынай зграяй,
І рэжуць свет нарожнаю бранёй,

І капыты —
бы край мой папіраюць.

Бялкі ў крыві, а капыты — ў гразі.
І ўсё здаецца мне: нарогам-зброяй
Быкі, як старажытныя князі,
Маю радзіму на кавалкі кроячь.

Ў смяротны час — няхай прайшлі гады —
Ў маё апошняе сальюцца слова,
І сэрца раздзяруць на дзве паловы
Аблокаў барва, сінь, трывожны дым,
Радзімы твар, і горды, і суровы.

***27 чэрвеня 73 г. 19.35, Мінск***

## МОВА

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог, —
Яе разам з матчынай цыцкаю
Даў табе ў твае вусны Бог.
Пі. І ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе.
І на іншых вяршынях суровых
(Вера! Роўнасць! Свабода! Край!)
Ты струменьчык матчынай мовы,
Быццам маці, не забывай.
Ты забыў? Ну што ж, на дасвецці
Ты без сонца будзеш канаць...
Шмат прыўкрасных грудзей на свеце,
Ды не ўспоіць цябе — ні адна...
Сярод іншых святынь неаджыўшых
Даў яе нам на кожны парог,
Твар да нас, — усялякіх, — схіліўшы
З невымернаю літасцю Бог.

***7 мая 76 г.***

* * *

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.

За ўсіх, хто ўздымае цяжкія разоры,
Хто ў гарачым пекле металу,
За ўсіх, хто змагаецца з небам і морам,
За жывых і за тых, што сканалі.

За ўсіх, хто крывёю піша
Ў нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

За ўсіх, хто курчыцца ў полымі вёсак,
Хто ратуе краіну ад краху,
За ўсіх, хто бясстрашна глядзіць у нябёсы
З барыкады,
З пушчы
І з плахі.

Хто са смерцю гаворыць з вока на вока,
З яе усмешкаю ветлай,
І ўсё ж узводзіць — нясцерпна далёкі —
Храм наш агульны і светлы.

А калі ён горда заззяе ў зеніце —
Непарушны — ўзнясецца ў неба,
Вы з распятага сэрца кроплю вазьміце.
Апошнюю.
Болей не трэба.

І няхай яна збоку, недзе на ганку,
Дагарае й дзяцей не страшыць
На граніце любові,
На граніце світанку,
На граніце велічы вашай.

*9 снежня 76 г., Дубулты. 13.15*

* * *

Радок бяззбройны і бясспрэчны
Слабым — адзіна верны шчыт.
І не знікаць Паэтам вечна,
У вечнай Песні жывучы.

Калі пайду з юдолі гора,
Не скончыўшы найлепшы сказ,
То Божы свет мяне паўторыць,
Як паўтараў ужо не раз.

Як моры, зоры і азёры,
Якія ў вечнасць забяру.

Свет шчодры.
Свет мяне паўторыць...

Ну, а не свет,
                    дык Беларусь, —
Мне — досыць...

***24 верасня 79 г. 15 г. 57 хв. Піцунда***

## НАСЛЕДАВАННЕ СЫРАКОМЛЮ[1]

«Вясна будзе», — людзі баюць.
Ды нашто нам росквіт той?
Мы адвыкнулі ад мая,
Нас не выручыць ніхто.
Ў скутай інеем краіне,
Ў мерзлай пушчы векавой
Толькі елкі цяжка стынуць
Мёртвай зеленню сваёй.
Ды палі ў снягах калеюць,
Ды на гора і на смех
Мох магільны зелянее
На капцах мужыцкіх стрэх.
Чэзнеш нівай непалітай,
Усялякі церпіш зброд.
Ці ўваскрэснеш? Ці жывы ты?
Ці забіты, мой народ?

Каб вясне прабіць дарогу,
Каб калісь вярнуўся рай, —
Слова праўды, слова Бога
Мусіш слухаць, родны Край.
І тады адтануць гоні,
Цеплынёй дыхне ралля,
Раем зоймецца зялёным
Маці — родная зямля.
Пройдзе нівамі, лясамі
Бог свабоды залатой.
Калі мы не ўстанем самі —
Не падыме нас ніхто.

*14 лістапада 79 г. 18.35. Мінск*

## ПАВЕШАНЫМ 1863 ГОДА

Калі ідуць на абардаж,
І поўніць полымя прасцяг
Да верху мачты — экіпаж
Цвікамі прыбівае сцяг.

Даўно здалася — нават сталь, —
І толькі зараз — мы памром
Пад сцягам, што ў прадонні хваль
Знікае разам з караблём.

Ў крыві краіны нашай бель,
Прыходзіць час смяротных сноў,
І нашай волі карабель, —
Няскораны, — ідзе на дно.

І сёння ў вечны наш працяг,
У неба на світанні дня
Уздымуць нас, як волі сцяг,
Якога й Богу нельга зняць.

*28–29 ст. 80 г. 0 г. 20 хв.*

# «НА БЕЛАРУСІ БОГ ЖЫВЕ»

«На Беларусі Бог жыве», —
Так кажа *мой* просты народ.
Тую праўду сцвярджае раса ў траве
І адвечны зор карагод.
Тую праўду сцвярджае
Упартасць хваль,
І продкаў запавет,
І мовы залатая сталь,
І нашых дум сусвет.
Тую праўду сцвярджае
Ўсё зноў і зноў
Ўсім лёсам, —
Няхай спакваля, —
У хмарах дубоў,
У вясёлках агнёў
Купальская наша зямля.
І няхай давядзе мне
Іншая кроў,
Што брашу,
Як сабачы сын, —
А няма нідзе
Вярнейшых сяброў
І прыгажэйшых жанчын.
Гэта край раскрытых душ і дзвярэй,
Гэты край —
Твой дом і сабор...
Ў нас дваццаць з лішнім тысяч рэк,
Адзінаццаць тысяч азёр.
Нам ёсць што піць,
З падмосткаў ліць,
Чым палі свае акрапіць,
А як давядзе, то ёсць нам дзе
І ворага ўтапіць.
І тая памяць жыве не ў царкве,
А ў кожнай жыве галаве:
«На Беларусі Бог жыве...» —
І хай сабе жыве.

А калі ён шле на нас кару і гнеў, —
Ну што ж, — мы з ім свае:
Ў вяршыні самых гонкіх дрэў
Маланка з неба б’е.

У вяршыні маленькіх і ніцых дрэў
Маланка ніколі не б’е.

І пра тое кожны пяе салавей
Росным кветкам у роднай траве:
«На Беларусі Бог жыве», —
І няхай давеку жыве.

*5 ліпеня 80 г. 14 г. 4 хв. Мінск*

## НОВАЯ АТЛАНТЫДА

Каб плыў судоў уратавальных дым, —
А родны край знікаў навекі ў хвалях, —
Я б лепей згінуў з ім, з яго апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна — з ім.

*25 ліст. 81 г. 13 г.*

* * *

Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу.
Але йдзі і не губляй спакой.
Ёсць замест прыватнай неўміручасці —
Бессмяротнасць нацыі тваёй.
Ты памрэш. Але ў бязмежным свеце
Будуць працвітаць твой Люд і Край...
Вер, што ў гэтым, вер, што толькі ў гэтым
Шчасце пасмяротнае і рай.

*1982*

## РАЗВЕДЧЫК

Загінеш — і ведаць не будуць
Пра цябе нічога сябры.
Загінеш — і ведаць не будуць
Маці, жонка, бацька стары.

Загінеш — і ведаць не будзе
На роднай мяжы лебяда...
Але вечна тваім застаецца
Толькі тое, што ты аддаў.

Вораг навіснуў над лёсам...
І, можа, не ўбачыць зор,
Над Убарцю пілы ўцёсаў,
Над Улай зубчасты бор.

...І слова па-беларуску
Перад смерцю не смей сказаць,
І нічога навокал роднага,
З чым лёгка так паміраць.

Побач выскалы, побач лычы.
А сябры — як джалам мяча —
Здалёку здраднікам клічуць
Або з пагардай маўчаць.

Атруту салодкую точаць
Схаваныя ўсімі нажы,
Але смела ўсміхайся ў вочы
Смяротнаму стану чужых.

Ты не з імі. Ты — за каханне.
І таму — у вякі вякоў
Ідзі за межы пазнання,
Пастыр сярод ваўкоў.

Вядзі іх манлівай сцяжынай
У нетры, змрок, глушыню,
Каб з-за той, з-за *тваёй* асіны
Раптам вылецеў слуп агню.

Калі горкім пацягне дымам
І ўвап’ецца ля сэрца набой —

Ты малiся адной радзiме,
Што цябе асудзiла на бой.

«Зямля, што мне суджана лёсам,
Адзiная ў свеце любоў,
На табе няма хмарачосаў,
Апроч вечных тваiх дубоў.

Асеннiм усходам абмытыя
Ў вечным ззяннi расы цi iльда,
Устаюць твае пiрамiды, —
Дзюнаў палескiх града.

Дым вячэрнi над родным парогам,
Россып лiтар у лемантары, —
Гэта ўсё мне суджана Богам,
I за гэта — хоць тройчы памры...

За мятлушкаў песню жывую,
За паданняў бясконцы сувой, —
Усiм жыццём за iх адваюю...
А, як трэба, — смерцю сваёй...»

Загiнеш — i ведаць не будзе
На ўзмежку тваiм лебяда...
Але вечна тваiм застанецца
Толькi тое, што ты аддаў.

Але волi няма вышэйшай
За абраную ў гэтым жыццi,
Але долi няма вышэйшай, —
Аднаму на тысячы йсцi!

Аднаму — без сотняў дывiзiй,
Без тысяч сконаў i мук.
Аднаму загiнуць, зрабiўшы
Ўсё адзiнаю парай рук.

*[1969–1984]*

* * *

Можна ўсё: пусціць каханне дымам,
Ўзяць і занядбаць мінулы шлях.
Але толькі — не любіць Радзімы
З чорнаю павязкай на вушах,
З чорнаю павязкаю на вуснах,
З чорнаю павязкай на вачах.
Толькі слухаць словы нездрадлівыя,
Толькі не тлуміць яе маной,
Бо адным мы вінны, пакуль жывы,
Перад нашаю вялікай нівай:
Праўдай абавязаны мы ёй.
Ісцінай.
Адзінаю.
Адной.

*[1981–1984]*

## ПАЭТ

Брусок спявае ціхую малітву,
Ды зрэдку іскру кіне над сабой —
Пакуль нажы не зазвіняць у бітве
І шаблі горда не ўзнясуцца ў бой.
Няма ў яго ні вастрыя, ні джала,
Патрэбен ён хіба сярпам крывым,
Пакуль у похвах спяць усе кінжалы,
Усе нажы, наточаныя ім.
І на папрок, чаму не йдзе ён біцца,
Чаму ён не падобны да мяча,
Ён сціпла спіць у нейкай там брусніцы,
Пакуль тупіцца сталі прыйдзе час.
Але ж, узяты у баі нянроўным,
Палонны нож — як спынены парыў —
Хіба сказаў даспехам у катоўні,
Які брусок і дзе яго вастрыў?
Маўчаў, як нож. Маўчаў, як крыж на полі,
Бо ведаў ён няпісаны закон:
Спявае нож у час вайны за волю,
Брусок — у рабства час спявае ён.

Калі ж залье крывёй радзімы пожні,
І пойдзе гнеў да эшафотных стром,
І зломіцца аб сталь кінжал апошні —
Ну што ж?
Тады ўжо можна і бруском.

*1984*

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Час стагоддзі, як касой, сцінае,
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў...
Ўсё мінае — Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленнем.

Калі сонца выб'ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, святых і зраненых,
Рыцараў сумлення і свабоды.

*19 чэрвеня 1984 г.*

## БЛАКІТ І ЗОЛАТА ДНЯ

Вясною палескія рэкі пачынаюць цячы назад, да вытокаў. Толькі адна Прыпяць з цяжкасцю гоніць да Дняпра талыя воды, заліваючы на дзесяткі кіламетраў палі і лясы.

Застаюцца толькі вёскі на выспах ды рэдкія барліны са стагамі сена ці шумлівым вяселлем. Часам — кірмаш на чаўнах, з'яднаных масткамі, плывучы кірмаш, што павольна набліжаецца да далёкага сяла.

Пахнуць добрым малаком каровы, коні баязліва касавурацца за борт фіялетавым, напружана-разумным вокам.

— Ну вас да д'ябла. Яшчэ патонеш тут з вамі.

Адзін такі кірмаш, па-палеску стрыманы, жартаўлівы і трохі п'яны, спазняўся з прыбыццём у сяло на цэлыя два дні.

Бяда была ў тым, што па дарозе, у вёсцы Разбіты Рог, старшы загуляў і зманіў з сабою на бераг усіх мужчын, усіх стырнавых.

Бабы паспрабавалі плысці далей адны, але мужыкі, раззлаваўшыся, дагналі іх і зноў паставілі ўвесь кірмаш — сто пяць чаўноў — на прыкол да сыпучай выспы, на якой стаяла вёска.

— Падумаеш, вельмі ім трэба спяшацца. На Вялікдзень яны, бачыце, у Карпілавічы не паспеюць. А нам і тут добра.

Бабы хацелі былі пратэставаць, але з чаўноў узнялі такую катавасію, што яны толькі плюнулі.

— Няма на вас, нячысцікаў, управы.

— А што ўправа? Можа, на тое, каб вы фарбаванкі свянцілі?

Цяпер мужыкі і самі разумелі, што ўчынілі дрэннае, але гонар перашкаджаў ім прызнацца ў гэтым. І таму яны, даволі пахмурныя, налягалі на шасты і вёслы, спяшаліся, хоць усім было зразумела: спазніліся.

Усе былі не ў гуморы: мужчыны — з пахмелу, жанчыны — ад крыўды. Толькі адной дзяўчыне — а было ёй год васемнаццаць — усё было хоць бы што. Яна сядзела на носе аднаго з

пярэдніх чаўноў і ўсміхалася такой светлай усмешкай, што і сляпы ўсміхнуўся б ёй у адказ.

Празрыстыя славянскія вочы, — быццам майскае неба ў ранішнім тумане, — тупы носік, румяны рот з мяккімі ямачкамі ў куточках вуснаў. І лепей за ўсё была каса. Таўшчынёю з руку, залацістая, як сухі ліст каштана.

Хустку дзяўчына скінула і разаслала на каленях, бо сонца ў гэты дзень нечакана прыгрэла, і па вадзе скакалі залатыя іскры, ад якіх моршчыўся нос і хацелася чхаць.

З-пад хусткі была відаць клятчастая спадніца, пад ёю другая — белая. І ўсё на гэтым дзеўчаняці ляжала так ладна. І так забаўна жмурыліся ад сонца і ленай млявасці яе вочы, што кожны сказаў бы:

— Вось каму жыць добра.

А жыць было на самай справе добра! Наперадзе далёкая дарога сярод затопленых лясоў; верхавіны дрэў, што плаваюць у блакітнай смузе; дрымотныя крыкі пеўняў над вадою.

Куды было спяшацца? Наперадзе — жыццё. Аднаго не хапала: каб падышоў нехта ззаду, вялікі, цёплы, як сон, абняў за плечы і прынік шчакою да скроні.

Раней і думаць аб гэтым было страшна. І мужа яна ўяўляла сабе не іначай, як чужога хлопца, з якім трэба сядзець на покуце і, немаведама чаму, цалавацца.

А вакол зялёныя шклянкі і чырвоныя твары.

Але адышло насланнё, прыгрэлі промні, заказыталі ў носе. Захацелася скруціцца ў іх цеплыні, як котка.

І каб нехта гладзіў.

Вясна ўсё ж прыйшла, першая і апошняя такая. А можа, і не апошняя. А дарога па разводдзі, сена, што плыве поруч з вялікімі чаўнамі, вячэрнія песні дапамаглі вясне.

І ніхто, нават маці, не разумеў, што здарылася за гэтыя дні дзіва: узышла на бацькоўскую байду калючы і рэзкі падлетак, а цяпер плыве дарослая дзяўчына, што ўсё зразумела нейкімі глыбінямі душы.

Быццам зямля.

Драмала яна пад расталай вадой, была вязкая і спакойная. І раптам, сагрэтая сонцам, стала мяккай і цёплай, разварушыла ў сабе парасткі і толькі таго і чакае, каб прайшоў нехта, са свістам шпурнуў з сявенькі васковыя зярняты, — і песня жаўрука прывітае яго прыход.

І цеплыня. І знямога. І крыкі пеўняў.

— Прыйдзі, сейбіт!

Нічога такога яна не магла б расказаць. Яна магла толькі ўсміхацца, склаўшы рукі на каленях.

Нават маці не зразумела б гэтага. Як поле, якое ўсё аддало, не можа зразумець поля, якое чакае.

Яна і не разумела, а толькі бурчала на жаўтавусага мужа, лічыла грошы ў хусцінцы, пераклікалася з суседкамі на другіх чаўнах. І, як заўсёды вядзецца ў вельмі занятых жанчын, першай прыкмячала, што трэба і што не трэба.

Яна першая заўважыла лёгкі доўблены чoвен, вельмі вялікі і вёрткі. Човен выслізнуў з гаю, што стаяў па пояс у вадзе, і лёгка стаў даганяць непаваротлівую флатылію.

На карме сядзеў чалавек у шэрай ваўчынай шапцы і спрытна арудаваў адным вяслом.

— Хто ж гэта такі? Наталька! Наталька! Ну, зірні сваімі вачыма...

Дзяўчына павярнулася і з усмешкай, што ўсё яшчэ гуляла на яе вуснах, нездаволена сказала:

— Юрка з Выселкаў вяслуе.

І зноў адвярнулася. Таму што гэты Юрка зусім ёй не падабаўся. Увесь нейкі тугі, як спружына, вочы гарэзлівыя. І заўсёды скаромныя жарты на языку. І заўжды на бойку лезе. Без дай прычыны, проста так: пабачыць, што дзве кампаніі б'юцца, абярэ тую, у якой аднаго чалавека не хапае, — і давай.

Ды і не гэта ў ім самае дрэннае. Вочы ў яго трывогу наводзяць. Няладныя яны, не такія, як у астатніх.

Гэтай зімой ён паспрабаваў быў у сенцах абняць яе. Ёй было смешна, што ў яго дрыжаць рукі, што ён так няроўна дыхае.

І ўсё ж яна ўзвілася на дыбкі, як неаб'езджаны конь.

Людзі ў хаце чулі толькі, як грымнулі вёдры і ўпаў карамысел.

Калі яна ўвайшла ў хату, дзе сустрэлі яе песні скрыпкі, пералівы гармоніка і ўздыхі бубна, нехта спытаў яе:

— Што гэта там упала?

— Юрка вёдры зваліў. П'яны прыцягнуўся. — І прыбавіла: — Угаварыла, каб дадому ішоў.

Яе твар быў такі непранікнёна спакойны, што ўсе паверылі.

І вось цяпер яна злавала, што новы чалавек парушыць гэты сонны, гэты бяздумны і лянівы спакой.

А Юрка тым часам стаў на ногі і ўхапіўся за борт бліжэйшай байды карычневай ад загару рукою.

Човен глуха стукнуўся аб байду. Яго прывязалі. І тады Юрка нахіліўся і лянівым рыўком ускінуў на плечы двухгадовага секача, ашчаціненага, брудна-бурага, са злосна ашчэранай мордай.

Гуляючы, кінуў яго на байду.

— Ану, наваліся, таечкі. Разабраць адразу ж. Мужыкоў накарміць. Усё адно да горада сапсавацца можа.

Бабы з захапленнем загалёкалі над тушай. А Юрка глядзеў на іх падазрона-спакойнымі вачыма.

— Нашто ж квахтаць? — сказаў ён нарэшце. — Добра каб япрук, а то ж так, нядаўна з галавасцікаў выйшаў.

Галавасцікамі ён называў галавастых дзікіх парсюкоў.

— Ну, гэта ты не кажы, — сказаў Наталін бацька, — добры дзік. Бач, іклы ўжо якія!

— Добра, давайце, бабы. Тады ўжо і мне адваліце смажанага. Бо ў мяне ўвесь хлеб скончыўся, паміраю з голаду.

Ён нагнуўся ў чаўне. І раптам бабы з віскам кінуліся ў бакі. Над бортам байды з'явілася круглая галава рысі з грэбліва адкрытай пашчай, белазубай і крывава-чырвонай.

Вушы на галаве былі шчыльна прыціснуты, вочы — прымружаныя. У тую ж хвіліну паказаліся грудзі, моцныя лапы.

Рысь, здавалася, упаўзала ў байду.

І адразу ж над ёй вырасла галава Юркі. Ён рагатаў. У шэрых вачах хітрыкі, рудаватыя валасы хвалямі падаюць на лоб.

— Спужаліся? — спытаў ён. — Добра, кабеткі, не буду.

Ён шпурнуў забітую рысь на дно байды і сам пералез цераз борт.

— А гэта ўжо мне, — сказаў ён, падымаючы звера за карак. — Можа, будзе ў мяне жонка, дык буду класці ёй на ногі, каб са мною не мерзла.

— З табою змерзнеш, — іранічна сказаў Натальчын бацька.

— Дзень добры, людзі, — голасна сказаў Юрка і потым дадаў выразна: — Дзень добры, Наталечка.

Тая не адказала.

Ані не збянтэжаны такой акалічнасцю, ён палез у човен, дзе сядзела дзяўчына.

— Вы разбірайце, — растлумачыў ён бабам, — а я буду тут. Не каля мяса быць кацінаму паху... Ач ты, д'ябал, пра нож забыўся.

І зноў палез у човен. Наталя краем вока бачыла яго худую, налітую рухомай сілай постаць, шэрыя адчайныя вочы.

Юрка ўжо сядзеў на кукішках каля гарадскога хлопца, які другі год швэндаўся па Палессі з блакнотам.

Хлопец амаль любоўна казаў яму:

— Шыцікі цябе ведаюць, што ты за чалавек. Такі ўжо беларус тыповы — далей няма куды.

Губы Юркі склаліся ў іранічную ўсмешку.

— А што, гэта добра ці дрэнна?

— Па-мойму, нядрэнна... Здольны народ.

— У-у, — працягнуў Юрка, — выключна здольны народ...

Пакінуў хлопца, пералез у човен Наталі і кінуў перад ёй на лаўку серабрыстую вільготную рыбу.

— На вось, Наталечка.

— Нашто мне гэта?

— Кляпец. Няхай пакуль што ў вадзе паляжыць. А падвечар ён абсохне, і мы тады з табою дзіва пабачым.

— Ты што, думаеш, я так і буду з табою да вечара сядзець?

— Не з дзедам жа ж Бяскішкіным табе сядзець. Са мною весялей.

І зрабіў першыя надрэзы на лапах рысі.

Абое маўчалі. У вадзе нараджаліся, скакалі па зыбу і згасалі, каб зноў успыхнуць, залацістыя іскрачкі.

— Вы куды? — ціха спытаў ён.

— У Карпілавічы, — неахвотна адказала яна, — ды вось спазняемся.

— Ну так, — сказаў Юрка, — сёння ж Вялікдзень. Не даплывеце раней, чым за суткі.

Памаўчаў трошкі:

— А табе нашто?

— Мне не трэба. Гэта старыя бабы так захацелі. Іх тут палова. Шкада, няхай бы пацешыліся на старасці год...

— Так, — сказаў Юрка і раптам зажмурыўся, нешта абдумваючы. Праз хвіліну ён паклікаў ужо да сябе дзеда Бяскішкіна і Натальчынага бацьку.

— У Карпілавічы не даберацеся, бацькі. Спазніліся.

— Ну дык што, — раззлаваўся Бяскішкін, — ты што, таксама мяне гарэліцай папікаць хочаш?

— Позна, — сказаў Юрка, — ды я і не пра тое. Чаму б вам замест Карпілавічаў не падацца ў Пагост?

— Сяла няма, — сказаў дзед, — адна царква на востраве.

— Старым бабам гэта і трэба, — сказаў Юрка. — А вы ў сяло раніцай паспееце.

— Не ў тым справа, — сказаў Наталін бацька, — туды не праплывеш. Каса пясчаная па дарозе.

Размова ішла пра паласу выспаў, што цягнуліся паміж пратокай, дзе яны плылі, і Пагостам.

— Цю-цю твая каса, бацька, — сказаў Юрка, — вада верхам ідзе. Глыбіні палова сажня. Сам сёння мераў.

— Байды не пройдуць.

— А байды мы на касе пакінем. Самім да Пагоста і на чаўнах дабрацца можна. Падумайце, мужчыны... Старыя вунь як узрадуюцца.

Напамін аб старых вырашыў усё. Наталін бацька тут жа аддаў каманду і сам наваліўся на стырно, заварочваючы стырнавую байду, а з ёю і ўсю нехлямяжую флатылію ўлева.

Ударылі па вадзе вёслы, і хутка плынь панесла плывучы кірмаш яшчэ хутчэй, чым дагэтуль.

Юрка зноў сядзеў ля ног дзяўчыны. Рукі яго спрытна арудавалі нажом.

— Ну вось, паглядзіш сёння, як на Пагосце даўгагрывыя арудуюць. Нічога не скажаш, прыгожа.

Яго плячо раз-пораз дакраналася да яе ног. Яна бачыла буры загар на яго шыі, смуглату пад носам і на шчоках.

Гэтыя дотыкі, моцныя і лёгкія, чамусьці не турбавалі яе — ён жа ж працаваў, а не назнарок.

— Можа, і пахрыстосуемся, — сказаў Юрка, узнімаючы вочы.

— Са зверам сваім пахрыстосуйся, — спакойна адказала яна.

— Ды ён і так мяне сёння... пахрыстосаваў, — і агаліў руку.

Яна ўбачыла тры падоўжныя раны на яго прадплеччы. Адразу недзе ў глыбіні, пад лыжачкай, нарадзілася трывога.

— Ты чаго ж не сказаў нікому, дурны?

— Нічога, я порахам засыпаў.

— У-ух-х ты, — яна, спяшаючыся, выхапіла з-пад лаўкі свой хатулёк, выцягнула адтуль белую анучку, — дай сюды...

Юрка паклаў ёй на калені тонкую і моцную руку. Яна нават не заўважыла гэтага. Хіба што цеплыню, якая ішла ад яго рукі праз тканіну.

Гэтыя неглыбокія, але доўгія драпіны раптам абудзілі ў яе сэрцы нейкі амаль мацярынскі жаль да гэтага адчайнага хлопца.

— Ну вось, — сказала яна, не заўважаючы цяжару яго рукі, — парадак.

— Ясачка ты ў мяне, — сказаў Юрка.

— Ясачка, ды не твая, — сказала яна, таму што зноў з'явілася ў ёй ранейшая млявасць, чаканне чагосьці і дрымота.

— Крыўдуеш усё, — ціха сказаў ён, — а я як той алень увосень. Нават жывот яму падвяло, так ён кліча.

— З голаду ў цябе жывот падвяло. Хлеб, пэўна, з'еў увесь... паляўнічы.

Ад агнёў, раскладзеных на цаглінах, ужо даносіла пахам смажанага мяса.

— Правільна, — згадзіўся Юрка з ценем крыўды ў голасе, — трэба падсілкавацца.

Устаў і пайшоў да агню. Вярнуўся ён адтуль з бацькам Наталі.

Абодва прынеслі ежу. У руках у Юркі былі дзве лусты хлеба з заціснутым паміж імі кавалкам смажанай япручыны.

Румянае мяса раставала, прасякаючы тлушчам свежы наздраваты хлеб.

— На, еж, — сказаў Юрка да Наталі. Стары Даніла сеў поруч з Юркам ля ног дачкі і выцягнуў біклагу.

— Вазьмі глыні, сынок.

— Заборыстае віно, — сказаў Юрка, адпіўшы глыток, — як выпіў, так за забор хапаешся.

І ўзяўся за мяса. Наталька амаль не ела, а глядзела на хлопца.

Юрка еў без прагнасці, хоць бачна было, што ён вельмі згаладаўся: у вачах насалода, рукі спрытна падмінаюць хлеб.

І раптоўна яна спаймала сябе на нечаканай і цёплай думцы: «З гэтым і з адной місы есці прыемна».

І засаромелася.

Ежу прыкончылі. Даніла пайшоў. Юрка кончыў са скурай, скруціў яе і панёс у свой човен.

«І чаго пайшоў? — падумала яна. — Спакайней на месцы сядзець». І яшчэ падумала: «Нічога, зараз прыйдзе».

Потым адразу спахапілася.

«Чаго гэта я? Нашла аб чым шкадаваць! Прыйдзе — не прыйдзе».

Ён прыйшоў і зноў сеў ля яе ног. Зноў лётаў над плынямі пяшчотны і волкі ветрык, гуляў яго валасамі і махрамі яе хусткі.

Часам ён сціхаў і зноў вяртаўся слабымі ўздыхамі. І ў такт гэтым уздыхам нараджаліся ў вачах залатыя іскры. Мірыяды іскраў.

Блакітнае было ўверсе. Блакітнае было ўнізе.

Юрка прыхіліўся грудзьмі да яе нагі, і яна адчула, як моцна і пругка калоціцца ягонае сэрца. І зноў нешта перашкодзіла ёй адштурхнуць яго, не чуць гэтых удараў. Яна толькі варухнулася.

— Ты сядзі, — папрасіў ён, і ёй спадабалася, што ён быццам просіць у яе літасці — здаровы, смелы, а перад ёю такі слабы, што яна можа рабіць з ім што захоча.

Гэта ўсведамленне сваёй раптоўнай улады было небяспечным, але яна не ведала пра гэта. Бадай што гэта было і лепш.

Яна адчувала ўдары яго сэрца цэлы дзень. Гэты трывожны і пяшчотны стук паступова перапаўняў цеплынёй яе калені і рукі. А ён адчуваў, як мякка казычуць яго шыю махры кветчастай хусткі.

Урэшце яна пацягнула хустку вышэй, але адразу ёй стала шкада гэтых махроў, што сталі варушыцца дарэмна, і яна зноў апусціла хустку ніжэй. І ён усміхнуўся, зноў адчуўшы ласкавы дотык.

Чаўны плылі і плылі ў блакітным і залатым. Гэта лазурнае толькі часам перарывалася празрыстай сцяной затопленага лесу,— і зноў загаралася іскрамі. Сплюшчылі павекі, глыбокая цеплыня перапаўняла цела. Блакітнае і залатое, залатое і блакітнае.

Без канца. Без краю. Без мяжы.

Зрэдку ён мармытаў пад нос нейкія песні, таксама небывалыя, таксама сонна-трывожныя.

Дзень быў бязмежны. І бязмежным было падарожжа.

А калі пачаў спускацца лянівы надвячорак, стала яшчэ лепш.

Падсохла луска ў вынятага з вады кляпца.

Яны глядзелі і чакалі. І раптам у паўзмроку вочы кляпца загарэліся фіялетавым агнём. Гэта было так нечакана, што яна падалася наперад, і грудзі яе дакрануліся да галавы хлопца. Так усё і засталося.

А рыба сохнула. Луска на яе спіне стала цёмна-фіялетавай, збягаючы па баках да пяшчотна-сініх адценняў.

Здавалася нават, быццам водбліск гэтага слабага ззяння кладзецца на іхнія твары.

Яна ўздыхнула і падумала, што гэта ёй, толькі ёй, прынёс ён і паказаў гэткае дзіва.

А ён раптам амаль прашаптаў:

— Высахну вось па табе, як гэты кляпец. А каб ты са мною была — я ад хлеба толькі скарынку гарэлую браў бы, а астатняе табе.

— Не трэба, Юрка, — таксама шэптам сказала яна. І на повень лягла ноч. І паходня запалала на носе галаўной байды. Чырванаватае ззянне выхватвала з цемры дрыжачыя галіны дрэў з цэлымі шапкамі пены, што круціліся ў іх. А вакол была вада.

Дзяўчына накінула нарэшце хустку, як быццам для таго толькі, каб ён мог грэць пад ёю рукі. Абое маўчалі.

Юрка пакінуў яе толькі тады, калі трэба было ставіць на прыкол увесь караван. Града вырасла перад імі цёмнай смугою дрэў.

І раптам востры жаль пранізаў яе. Няхай бы бясконца сядзець вось так з ім, адчуваючы цеплыню яго рук.

А голас яго ўжо гучаў па ўсіх байдах.

— Пятрусь, ты чаго сядзіш? Заводзь нос, заводзь нос, табе кажу. Спрацаваўся мне, пад носам мух лавіўшы... Ану, узялі... І куды ты лявей тычкі прэш? Ану, яшчэ раз!

Нарэшце караван трывала стаў на водмелі. Людзі пачалі адвязваць чаўны. Але як толькі яна паспрабавала прабрацца да бацькавага чаўна, яго рука лягла ёй на далонь. Лёгка сціснула і адразу адпусціла пальцы.

— Не трэба. Сядай у мой човен. У вас будзе цесна.

Яна сказала сабе, што не хоча гэтага, але ногі самі па сабе пераступілі цераз борт. У яго човен.

Юрка марудзіў, адвязваючы канец. Апошнім сеў у чыйсьці човен дзед Бяскішкін.

І толькі потым, калі астатнія чаўны аддзяліліся сажняў на сорак, пачала цурчаць вада за кармою іх чаўна.

Ноч адразу ахапіла іх, пагладзіла халаднаватай лапаю твары, заміргала ў вочы касматымі зоркамі.

Выразная — па вадзе — размова далятала ад чаўноў. А гэтыя двое маўчалі, і калені іхнія сутыкаліся. Яна адчувала, як ад кожнага руху вясла мерна скарачаюцца мускулы яго ног.

— Не паварочвайся, — шэптам сказаў ён, — пацярпі трошкі. Я табе сам скажу, калі трэба... Абагнём гай.

— Ды я і не хачу паварочвацца.

Ён быў вельмі ціхі. І чамусьці толькі адзін раз кінуў на хвіліну вясло і паклаў ёй руку на плячо. Якраз у гэтую хвіліну на ваду, маслісta-чорную і густую, на дрэвы, на іхні згублены човен упаў першы ўдар звана. Яна здрыганулася, і ён адчуў гэтае дрыжанне.

Ёй здалося, што па яго твары слізгоча нейкі дзіўны ружаваты водбліск. Гэты водбліск наліваўся святлом, гусцеў. І нарэшце ўвесь яго твар — з глыбокімі ценямі ў вачніцах, і таму асабліва дарагі і страшны, — абліўся глыбокім, трапяткім барвянцам.

— Глядзі, — сказаў ён.

Яна лягла на бок, на сена, і ўбачыла астравок, што ўзнімаўся з вады. Трохі ўбаку быў другі астравок, большы. На ім бялелі ствалы голых бяроз. Гэта былі клады.

А на маленькім астраўку ўздымалася да неба нешта як шацёр, белае, азоранае агнямі. Менавіта адтуль даляталі ўдары звана, а потым — спевы.

Востраў нягуста абляпілі чаўны.

Гарэлі паходні. Гарэла смаллё на невялічкіх плытах. Залаты водбліск клаўся на цяжкую, як ртуць, чорную ваду.

Юрка ўстаў і стаяў на карме, абапіраючыся на вясло. І ёй ужо не хацелася глядзець на маўклівы рэдкі натоўп, на агні па вадзе.

Толькі на яго.

Худы, з вузкімі клубамі, ён высіўся над ёю, медна-чырвоны, як індзеец. Валасы яго сталі зусім бурштынавымі. Цені і святло на твары. Зменлівы, добры, суровы.

Ёй стала страшна, што хутка ўсё скончыцца і зноў будзе плывучы кірмаш.

— Не трэба чакаць канца, — сказала яна, — лепш дамоў.

І ён паслухмяна павярнуў човен і стаў веславаць у цемру.

Азораная ззяннем паходняў, абкружаная шматкаляровымі карагодамі чаўноў, згасала і танула ў водах адразу за імі імгненная праява. Дрэвы закрылі яе, паглынулі воды і цемра, і адразу стала ясна, што тая праява чужая, што на шмат кіламетраў няма нічога, акрамя воднай роўнядзі, вычварнай вязі плыняў, пены ў вірах, пагружаных у ваду лясоў і цішыні.

І па гэтых водах, па залітай вадою зямлі імчаў толькі адзін іхні човен, іхні каўчэг. Недзе, напэўна, былі іншыя чаўны, але для гэтых двух нікога не існавала.

Наталя зноў падумала, што зноў давядзецца вярнуцца да сноў мінулага дня, што давядзецца расстацца з гэтым чалавекам, які цэлы дзень дакранаўся плячом да яе калень.

Яна ўзрадавалася і адначасна да дрыжыкаў спужалася, калі ён паклаў у човен вясло, і іх пачало плаўна праносіць паўз караван, што стаяў на якары. Яна яшчэ знайшла сілы спытаць:

— Нашто гэта?

— Ты хочаш туды? Я давязу...

Яна не адказала яму нічога. Ён пачакаў трохі і падсеў да яе, абняў за моцныя і тонкія плечы. Лёг поруч у сена, што пахла ліпеньскім сонцам. Моцна і пяшчотна прытуліў да сябе.

Яе скура яшчэ не аддала цеплыні дня. І хлопец, заблытаўшыся пальцамі ў яе валасах, пачаў пакрываць яе твар незлічонымі пацалункамі. Яна адчувала шыяй цёплую футру рысі, вуснамі — цёплыя вусны хлопца, целам — усё яго напружанае гарачае цела.

Але яна дрыжала, як ад холаду, яму стала так шкада яе, што ён прыўстаў, выцягнуў з-пад ног тонкае і калючае навобмацак, вельмі цёплае пакрывала і старанна накрыў яе, падторкнуўшы краі пад гнуткую спіну.

Літасці ў яго хапіла толькі на гэта, таму што ён бачыў у змроку яе твар з вялізнымі вачніцамі. І ён ведаў: іншай дарогі няма ні яму, ні ёй. Усё вяло да гэтага: блакіт і золата дня, іскры на вадзе, фіялетавае свячэнне рыбы ў паўзмроку.

І гэтыя плечы, што дрыжалі пад яго рукой.

— Юрка, любы, родны мой, не трэба, — казала яна, усё шчыльней прыціскаючыся да яго. І ён ведаў, і шкадаваў, і не мог злітавацца.

Таму што ўсё гэта была мана.

Каўчэг гнала, злёгку пагойдваючы на хвалях, і зверху глядзелі на яго зоры, якія тысячы разоў бачылі гэта і ўсё ж не стамляліся зайздросціць зямной цеплыні.

На хвіліну яму здалося, што ён памыліўся, што маны няма, — і ён адхіліўся. Але яна адчувала яго дыханне, ёй больш за ўсё на свеце было шкада яго. І яна, нясмела ўзяўшы яго руку, пацалавала павязку на яго прадплеччы. І ўжо нічога не засталося, акрамя дрыготкіх адбіткаў зор у яе вачах.

Яны не пачулі, што іх лодка стала, што плынь надзейна пасадзіла яе на схіл кургана, які ўздымаў над вадою сваю макаўку.

Ды гэта было між іншым. Галоўным быў дзень, ноч, што наступіла, жорсткія мужчынскія далоні на плячах і кароткія пацалункі.

А потым ён заснуў, прыціснуўшыся да яе. «І гэта ўсё? — спытала ў сябе яна. І сама сабе адказала: — Так, усё. І што яшчэ трэба? Ён са мною, я з ім».

І нячутна, баючыся разбудзіць, дакранулася вуснамі да яго рукі.

Яны вельмі моцна спалі, калі вада, прыбываючы ўсё вышэй, зняла каўчэг і зноў панесла яго па цячэнні. Мужчына спаў мёртвым сном. Жанчына прачнулася толькі на хвіліну і яшчэ шчыльней прынікла да соннага.

На верхавіне нейкага дрэва крычалі вароны.

— Хіба з такім можна загінуць? — шапнула яна. І апошнім сонным урыўкам думкі падумала:

«Дурныя вароны... Тут не канец. Тут пачатак».

Яны спалі, а лодку несла і несла над затопленай зямлёй.

*[1960]*

# ПАРОМ НА БУРНАЙ РАЦЭ

Дарога на поўнач ад горада кантралявалася інсургентамі і была небяспечнай. Таму ганцам, якія павінны былі трапіць у размяшчэнне коннага палка, даводзілася скакаць з захаду, перапраўляючыся ўнаброд праз Друць або — гэтая дарога была карацейшай, але і больш небяспечнай — ехаць поймаю ракі, паплавамі, каб потым, адолеўшы Дняпро, адчуваць сябе ў бяспецы пад аховаю ўрадавых войск.

На пяцьдзесят вёрст выгінастага рэчышча быў толькі адзін паром, вярстою вышэй ад горада. Яго нельга было аддаць у рукі паўстанцаў, якія маглі б такім чынам парушыць сувязь паміж часткамі карных войск і біць іх паасобку. З гэтай мэтай на левы, процілеглы гораду бераг Дняпра генерал Фікельмонт выслаў роту выпрабаваных у баях салдат пад началам капітана Пора-Леановіча. Капітану не вельмі верылі як нашчадку сепаратысцкай фаміліі і ўраджэнцу Магілёва. Таму «ў дапамогу яму» і «на адпачынак» паставілі, таксама капітана, Юрыя Горава, карэннага русака са старой маскоўскай фаміліі.

Гораў быў паранены ў левую руку ў сутычцы з атрадам паўстанцаў пад Ракавам і адасланы «ў тыл на лячэнне і адпачынак».

Тылу не было. У гэты трывожны жнівень 1863 года вайна была паўсюль. «Белыя» спрачаліся з «чырвонымі», беларусы абураліся шавінізмам «белага жонду». Успыхвалі, затухалі і зноў выбухалі ачагі абурэння палітыкай цара.

Пераспелае жыта плакала зярнятамі, а ў жыце стаялі шыбеніцы. І не ўстаў ніхто добры, любоўны, і не сказаў людзям, што нельга рэзаць адзін аднаго, што свет вялікі і на кожнага выстачыць ніў, што хлеб аднолькава смачны, на якой мове яго ні называй. Не мог сказаць.

Галоўным быў не хлеб. Галоўнай была свабода.

Становішча ставала трывожным. У канцы ліпеня генерал Фікельмонт даў загад знішчыць на Дняпры ўсе чаўны. Асобыя атрады рушылі выконваць загад. Пачалася вакханалія знішчэння. Папрасякалі днішчы чаўноў, віцін, шугалеяў. Не пашкадавалі апошняй душагубкі. Тры дні па ўсім Прыдняпроўі шугаў у неба агонь. Палілі кастры бярвенняў, з якіх інсургенты маглі б звязаць плыты. Прыбярэжнаму насельніцтву, што жыло амаль толькі рыбай, заставалася адно — галадаць.

Кардон, які абараняў паром, жыў нервова і напружана. А між тым баяцца не было прычыны. Цэнтр паўстання даўно перамясціўся на захад. Галоўны атрад паўстанцаў Прыдняпроўя

быў разгромлены яшчэ на пачатку лета, і генералу Фікельмонту гэта не магло не быць вядома.

Інсургенты ў колькасці пяцідзесяці шабель і двухсот штыкоў і кос групаваліся ў Звярынскіх лясах. Там іх выпадкова пабачыў нейкі селянін і кінуўся ў горад — папярэджваць. Дарогаю ён адабраў прыпрэжку ў ксяндза і ўсю дарогу гнаў коні. Перад самым горадам прыпражны конь здох. Мужык выпраг каранніка, узваліўся на яго і... палкоўнік Фралоў нашчэнт разбіў інсургентаў, акружыўшы іх. Кіраўнік атрада Усяслаў Грынкевіч быў узяты ў палон і асуджаны на смерць. Зараз ён сядзеў на гарадской гаўптвахце і чакаў. Яго павінны былі вылечыць, выспаведаць перад тварам Усёдаравальнага і толькі потым застрэліць, як сабаку. Дзеці-дэмакраты пажалі жудасны пасеў прыгоннікаў-бацькоў.

Але асобныя дробныя атрады яшчэ блукалі па пушчах, і плёткі перабольшвалі іх сілу. Ніхто нічога не ведаў, як заўсёды на вайне, і кардон калаціла ліхаманка трывогі і жаху.

Таму нікога не здзівіла, што 18 жніўня на кардон прыляцеў улан на ўзмыленым кані, нешта хутка перадаў Пора-Леановічу і быў перапраўлены на той бок ракі. Конь раняў на насціл белыя хлапякі пены і так цягнуўся да вады, што пасыльны ўдарыў яго. Гораў пераправіў конніка на другі бераг (загад Фікельмонта прадугледжваў абавязковую прысутнасць на плывучым пароме аднаго з афіцэраў пры чатырох салдатах) і са шкадобаю глядзеў, як жывёла, амаль па-чалавечы стогнучы, выносіла улана на стромы чырвоны адхон.

Гэта было перад вечарам. Парыла так нясцерпна, што салдаты і капітан абліваліся потам. Паром не быў «самалётам»*, які рухае сіла плыні, і даводзілася цягнуць яго сілаю ўласных рук.

Цьмянае ад сонца люстра ракі здавалася мёртвым. Не боўтала рыба, і шэрыя чаплі на водмелях стаялі расхрыстаныя, замораныя, падобныя на пачварных вядзьмарак, апранутых у лахманы. Толькі ластаўкі ў быстрым лёце чыркалі крыламі ваду, ды недзе за бясхмарным даляглядам бурчаў нябачны пярун. Бурчаў упарта, раз-пораз.

«Будзе вераб'іная ноч», — падумаў Гораў.

Быццам адказваючы яму, адзін з салдатаў уздыхнуў:

— Залье нас сёння. Як вясной, будзем куваць на востраве.

---

* Самалётамі зваліся паромы, якім дастаткова было даць першы штуршок. Далей іх рухала плынь. «А салдат перакінуць на востраў самалётамі». (Загад Пятра I пры штурме Шлісельбурга.)

Процілеглы бераг быў нізкі, толькі на ўзвозе, дзе стаялі хатка паромшчыка і адрына, быў высакаваты пясчаны ўзгорак, упрыгожаны дзвюма хвоямі і дзесяткам чорных вольх. Туды вада не даставала.

— Іван, — спытаў салдата Гораў, — ты тут пяты год служыш. Што, шалее ў навальніцу Дняпро?

— Рака з характарам, — твар у салдата быў чырвоны, абліты сонцам. — У палавень залье ўсю пойму, толькі верхавіны над вадою дрыжаць. І так вёрст на сем. Несаабразнае месца для парома, пане, вось што я вам скажу. Тут у вераб'іную ноч дрэнна. Усе старыкі на пойме вадой залье... унь той клін адхопіць. Перапраўляцца нават і не думай. Канцы.

Паром торкнуўся ў бераг, і адразу лаза на беразе, якая дагэтуль плыла перад вачыма, спынілася, замерла.

Салдаты з вясёлым гоманам пацягнулі на ўзвоз чорны мораны дуб, прывезены на паліва.

Капітан уздыхнуў. Яму на хвіліну стала зайздросна. Быць такім шчыра вясёлым, такім неўтаймавана жыццярадасным — гэтага ён не мог, для гэтага трэба было быць істотай іншай пароды.

Усё тое ж самае. Трохі не месяц вочы бачаць той самы абрыдлы кардон, хатку паромшчыка, у якой філасофствуе за гарэлкай Пора-Леановіч, адрыну і вялізную стайню, дзе размясціліся салдаты, паласатую будку вартавога, асклізлы паромны канат.

Адзін паратунак — Дняпро. Ды і той ляжыць зараз пад свінцова-цяжкімі промнямі сонца, трывожны і немы.

А ў Маскве зараз цішыня. Масква толькі пачынае ажываць. Пусцеюць дачы і маёнткі. На ліпах Няскучнага саду першыя жоўтыя лісцікі; з багатых, па-асенняму, рынкаў даносіць пахам «валовых мордачак» (улюбёныя яблыкі маменькі). Маменька, пэўна, паехала зараз у манастыр маліцца за здравіе воіна Юрыя і за дараванне яму веры. Едзе паўз Круціцкае падвор'е ў сваім нехлямяжым, падобным на гарбуз вазку. Фурман Сідар з вялізным — на трох — задам крычыць на сустрэчных страшным голасам: «Адыдзі, сцеражыся!» А ў блакітным небе сляпуча блішчаць купалы сабораў, і плыве бязважкі контур Круціцкага церамка.

А вось і сам ён, Юрый, выходзіць з парадных дзвярэй, праходзіць дарожкай пад ліпамі, з насалодаю дыхаючы празрыстым і ўжо схаладнелым паветрам. Ванька ў армяку з дзіркай пад пахай трасецца на козлах.

— Гэй, Ванька!

І вось ляціць, ляціць вазок. Спачатку па Цвярской, потым бульварам, потым на Арбат. І лікуе, захлынаецца ў грудзях ад радасці сэрца. Так, вайна скончана, вайны ніколі больш не будзе. І ліпы! І Арбат! І цудоўныя асабнячкі... І Nadine ўстае яму насустрач у сваёй белай сукенцы...

— Гэта вы? Божа мой, як я рада!

І зноў — занадта паспешліва — апускае да вышывання нявінныя, цёмна-сінія, дзівосныя вочы. Што з таго, што яны толькі двойчы абмяняліся парай нязначных слоў, што яны амаль незнаёмыя. Усё адно гэта Масква, і сонца, і дзень без крыві і стрэлаў. І Масква гэта, і ёсць Nadine, Надзенька, Надзейка, як кажуць тут. Што з таго, што ён цэлы год не бачыў яе, што яны малазнаёмыя. Вось ён бачыць яе валасы колеру ржавых кляновых лісцяў, такія пушыстыя, мяккія, лягусенькія, падзеленыя белым радком, яе рот з прыпухлай ніжняй губкай.

— Надзенька, каб вы толькі ведалі, як я сумаваў па вас, як нясцерпна мне было без вас на гэтай зямлі, што стаптана капытамі конных палкоў.

Яна ўсміхаецца. І цішыня. Недзе ўдарыў і змоўк у шкляным паветры далёкі звон. Шчасце! Масква! І цішыня, цішыня ў шатах ліп. Цішыня.

Стрэл.

Гораў ад неспадзяванасці спатыкнуўся аб корань, які — д'ябал ведае нашто — выпер акурат на дарозе. І адразу пачуў за плотам распанелы грудны голас.

— Сымон, давай карту.

Вернуты стрэлам і гэтым голасам на зямлю, Юрый глыбока і цяжка ўздыхнуў і амаль з нянавісцю зглядзеў страшны ў чаканні невядомага Дняпро.

Бровы маладога чалавека задрыжалі. Але ўжо ў наступны момант ён справіўся — нездарма яго паважалі за шалёную храбрасць, хоць толькі ён ведаў, як цяжка яна яму даставалася, — і цвёрдай хадою накіраваўся ў двор, гэты сумны двор, выбіты, як ток, акружаны паламаным плотам.

Сярод двара, тварам да забітай брамы, стаялі два чалавекі: салдат-дзяншчык і афіцэр. Салдат трымаў скрынку з пісталетамі і калоду карт. Афіцэр браў са скрынкі пісталеты і, не цэлячыся, страляў у браму, у маленькі белы чатырохкутнічак, прыбіты да шула.

Афіцэр стрэліў апошні раз і павярнуўся:

— А-а, камрад... Да зброі, вісусы-гусары...

Горава які ўжо раз уразіў яго сухі прыгожы твар, белыя валасы і бакенбарды і, галоўнае, страшнаватыя блакітныя вочы з выразам пустаты і пагарды да ўсяго. І яшчэ рэзкі шнар паўз брыво і левую скронь.

Калі пры першай сустрэчы ён запытаўся ў Пора-Леановіча наконт паходжання гэтай адмецiны, той неахвотна буркнуў:

— Шпагаю тут адзін... падурэў. Штафедрон.

— Ну і што? — спытаў тады Гораў.

— Паспадзяваўся занадта на французскую школу, — з жахлівай іроніяй сказаў Леановіч, — у славутага, бачыце, Мерсье вучыўся.

Гораў ведаў, што чалавек, з якім звёў яго лёс, карыстаецца славаю першага ў палку — і не толькі ў палку — брэцёра, што ён ужывае толькі дуэльныя пісталеты, але за такім заняткам, як сёння, заставаў Леановіча ўпершыню.

— Руку набіваў, — сказаў Пора-Леановіч з паблажлівай ласкавасцю, — адвучвацца нельга.

Сымон, быццам жадаючы пахваліцца поспехамі пана, аддзёр ад шула карту і здалёк паказаў яе Юрыю.

— Ат, глупства, — пагардліва сказаў Леановіч.

— Нічога не разумею, — сказаў Гораў, — звычайны туз... Жалудовы.

— А вы паглядзіце лепей, — раўнадушна сказаў капітан.

Гораў падышоў, схіліўся над картай і мімаволі пацягнуў ротам паветра.

Туз быў віновы. Тры кулі, пасаджаныя амаль адна ў адну, зрабілі з віней жолудзі.

— Капітан, — сказаў Гораў, — гэта лепшае, што я калінебудзь бачыў.

— Лухта, — сказаў капітан, — хадзем лепей вып'ем...

...Гэта была звычайная вясковая хата, толькі што з бакоўкаю. Ды яшчэ палілі яе «па-беламу», так што хоць у гэтым сэнсе афіцэрам пашанцавала. Вялізны негабляваны стол, шырокія лавы, цемнаваты «Спас» у куце.

На вокнах у гаршках «алёнчыны слёзы». Сухія слёзы, бо зямля ўся ў тытунёвым попеле. Аж шэрая.

Адзінай украсай пацямнелых сцен былі два лубкі. На адным святы Елісей з тварам хітрага ідыёта насылаў на отракаў мядзведзіцу. Фарба ад німба расплылася ў Елісея па галаве, і невядома было, чаму ён з такой раскошнай шавялюрай пакрыўдзіўся на мянушку «лысы».

На другім лубку тры татарыны дзялілі палон.

Пакуль Сымон ставіў на стол гарэлку, гуркі ў смятане, міску з варанымі кіяхамі і патэльню, на якой клекаталі ў кіпячым масле смажаныя гусцёркі, Пора-Леановіч сядзеў на лаве ля акна, чысціў пісталеты і размаўляў сам з сабою.

— Зброю, міл-свет Юрый Аляксандравіч, трэба даглядаць толькі самому. Гэта адзіная машына, годная двараніна. Масла для зброі — арыстакрат сярод маслаў для ўсіх машын... Толькі самому. Мой сябра аднойчы загінуў з-за таго, што крэмень у дуэльным пісталеце быў тлусты... Нават не брудны, проста тлусты, ад пальцаў.

Гораў глядзеў, як пальцы Пора-Леановіча з незвычайнай пяшчотай мацалі сталь, і здзіўляўся, чаму нешматслоўны, заўсёды іранічны калега сягоння такі гаваркі, быццам баіцца пакінуць язык хоць на хвіліну без працы.

А Леановіч ужо скончыў з пісталетамі, паклаў іх у футляр і сеў да засланага стала.

— Сёння я нап'юся, — вельмі сур'ёзна сказаў ён.

Юрый сеў за стол з другога боку. Ён толькі прыгубіў першую чарку: піць не хацелася.

Спякота за акном стала, відаць, зусім нясцерпнай. Грозны Дняпро ледзь рухаў у разамлелых берагах цяжкія, як расплаўленае волава, плыні. Пярун бурчаў ужо зусім блізка, замрэяна, амаль без перапынку.

Гэта чаканне жахлівага, разлітае ў знемагаючай прыродзе, гняло нервы. Кроў здавалася густой і цяжкай, як ртуць. Яна цякла павольна, нараджаючы панура-злосныя, амаль ліхаманкавыя думкі. І Леановіч да таго ж ляскаў чарку за чаркай, як быццам жадаў што б там ні было выканаць свой добры намер: напіцца да моцы божай.

Уважаючы на сённяшні настрой Леановіча, ад гэтай «моцы божай» можна было чакаць чагось цікавага. І таму Гораў бадай не здзівіўся, калі Пора-Леановіч раптам адсунуў чарку.

— Вайна называецца, — з лютай весялосцю сказаў ён. — Сумна, Юрачка. Мне б тады ваяваць, калі рабавалі, за косы валілі пад сябе дзяўчат. А тут замест усяго гэтага — капеечны віст і бацькоўскае пасячэнне пейзанаў. Абас... мы з расійскай гісторыяй.

Проста перад сабою, на фоне акна, Гораў бачыў яго сілуэт, рэзкі, прыгожы профіль з прамым носам і ссунутымі бровамі.

— Ты кажаш «людзі», — сказаў Леановіч, хоць Гораў нічога не казаў. — Вось калі не ўходаюць цябе мае суайчыннікі і ты

дажывеш да нейкага там часу, — ты ўбачыш дажджы Леанід. Гэта зорны дождж. Зямля пападае ў яго кожныя трыццаць тры гады. І тады лятуць Леаніды. Зялёныя. Фасфарычныя. Быццам пан-бог, здзяцінеўшы, шморгае тысячамі запалак і глядзіць, ці ўсё яшчэ людзі льюць кроў... Так яны лятуць тысячагоддзі. І кожны раз, як прылятаюць, бачаць на зямлі тое самае: п'юць кроў, гвалцяць, круцяць хвастом добрыя людзі.

За акном — Юрый з трывогай сачыў за гэтым — хмары пачалі наплываць аднекуль і зацягваць неба. Яны накіпалі з амаль неверагоднай хуткасцю, грувасціліся адна на адну, пасоўваючыся туды, да Дняпра, у бок горада, дзе вісела яшчэ бялёсая смуга на невялічкім лапіку блакітнага неба.

Задуха стала нясцерпнай. І нясцерпным стала чаканне.

Толькі Леановіч, здавалася, не адчуваў нічога. Яго нахабныя і страшныя вочы гарэлі вясёлым шаленствам. І Гораў, успомніўшы яго сённяшнюю забаўку, зразумеў, што чалавек, які сядзіць насупраць яго, — страшны чалавек, вельмі небяспечны чалавек, драпежнік, у якога, пэўна, зусім няма ў душы месца для так званых пакут сумлення.

Леановіч торкнуў пальцам у адзін з лубкоў.

— Мы вось... як гэтыя тры татарыны. Адзін татарын — Філька (так ён зваў генерала Фікельмонта), другі татарын — я, а трэці — вы, вельмі шаноўны Юрый Аляксандравіч... Дзелім цноту прыдняпроўскай зямлі. Занятак з сэнсам. Таму што яна пад каго толькі не клалася. І выяўляецца, што ўсё гэта па меншай меры непатрэбна-с.

І тут пачалося. За акном раптам сцямнела. Шалёная віхура праляцела дваром, задзёрла шынель на галаву вартавому, схіліла на страху стайні чорную вольху, і тая затрапятала, сагнуўшыся ў дугу.

Шаленства перадnavальнічнага ветру не скончылася на гэтым. Ён вырашыў, відаць, наведацца ў госці да людзей у хаце. Раптоўна грукнулі дзверы, страшэнная пройма пацягнула да печы, дзьмухнула ў чалеснікі, задзёрла па дарозе абрус, ледзь не сарвала яго са стала разам з наедкам і вылецела ў комін, сказаўшы выразным фальцэтам:

— Аоў.

Гораў убачыў у акно, як гэты парыў проймы выкінуў з напаўразбуранага коміна галчынае гняздо і жагнаў яго, як кола, па пыльнай траве.

— Сымон, чортаў сын, — крыкнуў Гораў, — каглу забыў зачыніць.

І сам кінуўся да печы, зачыніў каглу, падторкнуў яе анучай.

Сымон скочыў у хату як апантаны, паправіў абрус, зачыніў дзверы, шуснуў у бакоўку і борздзенька выскачыў адтуль з запаленай свечкай.

Гораў убачыў, што Леановіч сядзіць, успёршыся скронню на кулак, вельмі бледны, з заплюшчанымі вачыма. Вусны яго варухнуліся:

Стаіць певень над кручаю,
Заторкнута с... анучаю.

І растлумачыў:

— Разгадка гэтай загадкі — «кагла». Катэхізіс народнай мудрасці ўвесь складаецца з такіх выслоўяў.

Гораў убачыў, што Сымон задаволена хмыкнуў.

— Ідзіце, Сымон, — сказаў ён, гледзячы ў акно.

Сымон выйшаў. Гораў павярнуўся да субяседніка і з дакорам сказаў:

— Як вам не сорамна. Пры салдаце паказалі сябе дурнейшым за яго. Аблаялі народ. Вы ж беларус. Старога роду.

Па шчоках Леановіча папаўзлі чырвоныя плямы. І раптам ён зацікаўлена спытаў у Горава:

— Што мне, есці гэта? І што такое наогул беларус? Каго тут не было? Немцы былі, палякі былі, літва была. І раптам... бела-рус. Сеў сабе з дурной мордай і — сікась-накась — пальцам у носе калупае...

Пры апошніх словах зрэнкі Леановіча папаўзлі да пераносся. Твар стаў такі дурны, што Гораў са сваім легкаважным і вясёлым характарам не вытрымаў, засмяяўся.

— Няма нічога смешнага, — вызверыўся Леановіч. — І ў вас і ў нас адна хвароба. Усю сваю гісторыю мы задніцай думалі. І наконт будучага ў гэтым сэнсе я аптымістам быць не магу... Чаго ад нас чакаць? Святаслаў забі Яраслава, Яраслаў забі Ізяслава, Ізяслаў забі Святаполка, а Святаполк коцнуў Барыса ды яшчэ і Глеба... туды ж яго матары. А тыя да пакутніцкай канчыны ўходалі двух братоў і трох сватоў і за гэта хрысталюбівай праваслаўнай царквою прылічаны да хеўры святых...

Вераб'іная ноч за акном ужо ўступіла ў свае правы. Неяк вельмі хутка. Дождж сцябаў так, што, здавалася, паветра было менш, чым вады. Маланкі крэслілі неба. Так часта, што жоўты агеньчык свечкі стаў зусім непатрэбным. У сінім агні бліскавіц Гораў бачыў мярцвяны твар, пакрыты кропелькамі поту.

— І заўсёды на наш вялікі народ палка знойдзецца , часцей за ўсё чужая. Цар, псар — гэта нам усё адно, абы кумпякі магутныя былі, ды барада венікам, ды вусы пажахлівей. І ўжо тут мы ў вернападданасці сваёй усяго яго абліжам, аж да цяжкага гузна. Іх вялікасць у ложы сядзяць, гімн, створаны вялікім паэтам, яму спяваюць, а бараны ў лікаванні да яго ўсім натоўпам кідаюцца... А блакітныя мундзіры іх — па мордзе, па мордзе: «Сядзіце на нумарных месцах. Чорт вас ведае, а раптам у вас гармата ў каго ў кішэні...» А ў тых па мордах і юшка цячэ, і слёзы замілавання. І не разбярэш, чаго яны галосяць — ці ад болю, ці ад захаплення... А назаўтра — «За цара, за веру, з намі бог! Бязбожныя французішкі караля свайго да смерці забілі. Бі іх, пакуль смяротнай ікаўкай не загікаюць». Патрыятызм.

Юрыю і шкада было гэтага чалавека, і абурэнне разбірала. І ўсё ж згадзіцца з ім было нельга. Гэта азначала, што ўвесь ягоны свет: універсітэт, дзе прафесары чыталі пра мікракосм, Nadine, якая захапляецца Тургеневым, чынны, велічны, дзяржаўны спакой Неўскай набярэжнай, маці, якая просіць аб веры для сына і хрысціцца з любоўю на крыж Міколы на Курыных ножках, — усё мана, усё міраж.

Казаць Леановічу аб гэтых няўлоўных прыкметах, бадай што,і няварта было. Ён, просталінейны, мог і не зразумець. Таму Гораў даволі бездапаможна — ён і сам адчуў гэта і пачырванеў — сказаў яму:

— Вы дваранін, капітан Леановіч, вы павінны паважаць традыцыі...

Леановіч ускіпеў:

— А адкуль маё дваранства ідзе, вы ведаеце? Чаму ў мяне да прозвішча прыдомак «Пора», ці, па-простаму, «Пара»?

— Не, не ведаю.

— Таму што ад бандзюкоў паходзім, міл-свет Юрый Аляксандравіч... У цараванне, здаецца, цара-цяляці горад Магілёў аддаўся ва ўладу баганоснага маскоўскага воінства[1]. Заўважце, сам. Ну, на знак удзячнасці жыхароў уганорылі трымаць гарнізон коштам самога ж вялікага града. І сталі тут нашы лабідуды думу думаці. «Гэта каб яшчэ батагамі, дык згода была б — усё жыццё з-пад батагоў не вылазім. А грошыкі — тут ужо не. Дудкі».

Стук у дзверы прымусіў Леановіча змоўкнуць. І Гораў сказаў холадна:

— Заходзь.

Увайшоў Іван, той самы, з якім Гораў размаўляў на пароме. Грубы, чырвоны твар Івана, твар сапраўднага салдафона, быў

мокры. З-пад салдацкай бесказыркі спадала пасма рэдкіх сівеючых валасоў. І нягледзячы на тое, што ён быў мокры, хоць выціскай, што з шыняля капала, — кожны пазнаў бы ў ім старога, бывалага салдата. Выраз твару казаў сам за сябе, выраз афіцыйнай адданасці і пачцівасці, праз які відавочна праглядала лёгкая пагарда і свая, незамаскаваная, думка аб усім.

— Чаго табе? — спытаў Леановіч.

— Ваша высакароддзе, вада прыбывае. Рака пайшла старыкам.

Гораў мог бы пабажыцца, што на твары Леановіча мільганула радасць.

— Брашы больш, — з недапушчальнай фамільярнасцю сказаў капітан. — Што ж, за гадзіну залівені магло так раку наліць?

— Пэўна, у вярхоўях некалькі гадзін ліло, ваша высакароддзе. Вадамерная рэйка пад вадой.

— Ну і добра. Дні два можам не чакаць мяцежнікаў... Ідзі да д’ябла.

І, пабачыўшы, што салдат усё яшчэ стаіць, спытаў:

— Ну, чаго табе яшчэ?

— Прахожыя могуць сунуцца ў ваду на звычайным пераездзе цераз старык... Дазвольце мне каравул паставіць... Могуць патопнуць.

— Твая якая справа? — спытаў капітан. — Няхай не соваюцца ў ваду, няхай вяртаюцца ў Збароў і там начуюць... Ніякіх каравулаў.

— Слухаюся — ніякіх каравулаў, — сказаў Іван і выйшаў.

Леановіч яшчэ хвіліну маўчаў, гледзячы за акно, дзе ў сінім святле маланак буйна скакалі па зямлі вадзяныя бізуны. Потым казаў далей:

— І вырашылі рэзаць кроўных братоў. Калі ваш продак сярод іх быў, дык я яму не пазайздрошчу. Таму што некалькі тысяч іх было, і ніхто не ўцёк... Пачалося з таго, што нехта са стральцоў на кірмашы пірог у бабы ўхапіў. І тут мой продак, як хрысціянін, не вытрымаў, выбег з ратушы з крыкам «Пара!..».

...Увесь Мікалаеўскі спуск касцямі закідалі — адсюль і пайшла новая назва: Касцярня... Колькі стральчыхі па іх пагаласілі, колькі дзеці! Нічога не зробіш, любоў да брата... А з-за чаго? З-за пірага ўсё, родненькі, з-за пірага...

...З пірага і дваранства наша пачалося. Кароль польскі — бац, прывілей: даць Леановічам прыдомак «пара», а як на іхняй мове гэта дрэнна гучыць, то перарабіць яго на «пора». Весяліся, Марцэля! А потым у горад польскае войска, ды кожнага

дваццатага — на слуп: няма чаго зламысныя змовы з Масквою заводзіць. Э-ех, павесяліліся.

— У вас ёсць народ, — ціха сказаў Гораў. — Ёсць павага да чалавека, любоў да яго. Хіба гэтага мала? Я ведаю, многа дрэннага рабілі і робяць улады, але ж людзі не вінны.

— Мы вельмі любім народ, — сказаў Леановіч, усміхаючыся кутком прыгожых губ. — Каб зручней залазіць яму ў кішэнь... Не-е, вы, Юрый Аляксандравіч, з вашай слінявай вераю ў чалавека ідзіце — ведаеце куды? Гэта быдла па галаве трэба біць. І ваша, і наша, і польскае, і ўсякае. Іншага яны не варты... Шкадаваць? Каго? За што? За тое, што яны мэкаюць і бобам сыплюць? За тое, што ў іх спіна прыстасавана для сядла? За тое, што іхнія зады самі пэндаляў просяць?.. Не-е, Юрый Аляксандравіч, будзем шчырымі... Ёсць мой мозг і мая рука, што кожнага здолее ўзяць за глотку. Я іду! Хілíся?.. І нікога не шкадуй для сваёй мэты... Пакуль у сілачку не ўваб'ешся, — маўчы, падпарадкоўвайся і паступова прывучай усіх баяцца цябе... А там — не шкадуй. Ні жанчын, ні дзяцей. Ідзі па трупах, і добра табе будзе. З людзьмі ўсякія сродкі добрыя. Здрада, атрута, данос, а пасля нож, бізун, турма... І не трэба саромецца. Я не саромлюся. На прыгожыя словы — пляваць. Я такіх брыдот нараблю, што ўсіх ванітаваць будзе. Вас будзе ванітаваць, а я тым часам на кожнага пятлю накіну. І зацягну...

Дзіўны чалавек сядзеў перад Горавым. Страшны, як шалёная рысь. І Гораў няшчыра пазяхнуў і спытаў:

— Вы французскай хваробай ніколі не хварэлі, капітан? Бо нешта мне здаецца, што такія словы сведчаць аб размякчэнні спіннога мозгу.

— Нават слоў маіх баіцёся, — жорстка засмяяўся Пора-Леановіч. — Не, капітан, я не хварэў французскай хваробай. Ніколі. І продкі мае не хварэлі. Зберагалі для мяне сваю сілу.

— Ішлі б вы лепей спаць, капітан.

— А вы што?

— Я не хачу вас слухаць. Я афіцэр. Што б я ні думаў, я звязаны прысягай і законам гонару.

— Псу пад хвост, — сказаў Леановіч.

Ён устаў і шырока пацягнуўся, распраўляючы мускулы. Засмяяўся:

— Прашчур — малайчына. Галоўнае — стаць на той бок, які выйграе.

Гораў адышоў ад стала, успёрся локцямі на падваконне і прыціснуў лоб да халоднага шкла.

Дождж ліў так, што ўся зямля ў сляпучым святле бліскавіц укрывалася сінімі ўспышкамі падаючых кропель. Быццам поле нізкіх, ля самай зямлі, кветак вырастала паўсюль і зноў згасала ў цемры. Білі грымоты.

Нехта люта сваволіў, ломячы ў хмарах тоўстыя дрэвы.

Праз шум дажджу пачуўся шолах колаў па хліпкай зямлі. Глухія галасы.

Гораў угледзеўся ў цемру:

— Нехта прыехаў.

Ён накінуў плашч і выйшаў.

Сярод двара стаяла парная прыпрэжка. Дымелі спіны змораных коней. А за імі ледзь вымалёўваўся цёмны сілуэт лёгкай брычкі з узнятым верхам. Фурман, сівавусы чалавек, падобны ў плашчы на натапыраную птушку, завіхаўся ля коней. Ад маланак цень яго, вялізны і нехлямяжы, кідаўся ва ўсе бакі.

Завеска брычкі адшморгнулася: з'явілася і ступіла на прыступку невялічкая нага. Жанчына, высокая і зграбная, у цёмным плашчы, стала проста ў ваду, якая плыла па ўсім двары, і азірнулася.

— Сюды, пані, — спяшаючыся з ганка ёй насустрач, голасна сказаў Гораў.

Ён адчыніў перад жанчынаю дзверы. Тая пераступіла парог і адкінула капюшон, мружачы вочы ад сляпучага — пасля цемры — агеньчыка свечкі.

Здзіўлены Леановіч глядзеў на жанчыну вялізнымі вачыма.

Глядзець было на што. Ніколі яшчэ Гораў не бачыў такога аблічча.

Густыя цёмныя бровы, якія здаваліся амаль мужчынскімі, каб не агромністыя, як чорныя азёры, бліскучыя вочы і прыпухлы маленькі рот. Прамы, невялічкі нос, мяккі авал трохі асіметрычнага аблічча, якому самая гэтая асіметрычнасць надавала дзіўны выраз мяккай жаночай пакорлівасці ў спалучэнні з уладнасцю, мала таго, з прывычкай уладарыць.

«Адкуль гэта, — падумаў Гораў, — ад арыстакратызму? Наўрад ці. Яна, відаць, такі самы арыстакрат, як я. Проста чалавек духу і думкі. А ўладнасць — як гэта я не здагадаўся? — проста таму, што мужчыны не могуць не быць рабамі перад такой жанчынай».

І ён адчуў, што, каб не мундзір, каб не вайна, — ён, можа, і сам стаў бы яе рабом. І нёс бы гэтае рабства нават з прыемнасцю.

На цёмна-русых валасах жанчыны, над лобам, вясёлкава блішчалі малюсенькія кроплі вады. І быў гэта твар, у якім было нешта дзіцячае і безабароннае пры ўсёй дарosласці.

Леановіч уздыхнуў і апусціў твар у далоні. Гораву здалося, што плечы капітана калоцяцца ад прытоенага смеху. Але, калі Леановіч узняў вочы, твар яго быў сур’ёзны.

— На той бераг, калі ласка, — сказала жанчына.

Леановіч глянуў на гадзіннік. Было адзінаццаць гадзін ночы.

— Сядайце, піце чай, — спакойна сказаў Пора-Леановіч. — Сымон, фурману шклянку гарэлкі. Коней — выцерці.

— Дзякуй вам на добрым слове, але я не магу, — сказала яна.

— Падпарадкуйцеся, калі ласка, — ветліва, але цвёрда сказаў Леановіч.

Жанчына прыўзняла на яго вочы, быццам здзіўленая гэтай нечаканай цвёрдасцю. Але ўсё ж падпарадкавалася, села.

Гораў паспешліва згроб разам з абрусам рэшткі вячэры і выпіўкі. Адной рукой. Правая вісела на перавязі. Яна зусім загаілася, але не магла доўгі час вісець усцяж цела, зацякала.

Увесь гэты час жанчына безуважліва глядзела ў акно. І нават потым, калі пілі чай, не дакранулася да ежы, нягледзячы на ўсе ўгаворы Леановіча. Толькі пагрэла рукі аб шклянку і адпіла некалькі глыткоў. Леановіч павольна і з відавочнай насалодаю хлябтаў бурую ад заваркі вадкасць.

Калі Сымон прыбраў са стала, капітан зручна сеў, прыхіліўшыся спіною да сцяны, і, спытаўшы дазволу, закурыў.

— Дык у чым справа, пані?

— На той бераг. Я вельмі спяшаюся, — усхвалявана сказала яна. — За ўсю дарогу я толькі тут на цэлую гадзіну затрымалася.

— Давядзецца чакаць да раніцы, — спакойна сказаў Леановіч.

— Чаму?

— Вось загад генерала Фікельмонта ўначы абараняць паром, не падпушчаць чужых людзей. Тым больш цывільных... Пераначуйце тут. Пакой мы аддамо вам.

— Мне нельга.

— Вельмі шкадую, пані. Загад Фікельмонта. Ваенны час, пані. Інсургенты...

— Я не інсургент. Я толькі жанчына, маці.

— Захварэла дзіця? — пацікавіўся Пора-Леановіч.

— Не. Я спяшаюся да мужа.

— Шкадую, пані, але дапамагчы не магу. Палявы суд — непрыемная штука. І ёсць загад Фікельмонта, — як малому дзіцяці, добразычліва тлумачыў Леановіч.

— У мяне таксама загад. Яго сіяцельства. Прачытайце.

Ніхто не папрасіў назваць прозвішча. У гэты час на Беларусі было толькі адно «сіяцельства», падпарадкоўваючыся волі якога рухаліся палкі, ганцы заганялі да смерці коней, людзі мучылі людзей.

— Так, загад Мураўёва, — сцвярджальна сказаў Леановіч, гледзячы на паперу.

Гораву здалося, што выгляд у Леановіча не вельмі здзіўлены.

— Ого, — з удаванай уважлівасцю сказаў Леановіч, — дык вы жонка Усяслава Грынкевіча. Таго?

— Так, — сказала жанчына, сыходзячы да чагосьці, падобнага на просьбу, — вы ж бачыце, што я вязу памілаванне. Будзьце літасцівы.

Твар яе аж ззяў.

— Замянілі пажыццёвай катаргай. Гэта такое шчасце! Такое...

Яна ўпершыню ўсміхнулася. Не было нічога прыгажэйшага за гэту ўсмешку.

— Мужу варта было б думаць раней, — суха сказаў Леановіч. — Замест саламянай падушкі ён абдымаў бы зараз адну з самых прыгожых жанчын, якіх мне даводзілася бачыць.

Жанчына ўспыхнула, але стрымалася:

— Я ўсё гэта разумею. Але зразумейце і вы. Ён будзе жывы. Толькі на той бок — і праз гадзіну я там... І ён жывы.

Леановіч маўчаў, нешта абдумваючы. Зірнуў на гадзіннік. Машынальна глянуў і Гораў. Дванаццаць гадзін. Быццам у адказ праз рык навальніцы данесліся далёкія глухія ўдары саборнай званіцы горада.

— І яшчэ адна прычына, — сказаў нарэшце Леановіч. — Вераб'іная ноч. Рака ўсхадзілася. Можна патапіць паром. І вас. І людзей.

— Зразумейце, яго кожную хвіліну могуць забіць.

Гораў бачыў: яшчэ дзесяць хвілін такога катавання і жанчына можа заплакаць. Усе другія на яе месцы плакалі б ужо.

Пора-Леановіч, усё з тым самым выразам дагаджэння на сухім прыгожым твары, накінуў на плечы жанчыне плашч.

— Выйдзем, пані... Гораў, хадзем з намі.

Дождж на дварэ пачынаў сціхаць, затое ўзняўся і абяцаў зрабіцца яшчэ больш моцным нізавы вецер. Калі яны, з цяжкасцю

пераадольваючы яго імпэтныя парывы, выйшлі на адхон, — іхнім вачам адкрылася жудаснае відовішча.

Рака лютавала. Нізавыя парывы ветру развялі вялікія, у рост чалавека, хвалі. Яны каціліся супраць плыні, шоргаючы белымі грабянцамі. Хлапякі пены ля берага з цяжкасцю, з яўнай папругай пасоўваліся па плыні, падскокваючы на вадзяных гмахах. А ў прыдоннай лазе круцілася, віравала рудая пена. Хвалі ішлі адна за адной, і процілеглы бераг губляўся ў чарнільным навальнічным цямноцці.

Але і адтуль, са змроку, далятаў усхваляваны, нізкі гук вады. Рака таўклася ў берагі, імкнучыся вырвацца з іх. Праз пляму святла на вадзе слізгануў па хвалях дзіравы кошык, потым — цэлае дрэва, яблыня, вымытая з карэннем. Дзіўна было бачыць на яе апырсканых пенай галінах, якія круціліся, то знікаючы пад вадой, то зноў выплываючы, два-тры недаспелыя антоны.

Леановіч моўчкі паказаў рукою, што трэба вяртацца ў пакой. Толькі там, у разамлелай цеплыні начнога чалавечага гнязда, ён сказаў:

— Вы самі бачыце, пані. Паром немінуча знясе. Пачакайце да раніцы.

— Але ён чакае, — амаль умольна сказала яна.

— Ён чакаў два месяцы. Некалькі лішніх гадзін нічога не зменяць, — абыякава да здзеклівасці сказаў капітан.

«Не можа ж ён не разумець яе становішча, — думаў Гораў. — Што гэта? Здзек або халодная подласць».

Жанчына, здавалася, не заўважала інтанацый Леановіча.

— Для асуджанага кожная гадзіна чакання — гэта лішнія маральныя пакуты, — проста і сурова сказала яна, — вы ведаеце гэта...

— Вы можаце загінуць пры пераправе.

— Я не баюся гэтага.

— Я за вас таксама не баюся, — абыякава сказаў Леановіч. — Але я адказны за жыццё салдат. У іх таксама жонкі.

— Я магу паехаць з ёю, — раптоўна для самога сябе сказаў Гораў.

— Вы адзін не здолееце, — са спакойнай усмешкай на прыгожых і жорсткіх вуснах сказаў Пора-Леановіч. — Не звяртайце ўвагі, пані. Гэты парыў сведчыць аб добрым сэрцы, але ў капітана Горава параненая рука... у бітве з інсургентамі... Дарэчы, у гэтай бітве ён выявіў сябе героем.

То быў несумленны ўдар, але Гораў змоўчаў: ён не хацеў сказаць, што паранены пад Ракавам, а не тут, ён наогул не хацеў апраўдвацца.

— Так, — сказаў ён, — але можна спытаць у салдат, хто захоча.

— Салдацкая самадзейнасць? — Спакой тону Леановіча межаваў са здзеклівасцю. — Ну, не... А адказ — мой.

— Мне здаюцца падазронымі вашы паводзіны, — сказаў Юрый.

— Капітан Гораў, — не павышаючы голасу, сказаў Леановіч. — Я забараняю вам... Вы пакуль што падначалены.

Гораў змоўк. Ён зразумеў, што капітана не зрушыць, што ён мацнейшы за каменны мур. І такі ж раўнадушны. Гораў нават адчуў на хвіліну, што сабою ён, Юрый, пагарджае, а Леановіча пачынае паважаць за такое няўхільнае выкананне абавязку. І ўсё ж гэта быў жорсткі абавязак, непрыемны абавязак.

— Я паплыву, — сказала жанчына, — я добра плаваю.

Зірнуўшы на яе рашучы, мэтаімклівы твар, Гораў зразумеў, што гэта не пустая пагроза.

— Я не дазволю вам, — сказаў Леановіч. — Вы забылі, што я мужчына і воляй лёсу адказны за жыццё дамы, за ваша жыццё.

— Вы мужчына? — горка сказала яна. — Сапраўдны мужчына сам паплыў бы са мною, калі не хоча рызыкаваць салдатамі і паромам. Вы проста баязлівец.

— Я дзесяць разоў стаяў на бар'еры пад кулямі, — безуважна сказаў Леановіч. — Я тройчы паранены на вайне.

Яна кінулася да яго, потым бяссільна апусцілася на ўслон, упала галавою ў далоні:

— Майце літасць, пан капітан... Божа! Хоць галаву аб вас разбі!!!

— Не раю, — сказаў Леановіч.

Слухаць маўчанне, якое наступіла пасля гэтых слоў, было нясцерпна. Гораў выйшаў на ганак і доўгі час стаяў, затуліўшыся ад халоднага ветру, за рогам хаты. Потым, з цяжкасцю вырываючы ногі з раскіслага глею, пайшоў да брамы пад рэдкім, як слёзы, дажджом.

Далёкія чырвоныя бліскавіцы ўсё яшчэ ўспыхвалі на вяршынях чорных вольх. Вецер не сціхаў. Рака ўтрапёна пялёскалася пад адхонам.

Гораў абышоў пасты — паўсюль яго сустракалі воклічамі. Кардон не спаў.

...У гадзіну ночы, агледзеўшы ўсё, што трэба і не трэба, Гораў усё яшчэ гуляў пад дажджом, цяпер без мэты. Праходзячы нарэшце да ганка паўз асветленыя вокны хаты, ён убачыў у адным акне твар Леановіча, жахлівы, відавочна пастарэлы твар. Леановіч глядзеў у цемру.

У акне бакоўкі Гораў заўважыў постаць жанчыны. Тая кідалася, як зняволеная. Спынілася, ударыла кулачком па печцы.

Гораў апусціў галаву. Яму не хацелася больш ісці ў хату.

Зноў рака, зноў ідовішча звар'яваных хваль. Зноў двор — чортава кроў, плашч пачынае прамакаць! — зноў месца за рогам і агеньчык запалкі ў руцэ.

— Палова другой.

Якраз у гэты час Грынкевічава выйшла на ганак. За ветрам Гораў невыразна пачуў:

— Божа, божа, божа...

За яе спіною з'явіўся сярод цемры аранжавы прамкутнік дзвярэй і ў ім сілуэт падабранай, налітай імпэтнай і спакойнай сілаю постаці.

— Зайдзіце ў пакой, — добразычліва-ледзяным голасам сказаў Леановіч, — я адказваю за вас.

Яна падпарадкавалася, і Гораў, адчуваючы, што зараз можа адбыцца нешта жахлівае, пайшоў за імі ў пакой, зноў убачыў змучаны, без крывінкі твар.

— Майце літасць...

І раптоўна ўся сіла гэтай натуры, уся яе палкая страснасць выбухнула парывам гора.

— Няўжо ў вас не было кахання... хоць маленькіх успамінаў? Яшчэ тры гады таму ён быў толькі маім жаніхом! Разумееце вы, ці ў вас лядзяш замест сэрца?! Быў май, і мы гулялі ў гарыпні... Такі смех быў над паплавамі... А зараз ён заўчасна сівы, змучаны. Яму нельга!..

— Пані, усё гэта дарэмна, — ветліва сказаў Леановіч.

І гэтыя словы вярнулі яе да прытомнасці.

— А-а-х-х вы! Што вы варты? — з невымоўнай пагардай сказала яна. — Фрунт забіў вашу душу. Вы не разумееце нават, што ён не за сябе, што ён за народ, за вас, за гэтых бедных людзей. Ён не дзеля грошай, не дзеля ўлады. Ён... каб народ быў вольны. Гэта і ваш народ, пан капітан... Воля патрэбна ўсім двухногім. А нам, беларусам, рускім, палякам, — больш за ўсіх. Бо мы штодня без яе паміраем у пакутах.

Твар Леановіча скрывіўся нейкай жудаснай грымасай:

— Пані, я адпраўлю вас не на другі бераг, а з аказіяй у Магілёў, калі пачую яшчэ хоць слова ў гэтым стылі.

Жанчына моўчкі пахітала галавой:

— Які ж вы нізкі чалавек.

Ляснулі за ёю дзверы бакоўкі.

— М-гух, сука, — сказаў Пора-Леановіч.

Гораў праглынуў камяк у горле і ціха сказаў:

— Леановіч, гэта брыдка.

Але на вуснах начальніка кардона зноў з’явілася прыязная і страшнаватая ўсмешка.

— Капітан, — сказаў ён, — гэта, здаецца, вас прыставілі наглядаць за мною, а не мяне за вамі. Мне здаецца, яны зрабілі дрэнны выбар.

Гораў аслупянеў. Ён ніколі не ведаў, ніколі нават не мог падумаць, што на яго можа ўпасці такое падазрэнне. Ён стаяў, моўчкі хапаючы ротам паветра. Бялявыя хвалістыя валасы прыліплі да спацелага лоба, глыбокія сінія вочы сталі жаласнымі.

Быццам атрымаўшы ўдар пад грудзі, ён з хвіліну моўчкі хапаў ротам паветра, а потым кінуўся прэч з пакоя.

Стоячы за рогам хаты, адчуваючы, як мокры ліст высокай вяргіні часам гладзіць яго па шчацэ, ён у думках пагражаў Леановічу самымі жахлівымі помстамі і ў той самы час ведаў, што нічога ён яму не зробіць, што гэты брэцёр з халоднымі вачыма робіць правільна, затрымліваючы жанчыну да раніцы, што на баку гэтага чалавека — права, права вайны, якой яны абодва служаць.

«Што ж, нічога не здарыцца дрэннага. Адна ноч. І раніцай яна сустрэне мужа. Ім дадуць спатканне, — думаў ён. — За што ж я злуюся на Леановіча, які шчыра выконвае загад?.. За тое, што ён свіння. Чаму?.. Ага, проста нельга адбіраць у гэтай жанчыны тых некалькі лішніх гадзін, што яна будзе з мужам перад тым, як... навекі, назаўсёды, хоць ён і будзе жывы».

Мокры ліст вяргіні зноў з ліслівай абыякавасцю пагладзіў яму шчаку.

«Але чаму «навекі»? Чаму «назаўсёды»? — думаў Юрый. — Ён пасядзіць год пяць, а потым, вядома, будзе амністыя... Цар міласэрны... Дрэнны чалавек не адпусціў бы на волю прыгонных... І ўсё ж гэта жахліва... Нават пяць год. У жанчын такая мімалётная прыгажосць! Што будзе з яе вачыма, з гэтай гордай шыяй, з гэтымі валасамі праз пяць год? Шкада жанчын, шкада іх дзіцячай безабароннасці... Толькі яе... А Леановіч робіць так, як трэба. Ён добры салдат, Леановіч, а я дрэнны... дрэнны».

І ўсё ж Гораў адчуваў, што ён ніколі не даруе сабе гэтай ночы, гэтых разважанняў за рогам хаты. Ён са злосцю адкінуў рукою мокрае сцябло вяргіні і ступіў у пляму святла, што падала з акна хаты на гразь.

Было дваццаць хвілін на трэцюю.

Ля плота, непадалёк, стаяў Іван, трымаючы нешта за пазухай.

Гораў глыбока ўздыхнуў — нясцерпна было вось так, аднаму, стаяць у цемры — і падышоў да яго. Салдат трымаў за пазухай адну руку. На яго цёмным твары блішчалі вочы пад кашлатымі бровамі.

— Што гэта ў цябе?

— А галчаняткі... бедныя. Познія, — сіпатым голасам сказаў Іван. — Гняздо раскатала. Жорсткая штука ўраган, барын. Дзе хавацца? На якой зямлі?

Настала паўза. Іван глядзеў за пазуху.

— Ты адкуль, Іван? — ціха спытаў Гораў.

— Маскоўскі.

— Землякі, — з нечаканай для сябе пяшчотай сказаў Юрый.

Зноў запанавала маўчанне. Толькі шапацеў па дзядоўніку дождж.

— О-ох, — сказаў сіпаты голас Івана. — Зараз на Пятніцкай катрынка грае, служанкі ля пад'ездаў семкі лузгаюць... Іван Вялікі непадалёк гарыць, аж вачам балюча.

Абодва не думалі, што ў Маскве зараз таксама ноч. Вачам афіцэра і салдата яна здавалася сонечнай, ззяючай і асветленай цеплынёю вечнага жнівеньскага дня.

— Людзі з царквы ідуць, — казаў Іван. — «Вуглей гарачых!» здалёк даносіцца.

— На развале кнігамі гандлююць, — летуценна сказаў Гораў.

— Угм, — няўпэўнена і адразу неяк адчужана сказаў Іван.

І Гораў таксама адчуў гэта. Ён стаяў, пакутліва думаючы, што яму штосьці трэба ад гэтага салдата, што яму трэба штосьці вырашыць.

— Галчаняткі вы... дурныя. Бач, вачыма лыпаюць.

І раптам Гораў, амаль нечакана для сябе, сказаў:

— Іван, як пераправіцца цераз раку?

Іван спадылба глянуў на афіцэра, павагаўся, а потым цалкам натуральна адказаў:

— Яно можна.

— Ты не думай, — заспяшаўся Гораў. — Я загадваю, я сам з табою і паеду...

— Вядома, загад, барын, іначай нельга, — сурова сказаў Іван. — Можна б і ў начальніка кардона спытаць, але ён, відаць, заснуў.

І прыбавіў:

— Мы човен схавалі.

— Човен? Як асмеліліся? А загад?

— А адкуль у нас рыба ў юшцы? — амаль груба спытаў салдат. — Што ж нам, на кашы сядзець? Калі самі сабе не дапаможам...

— Добра, добра, — сказаў Гораў і пасуровеў. — Што ж, Іван, са мной паедзеш?

— Цяжка ўтраіх, — уздыхнуў Іван, — але паспрабаваць трэба.

— Едзем.

— Ну-к, што ж, — Іван памаўчаў, потым падаў голас у цемру. — Сідар, га Сідар, галчанятак вазьмі...

Гораў ужо цёпаў прэч ад яго па глыбокай гразі. Спыніўся пад акном бакоўкі, пашкроб у яго пальцам. І амаль адразу ўбачыў за каламутнымі шкельцамі яе твар з пашыранымі вачыма. Гораў прыклаў палец да губ, і яна здагадалася, бязгучна расчыніла акенца.

— Збірайцеся, — шэптам сказаў ён, — і дзьмухніце на свячу: хай думаюць, што вы спіцё.

Бакоўка адразу агарнулася цемрай. Белы цень твару наблізіўся да вачэй Горава.

— Дапамажыце мне.

У цемры дзве цёплыя рукі абвілі шыю Горава. Падтрымліваючы яе за стан, ён павольна пацягнуў яе на сябе — акенца было вельмі вузкім. Перагнуўшыся назад, ён адчуў, як на яго ключыцы ляглі цвёрдыя жаночыя грудзі. У наступную хвіліну яна стаяла поруч з ім.

— Дайце мне руку, — шэптам сказаў ён, — хадзем.

Маленькія цёплыя пальцы праціснуліся ў яго далонь. Гораў, спяшаючыся, павёў яе да берага, спачатку амаль на дыбачках, потым бягом...

— Іван, дзе ты? — шапнуў ён, нахіліўшыся з адхону.

— Тут, — прагучаў у адказ сіпаты голас.

Салдат стаяў на невялічкай убітай сцежцы.

— Хутчэй, — сказаў ён, і яны ўсе пабеглі берагам да высокіх зарасцяў лазы.

...Гораў трапіў нагою па калена ў ваду, балюча накалоў руку на сухую і вострую, як косць, лазіну ў гушчары. Іван узяў жанчыну з рук Горава і, занадта гучна шабоўтаючы нагамі па вадзе, панёс яе некуды ў нетры прыдоннай лазы.

— Ёсць, — сказаў ён, вярнуўшыся, — дайце руку.

І пацягнуў Горава кудысьці ў цемру.

Выцяўшыся каленам аб борт чаўна, Гораў пераваліўся ў хісткую пасудзіну.

— Чакайце, — буркнуў Іван, — толькі сцябла схаваю.

— Якое сцябла?

— Ну, тутэйшае слова, латок, на які нерат укладваюць... Хлопцы, як згубім, не пахваляць.

Ён яшчэ з хвіліну шапацеў у лазе, як вялізны бабёр, потым сунуў у руку Горава вясло.

— А другое?

— Гэта вам не катанне на Яўзе... Тут адным абыходзяцца. Вяслуйце ля самага борта, а потым злёгку падайце канец убок і ўгору.

— Дайце я, — сказала жанчына, — ён не ўмее.

— Сілы пашкадуй, дзіцятка, — грубым голасам сказаў Іван. — Да конскіх могілак дзве вярсты... у цемры.

Конскімі могілкамі называлася месца, ля якога стаяла гаўптвахта.

Іван моцным штуршком выкінуў човен з лазы. І адразу — спачатку слаба, потым мацней — пасудзіну пачало гайдаць, а потым кідаць па хвалях.

— Чорт, — сказаў салдат, — наўкос бяры, не стаў бокам да хвалі.

— Нічога не бачу.

Бледная бязгучная маланка якраз у гэту хвіліну заліла няпэўным дрыготкім святлом абшар Дняпра, пасівелага ад ярасці, імклівыя грабянцы валоў, далёкі чорны бераг. Вёслы Горава і Івана ўдарылі па вадзе, ружовай ад святла бліскавіцы. І адразу гэтая вада стала чарнільнай, а на людзей цяжка наваліўся змрок. Потым, быццам жадаючы дапамагчы, неба раз-пораз пачало раздзірацца ўспышкамі святла. Гораў бачыў твар жанчыны, якая з прагай, з чаканнем, зусім без усведамлення небяспекі, толькі з лікуючым імкненнем наперад, да волі, глядзела на другі бераг, які амаль не набліжаўся.

Шкарлупінку кідала ў правалы паміж хваль, вецер адкідваў цёмны шаль на жанчыне, як вялізныя імпэтныя крылы.

Кожныя пяць хвілін даводзілася выліваць ваду; усе прамоклі да пояса. Човен скакаў па хвалях, і пырскі пены ляцелі ў вочы людзей: за бортам раз’юшана пляваўся Дняпро.

Гораву здавалася, што гэта цягнецца вечнасць, што цямноццю і страшным ударам у борт душагубкі ніколі не будзе канца. Човен, пэўна, адносіла.

І ўсё ж наступіў момант, калі хвалі ўтаймаваліся, шкарлупінка плаўна загайдалася ў зацішку, за высокай касой процілеглага берага.

— Ну, барын, — уздыхнуў Іван, — думаў, патопнем.

— Мы не маглі патануць, — упэўнена сказала яна, — як жа нам патануць, калі мы неслі жыццё.

Асклізваючыся на чырвонай гліне абрыву, яны ўзвялі жанчыну на роўнае месца.

— Ідзіце, — сказаў Іван, — туды... Мы не можам праводзіць вас.

Жанчына стаяла моўчкі, потым нечакана схілілася і прынікла губамі да рукі Івана.

— Што вы, што вы, — спуджана мармытаў той, выдзіраючы шорсткую, як капыт, руку з яе пальцаў.

— Дзякуй вам, дзякуй, — задыхаючыся казала яна, — дзякуй за добрыя рукі, за сэрца.

— Ат, — Іван махнуў рукою і занадта паспешліва пачаў спускацца з абрыву.

— Ідзіце, — сказаў Гораў жанчыне, — хутка пачне днець.

І раптам адчуў у цемры, як жанчына прыціснулася шчакой да яго грудзей, прыўзняла твар і дакранулася губамі да яго шчакі.

— Дарагі, родны мой друг.

— Ідзіце, ідзіце, — сказаў Гораў, адчуваючы, як вільгаць просіцца на вочы.

— Я іду. Я іду, — паспешліва сказала яна.

І цень жанчыны растаў у змроку...

...Гораў спусціўся ўніз і знайшоў пад адхонам Івана. Нашчыкаўшы са стажка сухога сена, той наклаў на яго ссохлых леташніх галін лазы, прыплаўленых у повень Дняпром, і паспеў раскласці ў лагчынцы невялічкае, але зыркае вогнішча.

— Сушыцеся, — сказаў ён, — потым самі будзеце веславаць. Я пераплыву... Не трэба, каб нас бачылі разам, ваша высакароддзе.

Яны моўчкі сушылі вопратку каля агню. А потым, калі размялі рукамі сухую, пакарабачаную тканіну, заўважылі, што над Дняпром пачынае шарэць.

У гэтым жаўтавата-шэрым брудным святле вялікая рака сціхла, быццам застыдаўшыся таго, што нарабіла ў мінулую ноч. Усё яшчэ было ветрана, але нізавы вецер даў месца верхавому, і той, як добры дзядзька, сагнаў хвалю, разгладзіў

сваім подыхам пахмурную паверхню ракі. Яшчэ падалі кроплі дажджу, але відаць было, што дзень хутка заўсміхаецца ўсімі сваімі прамытымі і цёплымі фарбамі. Ды і дождж крапаў такі рэдкі, што незразумела было: ці то падалі скупыя кроплі, ці небывала дружна хадзіла «жорам» верхаводка.

Іван скруціў вопратку ў вузел і, трымаючы яе ва ўзнятай руцэ, сказаў:

— Дык я паплыву, ваша высакароддзе... Прыйду потым на кардон паплавамі.

І сказаў, быццам даравання прасіў, быццам не афіцэр падбіў яго на процізаконны ўчынак:

— Вайна вайною, а баб шкада... Вельмі баб шкада.

...Калі Гораў, не зусім спрытна валодаючы вяслом, пераадолеў Дняпро і паплыў ля нізкага берага, дзень вось-вось павінен быў перамагчы світанне. Раскашавала мокрая лаза, цяжкія някошаныя травы на берагах дымелі, з улоння Дняпра плыла сытая пара, як ад вядра з сырадоем.

«Божа, — падумаў Гораў, — нават рэкі цякуць малаком. І на гэткай благадатнай зямлі паміраць? І такою светлаю раніцай чакаць смерці? Ну не, няхай хоць на дзве гадзіны скароціць такое чаканне — і тое выдатна. І я не шкадую».

За павароткаю ракі адкрыўся, зусім непадалёку, кардон. На паромным прычале стаяў, успёршыся на балясы, млявы Пора-Леановіч з цыгаркаю ў зубах. Паплёўваў у ваду. Іранічным позіркам глядзеў на човен, які набліжаўся, выплываў з імглы.

Гораў прывязаў човен у лазе, выбраўся з яе на сухі бераг і пайшоў паўз прычал. Леановіч глядзеў на зграбную постаць маладога чалавека нейкімі дзіўнымі, саркастычна-пагардлівымі вачыма. І гэтыя вочы прымусілі Горава зрабіць выгляд, што нічога не было, што яны толькі што развіталіся.

— Баюся, што вы дарэмна пайшлі на парушэнне прысягі, капітан Гораў.

Юрый спыніўся. Вочы яго спакойна сустрэлі позірк вачэй Леановіча.

— Тут не прысяга. Вайсковы загад не можа датычыцца жанчыны, якая вязе літасць цара свайму мужу. І той не афіцэр, хто не дапаможа жанчыне ў такіх абставінах.

— Вы яшчэ хлопчык, капітан... І як лёгка яна вас акруціла.

— У яе загад графа Мураўёва.

— Святая нявіннасць... Стары хрэн проста не можа раўнадушна бачыць жаночае хараство.

— У яе загад. І нельга гуляць жыццём памілаванага.

На вуснах Пора-Леановіча з’явілася ўсмешка.

— Вы лічыце, што наш граф так лёгка выпускае з пятлі людзей?

— Н-не разумею вас.

— Яму проста апрыкралі жаночыя просьбы. Яму да слёз хочацца, каб яго лічылі высакародным, каб хоць адна прыгожая жанчына лічыла вылюдкам не яго, а Фільку.

— Што?

— Ён замяняе страту пажыццёвай катаргай і пасылае жанчыну. А за дзве гадзіны да гэтага, з губернатарскай поштай пасылае фельд’егера, каб на месцы паспяшаліся.

Гораў сцяў зубы.

— Калі гэта праўда, дык ён падлюга.

— Ён чалавек, — сказаў Леановіч, — чаго ад людзей чакаць?

— Што далей? — сурова спытаў Гораў.

— Жанчына, відаць, не шкадавала грошай; яна ехала, наступаючы яму на пяты. Як яна магла зрабіць такую дарогу за сорак восем гадзін — не ведаю. Гэта трэба быць жалезным чалавекам... І ўсё ж фельд’егер вырваўся з апошняй станцыі, узяўшы апошняга каня. Ён апярэдзіў яе не больш чым на дзве гадзіны...

Твар Горава быў белы як палатно.

— Не лічыце графа дурным, — раўнадушна сказаў Леановіч...

Ён памаўчаў хвіліну. Гораў не мог болей вытрымаць.

— Дзе той фельд’егер?

— Вы самі яго перавезлі цераз Дняпро надвячоркам... Гэты улан прывёз мне загад: што б там ні было затрымаць гэтую жанчыну да трох гадзін раніцы. Хопіць, каб прыняў апошнюю літасць ад папа, памаліўся апошнюю ноч і дастатковы час пагайдаўся на шворцы.

— А ў яе вечныя пакуты сумлення, што спазнілася на паўгадзіны?

— Магчыма, — сказаў Леановіч.

— Ну што ж, — сказаў Гораў, — я парушыў ваш план, — яна ўсё ж паспее. І гэта дрэнна, тое, што вы зрабілі, гэта вельмі несумленна.

— Не мне ж іх шкадаваць. Як кажуць, воўк воўку — чалавек. А вы парушылі абавязак і гонар афіцэра.

— Гонар у афіцэра не ў тым, каб быць катам, — ускіпеў Гораў. — А жанчына паспее, яна не можа не паспець.

Леановіч не слухаў яго.

— Для самазаспакаення думайце, што гэты інсургент быў крыклівы кар’ерыст, а яго жонка — распусніца.

— Гэта ганебна, тое, што вы кажаце.

— Ідзіце па трупах, дарагі Гораў, ідзіце па трупах... А пакуль што... — Ён пазяхнуў. — ...Пакуль што ідзіце лепей выспіцеся... Бадай што, і я пайду.

Голас і ўся яго манера былі поўныя такой усеўладнай і лянівай сілы, што Гораў адразу звяў. Неўсвядомлена, нейкімі глыбінямі душы ён разумеў, што гэты чалавек падобны на сціснутую спячую спружыну, якую лёгка выпусціць з палону, і тады яна б’е — да смерці. Няварта было рызыкаваць, раз апошняе дзеянне ўсё ж засталося за ім, Горавым. Юрый як мага спакойней паглядзеў у яго лянівыя вочы, поўныя жахлівай пагарды да ўсяго і пустаты, на рэзкі шнар паўз брыво.

— Бадай што, ваша праўда, — сказаў ён, — я добра папрацаваў сёння ў тыя дзве гадзіны, што вы спалі. Трэба адпачыць.

І ён пайшоў угору, да хаткі паромшчыка, вельмі праменькі і ладны. Пора-Леановіч глядзеў яму ў плечы цяжкім, як ртуць, позіркам.

— Хлапчыска, — сказаў ён.

...Гораў спаў да дзесяці гадзін. Калі ён, умыты, ружовы ад сну і заспакоены, выйшаў з хаты на бераг, ён убачыў Леановіча ў той самай паставе, успёртага на парэнчы паромнага прычала. Цыгарка дымела ў яго тонкіх спакойных губах, быццам не гадзіны прайшлі з іх ранішняй размовы, а толькі некалькі секунд. Юрый стаў ля парэнчаў за некалькі крокаў ад яго.

— Выспаліся? — спытаў Гораў.

— Анягож, — роўным тонам, быццам нічога паміж імі не адбылося, адказаў Леановіч.

— Ну вось і добра, — сказаў Гораў, — зараз снедаць будзем. Сымон ужо і гарэлку на стол паставіў... Чаму не пагаманіць пра месца чалавека на зямлі?

Леановіч пакасіўся на яго:

— Сумленне спакойнае, чаму і не пагаманіць.

Яны моўчкі стаялі амаль поруч. Леановіч паплёўваў у ваду, Гораў абдзіраў луб з ліпавага прутка. На процілеглым беразе, над адхонам, з’явілася параконная запрэжка ў лёгенькай брычцы. Фурман, асцярожна трымаючы коней за аброць, зводзіў яе да пераправы. Колы брычкі небяспечна падскоквалі па размытых байраках каляін. На заднім сядзенні сядзеў нехта ў вайсковай форме.

— Трэба будзе даслаць салдат, каб падправілі спуск, — абыякава сказаў Леановіч. — І каго гэта яшчэ нясе?..

Зрок у Горава быў не горшы, чым у сапсана.

— Учарашні улан едзе, — сказаў ён і не ўтрымаўся: — Мазалі, відаць, набіў на паўшар'ях, як пірагі.

— Гэ-эй, — пралунаў над ракою зычны голас.

Афіцэры стаялі моўчкі. Перад імі плыла імклівa-спакойная, скаламучаная плынь. Дзень раздумаў пагодзіцца, і светлаватыя хмары віселі над безжыццёвай ракой.

— Гэ-эй, — крычалі з таго боку два галасы, — паро-ом, па-ром, паром!

Леановіч ляніва павярнуўся да Івана. Іван стаяў над адхонам, свежанькі, быццам усю ноч хроп у стайні.

— І чаго наддзіраюцца? — незадаволена сказаў ён. — Бяры, Іван, трох салдат і перавязі гэтых гарлапанаў сюды.

— Хто з афіцэраў паедзе, ваша высакароддзе?

— Ніхто, — сказаў Леановіч.

...Увесь час, пакуль паром пераплываў раку, афіцэры стаялі моўчкі. Няшчыра спакойнымі вачыма яны глядзелі, як адбітак зялёнага берага, разарваны рухам парома, ляніва калышацца ў вадзе, як дрыжачых коней узводзяць на паром, як замацоўваюць калодкамі колы, як паром павольна вырастае ў памерах, набліжаючыся да іх.

І толькі калі улан падышоў і адказыраў, Леановіч спакойна кінуў недакурак цыгаркі ў раку і адразу ж закурыў новую.

Улан стаяў перад ім моцны, як Геркулес, кучаравы («Ванька-ключнік», — падумалася Гораву), з румянымі вуснамі і нахабнымі светлымі вачыма.

— Паспеў? — спытаў Леановіч.

— Так точна.

— Што новага?

— Генерал Фікельмонт выказвае вам удзячнасць за дасканала выкананы загад.

— Што? — яшчэ нічога не разумеючы, спытаў Гораў.

Улан стаяў «струнка», але з той няўлоўнай вольнасцю, якая ўласціва фельд'егерам і дазваляе думаць аб лёгкай пагардзе да «пехтуры», хоць бы і афіцэраў.

— Папа клікаць не давялося, — усміхнуўся улан, — але апошні ліст напісаў.

— Дзе была страта? — спакойна спытаў Леановіч... — Стойце вольна.

Улан трошкі адставіў нагу.

— За абвахтай, — сказаў ён. — На конскіх могілках. А палове чацвёртай.

У Горава як абарвалася нешта ўсярэдзіне. Белы, як снег, ён спытаў:

— Жонку бачылі?

— Так точна. Спазнілася хвілін на дзесяць. Я гэта бачыў. Яна амаль да абвахты падышла, а тут на задворках як каленкор ірванулі... То яна бегла, а тут пайшла, як сонная... А гэты, вядома, яшчэ цёплы быў.

— Плакала? — спытаў Гораў.

— Не, зусім не плакала. Толькі і сказала: «Божа, пакарай іх...» Не шкадавала. Я б такую бабу, што мужа не шкадуе, — кожны дзень лейцамі б па тым месцы, адкуль ногі растуць.

— У цябе тваёй думкі не пытаюць, — суха сказаў Леановіч.

— Дазвольце ісці?

— Ідзі.

Фельд’егер скочыў у брычку. Коні пацягнулі яе на адхон, слізгаючыся капытамі і ссоўваючы ўніз чырвоны, як кроў, глей.

Потым заляскаталі паўз хату, па паплаўцы за ёю, па беразе старыка.

А потым вазок знік.

Леановіч нахіліўся над вадой і спакойна сплюнуў у раку недакурак цыгаркі.

Тонкі нясцерпны звон напоўніў вушы Горава. Ён мацнеў, мацнеў. Адчуваючы, што прытомнасць знікае кудысь, Гораў варухнуў непаслухмянымі вуснамі. Голас, на яго здзіўленне, быў моцны і звонкі.

І тады, ступіўшы крок наперад, Гораў выразна адчаканіў:

— Капітан Пора-Леановіч, вы нягоднік.

Леановіч рэзка павярнуў галаву, адарваўся ад парэнчаў. Яго халодныя вочы з цікавасцю разглядалі Горава.

— Гораў, вы забыліся на туз, — холадна сказаў ён.

— Вы падлюга і нягоднік, — сказаў Гораў.

— На тры крокі... — іранічна сказаў Леановіч. — Каб разбэшчаная знатнасць не абражала нявіннасці і чысціні.

І раптам пасур’ёзнеў, на гладка выгаленых шчоках набраклі каменныя жаўлакі.

— Што ж, гэтым рана ці позна павінна было скончыцца. Мы занадта перашкаджалі адзін аднаму... Зайдзіце ў хату, вазьміце стрэльбу і чакайце мяне на сцежцы ў Турск, ля вярбы. Я вас

даганю... Раю ўлічыць: мы ідзём на сяброўскае паляванне. На качак.

І спакойна павярнуўся да Горава спіной. Нават не паглядзеў на яго, калі той накіраваўся да хаты...

...Яны ішлі поруч, як сябры. Ніхто, нават вартавы ля пераправы цераз старык, не мог бы падумаць, што гэта не ўчарашнія прыяцелі, а ворагі. Леановіч дружалюбна падтрымаў Горава, калі яны ішлі кладкай.

Хата паромшчыка знікла за густымі вербамі, пад якімі ляжаў старык. Хлюпаючы балотнымі ботамі, яны ішлі далей і далей у лугі. А над імі вісела шэрае нізкае неба.

— Пойдзем да Камарына. Там зручней.

Камарынам зваўся другі старык, другое старое рэчышча Дняпра — доўгае і вузкае возера ў лугах. Яго здалёк адзначалі цёмна-зялёныя шапкі дубоў. Гораву было ўсё адно куды ісці, ён ведаў, што гэта яго апошняя дарога, і таму ён згодна кіўнуў галавой.

Пора-Леановіч са спакойнай усмешкай сказаў:

— Біцца будзем без секундантаў. На гонар. У ваенны час за такую справу, якой мы намераны заняцца, пагражае цытадэла. Таму — той, каму пашанцуе забіць другога, не павінен шматслоўна гаварыць пра дуэль, або, як казалі продкі, двубой. Забітага — на інсургентаў.

Гораў прагна дыхаў вільготным паветрам, тым паветрам, якое ў дні жніўня выразна прадчувае раскошную цёплую восень.

Крычалі кнігаўкі, малілі аб вадзе, хоць яе досыць было на залітых лугах. І іхні енк аддаваўся недзе глыбока пад сэрцам.

— Пі-іць, пі-ць, — крычала адна, але Гораву здавалася, што гэта яна ў смяротнай скрусе плача «жы-ыць, жы-ыць».

Няўжо можна проста хадзіць па лугах, не думаючы, што чакае смерць? Вось качка ўзнялася з сітнягоў, паказала рабое брушка. Напэўна, сэрца яе ўпала ад жаху, калі яна ўбачыла за спінамі людзей трубкі, што вывяргаюць полымя і смерць. Адкуль ёй было ведаць, што людзі занятыя больш важнай справай.

— У вас правая не ў парадку. Не пужайцеся, я таксама буду левай.

— Я не пужаюся, — адказаў Гораў і, хоць зусім не думаў пра гэта, сказаў з паважнасцю, — я хачу толькі хутчэй стрэліць у вас. Вы мне абрыдлі.

Недзе далёка скупы прамень сонца прабіўся праз хмары і зрабіў на мокрай траве ізумрудную пляму. Каржакаватыя

дубы над Камарынам патыхалі блажэннай вільгаццю. Бліснула стужка затокі.

Здзічэлы конь — іх многа было ў тое лета — старожка ўзняў галаву ад вады (з цёплых шэрых губ падалі кроплі) і кінуўся прэч. Коні баяліся людзей. Ад людзей пахла не хлебам, а крывёю, як ад ваўкоў.

— Досыць, — сказаў Пора-Леановіч, — далей не пойдзем. У выпадку чаго будзем казаць, што забілі з хмызоў пад дубамі.

Хмызы былі крокаў за дзвесце. А вакол мокрыя лугі з высокай, перастаялай травой.

Леановіч дастаў з ягдташа скрыначку з дуэльнымі пісталетамі.

— Мае, — сказаў ён, — дагледжаныя, выбірайце першылепшы.

І, кінуўшы на зямлю плашч, пачаў мераць ад яго крокі.

— Дзесяць крокаў, спадзяюся, не многа? — са злоснай іроніяй спытаў ён.

І хоць гэта была адлегласць смерці, — бледны Гораў сурова хітнуў галавой.

— І ад бар’ера яшчэ пяць крокаў, на падыход, — сказаў Леановіч.

Яны разышліся на крайні след.

— Па першым крыку кнігаўкі, — крыкнуў Леановіч.

За дваццаць крокаў, зусім блізка, Гораў бачыў постаць ворага з пісталетам у апушчанай руцэ. Бачыў страшныя блакітныя вочы, прыгожы рот, сціснуты ў змрочнай і жорсткай усмешцы. І ён ведаў, што, як бы ні хацелася жыць, ён, Гораў, не стане на бар’еры бокам да ворага, не заслоніць грудзей пісталетам — хоць правілы дуэлі і дазваляюць гэта. Таму што было нешта большае за страх, які жыў у ім.

— Па першым крыку кнігаўкі, — паўтарыў Леановіч.

Кнігаўкі, спуджаныя крокамі, стаіліся, але потым пачулі цішыню і пачалі ўзлятаць. Каўкнула першая.

— Пара, — сказаў Леановіч.

Гораў пайшоў, уздымаючы пісталет. Як праз сон, ён бачыў усё бліжэй і бліжэй пустыя сінія вочы.

Крок. Яшчэ адзін. Яшчэ.

Мокрыя травы пакідалі на ботах бледна-зялёныя сцяблінкі і пялёсткі перастаялых кветак. І Гораў з жахлівай выразнасцю, як ніколі ў жыцці, бачыў гэта.

І яшчэ бачыў, як са спакойнай усмешкай ішоў на яго вораг і ягоны пісталет быў ужо амаль на ўзроўні грудзей.

І тады, ведаючы, што даволі ісці, што гэта апошняя хвіліна жыцця, і пакутуючы гэтым, і не шкадуючы ні аб чым, Гораў удыхнуў гаркаватае паветра і, не цэлячыся, націснуў курок.

Лёгкі дымок празрыстым камячком вэлюма паплыў на ўзроўні яго вачэй. Праз гэты дымок здзіўленыя вочы Горава ўбачылі, як Пора-Леановіч тарганууся ўперад, быццам наткнуўся грудзьмі на нешта нябачнае, і стаў.

Хіснуўся, неяк дзіўна заводзячы руку з пісталетам і гледзячы на Горава. А потым страшэнна моцным узмахам рукі адкінуў свой пісталет у балоціну.

Нейкая страшная сіла хіліла да зямлі яго нечалавечы моцнае цела. Ён змагаўся, але яна паставіла яго на дрыжачыя калені і потым шпурнула на траву сваёй магутнай рукой.

І Гораў кінуўся на дапамогу, забыўшы ўсё; прыўзняў галаву, ірвануў мундзір, раздзёр сарочку на грудзях і пабачыў нізка, пад левым саском, маленькую круглую ранку.

Гэта было зусім нястрашна, толькі адна-дзве кроплі крыві. Але Горава здзівіла не гэта. Яго здзівілі вочы Леановіча, у якіх зараз не было пустаты, а было смяротнае здзіўленне і яшчэ нешта.

Леановіч варухнуў вуснамі.

— Пісталет... пісталет у багну, — заспяшаўся ён.

Здзіўленыя, неяк па-дзіцячы светлыя вочы спыніліся на Гораве, які тросся ад непапраўнасці зробленага.

Пора-Леановіч заварушыў рукамі па грудзях і раптам, на апошнім дыханні, сказаў ясным і чыстым голасам:

— Дзякуй вам... Дзякуй...

І паймаўшы руку Горава, пацалаваў яе дрыжачымі вуснамі.

Потым гэтыя вусны замёрлі, а позірк здзіўлена і безуважна спыніўся на шэрым небе, пад якім усё яшчэ лёталі і енчылі аб літасці кнігаўкі.

— Усё, што я вам расказаў, — праўда, — сказаў Гораў.

Гэта было праз два дні пасля двубою. За кардонам, у лугах, непадалёк ад той вярбы, ля якой яны стрэліся ў дзень дуэлі, стаяла на Збароўскай дарозе знаёмая параконная брычка. Жанчына ў чорным сядзела на заднім сядзенні, прыклаўшы да рота чорную карункавую хустачку. Гораў стаяў адной нагою на прыступцы брычкі. У абаіх былі празрыстыя ад бледнасці твары.

— Вам не варта насіць жалобу, — сказаў Гораў, — вы ж ведаеце, што Мураўёў забараніў нашэнне жалобных убораў, ён і тут бачыць жалобу не па забітых, а па радзіме. Вас могуць з гэтай прычыны абразіць на дарозе...

Ён убачыў вялізныя змучаныя вочы. Амаль на паўтвару.

— Мне ўсё адно, — сказала жанчына.

— І ўсё ж накіньце паўзверх плашч другога колеру. Пасты на дарогах падвоены з прычыны забойства афіцэра.

— Вы расказалі мне жахлівую рэч, — сказала жанчына, — я і сама здагадвалася, што з гэтым мураўёўскім загадам не ўсё добра. Цяпер я пераканалася ў гэтым. Але чаму зараз менавіта вы начальнік кардона?

— Я ж казаў: пасты на дарогах падвоены з прычыны забойства капітана Пора-Леановіча.

— Хто яго забіў? — уважліва гледзячы на Горава, спытала жанчына. — Няўжо інсургенты зноў з'явіліся?

— Яго забіў я, — цвёрда і сумна сказаў Гораў, — не трэба непакоіцца. Мы страляліся на сумленнай дуэлі.

— Не варта было. Ён толькі выконваў загад.

— Варта было, — сказаў Гораў, — варта для яго самога.

Жанчына моўчкі глядзела на мокрыя лугі, што драмалі пад плямамі скупога сонца. Потым нахілілася, выцягнула з дарожнага кофра цёмна-сіні плашч і накінула яго паўзверх жалобнага адзення.

— Бадай што, ваша праўда, — сказала яна. — Я была зусім разбітая, але вы сваёй мужнасцю далі мужнасць і мне. Я ведаю, што мне рабіць.

— Куды вы зараз?

— У Вільню. Да Мураўёва. Я даб'юся ў яго аўдыенцыі і не пабаюся сказаць яму, што я думаю аб яго паводзінах.

— Гэта вельмі небяспечна. А вы яшчэ такая маладая, і для вас не цяпер, не зараз, але магчыма шчасце.

Нясцерпны жаль і немае замілаванне ахапілі душу Горава, калі яна ўзяла яго руку ў свае.

— Я ведаю, ёсць многа добрых людзей, — сказала яна, — людзей з усёабдымным, з чалавечым сэрцам. Такіх, як вы. Але што я магу зрабіць, калі мне ўсё жыццё будуць трызніцца тыя дзесяць хвілін, на якія я спазнілася. Калі для сэрца чалавечага няма і не будзе забыцця... Дарагі мой чалавек. Я ведаю — у мяне ўсё канфіскуюць. Мяне хутчэй за ўсё чакае Сібір.

Яна схіліла галаву, а потым, праз імгненне, ускінула на Горава цёмныя вочы.

— Але мне лягчэй. Людзі заўсёды людзі. Людзі паўсюль людзі... Дай вам Бог шчасця за добрае сэрца. Шчасця з невядомай мне рускай жанчынай, такой самай добрай, як вы.

— Не трэба, пані, — сказаў Гораў.

— Маўчыце, — сказала яна амаль сурова. — Чым я магу аддзякаваць за ўсё? Толькі словам. Дай вам Бог шчасця. І вам, і дзецям, і ўсім нашчадкам вашым. Дай Бог, каб мае ўнукі ніколі не варагавалі з вашымі.

— Рушай, — сказала яна фурману пасля хвіліны цяжкага маўчання. — Бывайце, дарагі.

— Бывайце.

Брычка павольна пакацілася па дарозе. Гораў хацеў быў ужо саскочыць з прыступкі, але яна ўзяла доўгімі далонямі яго галаву і прыцягнула яе да сябе на грудзі. Пацалавала ў высокі лоб.

Ён нахіліўся і прыпаў вуснамі да бязвольнага сугіба ля кісці яе рукі.

— Ідзіце... Ідзіце, — шэптам сказала яна.

Споўнены гаротным неўразуменнем, бунтуючы ўсім сэрцам супраць сляпой сілы, якая няўмольна разлучае людзей, Гораў скочыў з прыступкі. Брычка пакацілася хутчэй.

Бясконцыя лугі ляжалі вакол.

А ён стаяў і глядзеў, як брычка, зрабіўшыся цёмнай кропкай, знікала недзе пад чорнымі хмарамі, ад якіх цягнуліся да зямлі шэрыя і напаўпразрыстыя завесы дажджу.

Так скончылася гэта гісторыя. Ураган размёў чалавечыя існаванні і не дазволіў сустрэцца зноў. Паўстанне грымела, усё далей адсоўваючыся на захад, а ў Прыдняпроўі настала ўжо «заспакаенне» і «ўціхаміранне».

І тады да Горава пачалі прыглядацца. Смерць Пора-Леановіча некаторым здалася падазронай. Доказаў не было і не магло быць. І ўсё ж агульнае падазрэнне было такім, што Гораў хутка быў вымушаны падаць у адстаўку.

Незадоўга да гэтай знамянальнай падзеі яго, памятаючы бой пад Ракавам, узнагародзілі медалём «За ўціхаміранне»... Медаль ён не насіў.

І пайшло далейшае жыццё, такое, як ва ўсіх. Жаніцьба. Масква. Усё тое, аб чым ён марыў за дзень да падзей на пароме.

Няскора ён зразумеў, што паром і жахлівая вераб’іная ноч былі водападзелам яго жыцця, што ўся плынь яго існавання і думак пацякла з той ночы ў зусім іншым напрамку. А калі зразумеў, — агарнула туга.

Яна прыходзіла нячаста, чамусьці часцей за ўсё ў дажджлівыя асеннія ночы. І тады ў вачах паўставаў далёкі край бязлюддзя, крыжы на ростанях, павалены лес паабапал дарог і імклівая быстрыня Дняпра з лядаштым паромам ля адхону.

Ён быў шчаслівы, але чамусьці ў непатольнай цемры начэй усё часцей успамінаў кнігавак над лугамі, шэрыя завесы дажджу і рукі з доўгімі пальцамі, рукі, што сціскалі яго скроні, рукі той, якая знікла, каб ніколі больш не сустрэцца з ім.

У неасэнсаваным жаданні ажывіць гэтыя і без таго жывыя ўспаміны, вярнуць страшны, самы лепшы час свайго жыцця, ён імкнуўся да мінулага, настойліва ўваскрашаў яго, аж да ліслівага дакранання мокрага ліста вяргіні.

Позняй восенню ўспаміны з прыемна-балючых ставалі нясцерпнымі. І тады, каб хоць трошкі перажыць неадольныя чары той зямлі, якая ляжыць недзе і кліча прызыўным клічам, што нельга згасіць у сэрцы, — Гораў браў паляўнічую стрэльбу і знікаў з Масквы. Усё адно куды. Толькі б далей, толькі б стаялі вакол голыя цёмныя лясы, толькі б у свісце ветру чуўся водгук той навальніцы, якая шматавала чорныя вольхі над паромам.

Шаснаццатага лістапада тысяча восемсот шэсцьдзесят шостага года, падчас адной з такіх уцечак, ён, трохі паблукаўшы балотамі, ішоў начным лесам з палявання. Два забітыя цецерукі абцяжарвалі бок, ногі ў балотных ботах спружынілі на налітых вадою мхах.

Нетры скончыліся раптоўна. За ўзлескам ляжалі купіны імшараў, за імі зноў цямнела лясная сцяна. Над галавою свяцілі высокія і яскравыя асеннія зоры. І, як заўсёды на самоце пад асеннімі зорамі, душу агарнула шкадаванне аб страчаным і пачуццё закінутасці і безабароннасці.

І вось гэты паўночны Яраслаўскі край здаўся вельмі падобным на тую, таксама закінутую ў балотах краіну, дзе зараз, пэўна, дажывае на беразе струхлелы паром, дзе калісьці вусны далёкай і незваротнай дакрануліся на хвіліну да яго валасоў.

Гораў стаяў, прыхіліўшыся спіною да замшэлай сасны. Павекі яго, што раптам зрабіліся цяжкімі, прыгашвалі халоднае мільгаценне зорак.

Ноч плыла над балотамі.

І раптам у гэтай начы, аднекуль з зеніту, пакаціліся тысячы хуткіх зеленаватых знічак.

На няўлоўныя імгненні пакідаючы ў небе халодны зеленавата-фосфарны след, яны ляцелі ўніз і згасалі, гінулі ў цемры, а на змену ім з’яўляліся новыя, новыя, новыя.

Гэта былі Леаніды.

Адразу ўспомніліся горкія словы Леановіча, шалёны дождж над самотнай ракой, вялізныя, як азёры, чорныя вочы той, якая знікла і ніколі не вернецца.

Чалавек стаяў пад зеленаватым зорным дажджом і думаў:

«Яны былі ў трыццаць трэцім, яны лятуць зараз. Калі яны прылятуць у дзевяноста дзевятым, на парозе новага стагоддзя, — я яшчэ буду жыць. Калі яны прылятуць у тысяча дзевяцьсот трыццаць другім годзе, — мяне ўжо не будзе. І нават мае дзеці не ўбачаць Леанід шэсцьдзесят пятага года... А яны будуць ляцець і ляцець, сустракаючы ўсё новыя і новыя пакаленні. Што будзе тады, праз сто год, ці далося б нам зразумець радасць і боль тых людзей?»

Ён стаяў, прыхіліўшыся да камля сасны, а проста над ім, з невядомай глыбіні, з чорнага начнога шатра ляцелі і згасалі халодныя зеленаватыя іскры, пакідаючы імгненны незваротны след.

Гінулі над празрыстымі азёрамі Леаніды, гінулі тысячамі, знікаючы ў пахмурых асенніх лясах.

І, гледзячы на іх праз замглёныя слязьмі веі, Гораў думаў:

«Так і мы гінем тысячамі, і невядома, ці з'явяцца нашы браты, ці з'явімся мы самі на зямлі яшчэ раз... Леаніды! Сэрца жадае вас. Хоць вачыма далёкіх нашчадкаў дайце глянуць яшчэ раз на зорны дождж».

Тысячамі зялёных ніцей пралятали над зямлёю і знікалі ў цемры зоркі.

Гінулі Леаніды.

*1960*

## КНІГАНОШЫ

*Навела*

...У сасновым лесе — маліцца, у бярозавым — любіцца, у дубовым — волю каваць, у яловым — душу д'яблу прадаваць.

Гэты лес быў яловы.

Ён цягнуўся амаль на сорак вёрст, і ўсе гэтыя вёрсты шумелі верхавінамі і маўчалі ўнізе, дзе былі сухія замшэлыя галіны, сівы лапнік, рэдкія галявіны з імшарамі ды куп'ём і чорныя ручаіны.

Усё тут расло цяжка, змагаючыся за кожны глыток паветра, за кожны прамень, і таму мухаморы былі крывавыя, а з абсыпаных гліцай рыжыкаў, калі збіць іх нагою, таксама тачылася рудая кроў.

Недзе на палове лясны шум абрываўся на хвіліну ручаінным звонам, а потым зноў шумеў аж дваццаць вёрст. І на тым баку ручая ўсё было такое самае і... інакшае.

Бо там была Прусія.

Яліны там былі такія і не такія, бо прускія, і мох быў прускі, і рыжыкі — прускія, і лясны шум таксама прускі.

І калі тамтэйшы мужык бачыў купіну, унізаную каралямі журавін, ён таксама параўноўваў ягады з кроплямі крыві, але меў на ўвазе прускую кроў.

У лесе, вярсты за чатыры ад краю, на адзіным месцы, якое ўдалося адваяваць ад лясоў і імшар, стаяў пагранічны кардон, людзям якога было загадана лавіць кантрабандыстаў, калі тыя пойдуць з прускага боку, ды яшчэ не дазваляць мясцовым мужыкам і бабам хадзіць за мяжу, да кумоў, на хрэсьбіны ці вяселле. Такое заахвочваць было нельга, бо кум, хоць «дзекаў» і «чагокаў», быў падданы прускай зямлі і плаціў падатак каралю, а не цару, як то належыць кожнаму сапраўднаму чалавеку.

Урэшце, людзі з кардона раней не звярталі на гэта асаблівай увагі; пенсія ў іх маленькая, за кожным мужыком ганяцца не будзеш — хай сабе ідуць. Але вось ужо год, як становішча змянілася, і загадана было сачыць як найпільней.

Бо нейкія людзі, у парыве сыноўскай удзячнасці, кінулі дзве бомбы ў цара-вызваліцеля і разнеслі яго ў шматкі. Гэта было нечувана і супраціўна Богу. Таму забойцаў павесілі, а на месцы замаху пабудавалі храм з чырвонага граніту.

Але нішто не змянілася. Пакутнік спачываў у бозе, то бо ў фамільнай царскай магільні, а змусціцелі баламуцілі і падбухторвалі людзей. І вось таму пагранічнай варце даводзілася мала спаць: з-за мяжы насілі крамолу — жамойцкую, расейскую, польскую, а за апошні час — як невыразна казалі пагудкі — яшчэ і нейкую мясцовую, тутэйшую.

Кніжак гэтых пакуль што ніхто не трымаў у руках, але казалі: яны з’явіліся. З’явіліся, надрукаваныя то лацінкай, то грамадзянскай кірыліцай, і ўжо ў гэтай самой падвойнасці было нешта такое, што насцярожвала і палохала.

Напэўна, гэта была таксама крамола: на тутэйшыя кнігі, на тутэйшую гаворку ўжо даўно была накладзена афіцыйная забарона. І чорт яго ведае, ці не новы гэта канал знайшлі, каб прапаведаваць свае думкі, падбухторшчыкі і валасатыя прапагандысты?

Таму загадана было сачыць і лавіць карабейнікаў, асабліва ж носьбітаў тых кніг, што не прайшлі мыты і маглі быць не-

бяспечнымі. А гэта быў даўні промысел некаторых мясцовых сялян. Пісьменныя мужыкі куплялі кніжкі і малюнкі, ціснутыя за мяжой. Яны былі больш танныя, асабліва калі мыта не падвышала іхняй цаны. А замежжа друкавала ўсякія кнігі: па-жамойцку, па-польску і па-расейску — абы куплялі.

І вось кніганош загадана было лавіць.

Ніхто не думаў, што аўтары і друкары змушчальных лісткоў і крамольных кніжачак наўрад ці спакусяцца перапраўляць іх цераз кардон такой дарогай, у корабах малапісьменных кніганош. У чужую душу не заглянеш. Валасатыя — хітры народ. І лепей за ўсё было закрыць усе магчымыя падводныя каналы, якімі кніга магла пратачыцца на абшары імперыі. Тым больш што ў самім выглядзе гэтых танюткіх кніжачак, у іхняй паперы, у самім гучанні іхніх слоў было адценне крамолы. Небяспечнай. Зацятай. Нездарма ж сярод тых, што забілі цара, былі два тутэйшыя. А тое, што з-за мяжы ідуць і расейскія кнігі, нікога не абыходзіла. Гэта было яшчэ горш, бо па-расейску чытае большая колькасць людзей, бо галавою забойцаў быў расеец.

Людзі з кардонаў лавілі і часам нават абстрэльвалі кніганош. На тым кардоне, пра які мы завялі гаворку, гэтым займаліся вельмі грунтоўна, бо камандаваў ім паручнік Вольке, афіцэр з быхаўскіх немцаў, сасланы ў глуш за непрыстойныя, нават для афіцэра, папойкі і гульню ў карты. Цяпер ён стараўся выслужыцца, гэты белы бландзін з аблічам рыцарскага зброяносца і ўсмешкай грэшнага анёла. Акрамя таго, яму вечна былі патрэбны грошы, а за кожнага злоўленага кантрабандыста плацілі.

Пяцёра салдат з пагранічнай варты не тое каб не паважалі Фердзі Вольке, але адзываліся аб ім у іранічным ключы: пагоня за набыткам не карысталася поспехам у людзей, увесь набытак якіх быў шыла ды мыла.

Але Фердзі быў ясны, як белы дзень. А вось да другога афіцэра, прапаршчыка Алега Буткевіча, адносіны былі дваістыя. З аднаго боку — просты і нядрэнны хлопец, не б'ецца, не лаецца, грае ў вольны час на флейце, але з другога боку — занадта ўжо стрыманы, ніколі не жартуе з салдатамі. Справа вядомая, кар'еру рабіць пачынае, а такія бываюць небяспечныя: там, дзе другі проста морду набіў бы салдату, ды справе канец, — гэты можа аддаць пад суд.

Салдаты бадай што і не памыляліся. Буткевічаў бацька быў аканомам у невялікім маёнтку, не мог памагаць сыну, і таму Алегу сапраўды даводзілася рабіць кар'еру і дакладна

выконваць загады, не дазваляючы сабе разважанняў нават над самымі бязглуздымі.

Але салдаты не ведалі, як гэта было яму цяжка. Заўтрашні генерал-палкоўнік (на меншае ён не згадзіўся б!) быў выхаваны на раманах аб вайне і каханні, якіх у дастатку было ў панскай бібліятэцы, дзе ён калісь прападаў. І цяпер ён, пагарджаючы фрунтам і шэрымі, як салдацкі шынель, днямі, старанна выконваў усё, чаму належала быць у гэтых днях, а сам марыў аб вайне ці нават проста аб подзвігу, які прымусіць усіх гаварыць пра яго, зробіць яго спачатку паручнікам, потым капітанам, а там і... дасць яму арміі.

— Вы, Алег, зусім як цыган, — жартаваў Вольке. — Сянцяп, цяпцяп — і май...

Але Буткевічу было ўсё адно. Ён выконваў загады, чакаў подзвігу і марыў пра рамантычнае каханне, пра ўцёкі з дачкой багатага пана або пра сустрэчы з сялянскай дзяўчынай дзе-небудзь каля млына. Гэта магло скончыцца смерцю каго-небудзь з іх, а можа, нават і вяселлем. Шлюб заўтрашняга генерала з сялянкай — гэта было б вельмі рамантычна. Калі-небудзь сівы, але з маладым аблiччам, увянчаны славаю генерал вернецца з паходу разам з жонкаю, што не захацела кінуць яго і паўсюль ішла за ім. І сярод тых, што будуць яго прымаць, будзе расці харошая зайздрасць, што вось такі малады, а генерал, а яна, глядзіце, былая сялянка («Ах, гэтыя рамантычныя шлюбы... Вы гарэ-эзнік, генерал!»), а так добра, без акцэнту гаворыць па-французску і так кахае яго. Што ён сам дагэтуль не гаворыць па-французску без акцэнту — гэта яго не непакоіла.

Значыць — подзвіг і каханне.

Другую частку свае жыццёвае праграмы прапаршчык нядаўна пачаў выконваць: выпадкова сустрэў на местачковым кірмашы сялянскую дзяўчыну і вось ужо восьмы раз хадзіў за сем вёрст у мястэчка, каб убачыць яе. Імя ў яе было цудоўнае — Ганця, ды і ўся яна як найлепш падыходзіла для будучай рамантычнай гісторыі: сінявокая, ціхая, сціплая, але ў кожным руху стрыманая сіла. А пра хаду і казаць не трэба.

Дзіва, а не хада! Лебедзь плыве, а не дзяўчына ідзе! Словам, у гэтым сэнсе Буткевіч быў цалкам задаволены сабою.

І якое дзіва? Яму было толькі дзевятнаццаць год.

...У гэты вечар яны павінны былі ісці ў сакрэт: тры салдаты і Вольке, які не мінаў выпадку асабіста ўдзельнічаць у ловах кантрабанды.

Буткевіч папрасіў, каб узялі і яго, хаця была чарга другога. Выпадак для подзвігу мог надарыцца кожную хвіліну, і крыўдна было б яго прапусціць.

Вольке пацiснуў плячыма. Хай ідзе, калі ўжо так хоча. Ён толькі адпусціў грубы жарт:

— Думаеце, яна на вас будзе глядзець з асаблівай пяшчотай? Яна і так траціць розум з радасці, што вы прыліплі да яе.

— З радасці не з радасці, але думаю, што я ёй не зусім абыякавы, — сказаў сціпла Буткевіч. — Апошні раз, напрыклад, яна сказала, што я добры.

— Ну, вось бачыце. Раман ідзе сваёй чаргой, і дзеля гожых вачэй, дальбог, не трэба мерзнуць у хмызах і пакутаваць. Праз нейкі месяц вы яе пацалуеце. Месяцы праз тры-чатыры даможацеся свайго. А можа, і раней, гэта ўжо залежыць ад спрыту. Але не пазней як праз чатыры.

— Магчыма, — сказаў Буткевіч. — Калі ажанюся да таго часу.

Усмешка грэшнага анёла знікла з вуснаў Фердзі.

— Кіньце, прапаршчык, — сказаў ён. — Вы што, не ведаеце вясковых дзяўчат? — І вельмі ўдала перадражніў: — А дзевачкі! А таечкі! А што гэта ён!.. Пусці, ёлуп, пусці, кажу, а то...

Апошняе слова было непрыстойнае, у сэнсе «дрэнна мне будзе». Буткевіч пачырванеў і палажыў флейту.

— Мне не хацелася б, каб вы ў такім тоне гаварылі пра свет, у якім жыве, магчыма, мая будучая жонка.

Вольке за ягонай спіною толькі пакруціў пальцам ля лба. Потым уздыхнуў.

— Добра ўжо. З часам агойтаецца. А цяпер давайце збірацца.

Гэтай ноччу сачыць трэба было асабліва пільна: даўно пагаворвалі, што ў адну з трох начэй з-за мяжы пойдзе Корч, самы славуты з усіх кніганош. Аб гэтым, у прыпадку злосці на яго, прабалбатаўся нібыта ў местачковай карчме Яўхім Спіса, мужык з вёскі Плавуцічы. Злосць злосцю, але ні Яўхім, ні яшчэ хтосьці з мужыкоў нічога больш не сказалі.

Даносчыкаў не любілі. Даносчыку ніхто не асмеліўся б нават сказаць «добры дзень». Таму і кардоны і мытня ведалі ўсіх, хто ходзіць за мяжу, вельмі дакладна, але толькі па мянушках, не здагадваючыся нават, хто хаваецца за кожнай.

Корч быў самы славуты. Корч пераходзіў з кнігамі мяжу, магчыма, і трыста разоў. І за ўсе гэтыя разы ніхто з мытных нават ні разу не бачыў кніганошы на свае вочы. Раз толькі

пашанцавала натрапіць на вялікія сляды скураных пасталоў. Мяркуючы па слядах, гэта быў волат. І, відаць, халера, узброены. Але гэты волат хадзіў кожны раз новай сцежкай. А іх было безліч.

Ні Вольке, ні Буткевіч не верылі надта балбатні Яўхіма Спісы. Мала што можа набалбатаць п'яны. Не ведалі яны і аб месцы, ідучы наўздагад.

І аднак усё здарылася менавіта ў гэтую ноч.

Сакрэт перайшоў начное балота. У цемры раз-пораз было чуваць трывожнае «ў-цю-цю-цю...» — качкі зляталіся на начлег. Бледна-жоўтая стужка ззяла на захадзе. І хацелася сесці ў схованку ля балота і паляваць на качак, а не на людзей: адчуваць, як бабухае дубальтоўка, як цела качкі мякка падае ў траву, а ў перапынках чутно, як, падманутая тваёй нерухомасцю, лётае ў цемры вакол схованкі вялізная здань вадзянога бугая.

Але так рабіць было нельга.

І яны мінулі балота і хмызы, забраліся ў самы гушчар, сеўшы наўздалёк ад сцежкі, якой хадзілі на вясковы выпас дзікі. Перад імі быў адхон, укрыты ялінамі, чорнаалешнікам і густой крушынай.

...Каля поўначы пачулі крокі. Людзей было двое. Але адзін з іх ішоў так ціха, што яго крокі пачулі, толькі прыслухоўваючыся да нязграбных крокаў другога. Гэты другі таксама ступаў асцярожна, цішэй, чым салдат, і ўсё ж часам пад яго нагою хрумсцелі лаўжы.

Ніхто так не шуміць у лесе, як чалавек.

— Ні з месца! — крыкнуў Вольке, калі крокі наблізіліся. — Страляю.

Тыя замерлі. І ўсё ж — па кроках аднаго з двух — праз хвіліну стала зразумела, што яны ўцякаюць. Крокаў другога не было чуваць, і салдаты падумалі нават, што ён стаіць на месцы.

Слуп агню прарэзаў апраметную цемру. Страляў паручнік. Потым грымнулі стрэлы салдат: чуваць было, як падалі, зрэзаныя кулямі, галінкі і лісты.

Паўз Буткевіча, ломячы галіны, ірвануўся ў цемру Вольке.

— Стой! Спаймаў! Трымайце яго, прапаршчык! А-а, вось ты!

Салдаты скупчыліся вакол паручніка. Нехта чыркаў сярнічкамі, запальваў ліхтар.

— На гук страляў, — перарывістым голасам сказаў Вольке. — Гэта той, што шумеў. Ды ганіцеся ж... Ды ганіцеся ж за другім... Хал-лера!

Але гнацца не было як. У навакольнай цемры нават свае далоні нельга было бачыць. Раз толькі, далёка недзе, шуснулі галіны, быццам нехта аступіўся.

У святле ліхтара ўсе заўважылі распасцёртага на сцежцы хлопца год семнаццаці. Трымаць яго не трэба было: паручнікава куля прабіла яму скронь і выйшла ў патыліцу. Ён так і ўпаў на спіну — адразу, прыціснуўшы целам вялікі лубяны кораб з кнігамі, быццам не хочучы аддаваць яго ў чужыя рукі.

— Гасі ліхтар, — сказаў Вольке. — Перастраляюць, як сабак.

— Наўрад ці ў іх была зброя, — сказаў Буткевіч. — Гэта ж кніганошы.

— Усё адно.

Толькі калі адышліся далёка і зноў мінулі балота, Вольке з прыкрасцю крэкнуў:

— Не здагадаліся. А можа, забіты сваяк таму. Трэба было зрабіць засаду і чакаць. Зрабіць выгляд, што пайшлі, і чакаць. Вярнуўся б. Напэўна, гэта Корч быў.

Памаўчаў.

— Ён і ўцякаў, бо думаў: другі ўцякае таксама.

— Кіньце, — сказаў Буткевіч. — Што вы, крумкач?

— А што ж... Гэтак пацэліць у цемры — ого!.. А вы што, шкадуеце?

— Малады, — сказаў Буткевіч.

— Та-та-та. Кіньце! Усё адно прыйдуць па труп. Не пакінуць жа, трэба думаць, не пахаванага... Словам, лухта!

Забітага завезлі ў мястэчка і палажылі там на радно, у густую траву ля плота валаснога праўлення. Гэта было зроблена знарок, каб хлопца пазналі. Вольке пакінуў прапаршчыка ў мястэчку, а сам накіраваўся ў павет, далажыць.

Буткевіч быў вельмі раззлаваны. Паручнік зноў спіхнуў на яго самае непрыемнае. А глядзець на забітага было непрыемна. Малады, бялявы, валасы хвалістыя, на мёртвым твары — выраз здзіўлення. Вельмі было шкада хлопца. І потым, няхай нават крамола, але нашто было адразу страляць? Трэба было паспрабаваць злавіць яго жывога. Жывадзёр гэты Вольке, вось што! А цяпер — глядзі! Вартуе, праўда, салдат, але гэта ўсё адно.

...Малады бялявы хлопец ляжыць на радне ў густой траве.

Да вечара траву моцна вытапталі. Чутка аб тым, што забілі нейкага кніганошу, хутка разляцелася па навакольных вёсках. Людзі ішлі і ішлі. Некаторыя спыняліся ля мёртвага і доўга

разглядалі твар, над якім пачыналі ўжо віцца мухі. Але варта было спытаць старшыні ў каго:

— Што, ведаеш? — і чалавек, апускаючы павекі або проста гледзячы ў вочы валаснога, абыякава паціскаў плячыма.

— Адкуль я ведаю? Не, не ведаю.

Гэта была сапраўдная змова маўчання. Злуючы на ўсё гэта і на тое, што даводзіцца сядзець над забітым, як вароне, Буткевіч нервова спытаў у валаснога:

— Няўжо і вы не ведаеце? Гэта ж ваша воласць.

— Адкуль я ведаю? — зусім як сяляне сказаў валасны.

Ніхто не выдаў, што ведае забітага. Не выдаў нават рухам. Нават незнарок.

Сярод тых, хто прыходзіў, Буткевіч заўважыў Ганусю. Падышла, зграбненькая, сіняковая, у сіняй з жоўтымі кветкамі хустцы, моўчкі пастаяла над забітым і пайшла прэч.

Ён нагнаў яе, паспрабаваў спыніць і ўбачыў, што вочы ў яе халодныя і чужыя.

— Страляеце, — цьмяным голасам сказала яна.

Прапаршчык маўчаў.

— Сорамна, пане Алежа.

— Гэта не я, гэта Вольке, — як хлапчук, паспрабаваў апраўдацца Буткевіч і пачырванеў.

— Я ведаю, пане, — сказала яна. — Але як вы... маглі?

Яна агледзела яго тым самым чужым і дзіўным позіркам. Ён стаяў такі засаромлены, зграбны, у вачах ягоных былі такая горыч і такая крыўда, што яна апусціла вейкі.

— Што ж гэта вы? — сказала яна ўжо трохі іншым тонам. — Як жа гэта вы?

І ён убачыў у яе вачах водсвет таго захаплення, з якім яна заўсёды глядзела на яго. Але акрамя водсвету ў вачах цяпер былі слёзы не слёзы, а так нешта накшталт безнадзейнага развітання з нечым дарагім.

— Не трэба так, Ганця, — усё яшчэ з некаторай ненатуральнасцю сказаў ён. — Я ж... пакахаў вас.

Яна моўчкі пахітала галавою, адмаўляючы яму ў літасці.

— Не... не...

І пайшла на яго, як на пустое месца. Уражаны, ён адступіў і разгублена глядзеў, як яна ішла затравелай вуліцай, як завярнула за рог драўлянага касцёла, як знікла. І тады ён застагнаў ад сораму і ганьбы.

А хлопец усё яшчэ ляжаў у вытаптанай траве, і людзі падыходзілі, глядзелі і праходзілі. Так цэлы дзень.

Надвячоркам прыехаў з павета злосны Вольке. Куды знікла яго ўсмешка анёла. Твар быў, як у збраяносца, які падае рыцару кінжал, каб той дабіў параненага ворага.

Распранаючыся, змываючы ў двары праўлення пыл з цела (вада тройчы ставала чорная), выціраючыся суравым ручніком, кідаў:

— Зараз паедзем на кардон... Ніхто не пазнаў?.. Дзіва што. Дзікуны!.. Вандалы!.. Індзейцы... Знішчаць іх, як сабак!.. Маўчаць або лаюцца... Я ведаю, хаця б хто слязіну выраніў... Крычалі ў павеце на мяне... Маёр... Нічога, цяпер вось толькі горла прамачу і — на кардон... Я ім пакажу... Крывёю рыгаць будуць.

Толькі за чаем ён трошкі супакоіўся. Высыпаў перад сабою на стол кніжкі з лубяного кораба, піў чай і глядзеў на іх злоснымі, як у луня, вачыма.

— Тутэйшых ім, бачыце, захацелася... Шайзе... А жывуць з цялятамі... Вынішчаць іх...

— Што ж, і мяне вынішчаць? — з усмешкай спытаў Буткевіч.

— Вы — другое. Вы цывілізаваны чалавек. А гэта — гной.

Пакруціў галавою.

— Ох і крычалі! Кажуць, у губерні зноў з'явіліся падкінутыя лісты. А ў іх словы — што міністраў трэба задушыць...

— Так ужо і напісана?

— Ну, не зусім так. Але — сэнс... Прыехаў з губерні жандарскі маёр... Пасля размовы з нашым трухлявым вараціддам адазваў мяне і сказаў, што калі кантрабанда будзе і далей, асабліва заядлага кантрабандыста прыкончыць без суда і следства: край, маўляў, глухі, лясны. Хто разбярэцца? Можа ў перастрэлцы загінуў? Кантрабандысты ж, яны... узброеныя.

— Гэта ж разбой.

— Гэта не разбой. Гэта барацьба з кантрабандай. А кантрабанда — усё адно кантрабанда, кнігі гэта, англійскія тканіны або тытунь.

Салдат, што вартаваў забітага, асцярожна прачыніў дзверы і бокам праціснуўся ў пакой.

— Табе чаго, Адрыян? — спытаў Вольке.

— Пахаваць трэба было б... Цэлы дзень на сонцы...

— Тху... Ты б яшчэ смачнейшае што за чаем распавёў.

— Дык як загадаеце?

— Бадай што, можна будзе і аддаць хлопца... Папу ці ксяндзу, хто там ёсць. Усё адно нічога не скажуць.

— І потым, там яшчэ чалавек стаіць, — сказаў салдат. — Просіць вас.

— Хай пачакае, — сказаў паручнік. — Бачыш, чай п’ю. Нічога з ім не станецца, з тваім чалавекам.

— Стары.

— Тым больш.

Буткевіч выглянуў у акно. Непадалёк ад трупа стаяў чалавек год пад шэсцьдзесят, кашчавы і яшчэ даволі дужы. Здзіўлялі ступакі ягоных ног. Пры росце, нават трошкі ніжэйшым за сярэдні, яны былі вельмі вялікія і пляскатыя.

«Як у палескага злодзея», — падумаў Буткевіч.

Чалавек стаяў, склаўшы грыбком вялікія і зморшчакаватыя далоні. Абапіраўся імі на доўгі дарожны кій. Выцвілыя сінія вочы трошкі непаразумела, але спакойна глядзелі на забітага.

І толькі ці не занадта нізка была апушчана сівая, як дзьмухаўка, галава.

Голас Вольке адарваў Буткевіча ад назірання. Паручнік перабіраў кніжкі, высыпаныя на стол.

— Каляндар, — сказаў Вольке, — заметка, як трэба яшчэ з зімы рабіць ляднік, запасячы на лета лёд. Па-польску. Нашто гэтым дзікунам ляднік? Хіба што п’яным адсыпацца? «Казачка пра трох братоў, нявесту і яблычка...» Культурнае чціва... Яшчэ адзін каляндар, жамойцкі. А тут... «Пакуты беднай сялянкі і багатага лорда»... Гэта па вашай часці... А вось псалтыр... Тутэйшай гаворкай... І малітоўнік, таксама тутэйшы.

Ён варушыў губамі, разбіраючы літары.

— Не па-людску неяк гучыць.

— Чаму? Яны так гавораць.

— У гэтым і небяспека, — павучальна сказаў Вольке. — Што ж, сёння ім, потым хахлам, а потым яшчэ, крый Божа, палякам.

Рукі ягоныя раптам здрыгануліся над танюткай кніжкай у цёмнай з разводамі вокладцы.

— Ого!.. «Апавяданні на беларускай гаворцы»... І адразу ж крамолай засмярдзела... Вось вам і малітоўнічкі... Спачатку яны, а потым наконт царскага сямейства.

— Ды ў чым там справа?

— А вось апавяданне: «Чы добра мы зрабілі, пакінуўшы вунію?» Бачыце, яшчэ разбіраецца, мужыцкая морда. Не з такой галавою людзі гэта вырашылі, а ён ім пытанні задае... «Чы добра?»

Ён глядзеў на кніжку і цмокаў языком. А за акенцам усё яшчэ стаяў над трупам стары чалавек. Стаяў, схіліўшы сівую, як дзьмухаўка, галаву.

Вольке нарэшце заўважыў яго. З хітраватай іскрай у вачах, як у хлапчука, што збіраецца ўцячы з урока, сказаў прапаршчыку:

— Я стаміўся, Буткевіч. А вы ж цэлы дзень адпачывалі. Прыміце яго вы. Га? А я пайду на сена, паляжу трошкі.

Нешта прымусіла прапаршчыка згадзіцца, не зважаючы нават на тое, што Вольке заўжды спіхваў яму самыя непрыемныя справы, а цяпер вось спіхнуў і гэту.

...Чалавек сядзеў перад Буткевічам і глядзеў яму проста ў вочы.

— Што вам?

— Аддайце мне забітага.

— Чаму?

— Чалавеку нельга без зямлі... Душа пакутуе...

— Хто вы яму?

Стары паглядзеў проста ў вочы афіцэру.

— Мой сын, — сказаў ён.

— А вы хто?

— Мая мянушка Корч.

Буткевічава галава адкінулася.

— Чаго здзіўляцца, пане? Я Корч... Стары Корч. Гэта быў наш хлеб, пане. Мой, майго бацькі. Наш хлеб — насіць кнігі.

Вочы ягоныя былі сухія.

— Я адчуў, што старэю. Каму ж перадаць рамяство, як не сыну? Я вучыў яго. І вось... не паспеў вывучыць.

— А калі я скажу пра гэта?

— Пан не зробіць гэтага. Вочы не тыя.

— А ў вас якія вочы? Такі малады, а загінуў праз вашу ўпартасць. Нельга ж, казалі вам...

— Мужыкам шмат чаго нельга. Нават есці.

Буткевіч апусціў вочы.

— Як ваша прозвішча?

— Кірыла Туравец. Амаль як святы Кірыла Тураўскі... Толькі таго за кнігі хвалілі.

Зноў ударыў. Хоць скрозь зямлю праваліся.

— Што вы збіраецеся рабіць, Туравец?

— Цяпер давядзецца зноў мне...

— Цяпер гэта небяспечна. Будзем страляць.

Кніганоша пакорліва паціснуў плячыма.

— Вы дакараеце мяне за смерць сына, пан. Што ж зробіш, такі хлеб. Яго магло і сасной хвастануць на лесасецы. Бог бачыць, як мне цяжка.

Памаўчаў.

— Але цяпер зноў мая чарга. А стрэлы? Што ж, Божая воля.

— Вы хаця ведаеце, што носіце, Туравец?

— Гандляры паказваюць мне кнігі. Называюць назвы. Я гляджу і запамінаю. Памяць у мяне добрая. Я заўсёды пазнаю кнігу, якую насіў.

— Дык ты і не...

— Не, пане...

— Можа і не любіш кніг?

І тут Буткевіч заўважыў, як непазнавальна змяніўся, стаў амаль пяшчотны твар у кніганошы.

— Сын мог чытаць... А мяне не ўмудрыў Пан Бог... Але я іх люблю.

Стары як быццам нават вырас. Ён гаварыў цяпер павучальна, з той наіўнай веліччу, якой, пэўна, вызначаліся пракокі. Ці мала і сярод іх было непісьменных?

— У кнізе няма граху. Біблія нездарма таксама кніга. Думаеш, пра што гэта: «Без языка, а гаворыць»? Пра кнігу. А «Вучэнне — святло, невучэнне — цемра»? Таксама пра кнігу. За што ж ловіце?.. І так мудра прыдумана ў той кнізе, тут спінка, а тут табе... абрэз. І лісцікі белыя, а радкі шэрыя.

Намагаючыся пераканаць яго, Буткевіч сказаў:

— Але нашто вам гэта насіць? Вы ж ведаеце, што забаронена. Вам хіба мала славянскіх малітоўнікаў?

— Яны хочуць разумець малітвы, — сказаў стары. — У малітоўніку ўсё зразумела. А поп спявае, нібы ў яго гарачая бульбіна ў роце: «І сушчым ва грабех». Адна бабуля думала: «І сухі верабей...» А каб яна глянула ў малітоўнік — яна б прачытала, што гэта не «сухі верабей», а «і тым, хто цяпер у труне... у тру...не».

Ён змоўк, моцна сціснуўшы вусны.

Гледзячы на гэтую сівую галаву, адчуваючы, што нельга, упершыню ў жыцці, не парушыць загад, Буткевіч сказаў:

— Бярыце сына, Туравец. Толькі я вас... асабіста... разумееце, асабіста прашу, кіньце гэтую справу. Я нікому не скажу, але вы кіньце. Бо другі раз так проста не абыдзецца. Другі раз вас могуць забіць. У сутычцы або нават проста расстраляць. Начальства ў гневе... Ну, абяцаеце?

Стары маўчаў.

— Ідзіце, — пасля паўзы сказаў Буткевіч. — Ідзіце, Бог з вамі.

...Тураўца сустрэлі ўсяго праз тры тыдні пасля гэтых падзей. Стары схібіў, можа, упершыню ў жыцці. А можа, гэта і не было хібаю. Можа, яму проста стала цяжка цягаць па нетрах і зарасніках цяжкі кораб.

Ва ўсякім разе, ён ішоў амаль адкрытым месцам, рэдкімі хмызамі, што раслі над урвішчам. Глiністым і камяністым, высокім урвішчам над ракой.

Ішоў, не зважаючы на тое, што рабілася вакол. Цяжка перастаўляў вялікія пляскатыя ступакі. А лубяны кораб вісеў на спіне, на двух рамянях, грузны, абвіслы.

...Яго падпусцілі зусім блізка. Потым Вольке выйшаў з хмызоў.

— Здавайся, Корч, — сказаў ён. — Адхадзіў.

Стары кнiганоша без боязі ўзняў вочы і раптам зрабіў некалькі хуткіх крокаў ад афіцэра, быццам самі ногі прымусілі яго ўцякаць. Потым спыніўся — магчыма, таму, што ўцякаць не было куды, бо за спіною абрывалася зямля, а магчыма, і проста з-за абыякавасці.

— Адхадзіў, — сказаў ён. — Твая праўда. Куды ж цяпер?

— Мая справа, — абарваў яго Вольке. — Можа, у турму. А можа, мы і тут з табою... скончым. Папсуў ты нам крыві, сволач.

— Не пайду я ў турму, — спакойна сказаў кнiганоша. — І кулі твае мне не трэба. Сабе зберажы.

Вольке і салдаты рушылі на яго. Але ён зрабіў некалькі крокаў, быццам разбягаючыся, і спыніўся над самым урвішчам. Ногі не слухаліся.

І тады ён, быццам прымушаючы сябе, голасна сказаў:

— Ну!!!

Вялікія, расплясканыя ступакі яго яшчэ стаялі на зямлі, а цела ўжо хілілася і хілілася...

А потым сарвалася ўніз.

Ён ударыўся аб валун, што выступаў са стромы. І рамяні, відаць, парваліся, бо далей цела і кораб падалі па сабе.

Кораб разваліўся.

Чалавек ужо нерухома ляжаў на прыбярэжным жвіры, а кнігі ўсё яшчэ падалі. Цяжкія турманамі куляліся па камянях, адхоне, лёгкія галубамі ляцелі ў паветры.

І многія — лебедзямі плылі па вадзе.

...Цела старога, відаць, забралі нейкія сваякі. Ва ўсякім разе, калі малодшы афіцэр, дачуўшыся, прыбег на месца здарэння, трупа там ужо не было.

...Праз нейкі тыдзень Буткевіч, даведаўшыся ад местачковых баб, дзе жыве Ганурся, прыйшоў у вёску Плавуцічы і знайшоў яе хату. Дзяўчына нідзе не паказвалася, а яму было ўжо цяжка, амаль немагчыма без яе. Бадай што, цяпер гэта была зусім не рамантычная гісторыя, а нешта больш складанае і больш балючае.

Пан прапаршчык падышоў да хаты, вельмі небагатай і безнадзейна шэрай ад старасці. Затравелая сцежка вяла да ганка.

Націснуў на клямку, але ў сенцах нікога не было. Ніхто як быццам нават не чуў, што ён ходзіць па двары.

Адчыніў дзверы ў хату і ўбачыў яе за дзіўным заняткам. Дзяўчына сядзела на падлозе босая і без хусткі. І ён бачыў цяпер яе бялявыя хвалістыя валасы. Яна сядзела і ўмацоўвала рамяні на новым лубяным корабе.

— Ганурся, — толькі і мог сказаць.

Яна прыўзняла вочы. І ён убачыў у іх толькі халодную пагарду. Нават гневу не было ў гэтых вачах.

Паспрабаваў быў падысці.

— Адыдзі, — сказала яна. — Адыдзі і глянь на печ.

На печы Буткевіч убачыў дваіх дзяцей — хлопчыка год шасці і дзяўчынку год чатырох.

— Стрыечнікі, — сказала Ганурся. — Сіроты... На тое, каб іх гадаваць... Эх вы, людзі!

— Я ж не ведаў...

— Ён не ведаў, — сказала яна. — Дык ведай: і татка... і брат... мае... Думаеш — не плакала, дык і не мае. Гонару многа яшчэ перад вамі плакаць. Нашы гэта ведаюць.

І жэстам, поўным прыроднага спрыту, закінула лёгкі кораб за плячо.

— Сіротамі не астануцца... Мне цяпер іх гадаваць.

Вусны яе задрыжалі.

— Ідзі адсюль. Духу каб твайго не было. — Яна горка ўсміхнулася. — Падумала была я, ды хутка раздумала. І дзякуй Богу. Ідзі, рабі сваю справу.

...Вечар быў страшны для Буткевіча. Не ведаючы, што рабіць, як пазбыцца неадчэпных думак, ён узяў кнігу «Апавяданняў на беларускай гаворцы» і пачаў гартаць. І тут яго чакаў яшчэ адзін удар.

Пачытаўшы з гадзіну, ён моўчкі пайшоў у пакой паручніка, які якраз сядзеў у крэсле і, пакурваючы, пакутаваў ад суму. Працягнуўшы яму кнігу, Буткевіч спытаў:

— Ну... Дык «чы добра мы зрабілі, пакінуўшы вунію»?

— Вы што, — спытаў Вольке, — блёкату наеліся?

— Ён даводзіць... ён даводзіць, што... добра. І вось у канцы... Мы не паглядзелі ў канцы. Тут надпіс: «Дазволена цэнзураю».

— Ну і што? — з неўразуменнем спытаў Вольке.

— А тое, што гэта наша... прабачце, ваша кніга, якая выпадкова трапіла за мяжу і прыйшла ў гэтым корабе назад.

— Не можа быць, — сказаў Вольке. — Іх забараняюць.

— Адну, відаць, дазволілі. Даўно. За подласць. За абарону вашага, забітага добрымі людзьмі, вырадка.

Ён рашуча дадаў:

— Заўтра я падам у адстаўку, Вольке. І вы падтрымаеце мяне. І няхай суд, а я з'еду з кардона зараз, цяпер. Калі армія займаецца тым, што ловіць людзей і забівае іх за малітоўнікі, — дык... я хацеў на такую армію.

— Вы звар'яцелі, Буткевіч, — сказаў Вольке.

— Я проста прачытаў адну крамольную кнігу, — з сумнай палёгкаю адказаў Буткевіч. — Яны нядрэнна зрабілі, што перанеслі яе цераз мяжу... Трэба паспрабаваць, трэба вярнуць адну тут... жанчыну. Я мяркую, што яшчэ не позна.

*1962*

## СІНЯЯ-СІНЯЯ...

Апошнія вершнікі з крыкам і гартанным лямантам адхлынулі за дзюны і праваліліся, зніклі за імі, як жоўта-белая лава... Як вада... Не, як апошнія языкі самуму.

Настала цішыня.

Ён ляжаў на пяску, гэтай разагрэтай, нясцерпна гарачай патэльні. Ад дзюнаў яго аддаляла нізкая, на палову сажня вышынёй, паласа: разбураны мур борджа*. Тут усё было разбурана: муры, дзве халупы для людзей і стайні. Над крыніцай варушылі калючымі крыламі дзве пальмы. На такіх бываюць найлепшыя фінікі «дзеглатнур». Яны маціцовыя, як паласць дняпроўскай ракавінкі. Найлепшыя фінікі.

Толькі не тут.

Бо крыніца заплывае. Бо мур ужо разбураны з трох бакоў, і ён ледзь паспеў нацягаць плітняку і зрабіць у адным з куткоў

---

* Спаруда для аховы крыніцы: чатырохкутны двор, абнесены мурам і байніцамі.

яшчэ два невялікія муры, свой маленькі бордж, наводдаль ад вады і дрэў. Зрабіць прыстанак для іх у яго не было часу. І гэта была сапраўды патэльня, і ён ляжаў на распаленым пяску, а руля ягонай стрэльбы была яшчэ гарачэйшая за пясок. Перад ім, на пяску, каля самай грады дзюнаў, ляжалі ў нежывой паставе два вярблюды, аднагорбыя мясцовыя драмадэры. Адтуль часам патыхала смуродам: вярблюд дрэнна пахне, калі некалькі дзён не п'е. Вельмі дрэнна пахне.

Трохі наводдаль ад жывёл ляжаў чалавек у блакітнай доўгай блузе і шараварах, перацягнутых у таліі чырвоным поясам. Як і пры жыцці, галава, рот і нос таргві* былі пад белым пакрывалам. Бачныя былі толькі вочы. Дакладней — адно вока, бо другое разам з паловай аблічча танула ў пяску. Гэтае вока глядзела. Яно было, як жывое, чорнае і драпежнае.

Ён не хацеў страляць па туарэгах. Але другія суткі без вады — гэта ўжо занадта. Спачатку ён страляў па вярблюдах, гэта павінна было пераканаць таргві ў тым, што ён не хоча ім зла, хоць яны і нападаюць.

Вунь той, што ляжыць там, упаў з забітай жывёлы і не кінуўся ўцякаць. Таргві самыя смелыя людзі пустэчы. Гэты самы проста ўзняў і пайшоў на яго, узняўшы меч. Валюхаў нязграбна, як качка, і размахваў рукамі: таргві дрэнна ходзяць, зусім як маракі.

Бог на сваім высакародным мехары**, гном — на пяску.

Дзяўчынка закрычала так страшна! А таргві як адурэў, і быў ужо зусім блізка, і мог уварвацца з мячом ці кінуць дзіду. Дзяўчынка крычала.

...І вось цяпер чалавек ляжыць нерухома. Круглы шчыт са шкуры антылопы адкаціўся ўбок. Правая рука з каменным бранзалетам з серпенціну адкінута. Нясцерпна зіхацяць на поясе і шыі амулеты. А меч, што адляцеў амаль да ног, абутых у вярблюджыя поршні, блішчыць у пяску, як струменьчык вады.

Нават у мёртвага ў яго высакародная пастава. Чырвоны плашч на шырокіх плячах, як заламаныя крылы. Напаўзакрытае белае аблічча, магутныя ногі. І меч ззяе ўбаку, як струменьчык вады. Рыцар часоў агульнага гандлю, чыгуначных спекуляцый і шыбеніц. Чалавек, які здольны з'явіцца не там, дзе яго чакаюць, а там, дзе ён хоча. Жах пустыні. Граза схватак. Уладар пяскоў. Труп.

---

* Арабская назва людзей з племя туарэгаў.

** Асабліва цягавітая парода вярблюдаў.

...Дзяўчынка варухнулася за спіной.

— Адхаліб, піць.

— Пачакай, Джаміля, — сказаў ён шорхлым голасам. — Пацярпі. Дам, калі будзе зусім дрэнна.

Ён адчуў роспач. Узвысіў шорхлы голас і крыкнуў па-арабску тое, што ўжо крычаў сёння, можа, дваццаць разоў і што цяпер, пасля злашчаснай сутычкі, зусім не мела сэнсу.

— Таргві! У імя Аманаі, у імя Аджэн!* Ідзіце да крыніцы.

Пустыня маўчала. Яна не верыла. І яна мела рацыю.

«Веру. На добрай дыстанцыі ружэйнага стрэлу».

Ён не збіраўся страляць, але яны гэтага не ведалі. Яны атакавалі — і ён забіў аднаго. Веры не было.

І яшчэ не было вады. Не было ў тых, за дзюнамі, бо яны баяліся куль. Не было і ў яго. І вось ён ляжаў, як сабака на сене. Сам не мог піць і не даваў ім.

Нічога не было. Быў толькі бордж, ушчэнт разбураны два гады назад. Была распаленая патэльня, дзяўчынка і ён.

І тут, пад мурамі борджа, ён павінен быў скончыць свае дні. Пятрок Ясюкевіч. Былы беларус, былы гімназіст Віленскай гімназіі, былы студэнт, былы паўстанец, былы вандроўнік, былы ўдзельнік геаграфічнай экспедыцыі Каміла дэ ла Брысака.

Былы чалавек.

Бо тут ляжаў жывы труп. Труп у падзёртай вопратцы і з неабмежаванай колькасцю набояў для штуцэра. Труп без радзімы, без ежы, без вады.

І побач з жывым ляжаў труп.

Вада была там, ля кубы — магілы якогась мусульманскага святога, таксама даўно разбуранай, з разнесенымі ўшчэнт мурамі. (Французы, калі тут яшчэ быў пост, хавалі ў ёй порах.)

Да вады нельга было дапаўзці: знялі б, прынамсі, з чатырох кропак. Брысак, звар'яцеўшы ад смагі, не ўлічыў гэтага, а таргві нядрэнна стралялі.

Петраку было шкада Джамілю. У белай сукенцы і чырвонай блузцы з шырокімі рукавамі, з белым брудным каўнерыкам, у аксамітным уборы, які вельмі нагадваў беларускую вясковую намітку, толькі што быў збіты набакір. Малая сядзела і смактала палец. Глядзела на пляшку з вадою.

Нічога, малая, раз смокчаш палец — значыць, ёсць сліна. Значыць, усё яшчэ не зусім дрэнна.

---

* У імя Бога, у імя неба!

— Пасмакчы каралі, дзяўчынка. Бачыш, колькі там горнага крышталю?

— Нашто, адхаліб?

— Ён заўсёды халодны, — шорхлым голасам сказаў Пятрок. — Твае продкі з Карфагена ў самую лютую спёку студзілі рукі аб крыштальныя шары. Яны лічылі яго скамянелым льдом.

— Што такое лёд?

Ён пацiснуў плячыма.

— А дзе гэта Кар-фа-ген?

— Вёрстаў пятнаццаць ад Туніса.

Дзяўчынка была чароўная. Тоненькая, з доўгімі чорнымі вачыма. Носік правільны, трохі таўставаты, як заўсёды ў бербераў, тонкія ўсмешлівыя вусны, доўгая шыйка. Усміхалася. Можа, завучана, бо ў сем'ях шэйхаў з дзяцінства вучаць валодаць аблiччам. А можа, і шчыра, бо з ім нічога не баялася.

Павінен быў падысці караван. Можа, заўтра, а можа, і паслязаўтра. Але яшчэ два дні на сонцы ён не вытрымае. Яму пяцьдзесят два гады. За гэтыя два дні ён пастарэў на пятнаццаць. Так, ва ўсякім разе, яму здавалася. Вочы былі каламутныя і чырвоныя ад неймавернай спёкі і сляпучага святла. А калісьці былі чыстыя, як раса на валошках.

«У гімназіі дзяўчынкай дражнілі», — успамінаў ён з абыякавай усмешкай. Што б яны цяпер сказалі, былыя сябры?

Збітыя чаравікі, падзёртыя нагавіцы, белая на лапатках і пад пахамі кашуля, апаленыя сонцам рукі і грудзі, бялявая парасць на шчоках, зблытаныя ад пылу, залацістыя некалі, а цяпер пасівелыя валасы, набрынялыя павекі. Вочы зусім як у туарэгаў, у «пакрытых таргві». Многія з іх слепнуць пад старасць.

Таму што вочы выпальвае звер, які і цяпер ляжыць і вартуе яго, Петрака, які дзесяць год дыхае яму ў вочы сваім пякучым страшным подыхам.

Вялікая паўночная Сахара.

Ён дастаў запісную кніжку. Падумаў хвіліну. А потым паставіў на апошнім чыстым аркушы дату:

«25 ліпеня 1880 года».

За яго спіною быў разбураны бордж, а яшчэ далей — плато, спрэс укрытае жвірам, галькай і абломкамі крэменю, самая бязлюдная і прапашчая частка пустыні. Нешта накшталт пляжа, калі можна ўявіць сабе пляж даўжынёю на сто вёрст. Людзям, якія прыйдуць сюды за імі, каб шукаць ваду і іхнія тленныя астанкі, не варта шукаць там.

Але наперадзе дзюны, дзюны, вялікая краіна дзюнаў, зрытая там-сям ярамі і вадзі, сухімі лагчынамі.

І ён запісаў:

«Людзі, калі вас толькі панясе сюды пекла, — толькі на поўдзень, толькі туды». Падумаў і закрэсліў. Людзям ягонага колеру скуры няма чаго рабіць на поўдні, у чужой краіне.

«25 ліпеня 1880 года. У цяні — 40, на сонцы, дзе мы, — 62. Тэмпература глебы — 24. Нас засталося двох. Са мной Джаміля, васьмігадовая дачка шэйха з Уед-Рыра. Вакол туарэгі. Пяць дзён таму назад яны напалі на Уед-Рыр і тры ночы гналі нас па пясках. Загінуў шэйх з сям'ёю і ўсе ўдзельнікі экспедыцыі. Загінулі ад дзід і смагі. Падзякуйце за гэта ўраду, які блытае навуку і вайну, які скупіцца на разведчыкаў і пасылае замест іх медыкаў, батанікаў і гідраінжынераў. Учора загінуў Брысак. Напэўна, не дажыву да раніцы. Малю як аб апошняй літасці: дзіця, мабыць, пагоняць у рабства, і, напэўна, на поўдзень. Выкупіце! Мая пенсія за год — у Гадамесе. Малю вас!.. Гэта апошні мой запіс».

Ён загарнуў кніжку ў брудную насоўку, прысыпаў пяском да самай сценкі, а на сценцы надрапаў вострым каменем крыж. Калі будуць аглядаць месца апошняй бітвы — здагадаюцца, мабыць, што раз крыж, то пад ім павінна быць нешта пахавана. Таргві не здагадаюцца: яны не хаваюць пад крыжам.

— Што ты робіш, адхаліб?

— Не звяртай увагі, — сказаў ён па-арабску. — І нікому не кажы пра гэта. Тут наш паратунак. Што б ні здарылася, тут наш паратунак.

— Амулет?

— Амулет.

Дзяўчынка глядзела на яго з-пад доўгіх загнутых веек вільготна і сумна, чорнымі дзівоснымі вачыма. І крыштальныя каралі блішчалі зусім як яе вочы. Толькі вочы былі чорныя.

«Тыповы берберскі твар, — падумаў Пятрок. — А калі ўжо казаць шчыра, самыя чыстыя берберы — таргві. Ці не дзіўна, што адны берберы рэжуць другіх?»

Ён успомніў, як яны адстрэльваліся і як маўклівы шэйх страшна закрычаў, калі адсеклі галаву нашчадку. Хлопчык упаў. Шаўковыя шаравары на дзіцячых ножках трапяталі на ветры, а ў пантофель з чырвонага саф'яну паступова наносіла пясок, бо пантофель зваліўся з ножкі.

Шэйха потым прабіла дзідай. Жонка ягоная несла дзяўчынку. Высокая жанчына ў доўгай чырвонай гандуры, яна пры-

крыла Джамілю краем белага пакрывала, нібы вэлюм быў самай надзейнай абаронай. Магчыма, гэта было і так, бо ён, Пятрок, страляў, прыкрываючы іх, а калі азірнуўся — жанчына ляжала ніцма, і крыві не было відаць толькі таму, што гандура была чырвоная.

А вершнікі імчалі на драмадэрах, гайдаючыся, як дзівосныя птушкі. І дроцікі ляцелі роем, і жанчына была мёртвая, а дзяўчынка засталася.

Дзіўна, што адны берберы рэжуць другіх.

Урэшце, што дзіўнага? Хіба на ягонай радзіме не было таго самага? Брат паўставаў на брата, бацька — на сына. А што рабілі з мужыкамі? А што з паўстанцамі? А што з афіцэрамі, калі спаймаюць? Загінуў Мацкявічус, загінуў Пацябня, Кастуся Каліноўскага павесілі, Загорскі бадзяецца невядома дзе і, можа, загінуў, маёр Кавецкі расстраляў паўстанца Волгіна.

Паршывая зямля! Каты і рабы!

— У цябе дрэнныя думкі, адхаліб? — дзяўчынка смактала каралі.

— Сядай да муру, нямытыя вочкі, — страшным агрубелым голасам сказаў ён, — тут лапічак ценю.

— Чаму нямытыя?

— Дык чорныя ж.

У яго, Петрака, ніколі не было ні жонкі, ні дзяцей. Гэтая паганая навалач там, на так званай радзіме, літасціва пазбавіла яго неабходнасці даваць ім на хлеб. У яго былі толькі жанчыны. Светлавалосыя ў Андалузіі; легкадумныя з Тэнерыфа; сонныя турчанкі з вузкіх вуліц Галаты; вольнанароджаныя жанчыны Гадамеса з мацерчатым чырвоным шарыкам на лбе; маўрытанкі з Феца і Танжэра.

Там былі гарматы і шыбеніцы. Тут — жанчыны. Усё абрыдла, і ён уцёк сюды — збіраць расліны, мераць нікому не патрэбную зямлю, разведваць мясцовасць, у якой потым, праз трыццаць год, калі ягоныя косткі пабялеюць на сонцы, як мармур, стануць бурыць артэзіянскія студні.

І знойдзе тут свой канец. І ўсюды на зямлі адна нудзьга і марнасць марнасцей.

Толькі шкада Джамілі. Лёс судзіў яму адзін дзень пабыць бацькам. Ён ніколі не быў бацькам.

Смага зрабілася нясцерпнай. Ад усеўладнага святла, ад знішчальнай гарачыні распухла і стала бронзавай скура. Засвярбелі спіна, карак, рукі, бакі. Ён ведаў, гэта высыпала на іх спякотная восыпка.

Амаль аслеплымі вачыма ён глядзеў, як варушыліся ў слюдзяным трапяткім паветры султаны альфы, дрын і тамарыск — усе скурастыя, сухія ад звону, калючыя, як скура акулы, і шорсткія, як наждак.

Якая яна, вада? Ён не помніў, якая яна на радзіме. Ён помніў, якая яна бывае тут. Саланаватая, з серавадародным пахам — у балацявінках велічынёй з далонь, чыстая — у калодзежах. Цемнаскурыя руара з касты ртасаў-ачышчальнікаў усё жыццё чысцяць студні. Па чарзе, з малітвай, ныраюць у ваду і сядзяць там часам да чатырох хвілін, а потым выходзяць і цягнуць скуранае вядро з глеем і каменьчыкамі. Чатыры хвіліны ў вадзе!

Во каб гэта быць ртасам!

Але ён не ртас. І перад ім не калодзеж, а дзюны і гміра — дарожны знак, складзены з каменняў. І яшчэ пясок, да якога нельга дакрануцца голай далонню. І ўрэшце — неба. Неба, якое ўсё мацней адлівае пякельнай смяротнай і трывожнай барвай.

У гэтай барве няма ўжо ні дзюнаў, ні неба, ні гміры — толькі пекла і смага. У гэтым пекле ўсё ж ёсць жыццё: і для фенека — рыжага звярка пустыні (вунь ён крадзецца праз гамаду да крыніцы, вясёлы і аблавухі, як першакласнік), і для чубатага пустыннага жаўрука, і нават для брыдкага варана з ягоным тлустым, зямлістым тупым целам.

Усім воля. І фенеку, і жаўруку, і варану. Волі няма толькі для людзей. Як добра быць ртасам! Чатыры хвіліны ў ледзяной, глыбіннай, жывушчай вадзе!

— Хочаш піць, маленькая?

Узняла доўгія загнутыя веі:

— Хачу, адхаліб.

Глытае, закінуўшы галаву. Ён прымушае сябе глядзець убок.

— А ты, адхаліб?

— Не хачу.

— А што будуць піць бацька і маці, калі прыйдуць?

— Я ж табе сказаў — адпачнуць і прынясуць вады.

— А таргві?

— Бацька прывядзе людзей... Ты сядзь у мой цень.

Дзяўчынка перапаўзла ў цень ад ягонага вялізнага цела і прыціхла.

Так, усім воля. Нават таму вунь варану, які цягне між дзюнаў сваё тлустае цела.

Волі няма толькі для людзей. А тут дарогу заступілі таргві.

Уласна, чаму? Калі ён прыйшоў сюды пасля ўсіх сваіх бадзянняў, многія таргві сталі яго сябрамі, і ён сярод іх быў

«адхаліб» — славуты лекар. І вочы ягоныя былі зоркі — Ітран, а душа — сонца, Тафука. Ён ніколі не баяўся хадзіць сярод іх з сябрам, Ган-Аджэнам.

Ган-Аджэн чуў пах вады за пяць вёрст. Ён клаў свайго мехары і вывучаў чужы вярблюджы след.

— Гэта ехалі не свае, адхаліб. Бачыш, памёт драмадэра? Яны і не ведаюць, што памёт — гэта паліва. Гэта маўры. І сярод іх быў белы. Бачыш, ён мачыўся стоячы. Чакай, вунь там яшчэ сляды, свежыя, пахнуць. Тыя людзі ішлі з пустыні і выйшлі на дарогу першага каравана праз гадзіну... Ідуць за імі... Не наганяюць. Адсюль да Туфата... Гэ-э, яны прыйдуць у Туфат уначы, калі маўры і белы палягуць спаць. І яны не спяшаюцца, хоць іхнія мехары даўно не пілі... Папомні маё слова, адхаліб, заўтра мы даведаемся, што ў борджы Туфат выразалі маўрытанскі караван, а за белага просяць выкуп.

Ган-Аджэн быў толькі звычайны член свайго племя, але нюхаў ён лепш за сабаку, хоць увесь нос, рот і ніжняя частка твару былі ў яго вечна завешаныя.

Гэтыя не выпусцяць. Ён ведаў.

Як здарылася, што ён стаў ворагам таргві? Вельмі проста: з'явіліся ўзброеныя французы.

Чорт пабяры! Ён ведаў і любіў французаў і ненавідзеў іх цяпер за разбой.

Ён любіў таргві — і цяпер біўся супроць іх.

Ён ведаў высакародства людзей — і вечна змагаўся і на радзіме і тут.

Лёс?

У таргві ў дзяцінстве, пакуль не паспее абпаліць сонца, таксама белая скура. Але яны помсцяць усім, хто белы скураю. Маюць рацыю.

Таму што белыя прыходзілі, і гвалцілі, і стралялі, як ашалелыя. Таргві бедны народ. Шацёр, ды вярблюды, ды антылопы ў пясках, ды трохі посуду.

А пры сабе шчыт, ды дзіда з чатырма зазубінамі на лязе, ды шабля, ды пара дроцікаў. І яшчэ пістонная стрэльба і дзве маленькія торбачкі са скуры. У адной — зброя, у другой — мука з featureнага збожжа, жменя фінікаў ды жавальны тытунь.

І бурдзюк з вадою, і душа, і замест буды ў дарозе — толькі зоры над галавой. Бедны народ! І на іхнія пяскі таксама знайшлася лапа.

Харошы яны народ! Непарушна сумленны, рыцарскі, верны слову. Яны не ведаюць, што такое хлусня, крадзеж.

Але і ў іх рабства. Не ўнутры племя, не. Проста яны робяць набегі на поўдні Сахары, а потым вядуць палонных у Біскру. Джамілю, хутчэй за ўсё, чакае гэткі самы лёс. І таму ён, Пятрок, страляе, замест таго каб даць забіць сябе, бо жыццё даўно стала непатрэбным цяжарам і, што датычыць гэтай ягонай паношанай скуры, яму ўсё роўна.

— Адхаліб, дай вады.

— Трошкі патрывай... ясачка, — шорхлым голасам сказаў ён. — Вазьмі во гэты сухі яблык. Ён аддзяляе слінку. Пажуй, лягчэй стане.

Дзяўчынка ўзяла і з цяжкасцю пачала жаваць. Спачатку як не сваім ротам, а потым усё смачней і смачней. Адхаліб казаў праўду. Яна толькі не ведала, што і сушаных яблыкаў у яго больш не было.

Туарэгаў не трэба было вінаваціць. Яны прыглядаліся да розных рэлігій. Спачатку да ранніх хрысціян — і навучыліся інкруставаць зброю крыжамі, потым да юдаістаў — і зведалі, што чужыя багі няўмольныя, потым да магаметан — і навучыліся гандляваць рабамі. І ўсё ж яны вераць у неба — Аджэн, у вольнае неба, а не ў вар’ята бога.

Яны вольны народ, а іх гоняць у ярмо, каб былі як негры ў Старой Біскры, як апатычныя і вялыя маўры Сеціфа і Туніса, якіх столькі ганялі, што ім ужо ўсё адно.

«Як людзям на маёй радзіме...»

Ах, як тады ззяў Дняпро, калі яго, амаль непрытомнага, выносілі з кола ворагаў, адпушчаныя камандзірам палонныя. Звычайныя хлопцы аднекуль... А, ды не ўсё хіба адно — аднекуль... Выратавалі аднаго з ворагаў у адказ на высакароднасць.

Усё адно, такая смага... Застрэліцца б... Нельга... Побач гэты камячок...

Адзін дзень трэба пратрымацца. А раптам здарыцца дзіва?

Спёка рабілася нясцерпная. Пустыня маўчала ў барвяным зарыве. Ён фізічна адчуваў, як гэта зарыва піло з яго ваду.

Паспрабаваў плюнуць — не было сліны.

— Адхаліб, глыні вадзічкі.

— Бадай, трэба глынуць.

Ён прыклаў рыльца пляшкі да вуснаў, прапаласкаў рот і... вада нібы выпарылася ў роце. Больш было нельга. І ён страшэнным намаганнем волі аддзёр ад вуснаў гарачае рыльца.

Пятрок ляжаў, схіліўшы галаву, прыпаўшы шчакою да прыклада, а перад невідушчымі вачыма ўставалі, плылі, мяняліся дзіўныя праявы.

Вось стаяць яны на ўзлессі. За спіною вільготны шолах лістоты, а наперадзе гарматы, што вывяргаюць смерць. Вось пагоня, і ён уцякае берагам чорнай балотнай ручаіны... А вось плошча ў Санта-Крус. Вось пасля бою пеўняў птушак нясуць за галовы з арэны, мёртвых. І металічныя шпоры на іхніх нагах драпаюць зямлю. А хлопчык змывае кроў з арэны вядром вады... А потым маўрытанскія мячэці ў Танжэры, і ваданосы з казлінымі бурдзюкамі праходзяць паўз іх і звоняць у свае званочкі. Колькі б ні піў — плаціш адну ачаву.

Жабрак не плаціць нічога.

...І негрыцянкі, што гандлююць малаком у порыстых збанах. Малако заўсёды ледзяное, бо малочніцы палiваюць збаны ледзяной вадой.

...Пад сонцам, што нясе жыццё і смерць, варушыцца стракаты кірмаш. Фігі, камякі вострых прыпраў, масла, фарбаванае ў аранжавы колер, мяккі саф'ян, кошыкі валоскіх арэхаў... Негр мые ногі ў жолабе фантана... А калі ў Дагамеі прыносяць ахвяру сонцу, чалавек радасна скача з высокай скалы ў мора, у абдымкі цудоўнага, сіняга, прахалоднага, іскрыстага бога.

Не, вяртання не будзе. Вялікая Афрыка забрала яго ў палон. У шэрым цараванні смерці, між пірамідаў, між вялікім Хеопсам і вялікім Хефрэнам ён падумаў аднойчы аб радзіме і аб яе лёсе — і гэта быў пачатак канца.

Маленькая краіна, уся пісаная гісторыя якой налічвала васемсот год, з якіх трыста сама не ведала, хто яна такая. Вартыя жалю спробы нешта зрабіць, некуды кінуцца. Спробы дзеяння, падобныя на валтузню верабейкі ў веніках. Лухта і марнасць марнасцей!

Ну і што? Ну, нават каб і адолелі чыгунную сілу? Каб адступіўся цар? Усё адно людзі гінуць і народы гінуць, і працэс гэты няўхільны, а на зямлі не застаецца нічога, акрамя магіл. І мізэрная, нязначная думка чалавека побач са сфінксам, побач з ноччу і цішынёй, побач з вялікім цараваннем магіл.

Калісьці, вычытаўшы ў старадаўняй кнізе пра Усяслава: «Шастакрыльцы! Сыны Белабога! Наперад!» — ён разрыдаўся ў скураную вокладку.

Ну і што? Многія тысячагоддзі стаяў сфінкс, пакуль не крыкнуў гэтыя словы бязведамны князь бязведамнай краіны. І вось ужо няма князя, няма ягонага сэрца і думак, а сфінкс стаіць. І вакол — труны.

Усяслаў памёр, і хлопцы памерлі, і край, і сам ён, Пятрок, вось-вось памрэ. А сфінкс будзе глядзець і глядзець у ноч

сляпымі вачыма з чырвонага граніту. Ягоныя вочы пацямнелі ад дыму войнаў, ад начнога змроку, ад відовішча мільёнаў мёртвых. Царствы і рэспублікі працякалі па твары зямным, і нічога не змянілася.

Ён, Пятрок, сядзеў тады пад сфінксам і радаваўся, што рана ў грудзях прывяла яго ў пустыню, дзе чыстае паветра, да сфінкса, у Афрыку, дзе ён цяпер і застанецца.

А тады месяц усплыў над пяскамі, і аблічча сфінкса стала зялёнае, як малахіт, а вусны расцягнуліся далёка ў бакі, нібы стварэнне знарок пакінула іх у сумнай і памяркоўнай да зла зямнога ўсмешцы.

Калі, што было яму да таго, што ён, Пятрок, разам з сябрамі біўся і сплываў крывёю, што многіх павесілі? Ён столькі бачыў такога.

І ўсё адно, усё адно ж наперадзе магілы і пяскі, што заносяць руіны царстваў. Каму лягчэй ад вартых жалю чалавечых намаганняў?

...І так, праз усмешку сфінкса, стары ўсходні яд атруціў яго.

Спякота стала нясцерпная, смага пякельная. Галаву гваздзілі тысячы малаткоў. Пятрок заплюшчваў вочы, але святло катавала і праз павекі. Нібы вар'ят, мастак пырскаў на свет пурпурам, барвай, атрутнай зелянінай. Колеры рэзалі, пілавалі, таўклі.

Смерць прыходзіла не ў дабратворнай цемры, а ў шаленстве фарбаў і колераў, у расплаўленых плынях чыгуну, у пырсках палаючага фосфару, у вар'яцкіх патоках крыві і вадкага золата. Ён дыхаў цяжка і горача і адчуваў, як вяла замірае сэрца. Вяла і няўхільна, бо яно не магло гнаць па жылах адчувальна густую кроў. А смерць наступала і наступала ў пагрозным і страшным святле.

Смерць у ліпені. Смешна, што ліпень! Дзе тут ліпы? Тамарыск ды вайя. І пустыня наперадзе. Якія ўжо там ліпы!

...Цвітуць ліпы. Якая прахалода! Вялізныя, раскошныя, усе ў вясёлкавых россыпах рос. У чысцюткай сцюдзёнай расе, у звоне пчол.

Але там таксама рабства і народ, які здрадзіў паўстанню і не хоча думаць ні аб чым, акрамя кішэні. І няма ўжо сілы змагацца.

...Іх прыціснулі тады да Доўгай Кручы. І гарматы раўлі, вырываючы мяса, вырываючы людзей, сеючы змрок. А людзі сыпаліся са стромы, падалі ў ваду Дняпра, у сіне-зялёнае прадонне, імклівае і халоднае, аж казытала ў жываце. Вада несла трупы і жывых. А гарматы раўлі. Вось адна гахнула зусім побач.

Пятрок расплюшчыў вочы. Не, гэта не была гармата. Проста грымнуў і разваліўся на дзве паловы вялікі камень нападалёку ад яго. Раскалоўся пад прамымі промнямі пякельнага сонца. Славуты «крык сонца» арабаў. Нават камяні не вытрымліваюць.

Дзяўчынка зусім асалавела ад гарачыні, і ён зноў сеў, каб уласным целам зрабіць ёй цень.

Сфінкс меў рацыю. Усё знікае, і борсанні пакаленняў ля яго вартыя жалю.

...Падпалілі трыснёг ля балацявіны, каб вярблюда не ўкусіла змяя. І агонь яшчэ шыпеў дзе-нідзе, а драмадэры ўжо кінуліся праз яго, і, плюхаючы, па пахі ўлезлі ў ваду, і пілі, пілі, пілі. І смурод патрывожанага імі серавадароду плыў хвалямі. А людзі капалі ямы ля берага, каб вада тачылася праз пясок, і пілі, пілі, хоць вада смярдзела, як пратухлае яйка. Гэта было два гады назад, калі яны з Брысакам паміралі ад смагі, ідучы да котлішча Тайбе.

Сцежкі. Сцежкі. Пагойдваецца вярблюд. Угору, уніз, направа, налева. Горш, як карабель у дробны зыб. І на гарбе — бурда і тэліс з вярблюджай воўны, і механічна, як здані, ідуць у моры спапяляючага святла вярблюды...

Афрыка, каханка мая! Ты забіваеш мяне!

Тысячы блакітных і барвовых змеяў пад Танжэрам.

Змеі і ў сухіх травах. Рагатая змяя, аспід-змяя Клеапатры. Але і тут са змеямі можна змагацца... Араб грэе над вогнішчам бубен... Ракоча нагрэтая скура... Стары плюе ў пашчу змяі, і тая кусае яго, а яму нічога... І ён глядзіць ёй у вочы, і травінка не падае з яе галавы, калі яна, зачараваная, ляжыць на зямлі... І ён закопвае змяю і скача на гэтым месцы, а потым адыходзіць на дзесяць крокаў і грае на дудцы, і змяя выпаўзае з зямлі ля яго ног.

Тут можна было змагацца нават са змеямі. Не тое што на радзіме.

Тут, прынамсі, была барацьба. І берберыйскі леў ішоў зараснікамі алеандраў, акацый і вербаў на чалавека. А чалавек ішоў на звера.

А ўначы чалавек сядзеў у засадзе ля загона для быдла і чакаў, і слухаў стыхійнае, як далёкія грымоты, вурчанне звера ў зарасцях.

«Тор-р, тор-р-р, тор-р-р-р».

Гукі набіралі сілу, як грамавы молат, варочаліся ледзь не над галавою, як гром. Леў ішоў, і нават цыкады сціхалі, пачуўшы раскаты рыку.

«К-ха, к-ха, — нібы ў паміраючага, хрыпіць у грудзях, а потым: — Р-ра-тор-р, р-ра-тор-р», — з перападамі і ўзлётамі, з хрыпам, стогнам, раскатамі і кашлем.

І палёт цела над агароджай, бязгучны палёт, і сустрэчны ўдар стрэлу, нібы сцёбнулі смяротнай пугаю. І канец. І ён ляжыць, горды, распасцёрты, крутабокі і грывасты.

З ільвом можна было змагацца. Не тое што там, на радзіме, з шакаламі ў мундзірах. Тыя джаляць, як аспіды.

Не, ён не пойдзе адсюль. Яна, вялікая Палюбоўніца, узяла яго. Назаўсёды. Яму не вярнуцца назад, таму што ў Палюбоўніцы подласці няма, яна толькі забівае. Таму што ён чалавек без радзімы.

— Адхаліб, — нясмела спытала дзяўчынка, — ты адкуль?

Танюткія, як пруцікі, бронзава-чырвоныя ад сонца рукі сціснулі пляшку з рэштай вады.

— Ты лепей папі, — параіў ён.

Апошнія кроплі. Гэта ўсё. Канец. Праз некалькі гадзін — канец. Праз некалькі дзён іхнія трупы высахнуць, як косць.

— Дзякуй, адхаліб, — сказала дзяўчынка, праглынуўшы ўсё, што заставалася на дне. — Ты раскажы мне, адкуль ты. Дзе ляжыць твая зямля? Мне трохі сумна.

Яна яшчэ і патрабуе.

— Ды што табе сказаць? Мая зямля далёка адсюль. Яна непрыгожая і вельмі бедная. Ты бачыла жыхароў пячор у Бені-Зяльтане? Пад зямлёй людзі, козы, авечкі, куры. Нішто не змянілася з біблейскіх часоў... Дык вось, нас таксама загналі пад зямлю.

Яму было цяжка гаварыць. Рот і глотка былі нібы з наждаку.

— Зусім пад зямлю? — звонка спытала яна.

— Ну, не зусім, а так...

— А якая яна, твая зямля?

— Я ж кажу: камені, каменьчыкі, камяніскі, камяні. І ўсё гэта россыпам на зямлі. І яшчэ балоты. Вялікія балоты.

— І вада горкая, як у Тайбе?

— Не, вада салодкая. Толькі рудая, бо настоена на травах... Тайбе маленькае, а нашы балоты цягнуцца ледзь не сто гамадаў за намі.

— О-о! — прыклала яна да шчок далонькі. — Як жа вам пашанцавала! І колькі ж гэта вярблюдаў можна з іх напаіць, пакуль не застанецца гразь?!

— Гм, тысячы тысяч, і яны ніколі не вып’юць.

Яна глядзела на яго недаверліва, і ён паправіўся:

— Ну, можа, і менш.

— Якія вы шчаслівыя. Падумаць толькі, колькі ж гэта балот! І людзі з іх п'юць?

— Не, людзі гэтым грэбуюць, як «пакрытыя» — вярблюджым мясам. Людзі п'юць з крыніц.

— І доўга трэба ісці ад адной да другой?

— Найбольш гадзіну. Часам толькі некалькі крокаў ад адной да другой.

— А між імі пясок?

— Не, між імі трава. Як у аазісе ля самай студні.

— І, значыць, уся твая зямля, адхаліб, зялёная?

Яму не хацелася гаварыць пра так званую «сваю зямлю», але так дзяўчынка лепей забывалася пра смагу. І таму ён гаварыў, нібы каменьчыкі ў глотцы варочаў.

— Зялёная. А калі вясной глядзець з узгоркаў, то нават сіняя.

— Сіняя? — захоплена спытала яна. — Сіняя-сіняя?

— Сіняя-сіняя, — сказаў ён.

Не казаць жа дзяўчынцы, што гэтую сінюю зямлю залілі крывёй, выпалілі. Што яна чырвоная і чорная.

— А вярблюды? — спытала яна.

— У нас замест іх коні.

— А фінікі?

— У нас замест іх яблыкі.

— Гэта лепей, — сказала яна. — Ад фінікаў хочацца піць. А яблыкі сакаўныя.

Ясюкевіч даўно ўжо, з вялікай трывогай, чуў недзе далёка, за змрочным чырвоным гарызонтам, а потым бліжэй і бліжэй нейкія дзіўныя гукі, спявучыя, перарывістыя, нібы залатое пілавінне падала на срэбны шчыт. Нябачны хор маленькіх, з пясчынку, чалавечкаў цягнуў сваё «а-а-а-а». Спачатку весела, потым сумна, да болю, потым нібы з адчаем і галашэннем.

Што гэта было? Звінелі званочкі на дняпроўскім поплаве? Спявалі сірэны між падводных губак ля каменістых, амытых сіняй вадою скал?

І раптам ён з жахам, ад якога ўпала сэрца, зразумеў. Спявалі пяскі. Спявала сваю песню, летучы на крылах пясчанай навальніцы, Смерць.

І раптам голас пяскоў нібы нехта адсек, і знемаганне разлілося над усімі, а жах распасцёр свае крылы, таму што далягляд ужо зацягнуўся чырвона-чорнай смугой.

Закурылася верхавіна дзюны. А потым і другія, ніжэйшыя, пачалі струменіць у небе дымныя языкі. Шэрыя, яны паступова рабіліся бурымі, а потым чорнымі, цягнуліся вышэй і вышэй, да чырвонага, нібы к заходу, шара ў вышыні.

На ўсім абшары пяскоў варушыўся чорны тысячалапы павук, выпускаючы ўгору дрыготкія шчупальцы, каб спаймаць імі сонца. Цякучыя, зменлівыя, агідна жывыя, яны паўзлі і паўзлі з вяршынь, згіналіся, варушыліся, паўзлі вышэй і вось ужо амаль спляліся ля сонца, а потым рыўком спаймалі яго.

Дыхаць было нельга. Пятрок зняў верхнюю кашулю і захутаў ёю галаву дзяўчынкі.

— Прыхіліся галавою да муру, каленкі ўгору.

Ён падторкнуў ёй пад бакі вярблюджую бурду. Даваў магчымасць трохі дыхаць, калі занясе пяском. Голую шыю ярасна, як шрот, секлі пясчынкі.

«Смерць, — падумаў ён і не адчуў ніякага болю... Смерць. Афрыка». Два словы зліліся ў адно і патанулі ў знікаючай прытомнасці.

«Бяры, вялікая чараўніца, я не кіну цябе! Мне няма куды ад цябе. Хіба што туды, дзе гвалт, і шыбеніцы, і зверства, якому няма мяжы, і прыбіты народ... Да д’ябла... Я застануся. І ты прынікнеш да мяне і вып’еш мяне. Літаральна вып’еш. Хутчэй бы!»

Ён зірнуў на дзяўчынку і ўбачыў чорнае вока, што з-пад далоні глядзіць на яго. Знізу і збоку.

— Сіняя-сіняя? — з радасным недаверам спытала яна.

— Сіняя-сіняя...

Да д’ябла! Усё адно вялікая Афрыка ўзяла ягонае сэрца. Вялікая, магутная, сонная, і страшная, і пагрозлівая, калі часам устае. Сэрца. Другая радзіма.

— І балоты сінія? — спытала дзяўчынка.

— І балоты сінія. Захутай галаву.

Яна захутала. Смешны маленькі камячок, кокан, з якога ці вылупіцца яшчэ дарослы матыль. А з кокана глуха:

— І вада сіняя?

— І вада.

Ён схіліў галаву. І тут яго раптам нешта стукнула. Вада! Самум! Самуму яшчэ няма. Толькі верхавіны дзюнаў лятуць у неба і ловяць сонца. Але тыя, за дзюнамі, яны ж, напэўна, ужо рыхтуюцца. Напэўна, ляглі, напэўна, ахуталі галовы. Ах, чорт! Рызыкнуць апошні раз? Стаўка — верная смерць, на якую яму

напляваць. Выйгрыш — жыццё для дзіцяці. Першаму навучыў яго сфінкс. Другому? А чорт яго ведае што!

— Ляжы ціха, — сказаў ён. — Абяцай мне, што не будзеш варушыцца. У імя неба!

— У імя неба, — сказала малая. — Дык сіняя-сіняя?!!

— Сіняя, — сказаў ён і, захапіўшы пляшку, скокнуў цераз мур.

Ніхто не стрэліў. Дый дзіва што, калі «яд паветра» быў ужо зусім блізка і ў небе стаялі ўжо не языкі, а чорныя слупы пяску.

Пятрок дакладна заўважыў напрамак на ручным компасе. Потым аддзёр рукаў ад сарочкі і, апусціўшыся на калені, завязаў нос і рот.

Дыхаць адразу стала цярпіма. Пясчынкі калолі да болю ў голую руку. Быццам тысячы іголак.

І тады ён бегма прыпусціў у напрамку да дзвюх пальмаў. Яго несла як на крылах, і ўсё адно ён бег, задыхаючыся, топчучы закарэлымі чаравікамі пясок і жвір.

— А-а-а-а, — шалёна выў пясок, нібы імкнуўся знішчыць усё жывое. Ён цяжка, да болю, гэхнуўся грудзьмі аб мур вакол калодзежа — дапамог вецер. Аж паветра вырвалася з лёгкіх.

Кожную секунду чакаючы спіною стрэлу, ён прывязваў да скуранога рэменя, побач са скураным вядром, сваю пляшку. Яму здавалася мала. Ды яно і сапраўды мала. Самум можа дапамагчы, але самум і знішчыць. Хай вядро нагадвае торбу і яго можна зашмаргнуць — усё адно «подых смерці» за гадзіну можа выпіць усё, што ні ёсць у ім.

Мяшок пакутліва доўга не тануў. А вакол гучаў ужо не стогн, а рык. Імчала нешта бязлітаснае, вялізнае, ад зямлі да неба.

Ён пацягнуў рэмень, адчуваючы цяжар і пакутлівы боль, бо кроплі падалі ў глыбіню студні. Падалі. Падалі. Лепей бы яны падалі ў перасохлы рот. Рызыкуючы кожную хвіліну атрымаць кулю між вачэй, ён рэзка прыўстаў і выхапіў вядро з каменнай трубы. Чароўна цяжкае, мокрае, сцюдзёнае. Як пацалунак. Не было рацыі цягнуць яго поўнае. Давядзецца паўзці, расплюхаеш. А астатняе вып’е «яд паветра». І ён, стаўшы на калені, сабою прыкрыўшы ваду, з лікаваннем сарваў з твару павязку і прыпаў да вады са стогнам і прагай, як да вуснаў. Да вуснаў адзіна каханай, якой у яго так і не было. Не было, але ён ведаў, што гэта бывае так.

Першыя глыткі адбіліся болем у глотцы. Але вада каціласяў глотку і, здавалася, нават ціха звінела, як струмень фантана

ў крыштальны кубак. І ён піў, піў, піў, а над ім імчалі хмары пяску — самум піў разам з ім.

Потым ён абмыў павязку вадою з пляшкі і зноў напоўніў пляшку з вядра. Ён радаваўся гэтаму, бо з пляшкі нічога не вып’еш.

Заставалася яшчэ палова. Не менш як дваццаць пляшак. І тады Пятрок з цяжкасцю адарваўся ад студні і пайшоў у напрамку, які ён заўважыў.

Павязка адразу высахла. Ён успомніў, як дыхалася ў тую хвіліну, калі абмываў яе. Як у напаленай печцы, куды нехта магутнай помпай наганяе пясок. Цяпер хоць пяску не было. Была проста печка. І ў левай руцэ быў зашморгнуты і перахоплены рукою — ніжэй зашмаргі — скураны мех. І ў жываце цяжка боўталася вада.

Іхні з Джамілёй закутак раптам знік. Шум пяскоў напоўніў свет. Пустыня стагнала і калацілася, падымаючы ў неба з кожным уздрыгам усё новыя і новыя пласты сваёй паверхні.

Ён стаў на калені і папоўз. Але і так яго раз-пораз згінала да зямлі. Тады ён папоўз лежачы. Дыхаць было немагчыма. Ён поўз з заплюшчанымі вачыма і толькі зрэдку, праз далонь, ля самых вачэй, глядзеў на дрыжачую стрэлку.

Некалькі разоў яго ссоўвала назад, як чарапаху, як бязважкі лісцік дрэва. Ссоўвала разам з пяском. Але ён поўз і поўз.

Ён плазаваў, адчуваючы, што памірае.

Апошні кашмар прыйшоў раптоўна. Ён ляжаў і сутаргава соваў нагамі, а нехта прыклаў да ягонай галавы вялізную далонь і лёгка, як чалавек, што не дае паўзці сляпому кацяняці, затрымаў. Пятрок торгаўся так хвілін пяць — а можа, вечнасць? — торгаўся, абліваючыся халодным потам, пакуль не зразумеў, што гэта канец дарогі, што гэта не далонь невядомага, а іхні закутак, іхні маленькі бордж.

Тры разы вецер зрываў яго з муру, аж пакуль яму не ўдалося перакуліцца ў яго. А там ён адшукаў рукамі напаўзасыпаны горбік, паклаў побач з ім цёплы ўжо мяшок, а сам лёг побач, захутаўшы мяшок і галаву краем тэліса з вярблюджай воўны. Вычысціў пясок з вушэй, заткнуў іх і сціх.

Пясок імчаў над імі, паступова заносячы ўсё і ўся.

І Пятрок адчуваў, што сэрца ягонае як не выскачыць з грудзей. Ён напіўся і не адчуваў смагі, але глотка — яна ўжо высахла. Яе, здавалася, пакрыў суцэльны балесны струп. Нешта падступала павольна-павольна. Як сон. А потым нібы нехта дзьмухнуў на свечку. І стаў змрок.

...Ён ачуняў раптам, адразу ж усвядоміўшы і небяспеку, і самум, і стрэлы з-за дзюнаў. А ўсвядоміўшы — сеў, скінуўшы з сябе тоўсты слой пяску.

Была цішыня. Паветра ачысцілася. І толькі нібыта разам з вызваленым сонцам, якое спускалася за далягляд, асядала на зямлю чырванаватая смуга. Зацененыя бакі дзюнаў былі ліловыя, на баках ліловы колер пераходзіў у бэзавы, а на вяршынях, на якія кладліся апошнія промні, гарэла, паступова цьмянеючы, вадкае золата. Пустыня свяцілася, як сумная згасаючая вясёлка.

Пятрок ведаў: з пачаткам ночы яны могуць прыйсці зноў. І ён паспешліва пачаў прыгаршчамі высыпаць пясок са свайго маленькага борджа. Вызваліў месца, дзе яны ляжалі, націснуў на мяшок: амаль поўны. І ўрэшце адкапаў з пяску маленькі запылены кокан. Адсунуў краечак — спіць. Вейкі падрыгваюць. Доўгія, загінастыя. Пакруціў галавою: хай спіць, пакуль спадае гарачыня і пакуль яшчэ не захаладала нанач.

Ён дастаў мяшочак з прыпасамі і пералічыў іх. Узяў дзве жмені мукі і замясіў іх на кроплі вады, разам з сушаным мясам. Паклаў фінікі. Нічога, пад'есці можна, а смага амаль не мучыць уначы.

— Матыль-матыль, на мукі, за гарою тры ваўкі, — сказаў ён, успомніўшы сваё маленства.

Матыль рухам галавы рассунуў тэліс і, толькі паказаўшы сонцу аблічча, расплюшчыў вочы.

— Сіняя-сіняя? — прамармытаў матыль.

— Сіняя-сіняя, — нібы ў даўнюю гульню гуляючы, сказаў ён. — Еш.

Дзяўчынка прыпала да пляшкі.

— Ты не пі многа, — папрасіў Пятрок. — Уначы будзе холадна. — А сам падумаў, што ўначы будзе ці не занадта горача.

Пылок асеў. Разам з сонцам. Чыстае зеленаватае неба, трохі расплаўленае з аднаго боку, бяздонна распасціралася над пяскамі.

— І тамарынд там сіні?

— Тамарынду там няма, — сказаў ён. — Але там ёсць лясы. Нешта накшталт гэтых пальмаў, толькі зялёныя да паловы. І там іх — як зор на небе.

— А яны сінія?

— Бываюць. У месячныя ночы... І тады яны стаяць спакойна, а пад ветрам шумяць.

— А што ёсць яшчэ?

— І яшчэ ёсць рэкі.

— Што гэта?

— Ты ведаеш, што такое Іхархар?

— Ведаю. Шырокая сухая лагчына.

— Ну вось. А там лагчына шырынёю ў тры Іхархары. Толькі не сухая, а поўная вады. І вада гэтая не стаіць. Яна плыве, грукочa, цурчыць або проста і плаўна рухаецца наперад. Удзень на ёй гуляе сонца. Уначы ў ёй адбіваюцца зоры.

Яна маўчала, нібы абдумваючы нешта. Першая зорка загаралася ў зялёным небе. Зорка не міргала — такое чыстае было паветра над маўчаннем Сахары.

— Ты дарослы, — сказала Джаміля, — і мне няможна гаварыць такое дарасламу. Але мне здаецца — ты хлусіш. Такога не можа быць на зямлі. Ты гэта, напэўна, каб мне было весялей. І яшчэ таму, што бацька так доўга не ідзе... А твая зямля, напэўна, проста пясок, дзе няма і лужыны. Сорам табе хлусіць. Людзі пустыні ніколі не хлусяць.

— Я не хлушу, — сказаў ён. — Ты ж бачыла міраж? Гэта паветра прыносіць яго з іншых краін, дзе шмат дрэў і вады. Каб дзеці верылі. Ты ж бачыла? Рэкі, а над імі дрэвы.

— Гэта міраж, — як дарослая, сказала яна.

І тады ён стаў на калені.

— Слухай, — сказаў ён. — Імем гэтага неба, тваім жыццём, тым, што я сёння зрабіў, я клянуся табе, што ўсе мае словы — праўда. Што сапраўды ёсць на свеце і балоты, і крыніцы праз кожны дзесятак крокаў, і рэкі, і лясы, і такая зямля, што ўся сіняя.

Яна доўга маўчала. Ён чакаў.

— Я хацела б туды, — сказала яна. — Пэўна, гэта там і ёсць рай Алаха. Чаму ж ты пайшоў адтуль, адхаліб?

— Мяне выгналі злыя ворагі.

— Я б такога ніколі не аддала, — ціха сказала яна.

— Таму што ты ведаеш пустыню.

— А ты?.. Не, я не аддала б...

І тут гэтыя словы нібы нешта адпусцілі ў ім. Нібы прарвалася нешта даўняе, даўкае, гнятучае. І ён заплакаў. Бязгучна. Толькі слёзы каціліся па шчоках.

— Раскажы, — ціха сказала яна. — Значыць, і гэтыя... рэкі... Значыць, і яны сінія?

— І яны сінія, — гартанна сказаў ён. — Іх многа. А між іх стаяць лясы. І лясоў таксама многа. І паміж дрэў бяжыць многа ручаін. А замест пяскоў там паплавы, і на іх многа рознакаляровых кветак, а над кветкамі — арка-вясёлка. А часамі

на ўсё гэтае падае снег... Ты не ведаеш, што гэта — снег. Ён падобны на белую воўну, што падае з нябес. На белую воўну з мільёнаў мехары.

— А ён бывае сіні?

— Бывае. Калі гарыць над ім месяц. Зірні, там усходзіць месяц.

Месяц сапраўды ўсходзіў над пустыняй. І яна была пад месяцам бясконцая, як неба. А над ёю гарэлі, амаль не мігаючы, тысячы зор.

Яна ляжала перад ім, бязмежная, як жыццё, азораная, залітая празрыстым святлом. Свяцілася кожнай дзюнай, нібы адлітай з таго ж крышталю, што і вочы малой. І ўсё гэта было бязмежнае, усеабдымнае і ўсёпаглынальнае, як час, як жыццё, як чалавек, як далёкая... далёкая... далёкая...

Дзяўчынка глядзела на яго, як на таго, хто з'явіўся з казкі. Абхапіла калені ручанятамі, паклала на іх падбародак, схіліла галаву. І ў яе ўскінутых трывожных вачах, як тысячы светлячкоў, адбіваліся зоры.

— Раскажы, — ціха папрасіла яна.

І ён расказваў. І паступова знікала вымушаная беднасць мовы, знікаў некуды семнаццацігадовы душны праклён, знікала чыгунная туга. Ён расказваў, і перад абмытымі вачыма, далёкае, жывое, уставала тое, што ён тысячу разоў бачыў і адначасова нібы пазнаваў першы раз.

Крыжы на ростанях, вёскі ў барвяных каралях арабін, чырвоная шыпшына ля дарог, начлежныя коні ў тумане. Балоты, імшары, балоты. Мястэчкі сярод сініх лясоў, мосцікі над начнымі ручаінамі.

Сінія-сінія-сінія паплавы.

— Я б хацела туды.

— Ты паедзеш туды, — сказаў ён.

— Добра, — перарывіста сказала яна.

Пятрок захутаў яе і паклаў пад мур. Хай сабе паспіць. Стаяла цішыня.

— Сіняя-сіняя, — сказала Джаміля.

І адразу замурлыкала. Ціха-ціха.

Ён сядзеў над ёю і пазіраў, як яснее над бязмежнасцю трапяткая смуга чароўнага ззяння.

Недзе там, за пустыняй, за морам, была другая зямля. І ён не мог без яе. Яе не было тут, але яна была.

З атлусцелымі панамі, з бяздушнымі ўладарамі душ, з хлуснёй, са спаласаванымі мужыкамі, з апляванай, забароненай мовай.

Але яшчэ і з паплавамі, і з сінімі вербалозамі на берагах рэк. Няхай няшчасная, няхай забітая і абылганая, але свая, найлепшая ў свеце, сіняя, чыстая, як першае каханне, да якога не прыліпае ніякі бруд, як бы ён ні цягнуўся.

Джаміля думала, што ён з'явіўся з казкі... Гэта праўда... І трэба ратаваць казку, пакуль яна казка, а не пустыня. Трэба біцца за яе нават з самім д'яблам і памерці на яе зялёных лугах, прыгажэйшых за ўсё на зямлі.

Вяртанне. Толькі вяртанне. Няхай там нікога няма. Камусьці трэба пачаць.

Ён вытрымае тут і два, і тры дні. Ён вытрымае тут... колькі спатрэбіцца. Ён не можа не зрабіць гэтага. Таму што ён не можа аддаць у рабства кудысьці на Чад або ў Танжэр, у другі канец вялікай нявольніцкай дарогі, гэты камячок жывой плоці, які вярнуў яму радзіму.

Радзіму, якую таксама нельга аддаць.

І нават калі заб'юць, ён памрэ з думкаю пра дзяўчынку і з думкаю пра яе, багацейшы, чым за ўсе семнаццаць пустых год.

«Сіняя-сіняя...»

А над бясконцасцю, шырэй за якую ён зараз быў, ляжала нерухомае, урачыстае і невымоўна пакутнае святло. За градою дзюн пачулася чыстае плясканне мазолістых вярблюджых ног.

*1964*

## ДРЭВА ВЕЧНАСЦІ
*Апавяданне аб падарожжы ў стагоддзі*

Вам ніколі не даводзілася зайздросціць старажытнаму князю Давіду з палескага Гарадка? Мы ў тое лета зайздросцілі яму, як Яга зайздросціў Венецыянскаму Маўру, як Сальеры зайздросціў Моцарту, як... як усе бяздары зайздросцяць Чалавеку.

Мы — гэта наш шафёр, асістэнт аператара, аператар (ён жа рэжысёр) Анатоль Забалоцкі, друг аператара (нельга ж было кінуць нечаканага госця ў пустым горадзе, ды і паехаць) і я, сцэнарыст, ён жа казначэй, ён жа здабывальшчык прыпасаў, адказны за вогнішча, добры хлопец, пры зручным выпадку — брат па бутэльцы і прочая, і прочая, і прочая.

Мы адчувалі сябе бяздарнасцямі. Мы шмат дзён не маглі вытрасці са студыі машыну, грошы, шафёра, скаты, трасцу, халеру. Князю было добра: узяў сабе са скарбніцы тры капы грошай,

загадаў стайніку прывесці коней, гукнуў харобрую дружыну, ды і пайшоў сабе Палессем, харчуючыся забітымі зубрамі і турамі, шыраючы шызым воўкам, а таксама арлом пад аблацы, проста пад Марыенбург і Берлін, трэсці крыжакоў. Яму гэта ўдавалася лёгка аж у некалькіх дзесятках паходаў, аж пакуль у апошнім не аддаў ён свайму богу пасечанай мячамі душы.

А ў нас не было ні сваіх коней, ні сваёй скарбніцы, а студыя пачасту трымала сябе так, быццам гэта нам і толькі нам патрэбен быў гэты фільм аб старажытных беларускіх дрэвах.

У другіх паездках было лягчэй, а тут мы намучыліся, як грэшныя душы ў пекле. Калі мы ўрэшце здабылі ўсё, што трэба, выявілася, што «казёл» наш жарэ бензін, як пан Дубатоўк віно (і з такім самым, мала прыкметным, рэзультатам), што скаты нашы маюць тэндэнцыю раз-пораз аддзімаць (пэўна, ад спёкі), а тэнт па дзіравасці нагадвае плашч святога Марціна, а па здатнасці ўсёй паверхняй прапускаць ваду — амаль усе тыя плашчы, якія мне даводзілася купляць за дваццаць год самастойнага жыцця.

Але позна было ўжо, і мы ехалі і ехалі далей у поўнай пакоры лёсу, цьмяна спадзеючыся, што скаты і камеры вытрымаюць лясныя карэнні лепей, чым асфальт, што ў ярах, каляінах і дзюнах у «казла» будзе меншы апетыт, што дажджу, дасць Бог, і не будзе, што нам не давядзецца каціць нашага каня і ўсе пажыткі экспедыцыі з нетраў Палесся да цэнтраў цывілізацыі, хаця б і адноснай.

Мы горка памыліліся. Скажу толькі аб дажджы, які паласаваў нас на працягу дванаццаці гадзін, калі мы ехалі назад. Я вёз з сабою рукапіс рамана (хлопцы збіраліся кінуць мяне ў маім Рагачове, вяртаючыся ў Менск), і ўсе дванаццаць гадзін я сядзеў на рукапісе, прыкрываючы яго ўласным целам. Пэўна, я прамок з галавы да ног, бо рукапіс па прыездзе быў трохі падмочаны.

Угледзьцеся ў гэтыя падцёкі, нашчадкі, і памяніце нас добрым словам за нашы пакуты.

Не буду расказваць пра ўсю нашу дарогу. Пастараюся толькі пакаяцца перад загадчыкам фермы, што пад Парычамі. Мы выехалі, па віне студыі, позна, прыехалі туды, на бераг Бярозы, зусім уначы, і (паверце, толькі сілаю жорсткіх абставін!) я вымушаны быў сцягнуць з кастра каля фермы некалькі паленцаў, каб раскласці хоць нейкае цяпельца і, хаця пры ягоным святле, нацягаць пасля лаўжоў і сухастою, каб развесці зыркае вогнішча і сяк-так пераначаваць ля яго.

Але вы яшчэ не ведаеце, якая была наша мэта? Мы ехалі ў Палессе, у глыбіню ягоную, за Мазыр і Лельчыцы, каб «заняць» каля вёскі Данілегі славуты тысячагадовы цар-дуб, або дуб Крывашапкі. У нас былі ўжо шасцісотгадовыя дубы, чатырохсотгадовыя ясені, таполя Напалеона, дубы Міцкевіча, дубы Ягайлы, проста семісотгадовыя дубы. Нам пазарэз патрэбен быў тысячагадовы дуб. Без яго фільм быў бы не фільм.

Ехалі насустрач стагоддзям.

Праскочылі Прыпяць, праскочылі ўтульны ўзгорысты Мазыр. Дзень далёка пераваліў за палову, і я дамогся таго, каб гэтую ноч мы пераначавалі на беразе Прыпяці. Гэтую зямлю нельга глядзець стомленымі вачыма, яна такая адна, і перад ёю, як перад сур'ёзнай кнігай, павінен быць пралог або хаця лірычны ўступ. Лепей за Прыпяць у гэтым сэнсе нічога не прыдумаеш. Мы ад'ехалі далёка ад горада, паставілі палатку і паехалі шукаць рыбакоў «у разважанні, чаго б пад'есці».

Самім лавіць было позна. Прыпяць не любіць тых, што бяруцца за справу на хапка.

Каб мы былі разумнейшыя, мы б ведалі, што ніхто не будзе займацца такой дурасцю, як ловы рыбы, калі за ракою касьба, калі звіняць косы, калі гучна смяюцца каля буданоў бабы, гатуючы вячэру, калі хлопцы, абцершы пукам травы касу, кідаюцца ў раку, каб змыць з сябе дзённы пот, і гучна, цераз мыс, перакідваюцца з дзеўкамі рызыкоўнымі жартамі і ўсім такім іншым, вячэрнім.

Рыбакоў мы сапраўды не знайшлі. Затое знайшлі калег. Яшчэ калі мы ехалі нетрамі, я зразумеў, што дзеля паўнаты шчасця нам не хапае толькі сустрэчы з мядзведзем. Але мядзведзі былі далей (выяўляецца, па шматлікіх расказах, што яны ёсць і тут, а не толькі на Бярозе, мы самі сустракалі людзей, якія зусім нядаўна бачылі іх), за тымі мясцінамі, куды мы ехалі.

І вось мы выехалі на палянку над ракой і ўбачылі там апараты, танваген, людзей і... ніштаватае ўжо медзведзянятка. Нас сустрэлі знаёмыя храпы. Малады аператар расцвіў пралескай і ўсміхнуўся сонцу, беларускім лясам, Прыпяці і мне. І я ўспомніў, як у адной экзатычнай кватэры мы сядзелі і папівалі сухое віно пад крыкі шматлікіх папугаяў і як потым нам, як дарагім гасцям, падарылі каштоўны падарунак: руку егіпецкай муміі.

Я спаў тую ноч у інтэрнаце і ўсю ноч з прыемнасцю ўспамінаў, што ў мяне пад ложкам, у чамадане, ляжыць рука муміі. Магчыма, егіпецкай царэўны. Раніцай я зразумеў, што не магу скарыстацца з такога дарагога падарунка, і велікадушна

пераўступіў руку муміі майму сябру. Я страшэнна паважаў яго як маладога таленавітага аператара. Я не мог абяздоліць яго, пакінуўшы руку муміі толькі сабе. Раніцай ён сказаў, што занадта малады і не можа адзін карыстацца рукой муміі, што ён нічым не праявіў сябе як малады таленавіты аператар (дагэтуль ён гэтага чамусьці не казаў, а казаў зусім адваротнае), і аддаў руку муміі трэцяму сябру. Увесь час у нашым пакоі нябачна прысутнічала рука муміі. Урэшце мы калектыўна аднеслі руку муміі назад і сказалі, што нашы заслугі перад гэтым домам і ўвогуле нашы добрыя якасці нявартыя такой дарагой узнагароды.

Пасля я купіў новы чамадан, а стары вынес і паставіў на вуліцы. Ад усёй душы спадзяюся, што нехта карыстаецца ім да гэтага часу. Гэта быў харошы, дыхтоўны чамадан. Хай пашле яму Бог доўгае жыццё.

Чаму я ўспомніў аб муміі? А чорт яго ведае... Так.

Медзведзяня знемагала ад спёкі і здаровага маладога апетыту. Дублёр ягоны хроп на ўсе застаўкі і не ведаў, што заўтра менавіта яго чакае тая ж самая цяжкая чаша, а храпці і есці будзе гэты.

Медзведзяняці ў дзень здымак да вечара не давалі досыта пад'есці. Іначай нажарэцца і не захоча працаваць. Зусім як чалавек.

Небарака замарыўся на працы (здымалі чорт ведае колькі дубляў) і нічога ўжо больш не хацеў. У перапынку ён знайшоў пад машынай лёд, накрыты скрынкаю, перакуліў яе і вельмі бадзёра — у спёку гэта добра — узяўся за справу: жэр гэты лёд, як дзеці марожанае, — аж храбусцела.

Лёд адабралі. Тады ён пачаў шукаць нешта другое, але нічога не адшукаў. Знайшоў, што праўда, распачатую бутэльку мёду (у чалавека гэта называецца «прэміяльныя») і палічыў, што за такую работу мае на яе права, — дык і тую не далі. Тады ён вырашыў уцячы, але паколькі яго якраз узялі на павадок — ён даводзіў, што ўнутрана свабодны, тым, што бег на месцы, падскакваў на ўсіх чатырох таўстапятых лапах.

Што ўспамінаеш ты цяпер, бедны, седзячы ў клетцы ў Бярэзінскім запаведніку? Прыпяць? Лёд? Або, можа, тое, як, вымыты ў ванне і дасуха выцерты, аднойчы ў Менску хроп на маёй тахце, укрыты да галавы народнай посцілкай? Мы тады ўзнялі келіхі і за цябе. А можа, думаеш, што людзі знявечылі табе жыццё, што, вольны, ты ніколі б не цягнуўся да іх і, вялізны ўжо, не прасіў бы, выйшаўшы з лесу, цукру і нікога б не палохаў, а значыцца, не трапіў бы і ў клетку?

Хто цябе ведае, аб чым ты думаеш, бедны, палонены людзьмі звер.

Памятаеш, тады, над Прыпяццю, я казытаў табе круглае пуза, перакуліўшы на спіну? Успомні мяне дабром, як і я ўспамінаю цябе.

Пасля ночы, якая паўзла парай з Прыпяці і малочнымі туманамі з лагчын, пасля ракі, спачатку поўнай вячэрняй заранкай, а пасля зорамі, пасля вогнішча і мёртвага сну добра было ехаць Палессем.

Выдаўся цудоўны, раскошны сонечны дзень, такі цёплы, што мы знялі тэнт, апусцілі, спадзеючыся на бязлюддзе і адсутнасць інспекцыі, ветравое шкло, скінулі кашулі і ехалі, і толькі глядзелі, пілі ўсімі вачыма прыгажосць, разлітую вакол.

Цэлымі гадзінамі лясы і лясы, старыя, гордыя сваім узростам лясы! Цэлымі гадзінамі няма ні машыны, ні чалавека, ні вёскі! Чорныя вольхі ў нізіне, ля дарогі. Чорныя вольхі ў два абхваты. Грабы і хвоі ў невыносна злітых абдымках, зараснікі, джунглі падлеску ля ног волатаў, рэчкі, што з цяжкасцю крадуцца праз пушчы. Ціха-ціха, каб хуткім бегам не разбудзіць якога-небудзь паўмёртвага ляснога патрыярха, каб не ўздумаў ён перад смерцю зрынуцца на рачную плынь, перагарадзіць яе, забараніць бегчы далей і прымусіць хітрыць і шукаць абходу.

На рэдкіх палянах — буслы, што бродзяць берагамі ручаін, дзічкі, падобныя на дубы, на зялёныя, у палову неба, хмары.

Продкі пакланяліся дубу і дзічцы, лічылі, што жывуць у іх гордыя душы палескіх мужчын і пяшчотныя душы мясцовых жанчын, ледзь не самых прыгожых на ўсёй Беларусі. Нашчадкі не вераць (а можа, і вераць падсвядома, памяццю тысячагоддзяў) у лясных багоў. Але яны і зараз пазбягаюць чапаць гэтыя дрэвы і не чапалі б іх зусім, каб часам не пільная неабходнасць або не загад чалавека, які не ведае звычаяў гэтай зямлі.

Замест гэтага яны ўсцягваюць на кожную такую палянную дзічку, на кожны дуб калоду для дзікіх і свойскіх пчаліных раёў. Часта па тры-чатыры і больш калод на кожнае вялікае дрэва.

Мы завём гэта калодай. Продкі паўсюль называлі гэта «свепет». Мясцовыя людзі кажуць «слепет», і ў гэтым слове ясна адчуваецца старажытнае праславянскае «в», якое так нідзе і не паспела перайсці ў беларускае «ў».

Але я пад гэтымі дубамі, дзічкамі, каштанамі і грабамі з трапятаннем адчуваю дыханне майго прашчура, зменлівае і вечнае Слова яго.

Палессе! Ты ўсё — бясконцая і вечная паэма. Кожная лясная рэчка твая — драмлівы рэчытатыў ліры. Кожнае тваё

ўрочышча — урачысты хор магутных галасоў. Кожнае дрэва тваё — Песня Песняў. Кожная галіна пад ветрам — неўміручы радок. І кожны свепет на дзічках тваіх — ода гэтаму вялікаму небу, на якім зараз ласкавыя і чыстыя адценні вечара. І пад гэтым небам мы ехалі ў стагоддзі.

Кіламетры за чытыры ад Данілег (Данілевічы таксама) я яшчэ здалёк убачыў нешта такое, што сэрца маё не паверыла і ўпала, а пасля ледзь не выскачыла ад радаснай упэўненасці, што вочы мае не падманулі мяне.

Упоперак пешаходнай сцежкі, якая ў мініяцюры паўтарала сабою гэты зарослы травой прасёлак, ляжаў, па казацкім звычаі, раскінуўшы рукі і ногі, каржакаваты, моцны стары. А ля яго стаяла і прасілася ўзяць старая.

У нас было страшэнна цесна ад экспедыцыйнага барахла, але я непахісна вырашыў: «Гэтых трэба ўзяць». Калі б трэба было — я пасадзіў бы ў гэтую ж самую машыну яшчэ мільён такіх, як яны, а сам выйшаў бы і пайшоў пеша.

Старая была першым прывітаннем ад стагоддзяў, у якія мы падарожнічалі. Нібы прыйшла з сярэдніх вякоў у сваім, з ног да галавы напэўным, народным уборы. Не было хіба што наміткі, або «галавы», таго дзіўнага падабенства белай кісейнай чалмы, што завесаю падае на плечы і пакідае адкрытым адзін толькі твар. Замест яе на галаве была багацюшчая хустка, гладкая і вышытая толькі «на вугал» вышыўкай дзіўнай прыгажосці і майстэрства. На белай доўгай сарочцы не было жывога месца ад візэрункаў, зробленых, магчыма, за доўгія і доўгія месяцы дасканалай у сваім адчуванні прыўкраснага рукой.

Сумесь геаметрычнага арнаменту з раслінным была натуральная і завершаная. Такому навучыць нельга. Тут вучылі тысячагоддзі, а майстар інтуітыўна, але ж прыўносячы сваю індывідуальнасць, паўтараў неабвержны вопыт і густ мільёнаў. Тут было, як з вялікім майстрам народнай песні, які ў вочы не бачыў ніводнай ноты, але спявае, як усе пакаленні вялікіх майстроў да яго. Пачніце яго вучыць, калі ён ужо склаўся. Кажыце яму аб фальшы ў гучанні той ці іншай ноты, аб «пясочку» ў гуку, аб «сцершымся» тэмбры. Вы навучыце! Пры поспеху можа быць нават і добры спявак. Але вялікага майстра не будзе. Вы навучыце, але вы і заб'еце, бо ваш вопыт — нішто перад вопытам тых, якія, не ведаючы, тысячы год спявалі «душой».

Паўзверх гэтай снежна-белай сарочкі з рассыпанымі па ёй вясёлкамі была накінута ядвабіста-сіняя шнуроўка, якая яшчэ

і зараз строга і ладна абцягвала стройны (відаць ужо да смерці) і прамы старэчы стан.

Тканы ў align рознакаляровыя дробныя шашачкі андарак быў, як трохі прыглушаны (бо так патрабаваў узрост) жар, і дзівосны па спалучэнні колераў. Пасля я ўбачыў маладых. У тых на андараках пераліваліся чыстыя, нязмешаныя колеры. А тут былі хутчэй адценні двух-трох колераў, але адценняў гэтых было мноства. Відаць, і тыя і тыя ткаліся не менш як у дваццаць чатыры ніты.

Чабоцікі каляровай скуры давяршалі ўсё. Нічога не выбівалася з агульнага строю. І я зразумеў, што ў вобразе гэтай старой, сярод гэтых лясоў, пад гэтым беларускім небам, упершыню ў маім нябедным жыцці сустрэлася мне сама Гармонія.

Яе не магло быць ува мне. А ў гэтай старой, у адпаведнасці яе і яе ўбору гэтым ціхім прыглушаным лясам, гэтай забытай дарозе, гэтаму залацістаму вячэрняму небу — яна была. Поўная і дасканалая, пакуль што на адзін толькі вечар у маім жыцці. А можа, на адзін толькі вечар да самага майго скону.

Мы сяк-так размясцілі іх на рэчах, і, дзіўна, наша машына не стала дысанансам, а сама пакорліва падпарадкавалася старажытнай прыгажосці. А старая гаварыла, усплёскваючы рукамі, і, таксама як сама Гармонія, гучаў, пераліваўся, звінеў у яе вуснах пявучы палескі дыялект.

Быў дзень Пятра і Паўла. Стары, муж, па даўняй традыцыі ўчыніў ім патрэбнае ўзліванне (а паколькі святых было два, то няма чаму здзіўляцца, што ўзліванне было двайное) і, нягледзячы на гэта, пераапрануўся і пайшоў на кашару, дзе працаваў вартаўніком.

Яго хацелі затрымаць, прыводзілі рэзонныя доказы, што стаіць лета, а значыць, няма чаго палохацца ваўкоў, што не толькі злодзея, а і ўвогуле чалавека не знойдзеш з агнём на многія вёрсты, але стары занатурыўся.

І вось, нібы чула яе сэрца, устрывожылася, пайшла і ўбачыла, што ляжыць яе стары лясны казак — па казацкім звычаі — упоперак сцежкі і наадрэз не хоча ісці дахаты. Напетрапаўліўся-а. Каб не вы, галубочкі, невядома б, што і рабі-іць.

Я грэшным чынам падумаў, што старая за ўсё жыццё так і не раскусіла яго да канца, што не такі ён і п’яны (дарэчы, ён трохі пасля і давёў гэта), а проста не хацеў ні дадому, дзе ад адных баб кранешся, ні на кашару, дзе авечкі. Усё было прасцей.

Чаму не застацца тут? Цёплае паветра, цёплая зямля, родны лес вакол і чыстыя зоры над галавой. Добра ляжаць і марыць

і нешта ціха спяваць самому сабе. Ніхто не праедзе, ніхто не пройдзе. Гэта ж табе не горад, дзе не дадуць добраму чалавеку нават паляжаць упоперак дарогі ў сваю ахвоту.

І мы прыехалі ў невялічкую вёску, усю аточаную лесам, усю патопленую садамі і шатамі вялізных дрэў, нібы апушчаную на дно зялёнага мора, нібы паглыбленую ў зялёны і трохі аранжавы ад заранкі паўзмрок.

Быў мяккі вечар. Даўно асеў пыл ад чарод (а можа, яго і не было? Можа, каровы і начавалі ў лесе?). Шэрыя хаты з таўшчэразных бярвенняў насунулі па самыя вушы цёплыя шапкі стрэх. Драмалі або марылі пад песні.

А песні гучалі паўсюль. На бярвеннях ля хат, на лавах, на прызбах, проста на паплаўцах. Паўсюль сядзелі жанчыны, дзяўчаты, старыя і дзеці, чыста ўсе апранутыя накшталт сустрэтай намі старой. Розныя ўборы, розныя колеры, фарбы і адценні, розныя густы, крышачку рознае ўмельства. Але вёска дзякуючы ім нагадвала букет або стракаты ад разліву чэрвеньскіх красак поплаў. Бо ўсе былі ў сваім, напэўна, у амаль такім самым, як пры Уладзіміры, як пры войнах з татарамі, як тады, калі бушавала ў гэтых мясцінах полымя паўстання, запаленага Крывашапкам.

Гэта не было старамодна і смешна (гэта былі людзі дваццатага стагоддзя, і яны шмат ведалі).

Гэта было велічна.

Гамер і лірныя песні не старэюць. Старэюць многія нядаўнія песні. Старэюць многія кінастужкі, падобныя на оперу ўдзень, пад чыстым небам. Старэюць і выклікаюць смех.

А Гэта было велічна.

У дваццатым веку, сярод гэтых людзей, смешныя былі мы ў нашай гарадской, ды яшчэ і патрапанай, рабочай вопратцы. Тут і новая выглядала б пачварна... Гармонія — гэта былі яны. Дасканаласць — гэта былі яны. А старамоднымі і непатрэбнымі на вока дваццатага стагоддзя тут былі мы. Мы былі дысанансам.

Сярод гэтых людзей Толікаў прыяцель, расеец, саромеўся сваёй кніжнай расейскай мовы, а я саромеўся сваёй гарадской беларускай. Мы, аднак, пастараліся не даць ім зразумець гэтага. Той пераважна слухаў, а я адразу ўключыўся ў балбатню і жарты, стаў пераймаць іхнія інтанацыі, імітаваць непараўнальную музыку іхніх сказаў.

І — дзіўна! — у мяне пайшло.

Можа, яны проста зрабілі выгляд, што не заўважаюць гэтага, па прыроднай, адвечнай далікатнасці сваёй, але я не думаю.

Са мною аднойчы ўжо было так. Я слухаў, як грае на жалейцы вясковы пастух, прыгожы і чысты, як голуб, сівы дзед. І таксама быў вечар, і каровы жавалі жвачку і слухалі. Мне здалося, што я нібыта разумею ўсё. І дзед быццам зразумеў гэта, выцер жалейку аб прыпол сарочкі і працягнуў мне:

— На.

І я, нібы так і трэба было, узяў яе і... зайграў. Таму што я зразумеў: тут непатрэбна загадзя прыдуманая мелодыя, тут павінна гучаць душа. Гэта яна павінна выказваць сябе ў подыхах і рухах пальцаў, а астатняе прыйдзе само. Таму што музыка твая толькі акампанемент вечару.

— Добра, — сказаў дзед. — Дайшло.

Нешта падобнае было і тут. Мы сядзелі і гаварылі і ціха смяяліся, чакаючы нашага дзеда. Мы хацелі, каб нехта яшчэ сёння паказаў нам дуб. Заўтра мы паедзем здымаць яго, нікога не турбуючы. Вызваўся наш дзед. Мы далікатна (галоўным чынам дзеля старой) усумніліся ў ягоных магчымасцях. Што тут пачалося! Дзед намыліў нам галаву оптам і ў розніцу. Ён сказаў, што ніхто лепей за яго не ведае, дзе ён, гэты дуб, што ён ужо тысячу разоў хадзіў да яго за доўгае сваё жыццё, што ён бываў каля яго яшчэ дзіцем, што ніхто так добра не пакажа нам, дзе менавіта ўжо «тышчу гадоў» расце гэты дуб. І мы згадзіліся, і вось чакалі яго.

А жанчыны спявалі. А я глядзеў на іхнія прыгожыя твары, на іх ільняныя або чорныя як смоль (сярэдняга не было) косы, на іхнія ўборы і думаў, што гэта дзіва як добра.

Таму што гэтыя шнуроўкі і андаракі былі не ад оперных пейзан у лапціках, а было гэта заўсёды так. Аб гэтым сведчылі чорныя рабочыя рукі (праўдзі такімі па чымсьці — сто разоў зачэпяцца), што зараз адпачывалі на дзіўнай прыгажосці андаракоў, вытканых імі. Рукі, якія насілі сена з балотаў і палян і ўмелі рабіць яшчэ тысячы спраў. Рукі, што цяжка здабывалі свой «штодзённы».

На д'ябла былі ім патрэбныя мы. Іхнія песні плылі над вёскай да залатой завесы захаду. Плылі над гэтай сумнай, вячэрняй, нібы закінутай зямлёй. І песні гэтыя былі — дзіва. І казалі яны пра каханне, пра варанога коніка і дальнюю дарогу, пра здраду і рэўнасць, пра гэтыя дубы — пра ўсё, што было і давеку будзе на зямлі.

Стары выйшаў з хаты, як адноўлены. Твар свежы, трохі нават урачысты. Белая сарочка з хатняй палатніны багата вышываная. Паважна сеў побач з шафёрам і — перад бабамі — уладна сказаў:

— Паняй!

І тут адна гожая чарнявая маладзіца са снежнымі зубамі сказала:

— Ну вось. А я тут і жыццё-о пражыла-а, а дуба таго не бачыла-а.

Вочы смяяліся. Я запрасіў яе сесці з намі, і яна нават устала. Але астатнія схапілі яе, пачалі валтузіцца і крычаць ёй, што «няма чаго адной», што хлопец той, відаць па ўсім, «адарвірог», а нам — каб мы хутчэй рушылі. Сілком пасадзілі на бярвенні, утрымалі. Машына наша рванула і пакаціла.

Так і давялося мне задаволіцца пачэснай мянушкай «адарвірога», сесці на месца ды глядзець вакол.

«Казёл» наш праехаў трохі па дарозе і звярнуў налева. Стары расказваў нешта аб тым, колькі гэтаму дубу, якіх людзей і якія падзеі ён бачыў. Фігуравалі там чамусьці шведы (і тут было зашмат шведаў!), царыца Кацярына, французы (зашмат французаў!) і ўласны дзедаў прадзед. Зрэдку ён перарываў свае цікавыя гістарычныя рэмінісцэнцыі, каб кінуць:

— Паняй-паняй!

...Гэта былі нізінныя месцы. Туман, як продкавы душы, слупамі стаяў над ямамі, поўнымі празрыстай вады. Удзень яна была, пэўна, колеру чырвонага дрэва. Цяпер — чорная як смоль. Трапляліся даўнія лесасекі, зарослыя дрэўцамі, маліннікам і кіпрэем. Белы туманец шматкамі поўз з нетраў. Было бязлюддзе. І цішыня. Залаты і шафранны захад шырокай паласой дагараў за ляснымі волатамі.

І тут наш «газік» выглядаў дзіка, як машына часу.

— Паняй-паняй!

Як глуха! Якая закінутая журба! Быццам і не было ні кіеўскіх князёў, ні Ванькі Крывавага, ні Пятрухі-Мучыцеля. Нібы толькі што пад гэты халодны небасхіл, пад першую крынічную зорку на ім, да залатога іканастаса захаду прыйшлі людзі — мы.

І зноў пушча. Зноў ствалы волатаў, а за імі гараць крылы соцень жар-птушак. Гараць і дымна згараюць у цішыні.

І раптам я ўбачыў: вышэй за ўсе дрэвы ўзносілася над светам не дужа густая, але магутная верхавіна і некалькі велізарных, як бярвенні, галін. Стройны, як калона, у мноства абхватаў

ля зямлі, усё раўней і танчэй угору, дасканалы ў сваёй велічнай зграбнасці, стаяў сярод лесу, сярод сыноў сваіх, унукаў, праўнукаў, далёкіх нашчадкаў лясны волат. Здавалася, метраў на сорак — пяцьдзесят — бо яго ні з чым вакол нельга было параўнаць — вышэйшы за ўсё на зямлі. Роўны амаль да самай верхавіны, гладкі, амаль як мармур, карою (так уяўлялася ўпрыцемку), без адзінай шышкі на ёй, без адзінага нарасту ці галінкі, ён толькі ля верхавіны шырыў недзе ў саміх нябёсах магутныя свае лапы.

Ён быў вечны і неўміручы. Ён, здавалася, павінен быў быць нязменны і канчатковы ў сваёй класічнай закончанасці. І, аднак, ён рос. Разумееце? Ён яшчэ рос.

Ён нарадзіўся ад жолуда нейкага такога самага волата, ад якога даўно не засталося і слядоў. Бацька ягоны жыў у часы Цэзара і Спартака, Хрыста і Нерона, Атылы і Катула. І вось аднойчы ён задумаўся аб неўміручасці і вечнасці і неспадзявана скінуў жолуд. А з жолуда прадзёўбнуў зямлю пяшчотны ружавата-жоўты парастак велічынёй з палову мізінца. Яго чакалі тысячы бедаў. На яго мог наступіць чалавек або алень. Тысячы дубовых малят гінуць вось так.

Але вось ён стаіць і яшчэ расце. А перад ім у маўчанні стаім мы. Неўміручая мозгам і справамі мятуліца-аднадзёнка. А ён стаіць. Галава ягоная ў небе. Падпірае крыштальную першую зорку. Расце.

Кіеў быў зусім малады. Полацак трохі старэйшы. Осла не было. Масквы не было. Ні Берліна, ні Нью-Йорка, ні Рыгі — нічога гэтага яшчэ не было. Не было Францыі, а была толькі Франкская дзяржава. А ён ужо рос.

І наўрад ці быў намнога меншы, калі чалавек з вачыма хітруна і аматара пагуляць, з сэрцам, у якім жыла, аднак, гарачая любоў да сваёй беларускай зямлі, Крывашапка, стаяў пад ім і клікаў на паўстанне беларускіх сялян, сваіх братоў. Палалі вогнішчы. Полымя іхняе адбівалася на лёзах кос, на вострых іглах вілаў, у глыбокіх вачах, чырванела на кары Вечнага Дрэва. Яно скакала недзе высока ўверсе на ягоных галінах. А сярод людзей, магчыма, быў продак у дванаццатым калене нашага дзеда.

Не ведаю, ці адпавядае дрэву імя «цар-дуб». Назва «дуб Крывашапкі» адпавядае больш, хаця і яна не з лепшых. Усякае імя будзе вартым жалю перад гэтай велічнай, перад гэтай мудрай вечнасцю.

Ён быў сведкам усёй пісанай нашай гісторыі. Сведкам канца радавога строю, сведкам з'яўлення князёў і ўвядзення

хрысціянства, сведкам разгрому беларусамі татарскай навалы, сведкам паўстанняў семнаццатага стагоддзя і сведкам апошняй вайны.

Крый Божа стаць яму сведкам вайны атамнай, сведкам канца чалавецтва і сваёй смерці разам з ім. Гэтага не павінна быць. Гэтага не будзе. Залог гэтага — мудрыя чалавечыя вочы, чорныя рукі і апошні водсвет захаду на вяршыні Дрэва Вечнасці.

І калі гэта не будзе, год трыста ён яшчэ прастаіць, здаровы, поўны сіл стары. А да таго часу ягоныя суседзі (і, напэўна, дзеці), трохі маладзейшыя за яго, стануць такія самыя, а тады, значыцца, і падаць можна.

У гэтай дуброве не павінна стукаць сякера. Уся з шасцісот-сямісотгадовых дубоў, яна павінна зрабіцца запаведнікам велічы, сведчаннем таго, што можа даць наша зямля.

Мы вярнуліся ў дзедаву хату і вячэралі там. Чысцюткія беленыя сцены, музейныя па харастве і майстэрстве ручнікі, дзівосныя па прыгажосці посцілкі на сценах і ложках, стракатыя налаўнікі. Бялюткая печка з мноствам ніш, выступаў і прыступак была як гожая архітэктурная спаруда. Страшна было спаць пад гэтымі вясёлкавымі посцілкамі, на гэтых вышываных падушках, на беленькіх, хатняй палатніны, таксама расшытых па краях просцінах. Мы папрасіліся на сена, пасля ўпартай барацьбы атрымалі згоду і былі за сваю ўпартасць пакараныя.

У тую ноч, як казакоў і шляхту ў паходзе, нас моцна кусалі блохі. Я-то не адчуваў гэтага, але казалі сябры.

Уначы я прачнуўся, адчуваючы, што цалкам выспаўся пасля кароткага каменнага сну. Унізе шумна ўздыхала карова. Даносіўся сонны начны шум лесу. Рэдкімі ўздыхамі.

Я злез са стога, выйшаў на двор, сеў на пасечаную калоду і закурыў. Лес шумеў і шумеў. Мігцелі над галавою зоры. А думкі ўсё вярталіся да таго, што бачыў. Так, гэтай дубровы нельга пілаваць ні ў якім разе. Патрэбен закон. Ніякая выгада не заменіць тут вялікай духоўнай страты. Унікальныя дрэвы, якіх, пэўна, няма больш нідзе ў Еўропе. А ўжо ў такім масіве — напэўна няма. Іх трэба бараніць, прыводзіць сюды іншаземцаў, каб дзівіліся, прыводзіць сюды кожнае дзіця, каб бачыла і на ўсё жыццё пранікалася сыноўняй павагай да зямлі, якая дала жыццё яму і здолела нарадзіць гэткіх волатаў.

Пад раніцу я на хвіліну задрамаў. Здаецца, проста ўпала галава, а калі ўзняў яе — вось-вось павінна было ўзысці сонца, весела сінела неба, свежы подых паветра быў як каханы пацалунак.

Разбудзіў мяне нейкі строкат. Сарокі ўлетку пазбягаюць вёсак, але ж тут сама вёска была амаль лесам. І вось нада мною сакатала сарока, весела паглядаючы на мяне бісерным вочкам. Вельмі смешная, бясхвостая сарока, подобная з гэтай прычыны на апалонік без ручкі.

І я засмяяўся і ўстаў насустрач усходу.

Пасля мы зноў паехалі да дуба. Здымаць, на жаль, было цяжка. У густой цяністай дуброве і пры сонцы стаяў паўзмрок. Зямля развяла вакол сотні курыльніц. Туманны дым поўз да верхавіны, нібы гэта язычнікі прыносілі тут ахвяры.

Толька пашкадаваў, што нельга ўзлезці на вяршыню. Гэтае «нельга» сказаў ён, здатны здымаць на дарозе ў падаючага дрэва (незадоўга да гэтага, пад Шчорсамі, нас з ім ледзь не забіла такім чынам), на вяроўцы над безданню, на крыле самалёта і, напэўна, нават у чэраве кітовым.

Нельга было ўзлезці на роўную калону, ды яшчэ ля самай верхавіны віўся ля адзінага маленькага дупла «дымок»: дзікі пчаліны свепет. Яго ніхто не мог дастаць. Дзед казаў, што свепет там быў яшчэ ў гады ягонага дзяцінства.

Не варта было б пра гэта пісаць, але не пісаць нельга. Пры дзённым святле мы ўбачылі, што кара на вышыню чалавечага росту пакрыта драбнюткімі выразанымі літарамі. Так бы мовіць,— пакінулі сляды на твары зямным і прылучыліся да вечнасці.

Хаця гэта і не па сарцавіне, а па тоўстай, на 3–4 цалі кары, але ўсё адно рэжа па сэрцы гэты выгляд спісанага, спаласаванага дрэва. Ці ж не малпы? А пасля надпісы гэтыя счэсваюць, але яны з'яўляюцца зноў, паласуюць жывую плоць і могуць дайсці да жывога нутра.

Былі тут людзі адусюль, людзі з імёнамі і прафесіямі (а трэ было б па гэтых надпісах шукаць, прыводзіць у міліцыю ды даваць па лапах і кішэнях), але я не буду ўвекавечваць іх яшчэ і на паперы. Хопіць ім і кары. Аб адным, аднак, не сказаць нават неяк і нязручна. На кары распісаўся ва ўласнай дурасці нехта X «ад імя камсамольскай арганізацыі гомельскага педінстытута», так бы мовіць, ад імя будучых сейбітаў разумнага, добрага і вечнага.

Бедныя хлопцы! Як ім не пашанцавала! Разумныя ж, відаць, яны людзі збольшага, а выбралі, каб гаварыў ад іхняга імя, таварыша X.

І толькі вышэй, куды рукі розных там X не дасталі, быў першазданнай чысціні крэмавы ствол. Крэмавы, аж белы. Стаяць яму вякі, каб не малпы. Некалькі год назад Янка Брыль, Валодзя

Калеснік і я наведалі стражытны дуб у Варончы, звязаны з імем Адама Міцкевіча. Дрэва-волат зеўрала страшэннай велічыні дуплом, у якім магло б стаць дзесяткі два чалавек. У гэтым дупле было і акенца на другі бок дрэва. Я ўлез і высунуў у акенца галаву, як таемны лясны дух. Відаць, калісьці ў гэтым дупле нейкі варвар расклаў агонь, але дрэва згасіла яго ўласнай крывёй і засталося стаяць. Патрэбна было б некалькі вазоў цэглы і пару мяхоў цэменту, каб запламбаваць дупло, і жалезны абруч, каб ахапіць ім галіны і не даць дрэву раскалоцца, і яно прастаяла б яшчэ семсот год. Мы вырашылі напісаць пра гэта старшыні камітэта па ахове прыроды. Праз некаторы час Янка меў гонар атрымаць ад яго ліст, у якім было напісана, што сапраўды ля вёскі Варонча, што пад Наваградкам, існуе шматвяковы дуб, звязаны з імем Міцкевіча, і ў гэтым дубе сапраўды ёсць дзірка. Такім чынам мы атрымалі магчымаць праверыць нашы асабістыя ўражанні.

Вялікае дзякуй!

То, можа б, хаця цяпер нехта засаромеецца, спахопіцца і зберажэ частку нашага народнага гонару? І можа, зробіць гэта хутчэй? Год назад дуб Міцкевіча ў Варончы яшчэ стаяў. Можа, яшчэ не позна?

...Пасля мы паехалі ад нашага дуба і на зваротнай дарозе, на лесасецы, убачылі двухногі дуб. Нідзе не было відаць, што зрасліся два дрэвы. Проста плялося, валаклося па высецы самотнае схіленае дрэва на дзвюх нагах, нібы хацела і не магло пайсці, уцячы са спустошанага людзьмі месца.

Пакуль хлопцы здымалі яго, я не вытрымаў і пеша вярнуўся да свайго волата. Белы, ён стаяў у змроку, думаў пра нешта, а зямля кадзіла яму.

У-у, якая вечная, якая жывая стаяла вакол яго цішыня! І я стаў і, няверуючы, пагаварыў з ім у думках, ціха памаліўся яму і папрасіў аб самым дарагім. А аб чым прасіў, аб чым маліўся — не скажу.

Пасля мы паехалі. Ізноў было бязлюддзе. Бачылі мы дуб, пашчапаны маланкай. Маланкі любяць дубы, часцей за ўсё змагаюцца менавіта з імі, бо гэта варты праціўнік, і амаль ніколі не чапаюць бярозу, такая яна плакучая, пакорлівая і ніцая. Літуй цябе лёс ад бліскавіц, Вечнае Дрэва!

Машына бегла. Вялізныя дрофы, падобныя на страусаў, часта глядзелі на нас з травы.

У адной лясной вёсцы мы заселі ў вялізнай лужыне. Пакуль хадзілі па трактар, мы скінулі кашулі і на вачах у мясцовых жыхароў загаралі, рабілі выгляд, што так і трэба.

Чорная як смоль, румяная, вельмі прыгожая маладзіца з вялізнымі вачыма весела крычала мне з садка:

— Гэй, каторы з голаю спіной! Хадзем пад яблыню, казку раскажу.

Яна была такая чарнавокая, такая ладная, што другім разам я насмяшыў бы ўвесь свет: узяў і застаўся. Мы ляжалі б пад яблыняй, і гаварылі, і смяяліся б, тым больш што, скажу вам па сакрэту, я таксама не зусім ужо благі казачнік. Але тут я аджартаваўся, і калі машына пакаціла далей — забыў пра гэта і ўспомніў толькі цяпер.

Таму што я быў перапоўнены іншай казкай, той, якая засталася за маёй спіной.

Бліжэй да вечара лінула раптоўна страшэнная залева. Стала цёмна. Вакол стаяла непранікальная, непраглядная, здавалася, над усім светам, сцяна дажджу. Серабрыста-шэры, ён амаль хаваў нават блізкія дрэвы, паласаваў, сек, плыў цэлымі патокамі па перапоўненай вадою зямлі.

Мы імчалі праз гадзіны і кіламетры, а ён ліў, не слабеючы. Мы ўехалі ў ноч, а ён яшчэ пасіліўся, хаця і здавалася, што гэта немагчыма.

Паветра было менш, чым вады. Бледныя бліскавіцы ўспыхвалі часам у чарнільным змроку. Над бясконцымі лясамі, над усім Палессем ішоў некуды і не праходзіў несамавіты лівень.

Машына ледзь прабівалася праз яго, ляцела ў залеву. Я сядзеў, і думкі цяклі ў галаве маёй. Думкі аб стагоддзях, якім я прычасціўся і якім цяпер быў прыналежны. Я быў звязаны цяпер з імі, з усёй гісторыяй свайго народа праз неразрыўнае, праз жывое звяно, праз тысячагадовае Дрэва Вечнасці. Звязаны з самым першым паэтам гэтай зямлі, які, магчыма, таксама датыкаўся далонню да белай кары.

Дождж паласаваў. І я ўвесь час уяўляў, што вось стаіць недзе ў глыбінях гэтых лясоў, у глухой пушчы, у чарнільным змроку, пад гэтым начным, глухім і вечным, як стагоддзі, жыватворным і безвыходным дажджом мой, наш дуб. Стаіць, адолеўшы маланкі, людскія сякеры і сам Час, і вось прыходзяць людзі і моляць яго, каб ён жыў дзеля іх, нявечных ягоных сыноў, каб вечнай была зямля мая, што нараджае волатаў.

Стаіць. Па нешматлікіх галінах, па пацямнелай ад вільгаці белай кары сплываюць алавяныя струмені дажджу. А вакол ноч. Пасля яе прыйдзе раніца, але зараз над ім ноч.

Мне было так, нібы недзе на месцы бою я пакінуў адным друга, які не можа ісці са мною. Нават горш. Друга я цягнуў

бы або застаўся з ім. Гэтага — нельга было. Ён бы памёр ад першага кроку... Я не мог застацца з ім... А ён не мог жыць там, дзе я, у цяснінах вуліц і ў шолаху шын, сярод нашых бясконцых размоў і, магчыма, хлусні, без жывушчага паветра, без гэтых простых людзей, без першароднай палескай мовы.

Будзь вечнай дзеля нас, зямля мая!

Ты не магло пайсці са мной, Вечнае Дрэва. Але і цяпер, калі мне бывае цяжка, я раптам, без усякага, здаецца, поваду, успамінаю, што недзе стаіць, недзе шуміць або маўчыць спакоем самой гісторыі заліты веснім святлом, дажджом або засыпаны начным снегам, стаіць і чакае другога свайго тысячагоддзя сведка ўсёй нашай пісанай гісторыі, усіх учынкаў нашых і ўсіх беларускіх жыццяў, што прайшлі за нашу гісторыю па твары зямным.

Стаіць і расце вялікі Бацька-Дуб.

*1966*

# ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ КАРАЛЯ СТАХА

Я стары, я нават вельмі стары чалавек. І ніякая кніга не дасць вам таго, што на ўласныя вочы бачыў я, Андрэй Беларэцкі, чалавек дзевяноста шасці год. Кажуць, што доўгія гады лёс дае звычайна дурням, каб яны папоўнілі разумовы недахоп багатым вопытам. Ну што ж, я жадаў бы быць дурным удвая і пражыць яшчэ столькі, бо я дапытлівы суб'ект. Столькі цікавага адбудзецца на зямлі ў наступныя дзевяноста шэсць год!

А калі мне скажуць заўтра, што я памру, — ну што ж: адпачынак таксама нядрэнная штука. Людзі калісь будуць жыць нават даўжэй за мяне, і ім не будзе горка за жыццё: усё ў ім было, усякага жыта па лапаце, усё я зведаў — нашто ж шкадаваць? Лёг і заснуў, спакойна, нават з усмешкай.

Я адзін. Памятаеце, казаў Шэлі:

> Цемра здушыла
> Цеплыню скрыпічных таноў.
> Калі двое навек разлучыліся,
> То не трэба пяшчоты і слоў.

Яна была добрым чалавекам, і мы пражылі, як у казцы: «доўга, шчасліва, пакуль не памёрлі». Але хопіць надрываць вам сэрца смутнымі словамі — я ж казаў, старасць мая — радасць мая, — лепей распавем вам штосьці з далёкіх, з маладых маіх год. Тут у мяне патрабуюць, каб я сваім апавяданнем скончыў сказ пра род Яноўскіх і яго заняпад, пра вымарачнасць беларускай шляхты. Відаць, трэба мне зрабіць гэта, бо сапраўды, якая ж гэта атрымаецца гісторыя без канца.

Да таго ж яна блізка датычыцца мяне, і расказаць пра гэта ўжо ніхто не можа — толькі я. А вам цікава будзе паслухаць дзіўную гісторыю і пасля сказаць, што яна вельмі падобна да выдумкі.

Дык вось, перад пачаткам я скажу, што тут праўда, шчырая праўда, толькі праўда, хоць вам давядзецца пакласціся ў гэтым толькі на адно маё слова.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Я ехаў з губернскага горада М. у самы глухі куток губерні на наёмным вазку, і мая экспедыцыя падыходзіла да канца. Заставалася яшчэ якія тыдні два начаваць у адрынах або проста ў вазку пад зорамі, піць з крыніц ваду, ад якой шчыміць лоб, слухаць працяглыя, як беларускае гора, песні баб на прызбах. А гора ў той час хапала: падыходзілі да канца праклятыя васьмідзесятыя гады.

Не думайце, аднак, што мы ў той час толькі і рабілі, што крычалі і пыталі мужыка: «Чаго бяжыш, мужычок?» і «Ты проснешься ль, исполненный сил?»

Гэта прыйшло пазней — сапраўдныя пакуты за народ. Чалавек, як вядома, найбольш сумленны да дваццаці пяці год, у гэты час ён арганічна не выносіць несправядлівасці, але моладзь занадта прыслухоўваецца да сябе, ёй нова і цікава глядзець, як новымі думкамі і пачуццямі (яна ўпэўнена, што такога не думаў і не адчуваў ніхто) рунее душа.

І толькі потым прыходзяць бяссонныя ночы над шматком газеты, на якім надрукавана такімі ж літарамі, як і ўсё, што сёння ўзвялі на шыбеніцу трох, разумееце, трох, жывых і вясёлых. Потым прыходзіць і жаданне ахвяраваць сабою. Усе мы, і я ў тым ліку, прайшлі праз гэта.

Але ў той час я ў глыбіні душы (хоць і лічыўся «чырвоным») быў перакананы, што не толькі з шыбеніц растуць на зямлі лясы (што, вядома, было правільным нават у часы Іасафата Кунцэвіча і беларускай доказнай інквізіцыі) і не толькі стогн адчуваецца ў нашых песнях.

Для мяне ў той час было значна больш важлівым зразумець, хто я, якім багам я павінен маліцца. Прозвішча маё было, як казалі ў тыя часы, «польскае», — хоць я і дагэтуль не ведаю, што ў ім такога мазавецкага было, — у гімназіі (а гэта было тады, калі яшчэ не забыўся чорнай памяці папячыцель Карнілаў, паплечнік Мураўёва) называлі нас, гледзячы на мову бацькоў, «древнейшей ветвью русского племени, чистокровными, истинно русскими людьми». Вось як, нават больш рускія, ніж самі рускія. Прапаведавалі б нам гэтую тэорыю да пачатку гэтага стагоддзя — абавязкова б Беларусь перашыбла Германію, а беларусы зрабіліся б першымі гвалтаўнікамі на зямлі і пайшлі б адваёўваць у рускіх, якія не сапраўды рускія, жыццёвы абшар, асабліва яшчэ калі б добры божачка даў нам рогі.

Я тады шукаў свой народ і пачынаў разумець, як многія ў той час, што ён тут, побач, толькі за два стагоддзі з нашай інтэлігенцыі добра выбілі гэта разуменне. Таму і працу сабе я выбраў незвычайную — зведанне гэтага народа.

Я кончыў пасля гімназіі універсітэт і стаў вучоным-фалькларыстам. Справа гэтая ў той час толькі пачыналася і лічылася сярод уладу маючых небяспечнай для існуючага парадку.

Але паўсюль — і толькі гэта рабіла лягчэйшай справу маю — я сустракаў увагу і дапамогу. І ў асобе малаадукаванага валаснога пісара, які пасля дасылаў запісы казак мне і Раманаву, і ў асобе дрыжачага за хлеб вясковага настаўніка, і (мой народ жыў!) нават у асобе аднаго губернатара, надзвычай добрага чалавека, сапраўднай белай вароны; ён даў мне рэкамендацыйны ліст, у якім загадваў пад пагрозай суровых захадаў чыніць мне ўсялякую дапамогу.

Дзякуй вам, простыя беларускія людзі!

Нават зараз яшчэ я малюся на вас. Што ж казаць пра тыя гады...

Паступова я зразумеў, хто я. Што прымусіла мяне зрабіць гэта?

Можа, цёплыя агні вёсак, назвы якіх і дагэтуль нейкім цёплым болем уваходзяць у маё сэрца: Ліпічна, Сорак Татар, Бярозава Воля, урочышча Разбіты Рог, Памярэч, Дубрава, Вавёркі?

А можа, начлег на поплаве, калі дзеці баюць казкі і драма крадзецца да цябе праз кажух разам з холадам? Ці мурожны пах маладога сена і зоры праз прадзёртую страху адрыны?

Або нават і не яны, а проста хвойнаяігліца ў чайніку, дымныя чорныя хаты, дзе жанчыны ў андараках прадуць і пяюць бясконцую песню, падобную на стогн.

Гэта было маё. За два гады я абышоў і праехаў Мінскую, Магілёўскую, Віцебскую, частку Віленскай губерні. І паўсюды я бачыў гора народнае, бачыў брудных дзяцей, бачыў сляпых жабракоў, бачыў гора народа майго, даражэй за які — я зараз ведаю гэта — у мяне не было нічога на свеце.

Тады тут быў этнаграфічны рай, хоць казка, а асабліва легенда, як найбольш нетрывалыя прадукты народнай фантазіі, пачалі забірацца ўсё далей і далей, у мядзведжую глуш.

Я пабываў і там, у мяне былі маладыя ногі і маладая прага. І чаго мне толькі не даводзілася бачыць!

Бачыў я цырымонію з заломам, крапіўныя святкі, гульню ў забытага нават тады «яшчура». Але найбольш бачыў я апош-

нюю бульбу ў місе, чорны, як зямля, хлеб, соннае «а-а-а» над калыскай, вялікія выплаканыя вочы жанчын.

Гэта была візантыйская Беларусь!

Гэта быў край паляўнічых і намадаў, чорных смалакураў, ціхага, такога прыемнага здалёк, звону забытых цэрквачак над дрыгвой, край лірнікаў і цемры.

У той час якраз падыходзіў да канца доўгі і балючы працэс вымірання нашай шляхты. Гэта смерць, гэта гнаенне зажыва цягнулася доўга, амаль два стагоддзі.

І калі ў васемнаццатым шляхта памірала бурліва, з дуэлямі, памірала на саломе, прамантачыўшы мільёны, калі ў пачатку дзевятнаццатага паміранне яе яшчэ было авеяна ціхім сумам забытых палацаў у бярозавых гаях, то ў мае часы гэта было ўжо не паэтычна і зусім не сумна, а брыдка, часам нават жахліва ў аголенасці сваёй.

Гэта было паміранне байбакоў, якія занурыліся ў свае норы, паміранне жабракоў, продкі якіх былі адмечаны ў Гарадзельскім прывілеі, а самі яны, хоць і жылі ў багатых напаўразбураных палацах, насілі ледзь не кажухі, хоць гонар іх быў нязмерны.

Гэта было адзічанне без прасвятлення: брыдкія, часам крывавыя ўчынкі, прычыну якіх можна было шукаць толькі на дне іх, блізка або занадта далёка адзін ад аднаго пасаджаных вачэй, вачэй вылюдкаў, дэгенератаў.

Палілі печкі, выкладзеныя галандскай кафляй, пашчапанымі ўломкамі бясцэннай беларускай мэблі семнаццатага стагоддзя, сядзелі, як павукі, у сваіх халодных пакоях, гледзячы ў бязмежную навакольную цемру праз акно, па шыбах якога сцякалі наўскос флатыліі кропель.

Такі быў той час, калі я ехаў на экспедыцыю ў глухі Н-скі павет губерні. Я выбраў дрэнны час для паездак. Летам, вядома, фалькларысту добра: цёпла, вакол прыгожыя краявіды. Але па сваіх выніках наша праца лепшая за ўсё ў глухія восеньскія або зімовыя дні.

Тады адбываюцца ігрышчы з іхнімі песнямі, пакудзелле з бясконцымі гісторыямі, а пазней — сялянскія вяселлі. Гэта наш залаты час.

Але мне выпала паехаць толькі ў пачатку жніўня месяца, калі не да казак, і толькі цягучае наша «жніво» гучыць над палеткамі. Я праездзіў жнівень, верасень, частку кастрычніка і павінен быў зачапіць толькі два тыдні, самы пачатак глухой восені, калі я мог спадзявацца на што-небудзь вартае. Пасля мяне чакалі ў губерні неадкладныя справы.

Улоў мой быў зусім мізэрны, і таму я быў злы, як поп, які прыйшоў на хаўтуры і раптам заўважыў, што нябожчык уваскрэс. Мяне мучыла даўняя застарэлая хандра, якая варушылася ў тыя дні на дне кожнай беларускай душы: нявера ў каштоўнасць сваёй справы, бяссілле, глухі боль — асноўныя прыкметы ліхалецця, тое, што, па словах кагосьці з польскіх паэтаў, паходзіць ад настойлівай пагрозы, што нехта ў блакітным пабачыць цябе і міла скажа:

— Бжалце ў жандармерыю.

Асабліва мала было ў мяне старадаўніх легенд, а менавіта за імі я і паляваў. Вы, напэўна, ведаеце, што ўсе легенды можна падзяліць на дзве вялікія групы. Першыя жывуць паўсюль, распаўсюджаны сярод большай часткі народа.

У беларускім фальклоры гэта легенды пра вужыную каралеву, пра бурштынавы палац, большая частка рэлігійных легенд.

А другія, як ланцугамі, прыкулі да нейкай адной мясціны, павета, нават вёскі. Іх звязваюць з дзіўнай скалой на беразе возера, з назвай вёскі або ўрочышча, з толькі адной, вось гэтай, пячорай. Вядома, што такія легенды, звязаныя з нязначнай колькасцю людзей, выміраюць хутчэй, хоць яны часам значна больш паэтычныя, ніж агульнавядомыя, і, калі іх надрукуюць, карыстаюцца вялікай папулярнасцю.

Так, напрыклад, выйшла на людзі легенда пра Машэку. Я паляваў менавіта за другой групай легенд. Мне трэба было спяшацца: легенда і казка выміраюць.

Не ведаю, як другім фалькларыстам, але мне заўсёды было цяжка перадчасна ехаць з якой-небудзь мясцовасці. Мне ўсё здавалася, што за зіму, якую я прабуду ў горадзе, тут памрэ нейкая бабуля, якая адна, разумееце, адна ведае зараз чароўны стары сказ. І гэты сказ памрэ з ёю, і ніхто, ніхто яго не пачуе, а я і мой народ застанёмся абакрадзенымі.

Таму нікога не здзівяць мае злосць і хандра.

Я быў у такім настроі, калі адзін мой знаёмы параіў мне паехаць у Н-скі павет, месца, якое нават у той час лічылася глухім.

Ці думаў ён, што я там ледзь не звар'яцею ад жаху, адкрыю ў сабе мужчынскую мужнасць і знайду... Але не будзем забягаць наперад.

Зборы мае былі нядоўгімі, я сабраў невялікі сак, узяў котчы вазок і хутка пакінуў «сталіцу» гэтага параўнаўча цывілізаванага павета, каб адрачыся ад усялякай цывілізацыі, пераехаўшы ў суседні лясны і балотны павет, што па тэрыторыі мала чым

паступаўся перад якой-небудзь дзяржавай, накшталт Люксембурга.

Спачатку паабапал дарогі цягнуліся яшчэ палеткі з раскіданымі там-сям дзічкамі, падобнымі на дубы. Трапляліся вёскі з цэлымі калоніямі буслоў, але потым урадлівая глеба скончылася і пацягнуліся бясконцыя лясы. Дрэвы стаялі, як калоны,ігліца на дарозе глушыла стук колаў. У лясных ярах пахла прэллю і цвіллю, раз-пораз зрываліся з-пад самых капытоў коней цецеруковыя чароды (цецерукі заўсёды збіваюцца ў купу восенню), там-сям глядзелі з-пад ігліцы і верасу чырвоныя або счарнелыя ад старасці брылі сімпатычных тлустых баравікоў.

Два разы мы начавалі ў лясных глухіх вартоўнях і радаваліся, калі бачылі праз начны змрок немачныя агеньчыкі іх сляпых акон.

Ноч, плача дзіцёнак, якога ядуць прусы, коні на двары трывожацца чагосьці — напэўна, блізка праходзіць мядзведзь, — над верхавінамі дрэў, над лясным акіянам часты зорны дождж.

У хаце не прадыхнуць, дзяўчынка люляе нагой калыску. Старажытны, як свет, напеў: «А-а-а...»

Не хадзі, коцю, па лаўцы —
Буду біці па лапцы,
Не хадзі, коцю, па масту —
Буду біці па хвасту!
А-а-а!

О, якая жахлівая, якая вечная і нязмерная твая туга, Беларусь!

Ноч. Зоры. Першабытны змрок лясоў.

І ўсё ж нават гэта было Італіяй у параўнанні з тым, што мы пабачылі праз два дні.

Лес пачаў чэзнуць, радзець, і хутка бязмежная раўніна адкрылася нашым вачам.

Гэта не была звычайная раўніна, на якой коцяць рудыя рэдкія хвалі нашы жыты, гэта не была нават дрыгва — дрыгва ўсё ж не пазбаўлена разнастайнасці: там ёсць трава, ніцыя скарлючаныя дрэўцы, там можа бліснуць азярцо, — не, гэта быў самы жахлівы, самы безнадзейны з нашых краявідаў: тарфяныя балоты.

Трэба быць чалавеканенавіснікам, каб выдумаць такія мясціны, і ўяўленне пра іх можа з'явіцца толькі ў пячорным мазгу зласлівага ідыёта. Але гэта не было выдумкай, вось яны ляжалі перад намі...

Неабсяжная раўніна, роўная, як стол, была карычневага, нават бурага колеру, безнадзейна роўная, нудная, змрочная.

Часам трапляліся на ёй вялізныя купы нагрувашчанага камення, часам буры конус — нейкі пакрыўджаны богам чалавек, выбіраў тарпу невядома дзеля чаго, — часам сіратліва глядзела на дарогу адным акенцам хатка з высокім комінам, і вакол яе — ані дрэўца. І нават лес, які цягнуўся за гэтай раўнінай, здаваўся больш змрочным, чым на самай справе.

Праз якую гадзіну пачалі і на гэтай раўніне трапляцца астраўкі лесу, чорнага, у мхах і павуцінні, толькі часам роўнага, а больш за ўсё скарлючанага, як на малюнках да страшнай казкі.

Але гэтыя ляскі з’яўляліся і знікалі, і зноў цягнулася раўніна, раўніна, бурая раўніна.

Я гатовы быў зараўці ўголас ад крыўды.

І надвор’е на такі выпадак стала псавацца: нізкія чорныя хмары паўзлі нам насустрач, там-сям з іх цягнуліся наўскос зямлі свінцовыя палосы дажджу. Ніводнай птушкі-пасмяцюхі не траплялася нам на дарозе, а гэта была дрэнная прыкмета: павінен быў пайсці цяглы начны дождж.

Я хацеў быў завярнуць да першай хаткі, але і яны больш не трапляліся. Памінаючы ліхам майго знаёмага, я сказаў фурману, каб ён ехаў хутчэй, і шчыльна закруціўся ў плашч.

А хмары накіпалі, чорныя, нізкія, дажджавыя; над раўнінаю цягнуўся прысмерак, такі непрытульны і халодны, што мурашкі паўзлі па скуры. Недзе бліснула нясмелая асенняя маланка.

Я толькі паспеў адзначыць неспакойнай думкаю, што гэта занадта позна для навальніцы, як на мяне, на коней, на фурмана абрынуўся акіян халоднай вады.

Нехта аддаў раўніну ў лапы ночы і дажджу.

І ноч гэтая была цёмная, як сажа, я не бачыў нават сваіх пальцаў і толькі па паштурхванні вазка здагадаўся, што мы яшчэ едзем. Фурман таксама, відаць, нічога не бачыў і цалкам аддаўся інстынкту коней.

Не ведаю, ці сапраўды быў у іх які інстынкт, але хутка вазок наш пачало кідаць з байрака на байрак, з ямы на нейкі бугор і зноў у яму.

Шматкі гразі і нейкай твані ляцелі ў вазок, на плашч, мне ў твар, але я хутка асвойтаўся з гэтым і маліўся толькі аб тым, каб не наехаць на якую прорву: самыя жахлівыя твані трапляюцца менавіта сярод такіх балот, праглыне і вазок, і коней, і людзей, і ўранцы ніхто нават не здагадаецца, што тут хтосьці быў, што тут дзве хвіліны крычала чалавечая істота, пакуль бурая каша

не налезла ў рот, што зараз гэтая істота ляжыць разам з коньмі на тры сажні ніжэй паверхні праклятага месца.

Нешта раўнула з левага боку: доўгі, працяглы, нялюдскі крык. Коні тузанулі вазок — я ледзь не выпаў — і памчалі кудысьці, відаць, напрасткі па балоце. Пасля штосьці хрумснула, і заднія колы вазка пасунуліся ўніз. Адчуваючы, што пад ногі мне нацякае нешта мокрае, я тарганўў за плячо фурмана. Той з нейкай абыякавасцю сказаў:

— Гінем, пане. Тут і гамон.

Але мне не хацелася паміраць. Я схапіў руку фурмана, расціснуў яму пальцы і, выхапіўшы пугу, пачаў хвастаць па тым месцы ў цемры, дзе павінны былі быць коні.

Нехта нема закрычаў такім голасам, што коні, відаць, спудзіўшыся, шалёна тарганулі вазок, ён задрыжаў увесь, як быццам таксама намагаўся вырвацца, пасля штосьці галасна цмокнула пад коламі.

Вазок нахіліўся, затросся яшчэ мацней, загігатала кабыла. І штосьці здарылася. Вазок зноў пакаціўся і хутка загрукатаў па нечым цвёрдым. Толькі тут я зразумеў, што нема крычаў не хто іншы, як я. Мне стала сорамна.

Я збіраўся ўжо было папрасіць фурмана, каб ён спыніў коней на гэтым адносна цвёрдым, каб перачакаць ноч, але тут дождж быццам зрабіўся рэдкім, і адначасова штосьці мокрае і калючае хвастанула мяне па твары. «Яловая лапа, — адзначыў я. — Значыцца, гэта лес. Коні спыняцца самі».

Але прайшоў час, лапы яшчэ разы са два дакрануліся да маёй галавы, а вазок не скакаў па карэннях, каціў роўна і гладка. І коні аніводнага разу не спыніліся.

Значыцца, гэта была лясная дарога.

Я вырашыў, што яна павінна кудысьці давесці нас, і аддаўся на волю лёсу. І сапраўды, мінула, можа, хвілін трыццаць, і наперадзе замігцеў цёплы жывы агеньчык, такі ружовы і прывабны сярод гэтай золкай і мокрай цемры.

Праз некаторы час можна было пабачыць, што гэта не хата палясоўшчыка і не будан смалакура, як я падумаў быў спачатку, а нейкая вялікая будыніна, занадта вялікая нават для гарадскога дома. Перад ёю — клумба, вакол мокрыя шаты дрэў, чорнае жарала яловай алеі, адкуль мы выехалі.

Ганак быў пад нейкім высокім навесам, на дзвярах вісела цяжкае бронзавае кальцо.

Спачатку я, потым фурман, пасля зноў я грукалі гэтым кальцом у дзверы. Грукалі нясмела, грукалі трошкі мацней,

білі кальцом наводмаш, спыняліся, клікалі, пасля білі нагамі — хоць бы які водгук.

Нарэшце за дзвярыма захадзілі, няўпэўнена, нясмела. Пасля пачуўся аднекуль з вышыні сіпаты жаночы голас:

— Хто такія?

— Мы падарожныя, цётухна, пусціце.

— А ці не з палявання вы часам?

— Якое там паляванне, мокрыя ўсе, ледзь на нагах стаім. Дальбог, пусціце нас.

Голас змоўкнуў, пасля з нейкімі ноткамі нерашучасці спытаў:

— А хто ж вы такія? Прозвішча як?

— Беларэцкі маё прозвішча. Я з фурманам.

Бабуля за дзвярыма раптам пажвавела:

— Граф Беларэцкі?

— Спадзяюся быць графам, — адказаў я з плебейскай непачцівасцю да тытулаў.

Голас пасуровеў:

— Ну і ідзі сабе, добры чалавек, туды, адкуль прыйшоў. Бачыце вы, ён на графства спадзяецца. Жартачкі начныя! Пайшоў, пайшоў. Пашукай сабе дзе-небудзь у лесе бярлог, калі ты такі спрытны.

— Бабуля, — узмаліўся я, — з радасцю пашукаў бы, каб не непакоіць людзей, але ж я не тутэйшы, я з павета, заблукалі мы, сухой ніткі няма.

— Прэч, прэч, — сказаў няўмольны голас.

Іншы чалавек, можа, схапіў бы ў адказ на гэта камень і пачаў бы біць у дзверы, сыплючы праклёны, але я нават тут не мог пазбавіцца думкі, што гэта дрэнна: сілком драцца ў чужую хату. Таму я толькі ўздыхнуў і звярнуўся да фурмана:

— Ну што ж, пайшлі адсюль.

Мы накіраваліся былі да фурманкі. Відаць, наша саступлівасць зрабіла добрае ўражанне, бо голас, памякчэўшы, кінуў нам наўздагон:

— Пачакайце, падарожнікі. Хто ж вы такія?

Я забаяўся адказаць «фальклярыст», бо двойчы мяне пасля гэтага слова лічылі за мазурыка. Таму я адказаў:

— Купец.

— А як жа вы трапілі ў парк, калі вакол мур і чыгунная агароджа?

— А я і не ведаю, — адказаў я шчыра. — Ехалі недзе, відаць, па балоце, кудысьці праваліліся, ледзь выбраліся... Раўло там нешта.

Я і не спадзяваўся на такі вынік маіх слоў, але пасля іх голас ціха войкнуў і спуджана закудахтаў:

— А-а божжа ж мой! А гэта ж вы, напэўна, з Волатавай прорвы прыехалі, гэта ж толькі там і няма агароджы. Во пашчасціла вам, выратавала вас царыца нябесная. А матка боская! А пакутнічкі нябесныя!

І зараз такая дабрыня і такі адчай адчуваліся ў яе словах, што я дараваў ёй гэтую гадзіну на ганку.

Дзверы загрукалі засаўкамі, пасля зарыпелі, разыходзячыся і прапускаючы ў начную цемру смугу аранжавага цьмянага святла.

Перад намі стаяла невялічкая бабулька ў шырокай, як звон, сукні, ліловай шнуроўцы, у якой, напэўна, хадзілі нашы прапрашчуры пры каралю Стаху, і ў вялікім крухмальным чапцы. Твар у добрых зморшчынах, нос кручкаваты, а рот вялізны, падобны на шчыпцы для арэхаў, з трошкі адтапыранымі наперад вуснамі. Кругленькая, амаль як бочачка сярэдняй велічыні, з пухленькімі ручкамі — яна так і напрошвалася на тое, каб яе клікалі «маці». І ў руках у гэтай бабулі быў вялізны пячны рагач: зброя. Я ледзь не зарагатаў, але ў час прыпомніў халодную дрыгву і дождж за вокнамі і змаўчаў. Колькі людзей і зараз стрымлівае смех з таго, што варта смеху, прыпамятаўшы, што за сцяною дождж!

Мы ўвайшлі ў пакойчык, дзе пахла мышамі, і струмені вады адразу пабеглі з нашай вопраткі на падлогу. Я глянуў на свае ногі і жахнуўся: яны амаль па калена былі ў бурай кашы, як у ботах.

Бабуля толькі галавою паківала.

— Бачыце, я адразу сказала, што гэта тая жахлівая твань. Вы, пане купец, павінны паставіць свечку за тое, што так лёгка абышлося. — І яна адчыніла дзверы ў суседні пакоік, дзе жарка палаў камін. — Добра абышлося. Скідвайце адразу ж вопратку, сушыцеся. У вас ёсць што апрануць з сухога?

Сак мой, на шчасце, быў сухі, я пераапрануўся перад камінам, вопратку маю і фурманову бабуля некуды пацягнула, а пасля зайшла ў пакой з сухою — для фурмана. Зайшла, не звяртаючы ўвагі на тое, што фурман стаяў зусім голы і сарамліва паварочваўся да яе спіною.

Паглядзела на яго сінюю спіну і сказала непрыхільна:

— Ты, малец, ад мяне не вельмі адварочвайся, я старая баба. І пальцы на нагах не падціскай. На вось, пераапранайся лепей хутчэй.

Калі мы пераапрануліся і трохі сагрэліся ля каміна, бабуля паглядзела на нас глыбока запалымі вачыма і сказала:

— Ну, вось і добра. Ты, малец, пойдзеш зараз з Янам начаваць, тут табе будзе нязручна. Ян!

Ян з'явіўся. Гэта быў падслепаваты чалавек год шасцідзесяці з доўгімі сівымі валасамі, носам, вострым, як шыла, запалымі шчокамі, з вусамі, якія звісалі да сярэдзіны грудзей.

Я вельмі здзівіўся, што адна бабуля з рагачом у руцэ адчыніла нам дзверы, не пабаялася двух дарослых мужыкоў, якія невядома адкуль з'явіліся ўначы, але пасля таго, як пабачыў Яна, зразумеў, што ён стаяў недзе ў засадзе і жанчына спадзявалася на яго дапамогу.

Дапамога была важнецкая: у руках старога вартаўніка я пабачыў стрэльбу. Гэта была нават не зусім стрэльба, да яе больш пасавала б назва «мушкет».

Стрэльба была вышэй галавы, прыблізна дзюймаў на шэсць, ствол яе быў з насечкамі і шырокім раструбам на канцы, ложа і прыклад заляпаныя, выцертыя, з брамкі звісаў фіціль. Словам, ёй даўно было месца недзе ў музеі зброі. Такія стрэльбы звычайна б'юць, як гарматы, і так адбіваюць у плячо, што непадрыхтаваны чалавек валіцца на зямлю як сноп.

І я чамусьці з задавальненнем падумаў, што ў маёй кішэні зараз цудоўны англійскі рэвальвер на шэсць набояў.

Ян узяў фурмана і павёў яго да дзвярэй, ледзь варушачы нягнуткімі старэчымі нагамі. Я пабачыў, што нават рукі ягоныя трэсліся. Варта была ненадзейная.

«Добрая дапамога для гаспадыні», — з горыччу падумаў я.

А гаспадыня адразу ж кранула мяне за плячо і загадала ісці за ёю ў «апартаменты». Мы прайшлі яшчэ адну клятушку, старая жанчына адчыніла дзверы, і я ціха войкнуў ад здзіўлення і захаплення.

Перад намі была вялікая прыхожая-гасціная, як гэта вадзілася ў старасвецкіх панскіх дамах. Але што за прыхожая!

Яна была вялізная, такая вялізная, што мой змрочны адбітак у люстры недзе на другой сцяне здаваўся не большым за суглоб мезенца. Падлога з дубовых цаглін, зараз даволі пашарпаных, неабсяжна высокія сцены, ашаляваныя чорнымі ад старасці, бліскучымі дошкамі, разьбованымі па краях, вокны амаль пад столлю, маленькія, у глыбокіх стральчатых нішах.

Відаць, мы ў цемры ўзбіліся на бакавы ганак, бо проста направа ад мяне быў парадны ўваход: шырокія, таксама стральчатыя, дзверы, падзеленыя драўлянымі калонкамі на тры часткі.

На калонках была трохі пашчапаная часам разьба: кветкі, пялёсткі і плады. За дзвярыма, у глыбіні вестыбюля, — уваходныя дзверы, масіўныя, дубовыя, акутыя пацямнелымі бронзавымі цвікамі з квадратнымі галоўкамі. А над дзвярыма — вялізнае цёмнае акно ў ноч і цемру. На акне — мастацкай работы выгінастыя краты.

Я ішоў па прыхожай і здзіўляўся. Якая прыгажосць і як гэта ўсё запушчана чалавечым нядбальствам. Вось цяжкая мэбля ля сцен — яна рыпіць нават у адказ на крокі. Вось агромністая драўляная статуя святога Юрыя, адно з цудоўных, трохі наіўных стварэнняў беларускага народнага генія — ля ног яе тонкі белы пыл, быццам хтосьці насыпаў мукі: гэту непаўторную рэч сапсаваў шашаль. Вось на століі люстра, таксама выдатная па прыгажосці — вісюлькі яе абабіты больш чым напалову.

Магло б здацца, што тут ніхто не жыве, каб не палалі ў вялізным каміне дровы і не залівалі няпэўным мігатлівым святлом усю гэтую карціну.

Амаль з сярэдзіны прыхожай шырокія беламармуровыя сходы вялі на другі паверх, падзяляліся надвае і прыгожа, закруглена ўзбягалі амаль у такі самы па памерах другі пакой. Тут было ўсё тое самае, што і на першым паверсе, нават палаў такі самы камін гарачым полымем, толькі што на сценах чорнае дрэва (напэўна, гэта быў дуб) чаргавалася з пацёртымі штофнымі шпалерамі кававага колеру. І на гэтых шпалерах красаваліся партрэты ў цяжкіх чорных рамах. Ды яшчэ ля каміна стаялі столік і два крэслы. Бабуля тарганула мяне за рукаў:

— Я зараз адвяду пана ў яго пакой. Гэта недалёка, па калідоры. А пасля... можа, пан хоча вячэраць?

Я не адмовіўся, бо амаль цэлы дзень не еў.

— Ну, то тады няхай пан пасля выйдзе сюды.

Праз якіх хвілін дзесяць я быў у зале і там зноў пабачыў бабулю, якая шырока ўсміхнулася мне і сказала з даверам:

— Ведаеце, вёска рана кладзецца спаць. Але ў нас не любяць спаць, у нас кладуцца як мага пазней. І гаспадыня не любіць людзей. Не ведаю, чаму яна сёння згадзілася прыняць вас у свой дом і нават дазволіць прысутнічаць за вячэрай (няхай пан мне даруе). Відаць, пан самы варты даверу чалавек з тых, што былі тут за тры гады.

— Як, — здзівіўся я, — хіба гаспадыня не вы?

— Я ахмістрыня, — з годнасцю сказала старая. — А ахмістрыня ў лепшым з лепшых дамоў, у добрай сям’і, зразумейце гэта, пан купец. У самай лепшай з найлепшых сем’яў. Так.

Гэта лепей, чым быць нават гаспадыняй у не самай лепшай з найлепшых сем'яў.

— Што ж гэта за сям'я? — неасцярожна спытаў я. — І дзе я?

У старой гневам спалыхнулі вочы:

— Вы ў маёнтку Балотныя Яліны. А гаспадароў вам сорамна не ведаць. Гэта Яноўскія. Разумееце вы, Яноўскія! Няўжо вы не чулі?

Я адказаў, што, вядома, чуў, і гэтым супакоіў старую. Жэстам, вартым каралевы, яна паказала мне на крэсла (прыблізна так у тэатрах каралевы паказваюць на плаху няшчаснаму любоўніку: «Вось тваё месца, злашчасны!»), папрасіла прабачэння і пакінула мяне аднаго. Я вельмі здзівіўся змене, якая адбылася са старой. На першым паверсе яна войкала і прычытала, размаўляла з выразнай народнай інтанацыяй, а перайшоўшы на другі паверх, адразу ператварылася чорт ведае ў што. Відаць, на першым паверсе яна была дома, а на другім была толькі ахмістрыняю, толькі рэдкім госцем і, адпаведна пераходам, мяняла скуру. Вочы ў яе былі добрыя, але памятаю, што такая зменлівасць мне тады вельмі не спадабалася.

Застаўшыся адзін, я пачаў разглядаць партрэты, якія цьмяна паблісквалі на сценах. Іх было больш за шэсцьдзесят, зусім даўніх і амаль што новых — і гэта было сумнае відовішча.

Вось нейкі дваранін ледзь не ў кажусе — адна з самых старых карцін, — твар шырокі, мужыцкі, здаровы, з густой крывёю ў жылых.

А вось другі, ужо ў срэбнатканым каптане, шырокі бабровы каўнер падае на плечы (хітрая ты быў пратабестыя, хлопча!). Поруч з ім магутны, з каменнымі плячыма і шчырым позіркам чалавек у чырвоным плашчы (ля яго галавы шчыт з фамільным гербам, і верхняя палова яго замазана чорнай фарбай). А далей другія, такія ж моцныя, але вочы тупаватыя і масляныя, насы тупыя, вусны жорсткія.

А з імі жаночыя партрэты з пакатымі плячыма, створанымі для пяшчоты. У іх такія твары, што заплакаў бы і кат. А напэўна, хтосьці з гэтых жанчын і сапраўды склаў галаву на пласе ў тыя жорсткія часы. Непрыемна думаць, што такія жанчыны бралі ежу з блюд рукамі, а ў балдахінах іхніх спальняў гняздзіліся клапы.

Я стаў ля аднаго такога партрэта, зачараваны той дзіўнай незразумелай усмешкаю, якую так неперайма льна рабілі часам нашы старыя мастакі. Жанчына глядзела на мяне спачувальна і загадкава.

— Ты — маленькі чалавек, — як быццам казаў яе позірк, — што ты зведаў у жыцці? О, каб ведаў ты, як палаюць паходні на сценах залы для піроў, каб ведаў ты, якая насалода цалаваць да крыві каханкаў, дваіх звесці ў бойцы, аднаго атруціць, аднаго кінуць у рукі кату, дапамагаць мужу страляць з вежы па наступаючых ворагах, яшчэ аднаго каханка амаль звесці ў магілу сваім каханнем і пасля ўзяць ягоную правіну на сябе, скласці на эшафоце сваю галаву з высокім белым ілбом і складанай прычоскай.

Клянуся жыццём, так яна мне і сказала, і хоць я ненавіджу арыстакратаў, я зразумеў перад гэтым партрэтам, якая гэта страшная штука «род», якую пячаць ён накладае на нашчадкаў, які цяжар старых грахоў і выраджэння кладзецца на іхнія плечы.

І яшчэ я зразумеў, якія незлічоныя дзесяцігоддзі праляцелі над зямлёю з тых часоў, калі гэта жанчына сядзела перад жывапісцам. Дзе яны зараз, усе гэтыя людзі з гарачай крывёю і палкімі жаданнямі, колькі стагоддзяў прагрукацела па іх спарахнелых касцях?

Я адчуваў, як вецер гэтых стагоддзяў праляцеў за маёй спіною і ўзняў валасы на маёй галаве.

І яшчэ я адчуў, што ў гэтым доме стаіць холад, жахлівы холад, якога не выгнаць нават камінамі, што гараць дзень і ноч.

Вялізныя змрочныя залы з траскучым паркетам, змрок па кутах, вечная пройма, пах пылу і мышэй і холад, такі холад, што стыне сэрца, холад, настоены стагоддзямі, холад адзінага маярату вялізнага, збяднелага, амаль вымерлага за апошнія гады роду.

О, які гэта быў холад! Каб пазнейшых нашых дэкадэнтаў, якія апявалі занядбаныя панскія замкі, пакінуць тут хоць бы на ноч, яны хутка запрасіліся б на траву, на цёплае сонейка.

Пацук смела перабег па дыяганалі залу. Мяне перасмыкнула. Я зноў павярнуўся да партрэтаў. Але пазнейшыя партрэты былі таксама іншымі. У мужчын нейкі галодны незадаволены выгляд, вочы, як у старых селадонаў, на вуснах незразумелая тонкая і непрыемная з'едлівасць. І жанчыны іншыя: вусны занадта пажадлівыя, позірк манерны і жорсткі. І відавочна слабелі рукі: за белай скурай як у мужчын, так і ў жанчын бачны былі блакітныя жылкі. Плечы ставалі вузкімі і пададзенымі наперад, хоць юрлівасць нават мацнела ў выразе твараў.

Жыццё, якія жорсткія жарты робіш ты з тымі, хто стагоддзі жыў адасоблена, а з народам меў зносіны толькі на той выпадак, каб нараджаць на свет бастардаў.

Мне было цяжка, непрыемна глядзець на гэта. І зноў гэта пачуццё пранізлівага незразумелага холаду...

Я не пачуў крокаў за спіною, як быццам той, хто падышоў, плыў у паветры. Мне раптам проста здалося, што нехта глядзіць мне ў спіну. Тады я, прыцягнуты гэтым позіркам, павярнуўся. Жанчына стаяла за маёй спіною і пытальна глядзела на мяне, схіліўшы галаву. Я быў прыгаломшаны. Мне здалося, нібы той партрэт, які толькі што размаўляў са мною, раптам ажыў і жанчына, што стаяла тут, за маёй спіной, сышла з яго.

Не ведаю нават, што між імі было агульнага? Тая, на партрэце (я паглядзеў на яго і пабачыў, што ён на месцы), была, відаць, высокая, добра сфармаваная, з вялікім запасам жыццёвых сіл, вясёлая і моцная, прыгожая самка. А гэта — проста заморак.

І ўсё ж падабенства было, тое звышпадабенства, якое прымушае нас пазнаваць у натоўпе двух зусім не падобных братоў: брунета і бландзіна. Не, нават большае. У іх былі зусім аднолькавыя валасы, нос той самай формы, той самы разрэз рота і тыя самыя белыя роўныя зубы. І, акрамя гэтага, яшчэ тое агульнае падабенства ў выразе твару, нешта радавое, спрадвечнае.

І ўсё ж такой непрыемнай асобы мне яшчэ не даводзілася бачыць. Усё тое самае, і ўсё — не тое. Маленькая ростам, худзенькая, танюткая, як галінка, з амаль неразвітымі клубамі і ўбогімі грудзямі, з блакітнымі жылкамі на шыі і руках, у якіх зусім, здавалася, не было крыві, — яна была слабай, як сцяблінка палыну на мяжы.

Вельмі тонкая скура, тонкая доўгая шыя, нават прычоска нейкая незразумела невыразная. І гэта было тым больш дзіўным, што валасы былі залацістыя, дзівоснай пышнасці і прыгажосці. Нашто быў гэты недарэчны затрапезны кукіш на патыліцы?

Рысы твару былі выразныя, рэзка акрэсленыя, такія правільныя, што згадзіліся б як узор нават вялікаму скульптару. І ўсё ж я не думаю, каб які-небудзь скульптар спакусіўся б ляпіць з яе Юнону: рэдка мне здаралася бачыць такі непрыемны, варты жалю твар. Вусны дзіўна перакрыўленыя, ля носа глыбокія цені, колер твару шэры, чорныя бровы ў нейкім дзівацкім надломе, вочы вялізныя-вялізныя, чорныя, але і ў іх нейкі незразумелы застыглы выраз.

«Небарака, д’ябальскі непрыгожая», — з жалем падумаў я і апусціў вочы.

Я ведаю шмат жанчын, якія да самай труны не даравалі б мне гэтых апушчаных вачэй, але гэтая, відаць, прызвычаілася

бачыць штосьці нядобрае на тварах усіх людзей, якіх сустракала: яна зусім не звярнула на гэта ўвагі.

Не ведаю, ці хацела яна паднесці руку да маіх вуснаў, ці проста працягнула яе для рукапаціскання на англійскі манер, а можа, рука проста здрыганулася, але я ўзяў яе кволыя пальчыкі і пачціва паднёс іх да вуснаў. Можа, я нават затрымаў іх даўжэй, чым трэба было: я ж быў павінен трошкі выкупіць гэты грэх апушчаных вачэй.

Калі я апусціў руку, у вачах гэтай дзяўчыны — не, нават дзіцёнка — з’явілася нешта ліхаманкавае, балючае, дзіўнае.

Яна ўсё так, як раней, моўчкі паказала мне рукою на крэсла перад камінам. Я, аднак, не сеў, пакуль не села яна. І зноў той самы дзіўны выраз у вачах. І тут я прыпомніў, як дрыжала яе рука ля маіх вуснаў, і зразумеў, што яна проста не ўмела яе падаваць, што ёй ніколі не цалавалі рукі. А папраўдзе, чаго можна было чакаць ад гэтай выклятай богам балотнай дзіркі сярод лясоў?

...Калі тая самая ахмістрыня з падціснутымі вуснамі прынесла нам вячэру і пакінула нас адных, я спытаў, з кім я размаўляю.

— Я гаспадыня Балотных Ялін. Надзея Яноўская.

— Прабачце, можа, мне трэба было прадставіцца раней. Я, сам таго не жадаючы, падмануў вашу ахмістрыню. Я зусім не купец...

— Я ведаю, — вельмі спакойна сказала яна, — купцы не такія, а я вас ужо бачыла. Там, над дзвярыма, ёсць... высока... непрыкметныя ваўчкі, каб глядзець. Калі да нас прыязджае хтосьці, я адразу бачу, кожны раз. Толькі вельмі, вельмі рэдка прыязджаюць да нас людзі. І яны баяцца. І я таксама мала каго магу пусціць да нас. Вы не такі, як іншыя... Рэдка ў нас бываюць вартыя даверу людзі.

Мяне непрыемна ўразіла такая, мякка кажучы, адкрытасць. Што гэта? Тонкі разлік або наіўнасць? Але колькі я ні глядзеў на гэты перакрыўлены твар, я не мог заўважыць на ім нават водбліску нейкай задняй думкі.

Твар быў прастадушны, дзіцячы. Але найбольш пераканаў мяне голас. Ён быў павольны, лянівы, абыякавы і адначасова трапяткі і перарывісты, як голас начной птушкі.

— І да таго ж я наогул бачыла вас... раней.

— Дзе? — шчыра здзівіўся я.

— Не ведаю. Я многіх людзей бачу. Мне здаецца, што я вас бачыла ў сне... Часта... А магчыма, і не ў сне. Вам не здара-

лася адчуваць такое... як быццам вы жылі калісьці, даўно... і зараз адкрываеце, знаходзіце зноў многае з таго, што бачылі... даўно-даўно.

Я чалавек здаровы. І я яшчэ не ведаў тады, што такое бывае часам у знерваваных людзей, людзей з вельмі тонкім успрыманнем. У іх неяк парушаецца сувязь паміж першасным успрыманнем і наступнымі ўяўленнямі памяці. Падобнае ім здаецца тоесным, яны адкрываюць у прадметах, якія ім зусім не знаёмыя, нешта даўно вядомае. А ўсведамленне — адвечны рэаліст — супраціўляецца гэтаму. Таму і атрымліваецца, што прадмет адначасова і цалкам незнаёмы, і таемна знаёмы.

Паўтараю, я не ведаў гэтага. І ўсё ж ні на хвіліну не закралася ў мой мозг думка, што гэта жанчына можа хлусіць, такой шчырасцю і абыякавасцю веяла ад яе слоў.

— Я вас бачыла, — зноў паўтарыла яна. — Але хто вы! Я не ведаю вас.

— Мяне завуць Андрэй Беларэцкі, пані. Я вучоны-фальклярыст.

Яна зусім не здзівілася. Здзівіўся я, даведаўшыся, што гэта слова ёй знаёма.

— Што ж, вельмі цікава. А чым вы зацікаўлены? Песнямі, прымаўкамі?

— Легендамі, пані. Старымі мясцовымі легендамі.

Я перапудзіўся не на жарт. Яна раптам выпрамілася, як быццам яе каталі электрычным токам, твар збялеў, павекі закрыліся, але я згодзен быў пабажыцца, што за імі вочы яе закаціліся.

Спуджаны, я падтрымаў яе галаву і паднёс да вуснаў шклянку з вадою, але яна ўжо апрытомнела. І тут вочы яе заіскрыліся такім абурэннем, такім невыказным дакорам, што я адчуў сябе апошнім мярзотнікам, хоць і не ведаў, дзеля якой прыгоды я павінен маўчаць пра сваю прафесію. Я адчуў толькі, што тут нешта звязана са старым правілам: «У доме павешанага не размаўляюць пра шворку».

Перарывістым голасам яна сказала:

— І вы... І вы таксама... Нашто вы мяне мучыце, нашто мяне ўсе...

— Гаспадыня, пані. Дальбог, я не думаў, я не ведаю... Глядзіце, вось пасведчанне ад акадэміі, вось ліст губернатара. Я ніколі не быў тут. Даруйце, даруйце мне, калі я вас чымсьці балюча закрануў.

— Нічога, — сказала яна. — Нічога, супакойцеся, пан Беларэцкі. Гэта так... Я проста ненавіджу гэтыя цёмныя стварэнні дзікунскага розуму. Можа, і вы калісьці зразумееце, што гэта такое, гэта цёмнае. А я зразумела даўно. Толькі перш ніж зразумець да канца — я памру.

Я ведаў, недалікатна было б распытваць далей. Я змаўчаў. І толькі пасля, калі яна відавочна супакоілася, сказаў:

— Прабачце, калі я вас уразіў, пані Яноўская. Я адразу зрабіўся вам непрыемным. Калі вы хочаце, каб я ад вас паехаў? Мне здаецца, лепей зараз.

Твар яе зноў дзіка скрывіўся.

— Ах, хіба ў тым справа! Не трэба. Вы вельмі, вельмі пакрыўдзіце мяне, калі паедзеце зараз. І да таго ж, — голас яе задрыжаў, — што, каб я папрасіла, разумееце, папрасіла вас застацца тут, у гэтым доме. Хоць бы на два-тры тыдні, да таго часу, пакуль скончацца цёмныя ночы восені.

Позірк яе пачынаў блукаць. На вуснах з'явілася жаласная ўсмешка.

— Пасля будзе снег... І сляды на ім. Вядома, вы рабіце, як хочаце. Але мне было б непрыемна, каб пра апошнюю з Яноўскіх сказалі, што яна забыла старадаўнюю гасціннасць.

Яна так сказала «апошняя з Яноўскіх», гэтая васемнаццацігадовая дзяўчынка, што мне чамусьці аж па сэрцы разанула жалем.

— Што ж, — працягвала яна, — калі цікавіцеся гэтым, брыдкім, хіба я магу супярэчыць. Іншыя збіраюць нават змей. Я павінна вам сказаць, што вы прыехалі ў запаветны край. Тут прывідаў і зданяў больш, як жывых людзей. Сяляне, якіх трасе трасца, распавядаюць дзівосныя і жахлівыя гісторыі. Яны жывуць бульбай, галодным пушным хлебам, нішчымнай аўсянкай і фантазіяй. Начаваць у іхніх хатах вам нельга, там бруд, скупчанасць і трасца. Хадзіце па навакольных хутарах, там вам за грошы, якія пойдуць на хлеб ці на гарэлку, што на імгненне сагрэе вечна халодную ад трасцы кроў, раскажуць усё. А вечарам прыходзьце сюды. Тут вас заўсёды-заўсёды будзе чакаць стол, і ложак, і агонь у каміне. Запамятайце, я гаспадыня тут, сяляне слухаюцца мяне. Згода?

У гэты час я з упэўненасцю ведаў, што ніхто гэтага дзіцёнка не слухаецца, ніхто яго не баіцца і ніхто ад яго не залежыць. Магчыма, кожнаму другому я ўсміхнуўся б проста ў вочы, але ў гэтым «прыказе» было столькі яшчэ незразумелага для мяне малення, столькі жаласнага, што я прыкрыў павекі і сказаў:

— Добра. Я падпарадкоўваюся жаданню паненкі.

Яна не заўважыла іранічнай іскры ў маіх вачах і нават паружавела на хвілінку, відаць, з той прычыны, што яе паслухалі.

...Вельмі сціплую вячэру ўзялі са стала. Мы засталіся ў крэслах перад камінам. Яноўская азірнулася на чорныя вокны, за якімі шумелі і церліся аб шыбы вялізныя дрэвы, і сказала:

— Пан Беларэцкі яшчэ не хоча спаць? Гэты дзіўны вечар так настроіў мяне, што спаць мне расхацелася.

І вось мы сядзелі поруч і глядзелі ў агонь.

— Скажыце, — раптам запытала яна, — людзі паўсюль так жывуць, як у нас?

Я са здзіўленнем глянуў на яе: няўжо яна ніколі не пакідала гэтага дома? Яна, як быццам зразумеўшы, адказала:

— Я не была нідзе, акрамя гэтай раўніны ў лясах. Бацька мой, ён быў лепшы чалавек на свеце, сам вучыў мяне, ён быў вельмі адукаваны чалавек. Я, вядома, ведаю, якія ёсць на свеце краіны, ведаю, што не паўсюль растуць нашы яліны, але скажыце, ці паўсюль чалавеку так сіра і холадна жыць на зямлі?

— Многім холадна жыць на зямлі, пані. Вінаваты ў гэтым людзі, якія прагнуць улады, непасільнай, немагчымай для чалавека. Вінаваты таксама і грошы, з-за якіх людзі хапаюць адзін аднаго за глотку. Але мне здаецца, што не паўсюль так сіратліва, як тут. Там, за лясамі, ёсць цёплыя лугі, кветкі, буслы на дрэвах. Там таксама галеча і забітасць, але там людзі неяк шукаюць паратунку ад гэтага. Людзі прыкрашаюць хаты, жанчыны смяюцца, дзеці бегаюць. А тут усяго гэтага мала.

— Я здагадвалася, — сказала яна. — Гэты свет вабіць, але я не патрэбная нідзе, акрамя Балотных Ялін. Ды і што я там буду рабіць, калі там патрэбны грошы? Скажыце, а такія рэчы, як каханне, як сяброўства, там бываюць хоць часам? Ці гэта толькі ў кнігах, якія ёсць у бібліятэцы бацькі?

Я зноў ні на хвіліну не падумаў, што гэта двухсэнсоўны жарт, хоць маё становішча было досыць няёмкім: сядзець у начным пакоі і размаўляць з малазнаёмай паненкай пра каханне, ды яшчэ па яе ініцыятыве.

— Там яно часам бывае.

— Вось і я кажу. Не можа быць, каб людзі хлусілі. Але тут нічога гэтага няма. Тут багна і змрок. Тут ваўкі... ваўкі з палаючымі вачыма. У такія ночы мне здаецца, што нідзе, нідзе на зямлі няма сонца.

Мне стала страшна, калі я пабачыў сухі чорны бляск яе вачэй, і, каб перавесці тэму размовы на штосьці іншае, сказаў:

— Няўжо вашы бацька і маці не кахалі адно аднаго?

Яна загадкава ўсміхнулася:

— У нас не кахаюць. Гэты дом цягне з людзей жыццё. І потым, хто вам сказаў, што ў мяне была маці. Я яе не памятаю, яе не памятае ніхто ў доме. Часам мне здаецца, што я з'явілася на свет сама.

Нягледзячы на глыбокую наіўнасць гэтых слоў, я зразумеў, што гэта не вядомая сцэна з «Дэкамерона» і тут нельга смяяцца, бо гэта жудасна. Перада мною сядзела васемнаццацігадовая дзяўчына і размаўляла са мною пра тое, што даўно павінна была хаваць у сэрцы і што, аднак, мела для яе не большую рэальнасць, ніж для мяне анёлы на небясі.

— Вы памыляецеся, пані, — буркнуў я, — каханне ўсё ж даецца нам, хоць зрэдку, на зямлі.

— Ваўкі не могуць кахаць. І як можна кахаць, калі наперадзе смерць. Вось яна, за акном.

Худзенькая празрыстая ручка паказала на чорныя плямы акон. І зноў забулькацеў галасок:

— Вашы хлуслівыя кнігі пішуць, што гэта найвялікшая таямніца, шчасце і святло, што чалавек, калі яно прыходзіць, а другі не кахае, забівае сябе.

— Так, — адказаў я. — Іначай не было б ні жанчын, ні мужчын.

— Хлусіце. Людзі забіваюць не сябе, а іншых, яны выпусцілі на зямлю тысячы прывідаў, зданяў. Я не веру, я ніколі не адчувала гэтага, значыць, яго няма. Я ні да каго не хачу дакранацца — я хачу схавацца ад кожнага. Я нікога не хачу, як дзіўна пішуць вашы кнігі, «цалаваць» — людзі кусаюцца.

Нават зараз такая размова пужае некаторых мужчын — што ж казаць пра тыя часы. Я не належаў да нахабных мужчын, але мне не было сорамна: яна размаўляла пра каханне так, як іншыя жанчыны пра надвор'е. Яна не ведала, нічога не ведала пра гэта, яна была неразбуджаная, зусім халодная, халодная як лёд. Яна нават не магла разумець, сорамна гэта ці не. І вочы яе адкрыта глядзелі ў мае, не прыгашаныя павекамі. Гэта не магло быць какецтвам. Гэта быў дзіцёнак, нават не дзіцёнак, а жывы труп.

І яна глыбей захуталася ў шаль і сказала:

— На зямлі пануе смерць. Гэта я ведаю. Я не люблю, калі хлусяць пра тое, чаго ніколі не было на зямлі.

Мы пасядзелі яшчэ. Вецер лямантаваў знадворку. Яна знізала плячыма і ціха сказала:

— Жахлівы край, жахлівыя дрэвы, жахлівыя ночы.

І зноў я пабачыў той самы выраз на яе твары і не зразумеў яго.

— Скажыце, гэта вялікія гарады, Вільня і Мінск?

— Даволі вялікія. Але Масква, Пецярбург большыя.

— І што, там таксама людзям нядобра ўночы?

— Не, што вы. Там за вокнамі агні, усю ноч гараць ліхтары, звіняць конкі, там людзі смяюцца на вуліцах.

Яна задумалася.

— Вось бачыце. А тут ніводнага агню. Вакол гэты стары парк на дзве вярсты ў кожны бок, а за ім спяць без агнёў самотныя хаты. У замку каля пяцідзесяці пакояў, не лічачы калідораў і розных пераходаў з закуткамі. Ён так даўно пабудаваны. І ён вельмі халодны, бо продкі забаранілі рабіць у ім печкі, толькі каміны, каб не было падобна на простых суседзяў. Каміны палаюць удзень і ўначы, але ўсё адно па кутах вільгаць і паўсюль холад. У нас на пяцьдзесят пакояў толькі тры чалавекі. Ахмістрыня спіць на першым паверсе, там і вартаўнік. Яшчэ ў адным з флігеляў, за алеяй, жывуць вартаўнік парку, кухарка і пралля. Там добра. А ў другой прыбудове дома, з асобным уваходам, жыве яшчэ мой упраўляючы, Ігнат Берман-Гацевіч. Нашто ён патрэбен, упраўляючы, не ведаю, але такі закон. А ў доме на ўвесь другі паверх, на трыццаць пакояў, я адна. І так непрытульна, што хочацца зацiснуцца кудысьці ў кут, захутацца з галавою, як дзіцёнку, у коўдру і сядзець так. Вось зараз мне чамусьці вельмі добра і так спакойна, як не было ўжо два гады, з таго дня, як памёр бацька. І мне зараз усё роўна, ёсць агні за гэтымі вокнамі ці няма. Ведаеце, гэта вельмі добра, калі поруч ёсць людзі.

Яна давяла мяне праз гадзіну да майго пакоя (яе пакой быў толькі праз адны дзверы ад майго) і, калі я ўжо адчыняў дзверы, сказала:

— Калі вы цікавіцеся старымі паданнямі — пашукайце ў бібліятэцы, у шафе для рукапісаў. Там павінен быць рукапісны том паданняў, нашых сямейных паданняў. Ну, і яшчэ такія-сякія дакументы.

І дадала:

— Дзякуй вам, пан Беларэцкі.

Я не зразумеў, за што яна мне дзякавала, і, прызнаюся, нават не вельмі думаў пра гэта, калі ўвайшоў у невялікі свой пакой без засаўкі на дзвярах і паставіў свечку на стол.

У пакоіку быў ложак, шырокі, як поле бою пад Койданавам. Над ложкам стары балдахін. На падлозе — выцерты цудоўны кілім. Ложак, відаць, засцілалі з дапамогаю асаблівай палкі (як дзвесце год таму), такі ён быў вялікі. І палка стаяла поруч. Акрамя ложка была камода, высокая канторка і стол. Больш нічога.

Я распрануўся і лёг пад цёплую коўдру, задзьмуўшы свечку. Адразу ж за акном выступілі на сінім фоне чорныя сілуэты дрэў, і данёсся іх роўны, наводзячы сон, шум.

І чамусьці гэта адчуванне закінутасці зрабіла тое, што я выцягнуўся, закінуў рукі за галаву і, ледзь не засмяяўшыся ад шчасця, заснуў, як праваліўся ў нейкую цёмную і прыемную прорву.

Праз сон мне здалося яшчэ толькі, што нехта ішоў маленькімі асцярожнымі крокамі па калідоры, але я не звярнуў на гэта ўвагі, я спаў і радаваўся ў сне, што сплю.

Гэта была апошняя мая спакойная ноч у доме Яноўскіх на Балотных Ялінах.

Навокал на многіх дзесяцінах шумеў і хваляваўся пад асеннім дажджом закінуты, глухі, чорны ад старасці і вільгаці парк.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Наступны дзень быў звычайным шэрым днём, якія часта бываюць увосень на Беларусі. Ранкам я не бачыў гаспадыні, мне сказалі, што яна дрэнна спіць уначы і таму ўстае позна. Твар ахмістрыні, калі я сядзеў за сняданнем, быў нейкі воцатнакіслы і такі надзьмуты, што непрыемна было глядзець. Таму я не затрымаўся за сталом, узяў у пакоі свой вялізны зашарпаны сшытак, пяць алоўкаў, накінуў сухі плашч і, распытаўшы пра дарогу да бліжэйшага пачынка, выйшаў з пакоя.

Мне адразу ж стала неяк лягчэй, хоць наваколле не магло пахваліцца весялосцю. Толькі тут, на мокрай сцежцы, я змог добра разгледзець гэты дом-палац. Уначы ён здаўся мне меншым, бо абодва яго крылы надзейна хаваліся ў паркавым гушчары і ўвесь першы паверх цалкам зарос здзічэлым, вялізным, як дрэвы, бэзам. А пад бэзам раслі высокія, вышэй за чалавека, жоўтыя вяргіні, мясісты дзядоўнік, глухая крапіва і іншая дрэнь. Высоўваў там-сям, як ва ўсіх вільготных мясцінах, свае лапчастыя сцябліны падтыннік, буялі мядзведжая дуда, шыпшына, ліснік. І на чорнай ад вільгаці зямлі сярод гэгага

разнатраўя ляжалі белыя ад цвілі, відаць, абламаныя ветрам, каржакаватыя сукі дрэў.

Сляды чалавечай рукі былі відаць толькі перад уваходам, дзе змрочным пурпурам гарэлі на вялікай курціне познія астры.

І дом выглядаў так змрочна і холадна, што сэрца сціснула. Быў ён двухпавярховы, з вялізным бельведэрам і невялікімі вежкамі па краях і вызначаўся той адсутнасцю архітэктуры, якая была тыповай для беларускіх палацаў у тыя часы, калі нашы продкі кінулі будаваць замкі, але яшчэ патрабавалі ад дойлідаў, каб яны рабілі палацы падобнымі на гэтыя замшэлыя старыя берлагі.

Я вырашыў ісці ў пачынак не раней, як агледзеўшы ўсё тут, і пайшоў па алеі. Чорт ведае, які дурань вырашыў насаджаць у такім змрочным месцы яліны, але гэта было зроблена, і дрэвы, якім было ніяк не менш за сотню год, зрабілі мясцовасць толькі трошкі больш прыемнай, ніж славуты лес у Дантэ. Яліны, тоўстыя — дваім не абхапіць, — падступалі да самых муроў палаца, заглядалі лапамі ў вокны, узвышаліся сіне-зялёнымі конусамі над дахам. Стаўбуры іх зацягнула сівая барада мхоў і лішайнікаў, ніжнія галіны звісалі да зямлі, як шатры, і алея нагадвала вузкае міжгор'е. Толькі ля самага дома бачны былі там-сям пахмурныя, чорныя ад дажджу, амаль голыя волаты ліпы і адзін каржакаваты дуб, відаць, запаветны, бо ўзносіў сваю макушу на некалькі сажняў вышэй за самыя высокія яліны.

Ногі мае бясшумна ступалі па ігліцы, пасля я пачуў, што злева пацягнула дымком, і пайшоў на пах. Хутка дрэвы расхінуліся, толькі каб паказаць такі ж зарослы флігель з паваленым ганкам і забітымі вокнамі.

«З палову вярсты будзе да палаца, — падумаў я. — Калі, скажам, гаспадароў надумаюцца рэзаць — тут не пачуюць, хоць з гарматы страляй».

Ля самых акон стаяў на дзвюх цаглінах чыгунок, і нейкая сівая гарбатая жанчына памешвала ў ім лыжкай. Напэўна, у флігелі дымілі печы, і таму гаспадары да позняй восені варылі ежу на свежым паветры.

І зноў зялёны змрок алеі. Я вельмі доўга ішоў ёю, пакуль не дабраўся да таго месца, праз якое мы трапілі ў парк. Тут бачны былі свежыя сляды нашага вазка, і агароджа, чыгунная, вітая, выключна тонкай работы, была павалена, разбіта на кавалкі і адцягнута ў бакі. Праз яе віткі прараслі даволі вялікія бярозкі. А за агароджай (тут алея звяртала налева і цягнулася немаве-

дама куды) ляжала бурая неабсяжная раўніна са скарлючанымі рэдкімі дрэўцамі, зялёнымі вокнамі (у адно з іх мы, відаць, учора ледзь не трапілі, і я заднім лікам пахаладзеў ад жаху), рэдкімі велічнымі каменнямі.

Самотная варона круцілася над гэтым гіблым месцам. ...Калі я з'явіўся надвячоркам дадому з пачынка, я быў так намучаны гэтым змрочным месцам, што ледзь узяў сябе ў рукі. Мне пачынала здавацца, што гэта назаўсёды, гэтыя бурыя раўніны, дрыгва, напаўжывыя ад трасцы людзі, выміраючы ад старасці парк — уся гэта безнадзейная і ўсё ж родная зямля, над якою ўдзень хмары, а ўначы свеціць воўчае сонца або лье бясконцая зліва.

Надзея Яноўская чакала мяне ў тым самым пакоі, і зноў былі той самы дзіўны выраз на яе перакрыўленым твары і тая самая няўважлівасць да вопраткі. Толькі на стале, дзе стаяў позні абед, былі змены.

Абед быў вельмі сціплы і не каштаваў гаспадыні ані шэлега, бо ўсе стравы былі з вясковых прадуктаў. Толькі на сярэдзіне стала стаяла бутэлька віна, ды і тое, відаць, было сваё, са сваіх сутарэнняў. Але ўсё іншае было проста феерверкам фарбаў і форм. Пасярэдзіне стаяла срэбная ваза для кветак, і ў ёй дзве жоўтыя галінкі клёна, поруч з ёю, але, відаць, з другога сервіза, вялікая, таксама срэбная, супавая міса, срэбная салонка, талеркі, блюда. Але здзівіла мяне не гэта, тым больш што ўсе гэтыя рэчы былі разрозненыя, цёмныя ад старасці, там-сям трошкі змятыя. Здзівіла мяне тое, што гэтыя рэчы былі даўняй мясцовай работы.

Вы, вядома, ведаеце, што стагоддзі два-тры таму срэбная і залатая пасуда на Беларусі была пераважна нямецкай работы, вывезеная з прусаў. Гэтыя прадметы, багата аздобленыя рознымі выкрутасамі, рэльефнымі фігуркамі святых і анёлаў, былі саладжавыя і прыгожанькія, да таго, што хацелася ванітаваць, але што зробіш, гэта была мода.

А гэта было сваё: нязграбныя, трошкі прысадзістыя фігуркі на вазе, характэрны арнамент. І нават у жанчыны на салонцы было простае шыракаватае тутэйшае аблічча.

І сярод гэтага стаялі два келіхі з вясёлкавага старажытнага шкла, якога зараз на вагу золата не знойдзеш (адзін келіх, перад ёю, быў трошкі надбіты зверху).

Як на грэх, адзіны за увесь дзень апошні прамень сонца прабіўся ў акно і зайграў у шкле, запаліў у ім дзесяткі рознакаляровых агеньчыкаў.

Гаспадыня, напэўна, заўважыла мой позірк і сказала:

— Гэта ўсё апошняе з тых трох прыбораў, якія засталіся ад продка, Рамана Жысь-Яноўскага. Але ходзіць недарэчнае паданне, быццам гэта падарунак яму... ад караля Стаха.

Праўда, сёння яна неяк пажвавела, здавалася нават не такой непрыгожай, відаць, ёй падабалася новая роля.

Мы выпілі віна і паелі, амаль увесь час размаўляючы. Віно было чырвонае, як гранат, і надзвычай добрае. Я зусім развесяліўся, смяшыў гаспадыню, і нават у яе з'явіліся на шчоках дзве не вельмі здаровыя ружовыя плямы.

— А чаму вы дадалі да прозвішча вашага продка гэты прыдомак «жысь»?

— Даўняя гісторыя, — зноў змрочна сказала яна. — Справа як быццам была на паляванні. Да глухаватага караля са спіны бег зубр, і пабачыў гэта адзін Раман. Ён крыкнуў яму: «Жысь!» — гэта па-нашаму, мясцоваму, значыць «сцеражыся!», і кароль павярнуўся, але, адбягаючы ўбок, упаў. Тады Раман, з рызыкай забіць караля, стрэлам трапіў зубру ў вока, і той паваліўся амаль побач з каралём. Пасля гэтага ў наш герб далі пішчаль, а да прозвішча прыдомак «жысь».

— Такія выпадкі маглі быць у тыя часы, — сцвердзіў я. — Прабачце, я прафан у геральдыцы. Яноўскія, мне здаецца, вядуцца на нашай зямлі з дванаццатага стагоддзя?

— З трынаццатага, — сказала яна. — І лепей бы яны не вяліся. Гэтыя законы роду чыстае глупства, але супраць іх не пойдзеш. Гэтыя каміны, гэта правіла абавязкова жыць у гэтым доме камусьці з нашчадкаў, забарона прадаваць яго. А, між іншым, мы жабракі. І дом гэты — жахлівы дом. І на нас як праклён які ляжыць. Двойчы пазбаўлялі герба, труцілі. Амаль ніхто з продкаў не памёр сваёй смерцю. Вось гэтага ў чырвоным плашчы жыўцом адпелі ў царкве, вось гэтая жанчына з непрыемным тварам, наша дальняя сваячка, Дастаеўская (між іншым, адзін з продкаў славутага пісьменніка), забіла мужа і ледзь не знішчыла пасерба, яе засудзілі да страты. Што зробіш, нашчадкам за ўсё гэта трэба плаціць, і на мне род Яноўскіх згіне. А як мне хочацца часам на цёплае сонца, пад шаты сапраўдных дрэў, якія тут не растуць. Мне часам сняцца яны — маладыя, вялізныя, пышныя, як зялёнае воблака. І воды, такія светлыя, такія поўныя, што дух займае, што спыняецца ад шчасця сэрца. А тут гэтыя агідныя яліны, дрыгва, змрок...

Полымя каміна наружовіла яе твар. За вокнамі ўжо залягла глыбокая чорная ноч, і, відаць, пачалася злива.

— Ах, пан Беларэцкі, я такая шчаслівая, што вы тут, што ёсць поруч чалавек. Звычайна я ў такія вечары голасна спяваю, але я і песень добрых не ведаю, усе старыя, з рукапісных кніг, сабраных дзедам. І там жахі: чалавек цягне па расянцы чырвоны след, а звон, які даўно патануў у дрыгве, гучыць па начах, гучыць...

Прыходзяць дні, адыходзяць дні... —

заспявала яна глыбокім дрыжачым голасам. —

Прыходзяць дні, адыходзяць дні,
На святло наплывае цень.
Б'ецца Сказко з Кірдзяём Пацуком,
Б'ецца і ноч і дзень.
Кроў ад напругі з пазногцяў бяжыць,
З шабляў полымя мечуць паны,
І ўпаў Сказко, і паклікаў ён:
«Дзе ж вы, другі?» Не чуюць яны.
Любка Юр'еўна ўчула голас яго,
Пазбірала свой моцны род.
І «пабеглі есмо» на конях яны
Да далёкіх рудых балот.

— А далей дрэнна. Не хачу спяваць. Толькі і добра, што апошнія радкі:

І яны пілі адно аднаго,
І яны у згодзе жылі.
Пакуль сонца ззяла над грэшнай зямлёй,
Пакуль разам у дол не сышлі.

Я быў глыбока, ад усяго сэрца расчулены. Такое пачуццё бывае толькі тады, калі чалавек глыбока верыць у тое, пра што спявае. І якая цудоўная старая песня!

А яна раптам уткнулася тварам у далоні і зарыдала. Дальбог, сэрца маё аблілося крывёю. Што зробіш, я наогул недаравальна жаласлівы.

Не памятаю, якімі словамі я яе суцяшаў.

Паважаны чытач, да гэтага самага месца я быў, так бы мовіць, суровым рэалістам у сваім апавяданні. Вы ведаеце, я не вялікі ахвотнік да раманаў у духу мадам Радкліф і першы не паверыў бы, каб хтосьці расказаў мне такое. Тон майго апавядання рэзка мяняецца.

Паверце мне, каб усё гэта было выдумкай — я б выдумаў гэта зусім іначай. У мяне ўсё ж добры густ, а такога ніводны з паважаючых сябе раманістаў не насмеліўся б прапанаваць сур’ёзным людзям.

Але я распавядаю шчырую праўду. Мне нельга хлусіць, а гэта для мяне занадта сваё, занадта важлівае. Таму буду распавядаць, як яно было.

Мы сядзелі некаторы час моўчкі; камін дагараў, і цемра пасялілася па кутах вялізнай залы, калі я глянуў на яе і спалохаўся: такія шырокія былі ў яе вочы, так дзіўна нахілена галава. І зусім не было бачна вуснаў, так яны збялелі.

— Чуеце?

Я прыслухаўся. У мяне тонкі слых, але толькі праз хвіліну я пачуў тое, што чула яна.

Недзе ў калідоры, злева ад нас, трашчаў пад нейчымі крокамі паркет.

Хтосьці ішоў доўгімі бясконцымі пераходамі, і крокі то заціхалі, то з’яўляліся зноў.

— Чуеце? Топ-топ-топ...

— Надзея Раманаўна, што з вамі, што такое?!

— Пусціце мяне... Гэта Малы Чалавек... Гэта зноў ён... Па маю душу.

З усяго гэтага я зразумеў толькі тое, што ў гэтым доме чыняцца нейкія недарэчныя жарты, што тут нейкі вісус палохае жанчыну.

Не зважаючы на тое, што яна схапіла мяне за рукаў, імкнучыся затрымаць, я схапіў камінную качаргу і кінуўся па сходах да калідора. Гэта было справай хвіліны, і я расчыніў нагою дзверы. Вялізны калідор быў напаўцёмны, але я добра бачыў, што ў ім нікога не было. Так, нікога не было. Былі толькі крокі, якія гучалі па-ранейшаму трохі няўпэўнена, але гучна. Яны былі зусім блізка ад мяне, але патрохі аддаляліся ў другі канец калідора.

Што заставалася рабіць? Ваяваць з тым, каго не бачыш? Я ведаў, што гэта дарэмная справа, але я стукнуў качаргою проста ў тое месца, адкуль чуліся крокі. Качарга прарэзала пустое паветра і са звонам упала на падлогу.

Смешна? Мне было ў той час, як вы здагадваецеся, не да смеху. У адказ на мой дастахвальны і рыцарскі ўдар нешта жаласна і глуха застагнала, пасля пачуліся яшчэ два-тры крокі — і ўсё сціхла.

Толькі тут я ўспомніў, што гаспадыня засталася адна ў гэтай вялізнай цёмнай зале, і заспяшаўся да яе.

Я чакаў, што яна страціла прытомнасць, звар'яцела ад жаху памерла, але толькі не таго, што пабачыў. Яноўская стаяла ля каміна, і твар яе быў суровы, змрочны, амаль спакойны, толькі з тым самым незразумелым выразам у вачах.

— Дарэмна вы кінуліся туды, — сказала яна. — Вы, вядома, нікога не пабачылі. Я ведаю, бо бачу яго толькі я і часам яшчэ ахмістрыня. Берман бачыў яго.

— Каго «яго»?

— Малога Чалавека Балотных Ялін.

— А гэта што такое?

— Не ведаю. Але ён з'яўляецца, калі ў Балотных Ялінах хтосьці павінен памерці наглай смерцю. Ён можа хадзіць яшчэ год, але дачакаецца свайго.

— Магчыма, — няўдала пажартаваў я. — Будзе сабе хадзіць яшчэ год семдзесят, пакуль вас не пахаваюць праўнукі.

Яна рэзка адкінула галаву:

— Я ненавіджу тых, хто жэніцца. І не смейце жартаваць з гэтым. Гэта занадта сур'ёзна. Так загінула восем маіх продкаў, — гэта толькі тыя, пра каго запісалі, — і заўжды ў запісах упамінаюць Малога Чалавека.

— Надзея Раманаўна, не хвалюйцеся, але нашы продкі верылі, між іншым, і ў ведзьмакоў таксама. І заўжды знаходзіліся людзі, якія кляліся, што бачылі іх.

— А бацька? Мой бацька? Гэта не запісы, гэта чула, гэта бачыла я сама. Бацька быў атэіст, але ў Малога Чалавека і ён верыў да таго самага часу, пакуль яго не даканала дзікае паляванне. Я чула, разумееце?! Тут вы мяне не пераканаеце. Гэтыя крокі гучалі ў нашым палацы перад яго смерцю амаль кожны дзень.

Што мне было рабіць? Пераконваць яе, што гэта была слухавая галюцынацыя? Але я не галюцыніраваў, я выразна чуў крокі і стогн. Казаць, што гэта нейкі стары акустычны эфект? Не ведаю, ці дапамагло б гэта, хоць палова чутак пра прывіды ў старых будынках грунтуецца менавіта на такіх фокусах. Напрыклад, вядомы прывід палаца Любамірскіх у Дуброўне выявіўся нарэшце сасудам з ртуццю і залатымі манетамі, які невядомы жартаўнік год за сто да адкрыцця таямніцы замураваў у комін якраз у тым месцы, дзе ён выходзіў на сонечны прыпёк. Варта было начному холаду пачаць змяняцца на дзённую

спякоту, як амаль ва ўсіх пакоях другога паверха пачыналіся дзікі лямант і шоргат.

Але хіба пераканаеш у гэтым дурненькае дзяўчо? Таму я з важным выглядам спытаў:

— А хто ён такі, які ён, гэты Малы Чалавек Балотных Ялін?

— Я яго бачыла тройчы і ўсё наводдаль. Аднойчы гэта было перад самай смерцю бацькі. Двойчы — нядаўна. А чула, можа, сотню разоў. І я не спалохалася, толькі апошні раз, можа... трошкі. Я пайшла да яго, але ён знік. Гэта сапраўды малы чалавек, можа, па грудзі мне, ён худы і нагадвае заморанага дзіцёнка. У яго сумныя вялікія вочы, надта доўгія рукі і ненатуральная выцягнутая галава. Апрануты ён, як дзвесце год таму, але на заходні манер. Вопратка зялёная. Ён звычайна зварочваў ад мяне за паваротку калідора і, пакуль я дабягала, знікаў, хоць гэты калідор зусім глухі. Там ёсць толькі пакой з даўно закінутым рызманом. Але ён забіты дзюймовымі цвікамі: мы назнарок пасля спрабавалі адчыніць — нельга.

Мне стала вельмі шкада яе. Няшчасная, напэўна, проста была на шляху да вар'яцтва.

— І гэта яшчэ не ўсё, — насмелілася яна. — Можа, трыста год не было ў гэтым палацы Блакітнай Жанчыны — бачыце, вось той, што на партрэце. Сямейныя паданні казалі, што яна задаволіла прагу помсты, але я не верыла. Гэта была не такая асоба. Калі яе ў 1501 годзе цягнулі на страту, яна крыкнула мужу: «Косці мае не супакояцца, пакуль не здохне апошняе змеяня гэтай пароды». І пасля амаль сто год ад яе не было паратунку: то чума, то невядома кім падкінутая ў кубак атрута, то смерць ад невядомага начнога жаху. Яна кінула помсціць толькі прапраўнукам... Але зараз я ведаю, што яна трымае слова. Не так даўно яе пабачыў Берман на забітым балконе, бачылі і другія. Не бачыла адна толькі я, але гэта яе звычай, спачатку паказвацца іншым, а таму, каму трэба, толькі ў часіну смерці... Мой род знікне на мне, я гэта ведаю. Нядоўга засталося чакаць. Яны будуць задаволены.

Я узяў яе руку і моцна сціснуў, жадаючы прывесці яе да прытомнасці, чымсьці адцягнуць ад гэтых слоў, якія яна казала, быццам у сне.

— Вы не павінны непакоіцца. Калі на тое пайшло, я таксама зацікавіўся гэтым. Зданям не месца ў век пары. Я клянуся вам, што тыя два тыдні, што мне засталося тут быць, я прысвячу гэтаму. Ч-чорт, бязглуздзіца нейкая! Толькі не бойцеся.

Яна ўсміхнулася слабай ціхай усмешкай.

— Што вы... я прывыкла. Такое тут робіцца кожную ноч.

І той самы незразумелы для мяне выраз на твары, які так псаваў яе аблічча. Толькі тут я зразумеў яго. Гэта быў жах, застарэлы цёмны жах. Не той жах, які прымушае на хвіліну ўстаць дыбарам валасы, а жах, які настойваецца гадамі, які становіцца нарэшце звыклым станам для арганізма, ад якога не пазбаўляюцца нават у сне. Нябога была б, можа, і нядрэнная сабою, каб не гэты ўстойлівы цёмны жах.

А яна, нягледзячы на тое,што я быў блізка, аж насоўвалася бліжэй да мяне, толькі каб не бачыць спіною чаканай цемры.

— Ах, пан Беларэцкі, гэта жахліва. Чым я вінаватая, што павінна адказваць за грахі дзядоў? А на гэтыя слабыя плечы лёг увесь цяжар без астачы. Ён ліпкі і цёмны. Каб вы ведалі, колькі крыві, забойстваў, сірочых слёз, звычайнага бруду на кожным шляхецкім гербе! Колькі забітых, зашмаганых да смерці, пакрыўджаных! Мы не маем права на існаванне, нават самыя сумленныя, самыя лепшыя. У нашых жылах не блакітная, а брудная кроў. Няўжо вы думаеце, што ўсе мы, да дваццатага калена, не павінны адказваць за гэта, адказваць жахам, галечай, смерцю? Мы былі такія абыякавыя да народа, які пакутаваў з намі поруч і ад нас, мы лічылі яго быдлам, мы лілі віно, а яны лілі кроў. Яны не бачылі нічога, акрамя дрэннага хлеба. Пан Дубатоўк, мой сусед, аднойчы прыехаў да бацькі і распавёў анекдот пра тое, як маці-сялянка прывяла сына да пана і той пачаставаў іх калдунамі з мясам. Дзіцёнак спытаў, што гэта такое. Маці, па вясковай далікатнасці, штурхнула яго нагою і шапнула: «Маўчы!» Дзіцёнак з’еў тое, што было на талерцы, пасля ўздыхнуў і ціха сказаў: «А я дзесяць маўчоў з’еў». Усе, хто слухаў анекдот, смяяліся, а я здатная была даць Дубатоўку ляпасу. Гэта не смешна, калі дзеці ніколі ў вочы не бачылі калдуноў, ніколі-ніколі не елі мяса. У іх рэдкія валасы, крывыя ногі, у чатырнаццаць год гэта зусім дзеці, а ў дваццаць пяць — дзяды са зморшчанымі старэчымі тварамі. Як іх ні гадуй — яны народзяць такіх самых дзяцей, калі наогул народзяць. Яны адказвалі нам паўстаннямі, лютавалі ў гэтых паўстаннях, бо да гэтага цярпелі цэлае стагоддзе нечуваную крыўду. І мы пасля страчвалі іх. Вось гэты, на сцяне, у барбровым футры, закатаваў нават свайго стрыечнага брата, які стаў на бок вашчылаўцаў. Прозвішча брата было Агей Грынкевіч-Яноўскі.

Якія мы былі абыякавыя. Такія самыя двухногія, як мы, елі траву, хоць край наш, шчодры і багаты, лепшы на зямлі, ніколі не прымусіць чалавека памерці ад нястачы ежы. Мы гандлявалі

радзімай, прадавалі яе хцівым суседзям, а сяляне любілі яе, сваю мачыху, і... падыхалі ад бясхлеб'я. І хто абвінаваціць іх, калі яны возьмуць вілы і ўваб'юць іх нам у грудзі? Мне здаецца, што нават праз сто год, калі ўсе мы вымрам, калі нашчадкі гэтых няшчасных выпадкова адшукаюць нейкага шляхціца — яны будуць мець поўнае права забіць яго. Зямля не для нас.

Я глядзеў на яе са здзіўленнем. Гэты запал, гэта натхненне ўласным словам зрабілі яе твар незвычайным. Я толькі тут зразумеў, што ніякая яна не непрыгожая, што перада мною незвычайная дзяўчына, прыгожая дзіўнай, трохі вар'яцкай прыгажосцю. Ух! Якая гэта была прыгажосць!!! Напэўна, такімі былі нашы старажытныя «прарочыцы», якія біліся ў атрадах Мурашкі і Мужыцкага Хрыста. Гэта была прыгажосць незямная, замучаная з горкімі вуснамі і вялікімі чорнымі сухімі вачыма.

І раптам... усё гэта знікла. Перада мною зноў сядзеў той самы заморак. Толькі я ўжо ведаў, якая яна на самай справе.

— І ўсё ж мне вельмі, вельмі не хочацца паміраць. Я так хачу сонца, іншых, не бачаных мною лугоў, дзіцячага смеху. Я вельмі жадаю жыць, хоць і не маю на гэта права. Толькі гэта і дало мне магчымасць вытрымаць гэтыя два гады, хоць выйсця няма. Тут начныя крокі. Малы Чалавек, Блакітная Жанчына. Я ведаю, я памру. І ўсё гэта дзікае паляванне караля Стаха. Каб не яно — мы, магчыма, яшчэ жылі б. Яно заб'е нас.

І яна змоўкла, змоўкла на цэлую гадзіну, пакуль не прыйшоў час ісці па пакоях.

І калі да гэтага вечара я быў абыякавы да гэтай заморанай шляхцяначкі, дык пасля яе палкіх слоў зразумеў, што нейкім дзівам з яе атрымаўся сапраўдны чалавек. Гэтаму чалавеку трэба было абавязкова дапамагчы.

І, лежачы ў цемры з адкрытымі вачыма, я амаль да ранку думаў, што калі ўчора я вырашыў ехаць праз два дні з брыдкага месца і далей ад радавітай гаспадыні, дык зараз я застануся тут на тыдзень, два, тры, на месяц, каб разгадаць усе гэтыя таямніцы і вярнуць сапраўднаму чалавеку заслужаны ім спакой.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Першае, што я зрабіў наступнага дня, гэта ададраў дошкі ад дзвярэй таго адзінага закалочанага пакоя, у якім толькі і мог знікнуць Малы Чалавек, калі ён быў істотай з плоці і крыві. Цвікі заржавелі, філёнгі на дзвярах былі цэлымі, у пакоі ляжаў пласт пылу на тры пальцы. Там ніхто не мог схавацца, і я зноў закалаціў дзверы. Пасля я абследаваў усе пакоі ў другім крыле і пераканаўся, што схавацца там няма дзе. Над калідорам, дзе я чуў крокі, была гара, на якой таксама не было слядоў. Справа былі дзверы ў мой пакой і пакой гаспадыні, глухі мур і за ім парк.

Ад усяго гэтага ў мяне пачало круціцца ў галаве. Няўжо сапраўды існуе на свеце нешта звышразумовае? З гэтым я, загартаваны «афеіст», ніяк не мог згадзіцца.

Мне прыйшла ў галаву думка, што трэба пайсці ў бібліятэку і даведацца нарэшце, што гэта за дзікае паляванне, пра якое мне было нязручна распытваць гаспадыню. Дарэчы, я спадзяваўся адшукаць там які-небудзь стары план дома, каб пасля распачаць метадычныя пошукі. Я ведаў, што ў нашых старых палацах бывалі часам так званыя «слухаўкі», гэта значыць таемныя прабоі ў мурах. У іх звычайна былі замураваны «галаснікі», — асобай формы гарлачы, што ўзмацнялі гукі, — і гаспадар мог, знаходзячыся ў другім канцы палаца, добра чуць, што гавораць госці або слугі ў гэтым канцы.

Магчыма, і тут было нешта падобнае. Якая-небудзь ахмістрыня хадзіла ўначы на першым паверсе, а крокі яе былі чутны тут. Гэта была слабая надзея, але чаго не здараецца...

І я накіраваўся ў бібліятэку, якая размяшчалася ў бельэтажы, між першым і другім паверхамі, у асобным крыле.

Рэдка мне здаралася бачыць такія запушчаныя пакоі. Паркет выбіты, вялізныя вокны ў пыле, люстры на столі ў пыльных чахлах. Відаць, гэта была самая старажытная частка дома, «замчышча», вакол якога пасля ўзнік сам палац. Гэта прыйшло ў маю галаву, калі я пабачыў перад самай бібліятэкаю дзіўны пакой. І тут быў камін, але такі вялізны, што зубра можна было засмажыць, і нават гнёзды ад пожагаў яшчэ засталіся на яго сценах. Вокны маленькія, з каляровых шкельцаў, сцены груба атынкаваныя; на столі перакрыжоўваюцца цяжкія квадратныя бэлькі, укрытыя закуранай разьбою. А на сценах старая грубая зброя.

Словам, гэта быў пакой тых «добрых старых часоў», калі паны разам з хлопамі збіраліся ў адну залу і сядзелі зімовымі вечарамі пры вогнішчы. Пані і чалядніцы пралі, пан гуляў з хлопцамі ў «дваццаць пальцаў» або ў косці. Ах, ідылічныя старыя часы! І куды, нашто вы толькі зніклі? Праўда, пасля між адным і другім магло здарыцца такое, што — толькі паслухаеш — кроў ледзянее і жыць не хочацца, але ж гэта глупства, на гэта зважаюць толькі сентыментальныя хлюпікі.

Прабачце мне, шаноўныя чытачы, што я не магу прайсці міма ніводнага пакоя, каб не распавясціць пра яго. Што паробіш, на старасці год чалавек робіцца балбатлівы. І да таго ж вы такога ніколі не бачылі і не пабачыце. Магчыма, камусьці будзе цікава.

Бібліятэка была пад стыль перадпакоя. Высокія скляпенні, вокны на калонках, крэслы, абабітыя рудой ад старасці скурай, вялізныя шафы з моранага дубу і кнігі, кнігі, кнігі.

Ну, як прайсці паўз іх і не сказаць вам хаця пару слоў! У мяне сліна цячэ ад адных успамінаў. Даўнія пергаментныя кнігі, кнігі на першай порыстай паперы, кнігі на жоўтай ад старасці, гладкай ільснянай паперы. Кнігі XVII стагоддзя, якія адразу адгадаеш па гатунку скуры на вокладках. Рудая скура вокладак XVIII стагоддзя; драўляныя дошкі, абцягнутыя тонкай чорнай скурай, на вокладках кніг XVI стагоддзя.

І назвы, божа, якія назвы! «Катэхізіс роускі», «Сапраўдная хроніка Яна Збароўскага», «Варлам-індзеянін», «Прытча пра славія», старыя шастадневы, «Пчала працавітая», рукапісныя зборнікі старых легенд, «Gesta Romanorum» з двухсот апавяданннў, «Трышчан і Ізота», «Бава» ў беларускім варыянце, «Анафегмы», «Прамова Мялешкі» — гэта быў скарб. А больш новыя манерныя кнігі з доўгімі назвамі накшталт: «Плаценне амурнае, або тысяча спосабаў, якімі адарыраваны кавалер свой прадмет да згоды з амурнай пажадлівасцю сваёй прывесці можа». Але хопіць, іначай я рызыкую ніколі не скончыць свайго апісання.

Я так захапіўся кнігамі, што не адразу заўважыў у пакоі другога чалавека. А ён між тым узняўся з крэсла і чакальна глядзеў на мяне, трохі нахіліўшы галаву. На вуснах ягоных была прыемная ўсмешка, вялікія вочы ласкава ўсміхаліся. Адной рукою ён сарамліва прытрымліваў на жываце халат. Мы адрэкамендаваліся.

— Андрэй Беларэцкі.

— Ігнась Берман-Гацэвіч, упраўляючы, — сказаў ён ціхім ветлівым голасам.

Мы селі. Я глядзеў на гэтага чалавека, зацікаўлены. Што магло трымаць яго ў жахлівых Балотных Ялінах? Грошы? Іх не было. А ён, як быццам імкнучыся адказаць на мае думкі, сказаў:

— Бачыце, якія кнігі. Дзеля іх і трымаюся тут. Кнігалюб.

Кнігалюб быў невысокі, дрэнна збіты чалавек. Твар яго, мяккі і пяшчотны, занадта мяккі для мужчыны трыццаці пяці год, быў румяны нежывым румянцам, як на фарфоравай ляльцы. І наогул ён быў занадта «лялечны». Вялікія шэрыя вочы, доўгія вейкі, роўны прамы носік, тонкія, прыемна складзеныя вусны. Пастушок з табакеркі. І барада ў яго расла слабая, як у многіх беларусаў з нездаровых балотных мясцін.

— Вы, напэўна, з паўночнай Міншчыны? — спытаў я.

— О, пан не памыляецца, не, — сказаў ён. — Да гэтага жыў у губернскім горадзе. А зараз тут.

Калі б у мяне спыталі, якая рыса гэтага чалавека перш за ўсё кідаецца ў вочы, я б сказаў: «Старамодная галантнасць». Ён быў цудоўна выхаваны, гэты лялёныш, выхаваны ў духу правінцыяльнай шляхецкай гжэчнасці, якая смяшыць нас. Калі глядзіш на такіх людзей — так і здаецца, што ў іх сям’і дзеці, гуляючы ў схованкі, хаваліся пад шырачэзную, у шэсць полак, шарсцяную сукню бабулі, якая — бабуля, а не сукня — вязала панчохі або цыравала новыя шкарпэткі, каб не так хутка прадзёрліся.

І аднак гэта ўражанне хутка рассейвалася. Нешта пурытанскі-чапурыстае, жарсткавае было ў гэтых вачах, у падціснутых вуснах.

Але таго, што дадзена, не адбярэш. Гэта быў сапраўды абазнаны ў кнігах чалавек. Праз дваццаць хвілін размовы я зразумеў гэта, мала таго, пераканаўся, што гэты самавук ведае старажытную літаратуру не горш, як я, чалавек з універсітэцкай адукацыяй.

Таму я навёў размову на дзікае паляванне. У Бермана вусны склаліся, як курыная дупка.

— Чаму пан цікавіцца гэтым?

— Я этнограф.

— О, тады вядома, вядома. Але мая сціплая асоба не можа расказаць гэтага так, як трэба для высокага госця. Мы лепей дамо слова пажоўклым старонкам кніг. Пан разбіраецца ў літаратурнай мове XVII стагоддзя?

Ён адчыніў адну з шафаў артыстычным рухам (пальцы ў яго былі тонкія і ў два разы даўжэй за нармальныя), узняўшы воблачка пылу.

І вось на маіх каленях ляжаў вялізны том, спісаны каліграфічна дробнымі, рудымі ад старасці літарамі.

«Року цісеча шэсць сот першага не было спакою на гэтай зямлі. Толькі што копны суддзя Балвановіч справу разгледзеў пра забіццё і атрутны морд праз хлопаў пана літасцівага іхняга Янука Бабаеда. І ў іншых мясцінах такаждзе спакою не было. Дубіна да места Віцебскага падыходзіў, пад Крычавам і Мсціславам і ў нас хлопы морд, і забойства, і шкоду чынілі. Чатырнаццаць паноў забілі. Іж без бытнасці нашае, казалі, яшчэ траіх білі так, што ад таго біцця не ведалі, яко жывы будуць».

Але вам, напэўна, цяжка чытаць такое. Таму я проста перакажу вам змест гэтай старой легенды.

Справа была ў тым, што ў тыя часы бунтавалі не толькі хлопы. Бунтавала і старажытная беларуская шляхта, пакрыўджаная новымі парадкамі. У ваколіцах Балотных Ялін было асабліва неспакойна. Тут, у Хаданоўскай пушчы, сядзеў кульгавы бацька Яраш Штамет, які падтрымліваў вельмі радавітага беларускага пана Стаха Горскага, што быў у сваяцтве праз продкаў колішняму князю віленскаму Аляксандру. Гэты малады і славалюбівы чалавек паставіў перад сабою мэту: дабіцца самастойнасці. Для гэтага былі ўсе перадумовы: каралеўская кроў, якая цякла ў яго жылах (тады на гэта вельмі зважалі), падтрымка навакольнага панства, вялізныя вайсковыя сілы, падтрымка праваслаўных і «лясных братоў», талент воіна, а галоўнае — жахлівая галеча, цалкам безнадзейнае існаванне сялян. Маладога кіраўніка па ўсім наваколлі называлі ўжо, не саромячыся, каралём.

Але ён пакуль што збіраў сілы і дыпламатычна туманіў вочы прадстаўнікам дзяржаўнай улады. Сілы яго, як казаў рукапіс, дасягалі ўжо васьмі тысяч коннікаў, якія часткова хаваліся ў пушчы, часткова знаходзіліся пры яго палацы.

Нарэшце глыбокай восенню 1602 года ўсё было гатова. Па навакольных цэрквах сяляне ўзялі прысягу каралю Стаху, і ён нечаканым ударам авалодаў моцным замкам у сучасным павятовым гарадку. Чакалі толькі Яраша Штамета з хлопцамі, а паколькі войска было моцным, а кароль рашучым — цалкам магло здарыцца, што ў гісторыю Беларусі была б запісана новая яскравая старонка.

Не выказваў асаблівага захаплення каралём Стахам толькі Раман Яноўскі, моцны магнат, уладар Балотных Ялін. Кароль

падазраваў, што Раман уступіў у заганныя зносіны з гетманам літоўскім і нават рымскай царквою. Ён папярэдзіў Яноўскага, што гэта небяспечна для яго скончыцца. Яноўскі запэўніў яго ў сваёй павазе і адданасці, і кароль Стах паверыў, нават аблабызаўся з Раманам, нават змяшаў у кубку сваю і яго кроў, якую пасля выпілі абодва дагаворныя бакі. Стах нават даслаў Раману срэбную пасуду.

Невядома, што прымусіла Рамана рашыцца на наступнае. Ці славалюбства, ці вераломства, ці, можа, яшчэ што. Ён жа быў сябрам законнаму каралю. Ён запрасіў караля Стаха на паляванне, і той выехаў да яго са сваім невялікім паляўнічым атрадам чалавек у дваццаць. Штамет павінен быў з'явіцца ў замак назаўтра, часу было досыць. Кароль вырашыў пабавіцца, тым больш што прадмет палявання быў вельмі спакуслівы: балотная рысь, істота, якая нагадвала памерамі і афарбоўкай тыгра і ўжо тады была рэдкай у нашых пушчах, а пасля, год праз сотню, зусім знікла, і пра яе нават забылі.

«І чорную здраду задумаў ён, пан Раман. Хоць і быў кароль Стах мужыцкім каралём, хоць і ўзняўся супраць божых улад, але хіба не благаславіў бы Бог і яго ўладу, каб ён захапіў трон дзедзіч сваіх?

І прыехаў кароль Стах у Балотныя Яліны, і тут яму палац агнямі ўпрыгожылі і пір зрабілі. І ён піў і пацяшаўся з панам Раманам і іншымі панамі, а паноў тых была, можа, сотня і яшчэ тры дзесяткі. А ўначы паехалі яны на паляванне, бо ночы стаялі светлыя, а ў такія ночы балотная рысь пакідае сітнягі, і ходзіць на нашай раўніне ад Балотных Ялін аж да ўрочышчаў Курганы і Пнюхі, і ловіць не толькі худобу, але і самотных людзей, — таму ж і ненавідзяць яе усе, таму і знішчаюць, што яна — людажэр: воўк праміне, і лясная рысь часцей за ўсё праміне, а балотная не праміне.

І госці ўсе паехалі, а Раман, з паляваннем караля Стаха, і старым сваім верным даездчыкам Аляхно Варонай, і дробным шляхціцам Дубатоўкам паехалі на балотную рысь. А ноч такая была, што ледзь месяц свяціў, і смутна ўсё было, і скакалі па балотах, нягледзячы на восень, балотныя сінія агні.

А агні чалавечыя згаслі ў хатах, і, можа, нават Бог, па нявызначанай мудрасці сваёй, пагасіў агні і ў некаторых душах чалавечых. І адбіліся ад загоншчыкаў сваіх пан Раман і кароль Стах.

Не паспелі і агледзецца яны, як скокнуў з купіны лемпарт балотны, збіў ударам сваіх грудзей у грудзі каня Рамана і выдраў у каня таго кавалак жывата з кішкамі разам, бо такі ўжо

звычай балотнай рысі. І ўпаў пан Раман, і адчуў жах смяротны, бо звер палаючымі вачыма глядзеў у твар яго, і быў ён, гэты звер, шырэй яго і доле.

Але тут кароль Стах скочыў з свайго каня драпятага проста на спіну зверу, схапіў яго за вуха, аддзёр пысу з ляжачага і кордам, кароткім мячом, паласнуў яго па глотцы. Лемпарт адкінуў яго ўдарам лапы, і Стах адляцеў, а звер насеў на яго, паміраючы, але тут і пан Раман ускочыў і разбіў чэрап страшыдла сваім баявым чаканам. Так і ляжалі яны ўтрох; і пан Раман дапамог каралю ўстаць, пацалаваў у вусны і сказаў:

— Квіты мы з табою, браце. Ты мне жыццё выратаваў, а я тваю душу выратаваў шчыра.

А пасля напаткалі іх паляўнічыя, і вырашылі яны ноч правесці разам у лесе і яшчэ піць і гуляць, бо яшчэ не досыць было для іхняй душы, і сэрца іх пасля бойкі з лемпартам прасіла віна. І расклалі яны вогнішча ў лесе запаветным, і пачалі піць. А цемра стала такая, калі знік месяц, што, адыдзі далей ад вогнішча,і не пабачыш пальца на руцэ. Узялі яны бочкі віна, што прывёз Раман, і пілі, забаўляліся. І ніхто не ведаў, што віно тое было атручанае, толькі Раман, Варона і Дубатоўк загадзя сябе да тае атруты прывучылі.

І ўсе пілі, толькі кароль Стах піў мала.

Пачакай, Раман. Што ты робіш, Раман? За зямлю сваю хацеў косткі свае скласці гэты чалавек. Што ж ты божае наканаванне сабою замяніць хочаш? Панства свайго табе шкада, а ці падумаў ты, што топчуць волю народа твайго, мову і веру яго, душу яго? Не думаеш ты пра гэта, зайздрасць і славалюбства ў сэрцы тваім.

І так яны пілі, пакуль не сталі ў людзей з палявання караля Стаха закрывацца вочы. Але кароль усё казаў, якімі шчаслівымі ён зробіць усіх, калі сядзе на трон дзедзіч сваіх.

І тады пан Раман узяў свой корд, узяў яго за рукаяць аберуч і, падышоўшы да караля Стаха са спіны, узнёс корд над яго галавою і пасля апусціў гэты корд вастрыём на патыліцу караля Стаха. Той клюнуў носам, пасля ўзняў галаву, паглядзеў у вочы Раману, і твар яго, заліты крывёю, быў як вопль жахлівая да Бога аб помсце.

— Што ж ты зрабіў! Ты ж пабрацім мой, браце.

А пасля, намагаючыся ўстаць, крыкнуў:

— Многіх людзей пазбавіў ты зараз шчасця. Нашто прадаў ты свой народ, адступнік?

Раман другі раз ударыў яго мячом, і той упаў, але дар слова не кінуў яшчэ ягоных вуснаў:

— Зараз трымайся, здраднік. Праклён мой на цябе і на твой чорны род! Хай стане камянём хлеб ля вуснаў тваіх, хай бясплоднымі будуць жонкі вашы, а мужы захлынуцца ўласнай крывёй!

І пасля сказаў ён жаласным ад слабасці голасам, але жорстка:

— Прадаў ты свой край, былы пабрацім. Але мы не памром. Мы яшчэ з'явімся да цябе, і да дзяцей тваіх, і да нашчадкаў тваіх, я і маё паляванне. Да дваццатага калена будзем мы помсціць бязлітасна, і не схаваецеся вы ад нас. Чуеш, да дваццатага калена! І кожнае з кален тваіх будзе дрыжаць больш балюча і жахліва, ніж я зараз, ля ног тваіх.

І ўраніў галаву. А яго аслупянелае паляванне нарэшце схамянулася і схапілася за нажы. І яны біліся дваццаць супраць траіх, і бойка была жахлівай. Але трое адолелі дваццацёх і забілі ўсіх.

А пасля яны прытарочылі трупы і параненых, якія жаласна стагналі, да ўласных коней і насцябалі іх, і коні памчаліся якраз да Волатавай прорвы, не разбіраючы дарогі.

І ніхто не заўважыў, што ў целе караля Стаха яшчэ была іскра жыцця. Коні ляцелі ў ноч, і слабы месяц асвятляў іх доўгія грывы, і недзе наперадзе бегалі па купінах сінія агні.

І з гэтага жахлівага статка даносіўся голас караля Стаха:

— Д'яблу аддаю душу сваю, бо не дапамагае Бог. Трымайся, Раман, мы прыскачам да цябе конныя! Дрыжы, Раман, калаціся, адвечны вораг! Мы прыйдзем! Мы адпомсцім!

І ніхто не ведаў, што праўда была ў гэтых словах, што збраяй д'ябла, праўды, помсты і кары з'явіўся кароль Стах. Не за тое помсціў ён, што забіў яго Раман. Забойства ніколі не атрымае такой кары, калі гэта не забойства пабраціма.

Нядоўга яны зажыліся на свеце. Даездчык Варона першы пабачыў цені Стаха і яго прыспешнікаў праз два тыдні. Не разбіраючы дарогі, імчалася дзікае паляванне па самай жахлівай дрыгве, па лесе, па вадзе межыток. Не бразгалі цуглі, не звінелі мячы. На конях сядзелі маўклівыя коннікі, і балотныя агні каціліся наперадзе дзікага палявання караля Стаха якраз праз дрыгву.

Аляхно з'ехаў з розуму. Загінуў пасля таго і Дубатоўк. Гетман літоўскі рассеяў мужычыя палкі, якія засталіся без кіраўніка, у бойцы загінуў Яраш Штамет. А Раман Яноўскі быў жывы і смяяўся.

І аднойчы ён быў на паляванні і вяртаўся адзін праз верасовыя пусткі дадому. Месяц слаба свяціў на верас. І раптам забегалі недзе ззаду сінія балотныя агні, і даляцеў з таго боку спеў рагоў і ледзь чутны стук капытоў. А пасля з'явіліся цьмяныя цені коннікаў. Грывы коней веялі па ветры, беглі перад дзікім паляваннем гепарды, спушчаныя са шворак. І бязгучна па верасе і дрыгве ляцелі яны. І маўчалі коннікі, а гукі палявання далятвалі аднекуль з другога боку. І перад усімі скакаў, асветлены месяцам, туманны і вялізны кароль Стах. І гарэлі вочы коней, і людзей, і гепардаў.

І Раман пабег, а яны бязгучна і хутка скакалі за ім, і коні часам перабіралі нагамі ў паветры, і спяваў дзікі верас, і месяц раўнадушна глядзеў на пагоню.

І Раман тройчы крыкнуў: «Дзікае паляванне!..» такім голасам, што пачулі нават людзі ў навакольных хатах.

А пасля дзікае паляванне нагнала яго, і сэрца яго не вытрымала. Так загінуў Раман.

Многія з таго часу бачылі на тарфяных раўнінах дзікае паляванне Стаха. І хоць карала яно не ўсіх, але мала ў каго не разрывалася сэрца, калі бачыў ён на балотах змрочныя цені коннікаў.

Так загінулі сын Рамана і сын яго сына, пасля смерці якога я і пішу пра гэта на навучэнне і жах яго нашчадкаў, якія, можа, і змогуць добрымі справамі пазбавіць сілы сівы даўні праклён.

Сцеражыцеся дрыгвы, людзі, сцеражыцеся балот уначы, калі сінія агні збіраюцца і пачынаюць скокі на самых гіблых мясцінах. Там часта ўначы пабачыце вы дваццаць коннікаў на вараных дрыкгантах.

І галоўны коннік імчыць наперадзе ўсіх. Капялюх з заломленым полем насунуты на яго вочы, ногі прывязаны да сядла. Не бразгочуць мячы, не ржуць маўклівыя коні. Толькі часам аднекуль здалёк даносіцца спеў рога. Развяваюцца грывы, балотныя агні ззяюць пад нагамі коней.

Па верасе, па гіблай дрыгве скача дзікае паляванне і будзе скакаць да тых часоў, пакуль існуе свет. Яно — наша зямля, нелюбімая намі і страшная. Злітуйся з нас, Божа!»

Я адарваўся ад паперы і скалануў галавою, жадаючы пазбыцца дзікіх вобразаў. Берман чакальна глядзеў на мяне.

— Ну, што, пан, прашу прабачэння, думае пра гэта?

— Якая жахлівая, прыгожая і фантастычная легенда, — шчыра ўсклікнуў я. — Так і просіцца пад пэндзаль вялікага мастака. І што толькі можна прыдумаць!

— О, як бы гэта, прабачце, была толькі легенда... Вы ведаеце, я вальнадумны чалавек, я атэіст, як кожны чалавек, які жыве душою ў нашым высокаадукаваным веку. Але ў дзікае паляванне караля Стаха я веру. Ды і дзіўна было б не верыць. Ад яго загінулі нашчадкі Рамана і амаль вымер род Яноўскіх.

— Паслухайце, — сказаў я. — Я ўжо гаварыў гэта аднаму чалавеку, але скажу і вам. Я магу захапляцца старымі легендамі, але што мяне прымусіць верыць ім? Нашчадкі Рамана загінулі «ад палявання» дзвесце год таму. У тыя часы магілёўскі летапіс сур’ёзна сцвярджаў, што перад вайною на магілёўскіх мурах, куды і чалавек не можа ўзлезці, з’яўляліся крывавыя адбіткі далоняў.

— Так, я памятаю гэта, — адказаў кнігалюб. — Можна было б прывесці і далейшыя прыкметы, але яны... м-м-м... трошкі фрывольныя. Нашы продкі былі такія грубыя людзі.

— Ну, вось бачыце, — сказаў я з дакорам. — А вы верыце ў паляванне...

Лялечны чалавек, як мне здалося, вагаўся.

— Ну, а што б вы сказалі, шаноўны, калі б я заявіў, што бачыў яго?

— Байкі, — жорстка адсек я. — І не сорамна вам пужаць такімі словамі, такімі паведамленнямі жанчын?

— Гэта не байкі, — паружавеў Берман. — Гэта сур’ёзна. Не ўсім быць героямі, і я, шчыра кажу, баюся. Я нават не ем зараз з гаспадыняю за адным сталом, бо на такіх таксама ўпадзе гнеў караля Стаха. Ды памятаеце, у рукапісах...

— І як вы бачылі дзікае паляванне?

— Так, як і тут, у кнізе. Я быў у Дубатоўка, суседа Яноўскіх, — між іншым, нашчадка таго Дубатоўка. І вяртаўся ад яго. Я ішоў верасавай пусткаю, якраз ля вялізнай купы каменняў. І ноч была светлаватая. Я не пачуў, як яны з’явіліся. Яны імчалі паўз мяне якраз па дрыгве. О, гэта было жудасна!

Нешта каламутнае плесканулася ў яго вачах, і мне падумалася, што ў гэтым доме, ды, напэўна, і па ўсёй раўніне, дрэннае робіцца з мазгамі людзей.

«Ці ёсць тут хоць адзін нармальны? Ці, можа, усе вар’яты?» — падумаў я.

— Галоўнае, яны імчалі амаль бязгучна. Коні, ведаеце, такой старажытнай пароды, якую зараз з агнём не знойдзеш: сапраўдныя палескія дрыкганты з падрэзанымі жыламі ля хвастоў. Грывы веюць па ветры, плашчы-велеісы...

— Велеісы апраналіся толькі на панцыр, — непачціва перабіў я. — А які панцыр можа быць на паляванні?

— Я ведаю, — проста і вельмі шчыра адказаў лялечны чалавек, паставіўшы на мяне вялікія, рахманыя, як у аленя, вочы. — Паверце, каб я хлусіў, я б мог прыдумаць нешта больш спрытнае.

— Тады прабачце, — зніякавеў я.

— Велеісы развяваюцца за спінамі людзей. Дзіды тырчаць у паветры. І мчаць, мчаць яны, як навала.

— Яшчэ раз прабачце, шаноўны пане. А скажыце, можа, на вячэры ў суседа частавалі медам?

— Я не п’ю, — з годнасцю падціснуў губы Берман-Ганцэвіч. — Я кажу вам, яны не пакідалі нават слядоў за сабою, і туман хаваў ногі коней. І твар караля. Ён быў зусім спакойны, безжыццёва-змрочны, сухі і зусім-зусім шэры, як туман.

Самае галоўнае, яны прыязджалі да палаца Яноўскіх у тую ноч. Мне расказалі, калі прыйшоў, што апоўнач загрымела кальцо на дзвярах і голас крыкнуў: «Раман у дваццатым калене, выходзь!»

— Чаму Раман?

— Таму што Надзея — апошні нашчадак Рамана, якраз дваццатае яго калена.

— Не веру, — зноў сказаў я, змагаючыся да канца, бо твар у Бермана быў сапраўды белы. — Давайце радасловец Яноўскіх.

Берман з гатоўнасцю выцягнуў нейкую кнігу і разгарнуў пергаментную ўкладку з «дрэвам годнасці». І сапраўды, дзевятнаццаць пакаленняў ішло з Рамана Старога. Ніжэй дзевятнаццатага калена, зноў Рамана, быў надпіс, зроблены дробным почыркам: «26 кастрычніка 1870 года нарадзілася дачка мая, Надзея. Апошняе, дваццатае, наша калена, адзінае маё дзіця. Жорсткі лёс, здымі з нас свой праклён, няхай загінуць толькі дзевятнаццаць пакаленняў. Злітуйся з гэтага маленькага камячка. Вазьмі мяне, калі гэта патрэбна, але няхай выжыве яна. Яна ж апошняя з роду Яноўскіх. Упаваю на цябе».

— Гэта бацька яе пісаў? — спытаў я, расчулены, і падумаў, што мне было ў год нараджэння гэтай дзяўчынкі восем год.

— Так, ён. Бачыце, ён прадчуваў. Яго лёс — доказ праўдзівасці легенды пра караля Стаха. Ён ведаў яе, яны ўсе ведалі, бо праклён вісеў над нашчадкамі гэтых нешчаслівцаў, як сякера. Той звар’яцее, таго заб’юць за грошы браты, той загіне ў час палявання. Ён ведаў і рыхтаваўся: забяспечыў дзяўчыне хоць мізэрны, але даход, знайшоў загадзя апекуноў, склаў запавет

(дарэчы, я баюся гэтай восені, многія з Яноўскіх не дажывалі да паўналецця, а праз два дні будзе яе дзень нараджэння, і ўжо двойчы з'яўлялася дзікае паляванне пад мурамі палаца). Раман ніколі не выходзіў уначы з палаца. Але два гады таму Надзею Раманаўну ўзяла ў госці яе далёкая сваячка па маці, жонка шляхціца Кульшы. Дзяўчынка затрымалася ў яе дапазна. Раман быў такі чалавек, што вельмі нерваваўся, калі яе не было дома. А дом Кульшаў быў ля самай Волатавай прорвы. Ён сеў на каня і паехаў. Дзяўчынка вярнулася дадому з Рыгорам, вартаўніком Кульшы. А пана няма. Паехалі шукаць. А была восень, час, калі паляванне караля Стаха з'яўляецца асабліва часта. Мы ехалі па слядах панскага каня, я і Рыгор. Я баяўся, а Рыгор — ані кроплі. Сляды вялі спачатку па дарозе, пасля збочылі і пачалі віляць па лузе. І збоку Рыгор адшукаў другія сляды.

Ён быў добры паляўнічы, гэты Рыгор. Які жах, пане! Сляды былі ад двух дзесяткаў коней. І падковы старыя, з трызубцам, падобным на габлі. Такіх даўно не куюць у нас. І часам гэтыя сляды знікалі і з'яўляліся праз дваццаць, праз трыццаць крокаў, быццам коні ляцелі ў паветры. Пасля мы адшукалі клак ад панскай стрэльбы, я пазнаў бы яго з сотні. Рыгор прыпомніў, што, калі ён вёз дзяўчо дахаты, нехта страляў ля прорвы. Мы пагналі коней хутчэй, бо мінула гадзін пяць, ноч ужо цямнела перад світаннем. Хутка мы пачулі — недзе гігатаў конь. Мы выехалі на вялікую галявіну, якая зарасла верасам. Тут Рыгор адзначыў, што коні дзікага палявання развярнуліся ў лаву і пайшлі намётам. А конь гаспадара некалькі разоў спатыкнуўся, відаць, стомлены. — Голас Бермана раптам адзічэў і перасекся: — І ў канцы галявіны, якраз там, дзе пачыналася прорва, мы пабачылі яшчэ жывога каня, які ляжаў са зламанай нагою і крычаў так жахліва, як чалавек. Рыгор сказаў, што пан павінен быць недзе тут. Мы знайшлі яго сляды, якія ішлі ад дрыгвы. Я рушыў па іх, але яны дайшлі да каня, амаль да каня, і зніклі. Тут на вільготнай глебе былі ўмяціны, быццам чалавек упаў. І далей нічога. Галоўнае тое, што слядоў побач не было. Паляванне збочыла сажняў за дзесяць ад таго месца. Альбо Раман узнёсся на неба, альбо коні караля Стаха дамчалі да яго ў паветры і захапілі з сабою. Мы пачакалі з паўгадзіны, і, калі пачаўся сапраўдны змрок, Рыгор хлопнуў сябе па галаве і загадаў мнё надраць бяросты. Я, шляхціц, падпарадкаваўся гэтаму хлопу: ён быў тады ўладны, як магнат. Калі мы запалілі бяросту — ён схіліўся над слядамі. «Ну, што скажаш, пане?» — сказаў ён з выглядам перавагі. «Я не ведаю, нашто яму спатрэ-

білася ісці ад дрыгвы, не ведаю, як ён туды трапіў», — адказаў я ніякава. Тады гэты хам разрагатаўся... «Ён і не думаў ісці ад дрыгвы. Ён, васпане, ішоў у дрыгву. І ногі ў яго зусім не былі выкручаны задам наперад, як ты, магчыма, думаеш. Ён адступаў, адступаў да дрыгвы ад чагосьці жахлівага. Бачыш, вось тут ён пляснуўся аб зямлю. Конь зламаў нагу, і ён пераляцеў цераз галаву. Ён, калі хочаш ведаць, падкруціў нагу: бачыш, крок правай нагі большы і глыбокі, значыць, ён падкруціў левую нагу. Ён адступаў да дрыгвы задам. Хадзем туды, там мы пабачым, напэўна, і канец». І сапраўды, мы пабачылі і канец. Там, дзе быў рэзкі абрыў у дрыгву, Рыгор пасвяціў бяростаю і сказаў: «Бачыш, тут ён асклізнуўся». Я трымаў яго за пас, а ён палез з гэтага абрыўчыка і паклікаў мяне: «Глядзі». І тут я пабачыў галаву Рамана, якая тырчала з рудой маслянай паверхні прорвы, і скручаную руку, якой той паспеў ухапіцца за карнявішча ад нейкага спарахнелага дрэва. Мы выцягнулі яго з вялікімі цяжкасцямі, выцягнулі мёртвага: у гэтых прорвах часта б'юць падводныя крыніцы, і ён проста замёрз. Ды яшчэ да таго ж і сэрца не вытрымала, як казаў пасля лекар. Божа, на твары ягоным быў такі жах, які нельга перажыць і застацца жывым! Пасля дзяўчына ледзь не звар'яцела, калі пабачыла. На руцэ нейкі ўкус, каўнер падраны. А тады мы прытарочылі труп да сядла і паехалі. І вось не паспелі мы ад'ехаць і трыццаці крокаў, як пабачылі: праз прасеку плылі смутныя конныя цені. Дзіўна было тое, што зусім не грукацелі капыты. А потым заспяваў рог недзе зусім у другім баку і так прыглушана, быццам праз вату. Мы ехалі з трупам прыгнечаныя, коні нерваваліся, яны чуюць мёртвае цела. І ноч была, ох, якая ноч! І недзе спяваў рог дзікага палявання. А зараз зноў... Надыходзіць час помсты.

Ён змоўк, уткнуўшы твар у далоні, пальцы на якіх, белыя, артыстычныя, былі даўжэй за пальцы звычайнага чалавека ў два разы. Я маўчаў, і раптам мяне прарвала:

— Як вам усё ж не сорамна. Мужчыны, дарослыя, вялікія мужчыны! І не можаце абараніць. Ды няхай бы гэта быў нават сам д'ябал — біцеся, чорт вас падзяры! І чаму гэта паляванне з'яўляецца тут толькі часам? Чаму пры мне яшчэ не было?

— Нават калі яны з'яўляюцца часта, яны не прыходзяць у ночы на святыя дні, а таксама ў сераду і пятніцу.

— Гм, дзіўныя здані... А ў нядзелю? — У мяне ўсё больш варушылася на дне душы жаданне даць па гэтай фарфоравай, вялай, бязвольнай храпе, бо такія не здатныя ні на добры ўчынак, ні на крымінал — не людзі, а макрыца-трава наградзе. —

А ў піліпаўку, на пятроўкі яны з'яўляюцца, калі яны такія ўжо святыя прывіды?

— На нядзелю бог даў ім дазвол, бо, як памятаеце, Стах быў забіты таксама ў нядзелю, — цалкам сур'ёзна адказаў ён.

— Дык што ж ён тады такое, ваш Бог? — грымнуў я. — Ён што, стакнуўся з д'яблам? Ён што, мярзотнік, за кроў аднаго бярэ душу ў нявінных дзяўчат, у якіх крыві таго Рамана, можа, адна кропля!

Ён маўчаў.

— Пяцьсот дваццаць чатыры тысячы дзвесце восемдзесят восьмая частка крыві Рамана ў яе жылах, — падумаўшы, імгненна падлічыў я. — На што ён тады здатны, гэты ваш Бог?

— Не кашчуннічайце, — спуджана войкнуў ён. — За каго вы заступаецеся?

— Занадта многа чартаўшчыны нават для такога дома, — не супакойваўся я. — Малы Чалавек, Блакітная Жанчына, а тут яшчэ гэта дзікае паляванне караля Стаха. Аблога і знутры і звонку, каб ён згарэў, гэты дом!..

— Мгм, шчыра кажу вам, шаноўны пане, што я не веру ў Чалавека і Жанчыну.

— Іх бачылі ўсе. І вы таксама.

— Я не бачыў, я чуў. А прырода гукаў невядома нам. Ды і да таго я знерваваны чалавек.

— Бачыла гаспадыня.

Вочы Бермана сціпла апусціліся. Ён павагаўся і сказаў:

— Я не здатны ёй ва ўсім верыць. Яна... ну, словам, мне здаецца, яе бедная галоўка не вытрымала гэтых жахаў. Яна... м-м... своеасаблівы ў псіхічных адносінах чалавек, каб не сказаць больш.

Я таксама думаў пра гэта, таму змаўчаў.

— Але я таксама чуў гэта.

— Дзікунства. Гэта проста акустычны падман. Галюцынацыя, шаноўны пане.

Мы пасядзелі моўчкі, я адчуваў, што сам пачынаю вар'яцець ад мілых прыгод, якія тут адбываліся.

У тую ноч мне прыснілася: бязгучна скача дзікае паляванне караля Стаха. Бязгучна ржуць коні, бязгучна апускаюцца капыты, хістаюцца выразныя павады. Халодны верас пад іх нагамі; імчаць шэрыя, нахіленыя наперад цені, і балотныя агні гараць на лбах коней. А над імі, у небе, гарыць самотная, вострая, як іголка, зорка.

Калі я прачынаўся — я чуў у калідоры крокі Малога Чалавека і часам яго ціхі жаласны стогн. А пасля зноў чорная бездань цяжкага сну, і зноў скача па верасе і дрыгве імклівае, як страла, паляванне.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

Жыхары Волатавай прорвы, відаць, не вельмі любілі ездзіць на вялікія балы. Я мяркую так таму, што не часта бывае ў такім закутку паўналецце адзінай наследніцы маярату, і ўсё ж праз два дні ў Балотныя Яліны з'ехалася ніяк не больш чатырох дзесяткаў чалавек. Запрасілі і мяне, хоць я згадзіўся з вялікай неахвотай: я не любіў правінцыяльнай шляхты і да таго ж амаль нічога не зрабіў за гэтыя дні. Не зрабіў амаль ніякіх новых запісаў, а галоўнае, ані на крок не рушыў наперад, каб разгадаць таямніцу гэтага чортавага логава. На старым плане XVII стагоддзя ніякіх слухавак не было, а крокі і стогны гучалі кожную ноч на зайздрасць рэгулярна.

Я ламаў галаву над усёй гэтай чартаўшчынай, але нічога не мог прыдумаць.

Дык вось, упершыню, можа, за апошнія дзесяць год палац сустракаў гасцей. Запалілі плошкі над уваходам, знялі чахлы з люстраў, вартаўнік на гэты раз ператварыўся ў швейцара, узялі з навакольных хутароў яшчэ тры служанкі. Палац нагадваў нарумяненую бабулю, якая апошні раз вырашыла пайсці на баль, успамянуць маладосць і пасля легчы ў магілу.

Не ведаю, ці трэба апісваць гэты шляхецкі з'езд? Добрае і цалкам правільнае апісанне чагосьці падобнага вы знойдзеце ў Хвелькі з Рукшэніц, незаконна забытага нашага паэта. Божа, якія гэта былі вазкі! Старыя, з пакарабачанай скурай, зусім без рысор, з коламі на сажань вышынёю, але абавязкова з лёкаем на запятках (у «лёкаяў» былі чорныя ад зямлі рукі). Якія гэта былі коні! Расінант здаўся б побач з імі Буцэфалам. Хударлявыя, з ніжняй губой, адвіслай, як чапяла, са з'едзенымі зубамі. Вупраж амаль з вяровак, затое там-сям на ёй блішчаць залатыя бляшкі, якія перакачавалі са збруі «залатога веку».

«Што гэта робіцца на свеце, людзі добрыя? Калісьці адзін пан ехаў на шасці конях, а зараз шэсць паноў на адным кані».

Увесь працэс панскага разарэння ў адной гэтай іранічнай народнай прымаўцы.

Берман-Гацэвіч стаяў за маёй спіною і адпускаў іранічна-далікатныя заўвагі наконт тых, хто прыбываў.

— Гляньце, якая свірэпа (свірэпаю ў беларускай мове XVI стагоддзя называлі клячу). На ёй, напэўна, хтосьці з Сасаў ездзіў: заслужаны баявы конь... А гэта паненка, бачыце, як апранулася: проста як фэст на святога Антонія. А вось, бачыце, цыганы.

«Цыганамі»ён назваў сапраўды дзіўную кампанію. На звычайным возе пад’ехаў да пад’езда самы дзіўны хаўрус, які мне даводзілася бачыць. Тут былі і паны, і паненкі, чалавек дзевяць, апранутыя страката і бедна. І сядзелі яны на возе густа, як цыганы. І полаг быў на чатырох палках, як у цыган. Не хапала толькі сабакі, які б бег пад коламі. Гэта быў заняпалы род Грыцкевічавых, якія качавалі з аднаго балю на другі і так, галоўным чынам, харчаваліся. Яны былі далёкімі сваякамі Яноўскіх. І гэта былі нашчадкі «барвянага ўладара»! Божа, за што караеш!!!

Пасля прыехала нейкая пажылая дама ў вельмі багатым колішнім аксамітным уборы, зараз даволі паношаным, у суправаджэнні худога, як бізун, маладога чалавека з яўна халуйскім тварам. Бізун пяшчотна прыціскаў яе локцік.

Яна надушылася такой дрэннай парфумай, што Берман пачаў чхаць, калі яна ўвайшла ў залу. А мне здалося, што замест яе нехта ўнёс у пакой вялікую торбу з удодамі і пакінуў яе тут на радасць акружаючым. Размаўляла дама з самым сапраўдным французскім пранонсам, які, як вядома, захаваўся на зямлі толькі ў дзвюх мясцінах: у салонах Парыжа і ў засценку Кабыляны пад Оршай.

І другія асобы былі дзіўныя. Патрапаныя ці занадта гладкія твары, прагныя вочы, вочы замучаныя, вочы благальныя, вочы з вар’яцінкай. У аднаго франта вочы былі вялізныя і пукатыя, як у саламандры падземных азёр. Я глядзеў на цырымонію знаёмства (некаторыя з гэтых блізкіх суседзяў ніколі не бачыліся і, напэўна, не пабачацца больш — стары палац, можа, упершыню за 18 год бачыў такі наплыў гасцей). З-за дзвярэй гукі дрэнна даляталі да мяне, бо ў зале ўжо дудзела аркестра з васьмі заслужаных інвалідаў Палтаўскай бітвы. Я бачыў замасленыя твары, якія галантна ўсміхаліся, бачыў вусны, якія цягнуліся да рукі гаспадыні. Калі яны нахіляліся, святло падала зверху, і насы здаваліся надзіва доўгімі, а раты праваленымі. Яны бязгучна дрыгалі нагамі, схіляліся, бязгучна гаварылі, і ў

іх вырасталі насы, пасля ўсміхаліся і адплывалі далей, а на іх месца плылі ўсё новыя, новыя.

Гэта было — як у жахлівым сне.

Яны выскаляліся, як выхадцы з магілы, цалавалі руку (і мне здавалася, што яны смокчуць з яе кроў), бязгучна адплывалі далей. А яна, такая чыстая ў сваім белым адкрытым плацці, толькі чырванела часам спіною, калі занадта палка прыпадаў да яе рукі які-небудзь наваяўлены донжуан у абцягненых панталонах. Гэтыя пацалункі, як мне здавалася, пэцкалі яе руку чымсьці ліпучым і нячыстым.

І толькі тут я зразумеў, якая яна, уласна кажучы, самотная не толькі ў сваім доме, але і сярод гэтай хеўры.

«Што гэта мне нагадвае? — падумаў я. — Ага, пушкінская Тацяна сярод пачвар у шалашы. Абклалі небараку, як лань падчас палявання».

Тут амаль што не было чыстых позіркаў, але затое якія былі прозвішчы! Мне ўсё здавалася, што я сяджу ў архівах і чытаю старажытныя акты якога-небудзь Пінскага копнага суда.

— Пан Сава Матфеевіч Стахоўскі з сынамі, — агалошваў лёкай.

— Пані Агата Юр’еўна Фалендыш-Хобалева з мужам і сябрам дома.

— Пан Якуб Барбарэ-Гарабурда.

— Пан Мацей Мустафавіч Асановіч.

— Пані Ганна Аўрамовіч-Басяцкая з дачкою.

А Берман стаяў за маёй спіною і адпускаў заўвагі. Ён упершыню за гэтыя дні спадабаўся мне, столькі злосці было ў яго выказваннях, такімі палючымі вачыма сустракаў ён кожнага новага госця, і асабліва маладых.

Але вось у вачах яго прамільгнула нешта такое незразумелае, што я мімаволі глянуў у той бок, і... вочы мае палезлі на лоб, такое дзіўнае відовішча я пабачыў. У залу на сходах каціўся чалавек, менавіта каціўся, іначай гэта нельга было назваць. Быў гэты чалавек пад сажань ростам, прыблізна як я, але ў ягоную вопратку ўлезла б трое Андрэяў Беларэцкіх. Агромністы жывот, ногі ў сцёгнах, як кумпякі, нязмерна шырокія грудзі, далоні, як цэбры. Рэдка здаралася мне бачыць такога волата. Але самае дзіўнае было не гэта. На чалавеку была вопратка, якую зараз можна пабачыць толькі ў музеі: чырвоныя боты на высокіх абцасах з падкоўкамі (такія празываліся ў нашых продкаў кабцямі), абцягнутыя порткі з каразеі — тонкага сукна. Жупан на грудзях і жываце — жупан з вішнёвага з золатам

сукна — вось-вось пагражаў луснуць. Паверх яго чалавек нацягнуў чугу, старажытную беларускую верхнюю вопратку. Чуга вісела вольна, прыгожымі складкамі, уся пералівалася зялёнымі, залатымі і чорнымі візерункамі і была перавязана амаль пад пахамі турэцкім пасам вясёлкавых колераў.

І над усім гэтым сядзела дзіўна маленькая для гэтай тушы галава са шчокамі такімі надутымі, быццам гэты чалавек вось-вось збіраўся пырснуць са смеху. Доўгія шэрыя валасы ззаду рабілі галаву правільна круглай, маленькія шэрыя вочкі смяяліся, сівыя вусы віселі да сярэдзіны грудзей. Вонкавы выгляд у чалавека быў самы мірны, і толькі на левай руцэ вісеў карбач — плецены кароткі бізун са срэбным дротам ля канца. Словам, сабакар, правінцыяльны мядзведзь, весялун і п’яніца — гэта адразу было бачна.

Яшчэ ля дзвярэй ён зарагатаў такім густым і вясёлым басам, што я мімаволі ўсміхнуўся. Ён ішоў, і людзі расступаліся перад ім, адказвалі такімі вясёлымі ўсмешкамі, якія толькі маглі з’явіцца на гэтых кіслых тварах, тварах людзей з касты, якая выраджаецца. Чалавека, відаць, любілі.

«Нарэшце хоць адзін прадстаўнік старога добрага веку, — падумаў я. — Не вырадак, не вар’ят, які можа пайсці і на гераізм, і на злачынства. Добры просты волат. І як ён сакавіта, прыгожа гаворыць па-беларуску!»

Не здзіўляйцеся апошняй думцы. Хоць сярод дробнай шляхты тады размаўлялі па-беларуску, шляхта таго парадку, да якога, відаць, належаў гэты пан, мовы не ведала: сярод гасцей не больш як які дзесятак размаўляў на мове Марцінкевіча і Каратынскага, астатнія на дзіўнай сумесі польскіх, рускіх і беларускіх слоў.

А гэты размаўляў як якая-небудзь вясковая бабуля-свацця. Трапныя словы, жарты, прымаўкі так і сыпаліся з яго языка, пакуль ён праходзіў ад дзвярэй да верхняй залы. Прызнаюся, ён адразу вельмі падкупіў мяне гэтым. Ён быў такі каларытны, што я не адразу заўважыў яго спадарожніка, хоць ён таксама быў варты ўвагі. Уявіце сабе маладога чалавека, высокага, вельмі добра складзенага, апранутага па апошняй модзе, рэдкай у гэтай глушы. Ён быў бы зусім прыгожы, каб не надзвычайная бледнасць твару, хударлявага, з праваленымі шчокамі, і каб не выраз нейкай невытлумачальнай зласлівасці, якая не сыходзіла з яго вуснаў. Найбольш вартымі ўвагі на гэтым жоўчным прыгожым твары былі вялікія чорныя вочы з вадкім бляскам, але такія безжыццёвыя, што рабілася ніякава. Напэўна, менавіта

такія былі ў Лазара, калі ён уваскрэснуў, але захаваў у вачах успаміны.

Між тым волат дайшоў да лёкая, які, падслепаваты і глухі, не заўважыў гасцей, і раптоўна таргануў яго за плячо. Той драмаў на нагах, але тут раптам усхапіўся, і, разгледзеўшы гасцей, заўсміхаўся на поўны рот, і гаркнуў:

— Вельмішаноўны пан-айцец Грынь Дубатоўк! Пан Алесь Варона!

— Вечар добры, панове, — заракатаў Дубатоўк. — Што гэта вы сумныя, як мышы пад шапкай? Нічога, мы зараз вас узвесялім. Бачыш, Варона, паненкі якія! Зарана я, браце, нарадзіўся. У-ух, прыгажунечкі-красулечкі!

Ён прайшоў праз натоўп (Варона спыніўся ля нейкай паненкі) і наблізіўся да Надзеі Яноўскай. Вочы яго сталі маленькімі і запраменіліся смехам.

— Дзень-вечар добры, донечка! — І гучна цмокнуў яе ў лоб, як стрэліў. Пасля адступіў. — А якая ж ты ў мяне стала зграбная, прыгожая! Ляжаць усёй Беларусі ля тваіх ножак. І няхай на мне на тым свеце Люцыпар смалу возіць, калі я, стары грахаводнік, праз месяц не буду піць на тваім вяселлі гарэлку з твайго туфліка. Толькі нешта вочкі сумненькія. Нічога, зараз развесялю.

І ён з чароўнай мядзведжай грацыяй крутануўся на абцасах.

— Антон, душа цёмная! Грышка, Пятрусь! Халера вас там схапіла, ці што?

З’явіліся Антон, Грышка і Пятрусь, згінаючыся пад цяжарам нейкіх вялізных пакункаў.

— Ну, разявакі-салапякі, кладзіце ўсё да ног гаспадыні. Разгортвай! Э-э, пэцкаль, у цябе што, рукі са... спіны растуць. Трымай, донька.

Перад Яноўскай ляжаў на падлозе вялізны пушысты кілім.

— Трымай, доня. Дзедаўскі яшчэ, але зусім неўжываны. Пакладзеш у спальні. У цябе там дзьме, а ногі ва ўсіх Яноўскіх былі нямоцныя. Будзе табе цёпла. Дарэмна ты ўсё ж, Надзейка, да мяне не пераехала два гады таму. Умаляў яе — не згадзілася. Ну, добра, зараз позна ўжо, вялікая стала. І мне лягчэй будзе, хай яго да д’ябла, гэтае апякунства.

— Прабачце, дзядзечка, — ціха сказала Яноўская, кранутая ўвагай апекуна. — Вы ведаеце, я хацела быць тут, дзе бацька... бацька.

— Ну-ну-ну, — няўмела сказаў Дубатоўк. — Пакінь. Я і сам да цябе амаль не ездзіў, ведаў, што будзеш хвалявацца.

Сябры мы былі з Раманам. Нічога, донька, мы, вядома, людзі зямныя, хварэем на абжорства, п’яныя, але ж Бог павінен разбірацца ў душах. А калі ён разбіраецца, дык Раман хоць мінаў часцей царкву, а не карчму, даўно ўжо на небе анёлаў слухае ды глядзіць у вочы сваёй небарацы жонцы, а маёй стрыечнай сястры. Бог — ён таксама не дурань. Галоўнае — сумленне, а дзірка ў роце, куды чарка просіцца, апошняя справа. І глядзяць яны з неба на цябе, і не шкадуе маці, што смерцю сваёй дала табе жыццё: бач, якая ты каралеўна стала. Хутка і замуж, з рук апекуна на ласкавыя ды моцныя рукі мужа. Думаеш?

— Раней не думала, цяпер не ведаю, — раптам сказала пані Яноўская.

— Ну-ну, — пасур’ёзнеў Дубатоўк. — Але... абы чалавек добры. Не спяшайся вельмі. А зараз трымай яшчэ. Вось тут стары наш убор, сапраўдны, не якая-небудзь падробка. Пасля пойдзеш пераапранешся перад танцамі. Няма чаго гэту сучасную свірапяціцу насіць.

— Ён наўрад ці падыдзе, сапсуе выгляд, — лісліва пад’ехала нейкая дробная шляхцянка.

— А ты маўчы, каханая. Я ведаю, што раблю, — буркнуў Дубатоўк. — Ну, Надзейка, і нарэшце вось яшчэ апошняе. Доўга я думаў, ці падараваць гэта, але карыстацца чужым дабром не прывык. Гэта тваё, а сярод гэтых тваіх партрэтаў няма аднаго. Не павінен шэраг продкаў перарывацца. Ты сама ведаеш, бо ты старажытнейшага амаль ва ўсёй губерні роду.

На падлозе, вызвалены ад лёгкай белай ткані, стаяў вельмі стары партрэт такой незвычайнай, відаць, італьянскай работы, якой амаль не знойдзеш у беларускай іканаграфіі пачатку XVII стагоддзя. Не было пляскатай сцяны за спіною, не вісеў на ёй герб. Было акно, адчыненае на вячэрнія балоты, быў змрочны дзень над імі, і быў мужчына, які сядзеў спіною да ўсяго гэтага. Няпэўнае блакітна-шэрае святло лілося на яго хударлявы твар, на моцна сплеценыя пальцы рук, на чорную з золатам вопратку.

І твар гэтага мужчыны быў жывейшы, ніж у жывога, і такі дзіўны, жорсткі і змрочны, што можна было спалохацца. Цені ляглі ў вачніцах, і здавалася, нават жылка калацілася на павеках. І ў ім было радавое падабенства з тварам гаспадыні, але ўсё тое, што было ў Яноўскай прыемна і люба, тут было агідна. Вераломства, розум, хваравітая вар’яцінка чыталіся ў гэтым ганарлівым роце, уладнасць да закасцянеласці, непамяркоўнасць да фанатызму, жорсткасць да садызму. Я зрабіў два крокі

ўбок — вялізныя, усё да дна разумеючыя ў тваёй душы вочы пасунуліся за мною і зноў глядзелі мне ў твар. Нехта ўздыхнуў.

— Раман Стары, — прыглушана адказаў Дубатоўк, але я сам зразумеў ужо, хто гэта такі, так правільна я яго ўявіў па словах легенды. Я здагадваўся, што гэта віноўнік радавога праклёну яшчэ і таму, што твар гаспадыні няўлоўна збялеў і яна ледзь прыкметна хіснулася.

Невядома, чым скончылася б гэтая нямая сцэна, але тут нехта моўчкі і непачціва штурхнуў мяне ў грудзі. Я пахіснуўся. Гэта Варона прабіўся праз натоўп і, імкнучыся прайсці да гаспадыні, адштурхнуў мяне. Ён спакойна ішоў далей, не папрасіўшы прабачэння, нават не павярнуўшыся ў мой бок, быццам на маім месцы стаяў нежывы прадмет.

Я паходзіў са звычайных інтэлігентаў, якія выслужвалі з пакалення ў пакаленне асабістае шляхецтва, былі вучонымі, інжынерамі — плебеямі з пункту гледжання гэтага пыхатага шляхцюка, у якога продак быў даездчыкам у багатага магната-забойцы. Мне часта даводзілася абараняць сваю годнасць перад такімі, і зараз увесь мой «плебейскі» гонар устаў на дыбкі.

— Пане, — голасна сказаў я. — Вы лічыце, што гэта годна сапраўднага двараніна — штурхнуць чалавека і не папрасіць у яго прабачэння?

Ён павярнуўся:

— Вы мне гэта?

— Вам, — спакойна адказаў я. — Сапраўдны шляхціц — гэта джэнтльмен.

Ён падышоў да мяне і з цікаўнасцю пачаў разглядаць.

— Гм, — спакойна сказаў ён. — Хто ж гэта будзе вучыць шляхціца правілам далікатнасці?

— Не ведаю, — спакойна і з’едліва адазваўся я. — Ва ўсякім разе, не вы. Неадукаваны ксёндз не павінен вучыць іншых лаціне.

Я праз яго плячо бачыў твар Надзеі Яноўскай і з радасцю заўважыў, што наша сварка адцягнула яе ўвагу ад партрэта. Фарба з’явілася на яе абліччы, а ў вачах штосьці падобнае на трывогу і жах.

— Выбірайце выразы, — працадзіў Варона.

— Чаму? І галоўнае з кім? Далікатны чалавек ведае, што ў кампаніі ветлівых трэба быць ветлівым, а ў кампаніі грубіянаў вышэйшая далікатнасць — плаціць ім той самай манетай.

Відаць, Варона не звык атрымліваць адпор ва ўсёй ваколіцы. Я ведаў такіх ганарыстых індыкоў. Ён здзівіўся, але пасля

павярнуўся, кінуў позірк на гаспадыню, зноў павярнуўся да мяне, і ў вачах яго плесканулася каламутная ярасць.

— А вы ведаеце, з кім размаўляеце?

— З кім? З Панам Богам?

Я пабачыў, як поруч з гаспадыняй з'явіўся зацікаўлены твар Дубатоўка. Варона пачынаў кіпець.

— Вы размаўляеце са мною, з чалавекам, які звык драць за вушы розных парвеню.

— А вы не спыталі, можа, нейкія там парвеню часам могуць самі надраць вушы? І не падыходзьце, іначай, папярэджваю вас, ніводзін шляхціц не атрымае такой абразы дзеяннем, як вы ад мяне.

— Хамская бойка на кулакі! — выбухнуў ён.

— Што зробіш? — халодна заўважыў я. — Мне здаралася сустракаць дваран, на якіх іншае не дзейнічала. Яны не былі хамамі, іхнія продкі былі заслужанымі псарамі, даездчыкамі, альфонсамі ва ўдовых магнатак.

Я перахапіў яго руку і трымаў ля яго бока як абцугамі.

— Ну...

— Ах ты! — працадзіў ён.

— Панове, панове, супакойцеся! — з невымоўнай трывогай выкрыкнула Яноўская. — Пан Беларэцкі, не трэба, не трэба! Пан Варона, саромцеся!

Твар яе быў такі благальны.

Відаць, і Дубатоўк зразумеў, што час умяшацца. Ён падышоў, стаў між нас і паклаў на плячо Вароны цяжкую руку. Твар яго наліўся крывёй.

— Шчанюк! — выкрыкнуў ён. — І гэта беларус, гэта жыхар яноўскага наваколля, гэта шляхціц?! Так абразіць госця! Сорам маёй сівізне. Ты што, не бачыш, з кім завёўся? Гэта табе не нашы блазны з курынымі душонкамі, гэта не кураня, гэта — мужчына. І ён табе хутка абарве вусы. Вы дваранін, судар?

— Дваранін.

— Ну, вось бачыш, пан шляхціц. Калі табе трэба будзе з ім паразмаўляць — вы знойдзеце агульную мову. Гэта шляхціц, і добры шляхціц, хоць бы і продкам у сябры — не раўня сучасным смаркачам. Прасі прабачэння ў гаспадыні. Чуеш?

Варону як падмянілі. Ён прамармытаў нейкія словы і адышоў з Дубатоўкам убок. Я застаўся з гаспадыняй.

— Божа мой, пане Андрэй, я так спалохалася за вас. Не варта вам, такому добраму чалавеку, заводзіцца з ім.

Я ўзвёў вочы. Дубатоўк стаяў убаку і з цікавасцю пераводзіў позірк з мяне на пані Яноўскую.

— Надзея Раманаўна, — з нечаканай цеплынёю сказаў я. — Я вельмі вам удзячны, вы вельмі добры і шчыры чалавек, і вашу турботу за мяне, вашу прыязь я запамятаю надоўга. Што зробіш, мая гордасць — маё адзінае, я не даю нікому наступіць сабе на нагу.

— Вось бачыце, — апусціла яна вочы. — Вы зусім не такі. Многія з гэтых радавітых людзей паступіліся б. Відаць, сапраўдны шляхціц тут — вы, а яны толькі прыкідваюцца... Але запамятайце, я вельмі баюся за вас. Гэта небяспечны чалавек, чалавек з жахлівай рэпутацыяй.

— Ведаю, — жартаўліва адказаў я. — Гэта тутэйшы «зубр», помесь Наздрова...

— Не жартуйце. Гэта вядомы ў нас скандаліст і брэцёр. На яго сумленні сем забітых на дуэлі... І, магчыма, гэта горш для вас, што я стаю поруч з вамі. Разумееце?

Мне зусім не падабаўся гэты маленькі гномік жаночага полу з вялікімі сумнымі вачыма, я не цікавіўся, якія адносіны існавалі паміж ім і Варонай, быў Варона ўздыхальнікам або адрынутым паклоннікам, але за дабро плацяць уважлівасцю. Яна была такая мілая ў сваёй турбоце за мяне, што я (баюся, што вочы ў мяне былі сапраўды больш мяккімі, ніж трэба) узяў яе ручку і паднёс да вуснаў.

— Дзякую, пані гаспадыня.

Яна не ўзяла рукі, і яе празрыстыя нежывыя пальчыкі ледзь устрапянуліся пад маімі вуснамі. Словам, усё гэта надта нагадвала сентыментальны і трохі бульварны раман з жыцця вялікага свету.

Аркестра інвалідаў зайграла вальс «Міньён», і адразу ілюзія «вялікага свету» знікла. Аркестры адпавядалі ўборы, уборам адпавядалі танцы. Цымбалы, дуда, нешта падобнае да тамбурына, стары гудок і чатыры скрыпкі. Сярод скрыпачоў быў адзін цыган і адзін яўрэй, скрыпка якога ўвесь час намагалася замест вядомых мелодый іграць надта сумнае, а калі збівалася на весялосць, то ўсё выйгравала нешта падобнае на «Сямёра на скрыпцы». І танцы, якія даўно выйшлі з моды паўсюль: «Шаконь», «Па-дэ-дэ», нават «Лябедзік» — гэта манерная беларуская пародыя на менуэт. Добра яшчэ, што я ўсё гэта ўмеў танцаваць, бо любіў народныя і старадаўнія танцы.

— Дазвольце запрасіць вас, пані Надзея, на вальс.

Яна павагалася трохі, нясмела прыўзняла на мяне пушыстыя вейкі.

— Калісьці мяне вучылі. Напэўна, я забылася. Але...

І яна паклала руку, паклала неяк няўпэўнена, няёмка, ніжэй майго пляча. Я спачатку думаў, што мы будзем пасмешышчам для ўсяе залы, але хутка супакоіўся. Я ніколі не бачыў большай лёгкасці ў танцах, ніж у гэтай дзяўчыны. Яна не танцавала, яна лётала ў паветры, і я амаль нёс яе над падлогай. І лёгка было, бо ў ёй, як мне здавалася, не было больш за 125 фунтаў. Прыблізна на сярэдзіне танца я заўважыў, як твар яе, да таго засяроджаны і няпэўны, стаў раптам простым і вельмі мілым. Вочы заіскрыліся, ніжняя губка трошкі выдалася наперад.

Пасля танцавалі яшчэ. Яна дзіўна пажвавела, паружавела, і такое ззянне маладосці, ап'янення, радасці з'явілася на яе твары, што мне стала цёпла на сэрцы.

«Вось я, — як быццам казала яе душа праз вочы, вялікія, чорныя і бліскучыя, — вось яна я. Вы думалі, што мяне няма, а я тут, а я тут. Хоць у адзін гэты кароткі вечар я паказалася вам, і вы здзівіліся. Вы лічылі мяне нежывой, бледнай, бяскроўнай, як парастак вяргіні ў падполлі, але вы вынеслі мяне на свет, я так вам усім удзячна, вы такія добрыя. Бачыце, і жывая зелень з'явілася ў маёй сцябліне, і хутка, калі будзе прыпякаць сонейка, я пакажу ўсяму свету цудоўную ружовую кветку сваю. Толькі не трэба, не трэба мяне адносіць зноў у падпол».

Незвычайны быў выраз радасці і адчування паўнацэннасці ў яе вачах. Я таксама захапіўся ім, і вочы мае, напэўна, таксама заблішчалі. Толькі краем вока бачыў я навакольнае.

І раптам вавёрка зноў схавалася ў дупло, радасць знікла з яе вачэй, і той самы жах пасяліўся за веямі: Варона даваў указанні двум лёкаям, якія вешалі над камінам партрэт Рамана Старога.

Музыка змоўкла. Да нас набліжаўся Дубатоўк, чырвоны і вясёлы.

— Надзеечка, прыгажунька ты мая. Дазвольце старому хрэну лапэтку.

Ён цяжка ўпаў на калена і, смеючыся, пацалаваў яе руку.

А яшчэ праз хвіліну казаў зусім іншым тонам:

— Правіла яноўскага наваколля такое, што трэба агаласіць апякунскую справаздачу адразу, як толькі апякаемай споўніцца васемнаццаць год, гадзіна ў гадзіну.

Ён выцягнуў з кішэні вялізную срэбную з сіняй эмаллю цыбуліну гадзінніка і, зрабіўшыся афіцыйным і падцягнутым, агаласіў:

— Сем гадзін. Мы ідзём агалошваць справаздачу. Пайду я, а за другога апекуна, пана Калатэчу-Казлоўскага, які жыве ў губерні і па хваробе не мог прыехаць, пойдуць па даверу пан Сава-Стахоўскі і пан Алесь Варона. Патрэбен яшчэ нехта са староннiх. Ну... (вочы яго дапытліва затрымаліся на маёй асобе), ну, хоць вы. Вы яшчэ чалавек малады, жыць будзеце доўга і зможаце потым засведчыць, што ўсё тут рабілася шчыра, па старых звычаях і сумленні чалавечым. Пані Яноўская — з намі.

Наша нарада адбывалася нядоўга. Спачатку прачыталі вопіс маёмасці, рухомай і нерухомай, якая засталася па тэстаменту ад бацькі. Выявілася, што гэта галоўным чынам палац з абсталяваннем і парк, маярат, з якога ніводная рэч не павінна знікнуць і які павінен «у велькшай славе падтрымліваць гонар роду».

«Добры гонар, — падумаў я. — Гонар здохнуць з голаду ў багатым доме».

Дубатоўк давёў, што нерухомая маёмасць зберaглася непарушна.

Пасля выявілася, што па субстытуцыі старэйшай і адзінай наследніцай з'яўляецца пані Надзея Яноўская.

Перайшлі да прыбыткаў. Дубатоўк паведаміў, што невялічкі капітал, змешчаны Раманам Яноўскім у дзвюх банкірскіх канторах пад восем працэнтаў без права чапаць асноўны капітал, дае зараз ад ста пяцідзесяці да ста сямідзесяці рублёў штомесячна. Гэты прыбытак нават павялічыўся дбаннем апекуна, мала гэтага, атрымалася прыбаўка да асноўнага капіталу ў дзвесце восемдзесят пяць рублёў, якія, пры жаданні, могуць пайсці на пасаг спадчынніцы.

Усе пакруцілі галовамі. Прыбыткі былі мізэрнымі, асабліва пры неабходнасці падтрымліваць парадак.

— А як плаціць слугам? — спытаў я.

— Ім выдзелена ў тэстаменце частка спадчыны, бо яны — неад'емная частка маярату.

— Я прасіў бы пана Дубатоўка растлумачыць мне, як справа з заарандаванай зямлёю пры маёнтку Балотныя Яліны? — спытаў Сава-Стахоўскі, маленькі хударлявы чалавечак з такімі вострымі каленямі, што яны, здавалася, вось-вось прарэжуць яго светлыя штонікі. Ён, відаць заўжды трохі пікіраваўся з Дубатоўкам і даў яму зараз нейкае з'едлівае пытанне. Але той не зніякавеў. Ён выцягнуў вялікія срэбныя акуляры, хустку, якую расклаў на каленях, пасля ключ і толькі пасля гэтага клапцік паперы. Акуляры ён, аднак, не надзеў і пачаў чытаць:

— «У прадзеда пані Яноўскай было дзесяць тысяч дзесяцін добрай ворнай зямлі, не лічачы лесу». У пані Яноўскай, як гэта вам, напэўна, вядома, шаноўны пан Стахоўскі, 50 дзесяцін ворнай зямлі, значна спустошанай. У яе таксама ёсць парк, які не дае ні шэлега, і пушча, якая практычна таксама маярат, бо гэта запаветны лес. Скажам прама, мы маглі б паступіцца гэтым правілам, але, па-першае, доступ у гэту пушчу для дрывасекаў немагчымы па прычыне навакольнай дрыгвы. А па-другое, ці разумна гэта? У Яноўскай могуць быць дзеці. Што рабіць ім на 50 дзесяцінах беднай зямлі? Тады род зусім занепадзе. Вядома, пані зараз дарослая, яна сама можа...

— Я згодна з вамі, дзядзька, — саромеючыся да слёз, сказала Надзея Раманаўна. — Няхай пушча стаіць. Я рада, што да яе толькі сцежкі, і то ў сухмень. Шкода зводзіць такі лес. Пушчы — гэта божыя сады.

— Дык вось, — казаў далей апякун, — акрамя гэтага, пані належыць амаль усё яноўскае наваколле, але гэта дрыгва, тарфяныя балоты і пустэчы, на якіх не расце нічога, акрамя верасу. На гэтай зямлі не жывуць колькі сягае ў гады памяць чалавечая. Значыцца, возьмем толькі 50 дзесяцін, якія здаюцца ў арэнду за другі сноп. Зямля няўгноеная, вырошчваюць на ёй толькі жыта, і гэта дае трыццаць, сама больш сорак пудоў з дзесяціны. Кошт жыта — 50 капеек пуд, значыцца — дзесяціна дае даход дзесяць рублёў на год, і, значыцца, з усёй зямлі 500 рублёў у год. Вось і ўсё. Гэтыя грошы не затрымліваюцца, можаце мяне праверыць, пан Стахоўскі.

Я пахітаў галавою. Гаспадыня вялікага маёнтка атрымлівала трохі больш як дзвесце рублёў прыбытку ў месяц. А сярэдні чыноўнік атрымліваў 125 рублёў. У Яноўскай было дзе жыць і было што есці, але гэта была непрыхаваная галеча, галеча без прасвятлення. Я, галяк, вучоны і журналіст, аўтар чатырох кніг, меў рублёў чатырыста ў месяц. І мне не трэба было рамантаваць гэтую прорву — палац, рабіць падарункі слугам, трымаць у адносным парадку парк. Я быў поруч з ёю Крэз.

Мне было шкада яе, гэтага дзіцёнка, на плечы якога ўпаў такі непасільны цяжар.

— Вы вельмі небагаты чалавек, — сумна сказаў Дубатоўк. — На руках у вас, уласна кажучы, застаюцца пасля ўсіх выдаткаў капейкі.

І ён кінуў позірк у мой бок, вельмі выразны і шматзначны позірк, але мой твар не выразіў нічога. Ды і сапраўды, якое гэта мела дачыненне да мяне?

Дакументы перадалі новай гаспадыні. Дубатоўк абяцаў даць загады Берману, пасля пацалаваў Яноўскую ў лоб і выйшаў. Мы ўсе таксама выйшлі ў залу, дзе публіка паспела ўжо замарыцца ад танцаў.

Дубатоўк адразу зноў выклікаў выбух запалу, уздыму і весялосці. Я не ўмеў скакаць нейкага мясцовага танца, і таму Яноўскую адразу памчаў Варона. Пасля яна кудысьці знікла. Я глядзеў на танцы, калі раптам адчуў нейчы позірк. Непадалёк ад мяне стаяў танклявы, але, відаць, моцны малады чалавек, белавалосы, з вельмі прыемным і шчырым тварам, апрануты сціпла, але з падкрэсленай акуратнасцю.

Я не бачыў, адкуль ён з'явіўся, але ён адразу спадабаўся мне, спадабалася нават мяккая аскетычнасць у прыгожым вялікім роце і разумных карых вачах. Я ўсміхнуўся яму, і ён, як быццам толькі і чакаў гэтага, падышоў да мяне вялікімі і плаўнымі крокамі, працягнуў мне руку:

— Прабачце, я без цырымоній, Андрэй Свеціловіч. Даўно жадаў пазнаёміцца з вамі. Я студэнт... былы студэнт Кіеўскага універсітэта. Зараз мяне выключылі... за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях.

Я таксама адрэкамендаваўся. Ён усміхнуўся шырокай белазубай усмешкаю, такой яснай і добрай, што твар адразу зрабіўся гожым:

— Я ведаю, я чытаў вашы зборнікі. Не палічыце за камплімент, я наогул не аматар гэтага, але вы мне сталі пасля іх вельмі сімпатычным. Вы займаецеся такой карыснай і патрэбнай справай і добра разумееце свае задачы. Я мяркую па вашых прадмовах.

Мы разгаварыліся і разам адышлі да акна ў далёкім кутку залы. Я спытаў, як ён трапіў да Балотных Ялін. Ён засмяяўся:

— Я далёкі сваяк Надзеі Раманаўны. Вельмі далёкі. Уласна кажучы, ад усяго кораня Яноўскіх зараз засталіся на зямлі толькі яна ды я, па жаночай лініі. Здаецца, такая-сякая кропля крыві гэтых былых дэйноўскіх князькоў цячэ яшчэ і ў жылах Гарабурды, але яго сваяцтва, як і сваяцтва Грыцкевічавых, не даказаў бы ніводны знаўца геральдыкі... Гэта проста радавое паданне. А сапраўдная Яноўская толькі адна яна.

Твар яго памякчэў, стаў задумлівым.

— І наогул усё гэта глупства. Усе гэтыя геральдычныя казусы, князькі, магнацкія маяраты. Каб была мая воля, я б выпусціў з жылаў магнацкую сваю кроў. Гэта толькі прычына для вялікіх пакут сумлення. Мне здаецца, гэта і ў Надзеі Раманаўны так.

— А мне сказалі, што Надзея Раманаўна адзіная з Яноўскіх.

— Вядома, так. Я вельмі далёкі сваяк, і да таго ж мяне лічылі памёрлым. Я не наведваўся ў Балотныя Яліны пяць год, а зараз мне дваццаць тры. Бацька адаслаў мяне адсюль, бо я ў васемнаццаць год паміраў ад кахання да трынаццацігадовай дзяўчыны. Уласна кажучы, гэта нічога, варта было пачакаць два гады, але бацька верыў у старажытную сілу праклёну.

— Ну і як, дапамагла вам высылка? — спытаў я.

— Ані на шэлег. Мала таго, дзвюх сустрэч было дастаткова, каб я адчуў, што старое абажанне перарасло ў каханне.

— І як глядзіць на гэта Надзея Раманаўна?

Ён пачырванеў так, што ў яго нават слёзы навярнуліся на вочы.

— О!.. Вы здагадаліся! Я вельмі прашу вас маўчаць пра гэта! Справа ў тым, што я не ведаю яшчэ. Ды гэта не так важліва, паверце... паверце мне. Мне гэта не важліва. Мне проста добра з ёю, і нават калі яна будзе раўнадушнай да мяне, мне, паверце, будзе таксама шчасна і хораша жыць на зямлі: яна ж будзе існаваць на ёй таксама. Яна незвычайны чалавек. Вакол яе такое бруднае свінства, непрыхаванае рабства, а яна такая чыстая і добрая.

Я ўсміхнуўся ад раптоўнага замілавання да гэтага хлапчука з добрым і ясным тварам, а ён, відаць, палічыў усмешку за кпін.

— Ну вось, вы ўсміхаецеся таксама, як нябожчык бацька, як дзядзька Дубатоўк. Сорамна вам...

— Я і не думаю смяяцца, пан Андрэй. Мне проста добра чуць ад вас такія словы. Вы чысты і харошы чалавек. Толькі не трэба вам камусьці яшчэ казаць пра гэта. Вось вы тут вымавілі імя Дубатоўка.

— Дзякуй вам за добрае слова. Але няўжо вы думалі, што я камусьці казаў пра гэта, што я такі нягоднік? Вы ж здагадаліся. І дзядзька Дубатоўк таксама чамусьці здагадаўся.

— Добра, што здагадаўся Дубатоўк, а не Алесь Варона, — сказаў я. — Іначай справа скончылася б дрэнна для кагосьці з вас. Дубатоўк — гэта нічога. Ён апякун, яму цікава, каб Надзея Раманаўна знайшла добрага мужа. І ён, мне здаецца, добры чалавек, нікому не скажа, як і я. Але вам трэба наогул маўчаць пра гэта.

— Гэта праўда, — вінавата сказаў ён. — Я і не падумаў, што нават маленькі намёк шкодны для гаспадыні. І праўда ваша, які добры, шчыры чалавек Дубатоўк! Сапраўдны стары панрубака, просты і патрыярхальны! І такі шчыры, такі вясёлы!

І так ён любіць людзей і нікому не перашкаджае жыць! А мова ягоная?! Я як пачуў, дык мяне быццам па сэрцы цёплай рукой нехта гладзіць. Ах, які добры, добры чалавек!

Нават вочы яго ўвільготніліся, так ён любіў Дубатоўка. І я таксама быў шмат у чым з ім згодзен.

— Вы ведаеце зараз, пан Беларэцкі, а больш не будзе ведаць ніхто. Я разумею, я не буду кампраметаваць яе. І наогул я буду маўчаць. Вось вы танцуеце з ёй, а мне радасна. Размаўляе яна з іншым — мне радасна. Хай толькі ёй будзе шчасце. Але я вам шчыра кажу. — Голас яго ўзмацнеў, а твар стаў як у юнака Давіда, які выходзіць на бой з Галіяфам. — Калі я буду за трыдзевяць краін і сэрцам пачую, што яе нехта збіраецца крыўдзіць, я прылячу адтуль і, хоць бы гэта быў сам Бог, разаб’ю яму галаву, кусаць буду, біцца да апошняга, каб пасля толькі прыпаўзці да яе ног і здохнуць там. Паверце мне. Здалёк — і заўжды з ёю.

Гледзячы на яго твар, я разумеў, чаму баяцца ўладу маючыя такіх вось стройных, чыстых і сумленных юнакоў. У іх, вядома, шырокія вочы, дзіцячая ўсмешка, юнацкія слабыя рукі, шыя ганарлівая і стройная, белая, як мармуровая, як быццам назнарок створана для сякеры ката, але ў іх яшчэ і непрыміручасць, сумленне да канца нават у дробязях, няўменне лічыцца з перавагаю чужой грубай сілы і фанатычная вернасць праўдзе. У жыцці яны нявопытныя, даверлівыя дзеці да сівых валос, у служэнні праўдзе — горкія, іранічныя, адданыя да канца, мудрыя і нязломныя. А дрэнь баіцца такіх нават тады, калі яны яшчэ не пачыналі дзейнічаць, і, кіруючыся інстынктам, уласцівым погані, цкуе іх заўсёды. Дрэнь ведае, што яны — самая найвялікшая небяспека для яе існавання.

Я зразумеў, што дай такому ў рукі пісталет, і ён, усё з той самай шчырай белазубай усмешкаю, падыдзе да тырана, усадзіць у яго кулю і пасля спакойна скажа смерці: «Хадзі сюды». І ён вытрымае найбольшыя пакуты спакойна і, калі не памрэ ў турме ад прагі волі, спакойна пойдзе на эшафот.

І такі невыказны давер выклікаў у мяне гэты чалавек, што рукі нашы сустрэліся, і я ўсміхнуўся яму, як другу.

— За што вас выключылі, пан Свеціловіч?

— Ат, глупства! Пачалося з ушанавання памяці Шаўчэнкі. Студэнты, вядома, былі аднымі з першых. Нам прыгразілі, што ва універсітэт увядуць паліцыю. — Ён аж пачырванеў. — Ну, мы пачалі крычаць. А я крыкнуў, што калі яны толькі пасмеюць зрабіць гэта са святымі нашымі мурамі, дык мы крывёю змыем з іх ганьбу. І першая куля будзе таму, хто дасць такі загад.

Пасля мы высыпалі з будынка, пачаўся шум, і мяне схапілі. А калі ў паліцыі спыталі пра нацыянальнасць, дык я адказаў: «Пішы: украінец».

— Добра сказана.

— Я ведаю, гэта вельмі неасцярожна для тых, хто ўзяўся змагацца.

— Не, гэта добра і для іх. Адзін такі адказ варты дзесятка куль. І гэта азначае, што супраць агульнага ворага — усе. І няма ніякай розніцы паміж беларусам і ўкраінцам, калі над спіною вісіць бізун.

Мы моўчкі глядзелі на танцуючых аж датуль, пакуль рот Свеціловіча не перасмыкнула.

— Танцуюць. Чорт іх ведае што такое. Паноптыкум нейкі... дапатопныя яшчары. У профіль не твары, а звярыныя морды. Мазгоў — з напарстак, а сківіцы, як у дыназаўра, на семсот зубоў. І сукні са шлёпамі. І гэтыя страшныя твары вырадкаў... Усё ж такі няшчасны мы народ, пан Беларэцкі.

— Чаму?

— У нас ніколі не было сапраўдных уладароў думак.

— Можа, гэта і лепш, — сказаў я.

— І ўсё ж непрытульны мы народ... І гэты ганебны гандаль радзімай на працягу сямі стагоддзяў. Спачатку Літве, пасля, ледзь народ паспеў асіміляваць яе, палякам, усім, каму не лянота, каму хочацца, забыўшы гонар, забыўшы сумленне.

На нас пачалі аглядацца танцуючыя.

— Бачыце, аглядаюцца. Калі чалавек крычыць — ім не падабаецца. Яны тут усе — адно кодла. Топчуць маленькіх, выракаюцца сумлення, прадаюць багатым дзядам дзяўчат. Вось бачыце гэтага Саву-Стахоўскага: я б каня не паставіў з ім у адной стайні, баючыся за конскую мараль. А гэта Хобалева, павятовая Месаліна. І гэты, Асановіч, звёў у магілу прыгонную дзяўчыну. Зараз у яго няма на гэта права, але ён усё адно распуснічае. Няшчасная Беларусь! Добры, памяркоўны, рамантычны народ у руках такой поскудзі. І пакуль гэты народ будзе дурнем, так будзе заўсёды. Аддае чужынцам лепшых сваіх сыноў, лепшых паэтаў, дзетак сваіх наракае чужынцамі, прарокаў сваіх, быццам вельмі багаты. А сваіх герояў аддае на прэнг, а сам сядзіць у клетцы над міскай з бульбай ды бручкай і лыпае вачыма. Дорага б я даў таму чалавеку, які скіне нарэшце з шыі народа ўсіх гэтых гнілых шляхцюкоў, тупых Homo Novus’аў, пыхатых выскачак, прадажных журналістаў і зробіць яго гаспадаром уласнага лёсу. Усю кроў аддаў бы.

Відаць, пачуцці мае абвастрыліся: я ўсё адчуваў на спіне чыйсьці позірк. Калі Свеціловіч скончыў — я павярнуўся і... стаў ашаломлены. Надзея Яноўская стаяла і слухала нас. Але гэта была не яна, гэта была мара, лясны дух, казачная здань. Яна была ў сярэдневяковай жаночай вопратцы: сукня, на якую пайшло пяцьдзесят локцяў залацістага аршанскага атласу, паверх яе другая, белая з блакітнымі, адліваючымі срэбрам, разводамі і шматлікімі разрузамі на рукавах і падоле. Стан, сціснуты ў снуроўку, быў перавіты тонкім залацістым снурам, які падаў амаль да зямлі двума кутасамі. А на плячах быў тонкі рубок з белага табіну. Валасы былі ўзяты ў сетку і ўпрыгожаны шлягавым вянком, старажытным жаночым уборам, які трохі нагадваў караблік, зроблены са срэбных ніцей. З абодвух рагоў гэтага карабліка звісаў да зямлі тонкі белы вэлюм.

Гэта была каралеўна-лебедзь, уладарка бурштынавага палаца, словам, чорт ведае што, толькі не даўняе брыдкае качанё. Я сам пабачыў, як вочы Дубатоўка вырачыліся і ніжняя сківіца адвісла: ён, відаць, і сам не чакаў такога. Віскнула скрыпка. Стала цішыня.

А яна ішла проста да мяне.

Гэта даволі нязручны ўбор, і звычайна ён псуе нязвыклую да яго жанчыну — скоўвае яе рухі, робіць цяжкай і мехаватай, але гэтая несла яго, як каралева, быццам усё жыццё толькі яго і насіла: горда адкінуўшы галаву, яна плыла паважна, жаноцкі. І лукава, і ганарліва ўсміхаліся з-пад вэлюму яе вялікія вочы, абуджаныя пачуццём уласнай прыгажосці.

Дубатоўк аж рохкнуў ад здзіўлення і пайшоў да яе, усё паскараючы крок. З незразумелым выразам болю ў вачах узяў яе твар у далоні і пацалаваў у лоб,буркнуўшы нешта накшталт «такую прыгажосць!..».

А пасля вусны яго зноў расплыліся ўсмешкаю:

— Каралева! Прыгажуня мая! Дачакаліся, святыя балесначкі! Яноўская, Яноўская да мезенца!!! Дазволь, донечка, ножку.

І гэты вялізны мехаваты чалавек, крэкчучы, распасцёрся на падлозе і дакрануўся вуснамі да наска яе маленькіх туфлікаў. Пасля ўзняўся і зарагатаў:

— Ну, доня, трэба табе з такім капіталам сядзець ціхутка, як мыш, а то яшчэ ўкрадуць.

І раптам падміргнуў:

— А што, каб нам старыною трахнуць, як ты яшчэ дзяўчынкай са мною скакала? Падаруй старому бабру адзін танец, а там хоць і паміраць.

Белая каралева працягнула яму руку.

— Гэй, лябедзікі! — крыкнуў інвалідам Дубатоўк. — Давайце спачатку нашага «Ветрыку» кругі з два, а потым, з майго месца, — ведаеце, якое? — пераходзьце на мазура!

І сакрэтна звярнуўся да мяне:

— Усім добрыя нашы танцы, але такога агнявога, як польскі мазур, няма. «Лявоніха» — толькі яна і магла б паспрачацца, але для яе трэба некалькі пар, а гэтыя бабздыры і слінцяйчыкі хіба могуць? Тут трэба балетнымі нагамі валодаць, вось як у мяне.

І зарагатаў. А я з жахам глядзеў на яго ногі-шынкі і думаў: «Што ён зробіць з добрага танца?!»

Між тым усе адышлі ўбок, расчысцілі месца. Я чуў галасы:

— Сам... Сам будзе скакаць.

Я не пайшоў ад гэтай прафанацыі далей толькі таму, што жадаў пагледзець на забыты танец, пра які я толькі аднойчы чуў і які, як кажуць, быў вельмі распаўсюджаны год восемдзесят таму.

Вялізная туша Дубатоўка выпрасталася, ён хмыкнуў і узяў Яноўскую шчопанню зверху за празрыстую кісць левай рукі.

З першымі ж тактамі «Ветрыку» ён стукнуў абцасамі і пайшоў трайным крокам, то з правай, то з левай нагі. І яго туша рухалася нечакана лёгка, спачатку прыстукваючы абцасамі пасля кожных трох крокаў, а пасля проста так, на цыпках. А поруч з ім плыла яна, проста плыла ў паветры, залацістая, белая, блакітная, як райская птушка, і вэлюм яе віўся ў паветры.

Пасля яны круціліся, плылі, то зблiжаючыся, то аддаляючыся, то перасякаючы адно аднаму шлях. Не, гэта не была прафанацыя, як не з'яўляецца прафанацыяй танец старога пацяжэлага танцора, які быў калісьці вялікім майстрам. Гэта быў сапраўды «Ветрык», які паступова пераходзіў у буру, і вось ужо толькі круціўся ў паветры вэлюм, мільгацелі ногі... І раптам музыкі раўнулі мазура. Гэта быў не цалкам мазур, гэта была нейкая спрадвечная мясцовая варыяцыя на яго тэму, якая ўключала ў сябе элементы таго самага «Ветрыку».

І тут туша памчалася наперад, загрукала абцасамі, па-качычы мякка пачала заносіцца ў паветра, стукаючы ў ім нагой аб нагу. А поруч плыла яна, лёгкая, усмешлівая, вялікасная.

Гэта было сапраўднае дзіва, нябачаны цуд: два чалавекі ў старажытных вопратках стварылі перад намі гэтую казку.

Зрабіўшы круг, Дубатоўк падвёў Яноўскую да мяне. Ён быў чырвоны як рак.

— Замарыла яна мяне... «Вы, дзядзечка, як малады». Ма-ала-ды, ма-ла-ды! Не, няма чаго казаць, з’ездзіўся конь. Пашлюць мяне хутка да Абрама па піва. Вам, маладыя, жыць, вам песні спяваць, скокі скакаць. Скачы, хлопча.

Зноў пачаліся танцы. Свеціловіч танцаваць не любіў. Варона дзьмуўся і таксама не падыходзіў, і мне давялося танцаваць з ёю да самай вячэры. І як яна танцавала! Я мімаволі заглядзеўся на гэты дзіцячы твар, які раптам стаў такім жвавым і прыемна хітраватым. Мы танцавалі, і нам усё было мала, мы мчаліся па зале, плылі ў паветры, сцены круціліся вакол, і на іх нельга было нічога заўважыць. Напэўна, і яна адчувала тое самае, што я, а маё пачуццё можна параўнаць толькі з тымі снамі, якія часам бываюць у юнацтве: табе сніцца, што ты танцуеш, і нязнанае шчасце ахапляе сэрца. Бачыў я толькі яе ружовы закінуты твар, галаву, якая злёгку пахіствалася ў такт музыцы.

Пайшлі вячэраць. Калі я вёў яе ў сталовую, мне здалося, што я чую ў кутку залы нейкае шыпенне. Я глянуў туды, у змрок, пабачыў нейчыя вочы — там сядзелі старыя панны — і пайшоў далей. І выразна пачуў, адышоўшы, як сухі голас сказаў:

— Весяліцца, як перад пагібеллю. Награшылі, прагнявілі Бога і яшчэ весяляцца. Кляты род... Нічога, хутка прыйдзе дзікае паляванне... Ач, бессаромніца, цэлы вечар з гэтым чужынцам, з бязбожнікам. Сябра сабе знайшла... Нічога, пабажуся, што і на яе кароль Стах паўстане. Пачынаюцца цёмныя ночы.

Гэтыя халодныя словы напоўнілі мяне трывогай. Сапраўды, я паеду і, магчыма, пазбаўлю гэту дзяўчыну магчымасці выйсці замуж. Нашто я з ёю цэлы вечар? Што я раблю? Я ж зусім, зусім не кахаю яе і ніколі не буду кахаць, бо ведаю сваё сэрца. І я цвёрда вырашыў не танцаваць больш з ёю і не сядзець поруч за сталом. І наогул трэба ехаць. Хопіць гэтай панска-шляхецкай ідыліі, хутчэй да простых людзей, да працы. Я пасадзіў яе і стаў поруч, цвёрда намерваючыся спаймаць Свеціловіча і пасадзіць з ёю. Але ўсе мае намеры расплыліся дымам. Свеціловіч як увайшоў, так і сеў у канцы стала. А Дубатоўк шчыльна сеў справа ад гаспадыні і буркнуў:

— Што стаіш? Сядай, браце.

І калі я сеў, дадаў:

— Добры з цябе шляхціц бы атрымаўся год сто таму. Рукі моцныя, вочы сталёвыя. І сабою гожы. Толькі цікава мне ведаць, ці сур’ёзны ты чалавек? Ці не шалыган ты часам?

І я быў вымушаны сядзець поруч з гаспадыняй: служыць ёй, дакранацца рукою да яе рукі, часам датыкацца каленам да яе калена. І добра мне было, і ў той жа час злосць разбірала на Дубатоўка. Сядзіць хмуры, як цмок, глядзіць на мяне дапытліва. На мужа сваёй падапечнай прымервае, ці што?

Хутка ўсе развесяліліся. Было шмат з'едзена і яшчэ больш выпіта. Твары пачырванелі, досціпы сыпаліся градам. А Дубатоўк піў і еў больш за ўсіх, адпускаючы жарты, ад якіх усе за жываты браліся.

І злосць мая паступова прайшла. Я нават быў удзячны Дубатоўку, што ён затрымаў мяне тут.

А пасля зноў былі танцы, і толькі гадзін у пяць ночы госці пачалі раз'язджацца. Дубатоўк ад'язджаў адным з апошніх. Праходзячы міма нас,ён падышоў бліжэй і хрыпата сказаў:

— Вось што, хлопча. Запрашаю цябе да мяне праз дзень на халастую гулянку. А як ты, донька, можа, і ты паедзеш да нас, з пасербіцай пасядзіш?

— Не, дзядзечка, дзякую. Я застануся дома.

Волат уздыхнуў:

— Губіш ты сябе, доня. Ну, добра. А цябе чакаю. Глядзі. У мяне хата без гэтых заморскіх жартаў, табе гэта цікава.

Мы развіталіся з ім, шчыра развітаўся я з Свеціловічам.

Дом пусцеў, заціхалі крокі, ён зноў ставаў глухім і нямым, магчыма, яшчэ на васемнаццаць год. Слугі хадзілі і гасілі свечкі. Яна знікла, і, калі я ўвайшоў у залу, я пабачыў яе ў яе казачным уборы ля палаючага каміна. Зноў цемра агарнула куты залы, у якой яшчэ, здавалася, жылі гукі музыкі і смех. Дом пачаў жыць звычайным жыццём — цёмным, глухім і змрочным.

Я падышоў бліжэй і раптам пабачыў яе бледны твар, на якім згаслі апошнія сляды радасці. Вецер завыў у коміне.

— Пан Беларэцкі, — сказала яна. — Як глуха. Я адвыкла ад гэтага. Пройдземся з вамі яшчэ адзін вальс, перш чым назаўсёды...

Голас яе перасекся. Я паклаў руку на яе стан, і мы, падпарадкоўваючыся ўнутранай музыцы, якая яшчэ гучала ў нашых вушах, паплылі па зале. Шоргат нашых ног глуха аддаваўся над столлю. Мне было чамусьці нават страшна, нібы я прысутнічаў на пахаванні, а яна зноў перажывала ўвесь вечар. Стан яе, тонкі і гнуткі, трошкі хістаўся пад маёй рукою, веяў яе вэлюм, жарам успыхвала сукня, калі мы траплялі ў водбліск каміннага полымя, рабілася блакітнай, калі мы траплялі ў цемру. Гэты старажытны ўбор, гэты вэлюм, які кранаўся часам майго тва-

ру, гэты стан пад маёй рукою і задуменныя апушчаныя вочы, напэўна, ніколі не будуць забыты мной.

І раптам яна прыткнулася лбом на імгненне да майго пляча.

— Усё. Не магу больш. Даволі. Гэта ўсё. Дзякуй вам... за ўсё.

Я паглядзеў на яе і пабачыў вочы, якія блішчалі ад нявыплаканых слёз.

Гэта было сапраўды ўсё. Яна пайшла ў свой пакой, а я ўсё глядзеў на маленькую фігурку ў старажытным убранні, якая ішла па зале, губляючыся ў цемры пад позіркамі продкаў са сцяны.

Я забыўся ў гэту ноч пагасіць свечку на століку ля акна і ляжаў у шырокім, як луг, ложку, ужо засынаючы, калі маю дрымоту перарвалі зноў крокі ў калідоры. Ведаючы, што зноў нікога не заўважу, калі выгляну, я ляжаў спакойна. Хутка крокі зніклі. Я пачаў быў зноў драмаць, калі раптам страпянуўся.

Праз шыбу глядзеў на мяне чалавечы твар.

Чалавек быў сапраўды вельмі маленькі (я бачыў яго амаль па пояс), у каптане з шырокім каўнярам. Гэта быў чалавек і ўсё ж нечалавечая істота. Яе галоўка была сціснута з бакоў і ненатуральна выцягнута ў даўжыню, рэдкія доўгія валасы звісалі з яе. Але самым дзіўным быў твар Малога Чалавека. Ён быў амаль такі зялёны, як вопратка, рот вялікі і без вуснаў, нос маленькі, а ніжнія павекі былі непамерна вялікія, як у жабы. Я параўнаў яго з малпай, але хутчэй гэта быў твар сапраўднай жабы. І вочы, шырокія, цёмныя, глядзелі на мяне з тупой злосцю і яшчэ чымсьці незразумелым. Пасля з'явілася ненатуральна доўгая зеленаватая рука. Істота глуха застагнала, і гэта абудзіла мяне ад здранцвення. Я кінуўся да акна і заўважыў, што Малога Чалавека няма. Ён знік.

Я з трэскам адчыніў акно — халоднае паветра лінула ў пакой. Высунуўшы галаву, я глядзеў на ўсе бакі — нікога. Ён як выпарыўся. Скокнуць уніз ён не мог, у гэтым месцы пад двума паверхамі быў яшчэ трэці (дом стаяў часткова на схіле), вокны справа і злева былі зачынены, ды і карніз быў такі вузкі, што па ім не прабегла б і мыш. Я зачыніў акно і задумаўся, упершыню ўзяўшы пад сумненне свае разумовыя здольнасці.

Што гэта было? Я не верыў ні ў Бога, ні ў здані, але жывым чалавекам гэтая істота быць не магла. Ды і скуль яна магла з'явіцца, куды магла знікнуць? Дзе магла існаваць? Нешта нядобрае і таемнае было ў гэтым доме. Што гэта такое? Няўжо сапраўды здань? Усё маё выхаванне паўстала супраць гэтага. А можа, я п'яны? Не, я амаль не піў. Ды і скуль з'явіліся б зноў

тыя крокі, што зараз гучаць у калідоры? Ці гучалі яны тады, калі я бачыў твар гэтай пачвары ў акне.

Цікаўнасць мая дайшла да мяжы немагчымага. Не, я не паеду адсюль заўтра, як думаў, я павінен разгадаць усё гэта. Жанчына, якая падаравала мне сёння яшчэ адзін добры ўспамін, вар'яцее тут ад жаху, тут робіцца нешта несумяшчальнае з законамі натуры, а я паеду? Але хто дапаможа мне? Хто? Хто дапаможа мне ў пошуках? І прыпомніліся мне словы Свецiловіча: «Прыпаўзу да яе ног і памру». Так, з ім я і павінен сустрэцца. Мы спаймаем гэтую поскудзь, а калі не — я паверу ў існаванне зялёных зданяў і анёлаў божых.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Праз дзень я падыходзіў да дома Дубатоўка. Я не жадаў ісці, але гаспадыня сказала: «Ідзіце, я загадваю. Мне не будзе тут страшна».

І я пайшоў. Пайсці мне давялося зусім у другі бок ад дома, па паўднёвы ўсход. Зарослая травою алея, паабапал якой стаяў змрочны, як лес, парк, давяла мяне да агароджы. У адным месцы тут не было прэнта (гэта была таямніца Надзеі Яноўскай, якую яна мне выкрыла), і можна было пралезці. Гэта было добра, бо мне не давялося, такім чынам, ісці на поўнач, па той алеі, па якой я прыехаў, абмінаць увесь парк і толькі тады ісці да дома Дубатоўка. А так я пралез праз агароджу і выбраўся на роўнае месца. Злева і наўпрост ад мяне былі бязмежныя верасовыя пусткі з рэдкімі купамі дрэў, справа нейкія зарасці, за імі поўная, як вока, рэчка, потым балотны скарлючаны лес, а пасля, відаць, сапраўдная і безнадзейная дрыгва. Недзе вельмі далёка віднеліся за верасовымі пусткамі верхавіны дрэў, відаць, абсада дома Дубатоўка.

Я павольна ішоў пусткаю, толькі часам трапляючы на штосьці падобнае да сцежкі. І хоць асенняе поле было змрочным і непрытульным, хоць двойчы над маёй галавою пралятаў вялізны крук — мне было тут лёгка пасля Балотных Ялін. Тут было ўсё звычайным: імхі на купінах балотцаў, сухі верас паміж імі, мышка-малютка, якая цягнула з высокага бадзяку белы пух, відаць, у сваё гняздо, гатуючыся на зіму.

Я падышоў да дома Дубатоўка толькі ў прысмерку, калі вокны яго былі ярка асветлены. Гэта быў самы звычайны

шляхецкі дом. Старажытнай пабудовы, прысадзісты, з вельмі маленькімі акенцамі, ён быў крыты гонтай, чыста пабелены, меў ганак з чатырма калонамі. Правінцыяльны архітэктар не ведаў, відаць, вядомага сакрэту, і таму калоны здаваліся трохі пукатымі ўсярэдзіне, як бачонкі. Акружала дом старая абсада з жоўтых, амаль ужо абляцелых агромністых ліп. За домам вялікі пераважна фруктовы сад, за ім — хустка ўзаранай зямлі.

Я, відаць, спазніўся, бо за вокнамі ўжо грымелі галасы. Сустрэлі мяне горача і страсна.

— Бацюхны, свентыя пакутнічкі! — крычаў Дубатоўк. — З'явіўся-такі, з'явіўся, блудны сын. За стол яго, за стол. Антось, дзе ты там, лабідуда? Разгонную госцю. Прахлопалі, чэрці, нават не салютавалі яму, страмянной не паднеслі. У, ёлупы...

За сталом сядзела чалавек дзесяць, усё мужчыны. Знаёмыя мне былі толькі Свецiловiч, Алесь Варона і Стахоўскі. Амаль усе ўжо былі даволі п'яныя і разглядалі мяне чамусьці з павышанай цікаўнасцю. Стол ламаўся ад страў: відаць, Дубатоўк быў з мясцовых заможных шляхцюкоў. Заможнасць была, аднак, адносная. Есці і піць было што, але пакоі, праз якія я ішоў, не вызначаліся багатым абсталяваннем. Сцены пабеленыя, аканіцы разьблёныя і ярка афарбаваныя, мэбля старая і не вельмі прыгожая, затое вельмі цяжкая. Старасвеччына глядзела з кожнага кута. У сталовай, акрамя шырокага дубовага стала, табурэтаў, абцягнутых зялёнай шаўкавістай палаценкай, двух данцыгскіх крэслаў, абабітых пазалочаным саф'янам, ды трайнога люстэрка ў карычневай раме, якая перадавала горад з царкоўнымі главамі, нічога не было. Страката апранутыя госці глядзелі на мяне.

— Што вы вочы ўтаропілі! — гаркнуў Дубатоўк. — Сталічнага чалавека не бачылі, мядзведзі, ці што? Ану, дапамажыце госцю, пакладзіце на яго блюда, што вам па густу.

Валасатыя зяпы заўсміхаліся, лапы пачалі рухацца. Хутка на маім блюдзе ляжаў вялізны гусь з бруснічным варэннем, індыковая ножка з яблыкамі, салёныя грыбы, дзесятак калдуноў, а з усіх бакоў толькі і чутна было:

— А вось пампушкі з часнаком... А вось, пане, кавалак шыначкі дзікага япрука, наперчаны, агнём гарыць. Памяццю маці заклінаючы — вазьміце... А вось цудоўная... А вось незвычайны...

— Вось як у нас па-беларуску частуюць, — рагатаў гаспадар, пабачыўшы, што я зусім разгубіўся.

Перада мною вырасла гара. Я паспрабаваў пратэставаць, але выклікаў такі выбух абурэння (у аднаго з гасцей нават слёзы пацяклі; праўда, ён быў трохі нападпітку), што я здаўся.

Лабідуда Антось прынёс мне на падносе «разгонную» чарку. Я вельмі моцны на хмель чалавек, але тут я разгубіўся. У чарцы было не менш як на бутэльку нейкай жоўтай празрыстай вадкасці.

— Не магу.

— Як гэта не магу? Не можа толькі цнатлівая дзеўка, ды і тая хутка згаджаецца.

— Многа, пан Дубатоўк.

— Многа, калі тры жонкі ў хаце, ды і то не для кожнага... Э-э, хлопцы, нас не паважаюць. Прасіце шаноўнага госця.

— Не чыніце крыўды... Выпіце, — зараўлі госці мядзведжымі галасамі.

Давялося выпіць. Вадкасць апаліла ўсе мае вантробы, вогненныя кругі захадзілі ў галаве, але я стрымаўся, не скрывіўся.

— Мужчына! — пахваліў Дубатоўк.

— Што гэта? — праглынуўшы добры кавалак шынкі, спытаў я.

— Го! Старку польскую ведаеш, гарэлку ведаеш, хахлацкі спатыкач таксама, а нашага «трыс дзівінірыс» не ведаеш. Гэта, браце, па-літоўску «тройчы дзевяць», гарэлка на дваццаці сямі травах. Мы яе сакрэт у літоўцаў выведалі стагоддзі таму. Зараз яе і самі літоўцы забылі, а мы яшчэ памятаем. Пі на здароўечка, пасля я цябе стаўным мёдам пачастую.

— А гэта што? — спытаў я, торкаючы відэльцам у нешта цёмнае на талерцы.

— Каханенькі ты мой, гэта ласіныя губы ў падсалоджаным воцаце. Еш, браце, сілкуйся. Гэта страва для волатаў. Продкі нашы, зямля ім пухам, не дурныя былі. Еш, абавязкова іх еш.

А праз хвіліну, забыўшыся, што рэкамендаваў «губы», крычаў:

— Не, браце, ты ў мяне адсюль, не пакаштаваўшы халодных пірагоў з гусінай пячонкай, не пойдзеш. Антось, сюды!

Падышоў Антось з пірагамі. Я быў адмовіўся.

— Падай да госця ў ногі. Бі дурной галавою ў падлогу, прасі, бо госць нас крыўдзіць.

Праз хвіліну я быў таксама нападпітку. Вакол крычалі, спявалі, але я не забываў есці. Дубатоўк вісеў у мяне на плячы і дудніў нешта, што я не вельмі і слухаў. Пакой пачынаў разгойдвацца.

А-а вып’ем чарку,
А за ёй дру-гу-ю, —

роў нехта. І раптам я прыпомніў далёкі дом у яловым парку, бараду моху на дрэвах, камін, сумную постаць ля яго. Мне стала сумна. «Я п’яная свіння, — паўтараў я, — нельга раскашаваць, калі іншаму дрэнна». І так мне стала шкада яе, што я паспрабаваў заплакаць і... адразу зрабіўся цвярозым. Госці ўставалі з-за стала.

— Панове, — казаў Дубатоўк, — вы прагуляйцеся трошкі, трэба стол паднавіць.

Божа, гэта быў яшчэ толькі пачатак! А яны ж былі ўжо добра напітыя. Было восем гадзін вечара. Нічога. Яшчэ рана. Я ведаў, што, так раптоўна працверазеўшы, я больш не буду сёння п’яным, але ўсё ж вырашыў піць асцярожна, бо яшчэ ў балоце загразнеш — будзе тады штука.

Разважаліся. Дубатоўк паказваў добрую калекцыю зброі. Вельмі хваліў адну старую шаблю, якую выпрасіў у Рамана Яноўскага. Казаў, што рускі булат бярэ медную пласціну, польская «зыгмунтоўка» даволі тоўсты цвік, а гэта — наша, сакрэт яшчэ татары пры Вітаўту завезлі. І ўнутры ртуць, удар такі, што не тонкую медную пласцінку возьме, але і тоўстую. Яму не верылі. Ён раскрычаўся, загадаў Антосю прынесці чурак. Антось унёс у пакой кароткае бервяно таўшчынёю як тры чалавечыя шыі, паставіў на падлогу.

Усе прыціхлі. Дубатоўк прымерыўся, выскаліўся, і раптам шабля апісала ў паветры амаль нябачнае паўкола.

Хакнуўшы нутром, Дубатоўк пацягнуў шаблю на сябе і... перасек бервяно наўскос. Памахаў кісцю рукі ў паветры. Усе маўчалі, прыгаломшаныя.

— Вось як трэба, — каротка сказаў ён.

У гэтай пярэрве мне ўдалося адвесці Свеціловіча на ганак і, напамятаўшы яму ягоныя словы, расказаць пра ўсё, што адбывалася ў Балотных Ялінах. Ён надта ўсхваляваўся, сказаў, што чуў пра ўсё гэта і раней, але не вельмі верыў.

— Цяпер верыце?

— Вам веру, — проста сказаў ён. — І абяцаю вам, пакуль я жывы, ніводны волас не ўпадзе з яе галавы. Д’ябал гэта, здань або штосьці іншае — я стану на ягоным шляху.

Мы дамовіліся, што ён і я будзем расследаваць гэту справу разам, што ён праз дзень прыйдзе да мяне і раскажа, пра што ён даведаўся ў наваколлі (розныя пагалоскі і плёткі маглі

прынесці пэўную карысць). Дубатоўка вырашылі пакуль што ў справу не блытаць: стары мог разнервавацца і, па сваім звычаі, секчы з пляча.

Вячэра цягнулася далей. Зноў частавалі, зноў пілі. Я заўважыў, што Дубатоўк падлівае сабе і мне роўна, п'е і дапытліва пазірае на мяне. Калі я выпіваў чарку, на яго твары з'яўляўся выраз задавальнення. Гэта было своеасаблівае падбухторванне на спаборніцтва. А ў перапынках ён прапаноўваў то «бліны з мачанкаю», то «надзвычайныя штонікі з мясам, так і плаваюць у масле, святыя такіх не елі». Відаць, ён апрабоўваў мяне з усіх бакоў. Я піў і амаль не п'янеў.

Астатнія, акрамя Свеціловіча, былі ўжо ў тым стане, калі кожны не слухае, што кажа другі, калі твары чырвоныя, калі адзін спявае, другі расказвае сябру пра гісторыю з яго каханкай, трэці наддзіраецца, каб звярнуць увагу ўсіх на нейкі каларытны факт сваёй біяграфіі, а чацвёрты сам сабе распавядае, якая добрая ў яго была маці, і які ён п'янюга, і які ён ганебны: няварты такой маці сын.

Спявалі, цалаваліся. Нехта выў:

Мая жонка ў хаце,
А я п'ю, гуляю.
Карчмару вала, а душу
Д'яблу прапіваю.

Другі цягнуў сваё:

Раскажыце мне, добры людзейкі,
Дзе мой любы начуе.
Калі ў дальняй дарозе —
Памажы яму, Божа,
Як ва ўдовачкі на пасцелечцы —
Пакарай яго, Божа.
Як ва ўдовачкі на пасцелечцы...

Хтосьці прыўзняў галаву ад стала і праспяваў свой варыянт апошняга радка:

Пам-мажы яму... тож-жа.

Усе зарагаталі.

Між тым Дубатоўк пакруціў галавою, як быццам адганяючы ачмурэнне, устаў і агаласіў:

— Я нарэшце знайшоў сярод маладых сапраўднага шляхціца. Ён піў сёння больш за мяне, я адурэў, а ён свежы, як хмыз

пад дажджом. Вы ўсе тут не вытрымалі б і паловы гэтага. Дзевяць з вас ляжалі б без ног, а адзін мыкаў. Гэта мужчына! Гэта чалавек! Яго, і толькі яго, я з задавальненнем узяў бы ў сябры юнацтва.

Усе пачалі крычаць «славу». Толькі адзін Варона глядзеў на мяне змрочна і з’едліва. Пілі за маё здароўе, за шляхту — соль зямлі, за маю будучую жонку.

Калі захапленне трошкі прыціхла, Дубатоўк паглядзеў мне ў вочы і давяральна спытаў:

— Ажэнішся?

Я няпэўна хітнуў галавою, хоць добра разумеў, пра што ён пытае. Ён, відаць, быў упэўнены ў гэтым, а мне не хацелася яго пераконваць у адваротным. Старому я спадабаўся, ён быў падпіты зараз і мог вельмі пакрыўдзіцца, калі б я шчыра сказаў яму, што я ніколі пра гэта не думаў і думаць не хачу.

— Яна прыгожая, — замест адказу сцвердзіў Дубатоўк і ўздыхнуў, адводзячы ўбок вочы.

— Хто? — спытаў я.

— Мая падапечная.

Справа зайшла занадта далёка, і больш круціць нельга было, атрымалася б, што я скампраметаваў дзяўчыну.

— Я не думаў пра гэта, — сказаў я. — А каб нават і думаў, дык гэта справа не мая. Спыталі б перш за ўсё ў яе.

— Унікаеш сур’ёзнага адказу, — раптам з’едліва працадзіў Варона (я не чакаў, што ён можа чуць нашу ціхую размову). — Не хочаш проста і шчыра сказаць сур’ёзным людзям, што гонішся за грашыма, за радавітай жонкаю.

Я збялеў. Імкнучыся трымацца спакойна, адказаў:

— Я не збіраюся жаніцца. І наогул лічу, што размова пра дзяўчыну ў халастой падпітай кампаніі — не пасуе сапраўднаму чалавеку. Заціхніце, пан Варона, не прыцягвайце ўвагі п’яных да бязвіннай дзяўчыны, не псуйце яе рэпутацыі, і я, хоць гэта жахлівая абраза, дарую вам яе.

— Хо! — сказаў Варона. — Ён мне даруе. Гэты кот, гэтае хамуйла.

— Замаўчыце! — крыкнуў я. — Як вы абражаеце яе адным з гэтых слоў, падумайце?!

— Панове! Панове! — супакойваў нас Дубатоўк. — Варона, ты п’яны.

— Думайце самі. Я спусціў вам аднойчы вашу правіну, я не буду гэтага рабіць больш, — прашыпеў Варона.

— Мярзотнік! — гаркнуў я, шалеючы.

— Гэта я?

— Так, вы! — крыкнуў я так страшна, што нават той, хто спаў, узняў галаву ад стала. — Я прымушу вас замазаць глотку.

Сталовы нож прасвісцеў у паветры і плазам стукнуўся мне ў грудзі. Я ўскочыў з месца, схапіў Варону за грудзі і трахануў. У той самы час Дубатоўк схапіў нас за плечы і расцягнуў, моўчкі штурхнуўшы Варону ў грудзі.

— Саромся, Алесь! — загрымеў ён. — Ты шчанюк... Зараз жа мірыся.

— Не, чакай, Дубатоўк. Справа сур'ёзная. Позна. Закрануты мой гонар, — рыкаў Варона.

— І мой гонар, як гаспадара. Хто цяпер прыедзе да мяне ў госці? Усе скажуць, што ў мяне можна нарвацца на такое, — гудзеў Дубатоўк.

— Пляваць, — выкрыкнуў, ашчэрыўшыся, Варона.

Дубатоўк моўчкі даў яму поўху.

— Цяпер ты будзеш перш за ўсё біцца на шаблях, са мною, бо ён толькі ўзяў цябе за грудзі, — прасіпеў ён такім голасам, што многія здрыгануліся. — Я зраблю так, што мой госць пойдзе адсюль жывы і здаровы.

— Памыляешся, — амаль спакойна сказаў Варона. — Хто першы абразіў, той першы і ў чарзе. А пасля ўжо справа будзе і з табою, хоць і забі мяне.

— Алесь, — амаль благаў Дубатоўк. — Не рабі ганьбы маёй хаце.

— Ён будзе біцца са мною, — цвёрда сказаў Варона.

— Ну і добра, — нечакана згадзіўся гаспадар. — Нічога, пан Беларэцкі. Будзьце мужнымі. Гэты свінтух зараз такі п'яны, што не зможа трымаць пулгака. Я, бадай што, стану поруч з вамі, гэта будзе самае небяспечнае ад куль месца на ўсім месцы дуэлі.

— Што вы, пане Рыгор... — я паклаў далонь яму на плячо. — Не трэба. Я не баюся. Будзьце мужнымі і вы.

Варона ўтаропіў на мяне свае чорныя мёртвыя вочы:

— Я яшчэ не скончыў. Страляцца будзем не ў садзе, іначай гэты фацэт уцячэ. І не заўтра, іначай ён ад'едзе адсюль. Страляцца будзем тут, зараз, у пустым пакоі ля імшаніку. І кожнаму па тры кулі. У цемры.

Дубатоўк зрабіў пратэстуючы жэст, але ў маю душу ўжо закралася халодная вар'яцкая ярасць. Мне было ўсё адно, я ненавідзеў гэтага чалавека, забыў Яноўскую, працу, сябе.

— Я падпарадкоўваюся вашаму жаданню, — з’едліва сказаў я. — А вы скарыстаеце цемру, каб уцячы ад мяне? Зрэшты, як хочаце.

— Ільвяня! — пачуў я перарывісты голас Дубатоўка.

Я глянуў на яго і ўразіўся. На старога шкада было глядзець. Твар яго перакрывіўся, у вочках была нялюдская туга і сорам, такі сорам, такі сорам, хоць лусні... Ён ледзь-ледзь не плакаў, і на канцы носа вісела нейкая падазроная кропля. Ён нават у вочы мне не зірнуў, павярнуўся і махнуў рукою.

Імшанік прылягаў да дома, вялізнае памяшканне з сівым мохам у пазах сценак. Павуцінне, як раскручаныя сувоі палатна, вісела з саламянай страхі і хіталася ад крокаў. Два шляхціцы неслі свечкі і праводзілі нас у пакой ля імшаніка, зусім пусты, з шэрай бруднай атынкоўкай і без акон. Тут пахла мышамі і брыдотай запусцення.

Калі сказаць сумленна, я баяўся, і вельмі баяўся. Пачуцці мае былі падобнымі да пачуццяў быка на бойні або чалавека, які сядзіць у дантыста. І кепска, і брыдка, але ўцякаць нельга.

«Ну што будзе, як ён вось зараз возьме і стрэльне і трапіць мне ў жывот? Ах, гэта жахліва! Уцячы б куды».

Мне чамусьці асабліва жахлівай здавалася рана ў жывот. А я яшчэ толькі што пад’еў.

Я ледзь не замычаў ад тугі і агіды. Але своечасова схамянуўся і паглядзеў на Варону. Ён стаяў з секундантамі ля процілеглай сцяны, заклаўшы левую руку ў кішэнь чорнага фрака, а ў правай, апушчанай уніз, трымаў дуэльны пулгак. Два другія яму заклалі ў кішэні. Яго жоўты, сухі і нейкі грэблівы твар быў спакойны. Не ведаю, ці мог я сказаць тое самае пра свой твар.

Два мае секунданты (адзін з іх быў Дубатоўк) далі і мне пулгак, два другія пулгакі паклалі ў кішэні — я нічога не заўважаў, я глядзеў на твар чалавека, якога я павінен забіць, бо інакш ён заб’е мяне. Я глядзеў на яго з нейкай прагнасцю, як быццам жадаючы зразумець, за што ён заб’е мяне, за што ён мяне ненавідзіць.

«За што я яго заб’ю? — падумаў я, як быццам толькі я стаяў тут з пулгакам у руцэ. — Не, яго нельга забіваць. І нават не ў тым, не ў тым справа, а вось гэта тонкая, такая слабая чалавечая шыя, якую так лёгка перарваць». Я не хацеў паміраць таксама, я вырашыў выкручвацца, дабіцца таго, каб Варона стрэліў тры разы, і тым скончыць дуэль.

Секунданты выйшлі і пакінулі нас двух у пакоі. Пасля дзверы зачыніліся. Мы апынуліся ў поўнай цемры. Хутка прагучаў голас аднаго з секундантаў Вароны:

— Пачынайце.

Я зрабіў левай нагою два «крокі» ўбок і пасля асцярожна паставіў яе на ранейшае месца. Дзіўна, але ўсялякае хваляванне знікла, я дзейнічаў як аўтамат, але так разумна і хутка, як ніколі не здолеў бы зрабіць гэта пад кантролем мозгу. Не слыхам, а хутчэй скурай я адчуваў прысутнасць Вароны ў пакоі, там, ля другой сцяны.

Мы маўчалі. Зараз справа залежала шмат у чым ад таго, хто будзе больш вытрыманы. Палец мой так і імкнуўся хутчэй націснуць спуск.

Успышка азарыла пакой. Не вытрымаў Варона. Куля візганула недзе ў левым баку ад мяне, цокнулася ў сцяну. Я мог бы стрэліць у той момант так верна, як пры дзённым святле. Але я не стрэліў, толькі памацаў рукою тое месца, куды яна ўдарыла. А потым застаўся на тым самым месцы.

Варона, відаць, не мог нават і падумаць, што я другі раз ужыў той самы прыём. Я чуў яго ўсхваляванае сіплае дыханне.

Другі стрэл пулгака Вароны аддаўся ў пакоі. І зноў я не страляў. Але стаяць больш на месцы не было маіх сіл, тым больш што я чуў: Варона пачаў красціся ля сцяны, а пасля, здаецца, у мой бок.

Нервы мае не вытрымалі, я асцярожна пачаў кудысьці ісці. А цемра глядзела на мяне тысячамі пісталетных дулаў. Дула магло быць у любой кропцы, я мог налезці на яго проста жыватом, тым больш што згубіў ворага і нават не мог сказаць, дзе дзверы ў пакоі і дзе якая сцяна.

Я спыніўся, каб прыслухацца да таемнага інстынкту. І вось у той момант, калі я спыніўся, нешта прымусіла мяне з грукатам кінуцца сцягном на падлогу.

Стрэл прагучаў проста нада мною, нават валасы на маёй галаве варухнуліся.

А ў мяне яшчэ былі тры кулі. На хвіліну варухнулася дзікая радасць, але я прыпомніў кволую чалавечую шыю і апусціў пулгак.

— Што там такое? — прагучаў голас за дзвярыма. — Страляў хтосьці адзін. Што там, забіла каго, ці што? Страляйце хутчэй, хопіць вам кулагу варыць.

І тады я ўзняў руку з пулгакам, адвёў яе ў бок ад таго месца, дзе быў у момант трэцяга стрэлу Варона, і націснуў спуск. Трэба ж было мне выпусціць хоць адну кулю.

У адказ, зусім нечакана для мяне, раздаўся жаласны стогн і гук ад падзення чалавечага цела.

— Хутчэй сюды! — крыкнуў я. — Хутчэй! Дапамажыце! Я, здаецца, забіў яго.

Жоўтая, асляпляючая паласа святла наўскос упала на падлогу. Калі людзі ўвайшлі ў пакой, я пабачыў Варону, які ляжаў дагары тварам, выцягнуты і нерухомы. Я кінуўся да яго, прыўзняў яго галаву. Рукі мае натрапілі на нешта цёплае і ліпучае. Твар Вароны яшчэ больш пажаўцеў.

Я не вытрымаў больш, я схапіў яго за шчокі, прыпаў тварам:

— Варона! Варона! Прачніся! Прачніся ж!

Дубатоўк, змрочны і суровы, выплыў аднекуль, бы з туману. Ён завіхаўся ля ляжачага, пасля зірнуў мне ў вочы і зарагатаў. Мне здалося, што я звар'яцеў. Я ўстаў і, ашалелы, амаль непрытомны, выцягнуў з кішэні другі пулгак. Мне здавалася вельмі простым узяць яго, паднесці да скроні і...

— Не жадаю, не жадаю я больш!

— Ну чаго ты, хлопча, чаго, любенькі, — пачуў я голас Дубатоўка. — Гэта ж не ты яго абразіў, ён нас з табою хацеў зганьбіць. Нічога, за табою яшчэ два стрэлы. Бач ты, як цябе курчыць! Гэта ўсё з непрывычкі, ад чыстых рук ды сумленнага сэрца. Ну... ну... ты ж не забіў яго, не. Ён толькі аглушаны, як бугай на бойні. Бач, як ты яго лоўка. Адстрэліў кавалак вуха ды яшчэ і на галаве скуру ўспароў. Нічога, паляжыць тыдзень, адлежыцца.

— Не трэба мне вашых двух стрэлаў! Не жадаю! — крычаў я, як дзіцёнак, і ледзь не тупаў нагамі. — Дарую яму гэтыя два стрэлы!

Варону падхапілі мой секундант і яшчэ нейкі шляхціц, у якога ўвесь твар складаўся з вялізнага кірпатага носа і нягоЛенай барады. Яны панеслі яго кудысьці.

— Хай бярэ сабе гэтыя два стрэлы!

Толькі тут я зразумеў, які гэта жах забіць чалавека! Лепей, напэўна, здохнуць самому. І не тое каб я быў такім ужо святым. Зусім іншая справа, калі такое здарыцца ў сутычцы, у бітве, у запале. А тут цёмны пакой і чалавек, які хаваецца ад цябе, як пацук ад факстэр'ера. Я стрэліў з абодвух пулгакаў у сценку ля столі, кінуў іх на зямлю і пайшоў.

Калі я зайшоў у пакой, дзе адбылася свара, Варону паклалі ўжо ў адным з дальніх пакояў пад нагляданнем сваякоў Дубатоўка, а кампанія зноў сядзела за сталом. Я хацеў ісці адразу ж — не пусцілі. Дубатоўк пасадзіў мяне поруч з сабою і сказаў:

— Нічога, хлопча. Гэта ад нерваў у цябе. Ён жывы, будзе здаровы — чаго яшчэ? І ён будзе цяпер ведаць, як насыкацца на сапраўдных людзей. На, выпі... Я скажу табе, што ты сапраўдны чалавек. Так д'ябальскі хітра і так мужна чакаць усіх трох стрэлаў — гэта мала хто мог зрабіць. І гэта добра, што ты высакародны, ты ж мог забіць яго дзвюма астатнімі кулямі — і не зрабіў гэтага. Мая хата зараз да апошняга крыжа ўдзячна табе.

— І ўсё ж гэта дрэнна, — сказаў адзін з шляхцюкоў. — Такая вытрымка, яна не ад чалавека.

Дубатоўк скалануў галавою:

— Сам вінен, свіння. Сам палез, п'яны дурань. Хто б яшчэ падумаў крычаць пра грошы, акрамя яго. Ты ж ведаеш, што ён да яе сватаўся і атрымаў гарбуза. Я ўпэўнены, што пан Андрэй значна больш забяспечаны чалавек, чым Яноўскія. У яго галава, праца і рукі, а ў апошняй жанчыны іхняга роду — маярат, на якім трэба сядзець, як сабаку на сене, здохнуць голадам на скрыні з грашыма.

І звярнуўся да ўсіх:

— Панове, я спадзяюся на гонар усіх нас. Мне здаецца, аб тым, што здарылася, трэба маўчаць. Гэта не робіць гонару Вароне — д'ябал з ім, ён заслугоўвае катаргі, але гэта не робіць гонару і вам, і дзяўчыне, імя якой трапаў на п'яным языку гэты блазнюк... Ну, а мне і пагатоў. Адзіны, хто трымаў сябе як мужчына, гэта Беларэцкі, а ён, як сапраўдны мужчына, сціплы чалавек.

Усе згадзіліся. І госці, відаць, умелі трымаць язык за зубамі, бо па акрузе ніхто і словам не абмовіўся пасля аб гэтым здарэнні.

Калі я ішоў адтуль, Дубатоўк затрымаў мяне на ганку:

— Каня табе даць, Андрусь?

Я ўмею ездзіць, але хацеў прайсціся пехатою і ачуняць пасля ўсяго.

— Ну то глядзі.

Я пайшоў дадому верасоваю пусткаю. Была ўжо глыбокая ноч, месяца не было відаць за хмарамі, але нейкае няпэўнае, хварабліва-шэрае святло залівала пусткі. Часам уздрыгваў пад парывамі ветру сухі верас, часам панавала цішыня. Вялізныя стаячыя камені трапляліся каля дарогі. Панурая гэта была дарога! Цені разрасталіся, перасякалі яе. Мне трохі хацелася спаць, і я жахнуўся ад адной думкі, што трэба ісці дарогаю, абмінаць парк, крочыць каля Волатавай прорвы. Лепей было зноў пайсці пусткаю і адшукаць патаемны лаз у агароджы.

Я збочыў з дарогі, амаль адразу трапіў у нейкую твань, перапэцкаў боты, пасля выбіўся на сухі верас, пасля зноў трапіў у гразь, упёрся ў доўгае і вузкае балота. Лаючы сябе за тое, што зрабіў вялікі круг, я ўзяў налева, бліжэй да зараснікаў на беразе ракі (я памятаў, што там было суха, і да таго ж рака трохі асушае каля сябе вільготную мясцовасць), выбіўся хутка на тую самую сцежку, па якой ішоў да Дубатоўка, і, апынуўшыся за палову вярсты ад яго хаты, пайшоў ля зараснікаў у напрамку Балотных Ялін. Парк ужо вымалёўваўся верхавінамі дрэў вярсты за паўтары наперадзе, калі нейкае незразумелае пачуццё спыніла мяне. Ці пачуцці мае, абвостраныя ў гэты вечар гарэлкай і небяспекаю, ці нейкае незразумелае шостае пачуццё выразна сказалі мне, што я не адзін на раўніне. Што было гэта, другое, я не ведаў, але быў упэўнены, што яно яшчэ далёка. Я прыспешыў крокі, хутка абмінуў той язык дрыгвяністага месца, у які ўлез нядаўна і які перагароджваў мне шлях. Атрымалася так, што я стаяў амаль ля зараснікаў, проста перада мною за вярсту быў парк Балотных Ялін, дрыгвяністая лагчына метраў дзесяць шырынёй аддзяляла мяне ад таго месца, дзе знаходзіўся сорак хвілін таму, дзе сунуўся ў твань (я згубіў гэтыя хвіліны, каб зрабіць круг). За лагчынаю ляжалі пусткі, роўна асветленыя ўсё тым самым няпэўным святлом, а за імі — дарога. Калі павярнуцца назад, то далёка ў правым баку мігцеў апошні агеньчык у хаце Дубатоўка, мірны і ружовы, а ў левым баку, таксама далёка, за пусткамі віднеліся разложыстыя і агромністыя верхавіны Яноўскай пушчы. Але яна была вельмі-вельмі далёка, на мяжы пустак і балот.

Я стаяў і слухаў, хоць нейкае неспакойнае пачуццё і казала мне, што яно зараз бліжэй. Я ж не мог паверыць у прадчуванні: павінна была быць нейкая рэальная прычына для гэтага душэўнага стану. Я не мог нічога бачыць: лёгкі туман укрываў раўніну. Я нічога не чуў. Што ж гэта магло быць, адкуль гэты сігнал? Я лёг на зямлю, прыціснуў да яе вуха і праз палову хвіліны адчуў нейкае раўнамернае страсенне зямлі. Не скажу, што я вельмі смелы чалавек, інстынкт самазахавання ў мяне, можа, нават больш моцны, ніж у іншых, але я заўжды быў вельмі дапытлівы. Я вырашыў чакаць і хутка быў узнагароджаны.

З боку пушчы па пустках рухалася нейкая цёмная маса, даволі вялікая і рухавая. Я доўгі час не мог здагадацца, што гэта такое. Пасля я пачуў дробны і роўны пошчак капытоў. Шамацеў верас. Пасля ўсё знікла, маса, відаць, спусцілася ў нейкую лагчыну, а калі з’явілася зноў — пошчак змоўк. Яна

імчалася бязгучна, быццам плыла ў паветры, рабілася ўсё бліжэй і бліжэй. Пасля зрабілася большай, відаць, звярнула і замест галавы паказала мне бок. Яшчэ хвіліна, і я аж надаўся наперад. У хвалях слабага празрыстага туману ясна вымалёўваліся сілуэты коннікаў, якія імчалі шалёным намётам, аж конскія грывы веялі на ветры. Я пачаў лічыць іх і налічыў дваццаць. Дваццаць першы скакаў наперадзе. Я яшчэ сумняваўся, калі вецер прынёс аднекуль далёкі водгук паляўнічага рога. Халодны сухі мароз прайшоў па маёй спіне.

Цьмяныя цені коннікаў беглі ад дарогі наўскос да дрыгвяністай лагчыны. Веялі па ветры плашчы-велеісы, коннікі прама, як лялькі, сядзелі ў сядле, і ніводны гук не далятаў адтуль. Менавіта ў гэтым маўчанні і было самае жахлівае. Нейкія светлыя плямы выдзяляліся на гэтым туманным фоне. А дваццаць першы скакаў наперадзе, не матляючыся ў сядле, вочы яго закрываў нізка насунуты капялюх з пяром, твар быў змрочны і бледны, вусны падціснуты.

Дзікі верас спяваў пад іхнімі нагамі.

Я дапытліва глядзеў на вострыя насы, якія тырчалі з-пад капелюхоў, на тонкія, знізу калматыя ногі коней нейкай невядомай пароды.

Бязгучна скакала па верасе дзікае паляванне караля Стаха, імчалі шэрыя, туманныя, нахіленыя наперад постаці.

Я не адразу зразумеў, што яны, блукаючы балотам, натрапілі на мой след і зараз ідуць па ім па маю душу. Яны спыніліся, усё так жа бязгучна, каля таго месца, дзе я ўбіўся ў твань. Да іх было не менш як дзесяць метраў праз дрыгву, я бачыў нават, што коні іхнія, туманныя коні, варанога і стракатага колераў, але не пачуў ніводнага гуку, толькі недзе ля пушчы часам спяваў прыглушаны рог. Я толькі бачыў, што адзін з іх павіснуў у сядле, паглядзеў на сляды, зноў выпраміўся. Правадыр махнуў рукою ў той бок, куды пайшоў я, агінаючы лагчыну, і паляванне памчала. Яшчэ хвілін пятнаццаць, і яно, агінуўшы лагчыну, павінна было быць тут. Халодная злосць віравала ў маім сэрцы: ну не, здані вы ці хто, а я вас стрэну паналежнаму!.. Рэвальвер, шэсць набояў — і паглядзім. Я хутка сунуў руку ў кішэнь, і... халодны пот выступіў на маім ілбе: рэвальвера не было. Я толькі тут успомніў, што пакінуў яго ў шуфлядзе бюро ў маім пакоі.

«Гэта канец», — падумаў я.

Але чакаць канца, склаўшы лапкі, было не ў маіх правілах. Праз пятнаццаць хвілін будуць тут. Мясцовасць няроўная. Там-

сям ёсць балотцы, якія мажліва перабегчы мне, а не коннікам (хоць, можа, калі яны здані, яны пералятуць іх у паветры). Я магу заблытаць сляды.

Я зняў боты, каб у першыя хвіліны не прыцягнуць увагі пагоні гукамі сваіх крокаў, і пайшоў, спачатку няспешна, а пасля, калі лагчына схавалася, хутчэй. Я пятляў, бег па верасе, ногі мае ўзмоклі ад расы. Я накіраваўся спачатку ўздоўж лагчыны, а пасля крута звярнуў да Балотных Ялін хмызамі. Некалькі разоў я бег па вадзе — ці зважаць мне было на гэта? Хутка я зноў дабег да сцежкі, а калі павярнуўся, то пабачыў дзікае паляванне ўжо на гэтым баку. Яно з той самай тупой упартасцю рухалася па маіх слядах. Пагоня імчала, грывы і плашчы рэялі ў паветры.

Карыстаючыся тым, што я схаваны ад іх хмызамі, а сцежка ідзе пад гару, я ўзяў боты ў рукі і даў па сцежцы такі клас бегу, якога не даваў ніколі да гэтага і бадай што ніколі — пасля. Я імчаў так, што вецер свісцеў у вушах, паліла ў лёгкіх, выядаў вочы пот. А тупат за маёй спіною хоць павольна, а набліжаўся. Хутка мне ўжо здавалася, што я ўпаду, я і сапраўды два разы спатыкнуўся, але выправіўся і бег, бег, бег. Павольна, вельмі павольна набліжаўся цёмны парк, а тупат гучаў усё бліжэй і бліжэй.

На маё шчасце, прыйшло другое дыханне, як сказалі б зараз. Я бег напрасткі, праз яры і ямы, агінаючы гарбы, на якіх мяне маглі заўважыць. І тупат гучаў то бліжэй, то далей, то з правага, то з левага боку. Мне не было часу азірацца, але раз я ўсё ж азірнуўся з хмызоў. Яны, людзі дзікага палявання, ляцелі за мною ў малочным нізкім тумане.

Коні іхнія распасцерліся ў паветры, верас звінеў пад капытамі, коннікі сядзелі нерухома, і над імі, у лапіку чыстага неба, гарэла самотная вострая зорка.

Напружыўшы апошнія сілы, я скаціўся з горкі, перасек шырокую сцежку, скокнуў у канаву і пабег па дне, па вадзе. Канава набліжалася да агароджы. Я выскачыў з яе і адным скачком перанёсся да агароджы. Яны былі за якіх-небудзь дваццаць сажняў ад мяне, але трохі замарудзіліся, і гэта дало магчымасць праскочыць у ледзь прыкметную дзірку і захавацца ў бэзе. На сцежцы было зусім цёмна ад дрэў, і таму, калі яны амаль бязгучна прамчалі паўз мяне, я не змог разгледзець іх. Але я добра чуў, як галаўны прастагнаў: «Да прорвы».

Дзікае паляванне памчала далей, а я сеў на зямлю. Сэрца маё калацілася, як хвост авечкі. Але я хутка ўстаў. Сядзець

пасля бегу нельга. Я добра разумеў, што толькі атрымаў адтэрміноўку. Яны могуць хутчэй дамчаць навакольным шляхам да дома, чым я дайду да яго нацянькі. І зноў пабег. Ногі мае былі збітыя да крыві, двойчы я ўпаў, запнуўшыся аб карэнні, лапы ялін сцябалі мой твар. Гмах палаца вырас перада мною зусім нечакана, і адначасова я пачуў пошчак капытоў недзе наперадзе. Яны зноў гучалі, яны грымелі так часта, што я скурай адчуваў: яны імчаць неверагодна хуткім намётам.

Я пайшоў ва-банк. Я мог схавацца, але ў палацы была дзяўчына, якая зараз, пэўна, вельмі спалохалася. Я павінен быў быць там, там была мая зброя. За некалькі скачкоў я спынуўся на ганку і затарабаніў у дзверы:

— Надзея Раманаўна! Надзея Раманаўна! Адчыніце!

Крычаць было нельга. Яна магла абамлець ад жаху. А ляск капытоў быў ужо тут, на гэтай палове палаца. Я грукацеў.

Дзверы адчыніліся раптоўна. Я ўскочыў у залу, моцна прыпёр дзверы і хацеў быў кінуцца за зброяй, але праз ваўчок пабачыў, што туманныя коні прамчаліся далей і зніклі за паваротка алеі.

Я глянуў на Яноўскую, якая стаяла, уражаная маім выглядам, глянуў у люстру і жахнуўся: увесь падзёрты, пашарпаны, з крывёю на руках, са скалмачанымі валасамі стаяў і дзіка глядзеў на мяне мой двайнік. Я зноў глянуў на Яноўскую: бледная, з мёртвым тварам, яна закрыла вочы і спытала:

— Верыце вы зараз у дзікае паляванне караля Стаха?

— Зараз веру, — змрочна сказаў я. — І вы не пабаяліся адчыніць мне дзверы ў такі момант?!.. Маленькае мужнае сэрца.

У адказ яна разрыдалася:

— Пане Беларэцкі... пан Андрэй... Андрэй. Я так баялася, так баялася за вас. Божа... божа... божа! Хоць бы ўзяў ты толькі мяне адну!

Рукі мае сціснуліся ў кулакі.

— Пані Надзея. Я не ведаю, здані гэта ці не. Здані не маглі быць такімі рэальнымі, людзі не маглі быць такімі прывіднымі, палаць гэткай нячыстай злобай. Але я клянуся, клянуся вам. За гэты ваш жах, за гэтыя вашы слёзы яны заплоцяць мне, заплоцяць дарагой цаной. Клянуся вам.

Недзе далёка заміраў часты пошчак конскіх капытоў.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Калі да гэтага тэмп майго апавядання быў трохі запаволены, то зараз ён будзе, наадварот, ці не занадта хуткім. Але што зробіш, надзеі з той жахлівай ночы так імчаліся, што ў мяне кружылася галава.

Ранкам наступнага дня мы хадзілі з Яноўскай да вёскі, дзе я запісваў легенды. Усю дарогу я пераконваў яе, што не трэба так баяцца дзікага палявання, расказаў, як я ўчора ашукаў яго, а ў галаве круцілася: «Што ж гэта было? Што?»

Гаспадыня трошкі павесялела, але ўсё ж была прыгнечанай: такой яе я яшчэ не бачыў. А калі я вяртаўся да палаца (Яноўская затрымалася ля флігеля з вартаўніком), заўважыў брудны аркуш паперы, прышпілены калючкай да стаўбура яліны на відным месцы. Я садраў яго:

«Тое, чаму трэба, загіне. Ты лёзны чалавек, чужынец нейкі. Сыходзь з дарогі. Ты чужы тут, якая справа табе да праклятых радоў. Паляванне караля Стаха прыходзіць апоўначы. Чакай».

Я толькі плячыма знізаў. Пасля таго апакаліптычнага жаху, які я перажыў учора, гэта пагроза здалася мне дрэннай меладрамай, непрадуманым ходам і, між іншым, пераканала мяне ў зямным паходжанні гэтай чартаўшчыны (як вы пабачыце далей, дарэмна).

Я схаваў ліст. А ўначы адбылося адразу два здарэнні. Спаў я зараз вельмі дрэнна, мучылі нейкія кашмары. Я прачнуўся апоўначы ад крокаў, але на гэты раз нейкая незразумелая ўпэўненасць, што гэта не проста гукі, прымусіла мяне ўстаць. Я накінуў халат, асцярожна адчыніў дзверы і выйшаў у калідор. Крокі гучалі ў дальнім яго канцы. Я пайшоў за імі і... пабачыў ахмістрыню, якая са свечкаю ішла кудысьці. Я асцярожна ішоў за ёю, трымаючыся цемры. Яна зайшла ў нейкі пакой. Я пайшоў быў да яго, але яна выглянула адтуль, і я ледзь паспеў прыціснуцца да сцяны. Калі я дайшоў да пакоя, то пабачыў там толькі стары пісьмовы стол, разьблёную шафу. На падаконніку стаяла свечка. Я зайшоў туды, вельмі асцярожна заглянуў у шафу — пустая. Пакой быў зусім пусты, і на жаль, мне нельга было вартаваць у ім: я мог сапсаваць усю справу. Таму я пайшоў за паваротку калідора і стаў там. У халаце было холадна, мерзлі ногі, але я стаяў. Я стаяў, напэўна, ужо каля гадзіны, калі раптам другая з'ява ўразіла мяне. Па калідоры, па дальнім яго канцы, рухалася блакітная постаць жанчыны.

Адкуль яна з’явілася — не ведаю: калідор у тым канцы таксама рабіў калена. Яна рухалася плаўна, быццам плыла. Я толькі быў рушыў туды, як спыніўся, уражаны. Твар гэтай жанчыны быў тварам Надзеі Яноўскай, толькі дзіўна змененым. Ён быў вельмі паважны і спакойны, больш сталы і нейкі нават больш выцягнуты. Дзе я бачыў такі? Я ўжо здагадаўся і ўсё ж не верыў сам сабе. Ну, вядома, партрэт страчанай жанчыны ў зале. Блакітная Жанчына!

Я забыўся на ахмістрыню, на холад, на ўсё. Гэтую таямніцу я павінен быў вырашыць неадкладна. І я рушыў туды. А яна плыла, плыла ад мяне, і тут толькі я заўважыў, што вялікае акно ў калідоры напалову адчынена. Яна ступіла на нізкі падаконнік і знікла. Я дабег да акна, выглянуў і нічога, нічога не пабачыў, быццам нехта смяяўся з мяне. Кут дома быў, праўда, зусім недалёка, але карніз быў, усё той самы вузенькі карніз. Я ўшчыкнуў сябе за руку — не, я не спаў.

Я так быў уражаны гэтым новым здарэннем, што ледзь не прапусціў вяртання ахмістрыні. Тая ішла са свечкай, трымаючы ў руцэ нейкі аркуш паперы. Я прыціснуўся ў нішы дзвярэй, яна прайшла паўз мяне, не заўважыўшы, пасля выглянуў і пабачыў, што яна спынілася ля акна, пахітала галавою і, мармычучы нешта, зачыніла яго.

Пасля пайшла па сходах па першы паверх.

І што ёй трэба было тут, на другім паверсе? Я пайшоў быў да сябе, але раптам спыніўся і ціхутка пастукаў у дзверы пакоя Яноўскай. Чым не жартуе д’ябал, а раптам гэта ўсё ж была яна? Я сказаў шэптам:

— Надзея Раманаўна, вы спіце?

У адказ я пачуў соннае мармытанне.

Я вярнуўся ў пакой і, не запальваючы свечкі, сеў на ложак. Мяне калаціла ад холаду, а чэрап проста разломваўся ад розных супярэчлівых думак.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Калі мы наступнага дня гулялі з ёй у алеі, я расказаў ёй пра здарэнні мінулай ночы. Можа, мне і нявАрта было рабіць гэтага, не ведаю, але я ніяк не мог пазбавіцца думкі, што тут нешта нячыста з ахмістрыняю. Яна не здзівілася, паглядзела на мяне вялікімі рахманымі вачыма і адказала павольна:

— Бачыце, а я ў гэту ноч так перахвалявалася за вас, што спачатку не спала, а потым заснула так моцна, што нават нічога не чула. Няварта вам уставаць уначы, пане Беларэцкі. Калі што-небудзь здарыцца, я гэтага сабе не дарую... А наконт ахмістрыні вы памыляецеся. Уласна кажучы, яна можа хадзіць паўсюль, я не датрымліваюся старых правіл, што ахмістрыня можа прыходзіць на другі паверх толькі тады, калі яе клічуць. Тут самае жахлівае не яна, а Блакітная Жанчына. Зноў яна з’явілася. Неадменна здарыцца нешта дрэннае.

І з суровай мужнасцю дадала:

— Хутчэй за ўсё гэта будзе смерць. І я маю ўсе падставы думаць, што памру я.

Мы сядзелі ў старой альтанцы, закінутай глыбока ў зарасніках. Камень ад старасці ўвесь аброс мохам, які пасля апошніх дажджоў молада зазелянеў. Пасярэдзіне альтанкі стаяла мармуровая дзеўка з адбітым вухам, і па твары яе поўз слімак. Яноўская паглядзела на яе і сумна ўсміхнулася:

— Вось так і мы. Брыдота запусцення наша жыццё. Вы казалі, што не зусім верыце ў тое, што гэта здані. Я з вамі не згаджаюся. Але хоць бы і так — што мяняецца? Ці не ўсё адно, ад каго пакутаваць, калі пакутаваць трэба, трэба скупляць грахі.

— Вы іх скупілі гэтымі двума гадамі, — пачаў я. Але яна не слухала мяне.

— Людзі грызуцца, як павукі ў банцы. Шляхта памірае. Калісьці мы былі моцнымі, як камень, а зараз мы... ведаеце, калі раскалоць камень са старога будынка, у ім будуць слімакі. Невядома, чым яны там жывяцца, але варта стукнуць такі камень, як ён разваліцца. Так і мы. І няхай стукаюць хутчэй.

— І не шкада вам гэтай прыгажосці? — павёў я рукою вакол сябе.

— Не, толькі б хутчэй. Я наогул даўно гатова знікнуць разам з гэтым гняздом і не шкадавала б ні яго, ні сябе. Але з некатарага часу я заўважыла, што мне робіцца трошкі шкада жыцця. Напэўна, яно не такая дрэнная штука, як я думала. Напэўна, і ў ім ёсць сонца, сябры, пушыстыя дрэвы, смеласць і вернасць.

— Гэта вельмі добра, што вы так думаеце.

— Не, гэта вельмі дрэнна. У сто разоў горш паміраць, любячы жыццё, ніж так, як я меркавала памерці раней. Раней жах быў звыклым станам маёй душы, зараз ён ператвараецца ў штосьці такое, чаму няма наймення, чаго я не жадаю. І ўсё таму, што я пачала трошкі верыць людзям. Не трэба гэтай веры, не трэба надзеі. Лепей так, як раней. Гэта і спакойна.

Мы памаўчалі, яна нахіліла сабе на калені жоўтую напаўабляцелую галінку клёна і гладзіла яе.

— Людзі не заўсёды хлусяць. Я вельмі ўдзячна вам, пан Беларэцкі, за гэта. Вы павінны мне прабачыць, я чула вашу размову са Свеціловічам, чыстай, добрай душой, адзіным, акрамя вас ды, можа, яшчэ дзядзькі, чалавекам у гэтай акрузе. Дзякую за тое, што не паўсюль на зямлі людзі з плоскімі галовамі, тоўстым чэрапам і чыгуннымі мазгамі.

— Дарэчы, пра Дубатоўка. Як вы лічыце, ці не павінен я адкрыцца яму, каб разам узяцца за выкрыццё гэтай поскудзі?

Веі яе ўздрыганулі.

— Не трэба. Гэты чалавек трыста разоў даказваў сваю адданасць і вернасць нашаму дому, ён добры чалавек, ён не даў Гарабурду падаць да сыскання наш вэксаль яшчэ пры бацьку і зрабіў гэта не зусім дазволеным шляхам: вызваў яго на дуэль і сказаў, што ўсе сваякі яго будуць вызываць Гарабурду да таго часу, пакуль справа не скончыцца для яго дрэнна. Але менавіта таму я і не жадаю, каб ён умешваўся. Ён занадта гарачы, дзядзечка.

Вочы яе, прамяністыя і ціхія, заблішчалі раптам.

— Пан Беларэцкі, я даўно жадала сказаць вам нешта. Пасля учарашняй нашай размовы, калі вы кляліся, я зразумела, што чакаць нельга. Вы павінны пакінуць Балотныя Яліны, пакінуць сёння, самае позняе заўтра, і ехаць у горад. Хопіць. Адспявалі скрыпкі. У свае правы ўступае смерць. Вам няма чаго рабіць тут. Едзьце. Пакіньце гэты забруджаны стагоддзямі дом, гнілых людзей, іхнія злачынствы таму, што да іх пасуе: ночы, дажджы. Вы занадта жывы для гэтага. І вы чужы.

— Надзея Раманаўна! — залямантаваў я. — Што вы кажаце! Мяне ўжо называлі тут чужынцам. Ці мог я чакаць, каб і з вашых вуснаў даляцела да мяне тое самае жорсткае слова? Чым я заслужыў яго?

— Нічым, — суха сказала яна. — Але позна. Усё на свеце позна прыходзіць. Вы занадта жывы. Ідзіце да свайго народа, да тых, хто жыве, галадае і смяецца. Ідзіце перамагаць. А мёртвым пакіньце магілы...

Я раззлаваўся да непрытомнасці:

— А вы не мой народ? А гэтыя людзі, запалоханыя і галодныя, гэта не мой народ? А Свеціловіч, якому я павінен буду здрадзіць, гэта не мой народ? А гэтыя праклятыя богам балоты, дзе чыніцца мярзота, гэта не мая зямля? А дзеці, якія плачуць уначы, пачуўшы пошчак капыт дзікага палявання, якія

дрыжаць ад жаху ўсё жыццё, гэта не дзеці маіх братоў? Як вы смелі нават прапанаваць мне такое?!

Яна ламала рукі:

— Пане Беларэцкі... Няўжо вы не разумееце, што позна абуджаць да жыцця гэтую мясцовасць і мяне? Мы стаміліся спадзявацца, не абуджайце нашай надзеі. Позна! Позна! Няўжо вы не разумееце, што вы адзін, што вы нічога не зробіце, што пагібель ваша — гэта будзе жахліва, гэта будзе непапраўна! Я не дарую сабе гэтага. О, каб вы ведалі, якія гэта жахлівыя здані, якія ненажэрныя да чужой крыві!

— Надзея Раманаўна, — сказаў я холадна, — ваш дом — моцная крэпасць. Але калі вы гоніце мяне, я пайду ў менш надзейную, але не пакіну гэтай мясцовасці. Зараз трэба або памерці, або перамагчы. Памерці — калі гэта здані. Перамагчы — калі гэта людзі. Я не паеду адсюль, не паеду нізавошта на свеце. Калі я перашкаджаю вам — іншая справа. Але калі ваша просьба выклікана толькі тым, што вы баіцёся за мяне, не хочаце рызыкаваць маёй скурай, — я застаюся. Урэшце, гэта мая скура, і я маю поўнае права карыстацца ёй, як сам захачу. Разумееце?

Яна паглядзела на мяне разгублена, са слязьмі на вачах.

— Як вы маглі нават падумаць, што я не хачу бачыць вас у гэтым доме?! Як вы маглі падумаць? Вы мужны чалавек. Мне спакойна з вамі. Мне, нарэшце, добра з вамі, нават калі вы такі грубы, як зараз былі. Шляхціц так не сказаў бы. Яны такія гжэчныя, вытанчаныя, так хаваюць свае думкі. Мне так апрыкрала гэта. Я хачу бачыць вас у гэтым доме, я толькі не хачу бачыць вас такім, як учора, або...

— Або забітым, — падхапіў я. — Не хвалюйцеся. Больш вы мяне такім не пабачыце. Зброя са мною. І зараз не я ад іх, а яны ад мяне будуць бегаць, калі хоць кропля крыві ёсць у іхніх бясплотных жылах.

Яна ўстала і пайшла з альтанкі. Ля самага ўвахода пастаяла хвіліну спіной да мяне, павярнулася і, гледзячы ўніз, сказала:

— Я не хацела, каб вы рызыкавалі жыццём. Вельмі не хацела. Але пасля вашага адказу я думаю пра вас у сто разоў лепш. Толькі вельмі сцеражыцеся, Беларэцкі. Не забывайце нідзе зброі. Я... вельмі рада, што вы не паслухаліся мяне, не вырашылі ехаць. І я згодна з вамі, што людзям трэба дапамагчы. Мая небяспека — глупства, але іншыя людзі — усё. Яны, можа, тут больш вартыя шчасця, чым тыя, на сонечных раўнінах, бо

яны больш пакутавалі ў чаканні яго. І я згодна з вамі: ім трэба дапамагчы.

Яна пайшла, а я яшчэ доўга сядзеў і думаў пра яе. Я быў уражаны, сустрэўшы ў гэтым балоце такую высакароднасць і прыгажосць душы.

Вы ведаеце, як падвышае і ўзмацняе чалавека веданне таго, што на яго нехта пакладаецца, як на каменны мур. Але я, відаць, дрэнна ведаў сябе, бо наступная ноч належыць да самых жахлівых і непрыемных успамінаў майго жыцця. Год дзесяць пасля я, прыпамятаўшы яе, мыкаў і стагнаў ад ганьбы, і жонка пыталася ў мяне, што са мною здарылася. І я ніколі, аж па сённяшні дзень, не распавядаў пра гэтую ноч і мае думкі нікому.

Можа, і вам не распавёў бы, але мне ў галаву прыйшла думка, што не так важлівыя ганебныя думкі, як тое, ці здолеў чалавек іх перамагчы, ці не прыходзілі яны да яго пасля. І я вырашыў расказаць вам гэта для навукі.

Перад вечарам да мяне прыйшоў Свеціловіч. У гаспадыні балела галава, і яна яшчэ да яго з'яўлення зачынілася ў пакоі. Мы размаўлялі перад камінам удвух, і я расказаў яму пра здарэнні мінулага вечара. Выраз непаразумення адбіўся на яго твары, і я спытаў, што яго так здзіўляе.

— Нічога, — адказаў мне ён. — Ахмістрыня — гэта глупства. Магчыма, яна проста крадзе ў гаспадыні з яе мізэрных набыткаў, магчыма, яшчэ што. Я даўно ведаю гэту бабу: даволі скупаватая і дурная, як бот. У яе мазгі заплылі тлушчам, і на злачынства яна не здатная, хоць пасачыць за ёй, здаецца, нядрэнна. Блакітная Жанчына таксама лухта. Наступным разам, калі пабачыце яе, стрэльніце ў той бок. Я не баюся зданяў-жанчын. А вось вы лепей адгадайце, чаму я так здзівіўся, пачуўшы пра ўчарашняе дзікае паляванне?

— Н-не ведаю.

— Ну, а скажыце, ці не было ў вас ніякіх падазрэнняў наконт Вароны? Скажам, так. Варона сватаецца да Яноўскай, атрымлівае гарбуза і пасля, каб адпомсціць, пачынае выкідваць жарцікі з дзікім паляваннем. Вы не чулі пра сватанне? Так, так, яшчэ два гады таму, пры жыцці Рамана, ён прапанаваў гэтаму, тады яшчэ дзіцёнку, руку і сэрца. Таму і на вас злуецца, таму і сваркі шукаў, а калі не атрымалася — вырашыў прыбраць вас з дарогі. Я толькі думаў, што гэта будзе трохі пасля.

Я задумаўся:

— Прызнаюся вам, такія думкі ў мяне былі. Магчыма, я нават даў бы ім волю, каб не ведаў, што Варона ляжыць паранены.

— То якраз глупства. Адразу амаль пасля вашага адыходу ён з’явіўся да стала, зялёны і змрочны, але амаль цвярозы. Кровапусканне дапамагло. Ён быў закручаны бінтам, як качан капусты, адзін нос і вочы глядзелі. Дубатоўк яму: «Што, хлопча, сорамна, напіўся, як свіння, мяне на дуэль выклікаў, а нарваўся на чалавека, які табе даў чосу?» Варона паспрабаваў усміхнуцца, але ад слабасці хіснуўся: «Сам бачу, дзядзька, што я дурань. І Беларэцкі так мяне правучыў, што я больш ніколі лезці да людзей не буду». Дубатоўк толькі галавою пахітаў: «Вось што гарэлачка, моц божая, з ёлупамі робіць». А Варона яму: «Я думаю, трэба ў яго прабачэння папрасіць. Нязручна. Усё адно як паклікалі ў госці і спрабавалі высцебаць». Пасля падумаў: «Не, — кажа, — прабачэння прасіць не буду, злуюся трохі. І, урэшце, ён задавальненне атрымаў». І я вам скажу яшчэ, ён сядзеў з намі, а мы пілі да самага світання. Дубатоўк да таго напіўся, што пачаў уяўляць сябе хрысціянскім пакутнікам пры Нероне, і ўсё намагаўся пакласці рукі ў блюда са жжонкай. Гэты твой секундант, боўдур год пад сорак, усё плакаў і крычаў: «Матухна, прыйдзі сюды, пагладзь мяне па галоўцы. Крыўдзяць твайго сына, не даюць яму больш гарэлкі». Чалавекі тры так і заснулі пад сталом. Ніхто з іх не выходзіў ані на хвіліну, так што да дзікага палявання ні Варона, ні Дубатоўк дачынення не маюць.

— А вы што, і Дубатоўка падазравалі?

— А чаму не? — жорстка сказаў Свеціловіч. — Я нікому зараз не давяраю. Справа ідзе пра Надзею Раманаўну. Што ж я Дубатоўка буду адсюль, з падазроных, выключаць? З якой прычыны? Што добры ён? У-га як чалавек прыкінуцца можа! Я і сам... учора нават не падыходзіў да вас падчас дуэлі, каб не падазравалі, калі яны злачынцы. І зараз не буду падыходзіць, не трэба. Я і вас падазраваў: раптам... ды пасля схамянуўся. Вядомы этнограф ідзе ў бандыты! Ха! Так і Дубатоўк мог ягняткам прыкінуцца. А галоўнае, не спадабаўся мне ягоны гэты падарунак, партрэт Рамана Старога. Як быццам назнарок, каб дзяўчыну з каляі выбіць.

— А што, — схамянуўся я, — сапраўды падазрона... Яна зараз нават ля каміна сядзець баіцца.

— То-та ж бо, — прыгнечана сказаў Свеціловіч. — Значыцца, не ён кароль Стах. Падарунак гэты якраз на яго карысць кажа. І ўчарашняя падзея.

— Слухайце, — сказаў я. — А чаму б не дапусціць, што кароль Стах — гэта вы. Вы ж пайшлі ўчора пазней мяне, вы

да мяне без усякай падставы раўнуеце. Вы, можа, мне проста вочы замыльваеце, а на самай справе, ледзь толькі я выйшаў, як вы: «На коні, хлопцы!»

Я ні на хвіліну не думаў так, але мне не спадабалася, што даверлівы шчыры хлопец сёння трымае сябе як недаверлівы дзед.

Свеціловіч глядзеў на мяне, як ачмурэлы, лыпнуў разы са два вачыма і раптам зарагатаў, адразу ператварыўшыся зноў у добрага чыстага юнака.

— То-та ж бо, — адказаў я ягоным тонам. — Не плявузгайце на такіх старых, як Дубатоўк, дарэмна. Абразіць чалавека нядоўга.

— Ды я і не думаю зараз на яго, — усё яшчэ рагочучы, адказаў ён. — Я ж вам казаў, яны былі са мною. Калі пачало днець, Вароне зрабілася вельмі дрэнна, пайшла зноў кроў, пачаў трызніць. Паслалі аднаго за дзедам-знахарам, пасля нават урача прывезлі, не паленаваліся ў павет паехаць. Прыехаў ён зусім нядаўна і прыгаварыў Варону да тыдня ў ложку. Сказалі, што атрымалася выпадкова.

— Ну, а хто б яшчэ мог быць?

Мы перабралі ўсё наваколле, але ні на кім не спыніліся. Думалі пра Бермана нават і хоць разумелі, што ён — цялё, вырашылі напісаць ліст да знаёмых Свеціловіча ў губернскі горад і даведацца, як ён там жыў раней і што ён за чалавек. Гэта было патрэбна таму, што ён быў адзіны з людзей яноўскага наваколля, пра якога мы нічога не ведалі. Мы гадалі і так і сяк, але ні да чаго не маглі дадумацца.

— Хто багацейшы ў ваколіцах Балотных Ялін? — спытаў я.

Свеціловіч падумаў:

— Яноўская, здаецца... Хоць багацце яе мёртвае. Пасля ідзе Гаровіч (ён не жыве тут), пасля пан Гарабурда — між іншым, галоўны наследнік Яноўскай у тым выпадку, калі б яна памерла зараз. Пасля ідзе, пэўна, Дубатоўк. Зямлі ў яго мала, гаспадарка і хата, самі бачыце, бедныя, але, відаць, ёсць прыхаваныя грошы, бо ў яго заўсёды ядуць і п’юць госці. Астатнія — дробязь.

— Вы кажаце — Гарабурда наследнік Яноўскай. Чаму ён, а не вы, яе сваяк?

— Я ж вам казаў, бацька сам адмовіўся ад права на спадчыну. Небяспечна, маёнтак не дае даходу, на ім вісяць нейкія вэксалі, як кажуць.

— А вы не думаеце, што Гарабурда...

— Гм. А якая яму выгада злачынствам зарабляць тое, што ўсё адно можа належаць яму. Скажам, Яноўская выйдзе за-

муж — вэксаль у яго, калі гэта не байка. Ды ён і баягуз, якіх мала.

— Так, — задумаўся я. — Тады пойдзем другім шляхам. І вось якім: трэба даведацца, хто выбавіў у той вечар Рамана з дому. Што мы ведаем? Што дзіцё было ў нейкіх Кульшаў? А можа, Раман зусім не па яго выехаў? Я ж гэта ведаю са слоў Бермана. Буду пытаць у Кульшаў. А вы навядзіце спраўкі пра жыццё Бермана ў губернскім горадзе.

Я праводзіў яго да дарогі і вяртаўся ўжо ў прыцемку алеяю. Брыдка і непрыемна было мне на душы. Алея, уласна, даўно ператварылася ў сцежку і ў адным месцы агінала вялізны, як дрэва, круглы куст бэзу. Мокрыя сэрцападобныя лісты, яшчэ зусім зялёныя, цьмяна блішчалі, з іх падалі празрыстыя кроплі, і куст плакаў.

Я абмінуў яго і адышоў крокаў на дзесяць, калі раптам нешта суха луснула ззаду. Я адчуў пякучы боль у плячы.

Сорамна сказаць, але ў мяне адразу затрэсліся жылкі. «Вось яно, — падумаў я, — зараз пекануць яшчэ раз». Трэба было стрэльнуць проста ў бэз ці нават проста кінуцца бегчы — усё было б разумней таго, што я зрабіў. А я, з вялікага перапуду, павярнуўся і кінуўся бегчы проста на куст, грудзьмі на кулі. І тут я пачуў, што ў хмызах нешта затрашчала, хтосьці кінуўся ўцякаць. Я гнаўся за ім, як шалёны, і толькі здзівіўся, чаму ён не страляе. А ён, відаць, дзейнічаў таксама інстынктыўна: уцякаў на ўсе лапаткі і так хутка, што храбусценне сціхнула, а я так і не пабачыў яго.

Тады я павярнуўся і пайшоў дадому. Я ішоў і амаль роў ад крыўды. У пакоі я агледзеў рану: глупства, драпіна верхняга плечавога мускула. Але за што? За што? З песні слова не выкінеш, напэўна, пасля ўзрушэння апошніх дзён выявіўся ў мяне агульны заняпад нерваў, але я гадзіны дзве літаральна курчыўся ад жаху на сваім ложку. Ніколі б я не падумаў, што чалавек можа быць такім мізэрным смаўжом. Я ледзь не плакаў.

Прыпомнілася папярэджанне, крокі ў калідоры, жахлівы твар у акне. Блакітная Жанчына, бег па верасовых пустках, гэты стрэл у спіну.

Заб'юць, неадменна заб'юць. Мне здавалася, што цемра глядзіць на мяне нябачнымі вачыма нейкай пачвары, што вось нехта падкрадзецца зараз і схопіць. Сорамна сказаць, але я накінуў коўдру на галаву, каб не схапілі з боку падушкі, як быццам коўдра магла абараніць. І мімаволі невядома адкуль з'явілася подленькая думка: «Трэба ўцякаць. Ім лёгка на мяне

пакладацца. Няхай самі разбіраюцца з гэтымі агідамі і з гэтым паляваннем. Звар’яцею, калі яшчэ тыдзень пабуду тут».

Ніякія маральныя крытэрыі не дапамагалі, я калаціўся як асінавы ліст, а калі заснуў, то быў такім выснажаным, быццам век вазіў камені. Напэўна, калі б прагучалі крокі Малога Чалавека, я б залез у той вечар пад ложак, але таго, на шчасце, не было.

Ранак надаў мне мужнасці, я быў надзіва спакойны.

Я вырашыў у той дзень пайсці да Бермана, тым больш што гаспадыня яшчэ хварэла. За домам стаялі вялізныя, вышэй за чалавека, ужо засыхаючыя, лопухі. Праз іх я дабраўся да ганка і пастукаў у дзверы. Мне не адказалі, я пацягнуў дзверы на сябе, і яны адчыніліся. Невялічкі перадпакой быў пусты, вісела толькі паліто Бермана. Я кашлянуў. Нешта зашарудзела ў пакоі. Я пастукаў — голас Бермана сказаў перарывіста:

— Х-хто? Заходзь-це.

Я ўвайшоў. Берман прыўзняўся з-за стала, тым самым жэстам захінаючы халат на грудзях. Твар яго аж збялеў.

— Дзень добры, пан Берман.

— С-сядайце, сядайце, калі ласка, — ён замітусіўся так, што мне зрабілася нязручна.

«Чаго прыплёўся да яго? Чалавек любіць самоту. Бач ты, як спалохаўся...»

А Берман ужо адышоў.

— Сядайце, сядайце, шматпаважаны, сядайце, шаноўны пан.

Я паглядзеў на крэсла і пабачыў на ім талерку з нейкай недаедзенай стравай і дэсертную лыжку. Берман хутка схапіў яе.

— Прабачце, вырашыў задаволіць свой, так бы мовіць, апетыт.

— Калі ласка, ешце, — сказаў я.

— Што вы, што вы!.. Есці ў прысутнасці гжэчнага пана... Я не магу.

Вусны фарфоравай лялькі прыемна крывіліся.

— Вы не заўважылі, васпан, якое гэта непрыемнае відовішча, калі чалавек харчуецца? О, гэта жахліва! Ён тупа плямкае, чамкае і нагадвае нейкую худобу. Ва ўсіх людзей так выразна праяўляецца падабенства да якога-небудзь звера. Той жарэ, як леў, той чамкае, як, прабачце, тая жывёла, якую пасвіў блудны сын. Не, пане-дабрадзею, я ніколі не ем на людзях.

Я сеў. Пакой быў вельмі сціпла абстаўлены. Жалезны ложак, які нагадваў гільяціну, стол, два крэслы, яшчэ стол, увесь зава-

лены кнігамі і паперамі. Толькі абрус на стале быў незвычайны, вельмі цяжкі, сіні з золатам. Звісаў ён да самай падлогі.

— Што, дзівіцеся? О, васпане, гэта адзінае, што засталося з былых рэчаў.

— Пане Берман...

— Я слухаю вас, пане.

Ён сеў, схіліўшы лялечную галаву, шырока раскрыўшы шэрыя вялізныя вочы і прыўзняўшы бровы.

— Я хачу спытаць у вас, другіх планаў дома няма?

— М-м... не... Ёсць яшчэ адзін, зроблены год трыццаць таму, але там проста сказана, што ён перамаляваны з таго, што я даў вам, і паказаны толькі новыя перагародкі. Вось ён, калі ласка.

Я паглядзеў на план. Берман меў рацыю.

— А скажыце, ці няма якога замаскіраванага памяшкання на другім паверсе, ля пустога пакоя з шафай?

Берман задумаўся.

— Не ведаю, васпане, не ведаю, вашамосць... Недзе там павінен быць сакрэтны асабісты архіў Яноўскіх, але дзе ён — не ведаю. Н-не ведаю...

Пальцы яго так і бегалі па абрусе, выбіваючы нейкі незразумелы марш.

Я падняўся, падзякаваў гаспадару і выйшаў.

«І чаго ён так перапалохаўся? — падумалася мне. — Пальцы бегаюць, твар белы! У, халасцяк чортаў, людзей пачаў баяцца...»

І аднак нейкая думка свідравала мой мозг.

«Чаму? Чаму? Не, нешта тут нячыста. І чамусьці круціцца ў галаве слова «рукі». Рукі. Рукі. Пры чым тут рукі? Нешта павінна ў гэтым слове хавацца, калі яно так лезе з падсвядомасці».

Я выходзіў ад яго з цвёрдай думкаю, што тут трэба трымацца пільнасці. Не падабаўся мне гэты лялечны чалавечак, і асабліва пальцы, пальцы, у два разы даўжэйшыя за нармальныя, якія выгіналіся на стале, як змеі.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

Дзень быў шэры і змрочны, такі раўнадушна-шэры, што плакаць хацелася, калі я накіраваўся ў фальварак Жабічы, які належаў Кульшам. Нізкія шэрыя хмары паўзлі над тарфянымі балотамі. Казарменны, нудны ляжаў перада мною далягляд. На роўнай карычневай паверхні раўніны там-сям поўзалі брудныя

плямы: пастух пасвіў авечак. Я ішоў краем Волатавай прорвы, і воку літаральна не было на чым адпачыць. Нешта цёмнае ляжала ў траве. Я падышоў бліжэй. Гэта быў вялізны, метры тры ў даўжыню, каменны крыж. Паваліілі яго даўно, бо нават яма, у якой ён стаяў, амаль зраўнавалася з зямлёю і зарасла травой. Літары на крыжы былі ледзь бачныя: «Раб божы Раман памёр тут наглай смерцю. Лёзныя людзі, маліцеся за душу яго, каб і за вашу хтось памаліўся, злашча модлы вашы асабліва Богу да душы».

Я доўга стаяў ля яго. Вось, значыцца, месца, дзе загінуў Раман Стары!..

— Пане, пане літасцівы, — пачуў я голас за спіною.

Я павярнуўся. Жанчына ў фантастычных лахманах стаяла за мною і працягвала руку. Маладая, яшчэ даволі прыгожая, яна мела такі абцягнуты жоўтай скурай страшны твар, што я апусціў вочы. На руках яе ляжала дзіця. Я падаў ёй.

— Мо хлеба трошкі будзе ў пана? Я, баюся, не дайду. І Ясік памірае...

— А што з ім?

— Не ведаю, — бязгучна сказала яна.

У маёй кішэні знайшлася цукерка, я даў яе жанчыне.

Але дзіцёнак не еў.

— Што ж мне рабіць з табою, любая?

Селянін на валакушы ехаў дарогаю. Я паклікаў яго, даў яму рубель і папрасіў завезці жанчыну ў Балотныя Яліны, каб яе там накармілі і далі дзе-небудзь адпачыць.

— Дай вам Божа здароўечка, пане, — бязвольна сказала жанчына. — Нам нідзе тут не давалі есці. Пакарай Божа тых, хто зганяе людзей з зямлі.

— А хто сагнаў?

— Пан.

— Які пан?

— Пан Антось. Худы такі...

— А як яго прозвішча, дзе ваша вёска?

— Не ведаю. Тут, за лесам. Добрая вёска. У нас і грошы былі, пяць рублёў. Але сагналі.

І ў вачах яе было здзіўленне перад тымі, хто не ўзяў нават пяці рублёў і сагнаў іх з зямлі.

— А муж дзе?

— Забілі.

— Хто забіў?

— Мы крычалі, плакалі, не хацелі ісці. Язэп таксама крычаў. Пасля стралялі. Ён лёг. А ўночы прыйшло дзікае паляванне і зацягнула ў багну самых большых крыкуноў. Яны зніклі... Больш ніхто не крычаў.

Я паспяшыў адправіць іх, а сам пайшоў далей, не памятаючы сябе ад роспачы. Божа мой, якая цемра! Якая забітасць! Як звараціць гэту гару? У Дубатоўка мы зжэрлі столькі, што хапіла б сорак Ясікаў выратаваць ад смерці. Галоднаму не даюць хлеба, ягоны хлеб аддаюць салдату, які страляе ў яго за тое, што ён галодны. Дзяржаўная мудрасць! І гэтыя няшчасныя маўчаць. За якія грахі караешся ты, мой народ, за што ты мяцешся па ўласнай зямлі, як асенняе лісце? Які забаронены яблык з'еў першы Адам майго племя?

Адны жэрлі не ў сябе, другія паміралі пад іхнімі вокнамі. Вось павалены крыж над адным, які шалеў ад тлушчу, а вось паміраючы дзіцёнак. Вякамі ішла гэтая мяжа паміж аднымі і другімі — і вось канец, лагічнае завяршэнне: адзічэнне, цемра ва ўсёй дзяржаве, тупы жах, голад, вар'яцтва. І ўся Беларусь — адзінае поле смерці, над якім вые вецер, гной пад нагамі тлустай, задаволенай усім худобы.

Не памоляцца над табою лёзныя людзі, Раман Стары. Плюне кожны на твой пахілы крыж. І дай Божа мне сілы выратаваць апошнюю з твайго роду, якая ні ў чым не вінаватая перад няўмольнай праўдай мачыхі нашай, беларускай гісторыі.

Няўжо такі забіты, няўжо такі мёртвы мой народ?

...Мне давялося хвілін сорак прадзірацца праз невысокі, вельмі вільготны лясок за Волатавай прорвай, пакуль я не выбіўся на сцежку, зарослую і вузкую. Паабапал яе стаялі амаль абляцелыя асіны. Сярод іх чырвонага масіву плямамі выдзяляліся жоўтыя бярозы і амаль зялёныя яшчэ дубы. Сцежка спусцілася ў яр, дзе бег ручай з карычневай, як густы чай, вадою. Берагі ручаіны былі зялёнымі і мяккімі ад імхоў, і такія самыя зялёныя масты з бураломных дрэў злучалі іх. Па бураломінах ручай і пераходзілі, бо на некаторых мох быў здзёрты.

Глуха і бязлюдна было тут. Зрэдку цінькала ў верхавінах дрэў маленькая птушка, ды яшчэ самотныя лісцікі падалі і павісалі на павуціне паміж дрэў. Вада ручаіны несла сумныя жоўтыя і чырвоныя чоўнікі лісцяў, а ў адным месцы, дзе быў вір, лісце круцілася ў вечным танцы, быццам там вадзянік варыў з яго суп на вячэру. Каб перайсці цераз ручай, мне давялося зламаць на падпорку даволі тоўстую, але зусім сухую асінку, зламаць адным ударам нагі.

За ярам лес зрабіўся зусім густым. Сцежка знікала ў непралазным гушчары, яе акружалі джунглі з маліннiку, сухой крапівы, ажыны, дудніку і іншай дрэні. Хмель бег на дрэвы, як зялёнае полымя, абкручваў іх, выдзіраўся на волю і цэлымі снапамі звісаў, чапляючы мяне за галаву. Хутка з'явіліся першыя адзнакі жыцця: кусты здзічэлага бэзу сярод дрэў, прамакутнікі лепш угноенай зямлі (былыя курціны), спадарожнік чалавека — вялізны дзядоўнік. Хутка бэз стаў такім густым, што не пралезеш. Я ледзь выдзерся з яго на маленькую галявіну, на якой стаяў надзейна схаваны дом. На каменным высокім падмурку, з каменным ганкам і драўлянымі калонамі, якія за памяці дзядоў былі, напэўна, пафарбаваныя ў белы колер, ён нахіліўся на мяне, як смяротна паранены, які вось-вось упадзе. Перакошаныя ліштвы, абадраная ашалёўка, шыбы, вясёлкавыя ад старасці. На парадным ганку паміж прыступкамі выраслі лопухі,ваўчкі, магутны скрыпень, які амаль закрываў дзверы. А да чорных дзвярэй праз калюжу былі пакладзены дзве цагліны. Дах быў зялёны, тоўсты ад тлустых пушыстых імхоў. У шэрае акенца ўнутранасць хаты здавалася панурай і занядбанай. Словам, хатка на курыных ножках. Не хапала толькі бабы-ягі, якая ляжала б на дзевятай цагліне і казала: «Фу-фу, чалавечым духам тхне!»

Але хутка з'явілася і яна. У акно на мяне глядзеў твар жанчыны, такі сухі, што здаваўся чэрапам, абцягнутым жоўтай скурай. Сівыя патлы валасоў падалі на плечы. Пасля з'явілася рука, якая ківала мне сухім, як курыная костка, пальцам.

Я стаяў знадворку, не ведаючы, да мяне ці да каго іншага звернуты гэты зварушлівы прызыў.

Пасля адчыніліся дзверы, і на двор высунулася тая самая галава.

— Сюды, літасцівы пан Грыгор, — сказала галава. — Тут забіваюць няшчасных ахвяр.

Не скажу, каб пасля такога суцяшальнага запэўнення мне палка захацелася зайсці ў гэты дом, але старая сышла з прыступкі і працягнула мне над лужынаю руку.

— Я даўно чакала вас, мужны збаўца. Справа ў тым, што мой раб Рыгор выявіўся душыцелем накшталт Сіняй Барады. Вы памятаеце, мы чыталі з вамі пра Жыля Сінюю Бараду. Такі гжэчны, галантны кавалер. Я б даравала Рыгору, каб ён забіваў так галантна, але ён хлоп. Што зробіш?

Я пайшоў за ёю. У перадпакоі ляжалі на падлозе кажух, побач з ім сядло, віселі на сцяне бізун і некалькі закарэлых

лісіных шкур. Акрамя таго, тут стаяў трохногі зэдлік і ляжаў бокам партрэт нейкага мужчыны, брудны і прадзёрты наўскос. А ў наступным пакоі быў такі гармідар, як быццам тут змяшчаўся чатырыста год таму філіял Грунвальдскай бітвы і з тых часоў тут больш не змяталі пыл і не мылі шыб. Стол з ножкамі ў выглядзе антычных гермаў быў пастаўлены коса, ля яго крэслы, падобныя на ветэранаў вайны, бязногіх і ледзь дыхаючых. Шафа ля сцяны нахілілася і пагражала ўпасці камусь на галаву. Ля дзвярэй стаяў на падлозе вялікі бюст Вальтэра, вельмі падобнага на гаспадыню, і какетліва на мяне паглядаў з-пад анучы, якая замест лаўраў вянчала ягоную галаву. У адным кутку прыткнулася трумо, запэцканае нечым вельмі падобным на птушыны памёт. Апрача таго, верхняя палова трумо была пакрыта шарам пылу, затое з ніжняй паловы пыл быў старанна сцёрты. Чарапкі пасуды, скарынкі хлеба, косткі рыбы пакрывалі падлогу. Усё гэта было, як у гняздзе птушкі-зімародка, дно якога выслана рыбнай лускою. І сама гаспадыня нагадвала зімародка, гэту змрочную і дзівосную птушку, якая любіць самоту.

Яна павярнулася да мяне, я пабачыў зноў яе твар, на якім нос павіс амаль да падбародка, і рот з вялікімі зубамі. Зубы здаваліся асабліва вялікімі, бо былі адкрыты разам з дзяснамі, як быццам на твары не хапіла скуры на тое, каб прыкрыць рот.

— Рыцар, чаму б вам не сцерці гэты пыл з верхняй паловы трумо? Я хацела б бачыць сябе на ўвесь рост. Ва ўсёй прыгажосці.

Я толькі хацеў быў выканаць гэта, як яна раптам сказала:

— А вы вельмі падобны да майго нябожчыка мужа. Ух, які гэта быў чалавек! Ён жыўцом узнёсся на неба, першы з людзей пасля Іллі-прарока. А Раман жывым трапіў у апраметную. Гэта ўсё злы геній яноўскага наваколля — дзікае паляванне караля Стаха. З таго дня я пакінула прыбіраць у гэтым доме на знак сваёй жалобы. Праўда, прыгожа? І так рамантычна!

Яна какетліва ўсміхнулася да мяне і пачала строіць вочкі па няпісаных правілах пансіёнаў высакародных дзявіц: «Вочкі на субяседніка, пасля ўбок з лёгкім нахілам галавы, зноў на субяседніка, у верхні кут залы і ў зямлю».

Гэта была злосная пародыя на чалавечыя пачуцці. Усё адно як малпа пачала б нечакана спяваць песню Афеліі ў англійскім арыгінале.

— Тут прыгожа. Толькі жахліва! Уй, як жахліва! Бр-р-р!.. Бр-р-р!..

Яна раптам кінулася ад мяне на падлогу і залезла галавою пад купу нейкіх брудныхануч.

— Прэч! Прэч адсюль! Вы кароль Стах!

Жанчына білася і крычала, яе жоўтая нага выглядала з пыльных рызманоў. Я з жахам падумаў, што, магчыма, такі будзе лёс усіх людзей наваколля, калі незразумелы жах будзе і далей чорным крылом вісець над гэтай зямлёй.

Я збіраўся адступіць, як нейчая рука лягла на маё плячо і грубы мужчынскі голас сказаў:

— Чаго вы тут? Хіба вы не бачыце, што яна трохі... дзівачка?

Хлоп пайшоў у перадпакой, прынёс адтуль прадзёрты партрэт мужчыны ў фраку і з «Уладзімірам» у пятлічцы і паставіў яго на стол. Пасля выцягнуў жанчыну з рызманоў, пасадзіў яе перад партрэтам.

— Пані Кульша, гэта не кароль Стах, не. Гэта з'явіўся пан фельдмаршал паглядзець на славутую тутэйшую красуню. А кароль Стах, вось ён, на партрэце, ён зусім мёртвы і нікога не можа забіць.

Жанчына паглядзела на партрэт. Сціхла. Мужчына дастаў з-за пазухі кавалак хлеба, чорнага, як зямля. Старая паглядзела на невядомага, засмяялася радасна і пачала шчыкаць пальцамі хлеб і класці яго ў рот, усё гледзячы на партрэт.

— Кароль Стах. Мужанёк ты мой. Што вароціш свой твар?!

Яна то драпала партрэт, то радасна нешта шаптала яму і ўсё ела хлеб. Мы атрымалі магчымасць размаўляць. Я глядзеў на мужчыну, апранутага ў сялянскую світку і поршні — скураныя палескія лапці, а ён глядзеў на мяне.

Мужчына быў год пад трыццаць, выключна высокі і добра складзены, з магутнымі пукатымі грудзьмі, трохі гарбаватай, калі сядзеў, спіною і загарэлай шыяй. Доўгія вусы рабілі твар суровым і жарсткаватым. Гэтаму ўражанню дапамагалі яшчэ дзве зморшчкі паміж броваў і шырока пастаўленыя пякучыя вочы. Белая магерка была насунута нізка на лоб. Чымсьці вольным, лясным веяла ад яго.

— Вы, пэўна, Рыгор, вартаўнік Кульшы?

— Так, — адказаў ён з іроніяй. — А вы, напэўна, новы госць пані Яноўскай? Чуў я пра такую птушку. Добра спяваеце.

— І вы заўжды так з ёю? — Я паказаў на старую, якая засяроджана плявала ў партрэт.

— Заўжды. Вось ужо два гады, як яна такая.

— А чаму вы яе не завязеце ў павет лячыць?

— Шкода. Як была здаровая, дык госці ездзілі, а зараз ніякая сабака... Шляхта! Паночкі нашы, туды іх...

— І цяжка даводзіцца?

— Ды не, калі я на паляванні, дык Зося глядзіць за ёю. Ды яна не часта шалее. І не патрабуе многа. Толькі хлеба вельмі многа есць, а так нічога не хоча. — Ён выцягнуў з кішэні яблык і працягнуў старой: — На, пані шаноўная.

— Не хачу, — адказала тая, упісваючы хлеб. — Паўсюль атрута, толькі хлеб чысты, божы.

— Бачыце, — сказаў Рыгор змрочна. — Сілком раз на дзень гарачым кормім. Пальцы мне часам пакусае, калі даём, так і схопіць. А нядрэнная была пані. Ды хоць і дрэнная, нельга кідаць божую душу.

І ён усміхнуўся такой вінаватай дзіцячай усмешкаю, што я здзівіўся.

— І чаго гэта яна?

— Спалохалася пасля смерці Рамана. Усе яны тут у чаканні жывуць, і, я скажу, большасці так і трэба. Мудрагелілі над нашым братам.

— Ну, а Яноўскай таксама?

— Пра Яноўскую не скажу. Добрая баба. Яе шкада.

Я нарэшце асмеліўся. Я зразумеў — гэта не здраднік.

— Слухай, Рыгор, я прыйшоў сюды, каб спытаць пра тое-сёе.

— Пытай, — сказаў ён, таксама пераходзячы на «ты», што мне вельмі спадабалася.

— Я вырашыў разблытаць гэтую справу з паляваннем караля Стаха. Разумееш, ніколі не бачыў прывідаў, хачу рукамі памацаць.

— Прывіды... — гмыкнуў ён. — Добрыя прывіды, калі іхнія коні самым сапраўдным гноем свае сляды пэцкаюць. І потым, навошта вам гэта, пан ласкавы? Якія такія прычыны?

— Не называй ты мяне панам. Я такі самы пан, як ты. А прычына — што ж... цікава проста. І шкада гаспадыню і многіх людзей.

— Так. Пра гаспадыню і я чую, — скоса глянуў Рыгор і хмурна ўсміхнуўся. — Мы гэтыя рэчы разумеем. Гэта ўсё адно як Зося мне. А чаму ты мне не кажаш, што ты на іх злуешся, адпомсціць жадаеш? Я ж ведаю, як ты ад дзікага палявання ля ракі ўцякаў.

Я быў уражаны:

— Адкуль ведаеш?

— У чалавека ёсць вочы, і кожны чалавек пакідае след на зямлі. Толькі нявістныя не бачаць. Уцякаў ты, як чалавек з розумам. А вось горш тое, што я іхнія сляды заўжды губляю. І пачынаюцца яны, і канчаюцца на гасцінцы.

Я распавёў яму пра ўсё, з самага пачатку. Рыгор сядзеў нерухома, вялікія шурпатыя рукі яго ляжалі на каленях.

— Я даслухаў, — сказаў ён проста, калі я скончыў. — Ты мне падабаешся, пан. З мужыкоў, ці што? І я так думаю, што ты калі і не з мужыкоў, дык ля мужыкоў блізка ляжаў. І сам я даўно думаў гэтых зданяў трахануць, каб пер'е паляцела, ды таварыша не было. Калі не жартуеш, давай разам. Але ж, бачу я, ты гэта толькі зараз прыдумаў: звярнуцца да мяне. Чаму раптам так прыдумаў? І чаго хацеў да гэтага?

— Чаму вырашыў, сам не ведаю. Пра цябе казалі, што ты Яноўскую, калі яна сіратой засталася, шкадаваў. Надзея Раманаўна казала, што ты нават хацеў вартаўніком у Балотныя Яліны перайсці, ды не атрымалася. Ну і потым спадабалася мне, што ты незалежны, што хворую так даглядаеш. А да гэтага я проста жадаў спытаць, чаму якраз у той вечар, калі загінуў Раман, дзяўчынка затрымалася ў Кульшаў?

— Чаму затрымалася, я ведаю. У той дзень у маёй гаспадыні дзяўчаты сабраліся з навакольных фальваркаў. Весела было. А вось чаму яе, Яноўскую, запрасілі сюды — я не ведаю, яна ж тут колькі гадоў да гэтага не была. Але пані, самі бачыце, якая, яна не скажа.

— Чаму не, — усміхнулася раптам амаль разумна старая. — Я скажу. Я зусім не звар'яцела, мне проста так зручна і бяспечна. Папрасіў запрасіць бедную Надзейку пан Гарабурда. І ягоная ж пляменніца была тады ў мяне. Такому рыцару, як вы, пан фельдмаршал, я ўсё скажу. Так, так, гэта Гарабурда даў тады такую параду ўзяць дзіця. У нас усе такія добрыя. Нашыя вэксалі ў пана Дубатоўка — ён іх не падаваў да сыскання. Гэта, маўляў, залог, што будзеце часта ездзіць да мяне ў госці, піць віно. Я вас зараз нават сілаю магу запрасіць піць гарэлку... Так, усе запрашалі Надзейку. Гарабурда, і фельдмаршал Каменскі, і Дубатоўк, і Раман, і кароль Стах. Вось гэты. А бедная ж твая галовачка! А ляжаць жа твае косы залатыя поруч з бацькавымі касцямі.

Мяне перасмыкнула ад гэтага галошання па жывым чалавеку.

— Бачыце, нямнога даведаліся, — панура сказаў Рыгор. — Выйдзем на хвіліну.

Калі мы выйшлі і лямант старой сціхнуў, Рыгор буркнуў:

— Дык давайце шукаць разам. Карціць і мая душа на гэта дзіва паглядзець. Я буду на зямлі шукаць і сярод простых людзей, а вы ў паперках ды сярод шляхты. Можа, і знойдзем.

Вочы яго раптам сталі злоснымі, вугальныя бровы з'ехаліся да пераносся:

— Бабы д'яблам выдуманыя. Іх трэба ўсіх задушыць, а за нямногіх, што застануцца, хлопцам усім перадушыцца. Але што зробіш...

І лагічна скончыў:

— Вось і я, хоць шкада маёй лясной волі, хоць, можа, і дажыву век адзін у лесе, усё ж часам пра Зоську думаю, якая тут таксама жыве. Можа, і ажанюся. Яна кухаркаю тут. Дык вось што я скажу табе, сябар. Таму я і табе паверыў, што сам так часам пачынаў шалець з-за чортавых бабскіх вачэй. (Я зусім не думаў пра гэта, але не палічыў патрэбным пераконваць гэтага мядзведзя.) Але скажу табе шчыра. Калі ты прыйшоў падбіць мяне на гэта, а потым здрадзіць — многія тут на мяне зубы точаць, — так і ведай — не жыць табе на зямлі. Рыгор тут нікога не баіцца, наадварот, Рыгора ўсе баяцца. І сябры ў Рыгора ёсць, іначай тут не пражывеш. І страляе гэтая рука добра. Так што ведай — заб'ю.

Я глядзеў на яго з дакорам, і ён, глянуўшы мне ў вочы, засмяяўся, быццам у бочку, і зусім іншым тонам скончыў:

— А наогул, я цябе даўно чакаў. Здавалася мне чамусьці, што ты гэтай справы так не пакінеш, а калі пойдзеш разблытваць яе — мяне не абмінеш. Што ж, дапаможам адзін аднаму.

Мы развіталіся з ім на ўзлессі, ля Волатавай прорвы, дамовіўшыся аб новых сустрэчах. Я пайшоў дадому нацянькі, праз парк.

Калі я з'явіўся ў Балотныя Яліны, прысмерак ужо агарнуў парк, жанчына з дзіцем спала, нагадаваная ў адным з пакояў на першым паверсе, а гаспадыні не было ў доме.

Я чакаў яе з гадзіну і, калі стала ўжо зусім цёмна, не вытрымаў і пайшоў насустрач. Я не паспеў далёка адысці змрочнай алеяй, як пабачыў белую постаць, якая палахліва рухалася мне насустрач.

— Надзея Раманаўна!

— О-о, гэта вы? Дзякуй Богу. Я так непакоілася. Вы пайшлі нацянькі?

І засаромелася, апусціла вочы ў зямлю. Калі мы падыходзілі да палаца, я сказаў ёй ціха:

— Надзея Раманаўна, ніколі не выходзьце з двара ўначы. Абяцайце мне гэта.

Мне ледзь удалося вырваць у яе гэтае абяцанне.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

Гэта ноч прынесла мне разгадку аднаго цікавага пытання, якое выявілася зусім нецікавым, калі не лічыць таго, што я лішні раз пераканаўся ў тым, што подласць жыве і ў дурных, добрых, наогул, душах.

Справа ў тым, што я зноў выйшаў уначы на крокі, пабачыў ахмістрыню са свечкай і зноў прасачыў яе да пакоя з шафай. Але на гэты раз я вырашыў не адступаць. Шафа была пустая, значыцца, шукаць трэба было там. Я пахітаў дошкі ў задняй сценцы (шафа стаяла, засунутая ў нішу сцяны), пакруціў усё, што магчыма было круціць. Пасля паспрабаваў падняць іх угару і пераканаўся, што мае спробы маюць поспех. Бабуля была, напэўна, глухаватая, інакшай яна пачула б мае практыкаванні. Я з цяжкасцю пралез у атвор і пабачыў скляпеністы ход, які спускаўся строма ўніз, як быццам у сутарэнне. Збітыя цагляныя прыступкі збягалі ўніз, і ход быў такі вузкі, што я чапляўся плячыма за сценкі. З цяжкасцю спусціўся па прыступках і пабачыў невялічкі, таксама скляпеністы пакоік. Ля сцен яго стаялі скрыні, акутыя палосамі жалеза, дзве шафы. Усё гэта было адчынена, і аркушы пергаменту і паперы ляжалі паўсюль. Пасярэдзіне пакоя стаяў стол і ля яго грубы табурэт, а на ім сядзела ахмістрыня і разглядала нейкі пажоўклы аркуш. Мяне ўразіў выраз сквапнасці на яе твары.

Калі я ўвайшоў, яна закрычала з перапуду і паспрабавала схаваць аркуш. Я паспеў узяць яе за руку.

— Пані ахмістрыня, дайце мне гэта. І ці не скажаце вы, чаму вы кожную ноч ходзіце сюды, у таемны архіў, што робіце тут, нашто палохаеце ўсіх сваімі крокамі?

— Ух ты, бацюхна мой, які спрытны!.. — незадаволена сказала яна. — Усё яму ведаць трэба.

І, відаць, таму, што знаходзілася на першым паверсе, загаварыла з выразнай народнай інтанацыяй:

— А скулля з макам ты не хочаш? Бачыце вы, што яму трэба! І аркуш схаваў. Каб ад цябе твае дзеці так хлеб на старасці год хавалі, як ты ад мяне той аркуш! У мяне, можа, больш правоў

тут сядзець, чым у цябе. А ён, бачыце, сядзіць ды пытаецца. Каб на цябе так верады сядалі ды не пыталіся!

Мне гэта апрыкрала, і я сказаў ёй:

— Ты што, у турму захацела? Ты чаго тут? Ці, можа, ты адсюль дзікаму паляванню знакі даеш?

Ахмістрыня пакрыўдзілася. Твар яе сабраўся ў вялікія зморшчыкі.

— Грэх вам, пане, — ледзь вымавіла яна. — Я жанчына сумленная, я за сваім прыйшла. Вось яно ў вашай руцэ, тое, што мне належыць.

Я глянуў на аркуш. Там была выпіска з пастановы камісіі па справе аднадворцаў. Я прабег вачыма па радках і ў канцы прачытаў: «И хотя оный Закревский и до сей поры утверждает, что у него есть документы в подтверждение своих дворянских прав, а также того, что наследником Яновских по субституции является именно он, а не г-н Гарабурда, дело сие за длительностью двадцатилетнего процесса и бездоказательностью следует предать забвению, а прав дворянства, как недоказанных, г-на Закревского Исидора лишить».

— Ну, і што з гэтага? — спытаў я.

— А тое, бацюхна мой, — з’едліва праспявала ахмістрыня, — што я Закрэўская, вось што. А гэта мой бацька так судзіўся з вялікімі ды моцнымі. Не ведала я, ды, дзякуй добрым людзям, навучылі розуму, сказалі, што павінны тут недзе быць дакументы. Узяў суддзя павятовы дзесяць чырвоненькіх, але ж і параду даў добрую. Давайце аркуш.

— Не дапаможа, — сказаў я. — Гэта ж не дакумент. Тут суд шляхецтва не вызначае. Я пра гэтую праверку дробнай шляхты добра ведаю. Каб ваш бацька меў дакументы на права субстытуцыі пасля Яноўскіх — іншая справа. Але ён іх не падаў — значыцца, не меў.

Твар ахмістрыні выразіў пакутлівае імкненне дадумацца да такіх складаных рэчаў. Пасля вусны яе паехалі наперад, і яна спытала недаверліва:

— А можа, Яноўскія іх падкупілі? Кручкам гэтым толькі дай грошы! Я ведаю! І адабралі ў майго бацькі дакументы і тут схавалі.

— А дваццаць год судзіцца вы можаце?

— Я, бацюхна, да таго часу, напэўна, пайду пану Богу порткі лугаваць.

— Ну, вось бачыце. І дакументаў няма. Усё ж перарылі.

— Усё, бацюхна, усё. Але ж свайго шкада.

— Ды гэта ж толькі няпэўныя звесткі.

— Але ж сваё, свае грошыкі, чырвоненькія, сіненькія.

— І гэта вельмі нядобра, капацца ўначы ў чужых паперах.

— Бацюхна, свае ж грошыкі, — сквапна і тупа зудзела яна.

— Іх вам не адсудзяць, нават калі б дакументы былі. Гэта маярат Яноўскіх на працягу трох стагоддзяў ці нават больш.

— Дык сваё ж, бацюхна, — ледзь не плакала яна, і твар яе стаў сквапным да агіднасці. — Я б іх, даражэнькіх, зараз у шкарпэтку. Грошы б ела, на грошах спала.

— Дакументаў няма, — губляў я цярпенне. — Законная наследніца ёсць.

І тут здарылася жахлівае і агіднае. Жанчына выцягнула галаву, шыя яе зрабілася доўгай-доўгай, і, наблізіўшы да мяне твар, свісцячым шэптам сказала:

— Дык, можа... можа, яна хутка памерла б.

Твар яе аж прасвятлеў ад такога спадзявання.

— Памерла б, і ўсё. Яна ж слабая, спіць дрэнна, крыві ў жылах амаль няма, кашляе. Што ёй варта? Споўніцца праклён. Нашто каб палац пану Гарабурду, калі тут магла б жыць я. Ёй што, адмучыцца — і садухі. А я б...

Баюся, што я змяніўся ў твары, стаў страшны, бо яна адразу ўцягнула галаву ў плечы.

— На падлу ляціш, варона? — спытаў я. — А тут не падла, тут жывы чалавек. Тут такі чалавек, падэшвы якога ты не варта, які большае права мае жыць на зямлі, ніж ты, ступа дурная.

— Б-бацюхна... — блекатала яна.

— Маўчы, ведзьма! І ты яе ў магілу звесці хочаш? Усе вы тут такія, аспіды драпежныя! Усе вы за грошы забіць чалавека гатовыя! Усе вы павукі. Усе вы маці роднай за сінюю паперку не пашкадуеце. А ты ведаеш, што такое жыццё, што так лёгка пра смерць другога чалавека кажаш? Не перад табой бы перлы сыпаць, але ты выслухай, ты ж жадаеш, каб яна сонца жывое, радасць, добрых людзей, доўгія гады, якія яе чакаюць, на рабакоў падземных змяніла, каб табе на грошах спаць, з-за якіх сюды дзікае паляванне прыходзіць. Можа, ты і Блакітную Жанчыну сюды пускаеш? Чаму ўчора акно ў калідоры адчыняла?

— Та-тачка ты мой? А я ж яго не адчыняла! А холадна ж было... Я яшчэ здзівілася, чаму адчынена! — амаль галасіла яна.

На твары гэтай поскудзі было столькі боязі, што я мог бы змоўкнуць, але не мог. Я згубіў усякую разважлівасць.

— Смерці ёй зычыш! Сабакі зласлівыя, крумкачы! Прэч адсюль! Вон! Яна высакародная, ваша гаспадыня, яна, можа,

і не прагоніць вас, але я абяцаю вам, калі вы не пойдзеце з палаца, які засмуродзілі сваім дыханнем, вы сядзеце ў турму маімі клопатамі.

Яна пайшла да сходаў, горка плачучы. Я ішоў за ёй. Мы выбраліся ў пакой, і тут я здзіўлена спыніўся. Яноўская стаяла перад намі ў белай сукні і са свечкай у руках. Твар яе быў засмучаны, і яна грэбліва паглядзела на ахмістрыню.

— Пан Беларэцкі, я выпадкова чула вашу размову, чула з самага пачатку. Я ішла амаль за вамі. Я нарэшце ведаю глыбіню сумлення і подласці. А ты, — яна звярнулася да Закрэўскай, якая стаяла, занурыўшыся, убаку, — ...заставайся тут. Я дарую табе, з цяжкасцю, але дарую. Даруйце і вы, пан Беларэцкі. Дурным людзям часам трэба дараваць. Бо куды яна пойдзе адсюль. Яе нідзе не возьмуць, старую дурную бабу.

Адна сляза скацілася з яе павек. Яна павярнулася і пайшла. За ёю крочыў я. Яноўская спынілася ў канцы калідора і ціха сказала мне:

— Людзі ламаюцца з-за гэтых папер. Каб не забарона продкаў, з якой радасцю я аддала б камусьці гэты гнілы цёмны дом. Ён мне адна пакута, як і сваё імя. Хоць бы памерці хутчэй. Тады я пакінула б яго гэтай бабе з каменным сэрцам і дурной галавою. Няхай радавалася б, калі яна здатная так поўзаць на жываце з-за гэтай дрэні.

Мы моўчкі спусціліся ў ніжнюю залу і падышлі да каміна. Стоячы, глядзелі ў агонь, чырвоныя адбіткі якога клаліся на твар Яноўскай. Яна змянілася за апошнія дні, магчыма, пасталела, магчыма, проста пачала ператварацца ў жанчыну. Напэўна, нічыё вока, акрамя майго, не заўважыла гэтых змен. Толькі я адзін бачыў, што ў бледным парастку, які рос у сутарэнні, зацеплілася, пакуль яшчэ непрыкметна, жыццё. Погляд стаў больш асэнсаваным і цікаўным да жыцця, хоць застарэлы жах па-ранейшаму ляжаў маскай на твары. Трошкі больш ажыўленым стала аблічча. Бледны парастак чамусьці пачынаў ажываць.

— Добра стаяць так, Надзея Раманаўна, — задумліва сказаў я. — Агонь гарыць...

— Агонь. Добра, калі ён ёсць, калі ён гарыць. Добра, калі людзі не хлусяць.

Дзікі, нялюдскай сілы, крык прагучаў аднекуль знадворку — здавалася, што гэта крычыць і рыдае не чалавек, а дэман. І адразу пачуўся ўпэўнены, уладарны пошчак конскіх капытоў

ля сходаў. А голас рыдаў і крычаў так па-нялюдску, як быццам не з чалавечых грудзей выходзіў:

— Раман у дваццатым калене — выходзь! Помста! Апошняя помста! Авой! Авой!

І яшчэ нешта, чаму не было назвы. Я мог бы зараз выскачыць на сходы, і страляць у гэтую дзікую поскудзь, і пакласці на месцы хоць каго-небудзь, але на руках у мяне ляжала яна, і я адчуваў праз сукно, як калацілася яе спуджанае сэрцайка, як яно паступова замірала, білася ўсё радзей, радзей. Спуджаны да немагчымасці за яе жыццё, я пачаў няўпэўненымі рухамі гладзіць яе валасы. Яна павольна, вельмі павольна прыходзіла да прытомнасці, і веі яе ледзь прыкметна ўздрыгвалі, калі я дакранаўся рукою да яе галавы. Так затурканае шчанё прымае ласкі чалавека, які ўпершыню вырашыў пагладзіць яго: бровы яго ўздрыгваюць, чакаючы кожны раз удару, калі заносіцца рука.

А грукат быў далей, і ўся сутнасць мая пакутліва ўстала да таго, каб разам з ёй выскачыць на сходы, страляць у гэтых нетапыроў і разам з ёю ўпасці на прыступкі і памерці, адчуваючы яе поруч з сабою, тут, усю ля сябе. Усё адно нельга так жыць.

А голас рыдаў здалёку:

— Раман! Раман! Выходзь! Каням пад ногі душу тваю! Гэта яшчэ не зараз! Потым! Заўтра... Пасля! Але мы прыйдзем! Прыйдзем!

І цішыня. Яна ляжала ў маіх абдоймах, і як быццам ціхая музыка пачала найграваць недзе, можа, у маёй душы. Ціхаяціхая, далёкая-далёкая, пяшчотная: пра сонца, малінавыя ад канюшыны лугі пад дымнай бліскучай расою, пра залівісты спеў гівала ў шатах вялікіх ліп. Яе твар быў такі спакойны, як у спячага дзіцяці. Вось прарваўся ўздых, раскрыліся вочы, здзіўлена паглядзелі вакол, пасуравелі.

— Прабачце, я пайду.

І яна накіравалася да сходаў на другі паверх — маленькая белая постаць...

Толькі тут я, яшчэ дрыжучы ад узбуджэння, зразумеў, якая мужная, якая нязломная была душа ў гэтай да смерці запалоханай дзяўчыны, калі яна пасля «такога» выходзіла мяне сустракаць і двойчы адчыніла дзверы: тады, калі я, невядомы, прыехаў сюды, і тады, калі я бег да яе дзвярэй, у трывозе, пад ляск капытоў дзікага палявання пад самымі вокнамі. Напэўна, яно і цёмныя асеннія ночы штурхнулі яе на гэта, як пачуццё даверу прымушае зацкаванага хартамі зайца прыціскацца да

ног выпадковага чалавека. У дзяўчыны былі надта добрыя нервы, калі яна вытрымала тут два гады.

Я сеў ля каміна і пачаў глядзець у агонь. Так, небяспека была жахлівая. Тры чалавекі супраць усіх гэтых цёмных сіл, супраць невядомага. Хопіць пяшчоты. Яны праязджаюць у парк ля Волатавай прорвы — заўтра ж я зраблю там засаду. Рукі ў мяне дрыжалі: нервы былі напятыя, як струны, і агульны стан не на сабаку.

«Можа, паехаць адсюль?» — варухнулася ў душы спозненая думка, водгук той маёй «ночы жаху», і памерла перад напорам безнадзейнасці, жалезнай рашучасці і жадання біцца.

Хопіць! Перамога або Волатава прорва — усё адно. Пакінуць? Не, я не мог пакінуць гэты агідны халодны дом, бо тут жыло тое, што я пакахаў. Так, пакахаў. Я не саромеўся гэтага. Да гэтага часу ў мяне, як амаль ва ўсякага здаровага, маральна неразбэшчанага і пазбаўленага залішняй пачуццёвай цягі чалавека, былі да жанчын роўныя сяброўскія адносіны, часам нават не пазбаўленыя нейкай незразумелай агіды. Так яно і павінна быць, пакуль не прыходзіць Сапраўднае. Яно прыйшло. Ісці? Я быў тут, поруч, такі для яе магутны і вялікі (мае ўнутраныя хістанні яе не датычыліся), яна спадзявалася на мяне, яна ўпершыню, напэўна, спала спакойна.

Гэты момант, калі я трымаў яе ў абдоймах, вырашыў для мяне ўсё, што хавалася ў маім сэрцы яшчэ з тых часоў, калі яна паўстала ў абарону бедных там, ля верхняга каміна. З якой насалодаю я ўзяў бы яе адсюль, павёз кудысьці далёка, цалаваў гэтыя заплаканыя вочы, маленькія рукі, ахінуў яе, як цёплым, надзейным крылом, дараваў бы свету яго непрытульнасць.

Але што я? Як ні жорстка пра гэта падумаць, яна ніколі не будзе маёй. Я — галяк. Яна таксама бедная, але яна з ліку старэйшых родаў, блакітная кроў, гордая слава бясконцых пакаленняў за плячыма. «Гордая слава»? Я ведаў яе зараз, гэтую гордую славу, якая скончылася адзічэннем, але мне ад гэтага не было лягчэй. Я плебей. Не, я буду маўчаць пра гэта. Ніхто ніколі не скажа, што я дзеля карысці ажаніўся з прадстаўніцай даўняга роду, за які, магчыма, паміраў недзе на полі вайны мой просты прашчур. І ніхто не скажа, што я ўзяў яе, скарыстаўшыся з яе бездапаможнасці. Адзінае, што мне дазволена, гэта легчы за яе ў дол, пакласці душу сваю і хоць гэтым трошкі аддзячыць за гэтае ззянне неймавернага шчасця, якое азарыла маю душу ў гэты змрочны вечар ля вялікага непрытульнага каміна. Я дапамагу ёй выратавацца — і гэта ўсё.

Я буду верны, назаўжды буду верны гэтай радасці, змешанай з болем, горкай прыгажосці яе вачэй і адплачу ёй дабром за добрыя думкі пра мяне. А пасля — канец. Я пайду назаўжды адсюль, і шляхі радзімы бясконцай істужкай лягуць перада мною, і сонца паўстане ў вясёлкавых колах ад слёз, якія просяцца на веі.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

Наступнага дня я ішоў са Свеціловічам да невялікага лясного вострава ля Яноўскай пушчы. Свеціловіч быў вельмі вясёлы, многа разважаў пра каханне наогул і пра сваё каханне ў прыватнасці. І такая чыстая, шчырая душа глядзела з вачэй гэтага хлопца, так наіўна, па-дзіцячы, ён быў закаханы, што я ў думках даў сабе слова ніколі не перабіваць дарогі яго пачуццю, не перашкаджаць яму, ачысціць яму месца ля дзяўчыны, якую кахаў сам.

Мы, беларусы, рэдка ўмеем кахаць па-сапраўднаму, не ахвяруючы чымсьці, і я не быў выключэннем з правіла. Звычайна мы мучым тую, якую кахаем, а самі мучымся яшчэ больш ад розных супярэчлівых думак, пытанняў, учынкаў, якія іншымі вельмі лёгка прыводзяцца да аднаго знамянальніка.

Свеціловіч атрымаў з губерні ліст, у якім яму пісалі, між іншым, і пра Бермана.

— О, Берман... Берман, выяўляецца, добрая цаца! Род ягоны стары, але збяднелы і нейкі дзіўны. Вось тут мне пішуць, што ўсе яны мелі непераможную цягу да самоты і з’едлівасць. Бацька яго страціў маёмасць, была вялізная растрата, і выратаваўся ён толькі тым, што прайграў вялізную суму рэвізору. Маці жыла амаль увесь час пры завешаных вокнах, нават гуляць выходзіла толькі ўначы. Але самая дзіўная асоба — сам Берман. Ён выявіўся выключным знаўцам старажытнай драўлянай скульптуры і шкла. Некалькі год таму здарылася непрыемная гісторыя. Яго паслалі ў Мніхавічы ад гуртка аматараў старажытнасці, на чале якога стаяў граф Тышкевіч. Там, у Мніхавічах, зачынялі стары касцёл, а скульптуру з яго, па чутках, вельмі мастацкую, хацелі адкупіць у прыватны музей Тышкевіча, які ён перадаваў гораду. Берман паехаў, даслаў адтуль статую святога Хрыстафора і ліст, у якім пісаў, што скульптура ў касцёле не мае ніякай мастацкай вартасці. Яму паверылі, але праз некаторы час вы-

падкова даведаліся, што Берман купіў скульптуру за мізэрныя грошы, купіў у агульнай колькасці ста сямі фігур і спрадаў усё іншаму прыватнаму калекцыянеру, назначыўшы вялікую суму. Адначасова не далічыліся значнай колькасці грошай у казне гуртка аматараў. Бермана ўзяліся шукаць, але ён знік разам з маці і малодшым братам, які выхоўваўся недзе ў прыватным пансіёне і толькі за год да таго прыехаў у горад. Між іншым, гэты брат вызначаўся яшчэ большай нелюдзімасцю. Увесь час ён сядзеў у дальніх пакоях, не выходзячы ні да каго, і толькі раз яго бачылі ў кампаніі Бермана ў клубе, дзе ён здаўся ўсім дрэнна выхаваным для пансіянера.

Калі агледзеліся, то выявілася, што дом яны паспелі прадаць і знікнуць невядома куды. Пачалі даведвацца і даведаліся, што і наогул гэтыя Берманы зусім не Берманы, а хто — невядома.

— Н-да... — сказаў я. — Не шмат мы даведаліся. Цікавае тут толькі тое, што Берман — злачынец. Але ён абдурыў такога самага драпежніка: не мне яго ганіць за гэта. Ён яшчэ атрымае па заслугах, але гэта пасля. Значна больш цікавае тут другое. Па-першае, куды падзеліся яго маці і брат? Па-другое, хто ён сам, які ў яго сапраўдны твар? Тое, што ён з'явіўся тут, зразумела. Яму трэба было схавацца. А вось хто ён, хто ягоныя сваякі — гэта трэба з'ясаваць. І я гэтым абавязкова зацікаўлюся. А ў мяне, Свеціловіч, амаль ніякіх навін няма, хіба што даведаўся, ды і тое з вуснаў вар'яткі, што выбавіў Рамана ў тую фатальную ноч з хаты Гарабурда. А я нават не запомніў яго пысы, калі ён быў на вечары ў Яноўскіх.

— Нічога, яшчэ даведаемся.

Мы падышлі да ляска і заглыбіліся ў яго. Гэта быў адзіны з ляскоў у наваколлі, у якім былі пераважна ліставыя пароды. І там, на невялікай галявіне, мы пабачылі Рыгора, які трымаў на каленях доўгую стрэльбу, а спіною прыхіліўся да таўшчэразнага стаўбура-вываратня. Пабачыўшы нас, ён устаў, па-мядзведжы скасавурыўся і зручней узяўся за стрэльбу.

— Сцеражыцеся выходзіць на балоты, сцеражыцеся парку і асабліва яго паўдзённай і ўсходняй ускраін, — прамармытаў ён замест прывітання.

— Чаму? — спытаў я, пазнаёміўшы яго са Свеціловічам.

— А вось чаму, — буркнуў ён. — Гэта не здані. Яны занадта добра ведаюць патаемныя сцежкі праз Волатаву прорву. Вы здзіўляецеся, што яны мчаць без дарогі, а яны проста ведаюць усе схованкі акругі і ўсе сцежкі да іх, яны карыстаюцца дужа старажытнымі падковамі, якія прыбіты навенькімі гакамі. Што

праўда, то праўда, іхнія коні ходзяць, як мядзведзь, спачатку левымі, а пасля правымі нагамі, і крок у іх машысты, шырэйшы, чым у якога іншага каня ў наваколлі. І яны для зданяў занадта слабыя. Здань праходзіць паўсюль, а гэтыя толькі праз паваленую агароджу ля прорвы... Што я даведаўся яшчэ: іх было ў мінулы раз не больш як дзесяць чалавек, бо толькі палова коней ідзе так, як ідзе конь, калі ў яго на спіне звычайная чалавечая вага. На астатніх, напэўна, штосьці лягчэйшае. Той, хто мчыць наперадзе, мае гарачы нораў: дзярэ каню рот цуглямі. І яшчэ — адзін з іх нюхае табаку: я знайшоў пыл зялёнай табакі ля месца, дзе яны спыняліся перад апошнім набегам і натапталі шмат слядоў. Месца гэта — вялікі дуб непадалёк ад паваленай агароджы.

— Дзе можа быць месца іх збораў? — спытаў я.

— Гэта я ведаю зараз добра, — спакойна адказаў Рыгор. — Гэта недзе ў Яноўскай пушчы. Я прасачыў сляды. Вось паглядзіце. — Ён пачаў крэсліць лазінкаю па зямлі: — Вось пушча. Тады, калі быў забіты Раман, сляды зніклі вось тут, амаль ля балота, якое акружае пушчу. Калі яны гналіся за табою, пасля вячэры ў Дубатоўка, сляды зніклі паўночней першага месца, а пасля той гісторыі ля Яноўскага палаца, калі яны наважыліся крычаць, — яшчэ трохі паўночней. Бачыш, шляхі амаль сыходзяцца.

— Праўда, — падхапіў я. — І калі іх прадоўжыць, яны сыдуцца ў адным пункце, недзе на балоце.

— Я быў там, — скупа, як аб самым звычайным, буркнуў Рыгор. — Балота лічыцца ў тым месцы гіблым, але я пабачыў, што на ім там-сям расце трава сівец. А там, дзе расце сівец, там заўжды зможа паставіць нагу конь паскудніка, калі паскудніку будзе для гэтага пільная патрэба.

— Дзе гэта месца? — збялеў раптам Свеціловіч.

— Ля Халоднай лагчыны, дзе ляжыць камень, Ведзьмакова ступа.

Свеціловіч яшчэ больш збялеў. Нешта хвалявала яго, але ён авалодаў сабою.

— Яшчэ што? — спытаў я.

— Яшчэ тое, — панура мармытаў Рыгор, — што ты памыляешся, Беларэцкі. Хоць выклікаў тады з хаты Рамана Гарабурда, але ён да дзікага палявання не мае дачынення. У тыя дзве ночы, калі яно з'ўлялася апошні раз, Гарабурда сядзеў у сваім берлагу, як хамяк у нары. Я ведаю, яго дом добра пільнавалі.

— Але ж ён зацікаўлены ў смерці або вар’яцтве Яноўскай. Яму гэта карысна. Ён прымусіў Кульшаў запрасіць у той вечар Надзею Яноўскую да сябе, ён паслаў да Кульшаў і сваю дачку і затрымаў усіх да ночы.

Рыгор задумаўся. Пасля мармытнуў:

— Можа, і так. Ты разумны, ты ведаеш. Але Гарабурды там не было, я адкажу галавою. Ён дрэнны яздок. Ён баягуз. І ён увесь час сядзіць у палацы. Але ж ён можа і намовіць на тую агіду кагосьці іншага. Можа, гэта і так. Такі можа.

І тут Свеціловіч яшчэ больш збялеў і ўтаропіўся кудысьці вачыма, як быццам абдумваў штосьці важлівае. Я не перашкаджаў яму: захоча — сам скажа. Думаў ён, аднак, нядоўга.

— Браты, я, здаецца, ведаю гэтага чалавека. Разумееце, вы наштурхнулі мяне на гэта. Першае: «Ведзьмаковая ступа». Я сёння бачыў там чалавека, вельмі знаёмага мне чалавека, на якога ніколі б не падумаў, і гэта мяне бянтэжыць. Ён быў вельмі стомлены, брудны, ён ішоў да багны. Пабачыў мяне, накіраваўся да мяне: «Што вы тут робіце, пан Свеціловіч?» Я адказаў жартам: «Шукаю ўчарашняга дня». А ён зарагатаў і пытае: «Хіба ўчарашні дзень, хай яго д’ябал, прыходзіць у сённяшні?» А я яму кажу: «Ва ўсіх нас учарашні дзень на шыі вісіць». Ён: «Але ж не прыходзіць?» А я яму: «А дзікае паляванне? З мінулага аж у сёння прыйшло». Той аж у твары змяніўся: «Хай яго ліха... Не памінайце вы яго!» І паехаў ля дрыгвы на поўнач. Я накіраваўся да вас, пан Беларэцкі, а калі азірнуўся, то бачу: ён паехаў назад і ўжо ў лажок спускаецца. Спусціўся і знік.

— Хто гэта? — спытаў я.

А Свеціловіч усё вагаўся. Пасля ўзняў свае светлыя вочы.

— Прабачце, Беларэцкі, прабач, Рыгор, але я не магу пакуль што сказаць. Гэта занадта важліва, а я не пляткар, я не магу так проста ўзваліць такое абвінавачванне на плечы чалавека, які, можа, яшчэ і бязвінны. Вы ведаеце, за такое могуць забіць нават па адным падазрэнні. Магу толькі сказаць, што ён быў сярод гасцей у Яноўскіх. Я ўвечары яшчэ падумаю, прыпамятаю гісторыю пра вэксалі і заўтра скажу вам... Я пакуль не магу больш нічога сказаць...

— О, вядома. Надзейнае алібі. О, дурні! І якія няпэўныя думкі! — Па аналогіі я прыпомніў і свае няпэўныя думкі пра «рукі», якія павінны былі мне дапамагчы разабрацца ў чымсьці важлівым, але прыдумаць, успомніць не мог і адагнаў надакучлівае слова.

Вырашылі, што Рыгор будзе сённяшняй ноччу сядзець у Халоднай лагчыне, адтуль недалёка да хаты, у якой жыў Свеціловіч, яго стары «брат-слуга» і кухарка. У выпадку патрэбы мы зможам яго там адшукаць.

— І ўсё ж я не веру, што падпільную іх там пры выхадзе. Свеціловіч іх спудзіў, — сіпавата сказаў Рыгор. — Яны знойдуць іншую дарогу з пушчы на раўніну.

— Але іншай дарогі ў парк не знойдуць. Я буду пільнаваць іх ля паваленай агароджы, — вырашыў я.

— Аднаму небяспечна, — апусціў вочы Рыгор.

— Але ты таксама будзеш адзін.

— Я? Ну, няма дурных. Я смелы, але не так, каб адзін супраць дваццацёх.

— А я кажу вам, — упарта сказаў я, — што гаспадыня Балотных Ялін не вытрымае, калі і сёння з'явіцца пад мурамі дома дзікае паляванне. Я павінен не пусціць іх у парк сёння, калі яны толькі надумаюць прыйсці.

— Я не магу дапамагчы вам сёння, — задумліва прагаварыў Свеціловіч. — Тое, што я сёння павінен знайсці, больш важлівае. Магчыма, сёння дзікае паляванне наогул не з'явіцца. У яго на шляху паўстане перашкода...

— Добра, — спыніў яго я даволі суха, — вам трэба было выказаць свае меркаванні, а не загадваць нам загадкі. Я выйду сёння адзін. Яны не чакаюць, я спадзяюся на гэта. І да таго ж яны не ведаюць, што ў мяне ёсць зброя. Я двойчы сустракаўся з паляваннем і яшчэ з тым чалавекам, што страляў мне ў спіну. І ніколі не ўжываў яе. Ну што ж, яны пабачаць... Як павольна мы разблытваем гэта! Як ляніва працуюць нашы мазгі!

— А гэта лёгка і лагічна разблытваецца толькі ў дрэнных раманах, — буркнуў пакрыўджаны Свеціловіч. — Да таго ж мы не сышчыкі губернскай паліцыі. І дзякаваць Богу.

Рыгор пахмурна калупаў лазінкаю зямлю.

— Хопіць, — сказаў ён з уздыхам. — Трэба дзейнічаць. Паскачуць яны ў мяне, дурні... І — прабачце — вы ўсё ж паны, і нам па дарозе толькі зараз, — але, калі мы адшукаем іх, мы, мужыкі, не толькі заб'ём гэтых мярзотнікаў, мы спалім іхняе гняздо, мы зробім жабракамі іхніх нашчадкаў. А магчыма, і нашчадкам іхнім зробім гамон.

Свеціловіч засмяяўся:

— Мы з Беларэцкім вя-алікія паны. Як кажуць, пан — лазовы жупан, балоневыя лапці. А калі праўду казаць, трэба ўсіх

такіх рэзаць разам з панятамі, бо з панят таксама паны некалі вырастаюць.

— Калі гэта толькі не сонная мара, гэтае дзікае паляванне. Ну, не было, ніколі не было чалавека, які схаваў бы ад мяне, лепшага паляўнічага, сляды. Здані, здані і ёсць.

Мы развіталіся з ім. Я таксама часткова быў згодзен з апошнімі словамі Рыгора. Нешта нечалавечае было ў гэтым паляванні. Гэты нялюдскі крык — такі не мог вылятаць з чалавечых грудзей. Пошчак капытоў, які гучаў толькі часам. Дрыкганты, парода, якая знікла, а калі нават і не знікла, дык хто ў гэтым закутку быў такі багаты, каб купіць іх. І пасля — як растлумачыць крокі ў калідоры? Яны ж неяк павінны быць звязаны з дзікім паляваннем караля Стаха. Хто такая гэта Блакітная Жанчына, якая мараю знікла ў ночы, калі яе двайнік (зусім нясхожы двайнік) мірна спаў у пакоі? І каму належаў той жахлівы твар, які глядзеў на мяне праз акно? Чэрап мой трашчаў. Не, штосьці нялюдскае, злачыннае, страшнае было тут, нейкая сумесь чартаўшчыны з рэальным!

Я зірнуў на Свеціловіча, які крочыў поруч са мною, вясёлы і гарэзлівы, як быццам гэтыя пытанні для яго не існавалі. Ранак і на самай справе быў цудоўны: шэранькі дзень, але за хмарамі ўгадвалася блізкае сонца, і кожны жоўты лісцік на дрэвах млеў, здаецца, нават пацягваўся ад насалоды пад цёплай не па-асенняму расяніцай. І нават нейкія птушкі пяшчотна і задумліва спявалі ў хмызах. Праз галявіну далёка пад намі бачна было роўнае займішча, далей — бязмежны абшар карычневых балот, верасовыя пусткі. Балотныя Яліны далёка за імі. І ўсё гэта мела нейкую сумную, не кожнаму зразумелую прыгажосць, якая кожнага сына гэтых панурых мясцін балюча і соладка кранае за сэрца.

— Бачыце, асінка выбегла на поле. Чырвоная, засаромелася бедная дзяўчынка, — расчуленым голасам вымавіў Свеціловіч.

Ён стаяў над урвішчам, аж падаўшыся наперад. Лёгкі ветрык развяваў яго доўгія прыгожыя валасы. Аскетычны рот стаў мяккім, блукаючая няпэўная ўсмешка была на ім. Вочы глядзелі ўдалячынь, і ўвесь ён здаваўся нейкім лёгкім, імпэтным, імкнучыся ў гэты бедны, дарагі абшар.

«Вось так і на крыж ідуць такія, — зноў падумаў я. — Прыгожую галаву пад мярзотную брудную сякеру...»

І сапраўды, нейкая прага жыцця і імкненне да самаахвяравання была ў гэтым прыгожым твары, у тонкіх, продкі-паэты сказалі б «лілейных», руках, у стройнай прыгожай шыі, цвёр-

дых карых вачах з доўгімі вейкамі, але з металічным бляскам углыбіні.

— Ах, зямля мая! — уздыхнуў ён. — Дарагая мая, адзіная! Як жа ж ты дрэнна ставішся да тых асінак, якія папярод усіх выбягаюць на поле, на святло. Першай засыпле іх снегам зіма, зламае вецер. Не спяшайся, дурненькая! Куды там! Яна не можа.

Я паклаў руку яму на плячо, але хутка зняў яе. Я адчуў, што ён зусім не я, што гэта зараз чалавек, які ляціць, якога няма тут, які нават не саромеецца высокіх слоў, якіх мужчыны звычайна ўнікаюць.

— Памятаеце, Беларэцкі, вашу прадмову да «Беларускіх песень, балад і легенд». Я памятаю: «Горка стала беларускаму майму сэрцу, калі пабачыў я такую занядбанасць нашых лепшых, залатых нашых слоў і спраў». Цудоўныя словы, за іх толькі даруюць вам усе грахі. А што ж казаць, калі не толькі беларускае маё, калі чалавечае маё сэрца баліць ад занядбанасці нашай і агульнай, ад болю, ад бяссільных слёз няшчасных матак. Нельга, нельга так жыць, дарагі Беларэцкі. Чалавек добры, а з яго робяць жывёлу. Ніхто, ніхто не хоча даць яму магчымасць быць чалавекам. Відаць, нельга проста крыкнуць: «Абдыміцеся, людзі!» І вось ідуць людзі, на дыбу ідуць. Не дзеля славы, а дзеля таго, каб забіць пакуты сумлення, — як часам ідзе чалавек, не ведаючы дарогі, у пушчу, ратаваць сябра, бо сорамна, сорамна стаяць. Ідуць, блытаюць, гінуць. Ведаюць толькі, што не такім павінен быць чалавек, што нельга яму абяцаць райскую канюшыну, што шчасце яму патрэбна пад гэтымі вось дымнымі столямі. І мужнасць іхняя большая, чым у Хрыста: яны ведаюць, яны не ўваскрэснуць пасля распяцця. Толькі крукі над імі будуць лётаць ды плакаць жанчыны. І, галоўнае, святыя іхнія маці.

Ён здаўся мне ў гэтую хвіліну такім прыўкрасным, такім нялюдскім чалавекам, што я з жахам праз завесу будучага прадчуў яго смерць. Такія не жывуць. Дзе гэта будзе? На прэнгу ў катоўні? На шыбеніцы перад народам? У безнадзейнай бойцы інсургентаў з войскам? За пісьмовым сталом, за якім яны спяшаюцца запісаць апошнія палаючыя думкі, дыхаючы кавалкамі лёгкіх? У калідорах турмаў, калі ім страляюць у патыліцу, не насмельваючыся зірнуць у вочы? Вочы яго блішчалі.

— Каліноўскі ішоў на шыбеніцу. Пяроўскую, жанчыну, на якую глянуць было толькі — і памірай, на эшафот... Гэткую прыгажосць — бруднай шворкай за шыю. Ведаеш, Яноўская

на яе трохі падобная. Таму і яе абагаўляю, хоць гэта не тое. А яна шляхцянка была, Значыцца, ёсць выхад і для некаторых з нашых. Толькі па гэтай дарозе, калі не хочаш згнісці жыўцом... Душылі. Думаеш, усіх перадушылі? Расце сіла. З імі хоць рабром на круку вісець, абы не імчала над зямлёю дзікае паляванне караля Стаха, жах мінулага, апакаліпсіс ягоны, смерць. Вось скончу я толькі гэта і паеду. Скончу хутка, думка ў мяне з'явілася. А там... эх, не магу я тут. Ведаеш, якія ў мяне ёсць сябры, што мы павінны распачаць?! Калаціцца будуць тыя, тлустыя. Не перадушылі. Моцным пажарам пахне. І гады, гады наперадзе! Колькі пакуты, колькі шчасця! Якая залатая, чароўная далячынь, якая будучыня чакае!

Слёзы пырснулі з вачэй гэтага чалавека. Я не вытрымаў і кінуўся яму на шыю. Не памятаю, як мы развіталіся. Памятаю толькі, як стройная юнацкая яго постаць вымалявалася на верхавіне кургана. Ён павярнуўся да мяне на хвіліну, махнуў капелюхам, крыкнуў:

— Гады наперадзе! Далячынь! Сонца!

І знік. Я пайшоў адзін дадому. Я верыў, зараз мне ўсё па плячы. Што змрок Балотных Ялін, калі наперадзе сонца, далячынь і вера? Я верыў, верыў, што ўсё зраблю, што жывы народ, калі ў ім з'яўляюцца часам такія людзі. Дзень быў яшчэ наперадзе, такі вялікі, ззяючы, магутны. Вочы мае глядзелі насустрач яму і сонцу, якое пакуль што хаваецца сярод хмар.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

У той самы вечар, гадзін каля дзесяці, я ляжаў, схаваўшыся ў здзічэлым невысокім бэзе і высокай траве якраз каля паваленай агароджы. Настрой бясстрашнасці яшчэ непадзельна валодаў мною (ён так і не знік да канца майго прабывання ў Балотных Ялінах). Здавалася, што гэта не маё, любімае мною, хударлявае і моцнае цела могуць дзяўбці крумкачы, а чыёсьці іншае, да якога мне няма ніякай справы. А між тым абставіны былі невясёлыя: і я, і Рыгор, і Свеціловіч торкаліся ў розныя бакі, як кацяняты ў кошыку, і не адкрылі злачынцаў. І месца было невясёлае. І час — таксама.

Было амаль зусім цёмна. Над роўнай пахмурай паверхняй прорвы накіпалі нізкія чорныя хмары, бліжэй да ночы абяцалі зліву (восень была наогул дрэнная, змрочная, але з

чыстымі буйнымі злівамі, амаль як летам). Ветрык узняўся быў, зашумелі чорна-зялёныя піраміды ялін», але потым зноў сціхнуў. Хмары павольна, вельмі павольна каціліся наперад, нагрувашчваліся над безнадзейным роўным краявідам. Недзе далёка-далёка бліснуў агеньчык і, сарамліва паміргаўшы, згас. І пачуццё самоты ўладна ахапіла сэрца. Я быў чужы тут. Свецілові сапраўды варты Надзеі Раманаўны, а я так патрэбны як дзірка ў плоце.

Ці доўгі час я так ляжаў, ці не — не скажу. Хмары, даходзячы да мяне, рабіліся радзей, але на даляглядзе грувасціліся новыя.

Дзіўны гук уразіў мой слых: недзе далёка і, як мне здалося, у правым баку ад мяне спяваў паляўнічы рог. І хоць я ведаў, што ён гучыць у баку ад шляху дзікага палявання, я мімаволі стаў часцей пазіраць у той край. Непакоіла мяне яшчэ і тое, што на балотах пачалі з'яўляцца там-сям белыя лапікі туманоў. Але тым справа і скончылася. Раптам другі гук даляцеў да мяне, недзе шастаў сухі верас. Я глянуў у той бок, пачаў углядацца да болю ў вачах і нарэшце заўважыў на фоне чорнай істужкі далёкіх лясоў рух нейкіх плям.

Я заплюшчыў на хвіліну вочы, а калі адкрыў іх, пабачыў, што проста перада мною і зусім недалёка вымалёўваюцца на раўніне туманныя сілуэты коннікаў. Зноў, як і той раз, бязгучна ляцелі яны перада мною страшэннымі скачкамі проста ў паветры. І поўнае маўчанне, быццам я аглух, вісела над імі. Вострыя шлыкі, валасы і плашчы, якія луналі ў паветры, дзіды — усё гэта адбілася ў маёй памяці. Я пачаў паўзці бліжэй да цаглянага падмурка агароджы. Паляванне разгарнулася, пасля сабралася ў натоўп, бязладны і імклівы, і пачало заварочваць. Я дастаў з кішэні рэвальвер.

Іх было мала, іх было менш, як заўсёды, — коннікаў восем. Куды ж ты падзеў астатніх, кароль Стах? Куды яшчэ даслаў?

Я паклаў рэвальвер на сагнуты локаць левай рукі і стрэліў. Я добры стралок і трапляў у цэль нават амаль у поўнай цемры, але тут здарылася дзіўнае: коннікі скакалі далей. Я прыкмеціў задняга — высокага прывіднага мужчыну, — стрэліў: хоць бы хто пахіснуўся.

Але дзікае паляванне, як быццам жадаючы даказаць мне сваю прывіднасць, развярнулася і скакала бокам да мяне, недасяжнае для маіх стрэлаў. Я пачаў адпаўзаць задам да хмызоў і толькі паспеў наблізіцца да іх, як хтосьці скокнуў на мяне з-за хмызоў і жахлівым цяжарам прыціснуў да зямлі. Апошняе паветра вырвалася з маіх грудзей, я нават вохнуў. І адразу

зразумеў, што гэта чалавек, з якім мне не выпадае цягацца па вазе і сіле. А ён спрабаваў круціць мне назад рукі і свісцячым шэптам сіпеў:

— С-стой, ч-чорт, ч-чакай... Не ўц-цячэш, бан-дзюк, забойца... Тр-рымайся, няўдалы...

Я зразумеў, што, калі не ўжыву ўвесь свой спрыт, я загіну. Памятаю толькі, што з жалем сачыў за прывідным паляваннем, у якое я страляў і якому ані на волас не пашкодзіў. У наступны момант я, адчуваючы, што рука яго крадзецца да маёй глоткі, старажытным прыёмам падбіў яго руку, і нешта цёплае палілося на мой твар: ён уласнай рукою разбіў сабе нос. Пасля гэтага я, схапіўшы яго руку, пакаціўся па зямлі, заламіўшы яе пад сябе. Ён войкнуў, і я зразумеў, што і наступны мой ход меў поспех. Але адразу за тым я атрымаў такі ўдар між броваў, што балоты закруціліся перада мною. Шчасце, што я інстынктыўна паспеў напружыць мускулы жывата, і апошні ўдар, пад дыхала, не ўчыніў мне шкоды. Рукі, валасатыя, навобмацак, цягнуліся ўжо да маёй глоткі, калі я прыпомніў параду майго дзеда супраць мацнейшага праціўніка. Неймаверным выкрутам я павярнуўся на спіну, паддаў рукою цяжкі жывот невядомага і сукуў яго каленам, маім вострым і жорсткім каленам, у прычыннае месца. Ён інстынктыўна падаўся на мяне тварам і грудзьмі, і тады я, сабраўшы апошнія сілы, каленам і рукамі, выцягнутымі далей ад галавы, паддаў яго ў паветра. Гэта, напэўна, атрымалася нават занадта моцна: ён пераляцеў цераз галаву, зрабіў паўкруг у паветры і гэпнуўся ўсім цяжкім — ох, якім цяжкім! — целам аб зямлю. Адначасова я страціў прытомнасць.

...Калі я ачуняў, я адразу пачуў, што недзе за маёй галавою хтось стогне. Ён не мог яшчэ ўзняцца, а я з вялікім намаганнем ужо спрабаваў стаць на ногі. Я вырашыў сунуць яго нагою пад сэрца, пазбавіць дыхання, але пакуль што ўгледзеўся ў балота, дзе знікла дзікае паляванне. І раптам пачуў вельмі знаёмы голас таго, хто крахтаў:

— Ах, чорт, які гэта тут ёлуп! Якая падла! Балеснічкі нашы святыя!

Я зарагатаў. Той самы голас адазваўся:

— Гэта вы, пане Беларэцкі! Наўрад ці з гэтага дня я змагу быць жаданым госцем у жанчын. Во-ох! Ах, каб вас, каб! Крычалі б, што гэта вы. Чаго паўзлі ад агароджы?! Толькі ў памылку ўвялі. А гэтыя чэрці зараз унь дзе, каб вас ліха... прабачце.

— Пане Дубатоўк! — зарагатаў я з палёгкаю.

— Каб вас, пан Беларэцкі, халера ўхапіла... во-ох... прабачце. — Вялізны цень сеў, трымаючыся за жывот. — А гэта я пільнаваў. Занепакоіўся. Дайшлі да мяне чуткі, што дрэннае нешта робіцца з маёй доняй. В-ох! І ты таксама вартаваў? А каб цябе пярун шаснуў на божае нараджэнне!..

Я падняў з зямлі рэвальвер.

— І чаго вы так на мяне, пане Дубатоўк?

— А чорт яго ведае! Паўзе нейкая гліста, дык я вось і схапіў. Балеснічкі нашы! Каб цябе бацькі на тым свеце сустрэлі, як ты мяне на гэтым, як жа ж ты, падла, балюча б'ешся.

Выявілася, што дзед і без нашых папярэджанняў даведаўся пра наведванні дзікага палявання і вырашыў падпільнаваць яго, «калі маладыя ўжо такія захэканцы і бабздыры, што не могуць абараніць жанчыны». Канец гэтай прыкрай сустрэчы вы ўжо назіралі. Ледзь стрымліваючы рогат, які мог здацца непачцівым, я пасадзіў стогнучага Дубатоўка на яго дрэннага коніка, які чакаў непадалёк. Ён узлез на яго, стогнучы і кленучы свет, сеў бокам, буркнуў нешта накшталт «д'ябал пацягнуў са зданямі змагацца — нарваўся на дурня з вострымі каленямі» і паехаў.

Ягоны прыгнечаны твар, уся яго скасавураная постаць былі такія жаласныя, што я ледзь не пырскаў. А пасля ён паехаў у напрамку да сваёй хаты, стогнучы і праклінаючы ўсіх маіх сваякоў да дваццатага калена.

Ён знік у цемры, і тут невытлумачальная трывога кальнула ў маё сэрца. Гэта ў падсвядомасці варушылася нейкая жахлівая думка, рыхтуючыся з'явіцца на свет божы. «Рукі?» Не, я так і не мог прыпамятаць, чаму хвалюе мяне гэта слова. Тут было нешта другое... Ага, чаму іх так мала? Чаму толькі восем прывідных коннікаў з'явілася сёння ля паваленай агароджы? Куды падзеліся астатнія? І раптам дзікая трывожная думка выплыла проста на язык: «Свеціловіч. Яго сустрэча з чалавекам у Халоднай лагчыне. Яго дурны жарт пра дзікае паляванне, які можна было зразумець так, быццам у яго ёсць нейкія цвёрдыя падазрэнні, што ён выкрыў удзельнікаў гэтай справы. Божа! Калі гэты чалавек сапраўды бандзюк, ён немінуча зробіць спробу забіць Свеціловіча сёння ж. Таму іх і мала! Напэўна, другая палова накіравалася да майго новага друга, а гэтыя — да Балотных Ялін. Можа, яны і размову нашу бачылі, мы ж, як дурні, стаялі сёння над урвішчам. Ох, якую памылку, калі ўсё гэта так, зрабіў ты, Андрэй Свеціловіч, не расказаўшы нам, хто быў гэты чалавек!»

Я разумеў, трэба спяшацца, трэба спяшацца так, як ніколі ў жыцці. Можа, я яшчэ паспею. Поспех нашай справы і жыццё добрай юнацкай душы залежалі ад хуткасці маіх ног. І я пабег так, як не бегаў нават у тую ноч, калі за мною гналася дзікае паляванне караля Стаха. Я ўзяў нацянькі праз парк, пералез у адным месцы праз агароджу і прыпусціўся бегчы да хаты Свеціловіча. Я не ляцеў як шалёны, я добра ведаў, што мяне не выстачыць на ўсю дарогу, а таму бег размерана, прыцiснуўшы локці да бакоў. Трыста крокаў бягом, як толькі магчыма, хутка, пяцьдзесят крокаў хуткай хадою — так я вырашыў. І я прытрымліваўся гэтага, хоць сэрца маё пасля першых дзвюх вёрст здатна было выскачыць з грудзей. Пасля пайшло лягчэй, я бег і ішоў амаль машынальна і толькі павялічыў норму бегу на чатырыста крокаў. Шлёп-шлёп-шлёп — і так чатырыста разоў, топ-топ — пяцьдзесят разоў. Туманныя, амаль не заўважаныя мной, праплывалі міма самотныя яліны і верас; у грудзях балюча пякло; свядомасць амаль не працавала. Пад канец я лічыў крокі машынальна. Я так стаміўся, што з радасцю лёг бы на зямлю або хоць павялічыў колькасць такіх спакойных і прыемных крокаў на два. Але я сумленна змагаўся са спакусаю.

Так я прыбег да Свеціловічавай хаціны, маленькага пабеленага будыначка ў чэзлым садзіку. Проста па пустых градах, душачы там-сям апошнія капусныя качаны, я памчаў да ганка, упрыгожанага чатырма драўлянымі калонамі, і пачаў барабаніць у дзверы. Спакойны агеньчык у крайнім акне замігцеў, пасля старэчы голас спытаў з-за дзвярэй:

— Каго гэта тут носіць?

Гэта быў стары дзед, былы «дзядзька», які жыў разам са Свеціловічам.

— Адчыні, Кандрат. Гэта я, Беларэцкі.

— А божа ж мой! А што здарылася? Чаго так захэкаліся?

Дзверы адчыніліся. Кандрат у доўгай кашулі і валёнках стаяў перада мною, трымаючы ў адной руцэ стрэльбу, а ў другой — свечку.

— Пан дома? — ліхаманкава спытаў я.

— Н-няма, — спакойна адказаў ён.

— А куды пайшоў?

— А скуль мне ведаць? Хіба ён дзіцёнак, пане, каб казаць, куды ідзе.

— Вядзі ў пакой, — грымнуў я, знерваваны гэтай халоднай непарушальнасцю.

— Нашто?

— Можа, ён пакінуў нейкую запіску.

Мы ўвайшлі ў пакой Свецiловiча. Аскетычны ложак пад шэрай коўдраю, вымытая да жаўцізны і нацёртая воскам падлога, кілім на ёй. На простым сасновым стале некалькі тоўстых кніг, паперы, раскіданыя пер'і. На сцяне партрэты: гравіраваны — Марата ў ванне, паражонага кінжалам, алоўкам — Каліноўскага. На другой сцяне карыкатура: Мураўёў з бізуном у руцэ стаіць на кучы чарапоў. Яго бульдожы твар грозны. Катkoў, нізка схіліўшыся, ліжа яму зад.

Я пераварушыў на стале ўсе паперы, але ў запале нічога не адшукаў, акрамя аркуша, на якім рукою Свецiловiча было напісана: «Няўжо ён?» Я хапіў пляцёнку для папер і высыпаў яе на падлогу: там нічога цікавага, толькі канверт з шурпатай паперы, на якім лёкайскім почыркам было напісана: «Андрусю Свецiловiчу».

— Былі сёння пану якія лісты? — спытаў я ў канча здзіўленага Кандрата.

— Быў адзін, я знайшоў яго пад дзвярыма, калі вярнуўся з агародчыка. І аддаў, вядома.

— Ён быў не ў гэтым канверце?

— Чакайце... Ну, вядома, так.

— А дзе сам ліст?

— Ліст? Д'ябал яго ведае. Хіба, можа, у печцы?

Я кінуўся да печкі, адчыніў дзверцы — адтуль шыбанула не вельмі гарачым духам. Я пабачыў ля самых дзверцаў маленькі лапік белай паперы. Схапіў яго — почырк быў той самы, што на канверце.

— Шчасце тваё, чортава душа, — вылаяўся я, — што ты рана вытапіў печку.

Але гэта было яшчэ не зусім шчасцем. Паперка была складзена ўдвая, і той яе бок, што быў бліжэй да жарынак, зараз ужо ўкрытых шэрым попелам, стаў зусім карычневым. Літар там нельга было разабраць.

*«Андрусь! Я даведаўся, што ты цікавішся дзікім паляваннем... ха... Надзеі Раманаўне небяспека... мая до...* (тут быў выпалены асабліва вялікі кавалак)... *кутавае. Сёння я размаўляў з панам Беларэцкім. Ён згодзен... пайшоў у павет... Дрыкганты — гало... ка... Калі атрымаеш ліст — адразу прыходзь да... ніны, дзе тры асобныя хвоі. Я і Беларэцкі будзем чакаць... ічкі на... што гэта коіцца на зя... Прыходзь неадменна. Ліст спалі, бо мне асабліва небяспеч... Тв... ся... Над імі таксама*

*жахлівая небяспека, якую можаш папярэдзіць толькі ты...* (зноў выпалена многа) *...одзь.*

*Твой добразычлівы Лікол...»*

Справа была яснай: хтосьці прыслаў ліст, каб выбавіць Свеціловіча з хаты. Ён паверыў. Відаць, той, хто пісаў, быў яму добра знаёмы. Тут замыслілі нешта езуіцкі вытанчанае. Каб ён не пайшоў да мяне, напісалі, што размаўлялі са мною, што я пабег у павет, што я буду чакаць яго недзе «...ніны, дзе тры асобныя хвоі». Што гэта за «...ніны»? Да лагчыны? Да раўніны? Марудзіць не было калі.

— Кандрат, дзе тут непадалёк на раўніне тры асобныя хвоі?

— Ляд яго ведае, — задумаўся ён. — Хіба што толькі ля Волатавай прорвы. Там стаяць тры вялізныя хвоі. Гэта там, дзе коні караля Стаха, — кажуць людзі, — ускочылі ў дрыгву. А што такое?

— А тое, што над панам Андрэем жахлівая небяспека... Даўно ён пайшоў?

— Ды не, напэўна, гадзіну таму.

Я выцягнуў яго на ганак, і ён, ледзь не плачучы, паказаў мне шлях да трох хвой. Я загадаў яму заставацца тут, а сам пабег. Я не ішоў на гэты раз, перамяжаючы бег. Я ляцеў, я імчаў, я выкладваў апошнія сілы, як быццам хацеў там, ля трох хвой, упасці мёртвым. На хаду я скінуў куртку, шапку, выкінуў з кішэняў залаты партабак і кішэнькавае выданне Дантэ, якое заўсёды насіў з сабою. Бегчы стала трохі лягчэй. Я скінуў бы нават боты, каб для гэтага не трэба было затрымацца. Гэта быў шалёны бег. Па маіх разліках, я павінен быў дабегчы да хвой хвілін на дваццаць пазней друга. Жах, адчай, нянавісць надавалі мне сілы. Вецер, які ўзняўся раптам, падштурхваў у спіну. Я не заўважаў, што хмары нарэшце заснавалі ўсё неба, што нешта цяжкае, давячае навісла над зямлёю: я — імчаў...

Тры вялізныя хвоі ўжо вымалёўваліся над чэзлымі хмызамі, а над імі была такая цемра, такое змрочнае неба... Я рынуўся ў хмызы, ламаючы іх нагамі. І тут... здалёк прагучаў стрэл старажытнага пулгака.

Я крыкнуў дзікім голасам, і, як быццам у адказ на мой крык, цішыню ночы раздзёр шалёны тупат конскіх капытоў.

Я выскачыў на паляну і пабачыў далёка цені дзесяці коннікаў, якія на поўным намёце паварочвалі ў хмызы. А пад соснамі я пабачыў чалавечую постаць, якая павольна, вельмі павольна асядала на зямлю.

Пакуль я дабег туды, чалавек упаў дагары тварам і шырока раскінуўшы рукі, як быццам жадаў целам сваім прыкрыць сваю зямлю ад куль. Я паспеў яшчэ стрэліць некалькі разоў у бок уцякаючых коннікаў, мне здалося нават, што адзін з іх пахіснуўся ў сядле, але адразу за гэтым выбух нечаканага гора зваліў мяне на калені поруч з ляжачым чалавекам.

— Брат! Брат мой! Брат!

Ён ляжаў перада мною зусім як жывы, і толькі маленькая ранка, з якой амаль не цякла кроў, гаварыла мне жорсткую непапраўную праўду.

Куля прабіла скронь і выйшла ў патыліцу. Я глядзеў на яго, на гэта бязлітасна загубленае маладое жыццё, я ўчапіўся ў яго рукамі, зваў, тармасіў і выў, як воўк, як быццам гэта магло дапамагчы.

Пасля сеў, узяў яго галаву на калені і пачаў гладзіць валасы.

— Андрусь! Андрусь! Прачніся! Прачніся, дарагі!

Мёртвы, ён быў прыгожы нейкай вышэйшай, нечалавечай, прыгажосцю. Твар закінуты, галава павісла, і стройная шыя, як выразьбленая з белага мармуру, ляжала на маім калене. Доўгія светлыя валасы пераблыталіся з сухой жоўтай травою, і яна лашчыла іх. Рот усміхаўся, быццам смерць прынесла яму нейкую разгадку жыцця, вочы былі мірна закрыты, і доўгія веі зацянялі іх. Рукі, такія прыгожыя і моцныя, што жанчыны маглі б цалаваць іх у хвіліну шчасця, ляжалі ўздоўж цела, як быццам адпачывалі.

Як скарбячая маці, сядзеў я, паклаўшы на калені сына, які прайшоў пакуты на крыжы. Я выў над імі і кляў Бога, бязлітаснага да свайго народа, да лепшых яго сыноў.

— Божа! Божа! Усемагутны, усяведны! Каб ты знік, адступнік, які прадаў свой народ.

Нешта бабухнула нада мною, і ў наступны момант цэлы акіян вады, жахлівая зліва абурылася на балоты і пусткі, на загублены ў лясах край. Стагналі пад ім яліны, прыгіналіся да зямлі. Ён біў мне ў спіну, якою я закрыў твар мёртвага, выў, наўскос, парывамі паласаваў зямлю.

Я сядзеў, як звар'яцелы, не заўважаючы нічога. Словы лепшага чалавека, якія я чуў некалькі гадзін таму, гучалі ў маіх вушах.

«Сэрца маё баліць... ідуць, гінуць, блытаюць, бо сорамна стаяць... і не ўваскрэснуць пасля распяцця... Але, думаеш, усіх перадушылі? Гады, гады наперадзе! Якая залатая, якая чароўная далячынь, якая будучыня чакае!.. Сонца!»

Я застагнаў. Сонца закацілася за хмары, будучыня, забітая і халадзеючая пад дажджом, ляжыць тут, на маіх каленях.

Я плакаў, дождж заліваў мае вочы, ліўся ў рот. А рукі мае ўсё гладзілі гэту залатую юнацкую галаву.

— Радзіма мая! Гаротная маці! Плач!

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

Крукі здалёк чуюць мёртвага. Наступнага дня з'явіўся ў яноўскае наваколле станавы прыстаў, вусаты і вельмі прыгожы мужчына. Ён з'явіўся без доктара, агледзеў месца забойства, сказаў важка, што слядоў ніякіх знайсці нельга з-за зліве (Рыгор, ходзячы за ім, толькі ўсміхнуўся горка ў вусы), пасля агледзеў цела забітага, пакруціўшы белымі пульхнымі пальцамі яго галаву, і пасля сказаў:

— Н-ну і пеканулі!.. Адразу лёг.

Пасля ён закусваў і піў гарэлку ў дальнім пакоі хаты Свецiловіча, непадалёк ад залы, дзе ляжаў на стале нябожчык і дзе ягоны дзядзька захлынаўся ад слёз, а я сядзеў, літаральна прыбіты горам і дакорамі сумлення. Для мяне нічога не існавала ў тыя хвіліны, акрамя тонкай свечкі, якую трымаў у тонкіх прыгожых руках Андрэй: яна клала ружовыя водбліскі на белую, з карункамі на грудзях, кашулю, якую дзядзька выцягнуў з куфра. Але ж трэба было мне даведацца, што думаюць улады пра гэта забойства і што яны думаюць рабіць.

— Нічога, на жаль, нічога, — адказаў прыемным пераліўчатым голасам станавы, гуляючы чорнымі аксамітнымі бровамі. — Гэта дзікі кут — і расследаванне тут немагчыма. Я разумею вашу высакародную тугу... Але што тут магчыма зрабіць? Тут некалькі год таму была сапраўдная вендэта (ён вымаўляў «вандэта», і, відаць, гэта слова вельмі яму падабалася). І што мы маглі зрабіць? Такі ўжо звычай. Напрыклад, мы таксама маглі б прыцягнуць да адказнасці вас, бо вы, як самі кажаце, ужывалі зброю супраць гэтых... м-м... паляўнічых. Мы не зробім гэтага. І што нам да гэтага? Магчыма, гэта было забойства з-за прыгожага полу. Кажуць, што ён быў закаханы ў гэтую (ён сыта варухнуў бровамі) ...у гаспадыню Балотных Ялін. Нічога сабе... А можа, гэта і наогул было самагубства? Нябожчык быў «меланхолік», х-хе, пакутнік за народ.

— Але ж я сам бачыў дзікае паляванне.

Твар станавога пачырванеў.

— Дазвольце мне не паверыць. Казкі аджылі-с. Мне здаецца, што наогул ваша знаёмства і з ім трошкі... М-м... п-падазронае. Я не хачу наводзіць на вас цень, але... вельмі падазроным з'яўляецца таксама тое, што вы так упарта імкнецеся звараціць увагу следства на другіх, на нейкае дзікае паляванне.

Я выцягнуў з запісной кніжкі закалены аркушык паперы:

— У мяне ёсць дакумент, што яго выбавілі з хаты.

Твар станавога зусім пачырванеў, вочы забегалі.

— Які дакумент? — жадобна спытаў ён, і рука яго працягнулася да мяне. — Вы павінны перадаць яго следству, і, калі пабачаць, што ён чагосьці варты, яго падшыюць да справы.

Я схаваў аркушык, такімі няпэўнымі здаліся мне яго вочы і гэтая сквапная працягнутая рука.

— Я сам перадам яго, калі і каму палічу патрэбным.

— Ну што ж, — станавы праглынуў нешта, — ваша справа-с, шаноўны. Але я параіў бы вам не дражніць гусей. Тут варварскае насельніцтва (і ён шматзначна паглядзеў на мяне), могуць і забіць.

— Я гэтага не вельмі баюся. Скажу толькі, што, калі паліцыя займаецца замест прамых спраў разважаннямі, самі грамадзяне павінны абараняць сябе. А калі выканаўчыя ўлады прыкладваюць усе намаганні, каб толькі замяць справу, — гэта пахне вельмі непрыемна і штурхае людзей на самыя нечаканыя думкі.

— Гэта што, — бровы станавога карцінна папаўзлі некуды да валос, — абраза ўлад?

— Крый мяне Божа! Але гэта дае мне права даць копію з гэтага ліста некуды ў губерню.

— Справа вашая, — станавы пакалупаў у зубах. — Але паслухайце, дарагі пан Беларэцкі. Трэба прымірыцца. Наўрад ці нават у губерні будзе прыемна начальству, калі яно даведаецца, што вучоны так абараняе былога крамольніка.

Ён галантна, грудным барытонам, умаўляў мяне. Бацька не мог бы быць такім уважлівым да сына.

— Чакайце, — спытаў я, — у нас што, ёсць закон, па якому лібералы аб'яўляюцца па-за законам, агалошваюцца парыямі? Мярзотнік можа іх забіць і не несці адказнасці?

— Не перабольшвайце, дарагі Беларэцкі, — з пыхатай самазадаволенасцю сказаў прыгажун, — вы схільны перабольшваць жахі ў жыцці.

Гэты неразумны хрэн (іншага слова я не магу падабраць) лічыў, напэўна, што смерць чалавека — «перабольшванне жахаў».

— А я вам кажу, — сказаў я з запалам, — што справу трэба перадаваць у суд, распачаць судовае даследаванне. Тут — злосная задума. Людзей тут робяць вар'ятамі, і, вядома, з намерамі. На ўсю ваколіцу яны наводзяць жах, тэрарызуюць народ, забіваюць людзей.

На твары станавога блукала памяркоўная ўсмешка, ён прыхлёбваў чаёк.

— Не вар-та, не варта так, дарагі пане. Народ ад гэтага цішэе. Забіты быў, па чутках, не вольны ад Бахусавай забавы. І наогул такім небяспечна выказваць яўнае спачуванне. Палітычна ненадзейны, не варты даверу, нядобранамерны, амаральны, не спрыяючы добрым норавам і... яўны сепаратыст, мужычы жаласнік, так бы мовіць, рыдалец над малодшым братам.

Я быў раз'юшаны, але пакуль што стрымліваўся. Мне не выпадала сварыцца яшчэ і з паліцыяй.

— Вы не жадаеце ўмешвацца ў справу па забойстве шляхціца Свеціловіча...

— Крый Божа, крый Божа! — перабіў ён мяне. — Мы проста сумняваемся, ці ўдасца нам яе разблытаць, і не можам прымушаць нашага следчага прыкласці ўсе сілы для вырашэння справы аб чалавеку, які ўсім сумленным, сапраўдным сынам нашай вялікай радзімы быў глыбока антыпатычны накіраваннем сваіх думак.

І ён з чароўнай ветлівасцю зрабіў далонню жэст у паветры.

— Добра. Калі імперскі расійскі суд не хоча прымушаць следчага па справе аб забойстве шляхціца Свеціловіча, дык, можа, ён захоча прымусіць следчага разблытаць справу пра замах на розум і само жыццё Надзеі Яноўскай, гаспадыні Балотных Ялін?

Ён здагадліва паглядзеў на мяне, паружавеў ад нейкай прыемнай думкі, плямкнуў некалькі разоў поўнымі, чырвонымі, вільготнымі вуснамі і спытаў:

— А вы што тут так за яе распінаецеся? Напэўна, самі скарыстацца вырашылі. Га? Што ж, ухваляю: у ложку яна, напэўна, гучыць нядрэнна.

Кроў кінулася мне ў твар, ноздры раздуліся. Абраза няшчаснаму другу, абраза каханай, якую я нават у думках не мог назваць сваёй, зліліся ў адно. Не памятаю, што тут было далей, як апынуўся ў маёй руцэ нейкі карбач. Я прасвісцеў глоткай:

— Ты... ты... гніда.

І пасля з маху аперазаў яго карбачом па ружова-смуглым твары.

Я чакаў, што ён адразу выхапіць рэвальвер і заб’е мяне. Але гэты здаровы мужчына толькі войкаў. Я стукнуў яго яшчэ раз па твары і пасля гідліва адкінуў карбач.

Ён выбег з пакоя, пачвалаў ад мяне з нечаканай хуткасцю і толькі сажняў праз дзвесце падаў голас, закрычаў: «Гвалт!»

Рыгор, калі даведаўся пра гэту справу, не ўхваліў мяне, сказаў, што я сапсаваў усё, што праз дзень мяне, напэўна, выклічуць у павет і, магчыма, дадуць тыдзень або вышлюць за павятовыя межы, а я патрэбен тут, бо пачынаюцца самыя цёмныя ночы. Але я не шкадаваў. Уся нянавісць мая вылілася ў гэты ўдар. І няхай павятовыя ўлады пальцам аб палец не стукнуць, каб дапамагчы мне, але затое цяпер я добра ведаю, хто мой друг, а хто вораг.

Астатнія падзеі гэтага і наступнага дня вельмі смутна адлюстраваліся ў маёй памяці. Горка, узахлёб, плакаў над нябожчыкам стары добры Дубатоўк, які ледзь рухаўся яшчэ ад майго пачастунку; стаяла над труной бледная Надзея Рамаnаўна, захутаная ў чорную мантылью, такая сумная і прыгожая, такая чыстая.

Пасля, як у сне, запомніў я хаўтурнае шэсце. Я вёў пад руку Яноўскую і бачыў, як на фоне шэрага асенняга неба ішлі людзі без шапак, як скарлючаныя бярозкі кідалі ім пад ногі жоўтае мёртвае лісце. Твар забітага, прыгожы і сумны, плыў над плячыма людзей.

Бабы, мужыкі, макраносыя дзеці, дзяды ішлі за труною, і ціхае рыданне гучала ў паветры. Рыгор наперадзе нёс на спіне вялізны дубовы крыж.

І ўсё галасней і галасней плыло над галовамі людзей, над мокрай глейкай галошанне баб-лямантух:

— А і на каго ж ты нас пакінуў?! А і чаго ж ты заснуў, радзімец?! А чаго ж твае вочы ясныя закрыліся, ручкі белыя склаліся? А хто ж нас абароніць ад судзей няправедных?! А паны ж кругом нелітасцівы, а агнусека ж на іхняй шыі няма! А галубочак ты наш, а куды ж ты ад нас адляцеў, а чаго ж ты пакінуў бедных дзетачак? А хіба ж вакол нявест няма, што з зямелькаю ты абвянчаўся, саколік?! А што ж гэта ты за хатачку абраў?! А ні вокан жа ў ён, ні дзвярэй! А не небачка ж вольнае над вільчыкам — сырая зямля!!! А не жоначка ж пад бокам — дошка халодная! А ні сяброўкі ж там, а ні каханачкі! А хто ж цябе ў вусны пацалуе?! А і хто ж табе галоўку пачэша?! А і чаго ж гэта прымерклі агеньчыкі?! А і чаго ж гэта

яліны зажурыліся?! То не жонка твая плача, каханая! Не яна ж гэта плача прад вяселліцам! А то ж плачуць над табою людзі добрыя! То не зорачка ў небе засвяцілася! То затлела ў ручках свечачка васковая!

Труна плыла над сапраўднымі чалавечымі рыданнямі, якіх не купіш нават у прафесіянальных лямантух.

І вось глыбокі дол. Калі развіталіся, Яноўская ўпала на калені і пацалавала руку чалавека, які загінуў за яе. Я ледзь адарваў яе, калі труну сталі спушчаць у яму. У гэты самы час дзесяткі тры сялян падцягнулі на палазах вялізны шэры камень і пачалі ўсцягваць яго на горб, дзе была выкапана самотная магіла. Крыж быў выбіты на камені і яшчэ імя і прозвішча — каравымі няўмелымі літарамі.

Загрукаталі аб вечка труны камякі зямлі, хаваючы ад мяне дарагі твар. Пасля на зраўнанае месца паставілі вялізны шэры камень. Рыгор і яшчэ пяцёра сялян ўзялі старыя стрэльбы і раз-поразу пачалі страляць у раўнадушнае нізкае неба. Апошні з Свеціловічаў-Яноўскіх адплываў у нязнаны шлях.

— Хутка і са мною так, — шапнула мне Яноўская. — Хоць бы хутчэй.

Грукаталі стрэлы. Закамянеласць ляжала на тварах людзей.

Потым, паводле старажытнага шляхецкага звычаю, молатам быў раструшчаны аб надгробны камень родавы герб.

Род застаўся без нашчадка. Вымер.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

Я адчуваў, што звар'яцею, калі не буду займацца росшукамі, калі не знайду хутка вінаватых і не пакараю іх. Калі няма Бога, калі няма справядлівасці ў начальнікаў — я буду сам і Богам і суддзёю.

І, дальбог, пекла ўздрыганецца, калі яны трапяць мне ў рукі: жылы буду цягнуць з жывых.

Ад Рыгора я даведаўся, што яго знаёмыя шукаюць у пушчы, што ён сам добра абшукаў месца забойства і даведаўся, што чакаў Свеціловіча худы высокі чалавек, які скурыў пад хвоямі, чакаючы, папяросу.

Акрамя таго, ён адшукаў папяровы клак, які вылецеў са стрэльбы забойцы, а таксама кулю, якой быў забіты мой друг. Калі я разгарнуў клак, пераканаўся, што гэта кавалак паперы,

занадта моцнай для газеты: хутчэй за ўсё ўрывак ад аркуша нейкага часопіса.

Я заўважыў словы: «За кожным з іх ёсць нейкая правіна, калі іх вядуць на страту... Ваша сіяцельства, вы забылі пра страчанага на крыжы... Прабачце, Бог адняў у мяне розум...»

Чымсьці вельмі знаёмым павеяла на мяне ад гэтых слоў. Дзе я мог чытаць нешта падобнае?! І раптам я ўспомніў: гэта была надзіва смелая водпаведзь доктара Гааза, здаецца, Мураўёву, пасля якой нават гэты шалёны бульдог адчуў сябе ніякавата. Гааз пратэставаў супраць частых пакаранняў смерцю ў Вільні. Мураўёў рэзка абарваў яго, заўважыўшы, што калі чалавека вядуць на страту, дык за ім абавязкова павінна быць нейкая правіна. Тут Гааз сказаў свае словы пра Хрыста, і нават Мураўёў трохі засаромеўся, калі наогул такое пачуццё зразумелае несусветным мярзотнікам. Я нават прыпомніў, дзе я чытаў пра гэта: у часопісе «Паўночна-Заходняя старасветчына». Калі я спытаў у Яноўскай, хто яго выпісвае тут, яна абыякава адказала, што, акрамя іх, — ніхто. І вось тут мяне чакаў удар: у бібліятэцы я высветліў, што ў гэтым нумары часопіса не хапае некалькіх старонак і, між іншым, патрэбнай мне.

Я аж пахаладзеў: справа выяўлялася больш сур’ёзнай, натхніцель дзікага палявання быў тут, у палацы. І хто гэта быў? Не я, і не Яноўская, і не дурная ахмістрыня, якая кожны дзень плакала, пабачыўшы гаспадыню, і, відаць было, раскайвалася ва ўсім. Значыцца, толькі Берман-Гацэвіч.

Гэта было цалкам лагічна: ён — былы злачынец, ён — абазнаны ў гісторыі чалавек. Магчыма, гэта ён страляў у мяне, забіў Свеціловіча і выдраў аркуш з часопіса. Незразумела было толькі, чаму ён пераконваў мяне ў тым, што сур’ёзная небяспека менавіта ў дзікім паляванні, а не ў Малым Чалавеку? І яшчэ ў тым, што ён не мог забіць Рамана, бо не ён запрасіў Надзею да Кульшаў і быў дома падчас забойства. Але хіба Свеціловіч у апошні дзень не казаў, што гэта блізкі чалавек, які быў на бале ў Яноўскіх? Хіба ён не казаў, што на яго нельга нават падумаць?І ён жа ж так спалохаўся, калі я зайшоў да яго, гэты Берман! І хіба ён не мог быць проста натхняльнікам гэтай мярзоты? Праўда, невядома ў гэтым выпадку, як можна растлумачыць існаванне Блакітнай Жанчыны? Але гэта наогул самы цёмны факт з усёй гэтай гісторыі.

І, галоўнае, незразумела было, якая Берману ў гэтым выгада?

Але такі вырадак пекла можа нешта прыдумаць. Я ўзяў у Яноўскай асабісты архіў Рамана і прагледзеў матэрыялы яго апошніх дзён. Нічога суцяшальнага, хіба толькі запіс, што Берман пачынае яму не падабацца, знікае кудысь з хаты, занадта цікавіцца генеалогіяй Яноўскіх, разглядае старыя планы палаца. Гэта быў ужо знамянальны факт! Чаму не выказаць меркаванне, што і ў з'яўленні Малога Чалавека, праўдзівей казаць, яго крокаў, вінен таксама Берман. Мог жа ж ён адкапаць старыя планы, скарыстацца нейкай акустычнай таямніцай палаца і кожную ноч пужаць людзей крокамі.

Я паразмаўляў з Рыгорам, і той сказаў, што гэта цалкам магчыма, абяцаў нават дапамагчы, бо ягоныя дзядзька і дзед былі мулярамі Яноўскіх яшчэ пры прыгоне.

— Хаваецца недзе тут, зладзюга, але хто ён, дзе хады ў сценах, як ён трапляе туды — невядома, — буркнуў Рыгор. — Нічога, адшукаем. Знойдзем. Толькі вы вельмі сцеражыцеся. Толькі і бачыў я на сваім вяку, што двух людзяных паноў, дык адзін ужо загінуў. Шкада будзе, калі і з табою што здарыцца. Тады і ўся гэта ваша паскудная парода не мае права хлеб харчыць і паветра псаваць.

Бермана вырашылі пакуль што не выдаляць, каб не спудзіць перадчасна.

Пасля гэтага я ўзяўся за дакладны аналіз ліста невядомага да Свеціловіча. Я перапэцкаў дванаццаць аркушаў паперы, пакуль не аднавіў крыху тэкст ліста.

*«Андрусь! Я даведаўся, што ты цікавішся дзікім паляваннем караля Стаха і тым, што Надзеі Раманаўне небяспека пагражае* (далей нічога не атрымлівалася) *...мая до...* (зноў вялікі пропуск) *...пакутавае. Сёння я размаўляў з панам Беларэцкім. Ён згодзен са мною і пайшоў у павет... Дрыкганты — галоўныя ка... Калі атрымаеш ліст — адразу прыходзь да... ніны, дзе тры асобныя хвоі. Я і Беларэцкі будзем чакаць... ічкіна... што гэта коіцца на зя... Прыходзь неадменна. Ліст спалі, бо мне асабліва небяспеч... Тв... ся... Над імі таксама жахлівая небяспека, якую можаш папярэдзіць толькі ты...* (зноў выпалена многа) *...одзь.*

*Твой добразычлівы Лікол...»*

Д'ябал ведае, што такое! Я амаль нічога не атрымаў ад гэтай расшыфроўкі. Ну, пераканаўся, што тут было нешта злачыннае. Ну, даведаўся яшчэ, што невядомы «Лікол...» (што за паганскае імя!) спрытна выкарыстаў нашы адносіны, пра якія мог толькі здагадвацца. І нічога! Нічога больш! А між тым вялізны шэры камень лёг на магіле чалавека, які быў або мог быць (чалавек —

гэта тое, чым ён будзе, а не тое, чым ён з’яўляецца зараз) для маёй краіны чымсьці ў сто разоў большым за мяне. І не сёння, дык заўтра такі менавіта камень мог прыціснуць і мяне. Куды тады падзенецца Надзея Раманаўна?

Той дзень прынёс яшчэ адну навіну: прынеслі цыдульку, у якой высакапышнымі словамі і на адменна дрэннай паперы мяне выклікалі ў суд да павятовага мястэчка. Трэба было ехаць. Я дамовіўся з Рыгорам наконт каня, перадаў яму свае меркаванні пра ліст, а ён распавёў, што за хатай Гарабурды сочаць і нічога падазронага не заўважаюць.

Думкі мае зноў звярнуліся да Бермана.

У гэты спакойны і не па-асенняму ціхі вечар я доўга думаў над тым, што чакае мяне ў павеце, і вырашыў ні ў якім разе не затрымлівацца там. Я зусім быў збіраўся пайсці адсыпацца перад дарогаю, калі раптам, звярнуўшы за паваротку алеі, пабачыў на замшэлай лаве Яноўскую. Чорна-зялёнае ад векавых ялін святло клала празрыстыя адбіткі на яе блакітную сукню, на рукі з заламанымі пальцамі, якія ляжалі на каленях, на вочы, трохі неасэнсаваныя, як гэта заўжды бывае ў чалавека, які цалкам паглыбіўся ў свае думкі.

Слова, што я даў самому сабе, было цвёрдым, памяць мёртвага друга зрабіла гэтае слова яшчэ больш моцным, і ўсё ж я некалькі хвілін з нейкім лікуючым захапленнем думаў пра тое, што мог бы абняць гэтую худзенькую постаць, прыціснуць да грудзей, да ўсяго сябе. І пакутліва білася маё сэрца, бо я ведаў, што ніколі гэта не будзе.

Але выйшаў я да яе з-за дрэў амаль спакойны. Вось узняла галаву, пабачыла мяне, і якім мілым, цёплым агнём заззялі прамяністыя вочы.

— Гэта вы, пан Беларэцкі. Сядайце тут, поруч.

Памаўчала і сказала з дзіўным перакананнем:

— Я не пытаюся ў вас, чаму вы пабілі гэтага чалавека. Я ведаю, калі вы зрабілі гэта, значыць, іначай нельга было. Але я вельмі непакоюся за вас, Вы павінны ведаць, суда тут няма. Гэта кручкі, гэта хлусы, гэта... дрэнныя і наскрозь прадажныя людзі. Яны могуць засудзіць вас. І, хоць невялікая правіна шляхціцу пабіць паліцэйскага, яны могуць выслаць вас адсюль. Яны ўсе, разам са злачынцамі, утвараюць адзіны вялізны саюз. Дарэмна маліць іх аб правасуддзі: няхутка, можа, нават ніколі, не пабачыць яго гэты высакародны і няшчасны люд. Нашто вы зрабілі гэта?

— Я заступіўся за жанчыну, Надзея Раманаўна. Вы ведаеце, у нас такі звычай.

І тут яна так пранікнёна глянула мне ў вочы, што я пахаладзеў. Адкуль гэты дзіцёнак мог навучыцца чытаць у сэрцах, што надало яму такую сілу?

— Гэтая жанчына, паверце, магла і пацярпець. Занадта дарага, калі вас вышлюць, заплоціць гэтая жанчына за насалоду, якую вы атрымалі, даўшы па зубах пшутаватаму пошламу дурню.

— Не непакойцеся, я вярнуся. А гэты час ваш спакой будзе абараняць Рыгор.

Вочы яе закрыліся панура. Пасля яна сказала:

— Ах, нічога вы не зразумелі... Хіба справа ў гэтай небяспецы? Не трэба, не трэба вам ехаць у павет... Пражывіце тут яшчэ дзень-два і пакіньце Яліны назаўжды.

Яе рука з удрыгваючымі пальцамі лягла на мой рукаў.

— Чуеце, я вас вельмі-вельмі прашу...

Я быў такі няўважлівы, што сказаў:

— У канцы гэтага ліста да нябожчыка Свеціловіча стаіць подпіс, частка яго, «Лікол...». Ці няма ў наваколлі шляхціца, у якога імя або прозвішча пачыналася б так?

Твар яе адразу спахмурнеў, як хмурнее дзень, калі знікае сонца.

— Не, — уражаным і дрыжачым, як ад крыўды, голасам адказала яна. — Хіба што Лікаловіч... Гэты прыдомак да прозвішча нябожчыка Кульшы.

— Ну, гэта наўрад ці, — раўнадушна сказаў я.

Я толькі праз гадзіну зразумеў, якой я быў грубай жывёлінай. Гэта здарылася, калі я глянуў на яе і пабачыў, як з-пад далоні, якой яна прыкрыла вочы, выкацілася і папаўзла ўніз цяжкая, нечалавеча самотная сляза, хутчэй знемагаючага ад адчаю мужчыны, чым дзяўчыны-напаўдзіцёнка.

Я заўжды жаласна губляюся і раблюся Сліняём Кісялёвічам ад жаночых і дзіцячых слёз, а гэта сляза была такая, якой крый Божа пабачыць камусьці ў жыцці, ды яшчэ ад жанчыны, для якой бы ахвотна распляскаўся ў блін, каб толькі яна была вясёлай.

— Надзея Раманаўна, што вы? — замармытаў я, і вусны мае мімаволі склаліся ва ўсмешачку прыблізна такога гатунку, якая бывае на твары дурня, калі ён прысутнічае на пахаванні.

— Нічога, — амаль спакойна ўжо адказала яна. — Проста я ніколі не буду... сапраўдным чалавекам. Я плачу... па Свецілові-

чу... па вас, па сабе. І нават не па ім я плачу, а па загубленай яго маладосці, — я добра разумею гэта! — па шчасці, якое нам заказана, па шчырасці, якой у нас няма. Знішчаюць лепшых, знішчаюць вартых. Памятаеце, як казалі калісь: «Не імамы князя, правадыра і прарока і, як лісце, мяцемся па грэшнай зямлі». Нельга спадзявацца на лепшае, самотна сэрцу і душы, і ніхто не адкажа ім. І дагарае жыццё.

Устала, сутаргавым рухам зламала галінку, якую трымала ў руках.

— Бывайце, дарагі пан Беларэцкі. Можа, мы і не пабачымся больш. Да канца жыцця я буду ўдзячная вам... Вось і ўсё. І канец.

І тут мяне на хвіліну прарвала. Не адчуваючы, што паўтараю словы Свеціловіча, я выпаліў:

— Няхай заб'юць — і мёртвым прыцягнуся сюды!..

Нічога не адказала, толькі зноў паклала руку мне на рукаў, моўчкі глянула ў вочы, пайшла. Я застаўся адзін.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Можна было меркаваць, што сонца зрабіла адно абяртанне (я ўжываю слова «меркаваць» толькі таму, што сонца не паказвалася з-за хмар), калі я апоўдні з'явіўся ў павет. Гэта быў плоскі, як праснак, гарадок, горшы за самае дрэннае мястэчка, і аддзялялі яго ад яноўскага наваколля толькі вёрст васемнаццаць — дваццаць чэзлых лясоў. Конь мой цокаў капытамі па брудных вуліцах, вакол былі замест хат нейкія куратнікі, і адзіным, што адрознівала гэта ад вёскі, былі паласатыя будкі, ля якіх стаялі вусатыя цэрберы ў латаных мундзірах, ды яшчэ дзве-тры каменныя крамы на высокіх арках. Худыя яўрэйскія козы іранічнымі вачыма глядзелі на мяне з гнілых стрэх.

Затое трохі далей узвышаліся магутныя замшэлыя муры даўняй уніяцкай царквы з дзвюма вялізнымі стральчастымі вежамі над чатырохкутнікам змрочнай каменнай плебаніі.

І над усім гэтым вісела такая самая, як і паўсюль, брыдота запусцення: на дахах, паміж рабрыстых лат, раслі даволі вялікія бярозкі.

На галоўнай плошчы бруд быў па калена, перад абшарпаным шэрым будынкам павятовага суда, амаль на ганку, ляжала штук шэсць свіней, якія дрыжалі ад холаду і часам рабілі дарэмныя

спробы падлезці пад сябровак, каб сагрэцца. Гэта кожны раз суправаджалася эксцэсамі ў выглядзе пакрыўджанага рохкання.

Я прывязаў каня да канавязі і падняўся па рыпучых прыступках у калідор, дзе кісла пахла папяровым пылам, чарнілам і мышамі. Дзверы ў канцылярыю, ababітыя пашарпанай цыратай, ледзь адарваў, так яны набраклі. Увайшоў і спачатку нічога не разгледзеў: такое скупое, у тытунёвым дыме, святло прабівалася праз вузкія маленькія вокны. Лысы скурчаны чалавечак, у якога ззаду з прарэхі выбіваўся хвосцік кашулі, узвёў на мяне вочы і лыпнуў імі. Тут я вельмі здзівіўся: верхняе павека засталося нерухомым, а ніжняе закрыла ўсё вока, як у жабы. Я назваў сябе.

— Вы з’явіліся? — здзівіўся чалавек-жаба. — А мы...

— А вы думалі, — працягнуў я, — што я не з’яўлюся ў суд, ад’еду адсюль, уцяку. Вядзіце мяне да вашага суддзі.

Пратакаліст вылез з-за канторкі і патопаў перада мною ў глыб гэтага дымнага пекла.

У наступным пакоі за вялікім сталом сядзелі тры чалавекі ў сурдутах, зашмальцаваных да таго, што нагадвалі стары мультан.

Твары павярнуліся да мяне, і я заўважыў у вачах аднолькавы выраз хцівасці, здзіўлення перад тым, што я ўсё ж з’явіўся, і нахабства.

Гэта былі суддзя, пракурор і адвакат, адзін з тых «аблакатаў», што абдзіралі кліентаў як ліпку, а пасля здраджвалі. Галодны, хцівы і прадажны судовы кручок з галавою, падобнай на агурок.

І наогул гэта былі не бацькі і не дзеці судовай рэформы, а хутчэй пад’ячыя дапятроўскіх часоў.

— Пан Беларэцкі, — мятым голасам прагаварыў суддзя, — мы ажыдалі вас. Очань прыемна... Мы паважаем людзей са сталічным бляскам. — І ён, не запрашаючы мяне сесці, утаропіўся ў нейкую паперку. — Вы, навернае, ведаеце, што зрабілі что-та падобнае да крыміналу, кагда пабілі прыстава за какой-та нявінны жарт? Гэта — дзействіе ўгалоўна наказуемае, іба какурат супярэчыць норавам нашага наваколля, а такжа і зводам законаў імперыі Расійскай.

І ён паглядзеў на мяне праз акуляры з вельмі ганарлівым выглядам. Ён быў цалкам задаволены, гэты нашчадак Шамякі, задаволены тым, што чыніць суд і расправу ў павеце.

Я зразумеў, што, калі я не наступлю яму на мазоль, я загінуў. Таму я прысунуў да сябе крэсла і сеў на яго верхам.

— Мне здаецца, што ў яноўскім наваколлі трохі забыліся на далікатнасць. Таму я сяду сам.

Пракурор, ветлівы малады чалавек з сінякамі пад вачыма, як быццам ад ганебнай хваробы, суха сказаў:

— Пра далікатнасць пану трэба моўчаць. Вы з'явіліся сюды і адразу парушылі спокуй мірных абыватэляў. Скандалы, збуйства, спроба завязаць дуэлю са смяротным канцом на бале ў шаноўнай пані Яноскей. І да таго ж палічылі за годнае пабіць паліцэйскега чына пры выкананні службовых абовёнзкув. Чужак, а лезеце ў наша жыцце...

Халоднае шаленства заварушылася ў мяне недзе пад сэрцам.

— Брудныя жарты ў хаце, у гаспадара якой ясі, трэба караць не бізуном па твары, а сумленнай куляю. Ён абражае гонар людзей, якія бездапаможныя перад ім, не могуць адказаць. Суд павінен займацца менавіта такімі справамі, змагацца за справядлівасць. Вы кажаце пра мірных абывацеляў. Чаму ж вы не звяртаеце ўвагі на тое, як гэтых мірных абывацеляў забіваюць невядомыя злачынцы. Вашу акругу тэрарызуюць, а вы седзіцё тут са сваімі ўваходзячымі і сыходзячымі... Ганьба!

— Размова пра забойства гасударственава праступніка, а аднака абыватэля і шляхціца Свеціловіча будзе весціся не з вамі, — зарыпеў суддзя. — Расійскі суд не акказвает нікаму ў абароне, дажэ праступнікам. Аднака дзела ідзе не пра тое. Вы ведаеце, што за скарбленіе прыстава мы можам... вас прысудзіць да дзвюх нядзель увязнення ілі штрафу і, как казалі продкі, баніцыі за прадзелы яноўскага наваколля.

Я раззлаваўся:

— Вы можаце зрабіць гэта сілаю. Але я знайду на вас управу ў губерні. Вы пакрываеце забойцаў, ваш прыстаў ганьбіў законы імперыі, казаў, што забойствам шляхціца Свеціловіча вы не намераны займацца!

Твар суддзі пакрыўся апаплексічнай малінавай чырванню. Ён выцягнуў шыю, як гусак, і прасіпеў:

— А свідзецялі этава разгавора, шаноўны пане Беларэцкі, у вас ёсць? Сведкі? Сведачкі? Дзе яны?

Адвакат, як дастойны прадстаўнік прымірэнчага начала ў расійскім судзе, чароўна пасміхнуўся:

— Натуральна, пану Беларэцкаму нету светкі. І наогул, гэта ест глюпства: прыстаў не смог такое сказаць. Пан Беларэцкі сабе гэта проста ўявіць, апанента словы ён не схапіць.

Ён кінуў у рот манпансье, якое дастаў з бамбаньеркі, пачамкаў губамі і ціха дабавіў:

— Нам, дваранам, становішча ад пан Беларэцкі ест асабліва зразумелай. Мы не хочам вам непрыемна рабіць. Няхай вас ціха і мірна адсюль з’ехаць. Тады ўсё тут, як казаць, абразуецца, і мы справу замінаць будзем... Нун, гут?

Для мяне гэта было самым разумным выхадам, але тут мне да памяці прыйшла Яноўская.

«Што будзе з ёю? Для яе гэта можа скончыцца смерцю або вар’яцтвам. Я паеду, а яе, дурненькую, толькі лянотны не пакрыўдзіць».

Я зноў сеў у крэсла, сціснуў сківіцы і схаваў пальцы рук паміж каленямі, каб яны не выдалі майго хвалявання.

— Я не паеду, — сказаў я, — перш за ўсё спаймайце злачынцаў, якія прыкрываюцца імем зданяў. А пасля я знікну адсюль назаўжды.

Суддзя ўздыхнуў:

— Мне кажацца, што вам прывядзецца пайсці адсюль хутчэй, ніж спаймаць гэтых мі... міхі...

— Міфічных, — падказаў адвакат.

— Вот-вот, міхічных праступнікаў. І прывядзецца пайсці атсуда не па собственнай ахвоце.

Уся кроў кінулася мне ў твар. Я адчуваў, што загінуў, што яны зробяць са мною тое, што ім захочацца, але біў ва-банк, ставіў на апошнюю карту, бо змагаўся за шчасце той, што была мне даражэй за ўсё.

Неверагодным намаганнем я прымусіў мае пальцы не дрыжаць, калі выцягнуў з партманета вялікі аркуш паперы і тыцнуў ім пад нос. Але голас мой перасякаўся ад ярасці:

— Вы, здаецца, забылі, што я з Акадэміі навук, што я член Імператарскага геаграфічнага таварыства. Вы бачыце гэта? І я абяцаю вам, што, як толькі я вызвалюся, я паскарджуся гасудару і не пакіну ад вашае смярдзючае нары каменя на камені. Я думаю, што гасудар не пашкадуе трох нягоднікаў, якія хочуць выдаліць мяне адсюль, каб уладжваць свае цёмныя справы.

Першы і апошні раз я назваў сябрам чалавека, якога саромеўся назваць нават суайчыннікам. Я ж заўжды імкнуўся забыць той факт, што продкі Раманавых паходзяць з Беларусі.

А гэтыя ёлупы не ведалі, што кожны другі член Геаграфічнага таварыства дорага даў бы, толькі б яно не звалася імператарскім.

Але я ўжо амаль крычаў:

— Ён заступіцца!

Думаецца мне, што яны трохі завагаліся. Суддзя зноў выцягнуў шыю і... усё ж шапнуў:

— А ці будзет прыятна гасудару, што член такога паважнага обшчаства знюхался з гасударственнымі праступнікамі? Многія паважныя дзедзіцы пажалуюцца на гэта таму самаму гасудару.

Яны абклалі мяне, як харты. Я сеў, паклаў нагу на нагу, склаў рукі на грудзях і сказаў спакойна (я быў надта, надта спакойны, такі спакойны, хоць тапіся):

— А вы не ведаеце тутэйшых сялян? Яны, так бы мовіць, пакуль што шчырыя манархісты. І я абяцаю вам, калі вы толькі выганіце мяне адсюль — я пайду да іх.

Яны аж пазелянелі.

— Зрэшты, я думаю, што да гэтага справа не дойдзе. Вось ліст ад асобы самога губернатара, дзе ён прапануе мясцовым уладам падтрымліваць мяне. А вы ведаеце, што бывае за непаслушэнства такім загадам?

Пярун над вухам не так бы ўразіў гэту публіку, як звычайны аркуш паперы са знаёмым подпісам. А я, вельмі нагадваючы генерала на падаўленні бунту, павольна цадзіў, адчуваючы, што мая справа паляпшаецца:

— Вы што, паляцець з пасады пажадалі?! Я зраблю гэта! А за патуранне дзікім учынкам нейкіх вылюдкаў вы таксама адкажаце!

Вочы ў суддзі забегалі.

«Ну што ж, — вырашыў я, — хоць які сказ — адзін адказ».

Я паказаў астатнім на дзверы. Яны пахапцам выйшлі з пакоя. Я добра бачыў у вачах суддзі боязь, як у зацкаванага тхара, бачыў і яшчэ нешта прыхаванае, злоснае. Я падсвядома быў упэўнены зараз, што ён звязаны з таямніцай дзікага палявання, што выратавацца ён можа толькі ў тым выпадку, калі я загіну, што зараз паляванне пачне паляваць на мяне, бо гэта пытанне іхняга жыцця, і я, магчыма, яшчэ сёння атрымаю кулю ў спіну, але шалёная злосць, ярасць, нянавісць сціснулі мне глотку. Я зразумеў, чаму нашых продкаў звалі шалёнымі і казалі, што яны б'юцца нават мёртвымі.

Я зрабіў крок, схапіў чалавечка за шкірку, выцягнуў з-за стала і падняў у паветра. Патрос.

— Хто?! — раўнуў я і сам адчуў, як збялелі мае вочы.

Ён надзіва правільна зразумеў маё пытанне.

— А-вой! Не ведаю, не ведаю, пане. Ох, што мне рабіць? Яны заб'юць мяне, заб'юць.

Я шпурнуў яго на падлогу і схіліўся над ім:

— Хто?!

— Пане, пане. Ручкі-ножкі пацалую, не трэба...

— Хто?!

— Я не ведаю. Ён даслаў мне ліст і пры ім трыста рублёў з патрабаваннем выдаліць вас, бо вы перашкаджаеце. Там быў толькі адзін сказ, і там гаварылася, што ён мае цікавасць да пані Яноўскай, што яму карысна яе смерць або замужаства з ім. І яшчэ там было сказана, што ён малады і моцны і здолее ў выпадку чаго заткнуць маю глотку.

Схожасць суддзі з тхаром дапоўнілася раптам яшчэ і смуродам. Я паглядзеў на заліты слязьмі твар гэтай жывёлы і, хоць падазраваў, што ён ведае трохі больш, чым кажа, з гідлівасцю адштурхнуў яго. Не мог я пэцкаць рукі аб гэтага... Не мог. Іначай згубіў бы павагу да сябе назаўжды.

— Вы яшчэ адкажаце за гэта, — кіўнуў я ад дзвярэй. — І такой агідзе падпадаюць падчас суда людзі! Бедныя мужыкі!

...Я ехаў па дарозе праз лес і меркаваў аб усім, што здарылася. Гэта было зараз больш-менш лёгка, усё, здаецца, ставала на месцы. Вядома, натхніцель палявання не Дубатоўк: якая яму выгада, ён не спадчыннік Яноўскай. І не ахмістрыня. І не няшчасная вар'ятка ў сядзібе Кульшаў. Я перабраў усіх, нават тых, на каго нельга было і падумаць, бо стаў вельмі недаверлівы. Злачынец малады, яму карысная або смерць Яноўскай,або шлюб з ёй. Значыцца, ён мае нейкае права на спадчыну. Гэты чалавек, як падазраваў Свеціловіч, быў на бале ў Яноўскіх, ён неяк уплываў на Кульшу.

Толькі два чалавекі адпавядалі ўсяму гэтаму: Варона і Берман. Але чаму Варона так па-дурному трымаў сябе са мною? Не, хутчэй за ўсё гэта Берман. Ён ведае гісторыю, ён мог натхняць нейкіх бандзюкоў на гэта. Трэба толькі даведацца, якая яму карысць ад смерці Яноўскай.

Але хто такія Малы Чалавек і Блакітная Жанчына Балотных Ялін? Галава мая круцілася, і ўвесь час стаяла ў ёй тое самае слова. «Рука...» «Рука...» Чаму рука? Вось-вось прыпомню... Не, зноў адляцела. Ат, цёмная душа... Ну што ж, трэба шукаць дрыкгантаў і ўвесь гэты маскарад. І хутчэй.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

У той вечар з'явіўся Рыгор, увесь перапэцканы брудам, потны і стомлены. Пахмура сядзеў на пяньку перад палацам.

— Схованка ў лесе, — буркнуў нарэшце. — Сёння я даведаўся, што акрамя той сцежкі, дзе я тады вартаваў, ёсць другая, з поўдня. Толькі яна на локаць пад тванню. Я зайшоў у самую пушчу, але тут нарваўся на непраходную межытоку. І не адшукаў слядоў праз яе... Разы два ледзь не ўтапіўся. Залез на верхавіну самай вялікай хвоі і бачыў на тым баку вялізную галявіну і сярод хмызоў і дрэў страху нейкай вялікай будыніны. І дымок. І адзін раз у тым баку загігатаў конь.

— Трэба будзе пайсці туды, — заўважыў я.

— Не, толькі без глупстваў. Там будуць мае людзі. І няхай пан прабачыць, але калі мы спаймаем гэтых паршыўцаў, мы зробім з імі як з канакрадамі.

Твар яго з-пад доўгіх касмылёў глядзеў на мяне з нядобрай усмешкаю:

— Мужыкі церпяць, мужыкі даруюць, мужыкі ў нас святыя. Але тут я сам патрабую, каб з гэтымі... як з канакрадамі: прыбіць асінавымі цвікамі да зямлі рукі і ногі, а пасля такі самы кол, толькі большы, — у задні праход, да самага нутра. І ад хат іхніх нават жарынкі не пакіну, усё пушчу попелам, каб духу нават... каб духу іхняга смярдзючага не засталося. — Падумаў і дадаў: — І ты сцеражыся. Можа, і ў тваёй душы калісьці панскі дух зашыбуе. Тады і з табою так... пане.

— Дурань ты, Рыгор, — холадна працадзіў я. — Свяціловіч таксама панам быў, а ўсё сваё кароткае жыццё вас, ёлупняў, ад прагнай шляхты ды пыхатых суддзяў абараняў. Чуў, як над ім лямантавалі? І я магу так загінуць... за вас. Маўчаў бы лепей, калі Бог розуму пазбавіў.

Рыгор крыва пасміхнуўся, пасля дастаў аднекуль са світкі канверт, такі скамечаны, быццам яго з ваўчынай зяпы выцягнулі.

— Добра, не крыўдуй... Вось табе ліст. У Свяціловіча тры дні як ляжыць, бо так на канверце... І паштар казаў, што сёння занёс табе да Балотных Ялін яшчэ і другі. Бывай, заўтра прыйду.

Я на месцы раздзёр канверт. Ліст быў ад вядомага знаўцы мясцовай генеалогіі з губерні, да якога я пісаў. І ў ім быў адказ на адно з самых важлівых пытанняў: «Шматпаважаны гасудар мой, пан Беларэцкі. Дасылаю вам звесткі пра чалавека, якім вы цікавіцеся. Нідзе ў генеалагічных маіх спісках, як і ў ак-

самітных кнігах, пра даўнасць роду Берманаў-Гацэвічаў я не знайшоў. Але ў адным старым акце я натрапіў на звестку, не пазбаўленую цікавасці. Выяўляецца, што ў 1750 годзе ў справе вядомага вальнадумца Нямірыча ёсць звестка пра нейкага Бермана-Гацэвіча, які быў за ганебныя ўчынкі вырачаны на баніцыю — выгнанне за межы былога каралеўства польскага і пазбаўлены шляхецкіх правоў. Гэты Берман быў зводным братам Яраша Яноўскага, што насіў мянушку «Схізмат». Вы павінны ведаць, што са зменаю ўлады старыя выракі пазбаўлены чыннасці, і Берман, калі гэта нашчадак таго Бермана, можа прэтэндаваць на прозвішча «Яноўскі», калі галоўная галіна гэтага сямейства згасне. Прыміце запэўненне...» і г. д.

Я стаяў як аслупянелы і ўсё перачытваў радкі ліста, хоць ужо моцна сцямнела і літары расплываліся перад маімі вачыма.

— Ч-чорт!.. Усё ясна. Берман, наследнік Яноўскай, агідны мярзотнік, адмысловы нягоднік.

І раптам мне цюкнула ў галаву:

— Рука... адкуль рука. Ага! У Малога Чалавека, калі ён глядзеў на мяне праз акно, была рука, як у Бермана, такія самыя доўгія нялюдскія пальцы.

І я кінуўся ў палац. Па дарозе зайшоў да сваёй спальні, але ліста там не было. Ахмістрыня казала, што ліст быў тут, павінен быў быць тут. Яна вінавата квахтала перада мною: яна наогул стала пасля той ночы ў архіве вельмі ліслівай і мяккай.

— Не, пан, я не ведаю, дзе ліст. Не, на ім не было паштовага кляйма. Не, хутчэй за ўсё ліст даслалі з яноўскага наваколля, а можа, з павятовага мястэчка. Не, тут не было нікога... Вось хіба толькі пан Берман, які заходзіў сюды, думаючы, што пан дома.

Я не слухаў яе далей. Вочы мае прабеглі па бюро, дзе ляжалі раскіданыя паперы, у якіх, відаць, капаліся. Пасля гэтага я выбег з пакоя і пабег да бібліятэкі. Там не было нікога, толькі кнігі цэлым стосам ляжалі на стале. Іх нечакана кінулі для нейкай больш важлівай справы. Тады я накіраваўся да Бермана.

І тут сляды паспешлівасці, нават дзверы не зачынены. Слабы агеньчык серніка кінуў кружок святла на стол, і я заўважыў на ім адну пальчатку і разарваны наўскос канверт, такі самы, як і ў Свеціловіча тады, у той жахлівы вечар.

«Пан Беларэцкі, паважаны брат. Я мала і кепска ведаю пра дзікае паляванне. Але ўсё ж я магу сказаць табе нешта цікавае. Да таго ж я магу раскрыць табе адзін сакрэт, таямніцу некаторых цёмных падзей у вашай хаце... Магчыма, гэта проста выдумка, але мне здаецца, што ты шукаеш не там, дзе трэба,

любенькі. Небяспека ва ўласным палацы пані Яноўскай. Калі хочаш ведаць тое-сёе пра Малога Чалавека Балотных Ялін — прыходзь сёння ў сем гадзін надвячоркам на тое месца, дзе загінуў Раман і дзе ляжыць яго крыж. Там твой невядомы дабрадзей раскажа табе, у чым корань смяротных падзей».

Я на хвіліну завагаўся, прыпамятаўшы лёс Свеціловіча, але доўга вагацца нельга было: гадзіннік паказваў без пятнаццаці сем. А тут яшчэ Бермана няма... Куды пайшоў? Калі ён і Малы Чалавек, і кіраўнік дзікага палявання, ён павінен вельмі занепакоіцца, прачытаўшы перлюстраваны ім ліст. Ці не пайшоў ён замест мяне на спатканне з незнаёмцам, каб замкнуць яму рот? Цалкам магчыма. А тут яшчэ вартаўнік на маё пытанне пра Бермана паказаў рукою на паўночны захад, якраз у напрамку алеі і дарогі, што вяла да крыжа Рамана Старога.

Я пабег туды ж. Ах, колькі я пабегаў за гэтыя дні і, як сказалі б зараз, патрэніраваўся! Чорт яго бяры, такі трэнінг, разам з Балотнымі Ялінамі! Ноч была трохі святлейшая, чым заўжды. Праменні вялізнага чырвонага месяца асвятлялі часам, прабіваючы хмары, зямлю, наўскос падалі паміж чорнымі стаўбурамі дрэў. Месяц стаяў над верасовымі пусткамі такі вялізны, круглы, чырвоны, такі райскі, ззяючы, такога вогненнага шчаслівага колеру была гэта планета, што туга па чымсьці светлым, пяшчотным, непадобным на гэтыя балоты і пусткі заліла маё сэрца. Быццам падплылі да зямлі і згаралі ў паветры нейкія невядомыя краіны, гарады з расплаўленага золата, і быццам было ў іх іншае, не такое, як наша, жыццё.

Месяц між тым, плывучы вышэй, паменшаў, збялеў і адразу пачаў раз-пораз засноўвацца драбнюткімі белымі хмаркамі, падобнымі на кіслае малако. І ўсё зноў стала халодным, змрочным і таемным: хоць сядай ды пішы баладу пра бабулю, якая ехала верхам, і пра таго мілага конніка, што сядзеў наперадзе.

Прадраўшыся так-сяк праз парк Балотных Ялін, я выбіўся на сцежку і ўжо амаль падыходзіў да крыжа Рамана.

Лес злева стаяў нізкай змарнелай сцяной, насупраць ад крыжа Рамана маячыла постаць чалавека.

І тут... я проста не паверыў сваім вачам. Аднекуль раптам выраслі цені коннікаў. Яны павольна пад'язджалі да чалавека. Усё гэта рабілася ў поўным маўчанні, і мёртвая халодная зорка гарэла над іхнімі галовамі.

У наступны момант гучна пралунаў пісталетны стрэл, коні перайшлі ў намёт і змялі чалавечую постаць капытамі. Я быў

уражаны. Я думаў, што пабачу сустрэчу мярзотнікаў, а пабачыў забойства чалавека.

У вачах маіх пацямнела, і калі я ачуняў, то пабачыў, што коннікаў ужо не было.

Жахлівы нялюдскі крык прагрымеў недзе над балотамі, і быў у ім жах, гнеў, адчай — чорт ведае што такое. Але я не спалохаўся. Між іншым, я ніколі з тых часоў не баяўся. Усё жахлівае, што я сустракаў пасля тых дзён, мне здавалася нявартай дробяззю.

Асцярожна, як змей, я папоўз да таго месца, дзе цямнела ў траве тое, доўгае. Я памятаю, што я пабойваўся засады, сам жадаў забіваць, што я плазаваў між асенніх траў, выкарыстоўваючы кожную ямінку, кожны байрак. І яшчэ я памятаю нават зараз, як смачна пах дробны палынок у траве. О, як пах тым'ян, якія скразныя блакітныя цені ляжалі на зямлі! Якое добрае было жыццё нават у гэтым агідным месцы! А чалавек быў вымушаны плазаваць, як гад, у траве, замест таго каб вольна дыхаць гэтым халодным бадзёрым паветрам, глядзець на месяц, распраўляць грудзі, хадзіць ад радасці на руках, цалаваць вочы любай.

Месяц свяціў на мёртвы твар Бермана. Вялікія рахманыя вочы былі вырачаны, твар перакрыўлены грымасай нялюдскай пакуты.

За што яго? Няўжо ён не вінен? Я ж быў упэўнены, што гэта ён. Ах, як горка, як радасна пах тым'ян! Травы, нават паміраючы, патыхаюць горка і радасна.

У тую ж хвіліну я інстынктыўна, яшчэ не разумеючы, у чым справа, паплазаваў назад. Я адпоўз даволі далёка, калі пачуў далёкія крокі. Ішлі два чалавекі. Я быў пад вялікай ніцай вярбой. Стаў на ногі (людзі не маглі мяне заўважыць, я зліваўся са сцяною лесу), падскочыў, і, падцягнуўшыся на руках, узлез на дрэва, і захаваўся ў яго гушчары, як вялізная дравесная жаба.

Два цені падышлі да забітага. Месяц свяціў проста на іх, але твары былі закрыты кавалкамі цёмнай матэрыі.

Дзіўныя гэта былі постаці: у старых капцях, у чугах, з доўгімі валасамі, на якіх ледзь трымаліся плеценыя з палосак скуры шапкі (такія можна было бачыць у музеі месца Віленскага). На плячах доўгія плашчы.

Яны падышлі да трупа і схіліліся над ім. Я чуў урыўкі іх размовы:

— Абодва трапілі на адну і тую ж вуду... Лікол... Х-хе, як яны, аднак, паверылі гэтай дзіцячай мянушцы. І той паследыш, і гэтая свіння. Лікол... даў ім Лікол.

І раптам адзін з іх не ўстрымаўся ад здзіўленага ўскрыку:

— Што такое?

— Глядзі, Пацук, гэта не той.

— Як не той, чаго ты брэшаш?

— А я табе кажу, што не той. Гэта... гэта той дзівак, што жыве ўпраўляючым у Яноўскай.

— Ах, чортава душа! Памыліліся трошкі.

— За гэтую памылку, хлопча, — змрочна адказаў адзін, — з нас Лікол галаву здыме. Непрыемна, браце. Два забітыя — гэта жах. Гэтым можа і начальства зацікавіцца.

— Але чаму ён з'явіўся сюды замест таго?

Другі не адказаў. Яны пайшлі ад трупа і сталі пад дрэвам пад самымі маімі нагамі. Каб я пажадаў, я мог бы апусціць нагу і стаць на галаву кожнаму з іх, па выбару, або двойчы стрэліць з рэвальвера на такой адлегласці, на якой і дзіцёнак трапіў бы. Я дрыжаў ад хвалявання, але голас халоднага розуму казаў мне, што так рабіць нельга, што я спалохаю астатніх, што з паляваннем трэба канчаць адным ударам, што зараз трэба сачыць за гэтымі. Хопіць, я нарабіў занадта многа памылак, і, калі загіне яшчэ і Надзея, тады толькі і застанецца, што пайсці ў Волатаву прорву, скокнуць туды і пачуць, як вырвецца над табою з твані з дзікім ровам паветра.

— За што ён так ненавідзіць гэтага Беларэцкага? — спытаў той, каго клікалі Пацуком.

— Думаю, за тое, што Беларэцкі хоча ажаніцца з Яноўскай. А тады палац з рук Лікола ўцячэ.

— Ды нашто ён яму, гэта ж трухлявая труна, а не будынак.

— Ну, гэта ты не кажы. Для Яноўскіх ён карысці не дае, гэта валоданне роду, а вось для староннягa гэта каштоўнасць. Да таго ж ён любіць старажытнасць, спіць і бачыць сябе гаспадаром вялізнага замка, як продкі.

Яны памаўчалі, пасля пыхкнуў агеньчык, і да мяне пачалі паўзці сівыя кучары тытунёвага дыму. Я разумеў ужо, што пада мною стаяць шляхцюкі. Дрэнная мясцовая мова, якая зрабілася грубай ад барбарызмаў польскага паходжання, так і рэзала вуха. Галасы здаваліся мне знаёмымі.

— Мне здаецца, — буркнуў адзін пасля працяглага маўчання, — што тут яшчэ адна прычына: хлопы.

— Маеш рацыю. Калі заб'ём яшчэ і гэтага, яны прыцiхнуць, як мышы пад венікам. А то дужа нахабныя сталі. Нядаўні бунт, пасля забойства ўпраўляючага Гарабурды. Глядзяць нахабна. І асабліва сапсаваліся пасля прыезду Свеціловіча. Месяц

пражыў тут, падла, а нашкодзіў нам горш за пажар. Чатырох хлопаў з рук суда выдраў, паскардзіўся на двух дваран. А калі гэты Беларэцкі прыехаў — зусім дрэнна стала. Сядзіць у хлопскіх хатах, запісвае дурныя байкі, ляпае па плячы. Ну, нічога, папрыціхнуць гэтыя хамы, калі мы таго здрадніка шляхты прыдушым... Толькі трэба будзе яшчэ даведацца, хто правадыр гэтых нахабнікаў. Я яму не дарую маіх спаленых стагоў.

— А мне здаецца, што я ведаю, хто гэта. Гэта Кульшаў вартаўнік Рыгор. Гэткая нахабная мыса, як у ваўка. І павагі да цябе ніякай.

— Нічога, рыгнецца і яму.

Зноў памаўчалі. Пасля адзін сказаў:

— А ведаеш, Яноўскую шкада. Такую жанчыну давесці да вар'яцтва або забіць — глупства. Такім калісь ногі цалавалі. Памятаеш, як яна на бале ў даўняй сукні лебедзем плыла. Ух-х!

— Ды і пан шкадуе, — дабавіў другі. — Але што зробіш.

І раптам зарагатаў.

— Чаго ты?

— Не таго мы мякнулі. Не шанцуе нам, а яму яшчэ горш. Ты памятаеш, як Раман крычаў, калі яго ў дрыгву загналі, казаў, што з-за труны нас выдасць. Аж, бачыш, маўчыць.

І яны пайшлі ад дрэва. Я чуў яшчэ толькі, як Пацук сказаў басам:

— Нічога, хутка і да гэтага наведаемся.

Я саслізнуў з дрэва зусім нячутна і рушыў за імі. Бязгучна ступалі мае ногі па траве, там-сям я нават плазаваў. І, вядома, я зноў выявіўся дурнем, бо забыўся на тое, што ў іх маглі быць коні. Яны зайшлі за грыўку хмызнякоў, прыцішыў крокі, баючыся нарвацца на іх, а праз хвіліну пачуў пошчак падкоў.

Калі я выдраўся на дарогу, я пабачыў даволі далёка два цені, якія шалёна гналі коней ад крыжа Рамана на паўдзённы ўсход.

Думкі мае былі невясёлыя: даведаўся, што яны палююць за Яноўскай і за мною, што літасці чакаць нельга, выпусціў двух бандзюкоў ды яшчэ так жорстка памыліўся ў Бермане. І сапраўды, я пераканаўся ў тым, што ён цёмны чалавек, што ён ускрыў мой ліст і чагосьці пайшоў да месца, дзе і дастаў смерць. І самы факт гэтай смерці закрыў ад мяне ўсе астатнія яго правіны. Але размова дала многа цікавага, і перш за ўсё я ведаў зараз аднаго з дзікіх паляўнічых. Гісторыя са спаленымі стагамі выдала яго. Стагі спалілі за апошнія дні ў шляхцюка Маркі Стахевіча, якога я бачыў на гулянцы ў Дубатоўка. І гэты чалавек быў тады секундантам Вароны. Няхай я памыліўся ў

Бермане, але ў Вароне я не памыляюся, здаецца. І ён будзе мой. Зараз трэба толькі больш рашучасці...

А позна ўначы дзікае паляванне караля Стаха з'явілася зноў. Зноў выў, галасіў, плакаў нечалавечы голас:

— Раман у дваццатым калене, выходзь! Мы прыйдзем! Мы скончым! Мы адпачнём пасля! Раман! Раман!

І зноў я, схаваўшыся за ганкам, страляў у лятучыя цені коннікаў, якія мільгалі ў самым канцы залітай месячным дымам алеі. Калі я стрэльнуў першы раз — коні кінуліся ў гушчар і зніклі, як быццам іх ніколі не было. Гэта было падобна на жахлівы сон.

Трэба было канчаць. Я прыпомніў словы Маркі Стахевіча, якія той сказаў пад дрэвам, наконт абяцання Рамана выдаць забойцаў пасля смерці і падумаў, што, можа, Раман пакінуў у хаце ці на месцы сваёй смерці нейкі доказ, які прагледзелі тады нават арліныя вочы Рыгора.

І калі Рыгор прыйшоў, мы рушылі з ім да месца забойства Рамана. Я добры хадок, але ледзь паспяваў за гэтай доўгай фігурай. Рыгор ішоў, як здавалася, павольна, але гэта была не павольнасць, а размеранасць рухаў. І ногі ён ставіў не так, як звычайныя людзі, а наскамі ўнутр: так ходзяць усе прыроджаныя паляўнічыя, і заўважана, што гэта робіць кожны іхні крок даўжэй прыблізна на дзюйм.

Па дарозе я сказаў яму, што чуў размову Маркі Стахевіча з нейкім Пацуком, і Рыгор злосна буркнуў:

— Людзі Вароны, — а пасля дадаў: — А мы думалі, што «Лікол...» гэта пачатак прозвішча. Пан не так распытваў. «Лікол» — гэта, відаць, мянушка. Трэба спытаць, каго клікалі так, у пані Яноўскай. Калі ведалі гэтую мянушку Свеціловіч і нават Берман, значыцца, яна таксама павінна ведаць.

— Я пытаў у яе.

— Ты пытаў у яе прозвішча, ды і яшчэ пачатак яго, а не мянушку.

Так мы дайшлі да славутага і двойчы апісанага мною месца, дзе застыў у багне бацька Надзеі Раманаўны. Мы пераварушылі ўсю сухую траву, хоць глупствам было б шукаць тут нешта пасля двух год.

І нарэшце падышлі да таго месца, дзе невялікі абрыўчык раптам узносіў лугавіну над дрыгвой.

— Тут, — сказаў Рыгор.

Над самым абрывам тырчаў з зямлі невялікі стаўбур, уломак ад дрэва, якое калісьці расло тут. Карані яго, як магутныя змеі,

аплятталі абрыўчык, спускаліся ў дрыгву, быццам жадаючы напіцца, або проста віселі ў паветры.

— Ці рукі Рамана былі над паверхняй дрыгвы? — спытаў я.

Цяжкія павекі Рыгора апусціліся, ён прыпамінаў:

— Так, былі. Правая была нават выцягнутая, ён, відаць, хацеў ухапіцца за корань, але не дацягнуўся.

— А можа, проста кінуў нешта туды, пад карэнні, дзе, бачыш, яміна?

— Давай паглядзім.

І мы, трымаючыся за карэнне і збіваючы пазногці зямлёй, злезлі амаль да самай дрыгвы, ледзь трымаючыся на маленькіх слізкіх прыступках, што былі на стромым адхоне. Пад карэннямі сапраўды была яміна, але там нічога не было. Расчараваны, я збіраўся быў лезці наверх, але Рыгор спыніў мяне:

— Ёлупы мы. Калі там сапраўды штосьці ёсць, дык гэта пад глейкай. Ён мог кінуць, але ж два гады мінула, скляпенне гэтай пячоркі асыпалася і пахавала тое... тую рэч.

Мы пачалі драпаць пальцамі ўбіты глей, высыпаць яго з пячоркі, і — хочаце верце, хочаце не — хутка пальцы мае натрапілі на штосьці цвёрдае. На далоні маёй ляжаў партабак з «птушынага вока». Больш у пячорцы нічога не было.

Мы выдрапаліся на лугавіну і асцярожна абчысцілі з партабака руды глей, перамешаны з глінай. У партабаку ляжаў шматок белай матэрыі, выдраны, відаць, зубамі. І на гэтай анучцы былі невыразныя рудыя літары: «Варона забі...»

Я знізаў плячыма. Чорт ведае, што гэта было! Ці сведчанне, што Рамана забіў Варона, ці просьба да Вароны забіць кагосьці. Рыгор паглядзеў на мяне халоднымі вачыма.

— З'ясавалі, пан Андрэй. Загнаў яго сюды Варона. Заўтра будзем яго браць.

— Чаму заўтра? Можа, ён з'явіцца якраз сёння.

— Сёння пятніца. Пан забыў пра гэта. Бандзюка, як кажуць, шукай у царкве. Святыя надта ды божыя. Рэжуць з імем святой тройцы на вуснах. Яны прыйдуць заўтра, бо страцілі цярпенне. Ім патрэбна пазбавіцца ад цябе. — Памаўчаў, вочы спалахнулі нядобрым полымем: — Заўтра нарэшце прывяду мужыкоў. З віламі. І табе дамо. Калі з намі, дык да канца. Будзем вартаваць ля паваленай агароджы. І ўсіх пакладзём, усіх. Пад самы корань чортава семя...

Мы пайшлі разам да Балотных Ялін і там даведаліся, што Надзея Раманаўна не адна. У яе сядзеў пан Гарабурда. Яноўская

за апошнія дні ўнікала мяне, а калі мы сустракаліся — адвяртала пацямнелыя, сумныя, як асенняя вада, вочы.

Таму я праз ахмістрыню выклікаў яе ў ніжнюю залу, дзе Рыгор змрочна глядзеў на святога Юрыя, такі самы магутны і высокі, як статуя. Яноўская выйшла, і Рыгор сарамліва падцягнуў пад крэсла ногі, бо натаптаў на падлозе. Але голас яго па-ранейшаму быў грубы, калі ён звяртаўся да яе, толькі ў глыбіні нешта непрыкметна дрыжала.

— Слухайце, ясная пані. Мы знайшлі караля Стаха. Гэта Варона. Дайце мне пару стрэльбаў. Заўтра мы скончым з імі.

— Дарэчы, — перабіў я, — я памыліўся тады. Я пытаўся ў вас, ці не ведаеце вы чалавека, прозвішча якога пачынаецца з «Лікол...». Зараз я пытаю, ці не ведаеце вы чалавека, мянушка якога «Лікол», проста «Лікол»? Гэта самы небяспечны чалавек у гэтай бандзе, магчыма, нават натхніцель.

— Не! — раптам крыкнула яна, засунуўшы кончыкі пальцаў у рот. Вочы яе пашырыліся, застыглі ў тузе. — Не! Не!

— Хто ён такі? — змрочна спытаў Рыгор.

— Пашкадуйце, пашкадуйце мяне! Гэтага не можа быць... Ён такі добры, шчыры. Ён трымаў Свеціловіча і мяне на каленях. Тады наш дзіцячы язык не мог вымавіць яго імя, мы яго перакручвалі, і з гэтага нарадзілася мянушка, якой мы называлі яго толькі між сабою. Нямногія ведалі яе.

— Хто гэта? — няўмольна сказаў Рыгор, рухаючы каменнымі сківіцамі.

І тады яна заплакала. Плакала ўзахлёб, як дзіцёнак. І праз рыданні нарэшце вырвалася:

— Пан Лікол... пан Рыгор Дубатоўк.

Я быў уражаны ў самае сэрца. Я аслупянеў, я задыхаўся:

— Не можа быць! Што вы! Такі добры чалавек! І, галоўнае, якая яму карысць!

А памяць паслужліва падсунула словы аднаго з мярзотнікаў пад дрэвам: «Любіць старажытнае». І нават невядомае «ічкі на...» з ліста Свеціловічу раптам заканамерна ператварылася ў любімае прыслоўе Дубатоўка: «Балеснічкі нашы, што гэта робіцца на зямлі?!»

Я працёр вочы, адагнаў ачмурэнне:

— Не, не можа быць. Якая яму карысць, ён зусім і не спадчыннік пані.

І тут адгадка бліскавіцай шуганула ў маёй галаве:

— Пачакайце тут, Надзея Раманаўна. Пачакай, Рыгор. Я прайду да пана Гарабурды. Пасля мне трэба будзе перабраць рэчы Бермана.

— Добра, — сумна сказала Яноўская. — Яго пахавалі ўжо.

І я пабег па сходах. Думкі мае ішлі ў двух кірунках. Першае: Дубатоўк мог дамовіцца з Берманам (толькі чаму ён забіў яго?). Другое: Гарабурда таксама мог неяк залежаць ад Дуботоўка.

Ірвануў дзверы. Насустрач мне з крэсла ўстаў пажылы мужчына з гамерычнымі ляжкамі. Ён здзіўлена глядзеў на мой рашучы твар.

— Прабачце, пан Гарабурда, — рэзка кінуў я, як у вір скокнуў. — Я павінен паставіць перад вамі адно пытанне. Пра вашы адносіны з панам Дубатоўкам. Нашто вы далі гэтаму чалавеку так заўладаць вамі?

Ён выглядаў як спайманы на месцы крадзяжу. Нізкі лоб яго пачырванеў, вочы замітусіліся. Але, відаць, па маім твары ён зразумеў, што жартаваць са мною нельга.

— Што зробіш... Вэксалі, — замармытаў ён.

І зноў я трапіў у мішэнь, мецячы ў неба:

— Вы далі пану Дубатоўку вэксалі пад маёнтак Яноўскай, які вам не належыць.

— Гэта была такая мізэрная колькасць грошай. Усяго тры тысячы рублёў. Псарня патрабуе так многа...

Усё пачынала ставаць на сваё месца. Пякельны план Дубатоўка яснеў у маіх вачах.

— Па тэстаменту Рамана Яноўскага, — замармытаў ён, абіраючы дрыжачымі пальцамі нешта з візіткі, — устаўлена такая субстытуцыя. Спадчыну атрымліваюць дзеці Яноўскай... — І жаласна глянуў мне ў вочы. — Іх не будзе. Яна ж памрэ... Яна хутка памрэ... П-пасля іх — муж. А яна вар'ятка, хто з ёй ажэніцца?.. Пасля, наступная прыступка, апошнія Яноўскія. А іх няма, няма пасля смерці Свеціловіча. А я сваяк Яноўскіх па кудзелі, з жаночага, так бы мовіць, боку. Калі не будзе дзяцей і мужа — палац мой. — І ён заенчыў: — Але як я мог чакаць? Я ўвесь у вэксалях. Я такі няшчасны чалавек. І большасць папер скупіў пан Рыгор... І яшчэ тры тысячы даў. Зараз ён тут будзе гаспадаром.

— Паслухайце, — холадна кінуў я, — тут была, ёсць і будзе толькі адна гаспадыня, пані Надзея Яноўская.

— Я не спадзяваўся на спадчыну. Яноўская ўсё ж магла выйсці замуж... І я даў Дубатоўку даўгавое абавязацельства пад забеспячэнне палаца.

— Добра. Сорам з вамі нават не начаваў. Але няўжо вы не ведаеце, што гэта нядзейсны з фінансавага боку ўчынак? Што гэта крымінал?

— Не, не ведаю. Я быў рады.

— А вы ведаеце, што вы штурхнулі Дубатоўка на жахлівае злачынства, якому і наймення на чалавечай мове няма. Чым вінавата бедная дзяўчына, што вы пажадалі пазбавіць яе жыцця?

— Я падазраваў, што гэта злачынства, — разрумзаўся ён. — Але мая псарня...

— Гніда вы! Рук толькі пэцкаць не хочацца. Вамі будзе займацца губернскі суд. А пакуль што я сваёй уладай засаджу вас на тыдзень у сутарэнне гэтага дома, каб вы не маглі папярэдзіць іншых мярзотнікаў... Пакуль скончыцца гэтая справа.

— Гэта гвалт, — заскуголіў ён.

— Што вы ведаеце пра насільства? — кінуў я яму. — Што вы ведаеце, смоўж?

Праз паўгадзіны Рыгор заштурхнуў Гарабурду ў скляпенне без акон пад цэнтральнай часткай будынка. Жалезныя дзверы з грукатам зачыніліся.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Агеньчык свечкі маячыў недзе далёка за цёмнымі шыбамі. Калі я падымаў вочы, я бачыў поруч з ім адбітак свайго твару з рэзкімі ценямі ў вачніцах.

Я разбіраў паперы Бермана. Мне здавалася ўсё ж, што я змагу адшукаць у іх нешта цікавае. Берман быў занадта складаны характар, каб жыць простай авечкай.

І вось я з ведама гаспадыні выцягнуў усе паперы з бюро на стол, пераклаў на яго ж кнігі, лісты, дакументы і сядзеў, чхаючы ад пылу, які густа ўкрываў гэтыя рэліквіі.

Цікавага было, аднак, мала. Трапіўся ліст ад маці Бермана, дзе яна прасіла аб дапамозе, і чарнавік ліста Бермана ёй, дзе ён пісаў, што на яго ўтрыманні знаходзіцца брат, што брат цяпер не перашкаджае маці жыць так, як яна хоча, а ў астатнім яны — квіты. Гэта было дзіўна: які брат, дзе ён зараз?

Пасля я адшукаў нешта накшталт дзённіка, дзе поруч з грашовымі выдаткамі і вельмі разумнымі заўвагамі па беларускай гісторыі я прачытаў і такія-сякія разважанні Бермана. Вось некаторыя:

«Паўночна-Заходні край як паняцце — фікцыя. Справа, магчыма, у тым, што ён крывёй і мозгам сваім служыць ідэі цалкам усяго космасу, а не пяцёх губерняў, расплачваецца за ўсё і гатуе

ў глыбіні сваёй новага Месію для ўратавання людской пароды. Таму яго лёс — пакутаваць. Справа, аднак, не датычыцца лепшых яго прадстаўнікоў, людзей сілы, арыстакратаў духу».

— Бач ты, рыцар духу, чалавек сілы ў прадзёртых портках, — буркнуў я.

«Адзіная любоў мая — брат. Часам мне здаецца, што ўсе астатнія людзі ёсць карыкатуры на яго, і патрэбны чалавек, які перарабіў бы ўсіх на яго капыл. Людзі павінны быць людзьмі цемры. Тады ў іхніх арганізмах лепей высоўваецца наперад тое цудоўна жывёльнае, што мы павінны зберагаць і любіць. Хіба геній не аддзяляецца ад ідыёта толькі фігавым лістком, які прыдумалі самі людзі. Беларэцкі мяне раздражняе сваёй звычайнасцю, і, дальбог, для яго было б лепей, каб ён хутчэй знік».

І яшчэ адзін запіс:

«Грошы — эманацыя чалавечай улады над статкам іншых (на жаль!). Трэба было б навучыцца рабіць мазгавую кастрацыю ўсім, хто не варты свядомага жыцця. А лепшым даваць бязмернае шчасце, бо такая штука, як справядлівасць, не прадугледжана самой прыродай. Так і са мною. Мне патрэбен спакой, якога тут больш, ніж дзе-небудзь, і грошы, каб вынасіць ідэю, дзеля якой я з’явіўся на свет, ідэю велікапышнай і надзвычайнай несправядлівасці. І мне здаецца, што першай прыступкаю магла б быць перамога над тым, да чаго імкнецца маё цела і што, аднак, неабходна знішчыць, над гаспадыняй Балотных Ялін. Яна ўсё адно асуджана сляпым лёсам на знішчэнне. На ёй праклён спраўджваецца з’яўленнем дзікага палявання пад мурамі палаца. Яна больш трывалая, ніж я думаў, дагэтуль не звар’яцела. Кароль Стах слабы, і выправіць яго памылкі суджана мне. І, аднак, я раўную яе да ўсіх маладых людзей і асабліва да Беларэцкага. Учора страляў па ім і быў вымушаны на рэтыраду. Дрэнна страляю».

Наступны лісток:

«Магчыма, калі я выканаю ролю боскай сілы, вышэйшага наканавання (бывала ж такое са звычайнымі смертнымі), духі зла пакінуць гэтыя мясціны, і я стану гаспадаром. Пераконваў калісь Беларэцкага, што галоўная небяспека — паляванне. А якая небяспека ад зданяў? Іншая справа Малы Чалавек.

Золата, золата! Тысячы панегірыкаў трэба спяваць уладзе тваёй над душамі людзей. Ты ўсё: пялюшка дзіцяці, купленае табою цела дзяўчыны, сяброўства, любоў і ўлада, мозг найвялікшых геніяў, нават прыстойная яма ў зямлі. І да ўсяго гэтага я праб’юся».

Я скамячыў паперкі і да болю сціснуў пальцы:

— Брыдота!

І раптам сярод іншых паперак рука мая натрапіла на складзены ў чатыры столкі аркуш пергаменту. Я расклаў яго на каленях і толькі галавою хітануў: гэта быў план будынка ў Балотных Ялінах, план XVI стагоддзя. І на гэтым плане выразна было азначана, што слухавак у мурах палаца аж чатыры, і яны так схаваны ў плафоне, што адшукаць іх ніяк нельга. Між іншым, адна з іх вяла ад сутарэнняў пад палацам да пакоя ля бібліятэкі (напэўна, каб падслухоўваць размовы вязняў), а другая злучала бібліятэку, закінутыя пакоі для слуг на першым паверсе і... пакой, у якім жыла Яноўская. Дзве другія былі невядома дзе: выхады іхнія былі ў калідоры, дзе жылі я і Яноўская, але далейшы іх ход быў старанна зацёрты пальцамі.

Мярзотнік адшукаў план у архіве і схаваў яго.

І было яшчэ тое-сёе цікавае. У вонкавым муры палаца была пустэча, выразна быў адзначаны вузкі праход і тры нейкія клетушкі. А выхад з прахода быў намечаны якраз за павароткай калідора, дзе я калісьці аддзіраў дзверы ў сапраўды забітым пакоі.

Я лаяўся так, як ніколі ў жыцці. Шмат непрыемнасцей мінула б, калі б я абстукаў там сценкі, абшытыя панелямі. Але не позна было і зараз. Я схапіў свечку, глянуў на гадзіннік (палова на адзінаццатую ночы) і хутка пабег пераходамі да свайго калідора.

Стукаў я, напэўна, з палову гадзіны, пакуль не натрапіў на месца, якое адказала на стук гулкім водгукам, быццам я лупіў дно бочкі. Я шукаў на панелі месца, за якое можна ўзяцца і аддзерці яе ад астатніх, але дарэмна. Пасля пабачыў у адным месцы лёгкія драпіны, пакінутыя як быццам нажом. Таму я дастаў сцізорык і пачаў торкаць ім у ледзь прыкметныя шчыліны між гэтай часткай панелі і астатнімі. Даволі хутка мне ўдалося намацаць лязом нажа нешта, што паддавалася. Я націснуў мацней — нешта зарыпела, і пасля панель павольна пачала паварочвацца вакол свайго цэнтра, кажучы мне вузкую шчыліну. Я паглядзеў на адваротны бок панелі ў тыя месцы, куды торкаў лязом, — там была глухая дошка, знутры панель адчыніць на калідор было нельга. Я нават спусціўся быў уніз прыступак на пятнаццаць, але дзверы за спіною жаласна заспявалі, я пабег да іх і якраз своечасова паспеў прытрымаць іх нагою, каб яны не захлопнуліся. Не, аставацца ў нейкай пацуковай нары аднаму,

з пагрозай прасядзець тут да другога прышэсця, ды яшчэ з абгаркам свечкі — гэта было глупствам.

Таму я пакінуў дзверы напаўзачыненымі, паклаўшы ля восі ўласную хустку, а сам сеў непадалёк на падлогу, паклаўшы на калені рэвальвер. Свечку давялося загасіць, бо святло яе магло спудзіць істоту, калі б яна задумала вылезці з патаемнага ходу. І, аднак, свечка за паваротказ калідора, якая гарэла ўсю ноч, хоць цьмяна, але асвятляла калідор, ды і ў акно ліўся няпэўны шэры водбліск.

Не ведаю, колькі я так праседзеў, уткнуўшы падбароддзе ў калені. Было каля дванаццаці, калі раптам дрымота пачала падаць на мяне, навальвацца цяжарам, стуляць павекі. І я ўпарта дзюбаў носам, як ні намагаўся змагацца са сном: далі-ся мне ў знакі мінулыя бяссонныя ночы. У адзін з момантаў прытомнасць адмовіла мне, і я праваліўся кудысьці ў цёмную душную бездань.

Вы спрабавалі калі-небудзь спаць седзячы, прыціснуўшы спіну да мура або, лепей, да дрэва? Паспрабуйце. Вы пераканаецеся, што пачуццё падзення, якое вы часам адчуваеце, лежачы пад цёплай коўдрай, ёсць шостае пачуццё, што перайшло нам у спадчыну ад продка нашага, малпы, што яно было ёй неабходна, каб не ўпасці з дрэва. І, седзячы ля дрэва, вы ў сне будзеце падаць вельмі часта, і адкрываць вочы, і зноў засынаць. І нарэшце дзіўныя сны авалодаюць вашай душой, знікне мільён год чалавечага існавання, і вам здасца, што пад дрэвам дапатопны мамант ідзе на вадапой і вочы пячорнага мядзведзя гараць з-пад скалы.

Прыблізна ў такім настроі быў і я. Сны... Сны... Мне здавалася, што я сяджу з доўбняю на каленях недзе на дрэве і мне страшна злезці, бо пада мною, па зямлі, ідзе нейкі пітэкантрап. І ноч, і стогнуць ваўкі за дрэвамі. У той самы момант я ўпаў і раскрыў вочы.

Проста ў паўцемры рухалася паўз мяне дзіўная істота. Зялёнае старадаўняе ўбранне было ў пыле і павуцінні, галава, доўгая, выцягнутая назад, як боб, задуменна апушчана, павекі, як у жабы, ледзь не закрывалі журботныя вочы, а рукі былі апушчаны ўніз, і доўгія-доўгія пальцы іх амаль даставалі да зямлі.

Малы Чалавек Балотных Ялін прамінуў мяне і праплыў далей, а я сачыў за ім з рэвальверам. Будынак быў яму, відаць, добра знаёмы. Ён адчыніў акно, пасля другое, пасля вылез у адно. Я высунуў за ім галаву і пабачыў, што гэта істота з

малпячым спрытам ідзе па вузкім, на тры пальцы, карнізе. Ён амаль бег, як павук, з нечалавечай жвавасцю. Па ходзе справы ён адшчыкнуў з галіны ліпы, якая падыходзіла да сцяны, некалькі плодзікаў. Пачамкаў іх. Адной рукой ён дапамагаў сабе рухацца. Пасля ён зноў пралез у калідор, зачыніў вокны і павольна рушыў кудысьці калідорам, страшны ў сваёй нечалавечнасці. Аднойчы мне пачулася нейкае мармытанне, Малы Чалавек хлопнуў сябе па лбе і знік у цемры, куды не даставала святло далёкай свечкі. Я хутка накіраваўся за істотай, бо баяўся знікнення. Калі я апынуўся ў цемры, я пабачыў два ззяючыя вокі, што глядзелі з кута з невымоўнай пагрозай.

Я кінуўся да яго, але яно застагнала цяжка і пабрыло кудысь, хістаючыся на нагах. Утаропіла на мяне свой позірк, пасварылася пальцам.

Аслупянеўшы на імгненне, я апамятаўся, дагнаў Малога Чалавека і схапіў яго за плечы. І радасна страпянулася маё сэрца, бо гэта не была здань.

Калі я выцягнуў гэтую істоту на святло, яна торкнула сябе пальцам у рот і сказала няпэўным рыпячым голасам:

— Гам-гам!..

— Ты хто такі? — трасянуў я яго за плечы.

І Малы Чалавек, былая здань, адказаў завучана:

— Я Базыль. Я Базыль.

І раптам хітрасць, якая бывае і ў ідыётаў, асвяціла яго вочы:

— Я вас... бачыў. Гы-гы! Я сядзеў пад сталом... пад сталом, брат мяне карміў. А вы раптам — шась!

І зноў зачамкаў вялізным, да вушэй, ротам. Я зразумеў усё. Два мярзотнікі — кіраўнік дзікага палявання і Берман — дадумаліся, уласна кажучы, да аднаго і таго ж самага. Берман, які ведаў, што ён з’яўляецца сваяком Яноўскай, прыехаў у Балотныя Яліны і тут напаткаў план хадоў у мурах і слухавак. Пасля гэтага ён таемна паехаў у горад і, кінуўшы маці на волю лёсу, прывёз сюды брата, які не таму ўнікаў людзей, што любіў самоту. Брат проста быў непапраўным ідыётам, і нездарма ў клубе здзівіліся яго дрэннаму выхаванню (Берман, вядома, прывёз у клуб не брата, а нейкага захожага чалавека). Калі ён прывёз яго сюды, ён змясціў яго ў сваім пакоі, карыстаючыся тым, што да яго ніхто не заходзіў, і загадаў сядзець ціха. Падчас аднаго з гадаванняў я і заспеў іх на месцы злачынства. Малы Чалавек тады сядзеў пад сталом, і я мог бы схапіць яго, працягнуўшы руку.

Уначы Берман заводзіў яго ў хады, і той крочыў па начных пераходах, абуджаючы ў слухаўках гукі, якія чулі жыхары дома.

Зрэдку яго выпускалі і ў калідор: у гэтым выпадку ён апранаў назнарок пашыты стары ўбор, а Берман чакаў яго ля адчыненых дзвярэй ходу, бо адчыніць іх Малы Чалавек не мог. Сяды-тады яму дазвалялі пагуляць і на свежым паветры. З малпячым, а хутчэй з павучыным спрытам ён бегаў па карнізах будынка, глядзеў у асветленыя вокны і, у выпадку трывогі, маланкава знікаў за шматлікімі кутамі будынка.

Яму тым лягчэй было гэта рабіць, што ў яго пячорным мазгу зусім адсутнічаў інстынкт самазахавання. Ён ішоў па гэтым карнізе так раўнадушна, як мы часам, забаўляючыся, ідзём па чыгуначнай рэйцы.

Падчас адной такой пагулянкі і адбылося яго спатканне са мною. Што ж здарылася пасля? «Лікол» даслаў мне ліст, у якім, каб выбавіць мяне з хаты, рэкнуў здуру, што ведае штосьці пра Малога Чалавека. Берман, які апошні час сачыў за мною, прачытаў ліст і пайшоў на месца сустрэчы, каб неяк дамовіцца з невядомым. Там яго палічылі за мяне, і адбылася трагедыя, познім сведкам якой я быў.

А карла сядзеў усе гэтыя дні ў хадах, не маючы змогі вылезці, і зусім заслаб з голаду. Каб я не адчыніў дзверы — ён, напэўна, памёр бы, так і не здагадаўшыся, чаму пакінуў яго той, што заўжды яго гадаваў і песціў.

Што мне было рабіць з ім? Няшчасны малы ідыёт не быў вінен у тым, што яго стварылі такім на свет. Тут ён і выбывае з нашага апавядання. Я нагадаваў яго, абвясціў Яноўскай аб канчыне аднаго з прывідаў, якія насялялі палац Балотных Ялін, і наступнага дня адаслаў яго ў павятовую бальніцу для вар'ятаў.

І ўпершыню гэтым вечарам я бачыў, што надзея загарэлася ў вачах гаспадыні Балотных Ялін цёплым, пакуль што яшчэ слабым агеньчыкам.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

— Ты, Рыгор?

— Я, Андрусь. Праўдзівей, мы.

Я працягнуў Рыгору руку. Гэта ноч, пасля той, у якую я спаймаў Малога Чалавека, была першай за ўвесь час бясхмарнай месячнай ноччу. Поўны месяц заліваў тарфяныя балоты,

пусткі, парк Балотных Ялін блакітным срэбрам і далёка-далёка блішчаў у акенцы нейкай самотнай хаты. Ноччу пахаладзела, і зараз балоты «пацелі», нараджаючы ў ямінках касмылі белых рухлівых тумаў.

Рыгор выступіў з-за хмызоў, якія ляжалі ля паваленай агароджы, а за ім з'явіліся з цемры людзі, чалавек дванаццаць.

То былі мужыкі. Усе ў кажухах мехам наверх, у аднолькавых белых магерках, з аднолькавымі чырвонымі лапамі.

І ўсе яны ў месячным святле былі на адзін твар: як быццам сама гэта зямля адначасова нарадзіла іх. У двух я пабачыў доўгія стрэльбы, як у Рыгора, адзін трымаў у руках пулгак, астатнія былі ўзброены доўгімі рацішчамі і віламі, а адзін нават простай дубінай.

— Гэта хто? — здзіўлена спытаў я.

— Мужыкі, — нутром прагудзеў Рыгор. — Хопіць цярпець. Два тыдні таму дзікае паляванне затаптала на верасовай пустцы брата вось гэтага мужыка. Міхалам яго завуць.

Міхал сапраўды нагадваў «Міхала — бурага дзедзіна». Глыбокія маленькія вочкі, скулы шырокія, рукі і ногі — не горш як у Дубатоўка. Вочы яго былі чырвонымі і апухлымі, рукі так сціснулі вілы, што аж суглобы пальцаў сталі белымі. Глядзеў ён змрочна і пахмура, але разумна.

— Хопіць, — зноў сказаў Рыгор. — Зараз нам толькі паміраць і засталося. А паміраць мы не хочам. І ты, Беларэцкі, калі што-небудзь заўважыш, маўчы. Гэта справа наша. І бог дазваляе на канакрада — усім мірам. Сёння мы іх адвучым не толькі людзей таптаць, але і хлеб есці.

— Гэта ўсе?

— Не, — сказаў мой наваз'яўлены Чортаў Бацька, — гэтыя, на чале з Міхалам, застануцца тут, пад тваёй рукою. А мае чакаюць ля балота, што акружае Яноўскую пушчу, ля Ведзьмаковай ступы. Там яшчэ два дзесяткі. Калі яны пойдуць там — мы іх сустрэнем, калі яны пойдуць невядомай нам, іншай дарогай — сустрэнеце вы. Мы трымаем пад увагай пушчу, Халодную лагчыну і пусткі, што поруч. Вы — Балотныя Яліны. Сустрэча, калі што такое, у Халоднай лагчыне. Калі спатрэбіцца дапамога — дасылайце чалавека.

І Рыгор знік у цемры.

Мы зрабілі засаду. Я загадаў шасці мужыкам размясціцца паабапал дарогі ля самай паваленай агароджы, тром — трохі далей. Атрымаўся мяшок, або, лепей, нерат. Трое павінны былі,

у выпадку чаго, перагарадзіць паляванню шлях адступлення. Сам я стаў за вялікім дрэвам ля самай сцежкі.

Я забыўся яшчэ сказаць, што на кожнага з нас было па тры паходні. Дастаткова было, каб асвятліць, у выпадку патрэбы, усё.

Мае людзі ў шкурах як ляглі, так і зрасліся з зямлёю, нельга было адрозніць іх ад звычайных купін, а шэрая аўчына злівалася з шэрай, забітай восенню, травой.

Так мы ляжалі даволі доўга. Месяц плыў над балотамі, мільгацелі там нейкія блакітныя іскры, туман то сплываў у суцэльную, каню па калена, смугу, то зноў распаўзаўся.

Яны з'явіліся, як заўжды, нечакана. Два дзесяткі туманных коннікаў на туманных конях. Бязгучна і грозна насоўваліся яны. Не звінелі цуглі, не чуць было чалавечых галасоў. Бязлюдная маса рухалася да нас. Развяваліся доўгія валасы і плашчы. Паляванне імчала.

А наперадзе, як раней, скакаў кароль Стах, прыкрыўшы капелюхом твар. Мы чакалі, што яны прылятуць, як вецер, але крокаў за сто яны... спешыліся, павазіліся ля конскіх ног, і, калі паехалі пасля гэтага, паехалі павольным крокам, да нас даляцеў зусім нечаканы пасля маўчання ляск капытоў.

Павольна набліжаліся яны. Вось мінулі дрыгву, вось пад'ехалі да агароджы, вось мінулі яе. Кароль Стах ехаў проста на мяне, і я пабачыў, што твар яго белы, як крэйда.

Вось ён амаль ля майго дрэва. Я ступіў з-за яго і ўзяў каня за аброць. Адначасова левай рукою, у якой акрамя рэвальвера быў у мяне стэк, я пасунуў ягоны капялюх на патыліцу.

Трупна-бледны, глядзеў на мяне вялікімі мёртвымі вачыма твар Вароны. Ад нечаканасці ён, напэўна, не ведаў, што рабіць, але затое я добра ведаў гэта.

— Дык гэта вы кароль Стах? — спытаў я ціха.

І перацягнуў яго стэкам па твары.

Конь Вароны стаў дыбкі і кінуўся ад мяне ў натоўп.

У той самы момант грымнулі стрэльбы засады, і ўсё закруцілася ў шалёным моры агню. Уставалі дыбкі коні, падалі коннікі, хтосьці нема крычаў. Я запамятаў толькі твар Міхала, які хладнакроўна цэліўся з доўгай стрэльбы. Сноп агню вырваўся з яе. Потым праплыў перада мною твар скуластага хлопца з доўгімі касмылямі валасоў, што падалі на лоб. Хлопец гэты працаваў віламі, як на таку, пасля ўзняў іх і з жахлівай сілай усадзіў у жывот каня, што стаў на дыбкі. Коннік, конь і хлопец упалі разам. А я стаяў і, нягледзячы на тое, што стрэлы нарэшце

загучалі і з іхняга боку, што кулі пасвіствалі ля маёй галавы, на выбар страляў па конніках, што мітусіліся ў нашым коле. Ззаду іх таксама палівалі агнём.

— Браткі, нам здрадзілі!

— Даскакаліся!

— Ратуйце!

— Божа! Божухна!

На тварах гэтых бандзюкоў я пабачыў жах, і радасць помсты авалодала мною. Ім трэба было думаць раней пра тое, што адплата прыходзіць. Я бачыў, як чалавек з дубінай удзёрся ў сярэдзіну коннага натоўпу і біў ёю наводмаш. Уся застарэлая ярасць, усё доўгацярпенне зараз выбухнула прыпадкам нечуванага запалу, баявой смеласці. Хтосьці рыўцом сцягнуў з сядла аднаго з паляўнічых, і конь пацягнуў яго галавою па карэннях.

Праз дзесяць хвілін усё было скончана. Коні без седакоў працягла гігаталі, пехцярамі ляжалі на зямлі забітыя і параненыя. Толькі Варона, як д’ябал, круціўся сярод мужыкоў, адбіваючыся мячом. Рэвальвер ён заціснуў у зубах. Біў ён вельмі добра. Пасля пабачыў у натоўпе мяне. Твар яго перакрывіўся такой жахлівай нянавісцю, што нават зараз я памятаю яго і часам бачу ў сне.

Стаптаўшы канём аднаго з сялян, ён схапіў рэвальвер:

— Трымайся, падла! Адняў яе! Табе таксама не мілавацца!

Селянін з доўгімі вусамі пацягнуў яго за нагу з каня. І толькі таму я не ўпаў на зямлю з дзіркай у чэрапе. Варона зразумеў, што яго зараз сцягнуць з каня, і стрэлам ва ўпор паклаў на месцы даўгавусага.

І тады я, паспеўшы ўставіць новыя патроны, высадзіў у яго ўсе шэсць куль. Варона хітнуўся ў сядле, хапаючыся рукамі за паветра, але ўсё ж павараціў каня, збіў на зямлю скуластага хлопца і памчаў у напрамку да балот. Ён усё хапаўся рукамі за паветра, але яшчэ сядзеў у сядле і разам з сядлом (відаць, лопнула папруга) з’язджаў набок, пакуль не павіс паралельна зямлі. Конь збочыў, і галава Вароны з маху ўдарылася аб каменны слуп агароджы.

Варона з’ехаў з сядла і гопнуўся аб зямлю, застаўся ляжаць на ёй нерухомы, мёртвы.

Разгром быў поўны. Страшнае дзікае паляванне ляжала на зямлі, разбітае рукамі звычайных мужыкоў у першы ж дзень, калі яны трошкі паднатужыліся і паверылі сваім прымхлівым мазгам, паверылі, што нават супраць зданяў можна ўстаць з віламі ў руках.

Я прайшоў па месцы бойкі. Коней сяляне зводзілі ўбок. Гэта былі сапраўдныя палескія дрыкганты, парода, ад якой зараз нічога не засталося. Усе ў палосах і плямах, як рысі або леапарды, з белымі ноздрамі і вачыма, якія адлівалі ў глыбіні чырвоным агнём. Я ведаў, што гэтая парода вызначаецца дзіўнай трывалай машыстай інахаддзю і падчас намёту імчыць вялізнымі скачкамі, як алень. Не дзіва, што ў тумане мне такімі вялізнымі здаваліся іхнія скачкі.

І яшчэ дзве разгадкі прыйшлі нечакана. Па-першае, ля сядла кожнага паляўнічага віселі чатыры глыбокія аўчынныя торбы, якія, відаць, у выпадку патрэбы, можна было надзець на ногі коням і завязаць ля бабак. Крок рабіўся зусім бязгучны. Па-другое: сярод трупаў і параненых я пабачыў на зямлі тры чучалы, апранутыя так, як і паляўнічыя, у старыя капелюхі з пер’ямі, кабці, чугі, але прывязаныя вяроўкамі да сядла. Людзей у Вароны, відаць, не хапала.

Але і нашы страты былі значныя. Мы ніколі не перамаглі б гэтай банды прафесіянальных ваякаў, каб не нечаканасць нашага нападу. Але нават і з гэтым атрымалася дрэнна: мужыкі ваяваць зусім не ўмелі. Скуласты хлопец, якога збіў канём Варона, ляжаў на зямлі з разбітай галавою. У даўгавусага мужыка дзірка ад кулі цямнела проста ў сярэдзіне лба. Мужык з дубінай, што ўдзёрся ў сярэдзіну між коннікаў, ляжаў на зямлі і стрыг нагамі, як нажніцамі: адыходзіў. Параненых было ў два разы больш. Я таксама атрымаў рану: куля рыкашэтам шчоўкнула мне ў патыліцу.

Мы лаяліся. Міхал бінтаваў мне галаву, а я крычаў, што гэта глупства. Між тым сярод паляўнічых адшукалі аднаго і падвялі да кастра, які мы расклалі. Перада мною стаяў з вісячай, як бізун, рукою Марка Стахевіч, той самы шляхцюк, размову якога з Пацуком я падслухаў тады пад дрэвам. Ён быў вельмі каларытны ў сваёй чузе вішнёвага колеру, у маленькім капелюху, з пустымі похвямі ад шаблі на баку.

— Ты, здаецца, пагражаў мужыкам, Стахевіч? Ты памрэш, як гэтыя, — спакойна сказаў я. — Але мы можам адпусціць цябе, бо адзін ты няшкодны. Ты паедзеш за межы яноўскага наваколля і будзеш жыць. Мы адпусцім цябе тады, калі ты раскажаш нам пра вашу дзейнасць.

Ён павагаўся, паглядзеў на жорсткія твары мужыкоў, залітыя чырвоным сяйвом вогнішча, на кажухі, на рукі, якія сціскалі вілы, і зразумеў, што літасці тут чакаць нельга. Вілы з усіх бакоў абкружалі яго, датыкаючыся да цела.

— Гэта ўсё Дубатоўк, — сказаў ён панура. — Палац Яноўскіх павінен быў перайсці да Гарабурды, але Гарабурда вельмі запазычыўся Дубатоўку. Ніхто пра гэта не ведаў, акрамя нас, людзей Дубатоўка. Мы пілі ў яго, і ён даваў нам грошы. А сам ён марыў пра палац. Ён не жадаў нічога прадаваць адтуль, хоць палац каштаваў многа. Варона казаў, што, каб прадаць усе рэчы адтуль па музеях, можна было б атрымаць многа тысяч. Выпадак звёў іх з Варонай. Варона не жадаў спачатку забіваць Яноўскую, хоць яму і паказалі на дзверы. Але пасля таго, як з'явіўся Свеціловіч, згадзіўся і ён. Казка пра дзікае паляванне караля Стаха прыйшла Дубатоўку да галавы яшчэ тры гады таму. У Дубатоўка аднекуль ёсць прыхаваныя грошы, хоць жыве ён назнарок бедна. Ён наогул вельмі хітры, вельмі скрытны, вельмі хлуслівы чалавек. Самага разумнага абкруціць вакол пальца, такім мядзведзем прыкінецца, што далей няма куды. І вось ён паехаў да самай лепшай у нашай краіне стайні, да збяднелага за апошнія гады пана, і купіў усіх дрыкгантаў, а пасля перавёў іх да Яноўскай пушчы, дзе мы пабудавалі схованкі і стайню. Усіх здзіўляла, як гэта мы можам імчаць па дрыгве, дзе і кроку ступіць нельга. А ніхто не ведае, як мы плазавалі па Волатнай прорве, шукаючы патаемных сцежак. І адшукалі. І вывучылі. І імчалі па мясцінах, дзе сцежка была на локаць пад тваннню, а з бакоў бездань. І, да таго ж, гэтыя коні — цуд! Яны бягуць на голас Дубатоўка, як сабакі. Яны чуюць багну і, калі трэба, робяць над месцамі, дзе сцежка перарываецца, вялізныя скачкі. І яшчэ: мы заўжды выязджалі на паляванне толькі ўночы, калі туман паўзе па зямлі. І ўсе таму лічылі нас прывідамі. А мы яшчэ і маўчалі заўжды. Гэта была рызыка. Але што ж нам было рабіць, падыхаць з голаду на чвэрці валокі? А Дубатоўк плаціў. І да таго ж мы не толькі даводзілі гэтым да вар'яцтва або смерці Яноўскую, мы яшчэ і вучылі нахабных хлопцаў, каб ведалі жах Божы і не думалі пра сябе занадта многа. Дубатоўк праз Гарабурду прымусіў тады Кульшу выклікаць да сябе дзяўчыну, бо ведаў — бацька занепакоіцца. І мы падлавілі Рамана, перастрэлі яго. Ух, і гонка гэта была!.. Уцякаў, як чорт... Але яго конь зламаў нагу.

— Мы ведаем гэта, — з'едліва сказаў я. — Між іншым, Раман выдаў вас з галавою менавіта пасля смерці, хоць вы ягоным крыкам і не верылі. Не верылі яшчэ два дні таму, калі размаўлялі з Пацуком пасля забойства Бермана.

У Стахевіча аж сківіца адвалілася. Я ўладна загадаў яму распавядаць далей.

— Мы навялі жах на ўсё наваколле. Найміты згаджаліся на тую цану, якую даваў гаспадар. Мы сталі лепей жыць. А Яноўскую давялі да роспачы. І тут з’явіўся ты, Беларэцкі. Дубатоўк прывёз тады партрэт Рамана Старога нездарма. Каб не ты, яна была б вар’яткай праз тыдзень пасля гэтага. І тут пан Рыгор пабачыў, што памыліўся. Яна была вясёлай. Ты ўвесь час танцаваў з ёю. Дубатоўкназнарок запрасіў цябе, калі перадавалі справы апекі, каб ты пераканаўся, што яна бедная. Ён добра ўпраўляў маёнткам — гэта ж быў ягоны будучы маёнтак. Але беднасць Яноўскай на цябе не падзейнічала, і цябе вырашылі прыбраць.

— Між іншым, — сказаў я, — я ніколі не думаў ажаніцца з ёю.

Стахевіч невымоўна здзівіўся.

— Але нічога. Ты ўсё адно перашкаджаў нам. Яна аджыла з табою. Між іншым, Дубатоўк сапраўды любіў Яноўскую. Яму шкада было яе знішчаць,і каб магчыма было абысціся без гэтага, ахвотна згадзіўся б. І цябе ён паважаў. Казаў нам заўжды, што ты сапраўдны чалавек, шкада толькі, што не згодзішся быць з намі. Тады, на баль, Дубатоўк прывёз Яноўскай стары ўбор, бо ён тых, хто не звык да яго, робіць непрыгожым. І сам здзівіўся, так гэта нечакана добра атрымалася. Словам, справы нашы ўскладніліся: трэба было ўбраць і вас, і Свеціловіча, які меў права на спадчыну і кахаў Яноўскую. Дубатоўк запрасіў вас да сябе, дзе Варона павінен быў вызваць вас на дуэль. Ён так добра разыграў усё гэта, што ніхто не падумаў, што не ён, а Дубатоўк быў натхніцелем справы, а мы тым часам разглядалі вас, бо трэба было добра запомніць ваш твар.

— Далей, — кінуў я.

Стахевіч завагаўся, але Міхал торкнуў яму злёгку віламі ў месца, адкуль растуць ногі. Марка паглядзеў вакол зацкаваным позіркам спадылба.

— З дуэллю атрымалася глупства. Дубатоўк падпойваў цябе, але ты не п’янеў. Ды яшчэ выявіўся такім спрытным, што паклаў Варону, і ён сапраўды павінен быў пяць дзён праляжаць у ложку.

— А як вы маглі адначасова быць у хаце і гнацца тады за мною?

— За абсадай Дубатоўкавай хаты чакалі другія, навічкі. Мы думалі іх спачатку пусціць па слядах Свеціловіча, калі цябе заб’юць, але Свеціловіч сядзеў з намі да наступнага дня, а Варона быў паранены. Іх пусцілі за табою. Дубатоўк дагэтуль

не можа дараваць сабе, што па тваіх слядах пусцілі гэтых саплякоў. Каб не гэта — ты б ад нас не ўцёк нізавошта. І да таго ж мы думалі, што ты ішоў па дарозе, а ты рушыў пусткаю ды яшчэ прымусіў страціць час перад балотнай лагчынай. Пакуль сабакі натрапілі на след — было ўжо запозна. І дагэтуль мы не ведаем, як ты ўслізнуў тады ад нас, спрытняга! Але ведай, спаймалі б — не пашчасціла б табе.

— А чаму рог спяваў убаку? І яшчэ, дзе гэтыя навічкі зараз?

Стахевіч павагаўся:

— На паляўнічым розе граў адзін з нас, які ехаў нездалёк. А навічкі — вось яны, тут, ляжаць на зямлі. Нас было раней менш. І мы вялі з сабой коней з пудзіламі ў сядле. А частка маладых пайшла да Халоднай лагчыны. Мы думалі, што ты там адзін, разам са сваім Рыгорам, вартуеш. Але мы не спадзяваліся, што вас тут — армія. І вось дарага заплацілі за гэта. Вось яны ляжаць: Пацук, Ян Стыровіч, Паўлюк Бабаед. І нават Варона. Ты пазногця ягонага не варты. Разумны быў Варона, а таксама не мінуў божага суда.

— Нашто вы падкінулі мне запіску пра тое, што паляванне караля Стаха прыходзіць уначы?

— Што ты, што ты, — захітаў Стахевіч галавою, — здані не падкідваюць запісак. Мы на такую дурасць не пайшлі б.

«Гэта, напэўна, Берман зрабіў», — падумаў я, а ўголас сказаў:

— А мяне гэтая запіска пераканала ў тым, што вы не здані, якраз у той момант, калі я пачынаў гэтаму верыць. Падзякуйце за гэта невядомаму дабрадзею, бо са зданямі я наўрад ці адважыўся б змагацца.

Стахевіч збялеў і, ледзь варушачы сківіцамі, кінуў:

— Гэтага чалавека мы б раздзёрлі на кавалкі. А вас я ненавіджу, нягледзячы на тое, што не мая сіла. І я буду маўчаць.

Рука Міхала схапіла палоннага ззаду за шыю і націснула за вушамі.

— Кажы. Іначай мы цябе тут...

— Добра. Ваша сіла... Радуйцеся, хлопцы... А мы вас таксама правучылі. Няхай хто даведаецца, куды галоўныя крыкуны падзеліся з вёскі Яркі, якую пан Антось Духвіца з зямлі сагнаў? Спытайце ў каго, можа, і даведаецеся. Шкада, што Дубатоўк не загадаў вас удзень падсцерагчы і застрэліць. А гэта ж лёгка было зрабіць, асабліва калі вы да Кульшаў ішлі, Беларэцкі. І я вас нават бачыў тады. Мы яшчэ тады зразумелі, што вы шворку на нашу шыю згатавалі. Кульша старая, хоць і вар’ятка, але

магла пра нас нешта рэкнуць. Яна пачала здагадвацца, што была нашай зброяй у дзень забойства Рамана. Давялося яе тады толькі аднойчы з'яўленнем дзікага палявання настрашыць. Галава была слабая, адразу вар'яткай стала.

Я аж кіпеў ад усіх тых агідных учынкаў, ад усіх паскудстваў, пра якія распавядаў мне гэты чалавек. Толькі тут бездань шляхецкага падзення адкрылася мне. І я згадзіўся з Рыгорам, што гэту пароду трэба знішчыць, што яна пачала смярдзець на ўвесь свет.

— Далей, паскуднік!..

— Калі мы даведаліся, што Рыгор згадзіўся шукаць разам з вамі, мы зразумелі, што нам будзе вельмі дрэнна. Тут я ўпершыню пабачыў, як Дубатоўк спалохаўся. Ён аж жоўты зрабіўся. Трэба, кажа, канчаць, і не дзеля багацця, а дзеля ўласнай шкуры. І мы з'явіліся тады да палаца.

— Хто гэта крычаў тады? — сурова спытаў я.

— Хто крычаў, таго больш няма. Вось ён ляжыць... Пацук...

Стахевіч відавочна пацяшаўся, распавядаў пра ўсё з гонарам, хвацка і зухавата, з такім заліхвацкім маладзецтвам, быццам вось-вось «Баладу» Рубінштэйна заспявае, але я добра бачыў, што ён баіцца, хоць добра валодае сабою.

— Ды і я магу амаль так крычаць.

І ён закінуў галаву — жылы надуліся на яго шыі — і пачаў забіраць то вышэй, то ніжэй. Апошні раз я пачуў крык дзікага палявання: нялюдскі, жахлівы, дэманскі.

— Раман! — рыдаў і галасіў голас. — Раман! Раман! Авой! Помста! Мы адпачнём! Раман у дваццатым калене, выходзь!

Голас яго пакаціўся над Волатавай прорвай кудысьці далёка, пачаў пераклікацца з рэхам, запоўніў сабою ўвесь абшар. У мяне мароз пайшоў спіною.

І Стахевіч зарагатаў:

— Ты не выйшаў тады, Беларэцкі. Нічога, на тваім месцы другі здох бы з жаху. Мы спачатку падумалі, што ты спудзіўся, але на другі дзень здарылася амаль непапраўнае. Свеціловіч нарваўся на Варону, які ездзіў для вярбоўкі новых паляўнічых і спазніўся. І гэта было якраз ля сцежкі, што вядзе ў пушчу, да нашай схованкі. А пасля мы прасачылі, што ён сустрэўся з табою, Беларэцкі, у лесе. І хоць ён не сказаў табе гэтага пакуль што, мы разумелі — яму нельга даць ані гадзіны жыцця. Палову людзей накіравалі да трох хвояў. Дубатоўк даслаў Свеціловічу ліст і выбавіў з хаты. А пасля з паловаю людзей, з трыма старымі хлопцамі і навічкамі, паехалі да Балотных

Ялін. Сам Дубатоўк спешыўся тады і падкраўся да цябе ззаду. Але ты паспеў ужо даць некалькі стрэлаў, і нашы неабстраляныя кампаньёны кінуліся ўцякаць. І яшчэ адно дзіва: ты наклаў у патыліцу Дубатоўку і так даў яму, што ён дагэтуль не сядае на каня, сядзіць дома. Дома ён і сёння, так што ты сцеражыся, хлоп. А цябе, Беларэцкі, ён добра тады абкруціў. Ты і ачуняць не паспеў, а ўжо яго падсаджваў на каня. Затое з Свеціловічам нам пашанцавала. Варона дачакаўся яго, спытаў коратка: «Адкрыў дзікіх паляўнічых?» Той толькі плюнуў у бок Вароны. Тады Варона стрэліў. І тут з'явіўся ты, страляў па нас, аднаму прастрэліў руку. А пасля ты пабіў станавога, а пасля цябе выклікалі ў павет не без нашай дапамогі. Ты, напэўна, не ведаеш, што цябе павінны былі заарыштаваць, а пасля забіць па дарозе «пры спробе ўцячы». Але ты быў занадта спрытны, д'ябал, табе пашанцавала, і ліст губернатара прымусіў суддзю адмовіцца дапамагаць нам. Ён на каленях маліў Дубатоўку, каб цябе хутчэй застрэлілі. Дарэчы, Варона чакаў тады Свеціловіча пад дрэвамі, страляў па ім і ўжыў такую хітрасць, якой ты ніколі не адгадаеш.

— Чаму не, — раўнадушна сказаў я. — Дубатоўк выдраў з часопіса ў Яноўскай некалькі аркушаў, і з іх зрабілі клак. Вы думалі, што я, калі выб'юся жывым з вашых лап, грунтуючыся на гэтым, буду падазраваць Бермана.

Скручаныя, падобныя на кіпцюры пальцы Стахевіча драпалі сабе грудзі.

— Д'ябал! — ледзь прахрыпеў ён. — Не трэба было нам звязвацца з табою. Але хто думаў? Вось яны, не думаючыя, ляжаць тут зараз, як торбы з дзярмом, нінавошта не вартыя.

Пасля зноў пачаў гаварыць:

— І вось яшчэ наша памылка. Глядзелі за табою, а за хлопамі пакінулі глядзець, за Рыгорам пакінулі. А яны дабраліся да нас, да схованкі, да патаемных сцежак...

І нават ля крыжа Рамана табе пашанцавала, мы забілі кураня, выпусціўшы цябе з лап. Забілі на скаку, не спыняючыся. Кокнулі — і далей. І пасля толькі пайшлі праверыць. І нават тут нарваліся на цябе, як дурні. А пасля знікнуў Гарабурда, і мы вырашылі не вяртацца ў гэтую ноч дахаты, перш чым не здабудзем цябе. Вось і здабылі...

— Хопіць, — сказаў я. — Слухаць брыдка. І хоць тыварты пятлі — мы не знішчым цябе. Мы далі слова. Пасля мы разбяромся і, калі ты будзеш вельмі вінен, перадамо цябе ў губернскі суд, а калі не — выпусцім.

Я не паспеў сказаць гэта, як Стахевіч раптам адштурхнуў двух мужыкоў, вырваўся і з надзвычайнай хуткасцю пабег да коней. Вартавому ён даў нагою ў жывот, ускінуў цела ў сядло і з месца ўзяў намётам. На хаду ён павярнуўся і здзекліва крыкнуў:

— Чакай яшчэ губернскага суда! Я зараз да Дубатоўка, ён на вас, хлопцы, усю шляхту ваколіцы падыме. Вас тут на месцы пакладуць. І табе, хамло сталічнае, не жыць, і шалаве тваёй таксама. А ты, дурны Міхал, ведай, гэта я твайго брата нядаўна стаптаў. Тое самае і табе будзе.

Міхал павёў у паветры руляй доўгай стрэльбы і, не цэлячыся, націснуў на спуск. Стахевіч моўчкі, быццам так трэба было, кульнуўся з сядла, абаранкам некалькі разоў перавярнуўся на зямлі і заціх.

Міхал падышоў да яго, узяў за аброць каня і стрэліў Стахевічу проста ў лоб. Пасля ён сурова сказаў мне:

— Ідзі наперад, атаман. Няўчасна ты з імі добры стаў. Дабрыню прэч. Абыдзецца без марцыпанаў цыганскае вяселле. Ідзі, мы цябе дагонім. Ідзі па дарозе, да Халоднай лагчыны. І не павяртайся.

Я пайшоў. І сапраўды, якое я меў права міндальнічаць з імі. Каб гэты здраднік дабраўся да Дубатоўка — яны б усё наваколле залілі крывёй. А Дубатоўка трэба хутчэй узяць. Трэба ўзяць сёння ж уначы.

Ззаду пачуліся стогны і лямант. Там дабівалі параненых. Я паспрабаваў павярнуцца — і не мог. Шчыпала ў глотцы. Але хіба яны не зрабілі б з намі яшчэ горшага?

Дагналі яны мяне на палове дарогі да лагчыны. Імчалі на дрыкгантах з віламі ў руках.

— Сядай, атаман, — дабрадушна сказаў мне Міхал. — З гэтымі скончылі. А прорва-матухна не раскажа нікому. Вось як з імі...

Я зусім спакойна адказаў:

— Ну і добра. А зараз хутчэй да Рыгора. Пасля, разам з ім, пойдзем на дом Дубатоўка.

Мы дамчалі да лагчыны ў вокамгненне і там таксама заспелі самы канец трагедыі. Рыгор і два дзесяткі мужыкоў збіліся ў лагчыне. Рыгор стрымаў слова, хоць са спайманымі ўдзельнікамі палявання не ўчынілі расправы, як з канакрадамі, а проста забілі. Перад Рыгорам ляжаў на спіне апошні з жывых: зусім маладзенькі шляхцюк. Я так і кінуўся да іх. А той, пазнаўшы па маёй вопратцы, што я не селянін, раптам закрычаў:

— Матулька! Матулька! Мяне забіваюць!

— Рыгор, — узмаліўся я. — Не трэба, ён зусім яшчэ малады:

І я ўчапіўся ў яго плячо, але тут мяне схапілі ззаду за рукі.

— Прэч! — гаркнуў Рыгор. — Бярыце яго! Боўдур! А яны дзяцей з Яркоў шкадавалі? Тыя з голаду здыхалі... з голаду! Чалавек есці, па-твойму, не мае права?! У яго матулька! А ў нас матулек няма?! А ў Міхалавага брата не было матулькі? А ў цябе яе няма, што ты такі добры?! Слюнцяй! А ты ведаеш, што гэты вось «хлопчык малады» сёння Сымона, Зосьчынага брата, застрэліў! Нічога, мы ім зараз учынім, як у песні, «Ваўкалакаву ноч».

І Рыгор, павярнуўшыся, з сілаю ўсадзіў вілы ў тое, што ляжала на зямлі.

Я адышоў убок і сеў на кукішкі. Мяне пачало ванітаваць. І я не адразу пачуў, як Рыгор, калі забітых пакідалі ўжо ў багну, падышоў і ўзяў мяне за плечы:

— Дурань ты, дурань... Ты думаеш, мне не шкада? Сэрца крывёю абліваецца. Спаць спакойна, здаецца, ніколі ў жыцці не змагу. Але цярпець дык цярпець, а калі пачалі ўжо — дык да канца. Каб ніводнага не пакінуць, каб толькі мы адны, пад кругавой парукай, ведалі. «Малады»! Ты думаеш, не вырасце з гэтага маладога стары гад? Вырасце. Асабліва пры ўспамінах аб гэтай ночы. Так будзе нашага брата, хлопа, шкадаваць, што дзіву дасіся... Пусці яго — суд сюды з'едзецца. Мяне з табою — у пятлю. Міхала і астатніх — на катаргу. Крывёю наваколле зальюць, шмагаць будуць так, што мяса з задніц шматкамі паляціць.

— Я разумею, — адказаў я. — Трэба, каб ніводны з іх не ўцёк. Я толькі што Свеціловіча ўспомніў. Трэба, браце, падавацца да апошняга з жывых, да Дубатоўка.

— Добра, — ласкава прабурчаў Рыгор. — Вядзі.

І атрад рушыў за мною ў бок дома Дубатоўка. Мы ляцелі намётам, і коні імчалі так, як быццам за намі гналіся ваўкі. Месяц цьмяна асвятляў нашу кавалькаду: кажухі мужыкоў, вілы, змрочныя твары, пудзілы на некаторых конях. Нам давялося агінаць балота вакол Яноўскай пушчы. Мы даволі доўгі час марудзілі там, пакуль перада мною не ўзніклі верхавіны ліп ля дома Дубатоўка. Месяц заліваў іх мярцвячым святлом, і, нягледзячы на позні час, пад ліпамі міргалі тры ружовыя агеньчыкі.

Я загадаў людзям спешыцца сажняў за пяцьдзесят ад дома і акружыць яго шчыльным колам. Паходні трымаць у руках і быць гатовымі па сігналу запаліць іх. Загад выканалі моўчкі.

Сам я пералез праз нізенькую агароджу ў сад і пайшоў між радамі амаль ужо голых яблынь, залітых мігатлівым святлом месяца.

— Хто з коньмі? — спытаў я ў Рыгора, які ішоў за мною.

— Хлопец адзін. Ён, у выпадку чаго, сігнал нам дасць. Свішча надта ўжо добра. Проста салавей-разбойнік: коні на калені падаюць.

Мы краліся далей, і боты нашы мякка ступалі па мокрай, ільснянай, як мак, зямлі. Я падышоў да акна: Дубатоўк быў у пакоі і нервова хадзіў з кута ў кут, часта пазіраючы на вісячы гадзіннік.

Я ніколі не бачыў такога твару. Гэта быў другі Дубатоўк, і тут, сам-насам з сабою, вядома, сапраўдны. Куды падзеліся дабрыня, памяркоўнасць, ружовы твар каляднага дзеда. Гэты твар быў жоўты, з моцна апушчанымі кутамі рота, з рэзкімі зморшчынамі ля носа. Вочы запалі, глядзелі мёртва і змрочна. Я жахнуўся, пабачыўшы яго, як жахаецца чалавек, які праспаў ноч у ложку і толькі ранкам знайшоў у ім змяю, якая залезла туды для цеплыні.

«Як я мог быць такім бестурботным?» — з жахам падумаў я.

Не, з ім трэба было канчаць. Ён сам — больш небяспечны, чым дзесяць дзікіх паляванняў. Добра, што я пазбавіў яго тады на некаторы час магчымасці ездзіць верхам, іначай мы б не выкруціліся. Ён бы не паехаў проста на кулі, ён бы не драбніў атрад, ён бы раздушыў нас з Рыгорам, як кацянят, капытамі сваіх коней, і зараз мы ляжалі б недзе на дне прорвы з выкалатымі вачыма.

— Дасылай сюды, Рыгор, чалавек сем. Яны будуць выбіваць дзверы тут, вы — з параднага ўвахода, а я паспрабуюададраць дошку ў імшаніку і кінуцца на яго. Толькі ўсім адразу.

— А можа, паспрабаваць выдаць сябе за паляванне, пастукаць у акно і, калі адчыніць, схапіць. Сваякоў ён на гэтую ноч адаслаў, сам у доме, — прапанаваў Рыгор.

— Нічога не атрымаецца. Гэта хітры ліс.

— А ўсё ж паспрабуем. Разумееш, крыві шкада...

— Глядзі, хлопча, каб горш не было, — пакруціў я галавою.

Коней падвялі да дома. Людзі мае загаманілі. Я з радасцю пабачыў у акно, што твар пана Рыгора прасвятлеў, як быццам ён дачакаўся нарэшце. Ён пайшоў са свечкаю да дзвярэй, але раптам спыніўся, непаразуменне адбілася на яго твары. У той самы момант ён дзьмухнуў на свечку, і пакой патануў у цемры. Справа зрывалася.

— Хлопцы! — крыкнуў я. — Акружайце дом.

Пачуўся тупат ног, воклікі. З двух бакоў пачалі ламаць дзверы, біць у іх цяжкім. А з мезаніна адначасова прагучаў стрэл.

І адразу за стрэлам пачуўся з вышыні нялюдскі ад ярасці голас:

— Абклалі, сабакі. Чакайце! Шляхта так не здаецца!.. З другога акна мезаніна вылецеў сноп агню. Дубатоўк, відаць, перабягаў ад акна да акна, страляючы ва ўсе бакі па падступаючых людзях.

— Ого, ды ў яго там цэлы арсенал, — ціха сказаў Рыгор.

Словы яго перарваў яшчэ адзін стрэл. Малады хлопец поруч са мною пакаціўся па зямлі з прабітай галавою. Дубатоўк страляў лепш за лепшага паляўнічага-палешука. Яшчэ стрэл.

— Прыціскайцеся да сцен! — крыкнуў я. — Там кулі не дастануць.

Кулі нашых хлопцаў, што стаялі за дрэвамі, адбівалі трэскі ад бярвенняў мезаніна, пырскалі атынкоўкай. Але зразумець, у якім акне з'явіцца Дубатоўк, было нельга. Перамога наша абяцала быць Піравай.

— Андрэй! — грымеў голас Дубатоўка. — Ты таксама атрымаеш сваё. Па маю душу прыйшлі, д'яблы — аддасцё свае душы!

— Паходні паліце, — крыкнуў я. — Кідайце іх на дах. У той самы момант палыхнулі вакол дома тры дзесяткі агнёў. Некаторыя з іх, апісаўшы ў паветры паўкола, падалі на дах і, распырскваючы вакол сябе смалу, паступова пачыналі працягваць языкі полымя да акон мезаніна. У адказ на гэта пачуўся роў.

— Сорак на аднаго! Ды і то агнём карыстаецеся! Высакароднасць!..

— Маўчы! — крыкнуў я. — А на адну дзяўчыну дваццаць коннікаў выпускаць высакародна?! Унь яны, твае коннікі, зараз у багне ляжаць. І ты там будзеш.

У адказ ля маёй галавы цокнула аб атынкоўку куля.

Дом Дубатоўка палаў. Жадаючы быць далей ад сценкі, я мятнуўся да дрэў і ледзь не ўпаў: куля караля Стаха праспявала ля майго вуха. Нават валасы заварушыліся.

Полымя ахапіла мезанін. Я ускінуў рэвальвер і адначасова стрэліў.

Дубатоўк дзіка завыў.

Полымя заглядвала ў мезанін, і там, у агні, самі пачыналі страляць загадзя зараджаныя стрэльбы. Мы супакоіліся і зусім былі адышлі ад дома, які ператварыўся ў суцэльную свечку, калі

раптам голас хлопца ля коней устрывожыў нас. Мы глянулі ў той бок і ўбачылі Дубатоўка, які вылез з закінутага сутарэння сажняў за пяцьдзесят ад дома.

— А-ах, — прарыпеў зубамі Рыгор. — Забылі, што ў лісіцы ў нары заўжды другі ход ёсць.

А Дубатоўк, пятляючы, бег у напрамку да Волатавай прорвы. Правая рука яго вісела. Відаць, я ўсё ж пачаставаў яго.

Ён бег з хуткасцю, нечаканай для яго таўшчыні. Я стрэліў з рэвальвера — далёка. Цэлы залп вырваўся са стрэльбаў маіх людзей — хоць бы што. Дубатоўк прабег невялікі паплавок, з маху кінуўся ў балота і пачаў скакаць па купінах, як коннік, з такой хуткасцю, што ў вачах мільгацела. Апынуўшыся на бяспечнай адлегласці,ён пагразіў нам кулаком.

— Трымайцеся, пацукі!.. — даляцеў да нас ягоны страшны голас. — Ніводнаму з вас не жыць. Шляхецтвам, імем, крывёю сваёй клянуся — выражу вас разам з дзецьмі.

Мы былі ўражаны. Але ў гэты момант свіст такой сілы, што ў мяне забалела ў вушах, аддаўся над балотамі. Я глянуў у той бок і пры святле пажара ўбачыў, як хлопец торкнуў аднаму каню проста пад хвост калючы сухі бадзяк. Зноў свіст...

Статак дзіка гігатаў. Коні ставалі дыбам. Зразумеўшы план гэтага юнака, мы кінуліся да дрыкгантаў і пачалі сцябаць іх. У наступны момант ахоплены панікаю статак памчаў да Волатавай прорвы. На некаторых конях яшчэ сядзелі постаці фальшывых паляўнічых.

Дзікі пошчак капытоў раздзёр ноч. Коні імчалі як шалёныя. Дубатоўк, відаць таксама зразумеў, чым гэта пахне, і, азваўшыся шалёным крыкам, пабег з хуткасцю роспачы балотнай сцежкай. Ён бег, а коні за ім, прывучаныя да гэтага тым, хто зараз уцякаў ад іх.

Мы бачылі, што шалёна імчала дзікае паляванне караля Стаха, пазбаўленае коннікаў. Развяваліся ў паветры грывы, твань ляцела з-пад капытоў, і зорка гарэла над галовамі коней.

Бліжэй! Бліжэй! Адлегласць паміж Дубатоўкам і шалёнымі коньмі змяншалася. У адчаі ён збочыў са сцежкі, але звар'яцелыя коні збочылі таксама.

Крык, споўнены смяротнага жаху, даляцеў да нас:

— Ратуйце! О, кароль Стах!..

У той самы момант ногі ягоныя з маху ўскочылі ў бездань, а коні наздагналі яго і пачалі правальвацца. Першы дрыкгант змяў яго капытамі, уціснуў глыбей у смярдзючую багну і загігатаў. Забулькацела, загаварыла дрыгва.

— Кароль Стах!.. — даляцела да нас.

Пасля нешта вялізнае заварочалася ў глыбіні, глытаючы ваду.

Пасля коні і чалавек зніклі, і толькі вялікія булькі засіпелі на паверхні.

Як свечка, палаў палац апошняга «рыцара», рыцара начных разбояў і воўчага сонца. Мужыкі ў вывернутых кажухах і з віламі ў руках стаялі вакол дома, залітыя чырвоным трывожным святлом.

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

Я з'явіўся дадому брудны, стомлены і, калі вартаўнік адчыніў мне дзверы, адразу прайшоў да сябе. Нарэшце ўсё было скончана, нарэшце раздушылі чыгунную дзікую сілу. Я быў такі выснажаны, што, запаліўшы свечку, ледзь не заснуў на ложку, напалову сцягнуўшы адзін бот. А калі я лёг, усё паплыло перад маімі вачыма: балоты, полымя над домам Дубатоўка, мерны пошчак капытоў, коннікі, жудасныя крыкі, твар Рыгора, які апускае цяжкія габлі-трайчаткі. І толькі потым цяжкі сон зваліўся на мяне, уціснуў галаву ў падушку, як конь капытом галаву Дубатоўка. Нават у сне я жыў падзеямі ночы: бег, страляў, скакаў і адчуваў сам, што ногі мае рухаюцца, бягуць у сне.

Дзіўным было маё абуджэнне, хоць і нельга было назваць абуджэннем мой стан. Яшчэ ў сне я адчуваў, што нешта цяжкае, вельмі нядобрае робіцца вакол, што ў пакоі гусцее цень нейкай невымоўнай, апошняй бяды. Быццам нехта сядзеў у мяне на нагах, так наліліся яны цяжкім. Я адкрыў вочы і пабачыў смерць пад руку з Дубатоўкам, які смяяўся. І я разумеў, што яны ў сне, што вочы я адкрыў у сне, што бяда па-ранейшаму жыве ў гэтым пакоі, рухаецца, што яна ўсё набліжаецца і набліжаецца.

Балдахін навісаў, плыў на мяне, душыў, і кутас яго вісеў проста перад маімі вачыма. Сэрца шалёна калацілася. Я адчуваў, што невядомае ідзе на мяне, што яго цяжкія крокі гучаць на пераходах, і я адчуваў, што я быў слабы, бездапаможны, што ўся мая сіла зараз дарэмная, што нейкае дурное страшыдла зараз схопіць мяне, або нават не мяне, а яе, і хрупнуць тонкія, слабыя яе костачкі. А я буду толькі глядзець. Я круціў галавою і мыкаў, не ў змозе адбіцца ад кашмарнага цяжкага сну.

І раптам полымя свечкі пацягнулася да столі; стала чэзнуць, чэзнуць, знікаць і згасла нарэшце, знясіленае барацьбою з цемрай.

Я глянуў на дзверы — яны былі прыадчынены. Зноў цяжкі кашмар. Месяц распляскаў святло па сценах пакоя, паклаў квадраты на падлогу, блакітным туманом курыўся ў праменнях дымок ад згаслай свечкі.

Застагнаў, не маючы змогі варухнуцца. І раптам пабачыў два вялікія бессэнсоўныя вокі, якія глядзелі на мяне з-за парцьеры. Гэта было жахліва! Я хітнуў галавою: твар жанчыны глядзеў на мяне. І яшчэ каб вочы яе глядзелі, а то яны ўтаропіліся кудысьці за мяне, быццам бачылі мяне наскрозь і ў той жа час не заўважалі.

Пасля невядомая істота паплыла да мяне. Я глядзеў на яе, на Блакітную Жанчыну Балотных Ялін, і валасы мімаволі ўставалі дыбарам на маёй галаве, хоць я і не ведаў, ява гэта ці сон, сон майго знясіленага цела. Гэта была яна, жанчына з партрэта, падобная на Надзею Яноўскую і адначасова зусім не падобная: даўжэйшы твар, спакойны, як смерць, зусім не той выраз на ім, постаць больш высокая і моцная. І вочы глядзелі мёртва і пранікнёна, глыбокія, як вір.

Блакітная Жанчына плыла. Вось яна ў сваім дзівосным блакітным уборы, які зіхацеў пераліўчатымі хвалямі пад туманным святлом месяца, выплыла на сярэдзіну пакоя, выцягнула рукі, мацаючы імі паветра.

Я адчуваў, што канчаткова прачнуўся, што ногі мае скутыя, што дзівосная здань рухаецца да мяне, цягне свае рукі.

«Што здарылася з гаспадыняй, можа, яна мёртвая зараз, нездарма ж такі невымоўны жах ахапіў маю істоту толькі што, у сне?»

Гэтая думка надала мне сілы. Я збіў нагамі коўдру, прыгатаваўся да нападу і, калі яна падплыла бліжэй, схапіў яе проста за выцягнутыя рукі. Адна мая рука трапіла ў нейкі, унікаючы пальцаў, флёр, другая моцна схапіла за штосьці невымоўна тонкае, слабае і цёплае.

Моцна ірвануў яе на сябе, пачуў крык і зразумеў сутнасць з'явы, калі пабачыў, як грымаса жаху зноў села на твар, як у вачах, быццам абуджаных ад сну, з'явіўся асэнсаваны агеньчык, выраз болю, трывогі і яшчэ чагосьці, што бывае ў вачах сабакі, які чакае ўдару. Блакітная Жанчына закалацілася ў маіх руках, не здольная ад нечаканасці сказаць ані слова, а пасля сутаргавае рыданне вырвалася з яе вуснаў.

І схожасць, новая схожасць гэтай істоты з Надзеяй Яноўскай была такой моцнай, што я, не памятаючы сябе, крыкнуў:

— Надзея Раманаўна, супакойцеся! Што вы, дзе вы?!

Яна і слова не магла сказаць. Пасля жах споўніў яе зрэнкі.

— А! — крыкнула яна коратка і спуджана і затрэсла адмоўна галавой.

Абуджаная з самнамбулічнага стану, яна яшчэ нічога не разумела, толькі жах поўніў яе маленькае, дрыжачае, як каццяня, сэрцайка. І нязнаны жах споўніў і мяне таксама, бо я ведаў, што ад такога раптоўнага спуду людзі часта вар'яцелі або заставаліся нямымі.

Я не ведаў, што я раблю, як мне ратаваць яе ад гэтага, і стаў укрываць пацалункамі яе духмяныя доўгія валасы, спуджана дрыжачыя павекі, халодныя рукі.

— Надзея Раманаўна! Надзея Раманаўна! Любая! Пяшчотная! Не бойся, я тут, я з табою, я знішчыў караля Стаха! Ніхто ўжо не парушыць твой добры ласкавы спакой!

Павольна, вельмі павольна вярталася да яе прытомнасць. Зноў адкрыліся вочы. І я пакуль пакінуў цалаваць яе, хоць гэта было цяжэй за смерць.

— Што гэта? Што за пакой? Чаму я тут? — прашапацелі вусны.

Я ўсё яшчэ трымаў яе ў абдоймах, танюткі сітняг, без якога я, моцны, адразу зламаюся. Я трымаў яе, бо ведаў: пакінь — і яна ўпадзе.

А ў вачах яе між тым плескануўся такі жах, змешаны з такой вар'яцінкай, што я пашкадаваў, нашто я абудзіў яе ад гэтага.

— Надзея Раманаўна! Супакойцеся, калі ласка! Не трэба больш, усё-ўсё будзе добра, светла для вас на зямлі.

Яна не разумела. Чорны цень поўз аднекуль з кута да яе (відаць, хмара засноўвала месяц), і яна глядзела на яго, і зрэнкі, і вочы яе ўсё шырыліся, шырыліся, шырыліся.

Вецер раптам загрукацеў недзе напаўадарванай аканіцай, завыў, заскуголіў у коміне. І гэта было так неймаверна падобна на далёкі грукат капытоў дзікага палявання, на нялюдскі крык: «Раман! Раман! Выходзь!»

Гэта было так падобна на ўсё гэта, што я здрыгануўся.

А яна раптам закрычала, прыціснулася да мяне так, што я адчуваў яе грудзі, калені пад тонкім флёрам, учапілася за мяне, і я, падначалены нястрымнаму жаданню, прыціснуў яе ўсю да сябе.

— Клятыя грошы. Клятыя грошы! Забярыце, забярыце мяне адсюль, забярыце!.. Моцны, вялікі чалавек мой, уладар, забяры мяне адсюль! Тут так жахліва, так холадна, так змрочна! Я не жадаю, не жадаю паміраць...

Я перанёс яе на ложак, лёгкую, як дзіця. «Капыты» ўсё яшчэ грукацелі за акном. Яна так учапілася ў мае рукі, што я адчуў сапраўдны боль.

— Забярыце, забяры мяне!.. Я не магу, я не магу.

І ўсё прыціскалася да мяне, лавіла мой позірк, хавалася за мае грудзі.

Я адварочваў твар, я задыхаўся. Але я не мог. Гэта наляцела, як навала, і слабы чалавек не вытрымаў. Усё злілося, закруцілася ў чырвоным кругавароце, і яна даравала мне нават боль.

Месяц схаваўся за домам, апошнія адбіткі яго праменняў падалі на яе твар, на радасныя спакойныя вочы, якія глядзелі ў змрок.

Амаль рыдаючы ад шчасця, якое заўжды валодае першым і першай, калі ніхто раней не кранаўся так тварам да тваёй рукі, я з жахам думаў, што яна, мая першая, адзіная, назаўжды свая,магла, каб гэтыя мярзотнікі дабіліся свайго, быць падобнай чымсьці на тую, у Кульшавым доме.

Гэтага не будзе. Пяшчотай, вечнай удзячнасцю, дабрынёй — я зраблю так, што знікне яе самнамбулізм. Ніводнага крыўднага, ніводнага чэрствага слова не скажу я ёй. Хіба не вянчаў нас нясцерпны жах, чаканне смерці, агульнае жаданне звычайнай цеплыні? Хіба не рызыкавалі мы адно для аднаго? Хіба не ўзяў я яе, як найвялікшае шчасце, на якое не спадзяваўся?

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Вось і ўсё.

Праз дзень упершыню за ўсе гэтыя дні сонца разам з лёгкім ранішнікам пала на балоты, пусткі, на старыя яліны парку, на замшэлыя муры маёнтка. Высокая трава была абсыпана белай халоднай пудрай і ружавела ад першых праменняў сонца. І муры былі ружовымі, нават памаладзелі, прачнуўшыся ад цяжкага сну, які вісеў над імі тры гады. Молада блішчалі вясёлкавыя шыбы, сонца кідала халодныя праменні, і адхонні пацелі ад яго, трава на іх рабілася мокрай.

Мы ад’язджалі. Вазок стаяў ля дзвярэй маёнтка. Небагатыя пажыткі прывязалі ззаду. Я вывеў з дома Яноўскую, захутаную ў лёгкую футрачку, сам сеў поруч. Мы кінулі апошні позірк на палац, у якім зведалі боль і пакуты і знайшлі, нечакана для сябе, каханне, за якое не шкада аддаць і жыццё.

— Што ты думаеш рабіць з гэтым? — спытаў я.

Яноўская знізала плячыма, як ад марозу:

— Старыя рэчы аддам музеям, астатнія няхай бяруць тыя мужыкі, што сталі на абарону сваіх хат і выратавалі мяне. Палац таксама аддамо пад бальніцу, школу і яшчэ што-небудзь. — І горка ўсміхнулася: — Маярат! Столькі крыві, такі клубок подласці, падступных злачынстваў, інтрыг... І дзеля чаго? Жменька золата... Не, Бог з ім, з маяратам, гары ён ясным агнём!..

Я абняў яе за тонкія плечы:

— Я так і думаў. Так і трэба было рабіць. Непатрэбна гэта нам, калі мы адшукалі адно аднаго.

Мы пакінулі ў палацы новую ахмістрыню, удаву з дзіцёнкам, якіх я падабраў тады на дарозе. Слугі таксама засталіся на сваіх месцах.

І мы вельмі лёгка ўздыхнулі, калі палац знік за паваротак алеі. З кашмарам было скончана.

Калі мы выехалі з парку на верасовую пустку, што ішла ля Волатавай прорвы, і брама зачынілася за намі апошні раз, і ўжо заскакалі вакол курганы і пусткі, я пабачыў чалавека, які стаяў ля дарогі.

Чалавек гэты пайшоў вялікімі крокамі нам насустрач, затрымаў за аброць каня, і мы пазналі Рыгора. Ён стаяў у сваім кажусе, зблытаныя валасы падалі з-пад магеркі на лоб, на добрыя дзіцячыя вочы.

Я скочыў з воза.

— Рыгор, дарагі, што не прыйшоў развітацца?

— Хацеў адных вас сустрэць. Цяжка мне пасля гэтай гісторыі. Вы малайцы, што едзеце, тут паўсюль вам усё будзе нагадваць старое.

Палез рукою ў кішэнь і, пачырванеўшы, дастаў гліняную ляльку.

— Гэта вам, Надзея Раманаўна... Можа, паставіце дзе... успамінаць будзеце...

Надзея ўзяла яго за скроні і пацалавала ў лоб. Пасля дастала з вушэй завушніцы і паклала іх у шырокую чорную далонь паляўнічага.

— Будучай жонцы тваёй.

Рыгор крэкнуў, пакруціў галавою.

— Бывайце вы... Бывайце, лепей, хутчэй... А то адзін грэх з вамі: разрумзаешся, як баба... Дзеці вы. Жадаю вам найлепшага, самага добрага на зямлі.

Я расцалаваў Рыгора ад усяе душы.

— Рыгорка! Лепшы друг! Едзем з намі, перасядзіш той час, калі будуць шукаць Дубатоўка і іншых. А то яшчэ які-небудзь паскуднік заб'е цябе.

Вочы Рыгора пасуровелі, і жолвы зарухаліся на сківіцах.

— Го, няхай паспрабуе!..

І рукі ягоныя сціснулі доўгую стрэльбу, аж жылы на іх надзьмуліся.

— Зброя ў руках. Вось яна. Няхай возьмуць! Не паеду. Маё царства — лясы. І гэтае царства павінна быць шчаслівым.

— І я веру ў гэта, — проста сказаў я.

Калі мы ад'ехалі далёка, я з узлесся яшчэ раз пабачыў на кургане ягоны вялізны сілуэт. Рыгор стаяў на фоне чырвонага неба з доўгай, вышэй галавы, стрэльбаю ў руках, у кажусе поўсцю наверх, які абцягваў яго ладную постаць. Вецер развейваў яго доўгія валасы. Цар лясных мясцін!..

Мы праехалі лясы праз дзень, таксама на світанні. Тут толькі я зразумеў, якая была розніца паміж яноўскім наваколлем і гэтай зямлёй. Мокрая высокая трава, сонца, радасць...

І над чыстымі хаткамі бусліныя вялізныя гнёзды і блакітная цішыня.

Гэта была новая, зусім іншая Беларусь. Там-сям стаялі на рэчках сукнавальні — зусім іншая эпоха, іншыя звычаі.

Як жа павінна была глядзець на гэта мая жанчына з васемнаццатага стагоддзя, калі нават я за гэтыя тыдні забыў усё гэта!..

Я глянуў на тую, што мелася стаць маёй жонкай. Вочы яе былі шырока і шчасліва раскрытыя, яна прыціскалася да мяне і часам перарывіста ўздыхала, як дзіця пасля слёз.

Мне вельмі хацелася, каб ёй было яшчэ лепш. І я часам нахіляўся і цалаваў яе тонкую руку.

Непакоіла мяне ў той час, ды і пазней, толькі яе хвароба. Таму я наняў на ўскраіне горада маленькую хатку з садам. Урачы сказалі, што гэта пройдзе ад спакойнага жыцця.

І сапраўды, гэта прайшло, калі яна пражыла са мною два месяцы і сказала, што ў нас будзе дзіця.

Мы акружылі адно аднаго такім морам пяшчоты і ўвагі, такой любоўю, што я нават праз дваццаць год здзіўляўся гэ-

таму, як сну. Нам было добра паўсюль, нават у Сібіры, куды я трапіў у 1902 годзе. Яна была больш чым проста жонкай, яна была другам да смерці.

Мы жылі доўга і шчасліва, як у песні:

Пакуль сонца ззяла над грэшнай зямлёю...

Але яшчэ і зараз я часам бачу ў сне сівыя верасовыя пусткі, чэзлую траву на паверхні прорваў і дзікае паляванне караля Стаха, якое скача па дрыгве. Не бразгаюць цуглі, моўчкі сядзяць у сёдлах прамыя постаці коннікаў.

Вецер развейвае іх валасы, плашчы, грывы коней, і самотная гострая зорка гарыць над іхнімі галовамі.

У жахлівым маўчанні шалёна скача над зямлёю дзікае паляванне караля Стаха.

Я прачынаюся і думаю, што не прайшоў ягоны час, пакуль ёсць цемра, голад, нераўнапраўе і цёмны жах на зямлі. Яно — сімвал усяго гэтага.

Хаваючыся напалову ў тумане, імчыць над змрочнай зямлёй дзікае паляванне.

*1950, 1958*

# СІВАЯ ЛЕГЕНДА

## I

Светлейший отец, подавай нам деньгу,
Иль скарб твой достанется в руки врагу.
*К. Меер*

На пачатку мая ў Быхаў прымчаў на ўзмыленым кані ганец.

Конь зваліўся ля самай брамы замкавай вежы, а коннік пераляцеў цераз яго галаву і, як мёртвы, расцягнуўся ў пыле.

Гэты ледзь жывы чалавек прывёз мне загад майго гаспадара, пана Аляхно Кізгайлы. Я, Канрад Цхакен, павінен быў не марудзячы пакінуць Быхаў і на чале сваіх трох соцень швейцарцаў спяшацца ў замак Кізгайлы. Разам з граматай прыбылі грошы на куплю новых коней і вусны загад аб тым, што жывёлы не трэба шкадаваць.

На пытанне, што прымусіла пана быць такім паспешлівым і марнатраўным, ганец ледзь здолеў прахрыпець:

— Воўк вырваўся з логава...

Яму ўжо сядлалі другога каня, і праз хвіліну ён памчаў у трэці замак Кізгайлы, у Збароў.

Я не ведаў, хто быў гэты воўк. Але швейцарац, калі яму добра плацяць, не патрабуе паўторнага загаду.

Кізгайлу было пажадана, каб мы загналі коней, — мы загналі іх і роўна праз суткі прыскакалі ў Кісцяні, дзе нас гэтак нецярпліва чакалі і дзе чагосьці так моцна баяліся. Баяліся, аднак мост, на наша здзіўленне, быў апушчаны.

Коней мы загналі бязлітасна, да дыхавіцы. Кізгайла страціў на гэтым не менш як сотню залатых. Але гэта была не мая справа. Я, Канрад Цхакен, ураджэнец кантона Швіц, вядома, не так раскідаўся б, але я ўжо дзевяць год бачыў гэтых людзей і ведаў,

што ад іх заўсёды можна чакаць самых вар'яцкіх учынкаў, за іх ніколі нельга паручыцца, таму што ў іх вецер свішча ў галаве.

Я жыў сярод іх дзевяць год, часам пачынаў нават думаць па-беларусінску, а ўсё ж ведаў іх ненашмат лепей, чым у першы дзень.

Яны будуць крычаць: «Воўк вырваўся з логава» і ніколі не зробяць ласкі толкам растлумачыць, што здарылася, каб добры хрысціянін зразумеў іх. Як быццам гэта наш абавязак — разумець іхнія тропы і іншасказы? Крый Божа, калі сярод іх з'явіцца першы паэт — яны затопяць вершамі ўвесь свет і нікому не дадуць спакою.

Яны трацяць шалёныя грошы на цэлы табун загадзя асуджаных коней — і пакідаюць пад'ёмны мост апушчаным.

Іхнія старыя крэпасці, як Смаляны, Ворша, Магілёў, — страшныя. Я не згадзіўся б абараняць іх нават пад пагрозай пазбаўлення раю (я ўсё адно, бадай што, туды не траплю), нават калі б мне плацілі не пяцьдзесят талераў, а сто. Сапраўды, каб выстаяць за такім плотам, патрэбна вялікая мужнасць і вялікая легкадумнасць. А яны не толькі выстойваюць, але і наносяць страты ворагу.

Яны ўмудрыліся, седзячы ў гэтых быдлячых загонах, адбіцца ад татар і сто год, абяскроўленыя, супраціўляліся Літве — гэтага досыць.

Я кажу вам, ніхто не назваў бы такія загарадкі крэпасцямі.

Аднак гэта не датычыцца замка Кізгайлы. Хто панюхае паветра каталіцкага храма, той ніколі не будзе такі, як раней. А новая знаць нюхнула яго ў ахвоту. Яна будуе такія замкі, быццам у кожны з іх вось-вось могуць прынесці крыж Пана Бога, які давядзецца абараняць ад усіх язычнікаў зямлі.

Ёсць славуты горад Кёльн. І ў гэтым славутым горадзе ёсць помнік дурасці і непасільнаму пачынанню — недабудаваны сабор. І ёсць паэт Газельберг, які хоць і размаўляе са мною на адной мове, а даволі-такі немалы дурань.

Дык вось ён напісаў, гэты дурань, аб тым саборы:

> Dem wunder deth ich duch nachlduffen.
> Sach nie kein grussern stein hauffen!*

Паглядзеў бы ён на замак майго гаспадара ў наваколлі Кісцянёў!

---

* Гэтаму дзіву дзівіўся і я: ніколі не бачыў такой вялікай кучы каменняў! *(ням.)*

Над шырокім лянівым Дняпром узвышаецца ўзгорак. Пяць тысяч тутэйшых мужыкоў нацягалі на яго зямлі, узвысілі і ўмацавалі. Цяпер рэчка ўпадае ў Дняпро двума рукавамі. Пасярэдзіне іх — груз-капец. Ён абведзены падвойным валам. А на яго верхавіне шэры каменны гмах.

Часам мне здаецца, што сатана менавіта тут абараняўся ад Усявышняга і што менавіта гэты пагорак бамбардзіравалі каменнямі яго анёлы. Чалавеку цяжка ўзвесці такое.

Пад'ёмны мост, брама з падвойнымі кратамі, муры вышынёю сорак пяць локцяў. А над імі, яшчэ вышэй, тры вежы.

Імя ім: Саляная, Стралецкая і Жабіна.

Унутры хапае месца для жылля, стайняў, палаца, дзвюх цэркваў і іншага, чаго і не злічыць.

І гэта звычайны замак двараніна, нават не першага па багацці і знатнасці. Бог няроўна дзеліць: ён дае порткі менавіта таму, у каго яны будуць спадаць з мізэрнага азадка.

У гэты вечар над вежамі свяціў месяц — такі пяшчотны, аліўкавы, ружовы, — так бы і з'еў яго. А ў байніцах таксама сям-там гарэлі агеньчыкі. І на сэрцы было лёгка, таму што ў нас, ваякаў, ад нараджэння заўсёды лёгка на сэрцы, калі мы жывыя.

У адказ на трохкратны гук нашага рога з вежы над брамай тройчы праспявала дуда, і гукі яе ў майскім вячэрнім паветры таксама былі асабліва сумнымі і празрыстымі. Гэта было такое паветра, што яго хацелася піць.

Хрушч ударыўся аб маю кірасу і ўпаў на грыву каня, бездапаможна перабіраючы лапкамі.

Хрушчы на гэтай вар'яцкай зямлі зусім такія, як на маёй радзіме, — гэта трохі прымірае.

На майго каня ўпаў прамень святла са спадзорнага акна.

— Хто ідзе?

— Святы Юры і Русь, — сказаў я звычайны кліч воінаў гэтай зямлі.

— Дзякуй Богу, — стаў жагнацца вартаўнік брамы. — Чакалі вас.

Пачалі круціць калаўрот, разышліся акаваныя жалезам дубовыя форткі, павольна папаўзла ўгору рашотка.

Нас сустрэў сам гаспадар — рэч небывалая. Я недарэмна намякаў на людзей, у якіх спадаюць порткі. Кізгайла якраз такі. Яму трыццаць чатыры гады, і ён худы, як бядняцкая каза. Але моцны і жылісты.

Ён паспрабаваў узяць майго каня за повад — здорава яму прыперла, калі ён аказвае наёмніку такую павагу, — але я спешыўся і сам павёў каня.

Кізгайлу мне давялося бачыць не больш як тры разы, я быў толькі яго кулаком у Быхаўскай акрузе. Нядаўна ён ажаніўся, я яшчэ не бачыў яго жонкі.

Але нават я здзівіўся той змене, што адбылася з ім. Спіна сагнулася, твар жоўты не па-чалавечы, вочы як у вар'ята. А быў жа ладны і станісты. І пастава высакародная.

— Ты добра зрабіў, што паспяшаўся, Канрад, — сказаў ён, — у мяне вялікая бяда.

І змоўк. І маўчаў, пакуль хлопцам не адвялі жыллё, пакуль не выкацілі ім бочку віна і не накармілі тлуста і смачна.

Я глядзеў на яго высокі вузкі лоб, на валасы, ледзь падвітыя на канцах, але без бляску, бы ў сухотніка якога-небудзь, на вузкія карыя вочы і думаў: «Вось і зразумей цябе, чорта, што ў цябе ў галаве».

Гэтых людзей нельга зразумець. То яны маўчаць, загадваюць без дай прычыны загнаць добрых коней.

Калі ўсіх напаілі і накармілі, ён падаў мне знак ісці за ім. Мы ішлі бясконцымі пераходамі і вісячымі галерэямі, ён ціха, як кот, я грукочучы, як вядро на цыганскім возе.

На вісячай пляцоўцы, вельмі прыдатнай для агляду, ён раптам спыніўся.

— Як ты думаеш, Цхакен, ці доўга можна абараняць такі замак?

Я паглядзеў на гмах, заліты месячным святлом, на кучы каменняў, што абцяжарвалі забрала, на вежы, што лёгка і трывала стаялі на зямлі.

Я ведаў, што на гэтых мурах установлены два дзесяткі гармат і пры іх, як сцвярджае роспіс, ёсць дзесяць custodes arcis et bombardarum magistros*.

А каб жэрці і піць, дык гэтага ў склепах хопіць на ўсіх — хоць год сядзі.

І ўсё ж я спытаў, якія сілы ёсць у замку акрамя маіх малайцоў. Ён адказаў, што на другім замкавым двары стаіць сотня конных кірасіраў.

— Нядрэнна, — сказаў я, — але ж гэта для вылазак, гаспадар. А нашто нам іхнія коні? Хіба што жэрці, калі будзем галадаваць? Вядома, гэта ежа для басурмана, але голад не цётка.

— Ёсць яшчэ каля дзвюх соцень дваран.

— Адчайныя і кончаныя душы, — сказаў я, — але зноў-ткі для бою ў шырокім полі.

---

* Замкавых вартаўнікоў і бамбардных майстраў *(лац.)*.

Словам, я зразумеў, што муры павінны абараняць мае хлопцы.

— Не нам жа каменне цягаць, пан Кізгайла? Дайце нам на гэтую работу з паўсотні мужыкоў.

— Нельга мужыкоў, — амаль ускіпеў ён. — Іх зусім не будзе.

Я пацiснуў плячыма:

— У чым усё ж справа, гаспадар?

— Пытаць будзеш потым. Кажы, колькі тут можна пратрымацца?

— Год, — суха сказаў я, — год я пратрымаюся тут нават супраць Сатаніiла. Два гады я пратрымаўся б тут з гаспадаром, які мне давярае. І я не паручуся нават за тыдзень абароны, калі гаспадар не давярае сам сабе.

— Цхакен, прыяцель, — сказаў ён трохі мякчэй, — я проста не хацеў пасяляць у тваёй галаве скажоных меркаванняў наконт лёгкасці і цяжкасці гэтай аблогі.

— Дык хто ўсё ж ткі ідзе?

— Хамы ідуць.

Мне не спадабаліся гэтыя словы. Швейцарцы ўсе былі мужыкамі яшчэ сто год назад. Але ён пакрыўдзіў не маіх землякоў. Акрамя таго, ён плаціў грошы. Таму я змоўчаў.

— Хамы ідуць, — паўтарыў ён.

— Гэта не вельмі страшна, — сказаў я, злёгку пакрывіўшы душою.

— Ты не бачыў іх у Віцебску, — сказаў ён, — калі там была смута. А я дагэтуль памятаю набат.

— Але ж трыццаць год у гэтым краі быў спакой.

— А цяпер яны ўзялі замак. У Рагачыку.

— Сорак міль па рацэ адсюль, — усміхнуўся я. — Хто паручыцца, што яны пойдуць у гэты бок?

— Яны пойдуць. Я гэта ведаю. Ім няма іншага шляху, акрамя таго, што вядзе праз Кісцяні. Праз мяне.

— І ўсё адно мы адседзімся. Вашы мужыкі, вядома, не зусім прыемная рэч. Але гэта не рэгулярная армія.

— Гэта горш, — ён пачынаў злаваць.

— Чаму?

— Таму што сёння ў іх ёсць галава.

Па маіх вантробах прабег мароз: гэта сапраўды горш. Але я ведаў, што гэтага чалавека яшчэ ў раннім юнацтве да смерці напужалі зверскія морды, сякеры, паходні, труп епіскапа, які валачылі за ногі па вуліцах, вынішчэнне яго гвардыі. Неразумна было б палохаць яго. Таму я адмахнуўся ад яго слоў.

— Глупства, — сказаў я, — галава ў час вайны рызыкуе не менш, чым ногі. Нашто ўжо быў хітры шведскі кароль, а і той не мінуў кулі.

— О, Канрад, вы ж біліся з ім, — раптам загарэўся ён. — Што гэта быў за чалавек?

Я ўсміхнуўся сам сабе. Клянуся касой Маці Божай, на гэтай зямлі кожны марыць аб славе. Нідзе не чытаюць і не распытваюць так прагна пра Аляксандра, Цэзара і іншых разбойнікаў. Нават гэты, якому сядзець бы дома і пладзіць дзяцей, чалавек хутчэй люты, чым мужны, загарэўся, ледзь патыхнула дымам вайны.

Я паціснуў плячыма з прытворнай абыякавасцю:

— Гэты галандскі мазіла Ван-Дэйк напісаў партрэт шведа, але ён не падобны. Ён на ім чысценькі, як хлопчык, якога мама вядзе ў царкву. А гэта быў здаровы мужалап, які лаяўся мужыцкімі словамі, як залатар з Вюрцбурга.

Яго зноў перасмыкнула пры слове «мужыцкі», але я супакоіў яго:

— Нават такая галава нічога не магла зрабіць з мужнасцю праціўніка. Будзем біцца.

Мы спусціліся ў другі ўнутраны двор. Тут, пад павеццю, віселі на сцяне кірасы, пырхалі коні і ля агнёў сядзелі кірасіры. На каменных плітах двара сям-там дыміўся гной. Худы мужычок у світцы падмятаў ляніва і непаваротліва.

Гаспадар, відаць, знайшоў на кім спагнаць гнеў.

— Дамінік, — сказаў ён, — калі двор будзе запаскуджаны раніцай, я пастаўлю цябе вышэй за сябе.

Я ведаў гэты брыдкі выраз. І мімаволі паглядзеў на верхні двор, дзе вялізным «пакоем» вымалёўвалася на сінявата-зялёным месячным небе шыбеніца.

— Зробім, паночак, — сказаў Дамінік, і я ўбачыў у цемры яго светлыя, трохі прытушаныя вейкамі вочы. Яны былі незвычайныя, гэтыя вочы.

У Еўропе я толькі аднойчы бачыў такія вочы, у мужыка пад Вольміштэтам, калі нямецкія сабраты ў кірасах забіралі ў яго сена. Праз хвіліну ён торкнуў віламі ў бок сяржанту. Калі я ўпершыню з’явіўся тут, то штохвіліны асцерагаўся такога ўдару: у іх ва ўсіх былі такія вочы. Але потым супакоіўся. Гэта ціхманы і вельмі цярплівы народ.

І толькі цяпер зноў штосьці непрыемнае варухнулася ў мяне ўнутры.

— Я б адправіў гэтага мужыка ў роднае сяло, — сказаў я.

— Зусім застацца без іх нельга, — раздражнёна сказаў Кізгайла, — а гэты яшчэ і католік. Я павінен яму верыць.

Я ўсміхнуўся сам сабе і падумаў, што чалавек, які аднойчы здрадзіў веры, можа здрадзіць і другі раз. Але я спахапіўся і не сказаў гэтага ўголас, з боязі абразіць гаспадара.

Сам гаспадар таксама быў свежы католік, а жонка яго, Любка, заставалася праваслаўнай. Жонак няма чаго прымушаць. Ды і сам Кізгайла — я ўпэўнены ў гэтым — адчувае сябе ў новым храме, як п'яны ландскнехт сярод святош.

І ўсё ж у замку ёсць невялічкі касцёл, патрон якога святы Антоній, і царква Пакрова Маці Божай. Іх падзяляе палац, і з яго вядуць у храмы дзве галерэі, кожная ў свой бок. Калі палац спаляць — храмы ўбачаць адзін аднаго і вельмі здзівяцца. Зрэшты, гэта не перашкаджае абедзвюм рэлігіям спаць на адной падушцы.

Ад гэтых гуллівых і, прызнаюся, не вельмі пачцівых думак мне стала весела. Ну які з гэтага чалавека католік?! Ён не ведае па-латыні ні inibus, ні atibus. І добра, бо я таксама ведаю ненашмат больш.

Ды і адкуль мне ведаць? Я не поп, я салдат. Я Канрад Цхакен, і я трыццаць год крывёю плачу за свой хлеб.

Шырокімі драўлянымі сходамі мы прайшлі ў малую залу замка. У гэтай малой зале маглі б учыніць папойку ўсе мае малайцы, ды яшчэ з дзеўкамі. І нікому не было б цесна.

Шэсць вялікіх, бы ў царкве, акон. У іх, акрамя звычайных зашклёных пераплётаў, уштукаваны яшчэ і вітражы. Зрэшты, іх пачалі ўжо вымаць, відаць, для таго, каб перанесці ў бяспечнае месца. Таму палова залы ў чырвоных, сініх і карычневых плямах, а другая заліта месячным святлом.

Каменная гладкая падлога, сцены, абабітыя цяжкай тканінай, фіялетавай з золатам. Каля сценак цяжкія і доўгія, як труны, разьблёныя скрыні, яны ж услоны. Паміж імі шафы, знарок адчыненыя, каб быў відаць залаты і срэбны посуд.

Як хутка яны пераймаюць ад фальшывых нямецкіх і італьянскіх купцоў, ад хлуслівых тамтэйшых дваран! Навучыліся і іншаму, зусім недарэчнаму: у пярэдняй сцяне — камін. Гэта пры тутэйшых страшных маразах! Ды я ні на што ў свеце не змяняю мясцовай печы!

У часе італьянскага паходу — а зіма была надта суровая для Ламбардыі — мне аднойчы давялося ўсю ноч праляскаць зубамі ля такога каміна. Я напалову засмажыўся і напалову змёрз, як пекар.

Затое я з асаблівай прыемнасцю ўбачыў ужо накрыты стол, крэслы без спінак каля яго, полымя свечак у шасцёх пяцісвечніках.

І яшчэ жанчыну ў крэсле, у баку ад стала.

Яны былі зусім не падобныя адно на аднаго, муж і жонка. У яго сухі жоўты твар, які пачынаў друзнуць, вочы фанатыка, шалёныя і вартыя жалю, валасы да плячэй. А яна — з яе анёла можна было б маляваць. Толькі, ведаеце, не дужа добрага анёла. Каса доўгая, залацістая, вочы цёмна-блакітныя і таксама трошкі шалёныя, як ва ўсіх тутэйшых. Рот ружовы і вельмі прыемны для пацалункаў, вясёлы і прынадны.

А сама як літая: усё на месцы, што павінна быць у жанчыны, па думцы ўсякага добрага швейцарца. Я, праўда, не ведаў, якая ў яе хада. У мясцовых жанчын вельмі зграбная хада. І яшчэ рукі, такія, як у гэтай: белыя, не худыя, з тонкімі пальцамі, якія звужаюцца пад канец.

Але што іх асабліва рабіла непадобнымі, дык гэта вопратка. Да вопраткі трэба прывучваць не адно пакаленне. І, можа, толькі ўнукі пана прызвычаяцца да адзення, якое насіў ён сам. Шырокая і вельмі кароткая аксамітная безрукаўка на куніцах. Ярка-чырвоная сарочка, якая гладка прыставала да цела. Карункавы каўнер і з-пад яго, на жывот, залаты ланцужок. На поясе цацачны кінжальчык. (Божа, ды гэтым людзям толькі доўбня і з рукі.) І куды яму, да д'ябла, з яго худымі нагамі і таўставатымі каленнымі суставамі, насіць гладкія, у абцяжку, залацістыя панчохі і мяккія боцікі з доўгімі наскамі?

Дражняць нас бусланогімі, а самі вучацца.

А на пані Любцы ўсё дарэчы. Шырокая ў падоле блакітная з золатам сукня. Пояс, што завязваецца па клубах і падае спераду двума канцамі, быццам падзяляючы ногі. Тонкая ў поясе казнатка*, таксама блакітная.

І што лепей за ўсё — на галаве іхні «караблік», быццам ляжачы маладзік, быццам рожкі над вушамі. Рожкі тыя залацяцца, а на іх зверху накінуты рантух, зусім празрыстае блакітнае пакрывала паміж каленяў.

Сядзіць, бы ў воблаку.

І на каленях скруціўся свойскі белы гарнастай.

Яна ўстала мне насустрач, усміхнулася злёгку жарсткаватай і прыемнай усмешкай. Гарнастай паспрабаваў быў учапіцца за сукню, але не ўтрымаўся і скаціўся ўніз.

---

* Шнураваная жаночая вопратка.

У мяне сівізна ў галаве, і тут я ўпершыню пашкадаваў аб гэтым. А сам сабе падумаў, што мужа як мужа, а гэту буду бараніць да самага скону. У мяне ж, каб я не валачыўся па свеце, а жаніўся, як усе добрыя людзі, магла б быць вось такая дачка. І я абавязкова назваў бы яе Гертрудай.

Я падышоў да яе і схіліўся, каб пацалаваць руку. Не дала рукі:

— Гэта ўжо, бацька, па нашых звычаях зусім без патрэбы.

— У іх свой звычай, — сказаў пан Кізгайла, але я пабачыў, што ён узрадаваўся.

А потым я пераканаўся, што ён яе і наогул неяк безнадзейна раўнуе. Я злавіў сябе на думцы, што стаў думаць на іхняй варварскай гаворцы, і крыху раззлаваўся. Я ўсё ж з кантона Швіц, чорт мяне забірай!

Праўда, тут усе, акрамя палякаў, вельмі памяркоўныя да любога народа і любой веры, так што мне тут добра.

— А вы сядайце за стол, пан Кандрат, — сказала яна, і я не раззлаваўся за перакручанае імя, — зараз усе прыйдуць.

— Ваенную раду ўчынім, — сказаў муж.

Я падзівіўся толькі, якія дзіўныя тут норавы. Я не перастаю здзіўляцца дзевяць год. За ежаю — і ваенная рада.

Я, грукочучы, падышоў да стала і сеў з імі. Першым прыйшоў пан Фелікс, капуцын — і надзіва чысты для свайго ордэна. Зрэшты, я ўсё адно лепей сядзеў бы з дзесяццю смярдзючымі капуцынамі, чым з адным езуітам. Душэўны смурод горшы.

Гэты, выяўляецца, мыўся, і нават дужа старанна, бо прыстаўлены быў акрамя выканання службы яшчэ да варкі мёду. Капуцыны разумеюць у выпіўцы.

Потым з’явіўся попік, айцец Іякінф (язык зломіш на гэтых імёнах!), ускудлачаны, сухі і хітранькі.

Кожны сеў з боку «свайго» гаспадара, у канцы стала і, на маё здзіўленне, надта мірна прывітаўся з законным ворагам.

— Прыгразілі, што інача выганім, — шапнула пані Любка.

— А зараз іх наогул вадою не разальеш, — буркнуў Кізгайла, — п’юць разам і зневажаюць Бога. Такія блюзнеры. Нядаўна пан Фелікс, напіўшыся, крычаў, што з беларускай зямлі трэба павыганяць і папоў, і ксяндзоў, а Богам прасіць на цараванне Бахуса. А разумны ж і бывалы чалавек: у Венецыйскай зямлі быў і яшчэ недзе.

— Нічога, Бог за легкадумнасць даруе, — сказала гаспадыня.

— Яшчэ манахі ёсць? — спытаў я.

— Цяпер ужо другі тыдзень служаць запрошаныя. Уратаванне каралевы на вадзе. Тры тыдні будуць выць, — скрывіла яна губку.

— Якія?

— У шэрых расах.

Я ўвесь пахаладзеў. З гэтай кампаніяй я зусім не хачу мець спраў. І я вырашыў паспрабаваць заўтра справадзіць «сыноў Ісуса», указаўшы ім на небяспеку.

З-за мяркуемай рады запрошаных да стала было мала. Прыйшлі яшчэ толькі два: капітан конных кірасіраў, сапраўдны разбойнік з закручанымі вусамі і ў ботах, падобных на вёдры, а сам — ні даць ні ўзяць картачны ніжнік.

І яшчэ выбраны камандзір шляхты ў чузе з буркацелі — таннай парчы, і ў шэрай футры паўзверх яе, нягледзячы на вясновы час. У гэтага былі маленькія вочкі і маленькія крывыя далонькі. Хай мяне Бог шасне, калі я не ўспомніў крата.

Калі мы сунялі першы голад — а на гэта пайшоў немалы час, — я спытаў, калі чакаецца прыход ворага да муроў і ці не абяцаў канцлер Сапега ўзброенай дапамогі.

— Яны ўзялі Рагачык з налёту, — хрыпла сказаў капітан. — А цяпер кудысьці зніклі.

— Рыхтуюцца, — з прыкметным хваляваннем сказаў Кізгайла, — разумеюць, што тут нечаканасцю нічога не зробіш, і нешта рыхтуюць. Сядзяць недзе ў пушчы... як павукі.

— Сапега ж абяцаў падмогу, — з адценнем пагарды сказала гаспадыня.

— Кату ён пад хвост вырас, твой Сапега, — ускіпеў пан, — ці можна яму верыць? Сама памятаеш, як ён за народ беларускі распінаўся. А цяпер надта ўжо скора па-польску пачаў балбатаць. Пярэварацень.

— Дый ты ж, — усё з той самай лёгкай і жорсткай усмешкай сказала яна.

Твар Кізгайлы так па-пакутніцку скрывіўся, што я пашкадаваў яго.

— Ён першы перабег, — скрыпнуў пан зубамі, — а за ім іншыя разышліся на ўсе застаўкі. Як пацукі з карабля. А астатнім чыняць уціск.

— Нобілі* не бягуць, — сказала яна.

— Таму і галеюць. Ды і гэтых, першых, тры чалавекі засталіся. І тых бы для спакою — на плаху.

---

* Найбольш радавітая частка магнацтва.

— Сапега прышле дапамогу. Сапега вораг яму.

— Не веру, — сказаў пан, — я і на сябе не спадзяюся пасля «схілення». І хто ведае, ці не пакарае мяне за гэта Пан Бог.

— Што такое, — не зразумеў я, — каму вораг Сапега?

— Галаве мужыкоў, — ваўкавата гледзячы ў падлогу, сказаў Кізгайла.

— А ён хто?

— Нобіль. Раман Грынка з Ракутовічаў, — адказаў пан.

Прызнаюся, што я даволі непачціва свіснуў.

Справа паварочвалася зусім дрэнна. Нобілі — самыя знатныя і самыя паважаныя народам людзі на гэтай зямлі. Яны не проста маюць дрэва продкаў, яны вядуць яго ад якога-небудзь слаўнага чалавека.

Іхні закон гонару: кожнае пакаленне павінна прымножыць славу гэтага продка сваімі дзеяннямі. Таму большасць з іх вызначаецца справядлівасцю, шчырым норавам і неўтаймаванай адвагай у баі.

Гэтыя тры добрыя якасці — я заўсёды казаў гэта — зусім не садзейнічаюць працвітанню. Таму гэта парода належыць да ліку выміраючых. Зніклі нашчадкі князя Вячка, няма прамых нашчадкаў Андрэя Полацкага, нястомнага ворага Крэўскай уніі. Іх забылі. І па заслузе — няма чаго дарэмна геройстваваць. Чалавек створаны на тое, каб пладзіцца, а не на тое, каб знішчаць сябе. Які толк у тым, што іх імёны занесены ў які-небудзь гарадзельскі прывілей або першы статут, калі носьбітаў гэтых імён не засталося на зямлі.

Але я заўсёды казаў, што ў гэтага народа галава змайстравана не так. Я не ведаю, мякіна ў іхняй галаве ці інакшыя мазгі (калі здарыцца выпадак, трэба будзе паглядзець), але яны акружаюць гэтую пароду увагай і пяшчотай. Мужыкі асабліва любяць іх, бо тыя амаль заўсёды небагатыя і лічаць празмернае багацце за ганьбу.

Аднойчы, пасля разгрому татар пад Крутагор'ем, трэцюю частку здабычы прапанавалі аднаму з Ракутовічаў (не памятаю ўжо, што ён зрабіў, здаецца, закалоў ці ўзяў у палон хана Койдана), і ён аддаў яе мужыкам, якія прыйшлі пад яго сцяг. Тыя потым маліліся на яго, як на Бога, і калі іхні бажок паклікаў іх з сабою ў паход на яцвягаў — кінулі ўзбагацелыя гаспадаркі і пайшлі за ім. Вядома, гэта ўсё скончылася дрэнна — з правадыра-завадатая знялі скуру, узяўшы яго ў палон.

І даніну з гэтых яцвягаў можна было ўзяць толькі венікамі для лазні і лыкам. Неразумная рызыка!

Я ведаў усё гэта ад аднаго быхаўскага манаха. Ён пратрубіў нам усе вушы гэтай мінулай славай.

І ўсё ж я ўстрывожыўся. Кіраўнікі яны нядрэнныя, і, калі чуткі спраўдзяцца, значыць, у мужыцкага цела вырасла някепская галава.

Гаспадар з гаспадыняй між тым сварыліся. Ён крычаў на жонку:

— А ўсё ты! Патрэбна мне была тая халопка. Вось зараз і расхлёбвайце кашу, пані Любка.

Тая ласкава гладзіла гарнастая, які ляжаў у яе на плячы, лянівa выгнуўшыся, і лашчыўся галоўкай. Потым сказала холадна:

— Не бойся, ён цябе адсюль не дастане. Ён не мацнейшы за цябе.

І спытала ў капітана:

— Тую дзеўку адправілі ў Магілёў?

Капітан ледзь не ўдавіўся кавалкам і пачырванеў:

— Праз гадзіну адправяць. Разам з астатнімі.

— Загадайце берагчы яе. Калі з ёй што-небудзь здарыцца ў дарозе і той даведаецца — ён не пакіне ад Кісцянёў каменя на камені.

— Слухаю вас, — буркнуў капітан.

Я не пытаў ні аб чым. Занадта многа таямніц на адзін вечар.

Потым мы спехам вырашылі, каму які мур абараняць, а Кізгайла даў загад трымаць напагатове смалу і дровы і змазаць пад'ёмнік другой рашоткі.

Загадзя ведаючы, што гэта бескарысна, вырашылі ўзняць на супраціўленне мужыкоў з замкавых вёсак Кізгайлы.

Потым Кізгайла прачытаў загад збароўскім мяшчанам, на якіх таксама маглі напасці. Ім належала: «Стрэльбу ўсякую, то-бок гакаўніцы, ручніцы і сагадайкі, і іншую абарону, то-бок шыбні і што іного да той абароны належыць, у дамех сваіх маці; а хто не можа больш, іно хаця адну ручніцу і рацішча няхай маець, а без абароны ў даму няхай не мешкае».

— Не атрымаецца і гэта, — усміхнуўся Крот.

— Гэта чаму? — узвіўся Кізгайла.

Крот выцер ільсняныя губы:

— Яны ў нас пра падатак прасілі?

— Ну, прасілі.

— А ты не зняў?

— Не зняў...

— Таму і не атрымаецца. Скажуць, як п'юць ды ядуць, дык нас не завуць, а як с... і д..., дык нас ішчуць.

— Не лайся, Іван, — скрывіўся гаспадар, — баба за сталом.

— Калі яна баба, — нахабна адказаў той, — няма чаго ёй за нашым сталом сядзець. А калі села, няхай слухае. Воінам без лаянкі нельга. Прыцерпіцца.

І тут пані Любка мяне здзівіла. Глянула на Крата цёмнаблакітнымі вачыма і сказала цвёрда:

— Калі пан хоча лаяцца, няхай пакіне замак і за мурамі лаецца з тым, хто ідзе.

Крот наліўся крывёй:

— А ці не хоча пані, каб дваране і яе адправілі за муры сустракаць гэтага чалавека?

— Добра, — усміхнулася яна, — пагроза за пагрозу.

І раптам устала.

— Пан Цхакен, клікніце сваіх людзей. Я загадваю вам выкінуць гэты зброд за браму. Няхай абараняюцца ў чыстым полі.

— Любка, — уступіўся муж, — гэта ж кожны трэці абаронца.

Спалоханы сваркай гарнастай шмыгнуў пад рантух і хутка ўжо высоўваў сваю трохкутную мордачку з рукава гаспадыні.

— Нам не патрэбен такі трэці, — сказала яна, — здрада крочыць цераз самыя высокія вежы. Пан Цхакен...

Я ўстаў і бразнуў шпорамі. Гарнастай зашыпеў на мяне з рукава, як васіліск.

Але Крот ужо звяў. Ён раптам усміхнуўся гаспадыні:

— Добра, пані. Даруйце мне. Добрыя мы будзем, распачаўшы бойку, калі справа зайшла аб скуры. Паасобку будзе дрэнна і вам і нам.

Воблака рассеялася. Вячэра цягнулася далей. Вырашылі паспрабаваць заўтра выслаць Дамініка лазутчыкам, каб даведацца, дзе вораг.

Усё астатняе для абароны было падрыхтавана. Мы толькі не ведалі колькасці ворага. Мяцеж, выяўляецца, узгарэўся ў наваколлі Зверына. Адтуль не ўцёк ніводзін дваранін. Было гэта за тры тыдні, а першая чутка аб бунце прыйшла тыдзень назад, калі паўстанцы ўзялі Рагачык. І тады ўжо на чале іх быў гэты Раман.

Дрэнна, вельмі дрэнна. Я ніколі не верыў людзям, якія занадта доўга церпяць. Калі іх нянавісць загарыцца, яна гарыць, пакуль не спапяліць праціўніка або самога сябе.

І толькі цяпер я даведаўся нарэшце, у чым рэч, і сам сабе падзівіўся неразумнасці Кізгайлы.

А расказаў мне гэта попік з цяжкавымоўным імем.

Аказваецца, паўтара года таму назад Раман прапанаваў пану Аляхну пяцьдзесят бітых талераў за тое, каб ён адпусціў на волю сваю халопку Ірыну.

Яны сядзелі і пілі разам, і Аляхно спытаў Рамана, нашто яму гэта. Той адказаў, што паспрабуе пасля гэтага завалодаць яе сэрцам і ажаніцца з ёю.

— Сэрца, як я мяркую, табе без патрэбы, ласкавы пане, — легкадумна адказаў нежанаты тады пан Аляхно.

— Аднак ты ж прынёс сваё да ног панны Любкі.

— Гэта зусім іншая рэч. Яна высокага роду. А нобілю сорамна браць за сябе халопку.

— Ажаніўся ж з дачкой смерда мурамскі Пётр, — сказаў Ракутовіч.

— Рабы татар могуць рабіць, што ім хочацца.

— Не папікай, сусед. Падобна на тое, што прыйшла чарга нам трапіць у рабства. Варшава задушыць нас, мы згубілі памяць. І невядома, чыё рабства будзе даўжэйшае.

— І ўсё ж гэта ганьба для нобіля — мяшаць сваю кроў з халопскай.

— Ты дазволь мне самому меркаваць пра гэта.

— Слухай, Раман, — усміхнуўся Аляхно, — можна пакінуць сытымі ваўкоў і цэлымі авечак. Бяры яе, на колькі спатрэбіцца. Ты ведаеш, я прыяцель твой і сусед і ніколі не запатрабую яе назад. Мне вельмі не хочацца, каб ты ажаніўся з ёю.

— Не, — сказаў Раман.

— Сур’ёзна, вазьмі яе, калі ўжо так захацеў. Зрабі ёй дзіця і супакоішся.

— А калі яна мяне ненавідзіць?

— А хто пытае пра гэта ў быдла?

— Не да ладу кажаш, сусед, — сказаў Раман, — дзяўчат гэтага «быдла» таксама нядобра псаваць, як і ўсякіх другіх. Гэтае быдла адкінула і збіла татарскую конніцу, седзячы на конях, узятых ад сахі. Ды і Ірына паважаная дзеўка.

— Ну і вазьмі яе сабе, — засмяяўся Кізгайла.

— Браць сілком, браць у ланцугах — гэта трэба не паважаць сябе.

— Ды хто ж табе кажа сілком? Ты ўлашчы яе падарункамі.

— І ўсё адно яна зняволеная. Не хачу. Брыдка. Трэба, каб па любові, іначай якая ж тут радасць?

— Гм... Дык ты ж яе ў другую няволю цягнеш. Бо калі дазнаюцца, што ты адкупіў, дык зноў звязанай будзе. І сабака хвастом віляе, калі кінеш яму кавалак.

— Вось я і хачу цябе прасіць, каб ты адпусціў і маўчаў. Быццам сам адпусціў.

Кізгайла падумаў крыху.

— Не, не адпушчу, — сказаў ён. — Хочаш — бяры. Не хочаш — не бяры. Нобілю нельга быць жанатым з халопкай.

Ён занатурыўся, і Раман паехаў пакрыўджаны. Яшчэ раз ён паспрабаваў завесці размову аб гэтым і ледзь не маліў Кізгайлу, але той стаяў на сваім.

Пасля гэтага Раман пакінуў ездзіць да Кізгайлы. Той перапалохаўся — суседзі сталі коса глядзець на яго. Яму зусім не хацелася варагаваць з Ракутовічамі, і ён вырашыў адпусціць Ірыну на волю. Але вяселле яго з паннай Любкай, што неяк раптоўна згадзілася пайсці за яго, вось-вось павінна было загрымець на ўсё ваяводства званамі і шамкамі коней. І ён, як варты павагі жаніх, спытаў, ці трэба даваць Ірыне вольную. Любка ж была ўжо амаль гаспадыняй. А тая раптам уся страпянулася і холадна сказала:

— Не.

Ён паглядзеў на яе халодны твар, на прыжмураныя вочы, што глядзелі ўбок.

— Не, — паўтарыла яна. — Нобіль і халопка? Калі ты гэта зробіш, пра мяне можаш не думаць.

І Аляхно не паехаў да Ракутовіча. А неўзабаве пасля вяселля Кізгайлы з Любкай да яго прымчаў на кані стрыечны брат Рамана, Якуб.

— Аляхно, — маліў ён Кізгайлу, — зрабі гэта, дзеля пакут Хрыстовых, калі не хочаш, каб Раман памёр. Ён зусім звар'яцеў, мы вынеслі з яго пакояў усю зброю. Ён раве, як грэшная душа ў пекле, і лае караля, Літву і палякаў. Ён пагражае разнесці ўсё. Ты ведаеш, ён і раней ненавідзеў уціск, на які нас прыракаюць. Цяпер ён ненавідзіць яго стакратна. І гэта твая дзеўка штурхнула яго на гэта. Адпусці яе. Разумееш, я яшчэ не бачыў, каб чалавек так кахаў і шкадаваў.

— Не, — сказаў Аляхно, і сказаў гэта не сваімі вуснамі, а вуснамі жонкі.

— Ты ведаеш, — сказаў Якуб, — ён крычыць, што гэта цяперашнія выскачкі зрабілі такімі цяжкімі ланцугі халопства, што хутка стануць халопамі і паны, увесь народ... Аляхно, ён не есць, і не п'е, і не спіць па начах. Адпусці!

— Не, — сказаў Аляхно.

— Добра, — ускіпеў Якуб, — ты будзеш вінен у пагібелі дзвюх душ. Яго і гэтай дзеўкі, таму што яна таксама шкадуе

яго, я ведаю. Сорам табе, Аляхно! Дзяды часта жаніліся так, як хоча Раман. І гэтыя новыя парадкі нам не даспадобы.

— Не, — сказаў Аляхно.

— Добра ж, — і Якуб кінуў на стол корд*, — тады слухай, Аляхно. Ракутовічы табе абвяшчаюць варожасць. Беражыся.

Кізгайла пагаварыў яшчэ раз з жонкай, але тая ўпарта і тупа стаяла на сваім. А праз месяц Якуб, спасцерагаючы згасанне брата, выклікаў Аляхно на бой і быў забіты.

Смерць брата крыху працверазіла Ракутовіча. Ён стаў на ногі. І ніхто не ведаў, што ён думае. Перапалоханы гэтым нядобрым маўчаннем, Кізгайла вырашыў напасці на адну з вёсак суседа, каб паскорыць вырашальную сустрэчу.

Па дарозе туды ён быў паранены стралою з сялянскага самастрэла. Страляў адзін хлопец з аховы Якуба. Помсціў за нябожчыка.

Загонавыя дваране адступілі, забраўшы з сабой Кізгайлу. Той не дазволіў ім дакранацца да сябе і адлежваўся ў Кісцянях, нікога не пускаючы ў свой пакой.

І вось цяпер мужыцкія орды ўзначаліў гэты чалавек, смяротны вораг майго гаспадара.

Я плюнуў, выслухаўшы гэтую гісторыю. Калі ў справу ўмешваецца баба — дабра не чакай. І ахвота яму было пытацца парады ў свае жонкі!

Але ўсё адно яна была гожая, а гэтага Ракутовіча я не разумеў.

Толькі вар’ят мог, калі яму дакляруюць такую раскошу, — патрабаваць сабе ланцугоў на шыю.

«Не мая справа. Мая справа біцца», — вось што вырашыў я.

Між тым мяне выклікаў капітан.

— Слухай, калега, — сказаў ён, — я зараз адлучуся на малы час, а потым мы з табою пагаворым, як падтрымліваць адзін аднаго ў час вылазак, калі прыйдзе хам.

— А ці патрэбныя тыя вылазкі? Нас мала.

— Затое мы ў жалезе. Адзін латнік варты трыццацёх мужыкоў.

Я ведаў, што гэта так, але параіў вылазак не рабіць.

— А нашто ж тады конніца ў чатырох сценах? — засмяяўся ён. — Ды і хлеб я атрымоўваю не за сядню. Плацяць — скачы і сячы.

— А калі гэта неразумна?

---

* Кароткі меч.

— Пла-ацяць, — працягнуў ён, быццам давёў, і выйшаў.

Я пачакаў крыху і пайшоў за ім. Мне цікава было, якіх людзей ён адпраўляе з крэпасці напярэдадні аблогі.

Я прайшоў пераходамі і выйшаў на галерэю, што выходзіла ва ўнутраны двор. Я думаў, што я адзін, але потым заўважыў, што ў адным канцы галерэі стаіць гаспадар з жонкай. І тады я адышоў у другі канец, дзе было цямней, і там успёрся на парэнчы.

Унізе ярка палалі паходні, асвятляючы дзесятак вазоў. Будучая варта — чалавек трыццаць верхавых дваран, закаваных у латы, і пяць кірасіраў — трымалася трохі правей, ля брамы. З нізкіх дзвярэй, што вялі, відаць, у нейкае сутарэнне, даносілася бразганне молата — разбівалі ланцугі.

А потым з гэтых дзвярэй пачалі выводзіць людзей — абадраных, зарослых. Яны ледзь ішлі.

Вывелі дзесяць чалавек.

Дзесятую я не адразу і заўважыў, такая яна была худзенькая. Выйшла яна сама і сама села ў дзесятыя, апошнія, драбіны. За ёй выйшаў закураны замкавы каваль з зубілам і молатам у руцэ.

Паходня, якую трымаў шляхціц, кідала дрыготкія водсветы на гэтае дзяўчо ў белым. Я зверху бачыў толькі валасы, якія здаваліся мядзянымі, але на самай справе былі, напэўна, попельна-залацістыя. І твар цяпер адліваў бронзай, а ў натуры быў, вядома, бледны, як ва ўсіх пасаджаных пад замок.

Мне стала неяк не па сабе. Мала душы ў людзях, вось што я вам скажу. І дзіўна толькі, як гэта Бог яшчэ церпіць нашы грахі і нашу бессардэчнасць. Напэўна, за нямногіх праведнікаў. Ды вось толькі дзе яны?

— Рыхтуйся, — скамандаваў капітан.

Коннікі пачалі збірацца вакол вазоў, бразгаючы зброяй і пераклікаючыся.

А я ўсё глядзеў на гэтае хударлявае дзяўчо. Найбольш крыўдна, што і ногі ў яе былі пекныя, і ўсё астатняе, і рухі гожыя, — а гэта самая галоўная прыгажосць, калі не лічыць вачэй. Нельга такіх пад замок.

— Пан, — крыкнуў каваль, — усе ўжо раскутыя. Да вазоў куць не трэба?

— Не, — сказаў Кізгайла.

І тут дзяўчына прыўзняла на яго вочы, і я ўпершыню ўбачыў яе твар. Бровы зламаныя, вочы вялікія, шэрыя, глядзяць, як алень на паляўнічага, безабаронна і стрымана. А рот вялікаваты, і нос не зусім роўны.

Няправільнае аблічча, і ўсё адно — такіх не забываюць.

І, як здагадка, мяне кальнула іголкай у сэрца — Ірына.

Дык вось каго яны вывозяць! Рызыкаваць не жадаюць. Думаюць, што выручаць паляціць і зніме аблогу. Нядобра, паны.

А ў яе вейкі задрыжалі і рот прыадкрыўся:

— Радуйся, пан, радуйся, пані Любка, загубілі вы жыццё маё. Ды, відаць, ляціць сокал, калі вароны ўзграялі з перапуду.

— Рушай! — махнуў рукой пан.

І загрукаталі па плітах вазы, заскакала полымя паходняў. І стала ўсё гэта падобна на д'ябальскі шабас. А твар пані Любкі стаў зусім страшны, нават зубы выскаліліся не як у чалавека. І ўжо калі драбіны пачалі ўязджаць у браму — даляцеў адтуль добра чутны голас:

— Запраданец. Юда. Веру прадаў, братоў прадаў. Хай згіне твой род.

Астатнія ўзвылі на калёсах — шмат хто, напэўна, і гаварыць развучыўся. Але начальнік варты стрэліў некалькі разоў, і стала цішыня.

А Кізгайла стаў пры апошніх словах такі страшны, якім я ніколі не бачыў чалавека: скулы абцягнутыя, вочы ўтрапёныя, губу закусіў.

Любка паклала яму руку на плячо — скінуў. І адразу сагнуўся ў хрыбце.

А ад брамы, з-пад самай аркі, той самы голас, усё яшчэ ціхі і на музыку падобны:

— Здохні, Кізгайла.

А потым упала за імі рашотка. Быццам адрэзала.

І я пайшоў да сябе ў пакой, не вытрымаў.

Лёг на пасцель у ботах — назнарок — і назнарок стаў глядзець на свечку і думаць на сваёй мове. Я пачаў занадта шкадаваць гэтых чужых людзей і, калі шкадую, думаю па-іхняму. А гэта не на дабро.

А я ж толькі ўраджэнец кантона Швіц. І наёмнік. Я служу за грошы, і не мая справа судзіць таго, хто мне плаціць. Вось калі ён пакіне мне плаціць — я яго самога прадам, каб заплаціць хлопцам, ды яшчэ і праламлю яму чэрап — за бессаромнасць.

І трэба, трэба думаць на сваёй мове не толькі ў баі. Божа, як даўно я адрэзаны ад радзімы, і няма мне звароту туды.

Ужо дзевяць год. Нават пятнаццаць.

Дзевяць год назад я зразумеў, што ў Германіі мне і маім хлопцам няма чаго рабіць, што там стаў прастор для баязлівасці, вераломства і скнарлівасці. А мы халодныя на полі бітвы і ўскіпаем, калі нам не плацяць.

Акрамя таго, гэтыя немцы называлі нас валляватымі чарцямі і белымі неграмі, хаця ні валляватых, ні альбіносаў сярод нас не было, а былі ўсе такія хлопцы, што адзін мог аддубасіць трох ураджэнцаў кілбаснага раю.

Калі нам усё гэта абрыдла, мы падаліся сюды. Калі грошы ў руках — ці не ўсё адно, якое неба над галавою?

І вось я тут і нават крыху стаў разумець гэтых людзей (да канца іх, відаць, і сам Пан Бог не зразумее).

У іх халодныя зімы, пякучыя леты і ў крыві то мароз, то агонь. Яны верныя, як немцы, але больш за іх неразважлівыя і ярасныя ў бойцы.

Але самае надзвычайнае — іхняя смерць.

Калі памірае іспанец — гэта жудасна. Я не бачыў больш вартага жалю відовішча. Ён мужны і жорсткі, але тут ён дрыжыць і цалуе каўчэжац з мошчамі. У іх ды яшчэ ў тых, што на поўдзень ад ракі По, бязлітасны і няўмольны Бог, чысцец і полымя. Калі памірае швейцарац, немец або француз-гугенот — ён памірае цярпліва, бо спадзяецца на літасць пасля раскаяння.

А гэтыя паміраюць спакойна — за іх заступаецца Божая Маці, — так спакойна, быццам у іх шчырыя сяброўскія адносіны і з Богам і з чортам. І мне здаецца, што яны не вераць у тое і ў другое. Уголас я гэтага не скажу — надта смярдзіць на зямлі смаленым.

Я не бачыў больш незласлівага, лагоднага і кампанейскага народа. І я не бачыў горшых паноў, чым тыя, што стаяць над ім. Яны ўзялі горшае ў Літвы і шляхты, не паквапіўшыся на іх дабрачыннасці і згубіўшы свае.

Каб я быў тутэйшым каралём, маё царства было б даўжэйшым за евангельскае. Тутэйшым людзям мала трэба: толькі штодзённая луста хлеба з салам, гарэлка на свята. І яшчэ дабрата. Калі з імі добры — яны зробяць усё. Нават калі не будзе сала і гарэлкі, толькі павага.

А тыя, хто пастаўлены над імі, — бедная дзяўчынка, бедныя шэрыя вочы! — тыя, хто пастаўлены над імі воляю Сатанііла, па неразумнасці і карысталюбстве сваім даўно пазбавілі іх павагі, а цяпер адбіраюць хлеб і дрыжаць у замках, выдаткуюць у сто разоў больш на нямецкіх, шведскіх і венгерскіх наёмнікаў, бо свае не хочуць іх абараняць.

Я, вядома, не кажу пра швейцарцаў. Паноў на тое і стварылі, каб даць нам хлеб надзённы, калі ўжо яго не могуць нам даць нашы ледавікі.

Ах, зямля ты, зямля, чужая і ўсё ж як быццам ужо трошкі і свая! Не да ладу, не да ладу нешта на табе. І, верыцца, хутка тут усё затрашчыць.

Я перавярнуўся на спіну і зноў непрыкметна стаў думаць па-іхняму. Спахапіўся і пакінуў: ленаваўся. Ды пра такое па-нашаму і нельга падумаць.

Цяжкія ішлі часы. Развялося шмат жабракоў, юродзівых, разбойнікаў. Агнявыя слупы гулялі ў небе, чаго зроду не было.

І ўціск рос, і голад дзяцей, і ганьба дарослых. І ў гэтыя цяжкія гады сталі людзі верыць у такое, ад чаго раней адхрысціліся б і забылі.

Беларусы чакалі прыходу мужыцкага Хрыста. Яўрэі — Месію з Турцыі. Першыя ведалі, што мужыцкі Хрыстос ужо тут, ды пакуль не аб'явіўся. Ведалі, што ўжо і конь яму расце ў мужыцкай хаце — пакуль яшчэ жарабя, белы, а вочы, грыва і хвост залатыя. І хтосьці яго ўжо бачыў і балбатаў аб гэтым у карчме.

— Хутка паедзе, чака-айце. Калі толькі антыхрыст раней не прыйдзе.

Антыхрыста таксама можна было чакаць. Надта ўжо вялікім стала няшчасце, надта злымі сталі людзі.

Нездарма слупы гулялі.

А яшчэ тады ж адбываліся незразумелыя падзеі. У Магілёве, як і на ўсёй прасторы Белай Русі і Літвы, невядома хто і як ставіў нечытальныя пісьмёны чырвонага колеру па цэрквах і касцёлах і другіх будынінах на вышыні некалькі сажняў, куды існаму не дастаць, і ў замкнёных скрынях; таксама незразумелым чынам былі астрыжаны авечкі, у мужчын бароды, а ў жанчын — косы і іншае.

Ішла цемра.

Непрасвяцімая.

II

> Ох і жорсткі быў наш татачка, мужыцкі цар.
> Ён баяр ды князёў павыважываў.
>
> *Песня*

Мне не ўдалося праспаць да раніцы.

Была яшчэ ноч, калі мяне разбудзіў сам Кізгайла. Я запаліў свечку і, нацягваючы вопратку, кінуў на яго позірк. Твар быў бледны, спатнелы, перакрыўлены. І ў вачніцах ад свечкі цені.

«Баіцца? — падумаў я. — Не. Ненавідзіць? Не. Баіцца і ненавідзіць больш баязлівасці, вось што. Але чаму?»

Урэшце, думаць пра гэта не было калі. Я спяшаўся.

— На муры, — сказаў гаспадар.

Праз некалькі імгненняў мы беглі ўжо да Жабінай вежы, што выходзіла на Княгініна поле.

Трывогі пакуль што яшчэ не было чуваць ні сярод прыслугі, ні сярод салдат. На забрале ля вежы стаяў вартаўнік брамы і з ім яшчэ чалавек, жанчына, як я пазней даведаўся, яго дачка, удава Дар'я. Абое маўчалі і глядзелі кудысьці ў ноч. Мы сталі поруч з імі.

Месяц, ужо нізкі і барвовы, хіліўся да далёкага лесу. Ад усіх, нават ад самых маленькіх, узгорачкаў леглі вялізныя трывожныя цені. І толькі лапікі, малюсенькія кавалачкі поля, былі азораны няпэўным аранжавым святлом.

— Што там? — чамусьці ціхім голасам спытаў я.

Дар'я моўчкі ўзняла руку, паказваючы ёю ўдалячынь.

Але ноч была спакойнай, толькі дзесьці чулася песня драча.

— Яна і ўчула, — сказаў вартаўнік, — я сам глухаваты стаў.

— Ды што такое? — зноў спытаў я.

— Вішчыць, — сказала Дар'я.

— Драч? — як бы пытаючы, сказаў гаспадар.

— Не. Вішчыць, — сказала яна.

— Хочаш сказаць «рыпіць»? — спытаў Кізгайла.

— Вішчыць.

Я ведаў, што мясцовыя людзі часам не знаходзяць слоў, што не перашкаджае ім быць някепскімі людзьмі. Адна дзеўка, тлумачачы мне колер сукна, сказала: «Кармазынавы, зеляненькі, як васілёчак». Але цяпер не час быў чапляцца да слоў, і я стаў слухаць, што ж такое «вішчыць».

Песня драчоў стала як быццам галаснейшай. У полі ставала ўсё больш ценю: пранізліва-чырвоны месяц ужо напалову сха-

ваўся за пушчу. Спяваў ужо не адзін драч, а некалькі. А цемра ўсё агортвала поле, і ў гэтай цемры ўсё нарастала птушыная песня.

І раптам я зразумеў: гэта не драч, гэта рыпяць... вазы. Так, гэта рыпелі вазы. Многа, магчыма, сотні вазоў. І гэтая песня нарастала і ўжо рабілася пранізлівай, заглушаючы ўсё.

Я не ведаў, хто гэта едзе ў такой нямой цішыні, калі нічога не чуваць, акрамя песні колаў, але я адчуў, што ў мяне мурашкі пабеглі па спіне.

— Ён, — сказаў Кізгайла, і я зразумеў, хто гэта «ён».

А вазы рыпелі і рыпелі ўначы, і ўжо не заставалася нічога, акрамя гэтага рыпення.

— З'явіўся, варажына, — сказаў гаспадар праз зубы, — што ж, рыхтуйся, Цхакен, заўтра будзем біцца. Насмерць.

Я баяўся за гаспадара, але цяпер мой страх мінуўся. Ён проста быў з той пароды, для якой чакаць небяспекі горш за самую небяспеку.

Я цяпер ведаў, што ён будзе і баяцца, і ненавідзець, але будзе трымацца і не дасць зразумець гэтага. Гэта дрэнна, але ўсё ж гэта лепей, чым ідовішча дрыготкай жывёліны.

— Што ж, — сказаў я, — біцца дык біцца. Я доўгі час атрымліваў вашу плату дарма. Праўда, лепей было б мне, як таму ўрачу, усё жыццё атрымліваць яе дарэмна. Але калі так ужо сталася — не трэба непакоіцца, пане.

Я вырашыў не турбаваць людзей і даць ім выспацца. Толькі падвоіў каравул і паставіў каля спячых аднаго хлопца, каб па першым трывожным сігнале падняў усіх. А сам я, захінуўшыся ў плашч, сеў на забрале каля вартаўніка і яго дачкі і стаў драмаць, штохвілінна прачынаючыся. Гэтыя ночы, калі спіна прыхілена да дрэва ці каменя, былі мне вельмі знаёмыя. Засынаеш і раптам падаеш кудысь. Такія сны, напэўна, бачаць малпы на сваіх дрэвах. Але чым лепшы за малпу салдат-наёмнік? Дурное, агіднае рамяство — вайна.

Такія думкі прыходзілі да мяне за апошні час усё часцей: відаць, я пачаў старэць. Я засынаў і прачынаўся, глядзеў на гэтую жанчыну, якую ніхто не прымушаў сядзець на муры, і бачыў яе закураны белы твар пад хусткаю, вачніцы ў ценях.

Нічога няма прыгажэй за жаночы твар у прыцемку. Таму, напэўна, і кахаюць у гэты час.

У адно з такіх абуджэнняў я ўбачыў, што ўжо не толькі светла, але вось-вось узыдзе сонца. За намі быў блакітны туманны

Дняпро. Перад намі — роў, невялікае, ледзь узгорыстае поле, а далей — лясістыя ўзгоркі, ружавеючая роўнядзь Святога возера.

Сонца ўжо выкінула з-за лесу тысячы чырвоных дзід, заліло расплаўленым золатам маленькія воблачкі ля далягляду. Але я пазіраў не на яго.

Поле за гэтую ноч, здавалася, абрасло маладым лесам. Па абодвух баках вялікай лагчыны сядзелі, хадзілі, ляжалі тысячы людзей. Дзіды, уторкнутыя ў зямлю, рацішчы*, адагнутыя ў шыйцы косы. Далей, каля лесу, сотні вазоў выставілі да неба свае аглоблі.

Падымаўся ў бязвоблачную вышыню дым вогнішчаў. Мы бачылі як на далоні ўсё поле, акрамя шырокай лагчыны. Але, напэўна, і там былі людзі.

На адным з недалёкіх узгоркаў стаяла кучка людзей. І гэтыя людзі былі не ў белай вопратцы, значыць, не мужыкі.

У мяне добрая падзорная труба са шкельцамі галандскай ручной шліфоўкі. Я навёў яе на ўзгорак і ўбачыў трох чалавек.

Сярэдні быў высокі і тонкі ў касці. На ім — барвяны плашч, што падаў амаль да зямлі. Доўгія, да плячэй, валасы, ладная пастава, вельмі вузкія клубы. Гэты чалавек нешта казаў двум другім, паказваючы рукою на муры. Поруч з ім стаяў юнак ці малады мужчына, крыху падобны да сярэдняга. На ім былі светлыя латы і таксама плашч, толькі блакітны. А з другога боку стаяў каржакаваты чалавек, ніжэйшы за іх ростам і моцна сутулы. Ён быў без барады і вусоў, хоць па гадах мог быць бацькам маладому. На бязвусым латы былі цёмныя, а плашч зялёны з чорным.

— Дай, — сказаў мне Кізгайла, які зноў выйшаў на мур.

Ён прынік да трубы, аж падаўся наперад.

— Яны, — сказаў ён пасля нядоўгага маўчання. — Той, што ў барвяным, — сам Раман, ваўчына драпежная. Ну, пападзіся ты мне — я табе пакажу, як гэта быдла ўзнімаць.

— А астатнія?

— У светлых латах — Лаўр, з Раманавай варты. Байструк.

— Яны чамусьці падобныя.

— Баюць, што там не абышлося без Якуба, якога я на той свет адправіў. А чорны — Пятро, таксама брат Раманаў. Родны... Адроддзе дэйноўскае! Здохлага зубра запалявалі...

* Рагаціны.

Лаянка Кізгайлы мне здалася непрыстойнай. Усякае нараджэнне законнае, калі ад яго нараджаецца добры воін ці дзеўка, створаная для радасці і кахання.

А лаяцца тым, што людзі родам з былога Дэйноўскага княства, краіны лясоў і балот, і зусім бязглузда.

Яны не пасылалі да нас вяшчальніка, не марнавалі часу. Кожны разумеў, што адзін не адмовіцца ад аблогі, а другі не здасца.

— Ану, майстра, — сказаў я пушкару, — даўбані па гэтых, на пагорку.

Гармата вырыгнула полымя і рэзка адкацілася назад.

Я ў падзорную трубу бачыў, як дасланы намі чыгунны мяч ударыў у схіл узгорка, ніжэй военачальнікаў. Там узнялося лёгкае таючае воблачка. Заржаў і стаў на дыбкі гожы белы конь, якога трымаў за повад хлопец у белай кашулі.

Раман стаяў усё так жа спакойна, не зрабіўшы і кроку ўбок. Потым ён махнуў рукою і стаў спускацца з узгорка. За ім — два астатнія. Мы так на іх заглядзеліся, што не заўважылі, як з лагчыны, зусім блізка ад нас, пачалі, быццам самі сабою, выпаўзаць вазы. Адзін, другі, дзесяты, дваццаты.

На іх было навалена нейкае дзіўнае рыжае сена, і яны паўзлі лугам, а людзі, якія штурхалі іх, хаваліся за гэтым сенам.

Я доўга не разумеў, у чым справа, аж датуль, пакуль яны не падзяліліся на два патокі. І гэтыя дзве змяі павольна паўзлі да драўляных брам у нашым вале.

— Бі па вазах! — крыкнуў я.

Мур расцвіў клубамі парахавога дыму. Але было позна ўжо. Вазы паспелі ўпрытык падваліць да абедзвюх брам, і раптам, амаль адначасова, да неба ўзняліся вялізныя, рудыя, як хвост лісіцы, палаючыя языкі агню. Палала сена, аблітае нечым гаручым, палала сама зямля вакол. Пад прыкрыццём агню беглі да пагорка мужыкі.

Цяпер мне стала ясна, чаму Ракутовіч спусціўся з узгорка, чаму адзін з мужыцкіх атрадаў пайшоў за ім: яны рыхтаваліся бараніць вазы, калі б нам уздумалася зрабіць вылазку.

У нас не было сілы на абарону вала: занадта нечакана ўстала пагроза. Мы свядома абмежавалі сябе мурамі замка. Але ўсё адно гэты пажар быў непрыемны. Вал перастаў існаваць як перашкода. Цяпер ужо ніщто не перашкаджала паднесці да муроў лесвіцы або падкаціць таран, каб ён у іх быў.

Мы зрабілі першую памылку.

Затое тыя, што рыхтаваліся абараняць вазы, і сам Раман былі цяпер амаль у нашых руках. Я паставіў на мур сотню сваіх хлопцаў з мушкетамі і стаў падаваць каманду:

— Ступі! Стой! Мушкет да бока! Фіціль — з курка! Фіціль — на месца! Мушкет да рота! З брамкі здзьмухай! Набой бяры! Мушкет уніз! Порах на брамку — сып! Утрасі! Брамку зачыні! Страсі! Здзьмухай! Мушкет да левага бока! Порах і кульку — у мушкет! Клак — на брамку. Забойнік бяры! Кульку і клак дабі! Забойнік на месца ўсунь! Правай рукой мушкет падымі! Левай падсошак рыхтуй! Мушкет на вілкі! Гатоўся!

Я ведаў гэтыя каманды на памяць ужо дваццаць восем год. А мае хлопцы былі лепшыя стралкі з усіх, якіх я ведаў. Не мінула і дзесятай часткі гадзіны, як мур ашчацініўся гатовымі да стральбы ручніцамі.

— Палі! — крыкнуў я.

Зубцы завалакло едкім парахавым дымам. Я праз яго бачыў, як падалі, круціліся ў віхуры, мітусіліся людзі ў белай вопратцы.

І яшчэ бачыў я чалавека ў барвяным плашчы. Ён крычаў нешта жахлівым голасам, узнімаючы адной рукою старадаўні двухручны меч.

Сашчэраны рот і грыва валасоў, што ўстала дыбарам, — ад іх нельга было адарваць вачэй. Калі дым разышоўся, на траве засталося дзесяткі тры нерухомых белых цел.

І яшчэ я пабачыў, што на лініі ўзгоркаў стаіць надзіва роўны строй мужыкоў. Я не ведаў, нашто ім спатрэбілася стаяць там. За іхнімі спінамі былі толькі вазы. Другі атрад — іначай не назавеш, бо гэта было войска, а не бязладны мужыцкі натоўп — набліжаўся здалёк строем у тры плутонгі. Ён стаў значна лявей Жабінай вежы. І пад маўклівай аховай гэтых людзей натоўп мужыкоў, узброеных чым папала, цягнуў ад пагоркаў дзесятак доўгіх асадных лесвіц. Чорт бы пабраў гэтага мужыцкага караля! Ён ваяваў зусім не па правілах. Праўдзівей, не па тых правілах, па якіх ваююць ва ўсім свеце. І незразумела, па якіх. Я глядзеў на яго вялізную постаць, што махала мячом. Мы далі другі залп па натоўпе з лесвіцамі і па ім. Але ён быў цэлы і здаровы, быццам і агонь яго літаваў.

Я ўбачыў перакошаны твар Кізгайлы. Ён кідаўся па забралу, лаяў пушкароў самымі чорнымі словамі. Схапіў ядро, паляпаў, быццам кавун, па крутых баках і заштурхнуў у жарала «Маркабруна», гарматы французскага ліцця, самай вялікай з тых, што стаялі на мурах. Потым затрос кулакамі ў паветры:

— Палі!!!

«Маркабрун» раўнуў. І зноў, як заварожаны, стаяў на месцы чалавек у плашчы. Ядро вырвала з рух хлапчыны, што стаяў поруч з ім, прапар і ў трэскі разбіла адну з лесвіц.

Астатнія лесвіцы паўзлі далей у атачэнні кос, сякер і віл. Кізгайла і я аднначасова зразумелі, што, калі лесвіцы ўкрыюць за валам, паблізу ад спаленай брамы (ад яе засталіся ўжо толькі вуголлі і палаючыя бэлькі), наша справа пагоршыцца. Тады атрад маўклівых вартаўнікоў кінецца да іх, і ніхто не ўратуе муроў ад штурму.

Унізе, ля брамы, стаяла напагатове кірасірская сотня.

— Капітан, — крыкнуў Кізгайла, — падрыхтуйся! Зламі іх, знішчы лесвіцы, пастарайся ўзяць Рамана.

— Добра, — глухім голасам адказаў капітан.

Форткі брамы разышліся з цяжкім рыпам, упаў пад'ёмны мост, і адразу ўсё запаланіў трывожны нарастаючы грукат капытоў па жалезе моста.

Кірасіры рынуліся ў атаку.

Усе на вараных конях, усе ў чорных латах і шаломах, увянчаных чорнымі пер'ямі, яны імчалі выцягнутым клінам, і я не ведаю, што здолела б устаяць перад іхнім імклівым ударам. Сам Аляксандр не адмовіўся б камандаваць такой сотняй.

Абаронцы на мурах праводзілі іх лямантам захаплення, і нават мая халодная кроў ускіпела, як у першым баі, калі мне было пятнаццаць год.

— Сячы іх! Хапай!

Мужычо каля лесвіц замітусілася, але не стала ўцякаць. Яны, праўда, кінулі лесвіцы, але не ўцякалі, а адступалі. І апошнімі падаваліся задам людзі з косамі ў руках.

Капітан, які скакаў наперадзе, падаў знак рукою ў жалезнай пальчатцы. І адразу, як зладжаны хітравумны механізм, жалезны клін пачаў мяняць строй: дваццаць ці трыццаць латнікаў аддзяліліся ад лятучага атрада і паскакалі да тых маўклівых, што стаялі на схіле строем у тры плутонгі.

Астатнія на хаду ператварылі кінутыя лесвіцы ў кучу ашчэпкаў. Яны падазрона лёгка ламаліся, і я ўжо ў той момант западозрыў няладнае. Але думаць не было калі. Я наогул не ведаў, на каго глядзець, на тых, што ляцелі да маўклівай аховы, ці на тых, што спасцігалі атрад уцекачоў.

Я паспеў толькі заўважыць, што першая плутонга мужыцкага атрада раптоўна апусцілася на калені, выставіўшы наперад доўгія дзіды, а другая, стоячы, пачала весці беглы агонь

паўзверх яе галоў. Адзін коннік пакаціўся цераз галаву каня, другі, трэці. Гэта было жахліва! Трапнасць стральбы можна было растлумачыць толькі так: Ракутовіч паставіў у гэты атрад паляўнічых. Але як ён мог за тыдзень навучыць людзей так спрытна арудаваць дзідамі?

Поўны трыумфу лямант перарваў мае думкі. Я ўбачыў, што кірасіры дагналі ўцекачоў і ўрэзаліся ў іх усім цяжарам сямідзесяці закутых у жалеза коннікаў, усім цяжарам сямідзесяці конскіх цел. Мужыкі яшчэ спрабавалі супраціўляцца, яны з размахам секлі косамі ля самай зямлі, спадзеючыся падрэзаць коням сухажыллі. Але гэта была безнадзейная справа.

Ракутовічу — я краем вока заўважыў гэта — падвялі каня, і ён памчаў да тых, каго забівалі: толькі барвяніца запаласкалася на ветры. Ён, напэўна, хацеў біцца разам з гэтымі асуджанымі на смерць.

Цяпер яго аддзяляла ад чорнага коннага атрада толькі вузкая палоса людзей у белым адзенні. І тая палоса радзела на вачах.

Калі кірасіры адкінулі віскліві натоўп сажняў на сорак, на вызваленай прасторы калаціліся ў сутаргах шэсцьдзесят коней і бялела не менш трыццаці мужыцкіх цел. Ракутовіч, размахваючы мячом, крычаў нешта, але ўсё ўжо было скончана: мяцежнікі рассеяліся ў розныя бакі, кінуліся ўрассыпную.

Ён быў храбрым, але дурным военачальнікам, гэты чалавек у барвяніцы. Ён рушыў лесвіцы да муроў без прыкрыцця, без гарматнай пальбы, нават без конніцы, пад аховай дрэнна ўзброенага зброду.

Між тым меншаму атраду, значна парадзеламу, удалося ўсё ж пацясніць мужыцкі атрад з узгорка. На гэтым яны супакоіліся і кінуліся даганяць астатніх. Але тым і самім не было чаго рабіць: не гнацца ж за мужыкамі, што разбягаліся па адным.

Чалавек у барвяніцы ўсё яшчэ гойсаў ля перадавых кірасіраў. Скінуў з каня аднаго, выбіў цяжкі палаш з рук у другога. Смерці мо хацеў ці шукаў выпадку, каб вызначыцца? Крычаў нешта — відаць, здзекліваe.

Чырвонае так і развявалася на ветры. І толькі калі кінулася за ім уся сотня, раптам крыкнуў страшным голасам і прыпусціў каня да сваіх.

Чорны атрад ляцеў за ім, і адлегласць паміж чорнай плямай і чырвонай іскрай павольна скарачалася.

Коннік ляцеў да таго строю, што прыкрываў вазы. І гэта было дарэмна. Капітан казаў праўду: адзін латнік варты трыццацёх, нават храбрых, нават тых, што не ўцякаюць. Раскіданы

па ўсім полі мужыцкі натоўп, што адчайна ўцякаў, быў прыкладам гэтаму. Зараз і ад тых, што наперадзе, не застанецца мокрага месца.

Чалавек у барвяніцы прышпорыў каня і стаў лёгка адрывацца ад спасцігачоў. Звярнуў направа, нябачным скачком паслаў каня цераз шырокую канаву і праваліўся за ўзгоркам, толькі яго і бачылі.

А маўклівы чорны касяк з ходу ўрэзаўся ў мужыкоў, што абаранялі вазы.

...Не, не ўрэзаўся. У апошняе імгненне тыя кінуліся бегчы хто куды. Большасць знікла пад коламі вазоў. Нейкіх дзіўных высокіх вазоў...

Сляза набегла на вочы. Я змахнуў яе далонню, зноў прынік да трубы і...

— Назад! — закрычаў я такім голасам, што сам спалохаўся.

Гэта былі не простыя вазы. Гэта былі вазы, акутыя меддзю па градках і на сажань вышэй градкі. І нават уніз, прыкрываючы колы, спускалася медная «спадніца» з выразамі, і раптам гэтыя вазы ўсе ашчацініліся: зверху дзідамі і нечым незразумелым, а знізу, з-пад «спадніцы», бусакамі.

— Назад! — роў я.

Куды там! Хто б мог пачуць? Ды яны і не маглі стрымацца, з ходу наляцеўшы на вазы.

І раптам бусакі знізу сталі прагна шнарыць у паветры, хапаць прыцёртых упрытык коннікаў за што папала, сцягваць іх з коней ці прыгінаць да меднай абшыўкі. А зверху пачалі рытмічна ўзлятаць і апускацца на галовы людзей — я цяпер зразумеў, што гэта, — мужыцкія, акутыя на такі выпадак жалезам, цапы.

Так, гэтыя людзі ўмелі арудаваць бусакамі і малаціць — гэта ж была іх штодзённая праца. І яны малацілі, малацілі адчайна. У іх было мала мушкетаў, і яны ведалі, што страла, ці каса, ці меч не возьмуць міланскіх і нюрнбергскіх латаў, што чалавека, закутага ў іх, можна толькі аглушыць.

Яны малацілі. Нават да нашых муроў даляцелі немыя крыкі тых, каго забівалі, і дзікае гігатанне спалоханых коней.

Божа! Цяпер я зразумеў усё. Гэтыя падазрона слабыя лесвіцы, гэты натоўп, што загадзя асудзіў сябе на смерць, гэты коннік, якога наганяе сотня, — усё гэта было падсадкай, усё гэта было прыманкай. І капітан, як пячкур, папаўся на гэтую вуду, на хітрыкі гэтага азіята і варвара. Варвар мог цяпер быць спакойны наконт конных вылазак.

— Дык прападай жа, дурань, — плюнуў я са злосці.

Парадзелая больш чым напалову сотня адхлынула нарэшце ад дзівоснай спаруды і пачала адступаць да муроў, спадзеючыся, як сказаў нейкі пісака, «больш на шпоры, чым на мячы».

Іх падбадзёрваў роў з муроў, але я ўжо ведаў, з кім мы маем справу, ведаў, што гэты не выпусціць іх так проста са сваіх рук.

Я здзівіўся толькі аднаму: што магло прымусіць гэтых, з лесвіцамі, пайсці на справу, якая не абяцала жыцця, а толькі смерць? Напэўна, нясцерпным стала жыццё.

Рэшткі атрадаў кірасіраў скакалі на ўсю моц, а я ўсё паўтараў сам сабе:

— Не спадзявайцеся, гэты не выпусціць, гэты не з тых.

І я не здзівіўся, калі з лагчыны, напярэймы адступаючым вылецела конніца. На чале яе імчаў чалавек у барвяным плашчы са сваімі двума спадарожнікамі. І было гэтых конных людзей не больш за дзве сотні, але я пазнаў па шэрых ваўчыных шапках з заломам на левае вуха, што гэта за людзі.

Так носяць шапкі толькі конныя пастухі, што вандруюць з панскімі чародамі па ўсіх пясчаных і вапняковых пустэчах гэтай зямлі.

Божа, умяшаліся ў бойку нават гэтыя людзі, што ўдарам канца карбача* па носе забіваюць ваўка! Каго ж ты не пакрыўдзіла, панства гэтай зямлі?!.

Я ўжо амаль не глядзеў, як яны дагналі кірасіраў, урэзаліся ім у фланг, змялі і адрэзалі ад замка. Я толькі глядзеў, як гэты барвяны д'ябал арудаваў двухручным мячом — па-даўнейшаму.

І яшчэ бачыў я, як чорна-зялёны, быццам тванню запэцканы, галаморды Пятро — у яго, як у многіх дэйноўцаў, кепска расла барада — збіў сваім канём цяжкага каня капітана, на хаду выхапіў кірасіра са страмёнаў, перакінуў яго цераз сядло і загікаў, засвістаў разбойніцкім посвістам, памчаў прэч ад месца сутычкі — каб не адбілі.

Не ўцёк ні адзін кірасір, яны расправіліся з імі хутка, як галодны швейцарац з засмажаным трусом. Частка засталася ляжаць на зямлі, і з іх на месцы здзіралі латы, частку пагналі на вяроўках у бок лясістых узгоркаў.

А гэтыя прыскакалі амаль да самых муроў і пачалі нахабна гарцаваць пад імі. Пасля я ўжо і сам не мог разабрацца, хто каго лае — такія праклёны сыпаліся з муроў і з поля:

— Зямлянікі, рыдлёўшчыкі!

---

* Кароткі бізун.

— Воўчая сыць! Недаедкі.
— Студні салілі!
— Шклоўскія іспанцы!
— Недасекі! Сабаку з’елі!
— Хамаўшчына чарнаногая!
— Гудзі, дуброва, едзе князь па дровы! Матку на суку-харта змянялі! Польская косць, ды сабачым мясам абрасла!

Я загадаў страляць, але тыя так і пырснулі на ўсе бакі. Чалавекі тры зваліліся, ды і тых яны падхапілі на ляту, забралі.

Цяпер мы маглі страляць без апаскі. І мы стралялі з гадзіну па асобных кучках людзей. Трымаліся яны нахабна. Два праехалі пад самымі мурамі на кірасірскіх конях і ў латах. Адзін — на кані, пакрытым замест падкладкі ксяндзоўскай рызай (з Рагачыка, відаць, узялі).

Я супакоіўся, нават пераміргнуўся з Дар’яй, што блукала па двары. Усміхнулася і яна мне.

Тыя таксама, відаць, адпачывалі.

А потым стала не да адпачынку. Таму што вазы, тыя самыя, акутыя, пачалі паўзці з-пад лесу да цытадэльных муроў. Іх кацілі надзейна прыкрытыя мужыкі.

Зноў з’явілася конніца і замаячыла па ўзгорках. Так, з вазамі яны прыдумалі хітра, амаль як чэшскія ерэтыкі калісьці. Праўда, «Вагенбург» Ракутовіча быў лягчэйшы і, відаць, больш рухомы. Калі ён прапоўз палову адлегласці да крапасных муроў — мы пачалі паліць па ім з гармат. Пару разоў трапілі. Але праз імгненне адтуль таксама грукнулі гарматы, шэсць штук, роўна столькі, колькі было на мурах у Рагачыку.

Пырснулі каменныя асколкі ля самага майго твару, паваліўся і застагнаў адзін з маіх хлопцаў.

А яны палілі, пасоўваючыся бліжэй і бліжэй. Абваліліся два-тры зубцы на сцяне.

Пятро, які нешта гарланіў пушкарам, раптам шалёным намётам памчаў да Жабінай вежы. Асадзіў каня і, прымушаючы яго гарачыцца, закрычаў дурным матам:

— Здавайцеся, штурмаваць будзем!

Кізгайла вырваў у пушкара, што наводзіў гармату, фіціль, вылаяўся, сунуў яго ў запальнік. Пашча гарматы вырыгнула агонь.

Мы пачулі глухі ўдар. Потым на тым самым месцы, дзе куражыўся Пятро, устаў косы, завіты, як гляйсар, слуп дыму. Конь узняўся на дыбкі і перакуліўся на спіну, прыціснуўшы сабою седака.

Муры завылі трыумфуючы.

Я не бачыў, як яго падхапілі, — агонь стаў жахлівым. «Вагенбург» усё набліжаўся, і поле за ім варушылася: ішоў народ. Зноў неслі лесвіцы.

...Прыйшла наша чарга. Я загадаў Аўгусту Тухеру, адзінаму сярод нас немцу, стаць на маё месца, сачыць за боем і падаваць мне сігналы гукамі ражка, а сам спусціўся да брамы. Вылазка стала неабходнай, бо мая абарона — гэта напад. «Вагенбург» трэба было знішчыць. Трэба было пазбавіць іх гармат.

Мы выйшлі з крэпасці і рушылі на іх трыма плутонгамі, па чарзе страляючы цераз галовы пярэдніх.

Яны кінуліся на нас утрапёна, але швейцарца цяжка збянтэжыць. Мы вялі свой беглы агонь і ішлі.

Нядобра выхваляцца сваімі дзеяннямі, і я скажу толькі, што мы прымусілі да ўцёкаў пярэднія гурты, праніклі да «Вагенбурга» і закляпалі тры гарматы з шасці.

А потым прыйшла расплата.

З дыму, што, як коўдра, укрываў поле, паказаліся раптоўна конныя і пешыя гурты ў белым. Іх было многа. І наперадзе ішоў чалавек, які трос двухручным мячом. І яны ішлі не спяшаючыся, а над іхнімі галовамі лунаў дзікі і суровы харал:

Пан Бог цвярдыня,
Цвярдыня мая,
Узняў ён длань маю.
Як Давід на Галіяфа —
Узняў.
Вось мой народ,
Як ільвіца, устае.
Пан Бог над вамі,
З намі ў гневе,
З намі ў гневе
Наш народ.

І раптам яны кінуліся наперад. Гэта была нібы лавіна.

— Святы Юры! Русь! — крыкнуў Ракутовіч, і конь Лаўра шарахнуўся ў бок ад гэтага страшнага голасу.

Яны сутыкнуліся з намі, і нас не выручылі нашы дзіды, абцяжараныя целамі, абсечаныя кароткімі кордамі мужыкоў.

Ракутовіч сек двухручным мячом. І яго атрад не адступаў ад яго. А мы падаваліся задам, захлынаючыся сваёй і чужой крывёю. Падаваліся занадта паспешліва, каб гэта можна было назваць адступленнем.

Хутка за намі, патрапанымі і зраненымі, з трэскам зачыніліся форткі брамы. Я ўцякаў другі раз: першы раз пры Брэйтэнфельдзе* — я быў тады ў імператарскай арміі, намі камандаваў Цілі, а супраць нас быў шалёны швед — і тут, ад мужыкоў.

І я не стыдаюся гэтага. Калі б гэтаму варвару даць тых самых утрапёных мужыкоў, але закутых у латы і ўзброеных сталлю, ад яго ўцякаў бы і сам Густаў**. На наша шчасце, у іх былі мяккія шапкі з вяровачным шаломам паўзверх. Гэта ратавала іх ад удару шаблі, але не ад дзіды і свінцу.

А потым пачалося пекла аблогі: лесвіцы, што паўзуць уверх, агнявыя патокі смалы, каменні.

Мы кідалі таксама гліняныя збаны з чалавечым калам. Гэта прыдумаў Кізгайла, і гэта была добрая выдумка, бо я не бачыў людзей больш ахайных, чым русіны. Яны тройчы ў тыдзень мыюцца ў сваёй лазні, змываючы з сябе выпарэнні. А па суботах яны ператвараюць гэта ў свяшчэннадзейства, хвошчуць адзін аднаго венікамі, п’юць ягадныя воды і качаюцца ў снезе. Таму яны заўжды моцныя і здаровыя, і, кажуць, гэта вельмі спрыяе добрым паводзінам у ложку. Аднойчы я паспрабаваў залезці на гэты іхні «палок» і скажу вам, што свінец і агонь, якімі асыпалі нас пры Бургштале паблізу Вольміршутэта, дзе нас упершыню адлупцаваў швед, — дзіцячыя забаўкі ў параўнанні з той лазняй. Я адчуваў сябе, як у пекле.

Але не было выдумкі горш за гэту, бо, скажу я вам, гэтыя людзі надта адчувальныя да абразы. Іх не так абражала унія і зняслаўленыя цэрквы, як тое, што іхніх праваслаўных нябожчыкаў не дазвалялі вывозіць з горада інакш, як праз тую браму, праз якую вывозілі нечыстоты і іншы бруд.

Гэты штурм! Я радаваўся толькі таму, што, як заўсёды падчас бойкі, думаў на мове маёй радзімы. Гэта добра.

Але ўсё адно жахлівей не было нічога. Падалі лесвіцы, а яны лезлі і лезлі, як чэрці, і хутка сеча закіпела на мурах.

Кізгайла, я і мае людзі секліся адчайна, але яны цяснілі нас, а наперадзе іх выў і крыўляўся сівы і маленькі, як кобальд***, чалавечак у рыззі — іхні святы.

І яшчэ бачыў я, як сек двухручным мячом дэман у барвяніцы. Яго скінулі ўніз разам з лесвіцай, але яна зачапілася за рог вежы і спаўзла ўніз, і ніхто, здаецца, не загінуў.

---

* Месца бітвы ў германа-шведскай вайне.

** Густаў-Адальф — шведскі кароль.

*** Дух лясоў у германскай міфалогіі.

Мужыкі з навакольных вёсак сцякаліся на ўзгоркі і глядзелі на пабоішча, як на бойку ля шынка.

— Зляцелася груганнё, — хрыпеў Кізгайла, гледзячы на іх і з нянавісцю адбіваючыся ад тых, што нападалі.

Потым ён кудысьці знік.

А нас адцяснілі да сцяны глухой Саляной вежы, і тут мы, сорак швейцарцаў, стаялі, ашчацініўшыся зброяй, і рыкалі на абкружаўшых нас ворагаў.

Гэта было ўжо толькі справай гонару, таму што абараняць не было чаго.

Замак быў узяты.

Дзіды абкружалі нас з усіх бакоў, нават зверху, з забрала сцяны. Варта было нам вякнуць — і з нас зрабілі б вожыкаў. Нас засталося сорак. Астатніх забілі альбо ўзялі ў палон. Вачыма, затуманенымі стомай, я ўбачыў, як перад намі з'явіўся Лаўр у светлых латах, у блакітным плашчы, у блакітных саф'янавых чаравіках, усмешлівы, млява-зняможаны, быццам не з сечы, а са спаткання. Ён крыху нагадваў архангела Гаўрыіла, і гэты архангел кінуў нам словы, поўныя лянівай паблажлівасці:

— Кідайце зброю, ці што.

— Не, сынок, — адказаў я, — не ты нам гэтую зброю даў, не табе і загадваць.

— Не строй дурня, бацька, пашкадуй хлопцаў.

І раптам аднекуль з вышыні, з балюстрады, пачуўся безжыццёвы голас:

— Складзі зброю, Канрад, я дазваляю. Ты зрабіў усё, што мог.

Гэта быў голас Кізгайлы. І я ўбачыў пана на балюстрадзе. А за ім стаяў Дамінік з дзідай. І Дамінік кінуў зверху да ног Лаўра ключ і крыкнуў:

— Трымайце. Я замкнуў дзверы ў кутні пакой.

— Які пакой?— узняў бровы Лаўр.

— У той, адкуль падземны лаз.

Я апусціў галаву. Дзіўнае чынілася тут. Гаспадар хацеў уцячы, пакінуўшы нас на ярасць мужыкоў. А схілены ім да каталіцтва мужык, яго апора, не даў яму гэтага зрабіць. І тады я наступіў нагою на свой клінок і зламаў яго, а кавалкі кінуў да Лаўравых ног. Нас абяззброілі. А Кізгайлу, напэўна, разарвалі б на месцы, каб не зарыпелі форткі брамы і не заляскалі ланцугі моста, які апусціўся. Я ўбачыў проста перад сабою дарогу, гурмы людзей па абодва бакі і конніка на белым кані,

што ехаў да брамы. Твар яго быў запэцканы сажай, барвяны плашч раздзёрты, але вочы палалі агнём, што ўсяляў жах.

Народ выў. Я бачыў змардаваныя твары, па якіх цяклі слёзы, і іншыя твары, ярасныя. Але і на тыя і на другія было страшна глядзець.

— Раман! Народ Божы! — Роў рабіўся нязносны. — Ратуй! Дай зброю! Рай будуюць на нашым пекле! Ратуй нас! Ратуй!

Я ўбачыў, як некалькі чалавек кінуліся цалаваць сляды капытоў яго каня, і, слова гонару, гэта не было смешна.

А ён крычаў у адказ сваім страшным трубным голасам:

— Праваслаўныя, усё бярыце! Зямля — ваша, хлеб — ваш, вера — ваша! І доўбні — вашы! А гэтым нечасціўцам — меч!

Але нават яго голас заглушыў роў і крыкі «ратуй!». Калі ён мінуў арку брамы і ўехаў у двор — да ног яго каня сталі шпурляць скручаных шляхціцаў, усіх, хто ўцалеў пасля бітвы на мурах.

А народ усё роў, і тут я ўпершыню пачуў, як выгукнулі тое яго імя, якое праз месяц стала крылатым:

— Барвяны ўладар! Барвяны ваяўнік!

Конь мерна ступаў паміж целамі, і капыты звонка білі аб камень. Белы конь з залацістымі вачыма. А гэты сядзеў на ім як уліты. Бачыў я грыву непаслухмяных і бліскучых попельных валасоў, што адлівалі золатам, ёмісты чэрап з вялікім ілбом, цвёрда сціснуты вялікі рот, жорсткія жаўлакі на шчоках, прамы і крыху кірпаты нос.

Аблічча, што наганяе жах. Але жахлівей за ўсё былі вочы, незразумелыя па колеру, то шэрыя, то сталёвыя. То залацістае ў ім прамільгне, то нават трохі зялёнае, раз'юшанае. Доўгія, светлыя, незразумелыя вочы.

І гэта галава была закінутая назад, бы ў нязмернай гардыні, а жылістая рука ўладна сціскала павады. І конь адчуваў гэтую руку і ішоў паслухмяна, дрыжучы кожнай жылкай, касавурачы шалёным вокам і стрыгучы вушамі.

Потым я даведаўся, што такая пасадка галавы ад нараджэння, а позірк ад неастылага яшчэ ап'янення бітвай, але тады ён здаўся мне такім жахлівым, што я жахнуўся за кожнага, кінутага да яго ног.

Конь стаў пасярод распластаных цел. А ён сядзеў і глядзеў на мяне.

— Найміт, — усміхнуўся ён. — Але ты добра біўся. Развяжыце іх.

Народ кінуўся выконваць яго загад.

— Хочаш служыць мне?

— Не, пане.

— Называй па імені.

— Не, Раман.

— Правільна, сорам ад аднаго гаспадара адразу пераходзіць да пераможцы. Ты яшчэ не да канца запрадаў душу. Вось табе загад: вартуй пакоі...

І ўзвысіў голас:

— Рабунку не будзе, людзі. Лаўр, падлічы хлеб, срэбра, худобу. Падзялі на дзве паловы. Адну няхай бяруць мужыкі і раздзеляць па беднасці. Ад другой паловы трэцюю частку — на зброю і харч, а дзве трэці — падзяліць паміж сем'ямі тых, хто браў замак. Па храбрасці. І не забудзь тых, што загінулі ля фальшывых лесвіц.

Змоўк на імгненне.

— А замак не ўзрывай. Ён нам яшчэ можа спатрэбіцца.

Народ адказаў радасным ровам. Паляцелі ўгору магеркі і ваўчыныя шапкі.

— А з гэтымі што рабіць, Раман? — спытаў мужык з рацішчам.

— Шляхта, — быццам упершыню заўважыўшы, сказаў ваяўнік. — Паглядзіце, што ў іх на шыі. З праваслаўным крыжам — пакіньце заложнікамі. У каго рымскі агнусек*...

Ён замяўся:

— Хай мужыкі і сярод праваслаўных, і сярод католікаў адшукаюць злых. Аддаю іх у вашы рукі. Добрых — пусціце на ўсе чатыры вятры і адбярыце слова не чыніць шкоды. Няхай крыж цалуюць. Астатніх — у заложнікі.

Пачалася сумятня. Хутка меншую частку палонных павялі за браму — далей ад граху. Засталося чалавек сорак, і сярод іх Крот.

— Пастаўце на калені, — сказаў Ракутовіч, — няхай і яны на мужыкоў знізу паглядзяць.

Крот супраціўляўся як мог. Твар яго быў наліты крывёй і, калі выбарнага ўсё ж паставілі на калені, стаў жахлівым.

— Сволач, прадажнік, блакітнай крыві здрадзіў! Ну, трымайся, Раман! Забыў, хто ў краіне станавы хрыбет? Нобілі, баярства, дваране! Яны табе даруюць, думаеш?

---

* Агнец Божы; каталіцкі нашыйны знак.

— Ваша дараванне — сабаку пад хвост, — загрымеў Ракутовіч. — Мужык — станавы хрыбет усяму. А вы яго ў пекла ўвергнулі.

Крот выгінаўся ў дужых руках, спрабуючы ўстаць. Ён ужо не крычаў, а хрыпеў:

— Юда! Ці не мужыцкая зязюля пабывала ў тваім гняздзе? Юда!

На лбе Ракутовіча набракла жыла. І такога голасу я таксама яшчэ ніколі не чуў. Ціхі, ён узняўся на канец да трубнага:

— Аспід. Васіліск. Выпоўзіна змяіная. Ты ці многа разумееш у гонары? Ваш гонар у Варшаве Жыгімонту пяткі лізаў. Ваш гонар адзінаверцаў маскоўскіх пад Воршай разграміў і пакуты ім чыніў смяротныя. Ваш гонар сваіх беларусцаў на прэнг вешае. Да чаго вы народ русінскі, Божы народ, давялі ў подласці сваёй? Дзеў на чужацкі ложак шпурнулі. Краіну ўсю! Слёзы яе вам сэрца не абцяжарваюць?! Веру змянілі, хрыстапрадаўцы! Народ прадалі, гандляры! Сваімі рукамі пятлю на яго звілі ды самі і надзелі. Ва ўніжэнні, ва ўціску ён небу вапіе, а вы лікуеце!

І захрыпеў горлам:

— Я дваран здрадзіў, а ты здрадзіў край. Мне гарэць, а табе пакі. Ды мне, можа, яшчэ і даруе Пан Бог, бачачы, што скроні ў мяне ад мучэнняў сівеюць. А табе — няма літасці.

— Ды не бядуй ты так, — жаласна сказаў мужык. — Кажы, што рабіць з імі, ды і канцы.

— Твая праўда, — сказаў Раман, — вядзіце іх за муры. Пад корань!

Натоўп закіпеў, цягнучы пад арку палонных. Цішу прарэзаў чыйсьці немы лямант. Потым усё сціхла.

Сціхла таму, што пад арку з-за муроў ішло павольнае і маўклівае шэсце. На плячах мужыкоў плылі насілы з вялізным каржакаватым целам Пятра.

Распасцёрты на іх, велічэзны, з закінутым падбароддзем і раскіданымі валасамі, ён павольна плыў нагамі ўперад. Латаў на ім не было. Чорна-зялёны плашч прыкрываў калені, што тырчалі ўгару.

Знялі шапкі. Раман прыдушаным голасам спытаў:

— Панцыр дзе?

— Знялі, бацька.

— Правільна. Жывому жывое. У нас мала.

Пад'ехаў да насіл, схіліўся.

— Прабач, брат. Не ўбярог я цябе. А ты — спі. Усім спаць... Многім — скора.

І, падняўшы галаву, абвёў шляхту вачыма, пасвятлелымі і жорсткімі. Потым слізгануў позіркам па шасцёх чалавеках у шэрых расах, што смірна стаялі каля сцяны, узняўшы вочы ўгору. Поруч з імі стаяў служка з біклагай ля пояса.

— І вы тут? Прыпаўзлі, гады. Доўга ж вам дазваляе Бог сваім імем празывацца.

Калі ён цалаваў нябожчыка ў лоб, я ўбачыў, як дрыжалі яго вусны.

— Падлу цалуе, — выразна даляцеў голас з натоўпу дваран. — Сам скора падлай будзеш.

Ракутовіч узняў галаву, агледзеў стракаты ад парчы натоўп.

— Плахі сюды, — свісцячым шэптам сказаў ён і раптам выбухнуў: — Плахі!!! Спявай памінальную, поп! І вы, шэрыя расы, спявайце. На сваёй д'ябальскай гаворцы.

Іякінф заспяваў. Да неба панесліся гукі памінальнай абедні. А ад сцяны ціхмана і здаўлена загучалі іншыя гукі, нязладжаныя басы:

— Dies irae, dies illa, dies magna et amara valde*.

Мужыкі прыцягнулі ўжо тры сасновыя калоды і кінулі іх перад капытамі белага каня. Але Ракутовіч раптам апусціў галаву.

— Добра, — сказаў ён, — не трэба плах. Не нам пэцкаць сякераю рукі. Гэтая сволач не храбрэйшая за жанчын... Вазьміце іх, мужыкі.

Дваран пацягнулі далей пад арку. Большасць маўчала, разумеючы, што пажынае свой пасеў.

— А гэтага куды? — спытаў пастух у ваўчынай шапцы, паказваючы на Кізгайлу, якога ўжо звялі з балюстрады.

— Гэтага не чапай.

— Дай мне яго забіць, — сказаў пастух, — з-за яго ў мяне брата павесілі.

— Ведай сваё месца, Іван, — суха сказаў Ракутовіч, — гэта мой вораг, не твой.

Два ворагі глядзелі адзін на аднаго. І ў аднаго не было ў вачах боязі, а ў другога — злосці. Кізгайла стаяў, прыняўшы самавітую паставу, разумеючы, што яго ўжо ніщто не ўратуе.

— Ну вось, — сказаў Раман, — ты думаў, я не дабяруся да цябе, Кізгайла? А я тут, і я разграміў тваё гняздо.

Адзін вецер бязважна гуляў каштанавымі валасамі Кізгайлы і грывай Ракутовіча. Кізгайла дыхаў гэтым ветрам і адказаў не адразу:

---

* Дзень гневу, дзень слёз, дзень велічы і горычы *(лац.)*.

— Чаму ты не выклікаў і не забіў мяне тады?

— Вас усіх трэба пад корань — вось што я падумаў тады... Дзе Ірына?

— Ты не знойдзеш яе, Раман. Яна цябе ніколі, ніколі не пабачыць. Родам панскім на зямлі клянуся. Я адправіў яе далёка, куды ты не дастанеш.

— Я дастану... Як да цябе дастаў.

— Ты і без гэтага пакараў мяне, — на твары Кізгайлы я ўбачыў тую самую маску, што ўначы, калі Ірына кідала яму праклёны. — Дык забівай ужо да канца. — Усміхнуўся: — Толькі для мяне трох плах зашмат, Рамане. Усіх трох крывёю аднаго не напоіш.

— Я не буду сячы табе галавы. Я проста зраблю тое, чаго не зрабіў тады. Прымай выклік. Лаўр, дай яму каня.

Вочы Кізгайлы загарэліся:

— А калі я цябе звалю?

— Тады ты будзеш вольны. З жонкаю. Чуеце, мужыкі? Я слова даю.

Кізгайла кінуўся да гнядога каня, якога падвёў яму Лаўр, коршакам узляцеў у сядло.

— Ну, тады трымайся, Ракутовіч! Я табе за дваранскую ганьбу адплачу. Шаблю мне!

— І мне шаблю. Горшую. Каб не выхваляўся потым.

— Мужыкі, — загарланіў Лаўр, трасучы хваляй валасоў, — ану, лезь куды вышай. Ачышчай месца.

Народ з гаманой і смехам палез на балюстраду, на лесвіцы, на забрала. Адусюль глядзелі зверавата-лагодныя вусатыя морды.

Коней развялі па кутах двара. Кізгайла, прыгнуўшы галаву, шнарыў вачыма па постаці ворага. Ракутовіч спакойна чакаў.

— Давай, — махнуў рукою Лаўр.

Цішу раздзёр звонкі пошчак капытоў. Ворагі рынуліся адзін на аднаго, сутыкнуліся, скрыжавалі сталь.

Дзве блакітныя палосы затрапяталі ў паветры.

Секлі, вываройчваліся з-пад udaraў, з запалам хакалі пры кожным удары.

— Трымайся, Рамане, — з экстазам выў Кізгайла, выскаляючы зубы.

— І ты трымайся, — з прытоенай нянавісцю адказаў Раман.

— Блакітную кроў спахабіў.

— Людажэр. Напіўся дзявочых слёз. Вось табе...

Звон зброі аддаваўся ў мурах і запаўняў увесь двор, як на бяседзе ў таго грэцкага прахвоста, калі даводзілася ганяць птушак.

Раман ужо два разы зачапіў Кізгайлу. Абодва разы мы выразна пачулі трэск лат. Нарэшце Кізгайла злаўчыўся і рассек на Ракутовічу шалом. Рана была, напэўна, неглыбокая, але струменьчык крыві прасачыўся праз падшаломнік і павольна папоўз цераз правае брыво Рамана, закапаў на жалеза нагрудніка.

— Вось табе першая метка, — зарагатаў Кізгайла, — выкласці б цябе, сукінага сына.

І тут Раман, сціснуўшы зубы, кароткім і моцным ударам адбіў правую руку Кізгайлы ўбок.

Яго шабля занеслася і бліскавічна слізганула ўніз.

Мы пачулі Раманаў крык:

— За Ірыну табе, ваўкарэз.

Раздаўся глухі ўдар. Цела Кізгайлы хіснулася ўбок, потым павольна перавярнулася ў паветры і ўдарылася спіной аб пліты.

Шабля вылецела з непаслухмянай рукі і, звонячы, заскакала па каменнях.

Чырвоны, разгарачаны, з валасамі, якія зліпліся на лбе, высіўся над забітым Раман. І я не заўважыў на яго твары радасці, звычайнай для пераможцы. Ён працягнуў руку і здзічэлым хрыплым голасам кінуў адно слова:

— Піць.

Служка, што стаяў побач з шэрымі манахамі, спешна сарваў з пояса біклагу і, усміхаючыся ліслівай і жалкай усмешкай, стаў наліваць з яе віно ў вялікую срэбную чару, якую дастаў з-за пазухі. Потым трушком падбег да Ракутовіча.

Рука Рамана імпэтна схапіла чару.

І тут Лаўр зноў здзівіў мяне. Яго скуласты прыгожы твар стаў раптам грубаваты і халодны. Ён паклаў руку на локаць Ракутовіча:

— Не пі, гаспадар.

— Гэта чаму? — Раман здзіўлена глядзеў у шэрыя доўгія вочы хлопца.

А ён ужо перавёў упарты позірк на аднаго з манахаў. У таго былі таксама шэрыя халодныя вочы, толькі пад вялікімі верхнімі павекамі, і ён спакойна вытрымаў позірк Лаўра.

— Хлопчык непакоіцца, — з халоднай кплівай усмешкай сказаў езуіт. — Ну што, дайце віно мне. Вып'ю я. Яно такое ж чыстае, як кроў Хрыстова.

— Дурная галава, — з грубаватай пяшчотай працягнуў Раман, — хто ж гэта скурай рызыкаваць будзе? Кеміць трэба.

— Дайце. Дайце мне, — спакойна сказаў езуіт.

— Ну не. Ты не працаваў, табе потым, — і Раман пацягнуўся да віна.

— І ўсё ж не пі, — упарта сказаў Лаўр.

Вочы яго з-пад доўгіх, як стрэлы, вей глядзелі падазрона і пільна.

— Глупства.

— А я кажу — не пі!

І ўзмахам рукі выбіў чару з рук Ракутовіча. Пунсовы, як кроў, цурок слізгануў па беласнежнай скуры каня. Бразнула чара. Расплылася па каменнях чырвоная лужынка.

— Ну і дам я табе зараз лупцоўку, — сказаў Раман.

— І дай. А іхняе віно ўсё адно няможна піць. Ніколі.

— Хлапчыска дурны.

У гэты час вялікая белая хортая Кізгайлы, цемнавокая і дрыжачая, як спружына, пацягнулася падціснутым жыватом, падышла, стукаючы кіпцямі, да конніка і, соладка прыжмурыўшыся, лізнула лужынку языком. Потым лягла, паклала доўгі шчыпец на складзеныя крыжыкам лапы і зажмурылася, уздрыгваючы бровамі.

— Бачыў, — хітнуў галавою Раман, — у пса разумення болей.

Лаўр усё глядзеў на езуіта. Потым падышоў да хортай і штурхнуў яе нагою. Яна бязвольна, як ватная, асунулася набок.

— Бачыў, — перадражніў Лаўр. — У пса разумення болей. Столькі, колькі ў цябе, бацька.

Ракутовіч не звярнуў увагі на дзёрзкасць. Ён глядзеў на жывёліну, вокамгненна забітую ядам. Потым перавёў позірк на езуітаў:

— Што ж вы, панотцы, маруднага яду не ўзялі? Каб праз тыдзень забіў. Не знайшлося? Каб ведалі — прыгатавалі б?

Веі-стрэлы Лаўра сярдзіта дрыжалі. Ён, надзьмуўшыся, глядзеў на манахаў. А езуіт усміхнуўся і па-ранейшаму спакойна адказаў:

— Так, трошкі сарвалася. Не пашанцавала збавіць гэты няшчасны край ад лішняй смуты. Але цябе нішто не зберажэ, Раман. Пры жаданні і ў яйка можна пакласці адплату.

І ўсмешка яго была разумнай, з’едліва-хітрай і чымсьці нават прыгожай.

І Раман паглядзеў на яго таксама з усмешкай, якая, аднак, адразу знікла.

— Маладзец.

Я не разумеў, чым можа скончыцца гэтая сцэна, але ў гэты час Дамінік падвёў да ног Раманавага каня пані Любку і капуцына Фелікса.

— Канчай і гэтых адразу, бацька, — змрочна сказаў ён.

— З бабамі не ваюю, — кінуў Раман.

Любка глядзела на яго нейкім незнаёмым мне, шырока адкрытым позіркам.

— А гэты? — сказаў Дамінік, падштурхоўваючы Фелікса.

— А што гэты? — іранічна спытаў Ракутовіч.

— Ты што ж, гаспадар, не бачыш, хто гэта?

— Бачу. Ціхі п’яніца.

Іякінф кінуўся да сабутэльніка і замітусіўся вакол яго. З рук Фелікса ўпалі вяроўкі, і капуцын шырока ўсміхнуўся.

— Ну вось, ну вось, — задыхаючыся, сказаў Іякінф, — літуй мя, Божа, ты і на алтар твой цяльцы.

А Раман, ужо не звяртаючы на іх увагі, павярнуўся да Лаўра.

— Ты даруй мне мой грэх.

І паказаў рукою на езуітаў:

— Бяры іх, Лаўр. Ваўка не заўсёды забіваюць, але змяі раструшчваюць галаву заўсёды.

Цвёрда і сурова кінуў:

— На зубцы.

## III

> І калі жонка засталася ўдавой без дзяцей, што мацуюць дом, — дай ёй па сэрцы ладу на час кароткі, дабы не паклаў Бог канца і мяжы дому і роду мёртвага... Але не для ворага дай, бо пракляне цябе зямля, і дом, і народ твой.
>
> *Старажытны закон*

Познім вечарам гэтага дня я стаяў на вахце ля дзвярэй замкнёнай бібліятэкі. Гэты загад даў мне сам Раман. Пані Любка дабілася праз Лаўра размовы з гаспадаром і хутка павінна

была прыйсці. А вартаваць іх павінен быў я, і я сцяміў, што яны не хочуць, каб пра гэта ведаў нехта са сваіх.

Дзверы былі прычынены няшчыльна, і мне можна было бачыць цёмны дуб сцен, кнігі ў нішах за драўлянымі кратамі, цяжкі васьміногі стол, вялізны глобус і зорную сферу, абхваченыя меднымі бліскучымі абручамі. Тут быў спакой, і мір, і кніжны пыл.

А перавёўшы позірк правей, я праз вузкае акно бачыў замкавы двор, вогнішчы, раскладзеныя на плітах, узброеных мужыкоў, залітых чырвоным вадкім святлом. Адтуль ляцела ціхая і страшнаватая песня аб наплываючай хмары і наступаючым турэцкім цару. І твары тых, хто спяваў, былі задумлівыя і, як заўсёды ў тых, хто спявае, прыгожыя. Але ж я ведаў, якія яны бываюць жахлівыя. Песня. Агонь. Косы.

І гэта было жыццё.

А ў бібліятэцы Раман казаў Лаўру:

— Ну, забіў. А ўсё ж так шкада дурня, быццам не загубіў ён майго жыцця... Разам галубоў з дурнем ганялі. Собіла ж яму пярэваратнем стаць, людзей мучыць. І мучыў, можа, таму, што сумленне было неспакойнае.

— Не таму ты турбуешся, — холадна сказаў Лаўр. — Надта ўжо ты, дзядзька, сэрцам да аксамітнікаў прырос.

Ракутовіч доўга маўчаў. Потым уздыхнуў:

— І тут твая праўда. Душа разрываецца. Крычаў сёння, што мужык — хрыбет усяму. І ведаю, што гэта так. І ведаю, што ягоная праўда, таму што ніхто так не пакутуе. А сэрца ліпне і ліпне да гэтых. З імі ездзіць вучыўся, сокалаў пушчаў, з імі скакаў, з імі ўпершыню напіўся.

— Дурыш, — непачціва сказаў Лаўр, — а яны табе на кожным кроку бязлітасна здраджвалі. Яны спяць і ў сне бачаць выспацца на тваёй скуры.

— Ведаю. І ўсё ж, каб не былі яны павей-ветрамі, каб не перакінулася ўся гэтая зграя да Варшавы і Рыма, — не пайшоў бы я з вамі. Дабром бы іх упрошваў добрымі быць з людзьмі.

— Іх упро-сіш, — працягнуў Лаўр. — Хіба сякерай толькі...

— Ведаю, — сказаў Раман. — Ды з гэтым скончана. І хопіць балакаць.

— А Ірына? — не сунімаўся Лаўр. — З ёю яны што зрабілі? Ці, можа, і яе забудзеш? Закруціш з багатай?

— Не магу забыць. Верны ёй. І няма мне забыцця. Ідзі, Лаўр. Ідзі...

Лаўр моўчкі прайшоў паўз мяне ў пакой насупраць.

Некаторы час я чуў у бібліятэцы толькі гулкія крокі. Потым убачыў праз шчыліну гаспадара, які падышоў да стала і адкрыў кнігу не кнігу — аркушы былі занадта розныя, — а хутчэй нейкія пасланні ды граматы, пераплеценыя ў агульную цялячую вокладку.

Ён чытаў, варушачы вуснамі, і раптам я пачуў знаёмыя мне словы, словы васьмігадовай даўнасці, словы з прашэння беларускага народа на сейм. Усе ведалі, хто яго склаў.

І гэтыя словы шмат у каго былі на вуснах. Ведаў іх і я.

— «Усяму свету вядома, — чытаў гаспадар, — у якім быў стане слаўны старажытны народ за некалькі перад сім год, аныня оный, падобна ўлюбёнаму Богам народу ізраільскаму, з плачам аб стане сваім вапіе: се мы унічыжэнны, пачэ ўсіх жывучых на зямлі, не імамы князя, ні правадыра, ні прарока...»

Гаспадар скалануў грывай валасоў. Заплюшчыў вочы і чытаў, можа, па памяці:

«Не даволі, што славуты народ рускі даведзены да такой вялікай бяды і толь цяжкага ўцяснення, будучы Бог весць за што ганімы... пазбавілі нас яшчэ і бясцэннага скарбу — златой волі, нахабным чынам прысвоіўшы оную».

Голас Рамана сарваўся. Ён бясшумна закрыў кодэкс і ціха сказаў:

— Такія словы сказаўшы, адрачыся ад іх. Эх, людзі...

І яшчэ цішэй, з нейкім жаласным дзіцячым непаразуменнем спытаў:

— Як жа гэта ты, Леў?..

Паглынуты гэтай споведдзю, я здрыгануўся ад нечаканасці, калі вузкая жаночая рука апусцілася на маё плячо. Перада мною стаяла пані Любка, накінуўшы на плечы белую — на знак жалобы — хустку.

— Можна да яго?

— Ідзіце, пані.

Яна ўвайшла і зачыніла за сабою дзверы. Нейкі час я нічога не чуў, але гэтыя дзверы былі з норавам: спачатку з’явілася вузкая шчыліна, пасля шырэйшая, потым такая, як раней. Я не стаў іх зачыняць — няхай сабе стаяць, як ім падабаецца.

І я пачуў мяккі, зусім не такі, як раней, голас жанчыны:

— ...і бяздзетных выганяюць з маёнтка другія сваякі. Хто абароніць, калі абаронцы забітыя?

— Чаму ж раней не было?

Дзверы адчыніліся яшчэ крыху шырэй. Праз рэдкую штору я ўбачыў гаспадара, які сядзеў на шырокай ложы, накрытай

ручным русінскім кілімам, і жанчыну, што сядзела насупроць, праўдзівей, яе галаву, залацістую, злёгку нахіленую ўперад.

І гэтая галава ціха сказала:

— Ты нічога не ведаеш. Праз паўтара месяца пасля вяселля яны ішлі граміць цябе, і страла пазбавіла яго мужнасці.

Я сам сабе свіснуў. Так, нявесела было Кізгайлу. Вось чаму ён быў такі кіслы, калі Ірына праклінала яго.

— Ну што ж, — сказаў Ракутовіч, і я ўбачыў яго вялізныя шалёныя вочы, — вы ж і мяне пазбавілі кахання, пазбавілі роду... Ён гадзюка. Няхай згасне яго род!

— Ты сам разумееш, як гэта страшна, гаспадар, — ціха сказала яна.

— А што ты зрабіла для мяне добрага? — нахіліўся ён. — Забойства Якуба? Упартасць? Стрэл у брата? Яд? Другі вас бы з зямлі сцёр.

Жанчына, здавалася, вось-вось заплача. І я не чуў больш кранаючага голасу, чым той, якім яна загаварыла:

— А ты памятаеш, як мы збіралі пярэсны і лотаць? Мне было трынаццаць, ты — трохі старэйшы. Ты прывёз мяне ў лес на сваім кані. І я адчувала спіной руку, якой ты мяне трымаў, такую цвёрдую руку... Або калі ты прынёс мне крылы сівараронкі, каб я магла ўбрацца мятлушкай*.

Дзяўчына з крыльцамі матыля або птушкі — тое самае, што віла ў сербаў і фея ў старажытных брэтонцаў.

— Ты была мне як сястра... Але я не дарую вам, што вы пад замком Ірыну трымалі.

— Тады забі мяне. Не трымала я. Гэта ён.

— Я не ваюю з жонкамі, — сказаў ён, — я нобіль, і нас тры, чый род застаўся.

І раптам я пачуў яго крокі.

— Цхакен, — сказаў ён, з’явіўшыся на парозе (я стаяў, — павярнуўшыся спіною да дзвярэй), — пакліч Лаўра.

Насуплены Лаўр прайшоў у бібліятэку, і хутка там загучаў голас Ракутовіча:

— Бачыш гэтага хлопца? Падабаецца ён табе?

— Так, ён вельмі падобны да цябе, Раман.

— А яна табе падабаецца?

— Так, гаспадыня вельмі прыгожая.

— Дык вырашай, калі хочаш, я зараз, тут, зраблю яго дваранінам. Гэта будзе апошні дваранін.

---

* Лясное стварэнне ў старажытнай беларускай народнай паэзіі.

— Не хочаш выслухаць мяне, Раман, — з дакорам сказала яна.

— А ты бяры яе ў жонкі. Будзеш трымаць гэты замак маёю рукой на выпадак, калі трэба будзе адседзецца.

Я бачыў упартую спіну Лаўра. Потым блазнюк падкінуў падбародак і з папрокам, відаць, жадаючы ўкалоць, сказаў:

— Не, гаспадар. Куды ўжо вароне... Ды і не хачу я дваранінам быць.

І Раман зразумеў укол.

— Тады ідзі, — сказаў ён сурова, — і чакай майго загаду.

Яны засталіся адны. І дзверы зноў былі прачынены. Не надта тыя клапаціліся аб таемнасці.

Цяпер гаварыла пані Любка:

— Ты так і не зразумеў мяне. Ты нічога, нічога не зразумеў. Гэта ж я вінаватая. Гэта я не дазволіла Аляхну аддаць табе Ірыну. Я не магла. — І я з жахам прадбачыў словы, якія зляцелі з яе вуснаў. — Цябе я кахаю, ты адзін мой жаданы... А ты не глядзеў на мяне: сястра і сястра. А Кізгайла спытаў на маю згоду... Як я магла... сваімі рукамі аддаць. — Голас яе перарваўся. — Раман, даруй мне мой грэх. Гэта ўсё я. Але ж я не магла іначай...

Раман маўчаў, сурова гледзячы ўбок. Я бачыў яго круты лоб, насупленыя бровы. Потым ён сказаў:

— Другая ніколі ў такім не сазналася б. Адна ты... Таму і не магу я цябе ненавідзець. І калі што перашкодзіла б мне цябе кахаць, дык не гэта тваё прызнанне.

— Раман... — сказала яна.

Ён маўчаў, і яна сказала яшчэ цішэй:

— Ды вазьмі ж ты мяне. Няўжо не разумееш, няўжо сляпы?

— А табе не брыдка, што я без любасці буду ляжаць з табой?

— Я кахаю цябе, — сказала яна. — Ці не ўсё адно.

— А Ірына? — глуха спытаў ён.

— Ты яе не пабачыш, гаспадар. Іх, напэўна, ужо затачылі. Яны адвезены ў Магілёў.

Ён устаў і павярнуўся да жанчыны спіною. Яна не бачыла, але ж я-то бачыў яго твар. Гэта было, як... як алень, што кліча вясной каханне, якое загубіў стралок. А ён не ведае, а ён кліча, і ў вачах неўразуменне, крыўда і няўтоленая пяшчота.

— Што ж ты, гаспадар?

— Не, — сказаў ён. — Я з табою не магу быць. Са мною ніводная не была з той пары.

Голас яго крыху ўзмацнеў:

— Але першае, аб чым ты прасіла, я не перашкоджу табе выканаць. Бяры хоць Лаўра. Калі дзіця з'явіцца ўчасна — ніхто не асмеліцца думаць, што яно не Аляхнова. Толькі не ведаю, нашто я раблю гэта. За тваю праўду? Ці шкада цябе? Ці я дурны?

— Дзякуй і на гэтым, — сказала яна горка. — Не даеш любові, але даеш хлеб.

Ракутовіч зрабіў крок да мяне, спыніўся:

— Швейцарац, прапусціць сюды гэтага хлопца. Помсты не будзе. Род не памрэ. — І дадаў: — І нават, можа, будзе праследаваць маіх нашчадкаў.

— Якіх, гаспадар?

Ён скалануў галавой.

— Я прыйду ў яе турму, — са страшнай упартасцю сказаў ён. — Выпалю ўсе замкі. Конскім хвастом попел размяту. Але з мячом ці ў ланцугах — прыйду. Жывы ці мёртвы — вазьму. Я яе вазьму з Магілёвам, з усёй нашай зямлёй, з воляй або смерцю.

— Са смерцю? — узняла яна бровы. — Не верыш, значыцца?

— Не, але біцца буду нават без веры. Справа не толькі ў Ірыне.

— Але чаму не верыш?

— Ужо другая старая варожыць, што Ірына ніколі не ўбачыць мяне. А сёння тое самае крычаў Кізгайла.

— Ён панствам кляўся, — сумна ўсміхнулася яна, — а ты ж яго збіраешся звесці, панства.

— Не, — сказаў ён, — цуда не будзе. Няпраўду так скора не вынішчыш. Патрушу хіба вас трошкі?

— Нашто ж ты ішоў тады?

— Думаеш, не ведаю, што на смерць асуджаны? Ведаю. Людзей шкада. Зямлі дзядоў шкада.

— Тады здайся... Здайся, любы.

Ён засмяяўся, як дарослы над неразумным дзіцёнкам, крыху насмешліва і з паблажлівасцю:

— Не-е, такое я і праўнукам забараню. Калі няма шчасця для сябе, для суседа — чаго галаву берагчы? Тады яе назнарок ламаць трэба. — І дадаў: — Біцца трэба да канца, да іклоў, да апошняга хрыпу. Вы гэтага не зразумееце, вы спешчаныя. У вас і душы сталі не тыя.

— Раман, — сказала яна, — мне шкада цябе, мне страшна за цябе. Навошта ты нада мною злітаваўся?!

— Зла і так — мора. Не мне яго множыць. Жыві. Можа, сумленне заварушыцца?

— Ворагу даў літасць, — сказала яна.

— Праўда, ты ж самы страшны мой вораг.

— Гэты вораг кахае цябе, — ледзь чутна сказала яна.

Але ён ужо ўстаў, падняў яе і паставіў перад сабою.

— Бывай, варагіня. Бог з табою.

І пацалаваў яе ў галаву.

Я чуў яго крокі па калідоры, чуў яго кароткую размову з Лаўрам, чуў, як Лаўр паспрабаваў быў за нешта дакараць яго і як Раман на яго прыкрыкнуў. І я чуў потым ціхую размову юнака, падобнага на архангела, з пані Любкай. І чуў, як іхнія галасы рабіліся больш мяккія.

Я не разумеў толькі, чаму яна называла яго Раманам. Хіба што падобны? Але потым я адышоў ад дзвярэй. Мы цікаўныя таксама толькі да пэўнай мяжы...

...А раніцай мужыцкі цар выступіў з замка ў паход. Войска яго, што ўзрасло на трэць, абраслае нашай зброяй, закутае на чвэрць у нашы даспехі, стала сапраўды страшным. Валіла конніца, везлі пятнаццаць гармат, знятых з муроў, рыпелі вазы.

Косы. Вілы. Доўбні.

І я ведаў, што гэты чалавек за два тыдні ператворыць паляўнічых — у стралкоў, сялян — у баявых малацьбітоў, вуглепалаў, што звыклі да пешні, — у пікінёраў.

І ўсіх ператворыць у воінаў.

Перад тым як выехаць за браму, ён пад'ехаў да мяне, па-ранейшаму ў барвяніцы, па-ранейшаму на белым кані, падняў руку ў жалезнай пальчатцы і паказаў на замак:

— З табою людзі застаюцца. І баба. І муры. Беражы і брамы перада мною не зачыняй. Зімаваць прыйду.

Вочы яго гарэлі.

— Зберагу, гаспадар, — сказаў я. — І не зачыню. І другому не дам.

Ён кіўнуў мне галавою і паскакаў за сваім войскам.

Мільгануў удалечыні барвяны плашч. А потым усё закрыла бясконцая хмара пылу.

Нізавошта на свеце я не згадзіўся б другі раз стаяць на мурах супраць гэтага чалавека!

## IV

Скардзіся, звон!
Без надзеі на цуда,
Кату аддадзены,
Ў змроку стаю,
Адрынуты Богам,
Адрынуты людам,
Адрынуты сонцам
У гэтым краю.
Скардзіся, звон!
Адное каханне,
Песню маю,
Сляпую ад мук,
Пакуль у грудзях
Не згасне дыханне,
Цемра не вырве з бяспалых рук.

*Балада пра барвянага ваеўніка*

Зніклі. Рассеяўся пыл.

І над Кісцянямі пацягнуліся лянівыя і пагодныя дні. У замку амаль не было мужчын, акрамя мяне і невялічкай варты. Ды і ў вёсках засталіся амаль толькі адны бабы.

Адшумеў май, адзвінела konікамі лета, адшапацеў лістапад. А потым пачаліся снягі, сінія, ваўчыныя, бясконцыя. За гэтыя месяцы адбылася толькі адна нечаканая гісторыя. Я ажаніўся. Абкруціла мяне тая самая вартаўнікова дачка, Дар'я. Хлопцы мае не хацелі сядзець і пайшлі. Засталося чалавек дзесяць з тых, што былі ў гадах, не хацелі цягаць сваю скуру па брудных палёх пад свінцовым дожджыкам і запрагнулі спакою. Большасць таксама пераражанілася. І пачалося ціхае жыццё з ежаю, ды пітвом, ды цішынёй.

Жонка трапілася харошая, памяркоўная, несварлівая. Ды я і сам такі. Так што жылі добра, па-божаму. І я пачаў уставаць уначы, каб паесці, і звыкнуў да іхняга палявання, і гаварыў з імі, як яны. І пачаў нават звыкаць да іхняй лазні, хоць і не падымаўся высока на гэты жахлівы палок.

А вакол вылі снягі, ды заяц пляміў шарон сваімі скачкамі. Зрэдку даходзілі чуткі пра мужыцкую вайну, але лёзныя* так іх перакручвалі, што і верыць не хацелася.

* Вандроўныя.

Ракутовіч не прыйшоў зімаваць, як абяцаў.

Ніхто не прыйшоў да цёплых нашых печак. Ніхто не прыйшоў і потым, калі зіма пачала чахнуць і сплываць адлігамі.

Мы даведваліся, што замкі падаюць далей, што ўсіх дваран апанаваў люты жах, што нястрымныя і перамаганосныя, як раней, мужыцкія палкі. Ды і як ім не быць храбрымі? Самая ж смерць была лепшай за такое жыццё.

А потым была ракавая бітва на Урэчаскім полі, калі панскае войска раздавіла сваім жалезам мужычыя палкі. Яны ўцякалі, і завея космамі снегу залізвала іх сляды.

Прайшла чутка, што барвяны ўладар забіты ў гэтай сечы. Але гэта была няпраўда.

І акурат у лютаўскія дні, крыху раней прызначанага, — і гэта было добра, таму што забівала сумненні, — у нас у замку заплакаў новы жыхар, сын пані Любкі, Якуб Кізгайла. Гаспадыня занадта перапалохалася, калі прыйшла звестка з Урэчаскага поля. І я не бачыў твару больш радаснага, чым у яе, калі мы даведаліся, што частка войска, на чале з правадыром, адступіла, разграміўшы нашчэнт галаўны полк шляхецкага апалчэння, і шнырыць паміж панскімі атрадамі, прарываючыся на ўсход, да маскоўскага рубяжа.

А яшчэ праз месяц прыйшла вестка, што Рамана разбілі і вязуць у ланцугах у Магілёў.

Пані Любка разбудзіла мяне ўначы. Твар бледны, вусны сінія. Толькі і здолела сказаць:

— За ім!

І памчаўся наш вазок па сакавіцкім расталым снезе да славутага горада. У вазку пані з немаўляткам, — харошы, здаровы хлопчык! — а вакол дзесяць чалавек коннай варты з паходнямі ды я. Давялося-ткі нацягнуць даспехі на разгультаенае цела.

Скакалі ўдзень і ўначы, змоклыя, галодныя, заляпаныя праснакамі расталага снегу. На дарозе здзічэлыя сабакі ды зрэдку панскія раз’езды, ды па начах глухія і безнадзейныя пажары вёсак.

А ў гаспадыні твар як маска, як крэйдай набелены, і непаслухмяныя вусны толькі і могуць вымавіць:

— Хутчэй! Хутчэй!

І я ўжо не называў гэтых людзей вар’ятамі. Прывык. Гэта добра — загнаць каня, калі душа патрабуе.

Пад Дарамі Лыкаўскімі сталі трапляцца слупы з павешанымі людзьмі. А потым, яшчэ здалёк, заўважылі мы натоўп народу наўсцяж дарогі. Вялі палонных, і кожны з натоўпу хацеў да-

ведацца, ці няма сярод іх свайго чалавека. Тыя ішлі моўчкі, суровыя, з непакрытымі льнянымі галовамі. І зусім іх было мала. Амаль ніхто не здаваўся, а астатнюю, большую, частку Раман выкупіў сваім целам: паставіў умову, што здасца, калі іх адпусцяць.

І здаўся. Пасля гэтага кінуліся лавіць адпушчаных уцекачоў, ды куды там. Ад людзей мы і даведаліся, што Рамана правезлі яшчэ ўчора. У гнойных драбінах. Прыкутага за нагу да градкі. Сядзеў быццам маўклівы і зусім не хмурны, з светлым абліччам, быццам усё зрабіў на зямлі і замкнуў свой круг.

Вельмі шляхта з яго здзекавалася. Самога яго баяліся зачапіць, нават скутага, дык яны меч ягоны двухручны ззаду на вяроўцы прывязалі, і валачыўся ён усю дарогу за возам па снезе ў разбоўтанай гразі. Народ плакаў, гледзячы на ганьбу.

Шляхта плявала на меч.

А ён быццам сказаў толькі:

— Нічога, вашы пляўкі зямля сатрэ.

І яшчэ мы даведаліся, што Лаўр, хлопчык-архангел, прабаваў адбіць Ракутовіча і паў падчас стычкі, забіты ўдарам чакана ў залатую галаву.

Пані занурылася крыху — і толькі.

А народ валіў за палоннымі, і над натоўпам стаяў ціхі, амаль нячутны стогн.

Лепей бы ўжо крычалі.

Пані яшчэ мацней загадала гнаць коней. І мы прыскакалі ў горад і спыніліся на Лупалаўскім прадмесці, у парафіі Святой Тройцы.

І адразу, не адпачыўшы, ілба не перахрысціўшы, удваіх з паняй памчаліся ў крэпасць — яна ў вазку, я — вярхом.

Здзівіла нас мноства п’яных у прадмесці, а потым і ў самым горадзе. Выявілася, што пакуль звестка пра злоў яшчэ не прыйшла — з ганцом прыбыло дазваленне лішнія дні чатыры супраць Магдэбургскага права, і не ў тэрмін, варыць піва, і гарэлку, і мёд.

Горад увесь праваслаўны, багаты і ганарлівы, муры каменныя, купалы залатыя, валы, равы, вежы. А людзі — хоць у сані запрагай, такія біцюгі. І ўсе п’яныя.

Пачалі шукаць спосаб, як трапіць у горад. Праехалі праз каменную Быхаўскую браму ў вале, а потым памучыліся. Торкнуліся да Каралеўскай брамы — нельга, паехалі да другой — нельга. Праз Малую Пешаходную, да ракі Дубровенкі, — нельга. Баяліся, што ўварвецца мужычча ў горад і будуць разня і смута.

Нарэшце трапілі праз Алейную, ля якой яўрэйская школа. Пад брамаю парахавыя склады, а на браме ікона Божай Маці. Няправільна магілёўцаў дражняць, што яны яе прадалі, а грошы прапілі разам з войтам. Непарушна сцеражэцца ікона!

І толькі тут пані загадала спыніць вазок, выйшла з яго і па костачкі ў расталай жыжцы, змешанай з гноем, пайшла да брамы. Я таксама злез з каня і глядзеў.

А яна падышла бліжэй і проста ў футры, у вішнёвай фалендышавай* сукні паваліліся на калені ў снег, прынікла галавой да зямлі.

— Маці Божая, заступніца, святыя вочы, чыстыя. Ты хоць даруй грахі нашы. Прайдзі стапою лёгкай, пачуй нашы мукі.

А зверху глядзіць на яе цёмны валавокі лік. І па ім цені: мітусіцца знічка. І здалося мне, быццам з болем, са спагадай глядзіць лік на зрынутага чалавека, а нічога не можа зрабіць. І рука, тонкая, вузкая, блакітная, толькі запясцем сына лёгка трымае: «Вазьміце, людзі, калі лягчэй вам будзе. А я нічога зрабіць не магу. Цяжкі ён, крыжовы шлях».

А ў пані ўжо голас здзічэў:

— Маці Божая, кахання не дала, шчасця не дала — яго ж хаця пашкадуй. Сама бачыш, крыж з народа твайго здзіраюць, каб ярмо нацягнуць. За яго, за люд твой пакутаваць чалавек будзе... Не давай выгаляцца. Не папусці агнявой пакуты, не папусці сякеры. Уратуй, злітуйся міласэрным сэрцам сваім.

Ледзь я яе падняў, адчайную, з голаю галавой. Каб яе ў гэты час нажом рэзаў — не адчула б. І пайшлі мы па горадзе, таму што хутка з вазком праехаць нельга было: столькі народу набілася ў галоўныя вуліцы.

Каля драўлянай Спаса-Праабражэнскай царквы, распісной, лядаштай, цэлы натоўп мяшчан, больш цвярозых, раіўся, як быць. Крычалі, хапалі адзін аднаго загрудкі; адразу было відаць — нічога талковага не атрымаецца.

Ландвойта**, што прыехаў сунімаць крык і агіднасць, закідалі расталым конскім гноем і наўздагон свісталі ў два пальцы і ўлюлюкалі. А на Замкавай вуліцы і таго горай. Цяжкае гарадское пахмелле.

Ды толькі позна ўжо: за два дні паспелі сцягнуць у Магілёў такое войска, што кожны трэці чалавек на вуліцы — латнік або ўзброены дваранін.

---

* Галандскае сукно.

** Намеснік войта, адзін з упраўляючых горадам.

Даведаліся мы толькі, што Ірына жывая. Сядзіць у склепе, у клетцы, на Ветранай вуліцы, каля драўлянай брамы. І нават на пробу вогненную яе яшчэ не ставілі і наўрад ці паставяць — усім ясна, невінаватая.

Гамарня, носяць на каромыслах цэбры з яблыкамі, мяшчане журавіны марожаныя з рук ірвуць — на пахмелку, штурхаюцца разносчыкі, непатрэбныя дзеўкі.

І раптам зараўлі дуды, расступіўся народ, і — як паміж сцен — прайшла гарадская варта, а за ёю шэсць чалавек у дарагім сукне, з пальцамі, унізанымі золатам і каменнямі.

— Магістрат ідзе. Войт, — зашапталіся ў натоўпе.

Ішлі яны, апусціўшы вочы. Толькі што самі аддалі Ракутовіча ў рукі замкаваму правасуддзю. Ды і нічога нельга было зрабіць — дваране замкавай юрысдыкцыі падпадаюць. Вытаргавалі толькі, каб судзілі ў ратушы і каб у складзе судзілішча быць войту і двум радцам, і на тым дзякуй.

Некалькі дзён кідалася пані Любка па горадзе. Усе яе прынялі, і ласкава аднесліся, і шкадавалі за ўдовіна гора і сіроцтва сына. Сказалі, што быць ёй галоўнай сведкай і пры вынясенні выраку дадзены ёй «цяжкі голас» права выказаць сваю думку. Яна ўздыхнула. Ясна было, куды вядзе справу каптуровы* суддзя.

А на Аляксея, божага чалавека, на Замкавай столькі народу збеглася — не прапхнуцца праз натоўп. Ледзь нам удалося ўзабрацца на ганак у доме былога войта Славенскага. Сам ён ужо год трыццаць як у зямлі спачываў, а ў доме жыла яго звар'яцелая жонка-дваранка ды дачка-пярэстарак.

Стаім, ціскаемся. Сырасць такая золкая.

І раптам зашумеў, неахвотна даў дарогу магілёўскі люд. Убачыў я перш за ўсё коннага чалавека ў чорным, насатага, са шчокамі, якія быццам да зубоў прыліпалі. Галава непакрытая — яшчэ б, скруха: нобіля, што зганьбіў саслоўе, судзіць давядзецца.

А за насатым яшчэ і яшчэ коннікі, у парчы, сабалях, утэрфіне**. Шаблі рознакаляровымі агеньчыкамі ззяюць.

Прыехалі Дэспат-Зяновіч, Загорскі, Сапега, князь Друцкі — судзіць у ратушу. І павезлі з сабою універсал караля, згоду рэляцыйнага суда на любое рашэнне дваран аб нобілю Ракутовічу.

* Суддзя, якога выбіраюць з дваран на час смутны або міжцарства.

** Тонкае, вельмі дарагое сукно.

І не паспелі праехаць — завыў, загаласіў юродзівы, прабег за імі, закрываючы пальцамі — у засохлай крыві — вочы.

— Дэманаў бачу, чорныя ўсе... лятуць! Светленькага агнца хочуць зарэзаць, кішкі ягоныя зубамі валачыць.

Народ шарахнуўся ўбок. А тыя праехалі да ратушы, і дзверы зачынілі.

Да вечара яны там прэлі. І наступнага дня. А мы абодва дні стаялі ля дзвярэй ратушы і на ганку. Пані Любку выклікалі сведкай, але яна сказала, што Раман мужа ў баі забіў і езуітаў павесіў за атруту, усяму ж астатняму даў літасць. І пад канец самлела.

Суд застаўся ёю вельмі незадаволены.

А народ усё больш шумеў ля дзвярэй ратушы і на плошчах. Я сам чуў, як багаты хлопец з мяшчан, абуты ў саф'янавыя кабці, у лісіным кітліку наапашкі, крычаў нема:

— Не даць ім Рамана на разарванне. Ён веру правую ўратаваць хацеў, як продак ягоны ратаваў ад татар. Усім вядома, што не Міндоўг іх біў ля Крутагор'я. Ён і граматы дагары нагамі трымаў, кажух смярдзючы. Хто конніцу татарскую апракінуў? Ракута, Раманаў продак!.. Таму мы і белыя, што татар не нюхалі!

Людзі рваліся і да дзвярэй ратушы, крычалі:

— Няправедная гэта справа, нобіля судзіць.

І ім паказалі ўдаву Кізгайлы, жывое абвінавачанне, і немаўлятка Якуба паказвалі з гульбішча, лаялі Ракутовіча:

— Немаўля нявіннае яшчэ ў чэраве асіраціў. Ірад! Вораг усіх беларусаў з існымі!

А спрэчкі ў ратушы ўсё цягнуліся. Сапега з Друцкім стаялі за смерць. Але магістрат быў супраць. І на яго бок схіліліся Дэспат-Зяновіч і Загорскі. Апасаліся, не было б спакусы для малых.

Крычалі да хрыпаты, лаялі адзін аднаго псамі і па-іншаму. І, можа, нічога б не вырашылі, каб не прыйшлі людзі з Лупалава і Падуспення. У натоўпе адразу засмярдзела скурамі і рогам, і крычаць пачаў натоўп зусім іначай:

— Заб'яце яго — смута будзе! Забылі, як пры магілёўскім бунце ў порткі клалі, будзеце і цяпер. Стаха Мітковіча ды Гаўрылкі Іванова* на вас няма. Памяць каціная! Забылі, як

---

* Стахор Мітковіч і Гаўрыла Іваноў — верхаводы горада Магілёва супраць караля (1606–1610).

дзверы судовай залы адбілі? Набату не чулі даўно?! Будзе і вам тое ж!

І тады Загорскі сказаў апошняе слова:

— Добра. Нобіляў на пласе не забіваюць. Няхай быдла верыць.

Мы з ганка, а пасля з акна вазка бачылі, як рухаліся на гару, пад аховай крылатай варты, драбіны. І ў драбінах той, хто загадаў мне трымаць замак. Пасівелы на скронях, бледны, але спакойны.

Толькі на імгненне кароткае ён спакой свой згубіў. Падвезлі яго ўжо да самых дзвярэй ратушы і спынілі воз. А тут з акна дома Славенскага ашалелая войтава жонка закрычала і стала яму пальцамі вілы рабіць:

— Антыхрыст! Дваран пабіў, прымучыў. Судзіце яго, людзі добрыя, ды не патурайце. Калі ягоная дзеўка гэтага ірада яшчэ хоць раз пабачыць — канец панству на зямлі, а славуты горад у смутах зняможацца.

Я заўважыў — шмат хто сумеўся ад гэтых слоў. Нават сам Друцкі, што стаяў на высокім ганку з граматай у руцэ, апусціў вочы.

А Раман справіўся і нават з усмешкай і са светлымі вачыма слухаў прысуд. Мы далёка стаялі і толькі-толькі да сэнсу дайшлі па асобных словах:

— Маетнасці пазбавіць... адсячы рукі, дабы падступнага мяча не ўздымалі... шчыт ганьбаванню падвергнуць і адусюль, акрамя Гарадзельскага прывілею і статута, самае імя вытравіць на застрашэнне другім іншым.

І яшчэ зразумелі: баніцыя* за межы Мсціслаўскага ваяводства: вечная ссылка ў малую весь.

Ударыў бізун па конскіх спінах. І давялося Раману праехаць увесь шлях. Правезлі яго ад вазніцы да замка, да насыпной гары, міма храма Сарака Пакутнікаў да Спаскай царквы. Па ўсім горадзе, дабы бачылі, як караецца ліхадзейства.

Прывезлі на плошчу ўжо ўвечары, змяркацца пачало. Там паклалі на насілы, прыкруцілі і, накрыўшы саванам, панеслі ў храм — жывога адпяваць.

На ўсё жыццё я гэта запомню. Снягі лілавеюць, з акон на снег — цёплыя жоўтыя агеньчыкі. І спевы — ох, якія страшныя спевы!

Юрод на паперці заскакаў:

---

* Выгнанне.

— За гарэлку Бога прадалі! Возьмуць вас за гэта чорт Савул і чорт Калдун! Брамы вашы паваляцца, магілы мышакоўскія ўвесь Мікалеўскі спуск зоймуць. Косткамі ён заваліцца. Быць крумкаччу сытым! Костку быдлячую знойдзеце ў зямлі — і ад той пойдзе паморак і пошасць.

Стала нельга слухаць — так страшна завыў народ.

А Рамана ўжо вывелі — ён і сапраўды быў бялейшы за труп, хоць ішоў цвёрда, — узвялі на памост, на якім стаяў містр, а па-простаму кат у чырвонай доўгай сарочцы. Так яны і стаялі, чырвоны і белы на Рамане быў саван.

І сталі падаць на натоўп цяжкія словы:

— Меч яго зламай, кат... Вось нарог ад ніў яго — аддай яго другому, кат.

І пад канец узяў містр шчыт і ўцяў сякераю яго востры канец, а верхняе поле замазаў дзёгцем і сажаю.

Жонкі дваранскія так загаласілі — хоць затыкай вушы: няма кары страшнейшай за гэту для двараніна.

А Ракутовіч паглядзеў на іх вялікімі незразумелымі вачыма і толькі ўсміхнуўся:

— Нічога, затое шчыт цяпер на вашы непадобны, на чысценькія.

А сам сеў, абняў плаху нагамі, каб на калені не станавіцца.

Твар ката, барадаты да самых вачэй, пацямнеў, і рукі дрыжаць.

— А ты смялей, — кажа яму Раман, і голас такі просты.

Кат узяў сякеру.

— Пачакай, — кажа Раман, — дай апошні раз на пальцы паглядзець.

Сагнуў іх некалькі разоў. І раптам шырока перахрысціў народ. Крыкнуў:

— Ударыць за цябе яшчэ раз не магу, дык прымі хоць апошняе маё благаслаўленне.

Плач узняўся, стогн. А Раман паклаў ужо рукі на цурбан:

— Сячы.

Занеслася сякера. І мы толькі ўчулі глухі ўдар.

Ж-жак!

Задрыжаў лядашчы памост.

А Раман устаў, стаіць і рукі ўздымае. Правая рука вышэй кісці адсечана, левая — наўскос, засталіся на вузкім абрэзку мезены і безыменны пальцы. Ці то пашкадаваў кат, ці не разлічыў.

І тут лекар з яўрэйскага кагалу замітусіўся: толькі жоўтая галаўная павязка мільгае. Памазаў чымсьці абрэзкі, і кроў свістаць перастала. Ледзь капае.

А Раман быў такі моцны, што нават прытомнасці не страціў і застаўся стаяць на нагах.

Так і скончылася ўсё гэта. Не атрымалася ўстрашэння.

Цяпер трэба было толькі лёс «дзеўкі» вырашыць. І прымеркавалі гэтае рашэнне да таго дня, калі везці належала Рамана ў выгнанне.

Напярэдадні гэтага пані Любка дабілася спаткання з Ірынай.

Суправаджаў яе і я. Спусціліся мы ў сутарэнне ля драўлянай брамы, і зноў я ўбачыў аленевыя вочы ды надламаныя бровы. Праз краты.

Любка расказала ёй аб усім. А тая ўсміхалася:

— З-за мяне... А я праз горшае прайшла б, толькі б ён маё каханне ўбачыў.

Ох, якія гэта вочы былі! Шэрыя, прамяністыя, такія зіхатлівыя!

У пані Любкі нават ярасць на твары выступіла.

— Загубіла нобіля сваім чараўніцтвам. У ссылцы цяпер будзе. Аддай яго другім. Здымі чары.

— Не, пані, гэтых чараў не знімеш. А калі нават магла б — не зняла б. Ён — сонца маё. Хіба што з сэрцам толькі гэтае святло ў мяне ўзяць можна.

Любка ўстала, пайшла да дзвярэй.

— Дык не аддасі?

— Не, гаспадыня. Загубіла ты нам жыццё, а шкада мне цябе. Дзеля дзіцяці свайго — не цкуй, не ўціскай да канца Рамана. А мяне хоць і забі. Усё адно я цябе шкадую, я ж мацнейшая.

Наступнага дня мы зноў прыехалі ў вазку да Замкавай плошчы. Вырашаўся лёс Ірыны, а лёс халопкі без гаспадыні не вырашаецца.

І ледзь паспелі мы праехаць праз гурты народныя — узняўся на вуліцах плач:

— Дзяўчынанька, бедная!

— Не быць вам разам!

— Не ўбачаць яго твае вачаняткі.

Ад Сарака Пакутнікаў ехаў просты воз, і ў яго толькі ледзь саломкі падкінута. А на возе скутая Ірына ў белай сукенцы і казнатцы* з каразеі — белага сукна. Прыбралі. Учора ж у рыззі была.

Едзе, глядзіць на людзей ззяючымі вачыма, велікаваты рот усміхаецца. Рада, даўно ж не бачыла нікога. Такое яшчэ дзяўчо, таненькая — двума пальцамі зламаць можна.

---

* Жаночая верхняя вопратка.

А плач коціцца хвалямі:

— Ясачка ты наша, заступніца. Даруй табе Бог. А і ты нам даруй.

І яна кланяецца і радасным голасам — усё адно канцу нейкаму быць — кажа:

— Даруй, люд праваслаўны, даруй.

Спынілі воз ля вузкага высокага дома: замкавага суда. А Ірыну знялі з воза, павялі пераходамі ўгору.

У зале доўгі стол, крэслы без спінак, смярдзіць атрамантам са скураных чарніліц. І з акон так мала святла, што запалены тры свечкі. Ад адной струмень курадыму на нізкую скляпенчатую столь.

Больш нічога. Хіба што цяжкія дзверы ў правай сцяне. У катавальню. За сталом Друцкі, Дэспат-Зяновіч ды два пісцы. І яшчэ радца з магістрата.

Гаспадыня села і сядзіць, бледная, нерухомая, як ідал. І павекі самкнёныя. А на высокай прычосцы футраная шапачка з заморскімі пер'ямі.

Разбор быў кароткі. Іспісалі правіны, якіх не аказалася, акрамя цягі да мужыцкага цара. Ніякіх пошчакаў — падстаў для падазрэння, ніякіх рахаванняў — нарад з мяцежнікамі. І ніякіх падстаў меркаваць аб зламысным, хіба што толькі паспрабуе пабачыцца з Раманам.

Што рабіць?

У Друцкага яшчэ больш сухая скура да зубоў прыліпла.

— На прэнг* павесіць — няма чаго. Катаваць дарэмна не трэба. Але і пусціць небяспечна... У замкавае сутарэнне, на вечнае зняволенне. Або — лепей — на агнявую страту. Прываражыла былога нобіля.

— Чаму? — пытае Дэспат-Зяновіч.

— Не абышлося тут без чараўніцтва, — з'едліва кажа Друцкі. — Не такое каханне Усявышні ў Кане галілейскай бласлаўляў.

А Дэспат усміхаецца:

— Каханне... А што ты ў ім разумееш? Яно ўсякае, каханне. Ці Богам, ці чортам дадзенае, а ўсё адно лепшага за яго нічога няма. — І звяртаецца да радцы: — А твая думка якая?

— Пусціць, — уздыхнуў той, — аддаць гэтаму іраду. На Рамане Ракутовічу роду канец. Нядобра.

— Ясна, — кажа Дэспат.

---

* Дыба.

І тут ускочыў князь Друцкі — замітусіўся цень па столі.

— Пусціць? Аддаць? А Кізгайла-пакутнік у чым перад смерцю кляўся? А апантаная надоечы што прарочыла? Хочаш смуты вечнай, хочаш канца панству? Страціць вядзьмарку!

А Ірына стаіць перад ім, глядзіць прамяністымі вачыма:

— Не кахаў ты, відаць, князь. Свечачны агарак у цябе замест сэрца. Якое ж тут чараўніцтва? — І да Дэспата: — Не чаравала я. Калі і чаравала, дык вачыма, голасам, словам.

Пані Любка глянула на яе і апусціла вочы. А Дэспат-Зяновіч глядзіць на падсудную. Твар у яго здаровы, нязграбны. А вочы разумныя, як у сабакі.

— Ну скажы, пан, чым я яго чаравала? Крыж на мне.

Той усміхаецца сумна:

— Бачу, чым ты яго чаравала. Бачу, дачушка.

І вочы прыкрыў. Я амаль ведаў, аб чым ён думае. Ведаў, як ён у Варшаве жыў маладым, у каго па дурасці закахаўся. І чым гэта скончылася.

Але ён нядоўга думаў. Заміргаў раптам вачыма і, жорстка так, кажа Друцкаму:

— Яно не пытае, калі прыходзіць і куды. Можа і сатыр закахацца ў Геру. Ды і яна яго можа пажадаць. Бліскавіц не баючыся.

— Табе лепей ведаць, — з'едліва кажа той.

Але Дэспат ужо ўзняў павекі:

— Тваё слова якое, пані Любка?

— У Кісцяні Ракутовіча нельга саслаць?

Дэспат прыжмурыў вочы. Глянуў на паню спадылба. І быццам адрэзаў:

— Не.

Любка ўзняла вочы, уважліва паглядзела на Ірыну. І выдыхнула:

— Аддайце тады яму... Чаго ўжо...

— А прарочыцы словы? — узвіўся Друцкі.

— Усё адно аддайце.

Друцкі фаліянт на падлогу змахнуў. Потым устаў. Галава пад самаю столлю.

— Што ж, аддайце, калі ўсе на аднаго. Але вось вам і мой голас: чарадзейству ў Магілёве не бываць, мяжы панству нашаму — не быць. І таму няхай кат раней аслепіць яе.

— Ах, Друцкі, Друцкі, — паківаў галавою Дэспат-Зяновіч.

І паглядзеў на Ірыну:

— Бачыш, дзяўчынка, у што ўперліся. А ты як мысліш?

Тая ўся так і падалася да яго:

— Пане літасцівы, абы з ім.

— Падумай, — ціха кажа той, — можам проста адпусціць. Ідзі ў свет. Мужыкоў многа.

А ў той вочы раптам светлымі сталі больш ранейшага. Такія вочы, шэрыя, мяккія, невыказныя.

— Няхай сляпая. Няма свету без яго.

— Ну глядзі, — адвярнуўся Дэспат. — Няхай будзе патвойму... Ідзі.

Кат у дзвярах з'явіўся. І яна пайшла да яго, пайшла спяшаючыся, лёгкай ступою. Быццам у паветры плыла. І ўсё паскарала, паскарала крок.

А на парозе павярнулася, паглядзела на нас:

— Дзякуй усім. Зараз-то я ўжо з ім. З ім.

Ах, вочы, вочы! Шэрыя, пушыстыя ад веек. З блакітнымі іскрачкамі.

І я чамусьці старую нямецкую песню ўспомніў. Адвыкнуў зусім, а тут успомніў:

Жыццё сказала:
«Свет гэты — мой.
З праха вырасце кветка вясной.
Каласамі ўзыдзе пад дажджом перагной».
Жыццё сказала:
«Свет гэты — мой».

А потым цяжка бухнулі за ёю дзверы. І зараўло там, за дзвярыма, полымя.

Я не мог гэтага вытрымаць. Я выйшаў на крыты ганак і стаў за калону. А народ ужо даведаўся аднекуль. Стогн каціўся над усімі, хто быў на двары і па-за ім.

І ўсе глядзелі на высокі ганак, на дзверы суда.

І яшчэ адны вочы глядзелі, доўгія, светлыя, незразумелыя.

Ля самага ганка, абкружаны вартай, стаяў воз, услany саломай. Вялізны воз, падобны на труну, запрэжаную шасцю шкапамі.

На дне каша быў умацаваны слуп, а ля яго стаяў чалавек, прыкуты да слупа доўгім ланцугом за пояс. Грыва валасоў, круты лоб, жорсткі і горкі рот. Нават на Рамана не глядзеў зараз натоўп.

Я спусціўся з ганка і стаў каля варот. З заснежаных стрэх капала, віселі ледзяшы, раз'езджаны, зярністы, жоўты ад гною шоргаў пад нагамі снег. І на ўсё гэта з неба лілося такое шэрае і такое ўсё ж па-вясенняму яркае святло, што балелі вочы.

Заснежаныя дахі, заснежаныя, падталыя з поўдня купалы, шэрыя драніцы, што адлівалі зялёным.

І над усім такая ціша, што страшна. Змоўклі раптам усе. Ніхто нават з нагі на нагу не пераступіў. Чакалі.

І вось зарыпелі дзверы. Павольна адчыніліся. І ў дзвярах паказаўся Дэспат-Зяновіч. А за ім — Ірына. Адной рукой трымаецца за Дэспатаву руку, а другая ў паветры працягнута. За імі кат вываліўся. Стаіць.

Кат пашкадаваў яе. Толькі зроку пазбавіў, а вочы не вырваў. Ідзе яна і проста быццам спіць на хаду, закрыты вочы, пушыстыя веі апушчаны.

І Дэспат — першы яе павадыр.

Яны зусім былі падышлі да сходаў, калі кат раптам зрабіў следам некалькі крокаў і стаў на калені.

— Даруй мне, даруй, — варушыць тоўстымі губамі.

І яна папрасіла, каб стаў ён ёй пад руку. І паклала далонь на шорсткую, як поўсць, грыву.

— Даруй табе неба. Ты нас зноўку звёў.

Выйшаў з дзвярэй на балюстраду Друцкі-князь.

Стаіць, глядзіць на гэта, усміхаецца. Гурма, пабачыўшы ўсмешку гэтую, натапырылася ўся. Такія ўжо мы людзі: лепей галаву сячы, чым плюнь з усмешачкай. Будзь катам, толькі ў душы катаўство не трымай. А гэтыя два ўсё яшчэ спускаліся з ганка.

Ах, доўгі, доўгі гэта быў шлях! Не карацей усяго жыцця, што яшчэ заставалася.

А ў спіну тым, што спускаліся, Друцкі крыкнуў:

— Бяры яе, Раман. Вядзі па дарогах няпраўды, па якіх пайшоў. Радзі дзяцей, напалову халопаў, напалову ізгояў.

А Раман у адказ усміхнуўся. І была гэта такая ўсмешка, што Друцкі зразумеў: не абразіў, не зняважыў ён скутага, а пасяліў у ім цвёрдасць. І ён не вытрымаў, пайшоў, грукнуў дзвярыма.

Прыступка. Прыступка. Яшчэ прыступка.

Спускаюцца белыя, футрай аблямаваныя кабцікі. Дзеўка з нагамі лебедзя. Што? У лебедзя чорныя ногі? Я сам ведаю. А ногі ўсё ж былі лебядзіныя.

Ударыў недзе першы далёкі ўдар звана. Упаў у цішыню, як камень у ваду. І адразу закружляла, закаркала вараннё, быццам камякі сажы ўзляталі і асядалі на стрэхі. Яна магла толькі чуць іхні крык. Але затое яна адчувала: пругкі і цяжкі мокры вецер быццам далонню штурхаў у твар. І яна ішла насустрач гэтаму ветру.

Дэспат падвёў яе да воза:

— Бяры. Не табе б, ворагу роду чалавечага, такую дзеўку.

— Добра, — сказаў Раман, — час нас з табою рассудзіць. І шмат грахоў табе даруецца, Зяновіч, за тое, што ты яе вёў. Дай табе Бог на тым свеце жаданай сустрэчы, калі на гэтым не атрымалася.

— А за гэта табе дзякуй, — сказаў Дэспат і змоўк.

Зноў упаў чорны ўдар звана. А ў Рамана валасы амаль што сталі дыбам, і ён цягнуўся да яе, а твар плакаў без слёз такой тугою, такой пяшчотай, якую і адшукаць цяжка на зямлі.

Звон ударыў.

І яна працягнула да чалавека на возе рукі, быццам да святла нябачнага.

— Раман, вазьмі мяне.

Чыясьці рука падхапіла яе, дапамагла падняцца. І там, наверсе, яе з трапяткой прагнасцю, пяшчотна і асцярожна схапілі яго абрубкі, прыцягнулі да грудзей.

Ён стаяў, абапіраючыся спіною на слуп, стаяў з перакошанымі бровамі. Стаяў, прыпаўшы вялікім ротам да яе валасоў. І ў вялізных вачах было такое, чаго лепей не бачыць на гэтай Богам праклятай, лютай, грэшнай зямлі.

А яна прынікла попельна-залацістай ускалмачанай галоўкай да яго грудзей, там, дзе білася сэрца.

Бледны твар, пушыстыя веі апушчаны. І ўсмешка — быццам бачыць шчаслівы сон.

І твар ваеўніка плакаў без слёз.

Я здзівіўся, такая яна была таненькая ў яго руках...

І ўсе людзі маўчалі.

...Таненькая, таненькая.

І поруч са мною нейкі шляхцюк, пакрыты шрамамі, чалавек з тых, што смяецца на хаўтурах, груба сказаў:

— Куды яму яе. Пад гэтай сволаччу коні падаюць. Сам бачыў.

Я маўчаў усе апошнія дні, таму што ведаў: разяў я рот, і я пачну крычаць, і гэты крык ніколі не скончыцца. Але больш я ўжо не мог.

Я павярнуўся да яго і прашыпеў горлам:

— Паважай ланцугі, сволач. Пакінь, іначай...

— Іначай? — нахабна спытаў ён.

— Іначай дрэнна будзе. Ты што, не бачыш, што поруч таксама дваранін? Я табе заткну горла.

Ён змоўк. І гэта было добра. Іначай скончылася б забойствам.

Марудны ўдар звона заглушыў лясканне бізуна.

Шкапы, напружваючыся, зрабілі першыя крокі. Паплыў над галовамі слуп з двума людзьмі. Ракутовіч падняў галаву, і раптам у велічэзных яго вачах загарэлася нейкая цяжкая іскра.

Я зразумеў: гэта была іскра крыўды. На каго? Не гневаўся ж ён нават на ката.

Я паглядзеў туды, куды глядзеў ён. Над галерэяй, у акне на рагу палаца, я ўбачыў змяты страшны твар чалавека, які ўчапіўся пальцамі ва ўзорныя краты акна. У вузкіх вачах гэтага чалавека нават дурань заўважыў бы розум, іскру Божую, жвавасць. Але я заўважыў у іх яшчэ нешта. Гэта была зайздрасць, страшная чалавечая зайздрасць да таго, хто ехаў на ганебным, падобным на труну возе.

Гэта быў Сапега.

І раптоўна па ўсім замкавым двары, па ўсіх пераходах раскаціўся дзікі, страшны па сіле голас, якога палохаліся ў бітвах ворагі.

— Леў! Леў! — роў голас.

І ў таго, хто роў, грыва, якую развейваў вецер, падала на лоб. А на падзёртых голых грудзях ляжала прыгожая сляпая галава.

— Леў, ты стаў лісіцай! Калі будзеш ваўком — памрэш, як сабака.

Кінуўся твар у акне. Яму засталося толькі кідацца і зайздросціць. Ён жа не мог так.

Заляскатаў воз. Моўчкі павалілі па абодва яго бакі людскія гурты.

І на непакрытыя галовы падалі нясцерпна рэдкія ўдары звана. Расхлябаныя колы воза па самыя восі гразнулі ў вязкім, набрынялым вадою сакавіцкім снезе.

Юрод, што стаяў амаль на дарозе, працягнуў рукі і дрыжачымі пальцамі гладзіў, лашчыў паветра, кранаў яго, як сляпы.

— Сынок... Сынок...

Страшны твар і сляпая галава плылі над натоўпам, усё аддаляючыся і аддаляючыся.

Шалёныя, незразумелага колеру вочы затрымаліся на маім твары.

Зноў упаў удар звана.

І аддаляўся, аддаляўся воз. І вецер гуляў грывай валасоў, гладзіў твар чалавека і сляпыя вочы той, што прыпала да яго.

Я плакаў. Я не саромлюся прызнацца ў гэтым і не саромлюся сваіх слёз.

— Божа, злітуйся над зямлёю, што нараджае такіх дзяцей.

*1960*

# ЛАДДЗЯ РОСПАЧЫ

*Рыгору Барадуліну*

Жыў сабе год чатырыста назад у беларускім горадзе Рагачове небагаты, але добрага роду дваранін па прозвішчы Гервасій Выліваха*.

Быў ён з калена Давойнаў, з клана — Мячоў, а якога герба — за даўнасцю год забылася. Усёй маёмасці яго было — замак-развалюха, некалькі коней веку мафусаілава, латы, ды меч, ды яшчэ шахматная дошка, але затое быў ён багаты сябрамі і не абдзелены жаночай увагай.

Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін — самых заганных. Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, біток, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць — «завалідрога», а мы, людзі роду крывіцкага, «адарвірог», бо некалі, кажуць, такі ў самога Люцыпара рог сілком аддзерлі і зрабілі з яго келіх для пітва. Вады нальеш, і, сілаю самога рога, робіцца гарэлка. Я думаю — байкі гэта.

І сябры ў яго былі адпаведныя. Андрэй Гарбаты з Брачыславічаў, Кірык Балабан з Гультаёў, Галляш Вясна са Свінчуковічаў ды яшчэ Іра Францічак, за пераплёт на служэнне надзелены вёскай Мазурыкі, родам багемец, але п'янюга і бабскі ліслівец — на трох беларусаў.

Толькі ўсёй і працы ў іх было, што цягацца па корчмах і шынкарках ды па навакольных замках, калі гаспадара няма дома, піць віно, як Дняпро п'е Друць, ды дзярбаніць на лютнях і кімвалах багамерзкія песні.

Неяк жылі. Ставілі і берaглі дзяды і прадзеды мёд і віно — і выпіць яго за адно жыццё было цяжкавата нават Вылівaху. У лясах была жывая закуска, касулі ды туры. На балотах свіязі, кражныя чагронкі, гразавікі, сярухі, шылахвосці. У рэках

---

* Выліваха — белая чапля.

судакі, калекі, або балабы*, самы, сіклы ды міроны, падусты, выразубы, язі ды галаўні, ляшчы ды бялёзны**, страдалы***, гусцёркі, свінні вадзяныя, сцярлядкі ды шчупакі.

І з іншым неяк абыходзіліся. У той час Магілёў з Рагачовам нават у Маскву пастаўлялі гатовае адзенне. Краўцоў было — грэблю масці. Так што порты, чугі ды плашчы абыходзіліся танна.

Набяруць гарэлкі, паедуць у лугі, дзіка заб'юць, ды на лаўцах пякуць дзічыну, ды песні гарлаюць — от і ўсё іхняе набажэнства Пану Богу за тое, што даў ім жыццё.

Нораў у гэтай грамады быў Дняпровы — на вярсту пяцьсот сажаняў звіву, — так што ніколі не ведаеш, чаго ад іх чакаць.

Нап'юцца ды, конныя, з кручы ў Дняпро скачуць. Або купяць за тры шэлегі плыт, усцягнуць на яго майно ды бочкі з божай слязою, захопяць усіх дзяўчат з Вясёлай Слабады дый сплывуць так аж да Лоева. А мужам гарадскім у гэты час хоць ваўком вый.

З Лоева вяртаюцца на конях, мечаных гетманскай клейнай. І кажуць па-рознаму. То — «падарылі», а то «купілі, плыт спрадаўшы». Ды яшчэ смяюцца бессаромна, зубы нахабныя прадаюць.

Два разы стараста накладаў непарушную пячатку на іхняе дабро, за нясплату пазычанага. Думаў — сыдуць і ціха стане ў месце. То адзін раз яны — з нявыкруткі — загналі бацьку Палавуса, што дзесяць год са сваёй гайнёю па наваколлі блукаў і якога стараста з войскам спаймаць не мог.

Загналі і забралі ў яго ўвесь скарб.

А другі раз яшчэ мудрэй прыдумалі. Біскуп Смарагд хадзіў па наваколлі, зачыняючы грэцкага абраду цэрквы, а дабро іхняе рабуючы. Ездзіў, пёс касароты, як Мамай: наперадзе сам з войскам, а за ім абоз нарабаваны.

То яны два разы з футрамі, вааздухамі, залатымі дараносіцамі, ахвярнікамі, крыжамі святымі, дзе пацірамі і дзіскасамі ў яго адбілі ды павялі. Божую зрабілі справу, але не для славы божай, а для мамоны сваёй. Так і не выкурылі іх з гнёздаў.

У багатых, але пацёртых уборах, светлавокія, заўсёды на падпітку. Вакол лірны гуд і дудны роў. На сёдлах — жанчыны. На плячах — сокалы. У сэрцах — няма божага страху.

---

* Мень.
** Жэрах.
*** Рыбец.

Рагачоўская грамада, усе мужы статэчныя і радцы, дзякуючы ім страцілі чалавечае падабенства. Ужо нібы не чалавечая зборня сядзела ў радзе і на капе, а статак галінастых аленяў. І не глядзелі алені адзін аднаму ў вочы ад вялікага сораму.

Адабралі яны жонак у пана земскага пісара, і ў пана лоўчага, і ў пана старасты, і ў пана кашталяна, і ў пана наглядчыка за бабровымі гонамі. А сам Гервасій Выліваха звёў і паіў вельмі многіх, і нават каханку палкоўніка Чыжа. Палкоўнік спаймаў іх з ліцом і кінуўся быў біць, то яны палкоўніка напаілі пад прымусам і, п'янага, павезлі ў госці да рагачоўскага пробашча, дзе палкоўнік з пробашчавай аканомкай аскароміўся, учыніўшы свальны блуд. Пробашч раніцою, з гарачкі ды болем у галаве пакутуючы, закаціў імшу і на той імшы пана Чыжа пракляў у імя рымскай царквы да дзевятага калена.

А потым здарылася дзіва. Знайшлі на замкавым падвор'і срэбную скрынку, якая ўпала з неба. Так нядаўна ўпала, што яшчэ цёплая была. А ў скрынцы — каштоўнасці. А на скрынцы — надпіс, што ўсё гэта дасылае святы Юры таму з горада, хто не парушыў ніводнага з божых запаветаў.

Над гэтай скрынкай счапіліся ўсе. І замкавыя вялікія людзі, і касцельныя, і людзі царквы. Кожны хацеў давесці, што гэта яму, а таму іншых усіх паплюжыў і выкрываў. І выявілася, што толькі садомскага граху ў горадзе і не было. І так гэта было брыдка, што сяляне пасля таго цэлы год баяліся ездзіць на торг — калі ўжо там такія начальныя людзі. Ледзь на захірэў горад.

А скрынку тую, як выявілася потым, аб чым і дакумент быў заверány і схаваны ў ларніка****, зрабіў магілёўскі залатар Мацюшка.

А каштоўнасці ўсе чыста былі непраўдзівыя, фальшывыя. Вось табе і Юр'еў тастамент!

Каменні тыя замовіў Андрэй Гарбаты, а скрынку — сам Выліваха. Дзіўны быў іхні хаўрус. Коней любілі — як татары ці угры, сабакары былі — горш за ангельцаў, а ўжо што да жаночага полу — ратуй нас, Пане Божа, і злітуйся, гэткія антыхрысты.

Вербенай валасы намосцяць ды пад камяніцы, да паняў. У вочы глядзяць, як анёлы, а ў саміх ніжэй спіны хвост д'яблаў. І словы ж аднекуль бралі — «сонца ты маё астатняе, лада мая,

---

**** Архівіст, натарыус.

ветразь мой на шляху да вечнага спасення». А ноздры ў саміх — як у коней трапечуць.

Калі б перад каралём Цыкмунам пала столькі замкаў, колькі перад імі жонак — кароль бы ўладарыў паловаю свету.

Але каралю шанцавала не так.

Нічога ім не маглі ўчыніць, нават калі Гервасій Выліваха зрабіў замах на жонку магілёўскага войта. Войт быў па ўзросту скупаваты.

А жонка ў яго была баба добрая: чаго ні папрасі — не адмовіць. ...Няшчасны быў горад. Зусім нядаўна яго крымчакі абрабавалі і спалілі, за дваццаць сем год перад гэтым тое самае зрабіла маскоўская раць. Досыць, здавалася б, дык не: свой, унутраны, знайшоўся татарын, брыдкі Богу Гервасій.

На духоўным судзе ўсю кампанію сарамаціў біскуп. Казаў, што самушчаюць яны народ самім сваім існаваннем, бо прымушаюць сумнявацца ў бясхібнасці Бога. Усё ж, маўляў, і яны божыя стварэнні, дык палучаецца, што Усяведны накшталт дрэннага ганчара.

Яны, аднак, не спалохаліся і дагмат бясхібнасці Бога падсеклі пад корань, кажучы, што нават ён робіць шмат непатрэбнага на гэтай зямлі. Напрыклад, цыцкі ў мужчын. Не было яшчэ на свеце мужчыны, якому б яны хоць раз спатрэбіліся. А калі Творца задумаў упрыгожыць імі мужчыну — то чаму прыляпіў іх на месцы, што заўсёды прыкрытае вопраткай?

Біскуп толькі ротам зяваў, а потым, пасаромлены, напіўся і стаў думаць над гэтай прычынай. І чым больш думаў, тым больш піў, аж пакуль не папсаваўся ў розуме.

У той час аб'язджала свае землі літасцівая каралева Бона з роду Сфорца, жонка яго каралеўскае мосці Цыкмуна. Завітала яна і ў свой рагачоўскі замак, якому столькі прывілеяў давала і фундатарам касцёла ў якім была. І ўладары места кінуліся да яе як да апошняй надзеі:

— Маці літасцівая, ратуй! У Богу пачынаем сумнявацца. Унь Гервасій нават ігуменню Азяранскага манастыра звёў, і нічога яму з той прычыны не было, акрамя радасці.

Каралева была літасцівая, але і строгая, і вялікі Цыкмун нездарма казаў, што пакуль яна над дзяржавай — аб маральнасці можна не непакоіцца.

Выклікала яна да сябе Выліваху, і шмат плакалі ўсе ягоныя сябры, а асабліва Іра Францічак, што не вернецца ўжо да іх такі слаўны сябра і сабутэльнік, з якім так прыемна было заўсёды бавіць час.

А Вылiваха прыйшоў проста ў залатую палату, убачыў вялікавокую жанчыну са строгім ротам, манаха-пісара і ката, усміхнуўся і сказаў:

— Сонца табе заўсёды на шляхах, пані матка.

— Сонца спальвае.

— Ведаю.

— То як ты насмеліўся, робак, самусціць спакой цэлай зямлі? І мне сонца жадаць.

Яна была з Італіі, і Вылiваха ведаў гэта.

— Бо, думаю, мала табе яго ў нас.

— Затое ў мяне іх тут два.

— І абое далёка, — сказаў Вылiваха.

Стаяў і ўсміхаўся вішнёвым нахабным ротам. А валасы былі залатыя, і вочы светлыя. І зразумела Бона, што ён не просты курацап.

— То што ж гэта ты робіш, Гервасій?

— Нічога. Аднойчы я ўбачыў у палях Верасовую Жанчыну. Тую, што крыкамі палохае людзей, і потым абавязкова нехта памрэ.

— То ж бо ўсе кажуць, што ты важдаешся з д’яблам.

— Гэта нястрашна пасля некаторых жанчын... Дык вось, у яе былі распатланыя валасы, і крычала яна так, што ў людзей дрыжалі сэрцы.

Гервасій усміхаўся.

— А ты? — спытала Бона.

Галава Вылiвахі пяшчотна схілілася.

— А я... пашкадаваў яе, пані матка. Яна была, відаць, прыгожая жанчына. І вось праблукала ўвесь век па верасовых пустках, палохаючы ўсіх жудаснымі воклічамі. Так і не зведала, якія паплавы за Дняпром, якое цёплае сена, як п’яніць віно, як не зразумееш, шэпт гэта ці шолах вярбы пад ветрам. Так і не зведала, як цвіце ружовы глог ля маёй камяніцы... Мне стала шкада яе. Мне шкада ўсіх — такое ўжо ў мяне сэрца.

Бона апусціла веі.

— Тлумач.

— Добра. Толькі загадай выйсці... гэтым.

— Чаму?

— Яны не зразумеюць.

Каралева загадала ім выйсці.

— Чаму не зразумеюць?

— Яны не ведаюць, што такое жыццё. Чорны таму, што ён манах. Чырвоны — бо ён варагуе з жыццём, выкручвае і

выломвае тое, што Бог падарыў цэлым — на радасць чалавеку. І таму яны ворагі жыцця, ворагі Бога.

— Але ты крыўдзіш людзей.

— Я крыўджу мёртвых людзей. Жывога — не пакрыўдзіш.

— А біскуп?

— Ніхто яшчэ не піў, не еў, не спаў і не цалаваўся ў касцёле. А яны хочуць зрабіць касцёл з усяго свету. Як быццам Бог, пажадаўшы такога, не зрабіў бы гэтага сам... Даў жа нам для чагосьці лясы, і рэкі, і нават такую бескарысную рэч, як святло месяца.

Усміхнуўся.

— Цікава, якія валасы ў літасцівага пана караля, калі ў іх заблытаецца месяц?

— Не ведаю, — суха сказала яна. — У мяне ёсць апачывальня.

— Тады судзі мяне, каралева. Толькі памятай — гэта будзе суд хатняга лебедзя над дзікім.

— Чаму ты так робіш? — з цікаўнасцю падалася да яго яна.

— Жыццё кароткае, як захад. Вось сонца над вадою, а вось — у Дняпры.

— Ты не верыш у рай?

— Так не бывае, каб і тут і там было добра. А мне добра тут.

— А мне — не.

Веі Выліваxі задрыжалі.

— Гэта не твая віна, гаспадыня. Людзі не ўмеюць жыць і таму кажуць пра заўтра, якога не будзе. Сёння мы верым і мучым сваё беднае цела, а заўтра затое будзем жыць. Сёння мы адмаўляемся ад сэрца ў імя велічы, але заўтра нам дадуць узнагароду. Сёння вырываем з сэрца любых, бо нам трэба ўзвялічыць каралеўства, але заўтра мы будзем кахаць.

Голас у яго быў як скрыпка:

— І ты... не думаеш, што аб той самай велічы, напэўна, думаў і Канстанцін Вялікі, а зараз яго Візантыя, нарабіўшы крывавых брыдкасцяў, ляжыць у тле і праху. І нічога не засталося. Ні велічы, ні нават кахання першага кесара. Бо яго не было. То каму ад гэтага лягчэй? Я не хачу, пані.

— Царква патрабуе для цябе вогнішча.

Выліваха пацінуў плячыма:

— Што ж. У апошнюю ноч у мяне будзе больш успамінаў, чым у Канстанціна Вялікага. І я не пакіну пасля сябе другой Візантыі, акрамя любові. А яна непадуладная туркам... А табе парада — жыві. Апачывальня — гэта як забойства.

— Позна.

— Позна бывае, як кажуць, толькі ў труне. Але я не веру. Я так люблю жыццё — бо проста жыву! — што не магу верыць нават гэтаму.

— Раніцай я клікну варту. Чаго б ты хацеў у гэтую апошнюю ноч?

— Любові.

— Гэта немагчыма, — амаль варожа і жорстка сказала яна.

— Тады — зрабіць табе апошнюю паслугу. Паказаць гэты свет... Толькі не трэба іншых.

І, кажуць, яна згадзілася. А ён павёз яе адхонамі на бераг Дняпра да сваёй камяніцы. Камяніца была старая, з абваленымі зубцамі і без брамы. Але затое вакол белымі ў цемры аблокамі цвіў глог, святлела брызгліна і ўгадваліся па водары шыпшына і бружмель.

Месяц узышоў над ракою. І нарадзілася два светы. Адзін распасцёрся вакол, а другі перапоўніў Дняпро. Глыбока-глыбока, аж да апошняй зоркі.

Бона паглядзела на мужчыну і ўпершыню ўбачыла месячнае святло ў яго валасах.

...Яна гаварыла з ім пра Бога і яго запаветы, кажуць, аж шэсць тыдняў, да дня святога і апосталам роўнага князя Уладзіміра.

Усе бачылі, як стараецца яна вярнуць гэтую аблудную душу на верны шлях, і нават кароль быў бы задаволены, убачыўшы яе намаганні ў доўгіх дыспутах. Яна ведала, што адзін схілены варты сотні верных, і таму была вынаходлівая і няўтомная, не шкадуючы для справы веры ні дня, ні ночы.

А потым паехала, так і не пахіснуўшы Выліваху ў яго абрыдлівай і закаранелай ерасі і, галоўнае, не пакараўшы яго. Дзіўна, на вуснах яе не было горкай усмешкі, што спадарожнічае паражэнню, а вочы былі прасветленыя, нібы яна ўдастоілася сузіраць святы Грааль, які, як вядома, ёсць вышэйшая ісціна.

Ніхто не ведаў, што яна нават узнагародзіла пана Выліваху: за стойкасць, з якой трымаўся ерасі. Падарыла яму залаты з партрэтам вялікага Цыкмуна, каб заўсёды памятаў розніцу між сабою і ім. Гервасій прасвідраваў у ім дзірку і стаў насіць на шыі замест святога агнусека. І як іншыя супакойваюцца, пазіраючы на божага агнца, так Выліваха, калі ў яго быў дрэнны настрой, выцягваў залаты ланцужок, назіраў знаёмыя рысы, чытаў надпіс «Sigis-rex-polo»* — і яму рабілася лягчэй.

* «Сігіз. — кар. — польск.».

Бона не была б жанчынай, каб не прыдумала яшчэ і такога.

...Усе спадзяванні начальных людзей пайшлі марна. Радцы дзерлі на сабе валасы. Ніхто ў свеце больш не мог вызваліць іх ад нечасцівага Гервасія. Ніхто, бо вышэй каралевы нікога не было.

Яны, аднак, памыляліся. У той час, калі Гервасій з сябрамі паляваў на звера і птушку, граў з Ірай у шахматы, калі за вокнамі лье восеньскі дождж, і ўзімку ляжаў на шкурах з каханай (а ля галоў іхніх скакаў у каміне цёплы агонь) — другая жанчына рыхтавалася прыйсці да Вылівахі, каб пазбавіць яго — асалод, а горад — пазбавіць ад яго.

І вышэй за гэтую жанчыну не было нікога на зямлі. Нават Бона была ніжэй за яе.

Яна прыйшла ў самы салодкі час, калі вакол камяніцы толькі-толькі збіраліся зацвісці расны ружовы глог, раскошны бружмель і жаданая, як жыццё, шыпшына. Прыцягнулася па звілістай сцежцы, цяжка перастаўляючы ногі, якія дрэнна згіналіся, закінуўшы на тулаве чорны плашч, нібы ёй было халодна, і ўсміхаючыся вечнай і нязменнай усмешкай, ад якой кідала ў жудасць. А за спіною ў яе была каса, бліскучая, нібы ў апошні дзень сенакосу.

— Дзень добры, Вылівaха, — сказала яна.

Вылівaха сядзеў пад кустом глогу і папіваў салодкую раманею. Свяціла цёплае сонца, і пчолы таўкліся ля шпунта бочкі, з якой ён напаўняў свой келіх. Убачыўшы госцю, Гервасій адторкнуў шпунт, і, пакуль напаўняў яшчэ адзін кубак, пчолы віліся над тугім чырвоным струменем.

— Пі, — сказаў ён, — яшчэ зусім нядаўна і я думаў, што дзень гэты — добры.

Смерць узяла шклянку і, прысёрбваючы, села на каменную лаву. Пчолы шкодзілі ёй, і таму яна адламала галінку барбарысу з бутонамі і пачала абмахвацца ёю... Гервасій глядзеў на галінку.

— Нешта ты рана, — сказаў ён.

— Дарма. Не ты, а я вызначаю час. Хадзем. Тут занадта пахне жывым.

— Чакай хвіліну.

Ён наліў яшчэ келіх і, прыплюшчыўшы вочы, з уздыхам пасалоды выпіў яго. А потым — адкінуў убок.

— Хадзем.

— Ты не хочаш ні аб чым папрасіць? — спытала яна.

— Ты ж не пусціш мяне зрабіць яшчэ адзін пасеў? — усміхнуўся ён. — Ты — варожая руні.

— Не пушчу.

Выліваха нахабна глядзеў у яе вачніцы.

— То пайшлі.

Ён пашукаў чагосьці вачыма і знайшоў гэта: першую кветку шыпшыны. Адламаў яе і прышпіліў да грудзей.

— Бачыш, — сказаў ён, — мы з табою як на вяселле ідзём. З кветкамі.

— Нашто ты яе зламаў?

— Гэта — мая зямля. І яна застанецца са мною, пакуль ты не адсячэш у апраметнай маёй галавы.

Ён прычыніў за сабою фортку, зірнуў на раскошныя глогавыя агароджы і гатовы быў ісці за госцяй.

Дзяўчына-сялянка ішла паўздоўж зялёных платоў.

— Чакай, — сказаў ён Смерці. Падбег да белай танюткай постаці і моцна пацалаваў дзяўчыну ў прыадкрыты рот.

— Во-ох, — ціха сказала яна, пазіраючы на яго шырокімі прамяністымі вачыма.

— Бывай, мая прыгожая, — сказаў ён.

І пайшоў за Смерцю. Дзяўчына з жахам і пакутай глядзела яму ў спіну. Госця касілася на легкадумнага Выліваху і ўсміхалася вечнай усмешкай.

— Я прыйду па яе праз сорак год, — з’едліва сказала яна.

Выліваха пацiснуў плячыма:

— Нічога. Зараз я даў ёй неблагі ўрок. Апошні ў жыцці. А колькіх яна яшчэ навучыць. Ты кажаш лухту, кума.

Ён паправіў на спіне лютню і рушыў поплеч са Смерцю. Ішоў, здольны кожную хвіліну паваліцца і разбіць нос, бо зусім не глядзеў пад ногі, задзёршы твар у гарачае неба, пад якім нястомна звінелі несмяротныя беларускія жаўрукі.

Курносая маўчала.

— Больш за ўсё я не люблю прыходзіць па такіх, як ты, — урэшце сказала яна. — Яны такія прагныя да жыцця, што я пачынаю думаць: ці не памылілася я са сваёй работай. І яны так любяць гэтую зямлю, што я ў сваіх пячорах пачынаю на хвіліну зайздросціць ім.

Гервасій не адказаў. Галава ў яго была закінутая, нібы ў сляпога, грудзі шырыліся, ноздры трапяталі.

А над ім былі неба і гарачае святло.

...Бліжэйшыя ад іх уваходы ў пекла знаходзяцца, як вядома, даволі далёка ад Рагачова.

Адзін з іх ляжыць на дне Равучага возера, што пры Іпуці (нездарма ж там так раве вада, нібы нехта глытае яе на дне).

Кажуць, гэта зроблена, каб ніхто з жывых не трапіў у апраметную і яшчэ каб жывіць падземныя воды і катлы.

Так што ісці нашым спадарожнікам было далёка, на што Выліваха ўвогуле не наракаў. Ішоў. Дыхаў салодкім паветрам. Зрэдку перацягваў на грудзі лютню і браў некалькі акордаў:

Роснымі лугамі,
Полечкам траўлівым —
Іду да Абрама
На моцнае піва.

Смерць усміхалася, як шэсць тысяч год таму:

— Ты спадзяешся ўбачыць прабацьку Абрама?

— Не вельмі, — непрыкметна кпіў Выліваха. — Але ж павінны былі кудысьці падзецца ўладары, патрыярхі, біскупы? Яны ж столькі крычалі аб небе.

— А цяпер яны бяднейшыя за апошняга раба на зямлі. Бо ў царстве маім раб не адчувае нічога. А яны — адчуваюць. І пустэчу, і тое, што нічога няма.

— Хай жыве справядлівасць, — сказаў Выліваха. — То ім, атрымоўваецца, усё ж дадзена неўміручасць душы?

Бязвокая паляпала яго па плячы. Нібыта бразготкай з сухім гарохам.

— Ты хочаш такога бяссмерця? Пасля ўлады над целамі і жыццямі, над землямі і праўдай — не адчуваць нічога, акрамя свайго мозгу? Не валодаць целам, не мець магчымасць нічым распараджацца? Бачыць, як шчаслівыя засынаюць, як планеты паступова закоўваюцца ў лёд. Быць чымсьці накшталт паралітыка, які збярог яснасць розуму, але ведае, што гэта будзе цягнуцца вечна, і не мець надзеі на ўратавальніцу, на мяне. Хочаш такога бяссмерця?

Гервасій не выдаў сябе, хаця яму ўпершыню стала непамысна.

— Нашто? Лепшую частку сябе я пакінуў на зямлі.

— Якую?

— Тых, каго я любіў.

— Ну, а калі ты сустрэнеш кагосьці ў мяне пад зямлёй?

— Яны любілі мяне... На зямлі.

— А калі не любілі? Калі ў зямным жыцці вам не выпала сустрэцца, але гэта і было сапраўднае? Або яшчэ так: сустрэліся, але яна легкаважна адрынула цябе, не ведаючы, што скора, вельмі скора прыходзіць вялікае Позна.

— Гэтага не здарылася, а значыць, усё адно, што не было.

— Ты што — пёс? Ты што — жывёла, каб жыць толькі тым, што было? Ты адварочваешся ад чалавечай Мары?

— Гэх, кума. Ты нават не ведаеш, як гэта смешна: чуць ад цябе словы пра Мару і Надзею. Кінь, кума. Смешна!

— Не думаю, — сказала Смерць.

...Ці доўга, ці каротка яны ішлі, але ўрэшце шлях прывёў іх на берагі Паніклі. Поўня, калі рака плыве зямной дарогаю, даўно адышла. Віруючая Панікля ляцела, нібы спушчаная з лука страла, і раптам натыкалася на сцяну ў два чалавечыя росты і... знікала.

На сцяне раслі скарлючаныя, вартыя жалю дрэўцы, нібы абпечаныя смяротным подыхам. Пад іхнімі квёлымі карэньчыкамі ляжаў пласт барвянай, як кроў, гліны з вапняковымі і крамянёвымі камянiскамі, а ніжэй ляжаў шар мёртвага белага вапняку.

Вада пад ім клекатала, бы ў катле вядзьмаркі, і была белая, як трунак забыцця. І Смерць зрабіла гасцінны жэст:

— Вось і ўсё.

— І чаго глядзіць пан Езус? — сказаў Выліваха.

— Гэта яшчэ не самая горшая з чалавечых выдумак. Ідзі.

— Я замачу лютню.

— Не бойся.

— То чакай.

І Выліваха яшчэ раз азірнуўся. Гарачае святло ляцела на яго з-пад аблокаў, блакітных унізе, сляпуча-белых уверсе. І ў гэтым акіяне раскошы ўтрапёна звінелі беларускія жаўрукі.

— Божа зямлі маёй, — сказаў Выліваха. — Нялітасцівы і жорсткі, калі ты ёсць. Нядбалы і сонны. Што б ні было, як бы ты ні здзекаваўся з яе — я ўсё ж веру табе. Таму што воляй тваёй я нарадзіўся тут, дыхаў яе паветрам, піў яе ваду, еў яе хлеб і цалаваў яе жанчын. Які б ты ні быў — я благаслаўляю гэты твой адзіна разумны ўчынак. Благаслаўляю ад першага цвіцення шыпшыны і да гэтага вось апошняга кроку, які зараз зраблю.

І Гервасій Выліваха зрабіў гэты апошні крок.

Вада спадала ля яго ног, і наперадзе паступова выплывала з вады мокрае жарало пячоры са сточанымі вадой камянямі: быццам пашча са з’едзенымі зубамі.

Нерухома маўчалі аблокі за спіной. Свет нібы аглух. А цемра насоўвалася, насоўвалася. Глынула. І адразу за плячыма з патроенай сілай зараўла плынь.

— Віншую, — сказала Смерць. — З паспяховым вас прыбыццём, гаспадар Выліваха.

— На зямлі я даў бы табе за гэта на гарэлку. Але тут у мяне нічога няма.

— Кветка...

— Шыпшыну? Табе?

Смерць засмяялася:

— Глядзі, Выліваха, пашкадуеш. Наўрад ці ты так трымаў бы сябе, каб ведаў, які падарунак я табе прызапасіла. Ну, ідзі. Тут я трохі затрымаюся, а цябе стрэнуць памагатыя... Зараз прыйдзе ладдзя Роспачы.

І яна знікла. Змрок быў глухі, і толькі ля самых ног хлюпалі аб бераг дробныя зыбкія хвалі нябачнага невядомага мора.

Нешта тупа грукнула аб бераг, а потым у цямноцці пачуліся глухія жаласлівыя галасы: нібы кані крычалі над начным поплавам, успуджаныя крокамі Невядомага. І Выліваха здагадаўся, што гэта садзяць у ладдзю змарлыя душы.

Ён узяў акорд на лютні, але заспяваць не паспеў. Нейчыя рукі схапілі яго і шпурнулі на дно вялікай ладдзі, на рабрыстыя і слізкія какоры.

— Гэй, — сказаў ён. — Што я вам, бярэмя дроў?! Я, пакуль тое, жывы. Не маглі, халеры, пачакаць забыцця.

Нехта сунуў яму ў рукі бабайку вялізнага вясла. Жорстка абхапіла ногі калодка. Зацурчала вада. І адразу заплакалі ў цемры дзесяткі кволых, нібы дзіцячых, галасоў.

— Г... вы, — сказаў Выліваха. — Рагачоўцы ёсць?

— Не, — застагнаў нехта.

— Адразу відаць. А хто ёсць?

— Дубровенцы, — адказаў са слязьмі нехта.

— Шышшы, — сказаў Гервасій. — Глядзець мне на вас брыдка, плытагоны. Вы што, упершыню на вялікай вадзе? Супакойцеся, дарога далёкая, час для ўлюбёнага занятку ёсць.

Нехта нясмела зарагатаў.

— Вось так лепей, — сказаў Гервасій. — Плывём, хлопцы, нібыта галернікамі ў турэцкую няволю. А паны па цэрквах аб «спрадвечнай радзіме» спяваюць ды аб тленнасці зямнога... Ёсць тут папы?

— Ёсць, — сказаў голас з кармы.

— Пэўна, і тут на стырне сядзіш?

— На стырне.

— Вось і кіруй на спрадвечную радзіму. Дайце яму каторы, хлопцы, вяслом па галаве.

У цемры прагучаў глухі ўдар: нехта скарыстаўся з парады.

— Раб, — сказаў страшны глухі голас. — Пакінь смяшыць людзей, раб! Тут не зямля.

— А што табе?

— Я Перавозчык ладдзі Роспачы.

— То што?

— Я даў стырно гэтаму чалавеку, што зараз ляжыць на дне ладдзі... Цяпер мне зноў трэба сесці і кіраваць.

— Ты не хочаш?

— Я стаміўся. Я страшна стаміўся... Я папрашу, каб цябе падвесілі над гэтай вадою і не далі забыцця.

Выліваха крэкнуў:

— Колькі разоў сабе казаў: не звязвайся з начальствам, не чапай, Гервасій, дзярма.

Ладдзя зарагатала.

— Не паслухаўся — пэнкнуў. Пайшоў у прымы да пані Пясэцкай. Дый тут адну пакуту маю. А ўсё за язык, сяло дурное.

— До, — сказаў Перавозчык. — Пачынаецца мора. Плаціце кожны па манеце. Іначай вас скінуць у ваду, дзе вы будзеце захлынацца да сканчэння свету.

Супраць звычаю не папрэш. Кожнаму кідалі ў труну манету на такі выпадак. І Выліваха палез у кішэнь. Але тут побач з ім нехта спалохана ўздыхнуў, і голас, вельмі спявучы, зусім, відаць, юнацкі, сказаў:

— А ў мяне няма манеты. Бацькі былі вельмі бедныя.

Гервасій крэкнуў:

— Што ж рабіць, хлопча? Во, халера на тое мора! У цемры звінелі манеты. Юнак побач з Вылівахам перарывіста дыхаў, магчыма, стрымліваючы слёзы.

— Хлопцы, — сказаў Гервасій. — А, шчыра кажучы, нашто манеты? Вы што, па сваёй ахвоце плывяце?

— Куды там.

— То на якога ляда яшчэ плаціць? У жыцці за ўсё плацілі, ды яшчэ тут...

— Раб! — сказаў Перавозчык з пагрозаю.

Стала цішыня.

— Скажы яму нешта, вясёлы рагачовец, — сказаў сусед.

Выліваха пагладзіў яму плячо:

— Ты, перавозчык нашых душ, у душу — лезь, кішэнь — не руш.

— Ну, глядзі, — сказаў Перавозчык. — Зараз я вас дастаўлю...

— Не звязвайся з ім, рагачовец, — умольна сказаў нехта.

Але Гервасій ужо не мог. Гарэзлівая пáна, адчайнае свавольства і дзёрзкасць затапілі яго істоту. Ён адчуў, як весела і нахабна, нібы перад смяротнай небяспекай, калоціцца сэрца, адчуў з’едлівую халодную ярасць.

— Перавозчык, ты што — Бог?

— Для вас — Бог.

— Бач, дык ты накшталт зямнога цівуна. Ану, прыганятыя, хто адзясную гэтага бога — сушы вёслы.

І здарылася дзіўнае: вёслы правага боку рванулі з вады. У мёртвай цішыні было чуваць толькі, як звонка падаюць у мёртвае мора кроплі з вёслаў.

Потым пачуўся хрып. Гэта Перавозчык з апошніх сіл налягаў на стырно.

Цурчала вада ля бартоў. Вялізная лайба пачала круціцца на месцы.

— «Круці-круці калясо, наша піва харашо», — сказаў Выліваха.

І ўсе ўспомнілі гусіныя паплаўцы, дзяцей, якія водзяць карагод, і гарачае сонца, што свеціць на іхнія дупкі, калі дзеці паваляцца, разарваўшы кола і задзіраючы ножкі... Над ладдзёю пракаціўся смех.

У чарнільным адвечным змроку, над густой, як дзёгаць, вадой круцілася ў выбухах нястрыманага, як навальніца, рогату ладдзя Роспачы.

І гэты смех нібыта забіў гонар Перавозчыка.

— Рагачовец, — умольна сказаў ён. — Не трэба. Мяне пагоняць з месца.

— Так бы даўно, — сказаў Выліваха. — Усе вы так, цівуны, ледзь вам на хвост наступяць. Адразу аб чалавечых словах успамінаеце, халуі... Рушай, хлопцы.

Паклаў руку на плячо суседа і сціснуў яго.

— Вось так, мой любы хлопча, і трэба. Крычаў на людзей — Смерць і тая сабе гэтага не дазволіць. Здаецца, няма табе пана больш за гэтага хама. А крутанулі вяслом — дзярмо, шануючы вас. Аж гніды ў яго ад жаху падохлі.

Перавозчык маўчаў. А юнак чамусьці адсунуўся трохі далей ад Вылівахі.

— Рагачовец, — спытаў нехта, — як ты можаш так?

— А ты адкуль?

— Я — палачанін.

— То вы што, калі Іван Крывавы падышоў пад муры, кузікалі, як свінні пад нажом?

— Не, мы стаялі годна. Мы памяталі, што было з Ноўгарадам.

— Угу. А калі Палота была потым белая ад цел, а Дзвіна — чырвоная ад крыві — вы малілі аб літасці?

— Не.

— То чаго пытаеш?

— Там былі людзі. Разумееш, толькі людзі.

— Людзі бываюць бруднейшыя за свінню і чысцейшыя за анёла. Дабрэйшыя за жыццё і ў сто разоў страшнейшыя за Смерць. Ці табе ж баяцца Смерці, малец?

— Там мы стаялі пад чыстым небам, — вінавата сказаў палачанін. — А тут такая цемра. Такая свінячая цемра!

— Кінь. Чалавек носіць сваё неба з сабою.

— Блюзнерыш, — гнеўна закрычаў з кармы поп. — Аддаеш чалавеку — божае.

— Ачуняў, — сказаў Гервасій. — Ці бачыш ты тут хоць недзе прысутнасць Бога?

Поп змоўчаў. Ладдзя плыла па нябачным моры, і змрок ціснуў на змарлыя душы так, што нават Вылівaха адчуў марнасць сваіх жартаў.

— Дзе мы цяпер? — спытаў ён.

— Над намі Рагачоў, — адказаў Перавозчык.

І раптам страшны несамавіты лямант прагучаў над ладдзёю і над морам. Страшна, нема, нібы чапляючыся за апошнюю надзею, закрычаў поп:

— Браты рагачоўцы, маліце госпада за нас!!!

Крык аддаўся пад нізкім небам і заглухнуў, нібы яго прыдушылі падушкай.

Адчуваючы, што зараз на смяротным караблі пачнецца паніка адчаю, нечалавечы крык і, магчыма, ганебны плач, Гервасій з цяжкасцю выдраў вясло з вады, узняў яго так высока, як толькі дазваляла калодка, і грукнуў ім у нізкае неба.

— Браты рагачоўцы, выпіце колькі хто можа за нас!!!

Дыякан царквы святога Міхала, што ў Лучыне, пад Рагачовам, запісаў у сваім летапісе, што таго года ў ясны майскі дзень пралунаў рагачоўскімі вуліцамі страшны, як землятрус, шматразовы грукат.

І было гэта так, што немаўляты плакалі, сабакі вылі, як пад час зацьмення божага сонца, а каровы мыкалі жаласна і працягла.

А потым з апраметнай прагучаў, нібы ў бочку, замагільны голас:

— Братцы рагачоўцы, выпіце колькі хто можа за нас!!!

Магістрат кінуўся ў паніку. З гэтай прычыны каталікі ўчынілі пагром праваслаўных, а праваслаўныя падпалілі замкавы касцёл. Усё, што здарылася, аднеслі за кошт падкопаў Сатаны.

І аднак пераважная большасць жыхароў скарысталася з гэтай парады, дарма што яна паходзіла з вуснаў д'ябла. А «маглі» яны нямала.

Летапісец, сузіраючы агульную п'янку, шмат бедаваў аб маральнай недасканаласці людзей і запоўніў цэлыя тры старонкі летапісу самай абрыдлівай дыдактыкай.

— Вышэй нос, хлопцы! — крыкнуў Выліваха. — Яны вып'юць. Я іх ведаю.

— Цёмна, — сказаў нехта. — Дзе яна, тая зямля?

І тады Гервасій заспяваў. Сам не ведаючы чаму. Можа, таму, што ягоная зямля заўсёды была з ім.

Дробненькі дожджык
Скача ля тына,
Дзе чырванее
Дзеўка-шыпшына.

Нехта войкнуў. І не таму, што яго здзівіла песня... Выліваха раптам убачыў слабы чырвоны адбітак на цьмяных тварах. Адбітак на цьмяных тварах. Адбітак налівайся барваю, гусцеў, асвятляў ужо амаль усю ладдзю.

Распраўляючы звялыя пялёсткі, чырвонай кропляй разгаралася на грудзях Гервасія кветка шыпшыны. Адзіная ва ўсім свеце, яна не баялася цемры апраметнай і скрыгату зубоўнага.

Сонца-шыпшына,
Дай абдыму я,
Лапкі-пялёсткі
Табе пацалую.

Палачанін нясмела падхапіў:

Лапкі-пялёсткі
Табе пацалую.

Цяпер ужо не толькі насцярожаныя твары весляроў, але і ўсё вакол было заліта святлом. Пад нізкім — рукой дастаць —

небам хадзілі бурыя, цьмяна-ржавыя і нібы асветленыя чорным сонцам хвалі бязмежнага мора. І гэта было так не падобна на тое, аб чым казала песня, што весляры апусцілі галовы на вёслы.

Калі пamру я,
Згіну са свету,
Дай на тым свеце,
Што і на гэтым.

Выліваха зірнуў на Перавозчыка і ўбачыў, што той слухае яго напружана, а вочы...

...Вачэй не было. На іх месцы пушыста расла белая плесня. Перавозчыку былі непатрэбныя вочы.

— Няўжо гэта яшчэ жывуць і зямля і песні? — неспакойна заварушыўся стырнавы. — Няўжо?

— А што, думаеш, памерла? — спытаў Гервасій.

— Мне было б лягчэй, каб памерла.

— Хто ты, каб зычыць гэткае страшнае?

Сляпы апусціў галаву.

— Я Шолах, — сказаў ён. — Я прадаў Полацк кіеўскаму Уладзіміру... Ён быў страшны чалавек, гэтае чырвонае сонейка, гэты святы воўк. І не апосталам ён быў роўны, а самому Сатаніілу. Полацкі Рагвалод быў маім гаспадаром, два яго сыны раслі разам са мною, дачка, Рагнеда, была мне, як сястра. Уладзімір абвінаваціў іх, што яны хочуць учыніць змову з князем Яраполкам, і падступіў пад муры... Яны не ўзялі б Полацка, каб не я... Я здрадзіў. І Уладзімір забіў Рагвалода з сынамі, спаліў горад, а Рагнеду прымусіў разуць сябе. І яна была спачатку паверыла яму. А потым у яго было сто наложніц, а потым ён, не сказаўшы ёй, прывёз жонкаю прадажную грэкіню... І прыняў хрысціянства. Хрысціянству не хапала толькі яго... Рагнеда пайшла ў манастыр і памерла... Я заўсёды жадаў яе... А цяпер на маёй галаве попел роднага горада. І раптам ён закрычаў:

— Гэта павінна было памерці! Чаму яно не памерла! Яно законна ішло да смерці, і я раней за другіх зразумеў гэта! Чаму яно не памерла, ты, які жартуе?! Чаму?!

— Таму, што я жартую, — сказаў Выліваха. — Толькі таму. Я люблю жыццё і жартую. І таму — колькі б ты ні здраджваў — яно жыве.

Ладдзя рэзала тугую, як вар, ваду. А над ладдзёй, як ветразь, ляцела песня:

Не алілую,
Не ладан божы:
А каля тына
Дзікую рожу.

Цяпер туравалі Гервасію ўсе галасы на ладдзі:

Край наш пакутны,
Край наш дзівосны,
Дождж‍ык, азёры,
Гордыя сосны.

І Выліваха ўбачыў, што з-пад плесні на вачніцах Перавозчыка пакаціліся раптам слёзы. Яны, відаць, былі вельмі пякучыя, бо спалілі і знішчылі плесню. І з-пад яе з'явіліся раптам вочы, спалоханыя жудаснай веліччу гэтага ржавага мора.

Сінія.

Крык праляцеў над галовамі змарлых.

— ...Нават цяпер! — поп трос скурчанымі пальцамі, узнесенымі над галавой. — Нават у дзень гневу! Што вы спяваеце, смярдзючыя чалавечкі? Хто ж вы такія?! Грэшнікі?! Ерэтыкі?!

— Мы святыя, поп, — сказаў Выліваха. — Раз мы церпім цябе і таўстазадую навалач, раз плоцім жыццём і зямлёю сваёю — мы святыя, поп.

Ён брыдка вылаяўся, і тут позірк ягоны ўпаў на суседа па катаржнай лаўцы. І Гервасій адчуў, як упала ад нечаканасці сэрца.

Побач з ім не быў прыкуты юнак, як ён думаў. Побач з ім сядзела дзяўчына год семнаццаці.

— Фу ты, чорт, — зніякавеў Гервасій. — А мы тут лаемся, нібы ў божай царкве.

— Нічога, — апусціла яна веі. — Зараз, можа, і трэба.

Выліваха глядзеў на яе шырокімі вачыма. Была яна вельмі ж падобная на тую жанчыну, за якой ён некалі больш за ўсё ўпадаў. На адзіную, якая не аднеслася паблажліва да яго маленняў.

Магчыма, Выліваху потым і ўдавалася ўсё так лёгка. Магчыма, менавіта таму.

Ён ніколі не думаў, што лёс верне яму яе. Прыгажэйшую, маладзейшую, лепшую, чым тыя, падступную, сціплую...

...Асуджаную. Дадзеную і вернутую толькі на адзін дзень.

І Выліваха зразумеў, які страшны жарт учыніла над ім Смерць, на што яна намякала, як незваротна прынізіла.

Цяпер ужо нічога нельга — і не трэба — было пачынаць.

І ў Гервасія хапіла розуму з самага пачатку адмовіцца ад удзелу ў гульні, у якой Смерць была катам, а ён — дурным мышаняткам.

— Лайцеся, калі трэба, — сказала дзяўчына. — Вы такі жывы. Без вас было так самотна. Я чакала ладдзі аж тры дні.

— Нічога не зробіш, — усміхнуўся Выліваха. — Смерць хадзіла за мной.

Яна глядзела на зыркую кветку.

— Няўжо так паспела расцвісці шыпшына?

— Там заўжды цвіце шыпшына.

— Мяне завуць Бярозкай, — з даверам сказала яна.

— Язычніца?

— Але. Царква не паспела дабрацца ў нашы балоты.

— Усё адно, — сказаў ён. — Унь у карме сядзіць з гузам на лбе існы хрысціянін. Ты — язычніца. Ці варта было лішні раз мачацца ў ваду, калі ўсім аднолькавая літасць... А мяне зваць Гервасій.

— Ты занадта смелы, Гервасій, — крыкнуў поп. — Слаба дбала святая інквізіцыя, калі ты так распусціў язык.

— На зямлі я, вядома, памоўкваў, — сказаў Выліваха. — І то не дужа. Але цяпер нават сам папа не зробіць з мяне той смажаніны, якую прывязваюць да лаўца, а не пякуць на ім.

Поп хацеў быў сказаць нешта, але ягоныя словы заглушыў крык несамавітага жаху.

Над іржавым, як запечаная кроў, морам з'явілася першая за ўвесь доўгі шлях жывая істота. Яна ляцела, цяжка махаючы перапончатымі крыламі, як вялізны кажан, і то ўзлятала ўгору, то апускалася ў ваду пад неймаверным цяжарам, падвешаным да яе ног. Здалёк гэты цяжар здаваўся нізкай серабрыстых рыб.

Калі істота падляцела бліжэй — крылы аказаліся рукавамі чорнай манашай расы, а рыбы — дзевяццю голымі жанчынамі, што чапляліся за старэчыя ногі пачвары.

І са страшнай нянавісцю да калегі Перавозчык сказаў:

— Адзін з тых, каму не далі забыцця.

Цяпер пачвара ляцела ўжо зусім блізка ад ладдзі. Стары з вар'яцкімі вачыма, клінападобнай барадою і галавой, падобнай на агурок.

Як прагны падлаед, што часам ухопіць занадта вялікую для сябе здабычу, як коршак, схоплены сомам, стары падлятаў і падаў, кранаючыся кіпцямі вады, падлятаў і падаў. А па ягонай спіне поўз, дабіраючыся да глоткі і сціскаючы яе, юнак з акрываўленай скроняй.

— Я ведаю гэтага чалавека, — сказаў Палачанін. — Ён выразаў ледзь не ўвесь мой горад...

— Ратуйце мяне, ратуйце! Я няшчасны цар Іван! — даляцела з вышыні.

— Дакуль ён будзе лётаць? — спытаў нехта.

— Пакуль такія, як ты, не кінуць яго хваліць, — сказаў Перавозчык.

— А хто гэтыя жанчыны? — спытаў Палачанін.

— Гэта яго жонкі... А той — ягоны сын.

Выліваха толькі рукамі развёў:

— Жонкі?

— Але.

— То мне будзе яшчэ горш. Шчаслівы, у яго было толькі дзевяць.

Перавозчык зірнуў на яго са шкадобаю:

— Ты іх труціў?

— Крый божа. Я іх любіў.

Ладдзя зарагатала.

Усё далей і далей ад яе чыркаў нагамі ваду, і ўздымаўся, і зноў падаў чорны цень.

— Ал-ле, — сказаў Выліваха. — То ж бо, я гляджу, у яго ад такой работы задніца шылам. Спявайце асанну, хлопцы. Нас чакае толькі забыццё.

— Страшна, — сказала Бярозка.

— Ніч-чога страшнага, — сказаў Гервасій. — Мне так ужо было. Сасніў я сон. Нібыта забыў я сваё імя. І непамысна мне так. Не ўспомню імя — і ўсё. І думаю: вось чорт! Ва ўсіх ёсць імя, а ў мяне аднаго няма. Як жа так? А як спытаюць? Добра, як не спытаюць. А як спытаюць. А як, скажуць, хлопец, тваё імя?

Ладдзя рагатала. Выліваха глядзеў на ўсіх нахабнымі сінімі вачыма, і няўлоўная ўсмешка блукала на яго хітрых, добра расшчэпленых самой маці-натурай, вуснах.

— Святыя злодзеі, — сказаў Выліваха, — набожныя babнікі. Гэй, браткі, вам кажу. Ці ж Бог даў беларусу дзюбу, каб ён пішчаў?

— А для чаго?

— Лушчыць гарэхі ды цалавацца... Ану, святыя, давай Вялікую Малітву!

Іржавае мора дрыжала вострымі зыбатымі хвалькамі. Чорнае сонца падземнай краіны ўставала над ім. А па хвалях ляцела да недалёкага ўжо берага смерці ладдзя Роспачы, і Перавоз-

чык глядзеў на Гервасія зноў здабытымі вачыма з нянавісцю і страшнай зайздрасцю.

А над ладдзёй Роспачы ўзлятаў голас Вылівахі і грымелі, нібы падпіраючы яго, грубыя вясёлыя галасы.

Досыць ляжаць нам каменнаю крушняй!
Што мы, урэшце, як Марка, бядуем?
З тлустага панства збудуем свінюшні,
З дзевак старых — касцёлы збудуем.
Турмы для катаў — збудуем з суддзяў,
З уладароў — выбаровыя ямы...
Покуль жывём мы — датуль мы людзі,
А ў смерці будзем... людзьмі таксама.

Успёршыся падбароддзем на сплеценыя рукі, з сумнай надзеяй глядзела на Выліваху Бярозка. Вочы ясныя — нібыта нехта шухнуў крынічнай вадою на торн, — вялікія і прыгожыя, нібы ў кароўкі, і такія ж добрыя. І носік нехта злёгку тарганув угору, і раток прыадкрыты.

«А бадай табе, чортавай Смерці, халера ў жывот», — думаў Гервасій і спяваў, каб не загаласіць ад крыўды. Таму што было гэта так, як раніцай успомніць тое, што ўчора ў гасцях недаеў і недапіў.

Любяць нас неба, віно і кабеты.
Сонцам чырвоным, сонцам прарочым
Люд наш упарта ўстае над светам
Нават пасля найцямнейшай ночы.
Гэта наш гонар, шчасце і сіла:
Жыць насупор уварванням і ранам
Там, дзе даўно бы другім пакасілі
Радасць і сонца, песню й каханне.

Бераг адкрыўся нечакана. Пляскаты, як пінскае балота, але з суцэльнага каменя. Холадам і безнадзейным спакоем веяла стуль. І лягчэй было б, каб не палаў пажар шыпшынавай кветкі. Лягчэй было б сустрэць гэты бераг у цемрыве.

На беразе, відаць, таксама згадзіліся б з гэтым. Таму што, убачыўшы далёкае святло ў моры, на беразе замітусілася варта: белыя, нібы з нежывога парцалану злепленыя — людцы не людцы, а так, чорт ведае што, поскудзь з магутнымі мускуламі пад ліпучай скурай, з вялізнымі, нібы ў начных лемураў, вачыма, але затое з чарапамі, у якія наўрад ці ўлез бы хаця напарстак мазгоў.

Яны засланялі вочы далонямі, але святло мацнела, і тады яны ў паніцы кідаліся некуды ў глыб апошняга мацерыка.

На ладдзі гарлалі песню, а варта ўцякала, і гэта было так, быццам да берага, пенячы ваду, немінуча, як лёс, набліжаўся пірацкі карабель. Гэта было, як у час князя Вячкі, калі трыста хлопцаў на ладдзях паваявалі і разрабавалі ледзь не ўвесь захад балтыйскага ўзбярэжжа.

На беразе застаўся толькі адзін з лемураў, сляпы з залатымі ключамі ля пояса, вялікі канцлер падземнага царства, высахлы стары, твар якога даўно нагадваў чэрап.

Ладдзя з шоргатам узлезла на пясок.

— Пір вам і з духам свіным, — сказаў Выліваха.

Ён бы прыдумаў і яшчэ нешта, але ўсе былі скутыя калодкамі, і зрабіць нельга было нічога... Лемуры з'явіліся зноў, і гэта былі другія лемуры, зусім без вачэй, з гладкай скурай на іх месцы. Вязняў скулі папарна — рука Вылівахі была на руцэ дзяўчыны — і вывелі на бераг. Варта рабіла гэта спрытна, нават навобмацак: яна звыкла да цемры.

Упершыню ў жыцці Выліваха не скарыстаўся з такога выгоднага становішча, не сціснуў дзявочай рукі. Яны набліжаліся да лемураў, звонячы кайданамі.

— Мне страшна, — сказала яна. — У іх такія слізкія рукі.

Лемур-канцлер працягнуў лапу, каб абмацаць дзве чарговыя галавы і запісаць іх у рэестр. І раптам Выліваха гаркнуў на яго:

— Ты куды лапы цягнеш, крактавенне смярдзючае?! Ты што, не бачыш? Ты што, не бачыш? Тут паненка.

І ляснуў вольнай рукой па лапе Канцлера.

— За гарачы камень хапайся, а не за нашых дзяўчат. Не для цябе!

— Чаму? — пацепнуў плячыма Канцлер. — Менавіта для нас. Усе вы тут для нас. Усе вы тут для нас, а потым для забыцця... Ану, варта.

Лемуры навобмацак пайшлі да Вылівахі.

— Пастаўце яго на калені, — спакойна сказаў Канцлер.

Слепакі набліжаліся, мацаючы рукамі паветра. Дзяўчына ў жаху прыціснулася да Гервасія. Вязні ладдзі таксама ціснуліся да яго, каб быць разам. А ён з адчаем глядзеў на няўмольнае кола, якое ўсё сціскалася і сціскалася.

І раптам ён успомніў, як не выносіць самай маленькай гарачыні вечна халодная луска рыб. А ўспомніўшы, сарваў з грудзей зыркую, як жарынка, кветку шыпшыны і пачаў вадзіць ёю вакол сябе. Лемуры набліжаліся.

Але вось завагаўся адзін... другі... трэці. Чацвёрты раптам зрабіў крок назад... Пачалі адступаць і другія. І тады Выліваха зарагатаў:

— Што, хапілі, як сом гарачай кашы?!. Куды ісці, хамаўё?

І сам рушыў на чале калоны праз варожы строй...

...Іх прывялі ў пакой з голымі сценамі, прыймовы пакой Смерці. Толькі двое дзвярэй было ў ім: тыя, праз якія яны прыйшлі, і другія, куды яны павінны былі пайсці і знікнуць. Канцлер падышоў да вартаўніка ля другіх дзвярэй і сказаў яму:

— Перадай, у моры ўзбунтавалася ладдзя Роспачы. Я загадаў арыштаваць Перавозчыка. Але гэтыя бандыты ўсё адно гарлаюць песні, як п’яныя, і лаюцца, як матросы, і, калі праходзілі праз браму Жаху, назнарок пачалі стрэламі апаганьваць святое месца.

— То чаму ў іх не адабралі гакаўніцы? — непаразумела спытаў вартаўнік.

— Гэтыя гакаўніцы ў нас можна адабраць толькі з жыццём, хлопец, — сказаў Выліваха.

Вязняў пакінулі адных. Яны чакалі гадзіну, і другую, і трэцюю і, напэўна, палі б духам, каб не Гервасій. А той толькі галавою хітаў:

— І тут не лепей, чым на зямлі.

З рук людзей раптоўна самі сабою пачалі звальвацца ланцугі, і ўсе зразумелі, што настаў судны час. А потым у дзвярах устаў вартавы і агаласіў:

— Выліваха Гервасій, жыцця — трыццаць тры гады.

Гервасій узняўся з лавы і абвёў вачыма свой мяцежны хаўрус.

— Смялей, хлопцы... Мне весела было з вамі.

— Я з табой, — сказала дзяўчына. — Мне страшна будзе без цябе.

— Чаго, дурная?.. Кінь... Гэта нядоўга... На вось, вазьмі кветку, каб не было так самотна, калі пойдзеш туды...

Ён пагладзіў яе па галаве і падумаў адно толькі слова — «шкада». А потым падміргнуў людзям нахабным левым вокам і, бяззбройны, без кветкі, накіраваўся ў смяротны пакой.

Пакой быў высокі, як касцёл, і вострыя скляпенні губляліся ў цемры, а за стральчастымі вокнамі ляжала вечнае цямноцце. І пакой быў пусты — толькі стол, ды два крэслы, ды шахматная дошка на стале.

Сцены былі ўсе абцягнуты шэрым пыльным сукном. Проста перад Вылівахам, у дальнім муры, былі нізкія цёмныя дзверы,

самыя апошнія, якія існавалі і ў свеце Памяці і ў свеце Забыцця. Усю тую сцяну і дзверы засноўвала павуцінне. Як чорныя бліскучыя праменні, беглі ва ўсе бакі ніці таўшчынёю з руку. І, як пачварнае чорнае сонца, сядзеў у збегу гэтых праменняў кашлаты велічэзны павук са срэбным крыжам на спіне — Арахна, якая тчэ павуцінне вечнасці.

А за сталом у адным з крэслаў сядзела і маўчала Смерць.

— Добры вечар у хату, — сказаў Вылівaха.

— Ты што ж гэта, Гервасій? — сказала ўрэшце Смерць. — За ўсю маю дабрыню, за кветку, за апошні глыток віна, які я дазволіла табе, ты ўзбунтаваў ладдзю Роспачы.

Вылівaху раптам стала смешна.

— Ты накшталт нашага вялікага Канцлера, — сказаў ён. — Здзірае апошнюю шкуру і яшчэ патрабуе, каб яму за гэта крычалі «дзякуй!». Начальства, відаць, паўсюль аднолькавае.

— А ты што, не чытаў Эклезіяста? Што было, тое будзе, і няма нічога новага пад сонцам.

— Мяне ён неяк не цікавіў. У мяне не так многа было часу, каб выдаткаваць яго на розную лухту.

— А бунтаваць ладдзю? А ганьбіць Перавозчыка і Канцлера? А разганяць маю варту? А паганіць браму Жаху?

— Мы — людзі, — сказаў Вылівaха.

Смерць усміхалася:

— Шмат ты цяпер паспееш са сваім людствам... Ну, як табе твая суседка? Бачыш, я назнарок не хацела табе перашкаджаць. Сама дабіралася да месца.

У нахабных і вясёлых вачах Вылівaхі раптам з'явілася страшэнная пагарда.

— Дагэтуль я думаў, што здзекавацца можа толькі жыццё. І гэта было адзіным апраўданнем таго, што ты існуеш, Смерць.

— Бачыш, магу і я.

— Бачу. І таму ўспамінаю жыццё з яшчэ мацнейшай пяшчотай... Досыць. Кажы, куды ісці?

Смерць паказала вачыма на дзверы за павуціннем.

— Арахна, — паклікала яна.

Павук варухнуўся і стаў спускацца ніжэй.

— Яна вып'е з цябе жыццё і памяць. Не палохайся, гэта хутка.

— Калі гэта я чагосьці палохаўся?.. Толькі... я б на тваім месцы абнавіў сваю гаспадарку. Павука пакінуў бы для ўладароў, якія смокчуць кроў з народа і выступаюць за старыну. А для бедных людзей зрабіў бы молат і падвёў бы да яго латком ваду,

як на млыне. Ім столькі разоў у жыцці даводзілася падстаўляць сваю галаву пад абух... Ну, бывай.

— Чакай, — сказала Смерць. — Ты і цяпер хацеў бы жыць? Ведаючы, што цябе чакае? Артымаўшы маленечкую адтэрміноўку?

— Нават на прэнгу, — сказаў Выліваха. — Паўсюль, дзе няма цябе.

Смерць сумна схіліла галаву, але адразу ўскінула яе так, што ляснулі зубы.

— Добра! Які ты дзіўны! Ты ігрок, але табе патрэбныя рабыні. То, можа, ты згуляеш у шахматы з найвялікшай уладаркай сусвету, ігрок? Стаўка — жыццё.

Выліваха паціснуў плячыма:

— Давай.

— Хочаш, я дам табе візіра наперад?

— Каб потым казалі, што я скарыстаўся са слабасці?

Дошка ляжала між імі. Гервасій узяў за белы шалом маленькага, але неверагодна цяжкага латніка і адкрыў дарогу свайму візіру... Арахна зацікаўлена дыхала над галавой... І раптам Смерць засмяялася:

— Ты зноў папаўся...

— Чаму? Я ведаю: ты ніколі не прайграеш.

— То нашто ты сеў, дурань рагачовец, слабенькі чалавечак?

— Якая ты часам вартая жалю. Ніч-чога не разумееш. Я — чалавек... Я — ігрок. Няўжо ты думаеш, я, нават бяззбройны, нават калі на мяне напалі б упяцёх, на хвіліну задумаўся б: ужыць мне зубы ці не?

— Гляд-дзі, — сказала Смерць.

За нейкія дваццаць хвілін яна зрабіла брэш у абароне Гервасія, узламала яе і кінулася знішчаць раскіданыя астраўкі адчайдушнага супраціўлення.

І тут Выліваха ўбачыў, які нечалавечы розум гуляе з ім, якая разлічаная на сто хадоў наперад прадбачлівасць вяжа яго па руках і нагах, як нікому, ніколі не ўдасца выйграць у гэтай вышэйшай і халоднай істоты.

Латнікі ягоныя ішлі наперад і гінулі адзін за адным. Правы фланг касцянога белага войска прагінаўся пад несамавітым напорам чорных так няўхільна, як няўхільна ўлазяць у багну калені чалавека, што ўзняў непасільны цяжар.

З мужнасцю роспачы візір Вылівахі кінуўся наперад, збіў варожага латніка, што выходзіў на лінію «Візіраў трон», скінуў баявога слана і адразу замітусіўся між дзвюма ладдзямі Смер-

ці. Гуляй-гарады на спінах ладдзей драпежна выскалялі свае зубцы.

Візір збіў яшчэ аднаго латніка і налажыў галавою, аточаны чорным войскам.

І тады рука Смерці працягнулася і зняла з галавы караля карону.

— Аман, — сказала яна.

— Я магу ганарыцца, — сказаў Выліваха. — Не кожны грае са Смерцю.

— Ты нядрэнна біўся. Глядзі, амаль гадзіна. На іншых дастаткова і дзесяцёх хвілін.

— Нічога дзіўнага. Гэта была самая хвалюючая партыя ў маім жыцці.

— Усё скончана, бунтар. Вартавы, прывядзі астатніх. У пакой увайшлі ўсе весляры з ладдзі. І на чале іх стаяла дзяўчына, а замыкаў шэсце — Перавозчык.

— Вось, — сказала Смерць. — Ён многа браў на сябе. Хацеў гуляць са мною. Глядзіце на яго прыніжэнне, хлопы.

— Прайграць не прыніжэнне, — сказала Бярозка. — Прыніжэнне — кпіць з таго, хто мужна прайграў.

Яна глядзела проста ў вачніцы Смерці.

— Многа ты разумееш, шэранькая курачка, — сказала Смерць. — Многа ты разумееш, слабенькае пыля.

Сустрэлася вачыма з Вылівахам і захінула на грудзях плашч, прыкрыла ім свае старыя жоўтыя косці. І толькі тады Выліваха зразумеў, што перад ім таксама жанчына, з нянавісцю да шчаслівейшых і зайздрасцю да іх.

— Што, Выліваха, можа, згуляем на кветку? — спытала яна.

— Я магу гуляць сабою. Але я не гуляю роднай зямлёй.

— Што ж, — ужо абыякава сказала Смерць, — тады ідзі да Арахны, дзяўчо.

— Але я не хачу туды, — непаразумела сказала Бярозка.

— Як я цябе ненавіджу, — сказаў Выліваха бязносай. — Зусім як нашых радцаў і князёў.

— А між тым я добрая, — сказала Смерць. — Хочаце, ідзіце ўдвох.

Дзяўчына нібы нават з палёгкаю кінулася да Вылівахі:

— Хадзем. Хай яна глядзіць.

— Я таксама была маладою, — паблажліва сказала Смерць. — Я помню свайго першага. Яго звалі Авель. А цяпер мне ўсё гэта ўжо непатрэбна. Я ведаю цану ўсім вам. Мужчыны подлы народ, але няма нікога падлейшага за жанчын... Што,

Выліваха, не гуляла табою адзіная, каго ты сапраўды жадаў... больш за жыццё?

— Ну, — сказаў Выліваха.

— Подлічала, набівала сабе цану, мучыла тым больш, чым больш ты кахаў. І чым больш ты кахаў — тым менш паважала. Патрэбнае ёй было тваё бязмернае каханне? Пуга ёй была патрэбная. Пуга і кулак. Пагарда і рабства. Хоць у апошняй прадажнай дрэні, хоць у баязліўца і здрадніка — абы лізаць ногі. І ты яшчэ не хочаш забыцця? Ды дай вашаму подламу чалавечаму племю вось тут, зараз, уратавацца па адным, кінуўшы ўсіх астатніх Арахне, — хто не скарыстаецца з гэтага? Вось ты, курчанятка, ану... згуляй са мною на сваё вартае жалю жыццё.

— Я... не ўмею, — твар Бярозкі згаснуў.

— А каб умела — кінула б усіх і не пачухалася. А ты... Пера-воз-чык? Ты, здраднік?.. А ты, хлуслівы поп? А вы ўсе? А ты, Выліваха, годны кавалер, ану, згуляй на яе жыццё.

— Чужым — не гуляю. Ніколі не гуляў на чужое майно.

— Ну і яшчэ на гэтых усіх. Ну! На дваццаць год гэтай дзяўчыны. На дваццаць год Перавозчыка, на дваццаць — усіх астатніх. На ўсіх, акрамя папа, бо ён марыў аб царстве пасмяротным. Ну?! Вартая жалю чалавечая слізь!

— Выліваха, — сказаў Палачанін. — Ці доўга яна тут будзе здзекавацца з нас?

— А пройгрыш?

— А гонар, — сказаў Палачанін.

— Згода, — сказаў Гервасій.

Смерць ускінула галаву:

— Ты? Табе ж усё адно нічога, нічога больш не дапаможа. Што табе?

Выліваха выстаўляў цяжкія фігуры. І кожны ўдар донцам аб дошку быў, як удар па вечку труны.

— Што табе да гэтага Палачаніна? Што табе да Перавозчыка?

Гервасій пахукаў на донца свайго візіра: ад сурокаў.

— Ты прайграеш. Ты ніколі-ніколі іх не сустрэнеш. Ніхто ніколі не даведаецца.

Выліваха раўняў шэраг латнікаў.

— Ты разумееш, на што ты падымаеш руку? На маю веліч!

«Гора і няшчасце Рагачова» працягнула руку і ўзяло ў дзяўчыны кветку.

— Ты помніш цара Івана? Я і табе не дам забыцця.

Гожыя вусны Вылівахі нахабна і дзёрзка ўсміхнуліся, і не было, здаецца, нічога прыгажэйшага за гэтую ўсмешку.

— Дзякуй, — сказаў ён.

— Тады — прападай, — сказала Смерць, — ты, што сееш у сэрцах гэтых... няшчасных нездзяйсняльныя надзеі.

— А што, хлопцы, — сказаў Выліваха. — Пяць хвілін надзеі — хіба мала?

Весляры ўсміхаліся.

— То прападай, — сказала Смерць.

Латнік яе візіра зрабіў два крокі наперад. Выліваха рушыў свайго.

Як застрэльшчыкі сечы, як Ракута і Койдан пад Крутагор'ем, латнікі стаялі пасярэдзіне поля. Твар у твар.

...Неадольна, як цемры цемраў, як крыжацкае мора на тры сотні ваяў князя Давіда, як асманы на Косавым полі, як рыцары на Белай Гары, рухаліся воі Смерці. І зноў Выліваха адчуў, што ніхто ніколі не можа выйграць у сілы, якая сядзела насупраць.

Нечалавечая, вышэйшая, халодная і няўмольная разважлівасць, якая не памыляецца, ваявала з ім. Гэта было страшна, нібы ў сне. І Гервасій зразумеў, што ён сапраўды прапаў.

— Позна, Выліваха, — засмяялася, зарыпела Смерць. — Позна нават з гэтай дзеўкай. Позна. Гуляць трэба пры жыцці. Хе-хе. І маё шчасце, што вы, і асабліва дурныя бабы, не разумееце гэтага. З-за карысталюбства яны адмаўляюць бедным, але высакародным, нібы ў іх тры жыцці.

І неадольна, бы ў сне, Смерць зрэзала Вылівахавага слана.

— А вы, калі яны адмаўляюць вам, улешчваеце іх падарункамі. Нібыта вашы каралі вартыя магнацкіх палацаў, нібыта ваша танная біруза з дарагім пацалункам вартая карэты шасцерыком без пацалунка? Нібыта срэбнае таннае люстэрка, падоранае пяшчотным каханкам, мае ў вачах **такой** каштоўнасць, у параўнанні з вілай за горадам, якую даруе — усё адно, жарабец ці кастрат. Хе-хе.

Смерць глядзела то на Вылівaху, то на Бярозку. Яна злавалася і тым не менш крышыла абарону Гервасія, як хацела. І той, нягледзячы на халодны спакой роспачы, бачыў: усё скончана. Ён зрэзаў слана Смерці і адразу страціў сваю ладдзю і латніка, які пагражаў шатру візіра. Выліваха зірнуў на дзяўчыну, убачыў яе твар і пацiснуў плячыма.

— Дорыце ім срэбныя люстэркі, — рыпела Смерць. — А я дарыла б ім люстэркі будучага. Я б дарыла ім замест люстэрка — чэрап. «На, дурніца, глядзі. На, глядзі, якая ты будзеш

заўтра. Не подлічай. Кахай, калі кахаюць цябе... Не слухае... Не паслухае... Хе-хе-хе...»

У Гервасія апусціліся рукі. Але ўголас ён сказаў:

— Думаеш ты над кожным ходам, як поп перад ютраню: выпіць яму ці не выпіць.

— На табе чару, — Смерць узяла чарговага латніка. Выліваха гойсаў вачыма па дошцы і меркаваў, што яму цяпер рабіць. Арахна дыхала яму ў спіну.

— Гэн! — крыкнуў ёй Выліваха, у роздуме водзячы рукой над фігурамі.

— Што яна табе, шкодзіць?

— Вядома. Як ікона ў спальні... Не магу я, калі глядзяць...

Арахна адпаўзла. Гервасій пахітаў галавою. Хітравата ўсміхнуўся:

— Ай, Палачанін, ай, лізунчык. Глядзі ты, перад канчынай, можна сказаць, куды ты глядзіш, каб табе так астатні раз.

Смерць пакасілася на Палачаніна. І ў гэты час Выліваха падставіў Смерці пятага свайго латніка, адначасова пасунуўшы рукавом пад бой яе ладдзю.

Бязвокая зірнула зноў на дошку, якая яўляла сабою выгляд страшэннага разгрому. Усміхнулася:

— Зараз табе мая ладдзя Роспачы... О, л-латнічак! Ану, галубок! Хадзі да змарлых, ёмісты ты мой.

Звонку было так, што ладдзя зараз варвецца і скончыць разгром. Латнік Гервасія зляцеў з дошкі... І тады рагачовец з грукатам зняў падстаўленую ім жа самім ладдзю.

— На.

Смерць засычэла.

— І унь табе яшчэ пагроза каралю. Гэта табе за «ласку» да мяне.

Кароль Смерці адступіў, адкрыўшы візіра за сваёй спіною, кінуўшы яго ў бядзе.

— На, — грукнуў па ім Выліваха, не даючы апамятацца. — Два шчыты перад адным мячом. Выбірай. Каню — слана або майму візіру — другую ладдзю.

І ён зняў ладдзю Роспачы. Апошнюю ладдзю, што была ў Смерці.

Людзі войкнулі. На дошцы літаральна за нейкую хвіліну ўсё змянілася. У сталёвым страі нападу зеўралі цяпер страшэнныя праломы. Войска Смерці сплывала крывёй. І аднак без абедзвюх ладдзей, без візіра і слана яна ўсё адно была мацнейшая за кожнага іграка на зямлі. Бо яна прадбачыла ўсе магчымыя

палажэнні фігур на полі бою і ведала, як скончыцца і як можа развіцца кожны з хадоў ворага.

Вылівааха, як кожны чалавек, мог сказаць толькі, што вось гэтая галінка дубка дасць за гэты год «пагон» даўжынёю ў дзесяць дзюймаў, а тая — у дваццаць, бо на яе трапляе больш сонца. Смерць нечалавечым сваім зрокам бачыла, які будзе гэты дуб у апошнюю хвіліну свайго існавання праз сто год, калі сякера ўдарыць яго ля камля. І яна бясстрасна, халодна пачала карыстацца гэтым веданнем. Яна сабрала ўсе сілы ў кулак і пачала ціснуць на правае крыло Вылівахавага войска.

...І ў гэты момант Гервасій пачаў разумець нешта такое, што пасяліла ў ягонай душы парасткі несамавітай радасці...

...Дзяцінства. Сябры ідуць у грыбы. Усе астатнія дзяруцца ў нетры, а ён спакойна ідзе лясной дарогай і праз кожныя некалькі крокаў зрывае баравік, што вылез якраз між каляін. Цвёрды, спадыспаду нібы абсыпаны мукою (ішоў дождж, і кроплі, падскокваючы ад зямлі, білі пад ягоны парасон, а потым высахлі), крамяны, як сыр.

А вось салоўка, які трэцяе лета спакойна жыў пад ягоным акном. А вось заяц, які дажыў да старасці адразу за гумнамі, таму што **так не бывае.**

Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, — і тады пераможаш. Нават калі ты слабы, як камар пасярод варожага мора. Таму што толькі дурні разважаюць заўсёды па правілах здаровага сэнсу. Таму што чалавек толькі тады чалавек, калі ён дзёрзка рве панылае наканаванне і плюе на «спрадвечны» закон.

— Ты ваюеш не па правілах, Вылівааха, — сказала Смерць. — Ты аддаў мне гэтага латніка і, значыцца, павінен быў замацавацца вось тут, а замест гэтага...

— Каму павінен?

— Беспамылковасці.

— Я павінен вось ім, гэтым людзям. І нікому больш.

Другі слон Смерці заракатаў бакамі па стале. Вылівааха ўсміхнуўся... Што ведала гэтая бязвокая дрэнь аб арабіне, якая расце на яго камяніцы, няхай без належнага абшару зямлі, але затое недасяжная для коз? Што ведала яна аб зайцы ў глогавых агароджах, які цаною штодзённых драпін зберагаў у цэласці шкуру? Што ведала яна аб яго народзе, які жыў насупор і не так і ўзрошчваў шыпы на сваіх карэннях, а не на сцяблінах?

«Хай косіць твая каса. Што мне ў маіх гожых, але непатрэбных кветках, калі мае карэнні маўчаць, і разрастаюцца ў зямлі, і чакаюць свайго дня?»

— Выліваха, дзе сэнс у тваіх учынках?

— А ты што думала, я — абак*? Чалавек — быдла непаслядоўнае. Таму ён і не быдла.

Ён лікаваў у душы. Яна, неадольная, не магла адолець толькі аднаго: боскай непаслядоўнасці чалавечай думкі.

Нават не боскай. Таму што чалавек часам са звычайнага падзення ігральных касцей робіць больш значныя высновы, чым Бог з бясспрэчнага закону аб тым, што двойчы два чатыры.

— Ты накшталт бацькоў нашай царквы, — сказаў Выліваха. — Вазьмі іх за ногі, стусані — адразу з іх рознае дзярмо пасыплецца. Тры ісціны — і больш няма... «Рабы, слухайцеся паноў вашых», «Дух — галоўнае, а гнойная плоць — за ім», «Ашчэ не будзеце, як дзеці — не трапіце ў царства нябеснае...». Стваральнікі мудрасці для бедных... Чаканшчыкі баек для ўсіх.

І ён зняў каня Смерці.

Ён успамінаў зямлю і ўсміхаўся. Яго новая, непераможная, мудрасць была мудрасцю таму, што ў ёй не было нічога скутага. У ёй было натхненне, сардэчны боль, неасэнсаваная прыхільнасць да аднаго і агіда да другога. Шкада, што позна, позна прыйшла да яго мудрасць. Але ён падумаў, што як Смерць вось зараз не можа перамагчы яго, так ніколі не пераможа яго жывых братоў вялікае каралеўства, у якім уладарыў рагаты ягоным дбаннем Цыкмун. Ніколі, нават з дапамогай падлюг накшталт нясвіжскага Радзівіла, старобінскага Слуцкага або паланецкіх ці мінскіх Хадкевічаў. Таму што ўсе яны рабілі «як належыць».

— Мат! — сказаў ён.

Смерць сядзела моўчкі. Потым узняла вачніцы.

— Нечакана, — сказала яна, не расціскаючы зубоў. — З самай той хвіліны, калі я зяўнула ладдзю.

— Ты зяўнула яе раней, — сказаў Выліваха. — Яшчэ на моры.

— Перамог... Што ж, мяне суцяшае тое, што гэта апошняя твая перамога. Што ты — першы, але ты і апошні.

— І тое праўда, — сказаў Гервасій і ўстаў. — Хаця?.. Хто ведае... Цяперака пайшлі так-кія дзеці. І потым — чаго мне шкадаваць, калі я змог немагчымае, калі я знікну — пераможцаю?

— Развітайся з імі, — сказала Смерць.

— Нічога, хлопцы, — сказаў Выліваха. — Сустрэнемся ў казалупа на шастку, як сказаў наш добры кароль маскоўскаму цару.

---

* Дошка для лічэння. Праобраз сучасных лічыльнікаў.

— А я? — сказала Бярозка.

— Шумі даўжэй, — сказаў Выліваха. — Пастарайся там наконт дзяцей і за мяне... Жыві шчаслівa, малая.

І ён, вельмі прамы, рушыў да дзвярэй, куды ўжо спускаўся з вышыні чорны павук.

— Гервасій, — пачуў ён за сабою.

Дзіўна, ён ішоў спіною да яе і, адначасова, мог бы пабажыцца, што бачыць яе вочы і разумее, разумее тое, што жыве ў гэтых вачах. Але ён ішоў.

Арахна падціснула бруха, рыхтуючыся да рыўка.

— Пані! Пані! Хай ён пачакае, я не хачу!

— Чаго ты не хочаш?

— Я не хачу... на зямлю.

— То ідзі з ім.

— Дзякуй... Дзякуй вам, пані Смерць.

— Ідзі, дзеўка.

...Выліваха ледзь паспеў адштурхнуць дзяўчыну ад павуціння:

— Дужа ты ведаеш жыццё, дурніца... Назад!

— Я і не ведала яго... Да самай ладдзі, — яна глядзела на яго, як на Бога. — То што мне ў тым няведанні?

— Дурная, дурная, — з болем сказаў ён. — Ты й не ведаеш, хто я. Брахун, п’янюга, бабнік, бязбожнік, ерэтык, злачынец, абжора, пудзіла ўсіх добрых людзей.

— Усё адно. Толькі... перад тым як пойдзем... пацалуй, калі ласка, мяне.

І раптам Палачанін грымнуў шахматнай дошкай аб каменныя пліты.

— Ты, — сказаў ён Смерці. — Гэта ўжо занадта. Або забівай адразу і разам са мной, або адпусці.

— Не магу, — сказала Смерць. — Хіба што... падзяліць між імі жыццё гэтай квактушкі. Замест дваццаці ёх для яе — кожнаму будзе па дзесяць год... Ты згодная памерці ў дваццаць сем год?

— Я згодная была і ў семнаццаць, — сказала Бярозка.

— А ты, Выліваха?

— Я хачу, каб яна жыла, колькі ёй належыць.

— Тады я пайду зараз, — павесіла галаву дзяўчына. — Ці не ўсё мне адно. Калі ты не хочаш мяне.

Выліваха задумаўся.

— Добра, — урэшце сказаў ён. — Паспрабуем нанава. Хаця ў нас і мала дзён, але, я думаю, помнячы гэта, мы будзем несці

адно аднаго асцярожна... як нясуць апошні гляк з гарэлкай на ксціны.

Нават тут ён быў непапраўны.

— Ну, што вы там шэпчацеся, як ракі? — спытаў ён у людзей.

— Слухай мяне, — сказаў Палачанін. — Мне цяжка пазбавіцца нават аднаго зноў прыдбанага дня. Тым больш цяпер, калі я ведаю, што такое смерць, і я не хачу яе, як... смерці. І ўсё ж, вазьміце два мае гады. Будзе несправядліва, калі я пераўжыву вас... на цэлыя дзесяць год, рагачовец.

Гервасій падумаў, што адмовіцца нельга.

— Мы бяром іх, — сказаў ён.

— І мае два гады... І мае... І мае, — загулі галасы.

Смерць лічыла па пальцах. І, налічыўшы чарговыя дзесяць, клала на стол адну фігурку. І паступова ў яе ўсё больш адвісала сківіца.

— Што вы робіце?! — спытала яна. — Вы, якія больш за ўсё баіцеся мяне, вы далі ім яшчэ па сорак год кожнаму. І гэты ерэтык і блюзнер пражыве на зямлі дзевяноста тры гады, а яна — семдзесят сем!... Пабойцеся Арахны, людзі!!!

У гэты момант маленькі чалавечак, што хаваўся дагэтуль за спінамі другіх, рассунуў натоўп і, не звяртаючы ўвагі на старую, падышоў да Гервасія:

— Прабач, я не магу аддаць табе два свае гады.

Усмешка ў яго была вінаватая.

— Урэшце, — сказала Смерць. — Я яшчэ не зусім губляю на вас надзеі, людзі.

— Разумееш, — сказаў чалавечак, — мой горад паабяцалі выразаць стральцы. Да апошняга чалавека. Мы не маглі б пратрымацца больш чым да вечара, але я быў забіты раніцай, якраз на пачатку штурму. У мяне толькі адзін дзень жыцця. Магчыма, не варта было б і вяртацца, тым больш што ўсе мае загінулі, а вечарам ніхто ўжо не скажа мне па-свойму: «Здароў, Гальяшмедавар!» Але ж адзін гэты дзень я магу трымаць меч, шыбень ці нож. І мяне будзе мучыць думка, што я нібыта кінуў тых, і горад, і сваю зямлю, і мядоўню ля Перавесішча. Разумееш, ён быў прыгожы, горад, пакуль яны не прыйшлі. І нават пчала, у якой няма свайго слова, не шкадуе джала і жыцця, баронячы свепет. Мне сорамна, але... не пагрэбуй... вазьмі і дзве мае хвіліны, брат.

Выліваха маўчаў.

— Дзякуй за самы дарагі дар, — урэшце сказаў ён.

— Кінь, — сказала Смерць. — Што ты зробіш за іх?

— Вып'ю з ёю апошні кубак... Каб ты здохла і каб такія, як ён, не звяліся на нашай зямлі... Хадзем, людзі.

— А я?! — спытаў раптам поп.

— А ты заставайся ў сваім эдэме, хлус, — сказаў Палачанін.

— Не, — глуха сказаў поп. — Не... Не!

Людзі праходзілі паўз яго.

— Стойце, — сказаў Выліваха. — Грэх пакінуць тут жывую яшчэ душу. Ён дурань. Ён не будзе больш. Праўда ж, не будзеш?

— Не, — сказаў поп і агледзеўся. — Усё, што хочаце, толькі не гэта. Бедаваць, пісаць ерэтычныя вершы... Рабаваць багатых... каб потым крумкачы пілі твае вочы на коле... на Замкавай плошчы. Толькі вазьміце мяне з сабой.

— То што, — сказаў Гервасій. — Давайце зноў скідацца. Дальбог, нібы не апраметная, а карчма, калі ў прапойцаў ваўкі выюць у кішэні.

У цішыні, што легла пасля ягоных слоў, усе пачулі раптам глухія і цяжкія крокі па каменных плітах падлогі.

Перавозчык ішоў да апошніх дзвярэй.

Увесь абмяклы, увесь грузлы, ён ішоў... ішоў... ішоў і спыніўся толькі каля павуціння. Павярнуўся. Абвёў людзей сінімі вачыма.

— Не трэба, — сказаў ён. — Я дам. Я аддам. Бо я аднаго толькі прагну. Забыцця... Забыцця... Забыцця.

І ён прагна, са стогнам працягнуў рукі. Арахна кінулася ўніз і схапіла яго. У наступнае імгненне ён знік. Знік, быццам яго і не было. Пачуўся яшчэ толькі шолах, нібы вызвалены ўздых.

Смерць глядзела ў зямлю, хутаючы свае старыя косці.

— Да скорай сустрэчы, Выліваха, — урэшце сказала яна.

— Да скорай сустрэчы, — усміхнуўся ён і абняў плечы дзяўчыны.

...Праз некалькі хвілін вада выкінула іх на паверхню Святога возера, што непадалёк ад Рагачова. Мужык, які вёў паіць каня, раптам убачыў чатыры дзесяткі людзей, што купаліся ў поўнай вопратцы, і сярод іх аднаго папа, пералажгнаўся, а потым узваліўся на каня і, ляпаючы яго чорнымі пяткамі, паскакаў так, нібы за ім гналіся падатныя начальнікі. Увечары ён бажыўся ў карчме, што рагачоўскія радцы зноў перапіліся і разам з духоўным айцом і ў поўным адзенні ці то асвяжаліся вадою, ці то хадзілі з брэднем.

Паколькі такое не было ў навіну — яму паверылі.

А былыя весляры ладдзі Роспачы тым часам ішлі ўсё далей і далей, і вопратка высыхала на гарачых іхніх грудзях, якія аж дымелі пад добрым сонцам.

Трапятаў на межах залаты баркун, залатыя пчолы гулі над свепетамі, а ў небе, у палючым святле, звінелі між аблокамі беларускія жаўрукі.

Людзей меншала і меншала, бо яны ішлі ўпрочкі і рабіліся ўрэшце толькі жывымі кропкамі на лоне зямным. І ўрэшце Выліваха з дзяўчынай і Палачанін засталіся ўтраіх.

— Чаму ты адказаў «да скорай сустрэчы», а сам усміхаўся, Выліваха?

— Наўрад ці сустрэча апошняга майго нашчадка і яе адбудзецца скора.

— Твая праўда, — сказаў Палачанін. — Дый ці вымруць яны наогул, такія гарластыя?.. Дай кветку, брат.

Ён узяў трохі прывялую кветку і пасадзіў яе, як мятлушку, на шыпшынавыя хмызы. І дзіўна, астатнія кветкі адразу сталі цямнейшыя. І з таго самага часу над Дняпром расце цёмная шыпшына, якая цвіце ўсё лета, каб ніхто не застаўся без роднай кветкі, калі прыйдзе час адыходзіць з нашай добрай зямлі, каб у кожнага была кветка.

— Бывай, брат Палачанін.

— Бывай, лыцар, бывай, дзяўчына.

Трэці пайшоў на поўнач і скора знік у гарачым святле. А яны пайшлі сваёй дарогай і скора ўбачылі замчышча і Дняпро, а ўбаку — старую камяніцу Вылівахі.

Цвіла каля яе брызгліна; белыя аблокі глогавых агароджаў дурманілі зайца, што салодка спаў у іхніх нетрах, каліна выкінула свае пяшчотныя парасоны. А Выліваха ішоў, і рука ягоная лажала на дзявочым плячы.

Жыццё вярнула яму адзіную. І дзякаваць Богу, што не пакінула з ім той, а дало яму лепшую, чыстую і адданую, сапраўднае дзіця гэтай зямлі.

На паваротцы сцежкі, дзе шалеў сіні бэз, перад ім вывернулася шэсце. Наперадзе ішлі сумныя сябры на чале з Ірай Францічкам, а за імі подбегам неслі пустую труну людзі з прытча, спрачаліся аб нечым поп і пробашч, і крочылі з удавана-поснымі лычамі радцы і замкавыя людзі.

Выліваха чуў адны галасы:

— Гора, хлопцы.

— Памянём бедалагу.

— Такое ўпартае, такое моцнае жыццё. Прыдушанае — а жыццё.

Але чуў ён і іншае:

— Ці даруе яму вышэйшая сіла?

— Скажу я вам, чысцец наўрад ці адпусціць такую закаранелую душу.

— Які чысцец?! Усё гэта вашы рымскія выдыганні.

— А пан схізмат!

— Супакойцеся. Пагадзіцеся на тым, што гэта вы — добрыя людзі, а ён...

— І не месца яму сярод лепшых людзей.

— Вяд-дома. Ні грошай у яго не было, ні глыбокай пашаны да ўлад, ні надзейнасці. Ані дабрабыту. Ані маралі.

І тады Выліваха выйшаў на сцежку і адрэзаў сваёй постаццю адны галасы ад другіх.

— Вы можаце вярнуцца, — сказаў ён. — Вас ніхто не прасіў сюды.

У кашталяна адвісла ніжняя сківіца:

— Т-ты... ж-жывы?

— Вядома. І стану жыць я ёю. Пакуль не памру ў адзін з ёю час... Можаце ўзяць гэтую труну для кашталяна: па-мойму, ён ужо смярдзіць.

— Як жа...

— А вы што, думаеце, мы смяротныя і лёгка паміраем?.. Ідзіце, ідзіце. Пакіньце віно нам. Хлябчыце воцат і жоўць, перавозчыкі. У нас — свой эдэм. Не для вас.

І ён узяў дзяўчыну за руку, а сябры абнялі іх. І ўсе яны, кінуўшы на сцежцы людзей над пустою трунай, пайшлі ў зарасці глогу і адвечнай, як гэтая зямля, шыпшыны.

І заяц з глогавых нетраў не кінуўся ўцякаць ад іх, а павараціўся задам да пакінутых і пачаў так рагатаць, што ў яго трэснула верхняя губа.

А глог цвіў над зямлёю, і гэта было сапраўды як эдэм, у якім гучаў ціхі і пяшчотны смех, ці то зайцаў, ці, можа, самога жыцця.

*1964*

# ЧАЗЕНІЯ

## I
## ПЕСНЯ АБ УСПАМІНАХ У СІНІМ, ТУМАННЫМ ГОРАДЗЕ

Ён бег з апошніх сіл, бо разумеў: яшчэ некалькі хвілін — і ўсё будзе скончана.

Не было чым дыхаць. Навісала нізкае — як рукой дастаць — лілова-чорнае неба. І выцягнутыя туманныя языкі, валокны дыму імчалі насустрач, у апошні, здаецца, момант абгінаючы твар. А за градою, у бухце, смяротна, страшна, тужліва крычала, падыходзячы да берага, самотная субмарына. Ён ведаў: там цішыня. Толькі некалькі людзей бязгучна і млява цягнуцца па пірсе, адганяючы з брандспойтаў гэты дым, гэты пыл, гэты сухі туман. А ён усё ідзе. А вакол, у цішыні, гэты крык.

...Яны беглі не таму, што небяспека пагражала ім адным. Невядомае пагражала ўсім, і яны імчалі, каб папярэдзіць людзей. А людзі былі ў тым будынку наперадзе, на самай градзе ўзгоркаў, там, дзе яна абрываецца ўніз, да мора. Сябар цяжка тупаў побач — вялізны сілуэт на чорным небе.

Гэта быў дзіўны, нявeтлы, змрочны будынак. Увесь як крышталь: ці то палац, ці то замак. Сябар не ведаў, што Севярын бяжыць да гэтага замка не проста таму, што там людзі. Сярод людзей была жанчына, страх за якую раздзіраў сэрца. Папярэдзіць — і тады яна, усе яны схаваюцца і, можа, выжывуць.

Ад замка вялі ўніз травяныя партэры. Не чатырохкутныя, а нібыта паловы выцягнутых авалаў, закругленымі канцамі ўніз, адзін над адным, як рыбіна луска. І не зялёныя яны былі, а фіялетавыя — ад водсветаў з неба.

Ужо не ставала сілы. А над гарызонтам, паступова-паступова, яшчэ чарнейшыя, чым неба, бязгучна выраслі вяршыні

хмар, падобныя на шапкі атамных грыбоў, але стократ страшнейшыя за іх.

...Яе не было, калі яны дабеглі да будынка і папярэдзілі жыхароў. У смяротным, амаль жывёльным страху за яе ён сноўдаў паўсюль і раптам убачыў, што яна, страціўшы галаву, бяжыць па гэтых фіялетавых партэрах ад замка, ад паратунку. І, нягледзячы на тое, што было позна, што пікі хмар, накіраваныя на іх, выраслі на палову неба, ён кінуўся за ёю.

Нябесная праява абагнала іх і пачала акругла загінацца перад імі ўніз, як акіянскі вал.

...Ён схапіў жанчыну, панёс да замка. Ён ведаў, што яны не паспеюць, што, у лепшым выпадку, дабяруцца да замкавай тэрасы над морам, адкуль ход у бункеры. Але ён бег. І ён узбег з ёю на тэрасу. І тут...

...Расселася рваным палотнішчам неба, схіліліся ў ім нейкія пагрозныя цені, і адтуль, як чорныя знічкі, як чорныя сляды трасірных куль, пацягнуліся на іх і на зямлю сляпуча вугальныя ніці.

Зямля трапіла ў рой чорных зор, і паўсталі над ёй апакаліптычныя коннікі, імя якім — Смерць. І самага страшнага ён не бачыў.

І звон напоўніў сусвет.

— Хто? — на апошнім, здаецца, дыханні хрыпата спытаў ён. — Хто?

— Ты што, спаў?

Толькі тут ён убачыў акно, стол, шэрую тэлефонную трубку ў руцэ і скеміў, што ён ляжыць на ложку ў сваім нумары, ляжыць, увесь заліты халодным потам.

Шалёна валіла ў грудзі сэрца. Прасціна, пад якой ён ляжаў, была ўся вільготная.

— Васіль Паўлаў звоніць... Спаў, ці што?

— А-а, Васіль... — з удаванай абыякавасцю сказаў ён. — Ды так, драмалася трохі...

Ён даўно прывучыўся хаваць ад усіх свае кашмары. Ён сароме́ўся іх. Занадта часта яны паўтараліся — усё розныя, — каб пра іх можна было расказваць.

— Ты яшчэ не абедаў? — Па Васілёвым голасе адразу было ясна, што гэты спіць спакойна. — То, можа, пачакаеш гадзіны паўтары? Разам паямо.

— Добра. Калі? Дзе?

— Скажам, гадзіны ў тры. Як наконт марвакзала? Родненькага?

— Згода, — і ён паклаў трубку, устаў.

За акном ляжаў у ручаінах дажджу Уладзівасток. Віселі над усім нізкія-нізкія грыфельныя хмары. Такія нізкія, што сопкі да паловы хаваліся ў іх, і здавалася, што горад таксама пацее пад шэрай коўдрай. Парка. Мокрая задуха. Свінцова блішчыць Залаты Рог. Дамы, дрэвы, сілуэты караблёў — усё размытае, як на японскіх гравюрах.

У доме на рагу, на першым паверсе, свеціць праз акно залацістым пузам каралеўскі пінгвін. Там нейкі музей. І сумна, мусібыць, гэтаму пінгвіну глядзець у дождж — над-звы-чай-на...

Дождж і дождж. І гэта на пачатку верасня. Нібыта пасля яснага, гарачага жніўня зноў вярнуўся дажджлівы, парніковы прыморскі ліпень.

Значыцца, зноў павеялі вятры з поўдня, з мора, зноў адцяснілі яны паўночны вецер, што ў жніўні, верасні і кастрычніку нясе гэтай зямлі вечнае сонца, гарачыню і здаровую прахалоду начэй.

Ён пайшоў пад душ, але і там давялося хвілін дзесяць чакаць, пакуль вада зробіцца адносна халоднай. Стаяў пад яе струменямі, што хвасталі па грудзях, плячах, галаве, і паступова адыходзіў, нібы вада, змываючы ліпкі пот, адначасова выбівала з душы змрочныя цені сну.

«Ах, як добра! Як хораша! Нават нічога, што давядзецца ісці ў марвакзал. Чым ужо аднаму абедаць, то лепей з Васілём...»

З Васілём Паўлавым, нядаўнім сваім прыяцелем, ён пазнаёміўся ў першы вечар па прыездзе сюды. Хутчэй ад няма чаго рабіць зайшоў у рэстаран марскога вакзала, сядзеў сярод шумлівага натоўпу, піў сухое віно і глядзеў то на заліў у двайных агнях караблёў, то на сценку над барам, па якой плылі яркія, рэльефныя кальмар і кашалот.

Гэта было яшчэ ў ліпені. Дажджы лілі так, што цвілі туфлі ў шафе. Не надзенеш дні тры — і гатова: нібы нехта іх пад малахіт пафарбаваў. Вось і там, у рэстаране, не прыносілі палёгкі ні халоднае віно, ні заліў за вокнамі, ні ноч. І ад гэтага, хутчэй чым ад віна, туманілася галава і здавалася, што рукі брудныя.

І вось калі ён другі раз выйшаў памыць іх, ён убачыў, што каля ўмывальні некалькі хлопцаў амаль прыціснулі да сценкі нейкага каржакаватага чалавечка. І чалавечак і хлопцы былі апрануты вельмі добра, але дарагія гарнітуры хлопцаў сядзелі на іх, як на карове сядло, ціснулі пад пахамі, мулялі ў грудзях. Ды і чалавечак адчуваў сябе кепска ў шэрай, відаць па ўсім, замежнай пары.

А можа, гэта толькі здавалася так, бо ўсе былі чырвоныя, відаць, трохі нападпітку, і ў тым стане, калі бойка наспявае, але яшчэ не наспела, і таму абодва бакі адчуваюць сябе няёмка і не дужа ведаюць, што рабіць.

Яму стала чамусьці шкада чалавечка. Невялікі, рудаваты, ён сціскаў кулакі і зыркаў вакол бясстрашнымі сінімі вачыма: збіраўся як мага даражэй прадаць жыццё.

І ён спытаў:

— Што гэта вы на аднаго?

Адзін з хлопцаў пакасіўся на яго, абвёў вачыма плечы, грудзі, усю постаць, нібы абмацаў, чаго варты, і сказаў нахабна, але не дужа ўпэўнена:

— А табе што? Ну, біча правучыць хочам. Можа, дапаможаш?

— Чаму ж гэта вы яго, такія адукаваныя, навучыць можаце? А памагаць — памажыце ўжо вы сабе самі...

— Я вам — біч?! — ажыў духам чалавек. — Экс-чэмпіён краю вам — біч?! Вось я вам зараз дам. Самі вы бічы, а не кітабоі! Дзярмо!

«Кітабоі... І сапраўды, падобна. Адсюль, відаць, і скутасць у нязвыклых гарнітурах, і гэтыя вялізныя, як рыдлёўкі, далоні рук. Каб ведаў — трохі падумаў бы, перш чым звязвацца».

Але цяпер было позна. Той, што разглядаў яго, спытаў:

— Ты што, думаеш, у нас адных кітоў б'юць?

— Ды не, чаму ж? — як мага спакайней адказаў ён. — Я думаю, можна і кітабояў таксама.

Нехта пусціў смяшок. Жарт, відаць па ўсім, дайшоў. Але ўсё ж невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, каб адзін з хлопцаў, боўдзіла пад два метры, не асэнсаваў чагосьці.

— Брэшаш ты, — сказаў ён чалавечку. — Ты на вопратку сваю зірні. Біч бічом.

— А і ты на сваю зірні. Вахлак вахлаком. Нібы з турмы ўцёк, інтэлігента ў завулку абдзёр ды вопратку на сябе нацягнуў. Граміла!

Усіх нібы водум узяў ад шалёнага каскада параўнанняў.

— Прозвішча як, калі не брэшаш? — спытаў боўдзіла.

— Ну, Паўлаў. Не твая сабачая справа, кашалот слінявы.

Кампанія нібы зліняла. Пасля бамбіза з удаванай паблажлівасцю сказаў:

— Ды хадзем, хлопцы... — І звярнуўся да чалавечка: — Тваё шчасце. Жыві.

— Пастараюся не падвесці вас у вашых спадзяваннях, мілорд, — сказаў чалавечак. — Жывіце і вы. — І звярнуўся да

нечаканага заступніка, які ўсё яшчэ мыў рукі: — Не ўмывайце рукі. Вы што, Пілат? Развітайцеся з серам. Дайце яму «драстуй». Пасля яшчэ раз памыецеся.

Ляснулі дзверы. Чалавечак працягнуў руку:

— Вы з'явіліся акурат. Даўно марыў пазнаёміцца. Васіль Паўлаў.

— Севярын Будрыс.

— А-а... — нібы пазнаў чалавечак. — Мяркую, гэта і ёсць самая прычына выпіць.

І не адстаў, пакуль не прыйшоў за Севярынам да ягонага століка, не падсеў, не зрабіў заказ — вялізны, — не закурыў.

«А, бадай, сапраўды біч, — падумаў Севярын. — Па тым, як навязваецца, па лёгкасці, з якой падсеў, — біч. Аціраецца больш у порце, чым у рэйсах, спаўна скарыстоўвае «прастой», жыве спрытам. Не дзіва, што сапраўдныя маракі біць хацелі. Цікава толькі, хто за ўсё гэта будзе плаціць. Калі зараз пачне брахаць — значыць, я. Расплаціцца байкамі аб Сінгапуры. Усё жыццё марыў зведаць гэтую пароду людзей...»

Чалавечак між тым задаволена адарваўся ад мінеральнай вады «Кука» і абвёў позіркам нявінных вачэй залу. Сказаў у прастору:

— Будрыс. «Тры ў Будрыса сына, як і ён, тры ліцвіна...» Вы літовец? Прозвішча літоўскае, — сказаў, як заведзены, без усякай інтанацыі.

«Бач ты, Міцкевіча цытуе... У перакладзе Пушкіна».

— Прозвішча не літоўскае, — сказаў Севярын. — Гэта проста размоўнае імя ад афіцыйнага «Варфаламей» — Баўтрамей, Бахрым, Баўтрук, Будрыс.

— На якой мове «размоўнае ад афіцыйнага»?

— На беларускай. Я з поўначы Беларусі.

— Севярын Варфаламей, — без усякага выразу абкатваў новую інфармацыю чалавечак. — Севярын Будрыс. На беларускай. З поўначы. Беларус. Размоўнае ад афіцыйнага...

— Што гэта вы, як кібер, працуеце? — з усмешкай спытаў Севярын.

— А вы што, мелі з імі справу?

— Даводзілася.

— Разгубіўся проста... А набілі б, сволачы. Га?

— Набілі б, — сказаў Будрыс.

— І я кажу, — пасур'ёзнеў Паўлаў. — Будрыс. З поўначы. Беларус... А я вось не ведаю, хто я. Тут табе і хахлы, і латышка, і ўсякага жыта па лапаце. — І ўжо зусім нечакана дадаў: — Мой прадзед быў жандарскі палкоўнік.

«Пачынаецца, — падумаў Севярын. — Плакалі мае грошыкі...»

Як большасць безабаронных слабавольных людзей, ён адразу ж прымірыўся з гэтым.

«Ну і добра. Не хапае, ці што? Прынамсі, мяркуючы па першых авансах, брахня будзе цікавая. Вып'ю. Сядзець буду позна. Можа, ад віна і стомы хоць гэтая ноч пройдзе спакойна...»

Выпілі. Паўлаў частаваў.

— Кальмар. Вы ў нас тут навічок, то вам, пакуль тое, экзотыку давай.

Кальмар нагадваў смачную гуму, нарэзаную, як лапша. Паўлаў зноў выпіў і раптам без усякага выразу ў сініх вачах паўтарыў, нібы сам здзіўляючыся гэтай акалічнасці.

— Жандарскі палкоўнік... Але ён быў харошы жандарскі палкоўнік... Добры жандарскі палкоўнік. Ён быў... — І выпаліў, нібы са стромы ўніз галавою кінуўся, нібы ведаў, што ўсё адно ніхто не паверыць: — Ён быў... закаханы ў Веру Фігнер.

«Час ад часу не лягчэй! Пахне трэцяй бутэлькай...»

— Праўда. Добры жандарскі палкоўнік. Спачуваў народавольцам. Быў закаханы ў Веру Фігнер. Памагаў рэвалюцыянерам. А я вось — экс-чэмпіён. І зноў буду. Я ім так не дамся. У мяне — прадзедаў гарт...

І ён са значэннем узняў палец.

Нешта напаўзабытае, цень нейкага невыразнага ўспаміну, прамільгнула ў Будрысавай галаве. І сапраўды, недзе ён чытаў, чуў пра жандарскага палкоўніка, які... Урэшце, ці ён адзін? Многа было такіх. А таго, здаецца, саслалі.

— Прабачце, яшчэ раз прозвішча?..

— Паўлаў.

«І сапраўды, здаецца, так. Што ж, калі гэта і хлусня — дык хоць не сумная... Тым цікавей будзе слухаць...»

— А дзед мой купіў сабе рабыню-яванку. Тут у той час было цяжка з жанчынамі. А ў Сімеонаўскі Коўш прыходзілі парусні́кі, джонкі, проста чаўны. Ён і купіў. Разам з вязкай бананаў і ракавінай-трыдакнай. Дагэтуль яны ў нас. То-бок бананы, вядома, яшчэ тады з'елі...

— Хіба праваслаўным дазвалялася пасля рэформы мець рабоў?

— Ды вы не зразумелі... Ну, кітайцам можна было.

— Хіба дзед — кітаец?

— З вамі гаварыць немагчыма. Які кітаец? Хто сказаў, што кітаец? Падобен я на кітайца? Вось каб да кітайца ў рабыні не

трапіць, яна і згадзілася, каб дзед яе купіў. Пане ты Божа мой, хіба не ясна?! Ён перагаварыў з ёю, яна згадзілася, ён яе купіў. Стала яна, тым самым, свабодная. Тут яе адразу ў царкву. Тут папу хабар. Тут яе адразу з купелі — на што рускім жанчынам мінімум шаснаццаць год патрабавалася — ды вакол аналою. Ды гулянка, ды... Словам, гэта мая бабка... А вы вось лепей, размоўныя ад афіцыйнага сябра Будрыс, скабляначкі з трапангаў... Ды пад яе...

Скаблянка сапраўды была дзівосная. Мяккае, смачнае мяса, у чымсьці падобнае да грыбоў, плавала ў карычневай падліве і таяла ў роце.

Паўлаў кудысьці адышоў, і Севярын, грэшным чынам, падумаў, што ён знікне. І награшыў на чалавека. Жандарскага палкоўніка праўнук і ўнук рабыні з Явы прыйшоў і прыцягнуў з сабою, «па асобым заказе», бутэльку японскага саке, рысавай гарэлкі.

— Падагрэтую піць будзем. Бачыце? Паспрабуйце дастаць. А раней у Каўшы не толькі бабку, але і гэта — колькі хочаш купляй. Страціў каларыт горад... Не той стаў горад. Ну і дзякуй Богу, што не той...

Урэшце ўсё было выпіта і з’едзена, і нават бясконцыя байкі сабутэльніка сталі вычэрпвацца. Будрыс палез у кішэнь і спыніў афіцыянтку.

— Заплачана, — суха і нібы стомлена сказаў Паўлаў.

— Як?

— Заплачана. Праўда, Верачка?

— Як заўсёды.

Будрысу стала пякельна сорамна. Што думаў? Ён цяпер ясна бачыў самоту гэтага чалавека і — ад самоты — утрапёную прагу субяседніка.

— Як хочаце, — сказаў Будрыс. — Я гэтага дазволіць не магу.

— А вы дазвольце. — Паўлаў уважліва, быццам усё разумеючы, назіраў, як чырванее субяседнік.

— Ну, тады яшчэ, — сказаў Будрыс. — Яшчэ.

Ён здатны быў зараз выпіць з гэтым чалавекам мора, абы тое мора змыла яго пякучы сорам. Заказ узялі.

— А добра гэта, калі ёсць грошы, — наіўна і хітравата сказаў Паўлаў. — Во каб гэта ў мяне іх не было... Або ў вас... Я не сеў бы... Вы пайшлі б. І не было б дваіх харошых людзей. А быў бы абаронца біча, пыхаты «еўрапеец»... І біч...

Скалануў галавою. Сказаў пасля паўзы:

— Я не біч, Севярыне. Няшчасце маё, што сем месяцаў абабіваюся тут, ды сяджу па корчмах вечарамі, ды раблю ўдзень за багатую зарплату, замест каб плаваць. Але да плавання мне далей, чым да месяца. Мабыць, ніколі... Вы прабачце, я не магу сказаць болей...

— І вы прабачце, — сказаў Будрыс. — Я таксама...

Яны паціснулі адзін аднаму рукі.

— Заўважаю, са здароўем у вас нешта? — ціха спытаў Паўлаў.

— І са здароўем. І так — пагана...

Паразумела ўсміхнуліся сінія вочы:

— Ну, добра... а то вось яшчэ было... Падчас японскай акупацыі бацька мой выдаў сябе за нашчадка японца. Маўляў, выхадзень з поўдня Японіі, з вострава, здаецца, Акінасіма. Ад маці меў трохі ў форме вачэй і ў колеры аблічча. Зусім трохі, але ж у нейкім там пакаленні — японец... Валодаў гэты японец мовамі: рускай, начаткамі кітайскай і карэйскай, як усе карэнныя, украінскай і яшчэ антыяпонскай... На нас працаваў...

Плыла вясёлая, простая, натуральная размова. Яна нібы варажыла, бо давала радасць, разуменне і спакой.

І пад гэтую размову, і жадаючы змыць няёмкасць і сорам першай гадзіны, яны такі здорава ўзялі ў той вечар.

Ва ўсякім разе, пад канец, калі раптам ударылі смыкі, барабаны і рубы і ўся зала пачала падпяваць і зрывацца з месца, Будрыс са здзіўленнем пачуў, што ён таксама на ўвесь голас падпявае і не бяжыць танцаваць толькі таму, што не ўпэўнены, ці атрымаецца гэта.

У кожнага партовага горада ёсць свая песня, свой асаблівы гімн, пад які не ўседзіць ніхто і ўседзець пад які — гэта амаль што ўчыніць здраду айчыне, ва ўсякім разе, напляваць на яе святыя традыцыі. Тое, пра што ў Амерыцы кажуць: «Лепей апаганьце абеліск Вашынгтону, абы не гэта».

Тут такой песняй была старая наіўная песня пра дзяўчыну, якая «па-ка-ха-ла ма-ра-ка!!!». І вось глоткі раўлі яе, а ногі адтупвалі так, што дымеў паркет:

Он не лекарь!
Не аптекарь!
Не разносчик мо-ло-ка!!!
Плачу я, но не жалею,
Что влюбилась не в жокея,
Не в торговца бакалеей,
А в бродягу моря-ка!!!

Яны спявалі «джокея» і «торговца-бакалея», нібы гэты гандляр меў другую прафесію — «бакалей» — або гэта было ягонае імя, накшталт «Бармалей». Але спявалі так заўзята і захоплена, што брала ачмурэнне:

Знает он, где спят туманы,
Где кочуют ураганы
И когда цветут бананы
На Гавайских островах.

Ён глядзеў на гэта, праз туман, і, здаецца, блытаў куплеты. Але гарлаў разам з усімі:

Ну и пусть, моряк, не скоро
Ты вернешься в этот город...
Моряки блуждают в море,
Словно в небе облака!!!

Кітабоі грукалі нагамі, нібы на іх усё яшчэ былі пудовыя боты. Лёталі са сваімі партнёршамі капітаны, нават самыя сівавалосыя. І ўсё гэта нагадвала індзейскія скокі або танец людзей, якім дваццаць год забаранялі танцаваць:

По-лю-би-ла мо-ря-ка-а-а!!!

Будрыс са здзіўленнем заўважыў, што субяседнік скача, седзячы на месцы. Наіўнаватая песенька нарадзіла ў яго вачах непадробнае захапленне. І гэта лепей за ўсё сказала яму, што Васіль — карэнны, патомны жыхар, плоць ад плоці і кроў ад крыві горада.

І тут жа спаймаў сябе на тым, што і ён не толькі крычыць.

— Вось і ты прычасціўся, — сказаў Паўлаў. — Ахрышчаны.

Гэтае «ты» было нібы прызнанне, што Севярын цяпер свой. І так, праз нямудрую гэтую песню, Будрыс нібы зазірнуў у душу горада.

З гэтага часу ён і Паўлаў сталі прыяцелямі. Пасля Севярын паехаў трохі паглядзець на гэтую зямлю і падчас паездкі канчаткова зразумеў, што яму ўсё роўна, хваліцца Паўлаў ці не, многа ён брэша ці так, залівае трохі. Таму, што ён бачыў у ім частку душы горада. Карэннай яго душы — прадпрымальнай, непаседлівай, смелай, трохі выхвальнай, зубастай, цяжка працоўнай, схільнай да самых неверагодных выдумак.

Накіп, што ёсць у кожным горадзе, — гэта было не тое. Яго хапала і тут. Але ў Паўлава Будрыс заўважыў частку душы першапасяленца. І пляваць яму было на тое, чэмпіён Васіль

ці не, кахаў ягоны прадзед Веру Фігнер або гэта такая самая «антыяпонская мова», як бабця з Явы.

І вось цяпер Васіль пазваніў.

...Будрыс урэшце вылез з-пад душа, адзеўся і выйшаў з гасцініцы. Дождж перастаў, але было вільготна, і рэзкі вецер з мора ляцеў вуліцамі.

Заставаўся яшчэ час, і Севярын пайшоў гэтыя два прыпынкі пеша, звярнуў да бухты, каб прайсці да вакзала праз порт.

Між караблямі білася і ўздыхала вада. Плавалі ў ёй бочкі, скрынкі з надпісамі на разнастайных мовах, варушылася каша водарасцяў. Пах гэтай вады, ёдны, салоны, масляны — унь якая вясёлка на ёй! — востры ад водарасцяў, што гніюць, поўніў, здаецца, увесь горад.

Будрыс стаў над рыбаловамі, якія лавілі з пірса на крэветку. Цягалі краснапёрак праз вясёлкавую плеўку, што дзяліла водную і паветраную стыхіі. Цікава, ці пахне рыба бензінам?

І раптам вострая, страшная туга па радзіме нібы нажом ударыла пад сэрца.

«Краснапёрка. Марская. А ёсць рачная. Там. І яе ловяць з чыстай вады. З азёр. З Асвейскага. З Нарачы. З якога-небудзь там Вечалля або Дзевіна. З Лучосы. З Дняпра. Божа мой, як жа гэта я трапіў сюды? Як мяне сюды занесла? Туды трэба было ўцякаць. Туды. З дзяцінства, здаецца, не бачыў... Такая туга! Але шэф сказаў: «Знаеце што, мы даём вам столькі часу, колькі вам трэба, каб прыйсці ў сябе. І адпачывайце вы. Едзьце вы далей, далей, як мага далей. Кахайце, рыбу лавіце, калі хочаце — напіцеся. Але толькі каб сталі другі, каб ранейшы... Усё рабіце, што хочаце. Інакш, баюся, мы вас страцім. А нам, а мне... вельмі гэтага не хочацца. Я прыглядаўся да вашых здольнасцей яшчэ ў школе. — У шэфа відавочна сапсаваўся настрой, пацірае пальцамі востры, птушыны нос. — Не ведалі? Ну вось. А вы і трапілі, куды трэба, таму, што да мяне, да нас дайшло і мы прыглядаліся... І пасля я глядзеў, і радаваўся, і ведаў, што мне ёсць на каго...»

Ён тады махнуў са скрухаю рукой. Гаварылі ў ягоным вялікім непрытульным кабінеце, дзе ён амаль ніколі не сядзеў. І ўжо зусім дзіўна было, што суровы, аніяк не схільны да распівання спіртнога ў рабочы час, шэф паставіў на стол бутэльку каньяку і дзве чаркі. Паставіў, і яны выпілі па адной і па другой, і гэтым свядома зглумілі цэлы дзень, бо ні адзін, ні другі не маглі працаваць, узяўшы хаця б грам. А пасля шэф, які нікому ніколі не казаў таго, што сказаў зараз яму, заторкнуў бутэльку і ўздыхнуў.

— Вось так. Дастукаўся. Я разумею. Цяжка. Што, нервы, сны, кашмары?

Будрыс моўчкі кіўнуў галавою. І тут бутэлька стрэльнула коркам у столь. З рэзкім гукам. І малады так здрыгануўся пры гэтым, што твар шэфаў абцягнуўся скураю і нешта дзіўнае, нешта такое, што трывожна і да канца асэнсоўвала, з'явілася ў вачах. Нешта птушынае, уважлівае і спалоханае. Ён адразу ж пастараўся прагнаць гэта. Ён усміхнуўся:

— Гэта яна намякае, каб яшчэ налілі. Ну і малайчына, што нагадала. Давай!

Выпіў і раптам сказаў з такой нечаканай пяшчотай, бояззю і перасцярогай, што малады дагэтуль не мог забыць:

— Як мага далей. Адпачывай. Беражы галаву, сынок. Злачынства — не берагчы такую галаву. Ну, з Богам... Вяртайся.

І пацалаваў яго. І гэтага таксама не было з самага стварэння іхняга свету, дзе быў свой Бог і свае пакутнікі.

...Ён уцёк далёка. Але пакуль што, здаецца яму, не ў той бок. Дзіўна, але толькі размова з шэфам дала яму зразумець, што з ім, Будрысам, сапраўды вельмі кепска, амаль непапраўна. Здаровае цела, фенаменальная галава (цяпер, калі ён часам не мог разблытаць самага простага і мог палову гадзіны сядзець над уразуменнем ідэі, формулы, схемы — ён не саромеўся думаць так пра сябе ранейшага), памяць, інтуіцыя — і вось ўсё сабаку пад хвост. Нешта разладзілася ў складанай машыне ягонага арганізма. Часам — ранейшыя ўзлёты, але часцей нервовасць, дзіўнае адчуванне непатрэбнасці і нават шкоднасці сваёй працы і сваёй навукі, цяжкая, чыгунная стома з самай раніцы, сны, з-за якіх страшна класціся ў ложак. Штовечар страшна класціся...

Ён ішоў пад кранамі «Сумітома», якія нібыта прыселі на напаўсагнутых нагах, адпачываючы ад штодзённага страшнага цяжару. У марскім смецці ля пірса плаваў, калыхаўся бліскучы, як велікоднае яйка, дзіцячы мячык. Тут ён упаў у ваду ці яго аднекуль прынесла? І як прынесла, то адкуль? З Карэі? Ад берагоў Японіі? Ад туманных і суровых скал Цярнея?..

Чамусьці без усякай сувязі з гэтымі і з мінулымі думкамі ён успомніў сваё роднае возера, раку і сябе, хлопца з невялічкага мястэчка. Што ты ні кажы, а непасільны цяжар лёг яму на плечы, гэтаму правінцыялу. «Вундэркінд», «незвычайныя здольнасці»... Чым ён вінен, што акрамя ўсяго гэтага прырода дала яму вочы, якія прагна бачаць усё на зямлі, ногі, якія жадаюць абшару, сэрца, якое хоча чагосьці незвычайнага? Трэба было, відаць, даць волю сэрцу, а не галаве, якая ў барацьбе з

гэтым сэрцам (а напэўна ж, так) знемагла ў той самы момант, калі ён ганарліва лічыў, што для ягонага мозгу амаль няма немагчымага. І ці не быў бы ён шчаслівейшы, каб аддаў кесарава кесару, а божае богаві? Хіба кепска было б стаць капітанам вось такога гандлёвага судна (як жа яго назва? «Орша»? Бог ты мой, «Орша»!), быць заўсёды ля машын і лічбаў, заўсёды думаць, вынаходзіць, паляпшаць (і задавальняцца гэтым) і адначасова быць адзін на адзін з абшарам, з акіянам, з простымі чалавечымі адносінамі, з сустрэчным суднам, якое мінае тваё і доўга яшчэ свеціць праз ноч топавымі агнямі... І вось — чужыя астравы... Гавань пад залатой поўняй... І на ўсім рабізна... Залатая па чорным (гэта адбіваюцца ліхтары ў чарнільнай вадзе, якая спіць у цяні караблёў) і блакітная па густым нябесна-сінім (месяц, вялізная поўня, дрыжыць блікамі на вадзе).

Пры сузіранні зямной прыгажосці ён заўсёды нямеў. Выліць бы ўсё гэта, аддаць іншым. Але ніколі ў жыцці ён не мог скласці нават звычайнага вершаванага радка. І таму адчуваў сябе так, як, напэўна, адчувае сябе сабака: хоча сказаць пра важлівае і не можа. І таму ўсё гэта, нявылітае, нявыказанае, зберагалася ў душы, перапаўняла яе і, не знаходзячы выхаду, прымушала ўтрапёна марыць аб іншых берагах, аб вышэйшай справядлівасці, аб незвычайных жанчынах, аб праўдзе, простай, як вялікі верш, аб нейкіх нязнаных джунглях, лясах, стэпах, што пахнуць, як сады, аб нязменнай чалавечнасці, аб шчасці. І нічога з гэтага не збылося, і ўсё гэта, урэшце, задушыла яго. Нельга бясконца стрымліваць самае святое — урэшце адбудзецца выбух...

Замест усяго гэтага ён заблытаўся, бы ў лесе, у каменных дамах, у машынах, у лічбах. І ўсё гэта страшэнна адпомсціла.

Будрыс успомніў жорсткую, брутальную і цынічную карыкатуру, якую ён бачыў у амерыканскім тэхнічным часопісе. Стаіць пачварная, з дзесяткамі тысяч рычажкоў і кнопак машына невядомага прызначэння, а ў ёй корпаецца, стаўшы на калені, маленькі чалавек — ліквідуе нейкую непаладку. Спачатку ён нават не зразумеў, у чым тут соль: звычайныя будні, тое, што бачыш кожны дзень. І толькі пасля заўважыў, што з азадка ў чалавека тырчыць ключ, накшталт тых, якімі заводзяць дзіцячыя завадныя аўтамабільчыкі. Дурны смех! Але ў чымсьці і праўда... Вось, здаецца, і ў вас скончыўся завод, сябар Будрыс.

Ці дойдзе чарга да вас, каб зноў завялі? Такія вялікія чалавечыя чэргі. Падчас працы, у гадзіны бяссонных начэй, калі ёсць толькі круг ад лямпы, папера і лічбы, падчас спрэчак, калі

нават іранізуюць і здзекуюцца адзін з аднаго радам формул, у якіх памылковая думка праціўніка даведзена да абсурду, разпораз ён успамінаў простае: рыжых коней на поплаве (так нечакана адышлі яны ў нябыт, і ён зусім не падрыхтаваўся да развітання), курганы-валатоўкі ў ранішнім тумане, бабра, што куляецца ў ваду, заўважыўшы ягоны човен... Хлопчык з глушыні, куды цябе занесла? У фантастаў усё гэта выглядала куды прыгажэй, бо яны адказвалі зусім на іншыя пытанні, сярод якіх галоўныя былі — чалавечае і чалавечнасць, бо яны клікалі да іншых берагоў.

Ён марыў аб няздзейсненым, аб тым, чаго не будзе, аб жыцці, што споўнена віруючым токам крыві. І паколькі гэта не збылося, рыжыя коні адпомсцілі яму.

Ды хіба яму аднаму? Ён успомніў сваё першае знаёмства са светам высокай навукі. Тады іх, зусім яшчэ юнакоў, везлі аўтобусамі ў Дубну: паказваць. І яны былі шчаслівыя маладосцю, шчаслівыя (што грашыць!) сваёй адметнасцю, сваімі думкамі і ідэямі, сваімі гарызонтамі. Яны маглі ўсё. Але ўжо тады ён адчуваў сваю дваістасць. Злева ад дарогі гордыя сталёвыя стрэлы неслі драты, справа — ляжалі вёскі, справа было Дзмітраўскае гарадзішча, гарадзішча горада, які калісьці мог сапернічаць з Масквой. Ад усёй велічы застаўся на гэтым гарадзішчы толькі нізкі белы старажытны сабор.

І Севярын не ведаў, што яму даражэй: гордая ода, што цягнулася злева, або простая элегія, што драмала справа.

Усё ўразіла іх тады. І сам горад, і круглая крэпасць сінхрафазатрона, і цыклатрон, і пульт упраўлення. Гэта было велічна і цудоўна. А ён ніяк не мог пазбавіцца ад думак, што вакол гэтага фарпоста ляжаць лясы, у якіх, цалкам верагодна, могуць такаваць глушцы.

Ізумрудная іскра на экране пульта ўпраўлення паўзла і паўзла наперад, упарта і пераможна, і раптам зрывалася, бязвольна падала наўскос.

Якія маладыя яны тады былі! І Антон, і Віталік, і Генусь. Цудоўны Генусь, зямляк, друг, родная душа! Гэты не стаў бы пакутаваць ад таго, што хоча сказаць важлівае і не можа... Розыгрышы, вершы, жарты, ідэі, неўтаймаваная энергія і сіла жыцця так і віравалі ў ім. Гэты ведаў, што рабіць з дарам, які дастаўся яму невядома адкуль, і не адчуваў сябе з гэтай прычыны прыгнечаным, і нібы вінаватым, і нібыта не на сваім месцы.

Вось і тады ён мала таго што бачыў больш, чым усе яны, але яшчэ і паспяваў сыпаць жартамі і прыдумляць, карыстаючыся

новымі ўражаннямі, пародыі на безгустоўныя і дурацкія ў сваім мяшчанстве песні тых часоў.

Напрыклад, «фізічная-лірычная», пародыя на тагачасныя песні пра каханне, у якіх ніколі чамусьці не казалі аб ім сур’ёзна, а ўсё з усмешачкай, з ironіяй, са смакаваннем розных недарэчных становішчаў, у якія траплялі героі. Чорт яго ведае, кахаць развучыліся, ці што? І закаханыя амаль заўсёды выглядалі ў гэтых песнях напаўідыётамі: заглядзеўся на дзяўчыну, едучы ўнаброд ракою, і сядзеў так да ночы, абламаў на кветкі дзеля яе ўвесь сад, адказваў на ўсе яе пытанні адным словам «точна» (ну і доўбня, вочы б не глядзелі!), павёў гуляць не ў сад і не ў лес, а да шагаючага экскаватара.

І вось Генусь гарлаў нешта накшталт:

Мы хацелі выйсці
З ёю на балкон,
А папалі з ёю
Ў сінхрафазатрон.

Або яшчэ «фізічная-алкагалічная»:

П’ём гарэлкі тры бітона — трум-ту-ру-ту-тум
За здароўе цыклатрона — трум-ту-ру-ту-тум.

Генуся ўжо няма. Праз некалькі год пасля таго, падчас аднаго вельмі ўдалага доследу, атрымаў столькі, што яго ўжо нішто не магло ўратаваць...

А тады яны пад вечар сядзелі за сталом у клубе і нават выпівалі ледзь не першы раз у жыцці, і з імі сядзеў — насупраць Будрыса і побач з Генусем — вялікі вучоны-італьянец, худы, са стомленым інтэлігентным тварам. Дзеці ягоныя ва ўсім ужо былі мясцовымі, нават галубоў ганялі з равеснікамі. Будрысу чамусьці вельмі хацелася зрабіць яму прыемнае, і Генусю, мабыць, таксама, бо ён узняў келіх і сказаў:

— Бруна Максіміліянавіч, за Італію!

А ён, Будрыс, дадаў:

— За краіну, што нарадзіла гуманізм!

І вучоны ўсміхнуўся ім шчырай, сумнаватай усмешкай.

«Пачатак пачаткаў — маладосць, радасць і свежасць мая, каханне, якое адышло, жывы і вясёлы Генусь... Я ехаў так далёка, каб вярнуць вас, каб хаця ў сэрцы сваім вярнуць вас. Я глядзеў, як шалёна калоціцца аб чорныя прасы скалаў шкляное і зялёнае Японскае мора, як яно гайдае на рэйдзе Цехюце самотны параход, як прыліў залівае аўтамашыну і як уцякае ад яго, з усёй сілы ратуе жыццё пацук. Нейкі жаўтавата-белы пацук...

Я хадзіў па ільмавых бярвеннях над жоўтай, над шумлівай таежнай рэчкай. Я палохаў сарок — яны тут блакітныя — і аранжавых бурундукоў, і яны нерухома віселі на ствале, калі я заміраў за два крокі ад іх, і глядзелі на мяне вадка-бліскучымі, вялізнымі для такога маленькага стварэння аленевымі вачыма. Я караскаўся на скалу сярод тайгі і стаяў на ёй, як муха на вастрыі цукарнай галавы, і імя скале было Халаза, і сэрца маё аж займала ад ветру і вышыні, а кедры ўнізе былі як запалкі. Я каштаваў на таежных пасеках сотавы мёд, на якім варушылася пчаліная кісяя, і хадзіў па закінутых гарадзішчах Бахайскага царства. Я ехаў насустрач тваім чырвоным захадам, над якімі вісеў серпік Венеры, і мне здавалася, што я пачаў адыходзіць... І вось усё, што я так цяжка будаваў, збіта адным ударам... І вось зноў гэты сон...»

## II
## ПЕСНЯ АБ МАРСКІХ ЗОРКАХ, ЖАНЧЫНЕ І РАКЕТАХ

Ён стаяў на абрыве над морам і, успёршыся на балюстраду, упрыгожаную барэльефамі дэльфінаў, глядзеў удалячынь. Дажджы мінулі, і зноў прыйшла на гэтую зямлю, на сопкі, на калматыя спіны астравоў, на мора залатая і гарачая прыморская восень.

Пад ім было метраў пяцьдзесят скалістай базальтавай стромы, сям-там зарослай травамі і дрэўцамі, пасля вузкая стужка пляжа, а далей — сіні Амурскі заліў. Звычайна схаваныя ў тумане, дажджы, імжацы, сопкі на тым беразе былі сёння відаць ледзь не кожным сваім дрэўцам. Чысціня залітага сонцам чыстага паветра была надзвычайная.

У той дзень святкавалі гадавіну перамогі над Японіяй. У Амурскім заліве павінен быў адбыцца марскі салют, і частка флоту была ўжо выведзена на рэйд.

Будрыс стаяў тут ужо гадзіну і намерваўся чакаць і далей на гэтым самым месцы не таму, што не хацеў страціць яго, такое зручнае для назірання, а проста таму, што яму было прыемна стаяць тут, глядзець на караблі, мора, сопкі. Глядзець, і думаць, і адчуваць скурай сонца і ледзь успрымальную пяшчоту салонага ветрыку. Гэта быў незвычайны ветрык і незвычайная соль. Лёгкі пах гнілі ўлятучыўся разам з дажджамі. Былі ў паветры цеплыня, сухасць, кедравы водар з лясоў на тым баку (далёкіх-

далёкіх!). І соль. Аблізнеш вусны — саланаваты прысмак... Ледзь не самае салонае мора зямлі ляжала перад ім. Трыццаць чатыры праміле, трыццаць чатыры грамы солей на літр вады. І нават тут, у заліве, толькі на два праміле меней: у пяць разоў больш салонае, чым Балтыка і Каспій, у два разы больш, чым Чорнае, — вось якое гэта было мора!

Направа ён бачыў былы Сімеонаўскі Коўш, дзе Паўлаву калісьці пашанцавала на бабулю. Проста пад ім ляжаў абгароджаны флоцкі пляж. У той дзень, калі яны паабедалі, Васіль сказаў яму, каб ішоў сюды і з гадзіну пачакаў, бо яму трэба зрабіць адну справу.

— А чаго не на агульны пляж?

— Народу... — скрывіўся Паўлаў. — Каламуць уздымуць. Вышак няма. Ды і каменні вострыя... Гэта табе не на Чорным.

— А на флоцкім?

— А там масткі. Хочаш — нырай проста з іх.

— Ды не пусцяць.

— Чаго? Дзесяць капеек дай, дый ідзі.

І сапраўды, там было лепей, чым на агульным. І, галоўнае, было бязлюдна. Зрэдку з'яўляліся некалькі дзесяткаў матросаў пад камандай старшыны, трэніраваліся хвілін дваццаць — і зноў нікога. Добра было скакаць з вышкі, выплываць, адчуваючы рукамі халаднаватую студзіну белых медуз, вылазіць лесвічкай на масткі і доўга ляжаць на гарачых гладкіх дошках, якімі ледзь не да самай кромкі вады быў забраны бераг.

Паўлаў нешта доўга не ішоў. І Севярын хадзіў па пірсе і з яго, а таксама з вышкі, заўважаў на дне марскія зоркі. Ныраў і апускаўся за імі на дно і заўсёды памыляўся ў ацэнцы глыбіні: такая празрыстая была зеленаватая вада.

Зоркі былі не мяккія, а нечакана шурпатыя, як карал, і, здавалася, нежывыя. Ён набраў іх многа, расклаў на дошках і ніяк не мог заўважыць іхніх рухаў. Толькі як глянеш пасля перарыву — бачыш, што адна выгнула свой прамень, другая працягнула яго, падабраўшы астатнія. Сіла гэтых бандытаў была ў нападзе на яшчэ больш нерухомых: Будрыс падабраў таксама некалькі пустых ракавін мідзіі, у якіх былі роўныя круглыя дзірачкі. Марская зорка зрабіла гэта. Напаўзла, прыкрыла ракушку, выпусціла з сябе кроплю кіслаты, якая растварыла вапняк створкі, і праз круглую дзірачку выкалупала чарвякападобнымі ножкамі малюска і з'ела яго.

Нібы помсцячы за гэты разбой, ён браў зорак і нажом вычышчаў з ніжняга боку кожнага промня гэтыя ножкі. І толькі

калі зрабіў усё, з жалем зразумеў, што дарэмна загубіў зорак, што высушыць іх няма дзе, а несці сырымі — абломіш прамяні.

Ён сядзеў і любаваўся імі. Маленькія, нібы разетка, з амаль нявыражанымі прамянямі, як ордэнская зорка, зеленаватыя з аранжавымі плямамі. Вялізныя, як талерка, каралавага колеру. Зусім пунсовыя і барвяныя. А вось густа-фіялетавыя, бліскучыя. Якое багацце фарбаў, якая дасканаласць! І нават кітаец згадзіўся б, што гэта прыгажосць дзеля прыгажосці, бо гэта ледзь не адзіная істота, якой нельга есці.

Да прыказкі «З тых, што поўзаюць, мы не ямо толькі танк» можна было б дабавіць — «і марскую зорку». Але тады гэта не была б прыказка.

Тут, урэшце, і падышоў Паўлаў.

— Чаго гэта ты?

— Ды вось, зглуміў такую прыгажосць.

— Чаго зглуміў? Мы зараз іх занясём у яхтавае памяшканне, пакладзём там на бэльку. За тыдзень высахнуць — як знойдзеш.

Так яны і зрабілі. А потым Паўлаў раптам прапанаваў:

— Дык мо паходзім?

— Не хочацца адсюль ісці. Добра. Хай сабе і вецер узняўся — усё адно добра.

— Таму і прапаную, што вецер.

— Што?

— Пахадзіць.

— Куды пахадзіць?

— Павінен я давесці, што я экс-чэмпіён і яшчэ будучы чэмпіён?

— Па спартыўнай хадзе? Ды я не ўганюся. Што мне бегчы за табой?

— Не атрымаецца... — сказаў Паўлаў. — Ты не Хрыстос.

— Пры чым тут Хрыстос? Ты пахадзіць прапаноўваеш. Я не хачу.

— Сал-лага, — сказаў Паўлаў. — Ты не Хрыстос, ты — паршывая салага. Бачыш мора і не ведаеш, што гэта. Ты — рачная пяструшка, шрымс-медзведзяня, вустрыца і мідзія Дункера.

— Чаго ж ты лаешся?

— Скідай усё да трусоў!..

— Ды мне няма чаго скідаць.

Яны выйшлі да мора. Тут стаялі яхты, выцягнутыя на сліп.

— Па спартыўнай хадзе... — бурчаў Паўлаў. — Не, брат, я чэмпіён самага высакароднага спорту. Яхтсмен... Паходзім... Як быццам калі ён шчупальцы па зямлі перастаўляе, гэта — ён ходзіць. Ходзяць па моры.

І яны пайшлі. Валы, ледзь не ў два чалавечыя росты, зеленаватыя, як старое шкло, з кучаравымі мазкамі пены на вяршынях. Яны насоўваліся, уздымаліся, пагражалі заліць, але шкарлупінка скакала між іх, узлятала, імчала з хуткасцю стралы.

Будрыс увесь час чуў парады Паўлава і хутка асвоіўся. Справа была не дужа хітрая, калі ты — усяго напарнік. І вось яны ляцелі і часам павісалі нагамі на борце, ледзь не дастаючы патыліцай да равучай вады. І ён цяпер зусім другімі вачыма глядзеў на Васіля. Упэўнены, ажыўлены, цвёрды. Марскі бог, вялікі майстра, для якога няма немагчымага! А тут ён яшчэ і гарэзаваў, ішоў на грані, магчыма — трохі помсціў Будрысу за хвіліну недаверу.

Увесь час іх абдавала салонай свежай вадой і ветрам. Абдасць, дадасць на скуру солі і сплыве. І яшчэ. І яшчэ.

— Пірог слаёны — пірог салоны, — мармытаў Паўлаў. — Галубачка мая, матухна мая, давай!

Пагнаўся за катэрам. Здавалася, не дагоніць ніколі. Да катэра было з палову кіламетра, і той ішоў на поўным.

— Мамачка, не выдавай, — мармытаў да яхты, як да жывой, Васіль. — Галубка, наддай! Пакажы «керасіншчыкам». Ну, бяленькая, ну яшчэ!..

Іх абдавала так, што ў яхце было ўжо шмат вады і давялося выліваць яе праз кокпіт: проста адчыняць дзірку ў днішчы. Хуткасць была такая бліскавічная, што вада аж ірвалася да сваёй вольнай сястры — марской хвалі.

— Любая, ну!.. Птушачка, наддай!

І абагналі.

А пасля ляцелі назад, гік плыў перад вачыма. Гэх, жыццё!..

А пасля селі проста ля берага. Быў вечар, і сліп пуставаў. Згасаў захад, за сопкамі ляжала імгла, а на іх, як туман, ляжалі рэдкія празрыстыя хмаркі. Паўлаў выцягнуў аднекуль паўбутэлькі і цэлы пакет шрымсаў, і яны трохі выпілі за салоную купель і закусвалі саланаватымі смачнымі рачкамі. Прыемна было сядзець так, боўтаць нагамі ў свежай вадзе і глядзець на захад.

— Унь там маю бабку купілі, — сказаў Васіль, і на гэты раз Будрыс безагаворачна паверыў яму.

Усё магло быць у гэтым дзівотным краі і з гэтым дзіўным чалавекам. І нават напэўна была бабка, і прадзед, і Вера Фігнер, раз чалавек не хлусіў у галоўным, у справе сваёй.

З гарэзлівасці Севярын не змыў з сябе солі ані тут, ані ў гасцініцы. Прачнуўся раніцаю і ахнуў: амаль белыя валасы, сівыя бровы і на целе слой ледзь не два міліметры!

«Пасівелы ў плаваннях марскі воўк. Паходзім, хлапчына? Эх, сал-лага! Добра, перастаўляй свае шчупальцы».

І ўсё ж нават гэта бадай што не памагло яму ў бядзе. Скончыўся завод.

...Між тым ужо амаль сцямнела, і ўжо шмат было народу вакол. Паўздоўж усёй балюстрады, як вока сягае, стаялі людзі, і ўжо ў тры, чатыры, пяць радоў. Нават цісканіна сям-там была. Чуліся смех, музыка, пераборы гітар.

На караблях запалілі гірлянды. На вялікіх двухмачтавых — ад юта да бака, па вяршынях абедзвюх мачт і па бартах. На аднамачтавых, сярэдніх — па бартах і ад бака на ют, перакінуўшы цераз мачту. На меншых — проста цераз мачту.

Так яны і гарэлі ў змроку, над чорнай і толькі сям-там, на хвалях, срэбнай вадой: чатыры перавернутыя «птушкі», малая трапецыя, вялікая і асабліва выразная трапецыя (мабыць, флагман), яскравы трохкутнік, і зноў перавернутыя «птушкі».

Ззаду націснулі: ці да сваіх хтосьці прабіраўся, ці проста лез на зручнае месца. Нехта войкнуў. І тут жа Севярын адчуў дотык жаночых грудзей да сваёй спіны, трохі ніжэй лапаткі. Пасля маленькая рука лягла яму на спіну і націснула ў марнай спробе адсунуцца.

— Прабачце, калі ласка, — трохі нават пакрыўджана сказаў, зазвінеў малады галасок. — Сціснулі, мядзведзі такія... — І да іншых: — Ды дайце ж выбрацца, урэшце!

— Сто-ой! — забасіў нейчы голас. — Людзі ўсе добрыя. Разявакі. Абдымуць цябе...

Зноў націснулі, і зноў спружыніла далонька:

— Не даюць выбрацца.

— А нашто вам выбірацца? — напаўазірнуўся Севярын.

— А, патрэбна мне тое... Краем вока падышла глянуць, дык... зацягнула...

Будрыс з усёй сілы паціснуў спіной здаравеннага дзядзьку і вызваліў месца побач з сабой.

— Н-ну, — сказаў дзядзька, — ты што, хлопча, алей ціснеш, ці што?

— Ставайце сюды, — сказаў дзяўчыне Севярын. — Усё адно не выберацеся. То тут хаця ціснуць не будуць. Пастойце. Гэта нядоўга.

Стала, успёрлася на балюстраду. Ён пакасіўся на яе, але твару ў цямноцці разгледзець не мог. Так, нешта невыразнае свеціцца ў глыбокім прыцемку. Трохі вышэйшая за ягонае плячо — значыцца, рост харошы.

І страціў цікавасць, перастаў звяртаць на суседку ўвагу. Хіба што зрэдку нагадваў пра яе натоўп. Штурхнецца недзе — і ён адчувае мускуламі рукі худзенькае плячо, або нагою — плаўны выгін яе клуба. І яна адразу адсунецца, а ён у думках ухваліць гэтую яе грэблівасць да шчыльнай цеснаты чалавечай гурмы і зноў забудзе.

Ані на набярэжнай, ані на моры доўга не палілі агнёў. Чакалі, відаць, пакуль конча сцямнее. А было і без таго цёмна, і даўно ўжо крануўся стылым попелам захад. Толькі што былі вежы хмар на барве і зіхоткім золаце — і вось ужо нешта няясна ірдзее, трохі жаўцее, сінее. І вось замест палымянага шафрану — бялёсая смуга, замест залатога іканастаса — адзіны светлы мазок, нібы самотная свечка ў змроку.

— Нібы свечка ў змроку, — сама сабе шапнула яна, відаць, забыўшыся, бо адразу нібы адсекла сказ.

А ён здзівіўся гэтаму даслоўнаму адказу на свае думкі. І нейкая эфемерная блізкасць нарадзілася між ім і гэтай невядомай істотай.

Апошні блік згаснуў на захадзе, і адразу ж у тым месцы ледзь бачнымі іскрачкамі-пясчынкамі затрапятала над залівам слабенькае сузор’е.

— Што гэта там так далёка? — звярнуўся ён да суседкі. — Я яшчэ ўдзень бачыў там белыя кропкі. Домікі?

— Вы з самага дня тут стаіце? — у голасе гучала іронія. — Вось чалавек, які не спяшаецца...

— А вам што, не здаралася спяшацца, а пасля сесці недзе і гадзінамі сачыць, як усё мяняецца? Вось было святло — стаў цень. Было мора аквамарынавае, пасля колеру прускага блакіту, пасля бутэлечнае.

— Прыгожа, — сказала яна, і ён з прыкрасцю падумаў, як яна можа расцаніць гэты раптоўны паток слоў, незнаёмая.

Сябры яго ведалі. А лепшыя нават здагадваліся, што ў гэтым чалавеку жыве вечная прага адкрыць людзям вочы на тое, што бачыць ён, зрабіць так, каб і яны парадаваліся, бо грэх карыстацца радасцю і прыгажосцю аднаму, а некаторыя людзі самі не могуць убачыць іх. На жаль, гэта прага амаль заўсёды нарывалася на неразуменне. А можа, ён проста не мог адкрыць людзям вочы, перадаць ім, які ён прыўкрасны, той свет, які ўстае перад вачыма Севярына Будрыса? Хацеў і не мог.

— Вы, пэўна, мастак? — у голасе ўсё яшчэ іронія.

— Каб мяне пасадзілі побач з пяцігадовым дзіцем маляваць карову — яно б перамагло.

— Вы так не любіце кароў?

Ён сказаў ужо сухавата:

— Любіць мала. Трэба — умець... Большасць людзей любіць мора. А вось я не бачыў нешта ніводнай карціны ў ніводнага марыніста, каб дасканала перадала ягоны воблік.

І змоўк.

Яна, відаць, зразумела, што ён гаварыў шчыра, не думаючы завязаць знаёмства, і што яна дарэмна пакрыўдзіла чалавека ironіяй. Таму што пасля доўгай паўзы сказала ўжо зусім іншым голасам:

— Іскры — гэта Перавознае. Там невялікі прычал, склады і хаты. Мала. За імі сопкі, збольшага яшчэ не абдзёртыя. Калі пайсці ад яго на паўночны захад — на беразе чамусьці процьма марскіх вожыкаў.

— Яны якія?

— І вы любіце мора?

— Я тут упершыню. А на Чорным неяк не заўважаў.

— А іх мора выкатвае. Толькі іхнія касцячкі. Нешта накшталт круглай каробачкі з адтулінай. Трохі сплюснутая каробачка і нібы сплецена з вельмі белых карункаў.

— Вы часам не мастак? — адпомсціў ён. — А можа, вершы пішаце?

Яна ціха засмяялася:

— Усяго толькі натураліст.

— У-у... Дык вы мне, можа, скажаце, што гэта за такое ў тайзе, страшэнна падобнае на жэньшэнь, але не тое, бо яго там, як лапухоў?

— Трохі калючы?

— Але.

— Гэта элеутэракок, калючы брат жэньшэня.

— Шмат ведаеце.

Маленькая паўза.

— Ну, кіньце. Квіты. Прашу прабачэння, — сказаў ён.

— Ніколі не думала, што можа быць такая злапамятнасць...

— Гладкі брат трохі адпомсціў калючай сястры.

Засмяяліся. Вакол сцямнела зусім. Відаць, насоўвалася навальніца. На небе сям-там успыхвалі чырвоныя сполахі зарніц.

— Не маўчыце, — сказаў ён. — Давайце размаўляць, калі звёў лёс. Як вы думаеце, што зараз у той Перавознай?

— Яны не гасяць агнёў. Ім няма патрэбы. Усе зараз выйшлі на прыстань, сядзяць або стаяць. Чакаюць. Нехта на гармоніку грае. Нехта гарбузікі лузае. І вось салют.

— А ён ім — далёка. Як поле кветак. Нізка, ля самай зямлі, — падхапіў ён.

Згаснулі раптоўна гірлянды на караблях. Запанавала поўная цемра, якую раздзіралі толькі ўспышкі зарніц.

— Зараз, — глуха сказала яна.

І тут грымнула. Залпы з караблёў, дым, каметныя хвасты ракет. Чырвоныя, зялёныя, як на ёлцы, агні. Шаленства агню.

Будрыс зірнуў на суседку. І тут цяжка зразумець, што за аблічча. У мімалётным святле ракет яно асабліва, па-жаноцку пяшчотнае, дзень або электрычнасць, вядома ж, сторгне з яго і гэтую пяшчоту, і таямнічасць, і налёт загадкі, з якой глядзяць на мора гэтыя вялікія вочы. Цёмныя? Ды, мабыць, не. Прыгожае аблічча? Невядома. Строгае, але з нейкай унутранай, прыхаванай усмешкай.

І зменлівасць. Ад бягучага святла твар то «месячны», то залаціста-чырванаваты, то зноў туманны ў цемры. Толькі і можна зразумець, што рот цвёрды і прыгожы, нос просты і трохі ўсторгнуты, а вочы вялікія-вялікія, і ў іх жыве цень.

У адказ ракетам успыхвалі зарніцы, і ўсё гэта адбівалася ў моры. Зарніцы палымнелі і ўверсе і ўнізе. Ракеты ўзляталі і ўгору і ўніз, і ў хмары і ў прадонне хлябяў марскіх, у чорную начную ваду.

Агні, магутнае водгулле перуноў, грымоты, якія вывяргалі караблі. Снапы агністых, барвяных, ізумрудных, сонечных каласоў. І гэтыя снапы ўзлятаюць і расцвітаюць зорамі, і зоры марудзяць нейкае імгненне, і спадаюць уніз, і рассыпаюцца, рассыпаюцца зорныя вадаспады.

— Гляньце, «Навуцілусы», — сказала яна.

— Дзе?

І тут ён заўважыў сам. Некаторыя ракеты не паспявалі згаснуць у паветры. Яны падалі ў ваду і танулі, і гарэлі пад вадой зелена і аранжава, і ўсё цьмяней і цьмяней па меры таго як глыбей і глыбей апускаліся ў бяздонне. І гэта было сапраўды як падводны водсвет пражэктараў «Навуцілуса».

Усё памнажаліся і памнажаліся ў паветры дымныя смерчы, спляталіся, перакрыжоўваліся, ператвараліся ў ствалы і шаты дзівосных дрэў, і нібыта ў пераблытаныя сцябліны гіганцкіх, небывалых імхоў накшталт «божанькавых ільноў», і яшчэ ў нешта, чаму і найменне знайсці немагчыма.

А пасля ўсё скончылася. А яны ўсё стаялі і глядзелі, як пад дымнымі велічэзнымі імхамі зноў загарэліся гірлянды на караблях.

Народ разыходзіўся.

— Так вось усё і канчаецца... — сказаў ён.

— Але. А для мяне і горад канчаецца.

— Едзеце некуды?

— Так. За Каўшом стаіць катэр. І вось праз гадзіну...

— Недзе на вёсцы працуеце?

— Бярыце глыбей.

— Экспедыцыя?

— Запаведнік. Апошні год даводзіцца па ўсіх прыморскіх запаведніках ездзіць. Дзеля сваёй працы.

Ён не спытаў, якая яна, тая праца, бо тады давялося б расказаць нейкую дробязь і пра сваю, а ён не любіў рабіць гэта, ды і не дужа мог.

— І дзе ж вы цяпер? Куды пойдзе гэты ваш катэр?

— Цяпер еду ў так званую «Тыгравую Падзь».

— Цікава, хто на каго там паляваць будзе? Вы на тыграў ці яны на вас?

Жанчына засмяялася:

— Тыграў там цяпер няма. Яны ў Суйфунскім. І паляваць на іх нельга, крыважэрны вы чалавек. Тыгры — харошыя. Яны цяпер панічна баяцца людзей, ніколі не нападаюць. Іх вельмі мала. Затое там, дзе яны ёсць, мядзведзяў з агнём не знойдзеш. А мядзведзь у нас — гэта самая шкода і ёсць. Іх многа. Вельмі многа.

— Хто ж там у вас?

— Дзікія каты, мядзведзі, дзікі.

— Гэта што, назнарок?

— Ах, Божа мой, кіньце! Гэта не вельмі ўдала. Ну, яшчэ харза, вялікая гэткая куніца, расамаха, кабарга, гарал, плямісты алень-кветка і шмат яшчэ чаго. Кампанія някепская.

— І далёка гэта?

— Далёка. Морам ісці трэба.

— Паходзім, — сказаў Будрыс.

З «Блакітнага Дуная», што стаяў на тым баку прыбярэжнай шашы, вывалілася трохі падпітая кампанія, замаячылі ў цемры агеньчыкі папярос, даляцелі занадта гучныя словы, смех.

— Трэба ісці, — сказала яна. — Бывайце.

— Я думаю, мне трэба вас правесці. Бачыце, якія веселуны! Пяніцелі акіянаў. Спіны ў мідзіях, увесь кіль вустрыцамі аброс. Пачынаюць плаванне ў «Залатым Рогу», прадзіраюцца праз «Прыбой» і «Лотас» і, урэшце, стаюць на мёртвы якар у «Блакітным Дунаі».

— Ну што ж, буду ўдзячна.

Яны мінулі кампанію — нехта здзіўлена свіснуў — і рушылі ўздоўж балюстрады ўніз.

— Я не баюся, — сказала яна. — Даводзілася бачыць і не такое. Тайга не жартуе. Але тут — гідка проста. Таму і дзякую.

— А я ў іншым сэнсе вас і не зразумеў.

Жанчына хораша ішла. Гэта не быў часты і дробны поступ гараджанкі. Гэта была плаўная і размерная, няспешная, эканомная і вельмі прыгожая хада чалавека, якому падоўгу і памногу даводзіцца хадзіць, які любіць і ўмее хадзіць. Здавалася б, няспешна, але вечарам за спіною семдзесят кіламетраў, і не страчана ані каліва лішняй энергіі, і можна скінуць цяжкі рукзак, і разбіваць лагер, і ежу варыць, і паліва запасіць.

Яму падабаліся такія людзі. Вось ідзе. Постаць ганарлівая, гожая, моцныя ногі цвёрда нясуць ладнае цела.

А твар ён разгледзеў толькі тады, калі яны трапілі ў святло з акон і ад ліхтароў. Дзіўна, ён амаль не памыліўся, уяўляючы, які ён. Але яшчэ больш дзіўна было тое, што знікла зменлівае святло, а чароўнасць і таямнічасць гэтага аблічча засталіся.

Вочы цёмна-сінія, валасы залацістыя. Але чароўнасць гэтага аблічча была не ў тым, не ў нейкай там прыгажосці або нават правільнасці рысаў, а ў той самай зменлівасці — выяўляецца, заўсёднай, — у цякучасці выразу, у тым, што мілая ўсмешка змяняла годную строгасць, а на яе месца прыходзіла амаль дзіцячая ўвага, каб саступіць у сваю чаргу хлапечай дзёрзкасці або дзявочай цёплай пакоры. Часам адзін такі стан нібы забываў, што яму трэба сысці, і заставаўся жыць у вачах або на вуснах у дзівосным, чароўным спалучэнні з наступным і процілеглым.

І яшчэ побач з гэтай зменлівасцю ва ўсёй яе істоце жыла і трыумфавала ў кожным руху, слове і позірку трывалая, жывая, маладая сіла жыцця.

— І не сумуеце? — спытаў ён.

— Пасля салюта на хвіліну стала сумна. А цяпер нават радасна. Паеду. Ужо ідзе на нераст сіма. З сопак відаць караблікі: лаўцы трапанга працуюць. Вось-вось горы стануць пярэстыя, як букеты. Ізюбр закрычыць. Ух, як ён трубіць! Аж страшна! І стронга серабрыцца ў ручаінах.

— Праўда, прыгожа... — сказаў ён, уявіўшы. — Слухайце, а туды ўсіх пускаюць?

— Усіх, хто не стане лавіць сіму і кусаць мядзведзяў за лыткі.

— Я, мабыць, не буду. Не ведаю яшчэ.

— Вы што, на самай справе? — Яна глядзела на яго нібы трохі насцярожана.

— А чаму не? Час у мяне ёсць.

— Я і казала: «Вось чалавек, які не спяшаецца».

Яго і сапраўды нібы асяніла раптоўная магчымасць і дазволенасць гэтага, свая нязвязанасць, свая поўная свабода. І раптоўнае, ад магчымасці гэтага, пачуццё радасці. Чаму б і не?! Вось узяць і паехаць. Наўрад ці дапаможа, але і не пашкодзіць. Усё ж перамена месца, глушыня, нетры... Ён яшчэ не бачыў тут першазданных нетраў. Можна было б паехаць і зараз, але гэта палічаць за нясціпласць, нетактоўнасць, дакучлівасць. Ды і сабрацца трэба.

«Не, паеду. Дальбог, паеду».

Жанчына, відаць, і на шэлег не паверыла ў сапраўднасць і нязменнасць яго рашэння.

— Хутка надумана. Хутка і раздумана.

— Як дабрацца ў Тыгравую?

— Раз у тыдзень туды ходзіць наш катэр. Нерэгулярна. Часцей за ўсё ў нядзелю.

«Паслязаўтра нядзеля», — у думках адзначыў ён.

— З гэтага ж прычала, з якога еду я. А там яшчэ даволі вялікая дарога берагам і тайгой.

— Адліць ваду праз кокпіт, — сказаў ён. — Перастаўляй шчупальцы берагам і тайгой, салага!

— Я і кажу — несур'ёзны вы чалавек... — з дакорам сказала яна.

— Я — лёгкі чалавек. Лёгкі на пад'ём. «Здаецца, гэта была міна?» — спытаў боцман у капітана. «Буль-буль-буль», — адказаў капітан. Я — марскі воўк.

— І рашэнні ў вас несур'ёзныя, — ціха засмяялася яна. — Ну, вось мы і тут. І катэр збіраецца адчальваць.

На катэры, што цьмяна чарнеў ля прычала, сапраўды, канчалася мітусня.

«Паеду, — у прадчуванні незвычайнага таго, за чым ён увесь век гнаўся, падумаў Будрыс. — Абавязкова паеду. І, можа, жыццё павернецца іншым бокам...»

— Ну, добра, — сказаў ён. — Скажыце хоць на развітанне ваша імя.

— Хіба дзеля таго, каб трывала забыць на ўсё астатняе жыццё?

— Дык вось вам дзеля «забыць» — Севярын Будрыс.

— Вазьміце і маё на магілкі імён. Гражына Арсайла.

— Чакайце, — сказаў ён. — Што за імя?

— Сама ведаю, што незвычайнае. Але імёны — тое нешматлікае, што засталося з сямейнай традыцыі. Ды яшчэ некалькі назваў хатніх прадметаў. Ды прыказак колькі там.

— Не, не, — сказаў ён. — Гэта тут яно незвычайнае. У мяне на радзіме гэта... ну, самае звычайнае імя. Імя як імя.

— Мы — сасланыя, — сказала яна. — Не... Мы з сасланых даўно, да рэвалюцыі. Вельмі даўно. Быў нейкі вялікі бунт. Усе бунтавалі... Скажыце, ёсць недзе такі гарадок Міловід?

— Мілавіды, — сказаў ён. — Гэта не гарадок. Гэта — вёска. У той, як вы кажаце, «бунт» ля яе адбылася адна з самых вялікіх бітваў.

— Бачыце, значыць, праўда? А ў нас многія лічылі, што апавяданні прадзеда — мана, а ён — хвалько. Я зусім малая была, а яму было дзевяноста пяць гадоў, і ён загаворваўся, амаль зусім з розуму выжыў.

— Словы... — сказаў Севярын. — Словы якія засталіся?

Яна наморшчыла лоб. І пасля паўзы, з невымоўна мілым, дзіцячым акцэнтам пачала называць:

— Здзецінéў-ув... Гэта пра яго... Гаршчэ́к... Варацідала... На рагулі тапор направя́ць... О, чэсь вам, панове магаці.

— Здзяцінеў, — папраўляў ён. — Гаршчэчак... Вараці́дла... На рагулі сякеру напраўляць... О, чэсць вам, панове-магнаці...

— Так... Так...

— Мілая мая, — сказаў ён. — Мілая вы мая. Мы ж з адных краёў... Вы разумееце, што мы з адных краёў?.. І падумаць толькі, каб не гэтая штурханіна, я не ведаў бы вас, а вы не ведалі б, адкуль вы, ды яшчэ б лічылі нябожчыка дзеда хлусам!

...Пасля, як катэр адваліў, Севярын доўга стаяў на прычале і глядзеў на мора. Спачатку ён яшчэ бачыў цень жанчыны на борце, пасля застаўся толькі цьмяны абрыс пасудзіны, пасля — агеньчыкі. Пасля зніклі і яны, і засталося мора...

## III
## КАРОТКАЯ ПЕСНЯ ПРА СНЫ, АБУДЖЭННЕ І ШТОРМ

Тыя два дні, што заставаліся да нядзелі, ён правёў, бы ў тумане. Ён сам не чакаў, што выпадковая сустрэча народзіць у ім такую шчаслівую, напятую, як струна, трывогу, такое хвалю-

ючае, дзіўнае чаканне. І гэта было, вядома, не таму, што чакала жанчына (яна яго не чакала ды і не магла чакаць), а таму, што наперадзе былі шляхі, змены, нетры джунгляў і спадзяванне на тое, што яму стане лягчэй.

Нават страшныя начныя кашмары не так катавалі яго: тое, што адбывалася ўдзень, таксама было падобна на сон. Ён адчуваў прыблізна тое, што, відаць, адчувае рыба-поўня.

Ёсць такая. Сапраўды круглая, як поўня. Плысці сама, з гэтай прычыны, амаль не ўмее. Марскія цёплыя плыні нясуць яе то пад сонцам, то пад зорамі, і яна лянотна марыць аб нейкіх невядомых залатых краінах. Часам яна адчувае, што ўзнік менавіта той вецер, што аднясе яе ў гэтыя краіны. Тады яна выстаўляе з вады вялізны, як ветразь, плаўнік, ловіць ім вецер, і той нясе яе да пальмавых астравоў, да вясёлкавых каралавых рыфаў, у шчасце. І ласкава цалуе, песціць яе добрая плынь.

І Севярын адчуваў, што і ён, як рыба-поўня, марыць аб незвычайным, аб крывавых захадах, аб хатках, уваход у якія заплялі ліяны, аб вячэрнім дыме ачага, аб кімсьці, з кім можна глядзець на агонь.

Акіян жыцця нёс яго невядома куды.

Абуджэнне было кепскае. У нядзелю Будрыс напхаў цяжкі рукзак, рушыў на трэці прычал і даведаўся там, што катэра з Падзі сёння не было і не будзе, а іншым чынам дабрацца туды нельга.

Чакаць яшчэ тыдзень — гэта было нясцерпна. Ён пераконваў сябе, што гэта ён проста настроіўся на сённяшняе падарожжа. І ён нізашто не прызнаўся б, нават сабе, у сапраўднай прычыне свайго адчаю.

А прычына была тая, што ён абяцаў прыехаць, прычына была тая, што за гэты тыдзень жанчына магла перабрацца некуды ў другое месца.

Яна не цікавіла яго, але нетры, куды ён хацеў забрацца, шмат страцілі б у ягоных вачах без яе. Душу. Водар. Радасць. Святло.

«Усё ж знаёмы чалавек. Шмат ведае. Добра было б хадзіць з ёю па тайзе, слухаць, глядзець. А там прыедзеш — чорт яго ведае, што яшчэ там за людзі! Ці захочацца ісці з імі? Ды і ці захочуць яны?»

Будрыс у апошні час цяжка сыходзіўся з людзьмі. І таму, не ведаючы, як памагчы сабе ў сваёй бядзе, Севярын пайшоў на сліп шукаць Паўлава: а раптам нешта параіць...

Васіль сапраўды быў у «пуні» (так ён называў зімовае памяшканне для яхт). Стаяў ля сваёй шафы і пераапранаўся ў чорны вячэрні гарнітур. «Пуня» была для яго другім домам.

Агледзеў грубыя чорныя Севярынавы нагавіцы, каменнай цвёрдасці марскія чаравікі, клятчастую, чырвоную з чорным, каўбойку, рукзак. Свіснуў.

— Кліча муза вандраванняў. Севярын Баўтрук выправіўся шукаць экспедыцыю Лівінгстона... «Из дальних странствий возвратясь, какой-то дворянин, а может быть и князь...»

— Не паяснічай, — стомлена сказаў Будрыс.

— У ваенторгу купіў?

— Ну...

— А я хацеў цябе з сабою запрасіць. У Верачкі танцы «Шарыкі за ролікі — усё наадварот...». Ды што з табой?

— А што?

Паўлаў начапляў «лінкольн».

— Ды выгляд такі, нібы ты... Ану, расказвай.

Севярын расказаў.

— Ясна, — сказаў Паўлаў. — Севярын Бахрым мелі ласку закахацца. «Ты, што мора трымаеш і сушу нерухома тонкай рукой...»

— Кінь! Слова гонару даю. Якое там каханне! Нязручна. Слова дзяўчыне даў. Палічыць за хлуса...

— А мне якая справа, калі мяне выпадковая знаёмая за хлуса палічыць?

Празрыстыя, наіўна-сінія вочы глядзелі ўбок: Паўлаў думаў. Але язык яго мянціў нібыта незалежна ад мазгоў:

— Аэліта джунгляў. Сын неба імкнецца. «Я цалую зяніцы твае, каб мяне не забыла ніколі...» Міжзорны вандроўнік занадта лёгка згаджаецца на «хао». Па-марсіянску азначае: «Сыход». І асуджае на яго сваю каханую.

— Даю табе слова гонару, што ні аб якім такім і не думаў.

Голас у Севярына затрымцеў. Васіль уважліва глянуў на сябра, уздыхнуў і пачаў здымаць «лінкольн».

— Распранайся. Загортвай транты ў брызент. Паплывём.

— Ты што? Казалі, шторм можа быць.

— Ну і штармяга! — сказаў Паўлаў. — «Друг заўжды саступіць гатоў месца ў шлюпцы і круг...»

— Я не паеду.

— Тады я дастаўлю замест цябе рукзак. Ёй нават цікавей будзе...

— А Вера? Я ж ведаю...

— Нічога ты не ведаеш. Вера побач. Не бачыў я гэтых танцаў... Слухай, сук-кін ты кот, ты будзеш рыхтавацца? Нам нельга марудзіць. Сапраўды, трапім у шторм, і... «стане плакаць мая маладая любоў...».

Яны спусцілі яхту на ваду. Васіль прытрымаў яе ля прычала, каб сябар мог скочыць. І толькі ўжо калі яны адчалілі, сказаў:

— Гэта больш важліва.

Сур'ёзнасці ў яго хапіла толькі на гэтыя словы.

— Не, не загінула яшчэ каханне! «Гарачэй і мацней, чым Рамэа Джульету». Пры такой справе цікава, чаму нашы ВНУ пастаўляюць спецыялістаў, а не сыравіну для могілак?.. Я разумею вас, я праўнук жандарскага палкоўніка, сасланага за каханне. «Праз буры і змрок на кахання агонь». «Клоцікаў трэск і кітоў плеск».

— Балаболка ты, — сказаў Будрыс. — Ты проста звычайны паршывы балабон...

Вецер напоўніў ветразь. Яхта паляцела, нібы пушчаная з цецівы страла.

— Слухай каманду, — сказаў Паўлаў, — ты, дохлы васьміног, якога выкінула цунамі! Ану, на борт!

— Ёсць!

— ...сэр.

— Ёсць, сэр.

— Калючую жывародку акулу табе ў зад! Усе сто дваццаць пяць сантыметраў яе калючак, пратухлая марская капуста!.. А шторм будзе... Добра, калі паспеем схавацца за востраў Рагвольд.

— Але ж адтуль яшчэ...

— Я не павязу вас далей, вы, сіні краб... Тапіцца разам — маё сяброўства не заходзіць так далёка... Адкінься!

— Ёсць.

— ...сэр.

Сапраўды, было падобна, што збіраецца на шторм.

— Я завязу вас на Рагвольд і выкіну там, як сапсуты ўлоў. Сёння ў мяне быў капітан малога рыбалоўнага сейнера Іван Няпіпіва... Запарожскі казак.

Сінія бясстрашныя вочы глядзелі на пагрозлівы захад, што абяцаў небяспеку.

— Рыбалоўная фірма «Няпіпіва энд карпарэйшн». Калені ў трапангах, дно ў ахоцкіх крабах. Заўтра ён павінен быў ісці якраз на Тыгравую. Я ўспомніў і падумаў, што ён можа даставіць туды і гэты мех з сухапутным смеццем... А я перачакаю на востраве.

...Калі яны выйшлі з заліва ў мора, Будрыс адчуў трывогу. Мора было ўсё грыфельнае, уздыбленае, усё ва ўзвёртах і закалупінах, як кракадзілава скура. І над гэтым графітавым морам далёка ляжалі ліловыя, як слівы на блюдзе, астравы.

У гэтае змрочнае мора сядала трывожнае сонца.

Будрыс нічога не разумеў у мастацтве ваджэння яхтаў. Але тут нават ён адчуў нешта дзіўнае і рызыкоўнае ў паводзінах сябра.

Паўлаў нібы лавіў не дужа спрыяльны вецер, ішоў зігзагамі («галсамі» гэта называецца, ці як?). Часам на гэтых паваротах яхта ледзь не чапляла ветразем за хвалю, і тады яны ўсім цяжарам навальваліся на ўздыблены над пучынаю борт.

Але ж затое яна і ляцела! Такога шалёнага лёту Севярыну ніколі не даводзілася бачыць у жыцці.

У водаваротах, у кіпенні пены, у ветры.

Моцна давала ў дно вада.

— Выціскаеш усё, што магчыма? — спытаў Будрыс. Паўза.

— Вельмі баюся, — нечакана сказаў Васіль. — Будзе шторм. Вялікі. А нам яшчэ гадзіны тры хады...

— Вярнуцца?

— Вярнуцца — позна... І... сорамна.

Вада ля бартоў была больш гучная, чым наводдаль. Патокі яе ляцелі на людзей.

— Дзякуй, браце, — сказаў Севярын.

— ...сэр, — праз зубы сказаў сябар.

— Дзякуй, сэр.

Дзіўна было бачыць над гэтым узбунтаваным, страшным морам спакойнае неба і далёкія сопкі берага, над якімі вісеў радок бялюткіх хмар. Як паралельна вісячая мантыя з гарнастая. Як стужка, што змяшчалі ля верхняга абрэзу старажытных гравюр. Так і хацелася напісаць на ёй, што менавіта намалявана на гэтым пейзажы.

— Давай, мілая! Давай, любенькая... Ну... ну... — праз зубы цадзіў Васіль. — Кальмары і зубастыя кіты!.. Баўтрамей, цюлень-акіба... Калі не пашанцуе, калі перакуліць — яхты не кідай. Трымайся за яе. Тады знойдуць. Яна — як канаючая чайка. А чалавечая галава на вадзе — тфу! Плявок. Вялікі шкляны кухтыль ад мярэжы. Чуеш?

Сонца ў свінцовым захадзе было ўжо як чырвоны мазок. І гэты яго апошні позірк быў невымоўна журботны і дзікі.

Спусцілася цемра. Лявей, недзе далёка, міргаў маяк. З роўнымі інтэрваламі. І ў мірганні таксама былі трывога і папярэджанне.

Будрыс не памятаў, як мінулі наступныя гадзіны. Пару разоў іх ледзь не перакуліла. Мокрыя, аслепленыя цемрай і вадой, яны рваліся наперад, амаль толькі па зорах. І страшна

было падумаць, што зоры вось-вось заснуе чарада хмар, што напаўзала з поўдня.

Яхта калацілася ў бязмежным моры, як мятуліца-падзёнка, і, здавалася, шансаў на жыццё ў яе не больш, чым у мятуліцы. І ўсё ж яна адчайна змагалася за жыццё.

...Калі вецер раптоўна сціхнуў, Будрыс не адразу зразумеў, што ўсё скончана, што яны ў бяспецы, што гэта востраў Рагвольд прыкрыў іх ад шторму сваім скалістым целам.

Ён проста бачыў контур вострава. Востраў ляжаў у моры, як кіт. Гарэлі ў гэтага кіта вочы, два агеньчыкі на самым беразе. А над галавою, нібы ўскінуты кітом фантан вады, струменямі клубіўся Млечны Шлях.

## IV
## СІНЯЯ ПЕСНЯ, ЯКУЮ СПЯВАЛІ ЛЮДЗІ І ЯКОЙ ПАДПЯВАЛІ РЫБЫ І ВАСЬМІНОГ

Шторм грымеў усю ноч і паспеў да світання вычарпаць усю сваю ярасць. Мора, праўда, яшчэ калыхалася, але супакойвалася на вачах, як быццам нехта ліў у яго масла. У млявым ранішнім святле хвалі і сапраўды здаваліся маслянымі.

МРС* выйшаў у мора задоўга да сонца. Маленькая шкарлупінка, а на ёй дзевяць чалавек: шэсць матросаў-рыбакоў, матарыст, капітан і — бясплатны дадатак — Севярын Будрыс.

Акрамя сейнера ў моры відаць было яшчэ два судны. Па правым борце ішоў сейнер-напарнік. Па левым — імчала белым матылём Васілёва яхта.

Паўлаў дурэў: то адставаў, то без прыкметнага напружання пераганяў сейнер. Капітан стаяў на спардэку і ўхвальна бурчаў:

— Марскі бог... Быдла бязрогае... Бач, што вычварае... З маторам навыперадкі бегае... Гэта яму гульня ў гарыпні... «Гары-гары пень...»

Будрыс стаяў ля борта, і кожны раз Васіль крычаў яму, пераганяючы сейнер:

— Рыцар бедны!.. Праз смерць і ўраган плыве!.. Прынцэса-Летуценне... Ледзь не патопнуў з верным збраяносцам... Ну, каб гэта я яшчэ калі... Дудкі! «За дзікаю ружай ляці праз туман!»

Урэшце яму гэта абрыдла:

* Малы рыбалоўны сейнер.

— Бяру курс на Уладзівасток!.. Памагай Бог!.. Не зняслаў зямлі беларускай!

— Ану цябе! Бывай! Дзякуй!

Белы матыль ветразя хутка знік. Мора ўсё больш сінела.

— Так, — сказаў Няпіпіва. — Якшчо б у нас всі такія маракі — чорта з два мы японцам саступілі б.

Напярэдадні Будрыс думаў, што сапраўды сустрэне сівавусага «казака», і нават трохі расчараваўся. Няпіпіва Іван быў малады голены хлопец невысокага росту. Загарэлы твар, шэрыя вочы, прыгожыя цвёрдыя мускулы на шчоках. Нічога ад традыцыйнага «капітана» ў ім не было, акрамя хіба ўмення закавырыста лаяцца. Ды і тое ўменне змякчаў тыповы ўкраінскі гумар.

Нашчадак перасяленца. Адзін з мільёнаў. Ездзіш па краі і чуеш у адной вёсцы — беларускую мову, у другой — украінскую, у трэцяй — рускую ці мардоўскую. Звычайныя людзі.

Але глянеш на цвёрды рот такога — і разумееш, што прыйшлі сюды самыя прадпрымальныя, самыя, у добрым сэнсе гэтага слова, авантурыстычныя.

І гэтыя ўкраінцы, беларусы, рускія не кідалі слоў на вецер, ажывілі гэты кінуты, «бросавы», пустошны край, набудавалі ў ім гарадоў, вёсак, заводаў, правялі чыгункі, угрызліся ў скалы руднікамі, спусцілі ў мора караблі і, аднак, у першапачатковай чысціні зберагл свае мовы. Часам больш чыстыя, чым нават на радзіме.

Сваімі рукамі стварылі сабе новую радзіму. І нікуды з яе на пойдуць. Пабраталіся з карэннымі жыхарамі, удэ, нанайцамі, тазамі; як кедры, пусцілі карані ў гэтую зямлю. І не далі яе ў крыўду нікому. І не дадуць.

— Недзе ў другой палове дня будзем ля Тыгравай, — сказаў Няпіпіва. — Чаго цябе туды нясе?

— Справы.

— Дывысь, як далэко справы кыдають людыну. Аж з Білорусі!

— Нічога не зробіш.

Мора было ўжо зусім сіняе, але лёгкая гайданка ўсё ж калыхала сейнер, калі пачалі спускаць сець. На сейнеры-напарніку падабралі другі яе канец, расцягнулі і пайшлі паралельным курсам, нібы скародзячы і працэджваючы мора.

— Што мне рабіць? — спытаў у капітана Будрыс.

— Цяпер з гадзіну нічога. А пасля воны свій кінец сеці перададуць нам, і тут — трымайся... Сартаваць хіба рыбу будзеш.

— А як жа ім?

— А ў наступны раз іхні будзе ўлоў. Мы ім канец перадамо. І вось так, чаргуючыся... Так што, разабраўшыся з рыбай, можна і пад'есці, і ў шахы згуляць і падрамаць.

— Курорт...

— Ну... Каб тут був курорт, то всі дармоіды тут булы б. Усіх класаў і нацый. Добра, што мора спакойнае сёння, вось і курорт...

Севярын ледзь не згарэў з сораму.

Праз гадзіну напарнік падышоў да сейнера борт у борт. Кінулі канец. Замацавалі абодва канцы разам. З грукатам пачала працаваць лябёдка.

Адчуваючы сваю непрыстасаванасць і нікчэмнасць, Будрыс сачыў, як паўзе пад вадою змяя сеці, як яна ўспаўзае на борт і цягнецца ўгору, як, выцягнуўшы чарговую порцыю сеці, схопліваюць яе пятлёй з каната і трымаюць кручкамі за гэтую пятлю і адпускаюць лябёдку, і мокрая, вытраўленая сець цяжка грукаецца на палубу. А крук лябёдкі чапляюць за новую пятлю, і сець зноў паўзе ўгору.

Яшчэ захоп. Яшчэ. Яшчэ. З усім, што ёсць. З рэдкімі пакуль рыбамі, з пачварнымі павукападобнымі крабамі, з аранжавper-жоўтымі студзяністымі васьміногамі (шчупальцы прасунуліся ў ячэі і звіваюцца ў паветры).

— Тэхніка на грані фантастыкі... — сказаў Няпіпіва. — Ведаеш, як васьміногаў карэйцы лавілі? Заўважаюць месца, дзе ён у скэлі сыдыць, ныраюць па доўгай лаце. Адзін дражніць. Другі чакае. А воно мыролюбнэ. Ось раз ныраюць, другі, трэці. Ну, чалавечага нахабства ўрэшце і васьміног не вытрымлівае. Нападае. І як толькі абаўе чалавека ўсімі васьмю, другі кідаецца і наносіць васьміногу «пацалунак смерці». Пракусвае зубамі паветраны мяшок. Прысоскі адразу адпадаюць. Шчупальцы віснуць. Тут бяры яго, раба, за шкірку і вынырвай.

Адзін вялікі васьміног неяк выблытаўся з сеці і ўпаў ля Будрысавых ног. Глядзеў вялікімі вачыма, варушыўся, мяняючы колер, то ўцягваў, то зноў выпускаў папугайскую дзюбу.

— Дакраніся падэшвай. Да галавы.

Будрыс дакрануўся. Вокамгненна шчупальцы абвілі нагу, прыліпнулі.

— Не варушыся.

Праз некаторы час васьміног, зразумеўшы, што няма чаго трымацца чортведама за што, калі справа ідзе аб скуры, адпусціў нагу, зноў заварушыўся, закішэў. Севярын закасаў калашыну і ўбачыў на назе рады цёмных плямаў.

— Во, насмактаў, — засмяяўся Няпіпіва. — Адчувае, чорт, як мы яго ўвечары смачна есці будзем.

— Гэтую дрэнь?!

— Гэтая дрэнь — самае смачнае ў моры.

Грукатала лябёдка, ляскала аб палубу мокрая сець.

Вясёлая, падобная на шалёную гульню праца віравала на палубе. І вось невядома, з чыёй глоткі ўзнікла хрыпатая, радасная, хмельная песня:

Цягні, падцягівай на стрэлку,
Цягні, падцягвай на гарэлку.

Спружынілі мокрыя медныя спіны. На руках і тварах зіхацелі кроплі вады. Звінела, калацілася ў сеці, спявала рыба. І шлёпаў, напінаўся, нібы таксама хацеў падпяваць, ды не хапала голасу, зменліва-вясёлкавы васьміног.

«Божа, — падумаў Будрыс, — як гэта было б добра, каб я мог паказаць гэта ёй! Якое было б шчасце — стаяць тут, на палубе, між сінім небам і аквамарынавым морам! Які дзівосны свет!»

Пад вадою ўрэшце ўзнік жамчужна-блакітны вялізны куль, падцягнуўся бліжэй да борта, ускінуўся ва ўсплёсках вады і рыбіных хвастоў, павіснуў над морам.

Паасобныя рыбы вырываліся, падалі ў ваду, ляжалі некаторы час, як прыгаломшаныя, а пасля знікалі ў прадонні. Рыўком.

Маціцова-сіні і серабрысты, памерам з добры пакой, куль навіс над палубай. Як велізарнае вінаграднае грона.

Падскочыў рыбак, адным рыўком расшнураваў яму дно і кінуўся прэч, каб не задавіла.

І на палубу лінуў шматтонны рыбаспад: вастрамордыя сінія мінтаі, камбала, марскі акунь, цярпуг, велізарная траска, бычкі...

Паліўся, затапіў усё, расплыўся, затрапятаў.

Зноў завялі сець, зноў пачалі скарадзіць мора. Капітан сунуў Будрысу ў рукі кій, у якім перпендыкулярна тырчаў востры доўгі цвік.

— Багарэц, — сказаў Няпіпіва. — Голай рукой не папрацуеш. Чапляй цвіком і кідай. Бач, хлопцы засекі з дошак зрабілі. У той — мінтая, у той — камбалу. Крабаў — у той, ля спардэка.

Севярын пачаў працаваць. Цяжэй за ўсё было з камбалой. Яна дрэнна зрывалася з цвіка. Даводзілася біць правай рукой, што трымала багарэц, аб перадплечча левай. Сарваная сілай інерцыі, камбала ляцела і, як блін, плюхалася ў патрэбны засек.

Спачатку было цяжка, але потым ён навастрыўся.

Мінтай — камбала — цярпуг. Камбала — бычок — мінтай. Лясь-лясь-плёх! Траска — мінтай. А ты хто?

Такое пытанне даводзілася задаваць сабе часта. Вось нейкі дзіўны бычок з пузам, падобным на вялізны шар.

— Дырэктар цырка, — усміхнуўся кандзей*.

Чырвоныя марскія сабакі страшна зявалі шчакастым, тоўстым, грыбазвонным ротам — аж шкада было. Шчокі былі пальцы ў тры.

Вясёлка калацілася пад нагамі («Вось бы ёй убачыць!»); даўгамордыя марскія лісіцы, нейкія малінавыя падводныя яйкі (і не зразумець, жывёліна ці расліна: ударыш багарцом — знутры струменем б’е вада), зялёныя марскія ракі, махнатыя шрымсы.

І яшчэ марскія пеўнікі з плаўнікамі, бы ў акуня, але вясёлкавымі і дужа доўгімі.

Кандзей трымаў аднаго...

— Мы ў дзяцінстве абклеім іхнія плаўнікі паперай, пачакаем, пакуль высахнуць, і такія яны прыгожыя ў нас вакол лямпы ці на акне вісяць. Вось я табе пакажу, як гэта робіцца. Дзяўчыне адвязеш.

Круціліся і падалі за борт марскія зоркі велічынёю з талерку, ляцела ў розныя бакі рыба. Севярын стараўся, і хлопцы пачалі глядзець на яго нават з павагай.

Камбала — марскі сабака — мінтай. Краба перакідаеш на спіну і цвіком багарца трохі адхіляеш панцырны шчыток на ягоным жываце.

«Ікра, падобная на дробную кетавую: ага, самка! Хапай яе за клюшню і, блінам, у ваду. Спускаецца ўсё больш цьмяная ў лазурным, варухнулася, знікла.

Няма ікры, шчыток больш пляскаты — ага, галубок, хадзі ў загон. Такая ўжо наша мужчынская доля».

Дробнага «марскога павука» — проста шуфлем за борт. І драбязу. І водарасці. І гожыя ракушкі. Вось толькі дзесяткі з два, узлезшы на спардэк, пакласці на кажух трубы, у гарачае месца. Хай мяса адстане ад іх. Тады аддзяліў — і вось у руках вясёлкавая чарапашка, падобная на кубак або кветку.

І вось ты па калена ў слізі, і луска блішчыць на нагах. Змыць палубу струменем вады. І чакай. Цяпер улоў напарнікаў і іх праца.

Будрыс трымаў вялізнага краба за клюшню. Круглае цела — сантыметраў пяцьдзесят у дыяметры. Ногі — таўшчынёй і даўжынёй з руку.

---

* Кок.

— Вікінг, — сказаў капітан.

— А што, калі яму туды палец торкнуць? — спытаў «вікінг».

— У сэнсе «прывітацца па-англійску»? Ну, паздароўкайся.

Няпіпіва ўзяў тоўстага заснулага мінтая, усунуў яго ў клюшню і пачаў дражніць. Краб доўга не хацеў злавацца, але ўрэшце пстрыкнуў клюшняй...

...Перарэзаў рыбіну на дзве часткі, нібы нажніцамі для бляхі паперу. Севярынавы вочы ад здзіўлення палезлі на лоб.

— Паздароўкайся. Сіла поціску — восемдзесят атмасфер.

— Н-ну!..

— Вось табе і «ну». Сумна было б, каб сунуў... Нясі кандзею.

Скарадзілі і скарадзілі мора. Працавалі да рэзкага болю ў спіне, а пасартаваўшы чарговы ўлоў, ляжалі на палубе, варылі есці, спявалі або рыхтавалі на зіму дробную камбалу пад піва: патрашылі, трохі салілі і развешвалі вяліцца на снасцях. Як сотні дзівосных авальных сцягоў.

А над усім гэтым было сонца і вецер. А пад усім гэтым было сіняе мора і хвалі. І часам скакалі па гэтых хвалях, радаваліся, што вырваліся з сеці, абмытыя, чысценькія шарыкі з сіняга шкла, плаўкі. Блішчалі, падскаквалі. Як маленькія блакітныя сонцы.

Калі сопкі сталі залатыя ад нізкага сонца, Севярын раптам убачыў, што чайкі гоняць над морам кагосьці дужа дробнага. Старыя, беласнежныя, чайкі і гадавалыя, карычняватыя.

Тое, дробнае, выкручвалася, чайкі прамахваліся і гарлалі, як быццам іх нехта нахабна, сярод дня, абакраў.

— Чаго гэта яны?

— А сінічка... — адказаў Няпіпіва.

— Адкуль у моры сінічка?

Твар капітана расплыўся ў шырокай усмешцы.

— У нас на носе жыве. Унь там старая ватоўка ляжыць. То пад ёю гняздо. І птушаняты там былі. Намучылася з імі, пакуль вылецелі. Сёння паляцела яшчэ як адшвартоўваліся. І вось, бач, бліжэй да ночы адшукала хату. Марская сініца. Гэта ж мы колькі міль зрабілі. І, глядзі ты, адкуль яна ведае, дзе мы?

Чайкі лямантавалі, скардзіліся на нахабнае парушэнне сухапутнай птушкай іхніх марскіх межаў. Ганяліся за малой. Але яна кожны раз выкручвалася і ўрэшце нырнула проста ў рубку.

Пагоня расчаравана паляцела ў мора. Сініца пырхнула з рубкі і села на гняздо.

...На захадзе сталі на якар.

— Унь там Тыгравая, — сказаў Няпіпіва. — Сёння табе на бераг высаджвацца — дурная справа. Ноч хутка. А заўтра — з сонцам...

— Не хацелася б.

— А начной тайгі хочаш? Адсюль да бухты кіламетры тры. Там вузкакалейка. Можа, пашанцуе захапіць дрызіну. Вёрст восем, а там — хрыбет. Бачыш, залаціцца над морам. І адтуль — налева цераз горы. Звярынымі сцежкамі. Унь, бачыш, пальчык?

Праз лясістую шкуру хрыбта, нібы прадзёршы яе, сапраўды тырчала нешта падобнае на палец. І гэткае ж малое.

— У гэтым «малым» метраў дзвесце. Гэта Янтунлаза — Скэля Пячнога Коміну. Вось ад яе ўбачыш запаведнік. Ну, як?

— Пачакаю. Сапраўды далекавата.

— Тады мы будзем сейнеру манікюр наводзіць, а ты ідзі да кандзея. Вучыся.

Вучыцца было цікавей, чым драіць палубу. Паклалі ў кацёл чатырох крабаў і ахапак ракаў і шрымсаў, хаця карыстацца катлом для кулінарных мэтаў не рэкамендавалася. Пасля кандзей пачаў гатаваць «цярпуг а ля Няпіпіва». Адразаў галовы з самай тоўстай часткай загорбка, трымаў іх у марской вадзе, пасля клаў на жалезку — галава прасунута ў галаву. Дадаваў перац, трохі вады, трохі тлушчу (астатняе пусцяць самі) і ставіў у духоўку.

Гадзінай пазней усе сядзелі і ляжалі на палубе, чэрпалі з жалезкі густую карычневую падліву, вазілі лыжкамі, даставалі церпуговыя галовы, смакталі іх, пляваліся косткамі за борт, мачалі хлеб. Гарэлі мускулы ад працы, твары — ад сонца і солі. І ўсё было смачна — праглынеш язык.

Ламалі гарачыя клюшні крабаў, разгрызалі іх — з рызыкай раздзерці рот да вушэй, — вымалі адтуль тоўстыя валокны белага мяса.

Елі па-зверску. І радаваліся, што дзень прайшоў хараша, а заўтра зноў пройдзе добра. Сонечны, салёны, марскі.

І дагараў над імі, над сопкамі, залаты захад.

«Шкада, што нельга паказаць гэтага ёй, — думаў Будрыс. — Падзяліцца. Яна радавалася б... Было б тады зусім добра. А так, без яе... Гэта ўсё ж няпоўнае шчасце».

## V
## ОДА ШЛЯХАМ І СТУКУ САНДАЛЯЎ

На беразе было зусім бязлюдна, ды ён і не спадзяваўся на тое, што яго нехта сустрэне.

Сейнер даў развітальны гудок, адыходзячы ад берага. Рэха закалацілася ў скалах, у сопках, не азораных яшчэ сонцам, у туманных лясах на схілах гор.

Чаравікі Севярын кінуў у рукзак. Абуў лёгкія сандалі і памахаў рукою наўздагон сейнеру. Рушыў берагам.

За сопкамі яшчэ стаяла імгла. Сонца толькі-толькі збіралася нарадзіцца. Мякка спружынілі пад нагамі бурыя сухія купы водарасцяў. Набягаў лёгкі прыбой: лакіраваныя, зялёна-карычневыя стужкі марской капусты нібыта млява мялі, нібыта лізалі ля ног сцежку — палоску ўкатанага цвёрдага пяску.

«Шш-шшш-ш...» — закалыхваў, дыхаў лёгкі прыбой. Празрыста-сіняя вада, карункавыя каробачкі марскіх вожыкаў, шкляныя плаўкі.

Паднялося сонца. Яшчэ нізкае. Мора штохвіліны мяняла колер: падаў на яго цень дрэў, скал, зноў прарываліся сонечныя прамяні. Было яно, як васьміног, то сіняватае, то злёгку ў чырвань, то ярка-зялёнае, то жаўтавата-шэрае. Але што далей, то болей перамагала, панавала ў ім глыбокая сінь.

Сцежка пачала аддаляцца ад яго, успаўзла на скалы, і сандалі пачалі спяваць іначай.

Клік-кляк, клік-кляк...

Сцвалы ільмаў і кедраў ляжалі над патокамі. Дзіўна было ісці лесам, дзе большасць дрэў — твае незнаёмыя, дзе толькі па малюнках, па ўспамінах аб прачытаных кнігах здагадваешся, хто ёсць хто.

«Здароў, братка, ты, здаецца, маньчжурскі арэх. Унь, вісяць і пэцкаюцца, як грэцкія. А ты хто? Ты лімоннік. А твае лісты падобны на лісты жэньшэня, але ты не тое. Цябе тут, як лапухоў. Як казала Гражына? Элеутэракок?»

Плача струменямі скала ля сцежкі. Добра прыпасці ротам да вады. Поўзаюць па камені багоўкі. Чырвоныя, сінія, жоўтыя. Буйныя, з пазногаць вялікага пальца. У іх на спінках візэрункі, і адразу робіцца ясна, адкуль нанайцы ўзялі свой нацыянальны арнамент.

Злева пад галавакружнай стромай — мора. Тырчаць з яго, нібы алоўкі, кекуры — гранітныя рыфы. Нячутна кіпіць вакол іх прыбой.

А вунь наводдаль — дзве кропкі. Гэта пакінутыя ім сейнеры.

Клік-кляк, клік-кляк...

Спяваюць сандалі. У сырых падзях раскінулася папараць вайя. Куст падобен на вялізную, метр вышынёй, зялёную лілею. Вайя дрэмле пад мармытанне вады ў вечным цяні старажытных таполяў.

Якія тоўстыя! Метраў пяць у акружнасці. Якія высокія! Метраў трыццаць увышыню.

Лётаюць аранжава-жоўтыя кітайскія івалгі. Вялікія. Большыя за голуба. Якая шумлівая цішыня!

...Севярыну пашанцавала. Ледзь паспеў выйсці на добратакі заржавелыя рэйкі вузкакалейкі — з'явілася дрызіна. Спынілася.

Ехалі трох. Мабыць, рамонтныя рабочыя.

— Куды?

— У Тыгравую.

— Заолаг, ці што? Ходзіце вы ўсё, хлопцы, ходзіце. Работка не дай Божа. Па мне, дык лепей кувалдай махаць. І без стрэльбы... А раптам мядзведзь ці яшчэ нешта?

— Не кажы. Яны слова ведаюць, заолагі, — сказаў друті.

Свістаў над дрызінаю вецер. Бы ў калейдаскопе — разглядзець не паспееш — беглі, мяняліся скалы, сопкі, дрэвы.

Калі дрызіна спынілася, адзін з работнікаў раптам палез у патыліцу.

— А можа, не варта яго адпускаць?

— Чаму? — спытаў той, хто вёў.

— Нетры.

— Глупства. Заолагі, яны прывычныя. Не зблукае. Унь, хлопча, пойдзеш напрасткі. Там будзе закінуты «вугольнік» вузкакалейкі. Компас ёсць?

— Унь, — Будрыс паказаў на сонца.

— То ад «вугольніка» на паўночны захад. Толькі так.

Дрызіна памчала. Будрыс пастаяў трохі і заглыбіўся ў зараснікі.

Зялёны цень. Бягучае святло. Шолах лістоты. Глухі рытм сандаляў.

## VI
## ВЯЧЭРНЯЯ ПЕСНЯ КЕДРА

Сонца пачынала хіліцца да захаду. Доўгія чорныя цені стваloў ляглі на малахіт лістоты. У твар веяла добрым трапяткім халадком.

Севярын думаў ужо, што ідзе не той дарогай, калі сцежка вывела яго да слупа з прыбітай таблічкай. На таблічцы быў надпіс: «Мяжа».

Трохі прыбадзёрыўшыся, Будрыс паскорыў крок. Часам нібы лёгкі ўздых прабягаў вяршынямі кедраў — водгук брызу.

Хвоя кедраў цямнела, таемна шумела ў залацістай і блакітнай вышыні. Сцежка пайшла з хрыбта ўніз, на дно вялізнай падзі.

Над галавою ў Будрыса, аранжавая ў прамянях захаду, высілася голая Янтунлаза. З хрыбта, на якім ён стаяў, імкнуліся на дно падзі шматлікія ручаіны, рачулкі, крыніцы. З другога, далёкага хрыбта таксама цягнуліся срэбныя ніці. І ўсе яны зліваліся на дне даліны з невялічкай хуткай рэчкай.

«Ага, значыцца, гэтыя начоўкі і ёсць — Падзь. Нішто сабе! Лагчына. Два хрыбты. Мабыць, аж да тых унь гор, злева, чорных ад піхты. А ўправа — да мора. Кіламетраў з сотню па перыметры. Нішто... Жылля не відаць. Толькі унь там дымок, мабыць, егерскі кардон. І унь там, кіламетраў, можа, за дваццаць, яшчэ дымок. Ну, а цэнтральны пасёлак? Ён дзе?»

Вось. Амаль пад ім. На самым дне Тыгравай Падзі. Прыткнуўся да рачулкі. Нешта каля дзесяці маленькіх домікаў. Пуні. Яшчэ нешта.

«Што ж, трэба ісці».

Будрыс пачаў спускацца. Адразу стала цяніста і прахалодна. Часам ціха ўздыхалі над галавой кедры. Чаплялася за ногі нейкая дрэнь — ён не ведаў што, ды і не хацеў ведаць, занадта стаміўся.

Калі ён спусціўся на дно распадка, на левым хрыбце ляжаў ужо глыбокі цень, і толькі правы хрыбет чырванеў у апошніх прамянях сонца.

Перайшоў рэчку. Яна была надзіва празрыстая для Прымор'я, і ён зразумеў чаму: уся, разам з прытокамі, ляжыць у лесе. Карані надзейна трымаюць грунт, не даюць дажджам вымываць гумус. Пэўна, у дождж закаламуціцца на гадзіну — і зноў, як сляза...

Вось будыніна ля берага. Лазня. Нейкая пуня. Ля яе дзве машыны грузавыя. Бярвенчатыя домікі. А ото, пэўна, дом дырэктара. «Фізіягномія» ў дома гэткая... адметная.

У двары яго сустрэлі брэхам дзве лайкі. Брахалі і вілялі хвастамі. У такой глушыні чалавек не вораг, але ж... служба. Асабліва старалася адна, белая як снег, з ласкавымі арэхавымі вачыма.

— Не смей, Амур! Свае...

Амур, нібы толькі і чакаў загаду, весела заскакаў вакол Севярына, закруціў хвост абаранкам, пабег наперадзе, бы паказваў дарогу.

Той, хто адазваў сабак, сядзеў на ганку і чысціў стрэльбу. Стройны, невысокі, але моцны. Твар карычнева-румяны. Празрыстыя блакітныя вочы, а ля іх сетка зморшчынак. Малады яшчэ, а зморшчынкі, відаць, таму, што ўвесь час даводзіцца жмурыцца ад сонца і ветру. Харошыя роўныя зубы, прыемная ўсмешка. Пальцы рук нервовыя і спрытныя. Добра ведаюць, што такое зброя.

— Вы дырэктар?

— Так. Чым магу служыць?

Будрыс адрэкамендаваўся. Сказаў аб мэце прыходу.

— Здалёк вы да нас. Дзянісаў маё прозвішча. Захар Іракліевіч. Дык вам хто патрэбен?

— Арсайла. Я яе трохі ведаю. Абяцала паказаць, што тут і як.

— Ведаю. Самастойная такая дзяўчына. Здаецца, з Хабараўска?

— Вы не памятаеце?

Дырэктар усміхнуўся.

— Дакументы глядзеў — усё ў парадку. А так, дзе ж запомніць. Вы не глядзіце, што тут ціха. У мяне сотні людзей бываюць: мірмінолагі, арнітолагі, батанікі, паразітолагі.

— Гэта нашто?

— Раён у мяне наконт кляшча бяспечны, але ўсё ж... Ну хадземце ў дом.

Зграбна, без рук, узняўся на ногі, мякка ступаючы, пайшоў у дом. Пакой, куды яны трапілі, быў, відаць, кабінетам. Шафы з кнігамі, стол, канапа. На канапе калматая цёмная шкура гарала. На сценах таксама вісяць шкуры: лісіныя, барсуковыя, янотавыя. Над канапаю — рогі і шкура.

— Ізюбравыя, — сказаў Дзянісаў. — Бачыце, шкура плямаватая, а на рагах — другі адростак. Сядайце.

Севярын сеў.

— Дык вось... яе на пасёлку няма.

Сэрца ўпала.

— З’ехала?

— Не. Яна ў паляўнічай хатцы. Гэта кіламетраў дваццаць уверх па плыні Тыгравай. Матылёў ловіць.

— Я чамусьці думаў, што яна батанік.

— Яна ва ўсім знаецца. — І дырэктар зноў пахваліў: — Сур’ёзная дзяўчына. А матылі — хобі. Папрасіў наш Ласкоўскі памагчы яму. У яго з жонкаю рук не хапае. Вось яны ўтраіх там і сядзяць. Так што давядзецца вам пераначаваць тут.

Пайшоў на кухню, корпаўся там нешта. Пасля з’явіўся з рукзаком і стрэльбай.

— Баюся, здамся вам негасцінным гаспадаром. Але жонка з дзецьмі з’ехала. Адзін. У хаце — шаром пакаці...

— Нічога, у мяне ёсць прыпасы.

— То хадзем адвяду вас на начлег.

Сутонне вісела над хаткамі, над тайгой.

— Я вас у доме нашых арнітолагаў пасялю. Можна б і ў мяне, але там зручней. Яны з’ехалі на Амур, бо там пералёт пачаўся ўжо. Будзеце адзін у вялікай хаце. Адпачнеце.

— Няёмка.

— Глупства. У нас тут — камуна.

Па дарозе да доміка яны не сустрэлі ніводнага чалавека. Пасёлак як вымер. Людзі разышліся па сваіх таежных справах ці, можа, спалі. Хата арнітолагаў была такая ж, як дырэктарская. Плот, гародчык, ганак, шчапяны дах. Толькі што неашаляваная веранда паменей, ды няма пуняў.

Дзянісаў запаліў святло і чартыхнуўся, зваліўшы цыліндрычную, зробленую з металічнай частай сеткі клетку. У клетцы нешта засычала.

— Гульню знайшлі. Тыгравую вужаку ў цюрагу пасадзілі. Дзяржаўны злачынец.

І дастаў з сеткі здаравенную змяюку, сантыметраў, мабыць, 120—150 даўжынёю. Змяюка была ярка-зялёная, уся ў буйныя папярочныя палосы і плямы. На пярэдняй частцы тулава, па баках, былі раскіданы аранжава-чырвоныя плямы.

— Бачыце, які прыгажун. Спрытны. Хуткі. Разумнік. Трымайце.

Будрыса перасмыкнула ад агіды, але ён зразумеў: не возьмеш — можна страціць павагу ў гэтага дзіўнага чалавека.

— Толькі не сціскайце. Спакойна трымайце на далонях. Тады ён не кусаецца.

Севярын узяў. Сапраўды, нічога страшнага. Толькі непрыемны холад.

— Бачыце? — Дзянісаў узяў вужаку. — Прыгожы. Спрытны нават у вадзе. Рыбу ловіць. А вось мы цябе зараз пусцім. Жыві. Зімуй. Агульная амністыя.

— Вы і змей не баіцеся?

— А чаго іх баяцца. Не лезь, куды не трэба. Не наступай. Не хадзі босы. Хадзі асцярожна. Ніводная змяя цябе не ўкусіць. Калі яе не ганяць, то нават полаз Шрэнка можна перакладаць, каб фотагенічна ляжаў, ды здымаць. Ну, шчытаморднікаў сцеражыся. Ды і чалавек вінаваты. Лезе проста на хвост, сляпак няшчасны. Не ўмее ў лесе, ломіцца. Як жа, пакарыцель прыроды! А трэба ціха.

Зайшоў у пакой, выняў з шафы просціны, коўдру, падушку, кінуў на тахту.

— Адпачывайце. І лепей не расчыняйце акон. Матылі спаць не дадуць. Ну, і іншыя могуць быць абуджэнні... Часам непрыемныя.

Палез у рукзак, дастаў палову кеты, загорнутую ў газету, чэрствы хлеб, нейкае цёмнае вяленае мяса, слоік з чырвонай ікрой і пачатую бутэльку каньяку.

— Каб не думалі, што скупеча. Сапраўды, бабы ў доме няма, то тут вам будзе лепей. Раскашней. А я позна вярнуся, разбуджу. Выпіў бы з вамі, ды мне на сустрэчу з адным сябрам трэба. Баюся, што тая сустрэча для яго кепска скончыцца.

— Дзякуй вам. Але што ж я адзін піць буду?

— Апошняя справа, — згадзіўся Дзянісаў. — Ну, можа, чарку. Для апетыту. Заўтра прыйдзеце да мяне — дам пропуск. Без гэтага ў нас нельга. І хатку як знайсці — раскажу.

Усміхнуўся нейкай адсутнай усмешкай.

— Што, харошая яна дзяўчына?

— Па-мойму — вельмі. Ды я нядаўна яе ведаю.

— І гэта лепей, што яна вам нашы джунглі пакажа. У супрацоўнікаў, прабачце, часу няма. Гарачыя зараз дні. Штат маленькі. Да зімы рыхтавацца трэба. Вось і выходзіць, што я не гаспадар, не гасцінны застольнік, а нейкі кяржак.

— Кіньце, — сказаў Севярын. — Мне аж сорамна...

— Пайду, — сказаў Дзянісаў. — Дарэчы, за дзвярыма вуды складныя. Як пойдзеце — вазьміце. Стол багацейшы будзе. Толькі сіму не лавіце. Забаронена. Урэшце, яна на нерасці і не есць, а значыць — і не клюе. А мальму, стронгу, бярыце колькі трэба. Пустая рыба. Смачная, а для запаведніка пустая. Ікру ў сімы жарэ... Ну, адпачывайце.

Кедры зашумелі за акном. Севярын здрыгануўся, і адразу радасць працяла ягонае сэрца. Радасць, бо гэты вялізны дом у джунглях хоць на адну ноч, але належаў толькі яму.

«Малайчына, Дзянісаў. Ведаў, што робіць».

Веранда. Кухня з рукамыйнікам, лаўкай, пральнай машынай, сталом, электрапліткай і плітой на тры канфоркі.

Яшчэ пакой. Напаўпусты. У ім нейкія калекцыі, чучалы, прыборы. І ўрэшце той, дзе тахта. Шафы з кнігамі. Між іх пісьмовы стол і прыёмнік. Карта Прымор'я. Над тахтой — плахта, распісная талерка з хаткаю і казачным крумкачом, а таксама рогі казулі. На іх — бінокль і фотаапарат.

На тахце дзве сшытыя ваўчыныя шкуры.

Ля дзвярэй — фотапартрэт старамоднай бабулі, якая рассунула чараты і з замілаваннем глядзіць на гняздо з яечкамі. Вусны выцягнуты. Твар у добрых зморшчынах. Пэўна, нейкі аматар-арнітолаг... На вучоную не падобная. Па тыпу, пэўна, амерыканка.

А на дзвярах выразаны нажом смяшлівы і смешны Бураціна.

Севярын хутка павячэраў, выйшаў на двор. Над галавою было высокае халаднаватае неба з празрыстымі, ледзянымі, вельмі высокімі зорамі. Высокімі, пэўна, таму, што над імі былі хрыбты.

Вярнуўся ў хату. Лёг на халодныя просціны, пад якімі адчувалася цёплая ваўчыная шкура, выцягнуўся і засмяяўся ад прадчування нейкага цьмянага, але вялікага шчасця.

Змрочныя начныя кедры спявалі за сцяной.

## VII
## РАНІШНЯЯ ПЕСНЯ ПРА ДЗІКАГА КАТА, ЯКІ ДАЎ МАХУ

На дне вялікай падзі ляжала яшчэ світанкавая імгла, і толькі вяршыні самых высокіх гор бранзавелі ў першых прамянях сонца.

Там кучаравіліся лясы, там была відаць ледзь не кожная галінка — такое празрыстае было тут паветра. А ў катлавіне быў зялёны змрок, пранізаны туманна-залацістым водсветам заранкі.

Севярын выйшаў з хаты ў адных трусах і пайшоў па расе да Тыгравай. Было холадна, але гэта быў не той холад, што бярэ за косці, а той, які прымушае глыбока дыхаць, рухацца,

адчуваць сябе маладым і здаровым, той, у якім, здаецца, мерзнуў бы і мерзнуў.

Высока-высока залацілася сонца на вяршынях. Тыгравая бруіла на каменьчыках, сінела і серабрылася на іх, ясна стаяла ў глыбокіх ямах. Кожная пясчынка на дне была відаць: вада, здавалася, была больш празрыстая за паветра. І ў ёй хадзілі стракатыя невялікія мальмы — стронгі, як іх называлі тут. Была іх процьма.

Шырокая круглая спіна мільгнула над вадою. Рыбіна даўжынёю нешта пад метр ішла ў вытокі ракі, змагаючыся з плынню. Ён здагадаўся, што гэта ідзе на нераст сіма. Ёй было зручна заходзіць у раку. Вада пасля шторму і залевы пэўна паднялася.

Будрыс выбраў месца, дзе, як яму здалося, будзе па шыю, скочыў у ваду і... сербануў ад нечаканасці. Тут было метры два з паловаю, калі не болей. А здавалася — ну, метр семдзесят. Так падманвала чысціня вады. Тады ён выбраўся на больш плыткае месца і доўга стаяў, адчуваючы, як крыштальны холад крадзецца ў грудзі і жывот. Стаяў і глядзеў, як усё больш наліваюцца золатам горы, як залатая лава ўсё хутчэй спаўзае з вяршынь у падзь.

...Дырэктар быў у канцылярыі.

— Рана.

— Ды і вы — рана, — сказаў Будрыс.

— Я не рана. Я яшчэ — позна...

Твар ягоны сапраўды быў трохі памяты. Але па ім усё ж не было відаць, што праведзена бяссонная ноч: карычнева-румяны загар, рот усміхаецца.

— Хадзем.

Яны зайшлі ў лабараторыю. І тут Севярын трохі ачмурэў. Справа была не ў тым, што паўсюль ляжалі гербарыі, што на паліцах шафаў бялелі чарапы буйных звяроў і шкілеты дробных, што паўсюль віселі шкуры, што колбы, рэторты і іншае грувасцілася на сталах у нейкім невядомым яму парадку. Было іншае.

...Лабарантка ўзважвала на звычайных магазінных вагах дзікага ката. Кот быў стрункі, дужа даўганогі, з пушыстым і кароткім хвастом. На невялікай галоўцы — дзве невялікія крывавыя плямы. Зялёныя вочы глядзяць ашклянела, пашча люта разяўлена.

Футра ў ката было вельмі прыгожае. Дымчата-рыжае, трохі ў бруднаватую вохру, і ўсё ў цёмна-шэрыя і бурыя ільсняныя вялікія плямы. На хвасце — амаль чорныя колцы.

Кот ніяк не хацеў змяшчацца ў шалі вагаў, не хацеў ляжаць: то нага звешвалася, то галава, то саслізгваў тоўсты азадак. Урэшце яго сяк-так змясцілі: ляжаў клубочкам, толькі лапы звісалі.

— За што гэта вы яго?

Зморшчынак ля дырэктаравых вачэй пабольшала:

— Трэба ж вывучаць. Чым гадуецца ў гэтую пару, які хабітус?

Кот насцярожана глядзеў на Будрыса.

— Гэ-эх, коця, як жа гэта ты так даў маху?

— Шкадуеце? Гэта добра, — сказаў дырэктар. — Заставайцеся ў нас. Работу дам. Дужа патрэбны людзі, якія шкадуюць жывое.

Лабарантка клала раўнавагі, быццам не звера ўзвешвала, а адпускала кіло сухога кісялю. З абсалютна абыякавым выглядам.

— Вы, Ніна, перш чым брацца за працу, выцягніце ў яго кляшчоў з вушэй. Набраў поўныя вушы, валацуга, — сказаў Дзянісаў.

— Добра, — сказала Ніна. — Я пінцэтам.

— Патрэбны людзі, якія шкадуюць, — сказаў Севярын. — Ну, а вы?

Дырэктар паглядзеў на яго з цікавасцю.

— Дзеля шкадавання часам даводзіцца і забіваць. Каб ведаць пра звяроў усё: што ядуць, што любяць, каго і калі ад іх трэба берагчы. Мы — гаспадары. Можа, мы і не маем на гэта права, але так склалася. Гэтага не зменіш. І мы павінны навучыцца гаспадарыць разумна. Пакуль што адбіраць у некаторых жыццё, каб ведаць, каб пасля ўжо ні ў каго не адбіраць, а нават дапамагаць кожнай істоце... Каб жылі астатнія. Вось як.

— Ну, гэтаму ўжо нічога не дапаможа.

— Для суцяшэння, каб не дужа шкадавалі, скажу, што гэтая ласкавая кыца ловіць і душыць нават маладых касулят, зайцоў, рыбу.

— Не можа быць!

— Я вам кажу. І вы лепей не на наш разумны гуманізм навальвайцеся, а на тых, хто труціць азёры, рэкі, лясы, хто не сёння-заўтра атруціць акіяны. Мы — усё для ўнукаў, хаця рукі ў нас часам бываюць у крыві. У тых — усё для кішэні і пуза, а рукі чысценькія.

Памаўчаў.

— Я вось цяпер шмат каго нізавошта не заб'ю. Да канца ведаю шкоду і карысць. «Гідкую» тыграву вужаку не заб'ю.

Тыгра не забіваў ніколі, нават калі можна было. Шмат каго яшчэ не заб'ю. А вось харзу — непальскую куніцу — і секунду не павагаюся.

— Восем кілаграмаў сто пяцьдзесят грамаў, — сказала Ніна.

— Ну, восем кілаграмаў мне не трэба, — даволі няўдала пажартаваў Будрыс. — А сто пяцьдзесят — магу.

На яго здзіўленне, яны засмяяліся. І ён зразумеў, што тут чалавечыя адносіны проста ачышчаны ад усіх умоўнасцей, што тут радуюцца кожнаму чалавеку і важліва тут не тое, удалы жарт ці не, а проста самы намер чалавека-сябра нязлосна пажартаваць.

— Гэта, як вернецеся, — сказаў Дзянісаў. — Праўда, Ніна.

— А што ж, — усміхнулася тая, і Севярын раптам зразумеў, што яна вельмі харошанькая.

Дзянісаў павёў Будрыса ў свой кабінет-закутак. Тут таксама былі шафы. Пакуль Севярын разглядаў у слоіках бялёсыя, падобныя на пятрушку і на чалавека, карані жэньшэня, Дзянісаў нешта пісаў.

— Вось. Пропуск. «Прапаную егерам аказваць садзейнічанне на ўсёй тэрыторыі запаведніка». Самае галоўнае для вас — гэта. Кардоны ў вас пераважна па хрыбтах. Унь там — першы. Праз дваццаць кіламетраў другі, — ён паказаў у акно. — Там горы сінеюць. Гэта — Чорны хрыбет. Там тры кардоны. І тут, на левым хрыбце, чатыры. Можаце ў егера браць каня. Нават калі гаспадара дома няма. З першага даедзеце да другога. Там зменіце — і на падменным да трэцяга. Ну, і гэтак далей...

— А як там гаспадара не будзе...

— Паставіце ў стайню. Рана ці позна егер з першага кардона прыедзе на другі і возьме сваё. Або егер з другога сам прыгоніць.

— Я лепей пешшу.

— Вярхом не ўмееце?

— Умею. А лепей пеша.

— Што ж, правільна. Убачыце болей. А ходзіце добра. Бачыў, як спускаліся з хрыбта. Не ломіцеся. Бязгучна, як звер. Так можна ўсё ўбачыць. Для такіх людзей лес — жыве. Паляўнічы?

— Ёсць трохі.

— А кажаце — «кот».

— Кот даў маху. І ўсё ж ката шкада...

— Іначай вы не былі б чалавек... Компас ёсць?

— Мяркую, ён тут не патрэбен.

— Чаму?

— Унь арыенціры, — Севярын паказаў на вяршыні гор. — Хрыбет злева, хрыбет справа, хрыбет наперадзе. За спіной няма гор. Мора. Ад левага да правага хрыбта кіламетраў дзесяць. Ад мора да хрыбта наперадзе кіламетраў сорак — пяцьдзесят. Не заблукаеш.

— А за хрыбтамі?

— А мне там пакуль няма чаго рабіць. І тут цікавага хопіць.

Вочы ў Дзянісава блішчалі:

— Слухайце, вы мне ўсё больш падабаецеся. Паляўнічы, умееце бачыць, умееце хадзіць, умееце кеміць і ўзважваць, звяроў шкадуеце, можаце перамагаць нават жах і гідлівасць... хаця б — да змей... Гэта цяжка, паверце мне. Можа, застанецеся? Хата будзе, грошы будуць, жонку знойдзем. А галоўнае, вельмі... вельмі будзе цікава.

— Я падумаю, — нечакана для самога сябе сказаў Будрыс. — У мяне зусім іншая праца... вельмі важлівая... Мне позна, бадай, ламаць жыццё. Але мне прыемна думаць, што я магу застацца.

— Харошы адказ. Ну, цяпер пра дарогу. Карта... Цьфу, д'ябал, дзе ж карта? Ну, усё адно. Тут вельмі проста. Бачыце, сапраўды за спіною мора. Запаведнік — гэта наша падзь, тры хрыбты і тое, што за імі. Злева — хрыбет Ярай Вады, справа — хрыбет Санлін, або Мангу. Ведаеце, што такое па-маньчжурску — Санлінчжычжу? Гэта — «Уладар гор і лясоў». Тыгр. А наперадзе — Чорны хрыбет. Амаль увесь запаведнік — даліна Тыгравай. Амаль ля вусця, на левым беразе яе, наша база.

Дзянісаў маляваў на памяць. Нават фігуркі сям-там крэсліў.

— З хрыбта Санлін плыве толькі дзве рэчачкі. Крыніца Ізюбраў — амаль з-пад кардона Старога Аленя — і Паляўнічая крыніца ля вашае хаткі.

Ён намаляваў хатку, амаль ля вытокаў Тыгравай.

— Але вы пойдзеце правабярэжжам. Пад хрыбтом Ярай Вады. Там старая сцежка хунхузаў. Пасля — паштовая. Мы ёю карыстаемся. Тут будуць крыніцы, рэчкі. Іх многа. Горская крыніца. Залатая, Япруковая, Мёртвая, Другая Залатая.

— Чаму Залатая?

— Там калісьці прышлыя кітайцы золата мылі. Нямнога. За лета намые чвэрць фунта — яму і досыць... Пасля Падкрыжовая, бо плыве з-пад Крыжовай гары. Убачыце. Высачэзная, чорная. Потым будзе крыніца Лаўжовая, Яром, Папярочная. А далей пойдзе Чорны хрыбет і па ім старая, забытая паштовая дарога. Ад Лаўжовай да хрыбта суцэльныя джунглі... Ліяннікі, вінаград, дзіч, нетры.

Ён круціў ручкай па аркушы, паказваў, якая там дзіч.

— Вы туды не ідзіце. Адразу за Другой Залатой крыніцай пераходзьце Тыгравую — і вось яна вам будзе, хата. Над Паляўнічай крыніцай. Яны там.

Ставіў па хрыбтах кружочкі са сцяжкамі.

— Гэта — кардоны. На іх можаце ўзяць каня... Ну, вось і ўсё. Толькі... будзьце асцярожныя.

Дапытліва паглядзеў на Будрыса.

— Запісвайце, што ўбачыце. Свежае вока — гэта карысна... Яшчэ што... Ага, можа за вамі ўвязацца сабака. Асабліва гэты бандзюга Амур. То, калі патрэбен, бярыце. Ён будзе верны. Сабакі ў нас ведаюць: чалавеку трэба памагаць. А калі перашкаджае — скажыце: «дамоў». Яны прывучаны слухацца першага слова.

— А чаго таму Амуру за мною ісці?

— Гуляць хоча. Гэта ж усё адно як дзіця на кірмаш узяць. Бяжыць сабе ды носам чытае. Стр-рашэнна цікава! Ну, і чалавека кідаць не хочацца... Што яшчэ...

Дзянісаў падумаў трохі і раптам палез у шафу. Дастаў адтуль дубальтоўку і пяць патронаў.

— Вось. Закон парушаю, але... Дурэць не будзеце, салідны чалавек, але можа, на жаль, спатрэбіцца, каб пужнуць сяготага... Толькі ўлічыце, стрэл — гэта ў нас НП, надзвычайная падзея. А ўжо стрэл у звера...

— Сам ведаю. І вы мяне ведаеце. А што такое?

— Леапард, — неахвотна сказаў Дзянісаў. — Як тут кажуць, «барс».

— То што іх, хіба няма тут? Ніколі не было?

— Заўсёды ёсць. Сям’я або дзве. Ад трох да васьмі кыцаў. Знаёмыя. Нашы. Смірны народ... Ну касуляў ядуць, часам япрукоў, драбязу розную. Чалавека баяцца. Зусім бяспечны для чалавека звер. Як убачыць — лататы...

— То нашто стрэльба?

— Ужо некалькі тыдняў робіцца дзіўнае... Яшчэ адзін з’явіўся... Як дурны нейкі. Некалькі замахаў на быдла ля самай базы... А звычайна яны толькі ў вярхоўях Тыгравай ходзяць, паху жылля, як агню, баяцца. Так што вы сцеражыцеся. Удзень — не нападзе. Уначы не адыходзьце ад агню. Чорт яго ведае, што яму ў дурную галаву стукне! Чужы. Мо з хрыбтоў прыйшоў, мо з Кітая. Непалоханы. Знахабіўся. Галодны, мабыць.

Устаў:

— Добра, хлопча, ідзіце. Разбярэцеся?

— Разбяруся. Дзякуй за ўсё.

— Прабачце, што не вяду. Працы столькі — сплю па дзве гадзіны.

— Ну і я не малы, каб мяне за ручку весці.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі. Пасля Севярын выйшаў з хаты і пакрочыў да Тыгравай. Рукзак і стрэльба прыемна ціснулі на плечы. Часам меладычна бразгалі ў кішэні патроны.

## VIII
## САНАТА ТАЙГІ (СКЕРЦА)

Ля гэтай глухой сцежкі ўвесь час цягнулася нейкая калючая дрэнь. Зробіш некалькі крокаў — і штаны пакрываюцца крупінкамі зялёнага, цупкага насення. Спачатку Севярын праз кожныя колькі там метраў спыняўся і абтрасаў іх (адвальваліся яны лёгка), але потым яму гэта абрыдла, і далей ён ішоў ужо так. Порткі да каленяў былі нібыта ў зялёнай брані. Цяпер яму было ясна, чаму гэтае паскудства толькі ля сцежак. Людзі разносяць на вопратцы. Ён паспрабаваў, ці прыстане насенне да сарочкі, не, ліпнула толькі да сукна. Значыцца, першапачатковы разлік гэтага пустазелля быў на поўсць жывёлы.

Тайга пераклікалася сумнаватымі і рэдкімі птушынымі галасамі. Птушкам няма чаго было спяваць: набліжалася восень. Дзіўна было шмат чаго не ведаць у лесе. Чалавек ішоў і пазнаваў толькі асобныя дрэвы: цэльналістую піхту, граб, карэйскі кедр, маньчжурскі арэх.

Больш за ўсё было лістоўных лясоў. І прыемна было ісці пад іхняй сакавітай, начыста вымытай дажджом лістотай.

Уся зямля ў зялёным паўзмроку была асыпана сонечнымі плямамі. Як плямістая шкура ізюбра.

І ўвесь час побач мармытала, балбатала, легкадумна смяялася Тыгравая. Сплятала свой голас з галасамі тайгі.

Пазнаваў ён таксама ліпы, дзікія вішні і грушы, язмін і бэз, які рос тут вялікімі дрэвамі. І добра было ўяўляць, якое ж тут дзіва робіцца вясной, калі ўсё гэта цвіце.

«І сапраўды, застацца б тут. Гражыну ўгаварыць застацца. З Дзянісавым на паляванне хадзіць...»

Ён ведаў, што гэта толькі мара, казка на некалькі дзён, што выйсця яму няма. Ён любіў сваю безвыходнасць. Абы галава стала здаровая. Абы не гэтыя кашмары па начах.

Найбольш уразіла яго адно дзіўнае дрэва. Цэлымі гаямі яно сустракалася на берагах ручаін, цераз якія ён ішоў бярвеннямі, а то і проста скачучы па камянях і па беразе Тыгравай. Пальмавай стройнасці, з пышным султанам драбналістых галін недзе ўверсе, яно сонечна шумела над вадой. Вельмі падобнае на эўкаліпт, тугое як струна, яно расло... на камянях. Так, на жвіры і абкатаных буйных галышах. Часам на высокіх, метры два, валах з гэтых галышоў, валах, нанесеных калісьці Тыгравай.

Севярын ведаў, што ў такіх умовах ніводнае дрэва расці не будзе. А гэтае расло, немаведама адкуль чэрпаючы сокі на тое, каб выгнаць у неба ствалы такой вышыні і прыгажосці. І Севярын са здзіўленнем зразумеў, што гэта не эўкаліпт, а нейкая своеасаблівая вярба.

Ён яшчэ не ведаў, што гэта была чазенія.

Нехта неасцярожна хукнуў за яго спіною. Будрыс азірнуўся і ўбачыў, што за ім зладзеявата крадзецца беласнежная, сям-там у палевае, лайка Амур.

— Ну што, са мною пойдзеш? Хадзем. Толькі ўлічы, за Мёртвай крыніцай выпраўлю цябе дахаты. Малым хлопцам з пароды лаек няма чаго рабіць у джунглях за Мёртвым ключом. Добра?

Амур маўкліва згадзіўся, што так будзе лепей, і затрухаў уперадзе. На поўных, значыцца, правах.

Ісці было цяжка толькі там, дзе Тыгравая вырвала частку сцежкі. Там даводзілася лезці праз гушчар. Але і гэта было добра. Вакол джунглі з калючай сваячкі жэньшэня — дрэвападобнай араліі. Нават лістота ў яе была з калючкамі. Вакол — яблыні з маленькімі, на паўзногаць мезенца, яблычкамі. Вакол — горны ясень з буйнымі белымі плямамі на ствалах (як, ты скажы, нядбалы садоўнік паляпаў абы-як пэндзлем з вапнай). Вакол — гіганцкія ільмы, чаромха, бружмель, вольхі. Бязмернае багацце фарбаў, адценняў, парод.

І ва ўсім была суцэльная, без заганы, прыгажосць, вялікі спакой надыходзячай восені, жыццё.

Гладкі, з залацістымі вачыма Амур бег і раз-пораз аглядаўся: ці тут чалавек? Маўкліва прызнаў за гаспадара на час гэтага паходу.

Чалавек не краўся, чалавек не крычаў на гаспадара, чалавек ішоў ад базы — чаго ж яшчэ? І Амур, канчаткова абдумаўшы гэта, пачаў перыядычна знікаць.

Севярын ішоў па-паляўнічы асцярожна. Так асцярожна, што ледзь не наступіў на маленькага аранжавага бурундучка.

Той, відаць, захапіўся нарыхтоўкай ежы на зіму і не адразу заўважыў волата.

А калі заўважыў, то з рэзкім віскам — «ві-ці-глі!..» — драпануў з-пад самых Севярынавых ног, схаваўся за дрэва, у дзікім перапудзе вінтом пабег угору па ягоным ствале (з кожнага боку чакаў небяспекі).

Узбегшы досыць высока, бурундук сеў на галіне і, трасучы лапкамі, пачаў лаяцца. Крычаў, што вось ходзяць, вось носяць іх чэрці, вось палохаюць занятых справай добрых людзей.

— Ты — матам... — параіў яму Севярын.

І тады бурундук пачаў лаяцца яшчэ больш вісклівa і ярасна. Нічога ў гэтым не было дзіўнага. На бурундуковай аранжавай спінцы давеку засталіся пяць чорных палосак. Гэта калісьці, у дагістарычныя часы, пагладзіў яго па спіне кіпцюрамі казачны мядзведзь.

Будзеш баяцца, вядома.

Бурундук усё яшчэ мацюкаўся, а Будрыс быў ужо далёка. Ішоў цераз крыніцы, і кожная крыніца спявала па-рознаму і была на свой твар. Чароўна разнастайныя былі песні вады. І весела, рэзка крычалі свае «віць-цвіць-цвіць!» шэрыя попаўзні, бегаючы ўніз галавою па ствалах дрэў. Бегалі нейкія зусім ручныя, не звяртаючы ўвагі на чалавека і сабаку.

Можа, таму ручныя, што вакол было мора сонца ў вясёлым лесе, што злева былі дымна-зялёныя горы, справа — сонечныя горы, далёка наперадзе — сінія горы.

Горы. Горы. Горы.

Самая казка пачалася незадоўга перад Япруковай крыніцай. Пачалі ўсё часцей трапляцца піхта і кедр. Сама крыніца бегла ў даліне, нібыта па прыступках, празрыстымі, тонкімі, як шкло, вадаспадамі. На кожнай прыступцы быў вадабойны кацёл, кожная прыступка была геаметрычна правільнай чашай, у якой шампанскім кіпела вада. Кіпела з аднаго боку, а з другога шкляна пералівалася ў ніжэйшую, наступную чашу.

Амур гучна хлябтаў з гэтых чаш: па глытку з кожнай. Не хацеў піць, але не мог адарвацца. Часам залазіў у чашу з лапамі і клаўся, хапаючы зубамі няўлоўны струмень.

Пасля Мёртвага ключа лес нават пахнуць пачаў па-іншаму. Свежым, але вострым, спіртавым, амаль нашатырным пахам.

— Восень ідзе... — сумна адзначыў Будрыс.

Аб восені сведчылі і шматлікія дуплянкі, і хаткі над сцежкай. Пранумараваныя, як дамы на вуліцы, і... пустыя.

«Так і ўяўляю іх сабе вясной. Галоўны праспект, фешэнебельныя кватэры... З кожнай — галовы выглядаюць, пляткарацьщ, сварацца з суседкамі... Восень ідзе. Апусцелі».

За Мёртвай крыніцай (рэчка была сапраўды мёртвай, уся ў буйных круглых галышах, з адзіным струменьчыкам вады пад імі, але ў час залеў, мабыць, страшная) нешта цьмяна-непрыемнае ўпершыню штурханулася ў Севярынава сэрца...

...На высачэзнай піхце, трохі ўбаку і ўніз — сцежка тут караскалася на адхон, — сядзела вялізная калонія нейкіх цёмных, дзюбастых, падобных на крумкачоў птушак. Было іх, можа, з сотню. Натапыраныя, трывожныя, у нейкім напятым чаканні.

Севярын гукнуў на іх, толькі каб разбіць іхнюю цягучую, са злавесным адценнем цішыню. Хмараю чорных крыжоў яны ўзняліся ў паветра з рэзкім характэрным крыкам, нешта накшталт «ког, ког!» або «кго, кго!».

Адляцелі недалёка і паселі зноў. Гэта былі японскія даўгадзюбыя вароны, але Будрыс не ведаў гэтага. Проста яму стала не па сабе ад нейкага прадчування. Толькі на палову імгнення не па сабе. Занадта ўжо добры, пяшчотны стаяў вакол дзень. Ён, можа, і забыўся б на гэта, каб не выбег раптам з нетраў Амур. Чынна, як паслухмяны хлопчык, пайшоў «ля нагі».

— Што, думаў, забыўся? — спытаў чалавек. — А хто быў згодзен, што малым хлопцам з пароды лаек нельга хадзіць за Мёртвы ключ? Га?

Амур глядзеў на яго залацістымі вачыма і віляў хвастом.

— Так у нас з табою не пойдзе. А калі цябе тут вароны задзяўбуць? Як тады гаспадару ў вочы глядзець буду? Дамой... Ідзі, Амур.

Сабака пайшоў. Пайшоў, чапляючы лапа за лапу, штохвіліны азіраючыся, няшчасны, быццам пабіты.

Сабака знік. Але не паспеў чалавек зрабіць і дваццаці крокаў, як Амур з'явіўся зноў, стралою кінуўся з нетраў да ног, амаль прыціснуўся да іх.

— Правы качаеш?

Густая поўсць на сабачым загрыўку стаяла дыбарам, па гладкім беласнежным целе прабягалі буйныя хвалі гневу, змешанага з чымсьці незразумелым, можа, са страхам. Праз вострыя белыя зубы прарываліся рыклівае клекатанне і хрып.

— Ты што? — Севярын глянуў у той бок, куды глядзеў сабака. Здалося яму ці не, што ў нетрах бліскавічна прамільгнуў доўгі, няпэўнага ў паўзмроку колеру, плямаваты ад сонечнай лістоты, цьмяны цень?

Ударыў барабан лесу.

Чалавек нічога не мог бачыць і ведаць. Але было прадчуванне. Першы грозны акорд уварваўся ў вясёлае, зялёнае скерца тайгі.

## IX
## ЭЛЕГІЯ ПАЛЯЎНІЧАЙ ХАТКІ

Дно падзі ўвачавідкі павышалася. Мяняўся лес. Нешта ад тропікаў усё больш і больш паяўлялася ў ім. Высокія, амаль дрэвападобныя папараці, густыя, зялёныя завесы вінаграду, лімоннік з яго чырвонымі аскомнымі ягадамі, калючыя, з буйнымі шыпамі зараснікі маньчжурскай араліі. Вінаград сям-там пачынаў чырванець, і нібыта крывавыя струмені сплывалі з галін маньчжурскага арэха, дуба, жалезнай і даурскай бярозы.

І ва ўсё гэтае буянае свята раптам упаўзла трывога. Сам не ведаючы чаму, Будрыс ішоў асцярожна, са стрэльбаю наперавес. І сабака ішоў асцярожна (не хапіла духу яго прагнаць). І абодва адчулі нейкую палёгку, калі ўбачылі на другім беразе Тыгравай праз лістоту нешта бярвенчатае.

Севярын, мабыць, і не заўважыў бы гэтага, каб не прыглядаўся так уважліва, каб не пацягнуўся туды Амур. Хатка так добра хавалася ў нетрах, што можна было прайсці побач і не здагадацца аб яе існаванні. Нехта сядзеў на кукішках ля вады і мыў закопчаную каструлю. Узняў галаву...

З раптоўнай звязанасцю Будрыс убачыў, што гэта яна. Нязвыклая ў чорных джынсах і кашулі з шатландкі, нязвыклая ў зялёнай хусцінцы, з-пад якой выбіваліся бязважкія пасмы залацістых валасоў. І, галоўнае, нязвыклая ў залатым дзённым святле. Ён заўсёды ўяўляў яе твар у прыцемку. Ён бачыў яго толькі аднойчы, у сутонні.

А тут гэты твар быў зусім іншы. І рукавы каўбойкі былі закасаныя вышэй локцяў, агаляючы тонкія і моцныя загарэлыя рукі, укрытыя залацістым пушком. І кісці гэтых рук, чорныя ад каструлі, журліва абцякаў празрысты крынічны струмень.

— Вы?..

На хвіліну ў гэтых цёмна-сініх вачах мільганула, здаецца, адценне радасці. І згасла. І ён нават не ведаў, было яно ці проста гэта яму патрызнілася. Вочы глядзелі на яго, нібы нанава пазнавалі. А на строгіх вуснах быў цень нейкай унутранай, прыхаванай усмешкі.

— Усё ж прыйшлі. А я думала...
— Вы, значыцца, думалі...
— Вось яшчэ! Думаю я заўсёды. Але тут...
— Я трымаю слова. Проста катэра вашага не было.
Зменлівы, цякучы выраз твару.
— Шторм...
— У гэты шторм я дабіраўся да Рагвольда на яхце. Адтуль — сейнерам, а пасля пеша, праз хрыбет.
— Герой, — невядома, ці пахваліла, ці даела яна. — І з сабакам... са стрэльбай... як то належыць. Даўно пакінулі Тараскон?
— Ф-фу-у! Як не сорамна!
— Ну, не злуйце. Добра, што знайшлі. Добра, што з'явіліся. Досыць з вас?
Пяшчотнае, вельмі жаноцкае аблічча. Падала яму локаць рукі.
І яму раптам, нечакана для самога сябе, захацелася пацалаваць яго. Але ён толькі паціснуў. А яна нібы здагадалася. Зноў з'явіліся ў вачах іронія і дзёрзкасць.
— Не думала, што зможаце адолець такі шлях.
— Вы што, лічыце, што я зусім кабінетны?
— Кабінетны, як здымак. Хадземце. Вось толькі рукі адатру.
Трывалая, маладая сіла жыцця была ў кожным яе руху. І Севярын на імгненне падумаў, што яго вяло сюды і яшчэ нешта, акрамя цікаўнасці.
Сцены хаты былі з тоўстых бярвенняў, дах — з дошак. Адзінае акно — звычайнае акно сялянскага доміка. Толькі што каробка аконнага праёма ўстаўлена ў сценку «лежма», і таму акно, як, ты скажы, «венецыянскае». Дах змацоўваюць ад тайфунаў з мора пакладзеныя на яго бярвенні. Тырчыць комін, зроблены з жалезнай трубы.
І, як працяг даху, навес з кар'я: дрывотня, цяпер амаль пустая. Кар'ё знята з аксаміту амурскага, коркавага дрэва. Мякка звісае амаль да зямлі.
Побач з хаткай лава. На ёй — вядро, каструлі, бачок. Гэтыя, па ўсім відаць, заўсёды тут, для кожнага, хто трапіць сюды. Стаяць цурбанкі-крэслы. Чарнее плешына вогнішча, абкладзенага камянямі. Млее над хатаю светлы, лапчасты маньчжурскі арэх.
«Забрацца б сюды ўзімку. Прыпасаў набраць, свечак. Сядзець сярод снягоў, паліць печку. Працаваць, думаць, на лыжах хадзіць. І каб побач была тая, каго любіш. І каб нікога больш не бачыць са старых сяброў... нават шэфа...»
Але і зараз цудоўна. Ля сцен — сонечнае мора гіганцкай папараці, над дахам — зялёная светлая хмара арэхавай лісто-

ты. Над ёй — піхты і цёмныя бальзамічныя кедры. А вышэй за ўсё — горы.

На цурбанках сядзелі два невядомыя, апранутыя па-таежнаму. Лысаваты смешны мужчына год пад сорак і жанчына сціплай, харошай прыгажосці, значна маладзейшая за яго.

— Во, Тацяна, — з бязмерным здзіўленнем сказаў мужчына, — бач, Гражынка нашая дзікага хлопца ў тайзе спаймала. Вядзе.

— Па-мойму, гэта ён яе вядзе, — са светлай усмешкай сказала жанчына. — Пад руляй.

— Мядзведзь іх там ведае, хто каго вядзе...

Мужчына распраўляў матылёў, дастаючы іх з марылкі. Прыціскаў разгорнутыя крыльцы, нават не гледзячы, што робяць ягоныя рукі. Узняўся насустрач Будрысу.

— Сакрат. Ласкоўскі маё прозвішча. А гэта — мая чвэрць.

Тацяна ў параўнанні з волатам-мужам была сапраўды мініяцюрная. Стройненькая, танюткая — ён мог бы яе на далоні ўзняць.

Пазнаёміліся.

— Парахавы Севярын, — сказаў Сакрат. — Са стрэльбай. Мужныя рукі пахнуць травамі і порахам. Ото цяпер я за нашу дзяўчыну не баюся.

— Дзядзька Сакрат, — сказала Гражына, — ну як не сорамна!

— А што, хіба трэба баяцца? — са страшэнным здзіўленнем і наівам спытаў Сакрат.

— Баяцца не трэба, — з раптоўнай сухасцю сказала яна.

— Матылёвы Сакрат, — сказала Тацяна. — Кіньце, калі ласка, вашы кепікі. У вашага вялікага цёзкі жарты былі разумнейшыя.

— Ды я што? Я, можна сказаць, і нічога. Я — харошы...

— Ведаю, — вельмі проста сказала Тацяна.

Яна, відаць па ўсім, з першага позірку зразумела ўсё тое дзіўнае, што стаяла паміж маладымі людзьмі. Іхнюю звязанасць, няёмкасць і нават неразуменне таго, што з імі робіцца. Неразуменне другога і самога сябе.

— Сядайце, Севярын, — сказала Гражына, — зараз каву піць будзем. А пасля вы пойдзеце з Сакратам па матылёў. «Порхать средь кашки по лугам».

Голас быў абыякава-іранічны. І зноў Будрыс здзівіўся зменлівасці гэтай вельмі жаноцкай, малой істоты. Ён не чакаў іншай сустрэчы, і, аднак, усё гэта неяк непрыемна ўразіла яго.

— Цікавыя матылі? — глуха спытаў ён.

— Страшэнна цікавыя, — сказаў Сакрат. — Тут увогуле багата. Нават ёсць два віды інда-малайскай фауны. Д'ябал іх ведае, як яны сюды забрылі!

— Ты б яму, Сакрат, яшчэ лекцыю прачытаў, — сказала Таццяна. — Яму не словамі дундзець, яму паказваць трэба. Вы аксаміт амурскі ведаеце? Унь ён.

Дрэва з ажурнай кронай стаяла непадалёк. З ажурнай кронай і мяккай нават на позірк карою ствала, сапраўды аксаміцістай, змаршчакаватай унізе, нібы напятай уверсе.

— Бачыце, якое дзіва можна на ім лавіць!

Матылі былі памерам у раскінутую далонь — сантыметраў на дваццаць. Вясёлкавыя, экзатычныя — ніколі чалавек не здолеў бы стварыць нічога падобнага.

— Ветразнік Маака, — сказала Таццяна. — А вось яшчэ. Гэта ксут. А гэтага тут называюць сінім махаонам. Які ён сіні?! Ён жа чорны махаон. Чорна-зялёны.

— А што... — сказаў Гражыне Севярын. — Дзіва!

— Хіба яшчэ такое дзіва бывае, як іх уначы лавіць, — чамусьці вельмі стрымана сказала Таццяна.

Будрыс заўважыў позірк, якім яна абмянялася з мужам, і зразумеў, што вось гэтым вельмі добра і што яны нізавошта на свеце не абмяняюць свайго вандроўнага лёсу. І яму стала трохі сумна.

...Яны не ведалі, што ім казаць адно аднаму. І няёмкасць гэтая рабілася ўсё больш неадольнай.

— Што вы бачылі сваім свежым вокам? — спытала дзяўчына.

— Амур нешта непакоіўся. І гэтыя... як іх... крумкачы, вароны... Ну, дзюбастыя такія... зграяй дрэва абселі.

— Японскія даўгадзюбыя. — Яна раптам устала. — Ах, як жа гэта вы? Якая нядбайнасць! Слепата!

Нібы ўзрадавалася, што можна нейкім дзеяннем разбіць няёмкасць.

— Дзяўчынка, — з перасцярогай сказала Таццяна, — не будзь зласлівай. Адкуль ён мог ведаць?

— У чым справа? — спытаў Севярын.

— Справа ў тым, — сказаў Сакрат, — што там, непадалёк, нехта паміраў... або быў забіты. Вароны чакалі, пакуль памрэ.

— Чалавек?

— Наўрад... Але хто ведае...

Севярын устаў, скінуў рукзак.

— Я павінен быў здагадацца. Прабачце. Я пайду туды.

І ўклаў патроны ў дубальтоўку. Пайшоў да рэчкі. Яму здалося, што Тацяна сказала нешта. Рэзкім тонам. Тонам, у якім пераважаў дакор. Яму было ўсё адно. Ён злаваўся на дзяўчыну, але найбольш злаваўся на сябе. Якога д'ябла яго панесла сюды! І гэтыя думаюць чорт ведае аб чым. І яна. Ды і што можна падумаць! Прыцёгся, ёлупень, галава дурная! Хіба магчыма загадзя ведаць, як зразумеюць твае ўчынкі людзі? Будуць яны верыць у чысціню тваіх намераў або не?

Ён ішоў і лаяў сам сябе, калі раптам убачыў, што Амур стаў і глядзіць назад...

...Гражына даганяла яго. Ішла сваёй размеранай, няспешнай, вельмі прыгожай хадою. На хаду ўвагнала ў стрэльбу патрон, зачыніла казённік, перакінула дубальтоўку цераз плячо.

— Нашто вы ідзяцё? — спытаў ён.

— Прабачце, я не мела рацыі.

— Маглі б і застацца. Карысці з вас і там будзе мала.

— Вельмі злуеце на мяне?

— На сябе.

— А вось гэта і дарэмна. Я... не злую на тое, што вы прыйшлі... Наадварот... Толькі нязручна было сказаць пры іх.

— Лепей бы вы сказалі пры іх, а мне пасля — што хочаце, чым выстаўляць мяне ідыётам.

— Я... не хацела гэтага, — у вачах цёплая пакора і пачуццё віны.

— Прыгожая вы наша! Нашто вам гэта? Будзьце вы добрая. Так гэта вам пасуе. А то — дзікая котка. Восем кілаграмаў сто пяцьдзесят грамаў.

— Даруйце мне. Ну, дайце ваш лоб, даўжэзны бамбіза.

Абяззброены, ён ішоў побач і бурчаў:

— Як нябожчыка... Узнагарода... «Я на подзвіг цябе праваджала».

Гражына смяялася, гледзячы на яго.

— Ну, мілы, добры, буркатлівы... Даруйце мне, калі ласка. Іначай памру ад згрызотаў сумлення.

— Хітры вы народ, жанчыны, вось што.

Севярын адчуваў, што яны падыходзяць да месца.

— Тут, здаецца. Толькі варон не відаць.

— Дачакаліся, значыцца, — бязгучна сказала яна.

Рушылі ў зараснікі. І тут са страшным гвалтам ірванулася праз хмызы і лістоту, залямантавала, нібы на смерць, варонячая зграя. Чорнымі крыламі ўцемрыла святло.

— Вось, — сказаў ён.

Дробны падрост піхтачак і кедраў быў у адным месцы прымяты, нібы праз яго кагосьці цягнулі, і ў самых нетрах гэтага падросту ляжала нешта. Гэтае «нешта» было плямістае і нерухомае, і нельга было зразумець, дзе ў гэтага нерухомага галава, а дзе азадак. І амаль адразу, з раптоўным пахаладзеннем у спіне, Севярын зразумеў, чаму ён не можа ў гэтым разабрацца.

У забітага ізюбра не было галавы.

— Дарагі, — сказала Гражына, — трымайце стрэльбу напагатове.

— Чаму?

— Ён звычайна адпачывае непадалёк ад забітай здабычы.

— Хто?

— Леапард, — сказала яна.

Другі трывожны акорд аддаўся ў залацістым перадвячэрнім паветры. Севярын аглядаўся вакол. Але было ціха. Ціха і пуста.

— Чаму вы думаеце, што гэта леапард? Можа, гэта...

— Тыграў тут не бачылі два гады. Калі б гэта быў чырвоны воўк — падзь пакінулі б усе касулі і алені... Акрамя таго — галава. Леапард, нават сыты, заўсёды адгрызе ў ахвяры галаву: нібы ў вочы баіцца глядзець.

— І ўсё ж забівае? Сыты?

— Сыты. Было ж у яго мяса. А ён зрабіў замах на Амура. Бываюць сярод іх такія... прафесійныя забойцы. Толькі забіваць...

Яна хадзіла вакол месца здарэння, стараючыся не глядзець у падрост, у якім ляжала светла-карычневая, безгаловая і таму пачварная істота.

— Вароны не паспелі папсаваць. Леапард пайшоў нядаўна. І вось яшчэ чаму я кажу: леапард — след на сырой зямлі. І яшчэ... І яшчэ...

Адлегласць ад аднаго следа да другога была кожны раз не меней як метраў шэсць-восем.

— Ён спаймаў яго на пятым скачку. Сорак метраў, — шэптам сказала яна.

— Чаму «спаймаў»?

— Таму што леапард, калі ўжо ахвяра кінулася ўцякаць, амаль ніколі не можа дагнаць яе. Так, зробіць для праформы яшчэ метраў пяцьдзесят ды ідзе шукаць новы абед... Вось адсюль ён скокнуў...

Над звярынай сцежкай навісаў тоўсты сук дуба. Дзяўчына падцягнулася на руках, гнутка і спрытна хістанулася целам і, закінуўшы нагу, села на гэты сук вярхом.

— Наце. Так я і думала. Вось белыя поўсцінкі.

— Хіба ён белы?

— Ён іржава-жоўты на баках і спіне. Але ж ён не чалавек, каб на спіну класціся. А бруха ў яго белае. — Скокнула на зямлю. — Пастарайцеся хаця б на вока прыкінуць памеры і вагу забітага. Гідка, але пастарайцеся.

Севярын з вялікай напругай ускінуў тушу ізюбра, трымаючы яе ля капытоў. Кроў кінулася ў аблічча.

— Пудоў дзесяць, — сказаў ён, апускаючы ношу. — Можа, трохі болей. — Прыкідваў на вока: — Даўжыня прыблізна з метр семдзесят, вышыня... а чорт яго ведае, якая ў яго была вышыня... Метр сорак?.. Лічыце, што пэўна так.

— Вы моцны, — сказала яна.

— Леапард мацнейшы, — змрочна пажартаваў ён. — Паспрабуй загадай мне, каб я таго ізюбра дагнаў і загрыз. Пад страхам смерці не атрымаецца.

— Закідаем яго лаўжамі, — сказала дзяўчына. — Каб не папсавалі птушкі. Егера трэба папярэдзіць. І хадзем. Я болей не магу. Бачыце, не спадзяваўся ж на смерць... Леспядэцу еў. Улюбёная ягоная расліна. А гэты... расцягнуўся ўздоўж сука, галаву на лапы і замёр. Разумеў, забойца, што яго з галавы ў такой паставе менш відаць. Мне, здаецца, кепска зараз будзе. Такі прыгажун!

Севярын асцярожна вёў яе ад месца мярзотнага здарэння.

— Хатка... — сказала яна. — Элегія... Вось вам і элегія, Севярыне. Джунглі, а не элегія.

Ля хаткі нікога не было.

— Куды ж гэта яны падзеліся? — неўразуменна спытала яна. — Па матылёў пайшлі, ці што?

— А унь тое не яны пакінулі?

На дзвярах, прыколатая шыпамі аралі, бялела запіска.

«Добра, што ты не адна, — прачытала дзяўчына. — Цяпер здолееш аблавіць куды болей тэрыторыі. Мы з Тацянай пайшлі за ліяннік, да вытокаў Тыгравай. Узялі адзін камплект патрэбнага. Другі пакінулі табе. Просціны з рамамі — на гары. Рэфлектар і акумулятары ў хаце. Не забудзь, што для нашых крылатых п’янюг пастаўлены ў нетрах чатыры слоікі...»

— Што за п’янюгі?

— А для матылёў начных, — даволі злосна сказала яна. — Стаяць слоікі, а ў іх мёд, які перабрадзіў. Ну, і нешта накшталт кнота той мёд смокча. А з кнота смокчуць матылі, п’янеюць. І тады бяры іх голымі рукамі.

Яна чытала далей:

«Заадно папярэдзім і егера, хай прыйдзе паглядзець. Бывай здаровая. Не лянуйся дзеля дзядзькі Сакрата, працуй. Цалуем».

— Дзе гэта яна?

— А за ліяннікам. Вёрст за пяць. — У вачах у Гражыны быў нежартоўны гнеў. — Што за свінства! Пайсці, не папярэдзіць, кінуць. Узрадаваліся... Праца хутчэй пойдзе... Усё праца ды праца... Самае, бачыце, галоўнае. Праваліся праз зямлю чалавек — абы матылі яго каханыя засталіся. Вось плюну ды буду «Каралеву Марго» чытаць!..

— Чаму? — спытаў Севярын. — І сапраўды так карысней будзе. Вы тут будзеце лавіць, яны — там. Глядзіш — болей спаймаеце. А я вам памагу. Няма чаго вам злавацца, па-мойму.

Тон у яго быў разважлівы і спакойны. Дзяўчына скоса паглядзела на яго і ўжо спакайней сказала:

— Ой, горачка вы наша! Можа, вы і маеце рацыю. Ну, бярыце сваю вуду ды марш на Тыгравую! Здабывайце ежу для племя. Я тут прыбяруся трохі ды прыйду памагаць. Чарвякоў там накапаеце, пад купай смецця.

...Добра было стаяць на беразе, надзяваць чарвяка, закідаць вуду ў вадабойныя катлы. Добра было сачыць, як часам ідзе да вытокаў, бліскавічна імчыць у халоднай слязніцы вады вялізная сіма. У яе табунках адразу былі відаць самцы. Самцы былі ў шлюбным уборы: спіны ў іх пацямнелі і зрабіліся гарбатыя, бакі ўкрыліся малінавымі і цёмнымі палосамі, сківіцы пагрозліва выгнуліся.

Рыба брала добра. Кручок амаль ні разу не вярнуўся пусты. Калі Гражына падышла да рэчкі, у вядры плавала ўжо дзесяткі тры рыбак. Выцягнуўшы адну з вядра, яна прысела на кукішкі і пачала разглядаць яе.

— Мальма, — сказала яна. — Мясцовая стронга. Пагляньце, якое харасцво!

Стронга была пяшчотна-бэзавая, з ярка-пунсовай палоскай на брушку, з такімі самымі плаўнікамі і хвастом, плямістая, з залатымі бліскаўкамі на спіне.

— А гэта што?

Рыбка была з чырванаватай стужкай на баках. Плаўнікі і хвост таксама чырвоныя. І ўся ўкрыта чарнаватымі плямамі, як леапард.

— Сіма, — сказала Гражына.

Будрыс не на жарт перапалохаўся.

— Во-о... Любенькая, ану хутчэй адбірайце яе ды кідайце ў ваду!

— Нашто? Гэта своеасаблівая сіма. Яе тут «пяструшкай» завуць. Па невядомых нейкіх прычынах частка самцоў сімы ў мора, як выведзецца, не ідзе... Унь сапраўдная сіма пайшла. У ёй сантыметраў восемдзесят. А гэтая, у рацэ, так ліліпутам і застаецца. Бачыце, дваццаць, не болей. Малокі ў некаторых пяструшак бываюць, але яны, калі і ідуць за сапраўднай сімай, дык не дзеля таго, каб удзельнічаць у размнажэнні. Ідуць, каб высачыць і пажэрці ікру. Свайму ж віду шкодзіць, гадасць такая! Так што лавіце.

Вечарэла. Ціхія, загарэлыя, стаялі вакол горы. Раскашавалі. Булькацела вада. Самцы стронгі, засынаючы, чарнелі, як кепскае срэбра. І дзяўчына сядзела ля вады побач з Амурам і глядзела ў плынь.

Простая, мілая, неаддзельная ад усяго гэтага. Сама як захад, сама як лістота, сама як добрае паветра, якое не заўважаеш, але без якога немагчыма жыць...

— Даўно хацеў спытаць, што гэта за вярба на каменнях? Унь, стройная, бы эўкаліпт...

— Чазенія, — сказала яна. — Адно з улюбёных маіх дрэў. Яна — рэлікт: дайшла з даледавіковага перыяду.

У яе словах гучала нешта такое, што прымусіла яго да асаблівай увагі.

— Чаму — «адно з улюбёных»?

— Таму, што гэтае дрэва цяжка жыве. І мала жыве. Год восемдзесят. Укарэніцца на галькавых косах, на градах. Там, дзе нішто не можа расці. Першай з’яўляецца на новых наносах, нават на скамянелай лаве ля ручаёў. Дрэва-піянер. І вось расце, разбурае лаву, невядома адкуль смокча сокі, угнойвае лісцямі мёртвую глебу. А пасля, калі ўгноіць яе і сабой, на тое месца прыходзяць дрэвы іншых парод. Добрае дрэва!

«Чазенія...» — з пяшчотай і чамусьці з трывогай падумаў ён.

Цішыня. Захад. Рэчка. Жанчына ў зарасцях чазеній на беразе. Сама тоненькая, сама стройная, як чазенія.

— Хораша мне, — раптам сказаў ён.

— Вам рэдка бывае хораша?

— Вельмі. Але тут мне так добра, як ніколі ў жыцці. Ціха. Зусім бязлюдна. Быццам свету і людзям яшчэ толькі трэба нарадзіцца. Быццам тысячагоддзі да Хірасімы. Быццам яе ніколі не будзе.

— А я? — спытала яна.

— А вы хіба чалавек? Вы проста першая чазенія. Высокая чазенія. Страйнюткая чазенія. Чазенія, якая памагае ўсім. А раз усім, то і мне.

Уважліва, залатымі ад захаду вачыма глядзела яна на яго.

— Слухайце, Будрыс. Я ведаю вас даўным-даўно. Пасля гэтых слоў мне ўвогуле здаецца, што вы вядомы мне з пачатку дзён. Але хто вы? Хто вы, Будрыс? Чаму вам кепска? Кепска таму, што вы — гэта вы? Хто?

— Так, — сказаў ён. — Лічыльная машына. Можа, трохі болей, чым лічыльная машына. Так кажуць. Вы прабачыце, калі я замест прамога адказу раскажу вам прытчу?

— Ну.

— Недзе на пачатку нашага стагоддзя ў вялікім горадзе на Беларусі была выстаўка. Гаспадарчая. Розныя там дасягненні. Яна ж і кірмаш. Сала таўшчынёй з рыдлёўку, шырэй маёй чвэрці...

— Цяжка ўявіць, — сказала яна.

— Ну, жыта, жарабцы на ланцугах распятыя, муштукі грызуць. І прыходзіць на гэтую выстаўку мой дзед. Цесля быў, можа, лепшы сярод тагачасных. Ну і, ясна, скрыні рабіў, калёсы, усё такое. Прыходзіць — і адразу да дырэкцыі. У каліце — вугалькі, пад пахай — яловая дошка. «Ну, а ты чаго?» — пытаецца дырэкцыя. А той ім паважна: «На выстаўку. Ды месца няма». — «А што прывёз?» — «А вось, — кажа. Паставіў ён дошку, дастаў вугаль. — Глядзіце». І ж-жых! — адным рухам рукі крэсліць акружнасць. І пасля кропку ставіць. Цэнтр. Тыя цыркулем правяраць. Бог ты мой!.. Геаметрычна дакладны круг. І дакладны цэнтр. І вось ён так увесь час і паказваў. Вугал дзяліў на дзве паловы, любы шматкутнік абводзіў акружнасцю. Усю геаметрыю — на вока. Не маючы аб тэарэмах і зялёнага паняцця.

Памаўчаў.

— Вось і ў мяне такое фамільнае няшчасце. Вось так і я. Дзе не могуць ужыць цыркуля, дзе яго яшчэ няма — там клічуць мяне, і я жыва крэслю дакладны круг.

— Здаецца, я разумею, — ціха сказала яна.

Яна сапраўды разумела. Севярын упэўніўся ў гэтым, глянуўшы ў яе вочы.

— Я не магла б. Нізавошта. Бачыце, тут свет, і святло, і прыгажосць. Ходзяць звяры, лётаюць птушкі, растуць чазеніі... І нават леапард, што гойсае вакол, не псуе карціны. Бо гэта свята і пір жыцця. І нараджэнне і смерць ягоныя. Натуральная, нікім не прыдуманая смерць. Прыдумаць наканаванне — што можа быць страшнейшае?! Не холадна вам там?

— Холадна.

— Я разумею. Вы страшэнна моцны. І вы зусім, зусім без абароны. Без брані перад гэтым светам. Нічога не варта вас забіць. А мо і ўжо забілі?

— Ну, гэта невялічкае перабольшанне.

— Не жартуйце. Не трэба. Ясна, што холадна. Усё адно як у месячную ноч замярзае недзе на Эльбрусе чалавек. А вакол прыгожа. І высока-высока, на ўсё людства хопіць.

— Менавіта хопіць, — змрочна сказаў ён. — Менавіта на ўсё людства.

— Не, я там не магла б. Нават з лепшымі людзьмі на свеце. Я зямлю люблю, даліны, невысокія, зялёныя, вось такія, горы. Цеплыню люблю. У ёй прыгажосць. І сапраўдная вышыня — у ёй. Чорта людзям у вышынях, на якіх нельга жыць... Якая страшная праца!

Яна глядзела на яго з зацікаўленасцю і... з агідай. І хаця Севярын разумеў, што яна іншы, палярна іншы, зусім не такі, як ён, чалавек, што яны не могуць зразумець адно аднаго, — яму стала крыўдна за сваю справу і — яшчэ болей — за сябе.

## X
## НАКЦЮРН І АЛЬБА*

Ён ляжаў каля вогнішча і не спаў. Пад бакамі была сухая трава, на нагах — грубая коўдра, пад галавою — скручаны плашч.

Побач драмаў, паклаўшы лабастую галаву на тоўстыя беласнежныя лапэты, гладкі Амур. Ад цеплыні і салодкіх сноў у яго дрыжалі бровы.

«Добра табе! — падумаў Будрыс. — А мне кепска. Дужа...»

Размова з Гражынаю ўразіла яго больш, чым здалося спачатку. Упершыню ён сутыкнуўся з такім поўным адмаўленнем усяго, чым ён жыў дагэтуль. Гэтая агіда, гэтая адчужанасць. І самае горшае, што ён бачыў іх у чалавеку, у якім менш за ўсё хацеў бы бачыць такое.

«Дрэнь твае справы, чалавеча... Занадта, занадта мы розныя. Ніколі ў жыцці нам не пасябраваць. Тваё жыццё сапраўды лёд на вяршыні. А яна перажыла калісьці ледавікі, чаканне смерці ўсяго жывога, і таму занадта добра ведае цану льдам... Перыстая, ажурная, уся дзеля сонца... Чазенія... Жанчына. Як толькі

* Песня зары.

адступілі льды — стала на россыпах камянёў, дзе ніхто яшчэ не мог жыць. І з тых часоў стаіць, будзе стаяць на фарпосце жыцця. Мала пражыве. Цаной гэтага жыцця падрыхтуе жыццё дзеля іншых.

Жанчына. Ведае цану льдам. І таму не зразумее. Не даруе. Не прымірыцца».

...Лёталі над агнём вялізныя, як птушкі, начныя матылі. Нерухомыя ў чыстым паветры, стаялі зоркі над вяршынямі гор.

Ён ведаў, што жанчына тут, побач, спіць у гэтай закінутай хатцы. А можа, і не спіць, бо яе таксама жорстка ўразіла размова на беразе рэчкі. А менавіта таму, што гэтая размова была, да жанчыны было зараз далей, чым да гэтых высокіх, халодных зор.

Яна ніколі не паставіцца да яго з даверам. Сябрам не будзе. Нават старонняй не будзе. Будзе ворагам, пільным назіральнікам, лазутчыкам у стане такіх, як ён. Таму што ён і яна — розныя бакі жыцця. Жыцця? Увогуле розныя полюсы ўсяго існага.

Яму было вельмі горка адчуваць гэта.

Ноч. Добрая музыка ночы. Сонна цмокае вуснамі рака. Падушка з водарасцяў у яе пад шчакой. Схіліліся і пільна слухаюць сны ўсяго жывога гонкія чазеніі. Чуйным сном спіць недзе ў нетрах жэньшэнь. Спіць недзе ў зямлі Генусь. Спяць мёртвыя ў магілах, жывыя — у ложках і ля вогнішчаў.

І ўсе-ўсе слухаюць песню ночы: адны з надзеяй, другія з безнадзейнасцю. Адны — прымірыўшыся, другія — гатовыя зубамі бараніць жыццё.

Але ў ночы няма нічога страшнага. І зла няма ў ночы. І бяспека ў ночы ў руках. І таму побач, далёка-далёка, ляжыць і ніколі не даруе, не наблізіцца жанчына. Не даруе за спробу прынесці ў ноч зло. Не даруе чазенія.

У дрымоце, праз напаўапушчаныя вei, ён раптам убачыў, як бязгучна сеў і выцягнуўся Амур. Футра на загрыўку ўстала, як грыва, напружыліся мускулы, бязгучна выскалілася пашча. І бязгучны выскал быў страшнейшы за рык і брэх.

Севярын сеў.

Агонь дагараў. І першае, што чалавек убачыў у цемры, за межамі цьмянай, чырванаватай плямы святла, за гэтым згасаючым у цямноцці аазісам, — гэта былі два халодныя зялёныя агеньчыкі. Ледзяныя, застылыя, нерухомыя, немігаючыя.

Чалавек і звер глядзелі адзін аднаму ў вочы. Пасля чалавек устаў. І адразу з цемры, адтуль, адкуль свяцілі два бязлітасныя,

пачварна гіганцкія светлякі, даляцеў гарлавы, прыглушаны кашаль і хрып.

Нешта пагрозна варочалася ў самай, здавалася, глотцы цемры, нешта перакатвалася, як далёкі пярун, узносілася да высокага, здрадліва-пяшчотнага, сладастраснага муркання і адразу падала ледзь не на дзве актавы, да буркатання, да клёкату. Нібы бурчала сама старажытная ноч. І не было на свеце нічога больш першабытнага, больш страшнага, больш усеўладнага.

Чалавек зрабіў крок, і другі, і трэці. З голымі рукамі. Задушаны рык нібы адскочыў ад самога агню ў змрок. І яшчэ на крок адскочыў. І яшчэ...

— Ты, маньчжурская пантэра, — сказаў чалавек. — Ты, барс. Ты, леапард, і як цябе там яшчэ клічуць. Драная кошка, ці што? Ану, давай сюды!

Гукі чалавечага голасу нібыта прымусілі леапарда адскочыць яшчэ. Рык ператварыўся ў задушлівае бурчанне, нібы ў цямноцці нехта канаў.

Севярын зрабіў яшчэ крок. Ён не памятаў сябе ад злосці. Ад злосці на гэтую пачвару, што палюе на сабаку, а можа, і на яго, ад злосці на цемру, ад злосці на гэтую жанчыну, якая, хай сабе і з меркаванняў вышэйшай праўды, перакрэсліла ягонае жыццё.

На гэтую жанчыну, што глядзела на яго з агідай у той час, калі ён не варты такога. На гэтую непрымірымую жанчыну, што ніколі не даруе і не працягне з сяброўскім даверам сваю руку.

Хрып цяпер блукаў вакол вогнішча. Па нябачным коле. Блукаў і паступова аддаляўся. З відавочнай неахвотай, з пачуццём смяротна абражанай годнасці.

І чалавек ведаў, што звер ніколі не даруе яму паражэння. Так, як ён, чалавек, ніколі не даруе свайго паражэння гэтай жанчыне.

Ён кінуў у агонь сушняку. Полымя ўскінулася і заскакала барвай па чорных лапах кедраў, па светлых крылах гіганцкіх арэхаў, па адчыненых дзвярах хаткі, па абліччы жанчыны, якая стаяла ў гэтых дзвярах.

— Псіх ненармальны... — голас яе сарваўся. — А стрэльба? Стрэльба дзе?

— Леапард не нападае на чалавека, — глуха сказаў ён.

— Так. Ніколі не нападае. Але гэта — я не ведаю, што ён такі за звер, гэты... Пашэнціла раз дзіця ўкрасці? Людаедам зрабіўся з-за старасці ці фізічнай вады? Проста звык паляваць на самага безабароннага... на чалавека... без кіпцюроў і рог?.. Або... або такі самы псіх, як вы?

Яна ішла да агню, і выгляд у яе быў страшны.

— Я не ведаю... але...

Ён нічога больш не сказаў. З яго было досыць. Ён лёг на подсцілку, закутаўся з галавою ў коўдру і змоўк, павярнуўшыся да яе спіною.

...Калі ён пракінуўся — палыхала зара. Святло ахапіла палову неба. Росы сплывалі з абмытых, нібы лакіраваных, дрэў.

Жанчына сядзела, абхапіўшы рукамі ногі і паклаўшы падбароддзе на калені. На ўлонні ў яе ляжала стрэльба.

— Прачнуўся самы далікатны, гжэчны і рыцарскі мужчына ў паднябеснай. Трубадур. Спявайце «Альбу».

Яна сказала гэта без ценю начнога гневу і ўзрушэння, спакойным, іранічным голасам. Нават вочы кпілі.

— Яны пакінулі на варце жанчыну і з пачуццём споўненага абавязку паляглі спаць.

— Я, здаецца, нікога не прасіў вартаваць. Нічога не здарылася. Прычын для геройства і самаахвярнага неспання не было.

— А можа, гэта мне было прыемна?

— Ахвотна веру.

На месцы іроніі з’явілася ў вачах сур’ёзнасць.

— Я змерала адлегласць між слядамі. Ведаючы яе, можна прыблізна меркаваць аб велічыні звера.

— Ну?.. — без асаблівай цікавасці сказаў ён.

— Котачка прыблізна метр семдзесят — метр восемдзесят ад носіка да кораня хвосціка. Маленькая, пяшчотная істотка. Ласкавы варкоцік гэтак кілаграмаў на семдзесят пяць. Пагладзіць мякенькай лапэткай — і здзярэ скальп аж да таго самага месца, якім думаюць некаторыя чалавекі, ідучы на яго з голымі рукамі.

Севярын засмяяўся.

— Ого! Я і не думаў, што жанчыны ўдатныя на такое красамоўства.

— Дарэчы, можа, хоча пан паглядзець на варкоціка ў натуры? Мо пан не верыць словам і хацеў бы памацаць? Ахвотна дам яму такую магчымасць. Зверык ужо колькі часу назірае за панам і толькі баіцца, як бы не парушыць салодкі сон пана раннім візітам.

Яна сунула Будрысу ў руку палявы бінокль.

— У-унечка там. Будзьце ласкавыя ўбачыць. Вунь восып. А трохі вышэй і лявей — скала. Дык вось на ёй. Страшэнна зацікаўлены. Асабістая глыбокая зацікаўленасць жыццём і здароўем пана.

Будрыс убачыў. Не адразу, але ўбачыў. А калі ўбачыў — крэкнуў.

...Стаяў і глядзеў, здаецца, проста яму ў вочы велічэзны, увесь у вузлах мускулаў пад ільснянай шкурай, гладкі і лянотна-грэблівы звер. Стаяў, як дасканалая статуя, і Севярын зразумеў, што Гражына не перабольшыла памераў коткі.

Плоскі, нібы спецыяльна для злоснай, жывёльнай думкі створаны, чэрап, нерухомыя ізумрудныя вочы, імклівай сілай налітае цела. Іржава-жоўты, вохрыста-аранжавы на баках і спіне, беласнежны на бруху магутны самец.

І на ўсім гэтым харастве, на ўсёй гэтай велікапышнасці — рэзкія чорныя плямы, радамі, як палосы ў тыгра. З бакоў, на лапах і на галаве — суцэльныя, буйныя або дробныя. На шыі, хвасце і спіне — вялізныя, кальцавыя.

— Праўда, пагладзіць хочацца? — пяшчотна і наіўна спытала жанчына. — Сімпатычныя такія разетачкі плямаў.

— Ух, чорт! Раскоша якая!

— Я не разумею гэтае раскошы. Не нападае на чалавека — і раптам напаў. Адчуўшы чалавека, уцякае, як ад смерці. На трыццаць крокаў да яго падкрасціся — рэдкае шчасце. І раптам — побач. І раптам... Я не ведаю, што гэта такое. І таму — баюся.

— Ну, даруйце, — прымірэнча сказаў мужчына. — Вы маеце рацыю. Я вам за гэта... Што я вам за гэта? Ага, вось...

Як быў у трусах, ён падскочыў і ўхапіўся за сук кедра. Падцягнуўся і кінуў цела яшчэ вышэй. І яшчэ і яшчэ. Як вавёрка.

— Куды вы?

— Кедр. Дрэва пазнання. Паколькі есці ягоныя плады тут таксама забаронена, я вам дастану вялікую галіну з шышкамі.

— Дзіця... Проста чорт ведае што... Яны ж, падаючы, абаб’юцца аб галіны.

— У мяне не абаб’юцца.

— Вар’ят, — ціха сказала яна.

А ён слізгаў вышэй і вышэй. І ўсё далей і далей было яму відаць. А пасля было так высока, што нават страшна. Метраў трыццаць ляцець да зямлі. І гнуцца, гнуцца галіны. А шышкі на самых іхніх канцах.

Ён аддзёр вялізны калматы сук з дзесяткам шышак, цяжкі, як камень, узяў яго ў зубы і асцярожна, часам прыціскаючыся да ствала, стаў спускацца.

Калі ён урэшце ступіў на зямлю — ногі трохі дрыжалі ад напружання. І ўсё, усё, ад грудзей і да ступакоў, было ў цёмных плямах жывіцы.

Падаў сваю ношу жанчыне:

— Вазьміце. Не трэба злавацца на мяне.

— Вар'ят, хлапчынка... Што ж цяпер рабіць? Бярыце газу, ідзіце на рэчку. Адмывайце смалу. Будзеце вось толькі сярод гэтага «добрарастварэння вaздухоў» газай смярдзець, як стары прымус.

— Нічога, — сказаў ён. — Ад мяне ў мінулым жыцці ўсяляк пахла. Праца такая.

— Ідзіце вы з гэтай працай. Мыйцеся, ды пойдзем расліны збіраць.

...Будрыс стаяў па пояс у вадзе, ужо адмыты, і слухаў, як яна кліча яго да вогнішча, снедаць.

Серабрылася раса, рэзка маляваліся ў неадчувальным паветры горы. Выдра непадалёку ад яго прачыкільгала да рэчкі, стралою ўвайшла ў крынічную ваду.

І над усім было панаванне зары, панаванне сонца, панаванне жыцця. І нават леапард быў гэтым жыццём.

І серабрыста, мілагучна вырушыліся над вадой чазеніі. І нельга было не думаць, што, можа, яшчэ не ўсё страчана ў жыцці, што яно можа яшчэ павярнуць на лепшае, што ёсць на зямлі надзея...

## XI
## НАЧНАЯ БАЛАДА ТРЫВОГІ, ПРАСПЯВАНАЯ БЛАКІТНАЙ ОРДЭНСКАЙ СТУЖКАЙ

І так яны хадзілі цэлы дзень. Танюткая постаць жанчыны. Вялікая постаць мужчыны. Белы цень лайкі. І яшчэ, недзе наводдаль, у нетрах, цьмяны і няўлоўны цень леапарда.

Цвіў вакол сіні аканіт, трава, што вырасла з атрутнай сліны пякельнага пса Цэрбера. Геракл утаймаваў яго, выцягнуў з пекла і павёў па зямлі, і там, дзе падала сліна, вырастаў аканіт, падобны на сінюю зяпу страшнага пса. І нельга было не падумаць аб тым, як далёка зайшоў Геракл, калі аканіт рос нават у Прымор'і.

І мужчына ішоў з сабакам, моцны і шыракаплечы, уладны і пераможны і сам падобны на Геракла. І часам са здзіўленнем, трывогай і неразуменнем глядзела на яго жанчына з чароўназменлівым, годным і мілым абліччам. А ён глядзеў на яе, на плаўную і прыгожую хаду, на моцныя ногі, што цвёрда неслі

ладнае цела, на залатыя валасы і сінія, як аканіт, вочы і п’янеў. Ад аканіту, ад хады, ад таго, што яна рабілася ўсё больш жаданай, ад таго, што яна была і будзе недасяжнай і чужой.

Кожная змена гэтага аблічча кідала яго ў бязмежна-пяшчотны трапяткі адчай. Ён не ведаў, чаму ён так позна прызнаўся сабе ў самым важлівым. І ён ведаў, што яна не можа не адчуваць заміранне мужчынскага сэрца побач з сабою. Не можа таму, што яны — як быццам адны на зямлі. Але ён ведаў яшчэ і тое, што ён не мае права нічога сказаць ёй.

Над ніпонскай папараццю, над дзікім перцам, над шалёным спляценнем заманіхі, араліі, даурскай крушыны, над язмінам і любкай мандарынскай, над залатымі кветкамі ястрабінкі — і самі залатыя ў промнях сонца — гудзелі, завіхаліся пчолы.

Як п’яная, кружылася галава. Можна было памерці ад адной нязмернасці жаданняў. Буяла вакол жыццё, і толькі жанчына, здавалася, не мела і не хацела мець да гэтага жыцця ніякага дачынення.

...І скончыўся дзень. І прыйшла ноч...

...Лавілі матылёў. Адну прасціну павесілі на сцяну хаткі, другую паклалі на зямлю. Уключылі рэфлектар. Ляцелі з ночы матылі. Часам нейкі трапляў у прыкрыты рэфлектар, і адтуль ляцеў залаты пылок. Пасля ён выбіраўся адтуль, сядаў на асветленую прасціну і чакаў. Іх было ўсё болей. Ляцелі, апускаліся на просціны цені. Жанчына выбірала сярод іх патрэбныя і асцярожна накрывала іх шырокім горлам марылкі.

Бясконца, да самай апошняй хвіліны ён мог бы глядзець на яе рухі. У кожным была ладная, гожая прыгажосць, маладая, жывая сіла жыцця.

Яна адчувала гэта. Яна аддалялася.

Імкнулі на святло соўкі, невыказнай пяшчотнасці вясёлкавыя маціцоўніцы, эльцызмы Вествудзі, падобныя на кветкі архідэй. Гіганцкія, фантастычныя па афарбоўцы хвалістыя павінавочкі-брамеі і павінавочкі-артэміды, такія пяшчотна-зялёныя, бранзаватыя, малахітавыя. Вялікія, часам з дэсертную талерку, яны трапяталі крыламі, аж нешта звінела і спявала ў паветры.

Вялізны матыль сеў на грудзі Севярыну і папоўз да ягонага аблічча, буйны, нібы ў кіно, аж спалохацца можна было. Пукатыя гіганцкія вочы адбівалі святло, гарэлі барвяным агнём.

Пачвара з фантастычнай невядомай планеты.

— Што гэта? — уражаны, спытаў Будрыс.

Шаўкавісты, шэры са срэбрам матыль сумна і адхілена сядзеў у цэнтры плямы святла. Такі самы абыякавы, як і гэтая жанчына, ад аднаго позірку на якую замірала і падала сэрца.

І раптам... варухнуліся верхнія крылы, разышліся, адкрыўшы ніжнія. І на гэтых ніжніх крылах неверагодным, фасфарычным ззяннем зайграла шырокая сіне-блакітная паласа. Нібы матыль адкрыў самую глыбокую сутнасць сваю.

— Што? — трывожна спытаў Будрыс.

— Блакітная ордэнская стужка... — ціха сказала яна.

— Як вы, — яшчэ цішэй сказаў мужчына.

Жанчына змоўчала. І толькі праз некалькі хвілін сказала:

— Не як я. Як жыццё. Тое, якое вы не навучыліся любіць. Вас вучылі, а вы не навучыліся, моцныя людзі. Куды, на што ўжываць вашую грубую сілу — гэтаму вы так і не навучыліся.

Ён не мог болей трываць. Ён ведаў, што гэтага нельга, немагчыма, і ўсё ж сарваўся. Зрабіў крок, убачыў спалоханыя вочы, абняў за тонкія гнуткія плечы, прыцягнуў да сябе і прыпаў вуснамі да яе вуснаў. Яна не супраціўлялася, яна замерла і — яму здалося на імгненне — нават адказала яму.

Мужчына бачыў бязвольна апушчаныя веі, адчуваў усю яе, нібы надламаную, постаць і прыпадаў да гэтых вуснаў усё больш і больш прагна, непрытомна ўсведамляючы, што гэта смяротнае шчасце і што гэта — канец.

Задыхнуўшыся, яна злёгку адштурхнула яго, хіснулася на нагах. Варухнуліся і замерлі вусны.

— Каб ніколі больш... — пасля паўзы глуха сказала яна. — Каб ніколі больш гэтага не было.

— Вы кагосьці кахаеце?

— Не, — усё больш прыходзячы да прытомнасці, сказала яна.

— Ну вось, — у яго перасела ў горле. — А я вас страшэнна шкадую. Вельмі кахаю...

— Так вось адразу?

— Так вось адразу, — проста сказаў ён. — Я ведаю, на што мне яна патрэбна, мая... грубая сіла. На тое, каб любіць, каго люблю, на тое, каб бараніць яе, калі гэта спатрэбіцца.

— Кіньце. Гэта не прынясе вам нічога, акрамя пакуты. Кіньце, пакуль не позна.

— Позна, — ціха сказаў ён. — Нашто вы кажаце такое?

— Вы ведаеце.

— Няўжо тая злашчасная размова? Дык як жа вы?..

— Яна... Не люблю «ўладароў», «пакарыцеляў», не люблю «гаспадароў жыцця». Гаспадарыце над гэтым няшчасным жыццём. Паны. Двухногае наканаванне. Эксперыментатары над жывым. Я... не магу глядзець на іх... На вас.

Змоўкла. Маўчаў і ён, апушчаны ў бездань самага безнадзейнага адчаю.

— Прабачце мне... Я нічога не магу даць вам. У вас і так усё ёсць. Вы добры, мілы, слаўны чалавек. Але вы моцны. У вас жорсткая, рацыяналісцкая справа, яна не церпіць хістанняў. І вы такі...

— Каб вы толькі ведалі, як вы памыляецеся.

— ...І што я магу даць вам са сваімі матылямі і травамі? Хіба што любоў да жыцця, якое яно ёсць?

— Не трэба, — амаль са стогнам выдыхнуў ён.

— Так, не трэба. Хадзем да вогнішча.

Яна згасіла рэфлектар. Стала цёмна. Толькі наводдаль цьмяна свяціліся ў попеле рэдкія вугольлі.

— А я без вас усё ж не магу, — упарта сказаў ён. — Вы гэта ведаеце. Сам не ведаю, калі гэта ўсё пачалося, але як толькі я зразумеў, што гэта такое, я зразумеў і тое, што я не магу без вас.

— Маўчыце, — сказала яна. — Маўчыце, калі ласка, дарагі.

Яны падышлі да вогнішча, і мужчына стаў ламаць лаўжы, калі жанчына прыгледзелася да чагосьці і ўскрыкнула.

— Што?

— След, — сказала яна.

На самым краі плешыны ад вогнішча выразна адпячатаўся ў попеле круглы, памерам з ліст гарлачыка, след кашэчай лапы. Звер ступіў сюды зусім нядаўна: след яшчэ курэў парай.

— Немагчыма. Гэта вар’ят. Як злы дух пасяліўся ў ім.

— Чаму?

— Разумееш, ён ступіў у гарачы попел... Гэта немагчыма! Такога не бывае ў свеце. Ніводны звер не пойдзе нават на пах чалавека, жалеза, дыму. Ён шалёны.

І адразу ж, нібы ў адказ на яе словы, з цемры вылецеў шалёны віск болю, рык, рыданні, лямант смяротна абражанай гіганцкай кошкі.

Замерла ўсё вакол. І ў гэтай дрыжачай ад жаху цішыні, на мяжы магчымага хрыпеў і рваўся вар’яцкі крык, у якім была, здавалася, уся абраза, уся журба і ўся помста свету.

— Я, здаецца, зараз заляплю яму, — праз зубы сказала жанчына.

— Нельга, — сказаў Будрыс. — Нельга страляць.

— І сапраўды нельга, — сказала яна. — Але нельга і заставацца ля вогнішча. Ён, мабыць, апёкся. Ён чорт ведае што можа вытварыць цяпер. Бярыце сабаку. Заходзьце ў хату. Сёння вы будзеце тут.

— Бадай што на гэты раз вы маеце рацыю, — сказаў ён.

Яны ўвайшлі ў хатку. Ціха шуснула запалка, кінуўшы цьмяны адбітак на тонкія пальцы і ўстрывожанае аблічча жанчыны.

Загарэлася газавая лямпа, і стала трохі святлей. У сляпым хворым святле бялеў між бярвенняў сценкі мох. Добрую палову хаты займалі грубыя нары з аполкаў. На нарах ляжалі варахі сена, прыкрытага радном. Пад столлю цягнуліся паліцы з нейкімі бляшанкамі і скруткамі. Злева ад дзвярэй была чыгунная печка, на ёй — вядро з бульбай і чайнік. Справа, пад адзіным акном, — вышараваны стол і лава.

Між сталом і нарамі стаяла скрыня. Мабыць, для прыпасаў. Каб не забралася часам нейкае звяр'ё ды не пагаспадарыла. На стале ляжаў вельмі патрапаны, пульхны «журнал наведванняў». І больш не было нічога.

Будрыс кінуў на нары коўдру і плашч.

— Кладзіцеся. Я адвярнуся.

— Зачыніце мацней дзверы. Гэты разбойнік ходзіць вакол.

«Разбойнік» сапраўды хадзіў вакол хаты, кашляў і хрыпеў і часам пачынаў лямантаваць ад гневу і крыўды.

Амур як адразу кінуўся пад нары, так і не вылазіў адтуль. Глядзеў, як з крэпасці. Севярын моцна зашчапіў кручок, усунуў у ручку дзвярэй лату і сеў ля стала, спіною да нараў. Разгарнуў «журнал».

Надпісы былі ўсялякія. Ад сур'ёзных да жартоўных.

«Бачыў усурыйскага трубканоса на мяжы ліяннікаў». Подпіс. Дата.

«Маша, ты сітаўка. Не трасі ўвесь час хвастом». Дата. Подпіс нечытэльны.

За спіною Севярын чуў шолах сукенкі, слабае патрэскванне дошак, шамаценне сена.

«Заўважыў арэхавага лістаеда непадалёк ад другога Іардона. Трэба брацца за справу, іначай не мінуць паўтарэння 1960 года».

«Цікава было б паглядзець, як адчувалі б сябе Вася і Алена, каб ім пашанцавала сесці на гняздо земляной асы».

«Дуб ты, Пятро».

«Знайшоў дравеснага рэліктавага таракана. Лічу, што жывародны. Прасачыць за раёнам на поўнач ад Мёртвай крыніцы».

«Студэнты-практыканты, не крыўдзіце полазаў Шрэнка. Яны — удавы, а значыцца, сваякі вам».

«Радачка, прыгожы, малады мірміколаг! Ці такім ручкам займацца з мурашкамі? Цалую іх». Подпіс нечытэльны.

«Мурашак ці рукі?»

«Рукі, ды толькі не твае, зялёная кваква».

Нясцерпны сум сціснуў ягонае сэрца. Вясёлыя, маладыя, з цвёрдай надзеяй на шчасце, мудра-легкаважныя. Усё перад імі. Чаму так не шанцуе яму?

— Можаце класціся, — ціха сказала жанчына.

Севярын азірнуўся. Яна ляжала ля супрацьлеглай сценкі. Цёмныя вочы глядзяць у столь, голыя рукі на коўдры. Вусны цвёрда сціснутыя. Будрыс сумна ўсміхнуўся, сустрэўшы на хвіліну яе дапытлівы, дзіўны позірк. Нібы на хвіліну яна ўсё-ўсё ў ім зразумела, а пасля адвяла зрэнкі.

Сціснула сэрца. Адчуваючы, што ўсё скончана, ён дзьмухнуў на лямпу, забраўся на нары і лёг на спіну, закінуўшы рукі за галаву. Цёмнае акно ў хатцы пасвятлела. Як густая сажа, чарнеў змрок.

Мужчына ляжаў і бяссонна глядзеў у яго, нібы спадзяваўся нешта ўбачыць.

## XII
## ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ

Уначы, недзе далёка ў нетрах, крычалі і хрыпелі касулі. Здавалася, што гэта яны не даюць спаць. Крык іхні быў вельмі падобны на рык тыгра, нават дзіўна было, што такое пяшчотнае стварэнне можа вытаргаць гэткія гукі.

І хадзіў, хадзіў, коламі хадзіў вакол лясной хаткі леапард. Зрэдку рыкаў. На нешта чакаў у глухой цемры.

Будрыс адчуваў, што яна не спіць. Адтуль, дзе ляжала яна, не далятала і шолаху, але ён быў упэўнены, што яна не спіць і ведае таксама, што не спіць і ён. Усё ж трэба было легчы ля вогнішча. Ля вялікага вогнішча. Амур хай сабе ў хаце, а ён — ля вогнішча. У хатцы вельмі горача. А там ноч, цішыня, зоры. Чорт з ім, з гэтым вар'ятам-леапардам. Нічога б не зрабілася. Стрэльбу пад бок — і ўсё.

Не спіць. Ёй было б спакайней, каб ён быў ля вогнішча. Заснула б. Спала б спакойна і назаўтра ўстала б насустрач зары, насустрач джунглям, насустрач умытаму сонцу.

Будзь спакойная, дзяўчына. Будзь спакойны, чалавек. Будзь спакойная, чазенія.

Усё вярнулася на кругі свая. Жыві добра. Смяротна шкада, што атрымалася так. Нічога, хай сабе ўсё застаецца так, як яно здарылася. Заўтра ён пойдзе. Яны ніколі больш не ўбачацца. Яна будзе тут. Будуць лётаць начныя матылі, крочыць звярынымі сцежкамі ізюбры, трапятаць на ветры празрыстыя чазеніі.

А ён паедзе да сябе. Скажа шэфу, што не трэба яму гэтага «вяртання да прыроды», што чхаць ён на гэтае вяртанне хацеў. Будзе добра з галавою — хай будзе добра. А не, дык і не. Яму ўсё адно. Хай шэф дае работу. Чым горш, тым лепш. Чаго там асабліва распускацца?

Ён уявіў знаёмыя будынкі. Кафэ, у якім хлопцы спрачаюцца вечарамі. Круглую крэпасць сінхрафазатрона.

Чорт, абрыдла яму гэтае «апрашчэнне», «прымітыўнае і здаровае жыццё», «здаровая, першабытная простасць нораваў». Добрая простасць! Нідзе ён і думаць не мог убачыць гэткую складанасць. Гары яно ўсё ясным гарам.

...Вось ён прыходзіць у будынак сінхрафазатрона... Кальцо з двух велічэзных самкнутых магнітаў... Святло пультаў... Людзі ў белым. Звыклая, разумная работа. Сходкамі, як віядукам, можна прайсці над металічным гмахам і... спусціцца ўнутр... кальца.

Рык леапарда?.. Ды не, проста зараўла сірэна. Папярэджвае, што вось пачнуцца доследы. Правільна, якраз дзве гадзіны.

Заміргалі лямпы. Бог ты мой, хіба ён глухі, што патрэбен і сігнал святлом?!

Але ж бываюць і глухія. Усё прадумана.

Ён не рухаецца з месца, нібы ўсё гэта яго не датычыцца. Голас з дынаміка:

— Грамадзяне, просім пакінуць будынак... просім пакінуць будынак. Пачынаецца змена... пачынаецца змена.

Зноў сірэна. Зноў папярэджанне з дынамікаў. Ідуць людзі ў белым, аглядаючы памяшканне, ці не застаўся хто выпадкова. Забаўна, што яны не бачаць яго. Праходзяць паўз яго. Мінаюць.

Але вось яны абышлі ўсё. Нікога не знайшлі ў велічэзным, велічынёю са шматпавярховы дом, кальцы.

Падымаюцца па сходках. Яго так і не заўважылі. Цяпер трэба асцярожна пайсці за імі. Вось здзівяцца...

Ён хоча ісці і не можа скрануцца з месца... Ногі нібы адабрала. Ногі нібы прыкіпелі да падлогі.

А людзі ўжо ўзняліся па сходках, ідуць, вось-вось пачнуць спускацца на другі бок.

Толькі тут Севярын зразумеў, што зараз адбудзецца. Успомніў і жахнуўся. Такога ніколі не было, каб нехта застаўся ў сінхрафазатроне, такога не магло быць, але такое ўсё ж адбылося з ім.

Неймаверным намаганнем волі ён адарваў ногі ад зямлі і скачкамі кінуўся да сходкаў. Толькі б хутчэй, хутчэй!.. Узляцеў на мосцік, прабег па ім, загрукатаў уніз. І... запнуўся, бо проста перад ім цяжка зачыніліся масіўныя дзверы, адрэзаўшы ад святла, ад людзей, ад забытай недзе далёка танюткай сінявокай жанчыны... адрэзаўшы ад жыцця.

Крычаць было дарэмна. Яго не маглі пачуць. Ён ведаў: за гэтымі першымі дзвярыма з грукатам зачыняюцца іншыя, трывожна міргаюць над імі барвяныя табло.

Не падыходзьце! Небяспека! За дзвярыма смерць!

...Чырвонае святло выбухнула недзе ў адной кропцы, пачало снапамі выстрэльваць у яго бок. І апошнім праблескам думкі ён убачыў дзівосную праяву...

...Недзе над празрыстай ручаінай, у невядомым краі, у моры сонечнага святла хісталася, любоўна шапацела перыстая чазенія, шчасце, каханне, забытае дзеля смерці, у далёкім зялёным раі, між цёплых гор.

...І выбухнуў барвяны, крывавы змрок. І ў гэтым полымі ляцелі проста на яго незлічоныя чароды безгаловых ізюбраў.

...І тады ўрэшце прарэзаўся, вызвалена вырваўся на волю крык. Крык пагібелі і крык нараджэння, нямы, нібыта гінула сама зямля.

...Ноч. Чарнільны змрок хаткі. За акном — цьмяная пляма дагараючага вогнішча.

— Што ты? Што ты? Што з табой?!

Яшчэ без усведамлення явы, з крыкам, што згасаў у глотцы і заміраў на вуснах, яшчэ ўвесь на шляху акрываўленых безгаловых праяў, ён адчуў далоні на сваіх плячах і шаўкавісты дотык валасоў да шчакі.

— Сінхра... — непрытомна душыўся ён, — замкнулі... Беглі безгаловыя ізюбры...

— Што ты... ціха... ну, ціха, — усеўладным шэптам казала яна. — Я ведаю...

Тонкія далоні слізганулі пад ягоныя плечы, пачалі пагойдваць.

— Табе было страшэнна цяжка? Ну кінь, кінь. Не звяртай увагі. Я памылілася. Я — дурніца. Усё зусім, зусім не так.

Кашмар урэшце пачаў адыходзіць. Знікалі апошнія яго цені. І тады мужчына зразумеў, дзе ён і што з ім. Працягнуў у цемру рукі, абхапіў далонямі яе плечы, мякка прыцягнуў да сябе. Дрыжыкі прабеглі па яго целе.

— Хлопчык мой, бедны мой «уладар»...

Прыціснуўшы галаву жанчыны да сваіх грудзей, ён гладзіў яе цёплыя валасы і плечы.

— Як ты магла?.. Няўжо не бачыла?.. Усё гэта было іначай, зусім іначай. І я кахаю цябе.

— Я ведаю... Ведаю. Ты даруй. Як у цябе сэрца стукае. Хлопчык мой. Любы мой.

Цалавала яго. І ён таксама, амаль у непрытомнасці, лавіў вуснамі яе вусны, вочы і бровы. Ніколі ў жыцці не было пачуцця такой еднасці, такой блізкасці і такога шчасця. І ён ведаў: ніколі не будзе.

Цвёрдасць грудзей, пяшчота цела, гарачыня вуснаў у змроку. Сэрца адрывалася і падала-падала некуды ў захапленні, у лікуючай радасці чакання.

Уся тут, побач, і давеку, яна была, як тое, чаго ніколі не чакаў на зямлі і што спраўдзілася на ёй. Вакол была ноч, але тут была Яна. Злачынствам было хоць калі-небудзь выпусціць яе са злітых абдымкаў. Менавіта таму, што вакол была ноч.

Моцныя плечы, дасканалыя, як кветкі, сцябліны рук — усё поўніла яго адчуваннем нязнанага шчасця. Яе імкненне быць бліжэй да яго, пакора вуснаў, адданасць абдоймаў, мяккая пяшчота і сіла...

— Са мной, — глуха сказаў ён. — Вось так. Назаўсёды...

— Так... Я не хачу... Я не хачу мучыць цябе.

Ноч няспешна кацілася над акіянам вады, над астравамі, над сейнерам у моры, над скаламі, над паддзю, заціснутай між гор, над бяссоннай рэчкай, над хаткай, што прыціснулася да берага, над дваіма, што бяссонна ляжалі ў ёй і не хацелі зары.

— Дурная дзяўчынка, — зрываўся ад пяшчоты і ўдзячнасці шэпт. — Дурная... Давеку мая цяпер. Мілая. Які доўгі быў шлях. Як я цяпер удзячны лёсу, што доўгі... што скончыўся. Якое шчасце, што ніколі не скончыцца.

— Ціха. Мне так добра з табою. Мне аж страшна. Маўчы.

Яны ляжалі, шчыльна прыціснуўшыся адно да аднаго, і слухалі тайгу.

Хрыпла крычалі недзе ў гарах касулі. Укрытае попелам згасання, цьмяна памірала вогнішча.

Недзе вакол хаты, часам глуха рыкаючы, хадзіў леапард. Звыклы да лёгкіх перамог у тых мясцінах, адкуль прыйшоў, ашалелы вар'ят, які і тут не бачыў адпору, ён хадзіў і рабіўся ўсё больш нахабным, бо не мог зразумець святасці гэтага месца. Тут не стралялі. Тут не было кары. І таму ён, відаць, лічыў дабрыню і высакароднасць чалавечую за слабасць і ўніклівасць. І таму хадзіў, часам разрываючы рыкам ноч.

«Дрыжаць ля вогнішча. Дрыжаць у хатах. Гр-р-р. Безвалосыя, пяшчотныя, слабыя... Кх... кх... грр... ммру... грр... Выходзьце, смачныя».

— Які гэта жах — быць, як ён, — ціха сказала яна.

І мужчына, невыносна-моцна абняўшы яе, прыпаў вуснамі да яе вуснаў.

...Недзе вакол хаты гойсаў леапард.

## XIII
## ОДА СОНЦУ

Пасадзіўшы жанчыну на плячо, ён нёс яе цераз рэчку, а пасля ўгору, на спадзісты, шумна-зялёны ад траваў адхон. Ён мог так несці яе вечна.

Сонца ўставала за гарамі. Рукі жанчыны, якія ён трымаў у сваіх, былі ад ягоных прамянёў медныя.

Яе ён мог несці вечна. Нейкая вызваленая, нованароджаная сіла перапаўняла ягоныя рукі, плечы, якім было так лёгка, нібы крылы выраслі на іх, мускулы грудзей, што дыхалі, як кавальскі мех.

Лёгкія аж распірала ад духмянага, густога ветру з джунгляў, ад празрыста-халаднаватага павеву з гор. І сталёва, нястомна спружынілі ногі, несучы яго і яе насустрач сонцу.

— Пусці. Стомішся.

— Я? — Ён пабег угару, і Амур, які не без падстаў меркаваў, што гаспадар з'ехаў з розуму, і ўвогуле ўхваляў гэты новы стан, з вясёлым рыкам кінуўся за ім, робячы выгляд, што хоча хапаць яго за пяткі.

— Пусці.

Замест адказу ён падкінуў яе высока. І яшчэ. І яшчэ раз.

— Сонца! Сонейка! На!

— Ну пусці, ну калі ласка.

— Выкуп. Самы моцны пацалунак на свеце. — Ён спаймаў яе і трымаў на ўзнятых руках.

Зверху, з блакіту, яна глядзела на яго дзіўнымі, суцішанымі вачыма. Бачыла растрапаную чупрыну, бліскучыя вочы, ашчэраны белазубы рот.

— Я сама. — Яна сціснулася ў яго руках, заплюшчыла вочы і асцярожна дакранулася вуснамі да яго рота.

Дзіўнае пачуццё сваёй безабароннасці і адначасова сваёй улады над ім поўніла яе сэрца, нясцерпна гарнула да яго, нараджаючы пачуццё адданасці і ціхай пакоры.

«Вялікі свойскі звер. Накшталт слана ці ручнога мядзведзя. Нязмерны сілаю, мог бы зрабіць усё, што хацеў, толькі баіцца сваёй сілы, шкадуе, слухаецца аднаго позірку. І правільна. Хіба я не ягоная?»

Ішлі сцежкай. Вялікія, на метр вышынёй, стаялі на дрэвах дуплянкі.

— Дзеля каго?

— Дзеля самых прыгожых на свеце птушак. Дзеля качак-мандарынак... Пацалуй мяне.

— А хто-то, блакітны, лётае над чазеніямі?

— Сіні салавей... Пацалуй мяне.

Яна нібы не магла напіцца сонцам і яго блізкасцю.

Чароўна, велікапышна спяваў лясны каменны дрозд сваю апошнюю ў гэтым леце песню. Флейтай свісцеў у разнатраўі кітайскі чорнагаловы гівал.

— І ўсё ж тайга амаль маўчыць, — сказала яна. — Паслухаў бы ты яе ў маі. Пусцее ўсё. Нават даурскія ластаўкі цягнуць на поўдзень.

Маленькая шэрая птушка пырхала перад імі.

— А гэтая?

— Усходнеазіяцкая соўка. Лі-у. Яна чараўніца. Адводзіць шукальнікаў ад жэньшэня.

— То чаго яна нас адводзіць? Хіба мы ідзём на жэньшэнь?

— Хочаш? — раптоўна захапіўшыся, сказала яна. — Я ведаю дзе. Колькі хочаш пакажу табе.

— Хачу, — сказаў ён.

— Вось гэта пачынаюцца яго сваякі. Аралієвыя. Элеўтэракок. Аралія кантынентальная. Унь чорныя ягады разам — гэта акантапанакс скупчанацветны. А унь то — заманіха, лістота, як вінаград. Лацінскае імя ў яе прыгожае: эхінапанакс элятум накаі.

— Столькі ведаеш, што страшна цалаваць цябе. — Ён пацалаваў.

Яны ішлі і разважаліся тым, што прыдумвалі адно аднаму новыя прафесіі.

— Намміністра сельскай гаспадаркі па пагалоўі чорных махаонаў.

— Прадстаўнік леапардавых інтарэсаў у ААН.

— Пажыццёвы старшыня вялікай лігі суфражыстак-антыфізікаў.

— Сіняя барада ў касмічным маштабе. Вялікі пажырацель жанчын.

Севярын зарагатаў:

— Хіба гэта прафесія? Гэта лаянка.

— Ну і атрымай.

Ён ішоў і любаваўся ёю. Невядома, па якіх прыкметах знаходзіць нейкія травы, схіляецца і асцярожна выкопвае з коранем. Шукае. Працуе.

...Схіляецца, напружваюцца моцныя, стройныя ногі, выгінаецца, як лук, тонкая паясніца, падаюць валасы, і яна падбірае іх тыльным бокам кісці, адвечным і ўсё ж толькі сваім рухам. Вечна, вечна глядзець...

І ён глядзеў. Глядзеў так, што яна раз-пораз падымала на яго пастражэлыя вочы. Сінія, яны ў такія імгненні цямнелі.

«Стаіш, — думала яна. — І немагчыма пайсці ад цябе з тваёй чыстай цэльнасцю і сілай. Хіба ўцячы? Не хочацца. Немагчыма. Нельга абразіць цябе за гэтую тваю наіўнасць, дзякуючы якой ты нічога, нічога не зразумеў. І зараз не разумееш, не прадчуваеш. Нельга так адразу, не аддаўшы ўсяго. Божа мой, увесь залаты ад гэтага сонца, увесь раскрыты насустрач яму і мне. Як хутка ты акрыяў! І я зраблю так, каб ты назаўсёды застаўся такі, любы мой, добры, харошы».

Яны падымаліся да нагор'яў. Уначы тут, відаць, было халадней, і таму траплялася болей вінна-чырвонай, іржавай, палымянай, лілаватай і пяшчотна-залатой лістоты. Але цяпер гарачыня і задуха панавалі над светам, і павявала з нетраў нейкім праным, дзівосным, нетутэйшым водарам.

— Ліяны пахнуць, — сказала яна. — Джунглі.

Яны ішлі да гэтых джунгляў праз паляны, на якіх сярод белага дня зіхацеў месячны бляск, блакітны, срэбны, таемны. Гэта варушыліся серабрыстыя султаны міскантуса чырванеючага. Без краю дрыжала на палях месячнае мора.

...У раптоўным, амаль вячэрнім цяні ад сопак насунуліся джунглі.

І гэта сапраўды былі джунглі, а ніяк не тайга.

Саракаметровыя калоны дрэў, змрок і буралом, рэдкія плямы святла, буяны, дзікі падлесак. Чорныя, сабраныя ў шары,

плады элеўтэракока, медная лістота вінаграду, шызаватыя, нібы запацелыя, гроны яго.

Вежы дрэў. І на іх вісяць, аплятаюць, душаць, шалушацца, як маладая сасновая галіна, тоўстыя, са сцягно дарослага чалавека, удавы ліян.

Усё заблытана імі, усё перавіта. Змеі, змеі, бясконцыя дравесныя змеі. Падымаюцца да вяршынь, перапаўзаюць на суседнія, звешваюцца. І ліянная лістота драбніцца толькі ў самых верхавінах лясных волатаў.

Перахопліваюць святло, сціскаюць, уюцца, плятуць. Часам забіваюць. Унь стаіць сухі аксаміт. А там сухі кедр. Цягнецца, цягнецца да сонца актынідыя з мядова-салодкімі пладамі. Цягніся, ліяна, ніхто не будзе ссякаць цябе, каб адабраць плады, калі ўпадзеш на зямлю, і кінуць, абабраўшы.

Папарацейкі-эпіфіты раслі ў трэшчынах кары, сакавіта зелянелі ў плямах святла. Пунсавелі на ліянах лімонніку гроны ягад.

На ствалах зваленых гіганцкіх кедраў раслі падушкі нейкіх дзіўных грыбоў. Пяшчотнейшыя, белыя і слаба-ружовыя, галіністыя, як каралы, і такія самыя ювелірныя на выгляд.

— Зрэж іх, — сказала жанчына.

— Нельга.

— Можна. Хутка халады.

— А нашто?

— Будзе вячэра, як у імператара. Гэта рагацікі, або кітайская лапша. Дзеля іх загубілі больш кедраў, чым на пабудову гарадоў. У Кітаі яны каштавалі ледзь не на вагу золата. І вось з-за мяжы прыходзілі кітайскія арцелі, валілі самыя тоўстыя дрэвы — чым старэй, чым таўсцей, тым лепей, даўжэй гнісці будзе, больш гадоў будзе існаваць плантацыя — і, як драўніна закісала, падсаджвалі на яе грыбніцу вось гэтых грыбоў, а яшчэ ільмавікоў і мядзведжага вуха. Пасля, праз год, прыходзілі і збіралі.

Будрыс асцярожна збіраў грыбы. Прахалодныя, з дзівосным пахам грыбной сырасці, як у баравікоў. Гражына разграбала кіем траву, шукаючы нешта.

— Слухай, — ціха сказаў ён. — Знаеш, што я ўспомню, як мы будзем старыя? Праз тысячу год.

— Ну?

— Вось гэта. Цябе ў гэтых джунглях. Змеі ліянаў. Вінаград. Каралы рагацікаў.

— Я ведаю. Я таксама.

...Рэчка сплывала са скалы ў глыбокую вадабойную чашу, свежым струмком падала на іхнія галовы, зіхацела вясёлкавымі кроплямі на гарачых ад сонца плячах. Яны ляжалі, успёршыся грудзьмі на край чашы, і цягнулі рукі, стараючыся спаймаць за вушы сабаку, які ўладкаваўся прыступкай ніжэй, таксама ў чашы, ляжаў раскошна, адзін. Амур лянiва агрызаўся. Яму таксама было добра.

Схіляліся да іх зялёныя, непралазныя сцены дрэў, і ліяны спускаліся з іх і варушылі пабегамі над галовамі людзей, нібы хацелі спаймаць.

...Пасля яна павяла яго ў бок ад вадаспадаў, у самыя нетры ліяннікаў.

— Тут, здаецца. Скідай рукзак. І стрэльбу. Хадзем.

Адышла крокі на тры і стала пад маньчжурскім арэхам, над густой травяной зарасцю.

— Нічога не бачыш?

— Не.

— Тады заплюшчы на хвіліну вочы. І думай пра нешта добрае. Сюды нельга прыходзіць са злом у сэрцы.

— Буду думаць пра цябе.

Ён стаяў і ўспамінаў начную хатку, шум дрэў і яе вусны.

— Глядзі, — ціха сказала яна.

Папараць і іншае былі адгорнуты ў бакі. І на вызваленым месцы стаяла кволая, нявідная, але ў чымсьці страшэнна значная раслінка з прамым сцяблом і вытанчанымі пяціпалымі лісцікамі.

— Ён?

І яна, чамусьці шэптам, адказала:

— Ён. Не дыхай. Ён такі далікатны, што можа памерці і ад гэтага.

— Чаму?

— Бо ён усю сілу запасіць у корані. Таксама для іншых. Вось калі ты перастанеш мяне кахаць — прыйдзі сюды, адшукай месца і зрабі адзінае злачынства. Украдзь яго. Ён будзе тады вялікі, мудры корань, стары. І ўсё вернецца: рэчка, і верасень, і чазеніі.

— Я не буду яго красці. Я ніколі не перастану цябе кахаць.

— Не трэба так, — устрывожана сказала яна. — Не прымушай мяне шкадаваць аб многіх учынках.

— Табе няма аб чым шкадаваць.

Яны сядзелі каля расліны. Плячо ў плячо.

— Чакай, я прыкрыю яго ад сонца. Прамыя праменні таксама забіваюць яго. Далікатны. Як само каханне.

Спляла над ім травы.

— І давай адыдзем. Цяпер ты ўсё адно бачыш яго? І ў траве?

— Цяпер бачу.

— Адыдзем. Можа, яму і позіркі шкодзяць.

Жэньшэнь стаяў за некалькі крокаў ад іх. Старажытны, пяшчотны, добры. І яны ляглі ў траву і глядзелі на яго.

— Хай расце, — сказала яна, кладучы галаву яму на руку. — Дзіўна... Ніколі не было такога спакою. І так добра не было. Аж страшна, што ніколі больш не будзе. А раптам ніколі?

— Ты што? — Ён рыўком прыцягнуў яе да сябе. — Ты што, хочаш, каб я памёр?

Стракатай сенню беглі па іх сонца і цень. Віліся, звіваліся вакол іх джунглі. Дыханне іх было, як подых жанчыны ля яго вуснаў.

— Бяссмерце ёсць? — спытала яна.

— Ёсць. Бо я кахаю цябе.

— Самае дзіўнае, што я цябе таксама кахаю. Учора яшчэ і не думала. Так проста, добра было сядзець з табой. А пасля ты пацалаваў мяне. І як абудзіў. Пасля я зразумела тваю безабароннасць, дзікі ты мой, немагчымы.

Гладзіла яго па галаве.

— Ведала, што нічога добрага з гэтага не атрымаецца. І не магла ўстрымацца. Сніла гэтыя твае валасы, вочы, вусны, рукі... Дурны, шалёны браканьер. Хачу, каб ты вечна думаў пра мяне, каб гэта ніколі не прайшло.

— Ніколі не пройдзе.

— Каб жа ж гэта так...

У гэтых цёмна-сініх вачах жыў такі незразумелы боль і такое каханне, што Будрыс увесь здрыгануўся ад шкадобы, замілавання, жадання бараніць.

— Ты, маленькая, ты... Што гэта ты гаворыш?!

— Я проста ведаю. Я не перанясу гэтага.

— І не трэба табе будзе гэта пераносіць. — Ён пацалаваў яе вочы.

— Так я і зраблю... Бог ты мой, дурны, мілы. Сядзеў сёння пад гэтым вадаспадам, як Адам пасля грэхападзення. Грэшны, дурнаваты, сам яшчэ не ўразумеў, што здарылася... Самы дарагі.

У словах яе, у голасе, у выразе вачэй і дотыках рукі быў як нейкі гіпноз. Быццам сама сіла жыцця пералівалася з яе ў яго.

— Павер, нічога, нічога такога страшнага больш з табою не будзе. Я табе кажу. Вер.

Усё гэта, занадта вялікае, трывожыла яго.

Але ва ўсім гэтым было і ўмацаванне яго вялікай, шчаслівай блізкасці да гэтай жанчыны, да ягонай, да адзінай жанчыны.

Яна раптам прынікла да яго, нібы шукаючы паратунку.

— Страшна. Я, здаецца, і хвіліны не магу без цябе. Як жа гэта будзе цяпер?

Віліся, спляталіся, сціскалі дрэвы гіганцкія змеі ліянаў.

Звівалі шацёр над маленькімі лапкамі жэньшэня, невыносна душылі кедры.

Але яшчэ больш невыносныя, яшчэ больш смяротныя — нібы гэта было апошні раз у жыцці — былі іхнія абдоймы.

Пяшчотныя ў сіле сваёй, як само жыццё, неразрыўныя, як звод неба над вечным лонам зямлі.

## XIV
## БАЛАДА ПРА ЛЕАПАРДА БЕЗ ІМЯ І ПРА БЕЛУЮ ЛАЙКУ, ІМЯ ЯКОЙ — АМУР

Пасля вячэры яны не спяшаліся ісці ў хату. Было душна, а тут, знадворку, хаця можна было дыхаць.

— А вось возьмем ды ўсю ноч і праляжым тут, — сказала яна.

Ён кіўнуў галавою.

— Калі не спаць, то тут лепей.

— Там задыхнуцца можна. А калі дзверы адчыніш, то бандзюга той хіба пасаромеецца і ў хату залезці?

Севярын моўчкі згадзіўся. У душы ён баяўся паўтарэння начных кашмараў. А раптам — зноў? Раптам не памаглі яе словы, вочы, дотыкі? Але ўголас ён сказаў:

— Тут, прынамсі, вогнішча ў тваіх вачах адбіваецца. І зоры.

— Я табе пакажу... зоры. Пірат!

Будрыс засмяяўся.

— А ён сёння возьме ды не прыйдзе, — сказала яна. — Абрыдла вось яму, ды і ўсё. А калі і прыйдзе — ты яго заб’еш. Такога — можна, раз ён знахабіўся ды людзей пільнуе.

— Забіць? Яго? Ды ты што?! Я каго хочаш заб’ю, толькі не яго.

Ён нізавошта не забіў бы цяпер гэтага леапарда.

— Я разумею, — сказала яна. — Гэта леапард звёў нас, праўда?

— Праўда. Зрабіў з нас адно.

І гэта было так. Смерць, што хадзіла навокал па джунглях, нечакана нарадзіла каханне, жыццё. Магчыма, уратавала ад усяго цёмнага, што вартуе чалавека, што столькі часу стаяла і чакала, пакуль ён, надломлены, упадзе.

...Яны ляглі каля вогнішча. Тое зырка шугала ўгору, жэрла галіны, сушняк, лаўжы. Але яны нарыхтавалі вялікую гару паліва, хапіла б і на дзве ночы.

Чырвань разлівалася па ствалах і кронах дрэў. Часам у гэтай барве высока над зямлёй ляцелі вавёркі-ляцягі. Планіравалі, мянялі свой паветраны шлях. Нешта цягнула іх да вогнішча, і яны, павіснуўшы на ствале дрэва або апусціўшыся на сук, камянелі. Вялізныя, чорныя з чырвонай іскрачкай — ад агню — вочы цікаўна разглядалі дваіх незразумелых, што прымасціліся ўнізе, ля дзівоснага жоўта-чырвонага жывога хмыза.

Варта было варухнуцца, і звярок паводзіў круглай тупаносай галоўкай, зрываўся з месца і ляцеў у змрок.

Яны ляжалі і гаварылі аб зорах. Паступова размова згасла. Моўчкі ляжаць было лепей. Ляжаць і адчуваць цеплыню побач, адчуваць рукою плячо, адчуваць сэрцам усёпранікальны спакой зорнага неба, джунгляў, кедраў, гор, агню, усёй зямлі, якая да апошняй жылкі належала ім. Яму і той, што была поруч. Не было нічога лепей за яе і за гэтую ноч і гэты свет.

Ён раптам адчуў спіною нейкі трывожны холад. Не гук, не пах, не струмень паветра, а менавіта нешта нематэрыяльнае. Як быццам нехта глядзеў яму ў патыліцу.

Мужчына скасіў вочы і зірнуў у той бок. Там нікога не было. Трапяткая мяжа барвы і цямноцця. Аніякага прызнаку чагосьці жывога.

«Што такое?» — вачыма спытала яна.

«Не ведаю», — таксама вачыма адказаў ён.

Трывога не праходзіла. Нейкі інстынкт прысутнасці, які, мабыць, быў у вышэйшай ступені ўласцівы напаўдзікім продкам і які аднавіўся ў яго за гэтыя дні.

Пляма святла звужалася. Севярын ляжаў, увесь унутрана напружаны. Прадчуванне паступова мацнела. Чалавек ужо нібы скурай ведаў, што нехта стаіць у цемры, што гэты нехта плаўна, як човен па вадзе, пасоўваецца да яго і як быццам зусім не варушыць членамі.

— Леапард!!!

І той нібы адказаў з цемры тым самым словам, захлынуўся, а пасля рыкнуў:

— Кх... леа-паррд!!!

На імгненне ўспыхнула вогнішча, і чалавек убачыў пляскатую галаву і злосную морду звера амаль ля самага агню.

Чалавеку было б нездабраваць, каб на пачвару не кінуўся Амур. Морду ў морду і зубы ў зубы.

Рык, хрыпенне. Два целы, што звіліся на траве. Белае і плямістае, ільснянае, усё ў пералівах мускулаў.

Віск, хрыпенне, рык, басавітае вуркатанне.

Велізарная пачварная кошка не паспела схапіць і пацягнуць сабаку. Будрыс выхапіў з полымя галавешку і шпурнуў яе ў звера. Узляцеў фантан іскраў, засмярдзела паленым. Дэманскі лямант раздзёр ноч... Гэта было неверагодна, але кошка не спалохалася агню, не адскочыла, не адказала нічым, акрамя рыку. І тады чалавек копнуў яе страшэнным выспяткам ніжэй мяккага азадка.

Звіўшыся ў клубок, леапард узвіўся ўгору, як мяч, закалаціўся ў паветры з шалёным екатаннем і рыкам, што рвалі, здаецца, барабанныя перапонкі.

Ён зваліў бы мужчыну з ног, але Амур паспеў учапіцца яму ў азадак, ірвануць і асадзіць на зямлю. Чалавек толькі на імгненне адчуў на твары павеў смуроднага дыхання, а адурэлая пачвара ўжо зноў кінулася на пса, насела на яго.

Гарлавым, страшным крыкам закрычала жанчына. Але чалавек ужо таксама быў звер. Нешта цёмнае, неразважлівае плесканулася з самых глыбіняў, калі ён пачуў гэты крык. Ён не баяўся, не разважаў, не думаў, ён адчуваў толькі чырвоны туман у вачах і салоны смак крыві ў роце.

Схапіўшы крывую цяжкую ламачыну, ён грудзьмі, жыватом, усім цяжарам свайго цела ўпаў на спіну леапарду, з дзікім сладастрасцем, скручанымі пальцамі левай рукі, захапіў і выкруціў шаўкавісты карак, а правай, у якой была доўбня, абрушыў на плоскую галаву звера скрышальны ўдар. І яшчэ адзін, з нечаканай, радаснай дрыготай. І яшчэ...

У гэты момант бабухнулі ў неба два снапы агню, два перуны.

Леапард, увесь абмяклы, выслізнуў з-пад чалавека і, падаючы, асядаючы, прынікаючы аслепленай галавою да зямлі, пакаціўся прэч ад агню, у цёмны начны лес.

Чалавек узняўся на ногі і кінуўся быў за ім, але стрымаўся, кінуўшы позірк на жанчыну. Уся збялелая, яна амаль непрытомна стаяла ля агню, і два ствалы дымелі ў яе руках.

І тады ён адчуў, што зубы ў яго выскалены, убачыў, што ўвесь ён заліты крывёй. Апусціўшы вочы, ён з цяжкасцю расціснуў пальцы і кінуў доўбню ў агонь.

— Прабач, — хрыпата сказаў ён. — Я не здолеў вытрымаць, калі ты закрычала. Я нібы адурэў.

— Ён параніў цябе? — варухнула белымі вуснамі яна.

— Не, гэта, напэўна, ягоная кроў.

— Я стрэліла б у яго, каб ты... раптам... не насеў... Божа, я і тут ледзь не стрэліла... О-о...

— Ясна, — назнарок грубавата сказаў ён. — Кожны разгубіўся б. Паглядзі, як там сабака.

Жанчына схілілася над Амурам, які, дрыжучы, залізваў раны.

— Кіпцюрамі падзёр. Досыць моцна, але, па-мойму, нічога. На плячы след зубоў. Трохі вышэй — і сонная артэрыя была б.

— Дастань перакіс для пляча. Астатняе сам заліжа.

Яны рухаліся машынальна, бы ў глухім тумане, бы ў сне. І толькі пасля, дагледзеўшы сабаку і сябе, здранцвела селі каля агню.

— Жах які, — праз зубы, праз пераціснутае горла выдушыла яна. — О Божа мой, які несамавіты жах! Чатыры звяры. Я не... здзівілася б, каб мы пачалі грызці.

Аддалося ў паветры глухое рыданне. І толькі тут мужчыну пачало трэсці. Ён схапіў яе і прыціснуў да сябе, з жахам думаючы, чым усё гэта магло скончыцца. Перарывістае дыханне штуршкамі вырывалася ў яго з грудзей. А ён прыціскаў яе, трымаў як мог моцна, нібы здарылася непапраўнае.

— Тады б я... і зусім... не даравала сабе, — глуха плакала яна. — За адны думкі... За ўсё.

Прыціхла ноч.

...Леапард не прыйшоў ізноў. Ён не прыходзіў і пасля. Сімвал усяго пачварнага і цёмнага, што ходзіць вакол нас, ён знік. Магчыма, пайшоў некуды ў джунглі, у нетры, у глушыню, далей ад чалавека, туды, дзе няма чалавечага жылля, дзе гэтае жыллё некаму бараніць.

## XV
## ПАКАЯННЫ ПСАЛОМ РАЗЛУКІ

Праз тыдзень машына везла іх горнай дарогай на прыстань: яго, яе і Амура. Дзянісаў аддаў сабаку, даведаўшыся аб тым, што адбылося ў тую ноч каля паляўнічай хаткі.

— Што зробіш? Не скажу, што не шкадую. Выключны пёс. Але ж вы цяпер накшталт крэўных братоў. Ён прыдбаў друга ў вас, вы — у ім. Такое не забываецца. Бярыце. А можа, яшчэ здарыцца і так, што вернецеся сюды. Вось і зноў усе разам. Дальбог, добра было б.

— Амура вазьму, — сказаў ніякавата Севярын. — А наконт астатняга — мне... нам жа яшчэ агледзецца трэба. Я вось зараз ва Уладзівасток. Яна яшчэ на тры дні застаецца тут.

— Чаго? — няўхвальна спытаў Дзянісаў.

Вочы ягоныя глядзелі на Гражыну дапытліва, і зморшчынак вакол іх пабольшала.

— Справу не скончыла, — ціха сказала яна.

— Лухта, — сурова сказаў дырэктар. — Усіх хвастоў усё адно не выцягнеце, нешта застанецца. Працы тут — на стагоддзі. А вам трэба быць разам.

Уздыхнуў.

— Урэшце, як хочаце. Справа ваша. А толькі б я так не рабіў. Што далей?

— Я падрыхтую ўсё, — сказаў Будрыс. — Пакоцім спачатку да яе, разлічыцца яна з работай. Пасля паедзем да мяне і там усё абгаворым з бацькамі і вырашым...

Ён глядзеў на Гражыну. Яна слухала яго і не чула. А вочы сурова-сумна сачылі за яго вуснамі, нібы вывучалі іх і ўсё аблічча.

— ...ці варта мне кідаць месца. Загадзя ведаю — бой давядзецца вытрымаць страшэнны. Увогуле гэта падобна на здраду сябрам. Каб толькі жывым, то гэта яшчэ нічога.

— Генусь? — спытала яна.

Севярын моўчкі схіліў галаву.

— Я не буду ні на чым настойваць, не буду нічога дамагацца, — ціха ўсміхнулася яна. — Усё разумею.

Жаль працяў Будрыса ад адной гэтай сумнай усмешкі, вялікі жаль.

— Калі ты будзеш так усміхацца — я кіну ўсё, нават не заязджаючы дадому, — сказаў ён. — Гэта я так аб здрадзе. Кож-

ны — гаспадар свайго жыцця. Генусь, каб мог, сам сказаў бы мне гэта. Ён быў надзіва чалавечны чалавек. Такіх цяпер няма.

Зноў паглядзеў на яе твар і сказаў Дзянісаву:

— Баюся, што мы і на самай справе хутка вернемся сюды. Прымеце?

— Я сказаў...

Дырэктар сеў на кукішкі, узяў у далоні галаву сабакі і пачаў глядзець у арэхавыя, залацістыя вочы.

— Амур, — сказаў ён. — Будзь разумнікам, Амур. Не думай, што я здрадзіў табе. Я табе толькі хлеб даваў. Гэты — мог заплаціць за цябе даражэй. Жыццём. Разумееш? Ды яшчэ тады якраз, калі яно ўжо не належала аднаму яму. І ты будзь яму верны. Чуеш, Амур? А ён будзе верны табе, як дагэтуль, будзе даваць табе хлеб, дах і пяшчоту. Добра будзе ставіцца да цябе. Не будзе біць.

У любога іншага гэта было б смешна. Толькі не ў Дзянісава. Севярын занадта добра ведаў яго стаўленне да ўсяго жывога... Акрамя таго, у пса дрыжалі плямістыя бровы.

Пёс... плакаў. Другі раз у жыцці бачыў гэта Будрыс, сам зараз гатовы зараўці.

— Не плач, Амур. Ну што, на самай справе... Што табе тут? Дождж, звяры дзікія. Табе гэтага і трэба? Ён з табою на паляванне хадзіць будзе. І памрэш ты ў яго ў доме сваёй смерцю. Усыпляць ён цябе не павязе, не той чалавек. Ён пра гадасць такую і не падумае нават. А я да цябе ў госці прыеду. Ну, бывай, Амур.

Сабака лізаў яму рукі. Доўга лізаў. Пасля адышоў і сеў ля Будрысавых ног.

— Севярын! — раптам амаль крыкнула яна. — Ды не рвіце ж вы мне сэрца! До ўжо. Бо я не вытрымаю.

— Да сустрэчы, браце, — сказаў Дзянісаў. — Харошы ты чалавек.

— Дый ты... дужа харошы чалавек.

Яны абняліся. Пасля грузавік крануўся з месца. Дзянісаў крэкнуў, махнуў рукою і пайшоў у дом.

...Сабака сядзеў у кабіне, побач з шафёрам. Паважна глядзеў наперад, бы развітваўся з мясцінамі, па якіх бегаў яшчэ шчанюком.

Мужчына і жанчына стаялі ў кузаве, успёршыся на кабіну.

— А можа, і сапраўды вернемся? — сказаў ён. — Гэта, памойму, найлепшае месца ў свеце.

— Але. Мне было тут лепш за ўсё ў жыцці.

— І мне.
— Мне было з табою заўсёды добра.
— І тады, калі вадаспад і ліяны?
— І тады.
— І пасля, у доме арнітолагаў?
— І тады.
— А лепей за ўсё?
— Хата. Калі з'явіўся леапард. І калі ён пайшоў. І заўсёды... Дзякуй.

Скалы, лясы і горы хутка скончыліся. Плылі, перамяшчаліся хрыбты, пакуль не закрылі сабою цясніну, вузкую дарогу ў падзь.

Шафёр гнаў машыну па беразе, проста па ўтрамбаваным пяску, па прыбойных лужынах — аж разляталася вада, — па жвіры, і ўсё ж даставіў іх на прыстань, калі да яе падыходзіў белы марскі катэр «Ізумруд».

— І ўсё ж, калі ты будзеш? Ну, супакой яшчэ раз.
— У суботу.
— Кінь, Амур. — Севярын убачыў, што сабака цягне яе за прыпол да катэра. — А як не будзе катэра? Паўтары мне.
— У сераду разам з катэрам запаведніка. — Вочы яе ўсміхаліся праз слёзы.
— Не трэба сонца праз дождж. Хай адно сонца, — папрасіў ён. — Пачнецца ж у сераду вечнае лета? Га? Бачыш, Амур, яна прыедзе. Кінь прыпол. Скажы нам, што прыедзеш.

Яна моўчкі затрэсла галавой.

...Катэр даў гудок. Яна прыціснулася да яго. Пасля з цяжкасцю адарвалася.

— Ідзі. Не сумуй гэты час... Моцны мой... Раз ты з кошкамі ваяваў... — нешта душыла яе. — Ну што з табой можа зрабіць нейкае там?.. Хай бы і самае кепскае.

І, узяўшы яго галаву ў далоні, не саромеючыся людзей на палубе, не звяртаючы ўвагі на цікаўных прыстанскіх баб, горка, страшна пацалавала яго ў вусны. Нібы ўсю душу ўклала ў адзін пацалунак.

Будрыс бачыў, як яна махала хусцінай, як пасля, уся сагнуўшыся, пайшла да машыны. На хвіліну яму захацелася скочыць за борт і паплысці да берага.

Цяжка, смяротна ён шкадаваў пасля, што не зрабіў гэтага.

Постаць на беразе знікла. Знікла машына. Знікла ўрэшце і прыстань.

І тут Севярына ўразілі нейкія страшныя, дзікія гукі...

...Гледзячы на бераг, усім целам падаўшыся да яго, гаротны, з несуцешным адчаем, як па нябожчыку, выў Амур.

...У суботу яна не прыехала. Будрыс, які чакаў яе на трэцім прычале, даведаўся, што «Ізумруд» прыйшоў з Тыгравай ва Уладзівасток яшчэ ўчора, у пятніцу.

Ён засмуціўся, што давядзецца яшчэ некалькі дзён прабыць без яе, але ўвогуле ўспрыняў гэта як належнае. Не ведала. Спазнілася. Прыедзе ў сераду катэрам запаведніка.

Калі прыйшла серада, ён узяў Амура і пайшоў з Васілём Паўлавым сустракаць.

— Варушы шчупальцамі, біч, — нязлосна кпіў Паўлаў. — Дачка гаспадара таверны чакае цябе. Яна выплакала вочы, выглядаючы тваю татуіраваную морду з ілюмінатара бацькавай карчмы.

— Слухай, ты кінеш ці не?

— Увянчаны лаўрамі, укрыты шнарамі і славай, ён, аднак, прагнуў сціплага палявога букета з яе рук. Толькі яго.

— Ну, дальбог...

— Люблю індзейцаў і караімаў, — на ўсю вуліцу абвясціў Паўлаў.

Прахожыя пачалі азірацца на іх. Паўлаў ішоў з непарушнай мордай саліднага бацькі сямейства. У яго былі манеры і хада члена палаты лордаў. Затое Севярын усміхаўся на поўны рот, праўдзівей, душыўся са смеху.

— І арапаў таксама люблю!

Нейкі сівенькі стары спыніўся і з дакорам паківаў на Будрыса галавой:

— Гэ-эх, малады чалавек. Фуліганіце. А яшчэ з сабакам.

— З тых, што кроў праліваў, — шэптам сказаў Паўлаў. — Толькі невядома, ці ў Сямёнава, ці ў самога барона Унгерна. «Разграмілі атаманаў...» Увага! Увага! Паважаныя грамадзяне Уладзівастока. Унікальны цыркавы нумар! Толькі ў нас! Леапарды сярод публікі. Адзін — Будрыс — Адзін. Залаты медаль абісінскага негуса. Заваяванае сэрца ягонай дачкі.

— Васіль! Дальбог, занадта... Прашу...

Катэр ужо стаяў ля прычала. Дзянісаў з двума рабочымі выгружаў з яго клеткі і нейкія скрынкі.

— Здаровы, хлопцы! Рад бачыць. Гэта Паўлаў? Малайчына. Вось апошні выгрузім — і я вольны. Памагайце. А чаго гэта вы адны? Гражына дзе?

— Хіба яна...

— Ну, як вы дамаўляліся. «Ізумруд» замест суботы ішоў у пятніцу, то яна і з’ехала. На другі дзень. Я яшчэ ўзрадаваўся, што менш вам чакаць.

Выціраў рукі хусцінай.

— Жартуеце, Захар Іракліевіч... — сказаў Будрыс.

— Што вы! — збялеў Дзянісаў. — Хіба гэткім жартуюць?

І толькі ўбачыўшы, як ён збялеў, Севярын збялеў сам. Зразумеў, што ўсё гэта не дурны жарт, а праўда.

— Вяселле адмяняецца, — па інерцыі, нічога не разумеючы, трындзеў Васіль. — Міртавы букет упаў з рук ашаломленага жаніха...

Ён раптам вохнуў. Вочы сталі дзікія і жаласныя:

— Мілы... Гэта што ж такое? Га? Прабач, калі ласка.

— Як жа гэта зразумець? — неўразуменна бубніў Дзянісаў. — Сам жа адвёз. Сам угаворваў, каб не чакала серады. Не чакала мяне.

— Дарэмна, — сказаў Будрыс. — Лепей ужо сённяшняя серада, чым тая чорная пятніца.

— У, ёлуп, у, ідыёціна, — лаяў сябе дырэктар. — Як жа яно так? Што ж гэта магло здарыцца?

Першы апамятаўся Васіль.

— Дзяўчаткі, — звярнуўся ён да нейкіх дзвюх сітавак, што праходжваліся па прычале, — вось вам букеты. Не ўсміхайцеся чароўна, яны нам усё адно сёння не спатрэбяцца. Сустрэнемся другі раз. Званіце ў шэдэўральную газету «Маяк». Акадэміку Паўлаву... Севярынчык, Севачка, — чорт вас ведае, як у вас змяншальнае імя! — не вешайце рымска-грэчаскага носа. Дзянісаў, унь зялёны агеньчык. Хапайце... Сева, цапайце гэта чатырохногае за тлустую шкірку і валачыце на пярэдняе сядзенне. Пайшлі?

Яны аб’ездзілі на таксі ўсе гасцініцы горада, усе аддзяленні міліцыі. У пятніцу не было ахвяр вулічнага руху. У пятніцу ў гасцініцах былі вольныя месцы, але ў ніводнай гасцініцы грамадзянка Арсайла Гражына Янаўна не спынялася.

Васіль строіў здагадкі:

— Калі ў яе тут няма знаёмых — значыцца, яна ў той самы дзень выехала з горада.

— Яна выехала, — безжыццёва сказаў Будрыс.

— Чаму?

— Яна не магла столькі дзён сядзець тут, ведаючы, што я побач, што я чакаю.

— Ясна — не магла, — з перабольшанай упэўненасцю сказаў Васіль. — Не вытрымала б, гэта ж зразумела. Яна адкуль, Захар Іракліевіч?

Той пачырванеў.

— Каб я ведаў тады, як яна паказвала дакументы... Але, мне здаецца, з хабараўскага інстытута. Так-так, менавіта адтуль.

— Значыць, так, — сказаў Паўлаў. — На паштамт. Адразу тэлеграму ў інстытут. Калі яшчэ там — хай затрымаюць, нават цаною жыцця. А ім давядзецца гэта зрабіць. Бо, як не затрымаюць, я з іх гэтую плату жыццём спаўна вазьму. З працэнтамі. Дня не дарую...

— Севярыне, хлопча, — сказаў раптам Дзянісаў. — А вы не думаеце, што, можа, не варта даваць тэлеграму? Што, можа, гэта... зломіць ёй жыццё. Што яна... ну, скажам, — на дырэктара было шкада глядзець, — ...замужам ці нешта такое.

— І няхай зломіць, — праз зубы кінуў Паўлаў. — Так і трэба, раз магла. І што вы плявузгаеце?! Што вы плявузгаеце наогул?! Вы што, не бачыце, што з ім?! І добра, калі зломіць! Тады ён, можа, падумае-падумае, ды і даруе ёй. Праўда ж?

— Кінь сварыцца, Васіль, — сказаў Севярын. — І не крычы на яго. Яна не замужам.

— Бачыце, святая вера, — успыхнуў «унук рабыні».

— Гэта не вера. Я ведаю. Але нават каб не ведаў — я б верыў. Інакш гэта была б занадта вялікая подласць — не сказаць мне. Усё адно адбылося б усё, як яно адбылося. Але я, прынамсі, ведаў бы, чаго мне чакаць. І чакаў бы з адкрытым тварам. Яна сказала б. Яна зусім не такая... Нават каб я не ведаў.

Даўшы тэлеграму ў Хабараўск, яны памчалі на аэрапорт. На вакзал ехаць не было прычыны, там не запісваюць прозвішчаў.

У аэрапорце яны даведаліся, што пасажырка Арсайла вылецела ў пятніцу рэйсам у Хабараўск.

— У той самы дзень была там, — ляпнуў дзверцамі таксі Паўлаў. — Субота — панядзелак — нядзеля — аўторак... І лічу па-цыганску ад хвалявання.

— Серада, — сказаў Будрыс. — Прайшоў амаль цэлы дзень. Адказ, добра — калі заўтра. Значыць, шэсць дзён. Адна нядзеля на заяву аб уходзе. За два тыдні. А могуць адпусціць і раней.

Яны знялі ў гасцініцы нумар, суседні з Будрысавым, набралі ў «штаб-кватэру» прыпасаў, каб і на хвіліну не пакідаць яе, і заселі там, чакаючы званкоў і тэлеграм.

У той вечар даволі моцна выпілі, і калі Васіль усхадзіўся быў лаяць яе, Будрыс упершыню не вытрымаў:

— Ты гэта кінь. Не трэба.

— Ды што ж гэта ёй у башку дурную цюкнула, — гарачыўся Паўлаў. — На табе, ні села ні пала. Хоць бы папярэдзіла. Хлопцы ёй такія пачкамі паўсюль валяюцца?

Дырэктар маўчаў.

— Мы нічога не ведаем, — сказаў Севярын. — Мы не маем права асуджаць. Ты не знаеш яе, не бачыў. А я, як сабе... І веру, як сабе... Адкуль нам вядомыя ўсе акалічнасці яе жыцця? Магчыма, пасткі яго? Думкі гэтай жанчыны? Раз яна зрабіла так — значыцца, было нешта неадольнае, значыцца, не мела права зрабіць іначай. Разумееш, хлусіць яна не магла. Можа, застацца са мною — гэта і была б хлусня. І таму я сам не буду і другім не дазволю судзіць гэтую жанчыну.

Васіль глянуў на прасветленыя вочы сябра і махнуў рукой.

— Што ж ты будзеш рабіць, як яна з'ехала? — асцярожна спытаў Дзянісаў.

— У яе ёсць мой адрас. І я буду чакаць. Калі ёй будзе цяжка — яна пазвоніць, напіша, прыедзе. Сама.

— А як не дачакаешся?

— Дачакаюся. Дачакаемся вось з Амурам. Яна не падмане. Я дачакаюся. Ты забыў, Захар, што я кахаю яе. І яна мяне. У гэтым я ўпэўнены. Ніхто, самы падступны, не мог бы так хлусіць. А я глядзеў у яе вочы. Ёй зараз таксама нясцерпна. Таму яна і зрабіла так. Яна ўцякае. Але вечна ўцякаць нельга. Яна прыйдзе і заўсёды знойдзе ў мяне свой дом, і цеплыню, і нават сабаку, і ёй добра будзе, бо яна змерзне на далёкіх шляхах. Я дачакаюся. Мне ж ніхто не патрэбен, толькі яна.

Васіль хапануў чарку і раптам заплакаў:

— У, сволачы, у, мучыцелі! Мала ім без таго бяды з пакутамі — яны яшчэ іншых тыраняць. Ты не глядзі, я не п'яны, мне крыўдна.

Ён усхліпваў, як дзіця. І раптам вызверыўся:

— Ну, я ўжо буду ведаць, што мне рабіць, як яна з'ехала! Як самалётам — ясна, у якім напрамку. А як цягніком — я тэлеграмы на цягнік ахну. На кожны дзень яго сямідзённай дарогі. Скажам, у Магочу, у Прыісковую, у Іркуцк, у Новасібірск, Свярдлоўск, Яраслаўль. І няхай крычаць: «Грамадзянка N. друг пры смерці. Вяртайцеся».

— Такія тэлеграмы без даведкі не возьмуць, — сумна сказаў дырэктар.

— Думаеш, мяне гэта спыніць? Я пайду да нашага лейбмедыка і стану трэсці яго да таго часу, пакуль у яго душа не

вылецiць праз лысiну. Не гаруй, Севярыне. Мы гэтага так не дамо скончыць. У мяне, брат, прадзед...

Трэсцi «лейб-медыка» за шкiрку не давялося. Наступнай ранiцай Хабараўск адказаў, што супрацоўнiк Арсайла Гражына Янаўна ўзяла тэрмiновы разлiк па сямейных абставiнах i ў панядзелак вылецела самалётам на Маскву.

Вечарам таго самага дня шэф адказаў, што за тры днi з нiводнага маскоўскага аэрадрома не вылятала жанчына па прозвiшчы Арсайла i што ён спецыяльна два тыднi будзе наводзiць спраўкi па ўсiх аэрадромах.

Чакаць больш не было чаго. Спяшацца — таксама. Таму праз два днi Дзянiсаў i Васiль праводзiлi яго на цягнiк. Амур ехаў у багажным вагоне. Гаспадар ягоны — у купэ.

Перад ад’ездам сядзелi ў тым самым марвакзале. Усё было перагаворана. Кожны ведаў, што прыдбаў дваiх сяброў. Верных. Сапраўдных. На ўсё жыццё. Тых, якiя не забудуць, не кiнуць, не прададуць, хай сабе, можа, i рэдка давядзецца сустракацца аднаму з адным.

I ад гэтага рабiлася трохi лягчэй. I можна было ўжо не з такiм болем сачыць за агнямi караблёў, што адыходзiлi з Залатога Рога невядома куды.

...Цягнiк адыходзiў у 0.10. Яны пасадзiлi Будрыса ў вагон, расцалавалiся. I тут Васiль здзiвiў усiх. Палез у кiшэнь i дастаў адтуль нешта, загорнутае ў паперу.

— На. Табе.

Гэта быў стары кабiнетны партрэт. Мабыць, аматарскi. На iм была жанчына ў чорным строi, жанчына з вельмi знаёмым тварам, i высокi сiвы мужчына з маладымi вачыма. На мужчыне быў палкоўнiцкi мундзiр.

Севярын глядзеў на яго i заўважаў паступова няўлоўнае падабенства з Васiлём.

— Яны?

— Яны, — сказаў Васiль. — Трымай, браток. На знак таго, што вернасць — яна была, ёсць i будзе. I што заўсёды будуць людзi, здатныя плацiцца за яе. Ты — суцешся. Нiчога...

— Але ж гэта нават не копiя.

— А ты мне яе вернеш, — проста сказаў Васiль. — Пакуль хай у цябе будзе. А пасля, як толькi знойдзеш, як толькi яна вернецца — аддасi назад. Гэта будзе скора... Дык вось, на знак гэтага... I вяртайцеся разам да нас з Захарам.

У Будрыса сцягнула глотку:

— Я гэтага табе не забуду. Дзякуй. Вазьму. Вярнуся.

Хлопцы вылезлі з вагона. Цягнік мякка рушыў. Паўлаў усё хутчэй крочыў за ім:

— Так трымаць, біч... Нос вышэй... Айчыне не патрэбны слінявыя кашалоты... Перадавай прывітанне прагрэсіўным вучоным.

І пасля здалёк:

— Фота хутчэй вяртай! Фота!

Мужчына стаяў і глядзеў на агні горада, у якім заставаліся яго сябры, у якім ён знайшоў і страціў...

Пасля амаль усе дні ён таксама прастаяў ля акна ў калідоры. Даводзілася наведваць і карміць Амура. І ад шалёнай радасці пса, ад простай яго адданай вернасці лягчэй было пераносіць дарогу. Побач была жывая душа, сведка, сябар, які помніў хату, і чашу вадаспада ў ліянніках, і горыч таго страшнага ўдару на прычале. Друг, які прадчуваў, які цягнуў яе на катэр і выў, калі яна знікла з вачэй.

Ва Уладзівастоку было зелена. Пад Хабараўскам, раніцай, горы нагадвалі букеты: залатыя, барвяныя, малахітавыя, жоўта-лімонныя, іржавыя. У гэтым горадзе яна жыла. Праязджала гэтыя тунелі. Купалася ў гэтай рацэ. Хадзіла міма гэтых дамоў. Ён ледзь не злез тут і толькі вялікім намаганнем волі пераканаў сябе, што гэты горад апусцеў без яе, што выходзіць няма патрэбы.

Пасля цягнік ішоў па грані, па мяжы восені і зімы.

Пад Гонжай піхты былі прыцярушаны снежнай пудрай... Магоча ляжала пад глухім асеннім дажджом... Ружавелі нагія бярозы на Шылкінскіх сопках... Бярозы ў Марыінску былі яшчэ сям-там жоўтыя... А пад Новасібірскам валіў, сыпаў густы снег.

Зіма гуляла з цягніком у кошкі-мышкі.

Ён карміў Амура сыта і добра, выводзіў яго гуляць на станцыях, а сам амаль не еў. Слоіка салоных груздоў, купленага на станцыі, хапала яму, з бульбай, на два дні.

І на кожнай буйной станцыі чакала тэлеграма. Змест усіх быў аднолькавы: «Не было», «Не было», «Не было».

На Урале ля слупа «Азія — Еўропа» зноў гарэў бярозавы пажар. І чым бліжэй да Масквы, тым больш было на бярозах зялёнага. Зіма выпускала цягнік са сваіх кіпцюроў.

Ён шмат думаў усе гэтыя дні. І паступова неўразуменне саступала месца разуменню. Яму здавалася, ён ведаў цяпер, чаму ўсё скончылася так. Ведаў. І дараваў. Але ад гэтага яму не было лягчэй. Усё на свеце ён аддаў бы, каб яна была побач,

каб можна было ўначы спаць у адным купэ, а ўдзень стаяць ля аднаго акна і сядзець у вагоне-рэстаране за адным сталом.

З пакутлівым пачуццём апошняй страты ён уяўляў сонечныя ліяннікі, шызыя гроны вінаграду, вугальны змрок у хатцы, яе вусны, дотык яе грудзей, крокі леапарда ўначы.

Якое шчасце, што быў леапард. Ён быў, але была і яна...

Кашмары не вярталіся да яго, але ён баяўся думаць, што гэта яна, што гэта каханне паварацiла ягоны стан на лепшае. Лепей бы зноў страшныя сны і плямістая пачвара, абы толькі яна вярнулася з імі.

Ён прагнуў, ён чакаў яе. Усю паўнату нязведанага, новых дарог, звяроў у джунглях, кахання і сонца — яна вярнула яму. І ўсю паўнату тугі.

«Я не магу цябе судзіць. Але нашто, нашто ты зрабіла гэта?»

## XVI
## ПЕСНЯ ЧАЗЕНІІ (ФІНАЛ І КОДА)

У той год доўга не прыходзіла зіма. Транссібірскі цягнік амаль на два месяцы ўцёк ад яе. Даўно абляцелі дрэвы, даўно стала жалезнай гразь на палявых дарогах, а снегу ўсё яшчэ не было. Шэрая зямля ў парках, шэрыя дамы, шэры асфальт. Ад таго, што не было снегу, халады, здавалася, былі больш моцныя, чым на самай справе.

Мужчына жыў звычайным жыццём. Раніцаю ішоў на работу, працаваў многа і добра. Пасля вяртаўся дахаты, нейкую гадзіну гуляў з сабакам. І пасля ўжо да самай ночы, не выходзячы, заставаўся дома. Калі да яго прыходзілі сябры або шэф — прымаў іх гасцінна, але сам нікуды не хадзіў. Ні ў госці, ні ў клуб, ні ў кафэ.

Спачатку людзі трывожыліся, асабліва шэф. Але мужчына быў роўны, і яны таксама нібы заразіліся яго настроем і чакалі разам з ім.

А ён не бачыў ніякай ахвярнасці ў сваім ладзе жыцця. Кожную хвіліну маглі прынесці тэлеграму, кожную хвіліну яна магла пазваніць ля дзвярэй. Цалкам натуральна, калі яна знойдзе гаспадароў у хаце, а дзверы будуць адчыненыя.

Неяк прыехаў да яго сябар-пісьменнік, і ён сёе-тое, не самае важнае, расказаў яму. І тады той сказаў:

— Слухай, а калі я напішу пра гэта?..

— Так ты не напішаш.

— Ведаю. Але ж за кожным маім словам будзе ў яе стаяць успамін. І калі яна прачытае, калі зразумее, што ты чакаеш, што яна зрабіла глупства — няўжо яна не вернецца?

— Толькі святую праўду, — сказаў Севярын.

— Павер мне, яна прыйдзе.

— Нават калі не вернецца — буду чакаць. Мне нічога больш не застаецца. У мяне засталася яна адна. І лепей успаміны і вера, чым прадаць усё гэта. Мне не патрэбна ўсё іншае.

Недзе ў самым канцы лістапада ён, вяртаючыся дадому, знайшоў у паштовай скрынцы тоўсты жаўтаваты канверт і не разабраў яшчэ нават почырку, як нешта цяжка штурханула ў сэрца: ад яе.

«Мілы мой, дарагі, першы і апошні,
добры мой суддзя, адзіна каханы!

Не глядзі на канверт, ён табе нічога не скажа, ён кінуты далёка ад маіх мясцін. Даруй мне за маю бязлітаснасць, за тое, што я так учыніла з табой, мой добры. Ты павінен зразумець, што гэта не здрада, што я ніколі, ні з кім не здраджу табе і што прашу я прабачэння не за тое, што здрадзіла табе, а толькі за тое, што прычыніла табе боль. Вось за гэта я і катую сябе. Бязлітасна катую — ты мне вер. Таму што ты ніколі не зрабіў бы мне балюча. Але на тое ты і святы, на тое я і звычайны дробны чалавек.

Сэрца абрываецца пры думцы, як ты павінен быў мучыцца гэтыя два месяцы, нічога не ведаючы, не разумеючы, кінуты, нібы прададзены мною. І ў мяне за гэты час нічога не было, акрамя слёз. Але як я магла пісаць табе. Пісаць — гэта ўсё адно што глядзець у вочы.

Я і сёння рашылася пісаць табе толькі таму, што ты даруеш мне многае, калі даведаешся.

У мяне будзе дзіця. Дзякуй табе за яго, за адзіна сонечныя дні ў жыцці, за каханне, за веру тваю, якую я падманула, не жадаючы таго.

Сёння я ўпершыню ўсміхаюся. Пакуль праз слёзы. Як тады, калі Амур цягнуў мяне на катэр. Чаму ты адазваў яго? Можа, я і не вытрымала б, пайшла, хоць і была б пасля няшчаснай, хоць і зрабіла б няшчасным цябе.

Але я даю табе слова: болей я не буду плакаць. Дзеля яго. Ён павінен быць здаровым. Ён павінен вырасці такі, як ты: моцны, разумны, добры, самы лепшы на свеце.

Праз яго я не кажу цяпер, што ўсё было дарэмна, што я не павінна была ісці на тое, каб быць з табой. Не, я хлушу. Нават без яго я не шкадавала б ні аб чым. Ні аб той ночы, калі блукаў леапард і ты вымушан быў легчы ў хаце, такі пакорлівы майму наканаванню (Бог ты мой, да чаго мяне да цябе цягнула!). Ні аб тым страшным, што патрызнілася табе і што прымусіла мяне прыйсці да цябе самой. Ні аб жэньшэні я не шкадую, ні аб ліянніках. Ні аб чым. Дзякуючы ўсяму гэтаму я зведала цябе. Лепшых, іншых няма і не будзе.

Я зноў схлусіла. Зусім не гэты твой сон, зусім не жаданне суцешыць. Я сама шукала суцяшэння. Больш не магла. Прыйшла да цябе з радасцю і палёгкай, з пачуццём самага вялікага шчасця. Дый хто мог бы адчуваць нешта іншае побач з такім, як ты.

Родны мой, як мне і зараз хочацца сесці ля тваіх ног, пакласці галаву табе на калені, цалаваць твае моцныя рукі, не пярэчыць тваёй пяшчоце. Як мне горка, што гэтага не будзе. Пастараюся хоць трохі растлумачыць табе чаму. А ты зразумей, даруй дурной бабе, якая больш за ўсё на свеце кахае цябе. Я ўсё ж баба. Не думай пра мяне ні лепей, ні горай таго, чаго я вартая.

Я баюся. Памятаеш, калі джунглі віліся над намі? Я хацела, каб ты вечна пра мяне думаў, каб гэта ніколі не мінулася. І я дрыжала ад думкі, што гэта мінецца. Я не перанесла б гэтага. Я ведала, што ўсё канчаецца яшчэ на зямлі, а бяссмерце жыве толькі ва ўспамінах. Ну так, я мучаю цябе, я — дрэнь, і нашто табе такое бяссмерце, і тое, што ты ўспамінаеш мяне і што будзеш помніць цяпер да канца?! Але кожны дзень на зямлі памірае каханне, і людзі абыякава праходзяць паўз дарагія калісь магілы. Я не магла б. Даруй мне. Я не жыла б пасля і хвіліны.

Ты мой першы. Ты мой апошні. Я вырашыла ўсё пасля першай хвіліны блізкасці з табой. І тады, ля жэньшэня. Я проста не магла без цябе. Гэтым тлумачыцца і тое, што я сама прыйшла, бо хацела, каб табе было добра, бо думала пра цябе, бо немагчыма было, каб ты памёр ад смагі і не помніў мяне такой. Гэтым тлумачыцца і тое, што я сама і пайшла. Не хацела страціць цябе.

І ты не здзіўляйся, каханы. Нейкі чалавек застрэліўся ў ноч перад дуэллю. Лічы, што я зрабіла тое самае. І не толькі таму, што баялася смерці. Больш за ўсё баялася я, што гэтую смерць можаш прынесці мне ты.

А ўсё ж я вагалася. Яшчэ падчас апошняга развітання я магла змаладушнічаць. Нават ад гэтага ўчынку лайкі. А каб узяў мяне за руку ты — што і казаць. На шчасце... на гора, так не здарылася. Падчас развітання ты нечакана даў мне і сілу для майго ўчынку. Я ўбачыла тое, што магло б пасля перарасці ў смерць нашага кахання, у маю смерць.

Мы ва ўсім розныя. Што рабіць мне там? І што табе — тут? Мы розныя ва ўсім, акрамя нашага кахання.

Ты ўпамянуў пра здраду сябрам, і «каб яшчэ толькі жывым», ты ўпамянуў імя Генуся, з якім... Я зразумела: нават падсвядома ты не даруеш сабе таго, што ты называеш «здрадай». І, рана ці позна, сыдзе на нішто тваё каханне, самае вялікае, якое ў мяне было, якое ў мяне будзе. Адзінае.

Не хачу. Хай лепей застанецца найвышэйшы, адзіны ўспамін жыцця, адзіны, бо іншага ў мяне не будзе, клянуся табе. І тады, на схіле дзён, я ўспомню адно: перакаты рэчкі, хатку пад ценем кедраў, лятучы цень чазеній, сілу рук, сілу вернасці, ноч, крокі і сінявокага хлопца, што ідзе да мяне са стрэльбай на плячы.

То варвара з галаўнёй і доўбняй, то Адама ў вадаспадзе, то пяшчотнага каханка, ад пацалункаў якога хацелася памерці, то загарэлага Бога, які падкідаў мяне ледзь не да самага сонца... Рознага, але назаўсёды маладога...

...Цябе... цябе... цябе...

Ты стаў моцны. Досыць з мяне. Зразумей. Даруй. Не шукай».

У тую ноч мужчына доўга думаў, лежачы ў ложку. Так, прыблізна да такога меркавання ён і дадумаўся тады, у цягніку. Добра, што яны думалі досыць аднолькава, што ў лісце нічога не здзівіла яго. Значыць, не ўсё страчана.

Ліст не пасяліў у ягонай душы безнадзейнасці. Наадварот, нарадзіў надзею. Галоўнае, яна кахала яго. Яна проста не ведала аб яго каханні. Не ведала, як ён больш за ўсё на свеце баіцца, што яе каханне міне, што яна абыякава пройдзе паўз дарагую калісь магілу.

Яна не ведала, што ў любові сваёй яны — роўня, што ім проста трэба давесці гэта адно аднаму і пасля асцярожна, трапётка несці праз гады сваё пачуццё.

«Ты — чазенія, ты — жыццё. Чаму ж ты збаялася шчасця? Чаму спалохалася самога жыцця? Мо і сапраўды пераліла ў мяне ўсю сваю палкую любоў да яго, усю веру ў яго? Не есці, бо існуе смерць ад голаду. Не піць з крыніц, бо людзі паміраюць у пустынях. Не кахаць, бо каханне можа памерці. Не жыць... Не, я сапраўды стаў мацнейшы за цябе. Ты дала мне гэтую

моц. І дазволь ужо мне трымаць гэтае маё каханне, каб яно не памерла. У цвёрдых руках. Я не разаб'ю яго і не дам разбіць табе. Я не дапушчу, каб яно памерла ў маім сэрцы, і не дазволю, каб яно памерла ў тваім. Не дазволю мудрасцю, бязмежным цярпеннем, сілай свайго кахання... проста сілаю, урэшце.

Баялася пазбавіць мяне таго, што і без цябе зрабілася непатрэбным мне. Забыла пра ноч, леапарда, пра белую лайку, імя якой — Амур. Забылася на галоўнае. На сябе.

Я зрабіў у папярэднім жыцці ўсё, што мог. Я перарос тое, што рабіў. Мне па плячы большае. І я хачу жыць гэтым большым.

Укараніцца на камяністым, неўладкаваным беразе жыцця, мудра, уладна, пяшчотна свідраваць каранямі зямлю. Араць яе для будучыні.

Жыць, як усе яны. Як людзі, што цяжка здабываюць свой лясны хлеб, але не згубілі дабрыні, а прымножылі яе. Як тыя, у каго хапае дабрыні на ўсіх. Як Дзянісаў, як Паўлаў, як Няпіпіва, як ты, каханая.

І як кедры, як лозы вінаграду — і беларускі хмель; як ізюбры, што крычаць уначы, — і як белавежскія алені.

Як чазенія...»

Ён скончыў адзін круг, і яму мала справы да таго, чым ён жыў дагэтуль.

Чалавек павінен абнаўляцца, іначай ён памірае для ўсіх.

Прыйшла, дадзена была адзіная любоў. І гэтае адзінае каханне трэба было берагчы нават коштам жыцця.

Як чазенія. Хай коратка, але жыць. Заваёўваць магчымасць вышэйшай дабраты, жыцця дзеля іншых, а не адбіраць у іх магчымасці гэтага жыцця.

Ён бачыў ліяннікі, добрыя, нібы ў светлым сне, паляны ў серабрыстай месячнай імгле міскантуса, рознакаляровыя завесы вінаграднай лістоты, пяшчотных аленяў з чорнымі вачыма, матылёў над кветкамі, жэньшэнь, што расце недзе для іх на выпадак, калі памрэ каханне.

Глупства. Хай жэньшэнь расце для іншых.

І яшчэ ён бачыў яе.

Яна ішла да яго, адхіляючы галіны арэха, плыла ў моры пранізанай сонцам папараці і цягнула да яго рукі. А пасля гэтыя рукі ляглі яму на плечы і засталіся так.

Калі ён расплюшчыў бяссонныя вочы — у пакоі пасвятлела, і гэта было як працяг летуцення. Белаваты водсвет ляжаў на сталі.

Чалавек устаў і падышоў да акна. За акном былі заснежаныя дахі, заснежаныя дрэвы, заснежаныя платы. Снег, урэшце, дагнаў яго. Рэдкія, першыя агеньчыкі гарэлі ў гурбах. І ўсё гэта было як маладое, радаснае, белае свята.

Ён стаяў доўга. Ад батарэі ў ногі прыемна цягнула цеплынёй.

Заварочаўся і забурчаў у сне Амур. Ляжаў тут жа, ля ног. І чалавек пагладзіў яго.

— Што, Амур, снег?

Амур лізнуў яму руку.

— Скора прывязу табе гаспадыню. Нікуды яна ад нас не схаваецца. Не дамо. Праўда?

Амур закрактаў.

За вокнамі ляжала ўмытая цішыня. І мужчына, прыпаўшы лбом да халоднага шкла, гледзячы ў снягі, усім целам, усёй істотай сваёй адчуваў, як недзе пад асеннім дажджом ці мокрым снегам (не хутка ён там будзе такі самы рассыпчасты і сухі, як тут) стаіць моцная, адвечная чазенія, жаласніца аб слабых і аб моцных, аб усіх жывых, аб тых, хто прыйдзе за ёю на гэтую зямлю, калі яна, споўніўшы ўсё на свеце, упадзе на ёю ж створаны бераг.

Я знайду цябе! Знайду! Знайду!

*1966*

# КАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ
*Фрагмент рамана*

Снег. Снег. Тое надвор’е, у якое шляхціц Завальня ставіў на акно свечку. Дуйка. Белыя вужакі, стаўшы на хвост і ўзняўшы ў паветра цела, дзесяткамі трапечуць і згінаюцца над кожнай вострай гурбай.

Праз слюдзяныя акенцы кібіткі відаць, як не хоча ляжаць на месцы снег, як ён імкнецца ў чорныя лясныя нетры, як заінелі крыжы коней.

Да Вежы яшчэ далёка. Хіліць спаць.

Каб не заснуць, Алесь думае. Аб хлопцах з «Агула», аб сустрэчах у яго на кватэры (дабіўся-такі гэтага!), аб тым, што за гэтыя пяць месяцаў арганізацыя павялічылася на семдзесят два чалавекі. І дзесяць хлопцаў з «Агула» аддалі Віктару.

І яшчэ аб тым, што гурток Серакоўскага[1] пачынае рабіцца сапраўднай нелегальнай арганізацыяй і ўвосень можна будзе ўжо думаць аб справах, аб планах на будучае.

З усмешкай успаміналася адна з апошніх спрэчак. На тэму — што рабіць, акрамя падрыхтоўкі паўстання, тым, хто з памешчыкаў. Ямант вёрз нешта аб тым, што трэба пераконваць сваіх сялян, што дваране дужа харошыя, а цар дрэнны. Загорскі зірнуў на Кастуся, але той падміргнуў яму, пацiснуў плячыма. Нічога не зробіш — ідэаліст. І тады Алесь устаў і сказаў, што гэта тыповае белае трызненне. Нікога не пераканаеш словамі. Калі нехта хоча, каб яго лічылі добрым, — хай робіць добрыя справы. Расказаў аб праекце бацькі, барацьбе вакол яго і дадаў, што тым, хто гарлае аб добрым стаўленні да мужыка, варта было б падарыць яму волю раней, чым цар, і на больш ільготных умовах. Тады нікога не трэба будзе агітаваць. За відочна добрае, за даброты жыцця нікога агітаваць не даводзіцца. А калі ўжо агітуюць паны і ўдзень і ўночы — так і ведай, што нешта няладна, і добра яшчэ, калі толькі падмануць

збіраюцца. «Я думаю, трэба, пакуль тое, рабіць хоць гэтых, хоць сваіх людзей вольнымі. І гэта будзе найлепшая агітацыя для паўстання і лепшы сродак для яго перамогі».

Падняўся гвалт. Белыя напалі. Але нечакана напала і частка чырвоных: «Ружовыя акуляры! Дадуць табе рабіць дабро. Трымай кішэнь».

Серакоўскі ўсміхаўся ў вусы, відочна, згаджаўся з Алесем.

— Кажаце, не дадуць, — сказаў Алесь. — А вам што, дадуць так вось проста паўстаць і перамагчы?

Нехта крэкнуў.

— Значыць, гэта з'явы аднаго парадку. Ну, будуць не даваць. Што ж, так і сядзець склаўшы рукі? Баішся супраціўлення — не ўставай. А не баішся — кожную хвіліну змагайся, каб наблізіць час.

Серакоўскі схіліў галаву.

...У ляманце завірухі глух і часам знікаў ірваны голас званочкаў. Фурман спяваў песню, далёкую і даўнюю, як сама бяздольная прыдняпроўская зямля, што зараз так страшна дранцвела ў снягах:

Ой, косю мой, косю,
Чаму ж ты нявесел,
Чаму ж ты, мой косю,
Галовачку звесіў?

Голас верыў у сваё сэрца, у сваю прыгажосць і таленавітасць і таму радаваўся нават плачучы, ганарыўся нават у тузе:

Ці я табе цяжак,
Ці тугі папругі?
«Ой, ты мне не цяжак,
Не тугі папругі».

Алесь слухаў і шчыльней хутаўся ў мядзведжае футра.

Вучыцца ва універсітэце было лёгка. Куды лягчэй, чым у гімназіі. Там было шмат лухты, шмат нямілых дысцыплін. Там не было, урэшце, нават адноснай свабоды.

Тут было ўсё цікава, важна, міла. Тут чалавек мог займацца тым, чым хацеў. І хоць таксама былі цемрашалы і дурні — на іхнія лекцыі можна было проста не хадзіць. Можна было шмат чытаць і пісаць, займацца справамі «Агула», збіраць матэрыялы

на слоўнік, вывучаць пад кіраўніцтвам Віктара старыя граматы, ды яшчэ заставалася трохі часу на карціны, музыку, тэатр і ўласныя, не вельмі ўдалыя, спробы корпаць вершы.

Алесь падумаў, што стаў на правільны шлях. Лічыў сябе дагэтуль бяздарнасцю і дылетантам — і раптам, усяго за пяць месяцаў, прыдбаў прыхільнасць Сразнеўскага[2].

Загорскі ўспомніў, як пацяплелі вочы Ізмаіла Іванавіча, калі разбіраў першы Алесеў рэферат: «Моўныя асаблівасці, што датычацца паўночна-заходняй мовы, у «Слове аб палку Ігаравым».

— Малайчына... Што думаеце рабіць?

— Мяркую за паўтара года падрыхтавацца і здаць іспыты за славесны і гістарычны факультэты.

— Ну, а потым?

— Потым, мяркую, філасофія, натуральныя навукі.

— Не баіцёся раскідацца?

— Наадварот. Хачу ўсё патрэбнае паспрабаваць прывесці ў сістэму.

— Памагай Бог, — сказаў Сразнеўскі.

Алесь працаваў утрапёна.

Наступныя дзве невялікія работы высунулі Алеся ў лік тых нямногіх, з якімі Ізмаіл Іванавіч гаварыў як з роўнымі, бо сапраўды паважаў у іх роўны інтэлект і роўна правільны і якасны, хоць і адметны, погляд на рэчы і з'явы.

Гэта былі «Мова панцырных баяр* з-пад Зверына. Матэрыялы на слоўнік прыдняпроўскай гаворкі» і «Асаблівасці дрыгавічанска-крывіцкай гаворкі ў «Слове на першым тыдні па Вялікадні» Кірылы Тураўскага як першыя сляды ўзнікнення беларускай мовы».

---

* Саслоўе вольных земляробаў і воінаў, былой памежнай варты ў княстве Літоўскім. Вызваленыя ад усіх павіннасцей, непадсудныя ніякаму суду, акрамя свайго, адзначаныя некаторымі прывілеямі, і перш за ўсё асабістай незалежнасцю і зямлёй, яны мелі толькі адзін абавязак: бараніць мяжу. У іхніх пасёлках і вёсках, што ланцужком цягнуліся па паўночнай частцы Дзвіны і па Дняпры, збярогся ў найбольшай чысціні — бо ўлады пазбягалі іх чапаць — своеасаблівы патрыярхальны побыт, зберагласся ў першапачатковай чысціні трохі архаічная беларуская мова, зберагліся не папсаваныя царкоўнасцю і пазнейшым нацыянальным уціскам абшчынныя звычаі, праявы звычаёвага права, песні і г. д.

Пасля гэтых работ Сразнеўскі глядзеў на Алеся толькі з пяшчотай.

— Мой Веніямін, — казаў настаўнік калегам. — Самы малады і самы таленавіты. Божа мой, як падумаеш, колькі ён паспее зрабіць!

— Ён можа нічога не паспець, — змрочна сказаў Благавешчанскі, знаўца рымскай літаратуры і гісторыі. — Глядзіце за сваім Веніямінам, Ізмаіл Іванавіч. Каб гэты Веніямін палітыкай не зацікавіўся. А гэта ў нас ведаеце чым канчаецца?

— Адкуль такія весткі, Мікалай Міхайлавіч?

— Выпадкова чуў, як ваш Веніямін расказваў такую гісторыю... Будачнік пачуў, як на вуліцы чалавек сказаў: «Дурак». Падбег, схапіў яго за каршэнь і пацягнуў ва ўчастак. Той супраціўляецца, крычыць: «За что?!» А будачнік яму: «Знаем мы, кто у нас дурак».

— Ну, што вы. Ён жа малады. У таленавітых ды маладых — гэта ўжо заўсёды! — язык. Супраць гэтага і вальтэр’янцы нічога не гавораць.

— Вальтэр’янцы, можа, і не гавораць, а вось з... абавязкова скажуць.

Сразнеўскі здзівіўся грубаму слову. Мікалая Міхайлавіча за далікатнасць і вытанчаныя манеры ўсе называлі маркізам дэ Благавешчанскім.

Мабыць, дапякло і яму.

Сразнеўскі адмахнуўся ад гэтых думак. Чалавек ліберальны і, ад дабрыні, памяркоўна набожны, схільны верыць у маральны кодэкс усіх «добрых рэлігій», чалавек, улюбёны ў сваю святую справу, ён не дапускаў, што такі бязмерна таленавіты, цікавы і ўчэпісты даследчык так вось возьме і схопіцца за тую палітыку.

І ён па-ранейшаму вылучаў Алеся. А калі той даў яму наступную, ужо даволі вялікую работу: «Прыдняпроўскія песні, паданні і легенды аб вайне, мяцяжы, рэлігійнай і грамадскай справядлівасці. Вопыт даследавання мэты*, сродкаў і мовы», гэты саракашасцігадовы чалавек запрасіў Алеся да сябе і доўга глядзеў на яго разумнымі стомленымі вачыма. Вочы былі трохі вільготныя.

---

* Пад словам «мэта» ў той час разумелі тое, дзеля чаго напісана кніга ці карціна, праспявана балада ці песня, — гэта значыць ідэю.

— Вы, спадзяюся, дазволіце мне пазбегнуць у адносінах да вас звароту «милостивый государь», — са старамоднай галантнасцю сказаў прафесар.

— Я спадзяваўся на гэта даўно.

Сразнеўскі гартаў лісты работы.

— Хлопчык мой, — сказаў ён. — Я не люблю празмерных пахвал. Але вы зрабілі незвычайнае. Вы адкрылі «вялікае Чыпанга», як Марка Пола. Адкрылі новы, нязнаны свет. Адкрылі, магчыма, цэлы народ. Няўжо яны былі такія?

— Якія, пан прафесар?

— Усе ж кажуць аб крайняй забітасці, затурканасці, выраджэнні нашага краю.

— Гэта ёсць. Але ў гэтых выказваннях больш палітыкі, чым праўды.

— Як?

— Трэба было давесці, што народ вынішчалі, што толькі пад эгідай Мікалая Раманава, Уварава і Аракчэева ён атрымаў магчымасць дыхаць.

Прафесар трохі спалохаўся. Благавешчанскі ў чымсьці меў рацыю.

— Лінгвістыка не ведае палітыкі, мой друг.

— Лінгвістыка — гэта значна больш палітыка, чым усё натуразнаўства. Не, народ не забілі. Ён жыве і чакае шчасця. І будзе жыць, як бы цяжка яму ні было... А наконт забітасці мяркуйце самі. Ладымер* едзе ламаць хрыбты крымчакам, вясковая дзеўка розумам пабівае князя Ганю, мужык Ваўкалака піша на лубе лісты да каханай, таксама мужычкі, Любка з Копанага Рова, што пад Крычавам, звычайная дзяўчына з месца, грае ў шахматы з «царом чорных і рагатых» Рабедзем і выйграе ў яго палонных. Або легенда аб лебядзінай келлі ці аб явары і белай бярозе. Памятаеце, на магілах юнака і дзяўчыны, раздзеленых царквой:

> Дзесьці мае дзеці у любові жылі.
> Раслі, раслі, пахіліліся,
> Цераз цэркву сушчапіліся.

Чаму «Трыстан і Ізольда» — адзнака вялікіх сіл, а гэта — прыкмета забітасці?

---

* Тут і далей размова ідзе пра герояў беларускага фальклору.

Памаўчаў:

— Так, быў і прыгнёт. Але прыгнёт нараджае не толькі рабоў. Са слабых — магчыма. Але з моцных ён нараджае волатаў.

Сразнеўскі задумаўся. Відаць, хацеў быў паўшчуваць за небяспечныя думкі, але раздумаў. Схаваў твар у далонях. Потым апусціў далоні.

— Якія гордыя, моцныя і страшныя людзі! Якая страсная прага справядлівасці! Як гэта там, у вас?

А вайна была, вайна была,
А ніўка зялезнай карой парасла,
Зялезнаю, крываваю,
Сталёваю, іржаваю.

І гэта — як дуды раўлі! І як тройчы стрэліў і на трэцім стрэле «сэрца стрэльбы разарвалася»! Што ж гэта, хлопчык?! Ці во гэта... Не, гэта:

А ўжо ж бяроза завіваецца,
Кароль на вайну збіраецца.
А ў каго сыны ёсць, дык высылайця,
А ў каго няма, дык хоць наймайця.

І як за волю сцяг трымалі. А Ляўшун граў у рог. А Грышко Пакубяціна падскакаў і ўдарыў па медным горле, што спявала, кулаком. І воля

...Зубамі падавілася,
Крывёю захлынулася.

А потым рог павезлі ў перакідных хустах, а ён сам граў. А? Як гэта?

Памаўчаў.

— Гэта — схавай. Маеш рацыю: надрукаваць гэта нідзе не надрукуюць, а людзей насцярожыш.

— Я гэтага і хачу.

— А я хачу, каб наступнай зімою, калі датэрмінова здасі экзамены за універсітэцкі курс — гэта стала тваёй дысертацыяй на кандыдата. З налёту іх возьмем. Каб не апамяталіся.

І Алесь убачыў малады, свавольны агеньчык у вачах прафесара. Не, проста ў вачах ціхмянага і добрага, але сумленнага чалавека.

Сразнеўскі раптам сказаў:

— Я не хачу, каб табе было цяжка.

— Чаму мне павінна быць цяжка?

— Ну вось гэтыя погляды. Непазбежнасць вайны за іх.

— Для мяне гэта не цяжар.

— І крайняя незалежнасць думкі, і рэзкасць, і тое, што ты адзін.

Паўза была доўгая і цяжкая. Потым прафесар ціха спытаў:

— Ты не верыш у Бога, хлопчык?

— Чаму вы так думаеце?

— Ну вось гэтыя твае думкі. Спачатку вайна за волю, мяцеж за яе, страшны бунт Ваўкалакі, Вашчылы, Машэкі, Леўшуна, Дубіны, Сымона-аршанца*. Дзіды, стрэльбы, бунчукі, страшныя, страсныя, жывыя людзі. І толькі потым рэлігійны рух, рэлігійныя паўстанні. Мяцеж віцяблян, Юр'ева ноч і «мост на крыві»** ў Воршы. Дый тое ты даводзіш, што біліся не за Бога і рэлігійную справядлівасць, а за чалавека і справядлівасць грамадскую... І потым, гэтыя твае словы, што «рэлігія — справа дзесятая».

Алесь некаторы час маўчаў, пакусваючы суглоб указальнага пальца.

— Вы маеце рацыю, — урэшце сказаў ён. — Я не веру. Як сказаў нехта, не адчуваў дагэтуль патрэбы ў такой гіпотэзе. То бок, не кажу, што зусім пакідаю замест усяго гэтага пустое месца. Я хутчэй уяўляю яго сабе як нешта, з чым трэба весці спрэчку.

— Гэта і ёсць Бог. Інача́й ты не быў бы чалавекам. Памятаеш, як Іакаў усю ноч змагаўся з кімсьці, у каго не было аблічча?

— Калі я думаю, хто я, нашто, адкуль мы прыйшлі, куды мы ідзём, што такое наш свет, ці не атам ён нейкага арганізма, якому зараз дрэнна і які таксама частка чагосьці большага, і што ёсць там, за апошняй мяжой, пра якую мы не ведаем, — я адчуваю патрэбу ў кімсьці большым, хто растлумачыў бы, і веру ў тое, што ён ёсць. Гэта ад слабасці і няведання. Але нават у той час, калі я веру, я ведаю, што гэта не Хрыстос, не Ягова, не Магамет і не Буда. Гэта проста нешта вышэйшае, чаго я не магу дасягнуць. Даводзіў жа хтосьці з новых, што сусвет, разам з Млечным Шляхам і іншымі зорнымі астравамі,

---

* Легендарныя і гістарычныя беларускія героі-паўстанцы.

** Месца сутычак бедных і багатых у Оршы.

мае форму вялікага сэрца, якое ўвесь час пульсуе. Магчыма, гэта сэрца таго, нязнанага. Мы так мала ведаем! Але, ва ўсякім разе, гэты вялікі ўладар сэрца не «всеблагий», калі дазваляе тое, што адбываецца вакол... А можа, гэта ад яго і не залежыць. «Сусвет-сэрца...» Калі я гляджу на курчы і пакуты гэтага свету, на тое, як трапеча і задыхаецца кожная жывая плоць, — мне здаецца, што ў гэтага «сэрца» вось-вось будзе разрыў.

Усміхнуўся.

— Ну, гэта ўсё трызненне на крайняй мяжы пазнання... Я не веру.

Сразнеўскі задумаўся:

— Вось бачыце. Я гэта заўважыў яшчэ па вашай рабоце аб Кірылу Тураўскім. Там, у яго «слове», кожны сказ аб прыродзе мае працяг. Сонца, якое саграваe зямлю, параўноўваецца з Хрыстом, што сышоў на зямлю. Зіма адышла — вечна жывы Бог папіхнуў нагою смерць і бязвер'е. Гэта ж дванаццатае стагоддзе, самы пачатак вашай літаратуры. А вы адсеклі канцы сказаў, і атрымаўся паганскі гімн зямлі і сонцу.

Алесь маўчаў.

— Нашто? Ці добра гэта? І нашто ўскладняць і без таго складанае жыццё?

Малады, відаць, дадумаўся да чагосьці. Упарта сказаў:

— Каб ён існаваў — ён не дазволіў бы такога здзеку з нас.

— ...І, можа, таму, што ён ёсць, вы і вытрымалі дзевяцісотгадовую вайну супраць у тысячу разоў мацнейшых ворагаў?.. Ісклалі гэтыя дзівосныя балады. Магчыма, усё ад яго. Нават ваш Богам дадзены талент, які можа натхняць і ратаваць.

— Не трэба так.

— І, магчыма, ён назнарок робіць такое з людзьмі, каб спадзяваліся толькі на свае сілы. Таму што Бог, лёс — як хочаце яго называйце — любіць моцных і трывалых людзей.

— То значыць, яны самі робяць сябе трывалымі? Самі?

— Хлопча, без Бога, няхай нават безнадзейнага, чалавек не мае падтрымкі ў сабе. Гэта падобна на ерась, ведаю: Бог, на якога нельга спадзявацца, якога трэба бараніць. Але людзі трымаюць Бога ў сабе, каб быць моцнымі... І найлепшы доказ — гэта тое, што вы выжылі, што гэта — дзіва, што не можа быць такой велічы без Бога ў душы, — паклаў руку на плячук Алеся. — Найлепшы доказ — Бог у вашым сэрцы.

...Алесь страпянуўся. Што гэта, задрамаў? Ірваны гук званочкаў. Нетры і снег. І ў гэтай безнадзейнасці чалавек ганарыцца сабою, маленькая мушка ў снягах. І вось конь, мудры конь песні, адказвае седаку:

Ой, цяжкі мне, цяжкі
Частыя дарожкі,
Частыя дарожкі,
Густыя карчомкі.

Жывая песня ў мёртвых снягах. Маленькае сэрца не звяртае ўвагі, што вялікае вось-вось разарвецца. Не звяртаючы ўвагі на сусвет, на тое, што будзе заўтра, на мяжу пазнання, на зорныя астравы, мудра і мужна льецца песня...

Ты ж мяне паставіш
Сыру зямлю біці,
А сам, молад, пойдзеш
Гарэлачку піці.

І ў гэтым вышэйшая мудрасць, але таксама і штосьці прынізлівае.

Ён думаў аб гэтым вялікім уніжэнні. І ў душы нарастала пагарда да сваёй слабасці, злосць на сваю слепату і тамленне.

А ў снягах бязлітаснай зімы мужна змагалася з марозам малюсенькая жывая крынічка песні:

Ты ж мяне паставіш
У снезе па вушкі,
А сам, молад, пойдзеш
К шынкарцы ў падушкі.

І пад гэтую песню ён непрыкметна задрамаў... Пагойдваючыся, ляцеў пад гукі ўрывістай дзіўнай музыкі некуды ў бездані вялікага сэрца. Насустрач таму, што чакала.

...Ён сніў сон, у якім бачыў Бога. Ён быў дзівосны, таму што яго нельга было бачыць, і ніхто ў свеце не бачыў яго, і толькі пачуццё таго, што ён побач, давала ўпэўненасць у тым, што ты бачыш яго... Не было пустаты ў душы, было разуменне ўсяго на зямлі на адно кароткае імгненне, і жах, што аддалішся і зноў страціш усё.

Бог быў не чалавек, і не жывёла, і не пульсуючае сэрца зорных астравоў, і не трава, і не каласы на нівах, і не слуп святла,

а ўсё святло, і белы мокры конь, і чырвоная квецень дзічкі, і адначасова — нішто.

...З глыбінь, куды ляцела, падаючы, душа, нарастаў нізкі, на мяжы слыху, гук, які запаланяў усё. Сусвет крычаў.

Калі Алесь прачнуўся, кібітка стаяла ля сходаў вежынскага палаца. Ён адкінуў вільчуру, выскачыў на снег і цераз тры прыступкі пабег да ўвахода, поўны трывогі і чакання.

*[1963]*

## ТВОЙ ЗОРНЫ ЧАС

Зорным часам аўстрыйскі пісьменнік Стэфан Цвейг назваў кульмінацыю, вышэйшы пункт кожнага чалавечага жыцця, тую вяршыню, вышэй за якую чалавек часам і не ўзнімаецца. А можа, і мог бы ўзняцца, ды не ведае пра гэта.

А павінен быў бы ведаць, павінен быў бы верыць у свае сілы, асабліва калі ён чалавек малады. Бо маладыя больш за іншых жывуць запалам свайго маладога сэрца, сваёй душы, свайго сумлення. Бо маладому ў вышэйшай ступені ўласцівая вера ў свае сілы, і, як вынік гэтага,— прадчуванне сваіх вялікіх здзяйсненняў.

Зорным часам для мараходаў было ў свой час адкрыццё Амерыкі і выхад на бераг Ціхага акіяна, для вучоных — адкрыццё электрычнасці і атрыманне радыю, для паэтаў — напісанне «Барыса Гадунова» і «Кургана».

Сёй-той, вядома, можа сказаць, што ён не Купала, не Кюры-Складоўская і ўжо аніяк не Калумб. І, аднак, ён не поўнасцю будзе мець рацыю. Амерыкі адкрыты, але мы дагэтуль не ведаем, як мігрыруюць птушкі і рыбы, хто насяляе глыбіні акіянаў. А гэта для нас, магчыма, не менш важна, бо няважных таямніц няма, і кожная патрабуе свайго героя, свайго Калумба.

Таму кожны павінен працаваць на карысць грамадства, бо яму без яго — без мяне, без цябе (так, менавіта без цябе, друг!)— абысціся нельга. Нельга абысціся без тваёй працы, без тваёй адданасці і адказнасці.

Антуан дэ Сент-Экзюперы сказаў:

«Быць чалавекам — гэта адчуваць... што, кладучы сваю цагліну, і ты дапамагаеш будаваць свет».

І гэта трэба памятаць, як і тое, што тваёй цагліны не падыме больш ніхто. І, значыцца, ні табе, ні мне, нікому на зямлі нельга кінуць справу сваю, нельга пазбыцца адказнасці за яе.

Нехта спытае: «А што мне да зорнай гадзіны? Я спакойна і сумленна раблю сваю справу. Я не рэкардсмен. Я не збіраюся быць чэмпіёнам. Я звычайны сярэдні ігрок, што акуратна з'яўляецца на спаборніцтвы, каб мая каманда не страціла ачкоў. Патрэбны і такія».

Так, патрэбны. Але як нецікава ім жыць. Добра яшчэ, што амаль ніякая каманда без іх «не абыходзіцца».

«Не абыходзіцца...» У самім гэтым слове закладзен той сэнс, што можа і «абысціся», што ўсё роўна, амаль усё роўна, ёсць ты або цябе няма.

Да чаго гэта нудна і прыніжана! А дзе весялосць і азарт, гордасць за сябе і за іншых, дзе чалавечая годнасць быць неабходным?

Адкуль ты ведаеш, дружа, што ты не здатны да таго, каб ісці першым? Чаму загадзя згаджаешся, што месца тваё не наперадзе? Проста дагэтуль нават і ты сам не ведаў сіл, схаваных у табе, не бачыў жадання прынесці ўсё сваёй грамадзе, свайму народу, свайму чалавецтву штосьці вялікае, непаўторнае.

Інертнасць дужа небяспечная рэч. Часам яна нараджае зло, таму ніколі не забывай аб гэтым. Вось чаму ў хвасце і не трэба цягнуцца.

Наш час — складаны час. Сярэдзіны ў наш век не бывае.

Нядаўна я чытаў фантастычнае апавяданне (а ці такое яно ўжо і фантастычнае?) аб тым, як на вялікім пульце кіравання наземнай ракетнай базай усё залежала ад таго, паспее маньякпалкоўнік Гаскойн націснуць кнопку ці не. Ад чалавека, які апынуўся побач з ім, залежаў лёс Зямлі.

Будзем спадзявацца, што такога не здарыцца.

Але хіба менш пачэсна адвесці, скажам, нож, занесены над чалавекам? Не менш. Таму што кожны чалавек — гэта таксама свет. І гэты непаўторны свет кожны раз згасае навекі і не паўторыцца болей са смерцю вось гэтага, непаўторнага чалавека. І той, хто яго ратуе, — кожны раз ратуе ўсю зямлю, сонца, захады і ўсходы, і ўсіх людзей, і жывёлу, і кветкі, і... зоры.

І для таго, хто ўратаваў, гэта і ёсць зорны час.

Можа ён быць і яшчэ сціплейшы. Дала першыя плады пасаджаная табою груша, расце харошым чалавекам твой сын, ты вырасціў на месцы коласа — два... Тысячы тысяч такіх спраў

чакаюць любога. І на кожным шляху (і неаднойчы) чакае чалавека высакародная работа. І кожны шлях вянчаецца зорным часам. Тваім.

Толькі не прапусці. А каб не прапусціць, патрэбна гатоўнасць, маральная сіла, сумленне, звычайная людская чысціня.

Проста трэба быць дужа харошым чалавекам.

*1967*

## «РША КАМЕН...»

Гораду майму — дзевяцьсот. Не дужа шмат, але не так ужо і мала. Полацк, самы стары горад усходніх славян, вядома, старэйшы за яго, але многія — маладзейшыя.

Дзевяцьсот...

Усе гэтыя гады ляжыць ён на вышынях Беларуска-літоўскага ўзвышша, на ўвалах, над Дняпром і ягонымі парогамі. Пойдзеш некуды за Чарталле, сядзеш над празрыстымі водамі, паглядзіш на зарэчныя камяніцы і сады і адчуеш — радзіма. Хай сабе і не жылі тут твае продкі, а — радзіма.

Тое самае, відаць, адчуваў і Купала, бо нездарма ж ён пасяліўся менавіта ў гэтых мясцінах.

Усе мы пілі гэтую ваду. Карычневую, як чай,— з Аршыцы, мяккую і празрыстую — з Дняпра, вуглякісла-жалезістую — з Любавіцкіх крыніц.

І ўсе мы, з часоў Усяслава Чарадзея, асядалі на гэтых стасажэнных гарбах, на Кабыліцкім вапняковым кліне, здабывалі тарпу і секлі лясы, палявалі на бабровых гонях, ішлі на звера і дзічыну, здабывалі балотную жалезную руду, каменнае масла (нафта дагэтуль точыцца ў ваду з берагоў) і непараўнальны наш вапняк.

«Аршанцы-вапеннікі, на вапне любяцца, на вапне родзяцца і ў вапну кладуцца».

Мы заўсёды былі народ прадпрымальны. Дзегцяры, цагельнікі, смаляры. Наваколле нашага горада заўсёды славілася садамі і пародным быдлам. Першыя на Беларусі плугі з'явіліся ў сялян — тут. І яшчэ — вытворчасць дроту, цвікоў, шкур. І ўсё гэта — на крутых і звілістых берагах, на шматлікіх «бітых дарогах», дужа старажытных (князь Расціслаў ішоў праз Оршу на Друцк — някепскай дарогай — яшчэ ў 1127 годзе). Пазней

сталі мы параходным краем (пала параходства, а шкада!), а яшчэ пасля — краем чыгуначным.

Любілі мураваць, калі паўсюль панавала дрэва. І звалі наш горад:

«Рша камен...»

Яшчэ ў глыбокай старажытнасці.

І такія ж каменныя засталіся мы і цяпер. Толькі ўжо не смалу і шкіпінар дае Орша, а швейныя машыны, ільняныя тканіны, катлы і процьму ўсяго іншага, аб чым у кароткім слове не раскажаш.

Усе, хто еў вэнджаную рыбу са славутай аршанскай «курніцы», гуляў у «піва» на валах «замка Боны» ці на разбураных мурах езуіцкага калегіума,— усе тыя згодзяцца, што адзначае нас, карэнных аршанцаў, асобая аршанская рошчына. Яна ў незалежнасці, працавітасці, своеасобнасці меркаванняў.

Падтрымлівалі мы крамольнага князя Усяслава (быў гэта 1067 год, год першага ўпамінання аб горадзе). Прыйшоў на гэтую зямлю з рабункам Васіль Трэці — і яму здолелі даць па шыі аршанскія людзі. Спатрэбілася віцяблянам забіць ката Кунцэвіча — яны паклікалі на дапамогу нас, бо ведалі мужнасць нашу і вернасць.

Ніколі не любілі аршанцы тыранаў. Не хапала сілы — замыкаліся ў сабе. Хапала — давалі свету тых мужыкоў, што пабілі напалеонаўскі ар’ергард.

У грамадзянскую вайну немцы не ўвайшлі ў Оршу. А ў пачатку Вялікай Айчыннай па іхніх нашчадках ударыў тут першы залп «кацюш».

Слаўны мужнасцю яшчэ восемсот гадоў таму назад, горад мой у мінулую вайну пасылае на вялікую бітву Заслонава і насыпае пасля Курган неўміручасці над сваімі сынамі.

Мураваны стагоддзямі, росціць ён і сёння, як грыбы, рады новых будынкаў.

Пісьменны і абазнаны ў культуры яшчэ сярэднімі вякамі (у Куцейне была адна з першых друкарань) — дае роднаму краю, з сябе і навакольных вёсак, пісьменнікаў і паэтаў.

Горад-працаўнік, горад-паэт, горад-воін, горад-вучоны — жыць табе яшчэ тысячы і тысячы год. Нізкі табе паклон ад усіх тваіх сыноў.

*1967*

# РОДНАЯ МОВА

Дзве старонкі, дваццаць ці дзвесце... А можа, тысячы тысяч?..

Усё адно, нават іх будзе мала, каб годна ўславіць цябе, родная беларуская мова. Таму што мільёны тваіх людзей самім існаваннем сваім з самага пачатку дзён кожным трапным словам, кожнай любоўнай ці гнеўнай думкай, кожным знішчальным, здзеклівым, іранічным або, наадварот, добрым, лірычным сказам славяць цябе. І славіць будуць, пакуль не скончыцца жыццё людское і думка людская на Зямлі.

Мова Скарыны і Буднага, мова Багдановіча і Купалы, Багушэвіча і Коласа, мова соцень геніяў, што яшчэ прыйдуць. Мова інтэлігентаў беларускіх, імя якім — легіён. Мова настаўнікаў і паэтаў, вучоных і кампазітараў, але перш за ўсё мова дзесяці мільёнаў людзей па ўсім свеце — ад Уругвая да Далёкага Усходу і, галоўнае, на нашай беларускай зямлі.

Мова першай матчынай калыханкі і апошняга «бывай», мова старадаўніх архіваў і новых школ на Палессі, мова пажаўцелых статутаў і мова кахання. Мова плытагонаў, сялян, акадэмікаў і шахцёраў на саляных капальнях. Мова, якая можа ўсё; можа сказаць словы нявыказанай пяшчоты і можа ўдарыць так, што не ўстанеш. Гнуткі, спявучы, адвечна новы інструмент, без якога нельга ўявіць сабе сваё жыццё, як без хлеба, без якога радасць не ў радасць, каханне не ў каханне, бяседа не ў бяседу, сяброўства не ў сяброўства і нянавісць не ў нянавісць.

Няма цябе — і вось няма суцяшэння ў горы. Няма цябе — і вось нямы язык, і нельга сказаць слоў радасці. А калі ўбіць сабе у галаву цалкам дурную думку, што ў нейкім далёкім будучым цябе не будзе, то... нашто нам тады такая будучыня?

Таму што ўсе мы — ад настаўніка да паэта — любім цябе, таму што ты — самы важлівы наш здабытак, і мы ў меру сіл нашых не дазваляем і не будзем дазваляць, каб нехта выказваў да цябе пагарду.

Тым больш дзіка, што яшчэ нядаўна зламысныя ёлупы прарочылі табе знікненне. Мала таго, самі дбалі аб ім са стараннем, вартым лепшага ўжывання. Што ж, Іваны Бязродныя вартыя толькі пагарды, як усе тыя, якія, адвярнуўшыся, праходзяць ля матчынай хаты. Яны проста не ведаюць, які ўдзел рыхтуе лёс таму чалавеку, які пазбавіўся мовы. А каб ведалі, то жахнуліся б. Толькі ж нават гэтага не дадзена іхнім бедным мазгам.

...Старая хроніка данесла да нас жудасную і горкую гісторыю. Тэўтоны захапілі землі прусаў, і старая пруская мова паступова знікла. І вось на турнір мейстэрзінгераў прыйшоў апошні прускі спявак і паэт — вайдэлот. Ён спяваў дзівосныя песні пра подзвігі продкаў, пра каханне і смеласць, пра вернасць і дружбу. Ён апяваў прыгажосць сваёй зямлі, але ніхто яго не разумеў. Яму не далі скончыць, бо рыцары рагаталі, як ашалелыя. І паднеслі старому вайдэлоту прыз... сто гарэхаў свістуноў.

Глыбокі сэнс гэтай гісторыі ясны як божы дзень: нямы той чалавек, які забыў мову продкаў, і не можа ён спаўна выліць сваю душу, выявіць сябе. Па пальцах можна пералічыць выпадкі, калі, напрыклад, пісьменнік стварае на чужой мове нешта нават не геніяльнае, а проста вартае друкавання, а не сметніка (скажам, паляк Кажанеўскі стаў англійскім пісьменнікам Джозефам Конрадам). Але нават геніяльны Пушкін, дасканала ведаючы французскую, пісаў на ёй дужа пасрэдныя вершы. Тое самае можна сказаць пра польскія вершы Лучыны і рускія — Багдановіча. А яны ж таксама большую частку жыцця чулі рускую і польскую.

Нібы нейкі лёс неўблажымы кіруе рукою таго, хто піша. Нібы цень маці, прамаці і ўсіх продкаў, што прайшлі па зямлі з дня з'яўлення на ёй людзей і народаў. І калі пачынаеш пісаць не так, як думалі і гаварылі яны, — немінуча пачынаеш фальшывіць.

У старадаўнія часы, калі яшчэ не скласіся нацыі, мова магла зрабіцца мёртвай мовай, як латынь. Але і тады мовы былі практычна неўміручыя. Тая ж самая латынь не толькі нарадзіла ўсю сям'ю раманскіх моў — ад Аргенціны да Румыніі, — не толькі, будучы ўжо мёртвай, цэлымі стагоддзямі была мовай паэзіі і навукі, але і зараз уплывае на нас творамі Катула і Вергілія, Гарацыя і Авідзія, прымушаючы нас смяяцца і плакаць. Што ўжо хадзіць далёка па прыклад: новая беларуская літаратура пачыналася з пераробкі Вергіліевай «Энеіды», і той жа самы Вергілій вадзіў па пекле заснавальніка новай італьянскай паэзіі, першага паэта новага часу Дантэ.

У новы час скон немагчымы для кожнай больш-менш развітай мовы. Нават неразвітая ўладна ўплывае на сваіх сыноў. Ян Баршчэўскі ў мінулым стагоддзі напісаў па-польску «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», але і зараз мала хто з такой выразнасцю паказаў быт беларуса, псіхічны склад ягонай душы, яго нацыянальны характар і самую Беларусь. Міцкевіч піша па-польску, але рэаліі яго твораў цалкам беларускія, але і старэйшыя і навейшыя яго даследчыкі лічаць,

што сам склад яго мыслення быў беларускі, але творы ягоныя страката перасыпаны вялікім мноствам беларускіх слоў і тых беларуска-польскіх барбарызмаў, што былі ўласцівы шляхце беларускага паходжання. Нездарма ж у паэта Канстанты Галчыньскага ёсць верш, герой якога, чытаючы Міцкевіча, нападае на слова «свежоп», перагортвае ўсе, якія ёсць слоўнікі польскай мовы, не знаходзіць такога і, не смеючы не верыць Міцкевічу, з'язджае з розуму.

Ужо шэпчуць вакол:
Што гэта зрабілася з хлопцам!
Дзякую, пане Адам!!!
Я ахвяра свежопа.

(Пераклад. — *У. К.*)

А на самай справе Міцкевіч проста «палянізаваў» звычайную беларускую «свірэпку», або «свірэп».

Не толькі беларусізмы былі ў яго творчасці. Чытаючы ў Парыжы лекцыі аб славянах, ён сказаў пра беларускую мову, што гэта найбагацейшая і найчысцейшая з усходнеславянскіх моў, адзначаная ўзнёслай прастатой.

Мова неўміручая. Воляю абставін ірландцы, напрыклад, амаль страцілі яе. Свіфт, і Уайльд, і Шоў, і дзесяткі іншых людзей, што з'яўляюцца гонарам англійскай літаратуры, былі ірландцы, любілі свой народ, але пісалі воляю няшчасных абставін па-англійску. І вось цяпер ірландская, як і валлійская, баскская, іўрыт, як мовы народаў Афрыкі, якія сотні год ляжалі ў заняпадзе, усталі. Бо мова — душа народа, і толькі на ёй можа народ найбольш поўна выказаць сябе.

Наш лёс таксама быў такі. З часоў росквіту старажытнай беларускай мовы прайшлі стагоддзі вынарадавання, забыцця, свядомага забойства. Акрамя гушчы народнай толькі ў нешматлікіх прыватных школах з закуранымі бэлькамі, у школах, дзе настаўнічалі адстаўныя салдаты ці старыя дзячкі і дзе вучылі акрамя псалціры хіба начаткам пісьма і лічэння, гучала яшчэ беларуская мова. Але было гэта ад беднасці, а не ад багацця.

Кніганошы насілі кнігі з-за мяжы. І за гэтыя беларускія кнігі ім часта плацілі кулямі салдаты з кардонаў. Але ніхто ўсё адно не мог адштурхнуць народ ад сваёй кнігі.

Кнігі палілі, супраць іх выдавалі ўказы, забаранялі самыя словы «беларуская мова». Але ўсё гэта, як і насмяханне над «паўночна-заходнім нарэччам» — нічога не дало і не магло даць,

пакуль беларуская баба стаяла з рагачом ля печкі, пакуль гэтая баба спявала калыханку над ліповай калыскай.

Мала таго, усе разумелі ўсё з большай яснасцю, што без яе, без гэтай мовы, немагчыма. Яна ўладна грукала ў светавыя дзверы.

Нават панам і гандлярам яна неабходная.

«Моцныя свету гэтага, — без яе вы падсячэце ногі эканоміцы і разваліце гаспадарку, бо не на французскай жа вам размаўляць з тымі, хто працуе, і без каго вы здохлі б з голаду!»

Але, не кажучы ўжо аб гэтай публіцы, яна неабходная і сапраўдным.

«Фалькларысты — вы збядніце чалавецтва на адзін з самых багатых фалькլораў на зямлі». І вось забароненая мова, амаль разбураная у сваёй літаратурнай, друкаванай галіне, рассыпаецца самацветамі ў запісах Шэйна, Раманава, Федароўскага і многіх дзесяткаў іншых.

Лінгвісты таксама пачынаюць разумець, што беларуская мова — гэта скарб таго, што вымерла ў другіх мовах, што, акрамя самастойнай вялікай каштоўнасці, яна — запаведнік, у якім «сохранилось очень много древнего и важного для истории» (И. И. Срезневский) і без ведання якога немагчыма славянскае мовазнаўства наогул, немагчыма вывучэнне і зразуменне іншых славянскіх моў і іхняй гісторыі.

Рэлікт? Так, калі хочаце, рэлікт, які перажыў стагоддзі.

Але рэлікт, што расце, развіваецца, дыхае, ідзе наперад волатавымі крокамі, які жыве і будзе жыць вечна.

Усе пачынаюць больш і больш разумець гэта. Сама гісторыя ўладна і неабходна штурхае на прызнанне, на павагу, на захапленне багаццем і прыгажосцю беларускай мовы. І нават тыя, што адышлі ад яе — я разумею найлепшых з іх, — рана ці позна вяртаюцца да звонкага *дзе* і густога *чаго.* Бо толькі так ім можна сказаць усё.

Чачот запісвае народныя песні і сам складае вершы па ўзору гэтых песень. Марцінкевіч ад польскага верша прыходзіць спачатку да беларускіх, не вельмі яшчэ спрытных вершаў, а пасля стварае шэдэўр менавіта беларускай па мове і антуражу драматургіі — «Пінскую шляхту».

Усё, здавалася б, занядбана, але невядомы піша «Тараса на Парнасе» і яго ведае на памяць бадай што кожны беларус. І вось Багушэвіч, якому й Бог загадаў, здавалася б, па выхаванні і становішчы, забыць усё — выбухае палымянымі радкамі ў абарону

ўсяго гэтага, забытага, стаптанага царамі і саноўнай сволаччу. І грыміць супраць ворагаў мовы і народа голас Каліноўскага. І ўжо ў слоўнік Насовіча ўваходзіць больш за трыццаць тысяч адметных, паўнакроўных, жывых, іскрамётных слоў. І ўжо геній Купалы і Багдановіча ўстае над зямлёй і займаецца над ёю далёкі яшчэ пакуль водсвет заранкі.

Першыя настаўнікі выходзяць на новую ніву. І гэта іхняй неўміручай працы, іхняму дбанню, іхнім бяссонным начам у многім і многім павінны мы быць удзячнымі за тое, што мова наша стала яваю для мільёнаў, што яна мае права патрабаваць такой жа самай павагі, як і ўсе мовы зямлі.

Мы (я кажу «мы», бо я таксама былы настаўнік) ніколі не павінны забываць, наколькі годная наша праца і хто стаяў ля яе вытокаў. А стаялі ля гэтых вытокаў, самі настаўнічалі, самі складалі першыя буквары і чытанкі Цётка, Купала і Колас. І, мяркуючы па ўсім, някепска ведалі сваю справу і зусім нядрэнна правялі яе ў жыццё. Яшчэ на зары нашага стагоддзя.

Дбаннем іх і соцень іншых мова набірае сілу, цвёрдая, як сталь, грубая, як сялянскія далоні, і пяшчотная, як спеў беларускага гівала. Яшчэ часам запінаючыся на абстрактных тэрмінах, яшчэ нясмела вымаўляючы навуковыя і філасофскія тэрміны — яна ўладна бярэ разбег. Яе ўжо не стрымаць. Першая сучасная трагедыя (я не маю на ўвазе сярэдневяковых містэрый і аповесцяў), першы раман, першая паэма — і паўсюль глыбокая зямляная праўда і дыяменты дажджу на пахучых майскіх галінах, і што ні слова, то жэмчуг падае на срэбны шчыт. І як бы часам ні было цяжка — з ёй ужо нічога не могуць зрабіць, як бы ні душылі — яна ўстае. І з атмасферы семінарыі з яе мёртвай царкоўнаславяншчынай выходзіць Якуб Колас, а са сцен школы, дзе вучаць «хто ты естэсь?» — адзін з найлепшых сучасных празаікаў Янка Брыль. Беззямельныя перасяленцы цягнуцца на Далёкі Усход — і праз семдзесят год я чую ў беларускіх вёсках на Усуры і Суйфуне яе, маю мову, нечапаную, родную, адвечна сваю. Прыходзяць і адыходзяць акупанты, усе гэтыя пілсудчыкі і эсэсманы, і след іхні знікае на твары зямным — а яна стаіць, бо карані яе ў глыбінях, дзе спяць тыя, хто стагоддзямі песціў, шліфаваў, бярог яе, лаканічную, гнуткую і цвёрдую адначасова, спявучую, тую, што з найлепшай яснасцю і дакладнасцю перадае думку чалавека, які жыве між Гродняй і Оршай, між Асвеяй і Лельчыцамі. Думку тых, якія казалі: «Хай не будзе ў таго святла, хто на досвітку табе здрадзе».

Яна вечная, бо ўся яна як наш характар. Здаецца, кволая ад пяшчотнай мяккасці, яна раптам кідае наверх схаваную ад усіх жалезную мужнасць і сілу. І, як быццам дамогшыся свайго, б’е, як перапёлка ў жытах — мякка, а за тры вярсты чуваць. «Эль» — як салодкае віно, «дзе» — як шкляной палачкай па крышталі, мяккае «с», як соннае ціўканне сінічкі ў гняздзе. І побач «р», як гарошына ў свістку, і доўга, спявуча, адкрыта гучаць галосныя. А «г» прыдыхае так ласкава, як маці на лобік дзецку, каб перастаў сніць дрэнны сон.

Дык што ж лепей за цябе, мова мая, мова наша?! За цябе, даўняя, за цябе, вечна жывая, за цябе, неўміручая?!

І ў тым, што жывая ты, што неўміручая ты, павінны ўсе мы. Сялянка, што спявае, варушачы сена, — і чалавек, які складае слоўнік, дзеці, што гуляюць у «піва», — і дзяды, што баюць аб даўнім, паэты і вучоныя. Але яшчэ — і гэта ледзь не самае важнае — у тым, што ты неўміручая — шмат паслугі першай настаўніцы школьнай і выкладача літаратуры ў выпускным класе.

Іхняму таленту, няўрымслівасці, працавітасці і любові мы павінны дзякаваць за тое, што ты моцна, уладна і назаўсёды пасяляешся ў душах дзяцей, якія потым стануць дарослымі і самі будуць мець дзяцей і ўнукаў. А ў гэтых дзяцей і ўнукаў таксама будуць настаўнікі — праваднікі вялікіх ідэй чалавецтва ў дзіцячыя душы.

Праваднікі вялікіх ідэй на вялікай роднай мове і таму самі вялікія людзі.

*1969*

## ЛЮДЗІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Фрагмент нарыса «Зямля пад белымі крыламі»

Ці думалі вы самі пра беларусаў не як пра сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, сяброў або аднавяскоўцаў, а як увогуле пра людзей з асобным характарам, як пра народ з аднолькавай мовай, мінулым, сучасным і будучым?

Ці задумваліся, які ён, беларус? Ну, па-першае, жывуць у Беларусі рускія (іх найбольш у гарадах), літоўцы (іхнія вёскі ёсць у Астравецкім і Радунскім раёнах), яўрэі, латышы (сям-там на паўночным захадзе Віцебшчыны), украінцы (у некаторых вёсках на поўдзень ад Гомеля і невялікімі гнёздамі на Піншчыне

і Століншчыне). Акрамя таго, добра ведаючы побыт, дыялектныя асаблівасці мовы, песню Палесся, я, асабіста, выдзеліў бы палешукоў у асобную этнічную групу. Занадта асобны, непадобны іхні фальклор, побыт, нават склад розуму. Ну, ладна, гэта справа вучоных, а не наша.

Ёсць на Беларусі татары. З тых, што калісьці ўзялі ў палон пры Батыі і пасля падчас набегаў пры Вітаўце і пасялілі асобнымі пасяленнямі на тэрыторыі краіны. Да нядаўняга часу яны адрозніваліся толькі рэлігіяй (цяпер і гэтага няма) ды часам імёнамі і прозвішчамі, у якіх, бывала, толькі з цяжкасцю можна было ўлавіць намёк на іхняе паходжанне. Скажам, Ян Мустафавіч Марушкевіч або Іван Багданавіч Асановіч (ад імя «Асан», «Гасан»). Нават іхні этнічны тып стаў падобны на беларускі. Нават свяшчэнныя іхнія кнігі «Аль-Кітабы» гучаць на старой беларускай мове, хаця і запісаны арабскімі літарамі.

Склад насельніцтва нашай рэспублікі досыць аднастайны. Беларусаў тут 81 працэнт. Ды, акрамя таго, у апошні перапіс беларускую мову назвалі ў якасці роднай 328 тыс. чалавек іншых нацыянальнасцей, а 606 тыс. чалавек назвалі беларускую мову ў якасці другой мовы, якой вольна валодаюць.

...Што гэта за чалавек беларус? Што гэта за народ? Уласна кажучы, адказаць на гэта пытанне дужа цяжка. Гэта задача амаль невырашальная. Як і паўсюль, ёсць сярод беларусаў мяшчане і падзвіжнікі, лайдакі і працаўнікі, «малюскі» і героі (нават у штодзённым змаганні за новае, за лепшае, за вынашаныя ідэі, што, уласна кажучы, і называецца жыццём), дурні і мудрацы. І кожны паступае адпаведна свайму характару, і мудрыя разважаюць мудра і па-свойму, а дурні — як паўсюль.

Так што не трэба абагульненняў.

Аднак, многа паездзіўшы па рэспубліцы, перазнаёміўшыся з тысячамі людзей, я насмелюся назваць некаторыя досыць тыповыя рысы, уласцівыя народнаму беларускаму характару. Гэта пераважна мой погляд (могуць быць і іншыя), хаця многія і многія людзі, і не толькі з беларусаў, падзяляюць яго.

Тыповага беларуса я досыць лёгка адрозню сярод іншых, хаця б ён яшчэ не сказаў ніводнага слова (калі скажа, тады ўжо, нават калі ён гаворыць на іншай мове і без акцэнта, яго лёгка пазнаць па асаблівай будове сказа, па тым, што, колькі паветра набрана ў лёгкія, столькі і аддадзена, шчодра, да апошняга, нават з лішнімі словамі, каб мелодыя сказа была завершана. Ён не скажа: «Чым

гэта скончыцца?», а скажа: «Дык чым, мо ўжо вы мне скажаце, скончыцца гэта — а, мо скажаце вы?»).

Гэта тое, што ў абліччы амаль няўлоўнае. Пераказаць яго цяжка. Яно ў форме носа, вушэй, у вачніцах і разрэзе саміх вачэй, у манеры рухацца, жэстыкуляваць, гаварыць, дый ці мала яшчэ ў чым. Паўночны беларус ростам пераважна высокі (не рэдкасць бамбізы па два метры ростам). На поўдні часцей трапляюцца людзі сярэдняга росту, больш прыземістыя (паўтараю яшчэ раз, што гэта не агульны закон, а толькі найбольш распаўсюджаныя рысы), затое больш каржакаватыя. У апошні час назіраецца тэндэнцыя да павышэння сярэдняга росту, як і паўсюль.

Чарнявых сярод беларусаў няшмат. Найчасцей яны сустракаюцца ў Палессі, на поўдзень ад Прыпяці і чамусьці пераважна сярод мужчын, ды яшчэ ў некаторых мясцінах на Гродзеншчыне («гродзенцы — гракі»), што частка вучоных тлумачыць рэшткамі прымесі старажытнай ятвяжскай крыві. Пераважаюць на Беларусі валасы светла-русыя ці нават бялявыя. Цёмна-русых і шатэнаў менш. Адпаведна і колер вачэй часцей за ўсё блакітны, шэры ці сіні.

Рысы аблічча мяккія, склад здаецца, на першы позірк, крыху далікатным, але гэтая далікатнасць падманвае. Праявы знешняй сілы, якая ўразіць на хвіліну дый звяне, замяняе тут вынослівасць, жылаватасць, цягавітасць. Там, дзе другі можа апусціць рукі, беларус будзе цягнуць. Іначай, у старыя часы, чалавек проста не выжыў бы сярод гэтых дрымучых лясоў і неабсяжных балот, на гэтай скупаватай зямлі. І гарт той застаўся ў яго характары на вякі. Нездарма яшчэ ў даўніну беларусы лічыліся незаменнымі на такіх цяжкіх работах, як земляныя (грабарства) і лесасплаўныя. Ды і пазней гэта праяўлялася. Напрыклад, у нясцерпна цяжкіх сітуацыях на вайне і ў партызаншчыне.

Хаця, вядома, сустракаюцца і такія «зубры», што падковы гнуць, сталёвыя пруты звіваюць на руках у другога. Адзін калісьці ў Рагачове, на спрэчку, пазносіў у адно месца дзесяць дванаццаціпудовых якараў з баржаў і пераблытаў іх лапамі так, што пасля куча людзей з гэтых лайбаў ледзь разблыталі, каб кожнаму забраць свой.

Гэта жылаватасць, фізічнае і духоўнае здароўе народа прывялі да таго, што па колькасці жыхароў ва ўзросце больш за сто год на 100 тыс. насельніцтва Беларусь пераўзыходзіць усе іншыя рэспублікі СССР за выключэннем Абхазіі і горных раёнаў Каўказа. На паўночны ўсход ад Нарачы, у раёне Дунілавіч,

Шаркоўшчыны, Глыбокага, даўгалетніх больш, чым у Абхазіі, пад Ачамчырамі. Тут, праўда, няма адзіночных асоб, якія дажываюць да 140–150 год, але працэнт стогадовых вышэй, чым там.

Таму беларуса да рэвалюцыі заўсёды абражала думка аб ім, як аб «няшчасненькім». Склалася тая думка недзе ў трыццатых гадах XIX ст. І вось пайшло! З самым шчырым спачуваннем, з болем, з крывёю сэрца вялікі Герцэн пісаў пра чалавека, які «адвык ад мовы», аб тым, што многія пакаленні прыгонных спарадзілі гэтага парыю з вузкім чэрапам; вялікі Някрасаў пісаў аб маўклівым прыдушаным працай чалавеку. Гэты погляд адбіўся і ў творчасці некаторых беларускіх паэтаў. І ўсё гэта, мякка кажучы, не адпавядала ісціне. Той, хто жыў з гэтымі людзьмі, хто глыбока ведаў ці вывучаў іхняе жыццё, быў іншай думкі. Вось словы публіцыста Грузінскага: «Ходячие представления о типе белорусского крестьянина рисуют его неказистым... тщедушным и придавленным тяжелой жизнью в болотистом бедном краю. Мои личные впечатления были не таковы. Я увидел белоруса крепкого сложения, хотя и худощавым... Но главное, я не заметил и следа угнетенности, забитости. Манера держать себя и говорить, действительно, отличалась от великорусской своей медлительностью, сдержанностью, но в ней виделась скорее степенная важность, я бы сказал, задумчивость, не лишенная достоинства. Выразительные физиономии встречаются очень часто, а среди женщин и девушек много прямо красивых лиц»*.

Дый Дабралюбаў, гаворачы аб тым самым, казаў, што вось і італьянцаў нібы забілі, пазбавілі волі і так гаварылі да часоў Гарыбальдзі. Тое і жыхары Беларусі: «Так вот целый край взяли да забили. Посмотрим, что еще скажут сами белорусы».

Чаму ж склалася такая несправядлівая думка? Таму што тут да заведамай ідэі і мэты за вушы прыцягваліся факты. Ішла барацьба за душы людзей, і таму царскія служкі хацелі давесці, што вось, маўляў, да чаго давялі людзей польскія паны, а тыя з не меншым запалам даводзілі, што да жывёльнага стану давяла гэты народ царская палітыка і новая дзяржаўная сістэма. І кожны соваў свае казыры. А «даведзенаму да жывёльнага становішча народу» было напляваць і на тых і на другіх. Ён жыў, не збіраючыся ні выміраць, ні губляць мову.

---

* Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб, 1905 г., т. IX, с. 156—157.

А тут пусціліся ва ўсе цяжкія «рыдальцы над меншым братам». І, як ні дзіўна, той жа думкі сталі прытрымлівацца людзі вялікага таленту і вялікай душы. Занадта добры і зручны агітацыйны «прыклад» быў перад вачыма. Усёй душой жадаючы зваліць самадзяржаўе, гвалт і несправядлівасць, яны ўзялі ў якасці зброі заведама няверны тэзіс. І на ім, як гэта ні сумна, сышліся непрыміручыя ворагі: святыя нарадавольцы — і афіцыйныя ідэолагі, што жылі «применительно к подлости», чалавек, які адчуваў боль народную так, нібы з яго здзерлі скуру, вялікі Някрасаў — і прайдзісвет «чего изволите» Каткоў.

А між тым гэтаму люду было, як заўсёды, у вышэйшай ступені ўласціва інстынктыўнае адчуванне справядлівасці і несправядлівасці. Галоўнай яго рысай з'яўлялася свабодалюбства. Пра гэта сведчыць іранічная і злая легенда, якая склалася якраз у тыя 30-я гады XIX ст., калі гвалтоўны перагон у праваслаўе, хабары, зверства і жорсткасць сталі нясцерпныя. Вось яна.

«Бог дзяліў між народамі землі. Адным тое, другім — тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану Богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: «Рэкі вам даю поўныя, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя. Спёкі ў вас ніколі не будзе, але і холаду — пагатоў. Зажэрціся на багатай зямлі не дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, але і голаду ў вас ніколі не будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Не ўродзіць бульба, то ўродзіць жыта ці яшчэ нешта. А яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чародамі, рыбы ў рэках — касякамі, пчолы ў борцях — мільёнамі. А травы — як чай. Не будзе голаду. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці — дужыя, сады — багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песні, вершы — здатныя. На дойлідства — таксама. І будзеце вы жыць ды жыць, ну як...» Тут яго Мікола ў бок штурхае: «Пане Божа, ды вы падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаеце! Гэта ж вы... бо-жа мой! Ды яны пры іхняй языкатасці туды з сапраўднага раю ўсіх перавабяць! Яны ж языком менцяць — дай Бог нам з вамі». Бог падумаў, кракtануў, але назад адбіраць не будзеш. Сапраўды, ёсць ужо яна, зямля. Лані бягуць — лес варушыцца. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы — да сонца. «Добра,— кажа,— зямля будзе — рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся — дам я вам найгоршае ва ўсім свеце начальства. Яно вам таго раю трохі збавіць дый пыхі трохі-трохі вам саб'е. Гэта вам для раўнавагі».

Наіўным і недалёкім, толькі напалову добрым, выглядае тут «бог», асцярожным бюракратам выглядае Мікола. У гэтай легендзе ёсць толькі адзін герой, народ, які прыдумаў яе. Жывы, разумны і вольналюбівы. Так ён глядзеў на сябе сам, так павінны глядзець на ягоны тагачасны воблік і мы.

Ён давёў гэтае вальналюбства і, хай сабе не заўсёды спалучаную з зухаватасцю, спакойную смеласць і ў бясконцых паўстаннях супраць прыгнятальнікаў, і ў пераможных войнах з татарамі і крыжаносцамі, і ў вялікай мужыцкай вайне XVII ст., і, урэшце, у апошняй вайне з фашызмам.

Як было відаць з той легенды, якую я вам толькі што расказаў, зямляк наш вызначаецца і ўтрапёнай любоўю да працы. Я нават сказаў бы: валовай упартасцю ў ёй. Гэта таксама добра тлумачыцца. Скупая зямля ой як нялёгка давала хлеб. Для новага поля даводзілася (а часам і зараз даводзіцца) карчаваць «ляду». Сячы лес, выдзіраць з зямлі карчы, зносіць на межы камяні.

Упартасць гэтая ва ўсім. У досыць бязлеснай мясцовасці пад Карэлічамі жанчына надумала сама, адна насадзіць цэлы лес. І насадзіла. Адусюль цягала саджанцы бярозы, дуба, клёна. Старалася некалькі год. Цяпер на гэтым месцы шуміць густы, досыць ужо высокі, паверхі на чатыры, лес.

Мабыць, з-за гэтага працалюбства і кранальнай сваяцкай, кроўнай любові да зямлі — беларус і дагэтуль пераважна аратай, земляроб. У сельскай гаспадарцы занята 57 працэнтаў насельніцтва. Але агульная урбанізацыя ідзе і ў нас. У 1960 годзе сялян было 68 працэнтаў, у 1965 — 62,8 працэнта, цяпер, як ужо сказана, 57 працэнтаў. Тут трэба ўлічыць яшчэ і тое, што многа сялян з Палесся і іншых мясцін, дзе досыць цесна з зямлёй, выехалі на Алтай, у Барабінскі лесастэп, Хабараўскі край і асабліва Прымор’е, дзе ёсць мноства беларускіх вёсак.

Тая самая няшчодрая зямля прывучыла калісьці беларуса да разліку ў вядзенні гаспадаркі, да ашчаднасці, да таго, што «нішто не прападае», усё ідзе ў справу, нават падабраны цвік, нават лясіна ці калода, прыплаўленая ракой, і, аднак, дужа памыліўся б той, хто назваў бы яго скупым.

Беларус якраз адрозніваецца шчодрасцю, заўсёднай гатоўнасцю прыйсці на дапамогу ў бядзе. Калі раней у каго на вёсцы здараўся пажар — вёска талакою ішла красці панскі лес, калі не было свайго, за пару дзён ставіла пагарэльцу новую хату, дзялілася з ім жытам: кожны адсыпаў са сваіх засекаў колькі мог, каб чалавек дажыў да вясны і абсеяўся. Потым з кожнай

хаты неслі рэчы: хто посцілку, хто падушку, хто палатно, хто гаршкі. Памагалі рабіць тыя рэчы, што селянін звычайна рабіў сам: хадакі, лыжкі, балеі і г. д. Гэта не таму, што былі такія ўжо добрыя. Без гэтага было — не выжыць. Дужа добра сказаў пра гэта адзін з лепшых нашых паэтаў, вялікі Максім Багдановіч:

Зноў змяшай муку з карой таўчонай,
Бо памерзла ніва у суседа.

Раней падчас голаду іншым разам людзі з больш багатых мясцін прыходзілі на Беларусь па дапамогу (у нас вымачыць дажджамі жыта — уродзіцца бульба на пяску і авёс, не будзе бульбы — будуць грыбы, рыба, не будзе й таго — паляванне выручыць): сапраўднага голаду не бывала, калі не вымятала ўсяго вайна або ліхі пан ці чыноўнік, дый то заўсёды ўмелі людзі выкруціцца, прыхаваць, скамбінаваць — на гэтыя выпадкі яна і была, беларуская ашчаднасць. То вось я, прынамсі, не чуў, каб галадаючага адпусцілі з хаты з пустымі рукамі.

Часам праходзіла нейкай вёскай па пяцьдзесят на дзень і не бывала так, каб кожнаму не далі хаця вядзерца бульбы, хаця лусты хлеба ці жмені гароху і не пакармілі. Сабе пакідалі толькі, каб самім пратрымацца да вясны, да шчаўя, маладой крапівы, да першай рыбы, да «грыба бедных», майскага смаржка.

Гэта ў час бяды. Але і ў звычайныя добрыя часы ўсе, хто прыязджае да нас, адзначаюць як адну з галоўных рыс — гасціннасць, пачасту досыць цяжкую для госця. «Госць у хаце — Бог у хаце» — і ганьба таму дому, дзе не зробяць ўсяго, нават немагчымага, каб госць быў задаволены. «Белорус отличается гостеприимством, склонностью к веселию и доверчивостью, хотя ее можно и не сразу снискать. Отсутствие злопамятности в белорусе резко бросается в глаза всякому, кто с ним сталкивается. Вообще он обладает кроткой натурой»*.

На гэтую «рахманасць натуры» часта разлічваў вораг нашай зямлі. Ворагі, бо іх за нашу гісторыю бывала досыць. Адзін з членаў нацысцкага ўрада так проста і пісаў, што беларусы, як народ інертны і мяккі, добры, бязвольны і рахманы, павінны быць вынішчаны або выселены раней за ўсіх і што гэта будзе досыць лёгкай акцыяй, бо на якое-небудзь больш-менш арганізаванае і зацятае супраціўленне разлічваць не даводзіцца. Тут ён трохі-

* Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб, 1905 г., т. IX, с. 156.

трохі памыліўся, крыху недаацаніў рахманага чалавека, які за гады акупацыі забіў цэлую кучу людзей дзейных, прадпрымальных, цвёрдых, жорсткіх, валявых і здатных на ўсё, апранутых у ваенныя мундзіры, у мундзіры СС, фельджандармерыі і гэтак далей, узброеных бязмерна лепшай зброяй. Сярод гэтых «людзей, якія пройдуць паўсюль», было 47 генералаў, шмат вышэйшых чыноў адміністрацыі, нават гаўляйтар Беларусі. Я скажу аб гэтым у другім месцы, а тут дабаўлю толькі, што «інертны» і «бязвольны» мясцовы чалавек пусціў пад адхон 11 128 саставаў з надпісам «Deutsche Reichsbahn». Так што рахманасць беларуса таксама да пары да часу. Пяройдзеш мяжу — і тваім ворагам будзе страшны чалавек. Страшны асабліва тады, калі гнеў яго спакойны і разлічаны.

Што ж датычыцца такіх абставін, калі не чапляюць кіпцем за сэрца, то тут аўтар «Расіі» меў рацыю. Галоўнае ў нашым характары — гасціннасць добрага да добрых.

Так, многія старыя гасцінныя звычаі пакрысе выміраюць, гарадскі чалавек можа часам не ведаць чалавека з суседняга пад'езда, але і цяпер у нас рэдка знойдзецца хата, у якой не паставілі б рубам апошняга рубля, калі ў доме госць. Часам гэта бывае нават смешна, і беларус кпіць са сваёй «празмернай» гасціннасці досыць злосна: «Госць, як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць», «Добра было ў гасцях, толькі прынукі не было» (не прымушалі настойліва, ледзь не сілком, піць і есці, а сам саромеўся), «Госць сядзе куды скажуць, хоць на покуць, а гаспадар, як скула, дзе захоча, там і сядзе», «Пры мілым госцю і гаспадар пажывіцца», «Ноч якая месячная! Каб быў госцем, даўно б дахаты пайшоў». «Госць першы тыдзень — золата, другі — серабро, а трэці — медзь, хоць і дадому едзь...»

Гэта, урэшце, жарты. Гасціна ёсць гасціна.

Уласціва нашым людзям знаходлівасць, нават некаторая хітрасць. Вось першы прыклад, які прыйшоў мне ў галаву. Падчас паўстання 1863—1864 гг. за невялічкім атрадам, коннікаў на 40, зраненым, выматляным у баях, знемагаючым — гналася карная ўрадавая часць у 200 шабляў. Дзяліла іх гадзіна адлегласці. Камандзір зразумеў: не ўцячы. Будзе няроўны бой, смерць у ім, а параненым — шыбеніца. І тады ён свядома скараціў гэтую гадзіну. Спыніў атрад у лесе непадалёк ад карчмы, прывязаў коней, загадаўшы аднаму паўстанцу рабіць так, каб тыя зрэдку гігаталі. Астатнія пайшлі ў карчму, узялі ў карчмара ўсе вёдры «паіць коней» і пачалі цягаць ваду са студні ў лес. За палову

гадзіны перанеслі каля трохсот вёдраў і вылілі ваду пад дрэвы. Пасля пайшлі далей. Знясіленыя паўстанцы бурчалі на свайго камандзіра, але той ведаў людзей і ведаў, што робіць...

Карная частка спынілася ля карчмы. Афіцэр спытаў, ці не было тут «мяцежнікаў».

— Былі, паночку, коней паілі.

Ужо гэта было нязвыкла: паіць коней, калі табе наступаюць на пяты. Значыць, не баяцца.

— Доўга паілі?

— Доўга. Трыста вёдраў аднеслі ў лес.

Арыфметыка была простая. Вядро на каня, бо рабілася ўсё ж наспех. Значыць, трыста шабляў, стрэльбаў або нават і проста кос. Афіцэр адмовіўся ад пагоні.

Іх аддзяляла тады ад паўстанцаў дзве вярсты, бо коні тых ледзь ішлі... Атрад уліўся ў большы і доўга яшчэ мужна ваяваў.

Або яшчэ. Падчас Айчыннай вайны ў некаторых нашых акупіраваных месцах асірацелыя дзеці арганізоўвалі нешта накшталт арцеляў па нападу. Звалі іх «вераб'і». Чалавек пяцьдзесят дзяцей наляталі на нямецкую машыну, што стаяла недзе ля казармы ці штаба (мелі ўжо вопыт, ведалі, у якой ежа, цыгарэты або абмундзіраванне), хапалі груз і разбягаліся. Ёсць у вартавых крыху сумлення — стрэляць у паветра. Няма — нехта застанецца на зямлі, затое астатнія тыдзень-другі, мяняючы, будуць мець хлеб. «Вераб'ёў» разбіралі па хатах, бралі ў атрады, але іх было дужа многа. І, акрамя таго, у іх быў свой «прафесіянальны» гонар: не браць у сваіх, якія таксама галадалі. І вось адзін мой знаёмы з Рагачова, даўно ўжо дарослы чалавек, расказаў мне, як ён, дзейнічаючы ў той дзень як «вольны паляўнічы-адзіночка» прыгледзеўся да нямецкага шпіталя. Рагачоў не меў буйных прадпрыемстваў, яго не бамбілі, і таму немцы размясцілі ў ім шпіталь для сваіх «асаў». Хлопчык заўважыў, што як толькі настае гадзіна абеду, то ўсе санітары, сёстры, дактары ідуць у сталоўку. Пунктуальнасць нарадзілася раней за немца. І вось падлетак падчас абеду проста ўзяў ды спакойна зайшоў у шпіталь. Адчыніў дзверы — палата на аднаго. Ляжыць «распяты», падвешаны на вяроўках з грузамі, афіцэр (пазней выявілася, што гэта быў палкоўнік, адзін з лепшых асаў імперыі). Пэўна, косткі пераламаў, упаўшы з самалётам, знайшоўся ас і на яго. «Ага, значыць не пагоніцца». А на стале перад ім — багацце. Тады «верабей» узяў і склаў у запазуху і ў кошычак, у якім, відаць, палкоўніку гэта і прынеслі, шэсць каробак шакаладу,

некалькі бутэлек каньяку, лікёру і віна, дваццаць пачак цыгарэт. Забяспечыў, словам, сабе хлеб на месяц-другі (бо карміў яшчэ й цалкам бездапаможнага дзеда). Немец спачатку глядзеў на гэта з поўным непаразуменнем, а пасля нешта абурана загергетаў. Тады хлопчык высалапіў язык, закруціў вачыма, як паміраючая каза, і адказаў:

— Бэ-бэ-бэ-бэ.

І выйшаў. Трывога паднялася праз палову гадзіны, калі скончыўся абед. Як бачыце, гумар не пакідае беларуса нават у самых страшных абставінах. І правільна. Іначай жа — бывалі часы — хоць вешайся ад такога жыцця.

Беларус — вялікі аматар пажартаваць з суседа, але яшчэ больш з самога сябе. Ён назіральны і таму падмячае тыповыя рысы характару людзей. Гэта ў беларускім асяроддзі (сведчанне этнографа Красава) нарадзіўся славуты анекдот пра размову трох украінцаў. Адзін расказваў пра гарадскі мост, зроблены «без їдного цв’яшка». Другі страшэнна здзіўляўся. «Без їдного?», «Без їдного», «І воли їздять?», «І воли», «І машини?» «І машини», «І начальство дозволяе?» «І начальство». Трэці, які маўчаў, паківаў галавою і сказаў задуменна: «Отак і людина, живе-живе, тай вмре».

Напрыклад, ішоў селянін лесам і ўбачыў, што маланкі нешта б’юць з неба толькі ў адзін корч. Падышоў, прыгледзеўся, аж гэта Бог ваюе з чортам і нічога яму не можа зрабіць. Пальне, а той высунецца, і ў неба — дулю. Мужык вырашыў памагчы. Зарадзіў стрэльбу срэбнай, на нячысціка, куляй і забіў чорта на месцы. Тут з неба голас: «Бэндзеш свенты». Бедалага аж за галаву схапіўся: «Бож-жа ж мой, і там палякі!»

...Гэтая рыса здавалася б маласімпатычнай, каб не тое, што са сваіх недахопаў, увогуле з сябе, беларус жартуе куды больш з’едліва і злосна.

Вось начальнік скручвае свякроўцы, што прыйшла скардзіцца на нявестку, з аднаго кулака аж дзве хвігі: «Няхай пасмее па маіх хвігах ударыць. Але помні сабе, што калі па гэтых хвігах ударыць, то падавай у суд, а як раскруціш пальцы ды сама зложыш, то няхай сабе ізноў таўчэ табе пальцы,— я бараніць не буду». І вось баба гэтымі «важнымі хвігамі» тэрарызуе хату і вёску.

Вось чалавек прыйшоў у Вільню, ідзе па мосце і бачыць, што два падлеткі дзеляць на ім чубы.

— Што вам за ліха? Чаго вам не хапае?

— Б’ёмся, праўда, але за цябе. Гэты гіцаль кажа, што ў цябе шэсць пальцаў на назе, а я кажу, што пяць.

— Пакіньце, дзетачкі, бо ў мяне папраўдзе пяць.

— Не, мы так табе, дзядзька, веры не дамо: скінь боты і пакажы.

— Добра, хлопчыкі, супакойцеся. Пералічылі — пяць.

— Ага, а чаму ж ты, дзядзька, паказаў нам толькі правую нагу? А на левай дык, пэўна,— шэсць пальцаў.

А, хай ім. Разуў і левую. Ну і ясна, не было ўжо каму тых пальцаў лічыць, але й на пальцы не было чаго нацягнуць. Мараль: «Хітры наш брат, як чорт, але і дурны, як варона».

...Па агульным назіранні беларусам прыродна ўласцівая павага да іншых народаў і памяркоўнасць да таго, хто думае іначай. Бываюць, вядома, сумныя выключэнні, але гэта сапраўды толькі выключэнні.

...Сям’я. І тут не буду гаварыць сам, а звярнуся да той жа «Расіі» (стар. 193):

«...отношения мужа и жены в белорусской семье представляют мало примеров... грубого обращения. В случае взаимных споров народный суд (гэта значыць вясковы суд, суд грамады.— *У. К.*) чаще становится на сторону жены и строже относится к мужу. Даже народные песни говорят только о страданиях жены, выносимых ею от мужа-пьяницы, но в них трудно найти мотивы, в которых воспевалось бы горе жены вследствие ее подчиненного положения».

І гэта так. У гэтым сэнсе змянілася хіба тое, што жанчына цяпер не залежыць толькі ад прыроднай дабрыні і нязлоснасці мужчыны-беларуса, што яна роўная, што на баку яе савецкі закон, што «ты не лайся, дзядзя, пры савецкай уладзе».

Сямейныя адносіны вельмі прыкрашае той самы нязлосны, дужа ўласцівы нашаму чалавеку гумар. Вось сямейнае жыццё ў прыказках. Хлопец доўга ходзіць халасты: «Тады Юзік ажэніцца, як лысы вол ацеліцца...» Але вось «Юзік» закахаўся. І хаця Янка Купала трапна сказаў:

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не наважыцца кідаць.

Але і тут сур’ёзнасць справы хаваюць за ўлюбёнай іроніяй: «Улюбіўся, як чорт у сухую грушу», «У каханкі смаляныя лаўкі»

(г. зн. прыйшоў і сеў, як прыліп, і сядзіць ледзь не да раніцы). Іранізуюць і з маці: «Матка дачку хваліла, пакуль з рук не звaліла», і з жаніха: «Жаніся, больш старцоў (жабракоў) будзе», або «Ды што з тваёй Ганкай, хіба дзятлоў разводзіць» (намёк, што нібыта ў нявесты доўгі нос). Ну і, ясна ж, з нявесты: «Дзеля дроў замуж пайшла», «Дзеўкаю — поўная вуліца, а жонкай — поўная печ». Маладое пакаленне таксама не застаецца ў даўгу: «Горкая рэдзька, ды ядуць, кепска замужам, ды ідуць». Скажуць ім: «Ды ён жа ў цябе з лапаць», а ім адкажуць: «Няхай сабе гаспадар з лапаць, абы за ім не плакаць».

Пажаніліся. І тут рэдка гавораць аб гэтым пры чужых усур'ёз: «Ані лыжкі, ані міскі, а павесіў тры калыскі», «Што, браце, не жаніўся — цяры анучы, ажаніўся — цяры анучы» (бо ўсё адно брудныя). Часам нават у літаратуру ўдаюцца, Багдановіча цытуюць:

Як пачаў ён параю
З мушкай жыць —
Давялося беднаму
Патужыць.
Не ўмее мушачка
Працаваць,
Толькі ўмее з хлопцамі
Жартаваць;
Ані выткаць кросенкі,
Ані шыць,
Ані стравы хораша
Наварыць.
Паштурхаў камарычак
Галаву:
«Як я з гэткай жонкаю
Пражыву?
Дзе я вочы, брацікі,
Меў свае,
Як сабе за жоначку
Браў яе?»

Могуць выдумаць і зусім недарэчнае. Вось чуты мною расказ аднаго веселуна пра дужа харошую, дружную, працавітую сям'ю:

«Янка з Яўгінняю дужа добра жывуць. Дзеўкаю была, то выйдзе на вуліцу — за кулакамі свету не відаць, а цяпер зой-

дзеш у хату, то не відаць і ў хаце. Ну, я вам скажу, мужчынкі, і ў дзецях ім шчасце. Аднойчы вось так б'юцца, матка малодшага на дапамогу кліча, а старэйшы яго трымае, угаворвае: «Кінь, хай б'юцца. Мы з табой браты родныя, а яны — чэрці зводныя». Старэйшы дык увогуле малайчына. У яго адна песня: «Бацька няхай едзе араць: яго коні знаюць, а я пайду ў карчму: мяне там чакаюць». Адзін раз выцягнуў усё ж абодвух касіць. Ідуць. Канава, вадою налітая. Вось, Іван, Яначка наш разагнаўся і — цыб! — пераскочыў. Тады малодшы гаворыць: «Глянь ты, бацька наш яшчэ які! Стары — стары, а скача, як сабака». Тут старэйшы абурыўся: «Ты што гэта? Ты як гэта на роднага бацьку? Ну скочыў і скочыў. Ну скочыў, ну і чорт з ім».

«Мужчынкі», што слухаюць веселуна, рагочуць.

Тут жа сядзіць сам Яначка, любы Іван, і пахмыквае. З жонкаю лад. Старэйшаму пятнаццаць гадоў, малодшаму дзесяць. Чаму не паслухаць, як менціць языком чалавек?

...Дзяцей увогуле найлепей, як найболей. «З дзеткамі гора толькі да заціркі, а там — пайшло» (гэта значыць, пакуль сам не пачне есці), «Адзін сын — не сын, два сыны — паўсына, а толькі тры сыны — сын». Таму і люляюць дзяцей прыказкай: «А-а-а, малое, пакуль будзе другое, а-а-а, Несцерка, пакуль будзе шэсцерка». Таму і гавораць: «Адзін рукаў — і той падзяру для сваіх дзяцей». «Дорага не так татава хата, як сам татак».

Біць дзяцей — апошняя справа. «Не біце вяроўкамі, навучайце гаворкамі, не біце дубцамі, навучайце слаўцамі». А ўжо як здарылася нешта з дарослым сынам, то існуе і такое «суцяшэнне»: «Тады трэба было біць, як упоперак лаўкі мог легчы, а цяпер што ж зробіш, калі дарослую доўбню і ўздоўж не пакладзеш». І як апошняе: «Калі не слухаеш бацькоў, паслухаеш сабачае скуры» (сабачаю скураю за Мікалаем І, калі салдацкая служба цягнулася 25 год, абцягвалі барабаны, так што сэнс пагрозы цалкам зразумелы).

Пра дзяцей ёсць вельмі добрая легенда. Жанчына некалі паскардзілася вялікаму чараўніку, што рукі адвальваюцца: дзеці да году не ходзяць, цяляты, ягняты, жарабяты. Усіх на руках насі. Той узяўся памагчы. Кінуў цераз высокі плот жарабя — пабегла, цяля — таксама, ягня — і яно пабегла. «Ну, кажа, давай дзіця». Матка абурылася: «Эге, так я табе і дам дзіця цераз высокі плот кідаць». — «Ну то тады і насі...»

Ёсць, вядома, і іншыя прыказкі: «На нявестку сем год грады брэшуць», «Прымак пятнаццаць гадоў цёшчынага ката на

«вы» заве», але значна больш такіх: «За добрым гаспадаром і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне», «Злодзей абкрадзе — сцены астануцца, а жонка памрэ — усё з двара звязе». «З кім жыць — таго не гнявіць», «Не дай доля два разы жаніцца і два разы будавацца», «Не піў, не еў бы, ды на жонку глядзеў бы». І, урэшце, апошняя: «Мілая ты мая, ты на той свет, і я ўслед».

...А тое, што часам старыя бурчаць: «Як правіў бацька, то каты лазілі, як паправіў сын, то і сабакі сталі лазіць» — гэта ўсё жарт.

* * *

Рэаліст у рэальным жыцці, беларус вялікі фантаст, рамантык і летуценнік у марах. Ясна, што цяпер ужо ніхто не верыць у вадзянікаў, лесуноў, лазнікаў і ўсё такое іншае, але раней верылі. І расказвалі такія рэчы ў чаўне на рыбалцы або на начлезе ля вогнішча, што дыбарам уставалі валасы. І пра ваўкалакаў-абертняў, што бегаюць з ваўкамі, і пра тое, як на «дзяды» (дзень памінання продкаў) можна ўбачыць усіх продкаў, аж да Адама, калі два дні не есці і не гаварыць з людзьмі (іронія, праўда, ёсць і тут, бо адзін бачыў іх і, у прыватнасці, свайго «святога жыцця нябожчыка-дзядзьку», які лез праз трубу, а яго не пускала ўкрадзеная пры жыцці барана, — «і папу не выспавядаўся», — то пляменнік зарагатаў — і ўсё, яны зніклі).

Менавіта таму запісаныя фалькларыстамі беларускія казкі не ўлезлі б і ў сотню тамоў. І, прычым, такія казкі, якія пачасту не маюць адпаведных сюжэтаў у суседзяў. Вось, напрыклад, адна, што адказвае на пытанне, чаму верабей скача адразу дзвюма нагамі, чаму ў савы рознакаляровае пер'е і чаму ледзь толькі птушкі ўбачаць тую саву, дык адразу навальваюцца на яе ўсёй хеўрай і тое пер'е з яе скубуць.

Праштрафіўся верабей. Усе птушкі пагналіся за ім і загналі ў дупло. Але той быў такі хітры, што выбраў дзірку ў дупле якраз па сабе: большы за яго не ўлезе, а меншы калі ўлезе — ён яго выкіне. Вырашылі браць яго, як моцную крэпасць, на змор. Чакалі-чакалі, аж настала ноч і ўсе захацелі спаць. Каго пакінуць на варце? Ясна каго, саву. Яна ўначы не спіць. А сава была ў той час голая, як абшчыканая курыца. Ну і паставіла сваю ўмову: «Усе ў пер'ях, то чаго я маю голая хадзіць? Скідайцеся па перыйку». Ну, усе і скінуліся. Адзін шэрае пер'е даў, другі — рудае, трэці — белае ці карычневае. Стала сава, як і ўсе, толькі што пер'е дужа match рознае. Сядзела яна ўсю ноч, сядзела. А раніцай

птушкі заспалі, і яна, начная істота, пачала куняць. Верабей вылез і ўцёк... Урэшце яго ўсё ж спаймалі. І, у знак пакарання, звязалі ногі. Вось ён цяпер і скача адразу дзвюма. А птушкі, як толькі ўбачаць саву, дык адразу кожная сваё пяро дзярэ з яе. З гвалтам: «Аддай мае перыйкі, бо няма чаго было брацьць, калі ўсцерагчы не магла».

...Гэта казка жартоўная, а ёсць тысячы фантастычных. Як змей абвіўся вакол горада, як хадзіў па свеце каток — залаты лабок, як хітры селянін абпаіў півам чорта і адабраў у яго душы добрых людзей, як зачараваны змяіны кароль пакахаў дзяўчыну... Усіх казак не назавеш, не пералічыш. Іх — безліч! Запісаныя Е. Раманавым, П. Шэйнам, М. Федароўскім, А. Сержпутоўскім — яны і дагэтуль складаюць неацэнны наш скарб, тым больш вялікі, што яны былі народу замест кнігі ў тыя часы, калі кніга беларуская, нават мова беларуская былі забаронены. І тады толькі казка вяла дзяцей у далёкі край, «за сем гор і мораў, трошкі бліжэй ад сонца і трошкі далей ад месяца».

*1971–1976*

## 1. ЯКУБУ КОЛАСУ

*[Пачатак ліпеня 1952],*
*Орша*

Канстанцін Міхайлавіч!

Выбачайце за тое, што аднімаю ў Вас каштоўны час. Магчыма, што з гэтай жа справаю я павінны быў звярнуцца ў кабінет маладога аўтара, але тут справа ў тым, што мне трэба не тое, каб заўважылі асобныя недахопы, а каб ацанілі наогул усё. З маленства я звык лічыць Вас прыкладам і таму звяртаюся да Вас і ні да каго больш. Калі знойдзеце магчымым — напішыце мне, ці варта мне прадоўжваць. Да гэтага часу я надрукаваў некалькі вершаў і крытычных нарыс аб творчасці Янкі Брыля ў часопісе «Советская Украина». Астатняе я чытаў людзям. Адны лаюць, іншыя хваляць, але мне ўсё здаецца, што гэта не тое. Вучуся я зараз у Кіеве ва універсітэце, а жыву ў Оршы. Летам шмат часу хаджу па Беларусі. Вось толькі што павярнуўся з Вязынкі[1] і зараз шкадую толькі аб тым, што не давядзецца мне быць тут на гадавіну Купалы. У канцы лета паеду на Палессе. Казкі, якія ў сшытку стаяць першымі, не выдуманыя. Я іх толькі вельмі моцна і, здаецца, няўдала абрабіў. Але іншага й нельга было зрабіць, бо першыя дзве казкі чуў я ад свайго дзеда яшчэ да вайны, не памятаў нічога, акрамя сюжэту і асобных выразаў, «Надзвычайную котку», «Мужыка і дзіва» і «Аўтуха-дамоўніка» пашырыў з двух-трох сказаў, «Пятра-разбойніка» пачуў у Рагачове ад рыбака Ганцоўскага, які мне сказаў яе «па случаю» (я яму расказаў «Казку аб двох вялікіх грэшніках» з Някрасава, падобную да гэтай). Казак у мяне ёсць яшчэ з паўсотні, дзесятак песень і іншае. «Вобразы казак» нарадзіліся з павер’яў, асобных фрагментаў казкі. Чаму

толькі не намагаюцца фалькларысты запісаць усё гэта. Яно ж перад новымі інтарэсамі адступае.

Вершы кепскія, хоць я пісаў спачатку толькі іх. Прыклаў нават два вершы па-руску, гэта з ранніх. «Ваўкалака» — гэта з падання аб разбойніку, які мог перакідацца ваўком і ў якога калісь паны забілі бацьку і матку. Апавяданняў шлю два. Калі ласка, прышліце свой вырак.

Яшчэ раз прашу прабачэння.

*У. Караткевіч*

## 2. ЯКУБУ КОЛАСУ

*30 кастрычніка 1952 г.,*
*Кіеў*

Дзень добры, Канстанцін Міхайлавіч!

У дзень Вашага сямідзесяцігоддзя дзякую Вам за тое, што Вы існуеце на зямлі, што ў мінуты вялікага шчасця думаеш аб Вас, што ў мінуты, калі вельмі і вельмі цяжка — зноў-такі звяртаешся да Вашых вершаў і паэм, бясконца набіраючыся ад іх сілы. Наўрад ці Вы самі ўяўляеце, як уяўляюць гэта Вашы чытачы, што Вы для Беларусі, чым бы мы з'яўляліся без Вас і Купалы. Купала быў моцны сваёй тугою па Радзіме, Вы — упэўненай верай у яе, спакойнаю любоўю да яе. Жадаю Вам доўгіх-доўгіх год жыцця, вялікіх сіл для вялікай працы на яе карысць. Вы зрабілі першы і вялікі крок па шляху да нашай мэты, дзякуй Вам за гэта, добры Вы чалавек.

Тое, што Вы пасеялі — не знікне, і людзі, выхаваныя Вамі, цвёрдай хадой пойдуць па гэтым шляху і справы Вашай не згубяць.

*У. Караткевіч*

## 3. МАКСІМУ ТАНКУ

*12 лістапада 1955 г.,*
*в. Лесавічы Тарашчанскага раёна*
*Кіеўскай вобласці*

Паважаны Яўгені Іванавіч!

Прабачце, што турбую Вас і адбіраю дарагі час, але што яшчэ застаецца рабіць. Вы ўжо не вельмі злуйцеся, калі адарву Вас ад нейкай важлівай справы, а проста адкладзіце адказ да таго часу, калі будзе магчымасць, — я і пачакаць магу.

Перад ад’ездам з нарады[1] мне шмат хто казаў, каб я ў сябе не проста так сядзеў, а ўсё ж пасылаў нешта, і хоць як мне нязручна, але я вырашыў паслаць. Доўга капаўся, давялося шмат перарабляць, і толькі цяпер вырашыў, што яны хоць чалавечы выгляд набылі. Адабраў 11 вершаў, адзін верш у прозе і невялічкую паэмку[2]. Высылаю ў двух канвертах. Можа, і знойдзеце тут нешта вартае, хоць наўрад.

Яўгені Іванавіч, ведаеце, мне б дужа хацелася, каб нехта проста, як старэйшы друг, а не так, як у кансультацыі, без громкіх слоў, сказаў, па якому шляху трэба ісці, чаго пазбягаць і на што звяртаць увагу, што зараз самае патрэбнае.

Я не выношу людзей, якія скардзяцца, але ўсё ж гэта цяжка, калі ніхто не можа сказаць сваю думку наконт вершаў проста таму, што чытаюць верш два разы, перш чым сяк-так зразумець[3]. Таму я і кінуўся быў пісаць на рускай і ўкраінскай мовах. Хай будзе крытыка жорсткая, хай разнясуць — усё лепей. І я вас прашу — не шкадуйце, калі нешта будзе не так.

Толькі не ведаю, ці можна зрабіць нейкі выснавак на аснове гэтай дробязі. Калі гэта будзе немагчыма, дык тады лепей потым.

У Мінску я вельмі саромеўся, а тут не бачу твараў, а толькі аркуш паперы, і так неяк лягчэй можна сказаць і пра сябе.

Пішу я даволі даўно. Пачаў яшчэ ў 15 год[4], але гэта было так проста і з часам заглухла. Потым ва універсітэце пісаў[5]. Пісаў многа, бо дадому цягнула. Там, між іншым, і «Машэку» напісаў. А потым нешта так яно і скончылася. Галоўнае — мала хто разумеў. Пачаў быў прыстасоўвацца, напісаў гэтага злашчаснага «Вашчылу»[6] і інш. Выходзіла дрэнна, раззлаваўся сам на сябе і кінуў зусім. Амаль тры гады не пісаў нічога, акрамя выпадковых рэчаў. Усё ж не кінуў зусім, бо гэта ж такая зараза, гэтыя вершы. Часам лавіў сябе на тым, што ўначы пішу. Прач-

нуся і лаюся. Можа вынікнуць пытанне, чаму не пасылаў. Не ведаю сам. Галоўнае, мусіць, тое, што думаў, чаго я буду лезці.

Калісьці, праўда, Уладзімір Іванавіч[7] узяў два вершы і надрукаваў у раённай газеце, але ж гэта не тое. Ну, словам, кінуў. А потым выпадкова паслаў таварышу[8] некалькі вершаў, а ён аднёс Анатолю Сцяпанавічу[9], і загарэўся сыр-бор[10].

Якую вы справу добрую зрабілі для мяне і як я вам удзячны за гэта. І Цімахвею Васільевічу[11], і Уладз. Іванавічу, і тт. Зарыцкаму[12] і Нехаю[13], і ўсім-усім. Гэта, ведаеце, упэўненасць. Цяпер я ўжо не кіну. Так хочацца працаваць, і адчуваю я сябе нейкім новым, іншым.

Столькі задумаў і ідэй. Вершы цякуць. Быццам усё, аб чым думаў тры гады, раптам прарвалася. І не толькі вершы, хоць гэта галоўнае.

Зараз у мяне ёсць планы (і сёе-тое пішу) на добры дзесятак апавяданняў. Абрабляю народную легенду, якую назаву «Маці Ветру» (з часоў паўстання Вашчылы), абрабляю на апавяданне народную песню пра Сымона і ваяводу, думаю яе назваць або «Песня аб мячы», або «Залаты век». Штука выйдзе вельмі жорсткая. Думаю напісаць паэму па матывах казкі пра вужыную каралеву. З сучасных думаю напісаць апавяданні «Пацукалоў», «Памяці вялікага артыста» (спляту з апавяданнем думкі пра трыо Чайкоўскага), «Апошняя вендэта». Апрацоўваю калішняе апавяданне «Бургамістр», а таксама «Рыбалоўны кручок» і «Маё першае паляванне». Працую над паэмай «Дзяўчына з Быхава» — гэта будзе нешта амаль бессюжэтнае, як адзін дзівак выпадкова прыняў у дарозе дзяўчыну за замужнюю жонку і потым, даведаўшыся пра памылку, хадзіў тры поры па акрузе і шукаў, не ведаючы нават яе прозвішча і толькі прыблізны шлях. Бачыў дзівосных людзей, чуў іхнія песні, працаваў з імі, начаваў ля вогнішча з рыбакамі. Дзяўчыну не адшукаў, а Радзіму палюбіў назаўсёды.

Пішу — і вось што дзіўна: да ўсяго даходзяць рукі. Усё паспяваю рабіць. Мару яшчэ напісаць пра Вашчылу нешта сапраўднае, толькі не ведаю што. Аповесць, драму або сцэнарый. Усё прываблівае. Эх, каб яшчэ да легенд, якія ведаю, ды трохі больш матар’ялаў, а тое фантазія без цвёрдых рамак разыходзіцца.

Думак шмат. Тут і пра сучаснасць і пра мінулае. Ідуць перад вачыма, вусатыя, з голымі грудзямі, з суровым поглядам. Гамоняць, рухаюцца, жартуюць, б’юцца і паміраюць — іншы

раз здаецца, што звар'яцеў. Толькі пісаць цяжка, бо, праўду кажучы, не толькі гісторыю Англіі, а і гісторыю Беларусі яшчэ ў большай меры павінен быў бы пісаць кат, бо ён меў магчымасць назіраць канец усіх колькі-небудзь значных людзей нашай зямлі і толькі ён адзін мог ведаць, колькі запаветных думак шапнулі яны сваёй пласе.

А яно йдзе. Паўстанне Мурашкі, Магілёўская рэспубліка, першыя гады пасля Андрусаўскага перамір'я і расправа. Гэта можна б назваць «Жыхары дрыгвы».

Ах, як хочацца рабіць! Яшчэ б напісаць дзесятак аповесцей, у якіх ахапіць гісторыю Беларусі з 1863 па 1963. Я гэтага, ведама, не здолею зрабіць, рылам не ўдаўся. Вось каб хто з вас, з людзей абазнаных з гэтым.

Ну, даволі пра гэта, а то надакучыў я Вам. Прабачце, што пасылаю вершаў як з торбы валю, але ж я больш нікога не ведаю.

З таго, што пасылаю, апошнія «Шыпшына», «Энтузіясту», «Кастальская крыніца», «Заяц варыць піва».

«Баладу пра чалавека...» сюжэт чуў у цягніку. Як адзін сухотны страляў у немца і амаль адразу памёр. Думалі — атруту прыняў, а выйшла проста тое, што ў яго лёгкіх амаль не было. Там нехта казаў, што гэта не гераізм, — усё адно паміраць. А я лічу, што тут гераізм вялікі не ў тым, можа, што забіў, а ў тым, што з ложка ўстаў.

«Асеннія песні» проста замалёўкі. «Шыпшына і ружа» — сапраўды народнае. Не ведаю толькі, наколькі правамерна ставіць «шыпшыну» ў мужчынскім родзе. Але і ў казцы так.

Адносна «Зямлі дзядоў»[14]. Ляжала яна ў мяне пяць гадоў. Прыехаў я ў Рагачоў нядаўна яшчэ раз і бачу, што мала што там змянілася, таму яна й не пастарэла. Я яе перарабіў зараз, адшліфаваў дзе-нідзе, амаль напалову выкінуў, часткова дабавіў.

Адносна яе мовы. Я наогул сапсаваў мову тут. Але гэта не ўсё. Магчыма, што там будуць дыялектызмы, і асабліва ў батанічных тэрмінах. Калі б быў слоўнік, дзе былі б поруч беларускія літаратурныя, лацінскія і дыялектныя назвы — гэтага можна было б пазбегнуць. А то пакуль я даведаўся, што наш аршанскі «сабачнік» гэта cinoglossum officinale, інакш «касталом» (літаратурнае), дык колькі часу прайшло, а я і зараз не ўпэўнены, што гэта так. Або «ашыткі». Я не ведаю, як па-літаратурнаму. Гэта чарвячкі такія жывуць у вадзе ва ўласных хатках з гнілых маленькіх сучкоў. Вельмі добра на іх галаўні бяруцца...

«Жабнік», «багноўнікі» — гэта, здаецца, так і ёсць. А вось «скула» — гэта ў нас так водарасць завуць, зялёную, махнатую, з чырвонай верхавінкай.

Скажыце, калі ласка, ці маю я права ўжываць такія дыялектныя назвы. Я думаю, што нічога асаблівага тут няма.

І яшчэ адносна таго, што падкрэсліваю слова «курганы». Па-першае, задум такі, а па-другое, у аколіцах Рагачова іх — сіла, больш чым дзе-небудзь. Можа, гэта было месца нейкага міжплемяннога пахавання — ніхто гэтага не ведае.

Ну вось і ўсё. Калі будзе час, магчымасць і, галоўнае, жаданне, напішыце мне наконт усяго гэтага хаця караценькага ліста.

Сяджу і часам гляджу на кніжкі. Я іх у Мінску накупляў страшэнна. Чытаю зараз першы том Чорнага і дзіву даюся. Гэтыя яго замалёўкі лепей, чым у Жаромскага[15]. Вось бы мне так ведаць мову, як ён. І пісаў, пісаў як! На тое, мусіць, і лоб у яго быў супрацьлегла ўсім грэцкім канонам не на трэціну твара, а куды большы.

Дарэчы, пабачыў у магазіне кніжку «Серед лісів над Німаном»[16], пераклад. Накупіў і раздаў дзецям. Вельмі падабаецца. Асабліва «Мухамор», «Іван-ды-Мар'я». А «Галінку»[17] перакладачы, перакладаючы, сапсавалі. Біў бы я такіх безадказных, нягледзячы на чыны і рангі, ламакаю па спіне.

Прабачце за вялікі і бязладны ліст, у якім мала што сказаў.

Пісаць кароткія лісты, як і кароткія вершы, трэба ўмець. Бывайце. Хай будзе Вам усё-ўсё добра.

*Ул. Караткевіч.*

## 4. МАКСІМУ ТАНКУ

*14 лістапада 1955 г.,*
*в. Лесавічы Таращанскага раёна*
*Кіеўскай вобласці*

Паважаны Яўгені Іванавіч!

Паслаў вам два свае лісты, а на наступны дзень даведаўся, што наш паштальён адправіў іх даплатнымі. Вось яшчэ чаго не хапала, дык гэта таго, каб паэты за няпэўнае здавальненне атрымаць дзесятак кепскіх вершаў раскашэльваліся кожны раз на энную колькасць рублёў.

Сапраўды, нейкае хамства, уведзенае ў прынцып. Таму вырашыў паслаць Вам за гэта маленькі падарунак і лічыць, што

мы — квіты. Вы не сярдуйце, я, аднак, у неаплатным даўгу за той надпіс на кнізе, так мала я яго варты.

І яшчэ вось што. Я адправіў гэтыя бязглуздыя вершы і толькі тут зразумеў, што я нарабіў, і мне стала вельмі сорамна. Усё гэта такое дурное, пошлае і, галоўнае, эпігонскае, што яго трэба кінуць у печку. Я вас прашу так і зрабіць і не думаць, што гэта істэрыка.

Скідак на маё вучнёўства быць не можа, здаецца, не маленькі. Я буду шмат працаваць і тады, можа, прышлю нешта сапраўды вартае вашай увагі. Бывайце.

*Заўсёды Ваш Караткевіч*

*P. S.* Калі будзе час — прачытайце «Intermezzo», «Що записано в книгу життя», «Цвіт яблуні», «Тіні забутих предків»[1]. Гэта — любімае.

## 5. МАКСІМУ ТАНКУ

*24 снежня 1955 г.,*
*в. Лесавічы Таращанскага раёна*
*Кіеўскай вобласці*

Паважаны Яўгені Іванавіч!

Перш за ўсё дазвольце павіншаваць Вас з Новым годам і пажадаць усяго таго, чаго можа пажадаць схілены да каго-небудзь чалавек. Жадаю Вам шчасця, здароўя, новых і выдатных творчых поспехаў, добрых сяброў вакол Вас, плённай працы і ўсяго-ўсяго добрага.

Прабачце, што доўга не адказваў. Спачатку вырашыў быў зусім не пісаць, бо баяўся турбаваць Вас і адбіраць час, але потым зразумеў, што гэта была б чарговая недалікатнасць — вельмі ўжо добры быў Ваш ліст.

Дзякую Вам за думкі і добрыя парады, якія на шмат што адкрылі мне вочы. Я вельмі рады, што хаця адзін верш Вам спадабаўся, але яны ўсё ж... не тое та як яго (як гаварыў пан Возны[1] ў «Наталцы-палтаўцы»). Я зараз вельмі добра зразумеў, што перш за ўсё трэба навучыцца стаяць на ўласных нагах, — і вучуся. Мне вельмі сорамна за шматлікія недасканалыя мае вершы, я зараз шмат працую і прашу Вас пра адно: дазвольце месяцы праз тры, калі напішу нешта, што замысліў, прыслаць Вам, каб паказаць свае першыя самастойныя крокі. Тады мне будзе не так сорамна і за «Крыніцу», і за гістарычныя вершы.

Я пастараюся, каб гэта было нешта больш вартае ўвагі. Цікава было б ведаць, які лёс «Оршы», але пра гэта я нічога не ведаю. Ну й добра.

Адносна таго, што Вы пісалі пра нестарэючую каханую. Я гэта ведаю, бо гэта і мае думкі, і нават год таму я напісаў такі верш:

І зашумяць асіны над ракою,
І будуць светлымі улетку дні,
І зацвітуць на скалах над вадою
Спакойныя купальскія агні.

Як знак таго, што ўсё мінае ў свеце,
Сарве іх шэрань прагнаю рукой,
І толькі ты адна ва ўсім сусвеце
Навекі застанешся маладой.

Так што вось яно. А з «сівізною», вядома, атрымалася дурніца. Дазвольце яшчэ раз падзякаваць Вам за ліст і пажадаць Вам усяго-ўсяго добрага.

З прывітаннем.

*Уладзімір Караткевіч.*

## 6. МАКСІМУ ТАНКУ

*27 мая 1956 г.*
*в. Лесавічы Тарашчанскага раёна*
*Кіеўскай вобласці*

Паважаны Яўгені Іванавіч!

Перш за ўсё ад сэрца дзякую Вам і т. Вялюгіну за ўсё і таксама за «Оршу» і «Заяц варыць піва». Нумар часопіса[1] атрымаў, ну і ўсё іншае таксама. Я вельмі шчаслівы. Вось толькі эпітэт да слова «парк» замянілі няўдала. Ніякага «старэнькага» парку там няма, немцы высеклі, а ёсць новы, парадкам такі «змарнелы» на нашых пясках і вапне. Ну ды гэта глупства, «нават яшчэ лепей». Як выйграюць вершы ад добрай абробкі, быццам чалавек, які скінуў залішні тлушч і зараз зграбны і стройны. І як многа мне яшчэ патрэбна вучыцца.

Прабачце, што доўга не пісаў. Пасля таго, што Вы мне пісалі ў папярэднім лісце, — было б недарэчна пісаць Вам без падстаў у выглядзе новых вершаў.

Да таго ж я доўгі час быў вельмі хворы і ледзь не зрабіў падарожжа Ad patres[2]. Ніколі не было, а тут раптам хвароба. Але зараз, здаецца, мінулася. Праўда, да таго ж тут лютуе цынга. У Лесавічах цынготных выпадкаў сотні паўтары. Пачалося нешта падобнае і ў мяне, ужо пасля хваробы, але гэтыя начаткі прыдушыць даволі лёгка.

А зараз вясна. У сукі двое шчанюкоў, у яме трусы вывелі трусянят, на галубятні вуркочуць галубы. Добра!

Хвароба мела і свае добрыя бакі. Калі яна дазваляла — шмат працаваў. У іншы час пісаць амаль немагчыма, праца не дазваляе, бо як табе даюць грошы, дык трэба рабіць добра.

Таму пасылаю Вам 31 верш (чаму б не дзвесце трыццаць адзін), два маленькія ўрывачкі з паэмы, сем маленькіх апавяданняў з цыклу «Нямыя браты», пяць вершаў у прозе і адну легенду. На мове простага люду гэта завецца «асінавым колам бліжняму».

У Д. Кедрына[3] ёсць верш «Страдания молодого классика», які кажа пра гэткіх жа нахабных маладых людзей...

Сапраўды нахабства, застаецца толькі пры кожным званку ў дзверы забівацца ў кут і дрыжаць дробнымі дрыжыкамі. Вось і я пасылаю Вам васемнаццаць футаў кепскіх вершаў і тым станаўлюся ў пазіцыю «здольнага маладога чалавека з правінцыі».

Паверце мне, што я б не зрабіў гэтага, каб гэтыя вершы не былі адказам на Ваш ліст, сведчаннем першай спробы зрабіць яшчэ няўпэўнены, але самастойны крок. З гэтага часу буду пасылаць проста на часопіс. І прабачце мне.

Вельмі жадаў бы пагаварыць з Вамі наконт сваёй дарогі і нават буду летам у Мінску, але Вас, напэўна, там не будзе. Ну што ж, няхай другім разам — як сказала дачка ў адказ на просьбу паміраючай маткі зварыць ёй какавы.

Можа, там і адшукаецца нешта вартае ўвагі, а калі не падыдзе — можа, аддасцё каму-небудзь іншаму. Там ёсць верш «На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым». Калі ён варты друку, я вельмі прасіў бы Вас зберагчы прысвячэнне *А. І. Бялецкаму*[4]. Калі верш не падыдзе, дык, можа, будзе магчымасць паставіць прысвячэнне яму перад іншым, вартым вершам (перад *лірычным*, але, вядома, не пра каханне). А калі тут будзе ўсё лухта, дык, можа, у наступны раз знойдзецца нешта цікавае і гэта прысвячэнне можна будзе паставіць.

Я таму прашу, калі гэта магчыма толькі, зрабіць гэта, што Бялецкі мой настаўнік па універсітэту і, магчыма, без яго не быў бы я тым, чым я ёсць. І размовы пра будучае, пра маю

мэту, і самая глыбокая дапамога ў працы (я зараз працую над дысертацыяю пра 1863 г. і яго адлюстраванне ў літаратуры) — усё было зроблена гэтым чалавекам. А я не ведаю, чым аддзякаваць яму за ўсё, дык няхай хоць гэтым. Вось і зараз перада мною ляжыць ягоны падарунак: «Беларускі зборнік» Раманава[5]. Каб усе людзі былі такімі чулымі, добрымі, памяркоўнымі да чалавека — лёгка, весела і шчасліва было б жыць.

Я зараз пішу «Дзяўчыну з Быхава», паступова збіраю матар'ял для паэмы «Каліноўшчына». Цяжка. Я дастаткова добра ведаю гісторыю паўстання, але кніг мала, карыстаюся старымі запісамі і не ўпэўнены, што нешта там не перакруціў. Галоўны герой — Грынкевіч, удзельнік руху спачатку на Магілёўшчыне, потым на захадзе, пераходзіць паступова да «чырвоных», удзельнічае ва ўзяцці Горак, у рэйдзе інсургентаў да Ракава, малой вайне, баі пры Азярышчах і гіне, ужо пасля смерці Каліноўскага, пасля аднаго з апошніх баёў. Расстрэл.

Крах шляхецкага рамантызму, з'яўленне новых рэвалюцыянераў і, як фінал, зборы памяці загінуўшых у паўстанні, на якіх быў абвешчаны І Інтэрнацыянал. Загінулі і пасеялі сваёй смерцю зубы дракона — новых байцоў.

У мяне ёсць дурная прывычка трымаць у руках рэч тых часоў, пра якія пішаш. На ёй добра канцэнтраваць думку. Зараз у мяне ў руках медаль. Мне да яго адразу падмалёўваецца вобраз чалавека, які атрымаў, а потым і таго, каго ён выдаў. Уявіце сабе: кірмаш, натоўп. Недзе ў гэтым натоўпе ходзіць інсургент пераапрануты ў сялянскую вопратку, былы пан, які пракляў сваё панства. Тут жа пераапрануты правакатар. Трэба неяк паказаць жандарам, каго трэба хапаць. І правакатар падыходзіць і, як пану, цалуе інсургенту руку. Схапілі.

І гэты мярзотнік не ўдаваўся ў розныя маральныя дробязі і рызыкоўныя параўнанні гэтага свайго ўчынку з учынкам свайго папярэдніка, які зрабіў тое ж самае за 1831 год да яго. Нашто гэта, калі ён і бязвіннаму мог падкінуць у адрыну зброю і потым з'явіцца з вобыскам — гэта ж была эпоха, па якой магчыма было напісаць проста Іліяду чалавечай подласці.

Пасылаю ўступ да 3-й песні і ўрывак з другой («Дума Грынкевіча»): герой кідае погляд на ўсё, паўсюль прыгнёт, выходзячы за межы чалавечага цярпення.

Патрабуе каментарыяў верш «Якуб Ваўкалака» (менавіта Ваўкалака а не Ваўкалак). Легенду пра гэта я чуў у аколіцах Дуброўны, якая, здаецца, належала раней Любамірскім. Ваўка-

лака адбіў у пана дзяўчыну, якую пан хацеў выдаць замуж, каб потым застасаваць jus prima noctis[6]. Ваўкалака яе кахаў, але яна ўчыніла вельмі няўдзячную штуку: выйшла замуж за іншага. Ваўкалака забіў пана, каб яны маглі жыць спакойна, а сам стаў разбойнікам, які наводзіў жах. Казалі, што ён можа, кульнуўшыся над нажамі, зрабіцца ваўком і што ніякая куля акрым срэбнай яго не бярэ. Пяць служак пана падпільнавалі яго, калі ён ішоў на радуніцу на магілу маці, якая памерла на Вялікдзень (каб не з'явіўся, гэта ж быў бы жахлівы грэх), і ўсадзілі яму срэбную кулю ў грудзі. Падысці яны баяліся, пакінулі яго так. Ваўкалака памёр амаль ля самай хаты, можна было б бачыць, каб не кусты.

Зноў адносна магчымых дыялектызмаў у назвах. «Раст» — гэта маленькія-маленькія, з галоўку шпількі, сінія, іншым часам белыя кветкі, вылазяць амаль адразу, як сыдзе снег.

«Маскалікі» (не ведаю, чаму так завуць) — чырвоныя казяўкі, вылазяць прыблізна ў маі. Часам іх так багата, што пня, на які яны спаўзаюцца грэцца, не бачыш. Яны невялічкія, чырвоныя і на спіне тварык з чорных рысак, падобны на палінезійскую маску.

У мяне да Вас кур'ёзная просьба. Якой адпаведнай лаянкай перакласці польскае «do jasnej cholery». «Трасца ў пячонку», «Хрэн табе ў вочы»? Не, здаецца, не тое. Гэта для перакладу. Галчынскі[7].

Т. Вялюгін кажа пра маю кепскую мову. Я гэта сам ведаю, але ж скуль мне яе ўзяць, добрую мову? Я выжываю памылкі, але проста з крывёю. Орша адносна мовы наогул не запаветная зямля. Там шмат русіцызмаў, там блытаюць канчаткі роднага і, часам, меснага склону і г. д. Да таго ж і сям'я. Бацька размаўляе заўсёды на дыялекце, мова няправільная, Маці, калі захоча, можа вельмі добра гаварыць, асабліва калі распавядае пра старыя часы і розныя напаўанекдатычныя выпадкі. Але часцей за ўсё яна размаўляе па-руску, беларускія словы ўжываючы для асаблівай выразнасці. Што ж паробіш, патомная інтэлігенцыя. Іншым разам гэта ў яе бывае вельмі прыгожа і арыгінальна, але літаратурную мову я ўсё ж ведаю кепска.

«Нямыя браты» думаю прадоўжваць, але ўжо пра дзікіх звяроў, якіх, здаецца, нядрэнна ведаю, хоць стралок з мяне ліпавы, шкода страляць. Гэта трэба таму, што «нявыхаваных сардэц» у нас значна больш, чым думае Ю. Нагібін[8], і пачуццё блізкасці да прыроды, да ўсяго жывога — справа вельмі нямногіх. Чалавек яшчэ шмат у чым варвар і дзікун: ён можа

засадзіць сякеру ў дрэва, каб павесіць торбу, зламаць на пугу саджанец, стрэльнуць у жывое проста так, дзеля няпэўнай насалоды, нават калі няма патрэбы ў ежы. У мяне быў вельмі добры прыяцель год пад сорак па мянушцы Цыбуля (я буду пісаць пра яго апавяданне), дык той, калі спаймае кагось на гарачым, на глушэнні рыбы, на вытраўленні яе борным квасам, — проста б'е па мордзе. Аднойчы суседа налупіў за гэта акурат на Вялікдзень і яшчэ прымаўляў, абмываючы: «Нічога, свету без мучаніка не бывае».

Пасылаю таксама легенду «Маці Ветру»[9]. Яе калісьці распавядаў мне дзед[10], але я запамятаў толькі канву і сёе-тое з выразаў.

Падмаляваў, некаторыя эпізоды дабавіў і зрабіў.

Толькі ці гэта жывое гучанне слова мае такую моц, ці яшчэ што, толькі я мучыўся над ёю неверагодна і не зрабіў так добра і сцісла, як гэта было ў яго. Які гэта быў цікавы чалавек! Не ведаю, што яму перашкодзіла стаць сапраўдным паэтам, можа, доля сына — «дзяржаўнага злачынца», можа, яшчэ што. Праваслаўны, які быў замешаны ў мяцяжы, — гэта ж было вельмі падазрона. Але яго мова — гэта быў каскад досціпаў, прыказак, старых пахучых анекдотаў, яскравых, як вясёлка, жартаў. Зараз так мала хто гаворыць. Такога тыпу выразы, як «Як п'юць ды ядуць, дык нас не завуць, а як с... ць і др...ць, дык нас ішчуць», рэдка сустракаліся ў яго мове, гэта была нейкая вытанчаная дасціпнасць, рэдкая. Трэба было паслухаць, як ён распавядае байкі пра нашых пашахонцаў-Маркавічан. Публіка рагатала да рэзі ў жываце. Больш за ўсё я шкадую, што ён так рана памёр, што я быў малы і мала што памятаю, што не запісаў гэткага цуду. Але менавіта ад яго я палюбіў прыроду, гісторыю (ён калісь рабіў раскопкі курганоў і шмат чаго цікавага распавядаў), навучыўся лавіць самоў «на квок», палюбіў бадзяцца і іншае.

А якія ён распавядаў легенды. Магчыма, частка іх і была недзе да таго надрукавана (напрыклад, што датычыцца анекдатычных апавяданняў, дык некаторыя з іх я пазней прачытаў у Ядвігіна[11]), але я не бачыў. Пра вужыную каралеву, пра чорную курыцу волатаў, пра караля мятлушкаў, пра вялікую змяю «Дзебраў» (калішняе ўрочышча Дзебры пад Магілёвам), пра Яна Прыгожага і князя Ладымяра, пра лебядзіны скіт, пра скарб аднавокага народа, пра дрэва смерці (гэтую легенду я пазней запісаў у Руклях, што пад Смаллянамі, але ў горшым, здаецца,

варыянце), пра явар і каліну — мужа і жонку, пра звон, які патануў, пра горад на дне возера і яшчэ многае-многае.

Памятаю такіх легенд штук сорак, не менш. Як вы думаеце, ці варта ўсё гэта аднавіць у памяці, спытаць іншых людзей, якія яго чулі, і запісаць? Гэта, вядома, не будзе фальклор, таму можна і прыкрасіць. Магчыма, яшчэ хто-небудзь дабавіў бы тое, што чуў ён, і тады можна было б якую сотню легенд выдаць для дзяцей, з каляровымі малюнкамі пад назвай, скажам, «Легенды азёрнага краю».

Ці, можа, аўчынка не варта вырабу?

Сярод іх ёсць такія выдатныя па мастацтве, па ідэі любові да Радзімы. Гэта такое апяванне душы народа, яго таленавітасці, высакароднасці, перавагі над панамі і нобілямі. І да таго ж хараство.

Якая будзе Ваша думка?

За «Маці Ветру» т. Вялюгін, напэўна, зноў будзе мяне лаяць. Але я думаю, што ён будзе задаволены (калі толькі не дасць мне ў патыліцу за кепскае майстэрства), бо наступным разам я прышлю ў часопіс (месяцы праз паўтара) маленькую аповесць з часоў вайны (скончыў з паўгода таму, зараз вылежваецца, хутка буду апрацоўваць) і некалькі апавяданняў на сучасныя тэмы.

Наконт гістарычных вершаў буду шукаць новых шляхоў, як вы кажаце. Я закаханы ў яе беспаваротна. І не ў экзотыцы справа. Я далёкі ад думкі аддаваць перавагу каўтуна над чыста вымытай галавой і кувадзе над радзільным домам. Экзотыка без хлеба, заводаў і электрычнасці няхай жыве ў музеях, і тым людзям, якія яе абаранялі, трэба было быць паслядоўнымі і, напрыклад, хадзіць на лекцыі ва універсітэт у пасталах, з намасленай галавою і дошчачкай для вошай на поясе, як гэта калісь было модна ў мазураў, насіць замест партфеля лубок і мецъ у ім скрутак пергаменту, гусінае пяро і дзесятак пражаных у попеле яек. Але сапраўды заваяванае народам, ім выпакутаванае забываць нельга, як гэта сёй-той робіць зараз. Яго трэба аберагаць, песціць, любіць. Інакш чаго варты народ. Дарэчы, пра гісторыю ў нас амаль ніхто не піша. Вершы яшчэ ёсць: Вы, яшчэ некалькі паэтаў выпадкова (Купалу я, вядома, не лічу). А вось гістарычнага рамана ў нас фактычна зусім няма. Ваша праўда, калі вы кажаце пра спозненыя водгукі ў маіх гістарычных вершах, але скажыце, па чыіх слядах мне крочыць? Па Вашых? Я і так вучыўся і вучыўся ў Вас і дайшоў нават да пераймальнасці — сорамна ж дарослаому дзядзю ў дваццаць

тры гады рабіць «пад Танка». Значыцца, трэба церабіць свой шлях, але ж адразу яго не зробіш.

Я таксама згодзен, што гіст. вершы ў мяне вызначаюцца залішнім трагізмам, але што паробіш? Вядома, што і ў часы Таполі не толькі кастры палалі і зрэдку не з шыбеніц раслі на зямлі лясы, і тады любіліся людзі і гарэлку пілі, але ж гэта не кране так моцна, як сцэна вялікага гераізму, сілы і мужнасці. І так пра нас розныя фальклрысты казалі, што ў нас няма ў песнях нічога акрым ядучай страсці, даходзячай да адчаю, каб ім так у пячонках ела. Дзеці дрэнна ведаюць гісторыю. А мне б вельмі хацелася, каб людзі раптам адкрылі мора паэзіі ў беларускай гісторыі, як калісьці адкрылі ў шатландскай. Думалі сабе, што там адзін верас ды скалы, а тут пайшлі, загаварылі, заспрачаліся розныя Роб Роі, і ўвесь свет стаў і толькі цёр вочы, думаючы: «Хіба я сляпы быў да гэтага часу?» І ўсе гэтаму паслужаць у меру свайго таленту: Вы многа, я — значна меней, калі наогул што-небудзь выскажу. А знойдзецца і нехта, хто выскажа ўсё, як Шэкспір.

Нам бы трэба такога чалавека, які напісаў бы такую праўду пра нас, каб сямідзесяцігадовы чалавек валоссе на сабе драў, што ён ужо не паспее пазнаёміцца з тым, міма чаго праходзіў, з гэтым дзіўным народам. І няўжо гэта, скажам, менш «праблем», ніж трындзець пра «трохкутнік», які ўжо ўсім апрыкраў. Або людзі, якія ведаюць і любяць краіну, менш патрэбныя, ніж добрыя каханцы і бацькі.

І гэту любоў да краіны перш за ўсё абуджае гісторыя, абуджае ў чалавека гонар, з якім ён кажа: «я беларус», «я рускі», «я турак» — усё адно. Гэта, на маю думку, і трэба рабіць, будаваць піраміды, па якіх, калі мы ўсе сальемся ў адзіны народ, нас прыпаміналі б з удзячнасцю і казалі, што мы былі ў ліку тых, хто найбольш каштоўнага даў новай, агульнай культуры.

З крытыкай Вашай на «Кастальскую крыніцу» і «Прадмову» цалкам згодзен. І я буду шмат працаваць, каб гэтай лухты было ўсё меней. Дзякую Вам за Kovaluikovu chatu[12]. Якая гэта прыгожая рэч, горы! А я бачыў толькі Урал і наогул яшчэ нічога не бачыў, і не чытаў, і не сказаў. Ну, прабачце за 18-футовы ліст, у якім я нагаварыў сем беркаўцаў да Полацка і ўсе ракам. Проста мне няма з кім гаварыць тут і я радуюся кожнай магчымасці, а з Вамі асабліва.

Яшчэ раз дзякую за ўсё — за ўсё. Бывайце здаровы.

*Ваш Уладзімір*

*P. S.* Нешта чуў пра Вашу новую паэму. Прыеду дадому, прачытаю. Дрэнна ўсё ж пастаўлены культурныя сувязі між рэспублікамі.

Я тут буду да 25 чэрвеня, а потым уцякаю назаўсёды, ужо ёсць наказ. Вельмі жадалі затрымаць, але настойлівасць зрабіла сваё. Мой аршанскі адрас:

*Віцебская вобласць,*
*г. Орша,*
*вул. Варашылава, д. № 10,*
*Караткевічу*
*Уладзіміру.*

І яшчэ, калі ласка, як імя па бацьку т. Вялюгіна? Здаецца, Сцяпанавіч. Так мне нязручна і непрыемна, што я забыў ягонае імя па бацьку, калі пісаў яму ліст. Аж да гэтага часу, як прыпомню, дрэнна і сорамна робіцца. Перадайце яму прывітанне і скажыце, каб ён не вельмі крыўдзіўся на мяне.

Яшчэ раз бывайце.

*У. Караткевіч.*

## 7. МАКСІМУ ТАНКУ

*20 чэрвеня 1956 г.,*
*в. Лесавічы Тарашчанскага раёна*
*Кіеўскай вобласці*

Паважаны і дарагі Яўгені Іванавіч!

Прабачце, калі можаце, за тое, што не маю зараз магчымасці адказаць на Ваш ліст і не буду мець яе яшчэ дзён дзесяць. Маці напісала мне, што Ваш ліст прыбыў на Оршу, але я не ведаю, што ў ім. Ён будзе чакаць майго вяртання дадому. І з тым большай нецярплівасцю я буду чакаць таго дня, калі пабачу родны горад. Дзякую Вам за ўвагу.

Ох, напэўна, шмат бязглуздзіцы я там нагарадзіў!

Дык вось, каб пазбегнуць абвінавачвання ў недалікатнасці, я напішу Вам адсюль апошні ліст, як быццам папярэджання і не было.

Гэта будзе проста адцягнены ліст, нявымушаная балбатня, якую можна і не прыняць да ўвагі, можна пацiснуць плячыма, можна і вылаяцца, а можна і задумацца трохі. Карацей, гэта

проста абавязак далікатнасці, і адказваць на гэты ліст вам няма прычыны: доўг за мною — адказ на Ваш ліст, які чакае мяне ў Оршы.

Магчыма, мой ліст будзе мець у Вашых вачах выгляд дурніцы, але я жадаў бы ўсё ж пагаварыць з Вамі на не зусім звычайную тэму: самастойнае жыццё літаратурнага вобраза.

Ну вось, скажам, французы маюць свой літаратурны тып, які з найбольшай паўнатой змалёўвае ўсю нацыю, немцы і іспанцы — таксама. Можна сказаць «Зямля Уленшпігеля», можна сказаць «Зямля Гаяваты» або «Зямля апранутага ў шкуру віцязя». Відавочна, што такі літаратурны тып лепш за ўсё адбівае асноўныя рысы нацыянальнага характару, сэрца народа, яго імкненні і нават дробныя, другарадныя рысы. І пісьменнік або паэт часцей за ўсё разгартае іх у вялікай эпапеі. Калі прачытаеш такое — асноўнае ў пазнаванні нацыі ты зрабіў: зразумеў душу народа, які робіць гісторыю гэтай краіны і якую ён паложыць як цагліну ў будучае безнацыянальнае грамадства, у яго будынак.

Пахне ідэалізмам, але нічога. І колькі б ты пасля таго ні чытаў — будзе прыбаўляцца фактаж, але галоўнае будзе вядома.

Мы зможам знайсці, напрыклад, пошукі Фаўста ў дзейнасці найвялікшых розумаў Германіі, пачынаючы з Эразма Ротэрдама і сярэдневяковых алхімікаў і Парацэльса — і аж да Гётэ і Гегеля і «канчатковы вынік мудрасці зямной», пакуль што, у філасофіі Маркса («Пакуль што», бо інакш мы былі б дрэннымі дыялектыкамі). Ну і г. д., вы мяне разумееце.

Нават і ў узбекаў ёсць Насрэдын. Што ж, гэта добра, гэта кажа пра моц гэтых народаў і здольнасць да абстрагавання народных якасцей у іхніх лепшых розумаў.

А вось у нас гэтага няма. Назавіце мне тып, які ўсебакова адбіваў бы рысы *лепшага* нашага чалавека, яго талент, яго характар, яго барацьбу, які, так бы мовіць, нават часткова адбіваў бы гісторыю народа.

Яго няма, але ён павінен з’явіцца, ён ужо ёсць, ён *пачынае шлях*. Хто ж ён павінен быць, у якую эпоху жыць, каб адбіваць беларускі характар і нават гісторыю народа?

Перш за ўсё эпоха. Якой яна павінна быць.

1) Эпохай з віруючым жыццём, эпохай, калі народу трэба было ўсе сілы пакласці, каб вырataваць жыццё і сумленне і права дыхаць, калі смяротная пагроза навісала над краем; калі народ стаяў перад рэальнай і грознай небяспекай гвалтоўнай асіміляцыі. Гэта патрэбна для выяўлення характару героя («Блажен, кто посетил сей мир в его минуты роковые»).

Наша эпоха таму сама сабой адпадае, дый занадта складанае яе жыццё, каб адзін чалавек выразіў яго.

2) Эпоха, як бачым, павінна быць трагічнай, каб чытач сказаў: «Вялікія людзі цёмнага веку. Загінулі, але я веру ў будучае такога народа».

3) Але чымсьці светлы гэты век таксама павінен вызначацца.

4) Герой павінен быць як мага больш поўным выразнікам волі народа (хоць можа быць асобай выгаданай, нават фальклорнай), вялікім у сваёй кроўнай блізкасці да яго. «Лепшым з роўных».

5) Ён, вядома, не пан. Паколькі справа пойдзе і пра тое, якую ролю адыгрывае мастацтва ў жыцці народа, лепей за ўсё было б, каб ён быў чалавекам мастацтва.

Гэта будзе ўвасабленне духу народнага.

6) Намячаючы шляхі ўзнікнення будучага эпасу, трэба заўважыць, што поруч з героем духу звычайна крочыць яго антыпод і паплечнік. Напэўна, і тут так будзе, і гэты чалавек будзе ўвасабляць *волю* народа, яго *лагічны* склад розуму. Але гэта не будзе Санча, бо й галоўны герой не будзе Дон-Кіхотам, бо Санча — гэта чэрава, а ён будзе мускуламі.

7) Вы потым з ходу маіх думак зразумееце, чаму яны — асноўныя носьбіты ідэі — павінны быць *жыхарамі места*, дзе тады групавалася жыццё краіны.

8) Герой павінен быць не толькі гераічным, захапляючым, тыповым, але павінен таксама мець ужо некаторую літаратурную традыцыю, яго павінны ведаць усе.

Якая ж эпоха, які існуючы герой адпавядаюць усяму вышэйнапісанаму.

*Першае*, адносна эпохі. Гэта не сівая старажытнасць, калі нацыя яшчэ не склалася, і не Грунвальд, калі славянства перамагло. Застаецца адзіная эпоха: прыход уніі, менавіта пачатак яе.

Спачатку ў Фларэнцыі прыраўнялі каталікаў да праваслаўных, а потым пачалося:

*1533* — Нясвіж пераходзіць у рукі Міколы Радзівіла Барадатага. Сын яго яшчэ не вельмі даваў рабіць розныя дурніцы.

*1565* — памірае Мікола Радзівіл Чорны, апошні вораг уніі. Народу здрадзілі.

*1569* — Люблінская унія. Пратасевіч[1] выпісаў езуітаў, украінскія землі адышлі да Польшчы. Літва палітычна памірае. Бацька героя мог бачыць, як хрысцілі апошніх ятвягаў пад

Скідалем, як ашуканыя людзі на сваю галаву разбілі Абаленскага на Іванскіх палях пад Улай[2].

Сумны летапіс!

Полацк аддалі езуітам — і пачалося. Дапамогі чакаць было няма ад каго: Баторый[3] аблажыў Пскоў.

Потым чорнай памяці Жыгімонт III[4], Лівонская вайна, налёт Мацюшкі Гультая на Магілёў (1-я ластаўка), змова нацыяналістычнага панства на чале з Забржатоўскім, да якой спачатку прыстаў быў і народ (мог і герой).

Потым унія ў Брэсце[5], потым «названы» Дзімітрый уступае ў Маскву і з ганьбаю ўцякае стуль[6].

Паўстае Магілёў і віруе чатыры гады[7]. І зноў разгром, і сябра героя можа загінуць тут. І зноў бадзянні, і нарэшце можа наступіць загібель у агні палаючага Турава, які душыў у 1649 годзе Януш Радзівіл.

Рамкі жыцця прыблізна 1565—1649, 84 гады цікавых здарэнняў. Для людзей нестарэючых — глупства.

Што ж, скажаце Вы, можна тут знайсці светлага?

Можна.

Эпоха, нягледзячы на яе трагізм, гераічная, багатая мужнасцю і вераю. Але не гэта самае галоўнае.

Галоўнае тое, што гэта эпоха — эпоха Рэнесансу на Беларусі.

Здарылася дзіўнае: маленькі агеньчык засвяціўся ў цемры, дух чалавечы імкнуўся вызваліцца да сонца і жыцця.

Старая нязграбная архітэктура замянілася чароўнай готыкай Сабора францысканаў у Вільні.

Ранні ідэалізм імкнецца да неба: «Хоць да д’ябла, абы з раманскіх муроў». Гэта — ідэя рэвалюцыі, яе летуценне. У нас гэта своеасаблівае. У Італіі пабітай аказалася й готыка, а ў нас яе намагаліся прыстасаваць спачатку да жыцця. Першым было цяжка. Таму я й лічу, што менавіта ў гэтую эпоху перанясуць пасля героя.

І ў скульптуры быў Рэнесанс. Замест драўляных шкілетаў, абцягнутых драўлянаю скурай, з’яўляецца пад разцом разьбяра паўнакроўны жывы чалавек. Асаблівым поспехам карыстаюцца сюжэты накшталт спакушэння святога Антонія або абняслаўлення Ноя, якія выконваюцца са смакам і дэтальна.

Язычаства, паганская радасць жыцця!

І толькі потым прыходзіць у архітэктуру стары грэцкі храм тварам да сонца і ветру і святла. У нас гэтага амаль не было.

А пакуль што старую ідэю з поспехам прымушаюць служыць новаму.

Я яшчэ таму думаю, што *гэта* эпоха добрая, што на яе прыкладзе будучы пісьменнік можа даць добрага стусана рэлігіі, прыгнёту, фанатызму і мілітарызму, пустацвету і забабонам, ханжаству, — усім аматарам крычаць пра залаты век, гальванізаваць труп мінулага, прырабляць новыя ручкі да скіній[8], шукаць каўчэгі з новымі мошчамі.

Вы добра разумееце мяне.

Адносна героя, героя — народнага генія, героя — выразніка волі народа, героя ўжо вядомага ў літаратуры. Хто гэта?

Мне здаецца, што ў нас ёсць толькі адзін вобраз, прыдатны выканаць гэтую ролю.

Вы ўжо зразумелі, што гэта — Люцыян Таполя[9].

У дні, калі немагчыма было працаваць, я думаў над яго жывым ценем. Мне здаецца, што нават Вы самі недаацаньваеце, што Вы стварылі, што Вы стварылі.

Цяпер ён без Вашага ведама пойдзе ў жыццё, пачне абрастаць біяграфіяй, і не здзіўлюся, калі й надалей будзе жыць у літаратуры, «можа, сто, а можа, болей год». Адзін ужо ёсць у фільме «Несцерка», толькі без меры дурнейшы. А ён будзе жыць *самастойна*.

Я думаў над яго лёсам. Гэта прывілей добра напісанага вобраза, тыпу, калі не хочаш з ім расставацца, думаеш над ім і прадоўжваеш яго жыццё, магчыма, на свой капыл — але ж гэта толькі для сябе.

Гэта рукамі такіх ствараліся ерэтычныя барэльефы «Мніх, які нясе мнішку, узяўшы яе ў ахапак сена», «Руф і Вооз»[10] — барэльефы наіўныя, але мілыя, як малюнак дзіцёнка.

Памятайце мае словы, гэты чалавек стане калі-небудзь героем вялікай эпапеі, і хоць непераваршанай застанецца Ваша маленькая паэмка, але гэта добра, ёй трэба расці, каб пра нас сказалі: «Зямля Таполі».

І вось я думаю-думаю. Якое яскравае і небывалае жыццё! Пачатак яго жыцця — гэта трагедыя Полацка[11], выкараненне праваслаўя, бунт панцырнага баярства, гэтых беларускіх «псаглаўцаў-ходаў» супроць Міколы Крыштофа[12], няшчаснае выгнанне рускіх з краіны, дзякуючы здрадзе[13], закалат на Полаччыне, закалат Мядзельцаў, закалат у акрузе Ліды. Трэба толькі больш — больш фактаў пра чорную пляму XVI стагоддзя, наказ пра нашчадкаў-мяцежнікаў, дзе наказвалі дарослых знішчыць, а астатніх таўраваць так званай «гусінай лапкай» —

сінім кляймом на руцэ і на лбе. Нельга было такому дапамагчы, нельга было ўзяць наймітам, не мелі яны зямлі больш чым на месяц жыцця, кожны мог забіць такога і не адказваць, а таго, хто дапамагаў, чакалі карбачы або, можа, нават страта.

Толькі non, ritus graeco-uniti «не адказвай ім у суцяшэнні і некаторай дапамозе». Не дзіва, што колькасць католікаў збольшылася сярод іх. Але паміралі і тыя. Павольна выміралі гэтыя дзяды, жанчыны, дзеці — каму было пратэставаць?

Справа была горш ніж у індыйскіх «недатыкальных», бо ў тых была толькі крыўда, а ў нашых — крыўда і загібель.

Мне чамусьці здалося, што адсюль і павінен быў выйсці Таполя. Ад прыгнечаных пачуццём немінучае смерці парыяў — да зорак. Крылатае птушаня свайго народа.

Што магло вызначыць будучыя густы гэтага мастака? Магчыма, кірмаш ля касцёла, кірмаш з яго яскравымі фарбамі, магчыма, чароўныя (дзіка, але так) надмагільныя пліты, на якія не меў уплыву царкоўны канон (да нас такіх дайшлі адзінкі: пліта Сямашкі ў сяле Вострава каля старога Мядзеля — магчыма, зараз яе й няма, пліта Грады каля Оршы і г. д.).

І галоўнае, што магло адвярнуць ад канонаў, гэта старое мастацтва касцёла: Stat magni nominus umbra (так мінае слава свету) на сувоі ля ног хімеры над уваходам, вузкія вокны, цемра, драўляныя фігуры з рукамі як лазіны, худыя, белыя, выцягнутыя, як парасткі бульбы ў падпамосці, страшны твар св. Себастыяна над галавой. У цемры блукаюць цені, здаецца, што постаці рухаюцца. Цішыня (арган яшчэ не грае), і ў ёй чутны нейчыя ўсхліпванні.

І раптам дзіцячы крык: а-а-а!!!

І ўжо ніякім «пярэпалахам» не «выльеш» таго жаху, што засеў у дзіцячай душы; назаўсёды засталася ў ёй крыўда на Бога, які пудзіць, які не дае ім есці, які прымушае яго хадзіць у торбе з дзіркамі для рук і галавы.

А тут яшчэ адзін сацыяльны ўрок: жадаў падысці бліжэй да паніча, да сына Радзівіла, каб паглядзець, і яго набілі ботам у бок. А ў яго і так бок балеў і часта ад слабасці носам ішла кроў.

Шмат дарог давядзецца прайсці гэтаму дзіцёнку, пакуль ён не навучыцца свядома ненавідзець царкву і паноў, але пакуль што хопіць і гэтага.

А потым зноў лютая зіма, калі вымерла амаль уся вёска, голад, выплаканыя вочы маці.

Выпадак зрабіў тое, што яго ўзялі вучыцца разьбярству ў майстэрню нобіля, дзе талент вызначалі па твары. На гэты

раз выбар быў верны, але білі так, што ён уцёк і пайшоў, куды глядзелі вочы.

Ваўчаня разумела, што ў вялікім месце шукаць яго цяжэй, і пайшло на Вільню. Па дарозе былі самыя розныя людзі: вёска дурных (штучны адбор пана, каб спакайней было), паляванне, суд на капе па справе абвінавачання панскай павы ў прастытуцыі (сапраўдны факт), цыганскі кароль — уся беларуская дарога таго часу.

І вось галодная восень і гусіная лапка на руцэ і Вільня, дзе ніхто не насмельваўся даць кавалак хлеба. Адзін не пусціў начаваць у хлеў, другі даў быў кавалак хлеба, але пабачыў кляймо, адняў хлеб і закінуў за высокі плот. Пачаўся дождж, і тады той чалавек, які не пусціў яго ў хлеў, натрапіў на цельца, якое ляжала акурат ля ганка. Узяў і панёс. На пытанне, нашто ён гэта робіць, адказаў:

— Маўчы, мне сорамна за свой народ і, галоўнае, за сябе. Я яго бачыў і падумаў: няхай хтось іншы дапаможа. Такім чынам мы і праспалі сваю волю Літве, а потым і Польшчы. Думалі: няхай хтось іншы...

Раптам хлопчык, не памятаючы сябе, пабачыўшы, што ляжыць у ложку, палез пад яго і схаваўся: думаў, што за гэткае нахабства яго зноў наб'юць. Калі ж прыйшлі і пачалі цягнуць яго стуль, ён крычаў, што сам не памятае, як ён апынуўся на ложку.

Кляймо ўдалося вывесці, гаспадар быў дойлідам. І вось хлопчык пад яго кіраўніцтвам стае паступова Мастаком і Чалавекам.

Дзіцёнак расце. Мне ўяўляецца Вільня таго часу з яе Крывым Градам, з Чортавай Вежай, са званіцамі і плошчамі, мурамі і халупамі, вялікі горад галечы і раскошы з карчомкамі-склепамі, з скараходамі і кавалькадамі сакольнічых, з жабракамі і майстэрнямі ў завулках.

Першае каханне, запаскуджанае і загубленае царквою, зборы цэхаў, сутычкі з панствам — праз усё праходзіць дзіцяня чалавечае, каб стаць сэрцам народа.

Кнігі грэкаў і рымлян, рукапісныя дзёрзкія зборнікі школярскіх вершаў (скуль такое вальнадумства магло нарадзіцца ў гэтых цёмных логвах абскурантызму?), прыклад настаўніка. Пра яго пачынаюць гаварыць.

Арляня расце, але сапраўды нараджаецца на свет у той горкі дзень, калі настаўніка за ерась, за ерэтычныя статуі асудзілі на пакаранне кастром. Размова ў турме пра мастацтва і прыгнёт.

— Напэўна, жыццё кіравала мною, калі я ўвёў у мой дом маленькага недатыкальнага абадранца. Ты — мой фенікс. Ты ўзнікаеш з майго агню маленькім вуснем у попеле, пакуль яшчэ бясформенным, але які, калі ператворыцца на птушку, на новага фенікса, здолее заспяваць такую песню, якую будзе слухаць увесь свет. Ты праспяваеш і за мяне. Магчыма, калі-небудзь з попелу ўзляціць так і мая краіна.

Нацыяналістычнае панства арганізуе змову, бо грошай, каб утрымаць уладу, у іх няма. Народу абяцаюць знішчэнне польскага ярма, а самі жадаюць гэтых самых новых парадкаў, толькі каб замест паноў польскіх сядзелі «свае», праўда, таксама апалячаныя, але зацверджаныя гарадзельскім прывілеем[14] — герб Суліма, герб Дзялош і г. д. Па сутнасці, гэта першая змова нацыяналістычна настроеных магнатаў ранняга перыяду фармавання беларускай нацыі. Спачатку падман удаўся: люд пайшоў за гербам Суліма (Янушам Радзівілам) і Забржатоўскім, але потым адстаў, на жаль, позна. Людзям з трэцяга саслоўя, што пайшлі за імі, давялося рабіць па прыслоўі: «Пятро на беразе стаіць, а Іван за яго ў вадзе шукае, скуль у зімняга рака ногі растуць».

Падчас змовы малады мастак знаёміцца з будучым сябрам, і той дапамагае яму выжыць думку пра тое, што людзі — толькі яны, «кнаскія русіны».

Ён цудам выкруціўся з небяспекі. Зноў мастацтва, зноў любоў і нянавісць. Ён ужо атэіст, ён добра ведае, чаго вартыя байкі пра райскую канюшыну, якія распавядаюць ваўкі паспалітым агнцам.

— Чым хутчэй мёртвым будзеш, тым хутчэй райскую канюшыну здабудзеш.

Страшны 1596. Рэакцыя Жыгімонта III. Палаюць кастры. Звярнулі ўвагу на майстра, які не паважаў Бога, д’ябла і кесара.

Ваша маленькая, цёплая, такая трагічная і такая аптымістычная, у сутнасці, легенда чамусьці малюе мне далей такое:

— Доказная інквізіцыя абвінаваціла яго ў кашчунным адступленні ад канонаў і ерасі падступнай.

Яму ледзь удалося адкруціцца прыкладам рымскіх мастакоў.

— А каноны?

— Каноны ствараюць людзі і адмяняюць іх таксама людзі.

— Як?!!?

Контрпытанне майстра.

— Як бы вы намалявалі святога Хрыстафора?

— Чалавекам з доўгімі валасамі...

Перабівае:

— Сто год таму вас бы за гэта засудзілі як ерэтыка, бо тады яго малявалі з сабачай галавою. Такі быў канон, і яго адмянілі людзі. І ўсё ж прысуд абвяшчаў: баніцыя на дзесяць год.

Я думаю, дзе ён вандраваў. Можа, сонечныя алівы Італіі, сіманія і распуста папоў і дзіўныя карціны? Можа, змрочныя нетры Падляшша? Можа, тонкае мярэжыва маскоўскіх храмаў, трагічны лёс забытых Бармы і Посніка. Паўсюль цяжка «подламу» народу. І ўсё мацней стае думка, што адным мірам мазаныя і нобілі, і кардыналы, і баяры і што аднолькавы паўсюль народ, які мог бы быць вольным.

Казачная гісторыя Вашага сабора. Я яго бачу, як быццам ён тут, перад вачыма. І зноў вандраванні і пакуты пад чужым імем у катавальнях і чутка, дайшоўшая туды, пра вялікі бунт Магілёва.

Гісторыя паўстання. Таполя бяжыць з цямніцы, і вось ён у Магілёве, дзе ягоны сябра. Наступным днём гатуюць набат. Спадзявацца амаль няма на што, але сябра яго думае ў гэты горкі час пра будучае:

— Б’емся за волю, а самі абыякава глядзім на «брата», які мае фальшывы бязмен і абдурвае іншага «брата». Я не веру ў Бога, але адзіны ўчынак Хрыста благаслаўляю: ён выгнаў гандляроў з храма. Я думаю, што калі будзе перамога, — нам трэба будзе зрабіць тое ж: выгнаць іх з храма волі... Я губляю сон і спакой, калі думаю, што іхняя гнілая любоў да грошай можа ўсесціся на нашай волі... Гэта трэба доўга думаць, але я дадумаю. Я буду жыць доўга-доўга.

І вось набат у чэрвеньскі дзень, і стральба ў людзей, і вайна на вулках, і ён, які думаў жыць, каб думаць, гіне.

Галава яго ляжыць на каленях Таполі:

— Недадумаў ты, брат, недадумаў!

Арыштавалі кіраўнікоў. Трэба бегчы.

Мысленне мастакоў таго часу было пераважна рэлігійным, хоць самі яны маглі не верыць ні ў чых, ні ў сон. Таполя мог бы стварыць фігуру на тэму: «Не рыдай мяне маці». Сядзіць жанчына са змучаным, горкім і гожым тварам: Alba Russia сумуе над загінуўшымі. І на каленях яе ляжыць сын, звесіўшыся галавою і нагамі амаль да зямлі. Твар яго — твар сябра Таполі.

У яе ўжо няма сілы падхапіць яго прабітую, яго разумную, яго надзвычайна гожую галаву. Лепшае аддала яна свету. Ёй

усё адно, што поза ў яго нязручная — ён, яшчэ цёплы, ляжыць на яе каленях.

Бязмерны, нязносны боль у яе вачах, але поруч з гэтым у глыбі іхняй зараджаецца нешта новае, нешта гордае, нешта непераможнае. Быццам бачыць яна жахлівы пажар Турава[15], забітага Мурашку[16], галаву Міхася Крычаўскага[17], бунты, бунты, бунты, крычаўскія мядзведжыя шкуры[18], караткачасную радасць, садызм Стоцкіх, пажар Каліноўшчыны[19] і бязмежнае, як блакітнае мора, шчасце будучага.

Нарадзілася ў крыві і пакутах, прайшла праз кроў і пакуты, імі купіла сабе права на шчасце.

Вандраванні. Новыя творы. Вучні.

І вось канец. Тураў палае. А стары, але вечна малады майстар працуе ў саборы. Зброю ён ужо не можа трымаць, ён змагаецца разцом, і разец яго бегае па мармуры, афармляючы новы, самы дзіўны, яшчэ невядомы свету твор, лепшы свой твор, у якім, як спадзяецца, ён сказаў *усё*.

Ужо заняўся дах храма, ужо можна выйсці толькі праз бакавыя дзверы. Яго цягнуць, завуць. На вулках ляск капыт чорнага войска...

І тут мы кідаем яго.

Для сябе мы не ведаем, загінуў ён ці не. Тыя, што знадворку, бачаць, як абваліліся скляпенні сабора, шуганулі ў неба языкі, і быццам невядомая агністая птушка ўзнялася і паляцела ў неба.

Не, ён, мусіць, не загінуў. Не можа загінуць неўміручы фенікс — народ. Нараджаецца ў агні і ў агні гіне, зноў нараджаючыся.

У неба ляціць агністы птах.

І вось зноў малады і вясёлы, перажыўшы сваіх варагоў, ходзіць ён па зямлі.

Бачылі яго на Радзе, бачылі у войску Вашчылы[20], бачылі паўсюль. Калі ў першым выпадку яму магло быць каля дзевяноста год і ён мог жыць, дык у другім — яму было б 178 год...

А зрэштаю, зрэштаю так і было, бо нават тое неверагоднае, што кажа народ, праўдзівей праўды.

Ну вось і ўсё. Яшчэ раз сцвярджаю: тое, што я тут напісаў, — дурніцы, і не так яно ўсё будзе, але калі хто і стане героем нашага эпасу, дык гэта ён і толькі ён. Так будзе.

І мне здаецца, што галоўнае, што вы стварылі пакуль што, — гэта ён. Вядома, надзвычайныя рэчы «Таварышы, вясна ідзе», «Каліноўскі», «Сяліба», «Пакошаныя травы», «Сон над Нёманам» (я быў бы шчаслівы напісаць так, — не, не так, а па-свой-

му, але так добра), і яны больш вытачаныя, больш майстэрскія, магчыма, але гэтыя волаты самі пігмеі перад гэтай грубаватай, як народная цацка з гліны, яскравай і лірычнай паэмкай. Ёй не трэба станавіцца «бліжэй да народа», яна — сам народ, і ніхто гэтай мэты яднання з ім не выканаў так, як зрабілі гэта тут Вы.

Я так ніколі-ніколі не напішу, хоць бы ўсё жыццё падрываўся над адным вершам.

Магчыма, гэта нетактоўна (я наогул грубы чалавек, і часта ад таго, вы толькі нікому не кажыце, што я вельмі саромеюся і тушуюся заўсёды і нават гаварыць не ўмею, ёлупам такім сядзеў на нарадзе, толькі пісаць, і таму пішу доўгія лісты), але я шчаслівы, што Вас тады не пусцілі ў Парыж. Парыж вы яшчэ пабачыце, а верш застаўся ў нас, і няхай зараз там абліжуцца. Не па іхніх губах ежа.

І не падумайце, што я тут, як у нас грубавата кажуць, «душою рыгнуў», бо я не люблю, калі мяне падазраваюць у няшчырасці і магу тады шмат грубасцей нагаварыць, як аднойчы з перапуду, гонару і крыўды за літаратуру нагаварыў іх Крапіве, якога вельмі паважаю і люблю.

Прабачце за гэтае глупства, за вольнае і дурное распараджэнне фактамі Вашае паэмы, але мне вельмі захацелася яшчэ раз прайсці з героем яго шлях і распавясці Вам, што гэты чалавек без Вас нарабіў, а потым развітацца з ім за руку назаўсёды як з сябрам, які ідзе ў далёкую-далёкую дарогу і які даў мне вялікае, вельмі вялікае шчасце.

Я нават не перачытваў ліст, бо баяўся, што не пашлю. Не ведаю, ці любіце Вы гэты свой верш і які любіце больш за ўсё? Яго трэба вельмі любіць і не верыць розным чыгунным мазгам, якія кажуць, што гэта не самае важлівае.

Ну, бывайце. Я быў шчаслівы паразмаўляць з Вамі. Мяне хутка чакае радзіма. Вы, магчыма, таксама вырушаеце некуды ў дарогу. І я не ведаю, хто з нас больш шчаслівы. Напэўна я.

Бывайце здаровы на многа гадоў.

*Ваш Караткевіч.*

*P. S.* Пад вокны прыбег чыйсьці сабака і брахнуў на мяне нешта падобнае на «Пся крэў»: лаянка, якая, безумоўна, паходзіць з сармацкай мовы. Сабака — паліглот, бо нацыя ў яго, таксама безумоўна, тутэйшая. Гэткі звычайны Кабздох з нейкімі бруднымі ўпрыгожаннямі ў хвасце і з адвіслым вухам.

Калі першым каханнем гарыць галава,
Калі горка — кладу я з сабой

«Бэзу куст», «Ткачых» і «Магілу ільва»,
А не свой барабанны бой.

## 8. МАКСІМУ ТАНКУ

*5 ліпеня 1956 г.,*
*Орша*

Дарагі Яўгені Іванавіч!

Вось я і ўдома. Усё сваё і гэта сваё я ні на якія там Сінгапуры не змяняю. У акно плыве ветрык з Дняпра. Пакуль не пажадаеш чагосьці большага — усё добра. Я разумею так, што гэта завецца шчасцем.

Прачытаў Ваш ліст. Цалкам згодзен з яго думкамі і перш за ўсё дзякую Вам за добрае стаўленне, за веру ў мае сілы. І не думайце, што мяне палохае ці бянтэжыць тое, што з вялікай падборкі вершаў пойдуць адзін ці два. Я ведаю, я пачынаю добра, занадта добра, бо часам сам сабе не веру, што гэта — я, што гэта мяне друкуюць, ды яшчэ і ў «Полымі». Я ведаю, — гэта цяжкі шлях, ведаю, што чамусьці я на гэтым шляху адзін з шчаслівых, і ўдзячны за гэта тым, хто дапамагае мне, і прыкладу ўсе свае сілы, каб быць вартым, каб Вы не чырванелі, каб не пазбавіцца мне зносін з людзьмі, якія мне дарагія.

Я думаю так: знайшлі ў трыццаці тваіх вершах два добрыя — старайся зразумець, што ў іх добрае, і развівай гэта далей. З часам можна такім чынам нават і з скромнымі задаткамі зрабіцца нядрэнным паэтам. Толькі гэта добрае няхай шукаюць сапраўдныя людзі і мастакі.

Вы ведаеце, я заўсёды думаў, што з нашых «палкоўнікаў ад літаратуры» Панчанка — генерал у патэнцыі. Ён зрабіў малавата, але ён перш за ўсё таленавіты, вельмі таленавіты, талент пырскае з яго твораў адусюль, прамяніцца.

У яго падборцы «Маім гераіням» такі па-чалавечы добры верш. І «Верхалазы». А «Каменні» канец трошкі з’ехаў у параўнанні з пачаткам. «Бацька» — добра з пачатку і да канца. І, галоўнае, таму добра, што не банальна. У нас павялося мярзотніка ў творах маляваць, як казалі айцы нашага хрысціянства, «аспідам і васіліскам, вне законаў есцества стаяшчым і пачэ кала воняй».

Лухта ўсё гэта. *Для сябе* чалавек рэдка «аспід і васіліск», *для сябе* ён заўсёды чалавек, і пакуль сумленне (калі яго свінні

яшчэ не з'елі) не прыцісне яго у кут, ён ніколі не скажа на сябе: «Я паганец». Так і трэба змалёўваць, быццам стаіш за яго, і толькі каб з яго ўчынкаў потым выплывала, што ён — гадзіна. А ў нас з часоў Шылера павялося, што герой выходзіць на прасцэніум і шыпіць: «Я — нягоднік, тысяча д'яблаў, гром у Брэсце і тры кулі ў зад. Няхай праглыне мяне пекла і ўсе ведзьмы Брокена, а я буду змагацца супраць высакароднейшага Карла Маора». Забываюць, што *для сябе*, пэўна, і Ваш Гарыдавец[1] быў правы і, не жартуючы, лічыў Сялібу «выскачкай», а каб ведаў «панскую мову», дык абавязкова назваў бы яго «артадоксам» і «жыццярадасным прымітывам». Я б нават Гітлера не маляваў проста звяругай і маньякам. Я б, калі пісаў бы пра такую паскуду кнігу, дык я б намаляваў яго спачатку звычайным дробным буржуа, няўдачнікам, які незадаволены тым, што «багатыя» адапхнулі яго ад карыта з пойлам і чмякаюць яго самі. Чалавек сапраўдны, калі пабачыў бы гэткае, пайшоў бы ў сацыялісты, каб *усім* было добра, каб *усе* былі сытыя, але дробны буржуа лічыць, што свет трэба змяніць *толькі для яго*, ён сам шукае шлях да карыта, і няма такой брыдоты, якой ён не зрабіў бы, каб дарвацца да яго. І вось вынік. Спачатку антысемітызм («Жыды заелі, каб ім!» Бебель назваў яго «сацыялізмам дурняў»), потым нацыянал-сацыялізм, потым проста нацыяналізм без усялякіх прыкмет сацыялізму, а потым кінулі тлусты кавалак, а потым проста поскудзь і злачынства, узведзенае ў дзяржаўны маштаб. *Для сябе* ён даволі таленавіты прамоўца, прамоўца «пачуцця», а не галавы, які мае смеласць быць пошлым, як яго мяшчанская аўдыторыя, *для сябе* ён беражлівы любіць жывёл і г. д., а *для ўсіх* гэта вар'ят, які сарваўся з ланцуга.

Вось гэта *для сябе* і *для ўсіх* добра паказана ў вершы «Бацька». Падабаюцца мне і іншыя рэчы, асабліва рамантычныя «Кветкі», вельмі своечасныя «Галубы» (гэтая дрэнь псуе густ народны, усе гэтыя «ялінкі-галінкі»), цудоўнае «Здарэнне ў гасцях», злая і вельмі праўдзівая «Смеласць» (як добры ляпас па мордзе шмат каму). Ну але што казаць? Талент, і ўсё!

Я думаю гэтымі днямі пабываць у Мінску. Шкада будзе, калі не застану Вас там (тады пабачымся ўзімку), але жадаю, цягнуся да яго, да яго будынкаў і людзей. А пра паэму мне напісалі так, быццам нават чулі яе па радыё. Я адчуваў прыемнасць наперад, цешыўся («Ну людзі, ну суседзі»). Вы, напэўна, прачытаўшы пра сябе гэткае адкрыццё, вельмі здзівіліся.

Бывайце. Хай будзе ўсё добра.

*Уладзімір Караткевіч.*

## 9. МАКСІМУ ТАНКУ

*8 жніўня 1956 г.,*
*Орша*

Дарагі Яўгені Іванавіч!

Вельмі мне шкода, што не застаў Вас у Мінску. Быў я ў Анатоля Сцяпанавіча у рэдакцыі, бачыўся яшчэ з некаторымі людзьмі і даведаўся, што Вы былі на Нарачы. Пра ўсё дагаварыўся, выправіў вершы і ў апошні дзень, уранцы перад ад' ездам, пазваніў Вам, толькі каб даведацца ад прыемнага жаночага голасу пра ўсё тую ж непрыемную для мяне вестку.

Але для Вас гэта, вядома, добра. Ёсць час і магчымасць пісаць. Я тут таксама пішу, гатую чарговую пасылку вершаў, а пасля сур'ёзна засяду за паэму. Дні цякуць звычайна. Нядаўна ездзіў у лес і прывёз 120 баравікоў — нядрэнны трафей.

Пішу, каб падзякаваць за вершы і паведаміць, што я ўрэшце моцна засеў у Оршы, буду тут працаваць і жыць, а без дапамогі ўсіх напэўна ніколі не адхрысціўся бы ад гэтых благаславёных Люцыпарам Лесавіч.

Чытаў Вашыя вершы ў чацвёртым і шостым нумарах «Полымя». У чацвёртым — горш чым заўсёды, а ў шостым вельмі добрыя. І верш пра лазьбаванне, і верш пра трагедыю, якая надакучыла (я б сапраўды такіх паэтаў прымушаў вылізваць уласныя вершы, як у дрэўнім Рыме), і такі добраіранічны верш, як «Абвяржэнне», і асабліва «І так яе кожны заве». Уласна кажучы, такімі і павінны быць вершы: здаецца, нічога не сказана, такі кароткі, а прыгледзішся — сказана ўсё.

Цяпер у Мінску не буду раней як у канцы кастрычніка.

Перакладаю зараз па заказу Ан. Сц. вершы Галчынскага, з якімі пазнаёміўся з месяц таму.

Чароўна! Чытаю таксама паэму Тувіма[1] «Kwiaty polskie» — таксама вельмі добра.

Уласна, я хацеў спытаць у Вас, ці вартая ўвагі гэтая «Маці Ветру», што я пасылаў. Анатоль Сцяпанавіч таксама нічога мне не сказаў наконт яе, а мне спытаць было нейк нязручна.

Наогул, ці варта мне зараз паспрабаваць прозу, ці яшчэ рана, гэта ж вельмі цяжкая штука?

Ну вось і ўсё. Калі будзе няма чаго рабіць — напішыце два словы.

Жадаю творчых поспехаў.

Моцна цісну руку.

*Ваш Ул. Караткевіч.*

## 10. МАКСІМУ ТАНКУ

*16 жніўня [1956],*
*Орша*

Яўгеніі Іванавіч, дарагі!

Што ж гэта такое? За што ж на нас зваліласея такая крыўда? Такая страта? Такая крыўда?

Няма ўжо болей нашага з вамі бацькі[1], і не ведаю я, куды ісці і што мне рабіць.

Плакаў бы, каб былі слёзы, але іх няма. Як выгараў. Гледзячы на яго шлях, на працу, якой цэламу пакаленню хапіла б вышэй галавы, я неяк прывык лічыць яго бессмяротным.

Сапраўды, за што ж яму паміраць? Ён рабіў так, што не быў варты смерці.

А цяпер ужо ўсё. Склаў рукі, адпрацаваўшы катаржную, неймаверную сваю працу. Мусіць, лёгка яму спіцца, бо зрабіў усё і зверх таго, што можа зрабіць чалавек: вынес з нябыту свой народ на ўласных плячах.

Але нам ад гэтага не лягчэй, асабліва мне, бо я так і не змог аддаць яму апошняга «бывай». Даведаўся, я аб гэтым толькі 14-га, цэлы вечар бегаў, каб пазычыць у кагосьці грошай, а 15-га ўдзень, на вакзале, даведаўся з газеты, што спазніўся. Як часта ўсё ў чалавека залежыць ад некалькіх брудных рублёў, каб яны здохлі.

І чаму гэта так позна інфармавалі людзей і так паспяшаліся з хаўтурамі? Калі памірае нейкі «культар», дык трубы і барабаны на ўвесь свет, а калі сэрца наша памёрла, найвялікшы паэт эпохі, дык у дзень хаўтур, да самага амаль вечара, ні слова, нейкія арыі з аперэтак, паведамленні пра бульбу. Сораму, сумлення ў іх няма. І гэтыя прамовы. Лынькоў, Купрэвіч, Суркоў, калгаснік з яго радзімы, добра гаварылі, а гэты «ад маладых» і іншыя прачыталі па ўрыўку з хрэстаматыі, і ўсё.

Як бы тут трэба было сказаць! Так сказаць, каб нават раўнадушнае сэрца, каб нават чужое сэрца закалацілася, зразумеўшы, што яно страціла.

Цяжка мне, Яўгені Іванавіч, і ніякага мне перад сабою апраўдання. І такая несправядлівасць. Смерць ненавіджу.

Як вышэйшага шчасця спадзяваўся я, што, можа, калі-небудзь, калі змагу, можа, напісаць нешта вартае, ён заўважыць, і я пачую ад яго слова ўхвалення, пагавару з ім.

А цяпер ніколі я не пачую ад яго слова. Ніколі.

На што я варты. А ён так і не паспеў напісаць сваю біяграфію, якую так хацеў напісаць.

Лепей бы я памёр за яго.

## 11. ЯНКУ БРЫЛЮ

*[22 красавіка 1958 г.],*
*Орша]*

Дарагі Іван Антонавіч!

Зусім было выбраў некалькі апавяданняў, перапісаў іх нават, а пасля ўзяў некаторыя апавяданні з Вашых зборнікаў, якія ў мяне ёсць, і перачытаў, перачытаў і ў часопісах: «Сірочы хлеб», «Памылку», «Прывал». А пасля пачаў ужо перапісаныя рэчы так крэсліць і шматаваць, што жывога месца не засталося, хоць ты ніткамі наступныя праўкі прышывай.

Спудзіўся, словам. Папрацую яшчэ і толькі пасля дашлю. А тое, што Вы паедзеце[1], як толькі вясной запахне, дык гэта нічога — якраз будзе час папрацаваць.

Не думайце, што я гэта пішу, каб Вы да мяне лепш ставіліся. Я такога не люблю. І мне нават некаторыя Вашы творы не падабаюцца (напрыклад, я лічу, што раннія Вашы апавяданні проста забіваюць «У Забалоцці днее», хоць многія чамусьці думаюць не так). Я гэта таму зрабіў, што адчуў, якая дубовая ў мяне мова, як бракуе трапных дэталяў, як мала гумару і дасціпнасці, чаго ў Вас — хоць заліся.

А пісаць, як некаторыя нашы сучасныя Баранцэвічы і Альбавы[2], вяхотку жаваць на пяць нумароў часопіса, — не магу. Чытаеш і амаль тое самае, што ў «Ниве»[3] на пачатку XX стагоддзя. Паўзучы натуралізм! Ды яшчэ ў «Ниве» хоць пра каханне было цікава. Розныя там царыцы Хатасу, графіні, графінчыкі, а тут — «калгасніца, якая купаецца».

Таму я лепей яшчэ трошкі пачакаю. Апрацую апавяданні яшчэ раз (іх будзе, напэўна, аж чатыры: «Завеі», «Пацукалоў», «Лятучы галандзец» і «Просценькая гісторыя»), дадам да апавяданняў яшчэ адну-дзве малюсенькія аповесці з цыкла «Сямейныя паданні роду Яноўскіх» (вазьму хаця «Цыганскага караля» або «Дзікае паляванне караля Стаха») — і дашлю летам, калі будзе час. Добра, што хоць буду далёка ад Вашага прэс-пап’е.

І яшчэ, ёсць у мяне да Вас пытанне, на якое Вы мне, спадзяюся, адкажаце. Хоць празаік я дрэнны, але пісаць усё адно буду, бо хачу, і свайго даб'юся, навучуся пісаць, Дык вось, ёсць у мяне адна цікавая ідэя і толькі я не ведаю, ці патрэбна гэта каму-небудзь, ці зацікавіцца гэтым хтосьці акрамя мяне. Справа ў тым, што я доўгі час працаваў з гістарычнымі актамі і кнігамі па гісторыі Беларусі і ў мяне назапасілася сіла матар'ялаў па гісторыі беларускай шляхты з XIV стагоддзя і аж па рэвалюцыю. І матар'ял хутчэй парадку побытавага. Тут адносіны з сялянамі, эканоміка, норавы і звычаі, надзвычайна цікавыя судовыя працэсы, розныя грымасы жыцця, злачынствы, сялянскі рух і г. д.

Можа, калі-небудзь і вялікае штосьці адсюль атрымаецца, але пакуль што на такое ў мяне не хопіць пораху, і я вырашыў зрабіць некалькі маленькіх (старонак па 20) аповесцяў з розных часоў і аб'яднаць у адно адным родам, прадстаўнікі якога былі або ўдзельнікамі, або сведкамі ўсіх гэтых падзей. Так і назваць: «Сямейныя паданні роду Яноўскіх». Аповесці дзве я напісаў[4], але не ведаю, ці варта гэта рабіць далей, ці будзе гэта камусь цікава. Аповесці будуць мастацкія, але на сурова сапраўдным матэрыяле, ні слова хлусні без патрэбы і толькі патрэбны домысел.

Як Ваша думка?

Мне здаецца, што можа атрымацца даволі добрая карціна заняпаду і выраджэння. Каб было цікава для ўсіх — сюжэт завастрыць і вычварна змяшаць смешнае і трагічнае (трагічнага будзе больш).

Божа мой, якія там тыпы, хоць ты іх у Плутарха[5] засунь: звяры, распуснікі, вісусы, гулякі, пакутнікі, святыя, дзівакі! На ўсякі асвечаны густ ёсць.

Вось, напрыклад, Дастаеўская-Карловіч (між іншым, продак пісьменніка), справа якой разбіралася на копным судзе «року цісеча шэсць сот сёмага, месеца марца шостага дня судёй Андрэем Станкевічам — старостой Менъскім». Тут нават і з псіхалагічнага пункту гледжання цікава: хоць я і не веру ў спадчыннасць, але штосьці ненармальнае, напэўна, яшчэ з тых год, павялося ў гэтай сям'і.

Або гісторыя стварэння на тэрыторыі Беларусі шляхціцам Знамяроўскім незалежнага цыганскага каралеўства. Гэтую гісторыю можна было б падаць у дусе буфанады, бо гісторыя і там скончылася бунтам, у выніку якога «караля» адшмагалі бізунамі ў торбе[6].

І поруч з гэтым беларуская Салтычыха Стоцкая, што варыла закатаваных рабынь і гадавала свінні.

Не ведаю толькі, дарагі Іван Антонавіч, ці патрэбна гэта камусьці, ці не будуць смяяцца, што пішу апавяданні з жыцця мамантаў і аповесці з жыцця брантазаўраў? Калі Вы лічыце, што гэта можа мець цікавасць — напішыце мне, і я з бадзёрым духам вазьмуся за ўсё гэта, не забываючы, вядома, і людзей майго пакалення.

На гэтым буду канчаць. Вітаю Вас са святам і жадаю ўсяго найлепшага ў жыцці, а галоўнае, каб хутка напісалі штось вялікае.

*Ваш У. Караткевіч*

## 12. ЯНКУ БРЫЛЮ

*10 мая 1958 г.,*
*Орша*

Дарагі Іван Антонавіч!

Вельмі суцешыўся Вашым лістом і дзякую за яго шчыра. Ведаеце, тут бывае часам трохі сумна, калі няма з кім паразмаўляць. І вось я на такі выпадак чытаю і перачытваю лісты — стае трохі лягчэй. Дзіўна, але я люблю і паважаю толькі дзве катэгорыі людзей: зусім простых і неабазнаных, або ўжо высокаадукаваных, калі яны толькі вызначаюцца прастатой, памяркоўнасцю і разумным гумарам. А сярэдняя катэгорыя, часцей за ўсё, бывае нецікавай. Рэдка трапляюцца сапраўды каштоўныя чалавечыя экземпляры. А ў астатніх, акрамя вялікіх прэтэнзій, няма нічога. Памятаю, у вёсцы на Украіне, дзе я настаўнічаў[1], выступаў у клубе вялікі раённы пурыц і казаў прыблізна такое:

«Вчитель Петрівської середньої школи відносився до дітей не як вчитель, а як який-небудь предвзятий Ганібал. Він перетворився в прореху на тілі людства».

А «браты-калгаснічкі» сядзелі і толькі галовамі хіталі ад задавальнення гэтай прамовай з літаратурнымі рэмінісцэнцыямі. Я ж і мае вучні сядзелі ў кутку і, канчаткова забыўшыся на правілы педагогікі, стрымлівалі смех да болю ў вушах. І ў Оршы такіх «прадузятых Ганібалаў», як лёду.

Таму я вельмі дзякую Вам за ліст і думаю, што калі-небудзь, як будзе зноў такі настрой, зноў паспрабую злоўжываць Вашым цярпеннем.

Добра, што Вы мяне падтрымалі з «Сямейнымі паданнямі». Я такі, напэўна, зраблю з гэтага штосьці вартае, нават хутчэй, ніж з сучасных апавяданняў. Пішу зараз увесь вольны час. А хутка яшчэ іспыты будуць, будзе мне яшчэ вальней, і я за гэты час скончу сучасныя апавяданні і апрацую дзве-тры маленькія аповесці пра шляхту. Адну амаль апрацаваў, апошнюю, пра васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя ў беларускай глушы: «Дзікае паляванне караля Стаха». Атрымалася самай вялікай і надта ўжо крымінальнай. «Цыганскага караля» апрацаваў амаль да паловы. А вось пачатак хронікі яшчэ і не крануты: тыпы ёсць, сітуацыі ёсць, але трэба яшчэ трошкі пасядзець над гістарычнымі кнігамі ў Мінску, а можа, і ў Маскве. Адсутнасць бібліятэк проста рэжа мяне.

А мова нашых гістарычных актаў, хронік і летапісаў — гэта сапраўды чыстыя алмазы нават там, дзе яе сапсавалі барбарызмы польскага і іншага паходжання. Вось Вам некалькі прыкладаў:

«І густыя дажджы прахаланілі зямлю».

Або яшчэ: «...І сыну таго пратэстуючага, Юр'ю Стахоўскаму, вуздзечкі тыя на шыю злажылі і па той копі вадзілі, білі, мардавалі... ад каторага збіцця сын пратэстуючага не ведаць, еслі жыў будзець».

І яшчэ: «Беглі есмо до двора на конехъ, ажъ капыты зямлёй грэбавалі». І прозвішчы, якія былі ў той час! У актах ёсць, напрыклад, такія асобы: цівун па прозвішчы Пацук, пані Фалендыш-Хобалева (слухайце, гэта ж шэдэўр, бо «фалендыш» гэта fein holländisch — галандскае сукно, а «хобаль» — палюбоўнік!), пан Аляхно Свінчуковіч або яшчэ ў акце за 1630 г.— «з таго ж сяла Дастоева падданы пана Мацея Блядзевіча — Кірдзей Грычын». Прабачце за гэта апошняе прозвішча, але з песні слова не выкінеш, не я прыдумаў. Гэта з «Актаў, выдадзеных Віленскай археаграфічнай камісіяй»...

І так можна сшытак цэлы запісаць яшчэ лепшымі прозвішчамі, ды толькі не хачу Вас стаміць. Словам, лепей буду працаваць. Бяда толькі ў тым, што я бязвольны чалавек, не ўмею ўпарта працаваць, абдумваю з насалодай, а рабіць — цяжка, і школа мяне проста за шкірку адцягвае ад паперы.

Вершы — гэта зусім іншая справа. Нават паэмы пісаць, і тое гэта глупства ў параўнанні з прозаю.

І цягне мяне гэтая проза і баюся я яе, — як на першае спатканне йсці.

Я не разумею, чаго Вы так лёгка адмаўляецеся ад «вялікіх палотнаў»? Нягледзячы на тое, што «Забалоцце» горшае за

апавяданні — яно і ў параўнанне не йдзе з дзесяткамі іншых празаічных твораў на падобную тэму. Ну добра, няхай нават гэта ўдалося Вам менш. Але наконт «Быстранкі» я Вас зусім не разумею. Добрая, паэтычная рэч, чытаецца з унутранай ціхай радасцю, маладая такая. У першым «вераянце» была яшчэ лепшай, праўда, але і зараз цудоўна. З сумленнем і любасцю напісаная.

Галоўнае, не звяртайце ўвагі на глыбакадумных крытыкаў. Сядзіць такі Ванька-Ключнік ад літаратуры, помесь татарскага баскака Шчалкана Дудзенц'евіча з Жылем — Сіняй Барадой і зундзіць, вяргае. Той у яго «эстэт», той глядзіць з занадта вялікай любасцю на сыравешку або павуцінне.

Калісь (у той час якраз Танка нехта назваў «эстэтам») я запісаў для сябе ў дзённік радкі:

..........Мы знаем,
«Ён піша сотую кніжку!
Эстэцкае перыйка мае,
Сядзеў за панамі ў Лукішках!
І ўсё надрываў свае грудзі,
І свету не бачыў белага
Ў той час, як добрыя людзі
Ўсе па піўных сядзелі».

Гэта, мне здаецца, мае дачыненне да многіх, часткова і да Вас. Што могуць чыніць такія людзі з літаратурай? «Забойства і акрутны морд», — як казалі дзяды.

Ведаеце, Ваша манера пісаць падобная да манеры пуантылістаў-мастакоў, што пісалі кропкамі. Чыстыя, яркія фарбы маленькімі кропкамі-дэталямі. Трохі адыдзеш — зліваюцца яны, карціна. Мініяцюры так атрымліваюцца, вядома, лепш, але ж былі ў пуантылістаў і вялікія палотны. Дасягалі гэтага некаторыя з іх. І вы ўжо дасягнулі гэтага хоць бы сваім «У сям'і». Чаму б Вам не скарыстацца гатовай канвой, якая салье ўсё гэта ў адзін візэрунак: жыццём бацькоў і сваім.

Старая вёска, норавы яе, звычаі, мясцовыя трагедыі з прычыны беззямелля, кахання, варожасці. Вясковы пейзаж, вясковыя паданні. Сваякі — вясковыя любамудры, водгукі войн і рэвалюцый. А пасля — дзяцінства ва ўсёй сваёй непаўторнай своеасаблівасці. Вы ж так ведаеце і так любіце дзяцей! Вось абуджэнне першай думкі, спробы дзіцяці растлумачыць свет і з'явы жыцця, псіхалогія дзіцячая, што глыбейшая за куртатую псіхалогію дарослых.

Начлег, першая праца, вячоркі, каханне першае. Першыя навальніцы над сэрцам і самім жыццём. І нацыянальны ўціск.

А пасля армія і гэты страшны польскі разгром, трагедыя цэлага народа. [...]

І палон, і ўцёкі, і партызаншчына. Столькі тыпаў, столькі нечуваных здарэнняў аж нават да цяперашняга пісьменніцкага асяроддзя. Гэта будзе хіба не эпас? Жыццё чалавека і жыццё народа! І галоўнае, гэта ўсё Ваша, у Вашай манеры. Зрабіць павольны, дэталізаваны ў раланаўскім дусе, смачны раман. Зрабіце гэта, дарагі Іван Антонавіч. Трэба ж зважаць на нашу літаратуру, такую яшчэ параўнаўча бедную эпасам і, галоўнае, чалавечнымі пісьменнікамі. Ды яшчэ пры нашым абрыдлівым нігілізме да свайго.

Мне здаецца, зараз кожны з нас не належыць сабе.

Ну вось і ўсё. Даруйце мне за гэты доўгі і, магчыма, нудны ліст, які, напэўна, давядзе Вас да знясілення.

Жадаю Вам вялікіх поспехаў і шчасця. І не губляю ўсё ж надзеі ўзяць у рукі калісьці твор Ваш, вялікі і вельмі чалавечны.

Цісну руку.

*Ваш Уладзімір Караткевіч.*

## 13. ЯНКУ БРЫЛЮ

*21 жніўня 1959 г.,*
*Орша*

Дарагі Іван Антонавіч!

Даўно ўжо мы развіталіся, а калі сустрэнемся — невядома. У Мінск я, напэўна, не прыеду да восені: рамонт хаты, стан бацькі і яшчэ сто не вельмі вясёлых прычын. Паспрабую прыкаціць з Масквы. А туды мяркую ехаць 29 жніўня.

Калі будзе час і жаданне, напішыце хаця Вы мне туды пару слоў. Вы ж мне яшчэ нічога не сказалі пра лёс маіх апавяданняў, пра тое, што ў іх дрэнна, а што добра, пра пародыі. Дапішыце мне пра гэта, я не пакрыўджуся, паверце мне. Ведаю, што сказана будзе прама, адверта і добразычліва.

І ўсё ж нешта дзіўнае робіцца са мною. Ці змяніўся час, ці сам я стаў горш пісаць — невядома. Але рэжуць і лаюць мяне больш.

І добра яшчэ, калі лаеце Вы, а тое бывае і горш.

Прадбачу, што хутка які-небудзь Палітыка з благастным, окаючым велелепіем, як Горкі ў лістах да пачынаючых літаратараў ад станка і сахі, скажа мне: «Очень хОрОшО делаете Вы, что Обучаетесь грамматике, — великОлепнО. Труд сей — весьма пОлезен, сударь вы мОй».

Ну ды нічога. Будзем жыць.

Ехаць не хочацца, асабліва вось так, не пабачыўшыся з людзьмі.

Амаль месяц быў у Рагачове[1]. Вось і ўвесь адпачынак. Зрабіў другую кнігу вершаў і заўтра дашлю яе Анатолю Сцяпанавічу[2], напісаў некалькі новых вершаў і, здаецца, не зусім дрэнных.

І яшчэ рыбачыў, рыбачыў і рыбачыў. Люблю Дняпро, як вершы, нават такі, змялелы, абязрыбелы, з дубамі, якія паспяхова пускаюць на дравішкі.

Не бачыў Нёмна, але думаю, што Дняпро ля Рагачова не горшы. Ён, мне здаецца, больш першабытны. Глiністыя, пясчанікавыя, сланцавыя адхоны. Крыніцы выбіваюцца з-пад іх, шастае трава. Так і здаецца, што зараз з'явіцца над ракою табун дзікіх коней.

І месяц чырвоны, нізкі.

А вышэй ад горада лясы ідуць і вёскі на адхонах такія, што сэрца заходзіцца ад замілавання. Адны Кісцяні чаго варты!

І мые ён берагі, мые, мые. Дубы вымывае, старыя, варажскіх часоў. Я напэўна рыбаком стаў бы, каб не пісаў. Падабралася ў нас кампанія: я ды дзядзька, ды два яго сябры, Мікола ды Пятро. І што мы нарагаталіся, што разыгралі адзін аднаго, што юшкі насёрбаліся!

І галоўнае, кожны дзень — гэта тысячы адкрыццяў. У кляпца вочы гарацъ уначы фіялетавым агнём, выдра раку пераплывае, шчупака неасцярожна «ўзяў пад зебры».

Я думаў дагэтуль, што ведаю свой корань, — выявілася, што ані д'ябла я яго не ведаю. Вы знаеце, я далёкі ад нацыянальнай абмежаванасці чалавек, але я параўнаў украінцаў і рускіх з беларусамі і, гэтым летам, зрабіў вынік на карысць апошніх. Гэта не ў еўгеніцы справа, проста мы бяднейшыя, а бяднейшы заўсёды вышэй духоўна.

Нам бы перадыхнуць — што б мы зрабілі! Цуда на зямлі!

А піша аб гэтым народзе навуковыя працы, за малым выключэннем, чакуша дубінная, якая ні яго, ні суседзей ягоных не ведае.

У мяне запісаны ўжо ў чарнавіку накід кінасцэнарыя пад назвай «Дзеці вялікай ракі». Проста нельга было не думаць

аб гэтым, аб людзях, якія вартыя лепшага, аб рацэ, нават аб лопуху гускі, які рыбак паклаў на лысую галаву мокрым, каб не пякло сонца.

Гэтым людзям год праз дваццаць давядзецца шукаць іншай працы, напэўна, гадаваць ракушкамі свінні ды плесці кошыкі з лазы. Прыязджае сволач розная і глушыць рыбу. І нікому няма справы.

Крадуць выбуховае рэчыва з хімгасаў, дзе трымаюць яго для карчавання пнёў, прывозяць сваякі з шахт. Я мерыў здохлага шчупака на водмелі і намерыў метр і сорак два сантыметры.

А рыбінспекцыі ад Жлобіна да Тошчыцы — тры чалавекі на адным чаўне. Ды яшчэ і хабарнікі насатыя.

Ну, досыць аб гэтым, сумным.

Сцэнарый усё ж зраблю, толькі баюся, што не возьмуць яго.

Лаяцца буду вельмі.

Пішыце мне, дарагі Іван Антонавіч, пішыце пра сябе.

І жадаю Вам усяго-ўсяго найлепшага.

*Ваш Уладзімір.*

## 14. ЕРАНІМУ СТУЛПАНУ[1]

*20.IX.62, Рогачев*

Дорогой Ероним!

Пишу несколько слов, потому что каждый день столько работы — никакой возможности нет ее осилить. Пишешь и пишешь этот чертов роман[2], движется он и движется, пухнет и пухнет, как лавина, и всё хочется сказать, и никак не предугадаешь поступков героя главного и героев второстепенных — вечно какие-то у них выбрыки, выходки, неожиданные психические травмы или, наоборот, благодушие душевное, доходящее чуть ли не до пантеизма.

В общем, хорошие ребята, да вот только я написал уже 177 страниц (моим почерком!), а сюжет всё еще только сотни речек и ручейков, которые пока не слились в одну реку — восстание. Собственно, главная река есть — герой, но пока в него вливаются только небольшие речки — главная героиня, друзья детства и т. д. и т. п. И течет его речка поэтому неспешно, как у всякого баловня судьбы: здоров, умен, красив, богат, родовит, окружают его интересные и хорошие люди. И живет он ласко-

во: детство, детская любовь, море искусства вокруг, охоты, святочные развлечения, милые животные, сады не хуже чем в Царском Селе, дворцы, картины — баловень во всех отношениях. Я это делаю нарочно, тем страшнее будет, когда этот великолепный, во всех отношениях, экземпляр человеческой породы жизнь начнет бить, ломать, корежить. А государство поможет, а военщина, бюрократия, религия, непонимание да вражда всё у него отнимут, пустят в мир, как Иова.

В декабре-январе мне придется поехать в Вильнюс, сидеть в архивах и библиотеках. А уж оттуда, конечно, заверну и в Ригу и в Дубулты, а если к нам приедешь — тем лучше. Надо держать друг друга в курсе всех дел, и тогда будет хорошо.

Переживаю из-за того, что пока не могу тебе помочь. Роман[3] перенесли печатанием на декабрь. Поеду 22-го в Минск, и если не удастся добиться хорошего результата — будет мне очень плохо. Хуже еще чем тебе. Удастся получить там или в кино (на что, впрочем, надежда очень плохая) — вышлю, не ожидая твоего напоминания. Не удастся — не вышлю. Ты меня знаешь, я этого мусора никогда не жалел. Да вот только жаль, что этого мусора у меня сейчас совсем нет.

Ну добро. Рад, что Валде понравилось у нас. А сюда мы еще съездим на следующее лето. Дядька и все мои передают тебе привет.

Целую тебя крепко.

*Твой Владимир.*

*P. S.* Пиши на Минск и сообщи, сколько ты еще будешь там, в своей тайге.

## 15. ЛАРЫСЕ І ЯНКУ ГЕНІЮШАМ[1]

*7 ліпеня 1963 г.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Шмат за што давядзецца мне прасіць у Вас прабачэння. І за доўгае маўчанне, і за тое, што не паехаў у Свіслач, і яшчэ шмат за што. Вось ужо дваццаць дзён, як мы вярнуліся са сваёй паездкі, сто разоў можна было напісаць. І, даю Вам слова гонару, відаць, не было і дня, у які я не думаў бы пра Вас, не хацеў бы азвацца. А тлумачыцца ўсё вельмі проста. Заўтра ў дзве гадзіны вырашаецца лёс рамана. Будуць абмяркоўваць на

секцыі Саюза. Гэтыя апошнія дні даліся мне ў знакі, можаце мне паверыць. Шмат з кім давялося гаварыць. Кідаць у такі момант усё — было б неразумна. Магчыма, я ўсё ж прыехаў бы (нават дамовіўся ўжо), але тут прыйшла тэлеграма ад маці. І я паехаў у Воршу, прабыў там тры дні, у сім-тым дапамог, а потым перавёз маці ў Мінск. Настрой усе гэтыя дні быў проста абрыдлівы, і мне не хацелася пісаць ліста, міжвольна псаваць настрой харошым людзям.

Таму што, — хочаце — верце, хочаце — не, — а я за кароткія гадзіны нашай сустрэчы палюбіў Вас. Палюбіў не таму, што занадта ўжо добра зведаў, а проста таму, што мне стала лягчэй жыць. Такія нябачныя павуцінкі цягнуцца ад сэрца да сэрца людскога! Часта мы іх проста не заўважаем, а яны ёсць, яны існуюць, вяжуць людзей непрыкметна моцнымі повязямі. І хаця гэтых людзей нямнога, свет ужо не здаецца такім пустым і некуды знікае адчуванне поўнай сваёй непатрэбнасці ў ім і для яго. А такое, на жаль, — амаль звыклы стан для людзей нашага лёсу.

Ну вось, «растлумачыўся ў каханні» (як пісаў адзін знаўца нашай мовы). Цяпер, па ягоных жа словах, застаецца толькі з'есці пэндзаль вінаграду з асобай жаночай падлогі. Так вось і жывем.

А відаць, што ўсё ж недарэмна жывем. Нішто не знікае з таго, чаму нельга знікнуць.

Сярод гэтай сваёй калатэчы вельмі часта ўспамінаю Ваш вячэрні гарадок, гарбатыя вулачкі, засень ліп, цудоўны Ваш дом, вершы, усё, аб чым гаварылі, і Вашы, Ларыса Антонаўна, словы, пэўна, не забуду, тыя некалькі сказаў, якімі мы абмяняліся на гародзе. Усё застаецца так, як гаварылі. Нязменна. І назаўсёды.

І таму хай не будзе ў Вас прыкрага ўражання ад апошняй гадзіны нашай сустрэчы. Не думайце, што мне нешта абрыдла, нешта не спадабалася. Мне было проста фізічна балюча. Я ўжо не мог больш ані хвіліны заставацца самотным сярод людскога непаразумення.

Улічыце, яны абодва[2] сапраўдныя, вельмі сапраўдныя. Чыстыя, добрыя, таленавітыя, не прадажнікі, не кар'ерысты, любяць Беларусь (а на гэта патрэбна неабыякая мужнасць), галаву аддадуць за сябра, ніколі не будуць ні ўладарамі над бліжнім, ні рабамі яго. І ўсё ж Вы не зразумееце іх, а яны — Вас. Спрэчка станавала непатрэбнай, цяжкай, амаль невыноснай для мяне. Яны вынеслі з Вашага дома самыя лепшыя ўражанні

пра Вас (я кажу праўду, я наагул не хлушу без крайняй на тое неабходнасці), хацелі б яшчэ сустрэцца некалі, і ўсё адно мне было цяжка.

Пры сустрэчы мы яшчэ пагаворым аб гэтым. А пакуль тое, скажу толькі, што мне заўсёды кроіла сэрца нейкая недарэчная прамежкавасць нашага народа: «народ-межеумок» (сказалі б расіяне). Заўсёды ён за кагосьці. І амаль ніколі ён не бывае сам за сябе. Чатырнаццаць год, як я зразумеў гэта, і ўсё стала для мяне адной вечнай крыніцай пакутаў. І яшчэ, трохі шчасця, падфарбаванага горкім гонарам. Таму што мне нічога і нікога не трэба, акрамя гэтых людзей, якім я непатрэбен і якім непатрэбна іх імя.

У іншых ёсць цяжар забабонаў, цяжар велічы, цяжар непатрэбных ідэй. У іншых ёсць прарокі, памагатыя, святыя, дзяржаўнасць, гісторыя, літаратура. У нас няма нічога, акрамя магіл. Дык вось, за гэтыя магілы...

І таму я бяднейшы за апошняга жабрака і, адначасова, самы багаты. Бо я магу дазволіць сабе раскошу любіць усіх, хто не падлюга. Што ж, мы з Янкам розныя — я яго люблю, бо ён пнецца над гэтым маім занядбаным родным словам. Што з таго, што, напэўна, і мы з Вамі розныя — я люблю Вас, бо Вы любіце Маці.

Вось чаму мне было цяжка. Ніколі ні да чаго не даводзяць спрэчкі, пакуль пераважная большасць людзей не асэнсавала, што яны ёсць. Наадварот, гэта шкодзіць, гэта пракладае непатрэбныя рубяжы.

Пакуль гэтага самаасэнсавання няма — нам трэба проста, горда і самотна рабіць сваю справу, не зважаючы ані на якія пляўкі, поўхі, страты. Відаць, пры такім становішчы біць будуць з усіх бакоў. Што ж, і гэта набытак. Такім, па-мойму, яшчэ ніхто не мог пахваліцца. Калі вытрымаем — значыць, тытаны, і не памрэм. Калі не вытрымаем — туды нам і дарога, шэлег нам кошт і смецце нам магіла. І іншага мы не варты. І хай яны тады здыхаюць, такія ўладары думак і такі народ, не пераводзяць дарма хлеб. Таму што кожны купляе права на жыццё маральнай стойкасцю, веліччу душы, у якую ніхто не мае магчымасці запусціць лапы.

Відаць, лёс любіць нас, калі быў нам такі гонар: быць адным супраць усіх. А калі так, то ўступае ў правы дэвіз Давыда Гарадзенскага: «Нас мала, не чакайце літасці».

Ну добра. Нагаварыў. Пасылаю Вам верш, скончаны сёння. У яго адзіная вартасць: свежаспечаны. Калі можна, перапішыце

і дашліце мне, Ларыса Антонаўна, «Неіснуючаму»[3]. Вельмі буду ўдзячны. Калі магчымасці не будзе — сам перапішу пры сустрэчы.

Ну вось. Не крыўдуйце на мяне, калі ласка. Часам, можа, успамінайце, як я Вас. Дабром.

Пішыце, як справы ў Вас, як Зэльва, як пажываюць Вашы кветкі і той Цэрбер (імя, на жаль, забыў), які ўсё хадзіў вакол нас. Мяркую, што ён меў на ўвазе мяне, хаця потым прымірыўся. Моцна цісну Вашы добрыя рукі.

*Ваш Уладзімір.*

## 16. ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

*[Пачатак снежня 1963 г.]*

Дарагая, паважаная і мілая Ларыса Антонаўна!

Яшчэ раз прабачце за ўсё і не гневайцеся на мяне. Таму што менш за ўсё мне хацелася б сапсаваць адносіны з Вамі. Вы цудоўная і Вас нездарма ўсе любяць. І менавіта таму я проста не магу пісаць Вам кароткіх — абы адпісацца — лістоў. Тых, чытаючы якія, чалавек не можа адвязацца ад упэўненасці, што карэспандэнт увесь час думае аб нечым іншым і галоўны яго клопат зусім не ліст — як то належыць рабіць кожнаму гжэчнаму чалавеку, — а нейкія свае клопаты і непрыемнасці. Вось гэтыя свае клопаты і непрыемнасці я Вам зараз і распавем, калі не будзе сумна.

Галоўнае — барацьба за раман, якая скончылася нядаўна поўным паражэннем. Далі мне добра, але, як бачыце, жывы і нават бадзёры.

Карэктура была ўжо ў маіх руках, калі раптам адбыліся вядомыя Вам падзеі. А дзеянне рамана[1] (не таго, абсечанага для часопіса, які Вы чыталі) — у мастацкім асяроддзі, і шмат ёсць разважанняў наконт таго, што мастацтва — не заказ і не гульня ў бірулькі, а сумленне зямлі. І ад многіх старонак так і патыхае «расколінай між пакаленнямі». Я, канешне, не такі дурань, каб лічыць, што людзі майго пакалення ўсе святыя ды божыя, а людзі старэйшых пакаленняў — чорт ведае што. Настаўніка майго, акадэміка Бялецкага, я ні на якога бобіка-пагодка не змяняю. Лічу, што сярод майго пакалення месца Брыля апошніх год, і Ваша, і шмат яшчэ якіх добрых людзей. Харошыя людзі не маюць узросту, але тут пытанне хутчэй працэнтовае.

І ў гэтым не наша заслуга, што сярод нас больш людзей, якія ненавідзяць ханжаства. Проста нас менш страшылі, а тыя, у значнай частцы, людзі спалоханага інтэлекту. Ведаю я і слабасці равеснікаў. Яны не загартаваныя. Стукнулі па іх, і гатова, лапкі ўгору. Адразу каяцца. Вазнясенскі, сволач Бялюцін (галава той студыі «незалежных»), Еўтушэнка, некаторыя з нашых хлопцаў. А два старэйшыя, Някрасаў і Эрэнбург — малайцы, пляваць яны на ўсё хацелі з высокай званіцы.

Словам, людзі ёсць людзі.

Дык вось, узяліся за мяне ўсур'ёз. Абмяркоўвалі ў выдавецтве (яшчэ да падзеяў) — прабілі. Пасля падзей я зразумеў: справа мая дрэнная. Кніга пайшла ў цэнзуру і потым некалькі месяцаў была невядома дзе. Рэдактары ўрэшце далі яе ў Саюз. Там абмеркавалі і ўхвалілі, калі я некаторыя месцы выкіну. Давялося выкінуць. Потым, на прэзідыуме, гаварылі аб гэтым абмеркаванні, сказалі, што вось, пасля апрацоўкі (і перарабіць жа даводзілася няшмат) кнігу трэба выдаваць.

І — напплявалі на ўсю тую думку Саюза. Карэктура пайшла па руках. У цэнзуру — і там падкінулі, у міністэрства культуры, туды, сюды. Паўсюль. Некалькі месяцаў ніхто не казаў, у чым яе «заганы». І ўсе чыста адмовіліся шчыра адказаць, што ў ёй такога «заганнага». Рэдактары нашы і дырэктар выдавецтва (ёсць такі Матузаў, чалавек з самым першапачатковым інтэлектам, дыстрафіяй сумлення і гіпертрафаваным гонарам) зразумелі, што тут поўны абшар для іхніх домыслаў... і пачалося.

Прыпісалі мне, галоўным чынам, абстрактны гуманізм. Усе выкінутыя мной месцы таксама аднавілі і, грунтуючыся на іх, абвінавацілі ва ўсіх смяротных грахах.

Гуманізм ім перашкаджае. Больш за ўсё.

Зубоў (устаўных) у таго Матузава, бы ў дыназаўра, трыста штук, а непазычаных мазгоў, таксама як у дыназаўра, з напарстак. Ды і іншыя недалёка ад яго пайшлі. Сказалі, што без карэннай перапрацоўкі друкаваць раман не будуць. Вельмі яны хацелі, каб я перапрацаваў, і спадзяваліся, відаць, што я на гэта пайду. Прызнаюся, мелі грунт. Таму што я чалавек удзячны, і калі Саюз даў мне патрабаванні памяркоўныя і невялікія, я на праўленні падзякаваў ім (як людзі паставіліся, акрамя пана яснавяльможнага гетмана кароннага Тараса Хадкевіча), хаця і сказаў адначасова, што калі лаяць, дык усіх, бо няведама яшчэ, хто заслугоўвае крытыкі: я ці Паслядовіч, «памфлет» якога — ганебная з'ява, данос, што стаіць па-за літаратурай. Толькі пасля зразумеў, калі ўся тая цягамоціна са мною адбылася,

што прыніжае нават цень кампрамісу, што «праваслаўнаму належыць паміраць за адзіную літару аз». Цяпер такім і стану, хаця здыхаць буду. Навучылі.

Ну дык вось. Сядзелі яны і чакалі. Я спакойна ўзяў са стала той пратакол (іначай нельга было, гэта быў першы за ўсе месяцы дакумент аб тым, чаго яны хацелі), склаў яго і пайшоў прэч.

— Это не для вас предназначено!!! — Матуз гарлае, а ў самога на храпе малінавая чырвань.

— Ведаю. Але мне гэта прыдасца.

— Вярніце!

— І не падумаю.

— То што, вы і перапрацоўваць не будзеце? — гэта Бажко, кум катынскі.

— Нашто? Кнігу псаваць?

Слова за словам — я ім і рэкнуў. Лаяцца не люблю, але тут такога маскаля загнуў — зялёныя сталі. І пайшоў.

Тут мяне ўгаворваць пачалі. А я разоў дваццаць да сакратара ЦК па прапагандзе званіў. Што ж, са свайго пункту гледжання ён рацыю мае: кнігу не чытаў і чытаць яе ў яго няма часу, а загадваць, не чытаючы, — якое ж ён права мае? Атрымаецца дыктатура, націск на выдавецтва. А так рабіць — нельга. Гэта мне ягоны намеснік растлумачыў у трубку. Усё ж сказалі, што трэба яшчэ адно абмеркаванне: работнікі выдавецтва і Саюза. І тут я даведаўся, што ўсё гэта толькі балбатня і непатрэбны здзек, бо набор «Леанідаў» рассыпалі. Я, канешне, ад абмеркавання адмовіўся.

І вось так два гады жыцця пайшлі попелам, карэктуры не аддаюць (я схаваў, што праўда, адзін экземпляр), — усё дробныя прывязкі, якіх было тысячы, а яны, відаць, разлічваюць, што я нервавацца буду, — кніга ў перакладзе не выйдзе, бо ёсць іхняе вета. Будзе выдавацца толькі «Дзікае паляванне караля Стаха», даўняя аповесць, стылізаваная пад XIX стагоддзе. Як выйдзе — дашлю.

А я смяюся. Бо для разумнага чалавека ясна: калі ўжо нешта так пільна патрабавала індзейскіх скокаў над рассыпаным наборам, то аніяк не раман.

Ну ды д'ябал з імі. Горш тое, што забарона будучай кнігі прымусіць мяне падрабляць артыкуламі, дробнымі апавяданнямі, тэкстамі дакументальных фільмаў замест таго, каб канчаць «Каласы»[2]. Біўся ў цісках, а тут — як назнарок — сцэнар на студыі ціснуць, п'еса ляжыць у асабіста зацікаўленых і вышэйпамянёных вельмі занятых людзей, і яны яе тры месяцы

як чытаюць. А тут яшчэ пракраўся бухгалтар студыі і падмануў некалькі чалавек такой падвойнай бухгалтэрыяй, што мне, напрыклад, суд, абяліўшы да канца, так і не здолеў скінуць усёй «запазычанай» сумы, з якой я і капейкі не меў у руках.

І мне давялося працаваць, як ніколі ў жыцці, каб выбрацца з пасткі. І цяпер выбіраюся. Скора стане лягчэй, а там і зусім лёгка. І застанецца мне адно: працаваць, жыць сціпла, ведаць, чаго можна чакаць ад жыцця. Бо доўгі час яно, жыццё, як назнарок, брала мяне на змор. А можа, і не назнарок. Ды толькі я не дамся, як не даўся дагэтуль. Я чалавек не спешчаны, мне ад яго, ад жыцця, дач і машын не трэба. На хлеб з кавай зараблю. А ўрэшце, добра ўжо тое, што мне цяпер ніхто не прапануе, як шматлікім іншым, рабіць тое, што мне не падабаецца.

Вось і ўся мая гісторыя, досыць стандартная і досыць сярэдняя. Цяпер Вы ведаеце, у чым корань майго маўчання. І давайце пагаворым пра нешта больш прывабнае. Скажам, пра Вашае жыццё, пра «Неіснуючаму». Які верш, які цудоўны верш! Я часта яго чытаю і думаю пра Вас і сябе, і ўсіх. І ў такія хвіліны яшчэ больш радуюся, што вось, сустрэліся мы.

Я цяпер сяджу ў Каралішчавічах, тут семінар кінадраматургаў. Уласна, ніякі не семінар, а проста кіно задыхаецца без сцэнараў. Зрабілі-такі добрую справу. Ну вось некалькі чалавек і засадзілі сюды, у мур'ю: пішыце, хлопцы. Буду тут да чысла 10-га. Я, прызнаюся, радуюся, бо гэта месяц працы. Дык вось, я тут канчаю сваё «Сонца»[3]. Гэта гісторыя жыцця адной жанчыны, якая ішла, нягледзячы ні на што, і перамагла ўладу жаху. Калі пішу яго, часта згадваю Вас. А верш гэты — чакайце — яшчэ ў хрэстаматыях юнакі і дзяўчаты чытаць будуць. А можа, і без іх, проста для сябе будуць любіць.

І не трэба перажываць, што пра Кастуся[4] гаварылі чужыя, абыякавыя людзі. Чорт з імі. Гэта — накіп, шум, няварты вялікага ценю брэх. І ўсё.

Ну вось. Сяджу тут. За акном амаль зусім цёмна. Толькі на светлаватым небе цені ялін. Сёння вольны дзень, кансультант мой паехаў, і вось я ўпершыню за шматлікія тыдні атрымаў магчымасць гаманіць з Вамі.

Дасылаю Вам два вершы, якія будуць у рамане, у «Каласах». Адзін — верш героя, другі — эпіграф да апошняй часткі, «Груганнё».

Наконт лагераў і ўсяго такога — Вы маеце рацыю. Гэта — язва, хто б гэта ні рабіў. І ніякія вышэйшыя меркаванні апраўдаць такога не могуць, наадварот, драты канчаткова кампраме-

туюць кожны ўрад і паказваюць, што ад яго больш няма чаго чакаць. У часы Дыяклетыяна[5] першым хрысціянам не было патрэбы ні ў доказнай інквізіцыі, ні ў «молаце вядзьмарак», ні ў Нікейскім саборы. А калі ўсё гэта пачалося — царква загінула, сама сабе падпісала прысуд. Тут ужо нічога не зробіш, не дапаможа нават канфедэрацыя ўсіх адзінаверных рэлігій, — будызм, юдаізм, хрысціянства і магаметанства — аб якой зараз многа гавораць. І так паўсюль.

Як Вы пішаце? Што пішацца? Калі ласка, Ларыса Антонаўна, пішыце, родная, не давайце дробязям жыцця загасіць Ваш добры агонь.

А я свой раман скора скончу. І зноў будзе бойка. Ды гэта ўсё нічога. Абыдзецца. Пераржывем.

Ну вось і ўсё. Пішыце, калі будзе час. Не гневайцеся. Жадаю Вам усяго добрага.

*Ваш Уладзімір.*

*P. S.* Прывітанне Тарзану. Пацісніце яму лапу. Моцна.

## 17. ЛАРЫСЕ І ЯНКУ ГЕНІЮШАМ

*13 студзеня 1964 г.,*
*Каралішчавічы.*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Вось і дні мінулі, а мне ўсё здаецца, што сядзім мы ўчатырох у добрай Вашай хаце і размаўляем пра ўсё, што было, што ёсць і будзе. Успамінаю сена пад абрусам, бяседу і шэрань на дрэвах ля царквы, і тое, што нам (цешуся надзеяй, што і Вам трохі) было добра і цёпла. Я моцна ў Вас адагрэўся душою. Рана яшчэ казаць аб гэтым, але — здаецца мне — нават змяніўся трохі. У важным, магчыма, нават грунтоўна змяніўся. Проста зразумеў, што самае дарагое на свеце — час, што двойчы мне яго не дадуць і што не так ужо многа мне яго засталося, а Маці наша не чакае. І таму што гэта так, што я вырашыў гэта для сябе, і дзейнічаць буду адпаведна гэтаму — на душы ўсе гэтыя дні нейкае лёгкае, светлае і радаснае гарэнне. Амаль нічога мне не трэба, акрамя работы, і каб ёю стаць як мага больш карысным. Са здзіўленнем думаю, як мог знаходзіць нейкую весялосць у сустрэчах з пустымі і чужымі людзямі, у бязмэтных спрэчках, якія нікога яшчэ не пераканалі, у чарчыне, у

рэдакцыйным зубаскальстве, у важданні і знаёмствах з асобамі, якія мне чужыя і ўсім «сапраўдным» чужыя, бо за гэтым сваім вонкавым бляскам хаваюць душэўную пустэчу, а за досціпам і філасофскай шматзначнасцю — нежаданне пальцам аб палец стукнуць за нешта, што нельга паставіць у куце іхняй кватэры.

Жыць, відаць, трэба іначай: прасцей, чысцей, без самазахаплення, без боязі, без віску з той прычыны, што нічога яно, тое жыццё, не дае. А яно дало. Дало галоўнае: дыханне.

Ну вось так. Магчыма, блытана. Але я шчаслівы гэтыя дні. І думаю — не сурочыць бы! — што буду шчаслівы і надалей. Год пачаўся значна лепей, чым мінулы. Няўжо скончылася паласа? Ды не, рана яшчэ казаць аб гэтым.

І вось адразу па прыездзе я ўцёк у Каралішчавічы. Пуцёвак з аднаго дня не было. Маці прыедзе пазней, у яе пуцёўка з 16 студзеня, з'езджу па яе. Але бачыць яе давядзецца толькі за сняданнем, абедам ды вячэрай ды яшчэ ўвечары. А так нікога не буду пускаць да сябе. Толькі работа. І так месяц. Так што не крыўдуйце, калі, можа, на наступны Ваш ліст адкажу паштоўкай. Трэба рухаць наперад свайго «Кастуся». Даволі ўжо быў ён у нашых сэрцах нямы, безгалосы, нібы выкраслены з поступу краіны. Няхай хаця для некаторых аджыве.

У Мінску адклаў для Вас «Бацічэлі», а для Івана Пятровіча — «Галоўную вуліцу Мінска» (думаю, у яго няма). Неяк ужо трэба даслаць.

Якія яшчэ былі навіны? Даслаў мне мой настаўнік А. А. Назарэўскі з Кіева кніжку «З гісторыі руска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў» (старажытныя кніжныя легенды і іх сувязі з рускім і ўкраінскім фальклорам). Не ведаю, чаму, але ў загалоўку не стаіць, што там і беларускіх легенд процьма. Гэта легенды, звязаныя з імёнамі Касьяна, Феактыста і Мікалая — бадай, самае цікавае, што стварылі ў апокрыфах усходнія славяне. Калісьці я Назарэўскаму даслаў некалькі легенд гэтага тыпу (што праўда, не ў дакладным фальклорным запісу, а ў блізкім пераказе). Ён гэта ўсё надрукаваў са спасылкамі на мяне. Прачытаў я цяперака кнігу і заганарыўся. Не тым, канешне, што ў «навуковую літаратуру» трапіў, а тым, якое дзіва нашы легенды. Непадобныя ні на што ў свеце, адменныя, з незвычайным, трагічным і ўзнёслым строем фантазіі. Нават у маім бедным пераказе яны ззяюць у кнізе сярод усіх іншых такім агнём, што я сам здзівіўся: ды як гэтай вялікай народнай фантазіі не могуць заўважыць іншыя, як не заўважаем мы самі? Хіба такія ўжо багатыя? Сем коп лапцей? Не заўважаем. І замест таго,

каб стаяць на сваім корані, стаім чорт ведае на чым. Нічога. Не заўсёды так будзе.

Заўтра яшчэ буду адказваць на лісты, напішу і ў «Беларусь» па заказу Барадуліна тры старонкі да дня смерці вялікага Кастуся, а потым засяду за «Каласы пад сярпом». Тут увогуле можна працаваць: цішыня, мір і спакой. Назнарок не ўключаю радыё, нічога не чытаю, імкнуся ні з кім не гаманіць, бо перад тым, што чакае, усё гэта неяк выглядае як пустыя пабрахенькі.

Рыхтуюся. Хаджу па лесе. Як трывала ў гэтым годзе ляжыць на дрэвах шэрань. Прыкмета ёсць, што будзе добрая і ярына, і азіміна. Дай Бог. І я хаджу, радуюся. І мне шчасна гэта, як і мой цяперашні стан.

На нагах унты, каб лазіць нават без сцежак. Тутэйшыя сабакі з гэтай прычыны ходзяць за мной літаральна прыліпнуўшы да іх насамі, як жалезнае пілавінне за магнітам, як чаўны за лайбай, а галоўны сярод іх, Джэк (ён жа Маёр), сёння спачатку быў абурыўся і бітую палову гадзіны брахаў на мае ногі. Іх тут чатыры сабакі: Маёр, Каштанка, Рэкс і Зюзя (імя ж далі! Бог холаду ў старажытнабеларускай міфалогіі), усе дрэннай пароды, усе не на сабаку, і ўсе вельмі мілыя. А я гляджу на іх і ўспамінаю Тарзана.

Вельмі хачу пісаць. Ужо нясцерпна хачу. На ўсё махну рукою, акрамя працы. Гары яно ўсё гарам.

Што ж, Кастусь. Кастусь, канешне, з кахання. Бо калі не любіць бязмежна нешта, то табе тое амаль абыякава. Ну, можа, пабіцца за тое яшчэ можна, калі не кахаеш, проста ад пачуцця справядлівасці. А ўжо сваёй галавою налажыць за каханае — гэта толькі ад кахання. І яшчэ ад усведамлення таго, што яго крыўдзяць, тваё каханне. Толькі і справы, усё вельмі проста. На словах. Але не ў жыцці.

А Вам дзякуй на добрым слове. Дзякуй за любоў да мяне (не ведаю ўжо, чым я яе заслужыў?), за добрыя словы (не ведаю, чым я за іх аддзякую?), за веру (не ведаю, чым яе апраўдаю).

Але адно скажу Вам. Брыдка мне часам бывае і цяжка. Жыву як іншаземец сярод сваіх ланоў і пушчаў і часта шкадую, што лёс зрабіў мне падарунак такі, пусціў у свет на гэтай зямлі (вы мяне разумееце: гэта ў хвіліны найбольшага болю, калі, здаецца, хаця галавою аб сценкі біся — не дапаможа). Гляджу вакол — Божа мой, такі край, такія сэрцы ў простых людзей, такія песні, такая рыцарская мяккасць і чысціня і смеласць. Народ горды, таленавіты, страсны. Толькі дзе ж тое ў большасці паэтаў? Дзе іхняя гордасць, талент, страсць? Дзе тое, аб чым казалі старажытныя: «належыць паміраць за адзіную

літару аз»? І ў такі вось момант добра робіцца, калі ўспомніш, што ёсць і іншыя, а сярод іх Вася[1] і Вы. Розныя людзі, розных лёсаў, розных усмешак, розных радкоў. Але галоўнае ўва ўсіх адно: любоў. А паколькі любоў — гэта і ёсць Бог, то каму якая справа, што нехта з нас верыць, нехта не верыць, а нехта верыць падсвядома. Браты ёсць браты. І, паверце, усім гэтая любоў вялікая залічыцца. Усім.

Спадзяюся, што Івану Пятровічу цяперака лягчэй. Так хочацца, каб адпачыў, бо сапраўды замучылі мы яго тады... Скора, напэўна, убачымся, Іван Пятровіч, і ўсё, што тады не дарабілі, не дагаварылі — усё дагаворым.

Моцна Вас абдымаю.

*Ваш Валодзя Караткевіч.*

## 18. ЛАРЫСЕ І ЯНКУ ГЕНІЮШАМ

*13 красавіка 1964 г.,*
*Чалябінск*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Напэўна, Вы адкуль ужо адкуль, а з Чалябінска ліста ад мяне не чакалі. А між тым я так доўга і не мог пісаць, бо справы пагналі сюды. Думаў быў спачатку яшчэ з Мінска напісаць ліст, але так здарылася, што спачатку вымушаны быў ехаць у Вільню, а потым — сюды.

Справа ў тым, што ўрэшце, здаецца, дазволілі прыступіць да напісання рэжысёрскага сцэнарыя па маім «Сонцы». Дабіліся гэтага людзі, што прыехалі на кінапленум у Мінск: М. І. Ром[1] і іншыя. Дальбог, столькі зрабілі, што самому было трохі нязручна. І, дзіўна, гарой стаялі, галоўным чынам, яўрэі. Што, здаецца, я для іх? А яны паставілі сябе ў сто разоў лепей, чым нашы браткі-беларусы, якім тут бы і ваяваць. Лепей, чым уся гэтая навалач, усе гэтыя Л. і Г, што сваю бяздарнасць узводзяць у абсалют, а на ўсіх астатніх плююць. Ну вось, тут і пачалося. Рэжысёр мой выявіўся трохі лайдаком і большасць работы захацеў перакласці на мае плечы, хаця тут яму і карты ў рукі, і дапамагчы яму ў рэжысёрскай рабоце я аніяк не магу. Зноў палез з пераработкай. А мне раман пісаць трэба. Я зразумеў, што спакою ён мне не дасць, і ўцёк.

Дарэчы, ён мне заявіў, што перапрацоўваць нібыта трэба таму, што ўсе ў кінаглаўку супраць сцэнарыя. І толькі потым,

у Маскве, я даведаўся, што большасць людзей — за, асабліва пасля таго, як чалавек, што кіруе гэтай справай, Куніцын, прачытаў сцэнарый і ўхваліў яго, так што цяпер і іншыя могуць выяўляць сваю прынцыповасць. Нашто спатрэбілася рэжысёру гэтая несумленная гульня — я так і не зразумеў.

І вось я напісаў яму ўсё гэта. Сказаў, каб ён мяне не шукаў, каб працаваў без гультайства. А я вярнуся — выпраўлю тое, што ён ужо зрабіў, і дапамагу там, дзе ў яго аніяк не атрымліваецца. А напісаўшы, узяў ды ўцёк.

Спачатку паехаў у Вільню. Хадзіў па вулках, рыўся ў старых справах і кнігах. Праседзеў нават некалькі гадзін па Гедымінавай гары, назіраючы, як сядае сонца ў канцы сакавіка, нешта каля дваццаць другога, дня страты. Блукаў па касцёлах, штурхаўся па музеях, чытаў «Шляхціца Завальню» Яна Баршчэўскага — незаконна забытага нашага таленту, чорт ведае па якой прычыне выштурхнутага з літаратуры ў дваццатыя гады. І так дагэтуль і не вернутага, хутчэй за ўсё таму, што кніга, выдадзеная 110 год назад, нават у Мінску ёсць не ў поўным выглядзе, а ў Вільні — адзін экземпляр. Вырашыў, што вось скончу і, бог дасць, выдам раман, а потым пастараюся павесці бойку за рэабілітацыю. Сапраўдны дэмакрат, беларускі Гофман у сумесі з Гогалем. Чароўная казачнасць і фантастыка, цвёрдае разуменне сябе як беларуса, а зямлі сваёй — як Беларусі, аб чым сам ён паўсюль гаворыць. То ці не задоўга не аднаўляюць чалавека ў правах, ці не празмерна мучаюць нас і пэцкаюць ягоную памяць. Такое ўжо свінства. Чалавек напісаў некалі верш, у якім паказаў рабунак мужыкамі маёнтка пры Напалеоне. І вось дэмакрата выставілі чорт ведае чым... Дзяржавін для «пиитического восторга» папрасіў, каб павесілі некалькіх пугачоўцаў — яго вывучаюць у школе. Грыбаедаў называў горцаў Каўказа самымі апошнімі мянушкамі і апраўдваў нашэсце — ён геній. А тут — верш... Хопіць ужо. Нельга, відаць, паступацца і залатнікам свайго.

Потым я паехаў у Чалябінск, і тут ужо скора тры тыдні, як сяджу і працую гадзін па дзесяць у дзень. Напісаў вельмі многа, трэба напісаць яшчэ больш. Сёння ледзь-ледзь выбраў хвіліну, каб урэшце напісаць Вам аб сваім жыцці. Не крыўдуйце, дарагія мае, што часам цягну з адказам. Самі разумееце, каб не справа — я ніколі не дазволіў бы сабе гэтага. Ды і справа ледзь не самая важлівая, якую я за свае трыццаць тры гады рабіў. Трэба мне скончыць. А там ужо будзе гады два-тры больш-менш спакойных. Ёсць у мяне на зборнік вершаў і на зборнік — апавя-

данняў. То вось складу дзве кніжкі ды буду ездзіць паўсюль, ды новыя вершы пісаць, ды без спеху збіраць матэрыялы на другі раман, на наступныя трыццаць год беларускай гісторыі. Ужо і назва ёсць — «Візантыя маўчыць». А адным з галоўных герояў будзе Яўхім Грынявіцкі, што, памятаючы гісторыю паўстання, кінуў бомбу ў цара. Паглядзім, што з гэтага атрымаецца. Можа, яшчэ і з «Каласамі» нічога не будзе.

Буду ў Мінску, відаць, пасля 21 красавіка. Пасяджу дзён дзесяць, уладкую ўсе справы. Можа, удасца аповесць праштурхнуць у «Маладосць», то забяспечуся да канца рамана. А там паеду, пэўна, у Рагачоў ды зноў месяцы з два нікуды не буду вылазіць.

Забыў Вам перад ад’ездам даслаць кнігі, якія купіў для Вас. То ўжо з Мінска дашлю.

Маці таксама тут. Дачакаемся, пакуль прыедзе муж сястры — і на радзіму. Маці дасылае Вам прывет самы сардэчны і цёплы і просіць прабачэння, што не адказала на ліст. Тут работы даволі многа, то яна адкажа ўжо з дому.

А як у Вас? Як жыццё? Як працуе і што робіць Іван Пятровіч? Ці пішаце Вы? Ці ўзяліся за вялікую справу? Пішыце, дарагая Ларыса Антонаўна. Гэта вельмі патрэбна і Вам, каб прайсці зноў пуцявінамі, і нам, і ўсім добрым людзям, харошым сябрам.

Мілая Ларыса Антонаўна! Шчырае, вялікае Вам дзякуй за цудоўныя вершы. І за «Сутонне», і за такі харошы і такі добры для мяне «Падае снег». Ён прыйшоў якраз у вельмі цяжкую для мяне хвіліну і моцна падтрымаў, прымусіў хоць трохі паверыць, што ёсць людзі, якія не вельмі нізкай думкі пра мяне.

Зрабіў ужо шмат. Зараз герой мой ужо дарослы і разумны мужчына. Нават у сустрэчы з Шаўчэнкам сім-тым дапамог яму. А з ім разам разумнею і я, калі гэта толькі магчыма: такому дурню ды паразумнець. Пішыце. Жадаю Вашаму добраму дому светлых дзён.

*Ваш Уладзімір Караткевіч.*

Найлепшы з усіх пацалункаў зямных той, якім нас цалуе Муза.

## 19. ЯНКУ БРЫЛЮ

*[18–20 ліпеня 1964 г., Рагачоў]*

Дарагі пане мой княжа купчанскі, кабыльніцкі, баторынскі, нарачанскі і мядзельскі, кашталян загорскі і карэліцкі, падкашталян мінскі, падчашы мірскі, староста рагачыкскі, акадэміі альбарутэнскай зіждзіцель і элаквенцыі сапраўдны знаўца, Януш Антонавіч з герба Брылёў.

Піша табе, сонцу яснаму, у дзень васемнаццатага — дваццатага ліпца кашталян твой і войт па замку рагачынскім, падняпроўі і нізавой Прыпяці — сын баярскі малодшага роду, а твой раб, тэго ж герба і справы, Ладысь Сымонаў Караткевічаў, калена Надвар, а па маці Грынак-Кальчуг.

Дыктую, княжа, пісару Мацею Дзевачку, чалавеку абазнанаму, хаця з гора, што вінен князю пяцьдзесят бітых шведскіх пляшыўцаў і запіў ён бедалага горкую і кожны дзень хваробы сабе купляе за мае грошы.

Спаўняючы волю княскую, каб уладанні і старастат твой аб’ехаць, пайшоў я, жывата ані скуры сваёй не шкадуючы, балатамі, імшарамі, межытокамі, дрыгвою ды пушчамі спачатку на Палессе[1].

О краявід дзівосны! О благарастварэнне вазнухоў! Не за[.....] яшчэ зямельку тую ні татарын набродны, ні немец вучоны, ні кацап лёзны. Людзі борці выдзіраюць і звуць гэта «свéпет» (дальбог, як чатыраста год таму!) і свае калоды на дрэвы ставяць. І ў кожнага лезіва ёсць, каб падсочваць тых бчолак божых і тваіх, княжа.

Заблукаўшы ў дарозе на Данілевіцкі аплот, медзведзяня бачылі, прорвамі драліся і ледзьве душою, княжа, не налажылі. Ды вывеў Бог на дарогу нашу данілевіцкага мужыка. Спаў, як казак, упоперак дрэнна бітага шляху, і дабудзіліся мы яго, і давёў ён нас да весі гэтай. І не тое, каб ён адзін майно прапіваў. Весь уся такая была і навакольныя пачынкі. Пятрок з Паўлам былі, як даведаўся я, грэшны. А мы, пушчамі блукаючы, галодныя і ўтомныя людзі, з дзён збіліся і ў свята гэнае, нібы басурманскія махмуды, лезлі лесам, лоба не перахрысціўшы, модлаў не чытаўшы. Адно нас ад божага суда ратуе — волю тваю высокую спаўнялі.

Але ж весь тая багатая ёсць. Напетрапаўліліся людзі да весялосці душы і куражу. Усе спяваюць. І ўсе, княжа, усе чыста ў дзедаўскіх дзівосных уборах, не трапілі яшчэ пад

чужынскія каптаны, не кранула іх яшчэ клейна Антыхрыста люцыпарскага. У вянках, у вышыванай даматканіне (месца на ёй, княжа, жывога няма, як у Менеску ад вялікіх паноў), у снуроўках і кабатах, у андараках і сукнях з хвандамі, у хвартухах. І жартуюць, і песні гарлаюць старыя, і скрыпіцы пілуюць, і дуды равуць. А багамерзкая новая снаст, што чалавек яе ў бакі цягне, як, нераўнуючы, татары хрысціяніна, да коней прывязаўшы, — няма яе тут. А ў хатах белена, чысцютка. Налаўнікі там, посцілкі, — што на варацідла да сарака розных нітаў каляровых кладуць, — рушнікі. Душою я адагрэўся там, княжа, ад анахцемскіх нашых замкаў, дзе бусланогія дзецюкі ды бабы, што на іх смалу Люцыпару вазіць, а яны за ерэтычнымі кантычкамі мудруюць, ды яшчэ радцы, такія дурныя — аж круцяцца, ды дзеўкі пісаныя, пра якіх модрыя людзі кажуць: «на торнай дарозе трава не расце», ды пііты прыблудныя, ды навалач розная.

Трымаюся звычаю старога, княжа, і мовы старой, як ты, — а што будзе? Чужыя мы будзем. Гіне людская вера, а простым не дапамагаем.

Хцівыя людзі лясы нашы з табою сякуць, дымам пушчаюць, здзіраюць шкуру з зямлі. Але запаветнага дуба, пакуль тое, не спляжылі. Стаіць ды красуецца, дай Божа веры нашай яшчэ тройчы столькі год. Сорак стагоддзяў, мяркую, хопіць.

З Данілевічаў пачалі церабіць шлях лясамі на Мазыр. Дарогаю ў дрыгве загрузлі, лаяліся шмат лаянкай чорнай і ўсякай, ледзь маскаля не загінаючы. Бабы, ідучы міма, злаязычна кепілі з нас. Мне, рабу твайму, крычалі: «Гэй, з голай спіною, хадзем са мною пад яблыньку, казку раскажу». А мне, княжа, крыўда вялікая ёсць, я й сам казачнік, нераўнуючы, ведама, да князя, неблагі. От так, пане мой гаспадар, і ганьбы мы нацярпеліся з загадам тваім. О, ліха чорнае, о, вочы людскія! Каб не войт і не цівуны твае — паў бы я, княжа, у смяротны грэх. Ды неяк злітаваўся Бог.

І даехалі мы да Гомля. І паўсюль бачылі: зямля наша вялікая, раскошная і шчодрая ёсць — парадку ж у ёй няма. Што калод бортных, што звяроў, што дудакоў, нават, што пушчы, што гоняў бабровых (і іх бачылі), — а цівуны п’янюгі і лайдакі.

Дабраліся, урэшце, і да замка рагачыкскага. Войта пана Забалоцкага[2] і цівуноў я далей, на Менеск і Наваградак, выправіў, загадваючы, каб сцерагліся баб багамерзкіх (як бацькі хрысціянства казалі), на капыл той, што пад яблыню мяне клікала — не чапалі б, мёду стаўнага — не перакладалі б. А сам я застаўся тут, справы ўпарадкоўваць.

Не ўсё тут, княжа, да ладу. Замак твой цэлы, толькі роў высахл і царква дамовая Бог дай у пажондку, толькі цітар і братчыкі іконы ўсе папрапівалі чыста. Распуста такая — крый Божа. Толькі што яўленнымі печкі не паляць, лайнікі гэткія.

А паюкі вашы і канюшыя — патаўпехі суць, мнямлі і кехі. Каплан царквы вашай, у імя Пакрова, Мацей Блядзевіч, ritus graecouniti спіўся чыста, п'е кожны дзень да поўнага пераўвасаблення, а тады думае, што ён бусел, разбягаецца і хоча скочыць ды паляцець — морда такая пабітая, што на набажэнствах і казанях — адна спакуса для парафіян. Замест казаняў — лаецца брыдка гадзіну і дзве. Дзяцей напладзіў ад розных баб, вачыма намізаючых і лыткамі гуляючых — чортаву, шануючы князя, процьму. Загадаў я яму карбачоў насыпаць у тое месца, якое ў царкве непатрэбна, бо не каталікі мы, брыдкія Богу, і лавак у нас у храме няма, — а потым на копны суд, дык ён суду кажа: «У Бога быў сын, а чаму мне нельга?»

Спакуса вялікая ад тых ягоных слоў брыдкіх атрымалася, вось што. Таму з нецярплівасцю чакаю, калі зволіш, княжа, даслаць сюды мужа сумленнага і слаўнага і цнот вялікіх балгарскага папа Юрку Ваўковіча[3]. Ён бо і візэрункам цнот слаўны, і веры правільнай, грэцка-баўгарскай, і ў пісьменстве абазнаны, бо не толькі псалцір запомніў і вывучыў, дзе што на якой балонцы і радку, але і евангелле ад Мацея па складах чытае. Расцвіце з ім царква твая вертаградам мнагацветным. Уміленіе ёсць! Трохі хаця патрымаецца, пакуль не спояць яго тут да свінападобія. А неадменна спояць. З варункамі нашымі — зап'еш.

Падстараста твой тут, княжа, разумны, як левы бот. Ляшскай барбарскай гаворкай кажучы: «З поля вецер — з дупы дым». Чалавек сквапны і мяшчан кгродскіх абцяжарыў, жмінда і скупірака. І тут ужо не ляшскай, а сваёй мовай кажу — забіраць усіх такіх трэба, бо кожны такі за шэлег у божым храме перне.

Працуй, княжа, рук не пакладаючы, а мы ўжо неяк за спінай і мячом тваім. Загадай перапісчыку свае чэцці-мінеі размножыць і «Люстру штодзённую»[4]. А і мой рыфмалагіён прачытай з часам. На азёры ног не знайду, а ўвосень з абозам мёду ў Менеск да цябе прымандрую.

Рончку тваю цалую, калі дапусціш.

А кабыла твая тутэйшая здохла. І качкі аддалі Богу пар душы сваёй, бо зялёнага маку нажэрліся. І яшчэ пакаёўка-дзеўка панесла — з чыёй такой правіны — Бог адзін ведае.

*Ладысь Караткевічаў.*

## 20. ЯНКУ БРЫЛЮ

*14 верасня 1964 г.*

Літасцівы гасудар мой, Іван Антонавіч!
Гасударыня Ніна Міхайлаўна[1], гасударачкі Галя і Наташа[2],
а таксама паныч Андрэй Іванавіч[3]!

Піша вам гэты ліст 14-га септэмврыя, а папросту-такі, панашаму, верасоўца, Ладысь Караткевіч, фальварковец з-пад Мадоры, пасланы ў парлямант ад партыі сацыялістых хрысціян дэмакратых, што не прымкнуў ні да якога клюбу.

Распісваюся загадзя ў сваім скварнаўстве, пасля якога вы мяне за адзін з сабою стол, вядома, не пасодзіце. Прыехаў я з таго Кішынёва[4], дзе прадстаўляў «галаву дэлегацыі», і дзе ўсе здзіўляліся: шышка, а так больш чым сціпла апрануты. Прыехаў я з таго Кішынёва, дзе піў пад горадам віно ў склепе мош Мікалая сына Кастакелава. Прыехаў я адтуль на адзін дзень, і тут выклікала мяне маці ў Рагачоў, і так я і не паспеў зайсці да вас.

Сяджу вось цяперака за сталом у хаўрусе з талеркай беларускага вінаграду і двума пуціўкамі і караюся. За гэты абрыдлівы мой учынак Бог мяне пакараў: пішацца дрэнна. Ды яшчэ ўчора былі імяніны ў дачкі сястры дзядзькавай жонкі, дзе было вялікае ўзліванне і богабрыдкае служэнне сатане, пасля чаго ў галаве, што ў кватэры Івана Бурсава раніцай, калі туды збіраецца ўсё кодла апахмяляцца пасля Бахусавага вяселія. І думкі розныя лезуць у галаву, што вось падаваў надзеі, але канчаткова страціў сваю маральную сыльвэтку, як кажа беларускі паліцай у Кузьмы Чорнага.

Чорт ведае, што такое робіцца!

Каб трохі адкупіцца — дасылаю табе, Іван Антонавіч, некалькі вершаў[5], напісаных тут. Не кляні ты мяне, гаротнага, і без таго пакутваю я. І галава дурная, як біч, і «лирическое раздумье о судьбах родины», як пішуць у падручніках па рускай літаратуры, і настрой, нібы дзень без сонца. А тут яшчэ трохі застудзіўся.

Ездзіў на паляванне, не вытрымаў. Сабака з таго боку старыка выпудзіў вадзяную курачку. Зрэзаў я яе, і засталася яна на зарослым хмызамі астраўцы памерам са стол. Крычу: «Падай». Чорта з два. Спаніэлі з сухога не падаюць, і няма ў дурной галаве клёку, што тое сухое ёсць востраў, то бок частка сушы, абкружаная вадой, ды яшчэ халоднай. Дрэнна, навалач, геаграфію вучыла.

То я паплыў. А потым пачалося пекла. З чатырох гадзін дня пайшла вераб’іная ноч. Зліва, маланкі аж фіялетавыя і не ўспыхваюць, а нібыта цякуць у зямлю. Доўга-доўга. Я-то не падмок, схаваўся ў дашчаным будане-доміку вартаўніка ля цялячага загону. Але сяджу гадзіну, сяджу другую — ані прасвету. Маланкі, і дождж, і грымоты, нібы не верасень, а ліпень.

Жанчына-пастушка прыгнала кароў, заскочыла туды ж. Во, кажу, Бог паслаў. Смяецца. Бялявая, румяная, надзвычай нейкая ветлая. Дык не, не паспела торбу скінуць, як пайшлі каровы па ветру і застаўся я адзін. Вядома, каб запасы былі ды пляшка, то нанасіў бы на тапчан яшчэ сена дый пераначаваў. Але я, дурань, выехаў «на гадзінку». То мне абрыдла, і пайшоў я пад дажджом да чаўна. А потым гадзіну па рацэ. Дождж у твар, як шрот. Маланак — дзесяткі адначасова. Дабраўся ўсё ж, мокры наскрозь. А тут да суседзяў шаравая маланка шуганула — аж у нас дом нейкім туманам перапоўніўся. І святла няма. І сучка ўся калоціцца. І хаця мы і зарэзалі з дзядзькам паўлітэрачку — у носе нешта трохі крэнці.

У Мінску буду, відаць, у канцы гэтага месяца. Паляванню — канец будзе, купацца, як упэўніўся, таксама пазнавата. Дый трэба сядаць за зімовую працу. Хіба толькі з Рыгорам[6] у Рыгу (з вялікай літары) з’ездзім, бо ён будзе перакладаць «Вей, ветрык»[7], то Геронім[8] яму сёе-тое растлумачыць.

Так мы нікуды гэтым летам з табою і не з’ездзілі. А так хацелася! Рэдка вы мяне берацё. Ну нічога, вось ужо наступным, дасць Бог, зробім некуды вылазку. І багацейшы я буду, і час будзе.

Янка! Вось якая ідэя прыйшла мне ў казахстанскую (шырокую, як стэп, аж вецер свішча) галаву. Ці не час рэабілітаваць Яна Баршчэўскага? Дзівосны пісьменнік, стыліст, Беларусь пяшчотна любіць, дыялогі — па-беларуску, стыль, побыт, фантазія, народны характар — усе чыста беларускія. А што, калі мы перагаворым з Броўкам ды «Шляхціца Завальню» перакладзем, араматным такім, дабротным старым стылем. Бо ў вершы «Рабункі мужыкоў» — ну нічога рэакцыйнага няма. Рэкнуў гэта нейкі халуй, выхаванец вульгарна-сацыялагічнай школы ў 20-я гады — а мы дагэтуль верым. А кнігу дастаць ніхто не можа, каб упэўніцца: бібліяграфічная рэдкасць. Каб ты ведаў, які сімпатычны чалавек, патрыёт, талент, дэмакрат! Падумай, да рэвалюцыі ганялі за дэмакратызм, пасля — за ўяўную рэакцыйнасць. А гэта проста беларускі Гогаль. Як ён

ад сваёй зямлі, але на чужой мове — так і Ян. І па таленту — ранні Гогаль. Сто дваццаць год ганення, падумай толькі! А як рассунуцца межы літаратуры! Першы жа ён! І такі тыповы, рамантычны беларускі гафманізм! І такая фантазія! Янка, давай зробім. Я і ілюстрацыі зраблю, бо ніхто з нашых мастакоў побыту, і гарнітураў, і духу эпохі не разумее. Мы з табой людзі грэшныя, бо ад жыцця. Але шмат нам грахоў даруецца, калі вернем забыты цень. Несправядліва забыты.

Падумай над гэтым. Згадзіся. Напішы. Баязлівасць толькі наша трымае такога чалавека ў забыцці. Суседзі Дзяржавіна [...], што двох пугачоўцаў «для вдохновения пиитического» загадаў павесіць, помняць за наяўнасць некаторага таленту. А мы — дэмакрата, паэта, патрыёта забылі.

Сорам нам!

Згаджайся.

Як я рад за твой раман. Ёсць, значыцца, праўда на зямлі. Не ўсю яе Бажкі за[.....], не нашага Бога халуі з языкам, прыстасаваным да чужой с[....]. Скора ўбачымся. Рагатаць, калі косткі храбусцяць, цяжка, але паспрабую. Абдымаю.

*Твой Уладзімір.*

## 21. ЛАРЫСЕ І ЯНКУ ГЕНІЮШАМ

*24 жніўня 1965 г.,*
*Уладзівасток*

Дарагія Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч!

Магчыма, Вы ўжо і адказалі ў Мінск на мой папярэдні да Вас ліст. Але маці была ў Кіеве, зараз у Оршы, а я — аж унь куды мяне занесла, на Прымор’е, ва Уладзівасток. Ужо тры тыдні тут, днямі еду па краі, а ў канцы верасня буду збірацца дадому, у Мінск. Так што і не ведаю, ці варта будзе Вам пісаць сюды. Тыдзень ліст будзе ісці да Зэльвы, тыдзень — назад, пакуль Вы збярэцеся напісаць, — глядзіце, словам. Мой тутэйшы адрас: Владивосток—9, до востребования, мне.

Працуем мы тут у рэдакцыі «Баявой вахты», газеты флоту, дапамагаем ім нічога не рабіць. За тры тыдні праверыў пару матэрыялаў, надрукаваў верш ды напісаў артыкул, нарыс аб адным тут падводніку (не ў чэшскім, вядома, сэнсе гэтага слова, а ў рускім).

А для сябе зрабіў шмат. Пераправіў раман у адпаведнасці з заўвагамі Лужаніна (у большасці месцаў, там, дзе разумеў ягоную рацыю для іншых), напісаў трэці варыянт сцэнара.

Заўтра ўсё гэта дашлю авіяпоштай у Мінск. Хай там разбіраюцца. Пакуль прыеду — глядзіш, сёе-тое і вырашыцца.

Ларыса Антонаўна, даражэнькая, які ж гэта ў Вас быў настрой такі страшны?! Не трэба гэтага. Спадзяюся, ён ужо мінуў, а калі не — вельмі балюча.

Разумею цяжкасць усяго перажытага і тое, што жыццё біла і б'е, ды яшчэ і не шкадуючы. Але Вас я ў тым лісце не пазнаў. Пагана ўсім, хто вышэй за ўсё цэніць самастойнасць думкі і сваю, асобную сцяжыну. У розных маштабах пагана, але ўсім. Але ж Вы больш за іншых так званых мужчын білі сваю сцежку і з самага пачатку ведалі, што гэта такое і чаго можна чакаць.

Ну, добра Рыгору Барадуліну. У яго іншай дарогі няма. Як нарадзіўся на вёсцы ў адной мове, так і памрэ. Бо іначай проста не можа, фізічна няздольны. А Вы з тым жа поспехам маглі пісаць па-польску: gente albaruthenus, natione polonus[1], мелі б і поспех і, можа, любоў. А я мог бы з куды большым поспехам у жыцці, з грашыма і славай, пісаць па-руску, або, падвучыўшыся трошкі, таксама па-польску. Мы маглі б гэта зрабіць, мелі б зараз стотысячныя тыражы, дачы, рознае там лаўрэацтва, дзяржаўныя (ці якія там у Польшчы?) прэміі. Але мы гэтага не зрабілі. Мы свядома пайшлі на больш цяжкі шлях. Мы ведалі. І таму — не трэба.

Скажу толькі: нават проста дзеля таго, каб быць беларускім пісьменнікам, патрэбна мужнасць. То, будзьце ласкавыя, заўсёды памятайце пра тую мужнасць. І прабачце, дарагая, прабачце мне.

Восенню, магчыма, убачымся.

Я таксама нешта не магу болей пісаць. Пасля, у другім лісце, напішу аб Уладзівастоку, аб краі, калі гэта цікавіць. Днямі паеду па розных тут мясцінах, а пазней, у верасні, пастараюся схадзіць некуды на Камчатку ці на Сахалін. Трэба бачыць і гэта.

Ну вось усё. Цалую Вас. Ці паехаў І. П. у Маскву?

*Ваш сябра Уладзімір.*

## 22. ЯНКУ БРЫЛЮ

*3 лістапада 1965 г.*
*Рагачоў*

Дарагі Янка!

Некалькі разоў званіў да цябе, але ўвесь час нешта недаладу. І вось пішу з Рагачова, дзе ўсе цябе помняць, дзе ўсе цябе любяць, дзе ўсе перадаюць табе прывітанне і віншуюць са святамі. Шкада, вядома, што так і не сустрэліся тут увосень. Ну, добра, не апошні ж мы год жывем на гэтым свеце.

Учора за сталом шмат гаварылі аб усім, між іншым, і аб «Жмені промняў». Ён, дзядзька, яшчэ раз дзякуе. Казаў, што вельмі любіць такі жанр, бо ён бліжэй за ўсё да сяброўскай бяседы цікавых людзей. Па-мойму — рацыя.

Сёння ўстаў ледзь толькі пачало днець. Халодная зара, свежасць паўсюль, на купах бульбоўніку лёгкія мазкі шэраню. Мыўся спецыяльна на двары, ля насоса. Аж радасна жыць.

У гародзе ўсё прыбрана. На вішнях і клёнах ледзь трымаецца яшчэ сёлетняя лістота, на самых кончыках галін. Вінаград спіць пад валамі з бульбоўніку, а ў бочцы, што стаіць у сталоўцы, буркоча, ціхенька спявае і часам — праз шланг — аддзімае ў слоік з вадой маладое віно. Сёння накапаю чарвякоў (яны яшчэ ёсць) ды пайду рыбачыць. Пэўна, ані д'ябла не спаймаю, а ўсё адно радасна. Заўтра пойдзем з дзядзькам на зайцоў, а вечарам, можа, возьмем чарку пад салоныя памідоры, гуркі (расол — мара не толькі для алкаголіка, але і для таго, хто век нічога не піў), пад сваю маласалоную рыбку, пад вяндліну і іншае. А там працаваць сяду. І так цэлыя два тыдні. Не хочацца і думаць пра кінастудыю, пра варагаў, якія там уабраліся ў сілу і якім чхаць на XVI ст. у Гародні, на ілжэ-Хрыста і ўвогуле на Беларусь. Не хочацца думаць. І вось што: можа, сабярэцеся ды прыедзеце сюды на святы? Га? Дальбог, было б добра. Падумай ды адкажы лістом харошым.

Вось, уласна, тое, што хацелася табе сказаць.

Засталося дадаць толькі тое, што ловяць тут рыбу і на хлеб (язі — у-га!), і ўчора ў гарадскім аўтобусе сам бачыў дваіх вусатых дзядзькоў, якія неслі кілаграмы па чатыры на кукане. А лавілі яны нават не на Дняпры, а на Друці.

І яшчэ дадам тое, што вакол шчаслівы сум, што на чорнай зямлі паўсюль гараць жоўтыя неапалімыя купіны парэчак, што тут добра і мне хочацца, каб не аднаму мне было добра.

Найлепшыя, сардэчныя мае прывітанні Ніне Міхайлаўне, цудоўнай Галіне, добрай Наташы і прыгожаму «малому прынцу», пра якога тата павінен яшчэ калі-небудзь напісаць лепей, чым Сент-Экзюперы.

*Ваш У. Караткевіч.*

## 23. ЗДЗІСЛАВУ НЯДЗЕЛЮ[1]

*12 января 72 г., Минск*

Дорогой Здислав!

Наконец-то могу черкнуть тебе несколько слов уважения и благодарности. Спасибо тебе за все хорошее, мой дорогой, и извини за возможные неприятности и неудобства, которые я тебе мог причинить. Видишь, как заговорился!

Уехал от тебя — тогда стало грустно. Решил даже не задерживаться долго в Варшаве. Домой и домой. Всего всё равно не посмотришь. Встретил меня на перроне Флориан[2], поехали к нему на Братскую. Впервые увидел его удивительно славную жену, милую племянницу Божену и на редкость серьезного и хорошего сына Анджеека. Вот уж воистину профессорский сын: «Моя эпоха — это эпоха Наполеона и Понятовского». И действительно, книг у него по этой эпохе — куча, солдатиков — гора, всяких — и польских, и французских, и русских, и австрийских, и конных, и пеших. И знает, бродяга, всё досконально, докой растет. Меня и отца водил по Варшаве он и рассказывал всё настолько интересно, досконально и по-взрослому серьезно, что я диву давался. И, в то же время, по-детски интересно.

Я их всех постарался уморить со смеху. На следующий день смотрели художественный музей, были у Святого Яна и ночью, освещенное, исходили Старе Място. Впечатление потрясающее. Святые вы люди в своем отношении к старине. Я, грешным делом, думал, что будет скучнее, а это — удивительно и потрясающе, другого слова не скажешь. Теперь я уже знаю, где мне и одного из героев поселить в Варшавских сценах продолжения «Каласоў». Конечно же это должны быть Kamienne Schodki.

Удивительное место.

На следующий день шлялись парками, дошли до изумительных, кукольных Лазенок. Впечатление было, что поздняя,

поздняя осень, а не зима. И я еще раз порадовался, что не лето. Такие места осенью и хороши, когда арки мостов отражаются вместе с ивами в прозрачной, по-осеннему холодной воде и, с отражением, создают круг. Ходили потом по городу: и Нове Място смотрели, и прочее. А на следующий день я поехал.

Я никогда не считал себя сторонним человеком, а теперь скажу тебе коротко и без обиняков: я полюбил твою Польшу почти как и свою Беларусь, не чужую, впрочем, и тебе. Зря ты говорил о народах малых и великих. Такой народ, который **так** живет, **так** думает и заботится о своей старине и будущем, — великий народ, велик он или мал, со всеми своими достоинствами, недостатками. Он и в мелком, даже в мелочном — велик, старина.

Часто вспоминаю тебя, нашу хату, ущелье Флорианской улицы под костелом, тревожные краковские вечера и Вавель, и нашу с тобою имшу — помнишь?

Валя[3] привезет тебе все, что заказывал. Остальное — пришлю. Достать только надо.

Послушай, как тебе интересны марки: гашёные печатью или чистые. В наше время собирали гашёные. Теперь в моде, вроде, чистые. Напиши. А пока я посылаю тебе и тех, и других... Валя уже в Польше.

Ну вот, пока всё. Крепко, по-братски, обнимаю и целую тебя, маму и всех-всех.

*Твой Владимир*

## 24. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Аўтацытата:
«Скінуць гукі і колеры пад адхон, —
У канчатковым сконе прасторы і часу,
павуціннем аблытаны
спыніцца звон».

*2 ліпеня 1979 г.*
*Друскенікі*

Дарагі Васіль!

Пішу табе з гарадка, дзе памёр Ян Чачот, жыў Чурлёніс, любіў адпачываць Юзік Пілсудскі. Паміраць не хачу, быць, як Пілсудскі, не магу, на Чурлёніса не цягну талентам.

Пішу проста так. Каб успомніў яшчэ раз, што жыве недзе і фатаграфуе вавёрак і ледзь не блюе ад лячэбнай мінеральнай вады (як ад некаторых уладароў крытычнай думкі) адзін чалавек.

Жыві, адпачывай, пішы, бі лынды і каб усё гэта рабіў таленавіта.

*Твой У. Караткевіч*

## 25. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*Ліпень 1979 г.*
*Друскенікі*

Чы тутай мешка пан Быкевіч з малжонком?

А і праўда, каб такую хату. Рэчка, на адным беразе твая, на другім мая. Цераз рэчку масток. Хочаш — ідзі ў госці, а калі бачыш, што хата павярнулася да лесу перадам, а да цябе — задам, то сядзі і пішы. Я — элегічныя вершы, ты — ідылічную аповесць.

Слухай, а гэта ідэя! Праўда, узяў бы ды напісаў гэткую ідылію ў поўным сэнсе, без начальства, без усялякіх праблем, акрамя агульначалавечых, і без аніводнага стрэлу. Га? Уцёр бы ім соплі яшчэ і такім. Каб ведалі нашых, гады! Для сябе можаш увесь час трымаць у памяці «мота» (motto ў сэнсе). Нешта накшталт такой канцоўкі пасля кропак.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Праз тыдзень ён быў забіты там і там такім і такім чынам».

А тады паглядзець, выйграе рэч ад такога канца або прайграе. І адпаведна, ці пакінуць ці адкінуць.

Дальбог, гэта магло б быць здорава. Падумаў бы, хлопец. Галоўнае даць выспятка тым, што лічаць, што мы гэткія Гусевы-Арэнбургскія, якія толькі і пішуць «з жыцця свяшчэннікаў», гэта значыць, адзін «пра вайну», другі «пра гісторыі». Бо яны ж дурныя, яны не ведаюць, што мы — ты лепей, я ў сім-тым горай — адказваем на сучасныя пытанні лепш за некаторых «сучаснікаў». Ну дык дурасць з іх выбіваць трэба хоць такім чынам.

А праўда, ты ўзяў бы дый струганула язычаскую ідылію, а я раптам нешта ваеннае, звышнатуралістычнае.

Ці, можа, гэта такая самая манілаўшчына, як і казачны домік? А нам хоць бы па такой (на адвароце) халупе завесці, бо чурлёнісы маюць звычай нараджацца дзе выпала: у хляве, палацы, пад капною, яшчэ чорт ведае дзе.

...Атрымаеш ліст — пацалуй Ірыну і звякніце Вальцы. Можа, пасля вяртання майго (13-га) і сустрэнемся.

Дзе вы будзеце ў водпуску, ці вырашылася гэта?

Някепска было б зноў разам патупаць па беразе (я б на такі выпадак і чачы міліграм узяў), нагаварыць кучу глупстваў і г. д.

*Уладзімір.*

# КАМЕНТАР

У гэта выданне уключаны паэтычныя творы, апавяданні, аповесці, пралог рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»), фрагмент рамана «Каласы пад сярпом тваім», нарысы, эсэ, лісты Уладзіміра Караткевіча, толькі частка яго багатай творчай спадчыны. Творы , за выключэннем лістоў, друкуюцца паводле Збору твораў пісьменніка ў васьмі тамах (Мінск, 1987–1991).

## ПАЭЗІЯ

### *Машэка (с. 23)*

Упершыню — час. «Полымя», 1955, № 7.

Першае выступленне паэта ў беларускім рэспубліканскім друку.

Рукапіс — у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа, ф. 110, с. 76–77, сярод твораў пад назвай «Казкі і легенды маёй Радзімы», што даслаў малады паэт для ацэнкі народнаму паэту Беларусі летам 1952 г.

### *Матчына душа (с. 26)*

Упершыню — у кн.: Матчына душа, Мн., 1958.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), на рускай мове «Ты теперь у теплого моря», з прысвячэннем С. М-к і паметай: 18 июля 54 г. Ночь.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), пад назвай «Прадмова да песні Матчына душа», з прысвячэннем NN (першае чатырохрадкоўе, якое пачынаецца словамі «Зараз ты каля цёплага мора», закрэслена; верш пачынаецца радкамі «Ноч прыйшла да зямлі на спатканне»), у вучнёўскім сшытку, на вокладцы якога памета: Канец верасня — пач. лістапада 1955 г.

Рукапіс — у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ф. 42, воп. 1, адз. зах. 129, с. 13, пад назвай «Прадмова да песні. Прысвячаю С. М.».

*Орша (с. 28)*

Упершыню — час. «Полымя», 1956, № 3.

Рукапіс — у лісце да Ю. К. Гальперына (1930–1994) за 28.12.1954, у значна пашыраным выглядзе. Ю. К. Гальперын у 1949–1954 гг. вучыўся ў Беларускім політэхнічным інстытуце, потым працаваў на Урале і ў Туле. Перапісваўся з У. Караткевічам, захаваў рукапісы яго твораў.

*Заяц варыць піва (с. 30)*

Упершыню — час. «Полымя», 1956, № 3.

Рукапіс — у лісце да Ю. К. Гальперына за 7. 10. 1955.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з малюнкамі аўтара, у вучнёўскім сшытку, на вокладцы якога памета: Канец верасня — пач. лістапада 1955 г.

*Балада пра паўстанца Ваўкалаку (с. 31)*

Упершыню — час. «Полымя», 1956, № 9. Датуецца годам публікацыі.

*Бацькаўшчына (с. 33)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1957, № 1.

*«У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы...» (с. 34)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1958, № 4, пад назвай «На радзіме».

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вядома), пад назвай «На радзіме» і рукапісам верша «І пакуль яго не пацягнула», на адным аркушы, з паметай: Пачаў у ліпені Скончыў 21 сент. 1956 г.

*Сырцовыя цагліны (с. 34)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7. Гэты і наступныя чатыры вершы датуюцца годам публікацыі.

*Як размаўляюць звяры і птушкі (с. 35)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7.

*Праменьчык (с. 36)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7.

*Лісце (с. 37)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7.

*Гісторыя з першым каханнем (с. 37)*

Упершыню — час. «Полымя», 1957, № 7.

*На пачатку дарог (с. 38)*

Упершыню — час. «Полымя», 1958, № 2.

*«У векавечнай бацькаўшчыне клёны...» (с. 41)*

Упершыню — у кн: Матчына душа.

*Паўлюк Багрым (с. 42)*

Упершыню — у кн.: Матчына душа.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф, 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

*Вячэрнія ветразі (с. 45)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1959, № 3. Датуецца годам публікацыі.

*«Гусі-лебедзі ў лугах зялёных...» (с. 46)*

Упершыню — у кн.: Вячэрнія ветразі. Мн., 1960.

*«За старым, закінутым млынам...» (с. 47)*

Упершыню — у кн.: Вячэрнія ветразі.

*Дзіва на Нерлі (с. 47)*

Упершыню — у кн.: Вячэрнія ветразі.

*Молева* Н. М. (нар. у 1925 г.) — мастацтвазнаўца, выкладала на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Яна стала прататыпам Ірыны Горавай у рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»).

*Трызненне мужыцкага Брэйгеля (с. 48)*

Упершыню — у кн.: Вячэрнія ветразі.

*Нявесце Каліноўскага (с. 52)*

Упершыню — час. «Полымя», 1961, № 5, пад назвай «Нявесце Кастуся Каліноўскага».

Чарнавы рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з паметай: 5.VII.60. Орша.

*Безгаловая Венера (с. 53)*

Упершыню — Дзень паэзі. Мн., 1966.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1. адз. зах. 7, с. 39, з паметай: 16. XII. 61. ВСК. Напісаў у будынку ВЛК (відавочна, Вышэйшых літаратурных курсаў).

*Дэман (с. 53)*

Упершыню — у кн.: Быў. Ёсць. Буду. Мн., 1986.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

*«О вясна! Таполі! Свеце мілы!..» (с. 55)*

Упершыню — газ. «Ніва», 1965, 25 красавіка.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

*Раманс Марылі (с. 56)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1966, № 2.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 77.

*Віно дажджоў (Малая паэма) (с. 57)*

Упершыню — у кн.: Быў. Ёсць. Буду.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф, 11 воп. 1, адз. зах. 7, с. 29–31.

[1] *Брыль* Янка (н. 1917) — народны пісьменнік Беларусі.

[2] *Барадулін* Рыгор (н. 1935) — народны паэт Беларусі.

[3] Відаць, У. *Калеснік* (1922–1994) — беларускі крытык, літаратуразнавеццa, празаік.

[4] *Сяргей* (н. 1952) — сын Грынкевіча Ігара Васільевіча (1908–1985) — брата маці У. Караткевіча; жыў матчын брат з сям'ёй у Рагачове, у хаце, пабудаванай В. Ю. Грынкевічам, дзедам пісьменніка.

[5] *Вылчаў* Георгій (н. 1926) — балгарскі літаратуразнаўца, які ў той час наведаў Беларусь і гасцяваў ў Рагачове ў І. В. Грынкевіча. У паэме згадваецца як Юрась і Георгій.

[6] *Дзядзька* — Грынкевіч І. В.

[7] *Галіна* (1923–2001) — жонка І. В. Грынкевіча.

[8] *Міланаў* Аляксандр (н. 1933) — балгарскі паэт. У. Караткевіч перакладаў яго вершы.

*Нашы бярозы (с. 61)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда. Мн., 1969.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 1, аддз. зах. 7, с. 75 [1965].

### *Маленне аб чашы (с. 61)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная аддз. зах. не вызначана).

[1] *Прашковіч* Мікола (1932–1983) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.

### *Багдановічу (с. 62)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 73.

### *Скарына пакідае радзіму (с. 63)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у лісце да Янкі Брыля за 30. III. 1959 (з Масквы), пад назвай «Скарына».

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф 11, воп. 1, адз. зах. 8, с. 3, з прысвячэннем Вячаславу Рагойшу [1966]. В. Рагойша (н. 1942) — беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.

### *Каложа (с. 64)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1967, № 2.

Чарнавы рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з паметай: 12 ліст. 65 г. Рагачоў 12 ночы.

[1] Каложа — Гродзенская Барысаглебская, Каложская царква — помнік мураванай стараж.-рус. архітэктуры. Пабудавана у 2-й пал. XII ст. у Гродне на высокім правым беразе Нёмана, побач з замкавай гарой, на тэрыторыі былога Каложскага пасада.

[2] *Бічэль* Данута (н. 1938) — беларуская паэтка.

### *Беларуская песня (с. 65)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 7, с. 10.

### *Таўры (с. 66)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11 воп. 1, адз. зах. 8. с. 31.

[1] В. Б. В-ч — Валянціна Браніславаўна Ватковіч (1934–1983), якая потым стала жонкай У. Караткевіча.

### *Фантазія (с. 67)*

Упершыню — у кн.: Мая Іліяда.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф 11, воп. 1. адз. зах. 8. с. 4.

### *Ворыва на валах (с. 68)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1980.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная аддз. зах. не вызначана).

### *Мова (с. 69)*

Упершыню — у кн.: Быў. Ёсць. Буду.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, адз. зах. не вызначана).

### *Быў. Ёсць. Буду... (с. 70)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1984.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *«Радок бяззбройны і бясспрэчны...» (с. 71)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1980.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *Наследаванне Сыракомлю (с. 71)*

Упершыню — Збор твораў у васьмі тамах. Т. 1.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

[1] *Сыракомля* Уладзіслаў (1823–1862) — польскі і беларускі паэт. У.Караткевіч наследаваў яго верш «Ужо птушкі пяюць усюды».

### *Павешаным 1863 года (с. 72)*

Упершыню — у кн.: Быў. Ёсць. Буду.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *«На Беларусі Бог жыве» (с. 73)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1982.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *Новая Атлантыда (с. 74)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1982.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *«Бог пайшоў. Жыццё ідзе пад кручу...» (с. 74)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1982. Датуецца годам публікацыі.

### *Разведчык (с. 75)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1984.

Чарнавы рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з паметай: 19 жніўня 69 г.

### *«Можна ўсё: пусціць каханне дымам...» (с. 77)*

Упершыню — у кн.: Быў. Ёсць. Буду.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *Паэт (с. 77)*

Упершыню — Дзень паэзіі. Мн., 1984.

Чарнавы рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАНБ, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з паметай: 8 лютага 84 г. 16.28.

### *Васілю Быкаву (с. 78)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1986, 15 жніўня.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

Напісаны 19 чэрвеня 1984 г. да 60-годдзя В. Быкава.

## АПАВЯДАННІ

### *Блакіт і золата дня (с. 81)*

Упершыню — час. «Полымя», 1961 , № 1, пад назвай «Каўчэг». Дало назву першай кнізе прозы У. Караткевіча, выдадзенай у 1961 г.

### *Паром на бурнай рацэ (с. 92)*

Пралог рамана «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі» пад назвай «Паром на бурнай рацэ».

Упершыню раман пад назвай «Нельга забыць» — час. «Полымя», 1962, №№ 5–6. Пралог рамана друкаваўся як апавяданне «Паром на бурнай рацэ».

Планавалася выданне кнігі «Леаніды не вернуцца да Зямлі», куды павінны былі ўвайсці аднайменны раман і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Аднак У. Караткевіча абвінавацілі ў абстрактным гуманізме, і восенню 1963 г. набор кнігі быў рассыпаны. Асобным кніжным выданнем на беларускай мове раман пад назвай «Нельга забыць» выйшаў у 1982 г.

Рукапіс рамана — у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ф. 56, воп. 1, адз. зах. 2–3, пад назвай «Няма забыцця», з паметай на адвароце першай старонкі: Пачаў у верасні 60 г.

У. Караткевіч у лісце да латышскага паэта Е. Стулпана і яго сям'і за 15 лютага 1962 г. (кніга «Шляхам гадоў» / Укл. Г. Кісялёў. Мн., 1990) сведчыць, што раман быў закончаны да 15 лютага 1962 г.

[1] *...маскоўскае воінства.* — Гаворка ідзе пра падзеі падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг., калі ў 1654 г. Магілёў перайшоў на бок маскоўскага войска. У 1661 г. супраць яго выбухнула паўстанне магілёўцаў, якім кіраваў бурмістр Язэп Леванові.

### *Кніганошы (с. 126)*

Упершыню — час. «Полымя», 1962, № 12, як навела.

### *Сіняя-сіняя... (с. 139)*

Упершыню — час. Беларусь, 1964, № 9.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11 воп. 1, адз. зах. 76, з паметай: 14 лютага 64 г. Пятніца. 7. 30 веч.

### *Дрэва вечнасці (с. 159)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1968, № 12, як эсэ «Дуб Крывашапкі».

Машынапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11. воп. 1 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), пад назвай «Дуб Крывашапкі», з паметай: 12 лютага 1966 г. Рагачоў.

Узнікла ад уражанняў, атрыманых падчас паездкі ў сярэдзіне ліпеня 1964 г. са здымачнай групай «Беларусьфільма» на Палессе пад Лельчыцы шукаць і здымаць шматсотгадовыя дубы для кароткаметражнага дакументальнага фільма «Сведкі вечнасці».

## АПОВЕСЦІ

### *Дзікае паляванне караля Стаха (с. 177)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1964, №№ 9–12.

Рукапіс — у перакладчыка В. Сёмухі, з паметай: 4 лютага 1958 г. Мінск. Хата В. Краўца. В. Кравец (н. 1932) — сябар У. Караткевіча, зямляк-аршанец, працаваў у Беларускім політэхнічным інстытуце. Пісьменнік некаторы час жыў у яго хаце.

Карэктура — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 53, з паметай: 1958 г. Там жа, на пачатковай старонцы, над назвай твора і справа ад яе, У. Караткевіч напісаў: «Гэта другі варыянт «Стаха». Першы быў напісаны недзе летам у 1950 г. (праўкі ў другім варыянце, штопраўда, былі малыя)».

### *Сівая легенда (с. 349)*

Упершыню — час. «Полымя», 1961, № 4, як легенда «Раман Ракута».

### *Ладдзя Роспачы (с. 411)*

Упершыню ў перакладзе В. Сёмухі на рускай мове — час. «Неман», 1968, № 2. Упершыню на беларускай мове — у кнізе У. Караткевіча «З вякоў мінулых» (Мінск, 1978).

Рукапіс — у Р. Барадуліна.

Паводле ліста да Я. Брыля за 26. 7. 1964 г. (кніга «Шляхам гадоў» / Укл. У. Мархель. Мн., 1990) і запісу ў адным з нататнікаў, пачаў у канцы ліпеня, а закончыў 2 жніўня 1964 г. у Рагачове.

### *Чазенія (с. 447)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1967, №№ 2–3, як паэма ў прозе.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 64, з паметай: 11 лістапада 66 г. Рагачоў 3.30 ночы.

Штуршком да напісання твора сталі ўражанні, атрыманыя падчас наведвання ў жніўні — верасні 1965 г. Далёкага Усходу, у тым ліку і запаведніка «Кедравая падзь»

### *Каласы пад сярпом тваім*<br>*Фрагмент рамана (с. 549)*

Упершыню раман — час. «Полымя», 1965, № № 2–6.

Рукапіс рамана — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф.11, воп.2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана), з паметай на пачатку: Пачаў па-сапр. 27 красавіка 62 г. Пятніца перад Вялікаднем. У канцы рукапіса, на 611-й старонцы, памета: Канец першай кнігі. 18 мая 1964 г. 23. 47

Рагачоў<br>Мінск

Каралішчавічы
Чалябінск
Мінск.

Гэта першая кніга задуманай трылогіі пра паўстанне 1863–1864 гг. у Беларусі, Літве і Польшчы.

Фрагмент узяты з кнігі другой, раздзела VII.

[1] *Серакоўскі* Зыгмунт (1827–1863) — паплечнік Кастуся Каліноўскага падчас паўстання 1863 г.

[2] *Сразнеўскі* Ізмаіл Іванавіч (1812–1880) — рускі філолаг-славіст. Акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук (1851). Выкладаў у пецярбургскіх універсітэце (з 1847 г. прафесарам) і педагагічным інстытуце (1848–1859). Вывучаў паэзію і побыт славянскіх народаў. Аўтар працы «Матэрыялы для слоўніка старажытнарускай мовы паводле пісьмовых помнікаў» (Т. 1–3, 1893–1912, 2-е выд. 1958), у якой шмат матэрыялаў з беларускіх пісьмовых помнікаў.

## НАРЫСЫ, ПУБЛІЦЫСТЫКА, ЭСЭ

### *Твой зорны час (с. 561)*

Упершыню — газ. «Чырвоная змена», 1967, 25 чэрвеня, пад назвай «Твой зорны шлях».

Чарнавыя накіды і назва «Твой зорны час» — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, дакладная адз. зах. не вызначана).

### *«Рша камен...» (с. 563)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1967, 4 ліпеня.

### *Родная мова (с. 565)*

Упершыню — «Настаўніцкая газета», 1989, 28 чэрвеня. Напісана на заказ рэдакцыі ў 1969 г.. але не апублікавана. Рукапіс збярогся ў архіве супрацоўніка рэдакцыі В. Дамарацкага.

### *Людзі зямлі беларускай (с. 570)*

Фрагмент нарыса «Зямля пад белымі крыламі»

Упершыню нарыс пад назвай «Зямля пад белымі крыламі (Мая Беларусь)» — у 1972 г. у перакладзе на ўкраінскую мову (Кіеў, з рукапісу пераклалі В. Іскра, Г. Ткачэнка, К. Скрыпчанка, Н. Цішчанка).

Упершыню на беларускай мове асобным выданнем — у 1977 г.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 108, з паметай: 12ª ліпеня 71 г. Аўторак. Мінск.

Гэты тэкст прызначаўся для ўкраінскага чытача сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту.

Для беларускага выдання быў дапрацаваны.

Паводле запісаў У. Караткевіча у агульным сшытку, які захоўваецца ў аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2 (вопіс знаходзіцца ў апрацоўцы, адз. зах. не вызначана), першы варыянт для беларускага выдання скончыў 10 снежня 1973 г., другі — 9 красавіка 1976 г.

## ЛІСТЫ

### *1. Якубу Коласу (с. 587)*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1988, 25 лістапада.

Рукапісы — у Дзяржаўным літаратурна-мастацкім музеі Якуба Коласа, воп. 110, воп. 90. Першы ліст быў прыкладзены да твораў пад назвай «Казкі і легенды маёй Радзімы», што даслаў малады паэт для ацэнкі песняру хутчэй за ўсё на пачатку ліпеня 1952 г. з Оршы. Другі ліст, адасланы 30. XI. 1952 з Кіева, у ім У. Караткевіч віншаваў Якуба Коласа з 70-годдзем.

[1] У кнізе водгукаў за 1948–1955 гг. філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы «Вязынка» захоўваецца не датаваны запіс У. Караткевіча: «Адсюль ён выйшаў яшчэ чалавекам, каб першаю зоркаю ўзысці на беларускім небе». Там ёсць і яго подпіс. Гэты запіс зроблены паміж запісамі іншых наведвальнікаў, пазначаных 25.6.1952 і 1.7.1952.

### *3. Максіму Танку (с. 589)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1987, № 1.

Рукапісы — у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ф. 25, воп. 2, адз. зах. 66, с. 1–19.

[1] Маецца на ўвазе Шостая рэспубліканская нарада маладых пісьменнікаў, што адбылася ў верасні 1955 года ў Мінску.

[2] Зараз рукапісы гэтых твораў знаходзяцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, ф. 42, воп. 1, адз. зах. 129.

[3] Уладзімір Караткевіч у той час працаваў настаўнікам у вёсцы Лесавічы Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці.

[4] Нарадзіўся пісьменнік у 1930 годзе ў Оршы.

[5] У Кіеўскім універсітэце вучыўся ў 1949–1954 гг.

[6] Відаць, маецца на ўвазе ранні верш «Вощила на горе Маяк».

[7] Відаць, *Корбан* У. І. (1910–1971), беларускі пісьменнік, які ў той час працаваў на аршанскім заводзе «Чырвоны Кастрычнік». 29 ліпеня 1951 г. у аршанскай раённай газеце «Ленінскі прызыў» былі надру-

каваны вершы У. Караткевіча «Здесь будет канал», «Якубу Коласу» (адпаведна на рускай і беларускай мовах).

[8] …паслаў таварышу… — *Карпенку* С. А. (1932–1992) — у той час студэнту Беларускага політэхнічнага інстытута.

[9] *Вялюгін* Анатоль (1923–1994) — беларускі паэт, які ўзначальваў у той час аддзел паэзіі часопіса «Полымя».

[10] У 7-м нумары часопіса «Полымя» за 1955 год быў надрукаваны верш «Машэка». Гэта быў дэбют У. Караткевіча ў рэспубліканскім друку. Галоўным рэдактарам часопіса ў той час быў Максім Танк.

[11] *Вітка* Васіль (*Крысько* Цімох Васільевіч; 1911–1996) — беларускі паэт, які тады быў галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва».

[12] *Зарыцкі* Аляксей (1911–1987) — беларускі паэт.

[13] *Нягай* Рыгор (1914–1991), беларускі паэт і празаік.

[14] «Зямля дзядоў» (1950–1955) — паэма У. Караткевіча.

[15] *Жаромскі* Стэфан (1864–1925) — польскі пісьменнік.

[16] Зборнік паэзіі М. Танка на ўкраінскай мове. Кіеў, 1955.

[17] Верш «Галінка і верабей».

### *4. Маскіму Танку (с. 592)*

[1] Апавяданні і аповесць украінскага пісьменніка М. Кацюбінскага (1964–1913).

### *5. Максіму Танку (с. 593)*

[1] *Возны* — дзейная асоба п’есы «Наталка Палтаўка» ўкраінскага пісьменніка І. Катлярэўскага (1769–1838).

### *6. Максіму Танку (с. 594)*

[1] Часопіс «Полымя», 1956, № 3, дзе былі надрукаваны вершы У. Караткевіча «Орша», «Заяц варыць піва».

[2] *Ad patres* — да бацькоў, продкаў, на той свет (лац.).

[3] *Кедрын* Дзмітрый (1907–1945) — рускі паэт.

[4] *Бялецкі* А.І. (1884–1961) — рускі і ўкраінскі літаратуразнаўца, акадэмік АН УССР (з 1939), АН СССР (з 1958). У. Караткевіч быў адным з любімых яго студэнтаў.

[5] *«Беларускі зборнік» Раманава* — выданне, дзе змешчаны беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы беларускага этнографа, фалькларыста, археолага, краязнаўца, педагога Раманава Еўдакія Раманавіча (1855–1922).

[6] *Jus prima noctis* — права першай ночы (лац.).

[7] *Галчынскі* Канстанты Ільдэфонс (1905–1953) — польскі паэт.

[8] *Нагібін* Юрый (1920–1994) — рускі пісьмкеннік.

[9] *«Маці Ветру»* (1956) — празаічны твор У. Караткевіча.

[10] *Грынкевіч* Васіль Юллянавіч (1861–1945) — дзед У. Караткевіча.

[11] *Ядвігін Ш.* (сапр. Лявіцкі Антон; 1869–1922) — беларускі пісьменнік.

[12] Kovaluikova chata — відаць, маецца на ўвазе паштоўка з выявай нейкага будынка ці помніка архітэктуры ў Татрах.

### *7. Максіму Танку (с. 601).*

[1] *Пратасевіч* (Пратасевіч-Шушкоўскі) (каля 1509–1579) — дзяржаўны і рэлігійны каталіцкі дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

[2] Ульская бітва 1564, *Чашніцкая* бітва — адна з асноўных бітваў паміж войскамі Маскоўскай дзяржавы і Вялікага Княства Літоўскага ў час Лівонскай вайны 1558–1583 гадоў. Адбылася 26 студзеня на рацэ Ула каля вёскі Іванск недалёка ад г. Чашнікі (Віцебская вобласць). У ёй войска ВКЛ (8–10 тыс.) на чале з вялікім гетманам М. Радзівілам Рудым разбіла 24-тысячную армію князя П. Шуйскага.

[3] *Стафан Баторый*, Сцяпан Батура (1533–1586) — дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, трансільванскі князь (1571–1586), вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль польскі (1576–1586).

[4] *Жыгімонт III Ваза* (1566–1632) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль польскі (1587–1632).

[5] Брэсцкая унія 1596 года — акт пра арганізацыйнае аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, абвешчаны 9.10.1596 года на царкоўным саборы ў Брэсце.

[6] Відаць, Ілжэдзмітрый II (?–1610) — самазванец, які выдаваў сябе за расійскага царэвіча Дзмітрыя, сына Івана IV, што быццам бы выратаваўся пасля маскоўскага паўстання 1606 года. Стаўленік Рэчы Паспалітай.

[7] Магілёўскія паўстанні 1606–1610 гадоў — выступленні рамеснікаў і гарадской беднаты супраць магістрата пад кіраўніцтвам старасты цэха саладоўнікаў Стахора Мітковіча. Прычынай выступлення 1606 года сталі злоўжыванні ўладай і хабарніцтва магістрата, непасільныя падаткі і грашовыя паборы.

[8] *Скінія* — пераносны храм у выглядзе шатра, які, паводле біблейскага падання, быў у старажытных яўрэяў да пабудовы храма ў Іерусаліме.

[9] *Люцыян Таполя* — галоўны герой аднайменнай паэмы Максіма Танка, сярэдневяковы беларускі мастак.

[10] «Руф і Вооз» — выява Руфі і Вооза. Руф, паводле старазапаветных паданняў, маавіцянка прабабка цара Давіда (яе гісторыя выкладаецца ў «Кнізе Руфі»). Вооз — уладальнік поля, знатны віфлеемлянін, далёкі родзіч яе памерлага мужа, захоплены высакародствам Руфі, якая збірала ў полі каласы і прыносіла іх свякрові, бярэ яе ў жонкі.

[11] *Трагедыя Полацка* — захоп 15 лютага 1563 года Полацка войскамі Маскоўскай дзяржавы пад кіраўніцтвам Івана IV Грознага падчас Лівонскай вайны 1558–1583 гадоў, вайны Маскоўскай дзяржавы з Лівонскім

ордэнам, Вялікім Княствам Літоўскім, Рэччу Паспалітай (з 1569 года) і Швецыяй за Лівонію (Інфлянты).

[12] *Радзівіл* Мікалай Крыштоф (мянушка Сіротка, 1549–1616) — дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, мецэнат, пісьменнік.

[13] Відаць, маецца на ўвазе заключэнне Люблінскай уніі 1569 г., міжнародна-прававога акта аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў адну федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую (прыняты 1.7.1563 у Любліне).

[14] Гарадзельскі прывілей 1413 года — заканадаўчы акт, які юрыдычна замацаваў Гарадзельскую унію 1413 года, саюз Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай, выдадзены ад імя караля Польшчы Ягайлы і вялікага князя ВКЛ Вітаўта.

[15] *Жахлівы пажар Турава* — горад Тураў у 1649 г. за ўдзел яго насельніцтва ў антыфеадальнай вайне 1648–1651 гадоў быў захоплены і спалены войскамі пад кіраўніцтвам Януша Радзівіла (1612–1655).

[16] *Мурашка* Дзяніс (? — пасля 1671) — кіраўнік атрада беларускіх сялян у вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гадоў, наказны беларускі палкоўнік. Арганізаваны ім у 1656–1657 гадах атрад дзейнічаў у Мінскіх і Аршанскіх паветах, рабіў рэйды па шляхецкіх маёнтках. У верасні 1658 года перайшоў на бок Рэчы Паспалітай, вёў баявыя дзеянні супраць расійскіх войскаў.

[17] *Крычэўскі* Міхайла (?–1649) — казацкі военачальнік, удзельнік вызваленчай вайны ўкраінскага народа 1648–1854 гадоў, палкоўнік кіеўскі. З беларускага шляхецкага роду. У ходзе Лоеўскай бітвы 1649 года войска Крычэўскага было разбіта, а сам ён цяжка паранены. Памёр ад ран на трэці дзень пасля бітвы.

[18] *Крычаўскія мядзведжы шкуры…* — Кіраўнікоў і ўдзельнікаў Крычаўскага сялянскага паўстання 1743–1744 гадоў зашывалі ў мядзведжыя шкуры і напускалі на іх сабак, пра што пісаў У. Караткевіч у трагедыі «Маці ўрагану» (1982).

[19] *Пажар Каліноўшчыны* — паўстанне 1863–1864 гадоў у Польшчы, Беларусі і Літве, адным з кіраўнікоў якога быў Кастусь Каліноўскі (1838–1864).

[20] *Вашчыла* Васіль (1690–1744) — кіраўнік сялянскага і антыфеадальнага Крычаўскага паўстання 1743–1744 гадоў.

### *8. Максіму Танку (с. 612)*

[1] *Гарыдавец* — персанаж паэмы Максіма Танка «Янук Сяліба» (1943).

### *9. Максіму Танку (с. 614)*

[1] *Тувім* Юльян (1894–1953) — польскі паэт, перакладчык.

### *10. Максіму Танку (с. 615)*

[1] *Няма ўжо болей нашага з вамі бацькі…* — маецца на ўвазе смерць 13 жніўня 1956 года Якуба Коласа.

### *11. Янку Брылю (с. 616)*

Упершыню — у кн.: Шляхам гадоў / Укл. У. Мархель. Мн., 1990.

Рукапісы — у Янкі Брыля.

Датуецца паводле паштовага штэмпеля.

[1] На Свіцязь, у леснічоўку.

[2] Рускія пісьменнікі.

[3] *«Нива»* — Штотыднёвы ілюстраваны часопіс, які выходзіў у Пецярбургу ў 1870–1918 гг.

[4] Аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» і «Цыганскі кароль».

[5] *Плутарх* (каля 45 — каля 127 г. н. э.) — старажытнагрэцкі гісторык, філосаф і пісьменнік. Больш вядомы як гісторык. У галоўным сваім творы «Параўнальныя жыццеапісанні» змясціў 50 біяграфій выдатных дзеячаў Старажытнай Грэцыі.

[6] Факт, які быў пакладзены ў аснову фабулы аповесці «Цыганскі кароль».

### *12. Янку Брылю (с. 618)*

[1] У вёсцы Лесавічы Тарашчанскага раёна Кіеўскай вобласці (1954–1956).

### *13. Янку Брылю (с. 621)*

[1] У дзядзькі Грынкевіча Ігара Васільевіча.

[2] Вялюгіну.

### *14. Ераніму Стулпану (с. 623)*

Упершыню — у кн.: Шляхам гадоў / Укл. Г. Кісялёў. Мн., 1990.

Рукапіс — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 276.

[1] *Стулпан* Еранім (1931–1981) — латышскі паэт. З ім У. Караткевіч вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Прататып Яніса Вайвадса ў рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вярнуцца да Зямлі»).

[2] «Каласы пад сярпом тваім».

[3] «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»).

### *15. Ларысе і Янку Генюшам (с. 625)*

Упершыню — час. «Дзеяслоў», 2004, №1 3.

Рукапісы — у аддз. рэдк. кн. і рукап. ЦНБ НАН Беларусі, ф. 31, воп. 1, адз. зах. 405.

[1] *Генюш* Ларыса (1910–1983) — беларуская паэтка, празаік. *Генюш* Янка (1902–1979) — муж Л. Генюш, медык па адукацыі, вы-

